*Я вярнуся*
*Ты вернешся*
*Ён вернецца*
*Мы вернемся*

Марфалогія беларускай мовы.
Спражэнне зваротных дзеясловаў
закончанага трывання ў будучым часе
дзейнага стану абвеснага ладу.

УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
Л00

*Аляксандар Лукашук*
**Вяртанне нацыяналіста**
Дакументальныя творы

Друкуецца паводле:
**Здзек.** *Бібліятэка часопіса "Маладосць". 1989*
**За кіпучай чэкісцкай работай.** *Наша Ніва. 1997*
**Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста.** *Наша Ніва. 1997*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.** *Бібліятэка Свабоды. 2005*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.** *Бібліятэка Свабоды. 2011*

**Лукашук, А.**
Л00 Вяртанне нацыяналіста : дакументальныя творы. — Мінск : «Кнігазбор», 2013. — 774 с. іл.
ISBN 978-

Кнігу складаюць дакументальныя доследы савецкага перыяду беларускай гісторыі, якія публікаваліся ў 1989–2011 гг. Тэксты папраўленыя і дапоўненыя.

У кнізе выкарыстаныя фота з архіву

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-**

*Мы слаўна гулялі*
*На вашым вяселлі.*
*Было ж нам даволі*
*Ўсяго, што хацелі!*

З песні «Бывайце здаровы»,
якая ўпершыню прагучала
ў чэрвені 1937-га на канцэрце
для дэлегатаў XVI з’езда КП(б)Б

# Кроў і праклён
Прадмова

Цяпер нярэдка можна пачуць і нават прачытаць у друку: «Усё пра Сталіна ды рэпрэсіі, надакучыла, колькі можна!» Сапраўды, пішуць пра тое шмат, можа, нават трохі густавата і часта для якіх пары гадоў. Але ж таму ёсць тлумачэнне: дзясяткі гадоў не пісалі, не гаварылі, баяліся нават успомніць, каму было што ўспомніць. Тэрор буяў па краіне, атруціўшы душы страхам: сябра баяўся сябра, муж не давяраў жонцы, сын даносіў на бацьку. І ўсё гэта было ў перыяд «разгорнутага будаўніцтва сацыялізму».

Каб перамагчы загану, трэба яе ведаць, каб здабыць урокі з гісторыі, трэба ведаць гэтую гісторыю. Але ці была ў нас гістарыяграфія? Гісторыя-навука — гэта праўда, а не афіцыйная хлусня, падпісаная нават тытулаванымі імёнамі. Добра, што хоць і са спазненнем амаль на семдзесят год мы зразумелі гэта і хочам даўмецца праўды. Светлая душа заўжды прагне праўды, якой бы тая ні была, а маладыя людзі, як водзіцца, ад нараджэння маюць светлую, яшчэ не замутнёную душу, таму ім праўда даражэй за ўсё.

У гэтай невялічкай кніжцы — самая балючая, але і самая святая праўда, здабытая яе аўтарам па кроплі, па слову, па зжоўклым лістку архіўнага дакумента. Гэтая праўда крычыць і рыдае пякучымі слязьмі: па горы абрабаваных, знявечаных сялян, іхніх згаладнелых дзяцей, па крушэнню спрадвечных спадзяванняў першых кіраўнікоў рэспублікі аб лепшай долі для свайго народа, па зняважанай чалавечай годнасці ў барацьбе за фальшывую ідэю, а па сутнасці за ўратаванне ўласнага жыцця, барацьбе, якая ахапіла верхнія эшалоны ўлады на канцы трыццатых гадоў, ды не ўратавала нікога. І абвінаваўцы і абвінавачаныя, і каты і ахвяры — усе скончылі аднолькава. Хіба што некаторыя перад тварам смерці забыліся на сваё чалавечае паходжанне і паводзілі сябе... не надта каб добра. Але хто сёння возьме на сябе маральнае права кінуць у іх каменем, сам не апынуўшыся ў іхнім становішчы?

Аўтар склаў кніжку са сваіх новых і ранейшых газетных, журналісцкіх артыкулаў і нарысаў. Але гэта не звычайная журналістыка. Гэта — летапіс народнай трагедыі. І гэта — аўтарскі подзвіг у многіх адносінах.

Толькі чалавек светлай душы здолеў падняць усё гэта з забыцця і аддаць на суд людзям.

Будзем жа ўдзячныя яму.

*Васіль Быкаў*

# «Вужакай чорнай вы паўзлі ў Булонскі лес»

*— Першае, што мы прывезлі паказаць, дарагі наш настаўнік, — гэта нашу вінтоўку «Снайпер»... Бурныя апладысменты, крыкі «ўра!». Таварыш Сталін узяў вінтоўку на прыцэл. Авацыя.*

Са стэнаграмы XVII з'езда ВКП(б)

*№ 257 — Галадзед М.Ф.*
*№ 1063 — Убарэвіч Е.П.*
*№ 1138 — Чарвякоў А.Р.*
*№ 1164 — Шаранговіч В.Ф. ...*

Са спісу дэлегатаў XVII з'езда ВКП(б)

4 сакавіка 1938 года Васілю Фамічу Шаранговічу споўніўся 41 год, а што за дзень нараджэнья без таварышаў, а таварышы без жартаў.

**— Падсудны Шаранговіч, вы пацвярджаеце вашы паказанні, дадзеныя на папярэднім следстве?**
**— Поўнасцю пацвярджаю. Дазвольце мне ўсё расказаць паслядоўна. Здраднікам радзімы я стаў у жніўні 1921 года і быў ім да арышту...**

Гэта быў не жарт, хоць яшчэ нядаўна ўсе навокал былі таварышы.

З такога дыялога 4 сакавіка 1938 года ў Маскве пачалося ранішняе пасяджэнне на адкрытым судовым працэсе «антысавецкага праватрацкісцкага блока». На адгароджаных месцах Кастрычніцкай залы Дома Саюзаў пад аховай канвою НКВД у ліку 21 падсуднага знаходзіўся і Шаранговіч. Года яшчэ не мінула з таго часу, калі ў такія ж сакавіцкія дні ён прымаў віншаванні таварышаў па партыі з абраннем яго першым сакратаром ЦК КП(б) Б.*

---

* Не мінула і чвэрці стагоддзя пасля першай публікацыі, а ўжо трэба расшыфроўваць абрэвіятуры, якія прэтэндавалі на вечнасць. У словазлучэнні «Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі» цікавым застаецца адзінае слова, якое пісалася з малой літары і ў дужках і сваёй наяўнасцю стварала ўражанне, што ёсць яшчэ адна КПБ, толькі меншавікоў ці сераднякоў, ці яшчэ якіх замаскаваных ворагаў. Адзін з найжахлівейшых лексічных наватвораў ХХ стагоддзя, «бальшавік», мае прыстойнае дэмакратычнае паходжанне — нарадзіўся ў 1903 годзе, пасля звычайнага галасавання на з'ездзе сацыял-дэмакратаў і, узяты на выхаванне Леніным і кампаніяй, якія атрымалі тады большасць, дажыў да 1917 і тады прыляпіўся спачатку да скароту РСДРП (б), затым ВКП (б).

...З прэзідыума зала відаць як на далоні, і Шаранговіч мог добра разгледзець усіх удзельнікаў пленума ЦК, які адбываўся ў Менску ў сакавіку 1937. Многіх ён ведаў па ранейшай сумеснай рабоце — старшыню цэнтральнага выканкама Аляксандра Чарвякова, кіраўніка ўрада Мікалая Галадзеда, камандуючага вайсковай акругай Ераніма Убарэвіча, але большасць твараў бачыў упершыню. І прычына была не толькі ў натуральным абнаўленні выбарнага органа. Прайшла чыстка партыйнага і дзяржаўнага апарату, шмат каму прыйшлося аддаць партбілеты. Прыбавілася работы органам НКВД — вельмі многія з выключаных аказаліся шкоднікамі.

А **«цяперашнія шкоднікі і дыверсанты, якім бы сцягам яны ні маскіраваліся, ператварыліся ў беспрынцыповую і безыдэйную банду прафесіянальных шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў, забойцаў. Зразумела, што гэтых паноў прыйдзецца граміць і карчаваць бязлітасна як ворагаў рабочага класа, як ворагаў нашай радзімы».**

Так два тыдні таму, на пленуме ЦК у Маскве ставіў задачу таварыш Сталін — а задачы, якія ён ставіць, абавязкова выконваюцца.

Толькі паўгода таму, у жніўні 1936 года, прагрымеў на ўвесь свет адкрыты працэс па справе «трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра»: Зіноўеў, Каменеў, Мрачкоўскі, Смірноў — усяго 16 чалавек, якія арганізавалі забойства Кірава, рыхтавалі замах на Сталіна, займаліся шпіянажам і дыверсіямі. І вось зноў, не паспела сціхнуць рэха тых расстрэлаў, як 24 студзеня пачаўся новы адкрыты працэс — па справе Пятакова, Радэка, іншых ворагаў.

***Вужакай чорнай вы паўзлі ў Булонскі лес.***
***Тапор вам Троцкі даў, што Троцкаму даў бес.****

---

Слова ўвайшло ва ўсе мовы свету без перакладу і азначала спачатку, што трэба біць тых, каго менш, затым сваіх, каб чужыя баяліся, а потым — што проста трэба біць, і тады будуць баяцца ўсе. Чалавецтву яно каштавала больш за сто мільёнаў ахвяраў.

* У канцы 1980-х, калі пісаўся гэты дослед, мне не патрапілася пабачыць іншыя публікацыі, больш прадстаўнічыя. Янка Купала пісаў:

«Гісторыя чалавецтва ведае нямала ворагаў народа, але няма роўнага таму здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў — Пятакова, Радэка і іншых на чале з обер-шпіёнам Троцкім.

Нашу цудоўную Савецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх вякоў рабства і нацыянальнага прыгнёту, трацкісцкія тыраны хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызму. Яны хацелі разграміць нашы фабрыкі і квітнеючыя калгасы, якія зажылі светлым радасным жыццём. Няхай гэтыя здраднікі будуць пракляты навекі! Іх трэба раздушыць!»



Пленум выбраў бюро ЦК КП(б)Б у складзе 11 членаў і 7 кандыдатаў,
1. зацвердзіў загадчыкаў аддзеламі ЦК КП(б)Б і адказнага рэдактара „Звязды“

Сакратары ЦК КП(б)Б, абраныя XVI з'ездам КП(б)Б: (злева направа) — першы сакратар тав. В. Ф. ШАРАНГОВІЧ, другі сакратар тав. Н. М. ДЗЕНІСКЕВІЧ і трэці сакратар тав. В. Д. ПАТАПЕЙКА.

ЧЛЕНЫ ЦК КП(б)Б,
АБРАНЫЯ НА XVI З'ЕЗДЗЕ КП(б)Б

ПЕРАЛЁТ МАСКВА—ПАУНОЧНЫ ПОЛЮС—
ПАУНОЧНАЯ АМЕРЫКА ЗАВЕРШАН

Так пісаў паэт Андрэй Александровіч у «Звяздзе» 29 студзеня. У Мінску гэта надрукавалі газеты «Рабочий» і «ЛіМ», у Маскве «Литературная газета». Выказаўся і другі народны паэт, Якуб Колас:

> **Страціўшыя сумленне вераломнікі, худасочныя паразіты, яны абралі сабе куміра ў асобе ўпаўшага ў фашысцкую клааку Льва Троцкага.**

У вельмі складаны і адказны момант ён, Шаранговіч, вярнуўся ў Мінск. Барацьба абвастраецца. Толькі што выключаны з партыі Бухарын і Рыкаў. Асабіста знаёмы з імі ён не быў, але абодвух не раз мог бачыць і слухаць на з'ездах і партканферэнцыях.

Менскі пленум аднадушна ўхваліў гэта рашэнне сталінскага ЦК. Яшчэ на парадку дня — выбары. На пасаду першага сакратара рэкамендавана яго кандыдатура. Толькі 18 год кампартыі рэспублікі, а ўжо дзесяць першых сакратароў ЦК памяняліся, некаторыя і года не працавалі. Праўда, пяць гадоў запар быў першым Мікалай Фёдаравіч Гікала, яго папярэднік і, у пэўным сэнсе, настаўнік — чатыры гады Шаранговіч працаваў разам з ім на пасадзе другога сакратара да свайго прызначэння ўпаўнаважаным камісіі партканторолю ЦК у Харкаў. Цяпер ён вярнуўся

ў Мінск, а Гікала паехаў у Харкаў, першым сакратаром гаркама. Хацелася б, як папярэдніку, папрацаваць у Менску пабольш. Выпадала Шаранговічу працаваць і ў Сібіры, і ў Казахстане (там і жонку знайшоў), ды цягнула на радзіму, дахаты.

Яго родная вёска Качаны заставалася на тым баку граніцы, пад Польшчай. Восенню 1919 года ён атрымаў заданне перайсці лінію фронту і на акупаванай тэрыторыі Беларусі пачаць арганізацыю партызанскай барацьбы супраць белапольскіх інтэрвентаў. Пад прозвішчам Лютовіч ён праводзіў сходы, кіраваў партызанскімі аперацыямі, узнімаў людзей на барацьбу. Белапалякі кінулі супраць мсціўцаў кадравыя часці. Група байцоў, у тым ліку і Шаранговіч, былі схопленыя. Прысудзілі да расстрэлу, але потым замянілі 20 гадамі зняволення.

У 1921 годзе, праз 18 месяцаў пасля арышту, ён быў абменены Савецкім урадам і вярнуўся ў Беларусь. Яму ўручылі вышэйшую ўзнагароду рэспублікі — ордэн Чырвонага Сцяга і ганаровую зброю...

Хто мог падумаць, што прыйдзе час, калі гэта старонка біяграфіі Шаранговіча палярна пераменіць свой сэнс і ляжа ў аснову другога ў яго жыцці прысуду да расстрэлу?

**Са стэнаграмы**
**працэсу «антысавецкага праватрацкісцкага блока»**

**Вышынскі. Падсудны Бухарын, вы прызнаяце сябе вінаватым у шпіянажы?**
**Бухарын. Я не прызнаю.**
**Вышынскі. У вас мелася група вашых саўдзельнікаў, змоўшчыкаў з Беларусі, узначальваемая Галадзедам, Чарвяковым, Шаранговічам. Правільна, Шаранговіч?**
**Шаранговіч. Правільна.**
**Вышынскі. І па дырэктыве Бухарына і Рыкава, пад іх кіраўніцтвам вы звязаліся з польскай разведкай і польскім генштабам? Правільна, Шаранговіч?**
**Шаранговіч. Зусім правільна.**
**Вышынскі. Значыць, хто быў арганізатарам шпіянажу, якім вы займаліся?**
**Шаранговіч. Рыкаў, Бухарын.**
**Вышынскі. Значыць, яны былі шпіёнамі, таксама як...**
**Шаранговіч. Як і я сам.**

Але да гэтага дыялога заставаўся яшчэ год.

17 сакавіка 1937 года Васіль Фаміч Шаранговіч быў уведзены ў члены бюро і абраны першым сакратаром ЦК КП(б)Б.

У гэты ж дзень новым наркамам унутраных спраў рэспублікі быў зацверджаны камісар юстыцыі III рангу Барыс Давыдавіч Берман.

## «Лепшы сталінец Старобінскага раёна»

*Я на трактары працую,*
*Трактар весела гудзіць.*
*Дзякуй, дзякуй табе, Сталін,*
*Што нам добра стала жыць!*
З газет 1937 г.

18 сакавіка 1937 года, у першы рабочы дзень Шаранговіча ў ЦК, намеснік упаўнаважанага камісіі савецкага кантролю пры СНК СССР па Беларусі Ю. Мышкін адрасаваў яму матэрыялы праверкі аднаго з раёнаў Слуцкай акругі — Старобінскага. Праверку ў сувязі з рашэннем ЦК ВКП(б) па Лепельскай справе праводзілі ва ўсіх пагранічных акругах рэспублікі. Пастанова ЦК ВКП(б) ад 8.02.37 г. асуджала «практыку выканання дзяржпаставак, якія забяспечваліся ў раёне гвалтоўнымі метадамі».*

«Аб скажэннях дырэктыў партыі і ўрада і парушэннях рэвалюцыйнай законнасці» — пад такім агульным загалоўкам на 13 старонках шчыльнага машынапісу выкладаліся факты, якія характарызавалі работу партыйных і савецкіх органаў, калгасаў Старобіншчыны.

Першы з дзевяці раздзелаў даведкі называўся проста і ясна: «Аб незаконнай канфіскацыі маёмасці ў сялян». Толькі па скаргах аднаасобнікаў правяраючыя налічылі ў раёне 117 яе выпадкаў, некаторыя трапілі ў даведку.

...Старшыня, ён жа парторг, Даманавіцкага сельсавета Чарняк у справе канфіскацыі аддаваў перавагу хуткасці. Аштрафаваў райупаўнаважаны камітэта па нарыхтоўках Мацвея Хаміцэвіча на 250 рублёў за

* Падобнымі фантасмагорыямі крытыкі і самакрытыкі перапоўненая ўся гісторыя савецкай кампартыі, якая на дзіва няблага паддаецца апісанню ў тэрміналогіі садамазахізма і іншых групавых паталогіяў.

несвоечасовую здачу 20 кілаграмаў ільну. І не паспеў яшчэ паведаміць гаспадару, як тут жа Чарняк канфіскуе карову, цяля, дзве авечкі, здае іх на базу і чвэрць выручанай сумы кладзе ў кішэню. Спатрэбіўся старшыні сельсавета кажух — канфіскуе яго ў Пятра Хаміцэвіча, а заадно прыхоплівае адрэз сукна, тачылы.

Старшыня Зажэвіцкага сельсавета Свістуноў, наадварот, не цураўся звяртацца да народа з просьбамі. Аднаасобніка Мікіту Рабава папрасіў падвезці да сельсавета — і толькі калі прыехалі, адабраў упадабанага каня са збруяй і санямі, растлумачыўшы аслупянеламу гаспадару, што гэта — за няўплату культзбору. Але і лібералам Свістунова не назавеш. Калі ў аднаасобніцы Марыі Лохай на ўплату падаткаў разабралі ўсе гаспадарчыя пабудовы, старшыня загадаў разламаць яшчэ і плот вакол хаты — на дровы. Наогул, Свістуноў лічыў, што лепш перагнуць, чым недагнуць. Не хапіла 20 рублёў, каб заплаціць усю суму падатку аднаасобніку Канстанціну Казлоўскаму — старшыня адразу апісаў у яго маёмасці аж на 400 рублёў, прычым два хлявы прадаў калгасу, а швейная машынка дасталася рахункаводу сельсавета Бялько.

Строга адстойваў інтарэсы дзяржавы і старшыня Чыжэвіцкага сельсавета Бабаеў. Знайшоў 1 рубель 48 капеек нядоімкі за Макарам Герасіменем — і забраў дзвюх свіней, прадаўшы іх потым за 70 рублёў. Не крыўдзіў Бабаеў свой актыў, выпісваў удзельнікам канфіскацыі па 10–30 рублёў прэміі, дзяліўся нарабаваным. Не здала аднаасобніца Хрысціна Шарамет 9 кілаграмаў ільновалакна — старшыня сельсавета асабіста абʼявіў ёй штраф 200 рублёў, не сыходзячы з месца, сякерай зламаў куфар і выцягнуў адтуль 300 метраў танкатканага льнянога палатна. Загаласіла жанчына, кінулася цалаваць рукі Бабаеву, маліла пакінуць пасаг, які зберагала для дачок, — застаўся няўмольны старшыня сельсавета. А палатном потым падзяліўся са старшынёй калгаса «Свабода» Доліным і сваім прыяцелем-сабутэльнікам, як удакладнялася ў даведцы.

12 лютага 1937 года на пленуме Старобінскага РВК, прысвечаным абмеркаванню праекта Канстытуцыі БССР, выступаючы перад радыёмікрафонам, сакратар райкама камсамола Гарохаў заявіў:

**«Правільна сказаў таварыш Галадзед аб тым, што аднаасобнік зʼяўляецца ворагам працоўнага народа».**

І хоць камсамольскі сакратар крыху недакладна перадаў сапраўдныя словы старшыні СНК БССР, але сэнс і сапраўдную сітуацыю перадаў праўдзіва.



Праўда, і калгаснікам, калі меркаваць па раздзелу «Аб парушэннях сталінскага калгаснага статута» ў даведцы, якую атрымаў Шаранговіч ад Камісіі савецкага кантролю, жылося ў 1936 годзе нікольки не лягчэй за аднаасобнікаў. Паведамлялася, напрыклад, што ў калгасе «Чырвоная кветка» са 137 яго членаў старшыня Сівец аштрафаваў 128 — усіх радавых, здымаючы працадні дзясяткамі і сотнямі. А каб весялей ішлі на калектыўную працу, разам з кулакамі пускаў у ход стрэльбу. Адмовілася познім лістападаўскім вечарам ісці на льноапрацоўку хворая ўдава Феня Каваленя, старшыня разбіў ствалом акно, наставіў на жанчыну дула і паабяцаў: «Не выйдзеш на работу — застрэлю». Пайшла, але праз дзве гадзіны вярнулася ледзь жывая ад хваробы. Спадабалася Сіўцу хата Хрысціны Кавалені — збіўшы прыкладам, выгнаў жанчыну на вуліцу, а сам застаўся жыць у доме.

Не толькі дамы, але і людзей лічыў уласнай маёмасцю старшыня калгаса «Зара Палесся» Рэзнік, збіваючы адну за адной калгасніц, якія спрабавалі адмовіць яму ў задавальненні палавых патрэб.

Фізічны гвалт так буяў у раёне, што акрамя шматлікіх прыкладаў ва ўсіх раздзелах даведкі яе складальнікі вымушаны былі зрабіць яшчэ і асобны раздзел «Аб збіванні калгаснікаў і аднаасобнікаў службовымі

асобамі сельсаветаў і калгасаў». Эпіграфам да яго, як, зрэшты, і да папярэдніх, прасілася чатырохрадкоўе са змешчанай у «Звяздзе» падборкі ўзораў «народнай» творчасці:

***А ў лузе пад гарою***
***Рэчка хутка коціцца.***
***Аб жанчыне ў СССР***
***Сталін шмат клапоціцца!***

Форма і змест клопату, як сведчаць дакументы, не вызначаліся разнастайнасцю:

**Сакратар Чырвонаазерскага сельсавета Мацукевіч і яго член Бердніковіч збілі калгасніцу Казлякевіч Сцепаніду і яе 12-гадовую дачку пры незаконнай канфіскацыі каровы для пагашэння нядоімкі яе брата-аднаасобніка...**
**Старшыня калгаса «Вызваленне Беларусі» Дубіцкі збіў калгасніцу Ляўшэвіч Аляксандру і яе бацьку, якія адмаўляліся аддаць незаконна канфіскаваны лён...**
**Старшыня Чырванадворскага сельсавета Арэшка збіў аднаасобніцу Петуховіч Хрысціну...**
**Старшыня калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Дзерыкаў збіў калгасніц Лапкоўскую Ліду і Загароўскую Матрону...**
**Старшыня калгаса «Перадавік» Бялько, член сельсавета і РВК, на працягу 1935–1937 гадоў сістэматычна збіваў калгаснікаў і аднаасобнікаў...**

«Звязда» друкавала рыфмаванае цалаванне ног «бацькі ўсіх народаў» са шматзначнай паметкай «запісана ў розных раёнах БССР». Такую паметку можна ставіць пад усімі дакументамі камісіі савецкага кантролю.

Член ЦК КП(б)Б Д. Конік у пачатку сакавіка 1937 года адрасаваў А. Чарвякову матэрыялы такой самай праверкі, якую ён праводзіў у Тураўскім пагранічным раёне. На Тураўшчыне не засталося ніводнага сельсавета, дзе б не канфіскавалі маёмасць аднаасобнікаў. У Азеранскім, напрыклад, 47 гаспадаркам сельсавет завысіў падаткаабкладанне на 5720 рублёў, — а потым распачаў спагнанне нядоімкі. Забіралі ўсё, нават дробязі, часам апошнія. Спіс канфіскаванага ў Азеранскім сельсавеце налічваў 52 пазіцыі на суму 11 тысяч 538 рублёў.

Асабліва правяраючы адзначаў канфіскацыю маёмасці ў жыхара вёскі Пагост Васіля Голада, у якога за няўплату культзбору апісалі андарак, абрус, хустку, спадніцу, дзяругу, ручнік, кашулю. Усё гэта прынесла ў пасаг жонка. Канфіскацыя адбылася на трэці дзень пасля вяселля. Жыхарка Азеран Марта Меляшчэня не здала своечасова 300 кілаграмаў бульбы. І сельсаветчыкі не толькі забралі нядоімку, але і падушкі, прасціну, дзяругу і два клубкі нітак. Гаспадыня паспрабавала абараніць свае рэчы, тады яе збілі і знялі з яе апошні фартух.

Бывалі ў вёсках работнікі НКВД, райвыканкама — каб набыць канфіскаваную маёмасць. Улад баяліся як агню ці, дакладней, як афіцыйных папер: у час абавязковай пашпартызацыі, якая праводзілася ў пагранзоне, людзі сотнямі адмаўляліся атрымліваць пашпарты, хоць іх штрафавалі, судзілі, пазбаўлялі волі. У вёсцы Пагост міліцыя разабрала хлеў у бяспашпартнай удавы, маці чатырох дзяцей, і забрала ўсё, што там было: салому, чатыры вазы дроў, пакінуўшы ўдаву без паліва. Калі адна з сялянак вёскі Сляпцы паспрабавала адсудзіць канфіскаваную карову, суддзя запатрабаваў заплаціць 160 рублёў судовых выдаткаў і вярнуў заяву назад.

Беспакарана ўладарылі ўсе, хто меў дачыненне да нейкай кіруючай пасады. На складах ільну заніжалі вагу і якасць прымаемай сыравіны, а потым здавалі па вышэйшай катэгорыі. У 1936 годзе ў Тураўскім раёне нарыхтавалі 60 029 кілаграмаў ільну, а здалі дзяржаве 61 546 кілаграмаў. Лішак выручкі — 5507 рублёў — падзялілі. Падобная карціна назіралася і ў Старобінскім раёне.

Што было рабіць такім, як аднаасобнік Антон Лойка, у якога пасля няўплаты непамернага падатку па загаду старшыні Чыжэвіцкага сельсавета Бабаева разабралі частку хаты і прадалі калгасу — зімой, не зважаючы на шасцёра малых дзяцей?

У пятлю лезці, як жыхару тых жа Чыжэвічаў Максіму Алешку, які пакінуў жонку з двума малымі дзецьмі і нататкУ «загінуў цераз сельсавет»?

Скінуцца з трыганаметрычнага маяка, як разбіўся насмерць пасля цкавання старшыні калгаса «Перадавік» Сіўца калгаснік Андросенка?

Яшчэ ў 1936 годзе на Старобіншчыне ў калгасе «Чырвоны пагранічнік» пакончыў з сабой камсамолец Леўчык, у Міцееўскім сельсавеце павесіўся калгаснік Мітрафан Алешка, у Зажэвіцкім — аднаасобнік Сеўрук, у Капацэвіцкім — 15-гадовая школьніца...

Тым, хто не рашаўся накласці на сябе рукі, заставалася спрадвечнае, быццам народны праклён, выйсце: шукаць праўды ў сталіцы, пісаць Сталіну. І пісалі — хто што…

***Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!***
***Раскажам табе мы праўдзіва быліны***
***Аб тым, як жылі мы і сталі мы чым.***
***Як мы разагнулі прыгнутыя спіны,***
***Сагрэтыя чулым прыглядам тваім.***

Пад велізарным, на ўсю газетную старонку, вершаваным «Пісьмом Беларускага народа вялікаму Сталіну»* ў 1936 годзе сабралі, як паведамлялася, 2 мільёны подпісаў. Але ніхто не ведае, колькі подпісаў паставіў сам беларускі народ у пісьмах да Сталіна, Калініна, Молатава, немым крыкам просячы паратунку і збавення. У 1936 годзе толькі ў прыёмную ЦВК БССР прыйшло 12 тысяч 667 хадакоў з усіх куткоў рэспублікі; яшчэ 20 тысяч 477 крыкаў аб дапамозе прынесла пошта, з іх 1236 пераслана са сталінскага сакратарыята, СНК і ЦВК СССР, газет «Правда», «Известия». Дзясяткі пісьмаў ляжалі незарэгістраваныя, непрачытаныя часам па паўгода. Нават пошта сакратарыята Сталіна нярэдка месяцамі чакала разгляду, патанала ў моры слёз і крыўды.

І Шаранговіч, і Чарвякоў, і Галадзед, іншыя кіраўнікі шмат ездзілі па рэспубліцы. Але ці магчыма выслухаць усіх?** Ці маглі людзі гаварыць з імі адкрыта?

Пасля паездкі ў Мазыр у красавіку 1937 года Чарвякоў паведамляў Шаранговічу:

**Старшыня калгаса імя Варашылава Івашкевіч 6 снежня 1936 года ў час хрысцін загадаў калгасніцам запрэгчыся ў калёсы, сам сеў з бабкай, і калгасніцы везлі яго на хутар за два кіламетры...**

Але пра гэты факт Чарвякоў дазнаўся не ў час знаёмства з Лельчыцкім раёнам, а ў кабінеце, на пасяджэнні бюро акружкама…

---

* «Пісьмо» ў «вершах пераказалі» Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Ізя Харык.

** Захаваліся ўспаміны жонкі памочніка Шаранговіча В. Лабадаевай аб адной сумеснай паездцы, у час якой яны заначавала ў вёсцы: «На світанку я пачула пад акном тупат мноства ног. Мне стала жудасна, і я разбудзіла мужа. Ён засмяяўся і кажа: "Гэта збіраюцца сяляне. Яны прыходзяць за дзясяткі кіламетраў, калі ведаюць, дзе начуе Васіль Фаміч". Раніцай адбыўся сапраўдны мітынг...»

Каб уручыць заяву непасрэдна Чарвякову, даводзілася рызыкаваць жыццём. Схаваўшыся ў прыдарожным хмызняку, чалавек выскокваў і клаўся пасярэдзіне дарогі, пад колы аўтамабіля, з пісьмом у руках — няпроста было іначай прабіцца да ўсебеларускага старасты, якога, быццам адчуўшы хуткі канец і бяссілле, пачало ўважліва пільнаваць мясцовае начальства.

І не толькі яго. У 1936 годзе старшыня СНК Галадзед бываў у Старобінскім раёне, сустракаўся з калгаснікамі арцелі «Прамень камуны». Перад сходам сакратар райкама Баярчанка проста забараніў некаторым прамоўцам выступаць у спрэчках. І 13 лютага 1937 года, выступаючы з дакладам аб праекце Канстытуцыі БССР, Галадзед у якасці ілюстрацыі вяршынства законнасці — рэалізацыі канстытуцыйнага права на адукацыю — прывёў прыклад са Старобіншчыны:

**Невыпадкова, што вёска Крывічы Старобінскага раёна налічвае сярод сваіх сялян сотні людзей з вышэйшай адукацыяй. З гэтай вёскі ўжо выйшла 15 інжынераў, 13 аграномаў, 5 урачоў, 114 настаўнікаў, 18 камандзіраў. З гэтай вёскі цяпер навучаецца толькі ў ВНУ 27 чалавек, а такіх вёсак у БССР шмат.**

Шмат было на Беларусі зусім іншых вёсак і мястэчкаў. З іх толькі за першыя 37 дзён 1937 года ў Мінск у Камісію прыватных амністый звярнуўся 3501 чалавек. Іх жыхары паслалі ў ЦВК БССР толькі ў студзені 1937 года каля 2000 заяў, у лютым — паўтары тысячы, у сакавіку — 2168, у красавіку — 3397, у маі — 3023... Супрацоўнікі ЦВК БССР фізічна не маглі разгледзець больш чым 1–2 скаргі з кожнай сотні. Астатнія перапраўляліся назад — тым, на каго скардзіліся.

А там... Старшыня Старобінскага райвыканкама Краўцоў скаргамі не займаўся, лічыў, што гэта абавязак загадчыкаў аддзелаў. Тыя аўтаматычна пацвярджалі правільнасць пабораў і канфіскацый і слалі адмовы ў пераглядзе спраў нават без указання прозвішча скаржніка. Часам, праўда, апускаліся да рэзалюцый:

**Растлумачыць, што штраф накладзены райупаўзагам, рашэнне якога з'яўляецца канчатковым і не падлягае абскарджанню.**

Пракуратура не рэгістравала заявы аб самаўпраўстве старшыняў калгасаў і сельсаветаў, пабоях і паборах. Райпракурор Гіскін, як высветлілася падчас праверкі, сам удзельнічаў у канфіскацыях, мог падкінуць

кампраметуючы доказ у хату неўпадабанаму вяскоўцу, каб потым адправіць яго ў турму, браў хабар.

На павальныя п'янкі (наўрад ці старобінскае начальства адставала ад суседзяў у Любанскім раёне, дзе за адзін 1936 год прапілі, як значылася ў адной партыйнай пастанове, 70 тысяч рублёў) патрабаваліся сродкі, якія і пастаўлялі сельсаветы. Да ўласных грошай партыйна-савецкае кіраўніцтва ў Старобіне ставілася надзвычай ашчадна: за 1936 і пачатак 1937 года запазычанасць кіраўнікоў па камунальных плацяжах перавысіла 20 тысяч рублёў. Кіруючую масу вялі за сабой, як і належыць, сакратар райкама Баярчанка — 717 рублёў і старшыня райвыканкама Краўцоў — 813 рублёў доўгу.

І на раённым партсходзе ў студзені 1937 года прамоўцы няўтрымна хвалілі работу райкама.

**Толькі дзякуючы таварышам Сталіну і Баярчанку мы дабіліся велізарнейшых поспехаў у раёне, — заяўляў інструктар райкама Ліберман. — Няхай жыве наш кіраўнік лепшы сталінец таварыш Баярчанка, які вядзе нас ад перамогі да перамогі!**

Шаранговіч наклаў на даведку рэзалюцыю «Мець на ўвазе пры пастаноўцы пытання аб Старобіне на Бюро ЦК».

Інструктар Ліберман меў рацыю, гаворачы аб поспехах і перамогах «лепшага сталінца Старобінскага раёна». Тым больш, што ім з'яўляўся зусім не Баярчанка…

## «Ох, і сеяла Ульяніца лянок»

*Пры канфіскацыі работнікі сельсавета штурхалі і збівалі грамадзян. Работнік райспажыўсаюза Гаўлін ударыў у жывот цяжарную жанчыну Пятрусю Ульяну.*

З матэрыялаў праверкі Кіраўскага раёна, 1937 г.

17 сакавіка ў Мінскім батанічным садзе пачалі распускацца пупышкі на вербах, у горадзе заўважаны першыя пасланцы вясны — гаваркія шпакі, паведамляла газета «Рабочий». Чытачы таксама маглі даведацца, што ўзмацнілі трэніроўкі паветраных сувязістаў галубіныя станцыі ў Мінскім, Рагачоўскім, Бабруйскім і іншых раёнах рэспублікі — галубы

павінны былі дастаўляць з палёў тэрміновыя данясенні аб ходзе пасяўных работ.

Але не толькі феналагічныя назіранні вызначылі парадак дня чарговага Бюро ЦК КП(б)Б. Тэлеграма ад Молатава і Сталіна (подпіс сакратара ЦК ВКП(б) сціпла стаяў на другім месцы) ацэньвала падрыхтоўку да веснавой сяўбы на Беларусі як цалкам нездавальняючую і папярэджвала аб недапушчэнні памылак поўдня. Бюро абмеркавала і зацвердзіла тэкст адпаведных тэлеграм ад імя ЦК і Саўнаркама рэспублікі ў райкамы і райвыканкамы. Вырашылі паслаць для правядзення куставых нарад групы кіруючых работнікаў: Шаранговіча — у Віцебскі раён, Галадзеда — у Бабруйскі і Кіраўскі, Чарвякова — у Мазырскую акругу. Камандзіраваным даручалася таксама дапамагаць райкамам у правядзенні выбараў парторганаў.

Наступным пунктам на парадку дня стаяла размеркаванне льнонасеннай пазыкі. 16 лютага ЦК ВКП(б) і СНК СССР пастанавілі адпусціць Беларусі 3500 тон ільнонасення. У спецыяльнай тэлеграме Молатаў і Сталін тлумачылі ўмовы пазыкі: яе трэба было вярнуць з ураджаю 1937 года натурай з 10-працэнтнай надбаўкай і аплаціць розніцу ў катэгорыі. Але пазыкі хапіла далёка не ўсім гаспадаркам, якія мелі ў ёй пільную патрэбу. Сярод 44 раёнаў, якія наркам земляробства Бенек унёс у спіс для абавязковай дапамогі, не значылася ніводнага са Слуцкай акругі.

Акружкам партыі і акрвыканкам звярнуліся з хадайніцтвам аб пазыцы. Просьбу адхілілі — на думку членаў бюро, на Случчыне былі ўсе магчымасці не толькі забяспечыць сваю акругу насеннем, але і дапамагчы іншым раёнам.

Гэта рашэнне фактычна прадвызначыла лёс наступнага пытання — аб Старобінскім раёне. Дакладней, яго тэма фармулявалася так: аб партыйна-палітычнай рабоце ў раёне. Папярэдне аб ёй, відаць, можна было меркаваць ужо па лічбах: у 1936 годзе з 341 пытання, разгледжанага райкамам, уласна партрабоце было прысвечана 22; у Слуцкім акружкоме — 59 з 382. Асноўная частка работы прыпадала на рашэнне гаспадарча-фінансавых праблем, выбіванне планаў нарыхтоўкі збожжа, бульбы, шматлікіх падаткаабкладанняў і збораў. Асаблівае месца ў гэтым спісе займала кантрактацыя льну.

Лён надзвычай многа значыў для сялянскай сям'і: мануфактуры не купіць, без вяроўкі ў гаспадарцы таксама не абыдзешся. Валакно, не гаворачы ўжо пра гатовае палатно, выкарыстоўвалі як цвёрдую валюту, нават падавалі жабракам. Залатым фондам рэспублікі назваў лён стар-



шыня ЦВК БССР А.Р. Чарвякоў 24 лютага 1937 года ў дакладзе аб праекце Канстытуцыі БССР. І ў пацвярджэнне яго ролі ў росце дабрабыту працоўных прывёў наступны прыклад:

**Работніца-стаханаўка таварыш Кірайчык, камсорг, купіла сабе паліто, шоўкавую сукенку, чырвоныя туфлі, фетравую шапачку, флакон адэкалону.**

Нават шырока вядомая песня «Ох, і сеяла Ульяніца лянок» узнікла якраз у той жа час, калі лён, паводле слоў Чарвякова, заваёўваў правы грамадзянства на Беларусі*. Праўда, з песні магло здацца, што сяляне неяк самастойна сеялі, палолі, ірвалі даўгунец. Але хіба можны было

---

* Па плошчы пасеваў у 1936 годзе — 200 тысяч гектараў (да 1917 — 72 тысячы) — Беларусь выйшла на трэцяе месца ў СССР. У той год патрабавалася здаць дзяржаве 42 тысячы тон валакна 10–15 нумарам. Аб нерэальнасці гэтай лічбы сведчыць хоць бы тое, што ў наступным годзе ў цэлым для рэспублікі заданне знізілі на 13 працэнтаў, а некаторым раёнам — на 20–30. Гэта не перашкодзіла растлумачыць невыкананне плана 1936-га шкодніцтвам.

ва ўмовах узрастання класавай барацьбы, шкодніцтва і шпіянажу даверыць самім Ульяніцам лёс «двухдольных раслін з валакністым сцяблом і алеістым насеннем»?

> **Забяспечыць: правядзенне дзвюх-трох праполак засмечанага льну, а на разрэджаных насенняводчых пасевах таксама і міжрадковую апрацоўку...; прымяненне ва ўсіх ільнаводчых калгасах падкормкі льну мясцовымі мінеральнымі ўгнаеннямі; правядзенне церабления льну на валакно ў стадыі жоўтай спеласці і ў тэрмін не больш 8 дзён... церабленне льну насенняводчых пасеваў правесці ў тэрмін не больш 6 дзён; абмалот галовак ільну закончыць у 6–8 дзён...; рассціл (замочку) усёй ільняной саломы завяршыць у жніўні, арганізаваўшы старанную сарціроўку льну па якасці пры яго ўборцы, пад'ём са сцелішчаў і перапрацоўцы...**

Усяго чэрвеньскі (1936 г.) Пленум ЦК ВКП(б), адкуль узята цытата, прыняў дзве рэзалюцыі. Першая, прысвечаная праекту сталінскай канстытуцыі, умясцілася ў 6 радкоў; другая, дзе жней вучылі жыта жаць, заняла 16 старонак. Зыходзячы з практыкі ЦК ВКП(б), такім чынам, Старобінскаму райкаму наўрад ці варта было апасацца папрокаў у занядбанні арганізацыйна-партыйнай работы, перакосе ў бок гаспадарчай дзейнасці.

І сапраўды. На Бюро ЦК КП(б)Б старобінцаў папракнулі... за самацёк у нарыхтоўцы льну. Хоць слова гэта і прыблізна не характарызуе тыя баявыя дзеянні, якія разгарнуліся ў раёне, калі стала ясна: выкананне надзвычай высокіх заданняў па льну правальваецца.

Каб надаць кампаніі афіцыйны характар, кіраўнікі раёна звярнуліся да ўпаўнаважанага рэспубліканскага камітэта па нарыхтоўках Гваздзецкага з просьбай... даць дадатковае заданне па льну. Той хуценька ўручыў ім дырэктыўную індульгенцыю: калгаснікам, якія пасеялі лён на прысядзібных участках, даводзіцца план здачы на ўзроўні кантрактацыйных дагавораў з аднаасобнікамі. Старобінскі РВК адразу ж спусціў дырэктыву на ўсе сельсаветы, якая абавязвала правесці тэрміновае налічэнне і фарсіраваць здачу валакна.

І грымнуў бой... Старшыня Мсцявіўскага сельсавета Дзеравянка абвінаваціў ва ўкрыцці пасеву льну адразу 47 аднаасобнікаў і зрабіў ім дадатковыя налічэнні.

Сельсаветчыкі пад камандаваннем Бабаева за адну ноч правялі налічэнне ўсім калгаснікам і паабяцалі выдаць узамен мануфактуру. Але

чыжэвіцкія сяляне, выдатна ведаючы цану абяцанням старшыні свайго сельсавета, які падмануў іх такім чынам год назад, лён здаваць не панеслі. Тады Бабаеў абвінаваціў іх у крадзяжы льновалакна ў калгасе і наладзіў добра знаёмую мясцовым жыхарам канфіскацыю з мардабоем. Старшыня калгаса «Перамога» Шэўчык, у адрозненне ад бабаеўцаў, мануфактуру за льновалакно выдаваў, не гаворачы, праўда, што яна і так ужо належыць калгаснікам за хлебапастаўкі.

15 лістапада дырэктар Старобінскай нарыхтоўчай канторы Нахмановіч рапартаваў у акругу і Мінск: план выкананы на 56,6 працэнта! Хутка, аднак, вы-светлілася, што фактычна льновалакна нарыхтавана ўдвая менш. Нахмановіча перасадзілі ў крэсла дырэктара электрастанцыі, а нарыхтоўчы прэс рэзка ўзмацнілі.

Звар'яцелыя ад беспакаранасці старшыня Чырвонаазерскага сельсавета Мурашка і старшыня калгаса «Чырвоная кветка» Сівец злавілі сляпую 65-гадовую Агаф'ю Ільшчыц, абшукалі і, не зважаючы на лямант, адабралі 2 кілаграмы нажабраванага льновалакна.

З людзьмі абыходзіліся горш, чым з жывёлай.

Хаця…

**Са стэнаграмы**
**працэсу «антысавецкага праватрацкісцкага блока»**

**Шарангові ч. Па сельскай гаспадарцы я хачу сказаць адносна нашай дыверсіі ў галіне конегадоўлі. У 1936 годзе на Беларусі была намі шырока распаўсюджана анемія. Гэта праводзілася намі з мэтай, бо конь на Беларусі адыгрывае велізарнае абароннае значэнне. Мы імкнуліся падарваць гэтую моцную базу ў выпадку, калі яна спатрэбіцца ў сувязі з вайной.**

**У выніку гэтай меры здохла, наколькі я памятаю зараз, каля 30 тысяч коней. Я павінен сказаць, што гэту меру адносна коней мы правялі не толькі па сваёй ініцыятыве.**

**Вышынскі. А яшчэ па чыёй?**

**Шаранговіч. Мы мелі прамую ўстаноўку з маскоўскага цэнтра правых.**

У «Пісьме Беларускага народа вялікаму Сталіну» расказвалася пра спрактыкаванага конюха Мікіту Батоўкіна:

***У сваёй гаспадарцы, не знаючы страты,***
***Ён наладзіў такі клапатлівы дагляд —***
***Сорак шэсць у калгасе яго конематак,***
***Сорак шэсць ён гадуе ад іх жарабят.***

Адраса конюха-майстра не ўказвалі, але тое, што ён не са Старобіншчыны, можна ручацца. У 1933 годзе ў раёне трымалі 7563 кані, на пачатак 1937 года засталося 5056. Толькі за другую палавіну 1936 года раённы табун паменшаў на 443 галавы. Пра існаванне ў сталіцы «цэнтра правых» яшчэ не аб'явілі, і праверка на месцы высветліла трохі іншую прычыну паморку конскага пагалоўя: «няправільная эксплуатацыя і варварскія адносіны». Многае, многае адкрые такое тлумачэнне чалавеку, які ведае, чым спрадвеку быў конь для гаспадара, якое месца займаў у сялянскай сям'і, у матэрыяльным і духоўным жыцці народа.

...Рашэнне Бюро ЦК КП(б)Б адзначала запушчанасць партпалітработы ў Старобінскім раёне, канстатаваліся зажым самакрытыкі, парушэнне статута сельгасарцелі. Слуцкаму акружкаму было прапанавана накіраваць у раён свайго прадстаўніка (спачатку хацелі сакратара Каменштэйна, а потым вырашылі, што дастаткова і члена бюро акружкама); пракурору рэспублікі Глезераву даручалася прыняць меры па выпраўленню фактаў парушэння рэвалюцыйнай законнасці.

У пастанове не знайшлося месца для ацэнкі дзейнасці кіраўнікоў раёна і іх памагатых, не пайшла яна ў друк.

Праз тыдзень у «Звяздзе» можна было прачытаць радкі верша Янкі Купалы на папулярную тэму крытыкі і самакрытыкі, які сканчаўся агульнай ацэнкай новай рэчаіснасці:

***Цвітуць пад нашым небам вёсны,***
***Спявае збуджаны разлог.***
***Жыццё шаўковыя тчэ кросны***
***Шчаслівай долі й перамог.**** 

Кросны ткалі: старобінскі сталінец Баярчанка праз месяц стаў першым сакратаром Быхаўскага райкама. А яго справу працягнулі іншыя.

---

* У жніўні 1937-га, ужо пасля арышту Шаранговіча, НКВД падрыхтаваў даведку на арышт Купалы, якая пачыналася словамі «Я. Купала з'яўляецца актыўным лідарам нацфашызму». Наступную спробу арыштаваць Купалу і Коласа зрабіў пераемнік Шаранговіча на чале ЦК Панцеляймон Панамарэнка ў лістападзе 1938-га ў векапомным допісе на імя Сталіна «О белорусском языке, литературе и писателях».

«Слуцкаму АК і АВК поўнасцю забяспечыць план сяўбы па сваёй акрузе ўласным насеннем», — так адказала Бюро ЦК на просьбу акругі аб пазыцы. Паставіўшы подпісы пад гэтым, магчыма, абгрунтаваным рашэннем (зусім верагодна, што ў іншых раёнах становішча было яшчэ горшае), Шаранговіч, Чарвякоў, Галадзед і іншыя члены Бюро ЦК аўтаматычна паклалі пачатак новым канфіскацыям і разбэшчанаму гвалту над Ульяніцамі-льнаводкамі і Агаф'ямі-пабірахамі. Бо як можна было выканаць непасільныя заданні па пастаўках, як спаганяць бясконцыя падаткі, зборы і плацяжы* без баярчанкаў, бабаевых, сіўцоў і ліберманаў?..

Лепшы сталінец Старобінскага раёна — Іосіф Сталін — мог быць цалкам задаволены рашэннем Бюро ЦК КП(б)Б.

## «Усіх трацкістаў корні знішчым»

*У заатэхнікуме працуе былы актыўны нацдэм Галубіцкі і яго жонка — дачка памешчыка, да якіх збіраюцца настаўнікі і па начах гуляюць у карты. Такіх фактаў контррэвалюцыйных выступленняў у раёне многа.*

З даведкі аб становішчы Клімавіцкай райпартарганізацыі, 1937 г.

20 сакавіка 1937 года «Правда» апублікавала рэдакцыйны артыкул «Шкодная страпня», у якім рэзка крытыкавала галоўную партыйную газету БССР «Звязду». Як паклёпніцкая кваліфікавалася фраза з перадавога артыкула за 8 лютага:

**Нанесены сур'ёзны ўдар расхлябанасці і падхалімству, народжаным спецыфічнымі ўмовамі жыцця беларускага і яўрэйскага народа ў мінулым, местачковасцю.**

«Правда» пісала:

**Такую тэорыю Юркоў мог запазычыць толькі ў Бухарына. Рэдактар «Звязды» скажае ленінска-сталінскую нацыянальную**

* Толькі нядоімкі па штрафах за парушэнне лесакарыстання складалі на 1937 год па рэспубліцы 15 мільёнаў рублёў.

**палітыку. Гэты артыкул — шкодная страпня, якая можа нанесці сур'ёзную шкоду практычнай рабоце беларускай партыйнай арганізацыі.**

Пасля падобных абвінавачанняў у 1937-м з выбарам мер не цырымоніліся. А калі ўлічыць уплывовасць органа, з якога зыходзіла крытыка (слова «Праўды» прызнавалася бясспрэчным. Аднойчы ў газеце зрабілі памылку ў прозвішчы маладога ўдарніка — і на месцы хлопцу хуценька памянялі пашпарт), дык лёс рэдактара «Звязды» быў прадвызначаны. Да таго ж, новы сакратар мог адразу прадэманстраваць цвёрдасць і прынцыповасць.

**Указаць тав. Юркову і папярэдзіць, што ў выпадку паўтарэння палітычных памылак да яго будуць ужыты суровыя меры партыйнага спагнання.**

**Подпіс — сакратар ЦК В. Шаранговіч...**

І такія меры — у час, калі ворагаў выкрывалі, паводле прыпевак, нават паміж пацалункамі?

***Мяне мілы праваджіў***
***Да зялёненькіх рабін.***
***Усіх трацкістаў корні знішчым,***
***Не астанецца ні адзін!***

Цяжка ўстанавіць, як канкрэтна працякала класавая барацьба пад рабінамі, але тэзіс яе далейшага абвастрэння ў грамадстве патрабаваў ацэнак і высноў куды больш жорсткіх і рашучых.

Ужо ў закрытым пісьме ад 18 студзеня 1935 года аб забойстве Кірава ЦК ВКП(б) назваў адрыжкай правага ўхілу апартуністычнае ўяўленне аб затуханні класавай барацьбы:

**Трэба памятаць, што чым больш безнадзейнае становішча ворагаў, тым больш ахвотна яны будуць хапацца за крайнія сродкі, як адзіныя сродкі асуджаных у іх барацьбе з Савецкай уладай.**

Потым, у закрытым пісьме ад 29 ліпеня 1936 года аб «трацкісцка-зіноўеўскім блоку», ЦК зноў заклікаў да максімальнай пільнасці і выкрыцця замаскіраваных ворагаў.

І іх «выкрывалі». «Людзі» Яжова стараліся так, што ўжо праз дзевяць месяцаў пасля назначэння наркама ўнутраных спраў узнагародзілі ор-

дэнам Леніна. Не адставалі ад энкавэдзістаў і партыйныя арганізацыі, сярод рашэнняў партсходаў сустракаліся, напрыклад, і такія:

**Слухалі: самасправаздачу т. Салірава. Пастанавілі: Салірава арыштаваць.**

30 студзеня 1937 года былі прыгавораны да расстрэлу 13 з 17 удзельнікаў працэсу «антысавецкага трацкісцкага цэнтра». Але крамлёўскі правадыр прагнуў свежай крыві і 3 сакавіка выступіў ужо з адкрытай праграмнай прамовай, прысвечанай «ідыёцкай хваробе — бестурботнасці».

**Факты паказалі, што сігналы і папярэджанні ўспрымаліся нашымі таварышамі больш чым туга. Чым растлумачыць, што нашы партыйныя таварышы аказаліся палітычна блізарукімі перад шкодніцкай і шпіёнска-дыверсійнай работай ворагаў народа?**

Сталінскі даклад «Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў» быў вытрыманы ў інтанацыі бацькоўскай крыўды: папярэдзіў ціхенька сына раз, другі, а той нуль увагі. Тады, нарэшце, заўвага робіцца ўголас і выхавальнік пачынае разбіраць няправільныя паводзіны — цярпліва, па пунктах.

Змест заключнага раздзела «Нашы задачы» лагічна вынікаў ужо з назваў трох першых: «Палітычная бестурботнасць», «Капіталістычнае акружэнне», «Сучасны трацкізм». Акрамя выкрыцця варожай тэорыі затухання класавай барацьбы Сталін ставіў задачу разбіць яшчэ шэсць «гнілых тэорый». Патрабавалася адкінуць прэч небяспечнае ўяўленне, быццам шкоднікам не можа быць той, хто добра працуе. Выгаднай для ворагаў аб'яўлялася таксама тэорыя сістэматычнага выканання планаў, якое быццам зводзіць на нішто шкодніцтва і яго вынікі. Далей, каб адвесці ўдар ад сябе, варожыя тэарэтыкі называлі стаханаўскі рух асноўным сродкам ліквідацыі шкодніцтва. Пятая гнілая тэорыя сцвярджала, што ў трацкістаў няма больш рэзерваў, шостая закалыхвала тым, што бальшавікоў многа, а трацкістаў мала.

Сталін любіў парадоксы. Праз дзень, ацаніўшы рэшткі «трацкістаў» у краіне ў 12 тысяч чалавек, ён заявіць удзельнікам пленума: трацкісты не ўяўляюць аніякай небяспекі — і запатрабуе вельмі ўважліва ставіцца да вырашэння лёсу людзей. Але і першую задачу не адменіць. Яна таксама была парадаксальная: каб разбіць гнілыя тэорыі, патрабавалася іх пацвердзіць. А гэта, фактычна, было не так і складана — зусім не аднадушны энтузіязм, сляпая вера і рабская немата панавалі ў народзе.

**Жыццё кепскае ў калгасе, хоць разбягайся; Сталін пастух, а народ стада; Кірава забілі, Куйбышаў памёр, партыя прыйшла ў тупік, і наш калгас прыйшоў у тупік; Савецкая ўлада дапамагае Іспаніі, а свой народ галадае», «у Троцкага вунь колькі тэарэтычных прац, а ў Сталіна нічога няма; чым так жыць, дык лепш вайна; мы дайшлі да магілы...**

Такімі выказваннямі людзей стракацелі даведкі інспектараў ЦК пасля выездаў на месцы. Прыводзіліся шматлікія іншыя факты: у вёсцы Падлавічы Кіраўскага раёна, калі брыгадзір расказваў аб працэсе над трацкісцка-зіноўеўскай бандай, адзін з прысутных заявіў: яны нам хацелі лепшага, іх нельга было судзіць. У тым жа раёне конюх калгаса «Ударнік» з лаянкай сарваў у канцылярыі партрэты Молатава і Варашылава, а ў хаце-чытальні — партрэт Сталіна...

Няцяжка ўявіць, што чакала аўтара «контррэвалюцыйнай» заявы і калгасніка з «Ударніка». Але «сусветнаму пастуху» патрабаваліся конюхі ўсіх маштабаў. 13 лютага на месцы пайшла дырэктыва ЦК ВКП(б) аб новым парадку арыштаў кіраўнікоў устаноў, дырэктараў прадпрыемстваў і тэхнічных работнікаў. Даносчыкі, сексоты, паклёпнікі праўлялі баль.



**З даносу на першага сакратара Дрысенскага РК КП(б)Б Кацельнікава Н.:**

**...заняў няправільную пазіцыю па справе Шастакова, які быў выключаны з партыі за падтрымку трацкістаў (заявіў, што тым трацкістам, якія прызнаюць сваю віну і абяцаюць сумленна працаваць, трэба дапамагаць стаць на ногі, а тых, хто не прызнаецца, выключыць з партыі). Кацельнікаў быў супраць выключэння Шастакова з партыі толькі таму, што лічыў выступленне Шастакова на райпартсходзе недастатковым для выключэння...**

Рашэнне бюро ЦК КП(б)Б: Кацельнікава з партыі выключыць.

З даносу на начальніка службы руху станцыі Магілёў В. Ігнатава:

**...узвёў паклёп на таварыша Лазара Майсеевіча Кагановіча, заявіўшы, «вы думаеце, што Лазар Майсеевіч усё ведае, ён жа кіруе наогул, а дэталяў не ведае», за што Ігнатаў атрымаў усяго строгую вымову...**

Рашэнне бюро ЦК: з партыі выключыць.

15 мая як ворага народа выключылі з партыі, вывелі з бюро ЦК і Прэзідыума ЦВК БССР наркамзема Беларусі К. Бенека; падобны прысуд вынеслі і наркаму асветы Дзякаву. 21 мая бюро адмяніла сваё ўказанне ад 6 верасня 1936 года аб распаўсюджванні на наменклатурных работнікаў ЦК КП(б)Б указання ЦК ВКП(б):

**Ва ўсіх выпадках, калі мясцовыя партарганізацыі маюць матэрыялы, якія ставяць пад сумненне магчымасць пакідання ў партыі назначанага рашэннем ЦК работніка, перадаваць гэтыя матэрыялы на разгляд ЦК ВКП(б)...**

Рукі энкавэдзістаў, і дагэтуль не надта звязаныя, атрымалі яшчэ большую свабоду. Праўда, свабоду ўсё ж адносную: мясарубка зацягвала і тых, хто яе рухаў.

4 красавіка была апублікавана пастанова прэзідыума ЦВК аб адхіленні наркама сувязі СССР Г. Ягоды ад пасады — з прычыны «службовых злачынстваў крымінальнага характару». Роўна праз тыдзень для нездагадлівых гэта паведамленне ўсе газеты надрукавалі яшчэ раз — у дужках рэдакцыі дружна тлумачылі, што ў першы варыянт тэксту трапіла памылка: замест адхілення ад пасады трэба чытаць «адрашэнне».

У краіне толькі адзін чалавек мог знайсці крамолу ў лексіцы ЦВК і прымусіць перарабіць пастанову, а ўсе газеты — прыняць віну на сябе. 20 мая па выкліку гэтага чалавека Шаранговіч прыбыў у Крэмль.

Быў чацвер. Акрамя Сталіна прысутнічалі Молатаў, Варашылаў, іншыя члены Палітбюро. Абмяркоўваліся будучыя перамены ў беларускім кіраўніцтве, у прыватнасці лёс Галадзеда і Чарвякова. Рашэнне па кожнаму прынялі асобнае. Ужо ў нядзелю члены Бюро ЦК КП(б)Б аднадушна ўхвалілі як своечасовую і правільную тэлеграму Сталіна аб адкліканні Галадзеда ў распараджэнне Масквы і вывелі яго з бюро.

На пасаду кіраўніка ўрада была рэкамендавана кандыдатура другога сакратара ЦК КП(б)Б Д. Валковіча.

З газет на тым тыдні можна было ў дэталях даведацца аб рэарганізацыі англійскага ўрада, які ўзначаліў Нэвіль Чэмберлен, але публікацыя інфармацыі аб зняцці Галадзеда адкладвалася. Друк паведамляў аб тым, што ў продаж паступілі скрынкі розных памераў, цэнтральная аптэка прапаноўвала п’яўкі і лёд, у мінскім парку імя Горкага рыхтавалася адкрыццё дзяржаўнага цырка «з лепшымі замежнымі і савецкімі атракцыёнамі». Але зоркі сусветнага цырка бляклі на фоне рэжысуры вярхоўнага пастаноўшчыка гладыятарскіх баёў сваіх паплечнікаў. Быццам жанглёр, які адпускае ў свабодны палёт два шары, злавіўшы трэці, Сталін адарыў Чарвякова і Шаранговіча адтэрміноўкай.

Звычайныя садысты атрымліваюць асалоду, калі катуюць некага. Сталін дамагаўся ня толькі, каб ахвяры катавалі адна адну, але і самі сябе. Змушаны былі паклёпнічаць адзін на аднаго бальшавіцкія правадыры Радэк і Пятакоў, Рыкаў пацвярджаў, што яго сябар Бухарын — шпіён, як і ён сам.

**Са стэнаграмы**
**працэсу «антысавецкага праватрацкісцкага блока»**

**Шаранговіч. Грамадзяне суддзі! Я не збіраюся абараняць сябе. Я здзейсніў мярзотныя, подлыя, цяжкія злачынствы перад краінай і народам. І добра разумею, што мушу несці поўную адказнасць за іх перад пралетарскім судом. Я здрадзіў сваёй радзіме і як здраднік не заслугоўваю ніякай літасці...**

Са сваім апошнім словам у судзе Шаранговіч выступіць толькі праз дзесяць месяцаў пасля размовы са Сталіным. Але ўжо праз дзесяць дзён пасьля яе старшыня ЦВК БССР Чарвякоў уласнаручна падпісваў указ аб

вызваленні свайго шматгадовага паплечніка ад пасады старшыні СНК Беларусі і вывадзе яго з членаў ЦВК.

Жыццю самога ўсебеларускага старасты наканавана было абарвацца на пяць дзён раней за Галадзедава, у часе XVI з’езда КП(б)Б.

На сустрэчы ў Крамлі Шаранговіч прасіў Сталіна прыслаць на з’езд у Мінск прадстаўніка ЦК ВКП(б).

— Нікога пасылаць не будзем. Мы Вам даверылі рэспубліку, няўжо ж не даверым правядзенне з’езда? Справіцеся самі*.

Жанглёр не гледзячы быў упэўнены, што запушчаны шар вернецца ў яго рукі.

## «Катлеты засмажаць пры вас»

*Мы павінны знішчыць да канца астаткі японанямецкіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў, астаткі трацкісцка-бухарынскай і нацыяналістычнай падлы, раздавіць і сцерці іх у парашок, як бы яны ні маскіраваліся, у якую б шчыліну ні схаваліся. Смерць гэтым гадам і здраднікам нашай радзімы!*

В. Шаранговіч. З уступнай прамовы на XVI з’ездзе КП(б)Б

На пачатку чэрвеня 1937-га ў Мінск з Масквы на імя Шаранговіча прыйшоў ліст ад кіраўніка саюза савецкіх пісьменнікаў У.Стаўскага пра шкодны верш Якуба Коласа «Полымя». Пільнасць праявіў расійскі паэт Міхаіл Ісакоўскі, які лічыўся сябрам Коласа і рабіў пераклад для маскоўскага выдання. Ацаніўшы стары коласаў верш на пяцігоддзе часопіса «Полымя» як контррэвалюцыйны і нацдэмаўскі, ён называў сам факт уключэння яго ў зборнік варожым і патрабаваў прыняць меры.**

З ЦК ліст пераслалі старшыні мясцовага саюзу пісьменнікаў Міхасю Лынькову і да часу забыліся — на пачатку таго лета было не да звычайных даносаў літаратараў на літаратараў, да таго ж беспартыйных.

---

* Паводле ўспамінаў жонкі Шаранговіча А. Генфер.

** Ісакоўскі, аўтар прымітыўных тэкстаў папулярных песень, стане потым двойчы лаўрэатам Сталінскай прэміі, героем сацпрацы і будзе да скону атрымліваць ганарары за перавыданні Коласа і лічыцца вялікім сябрам беларускай літаратуры.

10 чэрвеня 1937 года ў 6 гадзін вечара ў Мінску адкрыўся XVI з'езд КП(б)Б. 846 дэлегатаў, якія прадстаўлялі 47-тысячную рэспубліканскую партарганізацыю, выбралі ў прэзідыум Шаранговіча, Валковіча, Бермана, Чарвякова, усяго 23 чалавекі. Дэлегата Галадзеда сярод іх не значылася. У яго кватэры на трэцім паверсе Дома Саветаў змоўк тэлефон, не заходзілі знаёмыя, ніхто не клікаў у госці. Няма куды пайсці ў людным Мінску, хоць прымай рэкламнае запрашэнне магазіна рыбнай кулінарыі:

**Пераканайцеся ў якасці і выдатным смаку нашых заўсёды свежых, гарачых далікатэсных піражкоў і катлет! Катлеты смажацца ў прысутнасці спажыўца на слівачным масле!**

Але неўзабаве, не выходзячы з кватэры, толькі гартаючы газеты, Галадзед мог убачыць, як без усякага масла робяцца смажаныя факты. 30 мая, у адзін дзень з публікацыяй указа аб вызваленні Галадзеда ад пасады, пачала работу Мінская гарадская партканферэнцыя. І калі ў першыя два дні прозвішча былога старшыні СНК БССР яшчэ не фігуравала ў выступленнях, дык на трэці дзень, як па камандзе, пачалі «смажыць».

**Гураліс, сакратар парткама БДУ: «Галадзед займаўся склокамі, насаджаў групаўшчыну і быў рупарам усіх незадаволеных. Кожны з нас вітае зняцце Галадзеда!»**
**Варончанка, наркам асветы: «Галадзед падтрымліваў, з-за сваёй палітычнай слепаты, не аднаго ворага народа. Ён абараняў Галенду, Пятровіча і некаторых іншых...»**
**Юнг, дывізійны камісар: «Палітыка Галадзеда была палітыкай усіх незадаволеных і пакрыўджаных. Галадзед акружыў сябе гнілымі людзьмі. Усе камуністы, якія ведаюць становішча спраў у Саўнаркаме, з радасцю сустрэлі паведамленне аб зняцці з работы гэтага кіраўніка, а па сутнасці гнілога чалавека».**

Асабліва рэзка, з матэрыяламі ўжо гатовага дасье, абрынуўся на Галадзеда Рубінштэйн, загадчык аддзела кіруючых парторганаў ЦК КП(б)Б:

**У мяне склалася найглыбейшае перакананне, што Галадзед не толькі групаваў вакол сябе антыпартыйныя і варожыя элементы, але што ён прадстаўляў правую групу людзей, што ён і ў тэорыі і на практыцы гэту правую палітыку ажыццяўляў.**

**У 1921–23 гадах, пры ўвядзенні НЭПа, Галадзед даказваў, што Кастрычніцкая рэвалюцыя была дробна-буржуазная, і заклікаў зрабіць з гэтага ўсе высновы. Праз паўтара года Галадзед заклікае насаджаць хутары, адстойваючы нацдэмаўскую, варожую нам тэорыю так званых культурных гаспадарак. У 1927 годзе ён выступае на Пленуме ЦК КП(б)Б з тэзісам аб немагчымасці пераўтварэння Беларусі з аграрнай у індустрыяльна-аграрную рэспубліку. У 1928 годзе Галадзед спрабуе арыентаваць нас на зніжэнне тэмпаў дзяржаўнага будаўніцтва...**

І — як апошні цвік у труну, Рубінштэйн дае спасылку, якая лічыцца неаспрэчнай:

**І гэта робіцца ў той час, калі таварыш Сталін на XVI з'ездзе гаварыў, што людзі, якія балбочуць аб зніжэнні тэмпаў, з'яўляюцца ворагамі!**

Выступіў і Шаранговіч:

**Я асабіста лічу, што Галадзед перабудаваць работу па-сапраўднаму, як належыць бальшавіку, не хацеў. Я павінен прама сказаць, што Галадзед праводзіў праваапартуністычную практыку.**

Працяглымі апладысментамі адгукнулася мінская партканферэнцыя на яго словы:

**Правільна сказаў таварыш Хрушчоў і запісала Маскоўская партыйная канферэнцыя ў сваёй рэзалюцыі, што за кожную кроплю пралітай рабочай крыві ворагі расплацяцца пудамі крыві шпіёнаў і дыверсантаў!..**

Што думаў сам Галадзед, калі чытаў абвінавачанні ў свой адрас? Ці ўспомніў, як усяго тры тыдні перад тым, 8 мая, у сваім блакноце пад грыфам «сакрэтна» пісаў Шаранговічу:

**Як высветлілася пры праверцы і абмене дакументаў, таварыш Лук'янчык, аказваецца, састаяў у БКА (так званая Беларуская камуністычная арганізацыя). У святле апошніх матэрыялаў, якія паказваюць варожую дзейнасць шэрагу членаў БКА, я лічу немэтазгодным знаходжанне т. Лук'янчыка на пасадзе кіраўніка спраў СНК БССР і прашу Вас прыняць рашэнне Бюро ЦК аб вызваленні яго з пасады...**

Нават пасля абвінавачанняў на гарадской партканферэнцыі ў Галадзеда маглі захавацца нейкія надзеі на з'езд Кампартыі рэспублікі. Многія дэлегаты ведалі яго па шматгадовай сумеснай рабоце; заўсёды можна было разлічваць на падтрымку члена Бюро ЦК, асабістага сябра Ераніма Убарэвіча. Праўда, чамусьці ў чацвер вечарам, калі па радыё аб'яўлялі аб адкрыцці з'езда, Галадзед не пачуў прозвішча камандуючага акругай у саставе прэзідыума. Прапусціў? Заўтра ўсё будзе ў газетах.

Назаўтра газеты выйшлі з паведамленнямі пракуратуры СССР:

> **Справа арыштаваных органамі НКВД у розны час Тухачэўскага, Якіра, Убарэвіча, Корка, Эйдэмана, Фельдмана, Прымакова і Путны расследаваннем закончана і перададзена ў суд. Арыштаваныя абвінавачваюцца ў парушэнні воінскага абавязку (прысягі), здрадзе радзіме, здрадзе народам СССР, здрадзе Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.**

У тэксце згадвалася яшчэ адно добра вядомае Галадзеду імя — Ян Гамарнік, былы першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, які за дзесяць дзён да суда скончыў жыццё самагубствам. «Сумленне арміі» — так называлі начальніка палітупраўлення РККА Гамарніка — і шпіён?!

І яшчэ радкі з паведамлення:

> **Разгляд справы будзе праходзіць сёння, 11 чэрвеня, у закрытым судовым пасяджэнні спецыяльнай судовай прысутнасці Вярхоўнага суда Саюза ССР... Справа слухаецца ў парадку, устаноўленым законам ад 1-га снежня 1934 года.**

Што азначае такі парадак, Галадзед ведаў — адрэдагаваны ўласнаручна Сталіным закон адводзіў на следства 10 дзён, пазбаўляў падсудных права на адваката і касацыю; суд, вынясенне прыгавору, яго выкананне праводзіліся ў адзін дзень. І гэты дзень ужо ішоў.

У яго другой палове пад бурныя апладысменты дэлегатаў Шаранговіч унёс прапанову патрабаваць прымянення вышэйшай меры пакарання да здраднікаў. На галасаванне ставіцца рэзалюцыя:

> **XVI з'езд КП(б)Б, заслухаўшы паведамленне Пракуратуры СССР аб адданні суду здраднікаў радзімы, тройчы ганебных, ненавісных шпіёнаў, фашысцкіх разведчыкаў, патрабуе подлых фашысцкіх сабак — расстраляць. XVI з'езд КП(б)Б запэўнівае ЦК ВКП(б), нашага любімага правадыра вялікага Сталіна і саюзны ўрад у тым,**



СТРОГО СЕКРЕТНО
Снятие копий воспрещается
Кому послана

ПОДЛЕЖИТ ВОЗВРАТУ В 48 ЧАС.
(Пост. ПБ от 5 мая 27 г. пр. № 100, п. 5)

ШИФРОВКА

Из МИНСКА отправлена 7-15 9.УП. 1937 г. Поступила в ЦК ВКП на расшифрование 9.УП. 1937 г. ч. 10 м. 10

Вх. № 1166/ш

МОСКВА ЦК ВКП(б) тов. СТАЛИНУ.

На Вашу телеграмму от 3-го июля сообщаем, что нами учтено ранее высланных и возвратившихся кулаков и уголовников в Белоруссии 12.800 человек, из этого количества предлагаем расстрелять 3 тыс. человек, как наиболее враждебных и ведущих активную контрреволюционную работу и выслать из пределов Белоруссии 9.800 человек менее активных, но враждебных элементов.

В состав тройки предлагаем: [illegible] Белоруссии Бермана Б.Д., второго секретаря ЦК КП(б) Белоруссии Денисевича И.И., начальника милиции Белоруссии [illegible].-

СЕКРЕТАРЬ ЦК КП(б)БЕЛОРУССИИ
ШАРАНГОВИЧ.

Расшифровала 9.УП. 1937 г. в ч. 16 м. 35 Напечатано 4 экз. А. Даниэ.-

ИЗВЛЕЧЕНИЕ ИЗ ИНСТРУКЦИИ

**што КП(б)Б і ўвесь беларускі народ удзесяцяраць сваю пільнасць да падкопаў фашыстаў. XVI з’езд КП(б)Б ад імя ўсёй КП(б)Б і беларускага народа горача віншуе органы НКВД і іх кіраўніка тав. Яжова, дзякуючы якім абарвана подлая дзейнасць германа-японскіх шпіёнаў — здраднікаў радзімы.**

Пасля аднадушнага галасавання дэлегаты з’езда раз’ехаліся па мітынгах на прадпрыемствы, у калгасы, казармы.

Чакаць у Мінску не было чаго. Пакінуўшы дачку, якая здавала экзамены за 8 клас, Галадзед з жонкай і пяцігадовым сынам выехалі ў Маскву. Як і ва ўсіх кіраўнікоў такога рангу, у Галадзеда мелася кватэра непадалёку ад Крамля. Адтуль, строга апрануты, у адпрасаваным шэрым касцюме, ён адправіўся на прыём да таго, каму верыў, на чыю справядлівасць і мудрасць спадзяваўся. І раніцай 14 чэрвеня Сталін прыняў Галадзеда. Гутарка была не надта доўгая. Але Галадзед вярнуўся супакоены, бадзёры, энергічны. Шмат гаварыў з жонкай аб будучай рабоце.

Ён не ведаў, што вечарам 13 чэрвеня, пасля выступлення на з’ездзе, наркам унутраных спраў БССР Берман таксама выехаў у Маскву. Ён вёз рапарт на імя Яжова, у якім прасіў санкцыю на арышт члена ЦК ВКП(б) і ЦВК СССР Галадзеда Мікалая Фёдаравіча — «аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антысавецкага падполля на Беларусі». Даведка была складзена на падставе паказанняў арыштаваных Дзякава, Пятровіча, Бенека, Мелак-Шахназарава.

Яжоў тоўстым чорным алоўкам размашыста наўскасяк наклаў рэзалюцыю: «Арыштаваць».

І ў шэсць гадзін вечара дзверы кватэры адчыніліся, і да Галадзедаў увайшлі два чалавекі. Аднаго з іх жонка Галадзеда добра ведала — Барыс Давыдавіч Берман не раз сустракаўся з мужам па службовых справах. Каб не перашкаджаць, яна пайшла ў іншы пакой. Потым вырашыла

паставіць чаю і, праходзячы па калідоры, раптам убачыла, што мужа абшукваюць.

— Што гэта значыць?!

Берман моўчкі прад'явіў ордэр на арышт. На крыкі жанчыны ніхто не звяртаў увагі. Перад адыходам Галадзед падышоў развітацца.

— Супакойся. Гэта непаразуменне. Я хутка буду дома. Я ні ў чым не вінаваты. Што б ні здарылася, здолею адстаяць праўду.

Берман уважліва слухаў.

## «Пакончыў з сабой на асабістай глебе»

*Бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты. Усе ўстаюць. Воклічы «Ура!», «Няхай жыве таварыш Сталін!», «Ура таварышу Сталіну!». Бурная, доўга не змаўкаючая авацыя. «Няхай жыве ЦК ВКП(б), таварыш Сталін!», «Ура!». Бурныя апладысменты. Усе спяваюць «Інтэрнацыянал». Воклічы: «Таварышу Сталіну — ура!», «Няхай жыве таварыш Сталін!», «Ура!». Бурныя авацыі. «Няхай жыве камунізм!», «Ура!». Бурныя апладысменты. «Ура слаўным чэкістам!» Бурныя апладысменты.*

Закрыццё XVI з'езда КП(б)Б. Са стэнаграмы

На машыне ад Дома ўрада, дзе праходзіў з'езд, да дачы ў Сцяпянцы шлях нядоўгі. Чарвякоў адпусціў вадзіцеля і па дарожцы прайшоў у дом. Шукаў валяр'янку, таблеткі ад сэрца. Падбегла дачка, спытала, што здарылася. Дарослая, усё заўважае.

— Ідзе да таго, што мяне не выберуць членам ЦК.

— Ну і што?

Хоць і два курсы Баўманскага інстытута скончыла, а ўсё трэба тлумачыць.

— Значыць, не змагу быць старшынёй ЦВК. Прыйдзецца шукаць работу.

— Ты ж настаўнік! Пойдзеш у школу.

Сумна ўсміхнуўся:

— І то праўда...

На з'ездзе слова Чарвякову далі прыкладна ў той самы час, як Галадзед гутарыў у Крамлі са Сталіным. Выступіла ўжо з паўсотні дэлегатаў,

і ў адрас старшыні ЦВК было кінута столькі камянёў, што яны ператварыліся ў лавіну, гатовую ў любы момант сарвацца і пахаваць прамоўцу.

Дэлегат Гофман абвінаваціў Чарвякова ў шкодніцтве ў галіне абароны, дэлегат Міруц — у занядбанні прыгранічных калгасаў, сакратар Віцебскага гаркама КП(б)Б Жураўлёў нагадаў, што Чарвякоў маўчаў у 1923 годзе на Бюро ЦК, калі Бенек выступаў з трацкісцкай платформы.

А сігнал падаў Васіль Шаранговіч, які ў справаздачным дакладзе граміў нацыяналістычную контррэвалюцыю:

> **У святле выяўленых фактаў контррэвалюцыйнай здрадніцкай ролі БКА, нацдэмаў, правых, якую яны адыгрывалі на працягу ўсяго часу ў нас у Беларусі, у святле апошніх іх спраў, нядрэнна будзе, калі т. Чарвякоў, які з усімі імі ў свой час салідарызаваўся і падтрымліваў (хаця ён ужо і крытыкаваў сябе па гэтых сваіх памылках), раскажа нам на XVI з’ездзе, як ён глядзіць на ўсё гэта цяпер.**

Але слова для адказу Чарвякоў атрымаў толькі на пяты дзень работы з’езда, атмасфера якога тым часам усё больш накалялася. На наступны дзень пасля мітынгаў, удзельнікі якіх патрабавалі крыві ваенных-шпіёнаў, усе васьмёра былі пазбаўлены воінскіх званняў і расстраляны. З’езд горача вітаў прысуд і двух сваіх дэлегатаў — членаў спецыяльнай судовай прысутнасці Вярхоўнага суда СССР, якія вярнуліся з Масквы: камандуючага Беларускай ваеннай акругай камандарма I рангу І. Бялова і камандзіра 6-га кавалерыйскага казачага корпуса імя Сталіна камдзіва Я. Гарачава. 13 чэрвеня мандатная камісія з’езда выключыла Убарэвіча са спісаў дэлегатаў як расстралянага ворага народа; былі скасаваны мандаты яшчэ двух дэлегатаў, Волкава і Дубіны, у сувязі з іх арыштам.

Гаварыць Чарвякову практычна не далі. Гледзячы на варожа настроеную залу, якая перабівала, спыняла, перашкаджала прамоўцу, цяжка было ўявіць, што яшчэ нядаўна гэтыя людзі (шмат каго ведаў асабіста) паводзілі сябе зусім іначай. Адразу пасля выступлення Чарвякова быў аб’яўлены перапынак. На вячэрняе пасяджэнне ён не пайшоў і пазбавіўся такім чынам ад неабходнасці выслухоўваць прамову загадчыка АРПА ЦК КП(б)Б Рубінштэйна:

> **На наш погляд, Чарвякоў з’яўляўся ідэйным натхняльнікам і кіраўніком нацыянал-апартуністычнага ўхілу ў КП(б)Б. У нашым распараджэнні маюцца дакументы, якія характарызуюць Чарвя-**

**кова як кіраўніка нацдэмаўскага руху. Чарвякоў з'яўляўся ідэйным правадыром групы Ігнатоўскага — гэтай шпіёнскай арганізацыі. І далёка не выпадкова, што ў свой час арганізацыя БКА была прынята ў КП(б)Б. Наша задача — ісці далей наперад, да канца выкрываючы і выкараняючы ўсе варожыя элементы з нашых радоў!**

Многа яшчэ чаго было сказана ў адрас Чарвякова: і тое, што ён не выкрываў у сваёй прамове Галадзеда, і што насаджаў прышчэпаўшчыну, і што на яго апіралася нацыяналістычная інтэлігенцыя...

У рэгістрацыйным лістку наведвання дэлегатамі пасяджэнняў з'езда за 16 чэрвеня супроць прозвішча пад нумарам 308 стаіць «быў» — на ранішнім пасяджэнні і прочырк — на вячэрнім. А вось супроць №422 у рэгістрацыйным лістку, наадварот, ранішні прочырк змяніцца адзнакай «быў». Хто ведае, якая сувязь паміж вяртаннем з Масквы ўладальніка мандата №422 наркама ўнутраных спраў рэспублікі Бермана і стрэлам, які абарваў у перапынку паміж пасяджэннямі жыццё дэлегата з рашаючым голасам (мандат №308) старшыні ЦВК БССР Чарвякова. Назаўтра яго прозвішча ў спісе густа зальюць чарнілам і небеспаспяхова, на два дзесяцігоддзі, выкрасляць з гісторыі. Афіцыйная фармуліроўка — самагубства на асабістай сямейнай глебе — нікога не магла падмануць. Шаранговіч адкрыта гаварыў у заключным слове пра Чарвякова:

**Не вытрымаў той крытыкі, якая разгарнулася на нашым партыйным з'ездзе з боку членаў партыі, крытыкі вострай і абсалютна правільнай. Раз пакончыў самагубствам, як кажуць, туды яму і дарога!**

**Стэнаграма: «Смех, апладысменты».**

Абсалютная большасць дэлегатаў з'езда падзяліла меркаванне і ўхваліла ацэнкі Шаранговіча — пры тайным галасаванні ў новы састаў ЦК толькі пяць дэлегатаў выкраслілі яго кандыдатуру. А супроць многіх кандыдатаў падавалі дзясяткі, нават сотні галасоў, некаторыя так і не прайшлі ў ЦК. Больш галасоў «за», чым Шаранговіч, атрымаў адзін камандарм Бялоў, знаёмы дэлегатам толькі як удзельнік нядаўняга суда над ваеннымі-шпіёнамі. Імя чалавека, які прыгаварыў Убарэвіча да расстрэлу, выкраслілі з бюлетэняў два чалавекі — з амаль тысячы.

Зусім заглушыць рэха стрэлу, які абарваў жыццё Чарвякова, не ўдалося. Паспешлівасць, шматлікія перашкоды не спынілі тых многіх мін-

чан, хто прыйшоў 17 чэрвеня да клуба, каб праводзіць у апошні шлях усебеларускага старасту.

Назаўтра пасля пахавання дачка Чарвякова зрэзала на дачы ўсе кветкі і паехала на ваенныя могілкі на Даўгабродскую. Няўжо пра бацьку сапраўды было сказана: «самазабойства Чарвякова — варожы акт супраць народа» і ў зале крычалі «правільна!»? Адвярнуліся — усе?

Яшчэ ад уваходу заўважыла некага. Над свежай магілай стаяла вясковая бабулька ў чорным з букецікам у руках і ціха малілася.

## «Ужо поўнач блізіцца, а Бермана няма»

*Хіба нельга, перш чым выключыць з партыі, зрабіць папярэджанне, калі гэта не дзейнічае — паставіць на від ці вынесці вымову, а калі і гэта не дзейнічае — паставіць тэрмін для выпраўлення ці, у крайнім выпадку, перавесці ў кандыдаты, але не выключаць адным махам з партыі?*

І. Сталін. З заключнага слова на Пленуме ЦК ВКП(б) 5 сакавіка 1937 года

30 ліпеня «Звязда» выйшла з шапкай на першай паласе:

**Польскія шпіёны і шкоднікі прадаўжаюць сваю гнюсную справу! Злейшых ворагаў народа, агентаў замежных разведак бязлітасна знішчым, як шалёных сабак!**

Імя Шаранговіча ў газеце не згадвалася — яно зноў з'явіцца ў друку толькі 28 лютага 1938 года ў паведамленні Пракуратуры СССР аб справе «праватрацкісцкага антысавецкага блока». Але вопытны чытач мог здагадацца, што ў рэспубліцы нешта адбылося.

Адбыўся Пленум ЦК КП(б)Б, які на працягу дня абмяркоўваў рашэнне ЦК ВКП(б) аб кіраўніцтве беларускай партарганізацыі. Справа была не ў выпрацоўцы пастановы, яе загадчык сельгасаддзела ЦК ВКП(б) Я. Якаўлеў і загадчык аддзела аргпартработы Г. Малянкоў прывезлі гатовую: першага сакратара ЦК КП(б)Б Шаранговіча, другога сакратара Дзеніскевіча, наркама земляробства Нізаўцава зняць з работы і справу на іх перадаць у НКВД — за тое, што не ліквідавалі вынікі шкод-

ніцтва польскай банды шпіёнаў, пакінулі саўгасы на сялянскіх землях, не выдзелілі прысядзібныя ўчасткі калгаснікам.

Наўрад ці сталінскіх пасланцоў хвалявала тое, што ў падобных «грахах», большасць з якіх былі вынікам каманд з цэнтра, наўрад ці можна было абвінаваціць Шаранговіча, які займаў сваю пасаду толькі чатыры месяцы, Нізаўцава, назначанага наркамам тры месяцы назад, Дзяніскевіча, чый стаж другога сакратара вымяраўся лічанымі тыднямі. Усе трое арыштаваны, і цяпер галасаванне — фармальнасць.

Аднак фармальнасць неабходная. Ваўсю рыхтуецца працэс «антысавецкага праватрацкісцкага блока», да яго далучаюцца ўсё новыя змоўшчыкі з усёй краіны. Выдатна было б, каб Беларусь прадстаўлялі людзі, якія даўно кіруюць рэспублікай, а значыць, і нашкодзілі больш, такіх лягчэй выкрываць. І Чарвякоў, і Галадзед асабіста ведалі Бухарына, Рыкава, маглі пры неабходнасці вывесці і на іншых «ворагаў».

Але першы «пакончыў на асабістай сямейнай глебе», другі перажыў яго на пяць дзён і памёр пасля падзення з пятага паверха будынка НКВД. Значыць, застаецца толькі адна кандыдатура — Шаранговіч. Могуць узнікнуць недарэчнасці, але выбару няма. Галоўнае — як след папрацаваць з ім, а там, глядзіш, яшчэ і стрымліваць прыйдзецца.

**Са стэнаграмы**
**працэсу «антысавецкага праватрацкісцкага блока»**

**Бухарын. Грамадзянін пракурор сцвярджае, што я нароўні з Рыкавым быў адным з найбуйнейшых арганізатараў шпіянажу. Якія доказы? Паказанні Шаранговіча, аб існаванні якога я нават не чуў да абвінаваўчага заключэння. Мне прад'яўляецца кантэкст паказанняў Шаранговіча, паводле якіх выходзіць, што я амаль што не выпрацоўваў шкодніцкі план...**
**Шаранговіч. Кіньце хлусіць, хоць адзін раз у жыцці. Хлусіце вы і цяпер, на судзе.**
**Старшынствуючы. Падсудны Шаранговіч, не перашкаджайце.**
**Шаранговіч. Я не мог вытрываць.**

Малянкоў і Якаўлеў разыгралі 29 ліпеня на Пленуме ЦК КП(б)Б п'есу, усе рэплікі якой прыцэльна білі ў адну кропку.

Першага выклікалі выступіць сакратара Слуцкага акружкама Жолудзева. Варта яму было растлумачыць засмечанасць фуражу для коней

тым, што такі прывезлі з Украіны (відаць, трэба было спасылацца на Шаранговіча), як яго перабіў Малянкоў:

— Як жа так, на граніцы два гады засмечаны авёс ляжыць?

— Папярэдні прамоўца паказаў, што Жолудзеву не месца ў партыі, — тут жа падхапіў Якаўлеў.

— Хто за выключэнне? Супраць?

У ашаломленай зале ніхто не пакратаў рукой.

— Ваш партбілет!

— Я шкоднікам ніколі не быў. Я выйшаў з пралетарскай сям'і, змагаўся на франтах, аддаваў усё сваё жыццё...

— Палякі за вас кіравалі акругай, — жорстка спыніў Жолудзева Малянкоў. У праходзе з'явіліся людзі ў сініх фуражках.

У выступленнях удзельнікаў пленума, ураджаных імгненным выключэннем Жолудзева (варыяцыі сцэны потым паўтараліся), сталі праяўляцца і некаторыя рысы Шаранговіча, дагэтуль схаваныя за грознымі прамовамі.

— Я раіўся з Шаранговічам наконт Свірыдава, старшыні нашага выканкама, — расказваў сакратар Полацкага акружкама Ліхачоў. — Яго жонка ездзіла за граніцу. Няма ніякіх іншых абвінавачванняў, але жонка, відаць, шпіёнка. НКВД высвятляе, пакуль суд ды дзела, а Шаранговіч гаворыць: «Добра, паглядзім». Вось табе і сакратар ЦК! Мы самі правалілі, хістаючыся, Свірыдава...

— Зараз бяздзеянне выклікае палітычнае падазрэнне, — даў ацэнку Малянкоў. Падказку падхапілі.

— Я паведаміў аб сувязях старшыні акружвыканкама Пушчына з выкрытым Вансоўскім. А Шаранговіч заявіў, што Пушчын сумнення не выклікае і таму ніякага вываду рабіць з твайго паведамлення не знаходжу патрэбным, — з абурэннем успамінаў былы сакратар Лепельскага акружкама Ляхаў. — Потым аб Казлоўскім, ваенбудзе, што ён з Пушчыным знаёмы. А Шаранговіч: «Ну, бачыш, пакуль у нас звестак няма». Потым даў матэрыял на Дзеніскевіча: маці займалася кантрабандай, сястра рабіла аборт. Шаранговіч рассмяяўся!..

Але выкрыццё Шаранговіча не выратавала самога Ляхава. Праз колькі хвілін яго вывелі з членаў ЦК. Больш трыццаці асабіста выкрытых ворагаў за два з палавінай месяцы не дапамаглі захаваць партбілет і наступнаму выступаючаму Вайнману з Бабруйска. Хоць сакратар ЦК ЛКСМБ Аўгустайціс, надварот, прызнаваў: «У камсамоле яшчэ мала выкрыта ворагаў, усяго чатыры сакратары райкама, што з'яўляецца вы-

ключна недастатковым», — яго чакаў такі ж самы лёс. Крыху больш месяца аддзяляла ад падобнага канца новага старшыню СНК БССР Валковіча, які адкрываў пленум (іншых членаў бюро не было). Новы старшыня ЦВК рэспублікі Стакун, які выступіў супраць бюракратызму ў справе пільнасці («дастаткова 1–2 дзён, каб «выкрыць ворагаў») пратрымаўся чатыры месяцы...

— Калі чалавек на пасадзе нічога не бачыць, гэта дурань або вораг, — жорстка заявіў новы камандуючы войскамі акругі Бялоў, які выступаў апошні. — Партыя настолькі багатая талентамі, што ніякай бяды не будзе. Калі нам у Чырвонай Арміі прыйдзецца ў 10 разоў больш зрэзаць, чым зразаем, то тады пытанне будзе заключацца толькі ў афармленні новых назначэнняў!..

І ў абезгалоўленай КП (б)Б (некаторы час кіраўніцтва ажыццяўляў Якаўлеў, потым выконваць абавязкі першага сакратара быў прысланы з Масквы сакратар гаркама А. Волкаў) прыняліся «зразаць» і «афармляць дакументы» — каму што. Камандарму першага рангу І. Бялову, напрыклад, роўна праз год пасля пленума, 29 ліпеня 1938 года, дасталася куля ў сэрца — ён быў расстраляны як вораг народа. А наркам унутраных спраў Берман праз чатыры з паловай месяцы, 20 лістапада 1937 года, быў узнагароджаны ордэнам Леніна — «за ўзорнае і самаадданае выкананне ўрадавых заданняў».

Заданні гэтыя выконваліся сапраўды ўзорна. Была выключана з партыі амаль уся наменклатура — сакратары ЦК, старшыні СНК, каля паўсотні наркамаў і іх намеснікаў, амаль усе сакратары райкамаў і гаркамаў партыі, старшыні мясцовых выканкамаў, дзясяткі кіраўнікоў саўгасаў і МТС. Больш за тысячу свяшчэннаслужыцеляў праваслаўнай царквы, сектантаў былі аднесены да аб'яднанага антысавецкага падполля; пад нож рэпрэсій ішлі старыя камуністы і ксяндзы, камсамольцы і былыя эсэры і меншавікі, пісьменнікі, вучоныя.

Вось хроніка толькі аднаго месяца. 8 кастрычніка адбыўся працэс «контррэвалюцыйнай шкодніцка-дыверсійнай арганізацыі правых» у сістэме Белзаготзбожжа — да расстрэлу прыгаварылі 5 чалавек. Праз чатыры дні на падобным працэсе ў сістэме наркамзема ваенны трыбунал прыгаварыў да расстрэлу яшчэ 5 чалавек. 8 чалавек былі прыгавораны да расстрэлу 15 кастрычніка на працэсе трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі ў Жлобіне.

У тым жа кастрычніку агульны сход беларускіх пісьменнікаў вылучыў кандыдатам у Вярхоўны Савет СССР наркама НКВД Мікалая Яжова і

паслаў яму просьбу балатавацца па Мінскай акрузе. У звароце, падпісаным Янкам Купалам, кандыдата іменавалі верным вучнем геніяльнага правадыра, блізкім сэрцу беларускага народа, які нямала для гэтага народа зрабіў:

**Жалезнай рукой вы грамілі і громіце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыянал-фашысцкай контррэвалюцыі, выкурваючы ворагаў з усіх гнёзд.**

Пэўная нязграбнасць метафары, як і тое, што да расстрэлу самому Яжову заставалася менш за паўтара года, выкупалася пажаданнем доўгіх гадоў жыцця Сталіну — з гэтым не памыліліся.*

«Ужо поўнач блізіцца, а Бермана няма», — маглі паміж сабой сказаць у горадзе; на вёсцы разнарадку на ворагаў называлі хапуном. Але шэптам. Нават без спасылкі на аўтарства нельга было паўтарыць словы, сказаныя Шаранговічам пры закрыцці XVI з’езда КП(б)Б:

**Нельга ўсе кадры браць пад сумненне. Гэта было б проста злачынствам, калі б мы зараз у сувязі з тым, што раскрываецца рад ворагаў, пачалі распаўсюджваць і патуралі б гэтым настроям.**

Ды і патаналі тыя словы сярод зусім іншых.

Газеты стракацелі заклікамі знішчаць шпіёнаў. У гуртках палітасветы вывучаліся каварныя метады замежных разведак, народныя паэты прыцішана пісалі хваласпевы, пад выглядам народнай творчасці ваўсю друкаваліся рыфмаваныя панегірыкі Сталіну, Кагановічу, Варашылаву, органам НКВД:

***Сарву кветачку прыгожу***
***Ля крутога рову.***
***За харошую работу***
***Спасіба Яжову!***

«Берманава канава» — так доўга старажылы ў Глускім раёне называлі шматкіламетровы роў, пабудаваны буйным лесапрамыслоўцам Давыдам Берманам яшчэ да рэвалюцыі для сплаву лесу. Сацыяльнае пахо-

* Попыт на Яжова быў вялікі, вылучалі яго па ўсім СССР; у выніку просьбу беларускіх пісьменнікаў не задаволілі, дэпутатам ад Мінскай акругі прызначылі іншага наркама, Варашылава.



джанне пры «харошай рабоце Яжова» магло каштаваць сыну купца не толькі кар'еры.

Але наўрад ці Берману трэба было асцерагацца Шаранговіча. Чалавек унутрана няўстойлівы, які даўно належыў не самому сабе, а партыі, Шаранговіч, тым не менш, не вызначаўся маніякальнай падазронасцю, не прымаў усе даносы на веру, не даваў ім аўтаматычнага ходу. Калі на першым пасляз'ездаўскім Пленуме ЦК КП(б)Б выклікала пярэчанні кандыдатура ў члены бюро наркама асветы Варончанкі, якога папракалі «бацькам-кулаком», Шаранговіч адкінуў прэтэнзіі:

> **Гэта пытанне не можа мець ніякага рашаючага значэння. Для нас важна, як ён змагаецца за лінію партыі.**

Сам змагар за лінію не паспеў «нарваць кветачак» так, як Берман. Але прабыў на пасадзе першага сакратара ЦК усяго 4 месяцы 11 дзён — менш за ўсіх у гісторыі кампартыі Беларусі — ён ня з гэтай прычыны.

# «Я не прашу літасці...»

*Пройдзе час. Магілы ненавісных здраднікаў зарастуць пустазеллем і чартапалохам, пакрытыя вечнай ганьбай!*

А.Я. Вышынскі. З заключнага слова
13 сакавіка 1938 г.

*«Вочная стаўка»*
*«Без віны вінаватыя»*
*«Радзіма не забудзе іх імёны»*

З рэпертуару мінскіх тэатраў і кіно
3–13 сакавіка 1938 г.

13 сакавіка 1938 года ў 21 гадзіну 25 хвілін старшыня Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР армваенюрыст В. Ульрых і члены суда карваенюрыст І. Матулевіч, дывваенюрыст Б. Іеўлеў падняліся са сваіх месцаў на сцэне Кастрычніцкай залы Дома Саюзаў і накіраваліся ў дарадчы пакой для вынясення прысуду. Ззаду заставаўся 10-дзённы судовы працэс, як пісалі газеты, «агідных слізкіх спрутаў»:

> **Шпіёнаў, здраднікаў, забойцаў Кірава, Мянжынскага, Куйбышава, Горкага, якія рыхтавалі замах на Леніна, Сталіна, Свярдлова, ставілі сваёй мэтай расчляненне СССР, паражэнне яго ў вайне.**

Паўгода перад тым Ульрых і Вышынскі атрымалі ордэны Леніна пасля кур'ерскага суда над Тухачэўскім, Якірам, Убарэвічам і іншымі вайскоўцамі: судовае следства, прысуд да расстрэлу і яго выкананне адбыліся ў адзін і той жа дзень. Але гэтым разам сцэнар быў іншы. У Дом Саюзаў выдаваліся запрашэнні, прысутнічалі замежныя карэспандэнты, рабіла здымкі кінахроніка, стэнаграму працэсу друкавалі газеты. Перад генеральным пракурорам Вышынскім і членамі суда стаяла задача публічна даказаць вінаватасць абвінавачваемых, пацвердзіць поўную законнасць рэпрэсій апазіцыйных груповак — «банд забойцаў і шпіёнаў...».

Папярэдняе следства праводзілі прафесіяналы НКВД з багатым вопытам знаходжання ісціны. Ускладняла работу тое, што працэс адкрыты і шмат каго з абвінавачваемых ведаюць у твар — значыць, працаваць з імі патрабавалася акуратна. І той-сёй з падсудных гэтым карыстаўся. Толькі за паўтара месяца да працэсу ўдалося дабіцца ад некаторых патрэбных паказанняў.

У НКВД, аднак, працавалі людзі не ганарлівыя, зла не трымалі. Нават вырашылі дапамагчы падсудным — даць на рукі тоўстыя тамы з пратаколамі вочных ставак і допытаў, каб самі зачытвалі свае паказанні. Нягледзячы на рэпетыцыі, многія блыталіся, не заўсёды правільна адказвалі на пытанні пракурора — пасля папярэдняга следства падводзіла памяць.

**Са стэнаграмы**
**працэсу «антысавецкага праватрацкісцкага блока»**

**Вышынскі. Падагульнім коратка, у чым вы сябе ў цэлым прызнаяце вінаватым па гэтай справе.**
**Шаранговіч. Па-першае, што я здраднік радзімы.**
**Вышынскі. Стары польскі шпіён.**
**Шаранговіч. Па-другое, я змоўшчык. Па-трэцяе, я непасрэдна праводзіў шкодніцтва.**
**Вышынскі. Не. Па-трэцяе, вы непасрэдна адзін з галоўных кіраўнікоў нацыянал-фашысцкай групы ў Беларусі і адзін з актыўных удзельнікаў праватрацкісцкага антысавецкага блока.**
**Шаранговіч. Правільна. Потым я асабіста праводзіў шкодніцтва.**
**Вышынскі. Дыверсіі.**
**Шаранговіч. Правільна.**
**Старшынствуючы Ульрых. Арганізатар тэрарыстычных актаў супраць кіраўнікоў партыі і ўрада.**
**Шаранговіч. Верна.**
**Старшынствуючы Ульрых. І ўсё гэта я рабіў у мэтах...**
**Шаранговіч. І ўсё гэта я рабіў у мэтах звяржэння Савецкай улады, у мэтах перамогі фашызму, у мэтах паражэння Савецкага Саюза ў вайне з фашысцкімі дзяржавамі.**
**Старшынствуючы Ульрых. Ідучы на расчляненне СССР, аддзяленне Беларусі, ператварэнне яе...**
**Шаранговіч. Ператварэнне яе ў капіталістычную дзяржаву пад ярмом польскіх памешчыкаў і капіталістаў.**
**Старшынствуючы Ульрых. Пытанняў у мяне больш няма.**

Пытанне ёсць толькі адно. У чатыры гадзіны раніцы 13 сакавіка Ульрых, Матулевіч і Іеўлеў выйшлі з дарадчага пакоя, каб абвясціць прысуд. Што яны рабілі там 6 гадзін 35 хвілін? Наладзілі выпіўку? Гулялі ў

шахматы? Дакладвалі дэталі Сталіну? Верагодна ўсё, акрамя аднаго — што суддзі абмяркоўвалі прысуд.

Ён быў даўно падрыхтаваны і не выклікаў сумненняў з першага дня працэсу. Мэта ставілася адна — пацвердзіць геніяльную правату таго, хто даўно ўжо разгледзеў у падсудных заклятых ворагаў. У сваёй пяцігадзіннай абвінаваўчай прамове Вышынскі нагадаў выступленне Сталіна на пленуме ЦК ВКП(б) у пачатку сакавіка 1937 года:

**— Роўна год назад таварыш Сталін, аналізуючы недахопы нашай работы і ўказваючы меры ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў, гаварыў: «Два словы аб шкодніках, дыверсантах, шпіёнах і г.д. Цяпер, я думаю, ясна, што цяперашнія шкоднікі і дыверсанты, якім бы сцягам яны ні маскіраваліся, трацкісцкім або бухарынскім, ператварыліся ў беспрынцыповую і безыдэйную банду прафесіянальных шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў, забойцаў. Зразумела, што гэтых паноў прыйдзецца граміць і карчаваць бязлітасна, як ворагаў рабочага класа, як здраднікаў нашай Радзімы. Прайшоў год. На прыкладзе гэтага працэсу мы бачым, як глыбока верна таварыш Сталін ацаніў трацкістаў і бухарынцаў.**

Не існавала ніякіх сумненняў, што даказана будзе тое, што патрабуецца даказаць. Але рэжысёры спектакля хацелі яшчэ апладысментаў гледачоў — была дадзена каманда на ўсенароднае асуджэнне абвінавачваемых.

Рэзалюцыі шматсоценных сходаў і мітынгаў, калектыўныя пісьмы, якія перапаўнялі друк і эфір, змяшчалі толькі адно патрабаванне — сцерці з твару зямлі фашысцкіх гадзін.

На мітынгу рабочых Мінскага станкабудаўнічага завода ў майстра Юдэльсона скончыліся словы:

**Няма слоў, каб выказаць сілу нашай нянавісці да крывавых сабак. Дабрадзеяннем усяму прагрэсіўнаму чалавецтву будзе знішчэнне бухарыных, рыкавых, ягод, шаранговічаў.**

Паэт Аляксей Зарыцкі прарочыў:

**Чакае смерць забойцаў-махляроў, радзімай і народам гандляроў!**

Янка Купала прызнаваўся ў больш светлым пачуцці: «І як шчаслівы паэт, калі ён можа ў той жа дзень прачытаць на мітынгу гневу і нянавісці

да гэтых адкідаў чалавецтва свае вершы, у кожным радку якіх — праклён агідным здраднікам Радзімы».

***Мала іх павесіць***
***На сухой асіне,***
***Бо нават асіна***
***Ад сябе адкіне.***

***Не вам край савецкі***
***Знішчыць, крывапійцы...***
***У нашых чэкістаў***
***Зоркія зраніцы!***

***Шастоў, Ліўшыц, Радэк,***
***Пятакоў, Муралаў, —***
***Растаптаць як гнідаў,***
***Вас, звяр'ё, замала!***

Шаранговіч у дваццаці трох прыпеўках для мітынга не згадваўся.
Газеты заходзіліся:

**По ўсёй Савецкай Беларусі ўзнімаецца грозны шквал народнага гневу і нянавісці да подлых бандытаў! Знішчым крывавых сабак фашызму! Няма месца вырадкам роду чалавечага на нашай квітнеючай зямлі!**

З 21 падсуднага 18, у тым ліку Шаранговіч, адмовіліся ад адвакатаў, не захацелі выступіць з абарончай прамовай.
— Я не збіраюся абараняць сябе, — казаў у апошнім слове Шаранговіч. — Я не прашу літасці...
Праклён Курапатаў стаяў над зямлёй.

# Дакументы і галасы

## Еранім Убарэвіч

**З паведамлення
Пракуратуры Саюза ССР ад 11 чэрвеня 1937 г.**

**Справа арыштаваных органамі НКВД у розны час Тухачэўскага М.Н., Якіра І.Э., Убарэвіча Е.П., Корка А.І., Эйдэмана Р.П., Фельдмана Б.М., Прымакова В.В. і Путны В.К. расследаваннем закончана і перададзена ў суд. Арыштаваныя абвінавачваюцца ў парушэнні воінскага абавязку (прысягі), здрадзе радзіме, здрадзе народам СССР, здрадзе Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.
Усе ў прад'яўленых ім абвінавачваннях прызналі сябе вінаватымі поўнасцю.**

**З паведамлення
Вярхоўнага суда СССР ад 12 чэрвеня 1937 г.**

**11 чэрвеня Спецыяльная Судовая Прысутнасць Вярхоўнага Суда СССР усіх падсудных прызнала вінаватымі і пастанавіла: пазбавіць воінскіх званняў і прыгаварыць усіх да вышэйшай меры крымінальнага пакарання — расстрэлу.**

**З даведкі
Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза СССР ад 2 лютага 1957 г.**

**Справа па абвінавачванню Убарэвіча Ераніма Пятровіча перагледжана Ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР 31 студзеня 1957 года.
Прыгавор Спецыяльнай Судовай Прысутнасці Вярхоўнага Суда СССР ад 11 чэрвеня 1937 года ў адносінах Убарэвіча Е.П. па нанава адкрытых акалічнасцях адменены і справа за адсутнасцю саставу злачынства спынена.
Убарэвіч Е.П. рэабілітаваны пасмяротна.**



**Успамінае**
**«член сям'і здрадніка радзімы» Уладзіміра Еранімаўна Убарэвіч (Бароўская)**

— Вы нават уявіць не можаце, якія яны былі цудоўныя людзі, татавы сябры! Пасля грамадзянскай прайшло ўжо 15 гадоў, усе выраслі — сталі адукаваныя, інтэлігентныя, падцягнутыя. Любы непрыгожы стаў такім прыгожым. Перад Тухачэўскім жанчыны штабялямі клаліся. Што смяецеся — пра гэта не пішуць?

Мы сядзім на кухні старога маскоўскага дома, рухавая, поўная задорнай энергіі («Бацькі так хлопчыка чакалі — а нарадзілася дзеўка. Ну, дык хоць назвалі Уладзімірай. І то добра — сябры татавы прапаноўвалі «Пушка» (гармата) — уяўляеце!») гаспадыня частуе чаем з варэннем, расказвае.

— Маці па тэлефоне знаёмыя паведамілі, што бацька са Смаленска прыязджае 30 мая. І яна пабегла на вакзал. Падыходзячы да вагона, убачыла, што ўсюды стаяць работнікі НКВД. Яна раптам адштурхнула вартавога і ўскочыла ў вагон. Бацька ішоў насустрач, у цывільным, вельмі

бледны. Маці крыкнула: «Еранімус!» Бацька толькі паспеў сказаць: «Не хвалюйся, Нінок, усё павінна ўладкавацца», як іх расцягнулі ў розныя купэ і зачынілі...

— Што было потым з Еранімам Пятровічам, уся краіна даведалася праз дванаццаць дзён з газет: «суд», прыгавор і яго выкананне адбыліся ў адзін дзень... Вас арыштавалі адразу?

— Праз тры месяцы. 5 верасня ў двор, дзе мы жылі, увайшоў чалавек у форме НКВД. Матуля пабачыла і адразу сказала: «Гэта па мяне». Складваючы рэчы, непрыкметна паклала ў мой туфлік маленькі бацькаў фотаздымак...

Мяне прывезлі ў дзетпрыёмнік. Там я сустрэла сваіх сяброў: Вету Гамарнік, Святлану Тухачэўскую, Славу Фельдмана... Нахлусілі, што павязуць да матак, і адправілі на Урал, у дзетдом.

Выйшла адтуль, калі пачалася вайна. Паступіла ў Свярдлоўскі архітэктурны інстытут, яго перавялі ў Ташкент. Там пашанцавала: мяне ўзяла жыць да сябе маміна прыяцелька Алена Сяргееўна Булгакава.

— Не пабаялася прытуліць дачку «ворага народа»?

— Адчайная была — нездарма ж яе Булгакаў пакахаў! Яна казала, што я да яе прыйшла, як Ларыёсік (з «Дзён Турбіных», ён прыходзіць у сям'ю ў разгар грамадзянскай вайны). Але я вельмі хвалявалася: маё прозвішча само па сабе як абвінавачанне, а жыву ўжо чатыры месяцы без прапіскі. Алена Сяргееўна пайшла да Мікалая Ціханава прасіць за мяне — рызыкавала! — і той падпісаў дазвол. У Ташкенце я прачытала рукапіс «Майстра і Маргарыты», іншыя творы Міхаіла Булгакава. Была там і адна ганебная рэч, «Батум» — Сталіным ён, бачыце, натхніўся...

— У Маскву Вы вярнуліся разам?

— Не. У 1944 мяне арыштавалі і прывезлі на Лубянку. Узялі таксама Свету Тухачэўскую, Пецю Якіра, Вету Гамарнік — хацелі зрабіць групавую «справу дзяцей», быццам мы збіраліся адпомсціць за бацькоў. Але не ўдалося — мы доўга не сустракаліся, не перапісваліся. Далі ўсяго па 5 гадоў, і я трапіла на Пячору. Няма гора без дабра — пасля вызвалення выйшла там замуж.

— За каго?

— За вельмі харошага чалавека. У 1948 годзе ў Маскву прыязджалі Рузвельт і Чэрчыль, і Гаспадар вырашыў наладзіць у іх гонар раскошны парад. Сабралі студэнтаў, інжынераў у лагер пад Масквой і два месяцы адкармлівалі. А потым яны прайшлі, здаровыя, загарэлыя, са сцягамі ў калонах, каля трыбуны Маўзалея. Пасля парада муж расказваў: так

блізка ішлі, можна было стрэліць. А яго брат заявіў: я б абавязкова стрэліў. Нехта данёс, і яны атрымалі па 25 гадоў. Я паабяцала, што пачакаю яго вызвалення.

— 25 год?!

— Я думала, што Ён столькі не пражыве. Здохне.

— Я чытаў Вашы цікавыя ўспаміны пра бацьку ў зборніку і шкадаваў, што Вы так мала напісалі.

— Я спачатку наогул адмаўлялася пісаць — не ўмею. Тады рэдактар кажа: я за Вас напішу. Прыйшоў, пачаў чытаць. Быццам мае бацькі збіралі вакол сябе дзяцей, успаміналі подзвігі і спявалі «По долинам и по взгорьям». Я сказала рэдактару: вы маіх бацькоў павідлам абмазалі. Ды бацька любіў «Тры мушкецёры», з асалодай чытаў мне ўголас! Так, я ведала, разумела, што бацька — удзельнік грамадзянскай вайны, ганарылася ім, але ніхто спецыяльна не падкрэсліваў заслуг. Я нават не здагадвалася, што «Штурмовые ночи Спаска» — гэта пра яго.

Бачу, трэба самой пісаць. Але як? І вось ці то Ліля Юр’еўна Брык (таксама маміна знаёмая), ці Алена Сяргееўна мне параілі пісаць пісьмы і ў іх усё расказваць. І я напісала 14 пісем Булгакавай. Потым мы сабраліся, яна выбрала ўсё, на яе думку, вартае і папрасіла яшчэ дапісаць тое-сёе.

— Што іменна?

— Аб людзях, якія мне дапамагалі. Колькі іх было! Дзякуючы ім я засталася аптымісткай, нягледзячы на ўсё, захавала веру і душу. Наліць яшчэ чаю?

— Дзякуй, Уладзіміра Еранімаўна. Варэнне ў Вас смачнае, першы раз каштую такое.

— Фейхоа, любімае варэнне таварыша Сталіна. Што гэта Вы закашляліся?..

## Аляксандр Чарвякоў

**«Звязда», 18 чэрвеня 1937 года**
**Хроніка**
**Старшыня ЦВК Беларускай ССР А.Р. Чарвякоў 16-га чэрвеня пакончыў жыццё самагубствам на асабістай сямейнай глебе.**

**З пратакола**
**пасяджэння мандатнай камісіі XVI з'езда КП(б)Б ад 16 чэрвеня 1937 года**

**...Ануліраваць мандат №308, выдадзены Чарвякову — ворагу народа, які пакончыў самагубствам,**

**З пісьма**
**А.Р. Чарвякова XVI з'езду КП(б)Б***

**Я выступіў на з'ездзе сумленна і адкрыта. Нічога я не хаваў, бо ў мяне няма чаго хаваць. Нікога ніколі я не арганізоўваў супраць партыі, супраць Савецкай дзяржавы.**
**Усе ад мяне адвярнуліся. Мне кідаюць самыя недарэчныя абвінавачанні ў двурушніцтве. Паверце — шлях работы ў БССР быў складаны, цяжкі, але гэты шлях я ішоў толькі ў імя партыі Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам партыі і яе ЦК. Я пакідаю жыццё з імем партыі і правадыра таварыша Сталіна ў сэрцы. Я пакідаю жыццё, праклінаючы ўсіх ворагаў народа, я праклінаю беларускіх фашыстаў, агентаў польскага імперыялізму.**
**Я ведаю, што здзяйсняю страшэннае злачынства, але прашу не змешваць мяне з ворагамі народа.**
**Бывайце, таварышы.**

**Успамінае**
**«член сям'і здрадніка радзімы» Соф'я Аляксандраўна Чарвякова**

— 15 чэрвеня 1937 года памятаю да дробязей... Пасля прыезду бацькі са з'езда мы ляжалі з ім у садзе ў траве. Маці сеяла цімафееўку, высокая ў той год вырасла. Я толькі прыехала на студэнцкія канікулы і даведа-

* Пісьмо абвешчана не было. Арыгінал не знойдзены. Цытуецца па копіі.



лася, што арыштавалі наркама земляробства Бенека. А я сябравала з яго сынам Альфрэдам.

— Тата, а Фрэдзік ведаў, што яго бацька — вораг? У самой мяне сумненняў не было: дарма не арыштуюць.

— Звычайна такія людзі не пасвячаюць дзяцей у свае справы...

Мы паляжалі моўчкі. Раптам бацька загаварыў:

— Дачка, што б са мной ні здарылася, ведай: я працаваў чэсна...

Успамінаючы тую размову больш чым праз 50 гадоў, Соф'я Аляксандраўна заплакала. Папрасіла прабачэння, выйшла з пакоя. Вярнулася.

— Гэта была Ваша апошняя размова з бацькам?

— Ён не спаў амаль усю ноч. Раніцай, перад ад'ездам у горад, на з'езд, неяк незвычайна стаў развітвацца, пацалаваў маці. Вечарам мы збіраліся ў Маскву, маці здзівілася і спытала, хіба ён не праводзіць нас.

— Усё можа здарыцца.

Потым абняў мяне, пацалаваў і сказаў маёй сяброўцы, якая начавала ў нас: «Не пакідайце іх». Сеў у машыну, стукнулі дзверцы. Больш мы яго жывым не бачылі.

— А як Вы даведаліся?..

— Пасля абеду адправіліся на гарадскую кватэру, маці першая, я пазней. Заходжу — уся кватэра ў сініх фуражках. У бацькавым кабінеце вобыск, шукаюць нейкае пісьмо. Маці я не ўбачыла, яна ляжала ў суседнім пакоі. Ніхто не гаворыць толкам, дзе бацька: на дачы, ва ўніверсітэцкім гарадку — з сэрцам дрэнна...

— Ён арыштаваны?! Пасля паўзы нехта адказвае:

— Магу цвёрда вам сказаць: не.

Як высветлілася крыху пазней, гэта была праўда.

— Калі пахавалі Аляксандра Рыгоравіча?

— Праз дзень. Труна стаяла ў прафсаюзным клубе, недалёка ад цяперашняга музея вайны. Але мяне туды не пусцілі, з маці было дрэнна. У дзень пахавання нас пасадзілі ў машыну, труну паставілі на грузавік, засланы дыванам, і паехалі на ваенныя могілкі на Даўгабродскую. Як толькі мы ўвайшлі на могілкі, вароты за намі зачынілі і нікога не пускалі. Але напор людзей быў такі, што разламалі вароты, агароджу. Ні аркестра, ні прамоў. Знялі вечка — бацька ляжаў у бэжавым касцюме ў палоску і касаваротцы, якую я вышывала. Твар спакойны, чысты — стрэл быў у сэрца.

Я пастаралася запомніць месца: тры высокія таполі, від на царкву і галоўны ўваход. Вечарам мы з маці паехалі ў Маскву.

— Ваша блуканне па пакутах толькі пачыналася?

— Праз дзесяць дзён пасля смерці бацькі, 26 чэрвеня, у дзве гадзіны ночы ў дзверы пазванілі. Увайшлі два энкавэдзісты, з імі жанчына, таксама ў форме. Яна была ў пакоі, пакуль мы апраналіся. Маці яны забралі з сабой...

У верасні пачаліся заняткі ў інстытуце. Мяне выклікалі ў камітэт камсамола і прапанавалі адмовіцца ад бацькоў, калі хачу захаваць камсамольскі білет. Тады многія адмаўляліся: жонкі ад мужоў, дзеці ад бацькоў, брат ад брата...

Я паклала свой білет на стол. Хутка з’явіўся загад аб маім выключэнні з інстытута «за непаспяховасць»...

Потым нас з Валяй Галадзед выслалі ў Яраслаўль, а затым, пасля вайны ўжо, мяне ў Казахстан. Пасля туды прыехала і маці. Куды толькі я не пісала просьбы разабрацца — усё дарэмна. У пачатку 50-х напісала Берыю і Варашылаву. Выклікаюць у НКВД, паказваюць маё пісьмо да Берыі: размашыстая, на ўсю старонку рэзалюцыя алоўкам: «Адмовіць». Затым прыйшоў адказ з Вярхоўнага Савета — высылку знялі...

Цяжка жылося. Я працавала ў арцелі, туліліся з маці і дзіцём у нейкім хляве. Аднойчы выклікаюць у гарсавет, паказваюць пісьмо з Вярхоўнага Савета БССР: у вас у горадзе жыве сям'я былога старшыні ЦВК Беларусі, дапамажыце ім з камунальнымі ўмовамі. Нам далі кватэру.

— Калі Вы вярнуліся ў Мінск?

— У 1964 прыехала ўпершыню і адразу пайшла на Даўгабродскую. Бацькавай магілы не было, не было і трох дрэў. Потым я заўважыла два пні і адно дрэва. Прыкінула від на царкву, на цэнтральны ўваход — выходзіць, што на месцы магілы расце вялікі бэзавы куст. Звярнулася да вартаўніка. Вярнуліся да бэзу, рассунулі веткі — у сярэдзіне стаяў невялікі жалезны помнік. Усе гэтыя гады вартаўнік адзначаў месца пахавання. Я пазваніла Пятру Міронавічу Машэраву. Праз дзень бэзу не стала, магілу аднавілі...

— Што пасля смерці бацькі было для Вас самым цяжкім у тыя гады?

— Адкрыты працэс «праватрацкісцкага блока». У Маскве мы жылі ў адным доме з Валяй Галадзед, і я якраз зайшла да яе, калі па радыё пачалася трансляцыя допыту. Сведчанні даваў Шаранговіч. Ён гаварыў нешта жахлівае аб падпольным антысавецкім цэнтры змоўшчыкаў, якімі ўзначальвалі шпіёны і нацыянал-фашысты Галадзед і Чарвякоў, аб іх падрыўной варожай рабоце, дыверсіях. Абняўшыся, я плакала з Валяй наўзрыд, да істэрыкі. Усяго паўгода назад мы згубілі бацькоў, і чуць такое было невыносна...

Так, я разумею, яго прымусілі. Можа, катавалі. Але тых слоў не дарую, пакуль буду жыць. Не змагу. Ніколі.

## Мікалай Галадзед

**З пратакола**
**мандатнай камісіі XVI з’езда КП(б)Б ад 15 чэрвеня 1937 года**

**...Выключыць са спісу дэлегатаў Галадзеда як арыштаванага ворага народа.**

**З даведкі**
**Галоўнай ваеннай пракуратуры па архіўна-следчых матэрыялах ад 12 лістапада 1955 года**

**...У кантрольна-наглядной справе на Галадзеда ёсць адносіна 1-га спецаддзела МУС БССР, у якой указана, што Галадзед 14 чэрвеня 1937 года быў этапіраваны ў гор. Мінск і 21 чэрвеня выкінуўся з будынка МУС цераз акно пятага паверха і разбіўся, не даўшы ніякіх паказанняў.**

**З успамінаў**
**былога кансультанта паліклінікі МУС прафесара М. Шапіры**

**«...Мне вельмі цяжка ўспамінаць аб усіх дэталях майго знаходжання летам 1937 года ў будынку МУС, куды я быў пакліканы на кансультацыю да таварыша Галадзеда. Унізе сказалі, што трэба падняцца на другі паверх, у кабінет да аднаго з супрацоўнікаў. У кабінеце на кушэтцы ляжаў таварыш Галадзед у надзвычай цяжкім, перадсмяротным стане. Ён толькі слаба дыхаў, ні на што не рэагаваў і нічога не гаварыў.**
**Мой агляд даў наступнае: ніякіх слядоў вонкавых пашкоджанняў я не знайшоў — ні пераломаў канечнасцей, пазваночніка або чэрапа. Стан хворага сведчыў альбо аб інфаркце, інсульце, унутрычэрапным кровазліцці, якія вядуць за сабою хуткую смерць.**
**Намі была зроблена спроба штучным дыханнем вярнуць т. Галадзеду хоць бы часова свядомасць, але яна нічога не дала. Праз кароткі час наступіла смерць.**
**Ніякага запісу ніхто не вёў, але ўзялі слова, што, калі каму-небудзь скажам аб гэтым, нам не паздаровіцца. Але калі назаўтра па гораду пайшлі чуткі, што Галадзед выкінуўся з акна трэцяга паверха — я не мог з гэтым пагадзіцца.**



**Успамінае «член сям’і здрадніка радзімы» Валянціна Мікалаеўна Галадзед (Белякова)**

— Што бацька пакончыў з сабой — ні я, ні маці ніколі не верылі. Ён быў чалавекам надзвычайнай асабістай храбрасці. Адзін мог пайсці на перагаворы з бандай, не пабаяўся выступіць супраць Малянкова, калі той граміў беларускую партарганізацыю. Ведаеце, ён бы ніколі нічога супраць сваёй волі не падпісаў. Таму і забілі.

— Вы не дапускаеце, што самазабойства — гэта акт не бяссілля, а, наадварот, сілы? Такі выхад выбралі Томскі, Гамарнік, Чарвякоў — гэта быў мужны крок.

— Яны былі на волі — вялікая розніца...

— А што здарылася з Вамі потым?

— Я нічога не ведала. Маці заставалася ў Маскве, у тым самым вядомым доме на набярэжнай, па вуліцы Серафімовіча, 2, дзе арыштавалі бацьку. А я з цёткай была дома ў Мінску. Ноччу стук у дзверы — заходзяць чалавек 5–7, аднаго я пазнала — Далгіх з НКВД. Прад’явілі ордэр і пачалі вобыск. Забралі імянную зброю. Ірвалі фотакарткі, некаторыя забіралі — бацька ўдзельнічаў у многіх з’ездах, меў шмат знаёмых — вядомых людзей, разам фатаграфаваліся.

Мяне трасло як у ліхаманцы. Мы зразумелі, што нешта здарылася. Ужо Чарвякова пахавалі, на нашых вачах, мы жылі ў адным доме. Назаўтра цётка пасадзіла мяне на цягнік і тэрмінова адправіла ў Маскву. Там маці мне ўсё расказала.

— Яе не чапалі?

— Маці вырашыла паехаць у Мінск па нашы рэчы — жыць неяк трэба было. Выклікала сваю сястру, аддала ёй майго малога брата Лёшу — як

аказалася, назаўсёды — і паехала. Не паспела ўвайсці ў кватэру, як яе арыштавалі і кінулі ў адзіночку. Абвінаваціць ні ў чым не маглі і трымалі ў адзіночцы чатыры месяцы. Яна страшна рыдала, у адчаі білася галавой аб сценку. Потым перавялі ў агульную камеру, пасядзела разам з жонкамі беларускіх наркамаў яшчэ два месяцы, і іх размеркавалі па лагерах. Маці трапіла ў Акмолінск.

— А Вы?

— Жыла ў Маскве. Перасялілі, праўда, у агульную кватэру, як і Чарвяковых, дарэчы. У доме кожны дзень каго-небудзь арыштоўвалі. Мая сяброўка Ядзя Жаброўская (яе бацька калісьці працаваў сакратаром ЦК КП(б)Б), неяк сказала: «А мая мама невінаватая, яе не ўзялі». Я кажу: і мая невінаватая. Назаўтра яе маці арыштавалі, і яна прайшла ўсё кола...

У верасні пайшла ў 12-ю школу, за Траццякоўскай галерэяй. Аднакласнікі і настаўнікі адносіліся да мяне цудоўна! Толькі гісторык пяцёрку не ставіў — нельга было... Аднойчы прыходзіць Зося Чарвякова: яе выклікаў камендант і параіў усім нам у тры дні выехаць. Я кінулася да сваякоў у Серпухаў. Цётка вывела мяне на вуліцу. «Ну што ты сюды паедзеш, пад голае неба не выселяць. Едзь назад». Мінула тры дні. Званок. Уваходзяць пяць энкавэдзістаў: вы высяляецеся з Масквы, вось спіс гарадоў, выбірайце.

Што я ведала пра жыццё — адно імя Сталіна. І выбрала Сталінград. Прыбягае Чарвякова: куды? Давай разам!

Мы ўжо далі падпіскі, ідзём па лесвіцы, спыняе нас незнаёмая жанчына, пытаецца, куды паедзем.

Сказалі. Яна: «Вы з глузду з'ехалі! Вам вучыцца трэба, сувязь з Масквой трымаць. Бяжыце тэрмінова перапішыцеся на Яраслаўль, пакуль яны яшчэ ходзяць па дому».

— Гэта вырашыла Ваш лёс?

— Так. З намі яшчэ паехала адна дзяўчына, Міра Меерзон, яе бацькі ў ЦК да арышту працавалі, сваякі адмовіліся. У Яраслаўлі з'явіліся ў «шэры дом». Супрацоўнік, Антонаў яго прозвішча, выдаў нам белыя білеты — кожныя 12 дзён адзначацца. Мы спыталі, дзе ж нам жыць. Ух, і пачаў ён гарлаць: «Якая нам справа! Вашы бацькі ведалі, што рабілі! Вы дзеці ворагаў!..»

Вярнуліся на вакзал, плачам, у сястры Чарвяковай немаўля, перапавіць трэба. Тут жа нас і абакралі — зусім канец. І раптам падыходзіць жанчына, Ксенія Ціханаўна Утачкіна: не плачце, магу вам здаць жыллё. У яе карова была, агарод, яна нам граду адвяла. Яна разумела наша гора

— у самой муж-чыгуначнік трапіў у «працэнт», г.зн. пайшоў па 58 артыкулу.

Пайшла ў 9 клас. Да гонару яраслаўскіх настаўнікаў, адносіліся яны да нас з душэўным клопатам.

Пачалася вайна — пайшла ў шпіталь. Спачатку прытомнасць траціла, як раненых з грузавікоў здымалі, а потым змусіла сябе. Былі, вядома, у нас і сябры. Замуж я выйшла ў 1941-м — у дзень адпраўкі майго Колі на фронт распісаліся. І ён вярнуўся, і ўдзельнічаў у Парадзе Перамогі.

— Вы падтрымлівалі сувязь з маці?

— Мы доўга нічога не ведалі, але дзякуй добрым людзям, яны дапамаглі нам адшукаць адна адну. Сустракаліся цудоўныя людзі: Міхаіл Іванавіч Мароз з жонкай, мамінай сястрой, нават ездзіў наведваць яе ў ссылку — гэта подзвіг у той час. У 1944 годзе мама вярнулася, прыехала да мяне — і больш мы не расставаліся да яе смерці.

— Валянціна Мікалаеўна, Вы ўвесь час гаворыце аб добрых людзях. Чаму не аб дрэнных?

— Мяне выратавалі добрыя людзі. Ужо мама жыла з намі, як мяне выклікалі ў «шэры дом», забралі пашпарт і далі тры дні на зборы — высылка. Я была ў адчаі: кінуць дом, дачку, мужа, маці?! Даведаліся калегі — я працавала ўжо настаўніцай — і пайшлі прасіць. Дырэктар школы напісаў вельмі добрую характарыстыку, загадчыца райана Алена Аляксандраўна Кузняцова падтрымала, кіраўнікі аблана Абарыкаў і Шулепіна пайшлі ў абкам да сакратара. Муж паехаў у Маскву з усімі дакументамі. Я сядзела дома, як выклікалі ў «шэры дом» другі раз. Прыходжу — вяртаюць дакументы і... пацiскаюць руку: як мы рады! І сярод іх былі людзі, не ўсе звяры...

— Вы пісалі калі-небудзь Сталіну?

— Дзясяткі разоў! Гэта ж яго фраза: дзеці за бацькоў не адказваюць. А мы адказалі. Але я і сёння скажу: было шчасцем нарадзіцца ў такой сям'і, як наша. Дзяцінства маё было зусім не прывілеяванае: мама марыла вучыць мяне музыцы, але купіць піяніна мы не маглі — партмаксімум быў вельмі сціплы. Я марыла хадзіць у белай спадніцы, сацінавай сарочцы і тапачках прарызіненых. Але галоўнае — дух сям'і... Калі бываю на могілках, часта да мамінага помніка падыходзяць людзі: «Ой, мы з вуліцы Галадзеда. Гэта ў гонар Веры Сцяпанаўны названа?»

— Яе мужа.

— А дзе ж ён пахаваны?

Колькі разоў задавалі мне гэта пытанне, на якое не маю адказу...

## Васіль Шаранговіч

**З прыгавору**
**Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза ССР ад 13 сакавіка 1938 года**

**...12. Шаранговіча Васіля Фаміча да вышэйшай меры крымінальнага пакарання — расстрэлу, з канфіскацыяй усёй асабіста належачай маёмасці.**

**З даведкі**
**Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда СССР ад 4 студзеня 1958 года**

**Прыгавор Ваеннай Калегіі ад 13 сакавіка 1938 г. у адносінах Шаранговіча В.Ф. па нанава адкрытых акалічнасцях адменены, і справа за адсутнасцю саставу злачынства спынена.**
**Шаранговіч В.Ф. рэабілітаваны пасмяротна.**

**З рашэння**
**Камітэта партыйнага кантролю ад 19 жніўня 1958 года**

**...Рэабілітаваць у партыйных адносінах (пасмяротна) Шаранговіча В.Ф.**
**Успамінае**
**«член сям'і здрадніка радзімы»**
**Віктар Васільевіч Чарных (прыёмны сын Шаранговіча)**

— У Мінску я апошні раз быў гадоў 50 назад. 29 жніўня 1937 года нарадзілася дачка Васіля Фаміча Наташа, і мяне адправілі да бабулі ў Маскву. Да гэтага нас, зразумела, выселілі з кватэры, якую мы займалі, калі Васіль Фаміч быў першым сакратаром, не дазволілі нават забраць рэчы. На школьных канікулах у пачатку 1938 года мы з бабуляй паехалі ў Мінск праведаць маму. І якраз у гэты дзень яе выклікалі ў НКВД — яна ўсё пісьмы слала Яжову. Ужо вечар, сцямнела — няма мамы. Нарэшце ў гадзіну ночы дзверы расчыняюцца — і ўваходзяць работнікі НКВД. Яны прапанавалі адправіць мяне з Наташай у спецпрыёмнік. Але бабуля неяк упрасіла адпусціць нас у Маскву...

Мой субяседнік то ходзіць з кута ў кут, то раптам садзіцца за стол у сваім кабінеце на сёмым паверсе высотнага гмаха, дзе размясцілася адразу некалькі саюзных міністэрстваў. За акном унізе ледзь чутна



шуміць Калінінскі праспект, рознакаляровыя тэлефоны маўчаць, я працягваю запісваць.

— Мы жылі ў камунальнай кватэры на 8 сем'яў. Усе, канечне, ведалі, што ў нас здарылася, і ставіліся дружалюбна. Аднойчы, гэта было ў канцы лютага, я сядзеў у сябе ў пакоі, як пачуў крык: «Віця! Цябе следчы Васіля Фаміча кліча да тэлефона!» Уся кватэра заціхла. Я кінуўся ў калідор, падскочыў да апарата:

— Алё! Алё! Слухаю!.. У адказ — цішыня.

Я адчуваў, што трубка з таго боку жывая. Аднак — ніводнага слова, нічога. Абсалютна.

— Алё!

І — кароткія гудкі. Я потым так шкадаваў, што не здагадаўся сам нічога расказаць...

— Гэта вядомы метад ціску на арыштаванага. Логіка простая: бачыш, з блізкімі ўсё ў парадку, яны на волі. Будзеш паслухмяны — нічога з імі не здарыцца. Тое ж самае рабілі і з першым сакратаром ЦК Кампартыі Узбекістана Акмалем Ікрамавым, які праходзіў па аднаму працэсу з Шаранговічам. Мне расказваў яго сын, Каміл Ікрамаў, цяпер вядомы пісьменнік, а тады — пяцігадовы хлопчык, што да іх дамоў час ад часу прыходзілі здаравенныя дзядзькі, прасілі яго пакласці далонь на ліст паперы

і абвесці яе. Лісток бралі з сабой, каб паказаць бацьку, маўляў, з сынам усё добра. А ў Вашым выпадку высокакваліфікаваны следчы, відаць, разумеў, што можна рызыкнуць звязацца па тэлефоне. Ясна, што дзевяцігадовы субяседнік не з'арыентуецца, калі на другім канцы дроту загадана маўчаць, і нічога не скажа, напрыклад, пра арыштаваную маці.

— Усяго маці правяла ў лагерах 15 гадоў. У 1945 яе выпусцілі, яна ўладкавалася ў школу, выкладала літаратуру, нават завучам стала. А ў снежні 1949-га, у гонар 70-годдзя таварыша Сталіна, яе зноў арыштавалі. Паўгода трымалі ва Уладзімірскай турме, потым новы прысуд: 10 гадоў ссылкі. Дзіўна на фоне ўсёй беззаконнасці, але факт: у 1956 годзе, пасля вызвалення, ёй вярнулі 70 рублёў, адабраныя ў час арышту.

— Вы верылі ў аднаўленне справядлівасці?

— Не ведаю... Я памятаю жахлівае ўражанне ад кнігі Сайруса Кона «Тайная вайна супраць Савецкай Расіі». Гэта быў голас з-за рубяжа — і ён прыводзіў тыя ж факты, што і на працэсе! Я не разумеў, што і думаць...

У анкетах я не пісаў нічога пра Шаранговіча — прозвішчы розныя. І так паступіў у МВТВ імя Баўмана. Вучыўся добра, і ў 1949 годзе мяне вырашылі перавесці на новы факультэт. Я адразу ўцяміў, што там прападу: капнуць глыбей і высветляць, што сын расстралянага шпіёна пралез да сакрэтаў. І сам усё напісаў. Мяне пакінулі на зварачным факультэце.

Маці пасля вызвалення шмат хадайнічала аб рэабілітацыі Васіля Фаміча, хоць гэта было няпроста. Яны нават не былі зарэгістраваны, і ёй праз суд давялося даказваць шлюбныя адносіны. І да апошняга часу (яна памерла ў пачатку 1987 года) маці некуды хадзіла, сустракалася з такімі ж, як сама, нешта абмяркоўвалі. А я быў, праўду кажучы, убаку ад ўсяго гэтага.

Нядаўна атрымаў пісьмо з Мядзеля, там школьны музей просіць дапамагчы з экспанатамі пра Васіля Фаміча. Але ў нас, здаецца, нічога няма...

— Прыязджайце ў Мінск, Віктар Васільевіч. Пакажам Вам вуліцу Шаранговіча, на Мядзельшчыну з'ездзіце, нарачанскі край пагледзіце, у музей зойдзеце.

— Дзякуй. Не ведаю, ці варта ўсё зноў варушыць. Надумаюся — пазваню.

Пакуль мой тэлефон маўчыць.

*1988*

# Прысвячэнне
## Замест пасляслоўя

Праз чвэрць стагоддзя пасля напісання хацелася б, натуральна, нешта паправіць — напрыклад, канчаткі.

Хацелася б пісаць не «ў СССР», а «ў СССРы» ці нават «у Эсэсэсэры», бо савецкія абрэвіятуры страцілі дыскрэтнасць, склеіліся, спякліся, як спякаецца кроў: эрэсдээрпэбы, капэбэбы ці капэбабы, цэкі, цакі ды іншая го-ца-ца.

Хацелася б замяніць вялікія літары на менш вялікія: не «Сталін», а «сталін», не «Шаранговіч», а «шаранговіч» — так, па-мойму, больш карэктна. І страшней, бо дакладней.

Хацелася б абысціся без косак у фразе пра катаў, якія станавіліся ахвярамі: гэта ні ў чым нідзе ніяк ніколі нікога не апраўдвае. Нават пасмяротна.

Хацелася б дадаць яшчэ адзін тытул да мноства, якія меў брытанскі прэм’ер-міністр Уінстан Чэрчыль. Ён атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры за мемуары, у якіх, ужо пасля вайны, пісаў пра сваё захапленне майстэрствам пракурора Вышынскага на перадваенных працэсах — лох. І не ён адзін.

Хацелася б прачытаць сапраўдную біяграфію Янкі Купалы, якую маглі б напісаць яго сучаснікі Франц Кафка, Джордж Оруэл, Кнут Гамсун, Міхаіл Булгакаў, Андрэй Платонаў ці Марына Цвятаева. Альбо сам Іван Луцэвіч.

І трэба знайсці словы замест звычайнага «дзякуй» аўтару прадмовы, які ўключыў яе ў свой апошні прыжыццёвы збор твораў, том 6, ст. 455, адразу пасля эсэ пра светлага свайго сябра Алеся Адамовіча і перад прадмовай да легендарнай публікацыі Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці». Можа, вось такія:

«Прысвячаецца св. памяці Васілю Быкаву».

*Прасядзеўшы ў адзіночнай камеры 10 сутак,*
*вельмі многае ўсплыло ў памяці,*
*чаго за кіпучай чэкісцкай работай,*
*магчыма, і не ўзгадаў бы.*

З турэмнага ліста начальніка
4 сакрэтна-палітычнага аддзела НКВД БССР
Васіля Ермалаева ў ЦК КП(б)Б

# Рэабілітацыя катаў
Замест прадмовы

*3 лютага 1993 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі аднавіў у правах Камуністычную партыю.**

Мы зноў засталіся з нашымі мёртвымі сам-насам.

Як цяпер ісці ў Курапаты, што казаць нашым дзядам, якія ляжаць пад сонамі? Як растлумачыць, чаму вернутая з небыцця партыя-вампір, ненажэрная людаедская банда, што дзесяцігоддзямі гвалтавала беларускі народ, ірвала на кавалкі ягоныя землі і прадавала іншаземным дзяржавам, таптала мову і паліла кнігі, душыла лепшых сыноў і дачок і тысячамі клала ў вялікія і малыя Курапаты, на тры гады кінула ў акупацыю, а потым працягнула гэтую акупацыю сама, пасыпаўшы на развітанне радыёактыўным попелам ды подла схаваўшы сваё чарнобыльскае злачынства ад людзей?..

188 дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэанімавалі КПСС-КПБ. Апроч партыйных сакратароў, сярод іх ёсць навукоўцы і настаўнікі, генералы і дырэктары... Страхавітаму камуністычнаму Вію паднялі павекі — і быццам нічога, ніхто не знерухомеў. Зараз хутка знойдуцца спецыялісты паразважаць, што аднаўленне дзейнасці КПСС-КПБ нічога не мяняе ў Беларусі.

Гэта не так. Роспуск кампартыі ў жніўні 1991 года — адзіны, першы і апошні акт хаця б умоўнай справядлівасці. Ніхто не панёс пакарання асабіста. Усё, абсалютна ўсё сышло з рук. І таму пастанова, прынятая парламентам 3 лютага — не толькі сорам на ўвесь свет. Гэта, найперш, трыумф катаў і абраза мільёнаў ахвяраў — і тых, хто ўжо ляжыць у зямлі, і тых, хто, як дзеці Чарнобыля, туды заўчасна пойдзе.

Нашы мёртвыя цяпер могуць пакінуць нас, бо мы не абаранілі іх ад пасмяротнае знявагі. І тады гэта знак непапраўнае бяды. Бо так, без памяці, без аховы продкаў загінем, сыдзем у нябыт з карты Еўропы, і толькі кампартыйныя пацукі будуць лётаць ненажэрнымі зграямі па чарнобыльскіх абшарах таго, што некалі звалася Беларуссяй.

---

* Радыё Свабода, 4 лютага 1993 г.

# Адзін дзень Макара Гарбачэўскага

Беларуская гістарыяграфія ведае трох Гарбачэўскіх — дзекабрыста, этнографа, тэолага. Сын селяніна з Віцебшчыны Макар Давыдавіч Гарбачэўскі ў энцыклапедыі, падручнікі і манаграфіі даследнікаў не патрапіў, хоць без вывучэння ягонага і падобных жыццяў наўрад ці можна зразумець і вытлумачыць гісторыю XX стагоддзя — гісторыю, якая яшчэ не стала мінулым.

## 1961. «Мне вельмі балюча перажываць няпраўду»

Тоўсты яшчэ нядаўна блакнот паменшаў у аб'ёме. Ён спецыяльна выбраў такі фармат, каб капірка ўкладвалася акурат на ўсю велічыню, а разлінаваныя старонкі трымаліся на перфарацыі. Аркуш лёгка вырываўся, складваўся напалам, потым яшчэ раз напалам і якраз змяшчаўся ў стандартны канверт. Ён прывык да парадку ў паперах і звычак не мяняў: усё павінна быць у двух экзэмплярах, каб потым, у выпадку чаго, можна было давесці свой пункт гледжання і пазбегнуць магчымых няправільных тлумачэнняў і скажэнняў. Памяць — рэч ненадзейная, а паперка есці не просіць. За сваё добрае імя ён будзе змагацца да канца — ён ні ў чым не вінаваты, і справядлівасць пераможа, трэба толькі не губляць духу і верыць. Так ён выхаваны, так заўсёды змагаўся і будзе змагацца.

Справа была сур'ёзная: пакрыўдзілі не абы-каго, а члена партыі з 1929 года, удзельніка вайны, узнагароджанага ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай Вайны 1 ступені, Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, мноствам медалёў. Колькі перажыта, пабачана, зроблена! Ён абмакнуў пяро і, адступіўшы ад краю роўна столькі, каб можна было прабіць лісты дзіраколам і падшыць (у тым, што ўсе ягоныя лісты будуць сабраныя ў адну персанальную справу, не было сумневу), вывеў пасаду і імя адрасата: «Сакратару Цэнтральнага Камітэта Беларусі тав. П.М. Машэраву». Ад хвалявання ён прапусціў словы «камуністычнай партыі», але выйшла нават больш дакладна — першы сакратар кіраваў усёй Беларуссяй.

**30 сакавіка 1961 года Берасцейскі абкам партыі зацвердзіў пастанову гаркама аб выключэнні мяне з партыі. Я лічу, што гэта несправядліва, такога пакарання я не заслугоўваю, каб пазбавіць мяне партыі на 31-м годзе знаходжання ў яе шэрагах у той час, калі ўсё сваё жыццё, не шкадуючы сіл і жыцця, аддаў для партыі і Радзімы. Мне вельмі балюча, калі я бачу і перажываю за няпраўду... У 1941 годзе, у першыя дні Айчыннай вайны, паводле задання партыйных органаў і Міністэрства, ствараў на тэрыторыі Пінскай вобласці баявыя партызанскія групы, якія пакідаліся ў тыле праціўніка для работы. У прыватнасці, мною была створаная і група пад кіраўніцтвам Каржа Васіля (потым — Герой Савецкага Саюза)... З ліку супрацоўнікаў і затрыманых байцоў, якія ўцякалі з перадавой ад Берасця, стварыў падраздзяленне для знішчэння дробных групаў праціўніка ў раёне Століна. Уступіў у бой з фашыстамі, дзе былі падбітыя танкі і ўзятыя ў палон нямецкія афіцэры. Працаваў па спецыяльным заданні на перадавых пазіцыях нашых войскаў. Пасля вайны на працягу амаль двух гадоў удзельнічаў у разгроме ўзброеных бандаў нацыяналістычнага падполля ў Гарадзенскай вобласці. Асабіста захапіў узброенага важака банды «Квят» і іншых, за што абвешчаная падзяка з выдачай узнагароджання. Усе іншыя факты пералічыць не ўяўляецца магчымым...**

Ліст ён скончыў просьбай выклікаць яго на гутарку і падпісаўся: Гарбачэўскі Макар Давыдавіч, зваротны адрас — Берасце, вуліца, дом, кватэра.

Аднак яшчэ раней у партыйныя органы паступіла заява нейкага Д-на, члена партыі з 1940 года, кіраўніка аднаго з аддзелаў Берасцейскага аблвыканкама. Д-н пісаў:

**Мае асабістыя назіранні і абурэнне суседзяў ладам жыцця і паводзінамі Гарбачэўскага даюць мне поўнае права заявіць аб тым, што ён, здаровы чалавек, на працягу 5-6 гадоў нідзе не працуе, а вядзе паразіцкае жыццё. І апроч усяго, маральна разбэшчаны чалавек. Спіць ён з 8 гадзінаў раніцы да 4 гадзінаў дня, пасля чаго робіць візіт да суседкі па кватэры Тамары, муж якой, афіцэр Савецкай Арміі, служыць у Смаленскай вобласці. Пасля ён прымае ў сябе на кватэры Жэню, «сяброўку» Тамары, жонку кіраўнічага работніка, якая мае, апроч мужа, дачку. Увечары Гарбачэўскі сустракаецца паводле графіку з грамадзянкай Хоміч, муж пенсіянер,**

**і потым адпраўляецца на сустрэчу да дзвюх іншых, на жаль, не ведаю іх прозвішчаў і імёнаў. У Жэні і Хоміч з-за Гарбачэўскага ўзнік канфлікт, які дайшоў да вулічнага скандалу, у выніку Хоміч прыходзіла скардзіцца да мужа апошняй. Рэшту ночы да 7-9 гадзінаў раніцы Гарбачэўскі праводзіць за картачнай гульнёй з выпіўкай. Ён не варты не толькі высокага звання члена КПСС, але і члена нашага сацыялістычнага грамадства.**

Падмануты муж — «кіраўнічы савецкі работнік» выносіў сямейную бялізну на партыйны суд з простай прычыны: калі ён давядзе, што не вінаваты ў разводзе, яго, магчыма, не пакараюць па партыйнай лініі, не пацерпіць кар'ера. Яшчэ да звароту ў ЦК ён усё расказаў сакратару сваёй партарганізацыі. Той потым дакладаў у абкам партыі, што Д-н

**вырашыў скасаваць шлюб са сваёй жонкай, бо яна ўжо каля двух гадоў здраджвае яму і знаходзіцца ў сувязі з Гарбачэўскім, які разбівае яго сямейнае жыццё. Тав. Д-н неаднаразова гутарыў з Гарбачэўскім, каб ён не разбіваў ягонае сямейнае жыццё, спыніў сувязь з ягонай жонкай, але Гарбачэўскі не зрабіў гэтага.**

Скаргі Д-на паўплывалі на характарыстыку Гарбачэўскага. У першай, выдадзенай у будаўнічым трэсце, дзе Гарбачэўскі стаяў на партуліку, адзначалася, што ён дысцыплінаваны, добрасумленны, прачытаў калектыву лекцыю «Аб павышэнні рэвалюцыйнай пільнасці». У другой характарыстыцы, выдадзенай пазней, Гарбачэўскага называюць нясціплым, маральна няўстойлівым, адзначаюць распусны лад жыцця і інтымныя сувязі з замужнімі жанчынамі.

Лісты былі атрыманыя ў Мінску ў ЦК партыі і падшытыя ў папку з надпісам «Персанальная справа» (у Нацыянальным архіве, які ўключае і былы архіў ЦК КПБ, папка захоўваецца і дагэтуль). Справу Гарбачэўскага разглядала парткалегія КПБ — так у 1961 годзе называўся партыйны суд унутранага карыстання, які караў камуністаў за ўчынкі, не сумяшчальныя з высокім званнем партыйца. Не сумяшчалася рознае — занадта добрае веданне гісторыі і хрышчэнне дзіцяці, уласная думка аб чарговай генеральнай лініі і развод; на павальную п'янку часам глядзелі скрозь пальцы, а часам за куфаль піва гналі з пасады. У партыі існавала сістэма пакаранняў з падрабязнай градацыяй, якая ўвесь час развівалася і перабудоўвалася: звярнуць увагу, паставіць на від, папярэдзіць, потым ішла вымова, строгая вымова і вымова з занясеннем. Адзін час

практыкаваўся перавод з членаў партыі ў кандыдаты і, як вышэйшая мера, — выключэнне з шэрагаў партыі.

А як растлумачыў яшчэ таварыш Сталін, «для шараговых членаў партыі знаходжанне альбо выключэнне з партыі — гэта пытанне жыцця і смерці». Праўда, так было пры таварышы Сталіне. Пры іншых таварышах было іначай.

Нягледзячы на сакавіты партрэт нораваў эпохі, гэтую ўнутрыпартыйную перапіску можна было б і не згадваць, калі б не адна даведка, якая таксама была падшытая ў папку. У ёй паведамлялася, што Гарбачэўскі Макар Давыдавіч апошнім часам быў начальнікам улікова-архіўнай управы КГБ Берасцейскай вобласці. Загадам КГБ пры Савеце Міністраў СССР 27 снежня 1955 года звольнены з-за службовай неадпаведнасці, на ўліку асобай інспекцыі як парушальнік савецкай законнасці не значыцца. Даведку падпісаў маёр КГБ Камароў.



Такім чынам, берасцейскі Казанова быў з ліку чэкістаў... Датэрміновае спыненне службы ў 1955 годзе сведчыла, што ён патрапіў пад хвалю адлігі, калі пасля прыходу да ўлады Мікіты Хрушчова некаторых асабліва заслужаных спецыялістаў адпраўлялі на пенсію. Але пазбаўляліся далёка не ад усіх. Да таго ж, калегі Гарбачэўскага даводзілі, што савецкай законнасці той не парушаў. Тады за што звольнілі чэкіста ў росквіце сілаў (калі верыць скаргам падманутых мужоў)?..

**З АНКЕТЫ**
**члена КПСС з кастрычніка 1929 года, партбілет №05820215, Гарбачэўскага М.Д., беларуса, 1906 г. н., паходжанне — з сялянаў вёскі Багданава Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці:**

**1925-27 — працаваў на сельскай гаспадарцы ў бацькоў**
**1927-28 — тэхнічны сакратар Лёзненскага райкама партыі**



**1928-29 — курсант школы аднагадзічнікаў 3-га сапёрнага батальёна, г. Уладзімір**
**1929-30 — загадчык улікова-статыстычнага пададдзела акружкама партыі, г. Віцебск**
**1930-35 — супрацоўнік ОГПУ НКВД БССР, г. Мінск**
**1935-36 — слухач Цэнтральнай школы НКВД, г. Масква**
**1937 — начальнік Старобінскага райаддзела НКВД**

Як вынікала з далейшай анкеты, праца на раённым узроўні для сталічнага спецыяліста працягвалася менш за два гады. Спачатку яго ўзялі ў рэспубліканскі апарат НКВД, пасля даверылі самастойны ўчастак у Заходняй Беларусі — ён узначаліў Пінскую абласную ўправу наркамата. А потым, усяго праз сем гадоў пасля прызначэння ў Старобін, Гарбачэўскі ўзляцеў на ключавую пасаду ў службовай іерархіі — стаў намеснікам наркама дзяржбяспекі Лаўрэнція Цанавы па кадрах.

Але гэта будзе потым. Падмурак прафесійнага поспеху закладаўся на нізавым, самым важным і самым цяжкім участку будзённай, непасрэднай, канкрэтнай працы — у райаддзеле. Тут ажыццяўлялася партыйная лінія, тут праходзіла перадавая, тут, недасыпаючы, працуючы без выхадных, па шаснаццаць гадзінаў у суткі, трэба было на практыцы паказаць усё, чаму навучыўся.

Гарбачэўскі прыехаў у Старобін з найвышэйшай магчымай у 1937 годзе тэарэтычнай падрыхтоўкай. Ён праходзіў курс навук у Цэнтральнай школе НКВД якраз падчас падрыхтоўкі і правядзення адкрытых працэсаў над «правымі цэнтрамі» і «трацкісцкімі блокамі»; супрацоўнікі і курсанты НКВД адыгрывалі ролю публікі на такіх працэсах, вучыліся найвышэйшаму пілатажу сацыялістычнай законнасці. Адным з тых, хто рыхтаваў працэсы ў падвалах Лубянкі, быў Барыс Берман, чыя ўзорная праца была аддзячаная званнем камісара дзяржбяспекі 3-га рангу і прызначэннем у Мінск на пасаду наркама ўнутраных справаў. У тым жа 1937 годзе, крыху раней за Бермана, размеркаванне ў Беларусь атрымаў і выпускнік Цэнтральнай школы Макар Гарбачэўскі.

Архіўныя дакументы дазволілі заглянуць глыбей у адзін старобінскі дзень адстаўнога банвіяна Макара Гарбачэўскага. Гэты дзень — субота, 18 верасня 1937 года. У гэты дзень начальнік Старобінскага райаддзела НКВД выпісаў ордэры на арышт з нумару 161 па нумар 231, усяго, калі верыць лічбам, на семдзесят чалавек.

## 1937. «Чыста савецкі чалавек»

На стандартным бланку стаяла назва арганізацыі — НКВД, нумар ордэра, дата выдачы і тэрмін дзеяння — адны суткі. Гарбачэўскі зацвярджаў ордэры на арышт і вобыск чырвоным алоўкам. (Увогуле архіўныя матэрыялы сведчаць, што камуністычная бюракратыя ахвотна карысталася алоўкамі. Нават подпісы членаў бюро ЦК КПБ пад пастановамі нярэдка зробленыя сінім альбо чырвоным алоўкам. Мясцовыя кіраўнікі ў гэтай справе бралі прыклад з маскоўскага начальства гэтаксама, як са сталінскага галіфэ і кіцеля пераходзілі на хрушчоўскія вышытыя кашулі, а потым на брэжнеўскія двубортавыя гарнітуры. Магчыма, прычына карыстання алоўкам, а не чарнільнай ручкай — у тым, што грыфельныя запісы лёгка сціраць, а значыць, паспяваць хістацца ўслед за генеральнай лініяй партыі.)

У Старобінскім райаддзеле, апроч начальніка, працавалі яшчэ два аператыўныя работнікі, Казлоў і Карнееў. Яны вялі аператыўную распрацоўку, збіралі агентурныя звесткі і давалі матэрыялы Гарбачэўскаму на подпіс. Апроч таго, начальнік райаддзела асабіста вёў следчыя справы, дапытваў, дамагаўся хуткіх і поўных прызнанняў; яго падследныя звычайна ішлі па «першай катэгорыі».

Трыццаціпяцігадовы жыхар памежнага Старобінскага раёна, старшыня Чэпелеўскага сельсавета Сцяпан Белавец пісаў лісты да маці і таму, на думку начальніка райаддзела НКВД, несумненна падпадаў пад гэтую катэгорыю. У сакрэтнай даведцы, на падставе якой начальнік падпісваў ордэр, пазначаная непасрэдная прычына арышту:

**У Польшчы пражываюць сваякі Белаўца — маці і стрыечныя браты. Меў сувязь са сваякамі шляхам перапіскі.**

Подпіс Гарбачэўскага ўключыў звычайны механізм: прыехалі, падпісалі акт, забралі. Невядома, ці паспеў Сцяпан Белавец развітацца з дзесяцігадовым сынам Васілём і пяццю дочкамі, ад чатырнаццацігадовай Любы да шасцігадовай Каці, патлумачыць жонцы, што ён ні ў чым не вінаваты. Яго адвезлі ў Слуцкую турму. Жонка панесла перадачу, першы раз узялі, а другі адмовілі і сказалі больш не дакучаць — маўляў, арыштаваны памёр.

Ахоўнікі схлусілі. Белавец быў жывы, але яго сапраўды не было ў Слуцку.

Мясцовая турма была настолькі перапоўненая ў канцы 1937-га, што канвеер Слуцкай акруговай управы НКВД захлынаўся, не паспяваў перапрацоўваць масу чалавечага матэрыялу, якую пастаўлялі райаддзелы. Шпіёны, дыверсанты, контррэвалюцыянеры, антысаветчыкі вялі прапаганду, спляталіся ў клубкі тэрарыстычных арганізацыяў, рыхталіся паліць калгасы, агітавалі супраць заёмаў і іншых мерапрыемстваў савецкай улады.

Райаддзелы давалі па два-тры выкрыцці ворагаў у дзень на супрацоўніка, некаторыя давалі па пяць. Тыя, хто падпісаў прызнанне, у турме звычайна затрымліваліся нядоўга — лясоў пад Слуцкам хапала, камендацкая каманда добра адпрацавала свае маршруты. І ўсё ж сустракаліся аб'ектыўныя цяжкасці: у камеру, разлічаную на пяць чалавек, ніяк не ўдавалася заштурхнуць больш за дваццаць. Некаторых трэба было вадзіць на допыты, часам карміць, па пары тыдняў чакаць пастановаў тройкі альбо асобай нарады. У канцы 1937-га частку арыштаваных са Слуцкай турмы перавялі ў большую Магілёўскую.

Перавезлі ў Магілёў і С. Белаўца. Першы запіс з'явіўся ў ягонай справе больш чым праз два месяцы пасля арышту. Пратакол допыту кароткі, і можна прывесці яго цалкам:

**Пытанне: Следству вядома, што вы з'яўляецеся агентам польразведорганаў. Раскажыце, калі і кім вы былі завербаваныя?**
**Адказ: Так, я сапраўды з'яўляюся агентам польразведорганаў. Завербаваны я быў у 1934 годзе польскім агентам Казлянковым Іванам Фёдаравічам. Казлянкоў стаў даваць мне даручэнні дыверсійнага характару, г.зн. паліць калгасы, даведацца пра настрой насельніцтва суседніх вёсак і пра эканамічную магутнасць калгасаў.**

Канец пытанняў, канец адказаў. Пасля ў справе падшытае кароткае абвінаваўчае заключэнне:

**Гэтую справу №32355 па абвінавачанню Белаўца (меў жонку і шасцёра дзяцей) накіраваць на разгляд народнага камісара ўнутраных справаў СССР — Генеральнага камісара ГБ тав. Яжова.**

Подпіс оперупаўнаважанага, які вёў допыт — Гушча, адзнака «Згодны» і подпіс начальніка 3-га аддзела Магілёўскага РА НКВД Давыдзенкі, зацвердзіў заключэнне начальнік райаддзела лейтэнант ГБ Шліфянсон.

Далей да архіўнай справы падшыты апошні, як меркавалі арганізатары камуністычнага будаўніцтва, дакумент.

**Выпіска з акту:**
**Пастанова НКВД СССР і Пракурора СССР ад 14 снежня 1937 года (пратакол №2542) аб расстрэле Белаўца Сцяпана Андрэевіча прыведзеная ў выкананне 2 студзеня 1938 года ў горадзе Магілёве. Начальнік 8-га аддзела УГБ НКВД БССР лейтэнант ГБ Розкін.**

Тры з паловай месяцы прайшло ад арышту да расстрэлу Сцяпана Белаўца. Наступны дакумент у ягонай справе з'явіўся толькі праз 23 гады.

У лютым 1960 года сын Белаўца Васіль, якому падчас арышту бацькі было 10 гадоў, напісаў у Вярхоўны Суд СССР прашэнне аб ягонай рэабілітацыі. У лісце ёсць такія радкі:

**У канцы 1937 года маці панесла перадачу, і перадачу ўзялі, але пры другім звароце ў канцы 1937 года работнікі Слуцкай турмы паведамілі, што бацька мой памёр. Мая маці памерла ў 1947 годзе ад пароку сэрца, і мы, шасцёра дзяцей, выхоўваліся як даводзілася, бо дапамогі нам ніякай не давалі. Прашу Вярхоўны Суд разгледзець маю просьбу і аднавіць у правах пасмяротна майго бацьку...**

Ліст сына пераслалі ў тую самую арганізацыю, якая забіла бацьку. Там яго падшылі да справы з допытам, абвінаваўчым заключэннем і актам расстрэлу. Сын і бацька зноў былі побач, як і ў той вераснёўскі дзень 1937-га, калі чэкісты ўвайшлі ў іхную хату. Аднак і праз дзесяцігоддзі пад грыфам «сакрэтна» дзяржбяспека працягвала сваю лінію. У красавіку 1960-га сына, які жыў у Пінску, выклікалі ў мясцовы райаддзел КГБ. Пра тое, што там яму сказалі, Васіль Белавец пісаў ужо вайсковаму пракурору Беларусі:

**Работнік КГБ мне паведаміў, што мой бацька Белавец Сцяпан, асуджаны ў 1937 годзе да 10 гадоў пазбаўлення волі, памёр у тым жа годзе ад грыпозных ускладненняў, і што дадзены факт смерці зарэгістраваны ў Старобінскім райбюро ЗАГС. За гэтае паведамленне і чуллівыя адносіны да запытаў працоўных я ад душы дзякую. Але я прасіў аб рэабілітацыі бацькі...**

Эпідэмія «грыпу» 1937 года, мяркуючы з адказаў у 1960-м, і праз чвэрць стагоддзя працягвала выклікаць ускладненні. Васіль Белавец яшчэ толькі збіраўся напісаць у Вайсковую пракуратуру — відавочна, з

падказкі КГБ, як органы ўзяліся за работу. 7 красавіка 1960 года з Мінска паляцела аж 13 сакрэтных, з грыфам «Ліцер «А», запытаў з аднолькавым тэкстам:

**Прашу Вас даць указанне праверыць па ўліках агентуру былой буржуазнай Польшчы (далей у стандартным бланку ішоў прабел) Сцяпана Белаўца і паведаміць кампраматэрыялы, якія маюцца на яго.**

Запыты адрасаваліся ў Цэнтральны дзяржаўны асобы архіў МУС СССР, у аддзел сакрэтных фондаў Цэнтральнага дзяржаўнага архіву Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР, у Мінскі абласны архіў, у аператыўна-даведачную картатэку 1-га спецаддзела МУС БССР, у картатэку фонда архіўных следчых справаў на асобаў, знятых з уліку ў КГБ пры Савеце Міністраў БССР, іншыя арганізацыі. «Ліцер «А» там, безумоўна, паважалі — адказы паступілі на працягу тыдня. Як і запыты, яны насілі механізаваны характар — пячатка з кароткім тэкстам, маўляў, у спісах не значыцца.

У ліпені супрацоўнікі КГБ выехалі ў вёску Чэпелі і апыталі старых. Ніхто ніякіх звестак аб супрацоўніцтве старшыні сельсавета з «польразведорганамі» не даў. Наадварот. Як заявіў адзін з дапытаных, «Белавец мне запомніўся як актывіст і чыста савецкі чалавек».

Што гэта азначала ў 1937 годзе — «актывіст і чыста савецкі чалавек»? Белавец быў старшынём сельскага савета, у яго абавязкі ўваходзіла ажыццяўленне ўсіх акцыяў савецкай улады, ад барацьбы з Богам да збору падаткаў. Гэта была катавая служба. У дадатак да калгаснай бясплатнай працы праз сістэму непасільных падаткаў у прорву імперскай індустрыялізацыі выціскаліся апошнія кроў і пот вяскоўцаў. Калі мясцовыя ўлады не спраўляліся з планамі калектывізацыі, выбіваннем паставак, чысткай партыйных шэрагаў, тады «вычышчалі» іх саміх.

Раённае начальства ў сярэдзіне 30-х жыло ва ўгары бязмежнай улады над тымі, хто быў ніжэй, і такога ж бяспраўя перад вышэйшымі. Сярод іх сустракаліся асобы, перакананыя ў непагрэшнасці партыі і Сталіна, людзі, якія шчыра верылі ў гістарычную справядлівасць сваёй справы. Аднак нашмат больш характэрнымі рысамі мясцовай улады рабочых і сялян былі малапісьменнасць, разбэшчанасць, жорсткасць, самаўпраўства, п’янства. На месцах, як і ў НКВД, у большасці працавалі не паталагічныя крымінальнікі альбо ідэйныя фанатыкі, а самыя звычайныя, простыя людзі, выхадцы з бедных сялянскіх і рабочых сем’яў — плоць

ад плоці народа... Яны лёгка маглі быць на месцы сваіх ахвяраў, і тады б іх саміх заганялі ў калгасы, раскулачвалі, высылалі. Аднак ім пашанцавала, і яны так аддана праводзілі партыйную лінію, што час ад часу ў Крамлі пачыналі гаварыць аб «перагібах», «парушэннях сацзаконнасці» ды іншых «галавакружэннях ад поспехаў». Кадры імпэтна распраўляліся з выбранымі «перагібшчыкамі» і займалі іх месцы, а галоўным заставалася тое, што галавакружэнне было ўсё ж такі ад поспехаў...

З сацыяльна чужымі элементамі — духавенствам, працавітымі заможнымі гаспадарамі, іх блізкімі і далёкімі сваякамі ў Старобінскім раёне пакончылі задоўга да 1937 года. Цяпер улады не цырымоніліся з калгаснікамі, а пра тых, хто ў Старобінскім раёне працягваў трымацца за ўласны падворак, у лютым 1937-га на пленуме райвыканкама, прысвечаным сталінскай канстытуцыі, было сказана проста і ясна:

**аднаасобнік з’яўляецца ворагам працоўнага народа.**

І гэта была не новая палітычная ўстаноўка, а канстатацыя даўно заведзенай практыкі, што маглі пацвердзіць усе старобінскія аднаасобнікі, якія чулі заяву (вялася трансляцыя пленума праз мясцовае радыё). Праўда, такую раскошу, як радыё, маглі дазволіць сабе далёка не ўсе прыватныя гаспадары, няшчадна абкладзеныя процьмай падаткаў і збораў. Калі яны не спраўляліся з новымі і новымі паборамі, у справу ўступалі сельсаветы.

У архіўнай даведцы НКВД на старшыню Чэпелеўскага сельсавета Белаўца гаварылася, што ён «за няўплату сельгаспадатку распрадаў да рэшты пяць аднаасобных гаспадарак». У НКВД інфармацыю пакінулі без увагі. Гэта была самая звычайная з’ява: калі лічыць толькі паводле пісьмовых скаргаў пацярпелых, у 1936 годзе ў Старобінскім раёне канфіскавалі маёмасць у 117 аднаасобнікаў. Камісія савецкага кантролю пры СНК БССР, якая ў рамках чарговай кампаніі супраць чарговага «галавакружэння» правярала раён, адзначала:

**Як правіла, канфіскаваная маёмасць прадавалася за бясцэнак, і ў выніку многія аднаасобныя гаспадаркі разбураліся. Ускрытыя факты прысваення асобнымі старшынямі сельсаветаў часткі канфіскаванай маёмасці і грошай ад яе рэалізацыі.**

Верагодна, сярод старшыняў сельсаветаў былі розныя людзі. Аднак Сцяпан Белавец запомніўся людзям даволі пэўна. Яны засведчылі ў 1960 годзе, што старшыня сельсавета

**вельмі актыўна праводзіў палітыку ўцягнення сялянаў у калгас і на гэтай глебе часам крыўдзіў асобаў, якія не хацелі ўступаць у калгас. Да асобаў, якія не выконвалі падаткаў, Белавец ставіўся жорстка, часам паводле яго патрабавання ў некаторых аднаасобнікаў канфіскавалася маёмасць.**

Пяць цалкам знішчаных гаспадарак, пушчаных голымі ў свет сем'яў аднаасобнікаў пацвярджаюць характарыстыку Сцяпана Белаўца як «чыста савецкага чалавека». Яго паводзіны не адрозніваліся ад дзеянняў большасці мясцовых уладароў сельсавецкіх пячатак.

Вось некаторыя штрыхі ў партрэт старобінскіх сельсаветчыкаў з даведкі Камісіі савецкага кантролю (ад 13 сакавіка 1937 г.) «Аб скажэннях дырэктываў партыі і ўрада і парушэннях рэвалюцыйнай законнасці ў Старобінскім памежным раёне:

**...У савецкіх арганізацыях праводзілася голае адміністраванне, якое суправаджалася здзекамі з калгаснікаў і аднаасобнікаў.**



**Па Даманавіцкім сельсавеце: старшыня Чарняк, які з'яўляецца адначасна парторгам Даманавіцкага і Чырвонаазерскага сельсаветаў, канфіскаваў у Хаміцэвіча Мацвея карову, цяля і дзвюх авечак за няўплату штрафу 250 рублёў, пра які Хаміцэвіч уведаў у дзень канфіскацыі маёмасці. Карова і цяля былі здадзеныя на базу за 455 руб. 50 кап., з іх 125 руб. 50 кап. прысвоеныя старшынём сельсавета. Чарняк таксама канфіскаваў у Хаміцэвіча Пятра каня, кажух, адрэз сукна і тачылы без афармлення акту пад выглядам неіснуючай нядоімкі па культзбору. Чарняк прысвоіў кажух, сукно і тачылы, а каня замацаваў за сельсаветам для раз'ездаў.**

**Па Чырвонаазерскім сельсавеце**
**Старшыня Мурашка (член КПБ, сістэматычна п'янствуе) займаўся незаконнай канфіскацыяй і прысваеннем часткі маёмасці аднаасобных гаспадарак. Шэраг гаспадарак былі Мурашкам разбураныя ў выніку налічэння непасільных падаткаў, шляхам налічэння неіснуючых неземляробчых і рынкавых даходаў. Напрыклад, Паддубіцкаму Аляксею (сям'я з васьмі душ, сын у Чырвонай Арміі) вызначыў 1600 рублёў падатку на падставе заведама дутых даходаў. За няўплату такога непасільнага падатку канфіскавалі ў яго каня і адзіную карову. Мурашка прысвойваў незаконна канфіскаванае ў вяскоўцаў (карову, свінню, футра, швейную машынку, збожжа і інш.) Сакратар сельсавета Мацукевіч Фёдар і член Бердніковіч Васіль збілі калгасніцу Казлякевіч Стэфаніду і яе дванаццацігадовую дачку пры незаконнай канфіскацыі каровы для пакрыцця нядоімкі яе брата-аднаасобніка. Старшыня сельсавета Мурашка і член Сівец абшукалі і канфіскавалі два кілаграмы ільновалакна ў сляпой 65-гадовай Ільшчыц Агаф'і, якая збірала яго жабрацтвам.**

**Па Зажэвіцкім сельсавеце**
**У 1936 годзе старшынём быў Свістуноў (цяпер старшыня Пагосцкага сельсавета), які незаконна канфіскоўваў маёмасць, прычым, апроч пяці ўлічаных выпадкаў, паводле скаргаў выяўлена яшчэ дзесяць выпадкаў канфіскацыі без афармлення дакументамі. Напрыклад, Свістуноў прапанаваў аднаасобніку вёскі Галіца Мікіту Рабаву запрэгчы каня і прывезці яго ў сельсавет, а там адабраў у Рабава каня з вупражжу і санямі, заявіўшы, што гэта канфіскуецца за няўплату культзбору. Свістуновым за нядоімку 20 руб. у аднаасобніка Казлоўскага Канстанціна была апісаная маёмасць на**

**400 рублёў, з якой былі прададзеныя калгасу два хлявы за 60 руб., а рахункаводу сельсавета Бялько швейная машынка за 100 руб. па падложнай распісцы. Свістуноў разарыў шэраг аднаасобных гаспадарак, напрыклад, у Лахай Марыі, апроч усіх гаспадарчых пабудоваў, была разламаная на дровы агароджа вакол хаты.**

**Па Чыжэвіцкім сельсавеце**
**Старшыня Бабаеў (член КПБ) на працягу 1935-36 гадоў займаецца незаконнай канфіскацыяй і прысваеннем маёмасці аднаасобнікаў. На Шэмет Хрысціну за недавыкананне 9 кг ільну, якія праз тры дні былі здадзеныя дзяржаве, Бабаеў наклаў вусна штраф у 200 руб. і ў той жа дзень канфіскаваў у яе 300 метраў тонкатканага палатна. Канфіскацыя была праведзеная шляхам узлому сякерай куфэрка. Шэмет Хрысціна, калі Бабаеў выносіў палатно, цалавала яго рукі, прасіла не адбіраць палатно, якое атрымала ў пасаг дзясяткі гадоў таму і захоўвала для дачок. Але старшыня сельсавета быў няўмольны. Канфіскаванае палатно Бабаеў падзяліў паміж сабой, старшынём калгасу «Свабода» Далініным і аднаасобнікам Чайкоўскім, з якім п'янстваваў.**
**Бабаеў ужываў здзеклівыя спосабы прымусу да аплаты наўмысна завышаных падаткаў. У Лойкі Антона (сям'я з шасці малых дзяцей) была разабраная зімою (25 снежня 1936 г.) частка жылога дома і прададзеная за 100 руб. калгасу «Перамога». Бабаеў за ўдзел членаў сельсаветаў і панятых у канфіскацыі даваў прэмію ад 10 да 15 руб. з сумы продажу маёмасці. Бабаеў збіў аднаасобніцу Ткачэню Вінадору за адмову добраахвотна здаць ільнавалакно.**

Пра ўсе «подзвігі» кіраўнікоў мясцовай савецкай улады ў Беларусі не расказаць. Адзін запрагаў жанчын у сані і прымушаў везці на п'янку ў суседнюю вёску, другі гвалтаваў па чарзе калгасніц, трэці цягнуў у хату ўсё, што ўпадабаў. Ад уладарных вырадкаў не было паратунку, і нярэдка даведзеныя да адчаю людзі накладалі на сябе рукі.

Пра арышт старшыні Чэпелеўскага сельсавета Сцяпана Белаўца, безумоўна, адразу стала вядома ў акрузе. Не дзіва, калі многія ўспрынялі навіну са зларадаснацю — цягаў воўк, пацягнулі й ваўка. І тое, што пры гэтым была парушаная нейкая мітычная «сацзаконнасць», наўрад ці хвалявала даведзеных да галечы вяскоўцаў, у якіх старшыня сельсавета канфіскаваў маёмасць за няўплату падаткаў.

Магчыма, Белавец і не валок у хату жабрацкае багацце (на восем ратоў на падворку Белаўца на момант арышту налічвалася ўсяго адна карова і пяць свіней — цяжка ўявіць, як сям'я кармілася нават тады, калі бацька быў на волі. А ўжо пасля арышту, напэўна, зведалі і голад, і холад). Аднак старшыня сельсавета, як і ягоны следчы Гарбачэўскі, быў часткай бязлітаснага механізму гвалту, што ўрэшце зжэр і яго самога. Не такі ўжо й рэдкі выпадак для сістэмы, якая замяніла чалавечыя дачыненні партыйнай мараллю і знайшла вялікае мноства ахвотнікаў гэтую мараль праводзіць у жыццё.

У жніўні 1960 года Вайсковы трыбунал Беларускай вайсковай акругі, як напісана ў даведцы, спыніў справу Сцяпана Белаўца «за адсутнасцю складу злачынства». Магчыма, яго дзецям, якія зведалі ўсе «выгоды» звання членаў сям'і здрадніка радзімы, прынесла палёгку афіцыйнае пацверджанне, што іх бацька — не польскі шпіён. Старшыня сельсавета і сапраўды не быў агентам замежных разведак...

## 1961. «Да гэтых справаў я ніякіх адносінаў не меў»

Блакнот Гарбачэўскага танчэў: даводзілася пісаць новыя й новыя тлумачэнні, каб давесці сваю правату і заслугі перад партыяй. Персанальная справа хутка расла ў аб'ёме. Пра амурныя прыгоды ніхто ўжо не згадваў, а чамусці пачалі выторгваць іншыя факты.

Магчыма, яму проста не шанцавала. Пасля смерці Сталіна парадку менш стала паўсюдна. Вось і перагляд справаў рэпрэсаваных даручылі не спецыялістам, якія гэтыя справы добра ведалі, бо самі некалі вялі, а пабочным, не надта дасведчаным асобам з вайсковай пракуратуры. Іх увагу і прыцягнуў ягоны подпіс, які стаяў пад мноствам розных дакументаў.

Вайсковы пракурор І. Пастрэвіч прыводзіў прозвішчы і характарыстыкі некаторых асобаў, якіх ён выкрыў: непісьменны калгаснік Міканор Кулакоўскі, старшыня калгасу, бацька пяцёх дзяцей Уладзімір Герасіменя, ляснік Фёдар Сідарук, намеснік старшыні калгасу Аляксандр Бялькевіч, ляснік Аляксандр Аліноўскі, калгаснікі Марыя Лазоўская, Баляслаў Корбут, Юльян Смоліч...

**Не ведаю, навошта збіраць рознага роду выпадкі і недахопы за 25 гадоў працы, у кожнага яны бываюць. Падаваць іх агулам, не**

**канкрэтызаваць, выпустошваць увесь змест, як і чаму тая ці іншая акалічнасць здарылася, і толькі ў бок абвінавачання. Я і так перажыў у сувязі з гэтымі справамі, што паслужыла прычынай звальнення з органаў...**

Радкі нататніка перапаўняла шчырая крыўда, і пошта разносіла лісты адрасатам. Аднак яму пачалі прад'яўляць архіўныя дакументы з імёнамі, пратаколамі, ордэрамі на арышт без санкцыяў пракурора. Так, там стаяў ягоны подпіс, але ж хіба ўсё запомніш. Можа, і афармляў якіянебудзь паперы. Але сам следства не вёў, а толькі падпісваў першапачатковыя дакументы — астатнім займаліся ў Слуцку і Мінску.

Ён тлумачыў зноў і зноў:

**Згодна з пастановамі ў той час вышэйстаячых органаў і пракуратуры, афармленне справаў рабілася наступным чынам: паводле матэрыялаў, якія меў той ці іншы орган МУС (агентурныя распрацоўкі, пратаколы допыту сведкаў, дакументацыя і да т.п.), складалася аператыўным работнікам абагульненая даведка, пісалася пастанова на арышт, бралася санкцыя пракурора, і ўвесь пазначаны матэрыял накіроўваўся ў акруговы аддзел (у той час Слуцкі) для вядзення следства з арыштаваным. Як там вялося следства, хто яго вёў, якія матэрыялы атрыманыя следчым, хто накіроўваў справы паводле падсуднасці і пісаў абвінаваўчае заключэнне, мне невядома, бо да гэтых справаў і матэрыялаў я ніякіх адносінаў не меў і больш іх не бачыў.**

Спраўдзілі. З дзевяці выбарачна паднятых справаў сем ад пачатку і да канца, да адсылкі ў Маскву наркаму Яжову на зацверджанне смяротнага прысуду, былі складзеныя і аформленыя ўласнаручна Макарам Гарбачэўскім. Тады, у 1961-м, не змаглі ці не захацелі спраўдзіць словы Гарбачэўскага пра тое, што больш справаў арыштаваных ім людзей ён не бачыў...

## 1937. «Удзельнік слуцкага паўстання»

Ордэр на арышт і вобыск №231 Макар Гарбачэўскі мог выпісваць з асаблівым задавальненнем. У сакрэтнай даведцы, якую ён склаў на падставе даносу на 42-гадовага Міхаіла Сямёнавіча Бунцэвіча, беларуса, пісьменнага, ахоўніка Старобінскага дзяржбанка, гаварылася:

**У 1920 годзе, пры арганізацыі Беларускай Рады, выступаў супраць Савецкай улады і змагаўся супраць Чырвонай Арміі. Каля мястэчка Семежава, пад націскам чырвоных частак крычаў паўстанцам не адступаць, а змагацца да апошняга, і калі іх атрад быў разбіты, Бунцэвіч Міхаіл паспеў схапіць сцяг Беларускай Рады, які цяпер захоўваецца ў яго альбо яго брата Піліпа, арыштаванага органамі НКВД.**

Сцяг у Бунцэвіча не знайшлі. Яго допыт Гарбачэўскі, загружаны іншымі справамі, даручыў правесці свайму намесніку Казлову. Бунцэвіч адмовіў усе абвінавачанні. Тады Казлоў узяўся за сведкаў.

Дапытаны работнік банка Ісак Голуб заявіў, што Бунцэвіч браў удзел у Слуцкім паўстанні і падтрымліваў контррэвалюцыйную сувязь са сваім братам Піліпам, арыштаваным НКВД. Праўда, сам Голуб нічога пэўна не ведаў і спаслаўся на двух чалавек, якія гэта яму расказвалі. Адзін з тых двух, Кандрат Караба, пацвердзіў, што бачыў, як Бунцэвіч ехаў на кані ў бок Семежава, а таксама дадаў, што Бунцэвіч агітаваў яго не падпісвацца на заём, бо карысці ад яго ніякай няма. Пацвердзіў удзел Бунцэвіча ў Слуцкім паўстанні і яшчэ адзін сведка, Шлома Левітан. Прынамсі, менавіта так былі запісаныя іх паказанні ў пратаколах допытаў.

Невядома, як праходзілі вочныя стаўкі і ці праводзіліся яны наогул, але следчы так і не змог выбіць з арыштаванага прызнання. Пра тое, чаго гэта каштавала Бунцэвічу, можна толькі здагадвацца. Але факт застаецца фактам: памочнік оперупаўнаважанага Казлоў мусіў запісаць у пратакол катэгарычнае адмаўленне арыштаваным усіх абвінавачанняў.

Справу без «царыцы доказаў» — уласнаручнага прызнання — старобінскія чэкісты перасылаць наркаму Яжову (што азначала верную смерць) не рызыкнулі, а накіравалі на разгляд «Асобай тройкі НКВД БССР». «Тройка» прызнала Бунцэвіча вінаватым толькі ў тым, што ён вёў контррэвалюцыйную агітацыю супраць мерапрыемстваў партыі і ўрада і даказваў непазбежнасць гібелі савецкай улады. Пра ўдзел у Слуцкім паўстанні не згадвалася.

Згодна з выпіскай з пратаколу №66 ад 3 лістапада 1937 года, «тройка» пастанавіла адправіць Бунцэвіча ў папраўча-працоўны лагер тэрмінам на 10 гадоў. Яго нават не пазбавілі права перапіскі.

Пасля 1937-га ішоў 1938 год. Сталін змяніў непатрэбнага больш Яжова на Берыю, і пасля партыйнага пленума на пачатку 1938-га адныя каты

пачалі душыць іншых — цяпер ужо каралі за парушэнні «сацыялістычнай законнасці». Пачалі мяняць кадры НКВД у рэспубліках: у Мінск замест Бермана прыехаў Наседкін, якога неўзабаве змяніў Цанава. Ратацыя ішла на ўсіх узроўнях, партыйныя, савецкія і чэкісцкія кадры перакідваліся з аднаго раёна ў іншы — каб не «зрасталіся» з мясцовымі насельнікамі, праводзілі лінію жорстка і рашуча, без сентыментаў.

Макара Гарбачэўскага пасля года паспяховай працы ў Старобіне перавялі на пасаду начальніка райаддзела НКВД у Шклоў.

Пакуль Гарбачэўскі выкараняў ворагаў на Магілёўшчыне, зняволены Тайшэцкага лагера Бунцэвіч пісаў лісты, якія акуратна падшываліся да ягонай справы. Першым з іх стаў ліст пракурору БССР. На 12-ці старонках Бунцэвіч апісваў сваё жыццё, сваякоў і даводзіў, што сведкі ў ягонай справе гаварылі супрацьлеглае таму, што запісанае следчым. Да архіўнай справы падшыты і ліст сына Бунцэвіча Кастуся, вучня 7-е класы, адрасаваны Сталіну.

Малы бацькаў заступнік пісаў кату:

> **Мой бацька ніколі нідзе не быў, ні за мяжой, ні ў белых. Усе грамадзяне мястэчка Старобіна са здзіўленнем гавораць: «За што Бунцэвіча Міхаіла арыштавалі, здаецца, ён быў сумленны чалавек?» Таварыш Іосіф Вісарыёнавіч! Пераканаўча прашу разглядзець маю прапанову. Цераз людзей-паклёпнікаў яму давялося несці незаслужанае пакаранне.**

На аркушы, вырваным са школьнага сшытка, стаіць дата: 9 кастрычніка 1939 года. Ліст хутчэй за ўсё напісаны пад дыктоўку кагосці са старэйшых, якія спрабавалі надаць яму «афіцыйны» стыль. Аўтар дакладна называе непасрэдную прычыну зняволення Бунцэвіча: «людзі-паклёпнікі», хоць, безумоўна, ніколі не бачыў кардоннай папкі са справай НКВД. Яшчэ шэсць лістоў у абарону мужа напісала жонка арыштаванага Клаўдзія Бунцэвіч.

Далейшыя матэрыялы архіўнай справы Бунцэвіча сведчылі пра нараджэнне цуду, які набываў усё больш выразныя формы з кожным новым перагорнутым дакументам. Згодна з загадам НКВД СССР №00116, які патрабаваў у выпадку пратэсту перагледзець і даследаваць справу на працягу 10-ці дзён, управа Тайшэцкага лагера накіравала заяву Бунцэвіча пракурору БССР. У сакавіку 1940-га сведку Ісака Голуба зноў выклікалі ў Старобінскі райаддзел НКВД. Там ужо сядзелі іншыя людзі.

У пратаколе допыту Голуба з'явіўся зусім новы запіс:

**Аб правядзенні контррэвалюцыйнай агітацыі Бунцэвічам Міхаілам я нічога не магу паказаць, бо я за ім гэтага ніколі не заўважаў, за выняткам таго, што ў прыватных размовах Караба Кандрат у 1937 годзе летам гаварыў, што Бунцэвіч прыняў удзел у Беларускай Радзе. Але чамусці да лета 1937 года ён аб гэтым нічога не гаварыў.**

Канец сведчання. У адзін дзень з Голубам быў зноў дапытаны Шлома Левітан, які ўвогуле заявіў, што ніякіх паказанняў аб удзеле Бунцэвіча ў Слуцкім паўстанні не даваў.

У Старобінскім райаддзеле падрыхтавалі пастанову на імя новага наркама Лаўрэнція Цанавы, у якой гаварылася:

**Рашэнне асобай тройкі НКВД БССР ад 3 снежня 1937 года адмяніць, Бунцэвіча Міхаіла Сямёнавіча з-пад варты вызваліць. Гэтую пастанову для выканання праз 1 спецаддзел НКВД БССР накіраваць у Тайшэцкі лагер НКВД СССР, 2-гі агульналагерны пункт «Ударны» па месцы знаходжання.**

І — подпісы новых работнікаў Старобінскага райаддзела і Мінскай абласной управы НКВД — Герасімаў, Васілеўскі, Масквічоў. 6 красавіка 1939 года Цанава ўласнаручна зацвердзіў пастанову.

Як вынікае з датаў на дакументах, яшчэ за два дні да подпісу Цанавы старшы оперупаўнаважаны сяржант ГБ Пракоф'еў, які працаваў у 1 спецаддзеле НКВД БССР, накіраваў дэпэшу пад грыфам «Вельмі тэрмінова. Вызваленне. Зусім сакрэтна» ў Тайшэцкі лагер і копію ў 1 спецаддзел НКВД СССР у Маскву. Пастанова аб адмене рашэння «тройкі» і вызваленні Бунцэвіча паляцела ў Сібір.

З кожным дакументам, які знаходзіўся ў архіўнай справе Міхаіла Бунцэвіча, усё больш рэальным рабіўся цуд, амаль міфічны выпадак вызвалення. Сваёй выключнасцю ён быў абавязаны і стойкасці самога Бунцэвіча, і клопатам сям'і, якая не адраклася ад бацькі, але, у першую чаргу, страху Сталіна перад сваімі памагатымі. Любы дыктатар жыве ў пастаянным страху перад занадта актыўнымі паплечнікамі і час ад часу робіць папераджальную рубку галоў — калі паспявае. Сталін заўсёды паспяваў, і палітычная кан'юнктура ў справе Бунцэвіча, такім чынам, склалася выключна спрыяльна. Трэба было не прапусціць момант.

Аднак кароткі адказ з Тайшэта ў Мінск прыйшоў толькі ў лістападзе 1940-га. Паведамлялася, што Бунцэвіч этапаваны з Тайшэтлага ў Кар-

лаг і запыт НКВД БССР перапраўлены туды. Сем месяцаў маўчання ў адказ на патрабаванне «вельмі тэрміновага вызвалення» выклікалі недаўменне: ці гэта была норма? Ці Бунцэвічу перастала шанцаваць? Ці, можа, зноў мяняліся часы?..

Чаму і дзе блукала папера аб вызваленні Бунцэвіча? Адну з верагодных версіяў падказаў сам архіўны дакумент. Яго мусілі былі падпісаць дзве службовыя асобы: непасрэдны выканаўца сяржант ГБ Пракоф'еў, і ягоны подпіс стаіць, і начальнік 1 спецаддзела НКВД БССР — гэтага подпісу няма.

Імя начальніка, які проста мог пакласці пастанову аб вызваленні пад сукно — Макар Гарбачэўскі.

Пасля сямі месяцаў службы ў Шклове ён быў пераведзены на працу ў Мінск і заняў пасаду спачатку начальніка аддзялення, а праз пяць месяцаў узначаліў 1 спецаддзел. Усе дакументы на вызваленне Бунцэвіча кладаліся яму на стол. Адмена прысуду і зняцце абвінавачанняў маглі падарваць імклівую кар'еру маладога перспектыўнага супрацоўніка...

Наступная сакрэтная паперка ў справе Бунцэвіча з'явілася праз восем месяцаў пасля пастановы аб яго вызваленні: усю справу адправілі з Мінска ў Старобін — для даследавання. Загадвалася сведку Кандрата Карабу перадапытаць з мэтай «удакладнення і пацверджання паказанняў».

Заданне было недвухсэнсоўнае, і 9 студзеня 1941 года ахоўнік Старобінскага банка Караба, як і патрабавалі з Мінска, свае паказанні супраць Бунцэвіча пацвердзіў. У пратаколе допыту запісаныя яго адказы:

> **Паміж удзельнікаў банды «Беларускай Рады» знаходзіўся Бунцэвіч, які разам з іншымі накіроўваўся ў Завішчыцы. З размоваў удзельнікаў банды ведаю, калі з майго возу здымалі скрыню з патронамі, дык павінны былі накіравацца ў Семежава. І больш аб удзеле Бунцэвіча ў бандзе «Беларуская Рада» мне нічога не вядома. Бунцэвіч гаварыў, што жывецца дрэнна, няма хлеба, раней жылося ў некалькі разоў лепей, чым цяпер.**

Следчыя папрасілі Карабу назваць сведкаў антысавецкіх размоваў Бунцэвіча. Той адказаў так:

> **У памяшканні банка я змяняў Бунцэвіча, і ён адразу дахаты не пайшоў, бо быў моцны дождж, і ўсе размовы, апроч яго і мяне, ніхто не чуў.**

Следчыя дапыталі яшчэ сем чалавек. Ніхто болей не пацвердзіў ніякіх абвінавачанняў. Тым не менш, следчы ўправы НКВД па Мінскай вобласці сяржант ГБ Парахневіч напісаў і падпісаў пастанову, згодна з якой папярэдняе рашэнне аб вызваленні Бунцэвіча адмянялася, скарга асуджанага прызнавалася неабгрунтаванай. Гэтую пастанову трэба было падпісаць начальніку ўправы НКВД Мінскай вобласці Васілеўскаму, начальніку следчай часткі Сімахіну, зацвердзіць пастанову павінен быў сам наркам Цанава. Ні даты, ні патрэбных подпісаў, апроч подпісу сяржанта ГБ Парахневіча, на дакуменце няма.

Як будзе сцвярджаць у 1959 годзе пракурор Мінскай вобласці І. Шнітко падчас перагляду справы, пастанова, якая адмаўляла Бунцэвічу ў вызваленні, не мела ніякай юрыдычнай сілы нават у тыя часы. Але былі іншыя сілы, зацікаўленыя, каб арыштаваныя на падставе іхных ордэраў не вызваляліся датэрмінова...

Бунцэвіч адбыў у лагеры ўвесь тэрмін і вярнуўся ў Старобін у 1946 годзе. Жыць яму заставалася нядоўга — праз тры гады, на 54-м годзе жыцця, ён памёр. Удава прасіла назначыць ёй пенсію, але ёй адмовілі. Ворагам народа і членам іх сем'яў пенсіяў не давалі — трэба было забяспечваць пенсіянераў НКВД.

## 1961. «Прашу пераканаўча ўсё ўлічыць»

Новыя запісы ў схуднелым блакноце адзін да аднаго паўтаралі тое, што Гарбачэўскі пісаў амаль чвэрць стагоддзя таму. У лютым 1961-га яму ўдалося дамагчыся доступу да справаў, якія ён вёў у 1937-м. Перагарнуў пажоўклыя старонкі, перагледзеў пастановы на арышт і свае подпісы, выпіскі з рашэнняў НКВД і паведамленні аб іх выкананні.

Не, яму няма чаго саромецца перад партыяй — усе арыштаваныя былі сапраўднымі ворагамі. Органы не памыляліся, сцвярджаць адваротнае — значыла абвінавачваць органы ў шкодніцтве, паклёпнічаць, паўтараць злобныя контррэвалюцыйныя выдумкі. Аднак часы дзіўна памяняліся. Арыштавалі Берыю, знік Цанава, замахнуліся на самога Сталіна. Правадыр ляжыць у маўзалеі побач з Леніным і сам не можа за сябе пастаяць. Быў бы жывы, хіба давялося б тлумачыць відавочнае?.. Ён вырываў чарговыя аркушы з блакнота.

> **У дадатак да майго тлумачэння адносна справаў 1937 года паведамляю. Бунцэвіч М. удзельнік атраду, створанага Беларускай Радай, змагаўся супраць Чырвонай Арміі, праводзіў контррэвалюцыйную агітацыю; Белавец С. займаўся кантрабандавай дзейнасцю, меў сувязі з Польшчай, дзе пражывалі маці і стрыечны брат; Герасіменя В. у Польшчы меў сястру, з якой у 1933 годзе меў падазроныя сустрэчы. У 1935 годзе за азначаную дзейнасць выключаны з ВКП(б); Аліноўскі А. былы кулак, меў 20 га зямлі, чатыры каровы, быў завербаваны для правядзення контррэвалюцыйнай агітацыі польшпіёнам Сасноўскім; Лазоўская М. таксама мела непасрэдную сувязь з польшпіёнам Сасноўскім; Сідарук Ф. працаваў лесніком, перадаваў матэрыял аб настроях сялянаў і размешчанні частак РККА, дрэнна адпускаў матэрыял для дзяржбудоўляў... Паводле ўказанняў таго перыяду, яны падлягалі арышту, тым болей, што Старобінскі раён быў памежным, і на ўсіх гэтых асобаў меліся ў райаддзеле матэрыялы агентурных справаў. Прашу пераканаўча пры разглядзе пытання ўсё гэта ўлічыць...**

Матэрыялы агентурных справаў былі першаснай і найважнейшай крыніцай інфармацыі, паводле якой выбіраліся ворагі. Гарбачэўскі ведаў напэўна, што пераправерыць іх, нават калі б захацелі, будзе немагчыма. У 1941-м, падчас маланкавага наступу немцаў, у райаддзелы паступіў загад паліць аператыўныя дакументы. Пасля вайны, працуючы намеснікам Цанавы, ён на свае вочы мог бачыць справаздачу супрацоўніка Старобінскага райаддзела НКВД Бялько, якая пацвярджала знішчэнне першаснай дакументацыі.

Праўда, звесткі аб некаторых памочніках органаў меліся ў архіўных справах арыштаваных, ён сам часам упісваў іх у даведкі, паводле якіх арыштоўваў ворагаў. Але Гарбачэўскі мог спадзявацца, што аб тых запісах паклапоцяцца калегі.

І сапраўды, падчас кампаніі рэабілітацыі, калі органы пераглядалі справы — пісалі даведкі, правяралі былых так званых «польскіх шпіёнаў» з выездам на месца, — у КГБ не забываліся і на сваіх верных памочнікаў. Вырываць аркушы са справы было строга забаронена інструкцыяй, але ніякая інструкцыя не перашкаджала ставіць густыя чарнільныя кляксы на мянушкі і прозвішчы асведамляльнікаў. Некаторыя акалічнасці і дакументы дазваляюць датаваць адну з такіх замазак у архіўнай справе, пачатай Старобінскім НКВД і перададзенай у спецархіў у

Мінск 10 сакавіка 1953 года. І тыдня не мінула, як сканаў Сталін, а нечая спрытная рука пачала клапаціцца пра памочнікаў катаў.

У 1961 годзе ніхто сапраўды не стаў корпацца ў агентурных матэрыялах — доказаў віны палкоўніка хапала і без іх. Аднак Гарбачэўскі памыляўся, калі думаў, што ніхто ніколі не ўведае імёнаў старобінскіх юдаў...

## 1992. «Матэрыял асв. «ГоркІ»

Падчас кароткай беларускай адлігі, калі кампартыя была зацугляная пасля путчу 1991 года, пад ціскам грамадскасці КГБ пачаў даваць абмежаваны дазвол навукоўцам, журналістам, кінематаграфістам на знаёмства з некаторымі справамі. Як член парламенцкай камісіі па правах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, непрацяглы час меў магчымасць пазнаёміцца са справамі закатаваных і я.

Справы Сцяпана Белаўца, Міхаіла Бунцэвіча, як і іншых ахвяраў Гарбачэўскага, адкрываліся даведкамі, паводле якіх іх арыштоўвалі, выносілі пастановы і расстрэльвалі альбо везлі ў лагеры. У справе Бунцэвіча, напрыклад, пасля апісання яго ўдзелу ў Слуцкім паўстанні рукой энкавэдыста ў дужках было нешта пазначанае, але разабраць заштрыхаваны запіс было няпроста.

Папера, на якой друкаваліся даведкі і прозвішчы асведаміцеляў, як знарок падабраная, каб няможна было прачытаць з адваротнага боку — грубая і тоўстая. І літары звычайнай друкарскай машынкі не праціскалі яе.

Безумоўна, сучасная крыміналістычная тэхніка лёгка справілася б з задачай: разабраць замазаныя, схаваныя прозвішчы даносчыкаў, але наіўна было б чакаць дапамогі з боку тых органаў, якія такой тэхнікай валодаюць. Іх задача адваротная — каб ніхто не прачытаў і не назваў імёны верных сяброў чэкістаў.

Але паспрабаваць прачытаць імёны памочнікаў катаў усё ж можна, нават калі атрымаў архіўную справу ўсяго на пару гадзінаў, і ў цёмны службовы пакой, які ў КГБ Беларусі часова адвялі пад чытальную залю, незнарок заходзяць прапаршчыкі і заглядаюць афіцэры. Пад мініяцюрным павелічальным шклом вугалкі характэрнага шрыфту друкарскай машынкі Старобінскага НКВД, якія выступалі з-пад чарнільных пля-

маў, складваліся ў літары, літары — у словы. Вось словы, якімі называлі даносчыкаў у Старобіне, і якія стаяць на пачатку многіх справаў НКВД:

«Горкі» — менавіта паводле даносаў таго, хто зашыфраваны пад псеўданімам аўтара знакамітага афарызму «Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць», быў арыштаваны Міхаіл Бунцэвіч, расстраляны жыхар вёскі Застарынне Станіслаў Главінскі, які пакінуў сіротамі двух дзяцей; таксама расстраляны ягоны аднавяскоўец Вікенці Кальчынскі.

«Сексот» Ігнаценка — паводле ягоных даносаў арыштаваны і загінуў у Бурлагу селянін вёскі Залессе Сямён Чарнецкі, бацька чатырох дзяцей; арыштаваны і расстраляны калгаснік з вёскі Застарынне Юльян Смоліч, бацька трох дзяцей; расстраляны ляснік з вёскі Саковічы Андрэй Аліноўскі, бацька двух дзяцей. Прозвішчы даносчыкаў Старобінскага НКВД Шацкага, Бобрыка, Дрызгаловіча таксама значацца ў тых некалькіх з незлічонай колькасці справаў, якія ўдалося разгарнуць.

У адным з адкрытых для наведнікаў мінскіх архіваў захоўваецца таўсценны фаліянт, які невядома, як туды патрапіў. У яго доўгая назва: «Настольны рэестр сеткі асобага аддзела ўправы дзяржбяспекі НКВД БССР за 1939 год. Экзэмпляр №447. Зусім сакрэтна. Захоўваць нароўні з шыфрам». Нароўні з шыфрам захоўвалі спіс даносчыкаў асобага аддзела НКВД СССР пры 15-м пагранатрадзе НКВД БССР. Такім чынам, даносчыкі, якія «працавалі» ў войсках НКВД, падпарадкоўваліся Маскве, а не мясцовым чэкістам. Друкарскім спосабам выдадзеная кніга мела спецыяльныя табліцы з раздзеламі, куды ўпісваліся мянушкі даносчыкаў, іх службовае становішча і пасада. Сапраўдныя прозвішчы не пазначаліся, але іх пры жаданні лёгка знайсці, калі падняць дакументы асабовага складу і паглядзець пасады.

Падбор мянушак сакрэтных памочнікаў органаў, якія слухалі і запісвалі любое неасцярожнае слова сваіх саслужыўцаў, сведчыць пра густы і схільнасці іх куратара. У 15-м пагранатрадзе працу выконвалі асобы з мянушкамі «Сурыкаў», «Жукаў», «Пушкін», «Волгін», «Лермантаў», «Чайкоўскі», «Чалюскін», «Фурманаў». Відаць, даносы, падпісаныя імёнамі паэтаў, гучалі больш прыемна для вытанчанага вуха энкавэдыста. Мянушка даносчыка, які працаваў у гаражы, «Руль», — выключэнне з гэтай юдавай партытуры, складзенай аматарам высокага мастацтва з НКВД.

Спіс пасадаў, якія займалі даносчыкі, сведчыць пра некаторыя прынцыпы арганізацыі працы з імі. Сярод іх ёсць шавец гаспадарчай ка-

манды, памочнік загадчыка прамсклада, кухар, шафёр, камандзір аддзялення, штабны пісар, намеснік палітрука, памочнік начальніка штаба. Гэта пасады, якія даюць шмат магчымасцяў для нефармальных кантактаў з саслужыўцамі, дазваляюць сачыць за паводзінамі начальства. Апроч таго, даносчыкі кантактавалі паміж сабой і даносілі адзін на аднаго, такім чынам, НКВД мог надзейна кантраляваць усю сетку.*

Даносчыкаў бераглі, і яны прыцягваліся для дачы паказанняў у ролі сведкаў у рэдкіх выпадках. Зрэшты, патрэбных сведкаў НКВД заўсёды знаходзіла. У чорны панядзелак Гарбачэўскага, 18 верасня 1937 года, на падставе даносу асведамляльніка Ігнаценкі ў вёсцы Саковічы Старобінскага раёна быў арыштаваны чарговы «польскі шпіён» — ляснік Лістападаўскага лясніцтва Аляксандр Мацьвеевіч Аліноўскі, 1887 года нараджэння, беларус, беспартыйны, бацька двух дзяцей. Апроч даносу, падставай для абвінавачання сталі паказанні сьведкі — Марка Ціханавіча Нікалаевіча, лесніка таго ж лясніцтва.

---

* Невялікае адступленне: у 1989 годзе, пасля краху ўлады КПСС у Літве, у Вільні апублікавалі некаторыя сакрэтныя дакументы КГБ, у іх ліку інструкцыі, фармуляры, анкеты. Стандартная анкета агента-асведамляльніка складалася з 29 графаў. Апроч біяграфічных звестак, афіцэр-вярбоўшчык, які запаўняў анкету, мусіў напісаць адказы на шэраг пытанняў, у тым ліку падрабязна выкласці мэту вярбоўкі. Аднак, паколькі справа была пастаўленая на паток, дык для зручнасці ў падрадкоўніку дробным шрыфтам прыводзіліся тыповыя адказы.

Графа нумар 23 «Завербаваны» прадугледжвала наступныя варыянты працягу: «на патрыятычнай глебе, з выкарыстаннем кампраматэрыялаў, з варожага асяродку».

Пытанне нумар 24 «Супрацоўнічаць пагадзіўся» мела такія верагодныя адказы: «ахвотна, хістаўся, пасля доўгага пераканання, паставіў умовы і г.д.»

У наступнай графе адзначаліся «Каштоўныя асабістыя якасці» агента: «памяць, назіральнасць, аналітычныя здольнасці, здольнасць уваходзіць у давер, фізічная сіла, валявыя якасці, здольнасць да пераўвасаблення і г.д.»

Далей у анкеце ішло пытанне «Якія мае спецыфічныя магчымасці». Падрадкоўнік прыводзіў некаторыя з іх: «выезды ў іншыя раёны, наведванне прыватных кватэраў паводле характару працы, мае дачу, уласную аўтамашыну, умее вадзіць аўтатранспарт і інш.»

Пытанне нумар 27 фіксавала«Асабістыя інтарэсы, зацікаўленні і схільнасці», сярод іх «спорт, паляванне, музыка, мастацтва, збіранне калекцыяў, турызм, радыёаматар, кінафотааматар, аматар гульні ў карты і іншых азартных забаваў». Перадапошняе пытанне ацэньвала «Надзейнасць агента».

Трэба было адзначыць, ці агент «спраўджаны праз агентуру, з выкарыстаннем аператыўна-тэхнічных сродкаў і інш.»

Завяршала анкету агента новая анкета: «Звесткі пра асабістыя сувязі, якія маюць аператыўны інтарэс». Сюды заносіліся імёны, адрасы, прафесіі знаёмых новаспечанага агента і звесткі пра іх, якія «заслугоўваюць аператыўнай увагі».

Нікалаевіч заявіў, што Аліноўскі, з аднаго боку, эксплуатаваў і нящчадна штрафаваў сялян, а з другога, — разбазарваў дзяржаўную маёмасць і раздаваў людзям сенакос, а таксама ў 1919 годзе ўдзельнічаў у бандзе. Логікі ў паказаннях сведкі не было, але Гарбачэўскі дапоўніў іх выбітым у арыштаванага прызнаннем: маўляў, штрафаваў сялян па заданню польскіх шпіёнаў. Пасля гэтага справа была накіраваная на «разгляд» Яжову. Пастанова НКВД ад 27 снежня 1937 года, пратакол 646, была прыведзеная ў выкананне 24 лютага 1938 года ў Слуцку.

Праз дваццаць два гады, у студзені 1960-га, калі страх крыху адпусціў, удава расстралянага звярнулася з просьбай паведаміць, што з мужам: жывы ці памёр, вінаваты ці не, і даць ягоны адрас. «Кампетэнтныя органы» пачалі разбірацца, ці правільна яны расстралялі лесніка з Саковічаў. Знайшлі і зноў дапыталі адзінага сведку Марка Нікалаевіча. Вось тэкст таго паўторнага дыялогу:

**Пытанне: Якія ўзаемаадносіны былі ў вас з Аліноўскім?**
**Адказ: Дрэнныя. Я з ім працаваў у адным лясніцтве, і ён на мяне скардзіўся начальству. За гэта я меў на яго злобу, і мы не размаўлялі.**
**Пытанне: Што вам вядома аб прычынах арышту Аліноўскага?**
**Адказ: Аб прычынах мне нічога не вядома. Я толькі ведаю, што ён быў благі чалавек, бо скардзіўся на мяне начальству.**
**Пытанне: Ці быў у бандзе Аліноўскі ў перыяд грамадзянскай вайны?**
**Адказ: Не, не быў. Жыў у Саковічах.**
**Пытанне: Вам зачытваліся вашыя паказанні ад 12 лістапада 1937 года. Ці давалі вы такія паказанні следству?**
**Адказ: Я тады казаў, што Аліноўскі благі чалавек. Што ён быў у бандзе, не гаварыў. Магчыма, і гаварыў. Але ў бандзе Аліноўскі не быў. Ці рабіў ён што-небудзь дрэннае для савецкай улады, я не ведаў і не ведаю.**

Вайсковы трыбунал пасмяротна рэабілітаваў А. Аліноўскага. Жонцы і дзецям абвясцілі радасную навіну і паведамілі, што іх муж і бацька ні ў чым перад савецкай уладай не вінаваты, а памёр сам, ад прастуды ці грыпу; апошні адрас нябожчыка — безыменную яму пад Слуцкам — не ўказалі. Сям’я ніколі не ўведала і прозвішча «сведкі» Марка Нікалаевіча...

У Старобіне мясцовая жыхарка, былая настаўніца, бацька якой згінуў у сібірскіх лагерах пасля даносу асведаміцеля «Ігнаценкі», на маё пытанне, што б яна зрабіла, калі б ведала, хто загубіў бацьку, раптам заплакала бязгучнымі слязьмі, а потым, як даўно вырашанае, ціха, але цвёрда сказала: «Я хацела б, каб ім было тое самае, што і людзям, якіх яны прадалі».

Там, у Старобіне, я адшукаў дом, дзе жыў адзін з сакрэтных памочнікаў НКВД. Гаспадар ляжаў на ложку. На мае спробы распытаць пра падзеі 30-х гадоў ён захрыпеў і пачаў паказваць пальцам на сцяну.

— Хварэе, — сказала дачка. — Вы б раней прыйшлі, ён добра расказваў пра савецкую ўладу, заўсёды ў прэзыдыуме сядзеў. Ганаровым піянерам абралі...

Побач з фотакарткамі на сцяне вісеў чырвоны гальштук і стаяў барабан без палачак. Вочы старога глядзелі некуды ўбок, па твары блукала дзікаватая ўсмешка. Ён пераваліў на дзявяты дзясятак...

## 1961. «Перамога справядлівасці»

Гарбачэўскі спісваў старонку за старонкай, асабіста адносіў заявы, тлумачэнні і скаргі ў гаркам, потым у абкам партыі, слаў заказныя лісты ў ЦК. Ён адчуваў, што яго не чуюць, чамусці не хочуць чуць, і гэтая несправядлівасць балюча крыўдзіла.

У 1927-м, напярэдадні калектывізацыі, дзевятнаццацігадовым сялянскім хлопцам ён пакінуў бацькоўскі падворак і з таго часу верна служыў партыі на самым адказным участку — выкрываў ворагаў партыі. Нічога іншага рабіць ён не ўмеў, у чым сам прызнаваўся ў скарзе сакратару ЦК КПБ П. Машэраву:

> **Я праслужыў больш за 25 гадоў, маю інваліднасць, спецыяльнасці ніякай няма, атрымліваю 120 рублёў, сям'я, і маці старая, 80 гадоў, чаму ніхто не падумаў аб маім далейшым жыцці...**

Былы намеснік наркама пісаў гэты ліст 13 красавіка 1961 года; у гэты дзень партыі было не да скаргаў сваіх гадаванцаў. Партыя святкавала чарговую сусветна-гістарычную перамогу — палёт Гагарына. Што з таго, што людзі з ночы займалі чэргі па хлеб, туліліся ў зямлянках, паміралі ад недахопу лекаў — партыя ішла да новых перамог, пераступаючы, як звычайна, праз лёсы і жыцці.

Праўда, так здаралася звычайна з шараговымі камуністамі. Каштоўным кадрам, такім, як Гарбачэўскі, шанцавала. Пасля пасады намесніка Цанавы, якую ён заняў адразу пасля вызвалення Беларусі ад немцаў, быў паступовы спуск з небяспечнай наменклатурнай вышыні — зноў мацаваў дзяржаўную бяспеку ў Пінску, потым у Віцебску, затым у Бабруйску. Партыі патрэбныя былі ягоны досвед, ягоныя здольнасці, ягонае пачуццё сацыялістычнай законнасці. Як бясспрэчны доказ сваёй лаяльнасці й адданасці, выводзіў ён пяром у блакноце:

**З 1929 года я ў партыі і за гэты час партыйных спагнанняў не меў.**

Праўда, падчас працы ў Віцебску яму запісалі ў асабістую справу «вымову з апошнім папярэджаннем». Ён арыштаваў нейкага Азарэнку і дамогся ад яго, як гаварылася ў даведцы, «выдуманых сведчанняў». Але ж у тым раёне быў масавы падзёж свіней, і трэба было праявіць рашучасць, у абкаме чакалі хуткіх вынікаў, і ён іх даў. Гэтаксама ён не мог пагадзіцца з яшчэ адным запісам у сваёй асабістай справе:

**неабгрунтавана арыштаваў грамадзянку Глушанкову Н.Л., паводле выдуманых сведчанняў якой пасля была арыштаваная яе сястра Глушанкова В.Л.**

Па-першае, не памятаў ён тых сясцёр, ці мала каго арыштавалі, па-другое, іх паказанні былі запісаныя і падпісаныя, так што ўсё законна. Ды хіба ўсё растлумачыш на паперы!.. Ён хадзіў на гутаркі, дамагаўся прыёму ў першага сакратара, але той не прымаў...

Гарбачэўскі меў бясплатную кватэру, вялікую пенсію — калгаснікі столькі не зараблялі за паўгода працы без выхадных, колькі палкоўнік запасу атрымліваў за месяц. Але хацелася большага: адчування маральнай праваты, звыклага пачуцця ўпэўненасці й далучанасці да асаблівага закрытага кола, якое называлі партыяй.

Аднак пасля XX з’езду КПСС у партыйныя органы прыйшло шмат новых людзей, якія верылі ў намер партыі ачысціцца ад злачынстваў «культу асобы» і спадзяваліся на перамены да лепшага. Гэта аб’ектыўна супадала з інтарэсамі вышэйшай партнаменклатуры, якая хацела застрахавацца сябе ад паўтарэння крывавых чыстак.

Члены парткамісіі пры Берасцейскім гаркаме Губарэвіч і Куракевіч праверку справы палкоўніка НКВД закончылі высновай:

**Са свайго боку лічым, што за ўсе здзейсненыя злачынствы перад народам і партыяй Гарбачэўскі не можа надалей заставацца ў шэрагах КПСС.**

Берасцейскі абкам нават пастанавіў хадайнічаць перад Вярхоўным Саветам СССР аб пазбаўленні палкоўніка дзяржаўных узнагародаў. Акцыя поспеху не мела — адстаўнік па-ранейшаму мог з гонарам апранаць кіцель, густа абвешаны ордэнамі і медалямі за адданую службу.

У траўні 1961 года парткамісія пры ЦК КПБ пацвердзіла выключэнне Гарбачэўскага з партыі. Ён звярнуўся ў вышэйшую інстанцыю — бюро ЦК і 3 ліпеня прыехаў у Мінск, каб даведацца, ці задаволеная ягоная апеляцыя. Распіска ў азнаямленні з пастановай бюро — апошні дакумент, які захоўваюць архівы ў справе члена партыі з 1929 года. Яму адмовілі.

Гарбачэўскі мог апеляваць далей да з'езду партыі, але без вялікіх шанцаў вярнуць членскі білет — занадта свежыя былі выкрыцці, зробленыя Хрушчовым, ды і самога першага сакратара пакуль яшчэ не скінулі таварышы па партыі. Пазней, у 70-80-я, тое сталася магчымым — аднавілі ж у партыі аднаго з бліжэйшых сталінскіх падручных, чый подпіс стаяў на дзясятках расстрэльных спісаў, — Молатава. Але Гарбачэўскі да ціхай рэанімацыі сталінізму не дажыў.

Ён памёр сваёй смерцю і пахаваны пад прыстойным помнікам, які нічым не адрозніваецца ад іншых падобных знакаў памяці і шанавання. Да канца дзён ён лічыў сябе незаслужана пакрыўджаным — верна служыў партыі, выконваў усе яе пісаныя і непісаныя законы, а партыя здрадзіла яму, адхрысцілася ад сваёй палітыкі і ўсклала віну за злачынствы выключна на тых, хто ажыццяўляў партыйную лінію на практыцы. У апошняй сваёй пісьмовай заяве, на бланку распіскі ЦК, былы супрацоўнік НКВД цвёрда вывеў:

**З рашэннем не згодны, бо фальсіфікацыі не было, і гэта няпраўда.**

Абсалютная большасць арыштаваных, якія прайшлі праз рукі Макара Гарбачэўскага, ляжаць з прастрэленымі патыліцамі ў магілах НКВД пад Слуцкам, Мінскам, Магілёвам, у безыменных ямах Сібіры і Поўначы.

За тысячы знішчаных лёсаў, закатаваных, расстраляных людзей Макар Давыдавіч Гарбачэўскі расплаціўся кардоннай кніжачкай у барвовачырвонай вокладцы, так падобнай колерам на знаёмы яму колер крыві.

Справядлівасць перамагла.

# Прыродныя бальшавікі

## Лісты на «волю»

Адбылося так, як і павінна было адбыцца ў Савецкай краіне — ён ні ў чым не вінаваты і зноў на волі. Памылка выпраўленая. Пражытае хацелася забыць, як дурны сон. Аднак ішлі дні, тыдні, і чамусці нічога не забывалася, наадварот, у памяці ўставалі імёны і прозвішчы, пабачанае і пачутае не давала спаць. Трэба напісаць, расказаць пра тое, што робіцца — але каму? Чарвякова даўно пахавалі, Галадзеда таксама няма, усё кіраўніцтва рэспублікі памянялася, новыя твары нічога не гаварылі... Можа, Надзеі Грэкавай, чыё прозвішча нядаўна стала з'яўляцца на першых старонках газет?

Ёй толькі дваццаць восем гадоў, былая швачка, і ўжо — сакратар ЦК і адначасна старшыня Вярхоўнага Савета БССР. Усё ж такі жанчына, здаецца, першая на такой пасадзе... Яна толькі што заняла кабінет свайго папярэдніка, ворага народа, арыштаванага і расстралянага, і, хутчэй за ўсё, не ведае, што адбываецца. Так, пісаць варта ёй — жанчына не можа не зразумець чужой бяды. Узяць хоць бы выпадак з Марыяй Рабкоўскай — яе выпусцілі пасля года следства, але ў кватэры жылі чужыя людзі, рэчаў не было, невядома, куды знік адзіны сын, сухоты рвалі грудзі...

Вырашана — Грэкавай. Ён абмакнуў пяро, падсунуў аркуш і вывеў зверху імя і пасаду адрасата. Пра сваю справу ён не будзе пісаць ні слова, імя і адрас пазначаць не стане — хто яго ведае, як яно можа павярнуцца. Такога давялося пабачыць, што...

У сектары рэгістрацыі пошты ЦК КП(б)Б ананімны ліст зарэгістравалі ў апошні дзень 1938 года, 31 снежня. На вуліцах ляжаў снег, у дамах стаялі упрыгожаныя ёлкі, да святкавання чарговага года камуністычных перамогаў рыхтаваліся савецкія людзі. Навагодняе пасланне ў ЦК пачыналася зусім не па-навагодняму:

> **Я, як савецкі грамадзянін, лічу сваім абавязкам паведаміць Вам аб пабачаным і пачутым у Мінскай турме НКВД. Каб не быць галаслоўным, і каб гэтая заява не насіла характар плёткі, я буду пазначаць прозвішчы асобаў пацярпелых, пра якіх мне вядома.**

Далей — толькі факты:

**Такушэвіч Канстанцін Мікалаевіч, білі на допытах і катавалі, яму пад пазногці запускалі голкі, зрывалі пазногці, пры катаванні атрымаў больш чым 50 ранаў, 49 дзён ляжаў у шпіталі, пасля катаванняў рабілі аперацыю на плячы. Заявіў следчаму, што піша хлусню, на што следчы яму сказаў: «Пішы, мне ўсё роўна».**
**Кіберніка на допытах білі. Ён сказаў следчаму: «Як вы мяне абвінавачваеце ў шпіянажы, я ж быў партызан». На гэта следчы яму сказаў: «Ах ты, польская морда, а хто цябе клікаў у партызаны!»**
**Яноўскі Уладзімір Іванавіч. Білі і дапытвалі безупынна на працягу 15 сутак. Яго прымусілі ўцягнуць шмат нявінных людзей. Каб выклікаць пракурора, ён мусіў абвясціць галадоўку.**
**Раўноўскі Мірон Максімавіч. Апраналі ўтаймавальную кашулю і супрацьгаз і білі, садзілі на робрышка крэсла, у задні праход устаўлялі ножку крэсла. Следчы прапаноўваў яму пісаць пра які-небудзь шпіянаж на выбар, альбо польскі, альбо японскі.**
**Лаймана Карла Іванавіча на допытах білі, прымушалі пісаць хлусню. Каб выклікаць пракурора, мусіў абвясціць галадоўку. Галадаў шэсць дзён, але пракурора не дамогся.**
**Разумоўская Ганна Аронаўна — пры допытах лаялі «жыдоўская морда».**
**Разанава Люся. Катавалі, садзілі на так званае фашыстоўскае крэсла, гэта такое крэсла спецыяльнае, на якім чалавек трымаецца на згібах каленаў, а ўсё тулава вісіць уніз галавой. Білі, пакуль не пайшла горлам кроў. Такіх прыкладаў можна прывесці тысячы.**

Ён забыўся паставіць кропку пасля апошняга сказа. Падобных прыкладаў можна прывесці тысячы... Ды хто будзе чытаць пра тысячы. У яго толькі чатыры аркушы з вучнёўскага сшытка па арыфметыцы. Папера рыхлая, і сталёвае пяро часам ірве яе, але почырк у яго разборлівы, павінны разабраць:

**Паводле расказаў вязняў спецыяльнага корпуса, там іх прыходзілі біць у камеру, прычым прымушалі адных арыштаваных біць іншых. Прымушалі ўсю камеру аправіцца на парашу, а аднаго накрывалі коўдрай над парашай і прымушалі дыхаць на працягу некалькіх гадзінаў.**
**Седзячы ў камеры, мы не раз чулі крык следчага: «Рукі па швах, прыступай да справы!» — і пачыналася жудаснае збіванне. Мы налічылі 70 удараў, жахліва было паверыць, што гэта пержы-**

**вае жывы чалавек. Для збівання ўжывалі гумовыя шлангі, жгут, спецыяльна звіты з электрадроту, кіі. Для катаванняў былі спецыяльныя зэдлікі з колам, на якія садзілі людзей і разрывалі прамежнасці паміж заднім праходам і палавым органам. Мужчын білі па палавых органах. Палілі цела папяросай, запалкамі і свечкай. Было электрычнае крэсла, на якое садзілі людзей.**

Ён зрабіў паўзу, але забыўся на пяро, і на паперы вырасла чарнільная пляма. Так, у мінскай турме цвёрда следавалі запавету Леніна пра тое, што сапраўдным камуністам немагчыма стаць, не засвоіўшы ўсяго багацця чалавечых ведаў. Тут засвоілі: ад сярэднявечнага саджання на кол да апошняга дасягнення цывілізацыі — электрычнага крэсла. Няхай Грэкава ўведае ўсё пра «перадавыя» прыёмы працы камуністаў з НКВД:

**Білі «брыгадным спосабам», калі на аднаго арыштаванага налятала брыгада з 6-8 чалавек, збівалі да непрытомнасці, выцягвалі ў калідор, аблівалі вадой і зноў пачыналі біць. Былі выпадкі, калі на допытах забівалі. Усяго не напісаць...**



Так, усяго не напісаць. Ён не стаў прыводзіць іншыя прыклады і не пакінуў свайго імя. Выйшаў на заснежаную мінскую вуліцу, пайшоў на прыпынак, прыехаў у цэнтр, каб там апусціць ліст у паштовую скрынку — і знік, зліўся з безыменнай масай былых і будучых ахвяраў.

У ЦК да ананімных лістоў ставіліся ўважліва, крытыка і самакрытыка заахвочваліся. Але гэты быў яўным паклёпам на органы і не заслугоўваў сур'ёзнай увагі. Да Надзеі Грэкавай ліст патрапіў ужо ў новым, 1939 годзе, і ад яе без усялякай рэзалюцыі быў адпраўлены ў архіў, дзе і праляжаў больш за паўстагоддзя, пакуль яго не прачыталі зноў...

Праўда, не ўсе скаргі пад Новы год былі ананімныя. Некаторыя падпісваліся, як былы каваль, чырвонаармеец, міліцыянер Райхліновіч, колішні вязень Мінскай турмы НКВД:

**У лістападзе 1937 года мяне прывялі а 1-й гадзіне ночы на допыт, і пачалася расправа. Я быў звязаны ва ўтаймавальнай кашулі і збіты да страты прытомнасці. У снежні нада мной зрабілі інсцэніроўку абразання. А 2-й гадзіне ночы пры допыце мне прапанавалі спусціць нагавіцы, каб зрабіць абразанне. Я не пагадзіўся, але пасля жорсткага збівання спусціў нагавіцы, і адзін са следчых выняў нож і прымусіў, каб я палавы орган паклаў на табурэтку, але я гэтага не зрабіў, і тады яны схапілі мяне за палавы орган і пачалі цягаць па пакоі да страты прытомнасці.**

Як вынікала з ліста Райхліновіча, не ўсе савецкія людзі сустракалі Новы год разам з сябрамі і сваякамі — некаторыя працавалі, працягвалі будаваць камунізм. Аўтар ліста прыводзіць дэталі гэтага будаўніцтва:

**На наступны допыт на Новы год, г. зн. 1 студзеня 1938 года, мяне выклікалі на допыт таксама роўна а 2-й ночы, прымусілі стаяць на зважай, і адзін з іх стаў на зэдлік і пачаў мачыцца мне ў вуха. У гэтым жа месяцы таксама а 1-й гадзіне ночы пры 30-градусным марозе пры знарок адчыненых вокнах і дзвярах мяне распранулі да адной кашулі, налілі за каўнер 2 графіны вады і прымусілі сядзець да 2 гадзінаў раніцы. На мне абсалютна ўся вопратка змерзла, я змерз да страты прытомнасці. Дадам, што следчы Высоцкі, які мяне збіваў і здзекаваўся з мяне, прымушаў мяне стаяць на зважай, трымаць тоўстую кнігу Евангелля, хрысціцца і маліцца. Гэта працягвалася 6 месяцаў...**

Райхліновіча асудзілі на тры гады лагераў, праз сем месяцаў пасля многіх скаргаў справу перагледзелі і яго вызвалілі — інвалідам, без кватэры, без сродкаў на жыццё. У адрозненне ад незлічоных іншых ахвяраў, ён змог напісаць і паслаць сваю скаргу, яна была акуратна падшытая і праляжала ў партархівах больш за паўстагоддзя.

А вось паведамленне з турмы НКВД у прамысловым раёне Гомеля было напісанае на бланку абкама партыі і таму, мабыць, было прачытанае ў ЦК. Тым больш, што праверка скаргі зняволенага Цімохава праводзілася на даручэнне самога ЦК. Сакратар абкама Жыжанкоў дакладаў:

> **Пра факты фізічнага альбо маральнага насілля над зняволенымі з боку работнікаў турмы мною, шляхам абыходу камераў, было зробленае апытанне зняволеных, якія заявілі, што ніякіх скаргаў на дрэннае абыходжанне не маюць. Ліст Цімохава па сутнасці з'яўляецца лжывым.**

Аднак пасля гэтага Жыжанкоў паведамляе пра некаторыя іншыя факты турэмнага жыцця ў Гомелі:

> **1. У камерах назіраецца неймаверная скучанасць. Так, у жаночай камеры памерам 12 кв. метраў знаходзіцца 10 чалавек; мужчынская камера памерам 80–100 кв. метраў, утрымліваецца 114 чалавек, нары ў два ярусы. Ва ўсёй астатняй турме адсутнічаюць ложкі, зняволеныя месцяцца на падлозе на рэчах. 2. Адсутнічаюць лыжкі (на дзесяць чалавек адна лыжка), зусім няма кубкаў. 3. Прагулкі замест 1 гадзіны даюцца на 10 хвілінаў, разам з часам выхаду з камеры і вяртання.**

Звярнуўся ў партыйныя органы і былы начальнік Магілёўскай турмы НКВД Кісялёў, які прыводзіў дэталі рэжыму ў падначаленай яму ўстанове. Там кіраўніцтва НКВД патрабавала

> **даваць арыштаваным рэдкі суп і падсыпаць туды болей солі і, апроч таго, у камеру, разлічаную на 5 чалавек, сажаць 25–30, матывуючы тым, што арыштаваныя ў нас адчуваюць сябе, як у доме адпачынку, атрымліваюць добры густы і тлусты суп і сядзяць вольна, і таму сведчанняў ад іх ніколі не даб'ешся, а пасадзіць іх чалавек 30 у камеру, даць суп перасолены, а потым на допыце не даць вады, вось тут яны будуць прызнавацца...**

І прызнаваліся — у тым ліку й тыя, каму турэмнае жыццё арыштаваных здавалася домам адпачынку. Дакладна невядомы лёс былых следчых у справе Райхліновіча, былых начальнікаў турмаў НКВД у Магілёве ды Гомелі.

Дакладна вядомы лёс адрасата лістоў з Мінскай турмы НКВД Надзеі Грэкавай. Яна не адказвала на падобныя допісы і каля васьмі гадоў займала пасаду старшыні Вярхоўнага Савета БССР, была сакратаром абкама партыі ў Расеі, да пенсіі знаходзілася на высокай кіраўнічай рабоце ў Маскве. Яе імя ёсць і, відаць, будзе ва ўсіх энцыклапедыях і даведніках па гісторыі Беларусі.

Гэта будзе няпоўная гісторыя без лістоў з турмаў НКВД БССР. Праўда, і адрас, на які пісалі свае скаргі арыштаваныя, воляй ніяк не назавеш...

## Баліць чэкісцкае сэрца

«Празмерная стомленасць, болі ў раёне сэрца», — запісвалі лекары паказанні чарговага пацыента. Той расказваў, што апошнія пяць гадоў рэгулярна прымае душ Шарко, а таксама цыркулятарны, веерны, дажджавы, сасновыя ванны, але ўсё роўна адчувае перастому.

— Трэба берагчы сябе, таварыш наркам, Вы патрэбныя партыі. Вось выпішам рэцэпт, адпачніце, а потым зноў, калі ласка, да нас на абследаванне.

Барыс Давыдавіч Берман, а такое было імя пацыента, які наведаў паліклініку санітарнага аддзела НКВД 13 снежня 1937 года, больш да лекараў не прыйшоў: праз тыдзень, да 20-й гадавіны ЧК, наркам атрымаў ордэн Леніна за ўдарнае выкрыццё ворагаў народа ў Беларусі, а потым быў адкліканы ў Маскву, дзе ад перастомы і боляў у сэрцы лячылі куляй у патыліцу.

Але радыкальныя меры дарэчы толькі ў канцы. Абвастрэнне класавае барацьбы вымагала мець на службе мноства здаровых двухногіх істотаў без пер’я — так адзін старажытны філосаф вызначаў чалавека. І хоць партыя не зважала на чысціню іх рук і тэмпературу сэрца, на чым настойваў некалі рамантычны кат-заснавальнік ЧК, пра страўнік, стан зубоў і мачапалавой сістэмы сваіх супрацоўнікаў НКВД клапаціўся.

Многія ворагі працягвалі шкодніцтва і пасля арышту: не падпісвалі паказанняў, не прызнаваліся ў шпіянажы, не называлі саўдзельнікаў.

Даводзілася працаваць дзень і ноч, каб выконваць нормы выкрыцця ворагаў, і гэта псавала здароўе.

За працай унутраных органаў работнікаў унутраных справаў пільна сачылі ў санітарным аддзеле адміністрацыйна-гаспадарчае ўправы НКВД. На кожнага супрацоўніка быў заведзены санжурнал, у якім падрабязна фіксавалі ўмовы службы і быту: колькі гадзінаў у суткі працуе, колькі разоў у дзень есць, ці хапае ежы, ці гарачая яна, колькі спіць, і ці глыбокі сон. На працягу верасня 1937-га ў санчастцы НКВД БССР такім чынам абследавалі восемдзесят чатыры пацыенты, з іх трыццаць — навабранцы.

Большая частка папаўнення, 22 чалавекі, ішла служыць у НКВД з арміі. Гэта былі камсамольцы, сярэдні ўзрост на момант паступлення ў НКВД — 23 гады. Да арміі займаліся хто чым: Уладзімір Іваноў быў калгаснікам, Аляксей Папутчык вучыў дзяцей у школе, Іван Сакалоў сталярнічаў, Васіль Ісакаў слясарыў, Піліп Каралёў падбіваў балансы ў бухгалтэрыі, Леанід Альтшулер займаўся статыстыкай, Кузьма Васіленка здабываў торф... Таксама паступалі ў НКВД цывільныя асобы з ліку тых, хто, відаць, раней дапамагаў органам на аматарскіх пачатках: журналіст Іосіф Сакалоўскі, студэнты Георгі Бібікаў, Сава Федарцаў, Сяргей Якавіцкі, Барыс Хвашчынскі. У ліку будучых оперработнікаў праходзілі абследаванне піянерважатая мінскай школы нумар 21 дзевятнаццацігадовая Ліза Далінка і васямнаццацігадовы Мікалай Сергяенка.

Ва ўсіх навабранцаў аказаўся ідэальны ўзровень ацэтону ў мачы і гемаглабіну ў крыві, востры слых і зрок, моцнае сэрца і выдатныя рэфлексы. Камісія прызнала ўсіх трыццацёх асобаў вартымі папоўніць шэрагі катаў.

Наперадзе іх чакала неблагая кар’ера: берыеўскую чыстку органаў 1938-39-га бальшыня з іх, хутчэй за ўсё, праскочыла, бо зусім нядаўна пачала служыць. Пры Хрушчове ўсё спісалі на Сталіна і Берыю, а непасрэдных выканаўцаў амаль не зачапілі. Яны запоўнілі кадравыя вакансіі, якія адкрыліся пасля выбарачнай выразкі яжоўскай пляяды катаў, і працягнулі іхную справу.

Праўда, з медычнага пункту гледжання іх будучыня выглядала не так бясхмарна, калі меркаваць паводле стану здароўя старэйшага пакалення катаў.

А ў тых са здароўем было няважна. Начальнік турмы ў Магілёве Іван Карнеевіч Петрусенка 1898 года нараджэння ўзяў у рукі чэкісцкі маўзер у 1921 годзе. У выніку ў 1937-м, як адзначыла медкамісія, меў «лёгкі

трэмар пальцаў рук, чэрапна-мазгавую інервацыю, пры хваляванні — ваніты». На тры гады маладзейшы за яго Іосіф Аляксандравіч Жыдкоў не займаў кіраўнічых пасадаў у НКВД: усе дзевяць з паловай гадоў быў байцом, проста націскаў на курок. Але ўвосені 37-га медкамісія зафіксавала ў яго пастаянныя болі ў сэрцы, нясцерпны галаўны боль і чэрапна-мазгавую інервацыю. Калі начальніка турмы камісія прызнала «абмежавана прыдатным» да службы, дык насупраць прозвішча байца стаіць вердыкт — «непрыдатны».

Здароўем не маглі пахваліцца нават тэхнічныя работнікі. У сакратара-машыністкі Кацярыны Навіцкай прыступы смеху перамяжаліся з прыпадкамі слёз, пасля друкавання пратаколаў допытаў і пастановаў яна дрэнна спала; яе калега Лілія Быкоўская таксама пакутавала на неўрастэнію.

Апошні дыягназ самы распаўсюджаны. За чатыры гады аператыўнай працы ў органах неўрастэнікам стаў 26-гадовы Сямён Бягун, 35-гадовы Аляксандр Жураўлёў меў такі ж дыягназ пасля сямі гадоў службы, 37-гадовы Сямён Барысаў — пасля адзінаццаці. Памочнік оперупаўнаважанага Гомельскага гараддзела 33-гадовы Дамінік Віткоўскі праз няпоўныя сем гадоў вядзення допытаў пачаў заікацца, 32-гадовы Аляксандр Драздоў за дванаццаць гадоў класавай барацьбы зарабіў неўрастэнію другой ступені, а ягоны аднагодак Іван Колас пасля васьмі гадоў змагання ўвогуле мусіў звольніцца з НКВД: нервовыя прыпадкі, эпілепсія — ворагі народа давялі...

Хіба думаў мінчук Яўсей Іасілевіч, калі ў 1926 годзе змяніў брытву цырульніка на карны меч партыі, што за гераічную пасаду дзяжурнага каменданта НКВД БССР давядзецца заплаціць «галаўным болем, неспакойным сном, расстройствам харчавання, вяласцю страўніка, палавой слабасцю, панурасцю настрою, зніжанай працаздольнасцю» ды іншымі сімптомамі неўрастэніі?

На гэтым фоне экзотыкай выглядае дыягназ «агульнае атлусценне», ад якога пакутаваў начальнік 8 аддзялення 3 аддзела НКВД 40-гадовы Аляксандр Васільеў. Зрэшты, прычына гэтай хваробы таксама ў нервовай 17-гадовай чэкісцкай службе пацыента.

Самае дзіўнае, што якраз на неўрастэнію — прафесійнае захворванне чэкістаў — супрацоўнікі НКВД увогуле не мусілі былі пакутаваць. Так вынікае з Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, аўтар якой у тым самым 1937 годзе бачыў прычыны гэтага захворвання ў «напружанай барацьбе за існаванне» пры капіталізме. Спрыяльнымі для неўрастэніі лічыліся

«ўмовы капіталістычнай вытворчасці, звязаныя з аднастайнасцю працоўных працэсаў, адсутнасцю цікавасці да працы, заўсёднай пагрозай беспрацоўя». Беспрацоўе пры будаўніцтве камунізму катам не пагражала, а вось працоўныя працэсы сапраўды былі аднастайныя: паставіў ворага на канвеер і — бі, бі, бі...

Найлепшая прафілактыка неўрастэніі — сацыялістычная рэвалюцыя. Энцыклапедыя сцвярджала: «Знішчэнне беспрацоўя, правільнае рэгуляванне працы і адпачынку, поўнае знішчэнне эмоцыяў адмоўнага характару, звязаных з працай на капіталістычным прадпрыемстве, і замена іх эмоцыямі станоўчымі на сацыялістычных прадпрыемствах, «праца — справа гонару, годнасці, справа доблесці і геройства», пашырэнне фізкультуры і здаровых забаваў замест традыцыйньгх у капіталістычных краінах алкагольных эксцэсаў — вось аснова прафілактыкі неўрастэніі».

Калі ўсё ж занаходзіліся асобы, якія і пры сацыялізме гублялі цікавасць да працы ці няправільна рэгулявалі справу геройства і справу адпачынку, энцыклапедыя раіла «выдаленне ад звычайных умоваў — лепш за ўсё ў дамы адпачынку, санаторыі, псіханеўралагічныя здраўніцы».

У 1937 годзе санаторыяў для чэкістаў яшчэ не хапала: толькі двойчы на ўвесь санжурнал сустракаюцца адзнакі аб адпачынку ў Кіславодску і на паўднёвым беразе Крыма. *

Аднак у перыяд абвастрэння класавае барацьбы санаторыяў для шараговых чэкістаў не хапала, а напружанне пасля допытаў і расстрэлаў трэба было здымаць. Як расслабляюцца супрацоўнікі, у НКВД ведалі, і таму ў медычную карту была ўведзеная графа «спажыванне алкаголю». Распрацоўшчыкі анкеты ўлічвалі спецыфіку свайго кантынгенту і пра-

---

* Потым сітуацыя значна палепшылася: КГБ займеў шырокую сетку лячэбніцаў на лепшых курортах. Памятаю, годзе ў 84-м я аднойчы заблукаў на крымскім беразе і раптам пабачыў фунікулёр на тэрыторыі нейкага санаторыя. Вароты якраз былі адчыненыя — я праскочыў за машынай, падыйшоў да кабінкі і прапанаваў аператару рубель за дастаўку ўніз. Ён спалохана адмовіўся і паклікаў сваю начальніцу. Тая запатрабавала дакументы. Рэдакцыйнае пасведчанне «Звязды» на беларускай мове паставіла яе спачатку ў тупік, але затым яна шырока ўсміхнулася і сказала: «А, «Звёздочка», это же наша газета!» — яўна маючы на ўвазе вайсковую «Красную звезду».

Мяне даставілі на фантастычна малалюдны пляж, падзелены бетоннымі плітамі на адрэзкі метраў 50-70. Выбраўшы месца, я пачаў распранацца, калі раптам ад сцяны аддзялілася нешта бетанападобнае і зноў запатрабавала дакументы. Потым ахоўнік махнуў рукой на адгароджаны ўчастак пляжу крыху далей: «Тут для начальнікаў упраў камітэта, а там для намеснікаў, прайдзіце». Падзел мора паводле званняў і пасадаў — несумненнае дасягненне чэкісцкай медыцыны, якое ў энцыклапедыі не трапіла.

паноўвалі верагодныя адказы на гэтае пытанне: «запойнае п'янства, звыклае п'янства, напіваецца час ад часу, п'е памяркоўна, піў раней», і апошняя версія адказу — «не п'е».

Усе апытаныя ў графе «спажыванне алкаголю» сціпла прызнаваліся, што п'юць выключна піва. Гэтак заўсёды адказваў і былы слесар Міхаіл Бычкоў, чэкіст з 1921 года. Увосені 1937-га медкамісія знайшла ў адказнага дзяжурнага па наркамату хранічны алкагалізм на фоне цяжкай неўрастэніі. Выснова — да службы непрыдатны, тым болей, што дзяжурны страціў усю адказнасць і перастаў з'яўляцца на працу. А вось Леў Тамарчанка, хоць і здымаў стрэс, як высвятліла камісія, з дапамогай опіуму, змог працягнуць аператыўную работу.

Пасля медагляду змаглі вярнуцца да сваіх месцаў на чэкісцкім канвееры былы кацельшчык Барыс Лапцёнак, шафёр у мінулым Валяр'ян Корсак, колішні памочнік машыніста Мікалай Васілеўскі, шавец Сяргей Дудзенка, а таксама былыя электразваршчык Мікалай Чатанаў, чыгуначнік Рыгор Маўчан, дарожны майстар Сяргей Зотаў і мноства іншых, на чыё рабоча-сялянскае здароўе пакуль аніяк не паўплывала спецыфіка заняткаў.

Двухногія істоты без пер'я ў стане выконваць любую работу, на якую пашле партыя: у газавых камерах і кабінетах следчых, у канцлагерах і на будоўлях. А што сэрца часам баліць — дык ворагі вінаватыя...

## Пераможцы сацспаборніцтва

Супрацоўнікі ГБ любілі паўтараць: мы таксама пацярпелі ад таталітарызму, 20 тысячаў чэкістаў загінулі падчас рэпрэсіяў. Сапраўды, у 1938 годзе пачалася чарговая ўнутрыпартыйная бітва павукоў у слоіку, і з ласкі Сталіна берыеўцы пачалі грызці яжоўцаў. Прычым з гэтай спецкатэгорыяй арыштаваных следчым нічога не трэба было выдумляць — верныя салдаты партыі былі па калені ў крыві, як і сама партыя.

Вось гісторыя былога начальніка Слуцкага гарадскога аддзела НКВД Тараканава, які з'яўляўся кіраўніком міжраённай следчай групы і ўзначальваў пошук ворагаў народа і контррэвалюцыянераў у раёнах Слуцкай акругі, у тым ліку і Старобінскім. Пасля арышту паказанні аб метадах кіраўніцтва Тараканава давалі ягоныя падначаленыя. Памочнік оперупаўнаважанага Слуцкага НКВД Шэвелеў пісаў:

**Пры допыце арыштаваных я, як і іншыя следчыя, прымяняў наступныя фізічныя ўздзеянні: доўгая стаянка, канвеер і прысяданні. Тараканаў асабіста паказваў мне прыклад, як дапытваць, каб хутчэй прызнаваліся арыштаваныя. Я добра памятаю, як Тараканаў зайшоў да мяне, калі я дапытваў арыштаваную Сцешыну. Калі я даклаў, што яна не прызнаецца, Тараканаў пачаў крычаць на яе, схапіў абедзвюма рукамі за плечы, і моцна пачаў трэсці, і стаў стукаць спінай аб сценку печы. Тараканаў сказаў мне болей яе ганяць і меней міндальнічаць.**

У даведцы аб праверцы працы Слуцкай міжраённай следчай групы, складзенай у кастрычніку 1938 года, далей расшыфроўваецца гэтае «міндальнічанне».

**Да арыштаваных ужываліся меры фізічнага ўздзеяння, збіванне арыштаваных рукамі, бутэлькай, пасадка на вугал і ножку перавернутага крэсла, скіданне арыштаваных на падлогу, абліванне халоднай вадой і г.д.**

Оперупаўнаважаны Шэвелеў расказаў на судзе пра яшчэ адну з асаблівасцяў рэжыму НКВД у Слуцку:

**Прыкладна ў ліпені 1938-га ў мэтах найхутчэйшага выкрыцця арыштаваных Тараканаў стварыў камеры ў КПЗ і турме. Іх рэжымнасць палягала на тым, што замест 4-5 чалавек у камеры набівалі па 25-30 чалавек, арыштаваныя толькі стаялі. З камераў выносілі людзей непрытомнымі. Мне асабіста давялося адкрываць рот срэбнай лыжкай арыштаванаму Далматовічу і абліваць яго вадой, каб ачуняў. У непрытомнасці з камеры вынеслі чалавекі тры-чатыры.**

Падрабязнасці рэжыму ў камерах прывёў у сваіх паказаннях і начальнік Слуцкай турмы Крэмераў:

**У камерах адсутнічалі ложкі, зняволеных было столькі, што ім даводзілася стаяць, бо месца класціся і сядзець не было, было надзвычай душна, вельмі шмат у каго апухалі ногі.**

На пытанне, колькі часу мог зняволены вытрымаць у рэжымнай камеры, начальнік турмы Крэмераў адказаў:

**Я ведаю адно, што як толькі зняволены пабудзе дні два-тры ў рэжымнай камеры, дык ён ужо просіцца на допыт даваць паказанні.**

Прызнанні свайго калегі дапоўніў яшчэ адзін следчы Слуцкага НКВД Машэнец:

**На аператыўных нарадах Тараканаў прызначаў на кожнага супрацоўніка цвёрдыя нормы выкрыцця трох-чатырох арыштаваных у суткі. Пасадка на вугал крэсла, допыт стоячы і фізічнае збіванне ўжываліся масава ўсімі намі, следчымі, іначай і быць не магло, бо прызначаную норму — тры-чатыры выкрыцці ў суткі — немагчыма выканаць пры звычайным допыце. Следчыя, дапытваючы такімі метадамі, давалі ад аднаго да трох выкрыццяў і былі асобныя выпадкі, калі дабіваліся па тры-чатыры выкрыцці ў суткі, напрыклад, Шэвелеў, Лучко, Сталяроў, я і Каралёў. Былі выпадкі, калі следчы Пазнякоў і яшчэ адзін следчы з Мінска, прозвішча не памятаю, давалі па пяць выпадкаў выкрыцця ў суткі...**

Яшчэ адзін памочнік оперупаўнаважанага Слуцкага НКВД Галубкін на допыце засведчыў:

**Мой непасрэдны кіраўнік Гласкоў заявіў, што арыштаваныя нашага раёну ўсе ідуць на расстрэл і што мы спаборнічаем з Глускім райаддзелам НКВД і мы ідзем наперадзе.**

Галубкін дадае яшчы адзін штрых у метады, якімі слуцкія чэкісты перамагалі ў гэтым д’ябальскім спаборніцтве:

**Я дапытаў арыштаванага Бялькевіча Мяфодзія Малфеевіча, узяў пратакол допыту і прынес Гласкову. Ён прачытаў і спытаў: «А дзе шпіянаж?» Апроч таго, Бялькевіч на адно маё пытанне назваў сваіх знаёмых. Гласкоў мне сказаў, што гэта, безумоўна, контррэвалюцыйная група, трэба будзе болей папрацаваць над зняволеным. Я працягнуў допыт, прычым прымяняў меры фізічнага ўздзеяння над Бялькевічам у выглядзе таго, што садзіў на вугал крэсла, пасля чаго Бялькевіч прызнаўся, што з’яўляецца шпіёнам. Пратакол допыту я прынес і аддаў Гласкову, які ў парадку карэкціроўкі перарабіў увесь пратакол, дзе названыя Бялькевічам знаёмыя сталі**

> **шпіёнамі... Я гэты пратакол даў на подпіс арыштаванаму, які падпісаў яго адразу, нічога не кажучы.**

Гуманіст з НКВД Шэвелеў, які не пашкадаваў срэбнай лыжкі, каб адкрыць сціснуты сутаргай рот арыштаванага, таксама мусіў сціпла прызнацца ў сваіх стаханаўскіх метадах, усклаўшы віну на кіраўніцтва:

> **Я бачыў, што Тараканаў ніякіх мераў супраць фізічнага ўздзеяння пры допытах не прымае, таму таксама пачаў ужываць розныя метады фізічнага ўздзеяння, а менавіта: дапытваў стоячы, садзіў на вугал крэсла з выцягнутай нагой і часткова выбіваў з-пад арыштаванага крэсла.**

«Часткова выбіваў крэсла...» — колькі за гэтым красамоўным выразам адчуваецца жаху самога Шэвелева, спробы падаць сябе толькі выканаўцам загадаў, які да таго ж толькі «часткова» катаваў.

Лёс тых зняволеных, хто не даваў паказанняў, выразна засведчыў начальнік Слуцкай турмы Крэмераў:

> **У 1937-38 гадах было шмат выпадкаў, калі зняволеныя са следства дастаўляліся ўжо забітымі, прозвішчы не памятаю. Таксама быў выпадак у чэрвені 1938 года, калі зняволены Хавустовіч Фадзей пасля прыбыцця з допыту ў турму праз 2 гадзіны памёр. Я асабіста мяркую, што Хавустовіч быў моцна збіты на допыце, бо ён ішоў на допыт цалкам здаровы, а калі прыйшоў, дык праз 2 гадзіны памёр.**

Нават камісія НКВД у кастрычніку 1938-га мусіла зазначыць, што з ліку 176 правераных справаў Слуцкага НКВД больш за сто даведак на арышт складзеныя беспадстаўна.

У ліпені 1939 года Тараканава судзіў вайсковы трыбунал войскаў НКВД. Ён атрымаў 10 гадоў папраўчых работ і адправіўся адбываць тэрмін у лагер, дзе, як вядома, адміністрацыя заўсёды клапацілася аб «сваіх» людзях — калі можна так сказаць, гаворачы пра нелюдзяў.

## «За кіпучай чэкісцкай работай»

У адрозненне ад ацалелых вязняў ГУЛАГу, якія пакінулі свае ўспаміны аб перажытым, каты мемуараў не пісалі. А калі й пісалі, дык пра свае подзвігі ў засценках не згадвалі. Між тым, архіўныя сведчанні пра «ўнутранае» жыццё НКВД існуюць — яны напісаныя катамі, якія праз іронію лёсу сталі ахвярамі.

Адзін з такіх, начальнік 4-га сакрэтна-палітычнага аддзела НКВД БССР Васіль Ермалаеў, дае даволі падрабязную панараму нораваў і традыцыяў, якія панавалі ў НКВД БССР у сярэдзіне 30-х гадоў. Гэты шматстаронкавы допіс патрапіў на імя новага сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі прыйшоў з Мінскай турмы НКВД:

**Турма абмяжоўвае паперай. Прасядзеўшы ў адзіночнай камеры 10 сутак, вельмі многае ўсплыло ў памяці, чаго за кіпучай чэкісцкай работай, магчыма, і не ўзгадаў бы.**

Васіль Ермалаеў, член партыі з 1919 года, прыйшоў у органы ў 1924 годзе. У Беларусь з Расеі яго накіравалі ў 1935 годзе, і тут чэкісцкая кар'ера Ермалаева сапраўды «ўскіпела». Пачаў у Мінску оперупаўнаважаным, і ўжо праз некалькі месяцаў быў прызначаны начальнікам Асобага аддзялення кавалерыйскай дывізіі, якая фармавалася. Менш чым праз год, у кастрычніку 1936-га, Ермалаеў стаў начальнікам аддзела НКВД Лепельскай акругі, у якую ўваходзілі 4 раёны. Службу ведаў: на ўвесь СССР прагучала так званая «Лепельская справа», паводле якой нават ЦК ВКП(б) прымаў спецыяльную пастанову. Лепельская акруга лічылася памежнай, кожны другі жыхар меў сваякоў альбо знаёмых на польскім баку, і таму недахопу ў «польскіх шпіёнах» лепельскія чэкісты не мелі.

Менш чым праз паўтары гады заслугі Ермалаева былі ацэненыя, і з асабістай ласкі наркама ўнутраных справаў Бермана ён атрымаў новае падвышэнне — быў пераведзены ў Мінск, у апарат НКВД БССР.

Чацвёрты, самы жахлівы аддзел НКВД займаўся следствам, г.зн. фабрыкацыяй справаў. Ягоныя супрацоўнікі катавалі арыштаваных, складалі пратаколы допытаў, перасылалі іх на разгляд «троек» і асобых нарадаў. Апроч таго, з райаддзелаў НКВД сюды накіроўвалі свае следчыя справы для разгляду, вынясення заключэння і далейшага накіравання паводле падсуднасці. Праз аддзел напрасткі праходзілі арыштаваныя наркамы, акадэмікі, прафесары, пісьменнікі.

Ермалаеў, які дагэтуль выяўляў польскіх агентаў паміж сялянаў і раённай наменклатуры, падзяліўся з Берманам сваімі сумневамі: маўляў, у такім маштабе ніколі не працаваў. Берман, паводле сведчання Ермалаева, спытаўся:

**У вас калі-небудзь хістанні былі ад генеральнай лініі партыі?**

**Не.**
**Дык астатняе прыкладзецца.**

**Пасля гэтага я пайшоў, сеў за стол і прыступіў да працы.**

Працы хапала: неабходна было ліквідаваць завалы следчых справаў. На пачатак лютага 1938 года за аддзелам, дзе працавалі 54 чалавекі, налічвалася больш за 450 арыштаваных, многія з якіх чакалі свайго лёсу год і болей. Каля 600 следчых справаў з перыферыі ляжалі доўгія месяцы без адказу. Ермалаеў скардзіўся Панамарэнку:

**Я знайшоў у аддзеле поўны развал дысцыпліны, наяўнасць групаўшчыны на глебе маральна-бытавога разбэшчання. Сувязь з невядомымі жанчынамі, наведванне іх групай, выкарыстанне для нізкіх мэтаў канспіратыўных кватэраў. У гэтую групу ўваходзілі Слукін, Кунцэвіч, Быхоўскі, Шэйнкман, Якімаў, Перавозчыкаў ды іншыя.**

Сваіх папярэднікаў на пасадзе новы начальнік ахарактарызаваў каротка, але ёміста:

**Клейнберг, які аказаўся ворагам народа — прайдзісветам, пасля яго Урачоў, пра якога старыя работнікі кажуць, што ён прапіў 4-ты аддзел, зачыняўся ў кабінеце штодзень з пахмелля і нікога не прымаў. Пасля яго Волчак, які быў арыштаваны за сувязь з трацкістамі. Да майго прыезду сярод работнікаў 4-га аддзела была ўскрытая і ліквідаваная трацкісцкая група.**

З ліста Васіля Ермалаева паўстае яшчэ адна дэталь кіпучых чэкісцкіх будняў — узаемныя даносы:

**У аддзеле кадраў ёсць заява, што Кунцэвіч, начальнік аддзялення ў справе царкоўнікаў і сектантаў, у 1930 годзе заганяў адміністрацыйна сялян у калгасы, абагульняў інвентар аж да курэй. У гэтай**

**заяве гаворыцца, што Кунцэвіч меў сувязь з жонкай арыштаванага і што ёй расказваў пра мужа. Гэтыя звесткі я ўведаў за некалькі дзён да свайго арышту і даклаў наркаму Цанаву.**

У адзіночнай камеры турмы НКВД Ермалаеў узгадаў і іншых сваіх падначаленых і даў ім шматколерныя характарыстыкі. Ён пісаў:

**У аддзеле было 8 аддзяленняў. Аддзяленне ў справах трацкістаў і правых узначальваў Шэйнкман, разбэшчаны чалавек, стары халасцяк, заляцаўся да кожнай спадніцы. Нацыянал-фашыстоўскае аддзяленне ўзначальваў Быхоўскі — садыст, маральна разбэшчаны, фанабэрысты, ганарлівы, падхалім, кар'ерыст, распусны нізкі чалавек, які інтымна жыў з многімі невядомымі жанчынамі, у тым ліку з машыністкай 4-га аддзела. Аддзяленне ў справах эсэраў і меншавікоў узначальваў Артамонаў — п'яніца, гультай, прагульшчык. Аддзяленне абслугі савецкага апарату і рабочае класы ўзначальваў Гарбаты, які меў сумнеўныя сувязі. Аддзяленне ў справах сельскай гаспадаркі начальніка не мела аж да выдзялення з 4-га аддзела самастойнага сельгасаддзела.***

Ахарактарызаваўшы такім чынам частку сваіх найбліжэйшых памочнікаў — кіраўнікоў аддзяленняў, Ермалаеў перайшоў да астатніх, і зноў не пашкадаваў фарбаў. Са сваёй камеры ён пісаў у ЦК:

**Аддзяленне ў справах моладзі ўзначальваў Слукін, распуснік, разбэшчаны ў палавых адносінах, маральна нізкі. Выкарыстоўваў у нізкіх мэтах канспіратыўную кватэру — вадзіў туды жанчын.**

---

* Прозвішчы следчых, якія згадвае Ермалаеў у апісанні Садому і Гаморы, якія ўяўляў сабой НКВД БССР у 30-я гады, вядомыя і паводле ўспамінаў ахвяраў рэпрэсіяў — беларускіх пісьменнікаў Станіслава Шушкевіча, Сяргея Грахоўскага, іншых. Следчы Быхоўскі з кампаніяй праводзілі допыты Цішкі Гартнага, Тодара Кляшторнага, вядомых прадстаўнікоў беларускай навуковай інтэлігенцыі. Не аб тым, вядома, гаворка, што высокамаральныя каты на месцы дэградаваных катавалі б не так бязлітасна-жорстка. Высокамаральных катаў не бывае. У Мінскім НКВД працавалі самыя звычайныя супрацоўнікі.

У дакументальным фільме «Дарога на Курапаты», які мы рабілі з рэжысёрам Міхаілам ЖдаНоўскім, ёсць аповед былога выводнога Мінскай турмы НКВД. Пасля начных расстрэлаў у Курапатах іх чакаў накрыты стол з гарэлкай у сталоўцы НКВД — оргіі цягнуліся да раніцы. Глушылі спіртам зробленае, дзялілі гадзіннікі ды іншыя рэчы забітых. Служба ў органах прадугледжвала адсутнасць усякіх чалавечых бар'ераў. Таму, дарэчы, не маглі разлічваць на спагаду саслужыўцаў і арыштаваныя энкавэдысты — запраграмаваная на знішчэнне зграя адразу ж пажырала іх саміх.

**Аддзяленне ў справах царкоўнікаў, сектантаў і былых людзей (так у тэксце) узначальваў Кунцэвіч, разбэшчаны ў бытавым плане чалавек, меў шырокія сувязі на глебе палавой распусты з невядомымі жанчынамі. Са словаў Быхоўскага мне вядома, што Кунцэвіч знаходзіўся ў сужыцці з 15 жанчынамі толькі супрацоўніцамі наркамата. Для гэтай мэты выкарыстоўваў кватэру Слукіна, дзе прымалася агентура.**

Як вынікае з допісу Ермалаева, у НКВД БССР былі такія ж парадкі, як і ў іншых савецкіх канторах: поўнае самаўпраўства ў межах інструкцыяў, бюракратычны бедлам і неразбярыха.

**Улік у аддзеле зусім адсутнічаў. Паводле паказанняў выкрытых праходзіла звыш 2000 чалавек — не ўлічаныя. Улік і зараз вельмі дрэнны, але ўсё ж створаная картатэка, і ў ёй улічаныя асобы, якія праходзяць больш чым у пяцістах пратаколах допытаў. Замест практычнай дапамогі ў камплектацыі апарату асабовым складам ад былога кіраўніцтва наркамата я атрымаў адваротнае.**

Да моманту арышту ў студзені 1939-га Ермалаеў узначальваў сакрэтна-палітычны аддзел на працягу года. За гэты час, паводле ягоных словаў, апарат з 54 аператыўнікаў змяніўся тры разы, ад двух да чатырох разоў змяняліся начальнікі аддзяленняў. Ермалаеў пералічвае:

**Аддзяленне ў справах трацкістаў і правых — начальніка не было, потым прызначылі Шэйнкмана, потым Ашышкевіч, потым Архангельскі, цяпер сумяшчае Тараканаў. У справе нац-фашыстаў — Быхоўскі, потым Фёдараў, потым Гарбачэўскі, цяпер зноў Фёдараў. У справе эсэраў, меншавікоў — Артамонаў, потым Архангельскі, потым Палітыка, цяпер Тараканаў. У справе савецкага апарату і рабочае класы — Гарбаты, потым Лягаеў, цяпер начальніка няма. Усе прыёмы і здачы аддзяленняў пастаянна праходзілі чамусці нахапех, і таму той, хто прымаў аддзяленне, быў не ў курсе ўсіх справаў і прыступаў зноў да азнаямлення замест практычнай працы.**

Многія былыя вязні ў сваіх успамінах пішуць пра загадкавы перапынак у допытах, калі арыштаваныя месяцамі, а то часам і больш за год чакалі ў турме выкліку на допыт і вырашэння свайго лёсу. Яны разглядаюць гэта як адзін з метадаў следства. Верагодна, у некаторых выпадках так яно і было. Але ў масе сваёй для так званых шараговых ворагаў

народа паўзы паміж выклікамі на катаванні тлумачыліся хаосам і бардаком унутры самога НКВД, які перажываў чарговую чыстку.

У памяці арыштаванага Ермалаева сапраўды, як ён пісаў, «усплыло многае». Але ўсплыло далёка не ўсё. Прынамсі, ён забыўся пра вячэру ў канцы лістапада 1938 года, на якую запрасіў да сябе ў дом калегаў...

## Тайная вячэра

За сталом былі толькі свае: начальнік Магілёўскага НКВД Ягодкін, начальнік управы НКВД на Беларускай чыгунцы Марошак, начальнік 3-га аддзялення Віцебскага НКВД Левін. Усе прыехалі ў Мінск у службовыя камандзіроўкі, і ўсіх пасля напружанага дня нарадаў ды беганіны па кабінетах запрасіў да сябе дадому Ермалаеў.

Выпівалі, закусвалі, абмяркоўвалі навіны. Левін частаваў цыгарэтамі з адмысловага срэбнага партсігара, які заўсёды вазіў з сабой. Ягодкін расказаў пра нараду начальнікаў абласных управаў НКВД, якую а 17-й гадзіне праводзіў памочнік наркама Наседкіна Стаяноўскі. Сямён Левін слухаў з асаблівай увагай, бо ягоны шэф, начальнік Віцебскай абласной управы Пётр Радноў яшчэ ўдзень выехаў у Віцебск і на нарадзе не быў.

Стаяноўскі даў устаноўку тэрмінова выканаць усе прысуды 1-й катэгорыі (расстрэл), якія з нейкіх прычынаў не былі здзейсненыя. Акты патрабавалася аформіць задняй датай. Прычынай спешкі стала пастанова «Аб арыштах, пракурорскім наглядзе і вядзенні следства», якую амаль два тыдні перад тым, 17 лістапада 1938 года, прынялі ЦК ВКП(б) і СНК СССР. У канцы лістапада наркам унутраных справаў СССР Берыя нечакана загадаў спыніць выкананне ўжо вынесеных смяротных прысудаў і перадаваць справы асуджаных на расстрэл у суд. І пастанова, і загад былі сакрэтныя.

Пасля лютаўскага (1938) пленума ЦК ВКП(б) у НКВД адбываліся дзіўныя рэчы, і загад быў яшчэ адным звяном ланцуга, небяспеку якога адразу зразумелі спрактыкаваныя кадры. Новаму наркаму ў Маскве патрабаваліся матэрыялы на тых, хто працаваў пры папярэдніку. Вызваленне асуджаных, а таксама сведчанні, якія яны маглі даць пра катаванні, заўсёды можна было выкарыстаць у барацьбе ўнутры партыйна-энкавэдысцкай вярхушкі. Трэба было спешна пазбаўляцца ад непажаданых сведкаў.

...Ягодкін падзякаваў гаспадару за вячэру і сказаў, што адразу выязджае ў Магілёў, каб неадкладна пачаць выкананне загаду Стаяноўскага. Сямён Левін а дзявятай вечара вярнуўся ў наркамат і зайшоў да начальніка 1-га спецаддзела Якава Розкіна. Той папярэдзіў, што неўзабаве перадасць спісы асуджаных на расстрэл, пасля чаго трэба будзе неадкладна выехаць у Віцебск. Спісы ўжо былі падрыхтаваныя, чакалі прыходу Стаяноўскага, які мусіў паставіць свой подпіс. Памочнік наркама з'явіўся каля поўначы і ў сваім кабінеце паўтарыў Левіну ўсё, што той ужо ведаў ад Ягодкіна і Розкіна. Спіс віцебскіх вязняў, якіх трэба было неадкладна расстраляць, налічваў сорак адно прозвішча.

Віцебскі НКВД меў раней планы адкласці расстрэл пяці-шасці асуджаных для далейшай распрацоўкі справаў, але загад быў ясны і не прадугледжваў выключэнняў. Акты трэба было пазначыць 22-23-м лістапада.

Левін падараваў зняволеным пару дзён жыцця: з Мінска ён паехаў у Гомель да сваякоў, і ў Віцебску з'явіўся толькі 2 снежня. Начальнік абласнога НКВД Радноў і яго намеснік Уласаў звязаліся з Мінскам па тэлефоне, дзе Стаяноўскі пацвердзіў распараджэнне. З пачатку ліпеня 1938-га смяротныя прысуды ў Віцебску не выконваліся, асуджаных



«першай катэгорыі» вазілі ў Мінск. Але аднавіць расстрэлы — не праблема...

Не паспела сціхнуць рэха стрэлаў, якімі на пачатку снежня 1938-га спешна дабівалі асуджаных па ўсёй Беларусі, як у кабінеце наркама Наседкіна з'явіўся новы гаспадар, Лаўрэнці Цанава. У сярэдзіне месяца з Масквы ў Мінск прыехала камісія НКВД СССР, якая пачала высвятляць, хто, як і чаму парушыў загад Берыі. Наступствы не змусілі сябе чакаць.

Некаторых кіраўнікоў НКВД БССР арыштавалі адразу, іншым далі пагуляць пару месяцаў на волі, як Сямёну Левіну. Спачатку яго двойчы разабралі на сходах партарганізацыі абласнога НКВД, а 5 лютага 1939-га бюро Віцебскага абкама выключыла Левіна з партыі. Фармулёўка — за парушэнне загаду НКВД СССР у частцы выканання прысудаў, за ўтойванне вядомых яму фактаў і за ўжыванне да арыштаваных фізічных мераў уздзеяння.

Левіна адразу не арыштавалі, і ён паспеў, седзячы дома, у Віцебску, напісаць падрабязную заяву на дзесяці старонках. Паставіў звыклы грыф «зусім сакрэтна» і адрасаваў на імя новага сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі, а копіі — Сталіну, Берыю і Цанаву.

Распавёўшы пра вячэру ў Ермалаева і ўсё, што пасля яе адбылося, Левін абвяргаў яшчэ адзін пункт абвінавачання:

> **Асабіста я ніякіх мераў фізічнага ўздзеяння ні да каго з арыштаваных не ўжываў. Згодна з загадамі Раднова і Уласава (начальнік і намеснік начальніка Віцебскага НКВД), арыштаваных, якія адмаўляліся даваць паказанні, прымушалі прысядаць. Гэта ў роўнай меры ўжывалася ўсімі аддзяленнямі НКВД і трыма Асобымі органамі. Натуральна, што і ў 3-м аддзяленні гэты метад таксама ўжываўся, але чаму я мушу быць ахвярай і ў гэтым абвінавачваюць мяне аднаго, у той час як я слепа, нароўні з усімі, выконваў загады Раднова і Уласава. Навошта ж усе абвінавачанні штучна ўскладаць на мяне? Хіба гэта бесстаронняе стаўленне да маёй асобы?**

Далей Левін прадстаўляў сваю асобу:

> **Я сам 1910 года нараджэння, сын рабочага-краўца, з 1925 года ў камсамоле, з 1931 г. кандыдат КП(б)Б і з 1937-га — член. Бацька мой, член ВКП(б) з 1918 года, з 1919 года чэкіст. Памёр у 1930 годзе на пасадзе начальніка Мазырскага абласнога аддзела ГПУ Беларусі. Я з**

**18 гадоў бесперапынна працую на аператыўнай рабоце ў органах ОГПУ-НКВД: За гэты час за ліквідацыю шэрагу контррэвалюцыйных арганізацыяў і шпіёнскіх рэзідэнтураў узнагароджаны срэбным партсігарам, гадзіннікам, зброяй і яшчэ некаторымі каштоўнымі падарункамі.**

Левін запэўнівае:

**Усё сваё маладое жыццё я аддаў справе партыі Леніна-Сталіна. Гэтаму ж прысвяціў сябе мой бацька. Я выхаваны гэтай партыяй, і калі я адзіны раз у жыцці памыліўся, навошта так рабіць са мной, ужыўшы адразу да мяне палітычную смерць, няўжо я непапраўны. Зразумела — не, я не толькі выпраўлюся, але надалей у мяне больш такіх памылак ніколі не будзе.**

Высокія адрасаты таксама палічылі, што Левіна можна выправіць. Яго заяву спісалі ў сакрэтны архіў асобага аддзела ЦК, а самога патомнага чэкіста на дзесяць гадоў накіравалі ў папраўча-працоўныя лагеры. Срэбны партсігар з чэкісцкай гравіроўкай падчас арышту, згодна з інструкцыяй, быў канфіскаваны. Ды ў лагеры ён бы гаспадару і не спатрэбіўся...

## Прыродныя бальшавікі

Былы начальнік Віцебскага НКВД Пётр Радноў мог стаць беларускім Джойсам. Праўда, першы яго сказ быў досыць традыцыйны:

**Адбылася найвялікшая правакацыя ворагаў народа — гэтай банды фашыстаў, якая рабіла сваю подлую справу супраць партыі Леніна-Сталіна, народа вялікага Саюза ССР.**

Але другі быў граматычным выбухам:

**Гэтая банда, знаходзячыся ў турме, працягвае сваю гнюсную справу — абгаворвае невінаватых супрацоўнікаў НКВД у іх подлых намерах і справах, вымушаючы следства, уведзенае ў зман ворагамі, ужываць да абгавораных ворагамі і невінаватых работнікаў НКВД шэраг мераў уздзеяння маральна-фізічных, у сілу якіх, не вытрымаўшы незаслужаных пакутаў, страціўшы сілы і розум, у адчаі і цалкам несвядома гэтыя абгавораныя павінныя былі даць**

**следству хлусню, абгаварыўшы сябе і іншых работнікаў, спадзеючыся, што следства, аб'ектыўна правёўшы расследаванне, устновіць хлусню і паклёп ворагаў, і вымушаны агавор невінаватымі сябе і іншых, на падставе праверкі дакументацыі і фактаў пераканаецца у паклёпе ворагаў, але следства, паверыўшы паклёпу ворагаў, зрабіла няправільныя вывады, класіфікуючы асобныя памылкі і парушэнні ў аператыўна-следчай рабоце, зробленыя ў сілу сляпога выканання дырэктываў і ўказанняў варожага кіраўніцтва, увёўшы гэтым самым у зман і суд, які на падставе варожага паклёпу вынес мне такі суровы прыгавор, пазбаўляючы жыцця.**

Гэта самы доўгі сказ са скаргаў, які даводзілася бачыць.

Ён пазначаны грыфамі «Уручыць неадкладна. Зусім тэрмінова. Абсалютна сакрэтна. Асабіста» і адрасаваны сакратару ЦК КП(б)Б Панамарэнку.

Адправіцель — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Пётр Радноў, член ВКП(б) з 1924 года, былы член бюро абкама партыі, ардэнаносьбіт і выхадзец з сялянаў (адукацыя ніжэйшая). Да 19 студзеня 1939-га ён узначальваў НКВД Віцебскай вобласці, а далучыўся да жалезнай кагорты амаль за два дзесяцігоддзі да таго. Але ўсё гэта было ў мінулым: заява пісалася ў камеры-адзіночцы Мінскай турмы НКВД.

Новы наркам Цанава праводзіў кадравую чыстку: Раднова, як і Левіна, Наседкіна, Стаяноўскага і яшчэ групу кіраўнічых энкавэдыстаў у Беларусі абвінавацілі ў тым, што яны сумленна выконвалі свае абавязкі: афармлялі расстрэлы мінулымі датамі і катавалі арыштаваных. Супрацоўнікаў Магілёўскага НКВД Каралько, Сідарэнку, Дударава, Ціханцова і Петрусенку арыштавалі ўвогуле за дробязі — марадзёрства, крадзёж каштоўнасцяў, рэчаў і вопраткі зняволеных.

Ішла звычайная бальшавіцкая чыстка і, натуральна, у НКВД працавалі са сваімі былымі супрацоўнікамі тымі ж універсальнымі метадамі, якія ўжываліся супраць сялянаў і прафесараў, паэтаў і чыгуначнікаў.

Плынь чэкісцкай свядомасці, зафіксаваная ў лісце Раднова, цікавая адной псіхалагічнай асаблівасцю: і ў турме пасля катаванняў галоўны кат Віцебшчыны захоўвае вернасць НКВД. Прайшоўшы праз рукі сваіх калег і прызнаўшыся ва ўсіх грахах, як гэта рабілі некалі ягоныя ўласныя ахвяры, Радноў піша сакратару ЦК:

**Я клянуся вам усім, сваёй дачкой 8-мі месяцаў, якую яшчэ не бачыў, я не быў ворагам, змоўнікам. Я вырас і выхаваны партыяй,**

**камсамолам, Савецкай уладай. Не дайце загінуць ад паклёпу ворагаў, малю Вас, праверце і захавайце мне жыццё. Я настойлівай працай выкуплю віну і злачынствы, якія зрабіў.**

Радноў адхіляе абвінавачанні ў катаваннях арыштаваных, у стварэнні спецрэжыму ў Віцебскай турме:

**Я не даваў загаду ствараць рэжымныя камеры быццам для збівання арыштаваных, каб прымусіць іх агаварыць сябе і іншых. Камеры для зручнасці следства былі замацаваныя паводле просьбы аддзелаў за імі і, паводле распараджэння НКВД з Мінска, была створаная агентура для асвятлення настрояў арыштаваных, а не для правакацыяў. У выніку наплыву арыштаваных сапраўды мелі месца парушэнні нормаў, і камеры былі перапоўненыя, сапраўды, з боку асобных агентаў была правакацыя, але мне пра гэта не казалі...**

Радноў прызнае толькі несвядомы падлог дакументаў, калі беларускія чэкісты спешна расстрэльвалі вязняў насуперак загаду з Масквы:

**Я паверыў, што ёсць указанні НКВД акты складаць мінулай датай.**

Сын, як ён пісаў, калгасніка-селяніна Радноў прасіў даць яму магчымасць ударнай працай выкупіць няправільныя даты пад актамі расстрэлаў. Яго былы віцебскі падначалены, сын краўца Сямён Левін хацеў «ударнай працай у органах НКВД выправіць сваю грубую палітычную памылку».

**Спадзяюся, што камуністычная партыя, якая зрабіла з мяне бальшавіка, падыдзе да мяне чулліва, як гэтаму вучыць наш правадыр тав. Сталін, бо я не вораг, а адданы нашай радзіме баец, які першы раз у жыцці памыліўся.**

Іх мінскі калега Васіль Ермалаеў таксама пісаў з камеры:

**Усё свядомае жыццё прысвяціў справе партыі Леніна-Сталіна, і чым бы мой лёс ні скончыўся, апроч расстрэлу, я і далейшае жыццё прысвячу гэтай самай партыі — Леніна-Сталіна.**

Яшчэ адзін былы супрацоўнік НКВД, мінскі міліцыянер Райхліновіч перажыў пасля арышту здзеклівыя катаванні: яго збівалі ва ўтаймаваль-

най кашулі, аблівалі вадой на 30-градусным марозе, мачыліся ў твар, цягалі за палавы орган. Пасля сямі месяцаў у лагеры яго нечакана вызвалілі. Вярнуўся ў Мінск і даведаўся, што сям'ю выкінулі з хаты, рэчы прапалі. Былы кавалерыст, Райхлiновіч выгадаваў каня, якога пакінулі ў міліцэйскай частцы і яму не вярталі.

Райхлiновіч напісаў у райкам партыі просьбу:

**Прашу ўлічыць маё цяжкае становішча, дапамагчы аднавіць здароўе, аднавіць на працы і вярнуць кватэру і каня, з якім я спадзяюся пры першай патрэбе выступіць у абарону нашай любімай Радзімы і знішчыць ворагаў, якія паспрабуюць замахнуцца на нашую святую тэрыторыю. Ворагі народу пахіснулі маё здароўе, але не пахіснулі маёй бальшавіцкай волі, я з прыроды народжаны бальшавіком і такім памру, памру за рабочую справу, за справу Леніна-Сталіна.**

Падобных радкоў у допісах арыштаваных, асуджаных, закатаваных да паўсмерці людзей (не толькі чэкістаў) — безліч. Частка клятваў у вернасці партыі, магчыма, прадыктаваная разлікам, але значная большасць — шчырае выказванне перакананняў, наіўнай веры, што іх невінаватасць пацвярджаецца іх вернасцю сталінізму. Хоць яшчэ на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) у 1938 годзе Сталін вылучыў шэсць умоваў пабудовы камунізму і перамогі над ворагамі, дзе даў энкавэдыстам урок логікі. Правадыр сказаў, у прыватнасці, што некаторыя ворагі такія хітрыя, што спецыяльна працуюць ударна і робяцца стаханаўцамі, выстаўляюць сябе адданымі камуністамі, каб лепш шкодзіць, і іх трэба выкрываць.

**Я сумленны сын сваёй радзімы і партыі, якой належу ўсёй сваёй сутнасцю да скону.**

Так запэўніваў сакратара Панамарэнку былы чэкіст, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР ад Старадарожскай выбарчай акругі, а потым вязень камеры нумар 8 Мінскай турмы НКВД Мікалай Быстроў. Ягоная біяграфія сапраўды магла ўпрыгожыць любы падручнік гісторыі ВКП(б).

**Сам я рабочы, бацька і два браты працуюць у г. Туле на збройным заводзе. У Кастрычніцкую рэвалюцыю ў лістападзе 1917-га я ўступіў у чырвонагвардзейскі латышскі атрад спецпрызначэння ў Смольным у Петраградзе. Браў удзел у ліквідацыі белагвардзей-**

**скіх бандаў і разгоне Устаноўчага сходу. У сакавіку 1918-га разам з урадам атрад пераехаў у Маскву-Крэмль, дзе мне неаднаразова даводзілася ахоўваць кабінет У.І. Леніна. Браў удзел у падаўленні мецяжу анархістаў і паўстанні левых эсэраў. Асабіста ўдзельнічаў у вызваленні з палону левых эсэраў у Пакроўскіх казармах Ф.Э. Дзяржынскага. У траўні 1919-га я паступіў на працу ў органы ВЧК-ОГПУ, у якіх на розных аператыўных пасадах працаваў па дзень арышту.**

Быстрову паставілі ў віну якраз тое, чым ён ганарыўся. Туляк, прысланы для барацьбы з нацыянал-фашызмам у Беларусі, быў абвінавачаны ў членстве ў нацыянал-фашыстоўскай латышскай шпіёнскай арганізацыі. Пасля арышту Быстроў скардзіўся:

**Мяне амаль голага пасадзілі ў сыры халодны каземат, дзе пратрымалі 82 дні. Пагражалі расплюшчыць у блін, лаялі, прымушалі пісаць хлуслівыя сведчанні.**

І запэўніваў:

**Наша бальшавіцкая партыя выхавала з мяне страснага патрыёта нашай вялікай радзімы. Я ганарыўся сваёю краінай, гатовы ў любы момант аддаць жыццё за справу партыі, за справу народа.**

Ленінскі вартавы зашмат дазваляў сабе. Ён, як і іншыя ягоныя калегі — «прыродныя бальшавікі», ужо не меў такой раскошы, як права распараджацца ўласным жыццём. Ім распараджалася партыя.

## Цанава

Самай вострай праблемай у пасляваенным Мінску была жыллёвая. Кватэраў у разбураным горадзе не хапала нават супрацоўнікам НКВД. Даводзілася месяцамі чакаць чаргі ў інтэрнатах і гасцініцах. Калі абураныя чэкісты звярталіся па дапамогу да свайго наркама, той карцінна разводзіў рукамі:

— Нэ магу, кацо. Як камуніст камуністу кажу: сам не маю кватэры ў Мінску.

І гэта была праўда — калі можна ўжыць такое слова ў адносінах да Лаўрэнція Цанавы, які са снежня 1938-га па кастрычнік 1951-га працягваў у Беларусі крывавую справу Піляра, Рапапорта, Ляплеўскага, Малчанава, Бермана, Наседкіна.

**З анкеты генерал-лейтэнанта цанавы Л.Ф.:**

**1900 г.н., бацька — селянін-бядняк, адукацыя — сельскае вышэйшае пачатковае вучылішча, агульнаадукацыйныя курсы ў Тыфлісе. З 1921 года на працы ў органах ЧК, пракуратуры, кампартыі Грузіі, на кіраўнічых гаспадарчых пасадах. З канца 1938-га — наркам унутраных справаў Беларусі. Падчас вайны камандаваў Асобым аддзелам Заходняга, потым Цэнтральнага франтоў, з'яўляўся намеснікам камандуючага 2-га Беларускага фронту.**

... Вартаўніца адамкнула дзверы, і я ўвайшоў у тое, пра што Цанава казаў «няма кватэры» — двухпавярховы каменны палац у лесе ў Сцяпянцы. Столь ужо без ляпных аздабленняў, няма крышталёвых люстраў, карціны са сцен перавандравалі ў музеі, зніклі раскошныя дываны, на кухні гатуюць абеды не на трох, а больш чым на сто чалавек адразу — потым тут быў дзіцячы сад-санаторый. Няма вышэзнай агароджы, вартавых сабак, даўно здох горны казёл...

«Цанава ў Беларусі быў феадалам», — так ацанілі дзейнасць былога члена бюро ЦК КП(б)Б на пленуме ў Мінску, які ў ліпені 1953 года абмяркоўваў пастанову ЦК КПСС аб «шпіёне імперыялістычных разведак» Лаўрэнцііі Берыі. Члены беларускага ЦК выходзілі на трыбуну і выкрывалі асабістага сябра Берыі, які ў гэты час ужо знаходзіўся ў турме.

Варта Цанаву было трапіць пад дождж, а ў газетах абяцалі сонца — і ён забараняў друкаваць зводку надвор'я, абураліся камуністы; без ягонай візы нельга было змяшчаць рэпартажы пра футбол, які ён апякаў; вадзіцель машыны, які пасмеў абагнаць ягоны легкавік, начаваў у пастарунку; калі інструктар гаркама партыі прынёс яму запрашэнне на нейкі сход за нумарам 9 ці 10, Цанава патрабаваў звольніць інструктара — такі вялікі нумар зневажаў ягоную годнасць; наркаму назалялі камары — і на ягоны загад у Сцяпянцы засыпалі цэлую сажалку...

Не адставалі ад гаспадара і падначаленыя. Калі ў начальніка Віцебскага ГБ Прохарава, заўзятага галубятніка, знік голуб, уся гарадская міліцыя была паднятая на ногі, ачэплены рабочы квартал, і птушку знайшлі — паміж тысячаў іншых. Цанава не даваў у крыўду свае кадры: калі ў начальніка Гарадзенскага ГБ Фралова ўзнік канфлікт з першым сакратаром абкама С. Прытыцкім, дык пасаду мусіў пакінуць Прытыцкі; гэтаксама ўцякалі з рэспублікі іншыя партыйныя кіраўнікі, якіх ён неўзлюбіў. Пра лёс беспартыйных грамадзянаў, аднак, на пленуме не ўзгадвалі...

Пару гадоў да гэтага члены бюро ЦК КП(б)Б інакш ацэньвалі дзейнасць Цанавы ў Беларусі. У характарыстыцы, зацверджанай на бюро, гаворыцца:

> **Узначальваючы МГБ БССР, т. Цанава правёў значную работу па выяўленні і ліквідацыі шпіёнска-дыверсійнай агентуры нямецка-фашысцкай і іншых замежных разведак, па разгрому контррэвалюцыйнага нацыяналістычнага падполля, падпольных арганізацыяў беларуска-нямецкіх нацыяналістаў і бандыцкіх тэрарыстычных групаў. Т. Цанава ў кіраўніцтве органамі ГБ прынцыповы, патрабавальны, праяўляе вялікую настойлівасць, працаздольнасць, выхоўвае кадры чэкістаў у духу бальшавіцкай партыйнасці.**

У 1938 годзе Берыя мяняў кадры Яжова па ўсёй краіне. Цанава некалі служыў пад ягоным кіраўніцтвам у ОГПУ Грузіі, праўда, прозвішча ягонае тады было іншае — Джанджгава. Пры прызначэнні ў Мінск, паводле расказаў самога наркама, Лаўрэнці Першы быццам параіў былому падначаленаму змяніць прозвішча, маўляў, у Беларусі не вымавяць такое прозвішча. Пазней, аднак, высветлілася, што прычына была іншая. Падчас грамадзянскай вайны Джанджгава камандаваў чэкісцкай часткай і скраў дзяўчыну з горнага сяла. Калі вяскоўцы пайшлі яе вызваляць, ён пасек іх з кулямёта. Узнік страшэнны шум, трэба было прымаць меры, і Берыя схаваў падначаленага. Потым яго перакінулі на гаспадарчую працу. У другой палове 30-х гадоў ён працаваў у наркамземе, намеснікам начальніка лімонна-мандарынавага трэсту, потым начальнікам Калхідбуда.

Былы шэф, які ўзначаліў НКВД СССР, выклікаў Цанаву ў Маскву і адтуль паслаў наводзіць парадак ва ўнутраных справах Беларусі. Папярэднікі, наркамы Берман і Наседкін, пакінулі Цанаву надзвычайную спадчыну: хапун крывавым грэбнем ірваў вёску і горад, былі арыштаваныя практычна ўсе ўладальнікі высокіх кабінетаў у Мінску, прарэджанае мясцовае начальства, крытыя грузавікі ўжо больш за год па начах хадзілі на Курапаты.

Не спыніўся іх паток і з прыездам у Мінск Панцеляймона Панамарэнкі і Лаўрэнція Цанавы. Ужо ў 1940-м заслугі наркама ва ўнутраных справах Беларусі былі ацэненыя першым ордэнам Леніна. Пасля таго, як часткі Чырвонай Арміі разам з гітлераўцамі правялі парад пераможцаў у Берасці, Цанава заняўся разгортваннем апарату НКВД і

сеткі даносчыкаў у Заходняй Беларусі. Палонныя польскія афіцэры пад аховай канвою НКВД адпраўляліся ў лагеры Поўначы, Сібіры, але найбольшая частка канцэнтравалася ў Катыні.

Разбіраліся з Вільняй, вяліся арышты тых, хто супрацоўнічаў з польскімі ўладамі, а таксама тых, хто з імі змагаўся — членаў розных партыяў, нацыянальных арганізацыяў, у тым ліку сваяцкай КПЗБ. Усе гэтыя аперацыі праводзіліся пад наглядам наркама ўнутраных справаў.

Цанаву выпала і праца па чыстцы кадраў самога НКВД — многія чэкісты прайшлі праз той самы канвеер, які нядаўна раскручвалі.

Калі пачалася вайна, энкавэдысты ліхаманкава пакавалі свае архівы і перапраўлялі далей ад лініі фронту. Адных вязняў расстрэльвалі на месцы ў турмах, іншых тэрмінова зганялі ў калоны і вялі на Усход. Канваіры мелі загад: у «выпадку немагчымасці забяспечыць ахову кантынгенту» — расстрэльваць вязняў на месцы. Вядомыя выпадкі, калі канваіры, махнуўшы рукой на інструкцыю, адпускалі людзей. Аднак большасць лягла ў зямлю, як гэта адбылося з калонамі арыштаваных, якіх эвакуявалі з Літвы: толькі ля дарогі на Чэрвень былі расстраляныя многія сотні няшчасных.

Асобыя аддзелы, якімі камандаваў Цанава на Заходнім, а потым Цэнтральным франтах, працягвалі рабіць тое самае, што рабілі энкавэдысты ў мірны час: ваявалі супраць свайго народа. Супраць салдатаў і афіцэраў, якія патрапілі ў акружэнне, супраць тых, хто вёў «паражэнскія размовы» — напрыклад, згадваў лозунг аб вайне на чужой тэрыторыі і малой крывёй...

За сваю дзейнасць Цанава быў узнагароджаны яшчэ двума ордэнамі Леніна і амаль трыццацю іншымі ордэнамі і медалямі. Калі меркаваць па ўзнагародах, гераічны смершавец праявіў надзвычайны талент палкаводца: тры ордэны Суворава, два — Кутузава, ён атрымаў узнагароды за абарону Масквы, Каўказа, вызваленне Варшавы і ўзяцце Кёнігсберга, а таксама фарсіраваў Одэр, хадзіў у рэйды з партызанамі, меў баявыя заслугі перад Манголіяй і Тувінскай Рэспублікай, і, апроч таго, доблесна працаваў у тыле.

У характарыстыцы, зацверджанай бюро ЦК, гаворыцца, што Цанава «актыўна ўдзельнічаў у працы ЦК КП(б)Б у справе развіцця партызанскага руху».

Спецгрупы, падрыхтаваныя НКВД, закідваліся ў нямецкі тыл для арганізацыі супраціву. Іх вызначала бязлітаснае стаўленне да мясцовага насельніцтва, якое спачатку не спяшалася на абарону савецкай улады,

не хацела рызыкаваць сем’ямі, ісці ў лес. Узаемныя падазрэнні, сачэнне адзін за адным, даносы, беспадстаўныя арышты і расстрэлы на месцы, здзекі з мірнага насельніцтва — усе гэтыя партыйна-энкавэдысцкія парадкі крывавай цвіллю пакрылі партызаншчыну, густа нашпігаваную «асабістамі».

Ды пра тое дарма шукаць звестак у афіцыйнай гісторыі партызанскага руху. У ёй прозвішча Цанавы нават не згадваецца, хоць менавіта пад ягоным аўтарствам у 1949 годзе выйшла першае поўнае апісанне партызанскага руху ў Беларусі ў двух тамах пад назвай «Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков».

Тэкст пісалі за наркама, вядома ж, «літрабы» — так скарочана і дакладна называлі літаратурных работнікаў, якія абслугоўвалі ласае на пісьменніцкія лаўры начальства. У аснову кнігі быў пакладзены радасны прынцып, адлюстраваны ў наступным узоры «фальклору»:

***А на нашай на гары***
***Выраслі два дубіка.***
***Сталін кажа ў Маскве,***
***Чуе ўся рэспубліка!***

З прычыны бібліяграфічнай рэдкасці выдання прывядзем некалькі назваў раздзелаў:

**Призыв товарища Сталина к всенародной Отечественной войне», «Партия большевиков — организатор всенародной борьбы и побед», «Коммунистическая партия (большевиков) Белоруссии во главе своего народа», «Колхозы — большевистская крепость», «Сталинская дружба народов Советского Союза нерушима.**

Было ў кнізе сказана і пра «подлое предательское лицо белорусских националистов», але толькі мімаходзь, каб не псаваць карціну ўсенароднай адзінадушнасці.

Сярод бесталковага нагрувашчання прыкладаў сапраўдных і прыдуманых нямецкіх зверстваў ды бальшавіцкага гераізму — абавязковыя напаміны пра тое, што беларускі народ штохвілінна адчуваў геніяльны бацькоўскі клопат вялікага Сталіна і паплечнікаў.

**Выконваючы ўказанні правадыра, верныя вучні Леніна і паплечнікі таварыша Сталіна Георгі Максімавіч Малянкоў і Лаўрэнці Паўлавіч Берыя з пачатку Айчыннай вайны аказвалі велізарную**

**практычную дапамогу ў справе арганізацыі і далейшага разгортвання партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі.**

15 ліпеня 1953 года загадам Галоўліта БССР №143 было прадпісана

**канфіскаваць з бібліятэк грамадскага карыстання і кнігагандлю частку першую кнігі Цанавы Л.Ф. «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў», Мінск, 1950 г., 10.000 асобнікаў, 342 ст.**

Канфіскацыі падлягалі і 60.000 асобнікаў двухтомніка на расейскай мове. У канцы ліпеня 1953 года з мінскага ў маскоўскі ЦК была накіраваная тэлеграма з просьбай пазбавіць Цанаву паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета СССР і БССР. Яшчэ праз два тыдні пленум ЦК КПБ пазбавіў паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета БССР і Лаўрэнція нумар адзін — Берыю.

Задоўга да гэтых падзеяў, у кастрычніку 1951-га, Цанава пакінуў Беларусь. Ён перабраўся ў Маскву, на пасаду намесніка міністра дзяржбяспекі Абакумава. Але затрымаўся на Лубянцы нядоўга: яго ўцягнула ў тую самую мясарубку, куды ён запіхваў іншых.

Комплекс будынкаў у Мінску, дзе месцiцца міліцыя і КГБ, быў пабудаваны пасля вайны пад непасрэдным кіраўніцтвам тады ўжо міністра ўнутраных справаў БССР Цанавы (у сакавіку 1946-га НКВД было перайменаванае ў МУС). Дом з гадзіннікам насупраць таксама прызначаўся для работнікаў органаў, так што без жылля чэкісты хадзілі нядоўга.

Цанава тлумачыў такое размяшчэнне кватэр для супрацоўнікаў спецыфікай працы — часта даводзіцца працаваць па начах, зручна дабірацца. Некаторыя будаўнічыя матэрыялы дастаўляліся проста з Каўказа. Расказваюць, калі залівалі фундамент, Цанава зняў і кінуў туды сваю генеральскую папаху.

Фундамент атрымаўся надзейны.

## Тайна смерці харошых камуністаў

У другой палове 80-х, на пачатку гістарычнай галоснасці, у беларускім друку шмат пісалі пра лёсы двух кіраўнікоў Беларусі, чыё жыццё абарвалася ў 1937 годзе — старшыню ЦВК Аляксандра Чарвякова і старшыню Саўнаркама Мікалая Галадзеда.

Яны ўніклі следства, суда і расстрэлу, скончыўшы самагубствам. Чарвякоў застрэліўся у сваім кабінеце падчас XVI з'езду кампартыі Беларусі, Галадзед выкінуўся з вакна будынку НКВД у Мінску пасля арышту. Зрэшты, гэта былі версіі, якія адны гісторыкі прымалі, іншыя адмаўлялі, сцвярджаючы, што Чарвякова застрэлілі, а Галадзеда выкінулі з вакна самі энкавэдысты. Аднак архіўныя знаходкі дазваляюць больш пэўна гаварыць пра акалічнасці смерці Мікалая Галадзеда.

Але спачатку — невялікае адступленне. Газета «Звязда», дзе я тады працаваў, пачала друкаваць аповеды, лісты, інтэрв'ю пра сталінскія злачынствы ў Беларусі. Я рыхтаваў карэспандэнцыю пра рэабілітацыю ахвяраў і збіраў інфармацыю ў пракуратуры. Раптам мой субяседнік, тагачасны начальнік аддзела нагляду за законнасцю следства ў органах дзяржбяспекі Іванкоў спытаў, ці бачыў я калі асабісты подпіс Яжова. Ён адчыніў груваcткі сейф, дастаў тонкую кардонную папку з нумарам і разгарнуў.

На першай старонцы быў машынапісны тэкст — рапарт наркама ўнутраных справаў БССР Бермана наркаму Яжову з просьбай даць санкцыю на арышт члена ЦК ВКП(б) і СНК СССР, старшыні СНК БССР Галадзеда, «арганізатара і кіраўніка антысавецкага падполля ў Беларусі». Тоўстым чорным алоўкам наўскасяк была накладзеная рэзалюцыя: «Арыштаваць». І подпіс, адзін з самых жахлівых у гісторыі камунізму — Яжоў.

Архіўна-следчая справа была тонкая, я перагарнуў пару старонак, але Іванкоў ужо забіраў папку, клаў яе на паліцу і зачыняў дзверцу сейфа. «Не маю права, згодна з інструкцыяй, увогуле даваць Вам справу, — растлумачыў ён. — Няхай рэдакцыя звернецца афіцыйна з запытам, і тады — як начальства вырашыць». У рэдакцыі склалі ліст, рэдактар падпісаў і адправілі. Тым часам я паехаў да дачкі Галадзеда Валянціны Мікалаеўны Беляковай і пачаў распытваць пра падзеі лета 1937-га.

...Пастанову аб вызваленні Галадзеда ад пасады старшыні СНК БССР ягоны даўні сябар, старшыня ЦВК Чарвякоў падпісаў 30 траўня. Гэта адбылося за дзесяць дзён перад XVI з'ездам КПБ(б). У першыя дні чэрвеня на мінскай партканферэнцыі таварышы па партыі абвінавацілі Галадзеда ў палітычнай слепаце, узгадалі сяброўства з «нацдэмамі»... На з'ездзе першы сакратар ЦК Шаранговіч, які сам неўзабаве будзе арыштаваны, заявіў, што Галадзед праводзіў «права-апартуністычную практыку». У час працы з'езду газеты паведамілі пра арышт, суд і расстрэл групы вядомых ваеначальнікаў. Сярод расстраляных значылася

імя камандуючага Беларускай вайсковай акругі Ераніма Убарэвіча. Яшчэ адзін знаёмы Галадзеда, былы першы сакратар ЦК КП(б)Б Ян Гамарнік, паспеў застрэліцца перад арыштам.

У Мінску чакаць не было чаго, і Галадзед разам з жонкай і малым сынам тэрмінова выехаў у Маскву. Ён спадзяваўся на прыём у Сталіна — і той прыняў былога беларускага прэм'ера. Паводле ўспамінаў жонкі, Галадзед вярнуўся ў службовую кватэру супакоены, бадзёра чакаў новага прызначэння. Ён не ведаў, што праз дзень пасля ягонага ад'езду з Мінску ў Маскву выехаў наркам Берман. Ён вёз рапарт на імя Яжова. Берман асабіста прыйшоў у знакаміты Дом на Набярэжнай, дзе Галадзед меў службовую кватэру. Там жонка бачыла мужа апошні раз.

Вось што расказала дачка Галадзеда і пацвердзілі архіўныя дакументы, якія тады ўдалося знайсці. Тым часам прыйшоў адказ з пракуратуры на рэдакцыйны запыт адносна справы Галадзеда. Пракуратура паведамляла, што такой справы не мае. Я высветліў — аказалася, вярнулі ў КГБ. Мы падрыхтавалі новы ліст і накіравалі старшыні КГБ. Праз пару тыдняў у мяне ў кабінеце зазваніў тэлефон, і ветлівы голас сказаў, што КГБ нічым не можа дапамагчы рэдакцыі, бо ніякай справы ніякага Галадзеда Мікалая Фёдаравіча ў іх няма.

Я разгубіўся — як няма?! Я ж трымаў яе ў руках! Але як сказаць пра гэта, каб не пашкодзіць дабрадзею з пракуратуры? Пасля кароткай размовы я здабыў тэлефон тагачаснага начальніка архіву КГБ. Вынік быў той самы — нічым не можам дапамагчы. Пайшоў у ЦК КПБ. Вось, казаў, перабудова, гістарычная галоснасць, Гарбачоў, а ў КГБ ніякага новага мыслення... Прайшоў некалькі кабінетаў, дабраўся да начальніка аддзела адміністратыўных органаў Адамовіча, які курыраваў міліцыю і КГБ. Усе слухалі, абяцалі дапамогу — а як жа, чэсны быў камуніст, трэба дапамагчы.

Ішлі дні, тыдні — ніхто і не думаў дапамагаць. Раз'юшаны нахабнай хлуснёй КГБ і «дапамогай» ЦК, я пайшоў у кабінет да тагачаснага рэдактара газеты і папрасіў дазволу пакарыстацца «вяртушкай», тэлефоннай спецсувяззю, дзякуючы якой наменклатура магла звязвацца паміж сабой без сакратарак, хутка і надзейна. Апроч таго, з «вяртушкі» было значна лягчэй прабіцца ў іншы горад, і супрацоўнікі рэдакцыі дэмакратычна карысталіся гэтым тэлефонам.

У спецдаведніку я адшукаў нумар тагачаснага старшыні КГБ БССР Веніяміна Балуева і набраў яго. Слухаўку паднялі адразу. Я назваўся і папрасіў дапамагчы рэдакцыі атрымаць справу Галадзеда, дадаўшы,

што гэтую справу ўжо бачыў, гартаў. Балуеў адказаў у тым сэнсе, што дапамагчы не могуць, бо існуе нейкая інструкцыя ці закон, які забараняе знаёміцца з падобнымі справамі пабочным асобам.

Я пачаў несці нешта пра перабудову і пытацца, як у КГБ разумеюць галоснасць. Рэдактар даўно кінуў свае паперы і слухаў наш дыялог з вялікай цікавасцю. Калі я паклаў слухаўку, ён сказаў: ну, цябе арыштуюць проста ў гэтым кабінеце. *

З генералам КГБ мы дамовіліся наступным чынам: мне справу не пакажуць, але адкажуць на мае пытанні.

Я задаволена паціраў далоні: трымайцеся, зараз я задам столькі пытанняў, што вы мусіце пераказаць усю справу.

Ад наіўнасці мяне вылечылі праз два тыдні, калі пазванілі з КГБ і запрасілі на сустрэчу. Я ўзяў магнітафон, нататнікі і паехаў на рог тады яшчэ Ленінскага праспекта і вуліцы Камсамольскай.

Два супрацоўнікі запрасілі ў пакой для наведнікаў. Мінімум мэблі — пусты стол, некалькі крэслаў, тэлефон, партрэт ці то Дзяржынскага, ці то Леніна на сцяне. Адзін сеў насупраць, другі збоку. Мяне здзівіла, што кагэбісты прыйшлі толькі з маімі пытаннямі, без ніякіх іншых папераў.

— Не хвалюйцеся, адкажам, але магнітафон не спатрэбіцца, — сказалі мне. Не спатрэбіліся і нататнікі. Адказы гучалі прыкладна так: на гэтае пытанне няма інфармацыі, пра тое ў справе нічога не сказана, наступнае невядома... Я збянтэжыўся і не ведаў, як рэагаваць на тое, што адбывалася.

— Вось і ўсё, больш нічым не можам дапамагчы, — паведамілі мне.

Мае спробы нешта запярэчыць былі сустрэтыя спакойна і не выклікалі ніякай рэакцыі. Суразмоўцы самі пачалі задаваць пытанні: як у рэдакцыі ставяцца да Уладзіміра Бегуна, вядомага барацьбіта з сіянізмам, усё ж ці не мае ён рацыі...

Я выйшаў на вуліцу як абпляваны, клянучы сябе за наіўнасць. (Праз пару гадоў, ужо ў якасці члена парламенцкай камісіі па правах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, мне ўдалося атрымаць доступ да архіву КГБ, дзе хаваецца боль і кроў айчыннай гісторыі. З санкцыі новага кіраўніцтва КГБ супрацоўнікі прыносілі ддя азнаямлення асобныя справы ахвяраў, але ніколі не паказвалі каталогаў ці нейкага апісання сховішча. Дагэ-

* Не арыштавалі, але ў гэтым кабінеце суд я неўзабаве сапраўды перажыў, праўда, з іншай нагоды, і пры ўжо іншым рэдактары.

туль невядома, колькі справаў, на каго, у якім стане захоўваюцца ў сутарэннях будынка, пабудаванага Цанавам. Зрэшты, як толькі пачаў праходзіць шок ад правалу жнівеньскага путчу, было заяўлена, што КГБ не хата-чытальня, і архівы зноў сталіся недаступнымі.)

Аднак існавалі іншыя архівы, дзе захоўваліся некаторыя матэрыялы пра смерць Мікалая Галадзеда. У 1955 годзе, падчас хрушчоўскай адлігі, справу Галадзеда пераглядалі. У лістападзе 1955 года галоўная вайсковая пракуратура на падставе той самай тонкай кардоннай папкі, якую КГБ не хацеў выпускаць з рук, зрабіла даведку, дзе гаварылася:

> **У кантрольна-наглядной справе на Галадзеда ёсць адносіна 1-га спецаддзела МУС БССР, у якой адзначана, што Галадзед 14 чэрвеня быў этапаваны ў гор. Мінск і 21 чэрвеня выкінуўся з будынка МУС праз вакно пятага паверха і разбіўся, не даўшы ніякіх паказанняў.**

У 60-я гады гісторык Уладзімір Якутаў пачаў збіраць матэрыял для кнігі пра Галадзеда. Ён знайшоў і папрасіў напісаць успаміны былога кансультанта паліклінікі МУС прафесара М. Шапіру. Прафесар пісаў:

> **Мне вельмі цяжка ўспамінаць аб усіх дэталях майго знаходжання летам 1937 года ў будынку МУС, куды я быў пакліканы на кансультацыю да таварыша Галадзеда. Унізе сказалі, што трэба падняцца на другі паверх, у кабінет да аднаго з супрацоўнікаў. У кабінеце на кушэтцы ляжаў таварыш Галадзед у надзвычай цяжкім перадсмяротным стане. Ён толькі слаба дыхаў, ні на што не рэагаваў і нічога не казаў.**
> **Мой агляд даў наступнае: ніякіх слядоў вонкавых пашкоджанняў я не знайшоў — ні пераломаў канечнасцяў, пазваночніка альбо чэрапу. Стан хворага сведчыў альбо аб інфаркце, інсульце, альбо ўнутрычэрапным кровазліцці, якія вядуць да хуткай смерці.**
> **Намі была зробленая спроба штучным дыханнем вярнуць т. Галадзеду хоць бы часова свядомасць, але яна нічога не дала. Праз кароткі час наступіла смерць.**
> **Ніякага запісу ніхто не вёў, але ўзялі слова, што, калі каму-небудзь скажам аб гэтым, не паздаровіцца. Але калі назаўтра па горадзе пайшлі чуткі, што Галадзед выкінуўся з вакна, я не мог з гэтым пагадзіцца. Бо мною не было вызначана ў яго ніякага пашкоджання, што абсалютна не ўвязвалася з расказамі аб падзенні.**

Так скончыў свае ўспаміны прафесар Шапіра. Гісторык Якутаў у 60-я гады ў сваёй кнізе пра Галадзеда нічога гэтага апублікаваць не змог — з тае самае прычыны, з якой КГБ хавала архіўную справу і праз паўстагоддзя пасля смерці арыштаванага. Сумневы ў самазабойстве ўскосна ўмацоўвала дачка Галадзеда Валянціна. Падчас сустрэчы яна ўспамінала:

**Што бацька пакончыў з сабой — ні я, ні маці ніколі не верылі. Ён быў чалавекам надзвычайнай асабістай храбрасці. Адзін мог пайсці на перамовы з цэлай бандай, не пабаяўся выступіць супраць Малянкова, калі той граміў беларускую партарганізацыю. Ён бы ніколі нічога супраць сваёй волі не падпісаў. Таму і забілі...**

Аднак такі вывад пакідаў без адказу пытанне: чаму? Дачка і жонка выказвалі асабістыя меркаванні — погляд на самагубства выключна як на слабасць, недастойную сапраўднага чалавека і камуніста, быў даволі распаўсюджаны. Прафесар Шапіра пісаў свае ўспаміны праз чвэрць стагоддзя (у якія ўмясцілася вайна, барацьба з касмапалітамі і лекарамі-забойцамі). Так, Шапіра не заўважыў ніякіх слядоў падзення, але ж, як ён сам адзначае, агляд рабіўся ў кабінеце на другім паверсе — значыць, спачатку цела перанеслі туды, і знешнія заўважныя сляды маглі папросту прыбраць, паправіць. Апроч таго, сімптомы, якія прыводзіць прафесар, паводле ацэнак спецыялістаў, цалкам маглі быць вынікам падзення.

А галоўнае — каму была выгадная імгненная смерць Галадзеда? НКВД, які на загад Сталіна рыхтаваў чарговы адкрыты працэс, быў менш за ўсё зацікаўлены ў страце такога важкага «злачынцы», як былы старшыня СНК. «Кіраўнік антысавецкага падполля ў Беларусі» — а менавіта такая роля адводзілася Галадзеду ў ордэры, падпісаным Яжовым, — мог даць шмат карысных паказанняў, значна павялічыць маштабы арыштаў, а значыць — ордэнаў і шпалаў энкавэдыстам. Наўрад ці Бермана клапаціла незгаворлівасць Галадзеда — у НКВД умелі дабівацца згоды ад самых упартых арыштаваных. Такім чынам, і Сталіну, і НКВД было выгадна вывесці Галадзеда на адкрыты працэс.

У выніку смерці Чарвякова і Галадзеда на адкрыты працэс у лютым-сакавіку 1938-га давялося выводзіць Шаранговіча, які толькі тры месяцы папрацаваў 1-м сакратаром ЦК і, ясна, не змог пацягнуць за сабой значную сетку змоўнікаў. На працэсе роля Шаранговіча звялася да падтрымкі абвінавачання супраць Бухарына, які ніколі з ім не сустракаўся і грэбліва адмовіўся ад знаёмства. У Беларусі расстрэл Шаранговіча не

выклікаў непасрэдных наступстваў, звязаных з ягоным асабістым атачэннем, ранейшымі саслужыўцамі і да т.п. Можна меркаваць, што, калі б на ягоным месцы былі Чарвякоў і Галадзед, крывавае рэха іх «паказанняў» было б большае. Хоць куды ўжо болей...

Тым не менш, канчатковую яснасць маглі даць толькі дакументальныя звесткі пра канкрэтныя абставіны смерці Галадзеда. Прычым звесткі не прамыя, якія лёгка сфальсіфікаваць, а ўскосныя — што-небудзь гаспадарчае, звязанае з унутранай кухняй органаў. Чаканы дакумент сустрэўся ў архіўных завалах недзе праз пяць гадоў пасля першага знаёмства са справай Галадзеда.

...У 1939 годзе, праз два гады пасля смерці Галадзеда, да першага сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі звярнуўся былы член партыі, былы оперупаўнаважаны НКВД БССР Аляксей Рулёў з просьбай аб рэабілітацыі і матэрыяльнай дапамозе. Ягоны ліст пераслалі новаму наркаму Цанаву, які падрыхтаваў даведку для ЦК. У ёй паведамлялася, што загадам НКВД ад 21 жніўня 1937 года Рулёў быў звольнены са службы як асоба, якая знаходзіцца пад следствам больш за два месяцы. Але ж Галадзед загінуў якраз два месяцы перад гэтай датай, значыць Рулёў быў заключаны пад варту ў дзень ягонае смерці.

Дакумент сведчыў:

**21 чэрвеня 1937 года яму (Рулёву) было даручана ахоўваць у ягоным кабінеце кіраўніка антысавецкага падполля ў Беларусі — Галадзеда. Рулёў пакінуў пост, самавольна пайшоў, перадаверыўшы ахову маладому нявопытнаму работніку Турбіну, у выніку чаго Галадзед выкінуўся з вакна і разбіўся насмерць, не даўшы паказанняў аб сваёй контррэвалюцыйнай дзейнасці. Рулёў быў арыштаваны. У працэсе следства абвінавачаны Рулёў прызнаў, што ён, напэўна ведаючы, што яму была даручаная ахова сур'ёзнага злачынцы — кіраўніка антысавецкага падполля ў Беларусі, самавольна пайшоў з кабінета, чым даў магчымасць злачынцу скончыць жыццё самагубствам.**

Пэўныя дэталі пераконваюць у сапраўднасці гэтай гісторыі. Рулёва афіцыйна звольнілі з органаў дакладна ў адпаведнасці са службовай інструкцыяй, якая дазваляла лічыць арыштаванага, але не асуджанага супрацоўніка ў штаце арганізацыі на працягу роўна двух месяцаў. Рулёў быў асуджаны і правёў у зняволенні паўтара гады. Калі ён выйшаў, у НКВД да яго паставіліся досыць прыязна. Бухгалтарскія дакументы

сведчаць, што оперупаўнаважанаму выплацілі зарплату за ліпень-жнівень 1937-га, кампенсацыю за нявыкарыстаны адпачынак і нават выходную дапамогу, усяго 1999 рублёў 72 капейкі. Аднак як звольненаму з органаў у сувязі з судовай справай, яму адмовілі ў праве на пенсію за выслугу гадоў.

У адказе Панамарэнку Цанава пісаў, што, паводле інструкцыі, нельга аднавіць Рулёва на працы ў НКВД і аказаць матэрыяльную дапамогу. І сапраўды, якая яшчэ дапамога, калі оперупаўнаважаны даў магчымасць сур'ёзнаму злачынцу скончыць жыццё самагубствам і ўнікнуць пакарання...

Такая вось гісторыя пра былога старшыню ўрада Беларусі і час, калі шчаслівы быў той, хто перад адказам на пытанні таварышаў па партыі паспяваў пусціць кулю ў сэрца альбо выкінуцца з вакна пятага паверха.

Аднак гэта будзе няпоўная гісторыя, калі не сказаць другую частку праўды пра трагедыю Галадзеда, Чарвякова і астатніх рэабілітаваных і адноўленых у партыі дзеячоў тае эпохі, чые імёны зараз носяць вуліцы Мінска ды іншых гарадоў Беларусі.

Непасрэднай прычынай адхілення ад пасады і арышту Галадзеда лічыцца ягоная спроба паставіць пад сумнеў вынікі чысткі беларускай партарганізацыі, якую праводзілі пад кіраўніцтвам маскоўскага пасланца Малянкова. З 59.175 камуністаў, якіх налічвала КП(б)Б у 1932 годзе, у 1937-м у партыі засталося 33.828. Галадзеда, які спалучаў веру ў партыю з любоўю да Беларусі (у межах бальшавіцкай ідэалогіі), гэтыя лічбы балюча ўразілі. І ён выступіў на пленуме ЦК з адчайнай, самагубнай прамовай, у якой красамоўныя як спробы абараніць выключаных з партыі, гэтак і агаворкі наконт правільнасці партыйнага курсу.

Са стэнаграмы XII пленума ЦК КП(б)Б:

**Галадзед: Некаторыя нашы таварышы гавораць: ачысціліся ад ворагаў і добра. Але не ўсе ж гэта ворагі. Вось, калі гаварыў таварыш Сталін, што многія думаюць дзясяткамі тысячаў членаў партыі, аб гэтым і ў нас ідзе гаворка. Я папрасіў даць мне звесткі, колькі выключылі трацкістаў і іншых ворагаў. Трацкістаў выключылі 7.122.**
**Галасы: Няправільна!**
**Галадзед: У 1933 падчас чысткі мы, на жаль, мала выключылі трацкістаў, выключылі іх толькі пры праверцы і абмене дакумен-**

**таў. Яшчэ дадаць трэба нацыяналістаў ды пару тысяч бундаўцаў, дадаць тысячы тры іншых ворагаў — шпіёнаў і іншых.**
**Голас з месца: Акрамя гэтага, ёсць шпіёны, белагвардзейцы!**
**Галадзед: Згодны, давайце яшчэ дадамо пяць тысяч.**
**Голас з месца: Мала!**
**Галадзед: Давайце дзесяць тысяч на ворагаў прыкінем (шум у зале). Справа, канечне, не ў такім падліку. Але гэтае пытанне не дробязнае, пытанне вельмі сур'ёзнае. Гаворка ідзе пра нацыянальную партарганізацыю...**
**Галасы з месца: Правільна!**
**Галадзед: ... дзе фармаванне партарганізацыі справа самая адказная, дзе кожны член партыі, харошы камуніст цэніцца высока. Але ўсё ж паміж выключаных ёсць ворагі, ёсць і не ворагі. Як можна жартаваць з такім пытаннем? Мы павінны паглядзець баланс сваёй работы адносна колькаснага складу і ўмацавання КП(б)Б. І становішча такое, што амаль на 43% скарацілася КП(б)Б.**
**Сакратар ЦК Валковіч: КП(б)Б усё ж мацней стала.**
**Галадзед: Яна павінна быць яшчэ мацней. Я не кажу, што КП(б)Б дрэнная. Я кажу, што мы, член бюро ЦК у першую чаргу, адказваем за гэтую справу, мы дапусцілі, што за пяць гадоў скарацілася наша партарганізацыя на 25 тысяч членаў партыі. Канечне, ёсць паміж імі нямала ворагаў, я гэта паўтараю. А рэшта — гэта тое, што тав. Сталін называе «думаць дзясяткамі тысячаў», паводле яго ацэнкі гэта называецца глыбока антыпартыйным учынкам. Чаму мы не можам прызнаць гэта на пленуме? Тав. Сталін вучыць нас бязлітасна караць ворагаў, але адначасна трэба клапаціцца аб адзінках членаў партыі. Нават калі прыняць пад увагу, што за гэты час выехала нямала членаў партыі ў іншыя вобласці, дык усё ж агульнае скарачэнне КП(б)Б, на маю думку, вельмі вялікае, чым бы яго ні тлумачылі.**

Усё змяшалася ў гэтым выступленні: адважная спроба абараніць паплечнікаў (не называючы імёнаў), і ашаламляльная гатоўнасць аднесці да ліку ворагаў тысячы людзей — нацыяналістаў, трацкістаў, белагвардзейцаў, шпіёнаў. І зусім за межамі прамовы — не члены партыі. Для прамоўцы не існуюць ахвяры без партбілетаў. Гэта не папрок заднім днём — кіраўнік урада не мог не ведаць, што на пачатак 1937-га былі вы-

ключаныя з ліку свабодных ці жывых у дзясяткі разоў болей людзей, чымся тыя 25 тысяч партыйцаў, якіх ён абараняў.

Вось яшчэ адзін урывак са стэнаграмы таго самага пленума:

**Сакратар ЦК Валковіч: У Лепельскім раёне ёсць заявы з подпісамі многіх людзей з патрабаваннем адкрыць касцёлы, сінагогі. У Гомельскім раёне збіралі галасы. За закрыццё — 600 подпісаў, а з боку царкоўнікаў — 1700 подпісаў. Уяўляеце, якая брыдота атрымалася!**

**Рэпліка тав. Галадзеда: А поп адзін!**

**Валковіч: Поп якраз павесіўся перад гэтым, замянілі яго іншым, і той аказаўся лепшым, арганізаваў...**

Да членаў партыі нават Сталін вучыў праяўляць спагадлівасць. Незадоўга перад пленумам, у сярэдзіне снежня 1936-га, Галадзед атрымаў ліст знаёмага, працаўніка гідролізнага завода С. Міцькова, якога выключылі з партыі. Той пісаў:

**Мікалай Фёдаравіч! Я шчыра ўсведамляю сваю віну перад партыяй, я паступіў не як пільны бальшавік, даючы паручыцельства за брата, не ведаючы яго сапраўдных настрояў, гэтым я мог зрабіць, а магчыма, калі б брат аказаўся шпіёнам, і зрабіў прамую дапамогу ворагу. Але я клянуся, што не меў ніякага злога намеру, верыў у сумленнасць і адданасць брата савецкай краіне. Я маю звесткі, што брат быццам бы вызвалены 3 красавіка, але я яго не бачыў і бачыць не хачу і не ведаю, дзе ён цяпер. Нават калі ён вызвалены, гэта не здымае з мяне адказнасці. Я павінен несці пакаранне. Але выключэння з партыі я не магу прыняць.**

Відаць, Галадзед як член бюро ЦК уключыў ліст у парадак дня бюро. Праз два тыдні, 29 снежня 1936 года, бюро ЦК вынесла пастанову:

**Лічыць, што няма падставаў для перагляду рашэння ЦК КП(б)Б аб выключэнні Міцькова з партыі.**

Пад пастановай — і подпіс Галадзеда, які крыху перасякае лінію, што падзяляе адказы на дзве часткі, «за» і «супраць». Я перагледзеў многія сотні картак з пастановамі бюро ЦК КП(б)Б, і ні разу не бачыў ніводнага подпісу ў раздзеле «супраць». Не мець свайго голасу і сваёй думкі, фактычна адмовіцца ад сябе, як ад асобы, абавязвала ўжо сама пасада.

Калі ў канцы 1936-га Галадзед хацяб вынес на разгляд просьбу выключанага з партыі, якому пагражаў немінучы арышт, дык праз пяць месяцаў, у траўні 1937-га, ён ужо сам мусіў праяўляць пільнасць. На аркушы персанальнага нататніка пад грыфам «Сакрэтна» ён пісаў першаму сакратару ЦК Шаранговічу:

**Як высветлілася пры праверцы і абмене дакументаў, таварыш Лук'янчык, аказваецца, састаяў у БКА (так званая Беларуская камуністычная арганізацыя). У святле апошніх матэрыялаў, якія паказваюць варожую дзейнасць шэрагу членаў БКА, я лічу немэтазгодным знаходжанне т. Лук'янчыка на пасадзе кіраўніка справаў СНК БССР і прашу Вас прыняць рашэнне бюро ЦК аб вызваленні яго з пасады.**

Галадзед выдатна ведаў, як разгортваюцца падзеі пасля такой «просьбы». Тры месяцы перад тым, у лютым, ён сам дакладаў членам бюро ЦК дырэктыву ЦК ВКП(б) ад 13.02.1937: «Аб парадку арышту кіраўнікоў установаў, дырэктараў прадпрыемстваў і інжынерна-тэхнічных работнікаў». Бюро адзінадушна пастанавіла дырэктыву «прыняць да ведама і выканання».

Подпісы Чарвякова, Галадзеда і іншых рэабілітаваных камуністаў стаяць на сотнях пастановаў бюро ЦК КП(б)Б — аб выкараненні трацкістаў, нацыяналістаў і сіяністаў, святароў і шпіёнаў, белапалякаў, бундаўцаў, гаспадарчых кіраўнікоў і ўласных супрацоўнікаў. Калі яшчэ Чарвякоў і Галадзед былі пры ўладзе, ва ўсю ішоў крывавы разгул гвалтоўнай калектывізацыі, нішчыліся пісьменнікі і акадэмікі, звар'яцеў ад катаванняў першы старшыня ЦВК Цішка Гартны...

Партыя бальшавікоў спачатку атрымала іх душы, а потым запатрабавала іх крыві. Апошнімі імгненнямі жыцця яны распарадзіліся так, каб не даць любімай партыі ўласнаручнай асалоды забіць іх фізічна. Іх забіла сістэма, якую яны самі будавалі, за якую галасавалі і якой дружна, разам з усімі рукаплясkалі. Са стэнаграмы XVI з'езду КП(б)Б:

**Першы сакратар ЦК Шаранговіч: Чарвякоў не вытрымаў той крытыкі, якая разгарнулася на нашым партыйным з'ездзе з боку членаў партыі, крытыкі вострай і абсалютна правільнай. Раз скончыў самагубствам, як кажуць, туды яму і дарога!**
**У зале: Смех і воплескі.**

Як у антычным Рыме. Ці савецкім цырку.

# Гарыць мова

## Рукавы ад камізэлькі

Вялікі Сталін любіў Беларусь: пагадзіўся на сацыялістычную дзяржаўнасць і не да канца абрэзаў тэрыторыю, даў ордэны Купалу і Коласу, а дзесяць першых сакратароў ЦК кампартыі расстраляў як ворагаў народа.

І беларускі народ адплаціў вялікаму Сталіну ўзаемнасцю. Адзінадушнае ў форме і багатае зместам пачуццё ўвасаблялася ў падарунках, якія вырабляліся з усіх карысных для гэтай мэты выкапняў сацыялістычнага рэалізму. Справу аблягчала тое, што бацька народаў, як гогалеўскі губернатар, браў усім, ад перайменаваных гарадоў да чаравікаў са скуранымі матузкамі, якія паслала яму неяк Мінская фабрыка імя Тэльмана. Нягледзячы на размах паміж ідэйна-тэарэтычнай глыбінёй і мастацка-эстэтычнымі вяршынямі, увесь ён ладна месціцца ў адным чатырохрадкоўі безыменнага беларускага акына першай паловы ХХ стагоддзя:

***Вісіць Сталіна партрэт,***
***А на рамачцы кругі.***
***Усміхаецца вачамі***
***Такі родны, дарагі!***

Тэксталагічны аналіз не ўваходзіць у задачу гэтага інвентарнага агляду, таму абмяжуемся спасылкай на буйныя пісьмовыя помнікі.

1936 год: да слаўных 16-х угодкаў вызвалення ад белапольскай акупацыі аж два мільёны чалавек падпісалі «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну», якое пераказалі ў вершах Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, І. Харык.

1939 год:з нагоды палюбоўнай сустрэчы Чырвонай Арміі і дывізіяў вермахту на новай мяжы П. Пестрак, М. Танк, М. Машара і М. Клімковіч адрасавалі ў Крэмль ліст «З тваім імем у сэрцы».

1949 год:два вялізныя, на газетную старонку кожны, лісты ў прозе: адзін да дзесяцігоддзя папярэдняга, другі — да трыццацігоддзя дазволу Масквы ўтварыць БССР.

Безліч калектыўных пасланняў было накіравана да 70-х угодкаў правадыра, сярод адпраўляльнікаў — расейскі драмтэатр і лікёра-гарэлачны завод у Мінску, метэаролагі, арцель інвалідаў, трэст паказальных

рэстаранаў, кіроўцы трамваяў, акадэмікі, школьнікі, вайсковыя часткі. Індывідуальная творчая дзейнасць ды фальклор у кнігах і перыёдыцы ўліку не паддаюцца.

Толькі асобы, якія не разумелі сутнасці класавай барацьбы, маглі сцвярджаць, што лепшы падарунак — гэта кніга. Мясцовыя бальшавікі разбілі і адкінулі прэч гэтую гнілую тэорыю буржуазнай інтэлігенцыі. Пралетарскае чуццё правільна падказала беларускім таварышам, што лепшы падарунак таварышу Сталіну — кнігі самога таварыша Сталіна. Да ягонага 70-годдзя на беларускай мове было выдадзена 4 мільёны 846 тысяч экзэмпляраў твораў правадыра; агульны тыраж на беларускай, расейскай, польскай, літоўскай і габрэйскай мовах, адкатаны ў Мінскай друкарні імя Сталіна, паводле афіцыйных звестак склаў 5.055.200 асобнікаў. Сюды трэба дадаць як мінімум яшчэ сотню тысяч асобнікаў 9-13 тамоў збору сталінскіх твораў, якія выдаваліся ў Мінску да канца 1951 года. (Друкаванне спынілася на працах 1934 года, больш ніводнага тома ні па-расейску, ні па-беларуску не выйшла).

Змест вымагаў формы. Творы хаваліся пад авечую скуру — чырвоны саф'ян, вокладкі аздабляліся інкрустацыяй і разьбой па дрэве. У Маладзечанскім чыгуначным дэпо том сталінскай кароткай біяграфіі закавалі ў метал. Экзэмпляр захоўваецца ў фондах былога музея рэвалюцыі ў Маскве: латунная вокладка на петлях толькі крыху пазелянела за паўсотні гадоў, адпаліраваць — і заззяе, як новенькая...

Праўда, апафеозам мастацтва кнігі застаецца самы першы ліст Сталіну ад 1936 года. Паэтычныя радкі вышытыя чырвонымі, блакітнымі, зялёнымі, шэрымі і брунатнымі ніткамі на 24-х абшытых белай тканінай аркушах. Зверху і знізу кожнай старонкі ўплецена шаўковая стужка з нацыянальным арнаментам, на першай старонцы вышытая назва, а на апошняй вытканы герб БССР. Імя адрасата золатам адціснута на цэлулоіднай супервокладцы — супэршык па тым часе. Адначасна некалькі асобнікаў ліста былі выкананыя майстрамі-паліграфістамі — на люксавай паперы, у некалькі колераў. За афармленне мастак Пашкевіч быў рэкамендаваны ў склад беларускай дэлегацыі для працы ў Камітэце мастацтва пры СНК СССР.

Ліст быў пакладзены ў адмысловы драўляны куфэрак, зроблены на спецзаказ з дзясяткаў розных гатункаў дрэва, і са спецыяльнай дэлегацыяй адпраўлены ў Маскву. Там ён захоўваецца і цяпер, крыху страціўшы свой парадны выгляд за паўстагоддзя на архіўных паліцах. Я знайшоў таксама і куфэрак у сутарэннях былога музея рэвалюцыі; ра-

зам з супрацоўніцай мы яго паднялі, перавярнулі, але, акрамя пылу, нічога не вытраслі. Ключ згубіўся ў 50-я гады, а ўзламаць не дазволілі.*

***Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,***
***Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход,***
***Прымі прывітанне, якое прыносіць***
***Табе, правадыр, беларускі народ!***

Гэтыя 113 літараў, сем кропак і адзін клічнік з куфэрка з лістом 1936 года ў 1949-м перакачавалі на абрус, які да сталінскага юбілею вышылі ў эксперыментальнай лабараторыі мастацкіх промыслаў прамкааперацыі БССР. На фоне пяцікутнай зоркі, аздобленай арнаментам са слуцкага поясу, вышыты герб рэспублікі, а паміж вугламі зоркі — пяць малюнкаў, якія, як гаворыцца ў музейным каталогу, адлюстроўваюць аднаўленне народнай гаспадаркі Беларусі; уся прыгажосць акаймаваная густой махрой.

Эпіграфам да архіўных картатэк і вопісаў беларускіх падарункаў Сталіну могуць паслужыць перафразаваныя радкі пра слуцкіх ткачых: «Аб шчасці ўжо забыўшы сны, свае шырокія тканіны на лад савецкі ткуць яны». Сапраўды, з Беларусі Сталіну найчасцей слалі ручнікі, абрусы, паясы — іх пералік займае дзясяткі пазіцыяў у архіўных вопісах. Што думалі калгасніцы, работніцы, хатнія гаспадыні, калі старанна вышывалі вітанні — спадзяваліся ўласкавіць, паганскім ахвярапрынашэннем адвесці ліха ад дому?

Барвовыя плямы праступаюць на адбеленым ручніку, які паслала на сталінскія імяніны ў Маскву мядзельская калгасніца В. Шаранговіч — сваячка таго самага першага сакратара ЦК Шаранговіча, якога на сталінскі загад расстралялі разам з Бухарыным, Рыкавым, Ягодам. Усяго беларускага лёну не хапіла б на палатно, каб сцерці кроў хоць з адной рукі «стваральніка БССР».

Ягоны партрэт, як і кнігі, таксама лічыўся выдатным падарункам. Прычым асабліва цанілася не падабенства да арыгіналу, а працаёмістасць выканання (гэта тычыцца і іншых паднашэнняў). Хатнія гаспадыні з Берасця вышылі генералісімуса шоўкам на поўны рост. На адну толькі рамку пайшло дзве тысячы кавалачкаў дрэва розных пародаў.

---

* Пасля публікацыі гэтых нататак у часопісе «Спадчына» ў 1990 годзе мне пазваніў з Кіева нейкі дзядзька і пачаў крычаць у слухаўку, што гэта ён, ён рабіў куфэрак на спецзаказ — але, апроч дзіцячай радасці, нічога істотнага з яго вуснаў не прагучала, не помніў нават, ці заплацілі яму за працу.

Дарэчы, у галіне інкрустацыі ішло сапраўднае спаборніцтва рэкордаў. Майстар Слонімскай рамеснай вучэльні С. Азазовіч вырабіў альбом для Сталіна з 2.150 кавалачкаў дрэва дзесяці parодаў. Сталяр-чырвонадрэўшчык з Берасця перадаў у падарунак правадыру дванаццацігранны стол, склееены з 2.345 дэталяў. Умельцам Мінскага радыёзавода імя Молатава спатрэбілася 36.000 кавалачкаў дрэва на партрэт галоўнакамандуючага з ордэнам «Перамога» на грудзях.

Абсалютны рэкорд належыць выхаванцам Нядашкаўскага дзіцячага дома: тут склеілі партрэт Сталіна з 149.870 дэталяў. Пад кіраўніцтвам педагогаў сіраты вайны і ГУЛАГу выклалі на партрэце яшчэ і надпіс:

***Ты бацька наш родны, ты бацька народаў,***
***Жыві ж, правадыр, незлічоныя годы!***

На Мінскім мотавелазаводзе ўявілі, што 70-гадоваму карыфею для поўнага шчасця не стае ровара (аднікеляванага і пазалочанага, зразумела). Беларускія трактарабудаўнікі і іх калегі з завода імя Кірава, а таксама бабруйскія машынабудаўнікі і гарадзенскія фабзайцы падыйшлі да справы больш памяркоўна і вырашылі сваіх натуральных вырабаў у Маскву не слаць. На імяніны адправілі макет рабочага месца слесара, дзейныя мадэлі двух трактараў і вертыкальна-працяжнога станка «Дуплекс МП-8».

Адзін з самых філасофскіх падарункаў, які давялося пабачыць — мадэль вакна з ваканіцамі. Як ва ўсяго геніяльнага — аўтар невядомы.

У Мінскіх музейных сутарэннях захоўваецца цэлы падарункавы гардэроб для Сталіна: блуза крэпжаржэтавая, кашуля шаўковая і кашуля льняная, хромавыя чаравікі — хоць зараз на танцы. Не забыліся і на сталінскія вусы — у плюшавым куфэрку ляжыць набор грабянёў для галавы і вусоў.

Калі невядома дакладна, што думалі ткачыхі ды сіраты, дык прафесіяналы падарункавых справаў паклапаціліся зафіксаваць сваё самаадчуванне ў час юбілейнага буму.

**Пачынаючы з 1932 года я няспынна працую над увасабленнем вобраза вялікага Сталіна. Цяжка выказаць, якое вялікае задавальненне дае мне гэтая праца. Мне заўсёды здаецца, што я ўдасканальваюся не толькі як скульптар, але і як чалавек. Шчасліва і радасна праходзіць маё жыццё.**

Так паведамляў у 1949 годзе чытачам «ЛіМа» Заір Азгур. У народнага мастака, як і ў многіх іншых яго калегаў, багатая сталініяна. Але да 70-годдзя правадыра ад лаўрэата яго прэміі ў Крэмль паслалі чамусці бюст... нябожчыка Жданава.

Містыка панавала і на ўсебеларускай мастацкай выставе, прысвечанай выбарам у Вярхоўны Савет БССР у 1950 годзе. Так, народны мастак Я. Зайцаў на 46.687 квадратных сантыметрах палатна алеем даводзіў, што таварыш І.В. Сталін быў у Мінску. Яшчэ адзін народны мастак Н. Воранаў тымі ж сродкамі ўдакладняў, што правадыр у 1919 годзе думаў пра Беларусь на руінах Мінскага чыгуначнага вузла.

Трэба прызнаць, што, хаця сталінскі бот не затрымліваўся на беларускай зямлі, ягоных слядоў тут столькі і такіх, што трызненне мастакоў, прынамсі, зразумелае. Чаго толькі не ўявіш, начытаўшыся «Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)» ды «Кароткай біяграфіі». (Увогуле, сталінская «кароткасць» — амаль геніяльная прыдумка. На практыцы яна азначае якраз бязмежнасць і дае, з аднаго боку, поўную свабоду «гістарычнай творчасці», а з другога — уводзіць жорсткую манаполію на адбор і трактоўку фактаў. Апошняе дазвалялася абраным жрацам і з'яўлялася справай сакральнай і адначасна смяротна небяспечнай.)

Сярод беларускіх падарункаў Сталіну ёсць нават тое, чаго быць не можа. Мінскі дом мадэляў вырашыў падарыць і падарыў таварышу Сталіну жаночы касцюм: блузка, спадніца ў складкі, камізэлька і асобна — рукавы да яе, якія прышпіляюцца на запінкі.

Выстава падарункаў адкрылася ў 1949 годзе ў Маскве. На працягу месяцаў наведнікі маглі знаёміцца з экспазіцыяй любові народаў да агульнага бацькі. Сам «айцец» аднойчы ўначы заехаў у Манеж. Паглядзеў, нічога не сказаў, развярнуўся і пасунуўся назад да аўтамабіля, ахова цягнулася следам. Што ўела імяninніка? Можа, усё пабачанае раптам падалося рукавамі ад камізэлькі? Ці абудзілася горкая крыўда на лекараў-шкоднікаў, якія не змаглі забяспечыць несмяротнасць?..*

У сярэдзіне 50-х гадоў падарункі пачалі раздаваць. Частка засталася ў маскоўскім музеі рэвалюцыі, многае пайшло ў сталінскі музэй у Горы,

* Рэхам тых думак бюро ЦК КПБ разглядала потым «паведамленне члена КПСС Навасельцава Ф.С. аб тым, што ў Палескай вобласці існуе падпольная сіяніцкая контррэвалюцыйная арганізацыя лекараў на чале з сакратаром абкама партыі тав. Лабанком, дзейнасці якой спрыяў былы начальнік абласное ўправы МГБ Варановіч, а Лабанок з'яўляецца амерыканскім рэзідэнтам». Паведамленне асмеліліся прызнаць нагаворам толькі 28 сакавіка 1953 года, пасля смерці «несмяротнага» і рэабілітацыі «лекараў-забойцаў».

тое-сёе вярнулася ў Мінск. З таго часу падарункі ні разу не выстаўляліся. У Дзяржаўным мастацкім музеі думалі неяк паказаць жывапісную сталініяну, але рэстаўрацыя палотнаў запатрабавала сродкаў, якіх не знайшлі.

Мастацкая каштоўнасць абсалютнай большасці падарункаў Сталіну з Беларусі вызначаецца толькі прозвішчам імяninніка. А вядома, чаго каштавала яно Беларусі... Нават падарункі Сталіну дзесяцігоддзі даваліся ў знакі — яны займалі дэфіцытныя плошчы перапоўненых сховішчаў, не дапускалі новыя творы мастацтва на захаванне.

І ўсё ж, пры змене экспазіцыяў адзін экспанат варта пакінуць у музеях. Гэта фотакартка, каталогавы нумар 2942 (музей рэвалюцыі): «Калонная заля Дома Саюзаў. І.В. Сталін у труне». На той выпадак, калі прачытаеш што-небудзь «такое» ў нашых газетах, каб можна было хуценька забегчы ў музей і на свае вочы пабачыць нябожчыка ў труне.

Хоць ён быў майстрам не толькі ў справе фальсіфікацыі народнай любові...

## 451° па галоўліту

Калі амерыканскі фантаст выдаў кнігу пра спаленне кніг у будучыні*, супрацоўнікі цэлага савецкага ведамства маглі па праву сказаць, што гэты твор прысвечаны іх прафесійнай дзейнасці, якая раней заставалася па-за ўвагай і прызнаннем шырокай грамадскасці. Унёсак супрацоўнікаў гэтага ведамства ў нацыянальную культуру цяжка пераацаніць. Вось толькі адзін маленькі фрагмент іх творчасці, якую захоўваюць архівы:

> **Знішчэнне кніжак рабіць шляхам пропуску праз рэзальныя машыны друкарняў. Макулатуру ў дробна парэзаным выглядзе здаваць ва ўтыль. У райцэнтрах, дзе ў друкарнях няма рэзальных машынаў, прынятую літаратуру спальваць з адзнакай на акце спалення.**

Шыхтавы статут блякне перад чаканным стылем Галоўнай управы літаратуры і выдавецтваў БССР, якая ўваходзіла ў склад наркамата асветы. Афіцыйны скарот — Галоўлітбел, яшчэ карацей — Галоўліт.

* Рэй Брэдбэры. «451° па Фарэнгейту». Пры такой тэмпературы (233° па Цэльсію) пачынае гарэць папера.

«Асветніцкая» ўстанова з такой назвай была створаная пастановай СНК БССР ад 3 студзеня 1923 года. Згодна з задачамі папярэдне, перад друкам, Галоўліт пераглядаў усе рукапісы, здымкі, малюнкі і выдаваў ці не выдаваў дазвол на друк, ажыццяўляў кантроль за друкарнямі, бібліятэкамі, кнігарнямі, слухаў радыёперадачы. Без Галоўліта немагчыма ўявіць развіццё навукі, нацыянальнага тэатра і кіно, жывапісу, скульптуры, эстрады і журналістыкі.

Апроч Галоўнай управы, для дагляду і своечасовай крытычнай дапамогі ва ўсіх абласных, акружных і раённых цэнтрах дзейнічалі мясцовыя «літы» са сваімі штатамі.

Шматгранная дзейнасць Галоўліта ў Беларусі працягвалася да пачатку вайны, а потым была адноўленая ў 1944-м у Навабеліцы, у першыя дні дзейнасці ўрада БССР. Пасля смерці Сталіна, 15 сакавіка 1953-га, Савет Міністраў вывеў Галоўліт са складу Міністэрства асветы і перадаў у Міністэрства ўнутраных справаў, якое тады ўключала і былы НКВД — МГБ. Праз паўгода, у кастрычніку 1953-га, Галоўліт пакінуў сцены МУС і набыў самастойны статус і новую назву — управа аховы вайсковай і дзяржаўнай тайны ў друку. У 1963 годзе Галоўліт далучылі да навастворанага Дзяржкамітэту па друку і паліграфіі, а з 1966-га да скону БССР цэнзурнае ведамства існавала як Галоўная ўправа па ахове дзяржтайны пры Савеце Міністраў.

Галоўліт, натуральна, лічыў сваю дзейнасць дзяржаўнай тайнай і не афішаваў уласныя подзвігі. Тым болей, што самая масавая, непасрэдная прадукцыя Галоўліта — прабел, пустата, небыццё. Трэба прызнаць, што Галоўліт досыць паспяхова выконваў сваю функцыю. Паправіць ужо амаль нічога немагчыма. Нават прачытаныя праз паўстагоддзя рукапісы і вернутыя навуковыя і мастацкія творы ў абсалютнай большасці ўжо выконваюць іншую ролю, у новым кантэксце дзейнічаюць інакш, чым калі б яны пабачылі свет своечасова. Далёка не ўсё, што забараняў Галоўліт, адносілася да катэгорыі шэдэўраў, але тыя творы былі хлебам і вадой культуры, без якіх немагчыма з'яўленне вяршыняў. Увогуле, катэгорыя адсутнасці ці не самая істотная для тлумачэння нацыянальнай гісторыі апошняга стагоддзя. Адсутнасць адных людзей і ідэяў зрабіла магчымым прысутнасць зусім іншых...

Ланцуговая рэакцыя не-быцця робіцца заўважнай часам празь дзесяцігоддзі і праяўляецца ў агульнай дэградацыі грамадства, калі большасць дарослых выракаецца роднай мовы і можа пазбавіць дзяцей Радзімы.

Нягледзячы на грыфы «не падлягае агалошанню», якімі Галоўліт пазначаў усё, што выходзіла з ягоных сценаў, выбраныя архіўныя старонкі даволі выразна агалошваюць н толькі метадалогію, але і псіхалогію міністэрства праўды, якая існавала ў 30-я гады, ды і пазней.

## Як Калінін з'еў усё мяса, а Сталін скурыў тытунь

30 сакавіка 1938 года ўпаўнаважаны СНК па Сіроцінскім раёне Барсукоў і загадчык аддзела культуры і прапаганды райкама Ліўшыц вырвалі з насценнага календара пяць лісткоў — за 22 красавіка, 5 траўня, 9 ліпеня, 8 і 21 лістапада. На лістках былі змешчаныя партрэты Леніна, Сталіна, Калініна, Молатава і Будзённага.

Сваю акцыю Ліўшыц і Барсукоў не толькі не сталі трымаць у тайне, але з вырванымі партрэтамі прыйшлі на заняткі раённага Інстытута завочнага навучання партыйна-камсамольскага актыву і правялі дыскусію, прысвечаную бальшавіцкай пільнасці. Яе падрабязнасці пераказваюцца ў лісце начальніка Сіроцінскага райліта Градоўкіна ў Мінск.



Аказваецца, Барсукоў і Ліўшыц вырвалі партрэты правадыроў, бо, на іх думку, каляндар быў варожай правакацыяй. У сваім лісце начальнік райліта падрабязна інфармуе пра ходу думак пільных камуністаў:

**Лісток календара за 22 красавіка — партрэт тав. Леніна. Ягоны гальштук, па-іхнаму, уяўляе галаву сабакі. Лісток за 5 траўня — партрэты тав. Леніна, тав. Сталіна, тав. Молатава. Тав. Сталін курыць люльку — па-іхнаму, тав. Сталін курыць у дзве люлькі. Гэта значыць, што тав. Сталін пакурыў увесь тытунь у гады рэвалюцыі, і не было тытуню ў СССР. Лісток за 9 ліпеня — партрэт старшыні калгасу імя Варашылава тав. Бадмаева, які перадае рапарт тав. Сталіну аб перамогах у Бурат-Мангольскай АССР, па-іхнаму, паказвае, што тав. Сталін, прымаючы рапарт, перадае левай рукой нож. 8 лістапада — партрэт тав. Леніна і тав. Сталіна, размова па прамым дроце. У гэты час, па-іхнаму, тав. Сталін закрывае рот рабочаму, каб маўчаў. Лісток 21 лістапада — тав. Калінін і тав. Будзённы едуць на машыне. Па-іхнаму, тав. Калінін трымае на руках галаву цяляці, што азначае, што тав. Калінін паеў усё мяса, і яго не было ў СССР.**

Далей аўтар ліста паведамляў:

**Гэтая контррэвалюцыйная хлусня была распаўсюджаная па некаторых установах праз слухачоў завочнага навучання, але праз мяне і мясцовыя органы НКВД была папярэджаная. Усё гэта ўзятае ад упаўнаважанага СНК БССР Барсукова, які і падштурхнуў культпрапа, растлумачыўшы, што гэта паказала нейкая жанчына ў Мінску, якая прыехала з Масквы.**

Справа аб лістках календара таксама была перададзеная на бюро райкама. Як НКВД папярэджваў сіроцінскіх партыйна-камсамольскіх актывістаў, дакладна невядома, але жаданне варажыць над няякаснай паліграфіяй у іх, верагодна, больш не ўзнікала. Ужо праз два тыдні пасля выкрыцця «выкрыцця» ліст з Сіроціна патрапіў у Галоўліт, а адтуль у ЦК КП(б)Б, дзе на ім з’явілася лаканічная рэзалюцыя і паведамленне аб яе выкананні. Акцыя Барсукова і Ліўшыца была расцэненая як контррэвалюцыйная правакацыя; Барсукоў мусіў узгадаць таямнічую «жанчыну з Масквы», а Ліўшыц пакаяцца ў наўмысным паклёпе на правадыроў. Хоць, на самай справе, ашалелыя ад бальшавіцкай пільнасці таварышы сталі ахвярамі якраз таго, за што змагаўся Галоўліт...

## Як беларускія таварышы выкрылі таджыкскіх трацкістаў на мове ідыш

Галоўліт штомесяц дасылаў у аддзел друку ЦК КП(б)Б звесткі пра зробленыя выкрэсліванні і правакацыі, спыненыя ягонымі супрацоўнікамі, прычым прыводзілася аргументацыя дзеяння цэнзара. У цэнзуры працавалі паліглоты — у першыя дзесяцігоддзі савецкай улады ў Беларусі выдаваліся газеты і часопісы на нямецкай, польскай, літоўскай мовах, на ідышы. Дасведчанасць цэнзараў сягала так далёка, што, калі ў жніўні 1937 года габрэйская газета «Юнгер Ленінец», якая выдавалася ў Мінску, хацела надрукаваць таджыкскую народную легенду «Чалавечае шчасце», Галоўліт выкрасліў легенду як ідэалагічна нявытрыманую. Цэнзары даслоўна пераклалі тэкст і накіравалі яго са сваім каментаром у ЦК.

**Калі Цімур (Тамерлан) нарадзіўся, сустрэліся Месяц з Сонцам над Памірам, прыляцела птушка і прынесла бацьку радасную вестку: нарадзіўся Саіб І-Кран, вялікі чалавек... Прайшлі гады. Цімур стаў вялікім кіраўніком і пераможцам. Ён перамог шмат краінаў і знішчыў цэлыя народы, і чалавечая кроў лілася ракой, а слёзы — вялікімі морамі. Ніколі людзі да Цімура не бачылі такога крыважэрнага разбойніка. Цімур збіраў лепшыя творы чалавечай думкі — кнігі, і хаваў іх. Пра адну кнігу, аб чалавечым шчасці, ён думаў доўга-доўга. Там было напісана, што шчасце чалавецтва наступіць толькі тады, калі такія, як Цімур, будуць знішчаныя. Тады вырашыў Цімур украсці ў чалавецтва кнігу шчасця. Адным ударам шаблі рассёк ён скалу, уклаў кнігу, скала зачынілася і схавала яе...**

**Мінулі стагоддзі... Зноў сустрэўся Месяц з Сонцам, але не над Памірам, а над снежнымі вяршынямі Каўказскіх гор, і нарадзіўся новы вялікі чалавек... Новая срэбная птушка вярнула кнігу шчасця людзям і стала распяваць аб новым Саіб І-Кране, які прагнаў памешчыкаў, абваднiў сухую зямлю ў Баршы, стварыў калгасы, будуе школы, вызваляе жанчын...**

Каб не ўзніклі сумневы, аўтары легенды з ліку таджыкскіх прапагандыстаў у канцы растлумачвалі: «Новы Саіб І-Кран быў Сталін».

Сумневы, аднак, узніклі. У тлумачэннях для ЦК цэнзары зрабілі аналіз, пасля якога сумневаў не выклікала ўжо рэакцыйнасць легенды, якую, верагодна, прыдумалі таджыкскія трацкісты.

**Легенда ставіць побач як два Саіб І-Краны тав. Сталіна і разбойніка Цімура, прычым у самой легендзе не адзначана, хто з іх быў найвялікшы чалавек. Сама думка аб параўнанні тав. Сталіна хаця і з найбуйнейшымі асобамі сусветнай гісторыі (хаця мы зусім не адмаўляем ролю асобы ў гісторыі), з'яўляецца палітычна шкоднай, тым больш, калі падаецца дзецям дашкольнага ўзросту.**

**Таксама палітычна няправільная думка аб тым, што ў Цімура была кніга аб чалавечым шчасці, што ён яе ўкраў, а птушка вярнула тав. Сталіну. Гэтыя думкі няправільныя, бо кніга аб чалавечым шчасці, інакш, навука аб вызваленні чалавецтва, не магла існаваць тады, калі яшчэ не было пралетарыяту і гаворкі не магло быць аб дыктатуры пралетарыяту. Сама легенда зводзіць сутнасць вучэння гэтай кнігі да «знішчэння людзей, такіх, як Цімур», інакш кажучы, гэта не што іншае, як рэакцыйная тэорыя расейскіх народнікаў аб тым, што грамадства можна перабудаваць шляхам тэрору супраць рэакцыйных правіцеляў, адмаўляючы неабходнасць масавай палітычнай барацьбы.**

**Адсюль і палітычная шкоднасць тэзісу аб тым, што названая кніга была знойдзеная і дастаўленая тав. Сталіну, і ён на яе падставе пабудаваў чалавечае шчасце. Вучэнне Маркса-Леніна-Сталіна нічога агульнага не мае з вучэннем усякіх народнікаў і да іх падобных, а наадварот, яно вырасла і ўзмацнілася ў барацьбе з гэтымі вучэннямі. Гэты тэзіс зводзіць ролю тав. Сталіна да вузкай ролі рэвалюцыянера-практыка, — думка яўна трацкісцкая.**

**Таксама палітычна шкодная думка аб тым, што існуючае вучэнне аб шчасці народным магло быць выкрадзенае ў чалавецтва. Пераводзячы гэты тэзіс на палітычную мову, значыць, могуць быць такія выпадкі, калі якія-небудзь прайдзісветы: Гітлер, Мусаліні і іншыя, могуць шляхам рэпрэсіяў супраць рабочае класы і камуністычнай партыі знішчыць марксісцка-ленінскае вучэнне. Такі тэзіс супярэчыць выказванню тав. Сталіна на XVII з'ездзе партыі.**

Трацкісцкая легенда не прайшла. Газету «Юнгер Ленінец» неўзабаве закрылі. Метадалогія палітаналізу засталася...

## Як Уладзімір Юрэвіч сказіў Уладзіміра Леніна

9 сакавіка 1937 года начальнік Галоўліта Ахрамовіч адрасаваў у палітасветаддзел ЦК КП(б)Б і Інстытут масавага завочнага навучання партактыву ліст, у якім паведамляў, што дыктар радыёкамітэта Уладзімір Юрэвіч дапусціў пры передачы лекцыі на тэму «Сацыялізм і камунізм» шэраг «памылак тэксту», завізаванага Галоўлітам, якія мяжуюць з памылкамі стылістычнага і палітычнага характару. У выпадку паўтарэння падобных парушэнняў упаўнаважаны Галоўліта будзе выключаць мікрафон і спыняць перадачу, папярэджваў Ахрамовіч. Якія ж памылкі дапусціў Уладзімір Юрэвіч? Кантралёр групы наступнага кантролю пры Галоўліце Радыёкамітэта (цэнзары дзяліліся на тых, хто правяраў тэксты да выхаду ў эфір, і на тых, хто слухаў і кантраляваў жывы эфір — магнітафонных запісаў тады не было) М. Ерамееў дакладаў:

**5 сакавіка 1937 года ішла лекцыя завочнай партвучобы на тэму «Сацыялізм і камунізм». Лекцыю ля мікрафона чытаў тав. Юрэвіч, які дадаваў нікому непатрэбныя словы, а менавіта:**
**Па-першае, дзе трэба і дзе не трэба ўстаўляў слова «таварыш». Па-другое, што трэба было чытаць, Юрэвіч не чытаў, як, напрыклад, адзначаную літаратуру. Па-трэцяе, Юрэвіч скажона вымаўляў імя Леніна, замест Владзімір гаварыў Владымір і рабіў націск на апошнім складзе, г.зн. мір, у той час як у лекцыі пісалася проста Ленін, а імя і імя па бацьку не значылася. Па-чацвёртае, трэба было чытаць «Ленін пісаў», «Сталін пісаў», а Юрэвіч дадаваў слова «так» і атрымлівался: «Ленін пісаў так», «Сталін пісаў так». Па-пятае, да цытатаў Леніна-Сталіна Юрэвіч устаўляў свае словы, напрыклад, там, дзе таварыш Сталін гаворыць аб нашым сялянстве, ён дадаў слова «гэта». Па-шостае, Юрэвіч дадаваў шэраг непатрэбных уводных словаў, такіх як «ёсць, так, вось, зразумела, усямерна, з'яўляюцца, умовы» і г.д. Па-сёмае, Юрэвіч спрабаваў зрабіць свае высновы пасля прачытанай ленінскай цытаты «Аб дзвюх важнейшых умовах для ажыццяўлення поўнага камунізму», дзе ён дадаў тлумачэнне: «Вось, таварышы, як Владымір Ільіч сказаў».**

Пасярэдзіне лекцыі цэнзар перапыніў дыктара і прыгразіў, што ў выпадку адступленняў ад тэксту перадача будзе спыненая. «Канец лекцыі быў прачытаны так, як было напісана ў лекцыі», — з пачуццём унутранага задавальнення заканчваецца службовая запіска. Наўскось да-

кумента надпіс: «Паведамлена кіраўніцтву інстытута для прыняцця мераў». Асаблівую важкасць рэзалюцыі надае дата: «27 сакавіка 1937 года».

Уладзіміра Юрэвіча ліха абышло, і яшчэ многія дзесяцігоддзі ягоны голас гучаў з радыёдынамікаў. Няйначай, перш арыштавалі тых, каму адрасавалася службовая запіска...

## Мова гарыць... (Загад №33)

Дату 3 чэрвеня 1937 года дарэмна шукаць у літаратурных энцыклапедыях і падручніках гісторыі. Між тым, гэта безумоўна гістарычная дата для беларускай мовы, культуры і навукі. У гэты дзень пад грыфам «не падлягае абвяшчэнню» Галоўліт БССР выдаў загад №33 пад назваю «Спіс літаратуры, якая падлягае канфіскацыі з бібліятэк грамадскага карыстання, навучальных установаў і кнігагандлю». Загад атрымаўся змястоўны — спіс шкодных кніжак, выдадзеных у РСФСР, БССР, УССР па-расейску, па-беларуску, па-ўкраінску, а таксама на габрэйскай, польскай, армянскай, адыгейскай, таджыкскай, абхазскай, башкірскай і яшчэ шасці іншых мовах заняў 111 старонак.

Спісы выдаваліся пад распіску ў часовае карыстанне дырэктарам бібліятэк і кнігарняў. Паколькі такіх установаў падчас ліквідацыі непісьменнасці распладзілася даволі шмат, для зручнасці загад быў аформлены і выдадзены кнігай накладам 3000 асобнікаў.

Дырэктары павінны былі пільна перагледзець паліцы, сабраць крамолу, скласці акты ў трох асобніках і адабраныя кнігі разам з трыма асобнікамі актаў здаць начальнікам акруговых, гарадскіх ці раённых аддзелаў Галоўліта. Першы экзэмпляр акту канфіскацыі перасылаўся ў Мінск у Галоўліт, другі ішоў у мясцовы аддзел НКВД, а трэці заставаўся ў райліце.

У бібліятэчных каталогах і картатэках канфіскаваную кнігу патрабавалася выкрасліць тушам, але пакінуць яе парадкавы нумар і цану. Канфіскацыі падлягалі таксама асобныя нумары часопісаў, дзе былі надрукаваныя артыкулы забароненых аўтараў. Інструкцыя ліберальна ўдакладняла — з гадавых камплектаў часопісы не вырываць.

Апошні, шосты пункт загаду патрабаваў ад цэнзараў няўхільна кіравацца тым, што канфіскацыі падлягаюць толькі тыя выданні, якія прадугледжаныя спісамі Галоўліта. Але паколькі пільнасць — справа твор-

чая, у загадзе тлумачылася, што рабіць з падазронымі выданнямі, якія, на думку мясцовых органаў Галоўліта, таксама было пажадана канфіскаваць. Такія выданні падлягалі часовай ізаляцыі, пасля чаго іх спіс і матывы арышту перасылаліся ў Галоўліт, які сваёй уладай уключаў іх у афіцыйныя праскрыпцыйныя спісы.

Загаду №33 было наканаванае доўгае жыццё. Ён захоўваў сваю сілу на працягу дзесяцігоддзяў, толькі крыху змяняючы і ўдакладняючы назвы ды лексіку. Замест тэрміну «канфіскацыя» сталі ўжываць «ачыстка». Напрыклад, у 1954 годзе была прынятая пастанова ЦК КПБ «Аб ачыстцы бібліятэк, кніжных кіёскаў, магазінаў і баз ад састарэлай і палітычна шкоднай літаратуры». Галоўліт СССР рэгулярна выдаваў тамы «Зводнага спісу кніг, якія падлягаюць выключэнню з бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі» (у ліберальным 1960-м гэтая «антыкніга» выйшла ў двух тамах). Падобныя выданні паўтараліся ў рэспубліках, іх дапаўнялі бягучыя загады, выкліканыя чарговай зменай палітычнай кан'юнктуры. Так, у студзені 1959-га выйшаў загад аб канфіскацыі твораў членаў антыпартыйнай групы. Цэнзары зноў і зноў шнырылі па паліцах бібліятэк і кнігарняў. У адным 1961 годзе яны праверылі 3000 бібліятэк і 456 крамаў, і ў 629 бібліятэках і 21 краме знайшлі крамолу. У справаздачы ЦК КПБ цэнзары дакладалі, што дадаткова канфіскавалі 2351 кнігу і часопіс з бібліятэк і яшчэ 111 выданняў з кнігарняў. Толькі ў адной бібліятэцы Вярэйкаўскага сельскага клуба ў Асіповіцкім раёне было знойдзена 11 кніг Малянкова, Булганіна, Кагановіча і Шэпілава. Гэты прыклад выразна ілюструе, што засталося ў вясковых бібліятэках пасля шматгадовых папярэдніх чыстак...

Загад №33 падрабязна тлумачыў начальнікам акруговых, абласных і раённых літаў, як быць з канфіскаванай літаратурай:

> **Рабіць знішчэнне шляхам пропуску праз рэзальныя машыны друкарняў. Макулятуру ў дробна парэзаным выглядзе здаваць ва ўтыль. У райцэнтрах, дзе ў друкарнях няма рэзальных машынаў, прынятую літаратуру спальваць з адзнакай на акце спалення.**

Алфавітны спіс выдадзеных у Беларусі кніг, якія прадпісвалася спаліць паводле загаду №33 Галоўліту БССР ад 3 чэрвеня 1937 года, займаў дванаццаць старонак і налічваў 421 пазіцыю. На самай справе выданняў і твораў, якія належала спапяліць, было ў некалькі разоў больш. Супраць 53 прозвішчаў у гэтым спісе стаіць адзнака «усе кнігі», а таксама многія пазіцыі дадаткова пазначаліся літарамі. Як правіла, іх аў-

тары ўжо раней прайшлі па спісах, якія складалі ў роднаснай Галоўліту арганізацыі, НКВД.

У ліку прысуджаных да знішчэння — кнігі Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, паэма «Тарас на Парнасе», раманы, апавяданні, п'есы. Ёсць і кур'ёзы, кшталту сталінскіх «Пытанняў ленінізму» — верагодна, арыштавалі перакладчыка, як, верагодна, і аўтара кнігі з вясёлым загалоўкам «Паноў трэба знішчаць гуртам».

Асаблівая катэгорыя асуджаных на агонь — тэрміналагічныя слоўнікі і даведнікі, граматыкі, лемантары, чытанкі, падручнікі, навучальныя дапаможнікі, дыялектныя зборнікі, мовазнаўчыя працы, створаныя ў эпоху прыведнай беларусізацыі. Палілі мову...

Вогнішчы з кніжак успыхнулі ў Беларусі раней, чым у фашыстоўскай Нямеччыне. Мартыралог беларускай культуры, якую прадпісвалася знішчыць у 1937-м і іншых гадах (падобныя спісы рэгулярна абнаўляліся), лепш за любыя падручнікі гісторыі і каментары спецыялістаў тлумачыць, што сталася з Беларуссю.

## Прынятую літаратуру спальваць

### Раздзел «Выданні БССР» загаду №33 Галоўліта БССР ад 3 чэрвеня 1937 г.*

1. Астроўскі Р. — усе кнігі.
2. Аляхновіч Ф. — усе кнігі.
3. Асновы Марксісцка-Ленінскай педагогікі. — Хрэстаматыя. Склад. Дарадак і Панкевіч. Т. I. Выд. 1932 г.
4. Агурскі — Рэволюцыйны рух у Беларусі. Выд. Гістпарта КП(б)Б. 1925 г.
5. А.Ж. — Беларуская соцыял-дэмакратычная партыя, яе характар і заданні. Мінск. 1920.
6. Абдзіраловіч Ігнат. — Адвечным шляхам. Вільня. 1921.
7. Арол М. — Чаму-ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім? Ліда. 1921.
8. Арыфметычная тэрміналогія. Вільня. 1921.
9. Астроўскі Радаслаў. — Касмаграфія. Вільня.

* Публікуецца з захаваннем усіх асаблівасцяў арыгіналу.

10. Азбукін М. і Смоліч А. — Школьная карта Беларусі. Мінск. 1925.
11. Анцаў Міхаіл. — Зайчык-грайчык. Мінск. 1930.
12. Астапенка Змітрок. — Краіне. Вершы. Мінск. 1931.
13. « — На ўсход сонца. Мінск. 1931.
14. Алёшка. — Суседзі. Мінск. 1932.
15. «Атака». Выд. БДВ. 1934.
15а. Абісінія як яна ёсць. ДВБ. Мінск. 1936.
15б. Александровіч А. — Напор. П’еса. Усе выданні.
15в. « — Цені на сонцы. Усе выданні.
16. Беларуская навуковая тэрміналогія. Выд. 19. Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Мінск.
17. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 20. Мінск.
18. Беларуская навуковая тэрміналогія. Слоўнік хімічнай тэрміналогіі. Мінск.
19. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 7-мы. Мінск. 1926.
20. Беларуская навуковая тэрміналогія... Мінск. 1927.
21. Беларуская навуковая тэрміналогія. Слоўнік хімічнай тэрміналогіі. Мінск. 1929.
22. Беларуская навуковая тэрміналогія. Тэрміналогія грамадазнаўства. Мінск. 1927.
23. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 14. Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі. Мінск. 1927.
24. Беларуская навуковая тэрміналогія. — Вып. 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычнай тэрміналогіі. Мінск. 1927.
25. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 17. Слоўнік бухгальтэрскай тэрміналогіі. Мінск. 1928.
26. Беларуская навуковая тэрміналогія. Мінск. 1922.
27. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. II. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. Мінск. 1923.
28. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. III. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назвы нябесных цел. Мінск. 1923.
29. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 5. Геалогія, мінералогія, крышталаграфія. Мінск. 1924.
30. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. IV. Батаніка агульная і спецыяльная. Мінск. 1924.
31. Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. VI. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі. М. 1923.

32. Беларуская навуковая тэрміналогія. Выд. 19. Слоўнік с/г тэрміналогіі. М. 1928, 1929.
33. Барычэўскі Аўгінь. — Матчын дар — А. Гаруна. Мінск. 1928.
34. Байкоў Мікола. — На літаратурныя тэмы. Мінск. 1929.
35. « — Наша сіла — советы. Усе выданні. Мінск.
36. Бялевіч К. — Новае жыццё. Мінск. 1928.
37. Байкоў М., Некрашэвіч С, Багдановіч М. — Наша сіла — ніва ды машына. Мінск. 1925.
38. Бабровіч і Багданскі. — Аб класавай барацьбе ў Заходняй Беларусі ў часы беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выд. БАН. 1932 г.
39. Багдановіч Максім. — Празаічныя творы. Мінск.
40. Бальшакоў. — Краязнаўчае вывучэнне арганізацыі працы ў калгасах. Мінск. 1931.
41. Бенек. — Усе кнігі.
42. Быхаўскі Б. — Нарыс філасофіі дыялектычнага матэрыялізма. Мінск. 1931.
43. Бульбянік Захар. — Смех і радасць вёскі. Мінск. 1929.
44. Бойка Барыс. — Гаспадарчая характарыстыка севазварота. Мінск. 1930.
45. Байкоў І. — Кіраўніцтва ў калгасах. Мінск. 1931.
46. Бляхер Я. І. — Неарганічная хімія. Мінск. 1931.
47. Беларускі флірт. Вільня. 1921. 48 асобных картак.
48. Бурачок Мацей. (Багушэвіч Ф.) — Дудка беларуская. Вільня. 1921.
49. Бяроза А. — Расійска-польскі баль і Беларускае пахмелле. Пінск. 1921.
50. Беларускі тэатр. Вільня. 1924.
51. Байкоў М. і Гарэцкі М. — Практычны расійска-беларускі слоўнік. Усе выданні.
52. Бузук П.А. — Асноўныя пытанні мовазнаўства. Мінск.
53. « — Некаторыя непаразуменні ў спрэчках аб рэформе Беларускага правапіса. Мінск. 1926.
54. « — Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі. Ч. І. Фанетыка і марфалогія. Мінск. 1928.
55. « — Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. М. 1926.
56. Байкоў М. і Некрашэвіч С. — Беларуска-расійскі слоўнік. Мінск. 1927.

57. Бараноўскі, Ажгірэй В., Залуцкі В. — Барацьбіт. Мінск.
58. Барашка І.Я. — 11 ліпеня. Мінск. БДВ. 1930.
59. Баранавых Сымон. — Усе кнігі
60. Багун Міхась « «
61. Багдановіч А. « «
62. Бабарэка А. « «
63. Баліцкі. « «
64. Баршчэўскі Я. — Начэпнасць. Вільня. 1917.
65. « — Чорнакніжнік і змяя, што вылупілася з пятушынага яйца. Вільня. 1917.
66. Багушэвіч Францішак. — Дудка беларуская. II. Смык беларускі. Мінск.
67. « « Дудка беларуская. (Вершы). Коўна.
68. « « Дудка беларуская. Коўна.
69. Бядуля З. — Жыды на Беларусі. Мінск. 1918.
70. Байкоў М. — Прыкметы новай педагогіі. Мінск. 1921.
71. Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Мінск. 1924.
71а. Бэндэ. — Усе кнігі.
72. Воўк-Левановіч В. — Усе кнігі.
73. Вольны А. — Усе кнігі.
73а. Валабрынскі А. — Усе кнігі.
74. Варонка Я. — Беларускі рух ад 1917 да 1920 года. Коўна. 1920.
75. Выпісы з беларускай літаратуры. Ч.II. Мінск. 1923.
76. Верас Зоська. Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік. Вільня. 1924.
77. Вашкевіч Л. — Расійска-беларускі слоўнік дзеля чыгуначных мясцкомаў. Магілёў. 1926.
78. Вынікі працы інстытута сялян даследчыкаў. Мінск.
79. Вольфсон і Гак. — Гістарычны матэрыялізм. Мінск. 1931.
80. Валасевіч. — Самая кароткая гісторыя ВКП(б). Мінск.
81. Валодзька Ф.І. — Карантын раслін і значэнне яго ў справе пад’ёму ўраджайнасці. 1935.
82. Вынікі перавыбараў сельсоветаў Магілеўшчыны. Выд. Маг. РВК 1934.
83. Гарэцкі М. — Усе кнігі.
84. Гарун А. « «

85. Геаграфічны атлас для пачатковай школы. Выд. 1935 г. Усесаюзн. Картаграфічны трэст.
86. Галубок Уладыслаў. — Апошняе спатканне. Драма. Вільня. 1919.
87. « — Суд. Мінск. 1925.
87а. Гукоўскі А.І. Антанта і Кастрычніцкая рэволюцыя. БДВ. Мінск. 1932.
88. Гурло Алесь. — Барвенак. (Вершы). Мінск. 1924.
89. « — Межы. (Выбраныя вершы). Мінск.
90. Гарэцкая Л. — Родны край. Вільня. Усе выданні.
91. Гутоўскі Улад. Д. — Сурдут і сярмяга. Вільня. 1922.
92. Грыневіч А. — Школьны спеўнік. Вільня. 1920.
93. Грамыка Міхайла — Пачатковая геаграфія. Мінск. 1923.
94. « — Плынь. (Вершы). Мінск.
95. « — Каля тэрасы. Мінск. 1929.
96. Гарэцкі М., Дзяржынскі Ул. і Каравай П. — Выпісы з беларускай літаратуры. Масква-Ленінград. 1925.
97. Гаўрук Юрка. — Вясковыя рыскі. Мінск. 1926.
98. Гістарычна-археалагічны зборнік №1. Мінск. 1927.
99. Глыбоцкі Тодар. — Усе кнігі.
100. Гарабурда Канстантын. — Сусвет і зямля. Мінск. 1929.
100а. Гірчак Е.Ф. — Хвілёвізм. (Пераклад з украінскай мовы). БДВ. Мінск. 1931
101. Гаруновіч. — Супроць нацыянал-дэмакратызма. 1930.
102. Галенчанка Л. — Размеркаванне прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах. Мінск. 1931.
103. Гак і Майзель. — 13 год вызвалення БССР. Мінск. 1933.
104. Ганчарык. — За культуру соі ў БССР. Выд. БАН. 1932 г.
105. « — Уплыў ультрафіялетавых праменняў на ўтварэнне антоцыяніну ў раслінах. 1932 г. БАН.
106. Гарбацэвіч. — Паланізацыя Заходняй Беларусі. 1933.
106а. Глебка П. Шыпшына. Лірыка. «Узвышша». Мінск. 1927.
107. Доўнар-Запольскі. — Усе кнігі.
108. Дубоўка У. «
109. Дзяржынскі У. « «
110. Друшчыц В. « «
111. Даўгяла З. « «
112. Дарожны С. « «
113. Дудар А. « «

113а. Дзякаў « «
114. Дардак Ю.С. і Ерафеяў Ю.Ф. — Класавая барацьба ў школе. Выд. ДВБ. 1933 г.
115. Дзядзька Пранук. — Стася. Вільня. 1922.
116. Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства №1. Зборнік абраных твораў Дунін-Марцінкевіча, Мацея Бурачка, Ядвігіна Ш. і інш. Кіеў. 1919 г.
117. Дысцыплінарныя правілы караў для арміі. (Пераклад з польскага). Лодзь. 1920.
118. Дуж-Душэўскі К. і Ластоўскі В. Слоўнік геаметрычна-трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў. Коўна. 1927.
119. Дэкламатар. Вільня. 1921.
120. Дзяркач А. — Міколава гаспадарка. Мінск. 1927.
121. « — Усім па троху... Мінск. 1930.
122. Друшчыц Васіль. — Места Вільні ў першай палове XVI сталецця. Мінск.
123. Друцкі-Падбярозкі Б. — Байкі, гумар, сатыра. Вільня
123а. Да дню вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Зборнік. Злажылі: Капаевіч П. і Сяўрук М. Выд. «Чырвоная змена». Мінск. 1927.
123б. Драматургія. — Зборнік. Пад рэдакц. Александровіча, Гурскага, Дунца, Я.Коласа і Клімковіча. БАН. Мінск. 1934.
124. Езавітаў К. Становішча беларускай школы ў Літве. Вільня. 1923.
125. Жылуновіч (Ц.Гартны). — Усе кнігі.
126. Жукаў і Гарэлікаў. — За правільнае і беражлівае скарыстанне каня. Выд. Белгіз. 1934.
127. Жніво і дажынкі. — Вільня. 1918.
128. Жылка Уладзімір. — На ростані. Вільня. 1924.
129. « — Уяўленне. (Вершы). Вільня. 1923.
130. Журба Я. — Заранкі. (Вершы). Мінск. 1924.
131. Ждановіч С.А. і Ярашчук А.О. — Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе даных аб чыгуначнай і вадзяной перавозцы. Мінск. 1926.
132. Знаёмы Е. — Усе кнігі.
133. Звонак А. « «
134. Зарэцкі М.« «
135. «Знішчым шкоднікаў ільна і канапель». Плакат. ДВБ. 1936 г.
136. Зажынкі. Масква. 1918.
137. Зборнік сцэнічных твораў. Сшытак 1 і 2. Мінск. 1918.

138. Зборнік «Альманах I». Выданне 1935 г.
139. Зборнік твораў для дзіцячага тэатра. Данілка і Алеська. М.Кудзелька. — У лясным гушчары. Ф.Аляхновіч. — Датрымаў характар. А.Гарун. — Марцэлька, Сымон і Рак. Мінск. 1920.
140. Заходняя Беларусь. Зборнік грамадскае мыслі, навукі, літаратуры, мастацтва Заходняй Беларусі. Кн. I. Вільня. 1923 г.
141. Зборнік беларускіх ведамасцей. №1, 2 і 3. Вільня, 1921.
142. Зборнік артыкулаў. Этнаграфія, антрапалогія, псіхалогія, псіхатэхніка і навуковая арганізацыя працы. Мінск. 1928 г.
143. Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кніга 2. Працы кафедры этнаграфіі. Том I. Мінск. 1928. Кніга II.
145. Запіскі кафедры этнаграфіі. Т. I. М. 1928 г. Кніга VI. Праца камісіі гісторыі мастацтва. Том I. Мінск. 1928.
146. Запіскі беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Том VIII. Горкі. 1928 г.
147. Заблоцкі П. — Асновы сельскай гаспадаркі. Мінск. 1929.
148. Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. III. Працы класа гісторыі. Мінск. 1928.
149. Запіскі аддзела гуман. навук. Кніга VI. Праца камісіі гісторыі мастацтва. М. 1928.
150. Змаганне за асеннюю сяўбу і зяблівае ворыва. Зборнік. Мінск.
151. Ісбах А. — Крушэнне. (Пераклад з рускай мовы). ДВБ. Мінск. 1932.
152. Ігнатоўскі У. — Усе кнігі.
153. Івушка-Калінушка. — Непаслухмяныя. Мінск. 1925.
154. Інструкцыя да збірання народнага слоўніка тэрміналагічнага матэрыяла ў беларускай мове. Мінск. 1925.
155. Іініцкі Уладзімір. — Сон Гаўрылы і розныя вершы. Вільня. 1928 г.
156. Іваноў. — Сельска-гаспадарчае птушкаводства. Мінск. 1933.
157. Ісаакаў. — Пастаўка збожжа дзяржаве — першачарговая задача. Мінск. 1933.
158. Інфармацыйны бюлецень №5-6. БАН. 1932 г.
159. « « №7. БАН. 1933 г.
160. Каваль Васіль. — Усе кнігі.
161. Куніцкі. « «
162. Кляшторны Тодар. (Фёдар). — Усе кнігі.
163. Кісель. — Чырвоны баец. БВО. 1934 г. Выд. 2-е.
164. Кастрычнік на Беларусі. — Зборнік статей. Скл. Агурскі. Мінск. 1927 г.

165. Каганец К. — У іншым шчасці няшчасце схована. Вільня. 1919.
166. Каляда. — Гарадня. 1920.
167. Карскі Е. — Беларускі народ і яго мова. Мінск. 1920.
168. Кашчына С. — Рэквізіцыя. Ваўкавыск. 1923.
169. « — Адстаяў. Беласток. 1922 г.
170. « — Дагадаўся. Ваўкавыск. 1922 г.
171. Канчар А. Класавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганне на Беларусі. Вільня. 1921.
172. Кудзелька І.Ф. — Усе кнігі.
173. Каспяровіч А.У. — Беларуска-расійскі слоўнічак. Віцебск. Выд. 1926 г.
174. « — Краязнаўства. (Нарысы). Мінск. 1929 г.
175. « — Віцебскі краявы слоўнік. Віцебск. 1927 г.
176. « — Вывучэнне культурнага стану краю. Мінск. 1927 г.
177. « — Матэрыялы да вывучэння віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва. Мінск. 1927 г.
178. « — Матывы барацьбы ў творчасці М. Багдановіча. Мінск.
179. Каспяровіч А.У. — Узоры для літаратурных гурткоў «Маладняку» і гурткоў селькораў. Мінск. 1927 г.
180. Капаевіч П.Э., Сяўрук М. і Баркоўскі С. — Чырвонасялянская вечарынка. Мінск. 1927 г.
180а. Кучар А. — Вялікая перабудова. БДВ. Мінск.
181. Капаевіч П. і Сяўрук М. — Літаратурная чытанка для вячэрніх школ І-й ступені. Ч. І-я. Мінск. 1932 г.
182. Карніенка. — Класавая барацьба на гістарычным фронце Беларусі. Мінск. 1932 г.
183. Капаевіч Павел. — Супроць капіталістаў і памешчыкаў. Мінск. 1928 г.
184. Кабакоў і Лур'е. — Старонкі мінулага. Віц. ОСПС. 1928 г.
185. Купала Ян. — Том І-шы. Мінск. 1928 г.
186. « — 1918-1928 гг. Творы. Мінск. 1930 г.
187. Кіслякоў Ян. — Пасёлкі. Мінск. 1928 г.
188. Крапіўніцкі М. — Па рэвізіі. Вільня. 1928 г.
189. « — Пашыліся ў дурні. Вільня. 1928 г.
190. Клеймборт Л.М. — Маладая Беларусь. Мінск. 1928 г.
191. Краязнаўства. — Зборнік праграм і інструкцый краязнаўчай працы. Вып. І. Мінск. 1929.

192. Кудзікаў С. — За масавую і суцэльную калектывізацыю. Мінск. 1930.
193. Каганоўская. Ударная брыгада ў дзіцячым садзе. Мінск. 1933.
194. Кірыяка А. і Дружына Г. — Ад чаго залежыць ураджай. 1933.
195. Каранёў В. — 200 пытанняў і адказаў па калгасным будаўніцтве. Мінск. 1931.
196. Кніга. — Брыгадна-лабараторны метад у вузах і тэхнікумах. Выд. ДВС. 1932.
197. «КП(б)Б у рэзалюцыях». — Выд. Партвыдавецтва. 1934.
198. Крачкоўскі. — Замок Любельскі. 1935.
198а. Кержанцаў П. і Ляонцьеў Л. — Азбука ленінізма. Вып. І. БДВ. Мінск. 1931.
199. Лёсік Я. Усе кнігі.
200. Луцкевіч А. « «
201. Ластоўскі В. « «
202. Ліхадзіеўскі С. « «
203. Літаратурны зборнік «Вольнай Беларусі». — Сшытак першы. Мінск. 1917.
204. Лясны Рыгор. — Гістарычная праўда. Гарадно. 1923.
205. Лесавік В. — Наша крыўда. Беласток. 1921.
206. Ластаўка. — Выд. 1924.
207. Ластоўскі В. — Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна. 1924.
208. Ліпілін І.В. — Як савецкая ўлада будуе новае жыцьцё. 1933.
209. Лур’е. — Гандлёвы і пазыковы капітал. (Палітэканомія). 1932.
210. Лясны Зм. — Пра дні мінулыя. Выд. ДВБ.
211. Луцэвіч Ул. і Савёнак А. — Дашкольны спеўнік. Выд. ДВБ. 1933.
212. Маракоў В. Усе кнігі.
213. Мікуліч Б. « «
214. Міцкевіч М. і Лёсік Я. — Як Мікіта бараніў сваіх. Мінск. 1917.
215. Мыслінскі І. — «Общепонятая» мова. Мінск. 1926.
216. Мазур Ігнат. — Чырвоная Беларусь. Мінск. 1928.
217. Мацярыкін М.С. — Асновы індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР. Мінск. 1930.
218. Маракоў. — Права на зброю. Мінск.
219. Мірон К. — Інструкцыя па ўліку лесакультурных работ у леспрамгасах БССР. Мінск. 1933.

220. Матэрыялы па вывучэнню геалогіі і карысных выкапняў Беларусі. — Том. VI. Выд. БАН. 1933.
221. Матэрыялы па вывучэнню геалогіі, гідралогіі і карысных выкапняў БССР. — Том VII. Выд. Бан. 1933.
222. Матэрыялы да справаздачы Белкаапсаюза. — Выд. Белкаапсаюза. 1934.
223. Мятла. — Аб таварыстве беларускай школы. Выд. БАН. 1932.
224. Малякоў Л.І. — Веццевы корм. Выд. ДВБ. 1932.
224а. Майзель Ю. і Шапавалаў М. — Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б. ДВБ. Мінск. 1929.
224б. Майзель. — 1905-7 гг. на Беларусі. Мінск.
225. Некрашэвіч І.І. — Усе кнігі.
226. «Наша ніва». — Зборнік. Вільня. 1920.
227. Навіна Ант. — Жыдоўскае пытанне ў беларускай літаратуры. Вільня. 1921.
228. « — Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры. Вільня. 1921.
229. Народны прыгавор. — 1921.
230. Нацыянальнае пытанне і комуністычная партыя. — Мінск. 1924.
231. Некрашэвіч М.І. — Жыццё і праца. Мінск. 1925.
232. Некрашэвіч С. — Лемантар. Мінск. Усе выданні.
233. « — Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы. Мінск. 1926.
234. « — Роднае слова. Мінск.
235. « — Расійска-беларускі слоўнік. Мінск. 1928.
236. Наша сіла — саюз. — Мінск. 1926.
237. Некрашэвіч С. і Бузук П. — Праграма для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак пераходных да суседніх моваў. Мінск. 1927.
238. Некрашэвіч. — Беларускі нацыянал-фашызм.
239. Нісневіч С. — Арганізавана правядзем другую большэвіцкую ўборачную кампанію. Мінск. 1931.
240. Новасёлаў М. — Зямля расцвітае. (Пер. з рас. мовы). Мінск. 1932.
241. Остэрлёф Вольдэмар і Шустэр Язэп. — Сусветная гісторыя. Вільня. 1921.
242. Олікер і Розенблюм. — Нарысы па гісторыі комсомола БССР. Мінск. 1928.
243. Піваварaў З. Усе кнігі.
244. Пушча Я. « «
245. Прышчэпаў Д. ««
246. Пічэта У. « «

247. Палонскі. — 10 чырвонаармейскіх песен. Изд. БВО.
248. Паўловіч Альберт. — Васількі. П’еса. Вільня. 1919.
249. Памяці Івана Луцкевіча. — Вільня. 1920.
250. Парады закладчыкам спажывецкіх таварыстваў. — Вільня. 1920.
251. Праграмы Беларускае Ніжэйшае Пачатковае Школы. Мінск. 1920.
252. Праграма Беларускай народнай партыі рэволюцыянераў-соцыялістаў. Вільня. 1920.
253. Праграма Беларускай партыі соцыялістаў-рэволюцыянераў. (Праект). 1920.
254. Праграма для гутарак па гісторыі роднага краю. Мінск. 1921.
255. Праграма па роднай мове. Мінск. 1921.
256. Пятровіч І.А. — Усе кнігі.
257. Паўлінка. — Сялянская доля. 1921.
258. Паўловіч Альберт. — Снапок. Вільня. 1921.
259. Прэч рукі ад нашай зямлі. 1921.
260. Пушкевіч Ю. — Лемантар для ўзрослых. Мінск. 1926.
261. Падгорны А. і Нікулін Я. — Палітграмата. Мінск. 1926.
262. Праца акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапіса і азбукі. — Мінск. 1927.
263. Паваротны. — Камсамольцы ў калгасе. Выд. 1930.
264. « — Камсамольскія вячоркі. Мінск. 1927.
265. Піотуховіч Міхал. — Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць. Мінск. 1927.
266. « — Ля вытокаў лірыкі Янкі Купалы. Мінск. 1927.
267. « — Паэтычнае светаадчуванне ў творчасці Якуба Коласа. Мінск. 1927.
268. « — Нарысы гісторыі Беларусі і літаратуры. Ч. І-я. Мінск. 1928.
269. Працы Горы-Гарэцкага навуковага таварыства. Том І. Горкі. 1928.
270. Працы Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта ў Мінску. №16. — Педагагічны факультэт. Мінск. 1927.
271. Першы год працы БНД Інстытута і рабочы план працы на 1927-1928 год. (Склалі Прышчэпаў, Гарэцкі і Думах). Мінск. 1927.
272. Пратасевіч Іван. — Рабочая кніга па беларускай мове. Сістэматычны курс марфалогіі і элемента сінтакса. Мінск. 1928.
273. Праект укладання слоўніка жывой беларускай мовы. Мінск. 1929.
274. Праваслаўны каляндар на 1929 год. Мінск. 1929.
275. Прохараў А.А. — Культура цукровых буракоў БССР. Мінск. 1930.
276. Пруслін. — 1917 год у Полацку. Выд. 1934.

277. Пікус, Жванскі, Баяровіч, Крывадубскі. — Памятка па арганізацыі севазварота ў прамысловасці і свінасоўгасах. Мінск. 1932.
278. Пеўзнер. — Грамадазнаўства. Мінск. 1927.
279. Прымерны план работы. Выд. Аршанскага Райсовета Асоавіяхіма.
280. Пралеска Язэп. — Паноў трэба знішчаць гуртам. Выд. ДВБ. 1933.
281. Петрайціс. — Лемантар. ДВБ. 1931.
282. Пігулеўскі. — Кніга для чытання пасля лемантара. ДВБ. 1932.
283. Пастанова Цэнтр. Совета Асоавіяхіма па дакладу тав. Кузьнецова. — «Аб ходзе падрыхтоўкі і задачах новага вучэбнага году». 1933.
283а. «Полымя рэволюцыі». Увесь камплект за 1934 год.
284. Пруднікаў Алесь. — Зямныя зоры. Выд. ДВБ. ЛІМ. 1932.
285. Рак-Міхайлоўскі С. — Усе кнігі.
286. Рак-Сімон. — Гутарка аб беларускай мове. Мінск. 1919.
287. Радзевіч Л. — Пакрыўджаныя. (П'еса). Мінск.
288. « — Рэволюцыйным шляхам. Мінск. 1928.
289. « — Сцэнічныя творы. 1921.
290. « — Беларусь. (Вершы). Вільня. 1922.
291. « — Досвіткі. 1922.
292. Ракіта С. — Усе кнігі.
293. Рэўка С. — З-пад Барысава (Ф.Багушэвіч). Смык беларускі. Коўна. 1922.
294. Равінскі М. — Зборнік песень з нотамі. Мінск. 1922.
295. Роднае слова. Мінск. І і ІІ ч. Усе выданні.
296. Русак М. — Народны суд над селянінам, запусціўшым сваю гаспадарку. Мінск. 1924.
297. Рэволюцыя 1905 г. (Зборнік пад рэд. Ігнатоўскага і Я. Левіна. Мінск. 1926.
298. Рудоміно Г. — Грамадазнаўства. Мінск. Усе выданні.
299. Рудоміно Юры — Грамадазнаўства. Мінск.
300. Рэкамендацыйны спіс літаратуры да XI гадавіны са дня смерці В.І.Леніна. Выданне Дзяржбіблiятэкі. 1935.
300а. Розенблюм. — Усе кнігі.
301. Смоліч А. — Усе кнігі.
302. Сташэўскі В. « «
303. Скрыган Я. « «
304. «Совецкае будаўніцтва». Журнал № 8-9. Выд. 1926 г.
305. Смоліч Аляксандра — Зорка. Беларуская граматыка. Вільня. Усе выданні.

306. Сучасны — П.С.Х. Фацэція на 1-ю дзею. Вільня. 1923.
307. Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатра. Вільня. 1923.
308. Спекулянты беларускай душой. 1921.
309. Станкевіч Янка. — Беларускі правапіс з практыкаваннямі. Вільня. 1921.
310. « Правапіс чужых слоў. Вільня. 1921.
311. Стыдна маўчаць і чакаць. 1921.
312. Сцэнічныя творы: Ц.Гартны — Соцыялістка. М.Кудзелька — Сон на балоце. Ф.Аляхновіч — Калісь, лес шумеў. Мінск. 1924.
313. Сваяк Казімір. — Мая ліра. (Вершы). Вільня. 1924.
314. Суліма — Здзехоўскі аб беларускай душы. Вільня. 1924.
315. Самковіч У. і Пратасевіч І. — Родныя шляхі. Мінск.
316. Слоўнік лясных тэрмінаў. Мінск. 1926.
317. Сцепановіч Хв. — Родная мова ў комплекснай сістэме выкладанння ў школе І-га канцэнтра. Мінск. 1928.
318. Сцэнічныя творы. (Зборнік). Вільня. 1928.
319. Сержпутоўскі Александр — Прымхі і забабоны беларускіх паляшукоў. Мінск. 1930.
320. Сталевіч — Беларускі нацыянал-фашызм. 1930.
320а. Сілін Б. і Захараў. — Як кашалі плесці. БДВ. 1926.
321. Скрыпнік — Нацыянальнае пытанне ў праграме комінтэрну. Мінск. 1930.
322. Слоўнік тэрміналогіі агульнае раслінагадоўлі. Мінск.
323. Соя ў БССР. Мінск. 1933.
324. Сіневока-Неразік — Рабочая кніга 3 год навучання. Ч. І і ІІ. ДВБ. 1932 г.
325. 17 год на варце соцыялізма. Брашура І.Іванова. Выд. БВО. 1935.
326. Совецкая дэмакратыя. Зборнік. Выд. БелАН.
327. Салагуб — Лукішкі. Выд. 1932 г.
328. Сыцько В.М. — Крытыка трацкісцкай тэорыі імперыялізму. Выд. БАН. 1934 г.
328а. Сталін І.В. — Пытанні ленінізму. На белмове. Пераклад Яна Густыра. Белдзяржвыдавецтва. Мінск. 1931 г.
329. Таўбін Ю. — Усе кнігі.
330. 1905 год у Беларусі. — Зборнік артыкулаў пад рэдакцыяй Шульмана. Мінск. 1925 г.
331. Тарас на Парнасе. Мінск. 1917.

332. Тарашкевіч Б. — Беларуская граматыка для школ. Вільня. Усе выданні.
333. Тарас Палясоўшчык. — Коўна. 1925.
334. Тутэйшы — Што дзяліць, а што не, каб супакой быў на свеце. 1920.
335. Тэраўскі Ул. — Беларускі спеўнік з нотамі на тры галасы паводле народных мелодый. Мінск. 1921.
336. « — Беларускі лірнік. — Спеўнік на 4 галасы. Бэрлін. 1922.
337. Тупяневіч С. і Заяц П. — За лепшую сельскую гаспадарку і сельскагаспадарчы гурток. Мінск. 1926.
338. Указанні да праграм няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школы (V-X класы). Кніга. БДВ. 1934. Рэд. Лашчынскі.
339. Уліцын. — Суд над трохпалёўкай. 1935. Мінск. 1926.
340. « — За ўраджай. Мінск. 1929.
341. « — Насенне, яго якасць і падрыхтоўка. Мінск. 1931.
342. Уладаў В. — Вытворчыя нарады ў калгасах. Мінск. 1931.
343. Уральскі — Знішчажэнне супроцьлегласці паміж горадам і вёскай. Выд. ДВБ. 1933 г.
344. Фарботка Я. — Беларусь у песнях. Мінск. 1920.
345. Хадыка Ул. — Усе кнігі.
346. Хто вінават. 1921.
347. Харламповіч П. — Пяцігоддзе дзяржаўнага музея. Мінск. 1927.
348. Халепа. — 14 год Кастрычніцкай рэвалюцыі. 1931.
349. Хайтун. — Паходжанне і класавая сутнасць вялікадня. Мінск. 1933.
350. Хрэстаматыя рэв. літаратуры Заходняй Беларусі. Выд. БАН. 1933 г. Пад рэд. Мятлы.
351. Цвікевіч А.І. — Усе кнігі.
352. Цвікевіч І.І. — « «
353. Цэйтлін М. — Арганізацыя буйнай гаспадаркі ільнянога раёна. Мінск. 1931.
354. Чарот М. — Усе кнігі.
355. Чарняўская Л. — Дзяцінныя гульні. Вільня. 1919.
356. Чарняўшчынка Л. — Родны край. Мінск. 1921.
357. Чаго чакаць беларусам ад Польшчы. 1921.
358. Чуйко Г. — Вынікі масавых доследаў з угнаеннямі па БССР. Мінск. 1930.
359. Чарняўскі. — Яўрэйскі рабочы на зары рэв. руху. Мінск. 1932.

360. Чарнушэвіч Н. — Дзіва. (Вершы). Мінск. 1927 г.
361. «Чтец». Зборнік Сярожнікава. ГІЗ. 1926 г.
362. Шантыр Ф. — Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусоў і самаадзначэнне народа. Слуцк. 1918.
363. Што трэба ведаць кожнаму беларусу. Зборнік артыкулаў розных аўтараў: Міцкевіча, Лёсіка, Ластоўскага, Багдановіча і інш. 1918.
364. Ш. Рыгор. — Чаму-ж ты маўчыш, кабета сялянская? Бярэсце. 1921.
365. Шуляк І. — Вышэй галаву беларускі селянін. Пінск. 1921.
366. Шлюбскі Ал. — Сябра інстытута беларускае культуры. Паны і сяляне ў перашай палове Х1Х стагоддзя. Мінск.
367. « — Бядуля, як этнограф. Мінск. 1925.
368. « — Квашаніна. Віцебск. 1926.
369. « — Матэрыялы для вывучэння фальклора і віцебскае культуры. Мінск. 1927.
370. Шапавалаў М. — Скарына, яго дні ды друк на Беларусі. Мінск. 1925.
371. Шэўчык і Саломенік. — Граматыка беларускай мовы. (Марфалогія і сінтакс).
372. Шыпіла І. — Што кожны селянін павінен ведаць аб кааперацыі. 1925.
373. Шпілеўскі. — Беларуская Акадэмія Навук да XV-годдзя. Выд. БАН. 1934 г.
374. Школьныя тэксты. Мінск. 1927 г.
375. Шчакаціхін Мікола — Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Том І. Курганныя старажытнасці Беларусі. Мінск. 1928.
376. Шатэрнік М. — Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Мінск.
377. Шапялевіч. — Беларуская мова. (Першы і другі год навучання). Мінск. 1933.
378. Шыменас — Кніга для чытання. 2-гі год навучання. Цэнтральнае выдавецтва СССР. 1931 г.
379. « — Кніга для чытання 4 год навучання. Ч. 2.
380. Шчэрбакоў. — Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі і белапольская акупацыя. Мінск. 1930 г.
381. Э.Б. Што такое простая і што такое мудрэйшая гаворка. Вільня. 1920.
382. Ядвігін Ш. — Бярозка. Вільня. 1923.
383. « — Чалавек. Хлеб. Баба. Заморскі звер. Пазыка. З маленькім

білецікам. Вучоны бык. Што сказаў певень. Падласонкі. Рабы. Дачэсныя. (Апавяданні). Мінск.

384. Янчук Н.А. — Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Мінск. 1922.
385. Ярашчук Е.Л. — Сувязь сялянскай гаспадаркі БССР з рынкам. Мінск. 1926.
386. Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. Мінск. 1926 г.
387. Янка Купала ў літаратурнай крытыцы. Мінск. 1928 г.
388. Якімовіч А. і Гародкіна Е. — Чытанка для II класа. ДВБ. Мінск. 1936.

ДАДАТКОВА КАНФІСКУЮЦЦА:

1. Шчэрбакоў. — Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. І. Мінск. 1936.
2. « Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі. Мінск. 1934 г.
3. Кернажыцкі. — Да гісторыі аграрнага руху на Беларус: напярэдадні імперыялістычнай вайны. БАН. Мінск. 1932 г.
4. « Аграрная рэформа ў Бабруйскім старастве. Мінск. 1930 г.
5. « Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі. Мінск. 1936.
6. Кастрычнік на Беларусі. — Зборнік. Мінск. 1927 г.
7. Дудкоў Д. — Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерніі. Мінск. 1931 г.
8. Зборнік афіцыйных дакументаў у дапамогу масаваму настаўніку. Склалі Н.Левін і А.Хайфец. ДВБ. 1934 г.
9. Некрашэвіч А. — Чытанкі для III і IV кл. Выд. 1933, 1934, 1935, 1936 гг. ДВБ. Мінск.

420. Васіленко. — Хрэстаматыя па беларускай літаратуры для IX-X класа. Мінск. ДВБ. 1935 г.
421. Бендэ. — Хрэстаматыі па Беларускай літаратуры для V, VI і VII класаў. Выд. ДВБ. Мінск.

# Дырэктар літаратуры

гісторыя адной палемікі

Спрэчцы, аб якой пойдзе гаворка, на момант публікацыі гэтых радкоў ужо чвэрць стагоддзя.

У снежні 1987 года газета «Звязда», дзе я тады працаваў, зрабіла яшчэ нядаўна неверагоднае: адкрытую размову пра злачынствы сталіншчыны ў Беларусі. Я ўжо некалькі гадоў запісваў успаміны былых вязняў, іх дзяцей, сабраў ладную калекцыю замежных і самвыдатаўскіх публікацый пра сталінскія злачынствы ў Беларусі, але ўсё гэта рабілася цішком, захоўвалася ў розных месцах, і пачатак гарбачоўскай эпохі не абяцаў нічога добрага. У прамове на Дзень прамогі ён нечакана загаварыў пра Сталіна — адзначыў вялікія заслугі генералісімуса, і заля сустрэла гэтыя словы істэрычнай авацыяй. Але сталіністы, як стала высвятляцца, памыляліся. У Маскве і Прыбалтыцы пачыналася гістарычная галоснасць. У Беларусі на яе пачатку быў гэты «круглы стол», на які я запрасіў вязняў ГУЛАГу пісьменнікаў Яна Скрыгана і Сяргея Грахоўскага, прыйшоў філосаф Уладзімір Конан, іншыя. Ужо з гэтай першай публікацыі «Узяць з гісторыі агонь» (22 снежня 1987 г.) адразу паўстала праблема катаў і ахвяраў. Прывяду вытрымку з той гутаркі:

**У. Конан: Павінна быць нейкая гістарычная адказнасць за свае дзеянні. У 30-я гады ў «ЛіМе» друкаваліся пратаколы партсходаў. Вось даклад са сходу 25 красавіка 1937 года, які рабіў намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Александровіч. Іван Аляксеевіч Скрыган і Сяргей Грахоўскі яго памятаюць. Цытую: «Жылуновіч — Цішка Гартны — гэта закончаны, закляты вораг беларускага народа; Зарэцкі працягваў тыя ж самыя ідэі, што і Жылуновіч. Сымон Баранавых — кулак, юродзівы бандыт...» і гэтак далей. Дацэнт В. Барысенка ў «акадэмічных артыкулах» 1936 года называў М. Гарэцкага «нацыянал-фашыстам», а Я. Коласа — прапагандыстам «містыкі» і «буржуазнага нацыяналізму». Што было рабіць пасля гэтага адпаведнаму органу?**
**Рэпліка: Публічны данос!**

Пасля публікацыі ў рэдакцыю пайшлі лісты, званілі, прыходзілі ахвяры камуністычнага рэжыму ды іх дзеці. Іх допісы, расказы сталі




з’яўляцца на старонках газеты. Быў надрукаваны і ліст Усевалада Ігнатавіча Мазура.

### Помню высакароднасць, помню подласць*

Глыбокім болем адазваліся ў маёй душы артыкул «Узяць з гісторыі агонь» і водгукі чытачоў на яго. У артыкуле нядобрым словам успамінаецца літаратар В. Барысенка, які ў сваіх опусах 30-х гадоў ачарніў М. Гарэцкага і Я. Коласа. Пісаніна Барысенкі адыграла не апошнюю ролю ў знішчэнні выдатнага беларускага літаратара і ганеннях на народнага песняра. Барысенка зламаў жыццё і іншым сумленным людзям. Сярод іх — два блізкія мне чалавекі — бацька Ігнат Мікалаевіч Мазур і Марта Іванаўна Калінічэнка.

У 20-я гады яны працавалі настаўнікамі ў Мінску і адначасова падрыхтавалі хрэстаматыю «Чырвоная змена», якая вытрымала некалькі выданняў. У 1936 годзе Барысенка сфабрыкаваў такі паклёп на гэтую кніжку, што Марта Іванаўна была асуджаная на 5 гадоў зняволення. Бацьку, члена РКП(б) з 1918 года, удзельніка грамадзянскай вайны, выключылі з партыі.

Аб характары «рэцэнзіі» можна меркаваць па такім прыкладзе. У падручніку быў змешчаны артыкул аб туберкулёзе — наколькі ён небяспечны, як засцерагацца ад такой цяжкай хваробы. Адзначалася, што туберкулёз распаўсюджаны ў Беларусі значна больш, чым на Украіне, у Францыі, Італіі, Нямеччыне. Парткамісія ў 1936 годзе і слухаць не хацела довадаў бацькі аб тым, што трывожныя лічбы прыводзіліся на IX з’ездзе КП(б)Б і апублікаваныя ў газетах.

---

* «Звязда», 27 сакавіка 1988 г.

— Не, — кідалі яму, — вы жадаеце перакрэсліць дасягненні Савецкай улады па ахове здароўя.

Выключэнне з партыі нанесла бацьку страшэнны ўдар, ён доўга хварэў. Але на гэтым не скончыліся ягоныя пакуты. Як ні цяжка ўспамінаць, у першы ж дзень вайны, у ноч на 23 чэрвеня 1941 года, бацьку арыштавалі. Ніякія абвінавачанні не прад'яўляліся.

Па спісах выклікалі чарговую групу зняволеных і кудысці адводзілі. Настала і бацькава чарга. Канваіры здзекаваліся: «Вось і вас пусцім у расход, а самі пойдзем да вашых жонак». Выйшлі на магілёўскую шашу, у прыдарожнай яме ўбачылі целы расстраляных...

Зрабілі яшчэ некалькі крокаў, і раптам начальнік канвою падае каманду: «Стой!» У 1946 бацька расказваў, што ў яго ад гэтай каманды сэрца як абарвалася. Камандзір звярнуўся да калоны:

— Я атрымаў загад расстраляць вас як ворагаў народа. Аднак адчуў шчырасць і разгубленасць вашых размоваў. Не верыцца мне, што вы — ворагі. Таму ідзіце да нашых, на ўсход...

Усю вайну бацька быў на фронце, узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Пасля вайны бацька часта ўспамінаў таго малодшага лейтэнанта, які захаваў жыццё яму і некалькім дзясяткам іншых зняволеных. Гараваў, што не ведаў ягонага прозвішча, каб нізка пакланіцца яму ў ногі...

А паклёпнік Барысенка? Яго стараннi былі кім трэба ацэненыя, ён хутка ўзляцеў у гару і да сваіх апошніх дзён займаў высокую кіраўнічую пасаду ў беларускай літаратуразнаўчай навуцы. Быў на вышыні да самай смерці ў 1984 годзе, калі яму споўнілася 80 гадоў.

*Усевалад Мазур*

### Ад аўтара

Так заканчваўся гэты, адзін з многіх водгукаў на публікацыю гутаркі «Узяць з гісторыі агонь». Ён меў працяг. Пасля папераджальнага званка ад дырэктара Інстытута літаратуры В. Каваленкі з абвяржэннем прыйшла супрацоўніца інстытута, дачка В. Барысенкі С. Забродская. Пасля праверкі, перапіскі з архівамі была надрукаваная падборка матэрыялаў, пад агульнай назвай «Закрытая» рэцэнзія.*

Яе адкрываў ліст С. Забродскай.

* «Звязда», 31 ліпеня 1988 г.

## Мой бацька быў чалавекам свайго часу

... Мой бацька, акадэмік АН БССР В.В. Барысенка, абвінавачваецца ў «ачарненні» М. Гарэцкага і Я. Коласа і сцвярджаецца, што «пісаніна Барысенкі адыграла не апошнюю ролю ў знішчэнні выдатнага беларускага літаратара і народнага песняра». Сапраўды, В.В. Барысенка ў 1936 г. рэзка пісаў пра творчасць М. Гарэцкага, дапускаючы ідэйна-палітычныя абвінавачанні, і, вядома ж, памыляўся. Але пісаў ён пасля таго, як М. Гарэцкі быў ужо рэпрэсаваны. Такая акалічнасць не апраўдвае майго бацьку, але сказаць, як гэта робіць У. Мазур, што яго артыкул непасрэдна дачыніўся да гібелі М. Гарэцкага, будзе няпраўдай. Тады, на жаль, пра М. Гарэцкага ў такім духу пісалі многія.

Адносна ж Якуба Коласа У. Мазур зусім не мае рацыі ў сваіх абвінавачаннях, кідаецца ў вочы іх бяздоказнасць, бо няма ніводнай спасылкі ні на дакументы, ні на друкаваныя матэрыялы. Калі б так было на самай справе, як піша У. Мазур, то ў майго бацькі не ўстанавілася б добрых дзелавых і прыязных асабістых адносін з віцэ-прэзідэнтам АН БССР Я. Коласам, калі бацька працаваў шмат гадоў у падначаленні Я. Коласа на пасадзе дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР...

Прычынай усіх трагічных падзеяў у жыцці бацькі У. Мазур лічыць рэцэнзію, якую «сфабрыкаваў» В. Барысенка, але спасылкі на рэцэнзію няма, не сказана, па якіх фактах можна меркаваць, што такая рэцэнзія існавала наогул.

У. Мазур вядзе размову пра вельмі горкія і трагічныя факты ў жыцці народа і канкрэтных людзей і таму фактычная дакладная доказнасць мае маральную ацэнку. Бяздоказнасць абвінавачанняў і безапеляцыйны тон выказвання аўтара нататкі непрыемна ўражваюць. Зварот жа да канкрэтных крыніц, на якія ўказвае У. Мазур, фактычна пацвярджае безадказнасць У. Мазура ў асвятленні падзеяў, пра якія ён узяўся разважаць. Ён нават не паклапаціўся праверыць гэтыя крыніцы.

Сапраўды, хрэстаматыя «Чырвоная змена», падрыхтаваная М. Калінічэнка і І. Мазурам, выйшла ў Мінску ў 1925 г. З 1925 па 1930 г. яна была перавыдадзеная 8 разоў. Але артыкула аб туберкулёзе, за які быццам зведалі такія цяжкія спагнанні ўкладальнікі, ні ў адным выданні гэтага падручніка ніколі не было. Як ніколі не было і рэцэнзіі В. Барысенкі на гэтую кнігу. І гэта зразумела: наогул ці варта пісаць рэцэнзію на падручнік праз шэсць гадоў пасля яго апошняга, восьмага перавыдання?!

На хрэстаматыю «Чырвоная змена» былі напісаныя тры рэцэнзіі. Адна з іх («Звязда», 14 жніўня 1929 г.) — рэзка адмоўная. Аўтар, В. Хмялеўская, ставіла пытанне аб карэнным пераглядзе падручніка, сумнявалася ў карысці яго для вучняў, патрабавала выпраўлення грубых памылак. Артыкул аб туберкулёзе, які ў якасці прыкладу «характару» рэцэнзіі В. Барысенкі на хрэстаматыю «Чырвоная змена» прыводзіць У. Мазур, змешчаны ў другой хрэстаматыі. Але склалі яе І. Мазур і К. Шапялевіч. Гэта чытанка для 3-га года навучання «Чырвоная Беларусь». Выдавалася ў Мінску ў 1925, 1927, 1928, 1929 г.

У выданнях 1925, 1927 г. гэтай кнігі ў канцы артыкула аб туберкулёзе прыводзяцца дзве параўнальныя табліцы. У адной прыводзіцца лік хворых на сухоты ў БССР на кожную 1.000 насельніцтва ў 1923 і 1924 г. у гарадах і вясковых мясцовасцях. У другой табліцы Беларусь параўноўваецца з Фінляндыяй, Нямеччынай і Англіяй. Параўнанняў з Украінай і Францыяй, як і ніякіх тлумачэнняў аб прычыне значна большага распаўсюджання туберкулёзу ў Беларусі, як сцвярджае У. Мазур, у падручніку няма. Табліцы змешчаныя толькі ў двух выданнях — 1925 і 1927 г. У астатніх табліцы ўжо адсутнічаюць.

Такім чынам, па сцвярджэнню У. Мазура, В. Барысенка напісаў рэцэнзію ў 1936 годзе на выданне падручніка «Чырвоная Беларусь» 1925 або 1927 г. нягледзячы на тое, што ён перавыдаваўся і ў 1928 і ў 1929 г. перагледжаным і папраўленым?! А пасля рэцэнзіі В. Барысенкі, быццам бы, М. Калінічэнку асудзілі на 5 гадоў зняволення, хоць яна ніякага дачынення да хрэстаматыі «Чырвоная Беларусь» ніколі не мела. Дарэчы, другі складальнік «Чырвонай Беларусі» К. Шапялевіч працягваў выдаваць падручнікі аж да 1963 г.

Час патрабуе аб'ектыўна ўзнавіць трагічныя падзеі 30-х гадоў, назваць сваімі імёнамі высакароднасць і подласць. Але нельга пры гэтым карыстацца неправеранымі нагаворамі і недобразычлівымі чуткамі, бо гэта абражае само пачуццё высакародства. Вядома, В.В. Барысенка быў чалавекам свайго часу, яго крытычнай творчасці ўласцівыя пэўныя недахопы і ўпушчэнні, абумоўленыя характарам гэтага часу. Але перакананая: няма правоў у У. Мазура, дацэнта, заслужанага работніка вышэйшай школы БССР, члена КПСС з 1945 г., ветэрана Айчыннай вайны падаваць факты ў скажоным выглядзе, беспадстаўна публічна зневажаць і вінаваціць В.В. Барысенку ў паклёпніцтве, які, як і бацька У. Мазура, якому я спачуваю за перажытыя пакуты, з самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны і да яе канца знаходзіўся на фронце, быў паранены, узна-

гароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчынай Вайны II ступені, медалямі.

С. Забродская, супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР

### Ад аўтара

Неправераныя нагаворы і недобразычлівыя чуткі — так цяпер назваўся ліст У.Мазура ў газету. І быццам небезпадстаўна. С. Забродская сапраўды мела рацыю, сцвярджаючы, што рэцэнзія В. Барысенкі на творы І. Мазура нідзе не была апублікаваная.

Але гэта не азначала, што яе не было.

Як удалося высветліць, гэта была так званая закрытая рэцэнзія, якая ішла мэтавым прызначэннем у персанальную альбо крымінальную справу.

Пасля шэрагу кансультацыяў са знаёмымі гісторыкамі я напісаў ад імя рэдакцыі запыт у Маскву на адрас установы, якая тады ўрачыста называлася «Цэнтральны партыйны архіў Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС». І адтуль нечакана — перабудова і галоснасць! — прыслалі копію дакумента. Прыслалі, праўда, не ў рэдакцыю, а на адрас Мінскага гаркама партыі — усё ж партыйны дакумент.

Там мне яе не аддалі, але дазволі прачытаць. Інструктару сядзець са мной было сумна, ён завёў мяне ў нейкі закуток, а сам выйшаў. Я ня толькі прачытаў, але і перапісаў.

І апублікаваў.

### Рэцэнзія

**на чытанку «Чырвоная змена» для другога года навучання і на чытанку «Чырвоная Беларусь» для трэцяга года навучання 1925 года выпуску, укладальнікі І. Мазур, М. Калінічэнка.**

... Асноўная частка мастацкага матэрыялу па сваёй тэматыцы звязаная з паказам вёскі. Сялянства бярэцца як нешта цэлае, адзінае і падаецца без канкрэтнай класавай дыферэнцыяцыі. У чытанцы ніводнага разу не ўпамінаецца слова «кулак», не паказваецца вобраз кулака як драпежніка.

Самае цэнтральнае месца займае раздзел «Прырода і багацці нашага краю», у якім цераз адпаведна падабраныя нарысы, навэлы, апавяданні і вершы прапагандуецца прышчэпаўская палітыка ў галіне сельскай гас-

падаркі. Аўтар у якасці ідэалаў для беларускай вёскі ставіць «казачную старонку» Данію. Год 75 таму назад у дзяржаве Даніі, — чытаем мы ў чытанцы, — былі, напрыклад, такія зямельныя парадкі, як у нас зараз: тое ж трохполле. Але гэтыя парадкі былі зменены, тады сельская гаспадарка Даніі стала хутка папраўляцца».

Атаясаміўшы ўмовы жыцця 75 год таму назад працоўных мас сялянства Даніі з умовамі жыцця працоўнага сялянства пры дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі і гэтым, вядома, закрэсліўшы ўсё, што прынесла з сабой пралетарская рэвалюцыя працоўным масам вёскі, аўтар чытанкі ў слашчава-сентыментальных танах, як гэта ўласціва нацдэмаўскім пісакам, адкрыта папулярызуе мары нацдэмаў і іх рэстаўратарскія ідэалы. «Ёсць на свеце, — піша са слязьмі на вачах І. Мазур, — невялікая старонка, якая здаецца кожнаму беларускаму селяніну надзвычай прыгожай, але зрабіць такой сваю старонку цяпер пакуль што ён не можа. Пэўна, Данія — старонка дробнай гаспадаркі, дзе селянін на 4-6 дзесяцінах жыве не горш за самага лепшага гаспадара».

*(Насупраць гэтай цытаты на палях рэцэнзіі ў 1936 г. нехта абураны адзначыў «И это написано!» — А.Л.)*

Мабыць для таго, каб абгрунтаваць, што самы бедны селянін Даніі жыве лепш за «нашага гаспадара», І. Мазур прыводзіць табліцу з лічбамі, у якой сцвярджае, што лік сухотных у Беларусі з года ў год расце (у 1923 г. — 18.805; у 1924 — 30.546 чалавек) і што Беларусь па вельмі вялікай лічбе смярцей ад сухот займае першае месца ў свеце. Палітычная сутнасць арыентацыі нацдэмаў на кулацка-буржуазную Данію ўсім відавочная і не патрабуе тлумачэнняў. Але аўтар чытанкі не толькі шкадуе, што пакуль Савецкая Беларусь не падобная на капіталістычную Данію, а імкнецца паказаць шляхі і сродкі ператварэння Беларусі ў капіталістычную Данію, а менавіта — шлях хутарызацыі. Ідэалізуючы кулацкія гаспадаркі, аўтар чытанкі, каб утаіць сапраўдную контррэвалюцыйную нацдэмаўскую сутнасць прышчэпаўскай палітыкі ў галіне сельскай гаспадаркі, становіцца на шлях бессаромнай фальсіфікацыі савецкіх законаў. «Дзеля гэтага новы закон Савецкай улады, — кажа Мазур, — які дазваляе селяніну выходзіць на пасёлкі, можа вельмі далёка пасунуць наша земляробства і наогул сельскую гаспадарку».

Мастацкі тэкст спецыяльна падабраны ў такім плане, каб на ім выхоўваць і распальваць у вучня рэакцыйныя ўласніцкія інстынкты і жаданні, каб выхоўваць любоў і прывязанасць да сваёй палоскі, хаткі,

коніка і дапатопных сродкаў апрацоўкі зямлі. З гэтай мэтай шырока выкарыстоўваюцца творы Коласа, Гартнага, Бядулі («Новая зямля» і інш.).

Характарызуючы мінулае і сучаснае Савецкай Беларусі, аўтары ў цэлым шэрагу яркіх артыкулаў раскрываюць і паказваюць жудасныя ўмовы жыцця працоўных мас Беларусі. Але побач з гэтым у чытанках мы маем цэлы шэраг нарысаў, напісаных аўтарамі падручнікаў, у якіх замест паказу гераічнага змагання працоўных мас Беларусі пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі папулярызуецца нацыяналістычны міф аб Кастусю Каліноўскім як легендарным герої, змагары за справу прыгнечаных мас беларускага сялянства. У цэлым шэрагу вершаў мы маем ярка выказаную нацыяналістычную рамантызацыю феадальнага мінулага. У гэтых вершах мінулае Беларусі эпохі феадалізму расцэньваецца І. Мазурам як «залаты век».

У чытанках галоўным чынам выкарыстоўваюцца творы беларускіх пісьменнікаў з ярка выражанымі ўпадніцкімі і нацдэмаўскімі настроямі. Нават больш таго, шырока прадстаўлены творы вядомага нацыянал-фашыста Алеся Гаруна, які, як вядома, у перыяд грамадзянскай вайны заядла змагаўся супраць дыктатуры пралетарыяту і з Беларусі выехаў разам з Пілсудскім.

Ацэнкі артыкулаў І. Мазура (часопіс «Асвета», 1925-1929 гады), на маю думку, павінны давацца ў неадрыўнай сувязі з дзейнасцю І. Мазура як рэдактара часопіса «Асвета» на працягу пяці год. Вядома, што на старонках гэтага часопіса Баліцкі, будучы наркамам асветы, развіваў і абгрунтоўваў асноўныя ўстаноўкі контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ў пытаннях народнай асветы. Артыкулы Мазура носяць характар інфармацыі, але, нягледзячы на рэвалюцыйную фразеалогію, выконвалі функцыю папулярызацыі паасобных мерапрыемстваў, якія праводзіліся часам па ўказцы Баліцкага.

Узяць артыкул «Інтэрнацыянальнае выхаванне ў школе». У асноўным правільна вызначаюцца задачы інтэрнацыянальнага выхавання. Але побач з творамі такіх пісьменнікаў, як Бедны, Безымінскі, Горкі, Александровіч і г.д, якія сапраўды садзейнічаюць выхаванню вучняў у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму, даюцца такія творы, як «Панская сучка» Гарэцкага, вершы нацыянал-фашыста Гаруна, «Кастусь Каліноўскі» Міровіча.

Ацэньваючы літаратурную прадукцыю І. Мазура ў цэлым, мы павінны зрабіць наступныя вывады: як у асноўных яго працах, так і паасобных артыкулах знаходзяць сваё яскравае выяўленне ўстаноўкі

контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ў галіне культурна-нацыянальнага будаўніцтва і ў галіне аграрных пытанняў. Школьныя чытанкі, укладзеныя І. Мазурам, з'яўляюцца па сваёй палітычнай накіраванасці варожымі і шкоднымі. Артыкулы, змешчаныя ў часопісе «Асвета», не толькі не накіраваныя на выкрыццё нацыянал-дэмакратызму, а ў паасобных выпадках выконваюць функцыю папулярызацыі наццдэмаўскіх установак і таксама з'яўляюцца шкоднымі.*

*Барысенка В.В. 9.06.1936 года*

## Ад аўтара

*Завяршаў тую публікацыю мой наступны тэкст:*

Час лечыць?

Зрываць покрыва нематы з падзеяў нават паўвекавой даўнасці — быццам здзіраць прысохлы бінт з крывавачывай раны нашай гісторыі.

Баліць усім — ахвярам, катам, іх памагатым, нам, хто сёння ўглядаецца ў мінулае, спрабуе зразумець яго ўрокі.

Але боль гэты — гаючы, калі ў аснове яго праўда. Яна дапамагае зжываць, выкарчоўваць сталіншчыну з псіхікі, звычак, паводзінаў. Метадалогія навешвання ярлыкоў і стварэння вобразу ворага, якую яскрава дэманструюць архіўныя дакументы, на жаль, яшчэ не ўсімі здадзеная ў архіў.

У 1955 годзе пераглядалася справа І. Мазура, які цудам застаўся жывы, і былі запатрабаваныя тлумачэнні аўтара закрытай рэцэнзіі, у той час дырэктара Інстытута літаратуры і мовы АН БССР В. Барысенкі. Ён пісаў:

**У 1936 годзе я даў водгук на школьныя хрэстаматыі, складзеныя І. Мазурам у суаўтарстве з К. Шапялевіч і М. Калінічэнка. У маім водгуку асноўны націск зроблены на матэрыялах з жыцця вёскі. У ацэнках я дапусціў, як мне ўяўляецца цяпер, антыгістарычны падыход. У ацэнцы я падышоў з пазіцыяў 1936 г., калі пісаўся мой водгук, а не з пазіцыяў 1926 г., калі пісалася рэцэнзуемая кніга. Вя-**

* Прышчэпаў Д.Ф. (1897-1940), наркамзем БССР (1924-1929); Баліцкі А.В. (1891-1937), наркам асветы БССР (1926-1929), — пастановай калегіі ОГПУ ад 18.03.1931 былі зняволеныя ў канцлагер на 10 гадоў кожны. 14 чэрвеня 1988 г. Судовая калегія Вярхоўнага Суда БССР адмяніла пастанову калегіі ОГПУ адносна Прышчэпава і Баліцкага за адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства.

**дома, што ва ўмовах Беларусі 1936 год быў годам вострай барацьбы з буржуазнымі нацыяналістамі, барацьбы за ліквідацыю вынікаў іх варожай дзейнасці ў органах сельскай гаспадаркі, якую нацыяналісты імкнуліся пусціць па шляху капіталістычнага развіцця, асветы, нацыянальнай культуры і г.д.**
**Пад уплывам гэтай канкрэтнай абстаноўкі я расцаніў тады змешчаныя матэрыялы, якія выступалі за пасёлкі, як прапаганду прышчэпаўскай, г.зн. нацдэмаўскай палітыкі. У кнігах пісалася пра 1926 г., калі высяленне на пасёлкі праводзілася па закону, што тады дзейнічаў. І, зразумела, прапаганда гэтага мерапрыемства не заключала ў сабе нічога недазволенага.**
**Значыць, дадзеная мной ацэнка гэтых матэрыялаў была антынавуковай, а, значыць, няправільнай. Разглядаць і трактаваць іх як прапаганду «прышчэпаўшчыны» няма падставаў.**

Якія тут каментары патрэбныя? Кідаецца ў вочы, як умела падводзіцца «аб'ектыўная» база пад вымушанае апраўданне: палітычнае абвінавачанне — прысуд 1936 года — у 1955 кваліфікуецца як «антыгістарычны падыход». Многае са сваіх прац В. Барысенка, Л. Бэндэ, Я. Бранштэйн і іншыя крытыкі і літаратуразнаўцы 30-х гадоў хацелі б аб'явіць чыста навуковымі памылкамі...

С. Забродская абвяргае сцвярджэнні У. Мазура аб тым, што «пісаніна Барысенкі адыграла не апошнюю ролю ў знішчэнні М. Гарэцкага і ганеннях на Я. Коласа» як цалкам беспадстаўнае. Гэта не так. Творы Купалы і Коласа «прасякнутыя ідэямі нацыяналізму і ўпадніцтва», «Колас ідэалізуе моцную кулацкую гаспадарку і ўласнасць наогул», «выступае як дробнабуржуазны пісьменнік»... Такіх і падобных ацэнак творчасці песняра розных перыядаў нямала ў артыкулах В. Барысенкі (гл. Беларуская савецкая літаратура. Літаратурная хрэстаматыя для IX і X класаў. — Мінск, 1935; часопіс «Полымя рэвалюцыі» №2-3, 1933 г. і інш.).

А што датычыць М. Гарэцкага... Можна, аказваецца, і ў 1988 годзе спрабаваць дзяліць маральнасць на дзве часткі: адна да арышту, другая пасля. Але народная мараль ва ўсе часы сцвярджала: ляжачага не б'юць. Тым больш — хеўрай. М. Гарэцкі, як вядома, загінуў у 1939 годзе, і палітычныя абвінавачанні ў ягоны адрас, з якімі В. Барысенка выступаў у друку з 1936 года, мякка кажучы, не спрыялі выратаванню пісьменніка. У 1937 годзе, знаходзячыся ў ссылцы, ён быў асуджаны яшчэ раз і пайшоў на катаргу...

Гэткі ж лёс напаткаў Прышчэпава і Баліцкага. Прышчэпаў у жніўні 1937 г., пасля датэрміновага вызвалення, быў паўторна арыштаваны «з-за зноў адкрыўшыхся акалічнасцяў», этапаваны з Магадана ў Мінск і ў лістападзе 1939 г. асуджаны да расстрэлу. Прысуд не прывялі ў выкананне з-за сьмерці асуджанага. У справе Баліцкага 25.09.37 г. таксама «адкрыліся новыя акалічнасці» і пасля катаванняў (следства вёў оперупаўнаважаны НКВД Быхоўскі, сам у 1939 годзе асуджаны за здзекі з вязняў) 30 лістапада 1937 г. ён быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны на наступны дзень. Зусім магчыма, нечыя «закрытыя» сведчанні дапамаглі «адкрываць новыя акалічнасці»...

...Мы ведаем — будучыня за праўдай. І ў нас павінна хапіць сіл, мужнасці і мудрасці не адвярнуцца, не адступіць у пошуку ісціны, якой бы трагічнай, балючай для нас асабіста яна ні была. Узіраючыся ў дзень учарашні, мы задаем сабе самае надзённае пытанне: як жыць сёння?

Гісторыя адказвае: жыць так, каб не было сорамна ні перад бацькамі і дзядамі, якія зрабілі рэвалюцыю і перамаглі фашызм, ні перад уласнымі дзецьмі і ўнукамі.

*А. Лукашук*

### Ад аўтара

Гэтая публікацыя ледзь не сарвалася па маёй уласнай віне. Якраз напярэдадні яе выхаду ў свет я ўдзельнічаў у нарадзе журналістаў, якую праводзіў загадчык ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ С. Паўлаў, вядомы жандар беларускай прэсы. Адзін з запрошаных, рэдактар маладзёжнай газеты, хвастаў, як ён выкрыў антысавецкаю правакацыю. Да яго звярнуўся хлопчык, які з сябрамі цікавіўся жыццём паўночнаамерыканскіх індзейцаў, і папрасіў расказаць пра іх групу ў газеце — яны хочуць аб'яднацца з аднадумцамі, перапісвацца з індзейцамі, расказваць пра гэта ў прэсе.

— Разумееце, што атрымліваецца, — наліваўся голас прамоўцы радаснай урачыстасцю, — гэта ж яны хацелі працягнуць меркаванне, што Беларусь таксама рэзервацыя!..

Мяне як шылам ткнулі, настолькі дакладна ход думкі пільнага газетчыка паўтараў абвінаваўчую метадалогію Барысенкі. Я ўстаў і пачаў з гэтай жахлівай аднатыпнасці мыслення, згадаў падрыхтаваную да друку рэцэнзію Барысенкі, а калі загаварыў пра дэсталінізацыю свядомасці, партідэолаг стаў перабіваць, я агрызацца і справа скончылася сканда-

лам з крыкамі і пагрозамі. (Адзіны з паўсотні калег, хто паспрабаваў тады суцішыць партыйнага хама, што ўвайшоў у звыклы разносны раж, быў Генадзь Бураўкін, тагачасны старшыня дзяржтэлерадыё.)

Тым не менш публікацыя выйшла. Пытанне «як жыць?» у перадапошнім сказе майго каментара было пастаўлена правільна. А вось адказ добра сведчыць, якая блытаніна яшчэ была тады ў галаве, як, дарэчы, і навокал. Рэабілітацыя ахвяраў ішла пад кіраўніцтвам КПСС, прафесійныя атэісты праводзілі магічныя аперацыі з душамі забітых і аднаўлялі іх у партыі, а грамадства рукапляскала і вярталася «наперад да Леніна».

Праз год пасля публікацыі «Закрытай рэцэнзіі» высветлілася, што я памыляўся не толькі з адказам «як жыць», але і з заключным словам як жанрам — да эпілогу ў справе Барысенкі было яшчэ далёка. 1 верасня 1989 года газета «Літаратура і мастацтва» змясціла артыкул Віктара Каваленкі, прысвечаны В. Барысенку і маёй публікацыі.

### Дзе віна, дзе бяда...*

Перадавых людзей краіны радуе, што інтэнсіўна паглыбляюцца працэсы перабудовы. Дэмакратызацыя вядзе да змены палітычных структур, што абяцае фармаванне новага, сапраўды гуманістычнага аблічча сацыялізму. Ідзе барацьба за новую сацыялістычную якасць народнай свядомасці. З гэтай мэтай сёння строга «дапытваецца» мінулае, высвятляюцца абставіны і шляхі, якія прывялі да трагедыі сталінізму. Крывавая рэпрэсіўная сістэма жорстка ламала чалавечыя лёсы, асуджала мільёны людзей на пакуты і здзек. І зусім зразумела, што каб разабрацца ў сацыяльнай, ідэйнай і маральнай сутнасці падзеяў таго часу, патрэбен іх аб'ектыўны і глыбокі аналіз. І ў гэтай надзвычай важнай і адказнай справе не можа быць дробязяў, бо самі факты мінулага яшчэ крывавяць трагічнай памяццю, будзяць вострыя ўспаміны пра перажытае. Тут паспешлівасць ці недастаткова пільная ўвага да сукупнасці ўсіх фактаў больш чым шкодная. У дадзеным выпадку, як ні пры якай, бадай, іншай нагодзе, праўда мае адкрыта маральнае і палітычнае выяўленне.

Рэспубліканскім друкам услед за ўсесаюзным прароблена немалая праца па факталагічным і маральна-палітычным узнаўленні праўды страшнага мінулага.

27 сакавіка 1988 года газета «Звязда» змясціла допіс заслужанага работніка вышэйшай школы БССР У. Мазура «Помню высакароднасць,

---

* «ЛіМ», 1 верасня 1989 г.

помню подласць», у якім ён згадваў пра лёс свайго бацькі І. Мазура, рэпрэсаванага ў гады сталінскага беззаконня. Згадваў, вядома, з апраўданым гневам і абурэннем, імкнучыся знайсці адказы на трывожныя, няясныя пытанні: як такое магло здарыцца і хто вінаваты?

У масавых людскіх трагедыях перыяду культу асобы, як гэта цяпер усім вядома, ёсць канкрэтныя вiноўнікі, акрамя І. Сталіна. Іх імёны ўсё шырэй і шырэй называюцца ў друку, што заканамерна. Аднак тут несумненна патрабуюцца асцярожнасць, дакладнасць, строгі індывідуальны падыход і вычарпальная ацэнка, пільная ўзважанасць усіх фактаў, бо інакш можна выклікаць новую несправядлівасць і жорсткасць.

Асаблівасць выступлення У. Мазура таксама ў тым, што ён робіць спробу знайсці канкрэтных віноўнікаў няшчасця сваёй сям'і. У допісе такім канкрэтным віноўнікам называецца літаратуразнаўца і крытык В. Барысенка, пазней акадэмік АН БССР, які шмат гадоў, у тым ліку і пасля XX з'езду КПСС, займаў пасаду дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Прычым, у допісе У. Мазура прама гаворыцца, што В. Барысенка атрымаў высокія званні за беспрынцыпную палітычную пазіцыю ў 30-х гадах, за напісанне рэцэнзіі з несправядлівымі палітычнымі абвінавачаннямі аўтараў хрэстаматыі «Чырвоная змена» І. Мазура і М. Калінічэнкі.

Пасля публікацыі У. Мазура «Помню высакароднасць, помню подласць» у «Звяздзе» ад 31 ліпеня 1988 года выступіла дачка Барысенкі С. Забродская, якая пісала, што абвінавачанні супраць яе бацькі перабольшаныя і што згаданай У. Мазурам рэцэнзіі не існуе. Аказалася, што рэцэнзія была «закрытай» і таму ў друку не з'яўлялася. Гэтую рэцэнзію ў скарочаным варыянце газета апублікавала ў тым жа нумары з каментарамі А. Лукашука, які адназначна і безагаворачна падтрымаў непасрэдную вінаватасць В. Барысенкі ў рэпрэсіях супраць І. Мазура, М. Калінічэнкі, а таксама — Д. Прышчэпава, А. Баліцкага і іншых.

Азнаямленне з гэтымі матэрыяламі адносна асобы В. Барысенкі не пераканалі мяне ў дастатковай аб'ектыўнасці вывадаў, зробленых на іх падставе. На маю думку, у дадзеным выпадку патрэбны больш глыбокі і акуратны аналіз сітуацыі і больш уважлівы ўлік фактаў, звязаных з біяграфіяй В. Барысенкі.

Вядома, В. Барысенка вінаваты перш за ўсё ў тым, што ён напісаў такую рэцэнзію, незалежна ад таго, шчыра ён памыляўся ці не шчыра. Гэта бясспрэчна падрывае яго аўтарытэт як чалавека і вучонага, далучае да тых сіл, якія ў часы культу асобы Сталіна тварылі беззаконне.

Можна дапусціць таксама, што закрытая рэцэнзія В. Барысенкі магла быць выкарыстаная некім для ўзмацнення рэпрэсіўных акцыяў супраць канкрэтных людзей. Але не будзем забывацца ў такім выпадку, што гэта ўсяго толькі наша меркаванне, толькі дапушчэнне. Пакуль што няма рэальных фактаў, якія дазвалялі б прасачыць уплыў рэцэнзіі на трагічны лёс канкрэтных людзей. Вядома, заўсёды можна сказаць, што яна для такой мэты і пісалася. Але гэта будзе абстрактная пасылка, бо застануцца многія супярэчнасці, фактычныя несупадзенні. Прынамсі, адкрытых заклікаў да расправы з кім-небудзь у рэцэнзіі няма.

Застаецца невядомым, таксама, у якой ступені выкарыстоўвалася і наогул ці выкарыстоўвалася рэцэнзія В. Барысенкі ў палітычных абвінаваўчых справах І. Мазура, М. Калінічэнкі, тым больш Д. Прышчэпава, А. Баліцкага і іншых. Тут узнікае нямала сумневаў. Так, М. Калінічэнка сапраўды была рэпрэсаваная. Але ў другім допісе, змешчаным у «ЛіМе» 19 жніўня 1988 года, сам У. Мазур піша ўжо, што М. Калінічэнка была арыштаваная як «жонка нацдэма», хоць у першым допісе «Помню высакароднасць, помню подласць» у арышце М. Калінічэнкі прама вінаваціў В. Барысенку. «У 1936 г., — сцвярджаецца ў першым допісе, — Барысенка сфабрыкаваў такі паклёп на гэту кніжку (хрэстаматыя «Чырвоная змена» — В.К.), што Марта Іванаўна была асуджаная на 5 гадоў зняволення». Кідаецца ў вочы, што ў рэцэнзіі В. Барысенкі прозвішча М. Калінічэнкі ўвогуле не згадваецца. Газета «Звязда» чамусці змясціла рэцэнзію В. Барысенкі пад загалоўкам «Рэцэнзія на чытанкі «Чырвоная змена» і «Чырвоная Беларусь» (1925 года выпуску, укладальнікі І. Мазур і М. Калінічэнка)», хоць на самай справе ў машынапісе яна мае загаловак «Рэцэнзія на працы І. Мазура». Прозвішча М. Калінічэнкі не прысутнічае ў тэксце рэцэнзіі. У падмене загалоўка газетай не будзем бачыць нейкі зламысны намер. Але факт застаецца фактам: у выніку недагляду — скажам так — віна В. Барысенкі штучна павялічваецца.

Сёння, калі мы ведаем пра жорсткую няўмольнасць рэпрэсіўнай машыны, звяртае на сябе ўвагу і такая важная акалічнасць, якую наўрад ці можна паставіць у прамую віну В. Барысенку: рэцэнзію В. Барысенка напісаў у 1936 годзе, а І. Мазур быў арыштаваны толькі на першы дзень вайны. І тут сумненне: калі б менавіта гэтая рэцэнзія служыла прамым і адзіным доказам «віны» І. Мазура, наўрад ці органы ГПУ сталі б марудзіць. Дарэчы, у рэцэнзіі В. Барысенкі былі і станоўчыя ацэнкі прац І. Мазура, хоць і выказаныя дэкларатыўна, але публікуючы рэцэнзію, газета чамусці скараціла іх. Мы не бяромся сцвярджаць, што станоўчыя

выказванні аўтара рэцэнзіі маглі хоць неяк змякчыць лёс І. Мазура, але калі яны апушчаны, пазіцыя Барысенкі выглядае яшчэ больш аднабакова негатыўнай, чым яна была на самай справе.

Так, І. Мазур і М. Калінічэнка выключаліся з партыі, але зноў цяжка сказаць, наколькі да гэтага непасрэдна дачынілася рэцэнзія В. Барысенкі. Прынамсі, В. Барысенка быў не першы, хто несправядліва ацаніў хрэстаматыю «Чырвоная змена». Чытанкі, аўтарамі якіх былі М. Калінічэнка і І. Мазур, у тым ліку хрэстаматыя «Чырвоная змена», падвяргаліся палітычнаму разносу ў друку ўжо з 1929 года. Як прыклад можна назваць бібліяграфічны водгук В. Хмялеўскай «Чым кормяць нашых вучняў. Аб кнізе «Чырвоная змена» («Звязда», 14 жніўня 1929 год) і артыкул Л. Талмачова «Разрыў з жыццём. Кулацкая ідэалогія ў школьных падручніках» («Чырвоная змена», 5-6 кастрычніка 1929 года). Такім чынам, В. Барысенка быў, прынамсі, трэцяй, а не першай асобай у шэрагу ганіцеляў аўтараў хрэстаматыі «Чырвоная змена».

Некалькі дзіўным і не зусім зразумелым з'яўляецца і такі факт. Прымаючы да друку выступленне С. Забродскай, супрацоўнікі газеты «Звязда» не сказалі ёй, што рэцэнзія ўсё ж існуе, хоць ведалі пра гэта. Калі б С. Забродская мела патрэбную інфармацыю, яна, напэўна, устрымалася б ад выступлення ў газеце. Але яе выступленне надрукавалі — і эфект атрымаўся «вялікі». Толькі ці да месца нават самы маленькі лоўчы азарт у такіх справах?

Вельмі істотным упушчэннем у каментарах А. Лукашука «Роздум замест эпілогу» з'яўляецца, на мой погляд, тое, што ён нідзе не гаворыць, што погляды і ацэнкі, выказаныя ў закрытай рэцэнзіі В. Барысенкі, былі агульнапрынятымі ў друку 30-х гадоў і адлюстроўвалі афіцыйную лінію савецкіх і партыйных органаў. Сапраўды, у рэцэнзіі згадваюцца з адмоўным значэннем прозвішчы Д. Прышчэпава і А. Баліцкага, але ж вядома, што гэтыя прозвішчы хаяліся ва ўсім друку ўжо з канца 20-х гадоў. З каментароў жа А. Лукашука можна зрабіць вывад, што ініцыятыва ў нападках на Д. Прышчэпава і А. Баліцкага належала В. Барысенку. І Д. Прышчэпаў, і А. Баліцкі былі ўжо даўно арыштаваныя і на ўсю моц працавала ўжо магутная сістэма падаўлення ўсяго сумленнага, цвяроза-рэалістычнага, мудрага, самастойна мыслячага, што было ў народзе. Немагчымай стала і сумленная ацэнка сучасных людзей. Навошта гуляць у хованкі: не В. Барысенка і нават не першы сакратар ЦК КПБ вызначаў тады, як характарызаваць дзейнасць Д. Прышчэпава. Тут усё ўжо было прадвызначана. Не згадаць пра гэта — значыць у нейкай ступені

адступіць ад праўды жыцця і гісторыі. Супрацоўнікі «Звязды» не захацелі нават заглянуць у БелСЭ, дзе прозвішчы Д. Прышчэпава і А. Баліцкага нават не згадваюцца. А гэта ж нядаўні час, 70-я гады. Няўжо і ў гэтым вінаваты В. Барысенка?

У той час ніхто не мог пісаць станоўча таксама пра К. Каліноўскага і А. Гаруна, бо афіцыйная ацэнка іх грамадскай і літаратурнай дзейнасці была рэзка адмоўная.

Але недастаткова аб'ектыўнае асвятленне асобы В. Барысенкі ў матэрыялах, змешчаных у газеце «Звязда», выявілася не толькі ў тым, што ў іх не даецца характарыстыка агульнага фону ідэйнага і духоўнага жыцця сярэдзіны 30-х гадоў. Справа яшчэ ў тым, што А. Лукашук зусім не гаворыць, які быў і як паводзіў сябе В. Барысенка пасля XX з'езду КПСС. Аўтар каментароў не захацеў нічога высвятляць па лініі пазнейшых грамадзянскіх паводзін В. Барысенкі. А гэта надзвычай важна. Як вядома, у святле палітыкі і ідэалогіі XX з'езду партыі зусім неаднолькава глядзіцца, прыкладам, грамадзянскае і маральнае аблічча з аднаго боку М. Хрушчова і А. Мікаяна, а з другога — Л. Кагановіча, Г. Малянкова і В. Молатава. Што датычыць асобы В. Барысенкі, то ўсе, хто ведаў яго і працаваў разам з ім, могуць засведчыць, што ён з вялікай радасцю ўспрыняў ідэі XX з'езду КПСС, шчыра вітаў усе перамены ў эканамічным, сацыяльным і культурным жыцці краіны і — што самае галоўнае — сам працаваў мэтанакіравана і актыўна ў духу новага часу. Будучы доўгі час, да 1973 года, на пасадзе дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, ён смела і рашуча падтрымліваў сумленныя навуковыя пошукі супрацоўнікаў, шмат зрабіў, каб у Інстытуце літаратуры і ва ўсім беларускім літаратуразнаўстве панавала здаровая маральная атмасфера, якая садзейнічала б развіццю самастойнай думкі, непрыняццю вульгарна-сацыялагічных спрашчэнняў у літаратуразнаўчых ацэнках.

Гэта ён у пачатку 60-х гадоў публічна сказаў тагачаснаму сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі, які любіў каманду ў культурнай палітыцы: «Вы ідзеце да перамен, як Швейк на фронт». Прызнаем, што нават сёння не кожны самы шчыры прыхільнік перабудовы асмеліцца на такое. Для нас сёння павінна быць вельмі важна, што В. Барысенка быў чалавекам, які ўсведамляў свае памылкі і імкнуўся калі не выправіць іх, то, прынамсі, не паўтарыць.

Так, В. Барысенка ў 30-я гады разам з іншымі літаратуразнаўцамі даваў несправядлівыя, ідэйна скажоныя ацэнкі дзейнасці і творчасці К. Каліноўскага, А. Гаруна і М. Гарэцкага. Але ён пазней рашуча адмовіўся ад

гэтых ацэнак. І гэта шмат гаворыць у яго карысць. У «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1969), якая стваралася пры яго творчым удзеле і пад яго навуковым кіраўніцтвам, дзейнасць і творчасць К. Каліноўскага, А. Гаруна і М. Гарэцкага ацэнена зусім інакш. Пра М. Гарэцкага ў «Гісторыі...» змешчаны асобны раздзел, у якім у адрас пісьменніка справядліва не сказана ўжо ніводнага самага бяскрыўднага крытычнага слова. Асобны артыкул аб'ектыўнага зместу быў падрыхтаваны тады і пра творчасць А. Гаруна, але ён не быў змешчаны ў «Гісторыі...» па прычыне, якая не залежала ад жадання В. Барысенкі.

Б. Сарноў у артыкуле «Пра «маўчальнікаў» і «першых вучняў», аналізуючы як гераічныя, так і труслівыя лёсы многіх людзей у перыяд культу асобы і застою, робіць, на мой погляд, хоць і вымушаны, маральна ўступлівы, але гістарычна непазбежны вывад: «У рэшце рэшт важна не тое, якім ты быў сорак, ці трыццаць, ці дваццаць, і нават дзесяць гадоў назад. Важна, які ты цяпер.

Вядома, карані сённяшніх паводзін людзей вядуць у іх мінулае. Але «водападзел» праходзіць не між тымі, хто «грэшны», і тымі, хто «без граху», а між тымі, каму падабаўся, каго задавальняў мінулы час, і тымі, каму было тады моташна, невыносна». («Огонек», 1989, №16, с. 30).

В. Барысенку таксама было «моташна, невыносна», пра што сведчыць яго жыццёвая лінія пасля ХХ з'езду партыі.

Вядома, нельга спрашчаць маральны і грамадзянскі змест асобы В. Барысенкі, зыходзячы толькі з аднаго станоўчага і прывабнага, што было ў ім. Бясспрэчна, ён быў чалавекам свайго часу і разам са сваім часам пераадольваў цяжар фальшывых установак, стэрэатыпных прадпісанняў, дагматычных захапленняў, неапраўданых кан'юнктурных адрачэнняў. Здаралася, што і пасля ХХ з'езду КПСС у яго выступленнях траплялiся паспешлівыя і неапраўданыя ацэнкі і вывады, зробленыя на падставе старых, няплённых тэарэтычных канонаў. Так, напрыклад, ён незаслужана асуджаў некаторыя творы В. Быкава, выступаў з нападкамі ў ходзе афіцыйна развязанай кампаніі супраць рамана Б. Пастарнака «Доктар Жывага», як і многія тагачасныя крытыкі і пісьменнікі. Памыляўся ён часам і ў падборы кадраў. І ўсё ж тое станоўчае і карыснае, што было зроблена В. Барысенкам для развіцця беларускай літаратуры, беларускага літаратуразнаўства і крытыкі, не павінна быць забыта ці закрэслена, нават калі мы пры гэтым справядліва асуджаем яго памылкі.

*Віктар Каваленка*

## Ад аўтара

Адказ-абвяржэнне В. Каваленкі стаў для мяне нечаканасцю. Прайшло больш за год пасля публікацыі «Закрытай рэцэнзіі», і перамены за гэты час адбыліся такія, як за дзесяцігоддзі.

Ужо ў «барацьбе за сацыялістычную якасць народнай свядомасці» ЦК КПБ і мясцовая паліцэйшчына справілі свой шабаш на Дзяды, ужо з газет выкідвалі рэдактараў, якія занадта «інтэнсіўна паглыблялі працэсы перабудовы». На БНФ, «Талаку» ды іншых нефармалаў абрынуліся патокі хлусні, якую рыхтавалі як партыйныя органы, гэтак і газетныя халуі. (Нагнятаўся псіхоз. Двое саслужыўцаў па «Звяздзе», заўважыўшы «нефармальных» гасцей у маім кабінеце, не вытрымалі, пабеглі і пазванілі ў КГБ. З пільнымі калегамі ў калектыве па-ранейшаму віталіся.)

На гэтым фоне газета «Літаратура і мастацтва» заставалася ці не адзіным выданнем, якое паслядоўна супрацьстаяла смярдзючай Вандэі. Галоўны рэдактар Анатоль Вярцінскі добра трымаў удар, рэдакцыя з адвагай адстойвала прынцыпы маральнай журналістыкі. Палемізаваць з «ЛіМам», далібог, не хацелася.

Артыкул В. Каваленкі быў змешчаны на апошняй старонцы штотыднёвіка пад рубрыкай «Ліст у рэдакцыю». На адваротным баку старонкі пад рубрыкай «З паэтычнай пошты» былі надрукаваныя іншыя лісты ў рэдакцыю — вершы чытачоў пра Курапаты. «Праз хвіліну мяне расстраляюць», — так, ад першай асобы, з краю курапацкага рова пачынаўся верш Алеся Жыгунова:

***...Нас, магчыма, пасля апраўдаюць,***
***Толькі ўсё гэта будзе пасля.***
***А пакуль на крывавым дасвецці***
***Просім літасці ў катаў дарма.***
***А пакуль справядлівасці ў свеце,***
***Ў цэлым свеце ні кроплі няма.***

Не адказваць было немагчыма.

## Дырэктар літаратуры*

На пачатку 60-х гадоў група беларускіх пісьменнікаў у часе творчай паездкі наведала Нарыльск. Для некаторых — Сяргея Грахоўскага, Яна Скрыгана, гэта было не першае падарожжа на Поўнач, але першае без

* «Звязда», 26 верасня 1989 г.

канвою, сабак, звычайнага «крок налева-направа — страляем». На літаратурных вечарынах гасцей абступалі шматлікія землякі. Пасля вызвалення з лагераў многім не было да каго вяртацца ў Беларусь — сем'і загінулі, сваякі адракліся...

— А ці ведае хто Васіля Барысёнка? — запытаўся адзін з былых вязняў.

— У Мінску ёсць крытык Барысенка...

— Гэта мой родны брат. Прозвішча толькі змяніў...

Да нядаўняга часу імя акадэміка, заслужанага дзеяча навукі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, шматгадовага дырэктара Інстытута літаратуры сустракалася выключна ў станоўчым кантэксце. У шэрагу публікацыяў у «Звяздзе» (1987-88 г.) згадваліся акалічнасці шляху крытыка да навуковых вяршынь, якія раней замоўчваліся... 1 верасня 1989 года ў палеміку ўступіў крытык Віктар Каваленка.

Чаму члену-карэспандэнту АН, заслужанаму дзеячу навукі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі, цяперашняму дырэктару Інстытута літаратуры спатрэбіўся адзін год і адзін месяц, каб выступіць у абарону свайго былога кіраўніка і настаўніка? Прачнуўся інстытуцкі патрыятызм? Адкрыліся новыя факты, якія дазваляюць іначай ацаніць паводзіны Барысенкі? Ці трынаццацімесячная паўза і выбар другога выдання для адказу спатрэбіліся, каб чытачы не ведалі або забыліся пра змест папярэдніх матэрыялаў?..

Лепш за ўсё, каб чытачы самі параўналі публікацыі. Непрыемна адказваць на папрокі ва ўяўных скажэннях, палемізаваць з вывадамі накшталт таго, што ўдакладненая рэдакцыяй назва рэцэнзіі штучна павялічвае віну Барысенкі. Яго віну не так проста павялічыць. І што можна запярэчыць апаненту, які лічыць: раз Барысенка быў ажно трэцім, хто крытыкаваў чытанкі, дык гэта мяняе справу. У прынцыпе, канечне, мяняе: дабіваць ахвяру — горш. В. Каваленка, несумненна, разлічваў на адваротны эфект гэтага факту. Але не трэба раўняць выступленне ў друку 1929 года і спецводгук 1936-га. Апошні, апроч ацэнкі чытанак, выносіў прысуд літаратурнай, рэдактарскай дзейнасці І. Мазура ў цэлым:

> **... як у асноўных яго працах, так і паасобных артыкулах знаходзяць сваё яскравае ўяўленне ўстаноўкі контррэвалюцыйнага нацыяналдэмакратызму ў галіне культурна-нацыянальнага будаўніцтва і ў галіне аграрных пытанняў. Школьныя чытанкі, укладзеныя Ма-**

**зурам, з’яўляюцца па сваёй палітычнай накіраванасці варожымі і шкоднымі...**

Як можна сёння, ведаючы пра махавік рэпрэсіяў у сярэдзіне 30-х, усур’ёз пісаць пра вышэйпрыведзены тэкст, што «адкрытых заклікаў да расправы з кім-небудзь у рэцэнзіі няма» і яе «негатыўная» роля ў лёсе І. Мазура — не больш чым «абстрактная пасылка»? І. Мазур бачыў папку са сваёй «справай» — іншых доказаў віны, апрача рэцэнзіі, там няма...

Не хочацца губляць час на высвятленне экстралінгвістычных фактараў — пафас ліста В. Каваленкі далёка выходзіць за рамкі гэтай канкрэтнай спрэчкі. Фактычна размова ідзе пра вельмі балючую для нашага грамадства праблему гістарычнай адказнасці чалавека за свае дзеянні. Ці, як жорстка сфармуляваў Васіль Быкаў, — праблему катаў і ахвяраў.

Адкрыццё закрытай рэцэнзіі Барысенкі — да болю рэдкая спроба на строга дакументальнай аснове паставіць пытанне аб маральнай адказнасці аднаго з тых, чыімі намаганнямі круцілася крывавая сталінская мясарубка. Таму прынцыпова важна разабрацца нават не з адвакацкімі абвінавачаннямі ў «лоўчым азарце», «новай несправядлівасці і жорсткасці», а ў сістэме аргументацыі артыкула «Дзе віна, дзе бяда...» Сканцэнтравана сваю пазіцыю В. Каваленка тлумачыць так:

**Недастаткова аб’ектыўнае асвятленне асобы В. Барысенкі ў газеце «Звязда» выявілася не толькі ў тым, што не даецца характарыстыка агульнага фону ідэйнага і духоўнага жыцця сярэдзіны 30-х гадоў. Справа яшчэ ў тым, якім быў і як паводзіў сябе В. Барысенка пасля XX з’езду КПСС.**

Сэнс першай пасылкі гранічна празрысты: ва ўсім вінаватыя абставіны. Дарэчы, цяперашні дырэктар Інстытута ў такіх разважаннях зусім не арыгінальны. Менавіта так, «уплывам канкрэтнай абстаноўкі», тлумачыў сваю рэцэнзію сам Барысенка ў 1955 годзе (гл. вышэй). Гэтае тлумачэнне было надрукаванае, так што «характарыстыка агульнага фону» ў газеце даецца, да таго ж — з першых вуснаў. Іншая справа, як да «фону» ставіцца — як да індульгенцыі, што робяць два дырэктары розных пакаленняў, ці як да жыцця, у якім заўсёды ёсць месца для чалавечага выбару.

Выбар быў. І ёсць, і будзе. Адмаўляць яго — значыць адмаўляць тых, хто выступаў супраць сталінскіх парадкаў, не здрадзіў сабе, захаваў годнасць і трапіў у Курапаты; тых, хто расплочваўся за сумленнасць дзеся-

цігоддзямі чорнай работы на лесапавалах і ў шахтах; тых, нарэшце, хто выбраў немату, якая спапяляла ўнутры... Правамернай бачыцца і мяжа паміж тымі, хто падпісаў несправядлівыя паказанні ў няволі, і тымі, хто страціў чалавечае аблічча і рабіў кар'еру, займаючы месцы таленавітых, здольных, сумленных.

Міф аб усеагульным удзеле ў злачынствах (як і аб роўнай адказнасці) — абразлівы і здзеклівы. Хоць гнюсная сіла маральных вырадкаў узрасла пры Сталіне ў шмат разоў — не яны вызначалі духоўнае аблічча народа. І калі мы ганебна мала ведаем пра супраціў сталіншчыне, яго формы, яго пакутнікаў і герояў, дык гэта таму, што тыран іх баяўся і ненавідзеў. Яны, іх дзеці гінулі першымі.

«Асцярожнасць, дакладнасць, строгі індывідуальны падыход...» — пералічвае В. Каваленка свае патрабаванні да гістарычнага расследавання і ўжывае ў адносінах да Барысенкі падыход самы што ні ёсць масавы, настойліва падкрэсліваючы, што ў сваіх паводзінах той не быў адзінокі. «Разам з іншымі літаратуразнаўцамі і крытыкамі даваў несправядлівыя, ідэйна скажоныя ацэнкі... Незаслужана асуджаў, як і многія тагачасныя крытыкі і пісьменнікі...» і да т.п. Па-першае, масавасць гвалту над ісцінай не здымае асабістай адказнасці з вучонага (калі ён вучоны). Па-другое — не было адно толькі «многіх іншых».

Падчас расправы з сотнямі вучоных, пісьменнікаў права «караць і мілаваць» манапалізавала пэўная група, у якую ўваходзілі Барысенка, Бранштэйн, Бэндэ, Вольскі, Канакоцін, Клімковіч, Кучар, Модаль... Іх ацэнкі рабілі «надвор'е», з іх ліку следчыя выбіралі аўтараў рэцэнзіяў-прысудаў.

Не варта, і тут можна пагадзіцца з В. Каваленкам, перабольшваць ролю гэтых асобаў. Яны нярэдка толькі паслухмяна выконвалі волю іншых. Аднак нельга і прымяншаць, бо гэта была роля памагатых катаў. І дацэнт Барысенка выступаў у ролі не проста «аднаго з многіх» падручных. Подпіс дэкана літаратурнага факультэта Мінскага пэдінстытута (з 1932 г.), дырэктара Інстытута літаратуры і мовы (з верасня 1937 г.) важыў больш, чым меркаванне «неаступененага» крытыка без высокай пасады.

Дацэнта пабойваліся нават калегі па заплечнаму літаратуразнаўству: 30 чэрвеня 1937-га ў «ЛіМе» з'явіўся яго артыкул «Вораг пад маскай крытыка», прысвечаны член-карэспандэнту АН БССР Я. Бранштэйну. Той быў арыштаваны, і праз год, у маі 1938-га, расстраляны. З цягам часу, пакуль паплечнікі зыходзілі са сцэны, аўтарытэт Барысенкі ўзрос

настолькі, што яго пільныя выступленні, як сведчыць у манаграфіі «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20-30 гады» М. Мушынскі, успрымаліся як кіраўніцтва да дзеяння нават такімі катамі беларускай літаратуры, як Бэндэ!..

У 1971 годзе, у «Весцях АН БССР», віншуючы акадэміка з 75-годдзем, В. Каваленка сцвярджаў, што «ўжо ў даваенны час склалася творчае аблічча В.В. Барысенкі як вучонага-літаратара... Валодаючы глыбокімі ведамі, вострым пачуццём ісціны, вялікімі творчымі здольнасцямі, цвёрдай ідэйнай перакананасцю, Васіль Васілевіч шмат зрабіў для выпрацоўкі правільнай генеральнай лініі беларўскай літаратурнай навукі і крытыкі».

Зараз у «ЛіМе» В. Каваленка запэўнівае, што будучы акадэмік пры гэтым адчуваў сябе «моташна і невыносна». Няйначай, «вострае пачуццё ісціны» вінаватае, што ў вясёлым жанры крытычнай стральбы па бездапаможных жывых мішэнях два згаданыя далікатныя перажыванні праяўляліся як азарт варашылаўскага стралка ў спалучэнні з учэпістасцю яжоўскага следчага.

Вялікія творчыя здольнасці ў выпрацоўцы генеральнай лініі Барысенка прадэманстраваў ужо ў першай сваёй значнай працы «Нацдэмаўская літаратуразнаўчая метадалогія М. Гарэцкага». Вось некалькі фраз з адной толькі старонкі (з 39 падобных):

> **М. Гарэцкі, адзін з найбольш відных нацдэмаў, добра вядомы сваёй шкодніцкай контррэвалюцыйнай дзейнасцю... з'яўляецца найбольш яркім і тыповым прадстаўніком буржуазнага літаратуразнаўства на Беларусі. Робячы стаўку на адрыў Савецкай Беларусі ад саюза сацыялістычных рэспублік, робячы стаўку на рэстаўрацыю капіталізму ў нашай краіне, на ператварэнне яе ў калонію імперыялістычных дзяржаваў, нацдэмы... праводзілі шкодніцкую дзейнасць, накіраваную на падрыхтоўку інтэрвенцыі, на ўмацаванне і ўзмацненне кулацтва... Уся гэтая тэарэтычная і практычная дзейнасць М. Гарэцкага падпарадкаваная задачам рэалізацыі вышэйазначаных мной палітычных установак беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму.**

Нават кароткі ланцуг тагачасных палітычных установак кан'юнктурнае літаратуразнаўства ў асобах асабліва верных служак рабіла яшчэ карацейшым, больш задушлівым. У якасці каментара да

працытаванага ўрыўка можна паўтарыць радкі з леташняй публікацыі «Звязды»:

**М. Гарэцкі, як вядома, загінуў у 1939 годзе, і палітычныя абвінавачанні, з якімі В. Барысенка выступаў у друку з 1936 года, мякка кажучы, не спрыялі выратаванню пісьменніка. У 1937 годзе, у ссылцы, ён быў асуджаны яшчэ раз і пайшоў на катаргу...**

В. Каваленка папракае аўтара гэтых радкоў у тым, што не захацеў нічога высвятляць пра далейшыя грамадзянскія паводзіны Барысенкі. Можа, В. Каваленка вядзе размову пра пасляваенныя выступленні Барысенкі з красамоўнымі назвамі «Шкодны дакумент (аб нацыяналістычных скажэннях у праграмах па беларускай літаратуры для ВНУ)»; «Супраць нізкапаклонства перад буржуазнай культурай»; «Супраць касмапалітызму ў літаратуразнаўстве» і да т.п.? Не. Гаворка ідзе пра паводзіны пасля XX з'езду партыі.

Тут — другі прынцыповы пункт апоры публікацыі «Дзе віна, дзе бяда...» «Для нас сёння павінна быць вельмі важна, — указвае В. Каваленка, — што В. Барысенка быў чалавекам, які ўсведамляў свае памылкі і імкнуўся калі не выправіць іх, то, прынамсі, не паўтарыць».

Дапусцім, неяк удасца заплюшчыць вочы на зніжэнне маральнага крытэрыю да такой ступені, што лічыцца ўжо нармальным не выпраўляць уласныя «памылкі» (нармалёвы сінонім для плённай працы прафесара на НКВД, праўда?). Але ж праз некалькі абзацаў В. Каваленка сам аўтарытэтна сведчыць, што і пасьля XX з'езду Васіль Васілевіч застаўся верны сваёй генеральнай лініі — «традыцыям фальшывых установак, стэрэатыпных прадпісанняў, дагматычных захапленняў, неапраўданых кан'юнктурных адрачэнняў». (Далібог, сінаніміка В. Каваленкі сапраўды захапляе, асабліва дагмат пра «неапраўданыя кан'юнктурныя адрачэнні» — гэта ці не адмову ад роднага брата і змену прозвішча мае на ўвазе аўтар? Хоць не, гаворка ж пра пасляз'ездаўскія часы, значыць, намёк тут на нейкую іншую здраду.)

В. Каваленка сам расшыфроўвае некаторыя захапленні Барысенкі пасля XX з'езду: асуджаў творчасць В. Быкава, выступаў з нападкамі на Б. Пастарнака, «памыляўся» ў кадравай палітыцы.

Чаго В. Каваленку не хапае ў гэтым паслужным спісе? Удзелу ў фізічным знішчэнні іншадумцаў? Дык з ідэямі XX з'езду распраўляліся параўнальна бяскроўна. На сваёй дзялянцы дырэктар Інстытута літаратуры не пускаў (ці не хадайнічаў, каб пусцілі) заняць свае законныя месцы ў

духоўнай спадчыне З. Астапенку, М. Багуна, С. Баранавых, А. Вольнага, С. Дарожнага, В. Каваля, Л. Калюгу, Т. Кляшторнага, Ю. Лявоннага, В. Маракова, Б. Мікуліча, А. Мрыя, Р. Мурашку, Я. Нёманскага, В. Сташэўскага, Ю. Таўбіна, У. Хадыку, В. Шашалевіча... На дзесяцігоддзі была адтэрмінаваная рэабілітацыя «Нашай Нівы» — якраз на артыкулы Барысенкі спасылаліся Абэцэдарскі і іншыя магільшчыкі сапраўднай гісторыі. Пад арыштам трымалася і творчасць класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага — на што ў дырэктара, верагодна, былі і асабістыя прычыны.

У 1957 годзе з'явілася манаграфія Барысенкі «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя». Гэта адзіная кніга дырэктара, дзе на вокладцы няма прозвішча суаўтара — хаця, на думку некаторых даследчыкаў, суаўтар існуе і тут. У аснове падыходу манаграфіі — ацэнка Францішка Багушэвіча ў «Гісторыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага. Той самай, якую Барысенка збэсціў на пачатку «навуковай» дзейнасці. Факт не застаўся незаўважаным, і ў 1958 годзе ў літаратурных колах стала вядомая эпіграма Сяргея Грахоўскага «Вучоны флюгер»:

***Спачатку ганіў, лаяў, выкрываў***
***Паэта-класіка, яго дачку і брата***
***І вось за гэта атрымаў***
***Дыплом і стаўку кандыдата.***
***А дачакаўся зручнае пары,***
***Пачаў хваліць нябожчыка-паэта.***
***Усё перавярнуўшы дагары,***
***Убіўся ён у дактары,***
***Але застаўся прайдзісветам.***

(Паэт расказваў, калі на стол дырэктара незаўважна паклалі зборнік з эпіграмай, той разадраў кніжку і шпурнуў у кут...)

У манаграфіі Барысенкі можна знайсці спасылку нават на Бэндэ. На Гарэцкага — няма. Няма асобнага раздзела пра Гарэцкага ў акадэмічнай «Истории белорусской советской литературы». Барысенка не дапусціў выдатнага мастака слова ні ў адно з 19-ці перавыданняў школьнага падручніка беларускай літаратуры, аўтарам якога, разам з В. Івашыным, з'яўляўся...

У артыкуле «Дзе віна, дзе бяда...» пазіцыя ў абарону Барысенкі грунтуецца на двух пунктах апоры: абстаноўка 30-х гадоў, якая прымушала

ўсіх быць як «многія іншыя», і асабістая перабудова пасля XX з'езду. Для ўстойлівасці патрабуецца заўсёды трэці пункт апоры, у дадзеным выпадку — у рэальным жыцці. Яго няма. Не было ў 30-я гады адных толькі «многіх іншых», не было годных грамадзянскіх паводзін пасля XX з'езду. Вядома, за дзесяцігоддзі дырэктарства немагчыма не зрабіць нешта карыснае для Інстытута і супрацоўнікаў. Але хіба не быў акадэмік больш чым шчодра аддзячаны за гэта — уладай, акладам, ганарарамі, лаўрэацтвам, хвалебнымі артыкуламі ў друку і энцыклапедыях?

Не так даўно ў Інстытуце літаратуры рабілі захады, каб перавыдаць доктарскую працу Барысенкі. Што ж, відаць, сотні твораў рэпрэсаванай беларускай літаратуры могуць пачакаць, як чакалі паўстагоддзя і больш. Пачакаем — не прывыкаць — і мы. Але калі так неабходна перавыдаць акадэміка Барысенку, дык гэта павінна быць сапраўды акадэмічнае выданне. З усімі без выключэння працамі, з дакладнымі звесткамі пра лёс паэтаў, празаікаў, літаратуразнаўцаў, якія патрапілі на вастрыё ягонага пяра. Пажадана было б хоць пералічыць рэпрасаваныя творы, якія, дзякуючы акадэміку, не ўбачылі свет альбо былі пушчаны пад нож цэнзара. Варта прывесці цэлыя вершы і асобныя радкі Янкі Купалы, Якуба Коласа, якія, пад кіраўніцтвам дырэктара, былі выкінутыя з акадэмічных выданняў народных паэтаў, а сляды вівісекцыі замецены — ні спасылкі, ні шматкроп'я. А ў навуковым каментары да акадэмічнага выдання Барысенкі хацелася б прачытаць не юбілейныя абстракцыі накшталт «мэтанакіраванай і актыўнай працы ў духу новага часу», а аргументаваны разбор таго, што ў інстытуце было зроблена дзякуючы, а што — насуперак наменклатурнаму рэкардсмену, які ўзначальваў установу з 1937 па 1973 гады.

Ёмістае, відаць, атрымаецца выданне. Але навуковая спадчына «старэйшыны беларускага літаратуразнаўства», як велічалі Барысенку некаторыя вучні, зойме там няшмат месца. Ступень доктара навук, званні прафесара, членкара і акадэміка фактычна прысвоеныя — унікальны выпадак — за адну адзіную самастойную працу, да таго ж пабудаваную на чужой канцэпцыі. Творчы архіў Барысенкі, перададзены на захаванне ў акадэмічную бібліятэку, складаюць не рукапісы, планы, перапіска і да таго падобныя матэрыялы навуковай альбо асветніцкай дзейнасці, а... ганаровыя граматы.

Дзеля паўнаты ў акадэмічнае выданне Барысенкі варта ўключыць лісткі з апошняй анкеты асабістай справы, якую акадэмік запаўняў незадоўга да смерці. У графу «сямейнае становішча» дрыготкай рукой

упершыню за паўстагоддзя ўпісана: «брат Мікалай, жыве і працуе ў Нарыльску...»

Запазніўся запіс ці не — вырашаць брату. А чытачы пасля знаёмства з усімі матэрыяламі разбяруцца: дзе віна, дзе бяда, а дзе — сам колішні дырэктар літаратуры.

І дзе мы самі?...

*Аляксандр Лукашук*

## Ад аўтара

Дзе мы самі — пытанне да самога сябе... Для адказу на яго амаль непрыдатны чужы досвед, трэба самому абдзіраць калені, каб падняцца з іх.

У 1990 годзе мяне абралі членам Камісіі пры Вярхоўным Савеце, якая займалася правамі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Гэта аблегчыла здабыванне матэрыялаў у архівах, з'явілася больш магчымасцяў дапамагаць ахвярам і іх дзецям у рэабілітацыі, вяртанні маёмасці, знаёмстве са справамі іх закатаваных бацькоў. З падтрымкай дэпутатаў апазіцыі БНФ Сяргея Навумчыка, Галіны Сямдзянавай удалося паскорыць рэабілітацыю праваабаронцы з Беларусі Міхала Кукабакі, які ў 60-80 гады правёў 17 гадоў у турмах, лагерах, вар'ятнях. Праўда, амаль нічога не ўдавалася зрабіць у дачыненні да катаў — сістэма абараняла іх насмерць.

Раз-пораз у архіўных дакументах, з якімі я працаваў, мільгала імя Барысенкі, але пасля палемікі з Віктарам Каваленкам мне здавалася, што тэма вычарпаная. Так яно і выглядала, пакуль амаль праз пяць гадоў — цэлую эпоху, калі памянялася нават карта Еўропы! — я не раскрыў «ЛіМ» за 1 красавіка 1994 г. і не пабачыў, што памыляўся... Быццам у адказ на колішнюю разгубленасць дырэктара Інстытута літаратуры, які ці то сцвярджаў, ці пытаўся «Дзе віна, дзе бяда...» супрацоўнік таго ж інстытута Уладзімір Казбярук удакладняў:

## І віна, і бяда...*

Балюча адбываецца ў нас працэс пераасэнсавання і пераацэнкі мінуўшчыны. І добра, калі бяруцца за гэтую справу людзі кампетэнтныя і сумленныя. А калі не хапае ці адной, ці другой якасці? Тады мы становімся сведкамі розных маніпуляцыяў. Так можна сказаць і пра цэлыя

* «ЛіМ», 1 красавіка 1994 г.

этапы або эпохі гісторыі народа наогул, і пра ацэнку дзейнасці паасобных людзей.

У мінулыя гады з’явіўся шэраг публікацыяў, у якіх без уліку канкрэтных абставін ацэньваліся чалавечыя якасці і навуковая дзейнасць былога дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы нацыянальнай Акадэміі навук Васіля Васілевіча Барысенкі. Думаецца, настала пара спакойна, разважліва зірнуць на колішнія супярэчлівыя падзеі з адлегласці, з улікам усяго нашага вопыту і па часці абвінавачанняў, і па часці апраўданняў. Тут давядзецца аглядвацца на дзве даўнія публікацыі: на артыкул В. Каваленкі «Дзе віна, дзе бяда...» і разносна-пагромны адказ А. Лукашука «Дырэктар літаратуры». Нагадаю, што В. Каваленка зрабіў спробу пры характарыстыцы В. Барысенкі вельмі ўзважана і паслядоўна, з усёй сур’ёзнасцю ўлічваць незвычайную складанасць сітуацыі ў 30-я гады. У той жа час А. Лукашук паставіў В. Барысенку побач з Л. Бэндэ і абвінаваціў яго амаль што не ва ўсіх бедах, якія ў 30-я гады навaліліся на нашую літаратуру, на многіх яе прадстаўнікоў. Ён безапеляцыйна адкінуў думку пра неабходнасць улічваць агульны фон ідэйнага і духоўнага жыцця 30-х гадоў.

Пад занавес свайго палемічнага выступлення А. Лукашук падагульняе: «У артыкуле «Дзе віна, дзе бяда...» пазіцыя ў абарону Барысенкі грунтуецца на двух пунктах апоры: абстаноўка 30-х гадоў, якая прымушала ўсіх быць як многія іншыя, і асабістая перабудова пасля ХХ з’езду. Для ўстойлівасці патрабуецца заўсёды трэці пункт апоры, у дадзеным выпадку — у рэальным жыцці. Яго няма. Не было ў 30-я гады адно толькі «многіх іншых», не было грамадзянскіх паводзін пасля ХХ з’езду».

Мы ўсё ж такі паспрабуем пашукаць і «многіх іншых» у перадваенныя і нават пасляваенныя гады, і «пункт апоры» «у рэальным жыцці» ў пасляcталінскую эпоху. Яшчэ ў 1930 г., у 11 і 12 нумарах часопіса «Маладняк» быў апублікаваны артыкул Цішкі Гартнага «Нацыянал-дэмакраты за «працай» (гл. часопіс «Спадчына», 1991, №4 і 5). Тут няшчадна выкрываліся нацдэмы — тады яшчэ жывыя людзі, якія, як мы сёння ведаем, верай і праўдай служылі беларускаму народу, развівалі і ўзбагачалі нацыянальную культуру, літаратуру, навуку. Такой публікацыяй Ц. Гартны дыскрэдытаваў сябе вельмі моцна.

У пачатку 30-х гадоў у часопісе «Узвышша» малады Пятро Глебка ў артыкуле «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксісцкай фразай» дзяліўся такімі перакананнямі, за якія сёння можна было б надзяліць аўтара рознымі не надта салодкімі эпітэтамі. Тады ўжо набірала сілы тая

вакханалія, якая ў сярэдзіне 30-х гадоў пацягнула ў сваё балота ўсе слаі грамадства, у тым ліку і інжынераў чалавечых душ. А калі хто захоча пацікавіцца, што, як і дзе адбывалася, то хай пачытае хаця б справаздачу аб сходзе пісьменнікаў БССР («ЛіМ», 20 сакавіка 1937) або інфармацыю аб партыйным сходзе ў СП («ЛіМ», 25 сакавіка 1937). Дастаткова багатая інфармацыя змешчаная і ў іншых нумарах «ЛіМа», у «Звяздзе» ды і ў любым перыядычным выданні. І калі б кіравацца крытэрыямі высокай сённяшняй прынцыповасці, то што трэба было б пісаць пра Ц. Гартнага, П. Глебку, П. Броўку, А. Александровіча (якому і ў тыя часы даставалася добра), А. Куляшова, З. Бядулю, К. Крапіву, А. Астрэйку? І не толькі прыемнае давялося б гаварыць пра Купалу з Коласам (пра апошняга нават у пасляваенны перыяд).

20 жніўня 1993 г. у «ЛіМе», у артыкуле «Таўро — касмапаліт. Гісторыя адной палітычнай кампаніі» У. Семянюк расказаў пра бясслаўную кампанію барацьбы з касмапалітызмам у канцы 40-х гадоў. І зноў замільгалі знаёмыя прозвішчы пісьменнікаў (тых і «нашых»).

Адбывалася такая кампанія на маёй памяці. У прыватнасці, 2 сакавіка 1949 г. у газеце «Сталинская молодежь» з'явіўся артыкул Ю. Пшыркова «До конца разоблачить критиков-космополитов!», дзе бескампрамісна выкрывалася шкоднае племя бязродных касмапалітаў і сярод іх — Лукаш Бэндэ і Леў Бараг.

Першы з іх у той час страціў свой злавесны ўплыў, і яго можна было не баяцца. А другі? Я слухаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце ягоныя лекцыі па фальклоры. Не проста адказаць на пытанне, што ў гэтых лекцыях больш прыцягвала — эрудыцыя выкладчыка ці натхненне. Яны арганічна спалучаліся. І ці не той аўтарытэт, якім карыстаўся Леў Рыгоравіч, калоў у вочы некаторым ягоным менш адораным калегам на філфаку? Л. Барагу давялося развітацца з універсітэтам.

Ці варта сёння ўсіх пералічаных і іншых пісьменнікаў так безапеляцыйна выкрэсліваць з гісторыі літаратуры за тагачасныя выступленні ў друку і на сходах, за ўдзел у паляванні на ведзьмаў эпохі перамоглага сацыялізму? Тым больш, што многія з іх і самі потым адпакутавалі за свае грахі. Хоць здаралася, што былі і слушныя выступленні. Так, М. Ларчанка яшчэ да вайны пісаў пра беспрынцыпнасць і хамелеонства А. Кучара.

Ну, а цяпер пра тое, ці былі «пункты апоры» ў «рэальным жыцці» ў 50-80 гады. Тут давядзецца спасылацца на факты і падзеі, сведкам якіх я з'яўляўся сам. Знаў я Васіля Васілевіча з 1952 г., а працаваў у Інстытуце

літаратуры з лютага 1959 г. Вядома, як і кожны кіраўнік, ён мог камусьці ў нечым не дагадзіць. Але заўсёды там, дзе гэта было магчыма, ён абараняў сваіх супрацоўнікаў ад празмерна пільных партыйных чыноўнікаў і ідэалагічных наглядчыкаў. І тут я паспрабую прывесці пару канкрэтных прыкладаў.

Неяк з рэкамендацыі Н. Перкіна на работу ў інстытут трапіў філосаф па адукацыі Л. Гаранін, які адразу ж паказаў добрую эрудыцыю. Аднак даволі хутка кампетэнтныя органы паведамілі дырэктару, што новы навуковы супрацоўнік быў калісці членам партыі, але за актыўны пратэст супраць расправы над удзельнікамі венгерскай рэвалюцыі 1956 г. быў выключаны з партыі і адсядзеў 5 гадоў. Вядома, для гэтых звестак у аўтабіяграфіі месца не хапіла.

Як успрыняў такую неардынарную інфармацыю В. Барысенка? Па ўсіх тагачасных нормах і традыцыях ён абавязаны быў бы зняць з работы чалавека, які, паступаючы на працу ў ідэалагічны акадэмічны інстытут, схаваў пра сябе такія звесткі. І калі б Лявонція Якаўлевіча адправілі з Інстытута, то ніякі суд, ніякі прафсаюз нават не спрабаваў бы заступіцца за яго. А ва ўсіх інстанцыях лічылася б, што В. Барысенка выканаў свой партыйны, грамадзянскі і патрыятычны доўг. Аднак на гэты раз ён даверу партыі не апраўдаў.

Звычайна В. Барысенка, вырашаючы нейкія справы, не надта цікавіўся думкай сакратара партарганізацыі. Але пра тую навіну ён адразу паведаміў парторгу. Вырашылі разам — рабіць выгляд, быццам нічога не здарылася. І толькі папярэдзілі самога Л. Гараніна, што з боку дырэкцыі яму нічога не пагражае. Н. Перкін, які даведаўся пра ўсё некалькі пазней, таксама быў на баку Лявонція Якаўлевіча. Л. Гаранін і сёння працуе ў інстытуце, і я спадзяюся, што ён не пакрыўдзіцца на мяне за маю інфармацыю.

Але гэта не ўсё. У інстытуце завялося занадта многа ідэйнай «распусты». Партыйную лінію «крывілі» член партыі А. Мальдзіс, беспартыйны В. Каваленка. А былі ж яшчэ «нацыяналіст» М. Прашковіч, непакорлівы, непаручлівы В. Зайцаў, якога перад гэтым звольнілі з працы ў Ленінградскім універсітэце.

Высокае-найвышэйшае начальства такога цярпець доўга не магло. І хоць акадэміку В. Барысенку не так многа часу заставалася да сямідзесяцігадовага юбілею, але яго адправілі ў адстаўку. І адразу ж пад персанальным кіраўніцтвам і наглядам сакратара парткама АН БССР былі звольненыя з работы М. Прашковіч і В. Зайцаў.

Мне ўспамінаецца адно пасяджэнне бюро Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, на якім я выпадкова прысутнічаў. Адзін з членаў бюро, колішні партыйны функцыянер, прапанаваў прыставіць да Інстытута літаратуры афіцыйнага наглядчыка-кантралёра, каб не дапускаць больш скрыўлення партыйнае лініі. Супраць гэтага вельмі рэзка выступіў В. Барысенка, хоць ён і прызнаваў, што асобныя навуковыя супрацоўнікі дапускаюць ідэйныя памылкі. Самакрытыка была тады ў модзе.

В. Барысенка шмат гадоў працаваў дырэктарам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы. Ён сабраў працаздольны і кваліфікаваны калектыў, прыкладаючы шмат намаганняў для таго, каб той калектыў не раскалваўся ўнутранымі канфліктамі. Калі з'явілася ў друку чатырохтомная «Гісторыя беларускай літаратуры», у дырэктара была магчымасць вылучыць яе на Дзяржаўную прэмію. Але ён адмовіўся, бо ўсіх аўтараў уключыць у спіс лаўрэатаў не мог бы. Выдзяляючы адных і абыходзячы другіх, унёс бы ў калектыў разлад. Перш за ўсё лаўрэацтва на гэтым этапе абмінула яго самога, хоць ён меў права на такое званне ў першую чаргу.

Сёння Васіля Васілевіча добрым словам у друку ўспамінаюць якраз тыя, каго найбольш у свой час публічна крытыкавалі за ідэйнае шкодніцтва. Калісці А. Мальдзіс надрукаваў пра Барысенку ўспаміны пад загалоўкам «Як бацька вялікай сям'і». Загаловак зусім апраўданы, бо колішні шматгадовы дырэктар Інстытута дбаў перш за ўсё аб тым, каб у калектыве заўсёды панавала атмасфера ўзаемаразумення і ўзаемападтрымкі. А пра самога А. Мальдзіса калісці аўтар адной ананімнай паэмы пісаў, што той сваімі публікацыямі «падарваў марксісцкі базіс».

Бясспрэчна, В. Барысенка ажыццяўляў партыйную лінію і не мог дазволіць выпускаць пад грыфам Інстытута ці ў падручніках нейкія недастаткова выверaныя ў ідэйных адносінах думкі або меркаванні. Але надта ж наіўна гучыць абвінавачанне ў тым, што ён не разглядаў у сваіх падручніках творчасці таго ці іншага класіка літаратуры.

Такія справы залежалі не ад пажаданняў нейкага навукоўца хоць бы з найвышэйшымі званнямі, вырашаліся яны не ў Інстытутах літаратуры або педагогікі, не ў Міністэрстве асветы і нават не на ўзроўні загадчыкаў адпаведных аддзелаў ЦК КПБ.

Сёння, вяртаючыся памяццю да падзеяў далёкіх і трывожных 30-х гадоў, мы не маем права забываць, што абставіны жыцця прымушалі ўсіх, незалежна ад іх перакананняў, прыстасоўвацца да воўчых законаў,

якія абуджалі ў многіх нечалавечыя інстынкты. Толькі пасля смерці Сталіна грамадзяне Краіны Саветаў маглі сябе адчуваць людзьмі, якіх проста так, ні за што не пацягнуць у цёмную машыну. Да дэмакратыі было яшчэ вельмі далёка, але ўжо не даводзілася за месца пад сонцам шукаць і выкрываць вакол сябе ворагаў, шкоднікаў, трацкістаў, дыверсантаў, шпіёнаў. У новых умовах В. Барысенка жыў і дзейнічаў як чалавек сумленны, добразычлівы і спагадлівы.

*Уладзімір Казбярук*

## Ад аўтара

Празрысты намёк на недахоп у мяне кампетэнтнасці альбо сумленнасці не надта пакрыўдзіў. Факты для «Дырэктара літаратуры» я збіраў і правяраў сам у архівах, бібліятэках, кансультаваўся ў спецыялістаў, перачытаў творы «героя». Вельмі карысным аказалася знаёмства з картатэкай да бібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», які Адам Мальдзіс тады яшчэ толькі рыхтаваў да друку. Гэтая сапраўды фундаментальная праца, пры ўсіх яе вымушаных кан'юнктурных агаворках — найлепшы на сёння павадыр па ГУЛАГу беларускай літаратуры, які знаёміць з вязнямі і ахоўнікамі. Многае далі б некаторыя яго персанажы, каб назаўсёды зніклі звесткі пра іх «творчасць» — ды часам напісанае ўсё ж застаецца.

У выступленні У. Казберука быццам не адмаўлялася віна В. Барысенкі ў арыштах і знішчэнні людзей у 30-я гады. Але і не заўважалася. Аўтар засярodзіўся выключна на аргументах у абарону свайго былога дырэктара і ўвогуле забыўся на ахвяраў. Іх немы крык, іх боль, іх праўда ігнараваліся, як і дзесяцігоддзі да гэтага. Іх зноў не чулі, не бачылі, ім зноў тыцкалі ў твар: вас няма, ясна?..

Адказ у «Літаратуру і мастацтва» пісаўся з халоднай ярасцю.

## Дырэктар літаратуры і яго заступнікі*

...Абарона незаслужана пакрыўджанага — святая справа. Чым, аднак, мяне моцна ўражваюць апаненты — вучоныя-літаратуразнаўцы, дык гэта нетаропкасцю, з якой яны выступаюць на баку ісціны. В. Каваленку спатрэбіўся адзін год і адзін месяц, каб выказаць сваё меркаванне наконт маіх публікацыяў, У. Казберуку — ужо чатыры гады з паловай.

* «ЛіМ», 9 верасня 1994 г.

Калі так пойдзе далей, дык працяг размовы будзе ў наступным тысячагоддзі.

Зрэшты, я ўпэўнены, што размова пра катаў і ахвяраў будзе ісці яшчэ доўга. Хаця б з адной прычыны: каты не панеслі ніякага пакарання, ахвяры дагэтуль застаюцца ахвярамі. Ведаю гэта па сваёй працы ў якасці сябра «Мартыралогу Беларусі» і члена Камісіі пры Вярхоўным Савеце ў справах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Існуючая ўлада абараняе былых катаў, бо ёй патрэбныя каты новыя. Стаўленне грамадства — апатыя і абыякавасць, дастаткова паглядзець на Курапаты, дзе дагэтуль няма не тое што помніка — простай агароджы, як гэта мае быць на могілках.

У сваім выступленні «з адлегласці» У. Казбярук, тым не менш, паўтарае старую аргументацыю В. Каваленкі: В. Барысенка паводзіў сябе ў 30-я гады як і многія іншыя (вінаваты «агульны фон»), а потым, пасля XX з'езду, ён перавыхаваўся і надалей быў сціплым і сумленным вучоным і арганізатарам навукі. Для пацвярджэння першага тэзісу прыводзіцца стос прозвішчаў беларускіх пісьменнікаў, якія, на думку У. Казберука, паводзілі сябе так, як В. Барысенка. «Не толькі прыемнае давялося б гаварыць пра Купалу з Коласам», — папярэджвае аб пагрозлівай небяспецы аўтар.

Дык можа ўжо час нашым вучоным адмовіцца ад звычкі гаварыць толькі прыемнае? І паспрабаваць перайсці да праўдзівага? Тады, дарэчы, ніводнаму сумленнаму і кампетэнтнаму даследніку ў галаву не прыйдзе ставіць на адну дошку няштатнага супрацоўніка органаў, чые спецдопісы падшываліся ў следчую справу, і Купалу з Коласам, растаптаных з дапамогай «літаратуразнаўцаў ад НКВД».

В. Барысенка — зусім не «адзін з многіх іншых», на чым так акцэнтуюць увагу яго абаронцы (быццам гэты аргумент магічна здымае пытанне адказнасці). І справа не толькі ў тым, што асабістая творчая, навуковая спадчына наменклатурнага заіла блізкая да нуля, што не перашкодзіла яму атрымаць усе магчымыя званні і выгоды. Пасада дэкана літфакультэта Мінскага пэдінстытута (з 1932 г.), а потым дырэктара Інстытута літаратуры АН БССР (з 1937 па 1973 г.) надавала яго «крытычным» артыкулам сапраўды забойную сілу. Яго баяліся і ў яго вучыліся калегі па заплечным літаратуразнаўстве, яго «закрытыя рэцэнзіі» калечылі лёсы. Невыпадкова менавіта яго вылучыў з пагромнай каманды 30-х гадоў Уладзімір Конан у самай першай публікацыі аб сталіншчыне ў Беларусі ў «Звяздзе» («Узяць з гісторыі агонь», 22 снежня 1987).

Пасля таго ў рэдакцыю прыйшоў сын адной з ахвяраў В. Барысенкі, У. Мазур. Яго бацька, Ігнат Мазур, аўтар чытанак для школьнікаў, пасля іх разгрому Барысенкам быў выключаны з партыі, хаваўся, быў арыштаваны і адпраўлены на расстрэл — выратаваў яго цуд.

У выніку карпатлівай праверкі быў надрукаваны матэрыял «Закрытая рэцэнзія» («Звязда», 31 ліпеня 1988). У. Казбярук гэтую публікацыю не згадвае. Ці не таму, што яна юрыдычна доказна сведчыць аб асабістай канкрэтнай віне Барысенкі.

Прывяду яшчэ адзін дакумент з Нацыянальнага архіву Беларусі, які ніколі не друкаваўся.

**З вызначэння Судовай Калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР па пратэсту пракуратуры на пастанову Асобай Нарады пры НКВД СССР ад 5.08.1939 г., па якой асуджаны Замоцін Іван Іванавіч, 1873 г.н., акадэмік АН БССР, член-карэспандэнт АН СССР, — на 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў.**
**У якасці доказу шкодніцкай дзейнасці Замоціна да справы былі далучаныя рэцэнзіі на шэраг яго прац і акты Камісіі АН БССР, у якіх адзначалася, што навуковыя працы Замоціна прапагандуюць буржуазную ідэалогію, беларускі нацыяналізм і расейскі вялікадзяржаўны шавінізм, што паводле свайго зместу гэтыя працы з'яўляюцца палітычна шкоднымі.**
**У працэсе дадатковай праверкі экспертная камісія дала заключэнне аб тым, што працы акадэміка Замоціна ўяўляюць несумненную навуковую каштоўнасць, а высновы Камісіі АН БССР і рэцэнзентаў у 1938 г. з'яўляюцца неабгрунтаванымі і няслушнымі.**
**Барысенка В.В., які ганьбаваў раней навуковыя працы Замоціна, цяпер працуе дырэктарам Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР, у сваім водгуку аб Замоціне, напісаным у 1956 г., адзначае, што Замоціна ён ведаў на працягу 10 гадоў толькі са станоўчага боку.**

Акадэмік Замоцін загінуў у лагеры ў траўні 1942-га. У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», першы том якой выйшаў у 1993-м, у артыкуле Л.С. Савік непасрэдны ўдзел Барысенкі ў знішчэнні людзей адлюстраваны наступным чынам: «У некаторых артыкулах і рэцэнзіях 1930-40-х гадоў аддаў даніну вульгарнаму сацыялагізму».

«Вучоны флюгер», як ахрысціў В. Барысенку ў сваёй вядомай эпіграме Сяргей Грахоўскі, у 50-я гады, ды і пазней, трымаўся строга па ветры.

У публікацыі «Дырэктар літаратуры» прыводзяцца тлумачэнні дырэктара аб справе І. Мазура, датаваныя 1955 годам, калі той вымушана прызнаецца ў здзейсненым. Дарма ў іх шукаць намёк на пакаянне — усё тая ж спасылка на «агульны фон», якую зараз, нібы ваду ў ступе, таўкуць яго заступнікі. Я перапісваўся, сустракаўся з ахвярамі акадэміка, іх дзецьмі. Ні разу не пацікавіўся гэты, па вызначэнню У. Казберука, «сумленны, добразычлівы і спагадлівы» чалавек далейшым лёсам арыштаваных, а потым рэабілітаваных людзей, іх сем'яў. Як амаль нічога не зрабіў для вяртання ў літаратуру дзясяткаў імёнаў закатаваных у 30-я гады пісьменнікаў і іх твораў.

Не хачу паўтараць аргументацыю і факты, якія выкладзеныя ў маіх публікацыях 1987-89 гадоў. У. Казбярук называе іх «разносна-пагромнымі». Хаця б у чыста філалагічных мэтах, дзеля правільнага ўжывання складаных прыметнікаў у будучым, раю апаненту пачытаць В. Барысенку. Напрыклад, яго першую значную працу «Нацдэмаўская літаратуразнаўчая метадалогія М. Гарэцкага». Ці пасляваенныя выступленні «Шкодны дакумент (аб нацыяналістычных скажэннях у праграмах па беларускай літаратуры для ВНУ)», «Супраць нізкапаклонства перад буржуазнай культурай», «Супраць касмапалітызму ў літаратуразнаўстве».

Цішэй, на думку заступнікаў, трэба называць імёны памагатых катаў, больш «добразычліва» корпацца ў архівах, заплюшчыць вочы і закрыць вушы, каб не чуць раз'юшанага вою крытычнай зграі...

На шчасце, так думаюць не ўсе. Пасля публікацыі артыкула «Дырэктар літаратуры» з падтрымкай званілі многія, у тым ліку былыя падначаленыя Барысенкі — супрацоўнікі Інстытута. Пазваніў і Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Мы з ім не былі знаёмыя. Янкоўскі расказаў, як у 1938 годзе на сустрэчы са студэнтамі-завочнікамі Барысенку перадалі запіску з пытаннем пра Кузьму Чорнага — дзе ён, як, ці піша. Барысенка падняў запіску, абшарыў залю поглядам.

— Чорны — хай ён там счарнее, дзе ён чарнее...

Потым цэлая група, узгадваў Янкоўскі, шнырыла па інстытуце, шукала аўтара крамольнага пытання. Пашанцавала чалавеку, сярод мноства завочнікаў яго почырк не ўстанавілі. Ужо ў 80-х, калі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» паводле прапановы Інстытута літаратуры спрабавалі перавыдаць творы Барысенкі, Янкоўскі, як член рэдкалегіі зборніка, рэзка выступіў супраць перавыдання. Праз два тыдні пасля нашай тэлефоннай размовы яго не стала...

Сведкаў амаль не засталося. Ці не гэтая акалічнасць сёння падштурхоўвае некаторых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры аберагаць асобу акадэміка. Зразумелая настойлівасць дачкі (не забудземся толькі, што і ў ахвяраў былі дзеці). Можна вытлумачыць, зрэшты, і ўдзячнасць былых падначаленых, якім В. Барысенка асабіста не зрабіў нічога дрэннага, дапамагаў (будзем памятаць, аднак, што так склалася далёка не ва ўсіх). Немагчыма, і я пісаў пра гэта, амаль 40 гадоў узначальваць установу і не зрабіць нічога карыснага для людзей і для справы.

Але няўжо ж Барысенка мала быў аддзячаны за сваё служэнне — пасадай, кватэрамі, званнем акадэміка, элегантнымі фармулёўкамі ў энцыклапедыях, спакойным жыццём сваёй сям'і (калі адкінуць арыштаванага брата, ад якога адрокся, нават змяніў сваё прозвішча)?..

Аказваецца — мала. Аказваецца, трэба яшчэ нешта — добрую памяць.

І гэта самы галоўны і абнадзейваючы вывад з нашай шматгадовай палемікі. Ніхто не забароніць блізкім і знаёмым памятаць пра добрае, што было ў чалавеку. Але не ўдасца выкрасліць з людской памяці і зло, якое ён нёс і якое засталося беспакараным.

Не магу не пагадзіцца з думкай, якой пачынае свой артыкул У. Казбярук: «Балюча адбываецца ў нас працэс пераасэнсавання і пераацэнкі мінуўшчыны. І добра, калі бяруцца за гэтую справу людзі кампетэнтныя і сумленныя. А калі не хапае ці адной, ці другой якасці? Мы тады становімся сведкамі розных маніпуляцыяў». Далібог, сапраўды так. Асабліва, калі не хапае адразу абедзвюх згаданых якасцяў.

*Аляксандр Лукашук*

**Ад аўтара**

На момант друкавання гэтай кнігі дыскусія скончылася. Прынамсі, з майго боку. У беларускай прэсе працягваюць з'яўляюцца новыя публікацыі і гучаць галасы ў абарону «дырэктара літаратуры».*

Я не маю што дадаць да ўжо сказанага, хоць мог бы прывесці яшчэ некаторыя архіўныя факты. Рэч зусім не ў фактах. Рэч нават не ў пытанні «што з намі адбываецца».

Усё ўжо адбылося.

Амаль усё.

---

* Апошні раз ухвальны ўспамін пра В.Барысенку з вуснаў аднаго з яго вучняў, цяпер доктара навук, я пачуў па беларускім дзяржаўным радыё ў снежні 2011-га.

# Курапатчыкі

**Спіс супрацоўнікаў НКВД БССР паводле стану на 1937 год***

Абрамаў — намеснік начальніка Магілёўскай аблуправы
Абрамчук — оперупаўнаважаны, Магілёў
Аверын Міхаіл Ігнатавіч — 1912, 1937, оперупаўнаважаны
Альтшулер Леанід Яўсеевіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Антонаў Пётр Сяргеевіч — 1902, 1919, оперупаўнаважаны
Арагіковіч Пахом Пахомавіч — 1910, 1937, курсант
Артамонаў — начальнік аддзялення меншавікоў і эсэраў НКВД
Архангельскі — начальнік аддзялення трацкістаў і правых НКВД
Архіпаў — памочнік начальніка аддзела месцаў зняволення НКВД
Ашышкевіч — начальнік аддзялення трацкістаў і правых НКВД
Багданаў І.А. — начальнік баявой падрыхтоўкі НКВД
Балоцін — оперупаўнаважаны, Ворша
Бандарэнка Дзмітры Сцяпанавіч — памочнік оперупаўнаважанага, Старыя Дарогі
Бачкоў Міхаіл Паўлавіч — 1899, 1920, адказны дзяжурны НКВД
Барысаў Сямён Рыгоравіч — 1900, 1926, начальнік аддзела НКВД
Беззабезнаў Дзмітрый Карлавіч — 1908, 1934, оперупаўнаважаны
Берман Барыс Давыдавіч — 1901, 1920, наркам
Бібікаў Георгі Паўлавіч — 1914, 1937, курсант
Блох Соф'я Ісакаўна — 1898, 1925
Булатнікаў Пётр Паўлавіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Буцэвіцкі Уладзімір Ігнатавіч — 1908, 1930, оперупаўнаважаны
Быкоўская Лілія Рабертаўна — 1900, сакратар-машыністка
Быхоўскі — начальнік аддзялення нацыянал-фашыстаў НКВД

* Па парадку ідуць наступныя звесткі (калі вядомыя): прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, год паступлення ў органы ЧК-ОГПУ-НКВД, пасада, месца службы (калі не пазначана — Мінск). Ва ўмовах закрытасці архіваў звесткі носяць вымушана фрагментарны характар. Да прыкладу, у спісе фігуруюць толькі 8 з 54 супрацоўнікаў 4-га сакрэтна-палітычнага аддзела наркамата, 17 з 90 начальнікаў райаддзелаў НКВД, малая толіка оперупаўнаважаных, якія непасрэдна арыштоўвалі, дапытвалі і катавалі.Уключаны таксама тэхнічныя сурацоўнікі. Гэты спіс не юрыдычны дакумент, а публікацыя журналісцкіх знаходак. Гл. таксама спіс, які складае даследнік таталітарызму ў Беларусі Леанід Маракоў http://www.marakou.by/pub/file/karniki.pdf

Быстроў Мікалай Міхайлавіч — у ЧК з 1919, начальнік Мінскай абл-управы
Бычкоўскі Антон Захаравіч — 1909, 1932, оперупаўнаважаны
Бягун Сямён Васілевіч — 1911, 1933, оперупаўнаважаны
Бяляеў Рыгор Аляксеевіч — 1903, 1929, тэхработнік
Бяспалаў — начальнік Пухавіцкага райаддзела
Валавік І.Я. — 1904, 1922, начальнік Рэчыцкага райаддзела
Валынкін Якаў Цітавіч — 1905, 1930, сакратар
Васіленка Кузьма Іванавіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Васілеўскі Мікалай Аляксандравіч — 1911, оперупаўнаважаны, Жлобін
Васільеў Аляксандар Аляксеевіч — 1897, 1921, начальнік аддзела НКВД
Вашукевіч Міхаіл Фёдаравіч — 1903, памочнік оперупаўнаважанага, Гомель
Вігдэргаўз Матус Абелевіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Відзякін А.Д.
Вільман Герман Францавіч — 1897, 1925, памочнік оперупаўнаважанага, Сураж
Вітка — начальнік Грэскага райаддзела
Віткоўскі Дамінік Уладзіслававіч — 1904, 1930, памочнік оперупаўнаважанага, Гомель
Волкаў — оперупаўнаважаны, Ворша
Волчак — начальнік 4 аддзела НКВД
Воранаў Фёдар Васілевіч — 1911, 1937, оперупаўнаважаны
Высоцкі — оперупаўнаважаны, Мінск
Галубкін Сяргей Міхайлавіч — памочнік оперупаўнаважанага, Слуцк
Гарбаты — начальнік аддзялення савецкага апарату і рабочага класу НКВД
Гарбачэўскі Макар Давыдавіч — 1906, 1930, начальнік Старобінскага райаддзела
Гардзееў Іван Сямёнавіч — 1904, начальнік Сенненскага (потым Жлобінскага) райаддзела
Гарохаў — намеснік начальніка Слуцкага гараддзела
Гепштэйн — начальнік 3 аддзела НКВД
Гласкоў — начальнік аддзела, Слуцк
Голанд — Магілёўская абласная ўправа
Грышчанка Мікалай Георгіевіч — 1913, оперупаўнаважаны
Губская М.А. — сакратар наркама
Гудкоў Іван Іванавіч — 1911, 1937, оперупаўнаважаны

Гушча — оперупаўнаважаны, Магілёў
Даніленка — оперупаўнаважаны, Віцебскі дарожна-транспартны аддзел
Далінка Лізавета Давыдаўна — 1918, 1937, оперупаўнаважаны
Драздоў Аляксандар Яўсеевіч — 1905, 1926, оперупаўнаважаны
Дуброўскі Іван Аляксандравіч — 1896, 1925, начальнік аддзела Магілёўскай абласной управы
Дудараў — оперупаўнаважаны, Магілёў
Дудзенка Сяргей Піліпавіч — 1910, 1932, старшына ГБ
Дулесаў — начальнік Крычаўскага райаддзела
Ермалаеў Васіль Андрэевіч — 1990, 1924, начальнік Лепельскага райаддзела (потым начальнік 4 аддзела НКВД)
Ермаловіч В.А. — памочнік начальніка Полацкага акраддзела
Жуковіч — начальнік Рагачоўскага райаддзела
Жураўлёў Аляксандр Леанідавіч — 1902, 1930, оперупаўнаважаны
Жыдкоў Іосіф Аляксандравіч — 1901, 1928, оперупаўнаважаны
Завацкі — оперупаўнаважаны
Задзірака — начальнік Дубровенскага райаддзела
Зайцаў — начальнік Аршанскага гараддзела
Зотаў Сяргей Амельянавіч — 1905, 1929, памочнік оперупаўнаважанага
Іасілевіч Яўсей Гіршавіч — 1898, 1926, адказны дзяжурны
Іваноў Уладзімір Георгіевіч — 1914, 1937, тэхработнік
Ільянкоў Амяльян Ларыёнавіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Іофэ Роза Барысаўна — 1899, сакратарка
Ісакаў Васіль Акімавіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Кавалеўскі Аляксандр Антонавіч —1904, 1923, начальнік райаддзела
Каган — оперупаўнаважаны
Казакевіч — оперупаўнаважаны, Магілёў
Кайдала Мікалай Ціханавіч — 1914, 1937, оперупаўнаважаны
Камяк Георгій Васільевіч — памочнік оперупаўнаважанага Уздзенскага райаддзела
Каплан Д.Я.— начальнік Мазырскага акраддзела
Каралёў — оперупаўнаважаны, Слуцк
Каралёў Піліп Ягоравіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Каралько — оперупаўнаважаны, Магілёў
Катужэнец Мікалай Дзмітрыевіч —1903, 1932, начальнік аддзела, Магілёў
Катцэн — начальнік Смілавіцкага райаддзела

Кашмель — Магілёў
Кашыцын — намеснік начальніка Гомельскай аблуправы
Каўфман — начальнік Палескай аблуправы
Кісялёў — начальнік Магілёўскай турмы
Кісялёў — в.а. асобаўпаўнаважанага НКВД
Клейнберг — начальнік 4 аддзела НКВД
Колас Іван Міхайлавіч — 1904, 1928, оперупаўнаважаны
Корзун Мікалай Адамавіч — 1909, 1935, экспедытар
Корсак Валяр'ян Дзяменцевіч — 1896, 1932, шафёр
Красілынчыкаў Аляксандар Герасімавіч — 1911, 1932, оперупаўнаважаны
Краўцоў — начальнік Уздзенскага райаддзела
Крэмераў Сямён Абрамавіч — начальнік Слуцкай турмы
Кужэль Неаніла Сцяпанаўна — 1902, машыністка
Кулакоў Павел Антонавіч —1896, памочнік оперупаўнаважанага, Расоны
Кунцэвіч — начальнік аддзялення царкоўнікаў НКВД
Лайман-Сапіэт Карл Іванавіч — намеснік начальніка аддзела месцаў зняволення НКВД
Лапцёнак Барыс Фядосавіч — 1909, 1934, оперупаўнаважаны
Лісоўскі М.М. — начальнік Полацкага акраддзела
Левін Залман Міронавіч — 1893, 1933, начальнік аддзела НКВД
Левін Сямён Ізраілевіч —1910, 1928, начальнік аддзела, Віцебск
Лонскі — оперупаўнаважаны, Магілёў
Луганскі — начальнік аддзела месцаў зняволення НКВД
Лук'яненка — Віцебск
Лучко Акім Сцяпанавіч — оперупаўнаважаны, Слуцк (потым старшы оперупаўнаважаны 2 аддзела НКВД)
Лягаеў — начальнік аддзялення савецкага апарату і рабочага класу НКВД
Ляховіч Міхаіл Сцяпанавіч — 1905, 1933, ст. інспектар
Макарэвіч Мікалай Міхайлавіч — 1908, 1932, оперупаўнаважаны
Марошак — начальнік управы НКВД на Беларускай чыгунцы
Мартыненка — начальнік Глускага райаддзела
Макшанцаў — Магілёў
Машэнец Аляксандр Іванавіч — памочнік оперупаўнаважанага, Слуцк
Міркін — начальнік Мінскай турмы
Молчан Рыгор Іванавіч — 1912, 1937, оперупаўнаважаны

Навіцкая Кацярына Адольфаўна — 1898, 1926, сакратар
Наседкін А.А. — наркам
Насцянка Андрэй Цярэнцевіч — 1912, 1937, оперупаўнаважаны
Пазнякоў Андрэй Мітрафанавіч — 1911, 1937, оперупаўнаважаны, Слуцк (потым ст. інспектар Мінскай аблуправы)
Падбярэзскі Міхаіл Раманавіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Падалка Міхаіл Ільіч — 1910, 1932, оперупаўнаважаны
Падгароднікаў Васіль Фёдаравіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Пазін Віктар Фёдаравіч — 1899, 1924, начальнік аддзялення
Палітыка — начальнік аддзялення эсэраў і меншавікоў НКВД
Папутчык Аляксей Цітавіч — 1911, 1937, оперупаўнаважаны
Парахонька Яфім Іванавіч — 1912, 1934, оперупаўнаважаны
Перавозчыкаў — оперупаўнаважаны
Петрусенка Іван Карнеевіч — 1898, 1921, начальнік Магілёўскай турмы
Пісараў — оперупаўнаважаны
Пужэвіч Элеанора Андрэеўна — 1906, машыністка
Пятроў І.М. — начальнік Расонскага райаддзела
Радноў Пётр Якаўлевіч — 1902, 1920, начальнік Віцебскай управы
Ражкоў Іван Паўлавіч — 1901, 1921, оперупаўнаважаны
Розкін — начальнік 1 спецаддзела НКВД
Рулёў Аляксей Іванавіч — оперупаўнаважаны
Рыскін — начальнік Гомельскай турмы
Савельеў Іван Цімафеевіч — памочнік оперупаўнаважанага, Ворша
Сакалоўскі Іосіф Пятровіч — 1912, 1937, оперупаўнаважаны
Сахараў Пётр Міхайлавіч — 1889, 1918, памочнік начальніка аддзела
Сіманоўскі — начальнік Аршанскай турмы
Серышаў — намеснік начальніка 3 аддзела НКВД
Слукін — начальнік аддзялення моладзі НКВД
Слуцкі — начальнік Хоцімскага райаддзела
Смагарэўскі — начальнік Віцебскага абласнога дарожна-транспартнага аддзела
Смірноў Сяргей Нікітавіч — 1908, 1934, оперупаўнаважаны
Сокалава Ганна Усцінаўна — 1897, 1928, машыністка
Сокалаў Іван Паўлавіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Сокалаў — памочнік начальніка Мінскай турмы
Сухадольскі М.А. — начальнік Даманавіцкага райаддзела
Сусман — оперупаўнаважаны
Сталяроў — оперупаўнаважаны, Слуцк

Стаяноўскі — памочнік наркама
Сяргеенка Мікалай Карпавіч — 1919, 1937, оперупаўнаважаны
Тамарчанка Леў Іосіфавіч — 1906, 1931, оперупаўнаважаны
Тараканаў Сяргей Іванавіч — начальнік Слуцкага гараддзела
Тарасаў Васіль — 1904
Томышаў — оперупаўнаважаны, Віцебск
Трастнікоў — оперупаўнаважаны, Віцебскі дарожна-транспартны аддзел
Уласаў — намеснік начальніка Віцебскай аблуправы
Урачоў Г.Я. — начальнік 4 аддзела НКВД
Федарцоў Сава Мікалаевіч — 1914, 1937, курсант
Фёдараў — начальнік аддзялення нацыянал-фашыстаў НКВД
Фяцісаў — оперупаўнаважаны Віцебскага абласнога дарожна-транспартнага аддзела
Хархорын Г.С. — намеснік наркама
Хвашчынскі Барыс Ціханавіч — 1916, 1937, курсант
Церабіла Мікалай Дзмітрыевіч — 1901,1920, начальнік аддзела НКВД
Ціханцоў — оперупаўнаважаны, Магілёў
Цівунчык К.С. — начальнік 2 аддзела НКВД
Цэйтлін — оперупаўнаважаны
Чатанаў Мікалай Сяргеевіч — 1913, 1935, тэхработнік
Шліфянсон — начальнік Гомельскай аблуправы
Шмідткін Уладзімір Пятровіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Штэйнберг Майсей Піліпавіч — сяржант дзяржбяспекі
Шэвелеў Павел Іванавіч — памочнік оперупаўнаважанага, Слуцк
Шэйнкман — начальнік аддзялення трацкістаў і правых НКВД
Эмануілаў — начальнік Аршанскага райаддзела
Юркоў — оперупаўнаважаны, Магілёў
Юрчансон Р.П — начальнік аддзела НКВД
Ягодкін В.П. — начальнік Магілёўскай абласной управы
Якавенка Васіль Сцяпанавіч — 1913, 1937, оперупаўнаважаны
Якімаў — оперупаўнаважаны
Яндоўскі — оперупаўнаважаны, Магілёў

P.S. У гэтым спісе 188 імёнаў. Ужо пасьля выхаду кнігі «За кіпучай чэкісцкай работай» у 1997 годзе, разгарнуўшы экземпляр, я пабачыў, што гэтай лічбай у прадмове кніга адкрывалася — кампартыю аднавілі 188 галасоў.

# Нешта падобнае да ўсмешкі

## Замест пасляслоўя

Галоўная праблема айчынай гісторыі — праблема катаў і ахвяраў. Так некалі ставіў пытанне Васіль Быкаў.

У Беларусі праблему гістарычнай праўды і справядлівасці закрылі два дзесяцігоддзі таму. Вуліцы, плошчы, гарады, пасёлкі, прадпрыемствы носяць імёны асобаў, вінаватых у злачынствах супраць чалавечнасці. Непарушна стаяць іх помнікі і вісяць партрэты ў музеях і кабінетах. Трупная пляма фальшывай «лініі Сталіна» раз'ядае не толькі пагоркі пад Заслаўем. Цудам яшчэ не знішчаныя Курапаты.

Маладое пакаленне, школьнікі і студэнты, у масе сваёй проста не ведае сваёй гісторыі. Старыя баяцца яе ўспамінаць: у мемуарнай кнізе «Знаёмыя постаці» тады 84-гадовага паэта Міколы Аўрамчыка, якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» у 2004-м, шмат асабістых згадак пра пісьменнікаў, паэтаў, крытыкаў 1930-х гадоў. Ва ўсёй кнізе, здаецца, толькі аднойчы згадваецца жах рэпрэсій, якія знішчылі эліту нацыянальнай культуры — і згадваецца наступнай фразай: «Пасля шматлікіх стрэсаў, што амаль на працягу дзесяцігоддзя безупынку малацілі беларускую літаратуру...» Раздзел называецца «Незабыўнае».

Жыццём у спыненым часе называе літаратар Сяргей Дубавец сённяшнюю Беларусь. Калі беларускі час спыніўся, можна спрачацца: нехта назаве 29 кастрычніка 1992-га, калі быў забаронены рэферэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета. Нехта — выбар прэзідэнта, нехта рэферэндум 1995-га, які дабіваў мову, ці рэферэндум 1996-га, які перакроіў канстытуцыю, нехта правал імпічменту, нехта знікненні і забойствы палітыкаў, бізнесоўцаў, журналістаў.

Адкат мае дакладную «кропку невяртання» — 3 лютага 1993-га. У той дзень Вярхоўны Савет 12-га склікання аднавіў у правах камуністычную партыю. Старому часу, пахаванаму ў 1991-м пад абломкамі жнівеньскага путчу, у Беларусі працягнулі руку, дасталі з труны і запрасілі за вясельны стол. Справа не ў канкрэтных партсакратарах, членах бюро ці шарагоўцах — а ў тым, што была адкінутая гістарычная праўда і справядлівасць, кардынальна змененыя маральныя каардынаты часу.

Усе старыя злачынствы і злачынцы дыхнулі магільным смуродам і вяселле нараджэння незалежнай Беларусі стала неадрозным ад хаўтураў па ёй.

У спыненым часе амаль нічога не састаравае. У спрэчках зноў і зноў усплываюць тыя самыя пытанні, на якія ўжо адказвалі, бо справа не ў фактах і аргументах, а ў каштоўнасцях.

Вось фрагмент такога дыялогу, які я некалі вёў з апанентамі і сам з сабой.

— Ты — за паляванне на ведзьмаў, за помсту!.. А як жа дэмакратычнае чалавекалюбства, як жа «милость к падшим», як жа біблейскі запавет не судзіць?

— Так, я за тое, каб судзілі. Не судзіць у хрысціянскім сэнсе, г.зн. даравáць — і тое толькі ў маральным плане — мае права выключна ахвяра. Грамадства, дзяржава не маюць і не могуць мець такога права. Папа Рымскі дараваў турку Агджу, які рабіў на яго замах, і маліўся за яго. Што не перашкодзіла ўладам Італіі адправіць злачынцу ў турму. Дэмакратычнае грамадства праз сістэму законаў, судоў і турмаў павінна жорстка абараняць сябе і свабоду сваіх грамадзян. З камуністычным вядзьмарствам, з іншымі чалавеканенавісніцкімі ідэалогіямі і арганізацыямі трэба змагацца, як змагаліся з чумой і халерай. Магчыма, у будучым будзе дастаткова проста адукацыйнай прышчэпкі, сёння ж патрэбны каранцін і санацыя. У гэтым і ёсць чалавекалюбства.

— Многія ахвяры самі стваралі механізм рэпрэсіяў — ідэалагічна, арганізацыйна, юрыдычна. Многія каты станавіліся потым ахвярамі. Ты ўпэўнены, што заўсёды можна адрозніць правага ад вінаватага, пазбегнуць новай несправядлівасці?

— Каб адрозніць, трэба ведаць. Няма аднаго адказу для ўсіх. Але гэта не значыць, што няма такога адказу ўвогуле. Трэба шукаць, вывучаць, прыводзіць факты. А меркаванні будуць розніцца, некаму і цяпер Ленін, Гітлер, Пол Пот куміры. Што ж да новай несправядлівасці... Хіба пасля маіх публікацыяў прыязджаў «чорны воран», людзей кідалі ў «амерыканку», везлі ў Курапаты? Хіба я заклікаю ставіць былых катаў, як некалі яны ахвяраў, на «канвеер», зашчымляць пальцы дзвярыма, спаражняцца ў твар, на вачах бацькоў гвалціць дачок, жонак кідаць на пацеху ў камеру крымінальнікаў? Хіба я пасылаю іх дзяўбсці запалярны вугаль, патрабую марыць іх смагай і голадам, цкаваць сабакамі? Хіба... Ды задоўга пералічваць усё, што каты чынілі з ахвярамі. Я хачу толькі аднаго: назваць іх імёны і іх учынкі.

— Але дзеля чаго? Катаў ужо амаль не засталося. На развалінах Савецкага

Саюзу ўзніклі рэжымы з «культам асобы», не горшым за сталінскі. Ці мала правільных словаў было гаворана ў гісторыі, але ці пачутыя яны?

— Некаторыя словы трэба паўтараць, каб не забыцца на іх увогуле. Хто ведае, што было б, калі б час ад часу іх не паўтаралі зноў і зноў... Калі пад час вучобы ў інстытуце, а потым і пасля заканчэння я змог сказаць «не» афіцэру КГБ, які вербаваў мяне на ролю няштатнага «памочніка» органаў, дык не паддацца на пасулы і пагрозы дапамог страх будучага сораму. Я ўявіў, што будзе, калі такое супрацоўніцтва адкрыецца — нават праз сто гадоў... Але яшчэ большы, чым перад будучым, ёсць абавязак перад мінулым, перад адным яго фрагментам...

— Якім?

— Апошнія секунды перад стрэлам... Я бачу расстрэл Курапатах, калі ўсе просьбы аб дапамозе выплаканыя, надзеі растаптаныя, спадзяванні адкінутыя, ратунку няма й не будзе, і каты выцягваюць свае рэвальверы. І мне здаецца, што адзін з тых, хто ўпадзе зараз у яму, пачынае здагадвацца і раптам верыць, што праклятыя імёны назавуць хоць праз пяцьдзесят гадоў, што хоць так ён будзе адпомшчаны, і тады на змярцвелым твары з'яўляецца нешта... Нешта падобнае да апошняй ўсмешкі...

*Суд: Як Вы пісалі свае шпіёнскія данясенні?*
*Янка: Кроўю.*

Паводле «Справы № 3383» Міністэрства
дзяржаўнай бяспекі СССР
«па абвінавачанні Філістовіча І.І. і іншых
грамадзян, усяго ў колькасці 17 чалавек»

# Пралог

«У мяне ледзь сэрца не спынілася, калі пачуў з трыбуны імя Янкі Філістовіча! Я ж ведаў пра яго з кагэбісцкай кніжкі «Па воўчых сцежках». Ужо з яе шмат чаго можна было зразумець. Гэты чалавек выратаваў гонар БНР пасля вайны!» — так казаў мне Вінцук Вячорка, сакратар управы Беларускага Народнага Фронту, на святкаванні 75-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Мінску.

Скончылася навуковая канферэнцыя, людзі паціху разыходзіліся, і я раптам падумаў, што Янку Філістовічу ў гэты дзень было б якіх 67 гадоў. Ён мог стаяць з намі побач у залі Дома літаратара ў Мінску, мог выступіць і расказаць сам сваю гісторыю блукання па пакутах, гісторыю, поўную фанатычнай працы, безразважнай адвагі і фантастычнага шанцавання, пошукаў, памылак і іх выкуплення. У ёй былі вайсковая форма і турэмная вопратка, аўдыторыі еўрапейскіх універсітэтаў і схованкі ў беларускіх лясах. Адысея Янкі Філістовіча пачалася ў часе II сусветнай вайны ў Беларусі, працягвалася ў Італіі, Чэхіі і Нямеччыне, потым — Парыж, Сарбона, затым Лювэнскі ўніверсітэт у Бельгіі, потым — зноў Нямеччына, Мюнхен, а тады — Беларусь. Ён спусціўся на родную зямлю з нябёс, на парашуце, і адсюль жа на неба быў узяты — з кагэбісцкаю куляй у сэрцы.

Упершыню пра Янку Філістовіча я пачуў у 1991 годзе ў Парыжы. Разам з сябрам, народным дэпутатам Сяргеем Навумчыкам мы пілі каву ў маленькай кавярні на вуліцы Гравіер, побач з «беларускай» кватэрай, і чакалі, пакуль прынясуць ключы. Раптам праз вакно я пабачыў чалавека з бел-чырвона-белым значкам на грудзях. Гэта быў Міхась Наўмовіч, мастак, скульптар, даўні і найбліжэйшы сябра Янкі. Памяць пра Янку ён захоўвае ўсё жыццё. Пасля вайны хлопцы разам жылі ў Парыжы, разам заснавалі Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі і выдавалі часопіс «Моладзь». Свой расповед Міхась Наўмовіч закончыў просьбай — адшукаць сляды Янкі, якія абарваліся ўвосень 1951-га…

Чым маглі дапамагалі сябры і знаёмыя Янкі ў Лондане і Нью-Ёрку, у Канадзе і Беларусі. Аляксандр Лашук, які жыў і сёлета памёр у Лондане, пяцьдзясят гадоў беражліва захоўваў Янкавы лісты. Падчас «адлігі», г.зн. пэўнай разгубленасці камуністычнай наменклатуры ў 1992 годзе, мне ўдалося праглядзець некаторыя тамы следчай справы з архіву КГБ.

Пагартаў і «дакументальную аповесць» М. Паслядовіча «Па воўчых сцежках», «напісаную па расказу палкоўніка Д. М. Каленіка» і выдадзеную асобнай кніжкай у Мінску ў 1958 годзе. Напісанае «па расказу» годам раней друкавала «Звязда»; кніжнае выданне рэкамендавалі для «сярэдняга і старэйшага ўзросту». У прадмове аповесць называлася «не выдумкай, не фантазіяй», а «сапраўдным дакументам», дзе «выкрываецца агідная роля беларускіх буржуазных нацыяналістаў», якія «злобна мараць у цёмных логавах эміграцыі пра аднаўленне на Беларусі агнём і крывёю капіталістычнага ладу». Заканчвалася кніжка пра Янку Філістовіча заявай старшага следчага КГБ: «Суд народа скажа пра яго сваё важкае слова. Я лічу гэтую справу скончанай».

Усе свае допісы сябрам Янка завяршаў аднолькава: «Жыве Беларусь!» Народ і КГБ, як высветлілася, па-рознаму глядзяць на гэтыя словы. Гісторыя Янкі Філістовіча — гэта гісторыя любові. Любові да сваёй адзінай каханай, маці і мары — да Беларусі. Таму і справа яго не скончаная, што б там ні лічылі старшыя следчыя. І, дасць Бог, не скончыцца, — пакуль жыве Беларусь.

Адкрытага суда над Янкам Філістовічам не было. Яго судзілі і прыгаварылі да расстрэлу восенню 1953-га.*

Якім ён мог быць, гэты суд, дзе адвакат не адрозніваўся ад пракурора, а суддзя ад выканаўца прыгавору, дзе падсудны меў адно права — моўчкі выслухаць загадзя вядомы і яму, і суду прысуд. І ўсё ж паспрабуем уявіць, услухацца ў тую трагедыю. Галоўных дзейных асобаў дзве — суд і падсудны.

Словы Янкі Філістовіча — дакументальна сапраўдныя, узятыя з лістоў, яго ўласных публікацыяў у часопісе «Моладзь», успамінаў сяброў, а таксама з пратаколаў допыту.

---

* Вясной скончылася следзтва, а далей быў перапынак, верагодна, выкліканы смерцю Сталіна і пераменамі кіраўніцтва МГБ і вышэйшай наменклатуры. Без Масквы справу «амерыканскага шпіёна» завяршыць не маглі, а там пасля арышту Берыі, як казаў мне следчы Трапш, які вёў справу Я.Ф., было не да мінскіх клопатаў — у саміх галовы ляцелі. Пасяджэнне Вайсковага трыбуналу Беларускай ваеннай акругі пачалося 17 кастрычніка 1953 і доўжылася тры тыдні. Успамінала стрыечная сястра А.Ф. Соф'я Самаль: «Потым быў суд. У зале панаставілі лаваў, як у школе. Тыдзень нас вадзілі туды і нават есці там давалі. Сядзім і ядзім па трох, а Янка ў куце сядзіць і не есць. Начальнік канвою кажа: «Хадзі, Філістовіч, пакушай!» Янка яму: «Дзякуй, не хачу». Той ізноў: «Да не валнуйцесь вы, усё будзе ў парадку». Але Янка так і не йшоў...»

Усевалад Сцебурака, Тадэвуш Нальшчанскі. Наша Ніва, 22.06.2006
http://www.nn.by/index.php?c=ar&i=2488

## «Мой вырай тут...»

Суд: Падсудны, назавіце Ваша імя, прозвішча, месца нараджэння, нацыянальнасць.

Янка: Філістовіч Янка.

Суд: Гаварыце правільна, як запісана ў пратаколе.

Янка: Філістовіч Іван Андрэевіч. Нарадзіўся ў вёсцы Паняцічы, што паміж Вілейкай, Маладзечнам і Іллёй.

Суд: Назавіце дату Вашага нараджэння.

Янка: Паводле пашпарту нарадзіўся 14 студзеня 1926 года. Але з дзяцінства адзначаў дзень народзінаў на Каляды.

Суд: Якія яшчэ Каляды? Гаварыце зразумела.

Янка: Дзень народзінаў адзначаў 24 снежня. Нацыянальнасць — беларус.

Суд: У суда ёсць звесткі, што Вы называлі сябе палякам.

Янка: У дзяцінстве ў Заходняй Беларусі нас выхоўвалі ў школе як палякаў. Я любіў кнігі Сянкевіча, Адама Міцкевіча… Нашыя людзі ад страты сваёй незалежнасці гадаваліся без сваёй школы або на чужых сметніках. Добра шчэ і так, што захавалі многа рысаў характару. Усё гэта будзе залечвацца гадамі.

Суд: Азнаёмцеся з пастановай на Ваш арышт і прад'яўленымі Вам абвінавачаннямі: Філістовіч Іван Андрэевіч у перыяд Вялікай Айчыннай вайны супраць гітлераўскай Нямеччыны састаяў на службе ў фашысцкіх карных органах і разам з імі ўцёк за мяжу. Пражываючы за мяжой у 1945-51 гадах прымаў актыўны ўдзел у рабоце антысавецкіх нацыяналістычных арганізацыяў беларускіх эмігрантаў, якія знаходзяцца на службе замежных разведорганаў, і займаў у іх кіруючае становішча, з'яўляючыся сябрам так званай Рады «Беларускай Народнай Рэспублікі». Тамсама, за мяжой, амерыканскай разведкай быў прыцягнуты да супрацоўніцтва і ў 1951 годзе як шпіён і паўнамоцны прадстаўнік «Урада» БНР быў закінуты ў Савецкі Саюз для шпіянажу, дыверсіяў і нацыяналістычнай дзейнасці. Выконваючы заданні, збіраў і перадаваў за мяжу шпіёнскія звесткі, арганізоўваў дыверсійныя акты і праводзіў актыўную работу па стварэнню беларускага нацыяналістычнага падполля.

Паводле пастановы намесніка начальніка 2-й управы МГБ БССР падпалкоўніка дзяржбяспекі Сапелкіна і санкцыі ваеннага пракурора вой-

скаў МУС палкоўніка юстыцыі Арціменкава, зацверджанай намеснікам міністра дзяржбяспекі БССР Зіліным у 18:35 11 верасня 1952 года, грамадзянін Філістовіч быў затрыманы, абшуканы і арыштаваны.

Вам прад'явілі, падсудны Філістовіч, гэтыя абвінавачанні, ці не так?

Янка: Мне быў прад'яўлены ордэр на арышт і вобыск 11 верасня. Назаўтра была абвешчана пастанова аб абранні меры стрымання — знаходжанне пад вартай, у Мінскай турме КГБ. Я падпісаў яе 12 верасня.

Суд: Зачытаем славесны партрэт. Рост: высокі. Фігура: поўная, сярэдняя. Плечы: гарызантальныя. Шыя: доўгая. Колер валасоў: цёмна-русы. Колер вачэй: шэры. Твар: круглы. Лоб: высокі, прамы. Бровы: дугападобныя, шырокія. Нос: малы, спінка носу — прамая. Рот: малы. Вусны: малыя. Асаблівыя прыкметы: не мае.

Падсудны, раскажыце пра склад Вашай сям'і.

Янка: Бацька Філістовіч Андрэй Гаўрылавіч, каля 60 гадоў. Маці Соф'я Восіпаўна, 1900 года нараджэння. Брат Аляксандр 1937 года нараджэння, сёстры Вера 1924 года, Алена 1928 года, Ганна 1938 года, Казіміра — гадоў 16. Цяпер жывуць за мяжой.

Суд: Ваш бацька быў арыштаваны савецкай уладай. Што можаце паказаць у гэтай справе?*

Янка: Калі прыйшлі Саветы, дык неўзабаве пачалі арганізоўваць калгасы. На двары было два кані, восем кароў і цёлачак. У сям'і было шэсць дзяцей — старэйшай, Веры, 15, малодшаму, Алесю — 2 гады. У 1939-м бацьку арыштавалі як кулака і пасадзілі ў Вілейскую турму. Ад Сібіры ці

---

* З успамінаў малодшай сястры Я.Ф. Серафімы Філістовіч (Каладзейчы): «Калі немцы наступалі, дык усіх вязняў сабралі і вялі пад Мінск, на Хаценчыцы гналі. Па дарозе, хто не мог ісці, тых расстрэльвалі. Бацька мой адзіны толькі ў жывых застаўся з ягонага канвою, ён нават сам не зразумеў, як гэта сталася.

Недзе пад Хаценчыцамі пралящеў нямецкі самалёт, абстраляў іх. Але калі лётчык пабачыў, што людзей вядуць пад канвоем, дык адляцеў. Тады расійскія энкавэдысты між сабою параіліся, загналі зняволеных у лес, на паляну, акружылі і пачалі расстрэльваць. Бацька не памятае, як апынуўся на зямлі і страціў прытомнасць. Калі ачуняў, пачуў галасы, людзі хадзілі на паляне. А потым адчуў, што яму лёгка пачуваецца, ён адкрыў вочы, пачуў, як пяюць жаваранкі, неба блакітнае, сонейка свеціць. І першае, што яму падумалася, што ён ужо на тым свеце, у раі. Потым убачыў, як над ім нехта нахіліўся. Гэта былі мясцовыя калгаснікі, якім, відаць, загадалі прыбраць расстраляных.

Нехта сказаў: «А гэты жыве», людзі пашапталіся між сабою і пайшлі. А бацька быў вельмі слабы, неяк перавярнуўся на жывот і папоўз у лес. Людзі потым яго перахавалі, быў надта слабы, не мог ісці, быў згаладнелы, страшны. Мы нават яго не пазналі, калі вярнуўся. Прывезлі яго ў Іллю да цёткі, мамінай сястры, і адтуль яна нам бацьку прывезла».

Радыё Свабода, інтэрвію Ганне Сурмач 27.12.2005

http://www.svaboda.org/content/transcript/803821.html

Котласа, дзе гібела беларускае сялянства, яго выратавала вайна. У 1941 годзе ён вярнуўся дахаты. Падчас вайны загадваў млыном.

Суд: Падсудны, раскажыце пра Вашу службу нямецка-фашысцкім захопнікам.

Янка: Я служыў Беларусі... Пасля пачатку вайны працягваў хадзіць у школу. Калі мінула 16 гадоў, узнікла пагроза адпраўкі ў Нямеччыну на прымусовыя работы.

Каб пазбегнуць высылкі, з пачатку 1943-га з дапамогай сваякоў уладкаваўся прыёмшчыкам малака ў Іллі, потым, як пісьменны, пару месяцаў працаваў пісарчуком Альковіцкай гміны. Увосень 43-га быў мабілізаваны на службу ў 13-ы беларускі батальён, размешчаны ў Вілейцы. Да сакавіка 1944 года салдаты займаліся вайсковай падрыхтоўкай, затым батальён перавялі ў Мінск, дзе ён знаходзіўся да чэрвеня.

Суд: Ці ўдзельнічалі Вы асабіста ў карных аперацыях супраць партызан і мірнага насельніцтва?

Янка: Не, не ўдзельнічаў. Я не баяўся ні Асобага аддзела, ні контрразведкі, ні НКВД, не кажучы ўжо пра гестапа. Голаму разбой не страшны. У Вілейцы ў батальёне займаліся вучобай, а ў Мінску батальён выконваў розныя заданні, у іх ліку і па канвою габрэяў з гета ў шталаг 32, вядомы лагер смерці ў ваколіцах Мінска. Дакументальныя сведчанні аб маім удзеле ў ваенных аперацыях, якія былі прад'яўленыя мне падчас следства, тычацца не мяне. У батальёне служыў яшчэ адзін Іван Філістовіч, шмат старэйшы.

Суд: Аднак сам факт службы ў так званым Беларускім батальёне СД Вы адмаўляць не можаце. Дзе праходзіла Ваша служба далей?

Янка: Улетку 1944-га батальён рухаўся на Захад: Прусія, затым Польшча, Катавіцы, Італія — Ундзіна, Трыест, Порт-Розэ на беразе Адрыятыкі, паўвостраў Істрыя. У студзені 1945-га перакінулі ў Чэхію, у горад Усці-на-Орліцы. Там улады даведаліся пра змову часткі беларусаў перайсці да чэшскіх партызанаў. Мяне арыштавалі немцы і пасадзілі ў турму ў Пардубіцах — чакаць суда. Ад расстрэлу выратавала тое, што 8 траўня 1945 года немцы ўцяклі з Пардубіц.

Нас выпусцілі з турмы, трэба было неяк жыць. Дзякуючы веданню польскай мовы я ўладкаваўся сакратаром гміны ў мястэчку Старая Камяніца, што недалёка ад чэшска-польскай мяжы. Аднак у верасні вярнуўся ў Чэхію, кастрычнік сустракаў у зоне амерыканскай акупацыі Нямеччыны, у польскім лагеры пад Нюрнбергам. Тут працягваў вучобу, нават паступіў у польскую духоўную семінарыю.

Суд: Падсудны, якое Ваша стаўленне да рэлігіі?

Янка: Я праваслаўны. Але калі б магаматанізм дапамог у будове Беларусі, я б нічога супраць не меў. Нашыя продкі былі паганамі, але, напэўна, былі за нас шчаслівейшыя. Таму нічога не зашкодзіла б нам узнавіць паганства. Але калі ёсць магчымасць выкарыстаць Рым — карыстай. Таму што гэта трэцяя сіла ў свеце, калі б мы пайшлі супраць яе, значыць, рабілі б сабе яшчэ большыя перашкоды. Нам добра вядома: як поп-расеец, так і ксёндз-паляк праводзілі варожую акцыю ў Беларусі, якая нічога супольнага не мае з душпастырствам.

Кожнаму сапраўднаму нацыянальна свядомаму беларусу веравызнанне не павінна ўваходзіць у рахубу ў такой справе, як будучыня ўсёй нашай краіны. Таму хто б ён не быў, праваслаўны, каталік ці паганін, калі ён беларус — мусіць ім застацца. Вера ў нас мусіць быць беларуская і для славы і дабра Беларусі, а не для аслаблення Бацькаўшчыны рознымі арыентацыямі. Гэта ўсё залежыць ад нашых святароў, якіх абавязкам перад Бацькаўшчынай і Богам будзе прышчапіць гэтую праўду Божую здарова з пункту гледжання Беларуса, а не нашых ворагаў.

Калі мы будзем мець сваіх святароў — людзей, у якіх пераліваецца Крывіцкая кроў — будзе зусім іначай. Тады ў нас будзе вера беларуская.

Суд: Вы хацелі стаць святаром, нават вучыліся ў духоўнай семінарыі. Чаму не скончылі вучобу?

Янка: Таму што я добра ўсведамляю ўсю адказнасць і надзею ў гэтай галіне. Навука і духавенства могуць падняць ці скінуць у бездань Беларусь. Але не маю да святарства пакліканння і таму пакінуў гэтую справу. Дзе б я не быў, але калі над бел-чырвона-белымі штандарамі паветра прарэжа гук трубы, вочы мае заіскрацца ад радасці і тады, напэўна, скінуў бы сутану. Таму не схацеў яе адзяваць, ці лепш сказаць, я недастойны яе адзяваць.

Кожную справу чалавек выканае ўмела і з ахвотаю тады, калі ён яе любіць, мае пацяг. А я люблю толькі войска — не ведаю чаму, мо хутка прыйдзецца загінуць, а мо прыйдзецца паказаць, што ваяцкі дух калісьці так слаўных нашых продкаў абудзіўся ў нас! А калі і прыйдзецца загінуць — нічуць не пашкадую, ведаючы добра, што на крыві расце будучыня братоў.

Суд: Падсудны Філістовіч, раскажыце, як Вы трапілі ў логава беларускай эміграцыі ў Парыжы? З кім уступілі ў сувязь?

Янка: Людзі ехалі, і я з імі. Знайшоў прытулак у доме восем на вуліцы Гамбэта, дзе жылі разам беларускія хлопцы Сыс, Каранеўскі, Хоміч, Жаўняровіч, Лысуха, Наўмовіч, Спічонак, Монід, Казлоўскі. У кожнага быў свой шлях у Парыж.

Мне вельмі падабаўся Міхась Наўмовіч, ён быў маім найлепшым сябрам. Нават раней, калі жылі паасобку, дык сустракаліся кожны чацвер, калі з'язджаліся на спорт, штонядзелю ў царкве, а таксама на зборах. Ён браў памысны ўдзел у беларускіх арганізацыях, уваходзіў у кіруючыя органы Задзіночання Беларускіх Работнікаў, потым стаў членам Рады БНР.

Суд: Раскажыце падрабязней, што Вам яшчэ ведама пра гэтага дзеяча рэакцыйнай эміграцыі? Агентам якой разведкі ён з'яўляецца?

Янка: Аб сувязях Наўмовіча з замежнай разведкай мне нічога не вядома. Ведаю, што паходзіць Міхась з Гарадзеншчыны, там заспела яго вайна. Быў мабілізаваны нямецкімі ўладамі, уключаны ў склад аднаго з беларускіх фармаванняў. У 1944-м яго падраздзяленне перакінулі ў Францыю, на фронт супраць англа-амерыканскіх войскаў. Там Наўмовіч разам з групай беларусаў уцёк да французскіх партызан, макі. Пасля ўдзелу ў французскім руху Супраціву яго мабілізавалі ў польскую армію Андэрса. Ангельцы перакінулі другі корпус, дзе служыў Наўмовіч, у Італію, дзе андэрсаўцы ваявалі супраць арміі генерала, а потым маршала Кісерлінга. Заслугі Міхася Наўмовіча былі адзначаныя баявымі медалямі. Яшчэ з Італіі Наўмовіч падтрымліваў сувязь з беларускімі эмігрантамі ў Парыжы. Пасля заканчэння баявых дзеянняў на Апенінах ён дэмабілізаваўся і паехаў у сталіцу Францыі. Паступіў на вучобу ў школу выяўленчага мастацтва, бо меў здольнасць і схільнасць. Спачатку жыў у мяне ў гатэлі, потым зняў асобную кватэру, пасля перабраўся ў беларускі дом на вуліцы Гамбэта.

Суд: На якія сродкі Вы існавалі і вялі антысавецкую дзейнасць у Парыжы?

Янка: У студзені 1947-га Задзіночанне Беларускіх Работнікаў звярнулася з хадайніцтвам да Амерыканскага Хрысціянскага Камітэта ў справах уцекачоў з просьбай прыняць мяне на курсы электраманцёраў. Там мне выплочвалі стыпендыю, сціплую, але пражыць можна. Вучыўся рамяству і адначасна рыхтаваўся да экзаменаў ва Украінскай Акадэміі — лічылася, што ўкраінскі атэстат даваў магчымасць працягнуць вучобу ва ўніверсітэце. Уставаў а 5.45 раніцы, амаль гадзіну ехаў на працу, дзе знаходзіўся 9 гадзінаў, пасля гадзіна назад. Сам сабе гатаваў вячэру і так

мінаў мне ўвесь тыдзень. Да таго ж паступіў на слесарскі курс, вучоба ішла як найлепш, я ёй вельмі цікавіўся, больш як электратэхнікай. У нядзелю з рана ў царкву, бібліятэку — сюды-туды, ужо і вечар. Здаў экзамены за першы курс: крэсленне — 13 балаў, пасрэдна, электратэхніка і тэхналогія — 17, выдатна, праца практычная — 17, выдатна, і запісаўся на другі курс. Важыў 76-78 кілаграмаў, а стаў 68. Я крыху зашмат занядбоўваў сябе, але гэта не шкодзіць у працы, дзе вымагаецца менш памятаць аб сабе, іначай цяжка зрабіць дзве рэчы разам.

Суд: Падсудны Філістовіч, раскажыце, хто арганізаваў Вашу нацыяналістычную падрыхтоўку, як вёўся інструктаж?

Янка: Адно, што выкарыстоўваў з усіх сіл — гэта пару гадзін язды, якія «эксплуатаваў» з усіх сіл чытаннем. Я б асабіста нічога не меў супраць шчэ даўжэйшай язды. Прачытаў больш за 200 кніг, такіх як «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» ды іншыя. Гэта мне дало шмат патрэбнага багажу на будучыню. Карыстаўся бібліятэкай Хаўрусу Беларусаў Францыі, беларускай бібліятэкай імя Янкі Купалы, якая месцілася на плошчы Манталон, 9, у адным памяшканні з Задзіночаннем Беларускіх Работнікаў у Францыі, а таксама бібліятэкай спадара інжынера Абрамчыка, кнігі з яе прачытваў адным духам. Мая собская бібліятэка была маленькая, налічвала больш за 100 кніжак, якія мазольна збіраў па ўсім Парыжы і нават Францыі. Шмат з іх каштоўныя, адна — польская гісторыя 1911 года выдання, дзе на вокладцы супольна з арлом выступае Пагоня. Падход у ёй лепшы, чым у іншых польскіх шавіністычных дурных кнігах. Меў тако ж вельмі каштоўны стары атлас з падзелам Еўропы ў розных стагоддзях, дзе азначаюцца граніцы Вялікага Княства Літоўскага (Беларускага), а побач азначана Жмудзь, якая як складовая частка ўваходзіла ў ВКЛБ. Гэта разбівае ўсякія варожыя дэмагогіі адносна тэрміналогіі слова Літва ў паняцці і пераблытванні яе з сённяшняй Летувай-Жмуддзю.

Суд: У якіх арганізаваных акцыях беларускіх буржуазных нацыяналістаў у Парыжы Вы ўдзельнічалі?

Янка: 24 лістапада 1946 года ў Парыжы адбылася падзея, вельмі важная ў беларускім вызвольным руху — айцец Леў Гарошка адслужыў тут першую імшу па-беларуску. Няшмат было прысутных, таму што не кожны змог прыйсці, але па тварах прысутных можна было пазнаць, як скуплена кожны лавіў тыя словы, у якіх айцец маляваў нашу мінуўшчыну з сучаснасцю і будучыняй. І многа ў каго паказаліся на вачах слёзы. На Каляды рыхтавалі газеты «Беларускія навіны», ладзілі су-

польную вячэру. Сярод запрошаных быў і беларускі генерал (яго продкі паходзілі з Беларусі), які ў 20-я гады прымаў чынны ўдзел у змаганні з Маскоўшчынай. У сваёй прамове на Куццю генерал вельмі яскрава акрэсліў наша становішча і, дадаючы духоўнай падтрымкі прысутным, сказаў: «Беларускі народ, маючы такую слаўную мінуўшчыну, мае поўныя правы на існаванне, і ў хуткім часе беларусы самі гэта пакажуць свету». На заканчэнне прамовы генерал падняў сваю чарку за будучыню Беларусі з клічам: «Жыве Беларусь!». На што ў адказ з паўсотні грудзей вырваўся як гром кліч: «Жыве!».

Суд: Падсудны Філістовіч, Вам забараняецца весці буржуазную фашыстоўскую прапаганду ў савецкім судзе. Працягвайце паказанні. Хто яшчэ выступаў на антысавецкім сходзе?

Янка: На вечарыне выступалі таксама спадар інжынер Абрамчык, айцец Леў Гарошка, пасля была пастаноўка паводле Янкі Купалы «На Куццю». Казалі, што вельмі ўдала выйшла. Я быў князем. Калі выходзіць князь з князёўнай на сцяну замка, ён кажа:

***Не ўмруць, не ўмруць ужо яны,***
***Раз хочуць сонца, славы, песні.***
***Заб'юць ім зычныя званы,***
***Прабудным звонам на прадвесні!***

***Сваёй забранай старане***
***Скаванай мучаніцы-княжне***
***Ўзнясуць пасад на кургане***
***На панаванне недасяжне!***

Пасля спадар Жаўняровіч, дарэчы, ён вучыўся ў Віленскай кансерваторыі, спяваў нашыя песні: «Ляцелі гусі», «Салавейка» ды іншыя. Потым кожны з сяброў атрымаў падарункі ад Святога Мікалая, шмат было гумару, вечар выйшаў вясёлы.

Суд: Падсудны Філістовіч, успомніце, якія яшчэ антысавецкія размовы вяліся на пераднавагоднім сходзе нацыяналістычнай групоўкі ў Парыжы?

Янка: Кожны з сяброў мімаволі думкамі зазірнуў у не вельмі радасную мінуўшчыну, а таксама будучыню. Не для ўсіх беларусаў гэты дзень уродзінаў Хрыста быў радасны. Не адзін з нашых дарагіх братоў праводзіў яго пад голым небам, у недахопе вопраткі і ежы, сваіх родных і волі.

Таму што волю — найдаражэйшае ў жыцці — ганебна топчуць у роднай краіне боты служакоў бальшавіцкай Масквы.

Суд: Падсудны, Вы будзеце пазбаўлены слова.

Янка: Я быў бы шчаслівы быць пад голым — але ў Родным Краі небам, прымаць удзел у рашучым пратэсце супраць наезнікаў на наш Край і Волю. Думаў, што гэтая аказія яшчэ мне падарыцца, а тады шчаслівы будзе той дзень, у які мая нага ступіць на Родную Зямельку, у абарону якой аддам усе сілы. Чаго вельмі жадаў у той вечар — як найхутчэй звярнуцца на Бацькаўшчыну, вольную, суверэнную. Але добра ведаў, што шчэ многа будзем мець працы, каб справіцца з ворагамі, якіх у нас не збывае. Але гэта ўсё асягнецца. Разыходзіцца толькі ў падрыхтоўцы да гэтага беларусаў — усіх — бо ў еднасці сіла. Тыя, хто распачынаў нашу справу ў часы «Нашай Нівы», напэўна, добра ведалі, што не дачакаюць ураджаю са сваёй працы. Аднак думалі аб тым, што закладаюць падмурак для будучыні Беларусі. Таму нам тым больш не патрэбна падаць духам, а прадаўжаць абавязак, ускладзены на нас старэйшымі змагарамі.

Суд: Суду вядома, што беларускія буржуазныя нацыяналісты асабліва гучна адзначаюць так званы дзень 25 сакавіка так званай БНР. Раскажыце, як гэта рабілася ў Парыжы ў 1947 годзе.

Янка: А другой гадзіне папалудні айцец Чэслаў Сіповіч адслужыў імшу, пасля асвяціў нашыя сцягі і герб — Пагоню, выкананую мастаком Жаўняровічам. Потым усе сабраліся ў залі, і ўрачыстасць адкрыў спадар інжынер Рыдлеўскі, генеральны сакратар Задзіночання Беларускіх Работнікаў Францыі. З дакладам аб Дні 25 Сакавіка выступіў інжынер Абрамчык. Ён зрабіў вялікае ўражанне, у прыяцеляў нашых выклікаў радасць і буру воплескаў, ворагам раскрыў вочы пакінуць усякія мары, таму пэўна не аднаму праходзіў мароз па скуры ад шчырых разумных словаў спадара Абрамчыка. Пасля спадар Паўловіч дэкламаваў Купалаў верш «На сход», спявалі беларускую партызанскую песню «У гушчарах». Я таксама дэкламаваў верш Купалы «Паўстань», спадар Жаўняровіч прачытаў верш Максіма Танка «Мы не памром», спявалі песні, чыталі вершы, а на заканчэнне прагучаў гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». На гэтым акадэмія закончылася.

Усё было скромна, але культурна, прыгожа. У нашых абставінах мы не маглі зрабіць нешта вялікае. Але, робячы гэта маленькае, мы зрабілі вялікую агульную справу, знаёмячы чужынцаў з песнямі, вершамі. Прысутных было больш за 100 чалавек, палякі, французы, украінцы, сербы, харваты, мадзяры — гэта была найкультурнейшая публіка з усіх

народаў у Парыжы. Можна было заўважыць, хто гэтаму радуецца ад усёй душы, а хто не, у каго трасуцца рукі, асабліва гэта было бачна пры развітанні. Нашыя ворагі рахавалі нас за польскіх падданых, нашыя суседзі ўкраінцы і балты былі захопленыя і задаволеныя.

Суд: На якія сродкі ажыццяўлялася дзейнасць нацыяналістычных арганізацыяў і іх кіраўнікоў?

Янка: Гэтае пытанне надта балючае, бо, бачачы абставіны жыцця нашых двух кіраўнікоў, спадароў інжынераў Абрамчыка і Рыдлеўскага, недарэчна пытацца, з чаго яны жывуць, бо само жыццё паказвае. Іх жыццё не завіднае. І гэта ацэніць беларускі народ толькі па часе. Той герой, хто можа ахвяраваць сваё жыццё ў некалькі хвілінаў, але той некалькі разоў герой, хто ахвяроўвае іншым і Бацькаўшчыне ўсё сваё жыццё. Спадар Абрамчык для мяне спадарожны ўказальнік на ўсё жыццё як чалавек моцнай і непахіснай волі і поўны энергіі.

Суд: Падсудны Філістовіч, якую спецпадрыхтоўку і дзеля якіх мэтаў Вы атрымалі ў Сарбонскім універсітэце?

Янка: У лютым 1948 года я пачаў вывучаць гісторыю ў Сарбоне. Нялёгка было брацца, не ведаючы мовы, але верыў у свае сілы. Сам сабе пастанавіў, што калі Бог прадоўжыць наша выгнанне, буду вучыцца, бо толькі ў гэтым бачу жыццё і паратунак. Мяне страшэнна цешыла, што змагу вучыцца на Чужыне, каб безгранічна аддацца Бацькаўшчыне. З раніцы ці пасля абеду хадзіў на лекцыі, а ад 7 да 9 раніцы працаваў у сацыяльнай бібліятэцы, рыхтаваў пачкі кніжак для рассылкі студэнтам па ўсёй Францыі. Работа гультайская. Увечары ад паловы восьмай да паловы дзясятай меў курс французскай мовы ў школе. Методыка навучання выдатная, спадзяваўся, што праз паўгода буду добра знаць пафранцузску. Але тады гэта тармазіла. Думаў, калі не здам экзамены ў чэрвені, дык толькі з-за мовы. Калі б не мова, дык узяў бы яшчэ адзін прадмет, геаграфію ці права, бо гісторыя як прадмет мне лёгка давалася.

Суд: Падсудны Філістовіч, паводле звестак, у беларускім нацыянальным асяродку Вас называлі Напалеонам. Што можаце паказаць па факту гэтай канспіратыўнай мянушкі?

Янка: Напалеон быў сонцам... Я яго люблю за тое, што ў ім бачу найбольш яскравы прыклад любові да Бацькаўшчыны, волі, гарту, пастановы моцнага духу, стратэга, генія — адным словам, усе тыя рысы, якія ён меў і якія патрэбныя добраму жаўнеру — змагару за волю Радзімы і народа. Кожны ўспамін яго вялікага імя асвяжае мае сілу і веру. Сябры

ўспаміналі мае заганы, «нетактоўнасці, гвалтоўнасці характару, парыўчатасць»... Я раіў у адказ пачытаць кнігу аб Напалеоне. Стаячая вада смярдзіць. Я гаварыў, што калі буду прымаць удзел у камандаванні нашымі вайсковымі фармаваннямі, да чаго я маю прыродны талент, дар Божы, якога не заменіць ніякая Акадэмія, дык несумленныя, ненармальныя людзі ад руля, якім будзе кіравацца наша дзяржава, падлятуць, як карашкі з бутэлькі закрытага хмелю. Не трэба думаць, што я хацеў ісці слядамі Цэзара, Напалеона ды іншых. Але ў змаганні за Народную вечна жывую ідэю, калі б мне Бог даў дасягнуць іх магутнасці, усю ўладу аддаў бы ў рукі народныя, чаго не хапала адвагі зрабіць успомненым вялікім людзям. Ды яны і не бачылі людзей, хто б змог іх заступіць. Ці Напалеон зрабіў менш для гісторыі, для несмяротнасці, будучы на востраве Святой Алены, чым кіруючы разбэшчанымі графамі, князямі, якія яго прадалі, як Хрыста Юда?

Суд: Таму і пра Вас казалі, што Вы рвецеся да ўлады.

Янка: Той, хто гэта разумее, ніколі не будзе імкнуцца да ўлады, каб кіраваць, быць наверсе. Гэта для вялікіх людзей нізка і амаральна. Яны маюць місію ад вышэйшай сілы, прыроды, зрабіць тое, што не могуць зрабіць іншыя. Бо адчуваюць у сабе такую сілу, і не выкарыстаць яе для дабра — для іх таксама злачынства. Напалеон, будучы толькі капітанам артылерыі, не маючы доступу да вярхоўнага кіраўніцтва, склаў план ваенных дзеянняў для перамогі над Аўстрыяй. Генералы сказалі, што аўтар гэтага плана шалёны чалавек. Вялі вайну па-свойму і даставалі ў хвост і ў грыву. Праз пару гадоў з той голай і галоднай арміяй Напалеон дайшоў да Вены. Абмежаваныя людзі не маюць межаў у зайздрасці, здрадзе, і, капаючы яму яму, думалі закапаць яго. Аднак выслаўшы яго на выгнанне, яны нічога не змаглі зрабіць ні для народа, ні для гісторыі. А ён зрабіў усё, што было патрэбна. Ягоныя словы «Напалеон усюды шчаслівы» — чыстая праўда. Да шчасця душы неабавязковая выгада целу. Душы, якую меў Напалеон, узяць не можна. Самому трэба яе атрымаць.

Суд: Падсудны Філістовіч, раскажыце пра выданне буржуазнага нацыяналістычнага часопіса «Моладзь». Якая прычына яго з'яўлення? Хто фінансаваў выданне? Хто даў асобнае памяшканне?

Янка: Першапачатковы адрас рэдакцыі — плошча Манталон, 9, такі самы як і Задзіночання Беларускіх Работнікаў і бібліятэкі імя Янкі Купалы. Потым адрас памяняўся на вуліцу Парк Шэвірон у Сеўры, дзе адначасова была і наша друкарня. Самы першы нумар часопіса з «Па-

гоняй» на тытульным лісце быў выдадзены гектаграфічным спосабам, беларускай лацінкай, у ліпені 1948 г. Мо крыху і пазнавата. Самі гэта разумелі, але перашкаджала тое, што не хапала сродкаў. У Парыжы мелі шмат важных агульнанацыянальных справаў, перад якімі часопіс мусіў адысці на задні план. Апроч таго, да нядаўняга часу наогул было шмат беларускіх часопісаў, нядрэнных што да зместу і формы. Аднак шмат якія з іх звярнулі з папярэдняга шляху служэння нацыі і перайшлі на службу замежжа. І загэтым мы пастанавілі яшчэ больш патрэсці кішэні сваіх суродзічаў у Парыжы і часопіс усё ж такі выдаць.

Таксама апошнім часам у Францыю пад'ехала крыху нашых суродзічаў з іншых краінаў. Часта, не разумеючы па-французску, цэлымі тыднямі не мелі да каго вуснаў адчыніць, хіба толькі да каня, з якім працуюць, але і гэта ў чужой мове. У такіх абставінах жыццё чалавека робіцца страшэнна шэрым і немагчымым амаль да ператрывання. Вось наш часопіс і меўся быць тою другой асобай, з якою нашы новапрыбылыя беларусы маглі гутарыць.

Суд: Якія канкрэтна антысавецкія мэты апрацоўкі эмігрантаў з ліку моладзі ставіла перад сабой рэдакцыя?

Янка: Меркавалася, што з нашага часопіса яны даведаюцца, як жыве моладзь у цэнтры, да чаго імкнецца, аб чым думае. А калі чаго і не даведаецца, дык будзе мець прыяцеля, да якога можна напісаць і запытацца аб тым, што хацелася б ведаць. Не адзін з чытачоў захацеў бы сам напісаць што-небудзь пра сваё жыццё ці пра свае думкі, якія, пэўна, атакуюць яго бедную самотную галаву ці то ў пару працы, ці ў пару адпачынку, або часам гоняць сон з вачэй уначы. Хай ніхто не стыдаецца, пісалі мы ад выдавецтва, што яго рука болей прывыкла да касы ці плуга, чымся да пяра. Хай піша смела, не стыдаецца і таго, што мо не меў часу на ўніверсітэт ці гімназію і плаўна не навучыўся пісаць. Гэта не яго віна, гэта доля наша была паганая.

Суд: Падсудны Філістовіч, сфармулюйце дакладна ідэалагічную мэту вашага антысавецкага выдання.

Янка: Наша ідэалагічная мэта — гэта бараніць чыстыя, гарачыя, уласцівыя беларускай моладзі пачуцці кахання Бацькаўшчыны. Мы ставілі мэтай захаваць у сэрцах нашай моладзі каштоўныя, не сапсутыя чужацкімі ўплывамі элементы, дапамагаючы ёй адшукаць у сабе сілы, загартавацца і пасвяціць сябе роднаму краю. Мы стараліся раскіданай па свеце беларускай моладзі быць шчырымі братамі, падтрымоўваючы дух і паказваючы, што, страціўшы Бацькаўшчыну, але захаваўшы веру

ў будучыню, трэба смела глядзець уперад, ведаючы, што праўда пераможа.

Няхай сабе прыгнечаныя векам і здэмаралізаваныя чужакамі ганяць наш народ, няхай топчуць наш непаплямёны бел-чырвона-белы штандар, як гэта мела месца ў Міхельсдорфе, няхай сабе зневажаюць нашу слаўную мінуўшчыну, няхай прадаюць свае пасіўныя галовы і сумленне за аб'едкі са сталоў чужынцаў! — Але! Няхай не забываюцца, што ёсць яшчэ моладзь, у грудзёх якой гарыць агонь шчырага кахання Бога, Праўды і Роднага Краю, моладзь, якая сурова асудзіць тых, хто, зышоўшы ў бездарожжа, усякімі спосабамі стараецца сцягнуць і іншых.

С у д: Раскажыце, што Вам вядома пра падзеі ў беларускім лагеры для перамешчаных асобаў у Міхельсдорфе. Хто сарваў антысавецкую правакацыю з нацыяналістычным сцягам?

Я н к а: Некалькі тысячаў беларусаў, якія жылі ў лагеры Міхельсдорф, мелі сваю школу, сваю скаўцкую арганізацыю, сваю Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Яна ўтварылася падчас вайны, але ў канцы 1947 года пастанавіла далучыцца да Расейскай праваслаўнай замежнай царквы. Тым часам у лагеры адбыўся падзел на крывічоў, якія лічылі сябе за сапраўдных патрыётаў, і тых, хто менш укладаў сілаў на нацыянальную справу. Аднойчы скаўты з бел-чырвона-белым сцягам з надпісам «Крывія» на ім прыйшлі на богаслужэнне. Так было і раней, гэта было зусім нармальна. Аднак царкоўны стараста і людзі з царкоўнага гуртка вырвалі сцяг і спрабавалі патаптаць яго...

Думаю, што не знойдзецца сярод беларусаў ніводнага сведамага, які б пад гэтымі подлымі подступамі не бачыў працы варожай і шкоднай рукі, якая гідка адводзіць наш зрок у бок ад нашай мэты, на дробныя, няважныя і неактуальныя для нас справы. Адкінуўшы ўсе косткі і постаці крывічоў ці нацдэмаў, пісаў я ў часопісе, возьмемся за актуальную працу і справу, справу першай вагі, для якой мы пакінулі родны край, а праз гэта ўсё найдаражэйшае ў жыцці чалавека. Хай жа ўсемагутная сіла дапаможа нашым братам высцерагацца Каінавай ролі, як нясведамай, так і сведамай, а калі гэтаму будзе месца, што ўжо назіраецца, дык няхай жа беларускі народ не сэрцам, а розумам, як дбайны лекар, парадзіць гэтай гангрэне ў пачатковай стадыі, калі яна не паспела заразіць здаровае цела, калі яна прадстаўляе сабой найменш небяспекі.

С у д: Падсудны Філістовіч, да якой часткі беларускай эміграцыі Вы і Вашыя саўдзельнікі адносіце сябе?

Янка: Пра гэта я пісаў у нашым часопісе «Моладзь». Мы смела і з гонарам дэкларуем сваю прыналежнасць да адзінага сапраўднага беларускага лагеру БНР, аддаючыся без засцярогі пад загад яе прэзідэнта, які горда нясе непаплямёны сваімі папярэднікамі, а цяпер пакутнікамі Беларускага народа бел-чырвона-белы штандар.

Мы, беларуская моладзь у Францыі, гаварылася далей у часопісе, дэкларуем аддаць усе свае сілы, а калі зайдзе патрэба, і жыццё, каб жыла Беларусь, і каб прызнаны ўсімі паняволенымі і вольнымі народамі наш Бел-чырвона-белы штандар з БНР на чале горда шыбаў у высі, бо гэты штандар, абліты крывёю мільёнаў лепшых сыноў і дачок нашага народа, даражэйшы нам за ўсё на свеце; ён нам уручаны ў спадчыну.

Суд: Ці займалі Вы якія-небудзь пасады ў так званым урадзе так званай БНР?

Янка: Наша заданне, заданне палітычна сведамай беларускай эміграцыі, не палягала на выдаванні прэзідэнцкіх і міністэрскіх пасадаў, гэта справа Беларускага Народа ў Вольнай Беларусі. Мы, будучы ў выгнанні, маем тое, чаго не мае ні адзін наш брат у паняволенай Бацькаўшчыне — вольны голас! Праз гэты голас мы з'яўляемся беларускай амбасадай забранага краю.

Наша справа нялёгкая таму, што мы, беларуская моладзь, упершыню сустракаемся з Захадам і на кожным кроку мусім абвяшчаць чужынцам нашу мэту, разбіваючы хлуслівую ману і «тэорыі» нашых адвечных ворагаў, жадаючых давесці, што Беларусь — гэта «истинно русская земля» альбо «крэсы». Не нянавісць і здрада — наша зброя, а чыстасардэчнасць і сапраўднае каханне нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны.

Суд: Суду вядома, што Вам асабіста належаць антысавецкія публікацыі, падпісаныя «Я.Ф.», у якіх з ілжывых нацыяналістычных пазіцыяў паказваюцца Янка Купала, Іван Луцкевіч, Дунін-Марцінкевіч, Алаіза Пашкевіч, Андрэй Зязюля (сапраўднае прозвішча — ксёндз Аляксандр Астрамовіч), так званае Слуцкае паўстанне, ды многае іншае. У чым яшчэ, апроч напісання артыкулаў для «Моладзі», палягалі Вашы так званыя «творчыя» заняткі?

Янка: Я прасіў Аляксандра Лашука дастаць мне польскія вайсковыя падручнікі, афіцэрскі і унтэрафіцэрскі. Думаў узяцца за складанне адпаведных, патрэбных нашаму войску падручнікаў, якіх няма. Хацеў даць крытычны агляд і планы ўсіх вялікіх бітваў, ад бітвы пры Мараtone ў 490 годзе да нараджэння Хрыстова да нашых дзён. І вайсковы рэгламент, статут, інструкцыі. Словам, усё, чаго мы не маем і што пат-

рэбна на гвалт, пачынаючы ад узроўню камандзіра групы — 12 чалавек да камандзіра дывізіі — 15.000 чалавек. Ведаў, што гэта цяжкая і марудная праца, але неабходнасць яе змушала перасіліць усе цяжкасці. Гэта толькі пачатак таго, што гадамі будзе дасканаліцца.

Суд: Падсудны Філістовіч, раскажыце больш падрабязна, якое месца займала ўзброеная інтэрвенцыя ў планах нацыяналістаў?

Янка: Незалежнасць свайго народа нельга выпрасіць, не вытаргуюць яе і дыпламаты, яе можна здабыць толькі збройна. Дзейнік зброі ва ўсіх народаў свету з'яўляецца канчаткова вырашальным, пісаў старшыня Галоўнага ўрада Задзіночання Беларускіх Ветэранаў у Нямеччыне палкоўнік Кушаль у звароце да беларускай моладзі. Беларускі народ мае ў сваім характары вельмі карысныя жаўнерскія якасці. Аб гэтым сведчыць нашая мінуўшчына і гісторыя войнаў тых народаў, у арміях якіх былі прымушаныя служыць беларусы.

Суд: Вы маеце на ўвазе той факт, што з 87 Герояў Савецкага Саюза — удзельнікаў партызанскага руху ў Беларусі, 49 былі беларусамі?

Янка: Ці ведае шырокае беларускае грамадства аб тым, што ў жніўні 1920 года ў баёх пад Варшавай гэтак званая Літоўска-беларуская дывізія, 80 працэнтаў якой складалі беларусы, сваімі грудзьмі затрымала ў шмат разоў пераважаючую бальшавіцкую армію? Што г.зв. «Цуд над Віслай» стаўся дзякуючы ў вялікай меры надзвычайнай упорыстасці беларускага жаўнера, і што ў шматлікіх брацкіх магілах пад Варшавай тлеюць беларускія косткі? Ці ведае шырокае грамадства, што ў гераічных баёх пад Монтэ-Касіна бралі ўдзел тысячы беларускіх жаўнераў?

Як адзначае спадар Кушаль, беларускі вайсковы дух распачаўся пасля расейскай рэвалюцыі 1917 года, тады ж пачалася арганізацыя беларускага войска. Аднак з-за малой колькасці нацыянальна моцных беларускіх афіцэрскіх кадраў Беларуская Народная Рэспубліка ў крытычны момант не патрапіла абараніць сябе ад бальшавіцкай навалы. Нястача афіцэрскіх кадраў не дазволіла разгарнуць беларускае войска і ў часе польска-бальшавіцкай вайны ў 1919-20 гадах, а таксама, паводле сведчання палкоўніка Кушаля, не дазволіла адпаведна скарыстаць Беларускую Самаахову і Беларускую Краёвую Абарону ў 1942-44 гадах.

Суд: Падсудны Філістовіч, Вы разумелі, што, настойваючы на паскоранай узброенай падрыхтоўцы нацыяналістаў замежжа, Вы выконвалі загад імперыялістычных колаў Захаду на захоп СССР, як раней выконвалі загады нямецка-фашысцкіх захопнікаў?

Янка: Я шкадаваў, што не меў на 10 гадоў больш, я б стараўся прычыніцца да паляпшэння дабрабыту Бацькаўшчыны хоць бы збройна, хоць бы прыйшлося сто разоў уміраць за яе. А ў Парыжы мы самі не маглі ні паскорыць, ні затрымаць міжнародных падзеяў. У 1947 годзе я спрачаўся з сябрам, Аляксандрам Лашуком. Я ніколі не згаджаўся, што вайна магла не быць 15-20 гадоў. Мы жывем у атамнай эпосе, даводзіў я, і не за год-два чырвоная зараза знойдзе ці, найбольш магчыма, украдзе таямніцу атамнай бомбы, і тады крышка ўсякім перашкодам перад імі. Гэта добра знала амерыканцы і ангельцы, а таксама любы сярэдні чалавек, які сочыць за падзеямі.

Суд: Падсудны Філістовіч, Вы не можаце адмаўляць, што здаровая частка працоўнай эміграцыі не падзяляла гэтых правакацыйных поглядаў і займалася працай, трымаючыся ад падобных правадыроў.

Янка: Мы не на тое прыехалі на чужыну, каб заснаваць сабе другую Бацькаўшчыну ды заняцца выключна сваімі справамі. Будаванне свайго асабістага жыцця, тады як патрэбна будаваць Бацькаўшчыну, не толькі не можа мець месца, але калі б хто за яго прыняўся, супакою не знойдзе. Як жа можа мець шчасце той, хто адвяртаецца ад Роднай Маці, каб не чуць ейных слёзаў, не бачыць ейнага гора!

Мы не пакінулі Бацькаўшчыну на тое, каб аддаць свае сілы і энергію далёка ў чужыне. Мы павінны дбаць пра добрае імя беларуса як на працы, гэтак і ўсюды, адначасна не забываючыся, што мы мусім вяртацца назад поўныя сілы як фізічнай, так і духоўнай. Першая рана ці позна вычэрпваецца, другая не памірае ніколі і перадаецца ў спадчыну пакаленням. Толькі тады мы зможам выканаць абавязак перад Бацькаўшчынай, калі навучымся не толькі слухаць, уздыхаць ды спачуваць, але, закасаўшы рукавы, сапраўды па-беларуску возьмемся за працу для нашай будучыні.

Суд: Суду вядома, што Вы, Філістовіч, не абмежаваліся прапагандай заўзятых нацыяналістычных поглядаў, але і стварылі канспіратыўную антысавецкую арганізацыю «БНАМ». Што азначае гэты шыфр?

Янка: Заўвагі адносна нашых заданняў мала застасоўваліся ў нашым практычным жыцці. Адзін з нашых сяброў лёг у шпіталь, яго матэрыяльнае і маральнае становішча стала надзвычай цяжкім. У такім выпадку нашым святым заданнем перад Бацькаўшчынай ёсць падтрымаць кожнага беларуса ў бядзе. Але, дабраўшыся за пару сот кіламетраў туды, дзе ляжыць наш сябра, мы з сумам пераканаліся, што бальшыня сяброў у гэтым дэпартаменце не ведаюць аб яго няшчасці, а хто ведае,

гэтак заняты штодзённымі клопатамі, што забываецца і аб сваім абавязку перад Бацькаўшчынай. Той, хто не захоча ці не зможа здабыцца на высілак у малой справе, ніколі не здабудзецца на яго ў вялікай. Бо чым большай яна будзе, тым больш вымагаецца ахвярнасці.

Чагосьці бракавала, каб жыццё зрабіць жывым, магутнеючым, цэнтрам прыцягнення. Мы былі ў стадыі чакання, напружання, што найбольш вычэрпвае сілы і цярпенне. Бракавала сапраўды жывой арганізацыі моладзі, не хапала пачуцця грамадскай адказнасці і здысцыплінаванасці. Мы пастанавілі стварыць у Францыі жывую арганізацыю моладзі, якая сцэментуе нас, прыцягне да грамадскай працы, прышчэпіць тыя якасці, якіх не стае.

БНАМ — Беларуская Незалежніцкая Арганізацыя Моладзі, была ўтвораная на з'ездзе 26 сакавіка 1949 года.

Суд: Падсудны, раскажыце падрабязна, хто арганізаваў гэта зборышча нацыяналістаў і хто браў у ім удзел.

Янка: У ініцыятыўную групу, апроч мяне, уваходзілі Міхась Наўмовіч, Аўген Кавалеўскі, Міцкевіч, Арсенці Монід, Сурвіла, Каранеўскі. Былі разасланыя заклікі. Лік нашай моладзі ў Францыі не сягаў высокіх лічбаў, яе нарахоўвалася ўсяго некалькі соцень. Першапачаткова планавалі правесці з'езд напачатку лютага. Але потым перанеслі да ўгодкаў БНР.

26 сакавіка а 3-й гадзіне папалудні ў залі Сіндыкату СФТС (Французская Канфедэрацыя Працоўных Каталікоў), святочна ўбранай бел-чырвона-белым сцягам, пад агульны спеў нашай ваяцкай песні-малітвы «Беларусь, наша Маці-Краіна», распачаў сваю працу першы з'езд беларускае моладзі Францыі. З'езд ушанавалі сваёй прысутнасцю прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык, старшыня Рады Сусветнага Аб'яднання Беларускай Эміграцыі Леў Рыдлеўскі, ягоны заступнік на Францыю Уладзімер Шыманец і рэктар Беларускае рэлігійнае місіі ў Францыі айцец Леў Гарошка. Былі таксама госці — прадстаўнікі братняе ўкраінскае моладзі.

Бальшыня дэлегатаў з'езду былі з Парыжа ды ягоных бліжэйшых ваколіцаў, а іншыя дэлегаты, не маючы магчымасцяў асабіста прысутнічаць, даслалі свае мандаты і прывітанні. Нягледзячы на параўнаўча невялікую колькасць дэлегатаў (15 асобаў), з'езд прайшоў надзвычай паспяхова, у паважных дыскусіях ды цёплай сяброўскай атмасферы.

Суд: Падсудны Філістовіч, ахарактарызуйце падрабязней Ваш асабісты ўдзел у рабоце так званага з'езду і ролю астатніх дэлегатаў.

Янка: Я адкрываў з'езд і быў абраны ягоным старшынём. Зачытаў прывітальныя лісты ад палкоўніка Кушаля, ад асобных сяброў і групаў, якія не змаглі прыехаць у Парыж. Прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык вітаў з'езд, дадаючы, што ворагі нашае Бацькаўшчыны на працягу стагоддзяў сведама адрывалі беларускую моладзь ад змагання старэйшых за светлыя нацыянальныя ідэалы. «Маладое беларускае пакаленне мусіць заняць у адпаведны час месцы старэйшых змагароў за незалежную Беларусь», — сказаў прэзідэнт. Айцец Леў Гарошка гаварыў, што маладая пчала выконвае сваю працу хутчэй і лепш ад старэйшае і на гэтым палягае Боская ўказка для нашай моладзі.

Інжынер Рыдлеўскі адзначыў, што нашая моладзь на эміграцыі знаходзіцца пад небяспечнымі ўплывамі вонкавага еўрапейскага жыцця, якое можа часам адарваць яе ад змаганняў старэйшага грамадства за адвечны ідэал беларусаў, і заклікаў да як найцяснейшага супрацоўніцтва з дзеячамі і арганізацыямі, якія непахісна стаяць на грунце 25 сакавіка і БНР. Ад імя Сусветнага Аб'яднання Беларускае Эміграцыі склаў прывітанне заступнік старшыні спадар Шыманец, ад Саюза Украінскіх Пластуноў — спадар Вішнеўскі.

Суд: Якія мэты былі пастаўленыя перад так званым Незалежніцкім Аб'яднаннем Моладзі?

Янка: На думку ініцыятыўнай групы па скліканні з'езду, заданні стаялі наступныя: рэпрэзентацыя навонкі, выхаванне моладзі ў нацыянальным духу, павышэнне якасці часопіса «Моладзь», супрацоўніцтва з усімі арганізацыямі, якія ўваходзяць у склад САБЭ і навязванне лучнасці з арганізацыямі моладзі іншых нацыянальнасцяў, а таксама — зарганізаванне беларусаў, якія яшчэ па сёння знаходзяцца ў чужацкіх асяродках, а таксама канцэнтраванне беларускае моладзі ля цэнтру Францыі.

Суд: Што маецца на ўвазе пад «рэпрэзентацыяй навонкі»? Якія канцэнтрацыйныя лагеры для моладзі ў цэнтры Францыі планавала БНАМ?

Янка: Меркавалася ў меру магчымасцяў сцягваць з правінцыяў паадзіночна найбольш актыўную моладзь да Парыжа як цэнтру Францыі. Дзеля гэтага падшукваць працу, памяшканні і адпаведныя дазволы французскіх уладаў на пражыццё. Таксама пастанавілі навязаць цесную лучнасць з беларускай моладдзю ў Нямеччыне, Англіі, Бельгіі, іншых краінах. Па першым пункце паставілі сабе за мэту пашырэнне спаміж чужынцаў назову, культуры, нацыянальных ідэяў і здабыткаў



Гаспода 11. Сакав. 1951. х

PASVIETCANNIE.

My, Prezydent Rady Bielaruskaj Narodnaj Respubliki hetym svietčym što sp. F i l i s t o v i č Janka zjaŭlajecca siabram Rady BNR i upaŭnamočanym Pradstaŭnikom Uradu BNR.

Usim bielaruskim arhanizacyjam i ustanovam zahadyvajecca, a ustanovy prychilnych nam narodaŭ prosiacca davać sp. Filistoviču usialakuju pasilnuju dapamohu.

Mikola Abramčyk
PREZYDENT RADY BNR.

Беларускага Народа шляхам зарганізавання тэатральнага гуртка, а ў будучым — тэатра Беларускае моладзі, мастацкіх выставаў, літаратурных і сяброўскіх вечарынаў, якія маглі б прыцягнуць увагу людзей іншых нацыянальнасцяў, спартовых секцыяў ды іншага.

Суд: Падсудны Філістовіч, пакажыце дакладна, хто ўвайшоў у кіруючыя органы і ўзначаліў так званую БНАМ?

Янка: Старшынём Цэнтральнае ўправы абралі мяне, сакратаром — Аўгена Кавалеўскага, скарбнікам — Міхася Наўмовіча. Былі абраныя рэвізійная камісія на чале з Арсенціем Монідам і сяброўскі суд, які ўзначаліў спадар Ляўковіч.

Суд: Якія Вы мелі разыходжанні паміж сабой? Чаму Вы потым пакінулі пасаду старшыні ўправы?

Янка: Пасля мяне старшынём БНАМ стаў Міхась Наўмовіч. Гэта было звязана з маім ад'ездам з Францыі ў Бельгію. Я не мог працягваць вучобу ў Сарбоне, бо, як высветлілася, паводле ўніверсітэцкага рэгламенту, атэстат Украінскай Акадэміі аказаўся недастатковым. У сакавіку 1951 года на запрашэнне Камітэту дапамогі беларускім студэнтам Лювэнскага ўніверсітэта я прыехаў у Лювэн і быў залічаны на 4-ты курс гістарычнага факультэта. Стыпендыі паспрыяў Беларускі Саюз Студэнтаў, які ўзначальваў Барыс Рагуля. У каталіцкім універсітэце Лювэна вучыліся многія дзясяткі маладых беларусаў, якія па волі лёсу мусілі пакінуць Бацькаўшчыну.

Суд: У Лювэн Вы прыехалі ўжо з пасведчаннем сябра так званай Рады БНР. Як гэта сталася?

Янка: Незадоўга да адʼезду ў Бельгію, 11 сакавіка 1951 года прэзідэнт Абрамчык запрасіў мяне да сябе ў хату, дзе ўручыў мне пасведчанне сябра Рады БНР і ўпаўнамочанага прадстаўніка ўрада БНР, датаванае 11 сакавіка 1951 года.

Суд: Трыбунал лічыць, што досыць поўна высветліў Ваша маральна-палітычнае аблічча і ідэалагічную арыентацыю як буржуазнага нацыяналіста, ідэолага нацыяналістычнага маладзёжнага руху, арганізатара замежнага антысавецкага падполля, свядомага і заўзятага ненавісніка савецкага сацыялістычнага ладу рабочых і сялян.

Такім чынам, прычыны, якія штурхнулі Вас у абдымкі варожай амерыканскай разведкі, суду ясныя.

Янка: Калі б адна энергія, ахвярнасць духу і вера былі дастатковыя для пераадолення перашкодаў і тых, хто нам іх ставіць, — ужо б даўно парасла трава над апошнімі традыцыйнымі ворагамі, а наша агульная Беларуская справа даўно дасягнула сваёй мэты.

Суд: На допыце ў КГБ Вы далі паказанні аб ролі Барыса Рагулі ў Вашай засылцы ў СССР. Цытуем: «Пераканаўшыся, што я моцна стаю на нацыяналістычных пазіцыях і зʼяўляюся прыхільнікам актыўных дзеянняў супраць Савецкай дзяржавы, Рагуля прапанаваў мне перабрацца на тэрыторыю Савецкай Беларусі, не чакаючы пачатку вайны, і разгарнуць там актыўную нацыяналістычную работу». Як адбылася Ваша сустрэча з амерыканскай разведкай?

Янка: Я нічога не жадаў, толькі як найбольш быць карысным Маці-краіне, толькі гэтага я прасіў у Бога. Гэта мне шмат разоў ледзь не каштавала жыццём, а таксама жыццём маіх родных бацькоў, брата, сёстраў, але ж не толькі мне... Першая сустрэча з чалавекам, які называўся Стыфам, адбылася 8 жніўня 1951 г. Ён паабяцаў дапамагчы патрапіць на Бацькаўшчыну. Неўзабаве я пакінуў Лювэн. У мястэчку Верысгофен пад Мюнхенам вывучаў тапаграфію, вучыўся карыстацца компасам, вызначаць каардынаты, распальваць вогнішча. Вучыўся скакаць з парашутам. Трэніраваўся ў стральбе. Шмат чытаў — савецкія газеты і часопісы, літаратуру.

Суд: Хто яшчэ разам з Вамі праходзіў абучэнне ў амерыканскай разведшколе ў Баварыі?

Янка: Канстанцін Амор, былы рэдактар часопіса Згуртавання Беларусаў Вялікабрытаніі «Беларус на чужыне». Ён меўся ляцець са мной радыстам, але я паляцеў адзін.

Суд: Якія інструкцыі Вы атрымалі перад адпраўкай у СССР?

Янка: У жніўні да мяне ў Мюнхен прыязджаў Барыс Рагуля. Ён паведаміў, што хадайнічаў перад урадам БНР аб прысваенні мне звання падпалкоўніка. Мы ўсе меркавалі тады, што вось-вось пачнецца вайна, і неабходна, каб у Беларусі былі падрыхтаваныя кадры, каб заступіць бальшавіцкую ўладу. Рагуля хацеў, каб я з'ездзіў у Вільню, каб перакана́цца, колькі цяпер жыве беларусаў у нашай колішняй сталіцы, а таксама пашыраў звесткі пра БНР. Ён перадаў мне лістоўкі «Жыве Беларусь», тэксты гімну, звароту да беларускага народа і газеты і сказаў, што ідэальна было б, калі б да яго прыезду я не зрабіў ніводнага стрэлу. Амерыканцаў цікавілі настрой людзей, звесткі пра размешчанне і перамяшчэнне войскаў. Я меў адпраўляць лісты, напісаныя тайнапісам, у розныя адрасы за мяжой.

Суд: Як адбывалася Ваша перакідка праз дзяржаўную мяжу?

Янка: 9 верасня 1951 года я вылецеў з Мюнхена на поўнач Нямеччыны. Тут памянялі самалёты. Праз чатыры-пяць гадзінаў лёту былі над Беларусяй. Выкінулі мяне надзвычай удала. Я прызямліўся паблізу сваёй вёскі Паняцічы. Закапаў парашут, схаваў зброю і іншыя рэчы, і накіраваўся ў вёску.

Суд: Як Вас сустрэлі калгаснікі?

Янка: Наша хата была аддадзеная пад школу. Я зайшоў да суседа, Якава Кісяля. Расказаў, адкуль прыбыў, як. Яго жонка схадзіла, паклікала майго дзядзьку, брата маці Пятра Куляша. Падрабязна расказаў пра сябе, пра сваё заданне. Разам схадзілі, выкапалі парашут. Сустракаўся з некаторымі аднавяскоўцамі, сваякамі. Гаварылі пра жыццё ў калгасе, бясконцыя пазыкі, падаткі. Я расказваў пра сваю місію, гаварыў, што закінуты амерыканцамі з-за мяжы, даводзіў, што ўрад БНР, калі прыйдзе, памяняе камуністычныя парадкі.

Суд: Хто хаваў Вас ад органаў Савецкай улады да таго часу, як Вы перайшлі ў лес?

Янка: Я жыў у сваякоў і іх знаёмых. Прытулак у родным краі знайсці няцяжка.*

* З успамінаў стрыечнай сястры Я.Ф. Яўгені Кулеш: «З ложка, пад якім ляжаў Янка, да падлогі была ссунутая накрыўка, каб не было яго бачна чужым. Малодшаму з дзяцей у сям'і Міхасю, каб той не выдаў раптам схованкі, мы казалі, што пад ложкам сядзіць страшны воўк. Дык дзіцё, як нехта заходзіў у хату, адразу цягнуў увайшоўшага за руку да кута з ложкам і картава страшыў госця: «Воўк, там воўк сядзіць...»

Усевалад Сцебурака. Куфэрак Віленшчыны. № 2.

http://vialejka.org/2009/04/06/jashchje-raz-pra-janku-filistovicha.html

Суд: Чаму Вы не сказалі, што амаль паўгода хаваліся ў вёсцы Пузава ў Пятра Самаля і яго дачкі Соф'і. Які ўдзел бралі яны ў ажыццяўленні Вашых акцыяў?

Янка: У сям'і Пятра Самаля, далёкага сваяка, апроч дачкі нікога не было. Я жыў у іх хляве на гарышчы, на сене. Хлеў стаяў метрах у дзесяці ад хаты. Унізе гаспадары трымалі карову з цялятамі, авечак, кабанчыка. Але павінен сказаць, што дачка была супраць таго, каб я жыў у іх, і не раз гаварыла гэта бацьку. Ніякай дапамогі, апроч прытулку і харчавання, ні бацька, ні дачка мне не аказвалі. Яны ды яшчэ дзядзька Пётра Кулеш былі адзіныя, хто падымаўся да мяне на гарышча. Пётра Самаль быў вельмі стары, глухі, я нічога не мог яму даручыць, калі б і хацеў.

Суд: Да следчай справы падшыты дакумент аб пераводзе арыштаванай Соф'і Самаль з ізалятара КГБ у шпіталь гарадской турмы ў сувязі з цяжарнасцю і маючымі адбыцца родамі. Вы нешта хацелі сказаць, падсудны?

Янка: Я... Не. Зазначу яшчэ раз, што Соф'я пярэчыла, каб я жыў у іх, але не магла пайсці супраць бацькі.*

Суд: Як, калі і дзе Вы праводзілі канспіратыўную работу сярод насельніцтва і шпіёнскія акцыі?

Янка: Я сустракаўся і гаварыў з людзьмі і заўсёды расказваў, хто я, адкуль, з якімі паўнамоцтвамі. Многім паказваў пасведчанне сябра Рады БНР. Двойчы ездзіў у Вільню, Горадню. Усе, з кім я гаварыў, пасля таго, як даведваліся пра мэты майго прыезду, ахвотна дапамагалі, давалі прытулак, здабывалі неабходную інфармацыю.

Суд: У выніку гэтых паездак Вы пасылалі за мяжу справаздачы аб наяўнасці там савецкіх войскаў, аб вайсковым аэрадроме. Як Вы пісалі свае шпіёнскія данясенні?

Янка: Кроўю. Пракалваў палец, у некалькі кропель крыві дадаваў вады, затым завостранай палачкай пісаў тэкст. Потым сушыў на сонцы ці на вогнішчы. Тэкст упісваў паміж радкоў звычайнага ліста і пасылаў на вядомы мне адрас.

---

* З успамінаў Соф'і Самаль: «Нас тады арыштавалі, адвезьлі ў Маладзечна на сьледзтва. Трымалі нядоўга і адпусьцілі, бо думалі, што Янка да нас прыйдзе. Абяцалі за гэта 25 тысяч рублёў. Я на працу ў калгас хадзіла і думала, што мне ўжо канец — расстраляюць. А чула, што калі жанчына цяжарная, то яе не забіваюць, вось і зрабіла сабе дзіцёнка. Пасьля сьледчыя думалі, што гэта ад Янкі, а як жа можна — ён жа мой брат».

Усевалад Сьцебурака, Тадэвуш Нальшчанскі. Наша Ніва, 22.06.2006

http://www.nn.by/index.php?c=ar&i=2488

Суд: Падсудны Філістовіч, раскажыце, як і з якой мэтай Вы ўступілі ў сувязь з бандай былых паліцаяў, якія хаваліся ў лесе?

Янка: Мне расказаў пра людзей, якія хаваліся ў лесе, мой дзядзька адразу пасля майго з'яўлення ў Паняцічах. Але першая сустрэча адбылася толькі ў траўні 1952 года. Спачатку ў групе, якая месцілася ў двух кіламетрах ад вёскі Самалі, было чатыры чалавекі: Сяргей Мікуліч, Міхась Петрусевіч, Антон Петрусевіч, Андрэй Бялькевіч. У ліпені да нас далучыліся Іван Будкевіч і Уладзімер Шыцік. Я меркаваў выкарыстаць гэтых людзей дзеля вядзення нацыянальнай агітацыі, падрыхтоўкі сялян да паўстання. Але перш трэба было адукаваць саміх удзельнікаў групы. Барыс Рагуля гаварыў мне перад ад'ездам, што ідэальна будзе, калі да яго прыезду ў Беларусь я не зраблю ніводнага стрэлу. Ніводнага тэракту я не здзейсніў, не дазваляў гэта рабіць і ўдзельнікам ляснога падполля, якія да майго прыходу ў лес здзейснілі не адзін такі акт.

Суд: Раскажыце пра Вашу спробу стварыць так званыя нацыянальна-вызваленчыя ўзброеныя сілы.

Янка: Каб упарадкаваць нашы дзеянні, я вырашыў прывесці ўдзельнікаў групы да прысягі. Сам склаў яе тэкст. «Я, грамадзянін Беларускай Народнай Рэспублікі, уступаючы ў шэрагі беларускіх нацыянальна-вызвольных сілаў, перад Богам, Бацькаўшчынай і Беларускім Народам урачыста прысягаю быць верным светлай ідэі пастановы 25 сакавіка 1918 года і БНР і аддаць усе свае сілы для іх ажыццяўлення. Прысягаю безагаворачна выконваць усе загады Прэзідэнта Рады і ўрада БНР і сваіх камандзіраў, скіраваныя на карысць нацыянальна-вызвольнай справы. Абяцаю свята берагчы дзяржаўную, ваенную тайну, захоўваць непатаптаную чысціню бел-чырвона-белага сцяга БНР. За парушэнне маёй урачыстай прысягі абавязуюся прыняць самую суровую кару».

Суд: Раскажыце пра налёт Вашага войска на друкарню МТС у мястэчку Вязынь.

Янка: Нам патрабаваліся друкарскія прылады і шрыфты, каб выпускаць сваю газету, друкаваць адозвы. Маючы ўласны выдавецкі досвед, я ўзяў толькі самае неабходнае: касы з шрыфтамі, наборныя планкі, друкарскую фарбу і некалькі рулонаў газетнай паперы. Абсталяванне размясцілі ў нашым другім лагеры, ва ўрочышчы Руда, у двух кіламетрах ад вёскі Кутляны. Паспелі набраць і аддрукаваць газету «Жыве Беларусь», а таксама ўлётку. Частку друкаванай прадукцыі паспелі распаўсюдзіць.

С у д: Падсудны Філістовіч, Вы нічога не сказалі пра бандыцкі напад і абрабаванне двух савецкіх службоўцаў — фінагентаў, у якіх Вы забралі 6000 рублёў.

Я н к а: У канцы чэрвеня ў мяне скончыліся грошы, якія мне далі амерыканцы. З самага пачатку я пастанавіў нічога не браць у людзей задарма і плаціў за ўсе прадукты, якія атрымлівалі ад насельніцтва. Калі грошы скончыліся, было вырашана ўзяць іх у савецкай улады. У фінагентаў мы забралі толькі казённыя грошы.

С у д: Ці ведалі Вы, што замах на дзяржаўную сацыялістычную маёмасць з'яўляецца асабліва цынічным відам пасягальніцтва і караецца аж да расстрэлу? Зрэшты, гэта ўжо не мае значэння. Колькі вяровачка не ўецца, канец адзін. Зачытаем вытрымкі з акту МГБ, складзенага 5 верасня 1952 года ў вёсцы Самалі Ільянскага раёна Маладзечанскай вобласці. «... У ноч з 4 на 5 верасня была праведзеная аперацыя ў ліквідацыі ўзброенай бандыцкай групы пад кіраўніцтвам амерыканскага шпіёна Філістовіча Івана Андрэевіча. Напачатку аперацыі ў 23 гадзіны 4 верасня ў лесе на захад ад вёскі Седзіца быў захоплены Бялькевіч Андрэй Іронавіч, 1920 года нараджэння, які спрабаваў аказаць узброены супраціў. Канфіскаваны бельгійскі карабін, 15 баявых патронаў. Пры падыходзе да бандыцкага лагера ў лясным масіве на паўночны захад ад вёскі Самалі быў заўважаны бандыт Петрусевіч Міхал Кірылавіч, якога пры аказанні супраціву аператыўна-ваенізаваная група знішчыла, пасля чаго размясцілася ў засадзе».

Я н к а: Я ў гэтую ноч разам з Антонам Петрусевічам і Іванам Будкевічам быў у вёсцы Пузава, у свайго дзядзькі Пятра Самаля, у якога жыў першыя паўгода пасля вяртання ў Беларусь. Яго дачка, Соф'я, дала нам з сабой хлеб, масла, сыр, яечкі, насыпала сліваў. Тады апошні раз я бачыў Соф'ю... Мы выйшлі з хаты на досвітку і, калі падыходзілі да лагера, сонца яшчэ не ўстала. Было ціха-ціха...

С у д: Суду вядома, што гэтую акалічнасць, падсудны Філістовіч, Вы выкарысталі ў спробе пазбегнуць адказнасці перад савецкім законам. Працягваем азнаямленне з актам МГБ: «У 6 гадзін 5 хвілін 5 верасня 1952 года засада прыняла меры да захопу вяртаўшыхся бандытаў. Апошнія, аказаўшы ўзброены супраціў, спрабавалі ўцячы. Былі забітыя: Петрусевіч Антон Захаравіч, 1908 года нараджэння; Будкевіч Іван Данілавіч, 1916 года нараджэння. Кіраўніку бандыцкай групы шпіёну Філістовічу Івану Андрэевічу ўдалося ўцячы».

Янка: Амаль пяць дзён, ці, дакладней, начэй, ішоў на Захад, думаў перайсці мяжу з Польшчай недалёка ад Горадні. Усюды былі вайсковыя часткі, міліцыя, мясцовыя жыхары не маглі выбрацца ў суседнюю вёску. Салдаты пад камандай афіцэраў прачэсвалі лес, пускалі сабак. Начамі былі раннія замаразкі. Есці не было чаго. У верасні адна ягада, ды й тая горкая рабіна. Як некалі ў дзяцінстве, глядзеў, як адляталі ў вырай птушкі: быццам цёмныя хмары, чародкамі праляталі берасцянкі, цягнуліся берасцянкі, цягнуліся касяком гусі ды качкі, касым шнурам рэзалі паветра лебедзі... Мой вырай быў тут.

Дзень перад апошнім пераходам папрасіўся адпачыць у вяскоўца-гаспадара. Начаваў у хлеўчыку, перагледзеў свае дакументы. Амаль усе парваў. Аддаў гаспадару аўтамат у прамасленай паперы, каб той захаваў. Адарваў і выкінуў ампулу з цыяністым каліем, якую далі ў Мюнхене на скрайні выпадак. На пяты дзень, калі сцямнела, мусіў хоць крыху адпачыць і паесці. На беразе невялікай рэчкі стаяла вёска Ярмолічы. Пастукаў у крайнюю хату. Раней людзі не раз дапамагалі і давалі прытулак, ніхто не выдаў на працягу года... Гаспадар пусціў у хату. Паставілі на стол вячэру, налілі гарбаты. Глынуў, і раптам усё паплыло перад вачыма, і праваліўся ў цемру...

Суд: Савецкі патрыёт, жыхар вёскі Ярмолічы, які даўно супрацоўнічаў з органамі бяспекі і дапамагаў абясшкоджваць ворагаў, змог паведаміць органам пра амерыканскага шпіёна. Яму было перададзена моцнадзейнае снатворнае, якім і была ўсыплена пільнасць класавага ворага. Зачытаем вытрымку з акту затрымання: «9 верасня 1952 года ў 23 гадзіны 30 хвілін групай управы МГБ Маладзечанскай вобласці ў колькасці 13 чалавек быў захоплены агент замежнай разведкі Філістовіч Іван Андрэевіч. Пры вобыску канфіскавана: пісталет замежнай маркі калібру 6,55 мм з абоймай і 9 патронамі; пасведчанне нумар 147/51 ад 11 сакавіка 1951 года на імя Філістовіча Янкі, выдадзенае Радай БНР і падпісанае прэзідэнтам Рады Міколам Абрамчыкам; фотакартка з надпісам «Дарагому Януку на ўспамін. М. Абрамчык. 11.03.1951 г. Парыж»; фотакартка з надпісам на адвароце «На памяць Філістовічу ад Кушаля. 20.01.1949 г. Віндышбэргердорф»; фотапартрэт з надпісам «Папа Пій XII» і малітвай на абароце; два каляровыя здымкі рэлігійнага характару».

Янка: У схованцы ў лагеры застаўся малітоўнік, выдадзены ў Рыме ў 1946 годзе, паштоўкі са сцягам і гербам БНР, нумары газеты «Беларускія навіны» за сакавік-красавік 1946 года, тры выпускі газеты «Бацьк-

каўшчына», кнігі Тараса Шаўчэнкі: «Каўказ», «Сон», «Кацярына», «Наймічка». «Як умру, то поховайте мене на могилі серед степу широкого...»

Суд: Суд тлумачыць, грамадзянін Філістовіч, што ў савецкім судаадпраўленні так званае апошняе жаданне адсутнічае як перажытак буржуазнага гуманізму. Вернемся да Вашага арышту. Вы не назвалі іншыя рэчавыя доказы, схаваныя ў лесе.

Янка: У лагеры заставаліся дэтэктарны прыёмнік «Камсамолец», навушнікі, бінокль з васьміразовым павелічэннем, сапёрная рыдлёўка, розная вопратка, коўдра, рэчавы мех, чаравікі з гетрамі, сетка ад камароў, парашутны шоўк...

Суд: Пералічыце іншыя рэчы з арсеналу для вядзення варожай нацыяналістычнай і дыверсійнай дзейнасці, якія Вы захоўвалі ў лагеры.

Янка: Друкарскі набор адозвы «Жыве Беларусь» і частка накладу, які не паспелі раздаць, друкарскія прылады, папера, фарба. Тапаграфічная і этнаграфічная мапы Беларусі, нажніцы для рэзкі дроту, пару соцень пісталетных патронаў, медыкаменты: шпрыц Люіра, голкі, пінцэт, ёд, 9 цюбікаў морфію, пластыр, вата, жгут, бінт.

Суд: Бандытам яны ўжо не спатрэбяцца: чэкісты па ворагах б'юць без промаху. Зачытаем акт апазнання, складзены 6 верасня 1952 года ў Маладзечне. «Арыштаваны Бялькевіч, уважліва аглядзеўшы трупы, якія былі занумараваныя пад нумарамі два і тры, заявіў, што ў абодвух трупах ён пазнаў удзельнікаў бандыцкай групы: у трупе нумар два, які ляжыць на спіне злева, ён пазнаў бандыта Будкевіча Івана Данілавіча, народжанага ў вёсцы Петрашова, які служыў у перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі старастам Петрашоўскай грамады і хаваўся ад органаў Савецкай улады з 1944 года, і ў трупе нумар тры, які ляжыць таксама на спіне справа — Петрусевіча Антона Захаравіча, народжанага ў вёсцы Буйслі, які служыў у карных органах акупантаў і хаваўся ад органаў Савецкай улады з мая 1949 года. Апазнанне праводзілася ад 14 да 14.30».

Янка: У ноч, калі мяне праз здраду арыштавалі соннага, споўнілася роўна год, як я апусціўся на родную зямлю. Пад канвоем адвезлі ў Мінск, у турму КГБ, так званую амерыканку, дзе памясцілі ў адзіночную камеру. І адразу пачаліся допыты: у першую ноч допыт цягнуўся з дзевяці вечара да дзевяці раніцы. Вярнуўся ў камеру — спаць днём забаронена. У чатыры гадзіны папалудні зноў на допыт да паловы восьмай. Толькі заснуў — апоўначы зноў да следчага, дзе прабыў да паловы шостай раніцы. Наступную ноч таксама ўсю, з дзевяці вечара да дзевяці

раніцы, правёў на допыце. Потым допыт днём і зноў уся наступная ноч у кабінеце следчага, і так кожны дзень і кожную ноч. Толькі за першы месяц я правёў на допытах амаль дзвесце гадзінаў.

Суд: Падсудны Філістовіч, з 28 студзеня па 6 лютага 1953 года Вам была дадзена магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі следчай справы ў 24 тамах. Ці маеце дапаўненні і хадайніцтвы?

Янка: Дадаваць нічога не буду. Хадайніцтваў у справе — не маю.

Суд: Падсудны Філістовіч, трыбунал на дадзеным этапе лічыць дастатковымі Вашыя паказанні. Пераходзім да апытання сведкі Трапша. Сведка, паведамце сваё імя, месца і год нараджэння, пасаду, займаную на момант знаёмства з грамадзянінам Філістовічам.

Трапш: Трапш Рыгор Міхайлавіч, нарадзіўся ў 1917 годзе ў сяле Ацы Гадаўскага раёна Абхазіі. У органах дзяржбяспекі служыў з 1937 года. Пасля заканчэння вышэйшай следчай школы МГБ СССР быў накіраваны ў Мінск. З'яўляўся намеснікам начальніка 2-га аддзела следчай часткі Міністэрства дзяржбяспекі БССР і з 10 верасня 1952 года па 17 студзеня 1953-га вёў справу Філістовіча Івана Андрэевіча ў якасці следчага. Падпалкоўнік дзяржбяспекі ў адстаўцы.*

Суд: Таварыш Трапш, у кнізе вядомага пісьменніка Макара Паслядовіча «Па воўчых сцежках», напісанай «па расказу палкоўніка дзяржбяспекі Каленіка» — гэта хіба Ваш псеўданім, ярка паказаны гераізм беларускіх чэкістаў, якія, рызыкуючы жыццём, праніклі ў банду Філістовіча, арыштавалі яго і такім чынам выратавалі дзясяткі тысячаў людзей ад дыверсійных акцыяў. Аднак, з вядомых прычынаў, аўтар не мог тады раскрыць усе дэталі аперацыі. Раскажыце, калі ласка, як гэта адбывалася.

Трапш: Кніжку Паслядовіча я бачыў — поўная лухта. Аўтар ніколі са мной не сустракаўся... І ўвогуле, на след Філістовіча выйшлі не ў Мінску, а ў Маскве. Да сораму беларускіх чэкістаў, ён цэлы год жыў у падполлі. Працаваў. У Маскве, падчас перлюстрацыі пошты, выклікалі падазрэнне лісты за мяжу, напісаныя дзіцячым почыркам. Паводле зместу вызначылі, што аўтар недзе тут, у Беларусі, далі аператыўку. Тады ўжо пачала працаваць Маладзечанская ўправа дзяржбяспекі, а потым Мінск падключыўся.

* Сведчанне падпалкоўніка КГБ у адстаўцы Р. Трапша запісаныя аўтарам падчас інтэрв'ю ў Мінску ў 1993 годзе.

Суд: У якім стане пасля затрымання і змяшчэння ў ізалятар МГБ знаходзіўся Філістовіч?

Трапш: Вельмі дрэнным, бо яго затрымалі з дапамогай снатворнага. Ён шмат перажыў за той час, калі ішоў да мяжы, а яго па пятах пераследавалі. Ён адарваў і выкінуў ампулу з атрутай, каб не спакусіцца і не прыняць. Баяўся, што ў крызісны момант не ўтрымаецца і пакончыць з сабой. Думаў да канца супраціўляцца. Я павінен сказаць, што ён вельмі цікавы чалавек, валявы хлопец, і, нягледзячы на яго становішча перада мной, ён быў мне сімпатычны як чалавек.

Першыя тры-чатыры дні запар я быў у дурацкім стане: выклікаў яго на допыт, гадзінамі глядзелі адзін на аднаго, і ён не адмыкаў нават губы, не казаў нічога, сядзеў — і ўсё. Задавай яму якія заўгодна пытанні — і нічога. Нават звесткі пра сябе не хацеў паведаміць. І толькі на трэці ці чацвёрты дзень ён адкрыў рот са словамі: «Што глядзіце, страляйце, страляйце!»

Суд: Вы вялі следства амаль пяць месяцаў, хоць законам прадугледжаны тэрмін у два месяцы. Ці былі ўжытыя ўсе сродкі, каб паскорыць прызнанне падсуднага Філістовіча?

Трапш: Спецметадаў да Філістовіча мы не прымянялі. З ім працавала абмежаванае кола людзей. Яго прозвішча не ведала нават ахова, якая дастаўляла арыштаванага з камеры да мяне. Я казаў: «Прывядзіце нумар адзін, адвядзіце нумар адзін». Спачатку ён не гаварыў увогуле, але потым пачаў гаварыць і гаварыў быццам праўду. Амаль пяць месяцаў допытаў — гэта не я цягнуў, а Іван Андрэевіч Філістовіч. Ён сведчанні даваў порцыямі. Затрымка была праз тое, чым ён займаўся ў Францыі. Допыты праводзіліся ўдзень і ўначы, традыцыя была такая. Дзякуй Богу, я жыў праз дарогу. Пайду, некалькі гадзінаў пасплю, паем і назад. Для следчых гэта было прымальна: ніхто не перашкаджаў працаваць, засяродзіцца, некалькі гадзінаў гаварыць з чалавекам аб справе.

Мой кабінет быў на 4-м паверсе, вокны выходзілі на праспект Сталіна. Я яму паказваў, цвердзіў, што ў нас усё ў парадку. Ён аднойчы ўначы з Маладзечна ў Мінск прыязджаў, сувязь завязаць, але няўдала. Я яму сказаў: хочаце, пакажу Вам наглядна, праедзем па горадзе? З вялікімі цяжкасцямі, але начальства я ўгаварыў. У закрытай машыне сеў з ім побач, ззаду. Вазілі яго на трактарны, на аўтазавод.

Суд: На якой мове вёўся допыт?

Трапш: На расейскай. Ён гаварыў па-расейску, толькі часам падкідваў слоўцы характэрныя. Адзін эпізод быў трагікамічны. Яму

прад'явілі расшыфраваныя лісты, якія ён пасылаў. У адным з іх быў такі тэкст: «У горадзе в.ш. войскаў, бачыў сам». Мы доўга расшыфроўвалі, што ж гэта такое, што гэта за горад такі «В.Ш.» Не маглі знайсці такі горад.* Потым я шмат разоў яго дапытваў і кожны раз вяртаўся да ліста, а ён рабіў выгляд, што не разумее, аб чым яго пытаюць. Нарэшце ён мне сказаў: «Вы каўказец, Вам гэта даравальна, але што, у вас тут няма беларусаў, якія б гэта расшыфравалі?» Ён напісаў, калі быў у Горадні, што «ў горадзе вельмі шмат войскаў, бачыў сам». Ох, колькі ў нас шуму было з-за гэтага! І ўсур'ёз усыпалі таму-сяму з нашых. А ён паздзекаваўся, кожны раз смяяўся з нас.

Суд: Вы не памыліліся, калі казалі, што на Вас Філістовіч зрабіў добрае ўражанне?

Трапш: Так, інтэлігентны, сціплы, харошы хлопец. Але фанатык. Фанатызм у дачыненні да сваёй мовы, культуры, літаратуры. Мы тут не паспявалі кнігі яму даваць, ён іх проста праглынаў. У дачыненні да насельніцтва не зрабіў нічога такога, наадварот, шкадаваў. Ён увесь час казаў «стогнуць», «мучаюцца і стогнуць». Ён умела працаваў, прыручыў гэтых звяроў, паліцэйскіх, у якіх рукі часаліся ўвесь час забіць каго-небудзь, абрабаваць, нават калі ён быў з імі. Філістовіч іх пад дулам аўтамата стрымліваў. Марадзёрства забараніў катэгарычна — бясплатна нічога не браць. Пакуль у яго былі грошы, сто тысяч, увесь час плаціў: за мяса, за бульбу. А калі скончыліся — высачыў фінагентаў, і то, калі забіраў грошы, пытаўся, дзе іх асабістыя, а дзе казённыя, і ўзяў толькі дзяржаўныя. Адзін з банды рамень забраў у калгасніка. Філістовіч пабачыў ужо на стаянцы, і пад пагрозай, што расстраляе, прымусіў аднесці назад і аддаць.

Суд: Разам з падсудным Філістовічам былі арыштаваныя яго саўдзельнікі: Кулеш Пётра Іосіфавіч, Бялькевіч Андрэй Іронавіч, Філістовіч Аляксей, Петрусевіч Іван Кірылавіч, Крэнь Уладзімер Аляксандравіч, Скабей Анастасія Дамінікаўна, Мандрык Цімафей Сяргеевіч, Чарняўскі Радыён Міхайлавіч, Стахевіч Зінаіда Ілінічна, Пехур Іван Філіпавіч, Шадурскі Фама Данілавіч, Самаль Пётра Андрэевіч, Каляда Іван Фларыёнавіч, Дуровіч Юстын Міронавіч, Буслаўскі Лявонці Пятровіч. Іх справы вяліся іншымі следчымі, і ўсе яны панясуць пакаранне па ўсёй строгасці савецкага закону.

---

* «U Horadni v š vojska (b sam): № 37618, 26; 73937; 29345; 76937; 10869; 61581; 259 O.S.B.«B».» Данясенне ад 4 снежня 1951..

На Вашу думку, сведка Трапш, якога прысуду заслугоўвае падсудны Філістовіч, справу якога Вы вялі ў якасці следчага?

Трапш: Гэта была самая буйная справа ў Беларусі, потым на ёй вучыліся пакаленні чэкістаў. Ведаеце, часта проста афарбоўку даюць справам: «агент, разведчык»... Але каб жывы разведчык працаваў на працягу года, так акуратна, і столькі зрабіў — гэта рэдкасць.

Філістовіч ведаў шмат каго з эміграцыі, выпускаў часопіс «Моладзь», і ў нас з'явілася думка, не адразу, вядома, што можна выкарыстаць такі багаты матэрыял. Вярнуць яго па каналах, па якіх ён прыбыў, а потым звязацца і выкарыстаць яго ў якасці агента. З самім Філістовічам пра гэта гаворкі не было.

Спачатку мяне паслалі ў Маскву, каб узгадніць вярбоўку ў Міністэрстве дзяржбяспекі. Але, здаецца, якраз арыштавалі Берыю і там было не да нашай прапановы. Іван Андрэевіч Філістовіч, натуральна, вораг — але не махровы. Ён не зрабіў нічога такога, за што можна даць расстрэл.

Суд: Сведка Трапш, Вы можаце быць свабодным. Падсудны Філістовіч, трыбунал лічыць судовае следства адносна Вашай варожай дзейнасці як беларускага буржуазнага нацыяналіста, арганізатара замежнага антысавецкага падполля, амерыканскага шпіёна і дыверсанта, завершаным. Крымінальныя справы Вашых саўдзельнікаў, якія сталі на шлях здрады Радзіме, вылучаныя ў асобную судовую вытворчасць. Вам даецца апошняе слова.

Янка: Я вельмі шчаслівы... Мо найшчаслівейшы з усіх людзей, таму што Магутная сіла дала мне ласку сапраўднага кахання да Бацькаўшчыны.

Я так мала жыў... І сёння складаю падзяку Усявышняму, што ён мне не дазволіў блукаць у раздарожжы, дарма губляючы дарагі час, але з ранніх гадоў скіраваў на сапраўдную дарогу. Пакуль б'ецца маё сэрца і ў маіх жылах пераліваецца крывіцкая кроў — дагэтуль не згасне ў мяне сапраўднае каханне да Бацькаўшчыны, а праз яго — безаглядная і бязмежная адданасць нашай справе.

Не з жалю, ранаў і болю — воля родзіцца толькі з крыві. Гэта наш крыж, і мы мусім данесці яго да канца, таму што назад, калі б і хацеў вярнуцца — дарогі няма.

І цяпер я не жадаю нічога, як толькі быць найбольш карысным Маці-краіне, гэтага толькі я прашу ў Бога. Калі Усемагутны патрабуе на адкупленне Бацькаўшчыны найвялікшай і найдаражэйшай ахвяры

ў жыцці чалавека — жыццяў бацькоў, і на гэта паняволі мусіў бы згадзіцца. Я б не наракаў, а цешыўся тым, што гэта за адкупленне волі братам, гэта найвялікшая ахвяра, якую Усемагутны не можа абмінуць без узнагароды, таму што Сын Яго даў прыклад ахвяры за братоў. Але, я думаю, гэта няпраўда, проста не веру — няўжо ж гэтых горкіх слёз і той нашай крыві яшчэ мала, каб нашаму гору прыйшоў канец?! Не! Горкія слёзы і кроў, якія безустання цяклі і цякуць з нашага Народа, перапоўнілі нашы рэкі, і сёння патрэбны адзін павеў ветру, каб гэтыя кроў, гора і слёзы выліліся з берагоў, топячы па дарозе ўсё тое, што прычынялася да гора Беларускага Народа. Гэта станецца немінуча, іначай і быць не можа!

Кожны народ перажывае свае хвіліны жыцця, як радасныя, гэтак і цяжкія. Гісторыя асудзіла нас на цярпенне, паняволенне, амаль што асіміляцыю і смерць. Ужо нашы ворагі цешыліся, думалі — задушылі душу Беларуса, і цела належыць ім. Але ж як яны памыліліся. Пад попелам гараць вугалькі, іх раздзьмухае вецер, і яны запаляць штучны дом, пабудаваны ворагам замест сапраўднага. Жывы чалавек не хоча, каб яго закапалі ў зямлю. Гэтае ж самае станецца з нашай Бацькаўшчынай. Няма такой сілы, якая б змагла затрымаць гэтае жыццё. І масавае біялагічнае вынішчэнне нябачаным дагэтуль спосабам не ў сілах будзе стрымаць жыццё Беларускага Народа. Як пісаў наш паэт: «У віхры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасцеш...»

Калі жыццё лёгкае — тады яно нецікавае, а чым больш небяспечнае і цяжкое — тым больш заўзята перамагаецца. І няма сумневу, што калі мы перажывём гэтыя цяжкія хвіліны, тады хутка і наша Бацькаўшчына будзе ўзнагароджаная Усемагутным.

Кастусь Каліноўскі быў далей ад той мэты, за якую загінуў на шыбеніцы, чым мы, але гэта не значыць, што яго праца была дарэмная. Наадварот — ён застанецца святым у памяці беларусаў, яго думкі і дзеянні паказалі нам дарогу, якой мы павінны ісці.

Я бязмерна рады, што сваім жыццём змагу ўцэментаваць некалькі загартаваных цаглін у вялікі дом Беларускай сям'і. І як сын гэтай сям'і, я не толькі жадаю аддаць сваё жыццё за яе таму, што забавязаны, а таму што гэта з'яўляецца маім ідэалам, імкненнем і мэтай жыцця. Аддаць сваё жыццё, каб жыла Бацькаўшчына, ёсць найбольшае чалавечае, і тым больш маё, шчасце...

Жыве Беларусь!

# Эпілог

Янка Філістовіч быў прысуджаны ваенным трыбуналам Беларускай вайсковай акругі да смяротнага пакараньня праз расстрэл.

Сёстры Янкі, якія жылі ва Украіне і Польшчы і шукалі ягоныя сляды, пісалі ў Чырвоны Крыж: «У красавіку 1959-га ім адказалі, што ён памёр на тэрыторыі СССР 19 сакавіка 1954 г. А ў лютым 1992-га малодшая сястра Янкі Серафіма, што жыла ў Польшчы, атрымала з Управы юстыцыі Мінгарвыканкама дакумент, у якім паведамляецца, што Вайсковы трыбунал БВА 4-5 лістапада 1953 г. прысудзіў Янку да расстрэлу і што «прысуд выкананы».*

Сястра Янкі Серафіма ўзгадвала: «Мы доўга ня ведалі, мы ўсё чакалі. Я хадзіла да варажэяў, усё мы не верылі, што яго няма. Недзе толькі два ці тры гады таму я першы раз памінала яго ў царкве як памерлага, а так усё не магла паверыць, што не жыве. У Вільні мы былі з мамай недзе ў 1967 годзе, ездзілі да цёткі, мы пайшлі ў царкву, і там мама паставіла свечку за сваіх бацькоў і за Янку. Гэтая ягоная свечка спачатку так добра гарэла, а потым зрабілася смутная, маленькая і згасла. Мама сказала: «Ужо сынка нашага няма».**

Тыя, хто дапамагаў Янку і не выдаў яго ў апошні год жыцця ў Беларусі, атрымалі розныя тэрміны зняволення. Іх лёсы вымагаюць далейшых росшукаў. Чалавек, які прадаў Філістовіча КГБ і атруціў яго снатворным, атрымаў падзяку і кіраўнічую пасаду.

Член Саюза пісьменнікаў БССР Макар Паслядовіч атрымаў тры ганарары за замоўленую КГБ аповесць «Па воўчых сцежках» — у 1950-я ад газеты «Звязда», ад Дзяржвыдавецтва і ў 1986-м за перавыданне ў зборніку.

Следчы КГБ Рыгор Трапш, які вёў справу Філістовіча і не хаваў сваёй прыязнасці да яго, амаль адразу пасля яе завяршэння быў адпраўлены на заўчасную пенсію. Старонкі следчай справы Янкі Філістовіча пераглядалі беларускія чэкісты на сваіх занятках, а таксама адкрывалі яе ў 1971 і 1977 гадах у сувязі з так званымі сігналамі грамадзян, іначай, даносамі на былых Янкавых памочнікаў, якія пасля адбыцця лагернага зняволення вярнуліся ў Беларусь.

---

* Паводле П.Казака http://www.lingvo.minsk.by/nn/2001/42/11.html

** Радыё Свабода, інтэрвію Ганне Сурмач 27.12.2005 http://www.svaboda.org/content/transcript/803821.html

У розных кутках свету сёння жывуць сябры Янкі Філістовіча, яго знаёмыя па эміграцыі, якія разам з ім гуртавалі беларускую моладзь у Францыі, вучыліся ў Бельгіі, удзельнічалі ў падрыхтоўцы яго вяртання на Бацькаўшчыну.

На 72 чалавек з іх ліку ў 1953 годзе Міністэрствам дзяржбяспекі была заведзеная крымінальная справа, але, як адзначана ў тым дакуменце: «Улічваючы, што гэтыя асобы знаходзяцца за мяжой і прыцягнуць іх да крымінальнай адказнасці не ўяўляецца магчымым», следчыя матэрыялы былі вылучаныя ў асобную вытворчасць і накіраваныя ў аператыўную ўправу МГБ БССР. Дастаць раскіданых па свеце беларускіх выгнаннікаў КГБ не мог, таму абыходзіліся прапагандысцкімі кампаніямі кшталту кнігі Макара Паслядовіча «Па воўчых сцежках» і пасквіляў іншых давераных літаратараў. Сярод 72 удзельнікаў «замежных антысавецкіх беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў», якія згаданыя ў пастанове следчага МГБ, значацца прозвішчы Аляксандра Лашука, Міхася Наўмовіча, Янкі Запрудніка, Барыса Рагулі...

### Аляксандр Лашук

*У аснову п'есы пакладзеныя допісы Янкі Філістовіча Аляксандру Лашуку, які жыў у Лондане (памёр у 1997). Вось яго ўспамін пра Янку спецыяльна для гэтага даследвання:*

«Я запазнаў Янку Філістовіча пасля таго, як яго сям'я са сваёй вёскі пераехала ў мястэчка Ілля. Гэта было пад канец лета ў 1942 годзе. Ён быў тады юнак, якіх можа 16-17 гадоў. Яго праз нейкі час забралі ў малачарні, паколькі гэта быў узрост, калі немцы якраз забіралі моладзь на вываз у Нямеччыну. Ён быў развіты, але і ўпарты, так як усе юнакі ў гэтым узросце.

Страціў я з ім кантакт, калі ён выехаў з Ільлі ў Вілейку. Адшукаў яго фактычна ўжо па вайне, дзякуючы святой памяці інжынеру Рыдлеўскаму, які быў у 1946 годзе ў Рыме, дзе я быў прыдзелены пры польскім войску. Разгаварыліся, ён спытаўся, адкуль я, кажа: а, з Ільлі тут у нас у Парыжы ёсць Філістовіч Янка. Пачалася перапіска, а асабіста я з ім спаткаўся ў 1948 годзе ў Парыжы, калі наша дэлегацыя беларусаў з Англіі прыехала на з'езд САБЭ — Сусветнага Аб'яднання Беларускай Эміграцыі. Я нейкі час яшчэ заставаўся ў Парыжы і начаваў там, дзе ён знаходзіўся з Наўмовічам.

Паавароце ў Англію працягвалася перапіска. Калі мне стала вядома, што ён мае намер быць скінутым у Беларусь, я яму адраджваў, бо ніякіх вялікіх рэзультатаў гэта не дасць, бо няма сілы з нашага боку. Але ён пісаў, што гэтай ідэі не закіне. У міжчасе я таксама кантактаваўся з прэзідэнтам Рады БНР Міколам Абрамчыкам, і ён таксама адмаўляў Янку, каб ён не рызыкаваў ехаць.

Пазней ад яго сваякоў мне стала вядома, што ён казаў сваёй сястры Веры, калі з ёй спатыкаўся: «Прэзідэнт Абрамчык меў рацыю, калі гаварыў, каб я не згаджаўся на скідку ў Беларусь. Але гэта ўжо сталася, і я цяпер мушу гэту місію да канца выконваць».

Цяжка ацаніць усё гэта. Гераізм яго быў вялікі. Але тое, што ён планаваў зрабіць, зрабіць было немагчыма. Але ён быў упарты, і калі пастанаўляў нешта, дык імкнуўся выканаць. Шкада, але нічога не вернеш. Я ўважаю, што калі б ён заставаўся на Захадзе, мог прынесці большую карысць на эміграцыі для беларускай справы, чымся яго ўчынак там. Кожны з нас можа па-свойму ацэньваць гэтую справу. Хай яго на тым свеце судзяць. І кожны хай цэніць яго як патрыёта».

### Міхась Наўмовіч

*Найбліжэйшым сябрам называў Янка Філістовіч свайго раўналетка Міхася Наўмовіча, разам з якім ён выдаваў часопіс «Моладзь» і закладаў Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі ў Францыі. Пасля вяртання Янкі ў Беларусь гэтую арганізацыю ўзначаліў ягоны сябра. Мастак Міхась Наўмовіч жыў ў горадзе Вілепінт недалёка ад Парыжу (памёр у 2004). Ён расказваў:*

«Я запазнаў Янку Філістовіча ў 1947 годзе ў беларускім памешканні на вуліцы Гравіер, калі я вярнуўся ў Францыю пасля маёй дэмабілізацыі з саюзніцкіх войскаў у Італіі. Калі Янка даведаўся, што я не меў дзе жыць, ён запрапанаваў, каб я часова спыніўся ў яго, у старэнькім гатэлі ў прадмесці Парыжа. Пасля я знайшоў асабістую кватэру і мы разышліся, але часта спатыкаліся або на зборках беларускіх, альбо ў касцёле на службах, адпраўляных айцом Львом Гарошкам, а часамі і пры спорце.

Мы зноў з'ядналіся ў адным студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Парк Шэвірон Сэўр, каля Версалю. Я жыў у адным пакоі з Янкам, і тут ён закладаў БНАМ — Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі — і часопіс «Моладзь». Супольна мы выдалі дзясятак нумароў перад яго-

ным выездам на студыі ў Бельгію, у Лювэн. Я працягваў выданне «Моладзі» яшчэ некалькі гадоў.

Ад часу выезду Янкі ў Лювэн я страціў з ім усе кантакты. Пра ягоны лёс я даведаўся толькі калі бальшавікі знайшлі мой адрас і прыслалі мне кніжку Паслядовіча «Па воўчых сцежках». Пра смерць Янкі, яго расстрэл бандытамі НКВД я даведаўся толькі ў 1992 годзе, праз сорак гадоў...

За што памёр мой дарагі Янка? За тое толькі, што бязмежна, усім сэрцам, усёй сваёй душой любіў сваю дарагую, незаменную Беларусь і беларускі народ. Ён таксама прычыніўся да таго, што Беларусь ёсць незалежная. Калі я ў мінулым годзе меў радасць, шчасце вярнуцца ў Беларусь пасля 49 гадоў разлукі і хадзіць зноў па сцежках маёй маладосці ў Наваградку, Мінску, на Нарачы, дык якая б у мяне была радасць, каб са мной быў мой сябра, прыяцель і супрацоўнік, мой дарагі Янка!

Яго няма, бо на 28 годзе жыцця загінуў ад кулі, якую не заслугоўваў, бо нікому ніколі ў сваім жыцці не зрабіў ніякае шкоды. Невядома нават, дзе ягоная магіла.

Дарагі Янка, калі твая душа там, далёка, з-пад зорак, бачыць тваю дарагую Беларусь, дык можа і цяпер будзеш ёй дапамагаць, каб яна вярнулася да сапраўднага шчаслівага жыцця, калі будзе кіраваная сваімі моцнымі адданымі беларускімі патрыётамі. Беларусь заслугоўвае на тое, каб была найпрыгажэйшай краінай Еўропы і свету, бо ў ёй жыве такі прыгожы народ. Як ты, Янка, заўсёды пісаў у сваіх лістах, — Жыве Беларусь!»

### Янка Запруднік

*Пасля вайны ў Бельгіі, у каталіцкім універсітэце Лювэна вучылася ладная беларуская грамада. Сёння многія былыя лювэнцы памятаюць Янку Філістовіча, хоць яго побыт там быў нядоўгім. У іх ліку — доктар Янка Запруднік, былы шматгадовы супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода, цяпер — ад'юнкт-прафесар Калумбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку.*

«Мы ўдзевяцёх прыехалі з Ангельшчыны ў Лювэн увесну 1950 года, і неўзабаве прыехаў Янка Філістовіч з Парыжа. Агульнае ўражанне ад яго засталося як ад маладога, прыстойнага, засяроджанага чалавека, нешматслоўнага. У мяне пасля яго застаўся сшытак, у якім ён запісваў курс гісторыі. Я быў на гістарычным факультэце, і ён гісторыяй ці-

кавіўся. Пасля кароткага знаёмства ён мне пакінуў гэты сшытак, датаваны 3 студзеня 1947 года.

Версія мінуўшчыны Беларусі, запісаная ім — нацыянальна-дзяржаўніцкая. У каго ён слухаў гэты курс — цяжка сказаць, верагодна, у Міколы Абрамчыка, старшыні Рады БНР, які сам моцна гісторыяй цікавіўся. Я таксама знаёмы з артыкуламі Янкі Філістовіча ў часопісе «Моладзь». У іх адлюстроўваецца ягоны патрыятызм, інтэнсіўнасць характару і ідэалізм. Я думаю, гэта асноўны імпульс, які спрычыніўся да таго, што Янка апынуўся на Бацькаўшчыне.

Мы нічога не ведалі пра ягоныя намеры, ён быў нешматслоўны. Рэтраспектыўна цяпер бачыцца постаць з моцным характарам і глыбокім пачуццём беларускага патрыятызму, ідэалізму і самаахвярнасці. Шмат свайго перакананні палітычнага ён чэрпаў з мінуўшчыны, з беларускай гісторыі.

Ягоны ўчынак, бясспрэчна, геройскі. Думаю, ён мусіў ведаць, на што ідзе, тую небяспеку, якая напаткае яго, і ўсё гэта перадумаць і быць гатовым. Гэта сведчыць пра сілу характару. Гэта характар пакрою Кастуся Каліноўскага. Я думаю, што калі праўда пра Янку Філістовіча, уся драма, трагізм асабістай гісторыі будуць усвядомленыя, дык ён у вачох наступных пакаленняў значна вырасце і будзе прыкладам таго драматычнага і геройскага змагання, якое вялося...»

## Барыс Рагуля

*Адным з тых, хто непасрэдна вёў справы з Янкам Філістовічам перад яго перакідкай у Беларусь, быў старшыня Беларускага Студэнцкага Саюза Барыс Рагуля. Доктар Рагуля жыў у Канадзе, быў выканаўцам абавязкаў старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (памёр у 2005).*

«Янку Філістовіча я першы раз спаткаў у 1949-50 гадах у Парыжы. Ён працаваў разам са святой памяці Міколам Абрамчыкам, былым прэзідэнтам Рады БНР. Уплыў гэтага чалавека ў патрыятычнай, нацыянальнай падрыхтоўцы пакінуў вялікі след на Янку.

Я хацеў яго дастаць на вучобу ў Лювэн, у Бельгіі, і ён некалькі разоў прыязджаў, і тады я больш пазнаёміўся з ім. Ён быў крыху іншы ад усіх студэнтаў. Яго думка адна канцэнтравалася выключна на службе беларускаму народу. Якую б гутарку ні пачыналі, лёгкія тэмы, ён вяртаўся да аднаго. Проста было цяжка паверыць, што можа быць у чалавека такая адданасць, такая любоў да свайго народа, як у яго была.

Ён мне раз сказаў: «Ведаеце, я б ахвотна студыяваў, але мне тут душна. І ў Лювэне, і ў Парыжы, наогул на эміграцыі. Я лічу, што абавязак мой быць там, дзе мой народ церпіць». Тады не было яшчэ ніякіх магчымасцяў выканаць гэтае пажаданне. Але тады я пабачыў, што шчасця на эміграцыі ён не знойдзе. Ён шукае нейкага іншага выхаду, нейкага спаўнення сваіх ідэалаў.

І вось калі ад спадара Абрамчыка ён даведаўся аб магчымасцях, што можна падрыхтаваць людзей, якія ў выпадку вайны маглі б апынуцца на Бацькаўшчыне, ён адразу заявіў спадару Абрамчыку: «Я чакаць не магу. Дапамажыце мне, каб я адразу пайшоў на Бацькаўшчыну». Спадар Абрамчык, ведаючы яго патрыятызм, лічыў, што гэта вельмі небяспечна, і прасіў мяне з ім пагаварыць, каб ён змяніў сваю думку.

Я памятаю, яго спаткаў, доўга гутарылі. Я яму кажу: «Янка, гэта роўна самагубству». Тады ён мяне спытаў: «А Кастуся Каліноўскага чын быў роўны самагубству? Каб не было Каліноўскага, не было б 25 Сакавіка. Без ахвяраў народ не можа здабыць свабоду і незалежнасць».

Гэтыя словы так глыбока засталіся ў маёй памяці, што калі я пісаў аб ім, мне адразу прыйшла думка: гэта ёсць малады Кастусь Каліноўскі, які верыць у тое, што зямля, прасочаная крывёй, дасць плод свабоды і вольнасці. Хто ведае, каб не Каліноўскі, каб не слуцкія паўстанцы, каб не Янка Філістовіч, нават гэтая тэарэтычная Рэспубліка Беларусь, якая сёння лічыцца незалежнай, ці яна была б...

Я не ведаю, ці была б Пагоня, ці быў бы Бел-чырвона-белы сцяг, каб не такія людзі, як Янка Філістовіч. Я ўжо ў паклонным веку мімаволі схіляю галаву перад гэтай велічай душы, перад гэтай велічай духу і хачу верыць, што ягоная ахвяра не была дарэмнай».

## Цяжкае вяртанне

Верасень 1994-га выдаўся надзіва сонечным. У адзін з выходных я выбраўся на Вілейшчыну, у мясціны, дзе дзейнічаў Янка Філістовіч. Хацеў пагаварыць з тымі, хто дапамагаў яму, даваў прытулак у апошні год жыцця, не данёс уладам пра госця з-за мяжы і расплаціўся за гэта гадамі свабоды.

Тады, у верасні 1952-га, КГБ арыштаваў цэлую групу аднавяскоўцаў і сваякоў Філістовіча з вёсак Паняцічы, Пузава, Ярмолічы, Лепаўшчына ды іншых, дзе бываў Янка. Былі адпраўленыя за краты Пётра Кулеш, Андрэй Бялькевіч, Аляксей Філістовіч, Янка Петрусевіч, Кастусь Кулеш, Уладзімер Крэнь, Анастасія Скабей, Цімох Мандрык, Радыён Чарняўскі,

Зінаіда Стахевіч, Янка Пехур, Фама Шадурскі, Пётра Самаль і яго дачка Соф'я, Янка Каляда, Юстын Дуровіч, Лявонці Буслаўскі.

Як склаўся іх лёс, што перажылі, як выжылі? Вёскі Пузава, дзе доўгі час хаваўся Янка, на карце няма — яе перайменавалі ў Лясную. Начальству не спадабалася этымалогія назвы вёскі. Мясцовы жыхар, былы ляснік Міхал Самаль, казаў, што назва тая паходзіла з даўніх часоў, калі сюды высылалі з панскага маёнтку цяжарных дзевак.

Мне паказалі месца, у якім некалі стаяла хата і хлеў Пятра і Соф'і Самалёў, дзе некалькі месяцаў быў прытулак Янкі. Калі дачку з бацькам арыштавалі, іх падворак канфіскавалі і прадалі. На рэшткі фундамента толькі старыя вольхі скідвалі сваё лісце...

Пятра Андрэевіча Самаля з дачкой забралі 3 верасня 1952 года. Але праз пару дзён іх прывезлі назад у Пузава ў сваю хату. Янка вырваўся з засады, і хоць у пагоню былі кінутыя праваднікі з сабакамі, аператыўныя групы, раён быў ачэплены вайсковымі часткамі і паднята на ногі міліцыя, начальства КГБ моцна нервавалася. І было чаго. Большасць членаў лясной групы не ўдалося ўзяць жывымі, а галоўны вораг, амерыканскі шпіён, увогуле знік. Чалавек, які змог дзейнічаць на працягу года ў цэнтры памежнай рэспублікі, ездзіў у Горадню, Вільню, Баранавічы, Маладзечна і не быў ні разу заўважаны, здаваўся амаль містычным. Да таго ж і наводка на яго прыйшла з Масквы, дзе рабілі перлюстрацыю ўсёй пошты за мяжу. Мясцовыя чэкісты праспалі. Калі ўцячэ — давядзецца расплочвацца пасадамі і пагонамі...

Было прынятае рашэнне выкарыстаць Пятра і Соф'ю Самалёў у ролі падсадных качак. «Нас з татам прывезлі дахаты, на двары сабака сустрэў, скача ад радасьці, — успамінае Соф'я Самаль. — Зайшлі, агледзеліся. Некаторых рэчаў ужо не было — суседзі падумалі, што з канцамі, не вернемся... Нам казалі, што калі Янка прыйдзе, каб адразу паведамілі. Паабяцалі 25 тысячаў рублёў».

Янка ў Пузава не пайшоў. Праз некалькі дзён бацьку з дачкой пад канвоем зноў павезлі ў Мінск і кінулі ў адзіночныя камеры турмы КГБ — «амерыканкі».

«Цішыня ў камеры, — расказвае Соф'я. — Я ў боціках была, чую, вядуць некага па калідоры, пачала пастукваць — раптам тата? Ён пазнаў, і таксама пастукаў, і так уведаў, што я тут. Потым як ішоў, абавязкова даваў знак. На допытах мяне не білі, усё распытвалі пра Янку. А што я магла расказаць? Янка ўсё пытаўся, мы за Беларусь ці за Саветы? Пыталіся, чаго мы яго хавалі? А як мы радню прадамо? Ні за што!

Тата мне наказаў не прызнавацца, што Янка наш сваяк, бо думаў, заб'юць. Але ўсе пацвердзілі, што ён татаў пляменнік. Мне потым адзін ахоўнік сказаў, што калі радня хавала, дык менш будуць цягаць, а вось калі хто іншы, дык тады будуць шукаць чаму, якая змова ці што...

Выклікалі адзін раз мяне на вочную стаўку. Янка быў нейкі спакойны, і мне сказаў — не бойся. Я мусіла нарадзіць, і мяне перавялі ў турэмны шпіталь. Але аднойчы пачула крык на двары, падалося, знаёмы голас, выглянула ў вакно і, відаць, пераціснула сабе нешта. Дзіцё загінула... На судзе я патрабавала, каб яму далі абаронцу, бо ў яго не было. Трымаўся ён вельмі спакойна, нас падбадзёрваў...»

Соф'і далі 8 гадоў лагераў і этапавалі ў Мардовію, дзе яна шыла ваенныя бушлаты; бацьку пад канвоем павезлі ў Комі АССР на лесапавал. Вызвалілі іх у 1955-м, прычым бацьку першага, і ён адведаў дачку ў лагеры. Цяпер Соф'я Пятроўна Філістовіч (пасля лагера яна выйшла замуж за сваяка Янкі і даўно ўжо аўдавела) на белым свеце засталася адна, ходзіць з цяжкасцю, трымаючыся за ровар, але мусіць яшчэ гадаваць коз — пенсія 26 тысячаў рублёў. Дзякуй суседзям, добрыя людзі, дапамагаюць па гаспадарцы.

Дом былога лесніка Міхала Самаля стаіць амаль адразу на ўездзе ў вёсачку Пузава, якую цяпер называюць Лясная. Сам гаспадар не мае дачынення да арыштаваных за дапамогу Янку Філістовічу Пятра і Соф'і Самалёў, а вось яго жонка Яўгенія мае. Гэта яе бацьку Пятра Андрэевіча Куляша арыштавалі 3 верасня 1952 года. Самалі якраз капалі бульбу, калі я прыехаў у Пузава: сабралася ўся вялікая сям'я — чатыры сыны, іх дзеці.

Яўгенія Пятроўна спачатку не надта хацела ўспамінаць перажытае — як бы зноў чаго не выйшла. Гаварыў больш муж, але потым разгаварылася і яна. Узгадала, як некалькі разоў выбіралася ў Мінск, каб пабачыць бацьку, занесці перадачу. Але пабачыла толькі аднойчы, калі ў дзень суда вязняў вялі з машыны ў будынак. Ды яшчэ пазнала ягоныя спрацаваныя рукі на кратах акенца ў «чорным воране».

Пётра Кулеш патрапіў у лагеры ў Башкірыю, але адседзеў толькі частку тэрміну — тры гады. У 1955-м па лагерах ужо ездзілі хрушчоўскія камісіі і паводле іх актаў на волю выпускалі большасць зэкаў, пасаджаных пры Сталіне — праўда, без рэабілітацыі, зняцьця судзімасці. Калі Пётра Кулеш вярнуўся, шмат пра перажытае не казаў. Толькі расказваў часам зяцю, як збівалі яго ў Мінскай турме КГБ. «Як дадуць у плечы, у грудзі — і дух прэч. Ці заціснуць у халодны карцар — не стаць, не сесці.

А зверху ледзяная вада». Пётра Кулеш захварэў на цукровы дыябет. Яго даўно ўжо пахавалі.

Расказ бацькі з цікавасцю слухалі сыны. Благога слова пра Янку і людзей, што яму дапамагалі, ніхто не сказаў. Пра яго ахвяру дзеля Беларусі мала што ведалі.

Адзін з вясковых субяседнікаў узгадаў, што чытаў некалі ў адным з беларускіх часопісаў пра амерыканскага шпіёна, які дзейнічаў у іхных мясцінах. Сапраўды, у часопісе «Нёман» №1, 1972 г. палкоўнік дзяржбяспекі ў адстаўцы нехта Дзмітры Смірноў даваў сваю версію затрымання небяспечнага агента заакіянскай разведкі. Яна не надта адрознівалася ад «дакументальнай аповесці» М. Паслядовіча, супадае нават агульная назва ўспамінаў «Па воўчаму следу». Аўтар, хоць і даслужыўся потым да пасады міністра дзяржбяспекі нейкай аўтаномнай рэспублікі, гісторыю Беларусі тлумачыў своеасабліва. Так, «БНР» расшыфраваная як «Беларуская народная рада» і характарызуецца ў якасці «нацыяналістычнай арганізацыі». Ці проста заезджы чэкіст не ведаў, што такое БНР, ці свядома зблытаў з ЦБР, Цэнтральнай Беларускай Радай, утворанай падчас II сусветнай вайны — цяжка сказаць. Аднак і супрацоўнікі часопіса не паправілі напісанае.

На думку жыхара вёскі Пузава Міхала Самаля, вельмі шмат значыць для ацэнкі чалавека, як ён кажа, парода. Ён узгадаў, што дзед Янкі Філістовіча пабудаваў за свае грошы дом пад школу для навакольнай дзятвы; у гэтай школе вучыліся і сыны самога Міхала Самаля. Павагай карыстаўся і бацька Янкі, якога абралі старастам. Паважалі яго людзі і пры паляках, і пры немцах.

Падчас гэтай паездкі на Вілейшчыну давялося пачуць і пра тое, як у рэшце рэшт быў затрыманы Янка. Гісторыя гэтая добра вядомая ўсім удзельнікам падзеяў. Янка Каляда з вёскі Лепаўшчына даслаў ліст, дзе ён узгадваў абставіны арышту са словаў самога Янкі на судзе. У дэталях гэтаксама перадавалі яе і іншыя субяседнікі. Вось што адбылося адной з вераснёўскіх начэй 1952-га года.

... З засады, у якую патрапілі Янка і яго спадарожнікі, вырваўся ён адзін. Ноч была на зыходзе, і ён спяшаўся, колькі хапала сілаў, як далей адысці ад месца, дзе іх сустрэлі стрэламі і крыкамі «Стой». На лёгкую рану не зважаў. З сабой быў парашок, якім пасыпаў сляды, каб не пачулі сабакі. Некалькі разоў пераходзіў рэчку, каб канчаткова зблытаць пагоню. Вада была сцюдзёная, абсушыцца не было як. Дзень правёў у лесе, наступную ноч таксама. Раскласці вогнішча было занадта небяс-

печна. Нічога не еў, пачала падымацца тэмпература. На наступны дзень папрасіўся да незнаёмага дзядзькі ў хлеў. Той накарміў, узяў схаваць аўтамат. Сам Янка парваў дакументы, якія меў з сабой, выпараў і выкінуў ампулу з цыяністым каліем, зашытую ў каўнер. Відавочна, верыў ва ўдачу і спадзяваўся ісці да польскай мяжы, што б ні стала.

На наступны дзень, аднак, адчуў сябе зусім дрэнна: моцна паднялася тэмпература, не было чаго і думаць прайсці сто з нечым кіламетраў у такім стане. Трэба было здабыць медыкаменты. Бліжэйшая аптэка мясцілася ў мястэчку Вязынь. Але там сельсавет, улады, і паказвацца ў Вязыні самому азначала добраахвотна здацца КГБ. Вырашыў скіраваць шлях у суседнюю з Вязынню вёску Ярмолічы. Яна не навідавоку, там цішэй, ды і жыў у Ярмолічах добры знаёмы, школьны сябар Пётра Соніч.

Выбар Янкі тлумачыўся яшчэ, верагодна, тым, што бацька сябра, Цімафей, у свой час быў высланы як кулак у Сібір і наўрад ці меў цёплыя пачуцці да савецкай улады. Значыць — не выдадуць, дапамогуць.

Філістовіч не ўлічыў аднаго: цёплых пачуццяў да савецкай улады ў Соніча-старэйшага магло і не быць, але, напэўна, быў страх. Уся ваколіца ведала пра тое, што вядуцца пошукі «небяспечнага бандыта», і ўлады патрабавалі садзеяння, абяцалі ўзнагароду. Праўда, Філістовічу на працягу года дапамагалі зусім незнаёмыя людзі; вось і напярэдадні даў прытулак чужы чалавек, нават узяўся зброю схаваць...

У кожным выпадку, Янку патрабавалася неадкладная дапамога, і ён пастукаў да Соніча. У хату пусцілі, сустрэлі быццам нармальна. Пётра пагадзіўся схадзіць у Вязынь па лекі. Янка напісаў спіс неабходных медыкаментаў, і сябар выправіўся ў дарогу. Калі ён вярнуўся, відавочна, Янка нічога падазронага не адчуў, а магчыма, з-за высокай тэмпературы, слабасці і не мог заўважыць.

Пётра насыпаў яму вялікую порцыю белага парашку — сказаў, што ад тэмпературы — і Янка выпіў.

Праз пару гадзінаў хату акружылі гэбісты. Былі перакрытыя шляхі адыходу, патроны дасланыя ў ствалы пісталетаў і аўтаматаў, усё падрыхтавана да штурму — але супраціву не было. Філістовіч ляжаў непрытомна і нават калі яго расштурхалі, надзелі наручнікі і ўштурхнулі ў машыну, не разумеў, што адбываецца. На судзе ён скажа, што заснуў у хаце Соніча і прачнуўся ўжо ў турме.

Аперацыя прайшла ціха, без ніводнага стрэлу. Тым не меней, у вёсцы нешта пабачылі, пачулі, здагадаліся. І калі неўзабаве ў Пятра Соніча

з'явіўся новенькі матацыкл, ні для каго не было загадкай, на якія грошы ён набыты.

Калі Соф'я Самаль вярнулася з Мардовіі і выйшла замуж за сваяка Янкі, дык пераехала да мужа ў гэтыя самыя Ярмолічы. Сустракала Соніча, але ні разу не загаварыла з ім пра Янку, ніяк не дала нават зразумець, што ведае пра яго здраду.

... Стары страх не памёр. Што казаць пра паводзіны запалоханых вяскоўцаў у 50-я гады, калі і сёння, праз сорак гадоў пасля падзеяў, дзяржава лічыць іх злачынцамі — за тое, што не данеслі на сваяка, аднавяскоўца, пусцілі пераначаваць, накармілі.

У Якава Кісяля, франтавіка, пасля арышту забралі баявыя ўзнагароды і дакументы на іх. Прычым калі медалёў яго мог пазбавіць суд, дык наконт ордэна Чырвонай Зоркі спецыяльную пастанову мусіў прымаць аж Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР. За ўсе гады Кісель ніводнага дня не пакарыстаўся льготамі як удзельнік і інвалід вайны. Аскепкі ў 82-гадовага жыхара Паняцічаў выходзяць дагэтуль, а ўзнагароды так і не вярнулі. Сын, які, дарэчы, вучыўся некалі ў школе, пабудаванай дзедам Янкі Філістовіча, хадзіў у ваенкамат, звяртаўся ў Падольскі вайсковы архіў. Там пацвердзілі раненне, узнагароды, але Якаў Кісель працягвае атрымліваць пенсію па старасці і ўдзельнікам вайны не лічыцца: нерэабілітаваны, значыць, злачынец.

Сістэма ўчэпіста абараняе сама сябе. Два гады на мае спробы пазнаёміцца з заключнымі тамамі справы Філістовіча сустракаю глухую адмову КГБ. Пасля спатканняў у вілейскіх вёсках я звярнуўся з лістом да новага старшыні КГБ Уладзімера Ягорава, у якім, як член Камісіі Вярхоўнага Савета ў справах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, прасіў дапамагчы азнаёміцца з дакументамі. Я адзначаў, што афіцыйныя матывы, паводле якіх мне адмаўляюць пазнаёміцца са справай да канца — тое, што Філістовіч не рэабілітаваны, — ствараюць заганнае бюракратычнае кола.

Прывяду заканчэнне ліста: «У мяне няма ілюзіяў наконт ведамасных матываў асобных работнікаў КГБ, якія і праз 50 гадоў хаваюць тайну трагічнага лёсу чалавека, які безразважна любіў Беларусь, а не БССР. Мне вядома, што на гэтай справе вучылі чэкістаў у школе КГБ. Відаць, тыя ўрокі добра засвоеныя ў нерэфармаваным КГБ Беларусі».

Ліст я адправіў 19 верасня; праз тыдзень быў гатовы адказ за подпісам першага намесніка старшыні КГБ В. Кеза. «Згодна з пастановай ад 6 чэрвеня 1991 года Вярхоўнага Савета на азнаямленне з матэрыяламі

крымінальных справаў маюць права рэабілітаваныя асобы, а з іх дазволу або ў выпадку смерці апошніх — іх блізкія сваякі. Доступ да крымінальных справаў нерэабілітаваных грамадзян мае строга акрэсленае кола прадстаўнікоў праваахоўных органаў. Азнаямленне іншых асобаў з матэрыяламі такіх справаў існуючым заканадаўствам не прадугледжана».

Пастанова, на якую спасылаецца КГБ, была прынятая ў часы існавання і ўлады кампартыі, калі яна рыхтавалася да апошняга бою з народам — за два з паловай месяцы да путчу. Задачай пастановы было абмежаваць доступ да дакументальных сведчанняў генацыду камуністычнага рэжыму і такім чынам абараніць партыю ад новых і новых доказаў яе злачыннасці. Пасля правалу путчу бессэнсоўнасць і амаральнасць арышту праўды пра мінулае, здаецца, зразумелі і ў самім КГБ. Паставілі некалькі сталоў у адной з раздзявалак і да архіваў сталі дапускаць гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, журналістаў. І неяк на пастанову Вярхоўнага Савета не зважалі.

Аднак пакрысе шок праходзіў, «палявання на ведзьмаў» дэмакраты не пачыналі, помнік крываваму Феліксу ў Мінску ніхто не скідваў, і ў жоўтым доме з калонамі, пабудаваным Цанавам, усё пачало вяртацца на колы свае. Дзверы ў архівы сталі прычыняцца. Сёння ведамасная кантора пад назвай КГБ зноў узурпавала агульнанацыянальны скарб — дакументальную памяць аб трагічным мінулым — і лічыць, што мае законнае права ім распараджацца ў сваіх інтарэсах.

...Розныя радзімы ў Янкі Філістовіча і яго суддзяў. У Янкі — Беларусь, у суддзяў — СССР.

Янку Філістовічу рэабілітацыя ад уладаў непатрэбная — ён рэабілітаваны гісторыяй.

Янка вярнуўся ў Беларусь, незалежна, ці выпішуць яму даведку аб рэабілітацыі, ці не. Я не стаў бы і гаварыць пра тое, калі б не лёс яго сваякоў і суседзяў, якія пацярпелі, бо не сталі даносчыкамі. І не ў савецкім лагерным кляйме справа — разумныя даўно зразумелі яго вартасць. Справа ў элементарных пенсіях, у кампенсацыях за канфіскаваную маёмасць. Па-ранейшаму здзекавацца і лічыць гэтых людзей злачынцамі можа толькі чужая, варожая Беларусі ўлада.

*1994*

# Напісана крывёю

Пасля эпілогу

Філістовіч праколваў палец, чапляў кончыкам пяра кроплю крыві і выводзіў літары на паперы. Так былі напісаны ўсе яго лісты за мяжу з паведамленнямі пра сітуацыю ў Беларусі.*

**30 верасня 1951**

30.X.1951 h. Pačatak. № 1.

Sytuacyja v[ielmi] ciažkaja. Siłaj zahnali ŭ kałchozy. Uvieś chleb zabirajuć. Narod haładaje — čakaje vajny. Isnuje ŭ nas davoli mocny partyzanski ruch. Dasiul viałosia biezahladnaje zmahannie, ciapier zachoŭvajem žyvuju siłu. Niedachop zbroi, amunicyi, lekaŭ i t. p. Ahulnaje niezadavalnienie balšavickim panavanniem u našym krai. Na vypadak vajny usie biełarusy pojduć u les. Treba pryhatavać materjał i liudziej, pierasyłajcie heta na zhon sniehu na majo staroje miesca.

Zbroja jak u mianie. Vorah ciapier vielmi słaby ŭnutrana. Usim apastyleŭ abman. Adciahnuć hod budzie vialikaj pamyłkaj — prastupstvam. Partyzany pytajucca: «Čamu niama aŭdycyjaŭ pa-biełarusku?» Dajcie lepšy srodak suviazi — dam cennyja viestki razmiaščennia u našym krai avijacyi i žyvoj siły voraha (praciŭnika). Z Karei viartajucca kaleki — byŭšyja asudžanyja na 15-25 hod. Padpałk[oŭnik] Słucki pierasyłaje pryvitanni Mikolie i inšym. Žyvie Biełaruś! Janka.

**9 лістапада 1951**

№ 2. Pačatak (a). 9.XI.1951 h.

Naš ruch aporu zusim niezaležnicki. Dobra zarhanizavany. Dasiul vorah ihnaruje maju prysutnaść. Na vypadak vajny usie biełarusy pojduć u les. Padrychtujcie da hetaha materjał i liudziej. Pierasyłajcie na majo staroje miesca. Partyzany pytajucca: «Čamu niama aŭdycyi pa-biełarusku?» Siamji (Barysa) niama — vyvieziena. U Vilno mała vojska, mała i letuvisaŭ. U Bieła-Vaka — połk La-9; u Panarach — połk La-9; u Kiedejniauie — połk P-2 (bamb.), u Paniavežy — połk Il-10 (m. šturm.) i połk Il-21 (reakc. bamb.). U

* Тэксты ўпершыню апублікаваны ў часопісе «Беларуская думка» 2009. № 8., паводле перадруку і расшыфроўкі скаротаў у следчай справе.

Šaŭlajach — štab dzivizii bamb. — połk Il-2 (reakc. bamb.) i połk P-2 (mator. bamb.). Z Karei viartajucca kaleki byŭšyja palit. asudžanyja na 15-25 h.

Pryvitanni usim. Kaniec. Žyvie Biełaruś. Vaš Janka.

### 4 снежня 1951

4.12.51 h. Pačatak (d). № 3.

Padpałk[oŭnik] Słucki1 viasnoj čakaje: 1 — Mi[kuliča] P. 2. S[niežko]. 3. Hał[ubowiča] A. 4. Abr[amčyka] K. 5. Mick[eviča] V.2 2 radyst[y], 2 aparaty, 10 dobra vyškolenych aŭtamat[čykaŭ], voprat[ku] skura[nuju], poŭnaje vypasaž[ennie]. Zbroja jak maja, ci v[ajennych] niam[ieckich] aŭtamat[aŭ] 44 h[oda]. Daj[cie] najbolš: aŭtamat[aŭ], amunic[yi], hranat, min, lek[aŭ], sav[ieckija] hrošy, ratatar, pałat[ak] s miaš[kami] i t. p. Miesca majo staroje peŭnaje, tut možna śmieła adpačyć samim. Kampl[ekty] kart 1:25:50000 (moj raj[on] zach[odni] i paŭn[očny]. Jak № 1?

Pryš[licie] mnie nov[yja] dakum[enty] z inš[ym] proźv[iščam] i błankaŭ da starych. Adkazy piš[ycie] 2 — da Č[ajeŭskaha] i da V[ysockaha]. U Horadni v[elmi] š[mat] vojska (b[ačyŭ] sam): № 37618, 26; 73937; 29345; 76937; 10869; 61581; 259 O.S.B. «B». Našy part[yza]ny zabaranili mnie utrymlivać suviaź z vami, kali ad 1.I.52 h. nia budzie aŭdycyjaŭ pa-biełarusku. Pryvitanni. Z pavahaj. Kaniec. Janka. Žyvie Biełaruś. 8.III.52 h. vyviezli usich viarnuŭšychsia z Anglii.

### 1 лютага 1952

№ 4. Pačatak (2). 1.II.52 h.

U sakaviku dataj majho prybyćia na starym miescy čakaju zbroju i tamu p[adobnaje], jak u № 3. U krasaviku toj samaj dataj čakaju zbroju i siabroŭ. Žyvie Biełaruś. Janka.

### 1 траўня 1952

Pač[atak] (9). №-5. 1.V.52.

U mai majoi dataj na starym miescy čakaju: zbroju, rady[ja]st[ancyju], medycyna. Kali sioleta vajna — siabroŭ. Pasla hymnu BNR — čakaju praz 48 hadzin (Hołas Am[eryki]). Ruch zusim niezaležnicki. Uvaha — zdrady! Kaniec. Ž[yvie]Biełaruś! Janka.

**15 ліпеня 1952**

№ 6. Pačatak (3). 15.VII.52 h.

Dajcie radysta, zbroi, amunicyi i t. d. Maximum druhi dahavor 66-1096. Vorah znajšou radyjo. Mianie ihnaruje. Paśla hymnu BNR (my vyjdziem…) — Hołas Amer[yki]. — Čakaju praz 48 hadzin. Byvajcie. Žyvie Biełaruś!

Janka.

**Даведка МУС БССР**

Сов. секретно. Только для председателя суда В[оенного] Т[рибунала].

По сообщению управления контрразведки МГБ Прибалтийского в/округа за № 1794 от 12/XII-52 года данные о воинских частях, местах их дислокации и техническом вооружении, изъятые у обвиняемого Филистовича И.А., в основном совпадают с действительными данными и являются совершенно секретными.

Зам. нач. 5 отдела 1 управления МВД БССР подполковник

Павлов. 23/X-53.

**З касацыйнай скаргі Янкі Філістовіча ў Вайсковую калегію Вярхоўнага Суда СССР**

«...Я окончательно выбросил о себе весь мусор, которым мне забивали голову, впервые прочитав, находясь в заключении, генеальные труды: «Капитал» К. Маркса, «Вопросы ленинизма» И.В. Сталина, несколько томов из сочинений В.И. Ленина и более трехсот других советских произведений. После этого мне, выходцу из крестьянской трудовой семьи, стало ясно: что такое капитализм и какие перспективы несет он людям труда! Мне стало ясно, что я являюсь «янчаром», коварно обманутым врагом, который взял мене своими хищными кровавыми руками почти с колыбели, ибо, родившись в неволе, я с шестилетнего возроста подпал под воздействие искусственно прымeняемого врагом опьюма. Поняв это, я глубоко переживал свое положение, в которим я очутился в результате коварного обмана, по своей молодости, и сделал все усилия к исправлению этой роковой ошибки. Я добровольно отдал весь матерьял, компромитирующий врага в его преступной деятельности против Советского Союза, а также ключ-условность з за границей для разоблачения его планов».

**... 2013**

Паводле публікацыі ў афіцыйным друку, аўтограф пакаяльнай касацыйнай скаргі датаваны 11 лістапада 1953 года.

Тэксталагічна гэта лістапад 1937.

Драматургічна — гэтаксама.

Графалагічна, нават без аналізу арыгінала, напісана таксама крывёй.

# Час кропкі

## Замест пасляслоўя

Розныя чытачы гэтай кнігі, якая ўпершыню прагучала на «Свабодзе» ў 1994 годзе і была апублікавана спачатку ў 1995-м у тыднёвіку «Культура», а потым выйшла як кніга ў 1997-м, часам ацэньвалі яе дыяметральна адрозна, але нярэдка зыходзіліся ў адным — гэта мастацкі твор без усякай, як пісаў адзін афіцыйны гісторык «гістарычнай і псіхалагічнай даставернасці», і без «пашпартызацыі цытатаў», як дадаваў адзін незалежны даследнік.

Стрыечная сястра Янкі Філістовіча, Яўгенія Самаль (Кулеш), запомніла на ўсё жыццё словы Янкі, калі ўзімку 1952-га, пасля паездкі ў Вільню, яны йшлі пешшу з Маладзечна дадому: «Слухай, Жэня, пра мяне калісьці будуць кніжку пісаць, а ніхто не будзе ў гэта верыць...»

Увагу новых чытачоў я звяртаю на апошні сказ «Пралогу» — не толькі апісаныя падзеі, але й словы героя ёсць сапраўды дакументальна зафіксаванымі словамі героя, а не аўтара. Вызначэнні і ацэнкі, лексіка і сінтаксіс, эмоцыі і факты належаць герою літаральна — я перачытаў сотні асабістых лістоў Філістовіча, іншых яго тэкстаў і, захоўваючы кантэкстны сэнс, узяў створанае ім і выклаў у выглядзе дыялогу, самай эканомной, на маю думку, формы арганізацыі такога матэрыялу. Гэтае ж тычыцца звестак, зафіксаваных у пратаколах, рапартах, даведках і іншых дакументах карных органаў.

У 1992 годзе мне як сябру камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі ў справах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў удалося атрымаць доступ да справы № 3383 Міністэрства дзяржаўнай бяспекі «па абвінавачанні Філістовіча І.І. і іншых грамадзянаў, усяго ў колькасці 17 чалавек». Справа была пачата 6 верасня 1952-га, скончана 6 лютага 1953-га і налічвала 23 тамы.

Неўзабаве пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі КГБ быў перападпарадкаваны Вярхоўнаму Савету. Гэта адразу палегчыла доступ да архіваў. На першым паверсе будынка КГБ, праз цэнтральны ўваход і налева, была арганізаваная невялікая чытальная заля для даследнікаў — гісторыкаў з Акадэміі навук, пісьменнікаў, журналістаў.

З архіву прыносілі справы, і чытачы старанна перапісвалі ў свае сшыткі ўсё, што цікавіла — капіявальных машынаў не было. Каталога ніхто не бачыў, што там яшчэ хавалася на архіўных паліцах, як было арганізавана, як шукаць

спадарожныя справы і дакументы, было невядома. Выдавалі матэрыялы выбарачна і толькі калі называў прозвішча асобы, якая цікавіла.

Аднак нават у такім выглядзе цягнулася гэта адліга нядоўга — менш чым праз год тагачасны старшыня камітэту раздражнёна заявіў у друку, што «КГБ — не хата-чытальня», і дзверы ў мінулае захлопнуліся.

Часам — на палове недапісанага радка. Літаральна.

Я не дачытаў усю справу да канца. Працаваў па парадку, рабіў выпіскі па ходзе чытання. Думаў — паспею. Памыліўся. Некалькі разоў спрабаваў ізноў дамагчыся доступу ў архіў, апеляваў да свайго статуса сябра камісіі Вярхоўнага Савету, і кожны раз атрымліваў адмову, апошнюю — за подпісам намесніка старшыні КГБ генерала Кеза.

Я не ведаў пра тое, што ў справе ёсць напісаныя па-руску пакаянні, не ведаў, калі яны ўзніклі, не кажучы пра тое, што ў такіх справах ніколі не застаецца сведчанняў, якім чынам яны з'явіліся. Па-мойму, гэта сведчанні не столькі пра канкрэтнага героя і яго мэту, колькі пра чалавека і машыну гвалту, пра асобу і дзяржаву. За два дзесяцігоддзі да Філістовіча такая самая гісторыя здарылася з Янкам Купалам, з дзясяткамі іншых беларускіх нацыяналістаў. І ня толькі нацыяналістаў, канечне. Чэкісты-энкавэдзісты і члены партыі з 1917 году ў руках сваіх былых калег «прызнаваліся» не менш хутка чым беспартыйныя, і ня толькі ў пік тэрору, 1930-я.*

Гісторыя зламанага духу — матэрыял трагедыі. Але трагедыя ахвяраў не павінна засланяць простую падставовую праўду — гісторыю і адказнасць катаў за ўсё, што адбылося з ахвярамі: за арышты, высылкі, катаванні, расстрэлы, за акупацыю, за ўсе «чыстасардэчныя» прызнанні, пакаянні, прашэнні аб памілаванні, без якіх яны не могуць жыць, як вампір без свежай крыві.

Я паспеў зрабіць выпісак на дваццаць тры поўныя старонкі агульнага сшытка фармату А4. Часам тое, што ў кнізе сфармулявана адным сказам, у маіх запісах займае старонку, як, напрыклад, вось гэтая табліца — прывяду яе як прыклад «пашпартызацыі»:

---

* У траўні 1951-га быў арыштаваны міністр асветы БССР Платон Саевіч, член КПСС з 1917, герой вайны, потым высакапастаўлены партыйны начальнік, яго дапытвалі ў тых самых сценах і амаль у той самы час, што і Філістовіча — 164 разы, толькі ў чэрвені — 44 разы, днём і ўначы, па 10-16 гадзінаў, і следчы, палкоўнік Крупянкоў, крычаў яму, на карачках будзеш поўзаць — прызнаўся ва ўсім, і што трацкіст, і што кулак, і што беларускую мову ў вну хацеў увесьці, і што чорт лысы — каб ўратаваць сям'ю, як патлумачыў пасля рэабілітацыі, да якой дажыў.

## Пратаколы допыту затрыманага-арыштаванага-абвінавачанага Філістовіча Івана Андрэевіча

М. Маелаў, следчы 1 аддзела
следчай часткі МГБ БССР,
ст. лейтэнант дзяржбяспекі

Р. Трапш, намеснік начальніка
2 аддзела следчай часткі МГБ БССР,
падпалкоўнік дзяржбяспекі

ад 10 верасня 1952 г.
Гор. Мінск

Філістовіч І.А., родам з в. Паняцічы
Іллянскага ра-на, беларус, з зажытачных сялян,
на момант затрымання знаходзіўся на нелегальным становішчы.
Допыт пачаты а 21 г. 30 мін.

| | |
|---|---|
| 10 верасня | 21:30 — 08:50 |
| 11 верасня | 16:00 — 19:20 |
| 11 верасня | 23:50 — 05:30 |
| 12 верасня | 21:45 — 08:30 |
| 13 верасня | 14:40 — 18:50 |
| 13 верасня | 22:45 — 06:30 |
| 14 верасня | 13:00 — 14:00 |
| 14 верасня | 23:05 — 04:10 |
| 15 верасня | 23:50 — 03:50 |
| 16 верасня | 14:00 — 18:20 |
| 16 верасня | 23:15 — 06:00 |
| 17 верасня | 13:10 — 18:00 |
| 17 верасня | 21:30 — 03:30 |
| 18 верасня | 13:30 — 18:00 |
| 18 верасня | 22:10 — 05:15 |
| 19 верасня | 14:10 — 17:30 |
| 19 верасня | 22:30 — 06:00 |
| 20 верасня | 22:00 — 04:40 |
| 22 верасня | 13:00 — 18:00 |
| 22 верасня | 22:30 — 04:20 |
| 23 верасня | 21:30 — 03:45 |

24 верасня 21:10 — 05:50
25 верасня 13:15 — 18:00
25 верасня 23:30 — 06:00
26 верасня 13:45 — 17:45
26 верасня 23:30 — 03:40
27 верасня 14:00 — 17:40
27 верасня 22:40 — 04:00
29 верасня 21:30 — 03:45
30 верасня 11:50 — 17:45
30 верасня 22:30 — 07:15

1 кастрычніка 21:45 — 05:40
2 кастрычніка 23:00 — 04:00
3 кастрычніка 22:00 — 04:45
6 кастрычніка 11:30 — 17:30
6 кастрычніка 22:40 — 02:45
7 кастрычніка 13:00 — 17:40
7 кастрычніка 21:45 — 02:45
8 кастрычніка 12:00 — 16:10
8 кастрычніка 21:20 — 03:00
9 кастрычніка 12:30 — 16:30
9 кастрычніка 21:20 — 05:00
10 кастрычніка 15:00 — 19:00
10 кастрычніка 23:50 — 03:30
12 кастрычніка 13:40 — 16:55
13 кастрычніка 23:45 — 04:45
15 кастрычніка 11:20 — 18:05
15 кастрычніка 21:40 — 05:10
16 кастрычніка 21:45 — 04:50
17 кастрычніка 13:10 — 16:45
18 кастрычніка 00:30 — 02:15
20 кастрычніка 12:00 — 16:45
20 кастрычніка 23:00 — 02:25
21 кастрычніка 22:00 — 05:45
22 кастрычніка 22:45 — 03:00
23 кастрычніка 22:30 — 04:40
25 кастрычніка 13:45 — 16:45
27 кастрычніка 12:40 — 17:50

28 кастрычніка 12:05 — 18:00
28 кастрычніка 21:45 — 03:30
29 кастрычніка 20:45 — 03:30
31 кастрычніка 11:45 — 17:30
31 кастрычніка 22:15 — 06:10

1 лістапада 13:40 — 19:10
3 лістапада 23:40 — 05:30
4 лістапада 13:10 — 18:35
5 лістапада 21:30 — 04:00
10 лістапада 11:55 — 18:30
12 лістапада 13:00 — 19:20
13 лістапада 12:40 — 18:00
14 лістапада 12:25 — 17:40
17 лістапада 12:00 — 18:10
17 лістапада 21:45 — 04:20
18 лістапада 22:40 — 05:35
19 лістапада 13:45 — 19:15
19 лістапада 22:00 — 04:30
20 лістапада 21:55 — 04:10
21 лістапада 22:45 — 05:00
24 лістапада 21:50 — 03:40
25 лістапада 23:00 — 04:40
26 лістапада 21:40 — 03:20
27 лістапада 13:30 — 21:00

1 снежня 11:45 — 18:10
4 снежня 23:15 — 03:15
8 снежня 23:00 — 04:45
9 снежня 13:00 — 15:55
12 снежня 14:05 — 17:40
12 снежня 22:50 — 04:10
14 снежня 01:40 — 04:00
15 снежня 23:40 — 04:25
16 снежня 23:10 — 03:15
17 снежня 21:30 — 02:00
19 снежня 12:30 — 16:30
19 снежня 23:50 — 03:25
22 снежня 23:00 — 03:35

23 снежня 13:15 — 17:15
24 снежня 11:15 — 17:00
24 снежня 21:30 — 02:40
26 снежня 11:30 — 17:00
26 снежня 21:40 — 03:00
29 снежня 21:00 — 24:00
31 снежня 11:50 — 17:45

2 студзеня 11:45 — 12:30
2 студзеня 20:15 — 23:50
3 студзеня 11:40 — 17:30
3 студзеня 23:20 — 02:30
5 студзеня 21:05 — 04:00
6 студзеня 11:30 — 17:15
6 студзеня 21:20 — 02:45
7 студзеня 23:00 — 04:45
8 студзеня 13:35 — 17:30
8 студзеня 21:00 — 02:45
10 студзеня 11:30 — 17:30
11 студзеня 13:15 — 17:00
12 студзеня 11:50 — 17:20
14 студзеня 11:50 — 17:00

17 студзеня — прад'яўлена абвінавачанне.

Толькі перагартаўшы паўтары дзясяткі тамоў і зрабіўшы гэтыя выпіскі, можна напісаць адзін сказ:

«Толькі за першы месяц я правёў на допытах амаль дзвесце гадзінаў».

Цікавасць да Янкі Філістовіча пасля публікацыі толькі вырасла. Яго вілейскія землякі — краязнаўцы з суполкі «Край» прайшліся яго сцежкамі і запісалі цікавыя ўспаміны сваякоў і суседзяў, афіцыйным гісторыкам далі некаторыя матэрыялы следства, недаступныя мне, і праз паўтара дзесяцігоддзя пасля «Вяртання нацыяналіста» яны паспрабавалі перамаляваць партрэт.

Рыхтуючы гэтую кнігу да друку, я прагледзеў больш-менш усё, што з'явілася на гэтую тэму за паўтара дзесяцігоддзя, ад публікацыў у выданнях КГБ Беларусі, афіцыйным і незалежным друку да інтэрнэт-блогаў, а таксама ўпершыню за гэтыя гады перачытаў «Вяртанне нацыяналіста».

У выніку я пакінуў «культавы» тэкст амаль без зменаў, удакладніўшы некаторыя дэталі, і палічыў вартым даць шэраг спасылак, цытатаў і дакументаў у зносках і гэтым пасляслоўі. Яны пашыраюць кантэкст, прыадкрываюць больш складаны феномэн героя і матывацыі яго паводзінаў і даюць асноўныя пазіцыі сучаснай палемікі, у т. л. афіцыйнай.

Спробу абвінаваціць Я.Ф. у ваенных злачынствах робіць у часопісе адміністрацыі прэзідэнта «Беларуская думка» даследнік Алег Ліцкевіч.* Атрымаўшы доступ да архіву КГБ, аўтар прыводзіць новыя дэталі, друкуе невядомыя раней дакументы справы, удакладняе даты і месцы, звязаныя са службай Я.Ф. у 13 батальёне СД — і робіць выснову, што яго расстралялі менавіта за ваенныя злачынствы. (З цытатамі з крымінальных справаў іншых асобаў, уласнымі здагадкамі, ускоснымі аргументамі, але без прамых дакументальных сведчанняў, якія б доказна выходзілі за межы тэрміну «калабарацыя», у якой за савецкім часам вінавацілі цэлыя народы, а пра злачынства пражывання на акупаванай тэрыторыі ў анкетах пыталіся аж да 1991-га года.)

У часопісе «ARCHE» яму адказвае Алесь Юркавец: «Усю праўду пра беларускі пасляваенны антысавецкі рух мы зможам даведацца толькі тады, калі гэтая тэма перастане быць полем бескампраміснага ідэалагічнага змагання, а ўсе архіўныя дакументы, якія яе датычаць, будуць выведзеныя з ведамаснага захавання і стануць даступныя любому даследчыку».**

Гэта слушна, але гэта не ўсё. Справа не толькі ў даступнасці архіваў ці нават кампетэнтнасці і сумленнасці даследнікаў — справа ў каштоўнасцях.

Даўно ўжо і нудна і агідна чытаць аўтараў, якія не бачаць злачынстваў і фундаментальнага зла савецкай улады і па-ранейшаму ацэньваюць гістарычныя падзеі ў цалкам скампраметаванай імперскай камуністычнай сістэме каштоўнасцяў. У сістэме, у якой няма месца чалавеку і Беларусі.

Калі тут што і цікава, дык гэта як розняцца ацэнкі сённяшніх аматараў шыць расстрэльны артыкул пад выглядам гістарычнага каментара і меркаванні прафесійных супрацоўнікаў КГБ, якія ў 1952-53 непасрэдна і канкрэтна займаліся справай Я.Ф. — дарэчы, у час, калі ў Беларусі актыўна ішло выяўленне калабарантаў і суды над імі.

---

* «Беларуская думка». 2009. № 8. http://beldumka.belta.by/isfiles/000167_494209.pdf

** http://arche.by/by/17/60/797/

Удзельнік вайны, палкоўнік МГБ Рыгор Трапш, які вёў следства ў справе Я.Ф., дапытваў яго, сведкаў, правяраў архіўныя дакументы, звязаныя з 13 батальёнам СД, у размове са мной летам 1993 года пад дыктафонны запіс адказаў на наўпроставае пытанне пра ўдзел Я.Ф. у злачынствах упэўнена і без ваганняў: «Крыві на ім няма». Трапш лічыў, што Я.Ф. «не зрабіў нічога такога, за што можна даць расстрэл».

Яшчэ адно сведчанне з боку КГБ прыводзіцца ў выдадзенай у Мінску ў 2006 годзе кнізе «Щит и меч отечества», якую падрыхтаваў аўтарскі калектыў у складзе «кіраўнікоў і супрацоўнікаў падраздзяленняў цэнтральнага апарата КГБ, Інстытута нацыянальнай бяспекі і беларускай грамадскай арганізацыі ветэранаў КГБ «Честь». Частка, прысвечаная Я.Ф., сканчаецца ацэнкай ветэрана вайны, генерала КГБ Івана Лысакоўскага, які асабіста браў удзел у аперацыі захопу, а пасля даслужыўся да намесніка старшыні КГБ у Беларусі, да выхаду на пенсію ў 1988 годзе шмат гадоў узначальваў вышэйшыя курсы КГБ СССР ў Мінску (дзе, дарэчы, вывучалі справу Я.Ф. на занятках): «І.Л. Лысакоўскі лічыў, што прысуд быў крайне суровы. На яго думку, Філістовіч не быў ворагам беларускага народа, ён стаў ахвярай амбіцый лідараў беларускіх эмігранцкіх цэнтраў».*

Чэкісты сталінскага гарту, палкоўнік і генерал КГБ, аказаліся больш дакладнымі, аб’ектыўнымі, чым сучасны цывільны даследнік.

І яшчэ. Жанр мастацкага даследавання, у якім напісаны, напрыклад, «Архіпелаг ГУЛАГ», ва ўмовах несвабоды бярэ на сябе шмат іншых функцый, у тым ліку гістарычнай навукі — але гэта праблема гістарычнай навукі, а не аўтара.

Шасцітомны слоўнік беларускай мовы дае тры асноўныя тлумачэнні дзеяслова «вярнуцца»: прыйсці назад у тое месца, адкуль выйшаў; зноў з’явіцца, узнікнуць; зноў заняцца ранейшай справай.

А спрагаецца ў будучым часе ён так:

Я вярнуся
Ты вернешся
Ён вернецца
Мы вернемся

Клічнік ці пытальнік чытач можа паставіць сам. Для аўтара, аднак, прыйшоў час кропкі.

* Минск, Международный центр интеграционной информации. 2006. С. 179.

*АРА ўвесь час вырывалася з-пад
нагляду Ўрадавых Органаў.
Яна патрабавала безупыннай
пільнасці, цвёрдасці й супраціву.*

З ліста Мар’яна Стакоўскага,
упаўнаважанага ўраду БССР па працы
з замежнымі арганізацыямі дапамогі.

*АРА аказала найбольшую ў XX ст.
харчовую, медычную, матэрыяльную і
іншую дапамогу насельніцтву Беларусі.*

З артыкула ў энцыклапедыі Беларусі,
якая пакуль не выдадзеная.

# Нечаканая знаходка
Замест прадмовы

Каліфарнійскае сонца не ведае прыкрасці аблокаў, і, калі спускаешся з вуліцы ў архіўнае сховішча Гувераўскага інстытута, паглыбляешся ў паўзмрок, з якога паціху пачынаюць выплываць і набываць рэзкасць матавыя абрысы.

Грувасткую, на паўстала, кардонную тэчку прынесла Элена Дэніэлсан, кіраўніца сховішча. Пад ціснёным арнаментам на вокладцы подпіс: «Герберту Гуверу — IV.VII. MCMXXI — дзеці Берасцейска-Пінскага раёна». Усярэдзіне — лісты кіраўніку амерыканскае праграмы дапамогі галоднай Еўропе. На вялікіх аркушах ватмана — групавыя фатаграфіі, словы падзякі й прывітання, старанна выпісаныя й размаляваныя загалоўкі; тэксты пераважна па-польску, зрэдку па-расейску:

**Изъ Бреста над Бугом дѢтям Америки дальней Русская Школа шлет благодарный привѢт!**

Дата — 1921. Я пачынаю чытаць подпісы — і бачу прозвішчы маіх берасцейскіх аднакласнікаў, з якімі я вучыўся паўстагоддзя пазней: Андраюкі, Нікіцюкі, Пятровічы, Вайцюкі, Навумікі, Кулікі, Ляхі, Крэйбіхі, Дземчукі, Супрунюкі, Шошчыцы, Грыцукі, Кавальчукі...

І раптам — маё прозвішча. І яшчэ раз, і зноў — раскіданыя па ўсім перыметры, з рознымі ініцыяламі — А., М., Г., зноўку А. — Лукашук шэсць разоў!

Матавыя абрысы мінулага становяцца рэльефна аб'ёмістымі, як яблык у кішэні.

У 2000 годзе Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода вырашыла здаць свае архівы за паўстагоддзя працы на захаванне ў Гувераўскі інстытут у Каліфорніі. Адначасова сям'я заможнага бізнесмена, калекцыянера мастацтва й філантропа Бернарда Ошэра ўсталявала стыпендыю для даследнікаў з Радыё дзеля працы ў Гувераўскім інстытуце. Стаць першым гувераўскім даследнікам выпала мне, і тры месяцы, ад верасня да снежня 2000-га, я прыходзіў як на працу ў Гувераўскую вежу, якая ўзвышаецца над Стэнфардскім універсітэтам.

На вяршыні вежы месціцца мемарыяльны працоўны кабінет 34-га прэзідэнта ЗША, а ўнізе — офісы, музейная экспазіцыя, бібліятэка й падземнае сховішча — найбуйнейшая ў свеце калекцыя архіваў былога




СССР і прылеглых тэрыторыяў. Інжынер Герберт Гувер зарабіў свае першыя мільёны даляраў напачатку XX стагоддзя ў геалогіі. Перад тым як стаць прэзідэнтам ЗША ў 1928 годзе, Гувер ратаваў амерыканцаў, якіх Першая сусветная вайна заспела ў Еўропе без грошай і прытулку, карміў галодных — спачатку ў Бельгіі, а пасля ва ўсёй зруйнаванай вайной Еўропе, збіраў першыя камуністычныя газеты й антыкамуністычныя ўлёткі, затым на просьбу прэзідэнта Уілсана ўзначаліў міністэрства гандлю ЗША.

У 1919 годзе арганізацыя, утвораная з ініцыятывы Гувера — American Relief Administration (Амерыканская адміністрацыя дапамогі)*, у ска-

* Першая Амерыканская адміністрацыя дапамогі (АРА) была ўтвораная пастановай прэзідэнта Вудра Уілсана 25 лютага 1919 дзеля даставы і размеркавання ў Еўропе дапамогі ў памеры 100 000 000 даляраў, вылучаных Кангрэсам ЗША. Гэтая АРА пад кіраўніцтвам Г. Гувера дзейнічала да 30 ліпеня 1919. Яе офіс і рэшту запасаў пераняла новая, цалкам прыватная дабрачынная арганізацыя, якую стварыў, зарэгістраваў і ўзначаліў таксама Гувер — ад 1 жніўня вядзецца адлік дзейнасці Еўрапейскага дзіцячага фонду АРА. Калі ў 1921 у Расеі пачаўся голад, фонд ужо завяршаў сваю працу ў краінах Еўропы, у т.л. на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Паколькі новая дапамога адрасавалася й дзецям, і дарослым, была зменена назва арганізацыі — яна стала называцца АРА, як і першая дзяржаўная арганізацыя. У гэтай кнізе ўжываецца адна назва — АРА — для ўсяго перыяду 1919—1923.



роце АРА, — пачала дапамогу Польшчы. Калі ў 1921 годзе ў савецкай Расеі пачаўся голад, Гувер, нягледзячы на супраціў бальшавікоў, дамогся права ратаваць ахвяры ў Расеі, Украіне й Беларусі.

Подзвіг Гувера не меў прэцэдэнтаў. У 1914—1924 гадах пад ягоным кіраўніцтвам размеркавана ў Эўропе больш за 33 мільёны 841 тысячу тон дапамогі коштам больш за 5 мільярдаў 234 мільёны даляраў. Гэта было зроблена ва ўмовах вайны й разбурэння, калі ўрады старых і новых дзяржаваў былі засяроджаныя на сваіх унутраных праблемах.

Невядомыя мне сваякі альбо цёзкі па прозвішчы атрымлівалі амерыканскую дапамогу ад 1919 да 1922 года, пакуль АРА не спыніла дзейнасць у тагачаснай Польшчы. Ад 1922 года АРА пачала аперацыі ў падсавецкай Беларусі — Мінску й шасці паветах, з насельніцтвам менш за 2 мільёны чалавек. Асобныя прадстаўніцтвы АРА былі адкрытыя ў Гомелі й Віцебску, якія тады адміністрацыйна належалі РСФСР. Разам у трох беларускіх акругах АРА жыло каля 7 мільёнаў чалавек.

Амерыканскі рыс, муку й малако атрымлівалі Янка Купала, Усевалад Ігнатоўскі, Уладзімір Пічэта, Язэп Лёсік, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Зміцер Жылуновіч, Уладзіслаў Галубок, Лідзія Ржэцкая, Сцяпан Някрашэвіч... Марна было шукаць згадкі пра гэты ўклад амерыканскага народа ў беларускую культуру й навуку ў гістарычных энцыклапедыях, манаграфіях і падручніках XX стагоддзя.

Беларуская савецкая энцыклапедыя 1969 года АРА ігнаруе, а ў 1996-м у артыкуле «АРА» Беларуская энцыклапедыя піша:

**Урадавая арг-цыя ЗША ў 1919—23 па аказанні харчовай і інш. дапамогі еўрап. краінам, што пацярпелі ў 1-ю сусв. вайну. Узначаль-**

**ваў Г. Гувер. Фактычна выкарыстоўвалася для ўмацавання эканам. і паліт. пазіцый ЗША, стрымлівання рэв. руху ў Венгрыі, Румыніі, Балгарыі і інш. У 1921—22 аказала дапамогу ў час голаду ў Паволжы, на Украіне. У выніку канкурэнцыі з боку Англіі, Францыі і Італіі яе дзейнасць у Еўропе спынена.**

Адзіны праўдзівы сказ — найкарацейшы, пра Герберта Гувера. Астатнія чатыры — недакладнасці, замоўчванні й хлусня.

Гісторыю АРА пісалі самі араўцы. Гаралд Фішэр узначальваў гістарычны аддзел арганізацыі і ў 1927 годзе выдаў кнігу «Голад у Савецкай Расеі, 1919—1923». Аднак Беларусі там адведзеныя пяць з паловай старонак — з пяцісот. Асобныя даследаванні прысвечаныя дзейнасці АРА ў Польшчы, дзе імем Гувера названыя пляцы, пастаўлены помнік. Першае даследаванне дзейнасці АРА ў Беларусі з'явілася таксама ў ЗША. У 1978 годзе студэнтка Прынстанскага ўніверсітэта Алеся Кіпель прысвяціла гэтай тэме дыпломную працу й надрукавала артыкул у «Запісах» Беларускага інстытута навукі й мастацтва.

Нягледзячы на афіцыйнае маўчанне, у Беларусі Герберта Гувера памяталі. Карта размяшчэння харчовых пунктаў АРА густа пазначаная вакол Берасця, Баранавічаў, Наваградка, Ашмянаў, Ваўкавыска, Вілейкі, Пінска: 1 мільён 315 тысяч 490 дзяцей карміла АРА штодня ў тагачаснай Польшчы ў пік актыўнасці. У 1931 годзе ў гонар Гувера была названая вуліца ў Горадні. Але ў 1939-м, як толькі Саветы прыйшлі ў Заходнюю Беларусь, шыльду з імем амерыканскага прэзідэнта знялі. Напачатку 1990-х гадоў гарадзенскі гісторык Ігар Трусаў прапанаваў аднавіць назву:

**Жывуць людзі, якіх не было б на свеце, калі б гэты высакародны чалавек не намагаўся накарміць і апрануць галодных людзей у незнаёмай, далёкай, разбуранай вайной краіне. Глыбока прыстойна зрабілі б гарадзенцы, калі б вярнулі маленькай вуліцы імя Герберта Гувера...**

Амерыканская дапамога падсавецкай Беларусі ў 1922—1923 гадах перавысіла 14 тысяч 440 тон харчу, медыкаментаў, абсталявання, адзення коштам больш за 2 мільёны 730 тысяч даляраў*. Дапамогу Беларусі таксама аказвалі іншыя дабрачынныя арганізацыі — Чырвоны

---

* 1 даляр ЗША ў цэнах 1922–23 роўны 13,5 далярам ЗША 2013.

Крыж, місія Нансена*, Таварыства сяброў — Квакеры**, Амерыканскі аб'яднаны габрэйскі камітэт размеркавання фондаў — Джойнт***, шэраг амерыканскіх рэлігійных арганізацыяў. Усе яны, нашмат меншыя паводле маштабу дапамогі, узаемадзейнічалі з АРА. Найбуйнейшая з іх, Джойнт, больш за год арганізацыйна ўваходзіла ў склад АРА.

Араўцы кармілі галодных і лячылі хворых, ратавалі ўцекачоў і дапамагалі выезду да сваякоў у Амерыку, чыталі лекцыі, распачалі ў Мінску курсы ангельскай мовы... І адначасова — вялі бясконцае змаганне з новаспечанай савецкай бюракратыяй, за імі сачыла ЧК****, іхныя рэчы канфіскоўвала мытня, ім спрабавалі дыктаваць свае ўмовы камуністычныя прафсаюзы...

Некаторыя знайшлі ў Беларусі жонак, некаторыя пасля вярталіся сюды зноў. Падчас працы ў Гувераўскім інстытуце ў Каліфорніі я разаслаў некалькі сотняў лістоў у спробе знайсці нашчадкаў супрацоўнікаў АРА, уведаць пра іхныя лёсы. Памяць пра Беларусь яны захоўвалі доўгія гады. Джордж Шрэмэл, які ў 1921 годзе працаваў у Мінскай акрузе АРА, пісаў у студзені 1944:

> **Найлепшыя пажаданні ўсім арамітам Мінскага рэгіёна — д'ябальскае месца быць там цяпер...**

Супрацоўнікі АРА выдатна адчувалі сваю ролю й місію. Шмат гадоў пасля спынення дзейнасці араміты, як яны сябе называлі, выдавалі бюлетэнь, праводзілі штогадовыя сустрэчы, перапісваліся. Да канца дзён яны называлі Герберта Гувера «Chief» — шэф, ці кіраўнік — так называюць правадыроў індзейскага племя, і захоўвалі сваё братэрства.

Гэтая кніга — толькі спроба падзякаваць за сваё прозвішча ў лістах да Герберта Гувера, што ўсе гэтыя гады ляжалі ў прыцемненых сховішчах архіву ў Каліфорніі.

---

* Найвышэйшая камісія Лігі Нацый у справах уцекачоў (1919—1946). У 1921—1930 дзейнічала пад кіраўніцтвам нарвежскага палярнага даследніка Ф. Нансена.

** Квакеры — Таварыства сяброў, паслядоўнікі радыкальнага кірунку ў пратэстантызме; заснаванае ў 1652 у Ангельшчыне. Амерыканскае таварыства сяброў (Квакеры) аказвала дапамогу ахвярам Першай і Другой сусветных войнаў.

*** Аб'яднаны камітэт размеркавання фондаў дапамогі габрэям, якія пацярпелі ад вайны, заснаваны ў 1914 у ЗША.

**** ЧК (ВЧК, Всероссийская чрезвычайная комиссия) — карны орган дыктатуры й пазасудовай расправы з праціўнікамі камуністычнага рэжыму ў савецкай дзяржаве (1919—1922). У 1922 пераўтвораная ў ГПУ.

# АРА ў Мінску: не чулі, не чакалі, не клікалі

**Амерыканцы ў горадзе. — Сала скралі. — Збянтэжаны Чарвякоў. — Беларуская памяркоўнасць. — Зварот Рады БНР. — Рамантычнае тлумачэнне. — Нумары з пацукамі. — Від на Мінск з «Парыжа»**

Снежным ранкам 8 студзеня 1922 года на перон мінскага вакзала з прыступак салон-вагона ступіў Доналд Эгберт Гардзі — ветэран АРА, які меў багаты досвед гуманітарнае працы ў розных краінах Еўропы. Пазней у сваёй кар'еры Гардзі будзе некалькі дзесяцігоддзяў працаваць у «General Motors», рэпрэзентаваць інтарэсы кампаніі ў Лондане, Гамбургу, Залатым Беразе і ўсёй Цэнтральнай Афрыцы. Ніякія будучыя перашкоды не спалохаюць пасля гарту, які першы кіраўнік акругі АРА атрымае ў Мінску. І гаворка зусім не пра маразы й прастуды...

Першую навіну амерыканцы (разам з Гардзі прыбыў лекар Ралф Герц) прывезлі з сабой, дакладней — не прывезлі. Недзе ў дарозе з Масквы з эшалона зніклі два вагоны з топленым салам. Ані паравозная брыгада, ані кандуктары нічога не маглі патлумачыць. Другая навіна была не лепшая за першую: гасцей ніхто не чакаў.

Толькі праз тыдзень пасля прыезду Доналд Гардзі здолеў напісаць першую справаздачу ў штаб-кватэру АРА ў Маскве:

**Мы прыбылі ў Мінск на спецыяльным цягніку з 12 вагонаў раніцай у аўторак. Наступнай раніцай мы выставілі свае паўнамоцтвы Прэзідэнту Беларускай Рэспублікі сп. Чарвякову*. Сп. Чарвякову не паведамілі па савецкіх каналах пра місію АРА ў Беларусі. Ён пабяцаў зрабіць усё, што патрэбна, і афіцыйна дазволіў распачаць дзейнасць і даставу харчовых пакетаў, але даў выразна зразумець, што ён не можа нічога канкрэтнага зрабіць у справе складоў, офісаў, жытла й г.д., пакуль не атрымае афіцыйную інфармацыю пра місію АРА ў Беларусі.**

---

* Так у амерыканскім ліставанні тытулавалі старшыню Цэнтральнага выканаўчага камітэта й Савета народных камісараў (1920—1924) Аляксандра Чарвякова. (Тут і далей усе цытаты з архіўных і іншых дакументаў і публікацыяў падаюцца без зменаў, адпаведна арыгіналам.




На другі дзень былі разладаваныя адзінаццаць вагонаў з гуманітарнай дапамогай, мяхі з прадуктамі даставілі ў чыгуначны склад для часовага захоўвання. З транспартам было лягчэй — у адным з вагонаў прыбыў свой грузавік. Араўцы адразу пачалі шукаць пастаянны склад.

Гардзі пісаў:

**У Мінску падчас розных нямецкіх і польскіх акупацыяў 30% усіх будынкаў разбурана, у тым ліку 90% складавых памяшканняў. Пагодзімся на любое, што знойдзем. У Мінску проста няма такога сучаснага прымальнага склада, які мы хацелі б мець. Праўда, мы знайшлі невялікі склад для даставаў у горадзе. Жыллёвыя ўмовы наўрад ці могуць быць горшыя, чым маем у гатэлі «Парыж». Спадзяемся неўзабаве знайсці нешта лепшае.**

Мінула два тыдні пасля прыезду, аднак Прэзідэнт Беларусі так і не атрымаў ніякага тлумачэння з Масквы.

Гардзі паведамляў у штаб-кватэру АРА:

**Варта адзначыць, што прыняцце Чарвяковым умоваў Рыжскага пагаднення* тычыцца толькі яго асабіста, але Беларуская Рэс-**

---

* Рыжскае пагадненне паміж савецкім урадам і АРА было падпісана 20 жніўня 1921 у Рызе (*падрабязна гл. С. 62—66*).

**публіка як незалежная рэспубліка патрабуе, каб гэтае пагадненне было прынятае народным камісарыятам Беларусі. Да прыняцця пастановы народным камісарыятам Прэзідэнт можа надаваць дапамогу толькі ў межах існых законаў і правілаў. Камісарыят мае паседжанне 27 студзеня, і нас запэўніваюць, што пагадненне будзе прынятае й не будзе ніякіх цяжкасцяў. Аднак сёння Чарвякоў ад'язджае ў Маскву, дзе абмяркуе гэтую справу ва ўрадзе, і тады зможа больш рашуча дапамагаць нам на месцы. Нашая прапанова — каб управа сп. Эйдука звязалася са сп. Чарвяковым у Маскве й скарыстала ўсе магчымыя сродкі ўплыву дзеля ўпарадкавання нашых дачыненняў з Беларускай Рэспублікай*.**

Паводле пагаднення між АРА й савецкім урадам справамі амерыканскай дапамогі апекаваўся паўнамоцны прадстаўнік урада РСФСР пры ўсіх замежных арганізацыях дапамогі. У 1921 годзе на гэтую пасаду быў пастаўлены былы латышскі стралок, зацяты камуніст Аляксандр Эйдук (пазней яго замяніў Карл Ландэр). Пры савецкім урадзе таксама дзейнічаў камітэт ліквідацыі наступстваў голаду (Последгол).

АРА спрабавала пачаць аперацыі ў Беларусі яшчэ ў 1921 годзе. Цэнтральныя камуністычныя ўлады выступілі супраць. Масква адхіліла амерыканскі план неадкладна пачаць харчаванне дзяцей, хворых і ўцекачоў у Беларусі.

Беларусь ад пачатку голаду ў Паволжы разглядалася выключна як рэспубліка-донар. На загад «цэнтру» мясцовае начальства хутка арганізавала абавязковы збор сродкаў: рабочыя мусілі адлічваць частку заробку, працаваць на суботніках і нядзельніках, з прыватнікаў збіралі грашовыя ахвяраванні, збожжа, муку, гародніну, ад святароў патрабавалі здачы царкоўных каштоўнасцяў і праводзілі канфіскацыі**.

---

* У 1921 была падпісаная дамова аб ваенным і гаспадарчым саюзе паміж БССР і РСФСР. У тэксце адзначалася, што два ўрады цалкам прызнаюць «незалежнасць і суверэннасць кожнага з бакоў». Лічылася, што рэспублікі пагадзіліся аб'яднаць наркаматы ваенных і марскіх спраў, замежнага гандлю, фінансаў, працы, шляхоў зносінаў, пошты і тэлеграфу, народнай гаспадаркі. Замест права самастойна вырашаць свае справы Беларусь атрымлівала ўпаўнаважаных аб'яднаных камісарыятаў.

** 23 лютага 1922 у Маскве быў выдадзены дэкрэт «Аб парадку канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў», якія, паводле афіцыйнай версіі, ішлі на барацьбу з голадам. 1 сакавіка адмысловая камісія канфіскацыі на чале з А.Чарвяковым была ўтвораная ў Мінску. У красавіку пачалася татальная канфіскацыя ў храмах Беларусі (у т.л. былі раскрытыя мошчы Ефрасінні Полацкай у Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры). Як сведчыць гісторык У. На-

Паводле афіцыйных справаздачаў, ад саўгасаў шасці паветаў Беларусі ў 1921—1922 гадах адправілі ў Расею 960 тон харчу і 120 тон насення, а начальства Віцебскай і Гомельскай губерняў рапартавала аб адпраўцы 25 тысяч тон насеннага збожжа. Адначасна ў Беларусь прыбыло каля 13 тысяч дзяцей з Паволжа.

Толькі праз некалькі месяцаў АРА здолела пашырыць свае аперацыі на Беларусь, але мусіла напачатку абмежавацца выдачаю адрасных індывідуальных пасылак.

Беларусь, якая лічылася самастойнай рэспублікай, мела заключыць асобную дамову з АРА. Такую дамову заключыў урад Украіны. Але, як напіша пазней гісторык АРА Гаралд Фішэр:

> **Як і ўкраінцы, афіцыйныя асобы Беларускай Савецкай Рэспублікі некалькі дзён настойвалі на сваім праве незалежнай рэспублікі, паведаміўшы амерыканцам, што дамова з РСФСР не азначае таксама дамовы з Беларуссю. Аднак беларусы не адстойвалі гэтае пазіцыі так упарта, як украінцы, і таму не было патрэбы заключаць асобнае пагадненне з Беларуссю.**

Масква з Мінскам не цырымонілася: пасля падзелаў і перадзелаў тэрыторыі ад 15 мільёнаў чалавек, што жылі ў этнічнай Беларусі, у складзе БССР у 1922 годзе налічвалася менш за два мільёны. Камісары ў Мінску выконвалі ўсе дырэктывы цэнтру.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, якая дамагалася незалежнасці краіны, неаднойчы звярталася да ЗША й саюзнікаў з тлумачэннямі й нотамі, просьбамі аб дапамозе.

Яшчэ ў лістападзе 1918 Рада БНР пісала на імя прэзідэнта Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатаў і ўрадаў цэнтральных дзяржаваў:

> **У імя культуры й чалавечнасці, у імя пачатку гуманнасці, задэклараваных спадаром Прэзідэнтам Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатаў Рада Беларускай Народнай Рэспублікі просіць ратаваць безабаронную Беларусь ад разгрому і дзеля гэтага цяпер жа, да адыходу акупацыйнай арміі, забяспечыць Ёй знешнюю**

---

віцкі (зборнік «Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.)», было канфіскавана каштоўнасцяў на 4 000 000 залатых рублёў. Сакрэтны цыркуляр савецкага ўрада, аднак, накіроўваў грошы не на дапамогу ахвярам голаду: «Каштоўнасці, адабраныя ў закрытых цэрквах, павінны ўлічвацца й накіроўвацца ў асобнай графе, таму што яны паступаюць не ў ЦК Последгола, а павінны накіроўвацца ў дзяржаўны фонд».

**недатыкальнасць прызнаннем Яе самастойнасці і Незалежнасці і ўнутраную бяспеку перадачай у рукі Рады цывільнага кіравання краем.**

Не апраўдаліся спадзевы, што ЗША дапамогуць стварыць мірную выспу памерам у краіну пасярэдзіне еўрапейскага тэатра баявых дзеянняў; прыярытэты краінаў Антанты, якія надалей ваявалі супраць нямецкай агрэсіі звонку й чырвонай пошасці знутры, не супадалі з інтарэсамі БНР. У 1920 годзе, ужо з выгнання, Рада Народных Міністраў БНР падрыхтавала яшчэ адну ноту ўраду ЗША з пратэстам супраць палітыкі аднаўлення былой Расеі:

**Пакуль граніцы этнаграфічныя ня будуць пакрывацца граніцамі дзяржаўнымі, пакуль сталецьцямі няволеныя Расеяй народы не здабудуць сваёй даўнай свабоды, датуль немагчымы супакой на тэрыторыях былой Расеі, а гэто значэ немагчымы супакой на Усходзе Эўропы...**

Амерыканскія ўрады Уілсана, а пасля Куліджа, Гардынга й Гувера не былі прыхільныя да бальшавіцкай Расеі. ЗША цвёрда адмаўлялі РСФСР, а пасля СССР у дыпламатычным прызнанні, нягледзячы на крамлёўскія намаганні*.

Герберт Гувер, які, перад тым як стаць прэзідэнтам, займаў міністэрскія пасады ў папярэдніх адміністрацыях, выступаў рашучым праціўнікам прызнання Саветаў, але адначасова рабіў усё, каб дапамагчы ахвярам голаду ў Еўропе незалежна ад палітыкі, нацыянальнасці, класавага падзелу.

---

* У архівах АРА захоўваецца нататка «Незалежнасць Беларусі» з амерыканскае газеты ад 12 чэрвеня 1922: «Два беларускія дэлегаты, міністр Рэспублікі сп. Жытлоўскі й ягоны сакратар сп. Анэкштэйн, цяпер знаходзяцца ў Лондане са спецыяльнай місіяй. У заяве для друку яны гавораць: «Нягледзячы на тое, што Рыжская дамова між Польшчай і Расеяй быццам бы прызнае незалежнасць Беларусі, у сапраўднасці краіна анэксаваная Расеяй і Польшчай. Афіцыйныя пратэсты супраць гэтага парушэння міжнароднага права былі заяўленыя Антанце й Лізе Нацыяў. Насельніцтва галадае пад камуністычным кіраваннем; не лепшы лёс тых, хто застаўся пад Польшчай. Калі б аднавіліся нармальныя ўмовы, нацыянальная эканоміка хутка б развілася дзякуючы спрыяльнаму геаграфічнаму становішчу. Як толькі Беларусь здабудзе незалежнасць, яна безумоўна ўступіць у федэрацыю з Літвой і такім чынам далучыцца да Балтыйскага звязу, куды яна належыць паводле гісторыі й геаграфіі».

Пастанова Гувера пашырыць дапамогу на Беларусь была выкліканая не засухай, паморкам ці неўраджаем — у параўнанні з катастрофай у Расеі мясцовае насельніцтва не галадала. Але Беларусь станавілася месцам вяртання й небывалай канцэнтрацыі ўцекачоў:

**Беларусь — самае крывавае поле бітваў, праз якое цягам сямі гадоў прайшлі сем арміяў, — была не ў стане вытрымаць націску хворых уцекачоў, якім, каб выжыць, патрабаваўся дагляд, як за малымі дзецьмі.**
**Магчымасці Беларусі былі вычарпаныя. Наступіў момант, калі рэспубліка не вытрымала ціску, і орды польскіх, нямецкіх, габрэйскіх, татарскіх, башкірскіх, кіргізскіх і расейскіх уцекачоў апынуліся ў такім самым стане, як амаль два мільёны мясцовых жыхароў.**
**Яны галадалі, паміралі ад хваробаў, не мелі вопраткі. Штодня забіраў сотні жыццяў голад у Паволжы. На Міншчыне лік ішоў на дзясяткі.**
**Беларусь не хацела дапамогі звонку. Натхнёная духам продкаў, якія спынілі татараў, што заваявалі ўсю астатнюю імперыю сотні гадоў таму, Беларусь да апошняга моманту адмаўлялася ад замежнай дапамогі. Толькі калі ўлада пераканалася, што краіна не ў стане сама даць рады наплыву ўцекачоў, быў дадзены дазвол прыйсці на дапамогу арганізацыі, што рэпрэзентавала нацыю з-за акіяну.**

Насамрэч урад у Мінску да гэтага рашэння не спрычыніўся. А ў Гомелі й Віцебску бальшавіцкае начальства ўсімі спосабамі спрабавала пазбавіцца амерыканцаў.

Пасля паездкі Чарвякова ў Маскву ў Мінску была ўведзеная новая пасада для працы з замежнымі арганізацыямі. Пасада мела доўгі назоў:

**Паўнамоцны Прадстаўнік урада С.С.Р.Б.* і Упаўнаважаны Паўнамоцнага Прадстаўніка ўрада Р.С.Ф.С.Р. пры ўсіх замежных арганізацыях дапамогі Расеі ў Заходняй вобласці.**

Зона адказнасці ўпаўнаважанага выходзіла за адміністрацыйныя межы Беларусі і ўключала суседнія губерні, якія тады належалі да РСФСР, — Гомельскую, Віцебскую й Смаленскую. Пасаду заняў Мар’ян

* Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі — першая афіцыйная назва савецкай Беларусі.


Социалистическая Советская Республика Белоруссии.
Действительно на 3 месяца.
Управление Делами Ц. И. К. и С. Н. К. Республики.
УДОСТОВЕРЕНИЕ.
21 МАР. 1922
№ 3165
г. Минск
Имя, отчество и фамилия: Стоковский
2. Год рождения 1889 г.
Должность
Отношение к отбыванию воинской повинности
5. Семейное положение женат.
Удостоверяю:
Управляющий Делами Ц. И. К. и Совнаркома Белоруссии
Центрального Исполнительного Комитета и Совнаркома Белоруссии
Управляющий Делами
Зак. 1141 2 сов. тип.

Стакоўскі — чалец Польскага бюро пры ЦК КП(б)Б (Польбюро), былы начальнік галоўнага эвакуацыйнага камітэта, пасля наркам аховы здароўя Беларусі. Яму дапамагаў невялікі штат: сакратар, тры тэхнічныя супрацоўнікі й адмысловы памочнік. Афіцыйна пасада называлася «памочнік у сувязях з ЧК».

Пасля года працы ў Беларусі, размеркавання тысяч тон харчу, медыкаментаў, вопраткі, ратавання дзяцей і ўцекачоў, штодзённых шчыльных кантактаў і велізарнага ліставання кіраўнік Мінскай акругі АРА так падсумуе ўражанні ад супрацы з упаўнаважаным:

> **Немагчыма атрымаць у пісьмовым выглядзе ад Стакоўскага штокольвек хоць крыху падобнае да агульнага ўхвалення працы АРА.**

Але ўсё гэта будзе наперадзе. У першы дзень па прыездзе амерыканцы адправіліся шукаць месца для начлегу. Вольныя пакоі знайшліся ў гатэлі на вуліцы Савецкай, які змяніў гаспадара, але захаваў свой дасавецкі назоў «Парыж»*. Амерыканцаў пасялілі на апошнім паверсе. Вокны выходзілі на заснежаны парк. Пратаптаныя дарожкі сыходзіліся

---

* Гатэль на 26 нумароў. Цяпер тут, на рагу пр. Незалежнасці й вул. Энгельса, будынак, побач з якім месціцца Малая сцэна тэатра імя Янкі Купалы. *(Тут і далей назвы вуліц, установаў, пасадаў, арганізацыяў, а таксама меры вагі й даўжыні, грашовыя адзінкі і г.д. падаюцца адпаведна тагачасным дакументам.)*



ў цэнтры ля закрытага на зіму фантана, прыгожы будынак на рагу аказаўся тэатрам.

Ліфта не было, тэлефон адсутнічаў, у нумарах не было рукамыйнікаў. Гарачая вада знікла разам з мінулай уладай, пры новай знікала й халодная. Як пісаў праз два месяцы адзін з амерыканцаў лекар Ралф Герц:

> **Мы жывём у гатэлі, заражаным пацукамі й паразітамі, дзе няма практычна ніякіх санітарных прыстасаванняў, ані дзе памыцца, ані водаправоднай вады на нашым паверсе, і нам даводзіцца самім гатаваць сабе ежу ў сваіх пакоях на невялікім прымусе.**

Герц скончаў ліст спадзяваннем, што ўлады неўзабаве дадуць новае жыллё, тым болей што праз тыдзень мела пачацца размеркаванне вялікіх медычных даставаў.

Амерыканцы не ведалі, што правядуць у «Парыжы» яшчэ не тыдзень і не два, а агулам дзесяць месяцаў. Што мінскі «Парыж» стане не толькі жытлом, але й першым офісам, і складам. Што сюды яны прывядуць мінскіх дзяўчат, з якімі ажэняцца. Што іхныя рэчы будуць ператрэсеныя «невядомымі», якія пакінуць грошы, але знясуць запісы й фотаздымкі.

Ніхто — ані абслуга ў гатэлі, ані камісары ва ўрадзе, ані чэкісты, ані самі амерыканцы — не ведаў, што пачатая справа стане самай буйной дабрачыннай акцыяй у Беларусі ў XX стагоддзі.

І самай забытай.

# Нью-Ёрк—Варшава: голад за польскай мяжой

**Бульба для банкету. — Хлеб па-лідску. — 100 мільёнаў для Польшчы. — Харчаванне пад акупацыяй. — Дзеці й Гувер. — Пратэст Рады БНР. — Габрэйскія пагромы. — Заможныя беларусы**

У нью-ёркскім гатэлі «Камандор» рыхтавалі банкет на тысячу гасцей. Запрошаныя былі банкіры, уладальнікі й дырэктары кампаніяў, найбагацейшыя амерыканцы, якія былі ў стане заплаціць заяўлены кошт абеду — 1000 даляраў.

Дам у вечаровых туалетах і джэнтльмэнаў у смокінгах чакалі драўляныя сталы без абрусаў, цьмяна паблісквалі бляшаныя міскі й цыновыя лыжкі, не было сурвэтак. Напачатку падалі бульбу, затым — рыс, прыгатаваны на вадзе, і кубачак какавы. У цэнтры залі на велізарным стале стаяла пустое крэсла — сімвал адсутнага гаспадара імпрэзы, галоднага еўрапейскага дзіцяці. Як знак дабрачыннасці, гарэла свечка, якая не дазваляе згаснуць жыццям самых безабаронных ахвяраў вайны.

Герберт Гувер сабраў на той вечарыне 1 мільён даляраў*.

Пра Беларусь у колах высокае палітыкі ніхто не згадваў. Перадзел Еўропы набіраў моц, не спраўдзілася папярэджанне Рады БНР, быццам «з Беларусі хваля разбурэння пагражае перакінуцца на Захад і ўзмацніць там бедства ўсясветнай вайны». Амерыканскі ўрад не адказаў на зварот кіраўніцтва БНР аб прызнанні, які ўвосень 1918 падпісалі Старшыня Рады Язэп Лёсік, намеснік Аркадзь Смоліч і сакратар Пётра Крэчэўскі. Аднак хаця дзяржаўныя інтарэсы Беларусі не згадваліся ў міжнародных дамовах, цалкам беларуская тэма не знікала. Тэрыторыя, якую заняло польскае войска на Усходзе, была домам для 4 мільёнаў этнічных беларусаў. Гэта была тэрыторыя бяды.

Шмат беларусаў нават сярэдняга веку яшчэ памятаюць пах хлеба, які іхныя бабулі пяклі ў вясковых печах. Кожная гаспадыня мае свае сакрэты, у кожнай мясцовасці бохан мае свой адметны смак. Адмысловы

---

* Гувер пачаў беспасярэдне займацца дапамогай польскім ахвярам вайны ў 1915. Ён вёў перамовы з нямецкім камандаваннем і кіраўніцтвам Антанты, каб забяспечыць даставу харчавання ў акупаваную Польшчу. Калі ў лістападзе 1918 ЗША прызналі Польшчу, на чале дапамогі стаў Гувер.

рэцэпт мясцовага хлеба запісаў інспектар АРА Гершэл Уокер, які наведаў у 1919 годзе Ліду:

> **У людзей няма мукі, солі, у гэтым рэгіёне яны пякуць хлеб з сумесі травы, верасу й крапівы. Яны дробна сякуць гэтыя інгрэдыенты, дадаюць нешта для клейкасці й потым пякуць на агні. Я каштаваў два гатункі гэтага хлеба — адзін у святаровым доме, другі ў селяніна. На мой густ, абодва былі аднолькава дрэнныя. Розніца была ў колеры — у святара хлеб быў святлейшы.**

Уокер праехаў па ўсім Віленскім краі.

> **Лёс Вільні як сталіцы вырашаецца на канферэнцыі Лігі Нацыяў, а пакуль ёю кіруе вайсковае камандаванне. Трэба карміць шмат беспрацоўных, акупацыйную армію, скарб горада пусты ад частых акупацыяў. Насельніцтва скарацілася на 30%, высокія цэны, шпіталі не маюць сродкаў і перапоўненыя хворымі й галоднымі.**



На момант падарожжа амерыканскага інспектара Віленскі край складаўся з дзесяці адміністрацыйных раёнаў. Палякі кіравалі шасцю, астатнія чатыры належалі да Сярэдняй Літвы*. Уокер апісваў пабачанае:

> **На ўсход ад акопаў лініі фронту ляжыць рэгіён Дзісна—Глыбокае, які не надта пацярпеў ад вайны. Аднак рэгіён шмат разоў захопліваліі бальшавікі. Дамы й маёмасць заможных землеўладальнікаў разбураныя, ніхто з іх не вярнуўся. Зямля не апрацоўваецца.**
> **На захад ад лініі акопаў месціцца Ліда. Тэрыторыя вакол яе больш пацярпела ад вайны, асабліва ад нямецкай акупацыі, — горш, чым суседнія раёны ад бальшавіцкай.**

Чацвёрты рэгіён, дзе падарожнічаў пасланец Гувера, — лінія фронту ад пяці да дваццаці пяці міляў шырынёй, ад Дзвінска праз Відзы, Паставы, Мядзел, Свір, Смаргонь, Крэва, Багданаў, Вішнева й да прыпяцкіх балотаў. Там лініі акопаў, дотаў і дзотаў, умацаванняў з калючага дроту й разверненых снарадамі палёў. На гэтую лінію вярталіся тысячы ўцекачоў, каб пачаць жыццё без даху над галавой, свойскай жывёлы, ежы й вопраткі.

Тактыка царскай арміі нагадвала напалеонаўскую вайну: падчас адступлення жыхароў вывозілі на ўсход, а вёскі палілі. Тыя, хто не хацеў пакідаць родныя мясціны, хаваліся ў лясах, у зямлянках, дзе й знаходзілі іх супрацоўнікі АРА. Як пісаў Гаралд Фішэр:

> **Калі хто-небудзь у свеце меў патрэбу ў дапамозе, дык гэта жыхары ўсходніх раёнаў, куды АРА прыйшла ў 1919 і 1920 гадах, не пытаючыся, ці ахвочыя яны стаць грамадзянамі Польшчы, новай Беларусі ці яшчэ чагосьці. Несумненна, што ў адказ на пытанне пра сваю нацыянальнасць альбо прыналежнасць да нацыянальнага руху яны адказалі б гэтак сама, як звычайна адказвалі ўкраінцы: праваслаўныя.**

АРА неадкладна скарысталася замірэннем на польска-расейскім фронце й пачала адчыняць кухні, пастаўляць медыкаменты й аказваць дапамогу на тэрыторыі на захад ад лініі фронту.

У лютым 1919 года Кангрэс ЗША асігнаваў 100 мільёнаў даляраў на дапамогу еўрапейскім краінам. Гувер накіраваў у Варшаву спецыяльную

---

* Дзяржаўнае ўтварэнне на тэрыторыі Віленшчыны й Гарадзеншчыны ў 1920—1922 пад кантролем Польшчы.

місію з мэтай вызначыць характар дапамогі й так арганізаваць яе раздачу, каб не закранаць унутраныя палітычныя праблемы. Прынцыпы Гувера былі правераныя падчас працы ў Бельгіі й іншых краінах:

**1. Дапамагаць толькі тым, хто не можа дапамагчы сабе.**
**2. Толькі наглядаць, не займаць пазіцыі ў палітычных ці іншых праблемах.**
**3. Захоўваць поўную роўнасць у справах з усімі нацыянальнасцямі й рэлігіямі.**
**4. Так арганізаваць адміністраванне ўсёю дапамогаю й дарадчую дзейнасць, каб мясцовае кіраўніцтва станавілася больш эфектыўным і ўрэшце пераняло кіраванне цалкам.**

Праз год пасля пачатку аперацыяў АРА ў Польшчы ў справаздачах пазначалася, што штодзённы мільён рацыёнаў гарачай ежы атрымлівалі разам з польскімі дзецьмі нямецкія, габрэйскія, украінскія, а таксама беларускія*.

Гэтаму выніку папярэднічалі драматычныя падзеі. У сакавіку палякі, якія кантралявалі Мінск і значную частку Беларусі, дадаткова захапілі Мазыр, Калінкавічы й Рэчыцу, а ў канцы красавіка 1920 пачалася поўнамаштабная польска-савецкая вайна**.

Яшчэ напачатку 1920 Гувер пастанавіў павялічыць дапамогу менавіта на «Крэсах Усходніх»***.

У траўні пачаліся рэгулярныя дастаўкі прадуктаў у пункты харчавання АРА ў Заходняй Беларусі: мука, рыс, бабы, груца, свініна й ялавічына, сухое й згушчанае малако, какава, цукар, алей, рыбін тлушч, соль, галеты. Сотні кухняў АРА адчыніліся каля Наваградка, Бара-

* У 1919—1922 АРА даставіла ў Польшчу 9500 таварных вагонаў харчу, было размеркавана 95 000 тон ежы, выдадзены 1 000 000 адзінак адзення, абутку й бялізны. Агульны кошт дапамогі склаў 65 841 716 даляраў.

** Урад маршала Пілсудскага распрацаваў «дактрыну федэралізму» — вызваленне суседніх «малых» народаў. У Варшаве меркавалі, што дзяржавы-сатэліты санітарнага кардону будуць «круціцца вакол Польскага сонца». Вялікабрытанія папярэджвала пра небяспеку такіх амбіцыяў, але Парыж ставіўся да гэтае дактрыны прыхільна.

*** Kresy Wschodnie — назва, якую ўжывалі афіцыйныя польскія ўлады ў дачыненні да Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны, калі яны ўваходзілі ў склад Польскай дзяржавы (1921—1939).


American Relief Administration.

MOSCOW, ______ 1921

TO ALL COMPETENT AUTHORITIES IN RUSSIA.

The bearer Mr. ______ whose photograph is attached is a member of the American Relief Administration, is travelling in Russia in the interests of that organisation. All Competent Russian Authorities are hereby requested to afford him all assistance in their power.

Chief Russian Unit.

Американская Администрация Помощи.

МОСКВА, ______ 192 г.

ВСЕМ ПОДДЕЖАЩИМ ВЛАСТЯМ В РОССИИ.

Представитель сего, г-н ______, чья фотографическая карточка при сем приложена, является членом Американской Администрации Помощи, проезжающий по России по делам вышеуказанной организации.

Подлежащия русския власти приглашаются оказывать ему всяческое содействие.

Глава русского отдела.

Signature of Holder
Подпись владельца.

Р. С. Ф. С. Р.

ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОММИССИЯ
ВСЕРОССИЙСК. ЦЕНТРАЛЬН.
ИСПОЛНИТЕЛЬНОГО КОМИТЕТА
ПОМОЩИ ГОЛОДАЮЩИМ

______ 1921 г.

№ ______

1. Настоящая карточка заменяет вид на жительство в пределах Р. С. Ф. С. Р. и удостоверение личности.

2. Пред'явитель сей карточки пользуется правом свободного передвижения в пределах Р. С. Ф. С. Р. и не может быть подвергаем аресту или личному обыску. В случае нарушения существующих законов, должен быть составлен протокол и препровожден в Центральную Комиссию при ВЦИК помощи голодающим.

3. При проезде через границу Р. С. Ф. С. Р. личный багаж пред'явителя сей карточки опечатанный печатями Американской Администрации помощи, должден быть беспрепятственно пропускаем без вскрытия и осмотра.

*Председатель Центральной Комиссии при В. Ц. И. К. помощи голодающим:*

навічаў, Кобрына, Пружанаў, Нясвіжа, Ліды, Ваўкавыска, Бераставіцы, Ашмянаў, Багданава, Пінска, Берасця й Горадні*.

У траўні кухні АРА ў Мінску выдалі 59 тысяч 520 абедаў дзецям і іхным маці, у чэрвені — 45 тысяч 407. Адначасна ў Мінск прыйшлі вагоны з адзеннем: паліто, чаравікі, панчохі. Але далей дапамога АРА была спыненая — бальшавікі нанеслі ўдар у адказ, і пачалося імклівае польскае адступленне.

Кухні АРА апынуліся пад пагрозай: ніякага пагаднення з Саветамі не існавала, трэба было ратаваць складавыя запасы й абсталяванне. Палякі борзда адступалі, і часам пагрузка маёмасці АРА заканчвалася, калі бальшавіцкія часткі ўваходзілі ў горад.

* У 1919—1922 на тэрыторыі Польшчы (з улікам беларускіх і ўкраінскіх земляў) агулам дзейнічала 7650 пунктаў харчавання АРА, з іх больш за 1000 — на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

11 ліпеня чырвонае войска ўзяло Мінск, 18-га — Баранавічы, 19 ліпеня Горадню, 23-га — Пінск. Бальшавікі рухаліся так хутка, што паўстала пытанне ўжо не ратавання маёмасці, а больш істотнае: ці амерыканскаму персаналу ў Польшчы працягваць працу пасля захопу краіны бальшавікамі. Некалькі амерыканскіх пілотаў служылі ў польскай эскадрыллі імя Касцюшкі, і хадзілі чуткі, што бальшавіцкім дэкрэтам усе амерыканцы абвешчаныя ворагамі.

У дзень падзення Пінска Гувер паслаў каблаграму з Нью-Ёрка ў Еўрапейскі офіс АРА:

> **На мой погляд, калі нашыя людзі мяркуюць, што гэта бяспечна, яны мусяць працягваць працу пунктаў харчавання за лініяй, занятай бальшавікамі... Пасля пачатковай сумятні яны, магчыма, змогуць ізноў распачаць працу ў акупаванай бальшавікамі Польшчы ў межах пэўнага пагаднення.**

Кіраўнік Еўрапейскай штаб-кватэры АРА ў Лондане Уолтэр Браўн паслаў тэлеграму ў Маскву, у якой пытаўся, ці зацікаўлены савецкі ўрад, каб АРА працягвала харчаваць дзяцей на занятых Чырвонай арміяй тэрыторыях. Адказ прыйшоў толькі праз адзінаццаць дзён. Саветы пагаджаліся, але пры ўмове, што амерыканцы будуць дзейнічаць пад кантролем дзяржаўных органаў дапамогі. Гэтыя органы, аднак, вызнавалі класавы падыход, што цалкам супярэчыла прынцыпу АРА дапамагаць «незалежна ад нацыянальнасці, палітыкі ці рэлігіі».

Тымчасам падзеі імкліва развіваліся: у жніўні чырвонае войска наблізілася да Варшавы, амбасада ЗША, а пасля беспасярэдне Дзярждэпартамент рэкамендавалі ўсім амерыканскім грамадзянам неадкладна пакінуць тэрыторыю, акупаваную бальшавікамі. Аднак АРА не давялося эвакуавацца з Варшавы. 15 жніўня пачаўся контрнаступ польскага войска, і чырвоныя часткі пакаціліся назад гэтаксама хутка, як наступалі.

Дзейнасць АРА ў Заходняй Беларусі аднавілася ў лістападзе, калі была падпісана дамова аб перамір'і. Даставы харчу й адзення адразу вярнуліся на даваенны ўзровень, кухні працавалі на поўную моц. Толькі ў Берасцейска-Пінскім рэгіёне штомесяц адпускалі 50—70 тысяч абедаў для дзяцей і дарослых, пераважна ўцекачоў*.

---

* Ад траўня 1920 да траўня 1922 тут было выдадзена больш за 1 432 000 абедаў.

Ад траўня 1920 па красавік 1922 польская АРА размеркавала на тэрыторыі сучаснай Беларусі каля 15 тысяч 300 тон харчовай дапамогі на суму каля 3 мільёнаў 670 тысяч даляраў. Таксама дастаўлялася мыла й асобна — адзенне. Было выдадзена 150 тысяч 318 паліто, 133 тысячы 759 пар чаравікаў і 137 тысяч 522 пары панчохаў на суму каля 900 тысяч даляраў.

Універсітэты Кракава, Варшавы, Львова ганаравалі Гувера званнем доктара, гарадскія ўлады называлі пляцы й прысвойвалі званні ганаровага месціча, скульптары ляпілі бюсты. Вуліца імя Герберта Гувера з’явілася ў Горадні. Будучы амерыканскі прэзідэнт асабліва даражыў лістамі ад дзяцей.

У снежні 1920 года Герберт Гувер адказаў на дзіцячую пошту:

**Дзецям Польшчы:**
**Я глыбока ўдзячны за цудоўныя альбомы, скруткі й доўгія спісы аўтографаў, якія вы паслалі мне на знак вашага разумення дружбы, якую амерыканскі народ сведчыў вам у гады польскага змагання пасля вайны.**
**Як старшыня АРА, я дзякую вам ад імя ўсёй арганізацыі й асабліва ад імя тых адданых амерыканцаў, сябраў АРА, якія накіраваліся ў вашую краіну й сумленна выконвалі абавязак, каб дапамагчы вам вырасці здаровымі й шчаслівымі грамадзянамі. Спадзяюся, што праца, якую мы здолелі зрабіць, дапаможа выпрацаваць у вас ідэалы свабоды й цывілізацыі, за якія Амерыка ўступіла ў Вялікую вайну.**

У гэтым адказе не выпадковы зварот: не польскім дзецям, а дзецям Польшчы.

Неаднаразовыя напаміны й патрабаванні амерыканцаў захоўваць роўнасць, не ператвараць гуманітарную дапамогу ў інструмент палітыкі сведчылі аб праблеме, якая непакоіла Гувера. Польская эліта адраджала нацыянальную дзяржаву пасля двух стагоддзяў у складзе Расейскай імперыі з імпэтам і апантанасцю, не зважаючы на інтарэсы нацыянальных меншасцяў. Польскія ўлады скарыстоўвалі дзеля сваіх мэтаў дыпламатычныя, вайсковыя, паліцэйскія, сацыяльныя й рэлігійныя вагары, у тым ліку й дапамогу АРА.

Яшчэ ў лютым 1920 на мірнай канферэнцыі ў Парыжы з адмысловай дэкларацыяй выступіла Рада БНР:

**Атрымліваючы велізарныя запасы прадуктаў і адзежы ад Дзяржаў Антанты дзеля помачы дзецям у Польшчы, разумеючы ў гэтым і занятыя палякамі на Ўсходзі землі, окупанты ў Беларусі (асабліва ў Віленскай і Гродзенскай губэрнях) надзяляюць бадай выключна польскія прытулкі, у каторых дзяцей беларускай беднаты за цану хлеба перарабляюць на «палякаў». Калі ж беларускія прытулкі просяць аб выдзяленьні і ім адпаведнае дапамогі для іх дзяцей, ім у гэтым адмаўляюць і прапануюць перадаць усіх дзяцей у польскія рукі дзеля спольшчаньня. І беларускія дзеці, рэзка адчуваючы крыўду і гвалт чужынцаў, са сьлязьмі адмаўляюцца ад «сытага жыцьця» ў польскіх прытулках, дзе павінны былі бы адрачыся сваёй мовы і нацыянальнасьці, ды астаюцца на паўгалоднае быταваньне паміж сваімі!**

Гувер ведаў пра шматнацыянальны й шматканфесійны склад Рэчы Паспалітай і праблемы дачыненняў палякаў з габрэямі, беларусамі, украінцамі, літоўцамі.

Ужо ў першыя месяцы аднаўлення Польшчы пачалі прыходзіць звесткі пра габрэйскія пагромы з Пінска, Мінска, Вільні, Львова. У пагромах абвінавачвалі перш за ўсё польскіх жаўнераў. Габрэйская дыяспара ў ЗША размясціла ў амерыканскім друку абвестку, дзе сцвярджалася, што ў Польшчы забіваюць габрэяў:

**Ніколі габрэйскі народ не меў ворага больш бязлітаснага, больш брутальнага, больш рашучага ці больш магутнага.**

Амерыканскі амбасадар у Польшчы Гібсан, аднак, паведамляў у Вашынгтон пра адсутнасць доказаў масавага забойства габрэяў ці існавання арганізаванага антысеміцкага руху. Гібсан вызначаў прычыны антысемітызму як сацыяльныя й эканамічныя, а не рэлігійныя. Ва ўсходніх гарадах варожасць да габрэяў была выкліканая распаўсюджаным меркаваннем пра іхную супрацу з бальшавікамі й напады на польскае войска. Гібсан нават прапаноўваў Дзярждэпартаменту не выдаваць замежных пашпартоў для паездкі ў Польшчу агітатарам любога кшталту — габрэйскага ці хрысціянскага.

Гэта была дыпламатычная перапіска, не вядомая грамадскасці. Збіраць дабрачынныя ахвяраванні для Польшчы станавілася праблематычна. Тады Гувер параіў прэм’ер-міністру Падарэўскаму папрасіць амерыканскага прэзідэнта прыслаць незалежную камісію.

Камісія ўсклала віну на абодва бакі. Адзначыўшы распаўсюджаныя між палякаў антысеміцкія забабоны, узмоцненыя пасляваеннай сітуацыяй, камісія не знайшла доказаў дзяржаўнага антысемітызму. У справаздачы адзначалася, што, «калі б гвалт чыніўся не мясцовымі бандамі альбо непадкантрольнымі атрадамі, колькасць ахвяраў ішла б на тысячы замест прыкладна двухсот»*.

Камісіі дзеля праверкі скаргаў БНР польскі ўрад не ствараў.

Нягледзячы на неспрыяльную для беларускага насельніцтва палітыку Варшавы, мірнае жыццё й свая зямля хутка зробяць амерыканскую дапамогу ў Заходняй Беларусі непатрэбнай. Яшчэ ў 1919 годзе інспектар АРА Гершэл Уокер так апісваў сітуацыю ў раёне Глыбокага—Дзісны:

> **Сяляне, пераважна беларусы, засталіся й сталі нават больш заможныя. Яны набылі больш зямлі, ураджайнасць была добрая, хаця значна зменшылася пагалоўе коней, гавяды, свіней.**

Напачатку 1922 года, калі польская эканоміка выразна пайшла ўгару, апошні кіраўнік АРА ў Польшчы Філіп Болдуін паведаміў польскаму ўраду пра закрыццё місіі ў чэрвені. Прэм'ер-міністр Панікоўскі выказаў словы ўдзячнасці:

> **Усё насельніцтва Польшчы ўслаўляе імя Гувера й атачае ўдзячнасцю й павагай усіх ягоных суайчыннікаў, хто ўдзельнічаў у дапамозе Польшчы. Адчуванне, што праца сп. Гувера не будзе спыненая, але будзе працягвацца нашым народам, стане найлепшай узнагародай у момант іхнага ад'езду з Польшчы.**

Польскі ўрад пагадзіўся на бясплатны транзіт па тэрыторыі краіны гуманітарных грузаў АРА на мяжу з Беларускай Савецкай Рэспублікай. 15 тысяч тон збожжа штомесяц дастаўлялася з Гданьскага порту ў Стоўбцы, дзе вузкія еўрапейскія колы мяняліся на шырэйшыя. Міністр замежных справаў Польшчы Канстанты Скірмунт так тлумачыў гэтае рашэнне ў лісце да Герберта Гувера:

> **Польскі народ зведаў блаславенне вялікамаштабнае дапамогі ў**

---

* У справаздачы не ўлічаныя падзеі падчас акупацыі Беларусі ад жніўня 1919 да ліпеня 1920. Аўтары кнігі «Джойнт в Беларуси» Э. Іофе й Б. Мельцэр прыводзяць афіцыйны дакумент урада Беларусі ад 3 траўня 1922, паводле якога на часова акупаванай палякамі тэрыторыі было забіта 1100 габрэяў, паранена 150, 1250 жанчын згвалтавана, тысячы сталі ахвярамі рабавання. Пры гэтым аўтары ацэньваюць прыведзеныя лічбы як «яўна заніжаныя».

**часы нацыянальнай пакуты й хоча ўнесці свой уклад у палёгку для Расеі. Хаця Польшча шмат гадоў была пад прыгнётам расейскага ярма, польскі народ адчувае, што дрэннае абыходжанне было выклікане пераважна расейскімі ўладамі, а не расейскім народам...**

У Варшаве Скірмунта абвінавачвалі ў наіўнасці й крытыкавалі за такі жэст, але дзякуючы яму Польшча здолела вырашыць важныя пытанні. Праз пасярэдніцтва АРА было нарэшце падпісанае польска-расейскае чыгуначнае пагадненне.

Пагадненне адкрывала дарогу рэпатрыяцыі й палягчала вяртанне з Расеі дадому сотням тысяч уцекачоў Першай сусветнай вайны*.

## Вашынгтон—Масква: хлеб для бальшавікоў

**Першая спроба дапамогі. — Другая спроба. — Арышт араўцаў у Мінску. — За хлебам з кулямётам. — Голад у Паволжы. — Зварот Горкага. — Умовы Гувера. — Рыжскае пагадненне. — Першыя ўрокі**

Герберт Гувер бальшавікоў не любіў. Аднак лічыў сваім абавязкам дапамагаць усім галодным і хворым — што аказалася зусім не проста.

Яшчэ ўвесну 1919 ягоны план перанесці працу дабрачынных арганізацыяў з заміранай Еўропы ў Расею, дзе шалела грамадзянская вайна, быў абмеркаваны і ўзгоднены з кіраўнікамі так званай Рады чацвёркі — ЗША, Італіі, Францыі й Вялікабрытаніі. У адказ выбухнула бура крытыкі.

Французскі друк тлумачыў план Гувера пошукамі рынку збыту для амерыканскіх фермэраў і жаданнем захапіць важныя канцэсіі ў расейскай эканоміцы. Белая эміграцыя вінаваціла АРА ў маральнай і матэрыяльнай падтрымцы бальшавіцкага рэжыму, які вось-вось мусіў сканаць.

---

* Сярод тых, хто тады змог вярнуцца на радзіму пасля эвакуацыі ў Сібір, была й мая бабуля Ярына з бацькамі, сёстрамі й братам. У родную вёску Рагозна тады ж вярнуўся з заробкаў у Амерыцы Васіль Лукашук, і неўзабаве яны пабраліся. У 1929 нарадзіўся мой бацька. Калі яму пайшоў дванаццаты год, сям'і вызначылі маршрут у Сібір другі раз — першыя Саветы пачалі ў Заходняй Беларусі калектывізацыю й раскулачванне. Пасля паўторнага падарожжа хіба ўжо ніхто з ГУЛАГу не вярнуўся б — але Сталін не паспеў.

Лонданскія кансерватары ацэньвалі план як заахвочванне крыміналу, здраду сябрам і пачатак сусветнай анархіі. Нью-ёркская прэса выказвала здагадку, што насамрэч дапамога будзе скіраваная контррэвалюцыянерам і ёсць часткаю таемнае антыбальшавіцкае аперацыі. Адказваць на савецкую пагрозу мірам і хлебам, пісала іншая амерыканская газета, было ўсё роўна што «гладзіць шалёнага бальшавіцкага сабаку па галоўцы й спрабаваць пасябраваць з ім».

Прапанова дапамогі тымчасам была адкінутая бальшавікамі. Наркам замежных справаў Чычэрын ад імя ўрада вітаў гуманітарную частку плану. Але катэгарычна не прыняў умовы: спыненне ўсіх ваенных дзеянняў варожых бакоў, руху войска ды тэхнікі. Савецкі ўрад лічыў, што перелом у грамадзянскай вайне ўжо адбыўся, канчатковая перамога блізкая й замірэнне пойдзе на карысць белай арміі й акупацыйным войскам. Саветы настойвалі на наўпроставых перамовах з дзяржавамі Антанты.

Гувер быў схільны далей шукаць спосабы дапамогі. З увагі на тагачасную грамадскую й палітычную сітуацыю ў Расеі ён скептычна ацэньваў шанцы саюзнікаў у змаганні з бальшавікамі й прадказваў паразу контррэвалюцыйных сілаў. Аднак міністр замежных справаў Францыі Стэфан Пішон катэгарычна не пагадзіўся з Гуверам і заявіў, што падзенне бальшавіцкага рэжыму непазбежнае й гэта пытанне толькі часу. Гэтак у траўні 1919 скончылася першая спроба дапамогі.



Наступнае кантактаванне АРА й бальшавікоў адбылося праз год і мела больш практычны характар, чым хацелася б АРА. У канцы красавіка 1920 пачалася польска-савецкая вайна. Польскае войска хутка ўзяло Кіеў, але неўзабаве мусіла адступіць аж да Варшавы. Праца АРА на тэрыторыі баявых дзеянняў была перарваная. Спробы дамовіцца з бальшавіцкім урадам аб працягу дзейнасці АРА на занятай Чырвонай арміяй тэрыторыі плёну не прынеслі. Аднак у сярэдзіне жніўня пачаўся контрнаступ польскага войска, і чырвоныя часткі імкліва адступілі.

17 жніўня ў Мінску пачаліся польска-расейскія мірныя перамовы. Разам з афіцыйнай дэлегацыяй у Мінск прыбылі два супрацоўнікі АРА — Морыс Пэйт і Гершэл Уокер. Раней на адрас мінскіх уладаў была адпраўленая тэлеграма, якая папярэджвала пра візіт араўцаў.

Аднак у Мінску Пэйт і Уокер былі арыштаваныя разам з чальцамі польскае дэлегацыі.

Пасля трох дзён зняволення амерыканцам удалося адправіць тэлеграму пратэсту на імя наркама замежных справаў Чычэрына. Яшчэ праз тры дні араўцы былі вызваленыя й выехалі ў Маскву. Трэба было вырашыць два пытанні: дамовіцца, як надалей харчаваць 200 тысяч дзяцей у Беларусі і Украіне на ўсход ад лініі Керзана, і высветліць патрэбы ў дапамозе дзецям у Цэнтральнай Расеі.

Адказ быў ужо знаёмы: дапамога Расеі віталася, але выключна пад кантролем савецкіх органаў. Апроч таго, не АРА, а амерыканскі ўрад павінен выступіць з такой прапановай. Абедзве ўмовы былі непрымальныя для Гувера.

Не прынеслі плёну й пазнейшыя намаганні вырашыць лёс АРА ў Беларусі*. Каб аднавіць аперацыі на яе тэрыторыі, як прапаноўвалі Пэйт і Уокер, Масква зноў патрабавала афіцыйнага звароту ўрада ЗША. Аднак спадзевы бальшавіцкага ўрада такім чынам дамагчыся дыпламатычнага прызнання нічым не скончыліся.

У Крамлі тымчасам вырашылі здабываць хлеб з дапамогай кулямётаў. Хлеб — гэта зброя, заяўлялі камісары. Карныя атрады жорстка душылі рэшткі антыбальшавіцкага супраціву, палітыка харчразвёрсткі

* У 1919—1921 тэрыторыя этнічнай Беларусі некалькі разоў пераразмяркоўвалася паміж Польшчай, Літвой і Расеяй. У сакавіку 1921 Рыжская мірная дамова паміж РСФСР, Украінай і Польшчай падзяліла Беларусь на дзве часткі. Заходняя частка была аддадзена пад кіраўніцтва Варшавы.

ўзаконьвала дзяржаўнае рабаўніцтва сялянаў, і арганізаваны голад быў такім самым сродкам утрымання ўлады, як расстрэлы й канфіскацыі*.

Аднак калі ўвесну 1921 абяскроўленая краіна апынулася на мяжы калапсу й стала відавочна, што галоўная пагроза бальшавіцкай уладзе сыходзіць ад яе ўласнай палітыкі, Ленін абвясціў НЭП. Новая эканамічная палітыка яшчэ не паспела даць плёну, як на вялікія збожжавыя раёны на поўдні і ўсходзе Расеі абрынулася засуха. Улетку пагроза масавага голаду стала відавочнай. Напрыканцы чэрвеня газета «Правда» прызнала, што ад голаду церпяць 25 мільёнаў чалавек.

Савецкі ўрад не звярнуўся афіцыйна па міжнародную дапамогу, але дазволіў выступіць з такімі зваротамі патрыярху Ціхану й пісьменніку Максіму Горкаму. 23 ліпеня быў надрукаваны ліст Горкага «Да ўсіх сумленных людзей», які сканчаўся заклікам:

> **Я прашу ўсіх сумленных людзей Еўропы й Амерыкі аб хуткай дапамозе расейскаму народу. Дайце хлеб і лекі****.

Герберт Гувер быў гатовы да такога павароту. Яшчэ напачатку 1919 ён прадказваў разбуральныя вынікі бальшавіцкага гаспадарання. У дзень, калі быў надрукаваны ліст Горкага, Гувер адказаў аўтару тэлеграмай:

> **З вялікім пачуццём я прачытаў ваш зварот да амерыканцаў пра дабрачынную дапамогу хворым і галодным людзям Расеі, асабліва дзецям. Для ўсіх амерыканцаў абсалютнай умовай любой дапамогі павінна быць неадкладнае вызваленне амерыканцаў, зняволеных у Расеі, і стварэнне адпаведных умоваў для працы. Як толькі гэтыя крокі будуць ажыццёўленыя, Амерыканская адміністрацыя дапамогі, чыста добраахвотнае аб'яднанне, дзе я з'яўляюся старшынёю, у супрацы з іншымі дабрачыннымі арганізацыямі, якія**

---

* Некалькі тагачасных указанняў Леніна ў справе канфіскацыі: «Выдатны план масавага руху з кулямётамі за хлебам...», «Ачысціць цалкам усе лішкі хлеба...», «Складзіце паявятовыя спісы найбагацейшых сялян, якія адказваюць жыццём за правільную хаду працы забеспячэння хлебам...», «Павесіць завадатараў з кулакоў...» (паводле «Ленинского сборника», т. 18, 1931).

** Падчас голаду савецкі ўрад пад кіраўніцтвам Леніна працягваў фінансаваць у цвёрдай валюце замежныя кампартыі: 20 красавіка 1922 было вылучана 3 150 600 рублёў золатам Камінтэрну. Праз тыдзень сума была павялічана яшчэ на 400 000, у т.л. «на агітацыю сярод японскіх салдат». Паводле падлікаў гісторыка Д. Валкагонава («Ленин. Политический портрет»), у 1922 замежным кампартыям было перапраўлена золата, каштоўнасцяў і грошай на суму больш за 19 000 000 залатых рублёў.

**цалкам падтрымліваюцца шчодрасцю амерыканскіх людзей, мае напагатове дастатковыя фонды, каб неадкладна аказаць дапамогу дзецям і хворым.**
**Наша арганізацыя ўжо раней цягам апошняга года выказвала гатовасць зрабіць такую паслугу выключна з гуманітарных меркаванняў, абсалютна не звязаных ні з якімі палітычнымі, сацыяльнымі альбо рэлігійнымі матывамі. Аднак з відавочных адміністрацыйных прычынаў гэта было й мусіць быць абумоўлена пэўнымі захадамі. Калі гэтыя захады будуць зробленыя, мы гатовыя распачаць такую працу.**
**Сёння мы клапоцімся пра тры з паловай мільёна дзяцей у дзесяці розных краінах і будзем гатовыя паставіць харч, адзенне й медыкаменты мільёну дзяцей у Расеі настолькі хутка, наколькі гэта магчыма арганізаваць. Адміністрацыйныя ўмовы, якія мы мусім выставіць, ідэнтычныя тым, што мы мелі ў кожнай з дваццаці трох краінаў, дзе праводзілі аперацыі дапамогі больш чым васьмі мільёнам дзяцей.**

Праз дзень, 25 ліпеня, Горкі адказаў, што савецкі ўрад прыме прапанову Гувера, і 31 ліпеня ён перадаў АРА афіцыйны ліст за подпісам Каменева, які ўзначальваў урадавы камітэт дапамогі ахвярам голаду. Каменеў заклікаў неадкладна распачаць перамовы ў Маскве, Рызе ці Рэвелі. Еўрапейская штаб-кватэра АРА месцілася ў Лондане. Яе кіраўнік Уолтэр Браўн адразу выехаў у Рыгу. 10 жніўня Браўн і тры кіраўнікі аперацыямі АРА ў Польшчы, Нямеччыне й балтыйскіх краінах селі за стол перамоваў з бальшавіцкай дэлегацыяй на чале з намеснікам наркама замежных справаў Максімам Ліцвінавым.

Умовы АРА былі выкладзеныя ўжо ў тэлеграме Горкаму, дзе Гувер запатрабаваў, каб адпачатку савецкія ўлады ясна заявілі:

**А. Што ёсць неабходнасць у нашай дапамозе.**
**Б. Што амерыканскія прадстаўнікі АРА будуць мець поўную свабоду ўезду-выезду й перамяшчэння па Расеі.**
**В. Што гэтыя чальцы будуць мець магчымасць арганізаваць неабходныя камітэты на месцах і мясцовую дапамогу без дзяржаўнага ўмяшання.**
**Г. Што ім забяспечаць бясплатны транспарт, склады й апрацоўку імпартаваных паставак па-за чаргой, што ўлады бясплатна вылучаць патрэбныя будынкі, абсталяванне й паліва.**

**Д. Што ў дадатак да імпартаваных харчу, адзення й медыкаментаў дзеці й хворыя будуць атрымліваць аднолькавы аб'ём мясцовых паставак нароўні з астатнім насельніцтвам.**
**Е. Што АРА будзе мець гарантыі неўмяшання ўладаў у свабоду ўсіх сваіх супрацоўнікаў.**

У сваю чаргу Гувер абяцаў дзве рэчы:

**Першае. Што АРА, у межах сваіх рэсурсаў, будзе аказваць дапамогу ўсім дзецям і хворым аднолькава, незалежна ад расы, веры й сацыяльнага статусу.**
**Другое. Што яе прадстаўнікі й супрацоўнікі ў Расеі не будуць займацца ніякай палітычнай дзейнасцю.**

Пачатак перамоваў з бальшавікамі зноў выклікаў град крытыкі ў Амерыцы. Правыя абураліся, што Амерыка збіраецца дапамагаць вар'яцкаму рэжыму, які зруйнаваў Расею. Левыя радыкальныя арганізацыі абвінавачвалі Гувера ў намеры падарваць бальшавіцкую ўладу й патрабавалі, каб уся дапамога беспасярэдне была перададзеная расейскаму ўраду. У якасці аргумента прыводзілася дзейнасць АРА ў Вугоршчыне, якая быццам прывяла да падзення камуністычнага ўрада Бэлы Куна*.

Перамовы ў Рызе праходзілі пад пільнай увагай прэсы, пад бурны каментар супрацьлеглых палітычных сілаў і ў нябачнай, але адчувальнай прысутнасці еўрапейскіх урадаў, якія спешна пасылалі ў Рыгу сваіх дыпламатычных прадстаўнікоў. Пасярэдніцкія паслугі прапаноўвалі міжнародныя авантурысты, якія пабачылі свой шанец у гуманітарнай аперацыі.

Тымчасам напружанасць на перамовах расла. Ліцвінаў пагаджаўся на ўсе ўмовы Гувера, апроч аднае: свабода дзейнняў амерыканцаў. Гэта тычылася перш за ўсё права самастойна размяркоўваць дапамогу. А таксама — колькасці амерыканцаў, свабоды перамяшчэння, права ўладаў наператрус амерыканскіх офісаў і асабістых рэчаў, высылаць непажаданых асобаў з краіны й вызначаць зоны дапамогі. Браўн, са свайго боку, патрабаваў такіх самых умоваў, якія АРА мела ў іншых краінах.

---

* Падобная выснова вынікала з успамінаў былога кіраўніка АРА ў краінах Паўднёвай Еўропы капітана Т. Грэгары. Ягоныя артыкулы пад загалоўкам «Спыняючы чырвоны прыліў» друкаваліся ў амерыканскай прэсе ў 1921. Гістарычныя факты не пацвярджаюць гэтае высновы.

У сярэдзіне жніўня ў еўрапейскай прэсе з'явіліся першыя паведамленні аб правале перамоваў. Аднак адбыўся зрух. Пасля некалькіх дзён і начэй шматгадзінных дадатковых абмеркаванняў і ўзгадненняў са сваімі сталіцамі раніцай 20 жніўня дэлегацыі сустрэліся, маючы канчатковы тэкст пад назвай «Пагадненне паміж Амерыканскай адміністрацыяй дапамогі й Расейскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікай».

Падпісанне адбылося ў прысутнасці латышскіх урадоўцаў, дыпламатаў і журналістаў.

Дакумент адкрывала прэамбула:

**Беручы пад увагу, што некаторыя часткі Расеі ахапіў голад,**
**Беручы пад увагу, што сп. Максім Горкі з ведама РСФСР звярнуўся праз спадара Гувера да амерыканскага народа па дапамогу для хворых, галодных, асабліва дзяцей,**
**Беручы пад увагу, што сп. Гувер і амерыканскі народ успрынялі просьбу ад імя расейскага народа з вялікім спачуваннем і жадаюць, выключна з гуманітарных меркаванняў, прыйсці ім на дапамогу,**
**Беручы пад увагу, што сп. Гувер у адказе сп. Горкаму прапанаваў, што АРА магла б даставіць дадатковую дапамогу аднаму мільёну дзяцей у Расеі,**
**Дзеля гэтага дасягнутая дамоўленасць паміж АРА, неафіцыйнай добраахвотнай амерыканскай дабрачыннай арганізацыяй пад старшынёўствам Герберта Гувера, і РСФСР (Савецкімі ўладамі).**

Далей ішоў тэкст пагаднення, пра які гэтак доўга спрачаліся Браўн з Ліцвінавым. АРА абавязвалася аказваць дапамогу пры ўмове выканання савецкімі ўладамі пэўных патрабаванняў — яны складаліся з 25 пунктаў. Улады гарантавалі амерыканцам свабоду руху, бяспеку, быў вызначаны парадак фінансавання, працы портаў і транспарту грузаў, асобна агаворваліся правы атрымальнікаў дапамогі АРА — іх не павінны былі пазбаўляць савецкіх паек. Асобны параграф тычыўся прыёму на працу мясцовага персанала — АРА мелася атрымаць поўную свабоду падбору супрацоўнікаў, і ўлады абавязаліся ўсяляк спрыяць гэтаму.

Пункт 8 пагаднення на першы погляд меў чыста тэхнічны характар:

**Даставы дапамогі, прызначаныя дзецям і хворым, вызначаным АРА ў адпаведнасці з пунктам 24, застаюцца ўласнасцю АРА, аж**

**пакуль насамрэч не будуць спажытыя дзецьмі й хворымі, і размяркоўваюцца ад імя АРА.**

Пункт 24 удакладняў прынцып размеркавання:

**Размеркаванне дапамогі для дзяцей і хворых будзе ажыццяўляцца не зважаючы на расу, рэлігію, сацыяльны альбо палітычны статус.**

Гэтыя два пункты цалкам супярэчылі цэнтральным прынцыпам бальшавіцкай улады — поўнага дзяржаўнага кантролю й класавага падыходу. Але пакуль Масква мусіла падпісаць амерыканскія ўмовы. Ліцвінаў выступіў з палымянаю прамоваю пра палітычную значнасць пагаднення. Браўн, у сваю чаргу, падкрэслена выразна заявіў, што пагадненне не мае ніякага палітычнага значэння.

У гэты ж дзень пасля тэлеграмы Браўна пачалася адгрузка харчавання для Расеі са складоў АРА ў Гамбургу, Данцыгу й Рызе. Яшчэ праз дзесяць дзён, 1 верасня, амерыканскі сухагруз «Фенікс» прышвартаваўся ў петраградскім порце з 700 тонамі мукі, рысу й цукру на борце.

У суботу 27 жніўня першы кантынгент АРА — сямёра амерыканцаў — прыбыў у Маскву*.

Іх сустракалі прадстаўнікі Наркамата замежных справаў і ўрада.

Амерыканцы адразу атрымалі першы ўрок: улады краіны з насельніцтвам больш за 120 мільёнаў чалавек былі гатовыя размясціць толькі тры чалавекі, астатнім месца не было. Амерыканцы пагадзіліся начаваць у вагоне й пацікавіліся планам заўтрашніх дзелавых сустрэчаў. Ім паведамілі, што ў нядзелю ўсе камісарыяты зачыненыя й ніхто з імі сустрэцца не зможа.

Такі быў другі ўрок.

---

* Першапачаткова меркавалася, што ў АРА будзе працаваць каля 100 амерыканцаў. Аднак з прычыны пашырэння аперацыяў гэтая лічба вырасла да 381 чалавека (нехта працаваў цалкам увесь тэрмін, нехта толькі некалькі месяцаў). Кірункі дзейнасці АРА былі адлюстраваныя ў структуры арганізацыі: у Маскоўскай штаб-кватэры існавалі ўправы размеркавання харчу й адзення, медычнай дапамогі, складавання й транспарту, фінансаў, а таксама інспектарат, гістарычны аддзел, прэс-служба й паўафіцыйная консульская служба (АРА паспрыяла рэпатрыяцыі 798 амерыканскіх грамадзянаў ці асобаў, якія мелі сваякоў у Амерыцы).

# Беларусь, Козырава: акно ў Еўропу на ўскрайку Мінска

**2 мільёны ўцекачоў. — Пакуты вяртання. — Цягнікі надзеі й смерці. — Бар'ер для тыфусу. — Поле бітвы пад Негарэлым. — Забытыя немцы. — Французскія вашабойкі. — Паратунак у канцлагеры**

На архіўным фотаздымку — некалькі дзясяткаў людзей пад голым небам на фоне баракаў, апранутыя хто як, — старыя, дзеці, жанчыны, барадатыя мужыкі. Здымак зроблены ў найбольшым у свеце на той момант, як пісалі газеты, канцэнтрацыйным лагеры ўцекачоў Козырава* за пяць кіламетраў ад цэнтру Мінска. Праз Козырава прайшлі тысячы людзей, якіх трэба было карміць, лячыць, мыць, апранаць.

Паводле ацэнак Рады БНР, каля 2 мільёнаў беларусаў, пераважна праваслаўных, на загад царскага ўрада былі вывезеныя ўглыб Расеі перад наступам нямецкіх войскаў**.

Вярнуцца ў Польшчу маглі ўсе, хто меў паперы, якія сведчылі пра іхнае жыццё на тэрыторыі, што стала ўваходзіла ў Рэч Паспалітую Польскую. Падпісанае пры пасярэдніцтве АРА польска-расейскае чыгуначнае пагадненне адкрыла ім дарогу дадому.

Цэнтральны эвакуацыйны камітэт у Маскве вызначыў два пункты рэпатрыяцыі ўцекачоў: Жмерынка ва Украіне й Негарэлае ў Беларусі. Гнаныя голадам, сотні тысяч сем'яў разам з набыткам рушылі на захад. Таварныя вагоны на некалькі месяцаў станавіліся домам для дзяцей і дарослых, жанчын і мужчынаў, здаровых і хворых.

Чыгунка не спраўлялася з людской плынню. У адной са справаздачаў падаецца тыповая вакзальная сцэна:

**...Шчыльная маса бруднага рыззя, у якой там і тут відаць схуднелыя голыя рукі, твары з пячаткай смерці. У паветры атрутны смурод. Прайсці немагчыма. Заля чакання, калідоры, кожны сан-**

---

* Козырава — пасёлак на паўднёвай ускраіне Мінска. Цяпер гэта раён вул. Вільямса й Фізкультурнага завулка з аднаго боку чыгункі ды вул. Гогалеўскай (раней Козыраўская) з другога. Захаваліся старыя Козыраўскія могілкі.

** Паводле афіцыйнай расейскай статыстыкі, усяго было дэпартавана 3 300 000 чалавек, з іх 800 000 палякаў, 200 000 габрэяў, астатнія 2 300 000 складалі беларусы і ўкраінцы. Паводле БелЭН, беларускіх уцекачоў было больш за 2 292 000.




**тыметр густа занятыя людзьмі, якія ляжаць, сядзяць скурчаныя ў самых неверагодных позах. Калі прыгледзецца, дык відаць, што смярдзючыя лахманы кішаць вошамі. Хворыя на тыфус курчацца й трасуцца ў ліхаманцы разам з дзецьмі. Немаўляты страцілі галасы й болей не могуць плакаць... Жанчына спрабуе супакоіць малое дзіця, якое плача й просіць есці. Яна люляе яго на руках. Затым раптам б'е. Малое крычыць. Жанчына вар'яцее. У шаленстве, з перакошаным тварам яна пачынае збіваць дзіця. Удары кулаком градам сыплюцца на тварык, на галаву, потым яна кідае дзіця на падлогу й б'е нагой. Вакол у жаху крычаць. Малое падымаюць, лаянка абрынаецца на маці, якая пасля шалёнага выбуху сціхла й абсалютна не зважае навокал. Вочы расплюшчаныя, але нічога не бачаць.**

Польскі надзвычайны камісар у справе рэпатрыяцыі Уладыслаў Грабскі падаў наступны пратакол пра ўмовы вяртання:

**Транспарт з Казані быў у дарозе 90 дзён. Адлегласць да польскае мяжы складае 1739 км. Цягнік праходзіў 19,33 км за 24 гадзіны, альбо з хуткасцю 0,8 км у гадзіну. Калі б уцякач вяртаўся пешкі**

**й ішоў толькі 6 гадзінаў у дзень з хуткасцю 4 км у гадзіну, ён бы прайшоў увесь шлях на 17,5 дня хутчэй, чым на цягніку. У цягніку было 1948 чалавек, з якіх толькі 649 дабраліся да мяжы. Астатнія 1299 памерлі ў дарозе. Смяротнасць перавышала 14 чалавек у дзень, паміраў адзін чалавек кожныя 1 гадзіну 40 хвілінаў. Падчас падарожжа праз Расею ўцекачы атрымлівалі ў сярэднім 153 грамы хлеба штодня, яны таксама мусілі самі нарыхтоўваць паліва.**

Да адкрыцця лагера людзі, якія мусілі чакаць на свае цягнікі, самі шукалі жытло, начавалі ля станцыі, у паўразбураных дамах. Праз месяц пасля прыезду ў Мінск, у лютым 1922, кіраўнік акругі АРА Доналд Гардзі наведаў такі дом:

**Паветра затхлае, і праз некалькі хвілінаў цягне на ваніты, і чалавек млее. У пакоі без святла й абагрэву месціцца ад 30 да 40 чалавек, без ежы й вопраткі, тамсама хворыя на тыфус. Зімой не было часу хаваць памерлых, і трупы проста кідалі ў пустыя вагоны ці пустыя будынкі ля станцыі. Аднойчы я налічыў 150 трупаў, наваленых адзін на аднаго, як мяхі.**

Беларускую эвакуацыйную камісію (Белэвак), якая займалася ўцекачамі, узначальваў будучы куратар АРА Мар'ян Стакоўскі. Ад студзеня 1921 па красавік 1922, паводле звестак камісіі, праз мінскі вакзал прайшлі 251 тысяча 734 уцекачы. Амаль для кожнага трэцяга Мінск быў канцавой станцыяй. Далей, да родных вёсак пад Лагойск ці Мар'іну Горку, яны дабіраліся самастойна. Рэшту ўцекачоў трэба было перапраўляць у Негарэлае й далей у Польшчу. Яны праводзілі ў Мінску ў сярэднім каля дзесяці дзён.

Дапамогі ад цэнтральнага ўрада Беларусь не атрымала. Студэнты-медыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта сабралі больш за 2 тысячы кашуляў, сукенак, ручнікоў, прасцінаў. Апроч збору ахвяраванняў, было вырашана правесці латарэю на карысць уцекачоў, на патрэбы галодных пералічвалася частка выручкі ад канцэртаў і спектакляў, гарвыканкам пастанавіў аддаваць 2% даходаў ад гарадской электрастанцыі. На сабраныя грошы была адкрытая сталоўка Чырвонага Крыжа на пяцьсот чалавек. Квакеры пастаўлялі рыс, шмалец, малако. У сакавіку 1922 прыйшла дапамога ад нямецкага Чырвонага Крыжа — хлеб і грошы. Два вагоны кукурузы прыслала місія Нансена. Спачатку меркавалі карміць толькі дзяцей, але ўцекачы настолькі змарнелі ад голаду, што давялося карміць

і дарослых. Аднак на чвэрць мільёна ўцекачоў сабраных сродкаў было яўна недастаткова.

У апошні тыдзень сакавіка 1922 лекар Мінскай акругі Ралф Герц разам з лекарам Белэваку Зітманам вывучалі рух уцекачоў. За той тыдзень на вакзал прыбыло 4 тысячы ўцекачоў з Екацярынаслаўля, Смаленска, Саратава й Тулы.

У пяці цягніках не было мёртвых, толькі 10 хворых былі знятыя з вагонаў. Гэта надзвычайна, і тлумачыцца тым, што толькі хворыя з ліхаманкай лічацца хворымі, а інкубацыйны перыяд не рэгіструецца. Для параўнання, у апошні тыдзень снежня 1921 года з прыкладна такой жа колькасці цягнікоў было знята каля 100 памерлых і 100 хворых.

У Наркамаце аховы здароўя Герцу паведамілі, што маюць адну восьмую частку патрэбных медыкаментаў. Не было сродкаў і вакцынаў для прышчэпак ад тыфусу, халеры й вятранкі. Далёка ад Мінска хваробы разносілі гэтак званыя неарганізаваныя ўцекачы, якія спрабавалі выбрацца з зоны голаду паасобку ці сем'ямі. Тыфус выбухнуў нават сярод сялянаў у Бабруйскім і Слуцкім паветах. Герц неадкладна перадаў у Маскоўскую штаб-кватэру просьбу аб дапамозе й прапанаваў распачаць у Беларусі кампанію вакцынацыі.



У заяве кіраўніцтва АРА гаварылася:

**Мы не ў стане ўзяць на сябе адказнасць за абарону Заходняй Еўропы. Але, беручы пад увагу важнасць працы на заходняй мяжы, мы аказваем усялякую магчымую дапамогу. Нашыя штаб-кватэры месяцца ў Мінску й Кіеве, а склады ў Гомелі й Віцебску, і адтуль мы робім даставы розных неабходных рэчаў ва ўсе раёны на заходняй мяжы й спадзяемся забяспечыць іх у прымальна кароткі час.**

Да снежня 1921 Белэвак збольшага спраўляўся з сітуацыяй, але ўзімку прыбыццё цягнікоў стала непрадказальным: часам тыдзень не было ніводнага эшалона, часам цягам дня восем ці дзевяць прыбывалі без папярэджання. Лекар Мінскай акругі Ралф Герц пісаў:

**З прычыны геаграфічнага становішча Мінск заўсёды быў галоўным заходнім пунктам выезду і ўезду ў Расею, апошнім вялікім чыгуначным цэнтрам перад польскай мяжой. Голад у Паволжы пагоршыў сітуацыю. Людзі выязджаюць з зоны голаду, і шмат каму не шанцуе: калі іхныя дакументы не адпавядаюць патрабаванням польскага эвакуацыйнага камітэта, іх адсылаюць назад, і звычайна яны застраюць у Мінску. Дакладных лічбаў няма. Паводле апошніх ацэнак, у Мінску стала жыве ад 10 000 да 11 000 уцекачоў, і, магчыма, 5000 месяцца ў навакольных вёсках. Ад адной да дзвюх тысяч памерла ўзімку ад тыфусу. Апроч таго, у Мінску знаходзіцца штотыдня ад 8000 да 15 000 транзітнікаў, якія некалькі дзён чакаюць свайго цягніка. Транзітнае насельніцтва, верагодна, падвоіцца ці патроіцца, паколькі рух уцекачоў павялічыцца ў наступным месяцы і ўлетку.**

Паводле дакументаў АРА, у Мінску знялі з цягнікоў каля 2 тысяч трупаў. Перад Беларуссю цягнікі таксама правяраліся, і значная частка памерлых ужо была знятая альбо выкінутая з вагонаў па дарозе проста пад адхон. Але не ўсе. Кіраўнік Мінскай акругі пісаў:

**Мёртвыя даязджалі да самай мяжы, і ў ваколіцах Негарэлага можна пабачыць магілы, якія сведчаць пра найвялікшае няшчасце ў нашай гісторыі. Гэтыя пагоркі нагадваюць мясціны самых жорсткіх бітваў.**

Гэтаксама выглядалі ваколіцы Вязьмы, Смаленска й Воршы. Уцекачы звычайна праводзілі ў Мінску каля дзесяці дзён.

Нашмат даўжэй заселі ў Мінску 4 тысячы нямецкіх каланістаў з Паволжа. Немцы паверылі чуткам, нібыта яны таксама змогуць выехаць з савецкай Расеі ў Нямеччыну. Яны распрадалі ці выменялі на харч свой набытак, пакінулі хаты й гаспадаркі й цэлымі сем'ямі выправіліся ў дарогу, якая для іх скончылася не ў Берліне, а ў Беларусі.

Вось як апісваў побыт каланістаў, якіх высадзілі з цягнікоў у Мінску, кіраўнік місіі нямецкага Чырвонага Крыжа доктар Карстэнс:

**Амаль ва ўсіх вельмі дрэнныя жыллёвыя ўмовы. Два перададзеныя ім дамы перапоўненыя. Сем'і жывуць на голай падлозе. Насякомых гэтулькі, што ўсе скардзяцца, як іх зажыва з'ядаюць вошы. Печкі паламаныя, вокны разбітыя, шчыліны заткнутыя рыззём. Туалеты ў страшным стане. У выніку ўспыхнулі эпідэміі, шмат памерла ад тыфусу. Больш за 60% уцекачоў памерлі ўзімку. Голад быў такі ж моцны, як у Паволжы. Уцекачам мелі выдаваць ежы да 1000 калорыяў, але толькі на паперы.**

Другой пасля тыфусу прычынай смяротнасці былі сухоты. Лекар Ралф Герц, які наведваў каланістаў, падлічыў, што ў адным пакоі, дзе разам туліліся трыццаць дарослых і дзяцей, шэсць чалавек мелі адкрытую форму сухотаў трэцяй ступені. Летам 1923 у жывых заставалася паўтары тысячы немцаў. Смяротнасць пайшла на спад — тыя, хто перахварэў на тыфус, ужо мелі імунітэт. З надыходам цяпла ўцекачы атрымалі магчымасць працаваць. Канчаткова страціўшы надзею атрымаць дазвол на выезд у Нямеччыну, каланісты, якія перажылі зіму, пачалі вяртацца на Волгу.

1 чэрвеня 1922 адкрыўся канцэнтрацыйны лагер для ўцекачоў Козырава. За пяць кіламетраў ад Мінска па гомельскай чыгунцы на тэрыторыі 6 гектараў за калючым дротам месціліся 15 казармаў і вайсковых складоў. Частка пабудоваў была разбураная падчас вайны, але дзевяць будынкаў ацалела.

Ралф Герц апісваў:

**Як увойдзеш, адразу справа месціцца шпіталь. У ім чатыры аддзяленні, кожнае на 25 ложкаў. У адным канцы прыёмны пакой — тут запаўняюць паперы пацыента. Затым яго голяць і стрыгуць, мыюць і адпраўляюць у аддзяленне. З другога боку — выпіска,**

**таксама абсталяваная для памыўкі. Мы прапануем цалкам укамплектаваць яго матэрыяламі АРА й наблізіць, наколькі магчыма, да амерыканскага шпіталя, улучна з пафарбаванымі набела сценамі. Найбольш патрабуюцца цяпер ложкі, а таксама не пашкодзяць пераносныя стэрылізатары, эмалевыя сталы й г.д.**

У трох вялікіх казармах былі ўсталяваныя двухпавярховыя нары, яшчэ ў пяці будынках уцекачы клаліся на падлогу. Асобна размяшчалася дэзынфекцыйная камера.

Уцекачы праводзілі ў Козыраве каля тыдня. Тут упершыню за некалькі месяцаў яны маглі схадзіць у лазню й пазбыцца вошай. АРА пастаўляла ў Козырава медыкаменты, а таксама замовіла й прывезла французскую паравую машыну для дэзынфекцыі, яшчэ пяць такіх машынаў былі пастаўленыя на памежныя пераходы. Раней у Козыраве стаяла японская камера, якая апрацоўвала адзенне фармальдэгідным газам, небяспечным для персанала. Доналд Гардзі замовіў для Козырава таксама 1000 прасцінаў, 150 электралямпачак ды іншы неабходны рыштунак, які было не знайсці ў Мінску.

Кожны ўцякач штодня атрымліваў адзін араўскі рацыён. Аднак часам нагрузка на мінскую АРА ўзрастала шматкроць. Гардзі пісаў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**У лютым 1922 эшалон з 30 вагонаў з уцекачамі з Арэнбурга быў затрыманы ў Мінску на некалькі дзён. Польскі консул, які мусіў выдаваць візы, быў арыштаваны па абвінавачанні ў шпіянажы. АРА ўзяла на сябе поўнае ўтрыманне 650 чалавек, якія былі палякамі й таму не надта цікавілі мясцовыя ўлады.**

Увесну надалей прыбывалі неарганізаваныя ўцекачы, але іхная плынь значна скарацілася — да 300 чалавек на дзень. У Козыраве знаходзілася каля 7 тысяч уцекачоў, штодня 30—35 чалавек звальваў тыфус. Але, паводле медыкаў, захворванне пачыналася яшчэ ў дарозе альбо падчас чакання ў вагонах. У самім лагеры санітарныя ўмовы былі добрыя.

Разам з эвакуацыйнымі камітэтамі АРА праводзіла вакцынацыю. Усе ўцекачы, якія чакалі рэпатрыяцыі, атрымлівалі прышчэпкі ад тыфусу, халеры, вятранкі, другаснага тыфусу, праводзілася таксама вакцынацыя мясцовага насельніцтва. У Мінскай, Віцебскай і Гомельскай акругах прышчэпкі атрымалі каля 1 мільёна чалавек. У афіцыйным выніковым




дакуменце беларускага ўрада будзе адзначана, што 80% медыкаментаў для ўцекачоў паставіла АРА.

Старшыня беларускага Чырвонага Крыжа Баркусевіч так падсумуе працу АРА ў першы год у Мінску:

> **АРА перадала Чырвонаму Крыжу 521 тысячу 164 рацыёны да снежня 1922, якія былі размеркаваныя паміж 18 тысячамі 280 галоднымі; АРА перадала шпіталям Чырвонага Крыжа медыкаментаў і матэрыялаў на многія мільярды рублёў. Прадстаўнікі АРА сп. Гардзі й лекар Герц, а таксама сп. Уілабі й Вілі заўсёды ахвотна дапамагалі Чырвонаму Крыжу, і няма ніякага сумневу, што без іх дапамогі нашая праца ніколі не мела б такіх паспяховых вынікаў.**

Пасля афармлення дакументаў насельнікі Козырава выпраўляліся на захад. Каб прадухіліць эпідэміі, на польскім баку пасажыраў з таварных вагонаў накіроўвалі ў канцэнтрацыйныя лагеры, дзе яны праходзілі каранцін*. Пасля санацыі ўцекачы адпраўляліся ў свае родныя куты, не

---

* Аднак і пасля каранціну часам даводзілася чакаць некалькі дзён на вакзале. У Баранавіцкім лагеры на 800 хворых было чатыры лекары; на адным ложку спалі двое-трое дзяцей. З харчаваннем было лепш: у пунктах перасячэння мяжы і ў лагерах былі адкрытыя кухні АРА. Усяго дзейнічала 1849 агульных кухняў і 210 кухняў у дзіцячых дамах, школах, шпіталях.

ведаючы, што іх там чакае, але цвёрда ўпэўненыя, што горш, чым на чужыне, ужо не будзе.

У 1921—1923 гадах праз Мінск прайшлі многія сотні эшалонаў уцекачоў*. Козырава мела агульнаеўрапейскае значэнне:

> **Харчаванне, а таксама дэзынфекцыя ад вошай, шпіталізацыя й агульная санітарная апрацоўка, якую ажыццяўляў медычны аддзел АРА, рабілі жыццё ўцекачоў крыху менш жахлівым ды абаранілі й Польшчу, і Беларусь ад эпідэміі тыфусу.**

Так завяршае раздзел, прысвечаны працы АРА ў Беларусі, Гаралд Фішэр у сваёй кнізе «Голад у Савецкай Расеі, 1919—1923», выдадзенай у Нью-Ёрку ў 1927 годзе.

Кніга ніколі не перакладалася.

## ЧВАК: «часовы выканаўца абавязкаў каня»

**Нектар з асадкам. — Жаба душыць. — Чароўныя пасылкі. — Некашэрнае малако. — Аферыст з Бабруйска. — Гардзі зноў памыляецца. — Дэфіцыт тары. — Цяжкія пасылкі. — Цэны падаюць. — Пайкі паэтам і акадэмікам**

Калі ў гарачы чай дадаць пару лыжак амерыканскага сухога ці згушчанага малака й цукру, напой у галодным горадзе можна смела параўнаць з нектарам. Так падавалася кіраўніку акругі Доналду Гардзі, калі пачыналася выдача пасылак АРА ў Мінску. Тая дробязь, што колькі ні размешвай, але ў шклянцы застаецца асадак, кіраўніка акругі не бянтэжыла — добрае малако й павінна забельваць посуд. Гардзі памыляўся, гэтаксама як памыляўся, калі думаў, што выдача пасылак выкліча ўсеагульную любоў і павагу да АРА.

Праз тры дні пасля прыбыцця амерыканцаў у Мінск у мясцовых газетах з’явіліся публікацыі, дзе ўхвалялася праца квакераў, якія клапаціліся пра дзяцей, і крытыкавалася АРА, якая нібыта будзе займацца

---

* Паводле статыстыкі Белэваку й польскіх звестак, атрыманых АРА, да лістапада 1920 праз Мінск у Польшчу вярнулася каля 300 000 уцекачоў, у наступны перыяд да канца траўня 1922 яшчэ 420 000. З цягнікоў у Мінску было знята 20 000 трупаў.

толькі прыватнай дапамогай. Пасля пратэстаў АРА ўлады выбачыліся й заявілі, што гэта не афіцыйны погляд.

Гардзі не быў перакананы, што непаразуменне палагоджана. Ён пісаў у Маскву:

**Без сумневу, многія з чыноўнікаў, якія адчуваюць нястачу, мусяць стаяць і назіраць, як шмат у якіх выпадках іхныя рэлігійныя й палітычныя праціўнікі атрымліваюць дапамогу, недаступную ім самім.**

Гардзі тлумачыў палітычнымі чыннікамі тое, што звычайна ўкладваецца ў выраз «жаба душыць», але небеспадстаўна лічыў, што нядобразычлівае стаўленне напачатку можа пашкодзіць будучай сумеснай працы:

**Прадстаўнік урада, сам камісар, сказаў: «Хаця мы цалкам падтрымліваем праграму пасылак АРА, вы мусіце зразумець, што мы не можам ставіцца да вашай дапамогі гэтаксама, як калі б вы харчавалі дзяцей, як квакеры».**

Гуманітарная дапамога агульнага прызначэння — уцекачам, дзіцячым дамам, шпіталям, настаўнікам, — першыя месяцы была амаль немагчымая. Улады ў Маскве неахвотна дазволілі АРА пачаць працу ў Беларусі, але абмежавалі яе выдачай індывідуальных пасылак, аплачаных за мяжой.



Гэта была вялікая справа. Любы амерыканец у ЗША, які меў сваякоў у Беларусі, мог паслаць ім харчовую пасылку без пасярэдніцтва пошты, аплаты мыта, без клопату, ці не сапсуюцца харчы. За 10 даляраў* АРА абавязвалася скамплектаваць пасылку са сваіх гуртовых складоў на месцах і даставіць адрасату ў Радашкавічах ці Мазыры. У сваю чаргу людзі, якія жылі ў Віцебску ці Барысаве, маглі самі паслаць паштовую картку знаёмым у Амерыку з адзнакай мясцовай канторы АРА й папрасіць дапамогі.

Праграма пасылак была з вялікім поспехам апрабаваная ў краінах Еўропы. У гады Першай сусветнай вайны й пасля захопу ўлады бальшавікамі царскую Расею пакінулі сотні тысяч чалавек, многія з якіх апынуліся ў ЗША. Пры планаванні пасылачнай праграмы амерыканцы вызначылі найбольш верагодныя пункты, куды пойдуць пасылкі й дзе трэба прадугледзець адпаведны персанал. Першымі ў спісе АРА стаялі тры гарады — Мінск, Гомель і Віцебск. 16 студзеня 1922, праз тыдзень пасля прыезду АРА ў Мінск, былі выдадзеныя першыя дваццаць харчовых пасылак.

Пасылка АРА каштавала 15 рублёў 40 капеек золатам33**. У набор уваходзілі 54 фунты пшанічнай мукі, 27 — рысу, 11 — цукру, 10 — тлушчу, 3 — гарбаты, 20 бляшанак малака.***

Праграма выклікала бурную цікавасць. Больш за тысячу паштовак-замоваў штотыдня прымалі ў мінскай канторы АРА на працягу ўсяго 1922 года. Араўская пасылка, паводле ацэнак, дапамагала выжыць сям’і з пяці чалавек цягам тыдня. Адначасова гэтыя людзі не забіралі рэсурсы ад іншых, і такім чынам адна пасылка дапамагала дзесяці чалавекам.

---

* Паводле справаздачы Уілабі, у студзені 1922 на чорным рынку ў Мінску 1 даляр каштаваў 300 000 рублёў, у лютым — 400 000, у сакавіку — 1 600 000, у красавіку — 2 800 000, у траўні — 4 000 000.

** Савецкая грашовая сістэма была надзвычай няўстойлівая. З лістапада 1917 да сакавіка 1921 колькасць грошай павялічылася ў 76 разоў, а таварныя цэны — у 93,6 раза. У 1922—1923 былі праведзеныя дзве дэнамінацыі, у выніку якіх 1 000 000 рублёў старымі грашовымі знакамі стаў роўным 1 новаму рублю. У 1923 быў выпушчаны ў абарачэнне чырвонец — банкаўскі білет, які адпавядаў старой 10-рублёвай залатой манеце. З 5 лютага 1924 у абарачэнні з’явіліся казначэйскія білеты (1, 3 і 5 рублёў), а з 15 лютага 1924 перасталі выпускацца «совзнаки». Апошнія падлягалі абмену ў суадносінах: 1 рубель казначэйскімі за 50 000 «совзнаков» узору 1923 або 50 000 000 рублёў недэнамінаваных узораў.

*** Сярэдняя савецкая месячная пайка напачатку 1922 складалася з 40 фунтаў жытняй мукі, 2 — солі, 7 — аўса, 1 — масла ці 2 — мяса, 1 — цукру, агулам на суму 1 рубель 88 капеек золатам.




Каб запабегчы спекуляцыі, на адно імя прымалася не больш за пяць пасылак.

Хутка Гардзі пераканаўся, што адметны погляд на амерыканскую дапамогу ў Мінску маюць не толькі камісары. Не без іроніі ён пісаў у Маскву:

**У параўнанні з чорным хлебам, слабым чаем і макавым насеннем, харчовы пакет АРА мусіў бы ўспрымацца як нектар для згаладнелай душы. Баімся, гэта не так. Пайшла чутка, што ад араўскага малака застаецца лёгкі асадак нават пасля самага моцнага размешвання. Таму ўчора кошт малака на мясцовым рынку за паўгадзіны ўпаў са 100 тысяч рублёў за бляшанку да 80 тысяч.**

Але гэта было не ўсё. Гардзі працягваў:

**Стала вядома, што ствараецца артадаксальная група, якая неўзабаве будзе дамагацца, каб да кожнай бляшанкі была прыкладзеная даведка галоўнага рабіна Амерыкі, што гэта сапраўды малако ад**

**памыснай каровы з добрай рэпутацыяй і не мае ніякага дамешку ад свайго брата — парсюка, а таксама, што была праведзеная належная цырымонія блаславення. Таксама сцвярджаюць, што наш цукар не такі салодкі, як расейскі, у разліку на адну крупку. Усе гэта разам дае ўяўленне пра зменлівы погляд на якасць паслугаў, якія АРА аказвае тутэйшаму шырокаму грамадству.**

Нягледзячы на сумнеўную кашэрнасць, пасылкі мелі надзвычайны поспех. Прычым у першыя месяцы ў часткі мінскай публікі ўзнікла ўпэўненасць, што ўжо сама картка-замова, якую яны перадавалі АРА для адпраўкі ў ЗША, каштуе 10 даляраў. Праз пару дзён яны з'яўляліся ў кантору па пасылку й недаверліва слухалі абвяржэнні. Гардзі паведамляў:

**Нейкі джэнтльмэн з Бабруйска, які меў пэўнае дачыненне да нашага офіса, скалаціў сабе багацце, наладзіўшы аўкцыён картак на рынку ў родным горадзе, беручы па 25 тысяч рублёў за кожную.**

Дзякуючы гуртовым закупам, харчовы набор каштаваў АРА 6 даляраў 75 цэнтаў; дастава, страхоўка, іншыя выдаткі забіралі яшчэ адзін даляр. Ад кожнай замовы заставалася ў сярэднім 2 даляры 25 цэнтаў — гэтыя грошы былі скарыстаныя для бясплатнага харчавання дзяцей*.

Папулярнасць АРА ўсё больш раздражняла ўлады. Выдача пасылак адбывалася без уліку класавых прынцыпаў размеркавання, без увагі на думку тутэйшага начальства. Але й амерыканцы шмат у чым залежалі ад мясцовых уладаў. Паводле пагаднення ў Рызе, савецкі бок нёс выдаткі, звязаныя з размеркаваннем дапамогі**.

Гардзі ўзрадаваўся, калі ў сакавіку атрымаў вестку пра пашырэнне праграмы дапамогі для Беларусі. Ён спяшаўся паведаміць у Маскву:

---

* * У студзені 1922 АРА купляла цукар па 111 даляраў за тону, муку — 76, тлушч — 280, сухое малако — 240, какаву — 100. Усяго ў 1921—1923 на падсавецкіх тэрыторыях было выдадзена ў пасылках 75 тысяч тон харчу на суму 13 мільёнаў 680 тысяч 193 даляры. Дзякуючы розніцы гуртовых і раздробных цэнаў АРА атрымала каля 3 мільёнаў 600 тысяч даляраў прыбытку, які пайшоў на харчаванне дзяцей.

** З бюджэту аплочвалася праца мясцовых упаўнаважаных і іх штату, разгрузка-пагрузка вагонаў АРА, а таксама заробак супрацоўнікам АРА (за выключэннем амерыканцаў), канторскія, падарожныя, транспартныя выдаткі, абсталяванне й ахова складоў, утрыманне й рамонт жытла замежных супрацоўнікаў, рахункі за электрычнасць, ваду.

**У выніку нарады з Прэзідэнтам Беларусі, на якой мы абмеркавалі будучую медычную праграму й харчаванне дарослых, мы заўважылі досыць яўную змену ў стаўленні да нашых патрэбаў у гэтай сувязі.**

Гардзі зноў памыляўся. Калі ў Беларусь пачне паступаць амерыканская дабрачынная дапамога агульнага прызначэння — для дзяцей, шпіталяў, адрасныя пасылкі для рэлігійных і прафесійных групаў, дачыненні з мясцовым кіраўніцтвам не толькі не палепшацца, а стануць галоўнай праблемай у працы*.

Але й больш простая рэч — выдача індывідуальных пасылак — ад пачатку вымагала настойлівасці й вынаходлівасці. І не толькі ў сувязі з экзатычнымі патрабаваннямі артадаксальных вернікаў ці бабруйскімі аферыстамі.

У Мінску нечаканай праблемай сталася тара. Каб расфасаваць гуртовыя пастаўкі ў індывідуальныя пасылкі, патрабаваліся кулькі, мяшэчкі, пакеты, папера, сушчэпкі, шпагат, цвікі, бляшанкі, драўляныя скрынкі — усё, што больш не выраблялася й не прадавалася.

Праз тры тыдні пасля прыезду, напярэдадні прыбыцця ў Мінск васьмі чарговых вагонаў з харчам, Гардзі забіў трывогу:

**Мы папярэдне абследавалі горад у пошуках тары й нічога вартага не знайшлі. Адзіная магчымасць — купіць 350 метраў дзяругі й пашыць мяшэчкі пад муку, рыс, чай і цукар. Гэтага абсалютна недастаткова, і кошт складзе 34 цэнты на адну 10-даляравую пасылку. Мы спрабуем замовіць паштовыя скрынкі на дзяржаўнай фабрыцы, але яны будуць каштаваць 25—30 цэнтаў. Хаця мы пакуль не вычарпалі мясцовых магчымасцяў, але пэўныя, што не ўдасца здабыць патрэбнай колькасці тары для накіраваных нам 2400 пасылак.**

Гардзі прасіў прысылаць тару з Масквы й зрабіў запыт пра кошты на фасавальны матэрыял у Вільні. Тымчасам у канторы АРА вывесілі

* АРА адрознівалася ад усіх замежных арганізацыяў прынцыпам дзейнасці: поўная справаздачнасць на ўсіх этапах, кантроль і праца без пасярэднікаў. Вагоны правяраліся на станцыі, і, калі пломбы былі сарваныя, грузы ўзважваліся, фіксавалася недастача. Нават пасля выдачы прадуктаў дзіцячым дамам і шпіталям АРА лічыла іх сваёй маёмасцю — да поўнага выкарыстання. Такі падыход злаваў улады, яны ніяк не маглі змірыцца з сітуацыяй, над якой не мелі поўнага кантролю.




абвесткі: адрасатаў прасілі прыходзіць са сваёй тарай, а таксама вяртаць араўскую для шматразовага выкарыстання. Гэта замарудзіла выдаванне, і ля складоў часам таўкліся дзясяткі людзей, якія ніяк не маглі атрымаць сваіх пасылак.

Тады быў уведзены наступны парадак: усе адрасаты мусілі прыходзіць прынамсі з адным вялікім мехам. Гардзі наняў трох краўцоў, якія распорвалі мяхі й з аднаго вялікага рабілі тры малыя.

Шчаслівыя адрасаты распісваліся ў ведамасці — і тут узнікала новая праблема. Адна араўская пасылка важыла болей за паўцэнтнера, нават у межах горада дацягнуць яе было цяжка*.

* Паводле перапісу, на студзень 1922 у Мінску налічвалася 102 375 жыхароў. Адзіным грамадскім транспартам была конка, якая цягнулася пяць вёрстаў і за дзень перавозіла 2800 пасажыраў. У горадзе таксама было зарэгістравана 150 легкавых вознікаў і 120 біндзюжнікаў, розныя ўстановы мелі каля 300 уласных выездаў. Але гэтая транспартная сістэма бальшыні адрасатаў дапамогі была не па кішэні.

Тады ў Мінску й з'явіліся ЧВАКі — «часовыя выканаўцы абавязкаў каня».

Гардзі паведамляў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**ЧВАКі — людзі з вазкамі, якія развозілі пасылкі са складоў АРА па ўсім Мінску, у любое надвор'е й на любую адлегласць. Напачатку ЧВАКу давяралі не больш за два пакункі. Цяпер шмат хто з іх мае коней і развозіць ад 5 да 25 пасылак за раз.**

Праз тыдзень пасля пачатку пасылкавай праграмы харчовыя кошты на рынку ў Мінску ўпалі на 10%, а праз месяц яшчэ на 20%.

У лістападзе газета «Звезда» пісала пра вынікі працы мінскай канторы АРА:

**У першую чаргу ўвага была звернутая на выдачу харчовых пасылак. Ад студзеня да 1 лістапада было выдадзена каля 43 000 такіх пасылак. Гэтаму шмат спрыяла пасылка спецыяльных картак сваякам і знаёмым у Амерыку. За гэты час пераслана каля 50 000 картак, на 75% якіх былі высланыя пасылкі. У сувязі з усталяваннем нармальнай сувязі з Амерыкай карткі атрымліваюцца там на 17-ы дзень пасля высылкі.**

Аднак бальшыня тых, каму была патрэбная дапамога, не мела сваякоў у Амерыцы. Напачатку лістапада кіраўнік Мінскай акругі звярнуўся да свайго начальства з просьбай:

**Становішча прафесараў універсітэта й інстытутаў, а таксама выкладчыкаў сапраўды вартае жалю. У выніку розных рэвалюцыяў, акупацыйных арміяў, наплыву ўцекачоў і заразных захворванняў... персанал, а таксама будынак універсітэта моцна пацярпелі. Прафесары й выкладчыкі атрымліваюць мізэрныя заробкі, якія часам не выплочваюцца.**
**У нашу кантору штодня прыходзяць выкладчыкі ў пошуках якога-кольвечы заробку, каб атрымаць некалькі рублёў дзеля існавання. 165 прафесараў і выкладчыкаў універсітэта й інстытутаў церпяць вялікую нястачу. Неабходна аказаць ім дапамогу да вясны.**
**Ці магла б АРА выдаваць 165 пасылак штомесяц гэтым выкладчыкам цягам чатырох месяцаў? Гэта дало б магчымасць інстытутам Беларусі працаваць бесперапынна да наступнага красавіка.**

Копію ліста кіраўнік акругі адаслаў Стакоўскаму. Прапанову абмеркавалі ва ўрадзе. Скласці спісы на атрыманне дапамогі было даручана кіраўніку Акадэмічнага цэнтра* Усеваладу Ігнатоўскаму, які з'яўляўся старшынём Беларускай камісіі паляпшэння быту вучоных (Белкубу). Ігнатоўскі звярнуўся з афіцыйным лістом на імя ўпаўнаважанага:

**Сто пасылак АРА для навуковых дзеячаў Беларусі Белкубу просіць выдаць у яе адрас адпаведна пайменным спісам, якія будуць пададзеныя дадаткова, дзеля размеркавання гэтых пасылак паміж навуковымі супрацоўнікамі Універсітэта, Сельска-Гаспадарчага Інстытута, Інстытута Беларускай Культуры і іншымі дзеячамі навукі, зарэгістраванымі ў Белкубу.**

Неўзабаве ў АРА былі перададзеныя спісы навукоўцаў, выкладчыкаў, дзеячаў культуры.

Сярод іх — паэты й пісьменнікі Іван Луцэвіч (Янка Купала), Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас), Самуіл Плаўнік (Змітрок Бядуля), Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), мовазнаўцы Мікалай Байкоў, Сцяпан Некрашэвіч, Язэп Лёсік, гісторыкі Уладзімір Пічэта, Усевалад Ігнатоўскі, географ Аркадзь Смоліч, з галіны тэатра — Уладзіслаў Галубок, Фларыян Ждановіч, Лідзія Ржэцкая...

На спісе — рэзалюцыя: выдаць 100 пасылак.

## Палітычная медыцына: вельмі непажаданы лекар

**Кадравая знаходка. — Анкета для доктара Левіна. — Погляд на савецкую ўладу. — Агульная антысанітарыя. — Няма дошак. — Пустыя абяцанкі. — Пагроза дзейнічае. — У спісе не значыцца**

Лекар Мінскай акругі Ралф Герц не мог паверыць, як яму пашанцавала. Для арганізацыі медычнай працы патрабавалася дапамога кваліфікаванага дасведчанага спецыяліста, які б ведаў сітуацыю ў Беларусі, разбіраўся ў мясцовай структуры аховы здароўя, да таго ж гаварыў і пісаў па-ангельску. Доктар Залман Левін не толькі валодаў усімі гэтымі

* Існаваў у 1921—1923 у сістэме Наркамасветы.

якасцямі, але вучыўся ў ЗША й меў лекарскі дыплом амерыканскага ўніверсітэта.

Больш за тое, Левін меў досвед працы з АРА. Гэта была надзвычайная ўдача. Доналд Гардзі неадкладна сеў за ліст у штаб-кватэру ў Маскву:

> **У сувязі з медычнаю праграмаю доктар Герц жадае ўзяць на працу ў якасці прафесійнага памочніка доктара Левіна. Беручы пад увагу тое, што доктар Герц будзе вымушаны падарожнічаць у Гомель і Віцебск, мы лічым, што надзейны й дасведчаны ў медыцыне чалавек павінен заступаць яго на час адсутнасці. Доктар Левін быў звязаны з АРА некалькі гадоў як прэзідэнт дзіцячага камітэта АРА падчас польскай акупацыі Мінска й такім чынам дасканала знаёмы з метадамі АРА ў справах медыцыны й дзіцячага харчавання. Ён да таго ж выдатна гаворыць па-ангельску. Ён аказаў бы вялікую дапамогу нашым супрацоўнікам у медычнай праграме й прапанаванай праграме харчавання дарослага насельніцтва. Фактычна яго можна было б выкарыстоўваць на такой самай падставе, як амерыканскага супрацоўніка.**
>
> **Мы на гэтай падставе просім дазволу плаціць доктару Левіну адпаведна прафесійнай працы ці паслугам, якія ён будзе ў стане ака-**



**заць, прыкладна 25—30 мільёнаў рублёў з месячнаю пайкаю. Будзем удзячныя за тэлеграфны адказ.**

Ралфу Герцу патрабавалася ўся дапамога, якую ён мог знайсці, і патрабавалася хутка. Ён быў прызначаны галоўным лекарам для Мінскай, а таксама Віцебскай і Гомельскай акругаў АРА з агульным насельніцтвам каля 7 мільёнаў чалавек. У Віцебскай акрузе налічвалася 50 шпіталёў, 44 амбулаторыі й 92 дзіцячыя дамы. На Гомельшчыне — 75 шпіталёў, 54 амбулаторыі й 126 дзіцячых дамоў. У Мінскай акрузе дзейнічалі 49 шпіталёў, больш за сотню дзіцячых дамоў.

Паўсюль не ставала персанала, лекарам не плацілі, шпіталі былі перапоўненыя, бракавала медыкаментаў, інструмента, бялізны. Пасля некалькіх тыдняў інспекцыйных паездак, наведвання дзясяткаў шпіталяў, дыспансераў і лекарскіх пунктаў Герц падсумаваў бачанае адным сказам у справаздачы:

**Агульныя санітарныя ўмовы ва ўсіх правераных месцах аднолькава кепскія.**

Асабліва непакоіла Герца якасць пітной вады. Артэзіянскія крыніцы складалі толькі частку рэсурсаў, і нават у вялікіх гарадах ваду бралі з адкрытых сховішчаў. Падчас знаёмства з галоўным інжынерам Мінска Ашчэўскім-Круглікам Герц расказаў яму пра амерыканскія апараты сатурацыі пітной вады рашчынай хларыну вапняку. Рэцэпт быў пад рукой, інжынер распрацаваў чарцяжы, у Політэхнічным інстытуце вырабілі арыгінальны апарат. АРА паставіла запасы хларыну, і апарат падключылі да асноўнага воднага каналу.

Напачатку красавіка Герц замовіў праз штаб-кватэру некалькі вагонаў мыла й тлушчу пячонкі траскі. Паводле ацэнкі Герца, у адной толькі Гомельскай акрузе мелі пільную патрэбу ў рыбіным тлушчы шэсць з паловай тысяч дзяцей. Санітарны стан і здароўе дзяцей у прытулках на Міншчыне й Віцебшчыне былі не лепшыя.

Тымчасам дапамога, якую Ралф Герц чакаў ад дасведчанага мясцовага калегі Залмана Левіна, усё адкладалася, як адкладаліся й іншыя просьбы АРА. У красавіку Доналд Гардзі так апісваў свае праблемы ў лісце ў Маскоўскую штаб-кватэру:

**Агульная офісная прастора — чатыры маленькія пакоі, з якіх адзін выкарыстоўваецца як склад. Не стае мэблі. Нашыя заяўкі на**

**сталы чакаюць ад студзеня, і мы рэгулярна шлём новыя. Скрыні выкарыстоўваюцца як крэслы. Немагчыма наняць больш персанала дзеля браку месца. У выніку — затрымкі з даставай медыкаментаў у шпіталі. Учора мы раздалі прыкладна 700 пасылак. Афармленне папераў і наступная неабходная праца вымагала прынамсі трох пакояў і шасці-васьмі чалавек.**

Мінская кантора АРА складалася з шасці аддзелаў: харчовых даставаў, бухгалтэрыі харчовых даставаў, аддзела замоваў, аддзела фінансаў і маёмасці, аддзела складоў і медычнага аддзела. У якасці адзінага станоўчага прыкладу ўрадавай дапамогі Гардзі здолеў назваць наяўнасць складоў — АРА мела ў сваім распараджэнні два складавыя памяшканні, паковачную й даставачную станцыі.

Хоць ва ўсіх аддзелах працавалі мясцовыя жыхары, АРА не мела права беспасярэдняга найму. Амерыканцы праводзілі сумоўе, адбіралі людзей, але мусілі ўзгадняць прыём з мясцовым упаўнаважаным. Фармальна рэч была ў тым, што аплочваць працу мясцовых супрацоўнікаў мелі савецкія ўлады. Але не толькі*.

Каб паступіць на працу ў АРА, Левін мусіў запоўніць адмысловую анкету, якую потым перадавалі ў апарат упаўнаважанага Стакоўскага.

Анкета, якую запаўнялі кладаўшчыкі й бухгалтары, лекары й рабочыя, усе мясцовыя супрацоўнікі АРА, на самым пачатку папярэджвала:

**За непраўдзівыя звесткі і ўхіленне ад такіх вінаватыя будуць прыцягвацца да судовай адказнасці.**

Звесткі, за якія пагражаў суд, былі даволі спецыфічныя:

**Саслоўнае паходжанне**
**Ранейшае матэрыяльнае становішча**
**Звесткі пра сваякоў, асобна — пра тых, хто служыць у Чырвонай арміі, і тых, хто служыў у старой.**
**Чым і дзе займаўся за пяць перыядаў:**

---

* Ужо праз тры дні пасля падпісання пагаднення з АРА кіраўнік бальшавіцкага ўрада Ленін уласнаручна напісаў цыдулку: «Прапаную Палітбюро пастанавіць: скласці камісію з заданнем падрыхтаваць, распрацаваць і правесці праз ВЧК і іншыя органы ўзмацненне нагляду й сачэння за замежнікамі». (Паводле кнігі Д. Валкагонава «Ленин. Политический портрет».

**да вайны 1914 года**
**да Лютаўскай рэвалюцыі**
**да Кастрычніцкай рэвалюцыі**
**пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі**
**падчас польскай акупацыі.**

**Палітперакананні:**
**ці быў раней у складзе якой-небудзь партыі**
**погляд на Савецкую ўладу ў кароткіх рысах і прынцыпова.**

Для прыёму на працу таксама патрабаваліся рэкамендацыі «2-х чальцоў РКП(б) альбо відных савецкіх работнікаў».

Напрыклад, селянін з-пад Наваградка Андрэй Баршчэўскі на ўсе пяць дадатковых пытанняў пра перыяд 1914—1921 гадоў напісаў «быў у Амерыцы». Адказ пра прынцыповы погляд на новую ўладу Баршчэўскага сведчыў пра немалы жыццёвы досвед:

**Падабаецца ўлада.**

У выніку атрымаў дазвол і быў прыняты на працу ў склад АРА.

Як адказаў на гэтыя пытанні лекар Залман Левін, невядома. Пасля таго як ягоная анкета была перададзеная ў апарат Стакоўскага, сакратар-перакладчык Карл Скаўронак зарэгістраваў яе й напісаў стандартнае суправаджэнне:

**Пры гэтым накіроўваецца анкета супрацоўніка АРА, запрошанага імі на службу. Падстава — распараджэнне Упаўнаважанага.**

Уклаў у канверт і паставіў новы адрас — ГПУ Беларусі*.

Парадак, паводле якога працаўладкаванне ў АРА залежала ад згоды карных органаў, быў усталяваны ў 1921 годзе. Падставай паслужыла дакладная запіска ВЧК:

**Паводле нашых звестак, амерыканцы ў арганізацыю АРА прыцягваюць варожыя да Савецкай улады элементы, збіраюць шпіёнскую інфармацыю ў Расеі й займаюцца скупкай каштоўнасцяў.**

---

* 6 лютага 1922 ВЧК была пераўтвораная ў ГПУ — Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне Наркамата ўнутраных справаў. Напачатку сакавіка пры Цэнтральным выканаўчым камітэце ССРБ было ўтворанае Дзяржпалітупраўленне, якому былі перададзеныя справы ЧК Беларусі.

Мінская кантора АРА рэгулярна атрымлівала дэпешы з апарату Стакоўскага з патрабаваннем наноў запоўніць анкеты супрацоўнікаў, прайсці перарэгістрацыю, здаваць фотакарткі на новыя пасведчанні. Упаўнаважаны тлумачыў:

**Хто не атрымае новых пасведчанняў, будзе лічыцца асобай, якая хаваецца.**

Палітбюро ЦК РКП(б) таксама патрабавала «ачысціць склад супрацоўнікаў АРА ад непажаданага элементу». Старшыня СНК Ленін прапанаваў стварыць камісію, каб выпрацаваць «меры спецыяльнай засцярогі на выпадак празмернага пашырэння апарату АРА й прыцягнення ім ненадзейных элементаў».

Якім элементам быў прызнаны Левін, АРА не паведамілі, але згоды на працаўладкаванне не далі.

У Мінск, Віцебск, Гомель ішлі медычныя матэрыялы з ЗША, эфектыўна размеркаваць якія маглі толькі дасведчаныя спецыялісты. Камплекты ўключалі 377 розных лекавых прэпаратаў, 15 гатункаў дэзынфектантаў, 11 розных вакцынаў, 133 тыпы лабараторных матэрыялаў, 627 найменняў хірургічных інструментаў і шпітальнага рыштунку. Многія з іх былі спецыфічна амерыканскія й патрабавалі кампетэнтнага інструктажу перад выкарыстаннем; шмат што, як тоны хлараформу й борнай кіслаты, вакцыны ад вятранкі й тыфусу, уяўлялі небяспеку ў недасведчаных руках.

Лекар Ралф Герц, завалены велізарным аб'ёмам працы, у роспачы слаў у медычны аддзел АРА просьбы аб дапамозе:

**Улады не ўхваляюць доктара Левіна на палітычнай глебе. Але ён быў бы вельмі добрай асобай для маёй працы, і таму я так хачу ўзяць яго.**

Кіраўнік акругі Доналд Гардзі звярнуўся да ўпаўнаважанага Стакоўскага па тлумачэнні, але не атрымаў іх. Тады ён папрасіў кіраўніка АРА ў Расеі палкоўніка Гаскела ўмяшацца на ўзроўні цэнтральнай савецкай улады. У тэлеграме ў Маскоўскую штаб-кватэру Гардзі пісаў:

**Доктар Левін не толькі безумоўна найлепшы лекар у Мінску, але, калі ўлады не змогуць дастаткова абгрунтаваць сваё рашэнне, мы павінны адстаяць нашую пазіцыю.**




Гаскел звярнуўся з лістом да галоўнага савецкага ўпаўнаважанага Эйдука:

> **Прашу вас загадаць вашаму мінскаму прадстаўніку альбо задаволіць хадайніцтва пра прызначэнне доктара Левіна, альбо паведаміць мне прычыны, паводле якіх гэтае прызначэнне непажаданае.**

І Гаскел, і Герц маглі здагадвацца, што хуткага адказу не будзе і, магчыма, адказу не будзе ўвогуле. Гэта была зусім не першая скарга ў справе медычнай дапамогі Беларусі. Неўзабаве пасля прыезду ў Мінск лекар Ралф Герц мусіў у роспачы дыктаваць ліст у Маскву:

> **Калі я прыехаў сюды, мяне запэўнілі, што ўрад будзе рабіць усё магчымае, каб дапамагчы арганізаваць нашую медычную праграму. Аднак улады не толькі не аказалі неабходнай падтрымкі, але часам здаецца, што яны спрабуюць нам перашкодзіць. Галоўнаю цяжкасцю быў рамонт склада на станцыі. Мы мусілі звяртацца да двух асобных дэпартаментаў — Белэвака й Наркамхарча, каб ат-**

**рымаць дошкі для паліцаў. Мы аплацілі аванс. Улады, нягледзячы на выказаную імі зацікаўленасць у нашай медычнай працы ў Мінску, зноў нічога не зрабілі, адно абяцалі. Мы прапануем, каб вы сказалі, што, калі ад вашага медычнага прадстаўніка ў Мінску не будзе больш станоўчых паведамленняў, медычная праграма ў Беларусі будзе скарочаная.**

Праз тыдзень, 13 красавіка, у прымальню ўпаўнаважанага Эйдука быў дастаўлены ліст ад намесніка кіраўніка АРА Сірыла Квіна, які пераказваў змест скаргі Герца й ветліва, але недвухсэнсоўна прасіў:

**Нягледзячы на дадзенае Урадам Беларусі абяцанне зрабіць усё неабходнае для спрыяння АРА ў выкананні яе праграмы медычнае працы ў Мінску й ваколіцах, ён такой дапамогі нам не аказаў. Не адмоўце паведаміць Ураду Беларусі, што, калі мы не атрымаем больш станоўчых звестак ад нашага мясцовага прадстаўніка наконт супрацы й спрыяння ўладаў нашай працы, нам давядзецца скараціць нашую медычную праграму ў Беларусі.**

Невядома, ці пагроза дапамагла, ці маскоўскае начальства мела іншыя планы, але супраца выправілася. Напрыканцы года газета «Звезда» паведамляла:

**Апошнім часам стала магчымым палепшыць забеспячэнне шпіталяў медыкаментамі. Дзякуючы дапамозе АРА, шпіталі Мінскага павета забяспечаныя медыкаментамі на тры месяцы.**

З 49 шпіталяў у Мінскай акрузе пяць цалкам працавалі на амерыканскіх пастаўках, а 20 клінік і шпіталяў задавальнялі 90% сваіх патрэбаў са склада АРА*. 113 дзіцячых дамоў і садкоў атрымлівалі амерыканскія медычныя матэрыялы й медыкаменты. Герц клапаціўся й пра медыкаў — хадайнічаў аб выдачы ім пасылак, адзення; з надыходам халадоў яму ўдалося здабыць для іх 500 коўдраў.

Невядома, ці атрымаў амерыканскую коўдру ў сваім шпіталі лекар з амерыканскім дыпломам, якога Ралф Герц настойліва спрабаваў узяць на працу.

---

* Усяго ў 1922—1923 тры беларускія акругі атрымалі праз Мінск 51 вагон медыкаментаў, рыштунку й абсталявання агульнай вагой 484 тоны.

Паводле агульнага спісу мясцовых супрацоўнікаў АРА ад пачатку дзейнасці ў Беларусі да завяршэння, у Мінскай акрузе працаваў 91 чалавек — хто ўсе паўтара года, хто некалькі месяцаў — рабочыя, машыністкі, фармацэўты, прыбіральшчыцы, шафёры, бухгалтары, інспектары.

Прозвішча *Левін* у спісе не значыцца*.

## Кватэрнае пытанне: ад «Парыжа» да «Савецкай» без пераменаў

**Гультаі й камсамольцы. — Жытло без пазалоты. — Бейсбол у Аляксандраўскім скверы. — Некамунальная спрэчка. — Візіт Гаскела. — Раскажыце Дзяржынскаму. — Гарантыі Блехера. — Габеленаў не будзе**

Вокны сталічнага гатэля «Парыж», дзе пасяліліся амерыканцы, выходзілі на Гарадскі сад, былы Аляксандраўскі сквер, у цэнтры якога месціўся першы ў Мінску фантан, а побач стаяў будынак тэатра. На зіму скульптура «Амур і лебедзь» была забітая дошкамі, але тэатр працаваў. Раён быў ажыўлены і ўдзень, і ўвечары.

Камсамолец Кандрат Крапіва так апіша гэты сквер у вершы, датаваным жніўнем 1922:

***Хто гуляў на Мінскім скверы,***
***Ці мо блізка хаця йшоў,***
***Той бязь ліку і без меры***
***Мог там бачыць гультаёў, —***

***…Вось пад руку на буксіры***
***НЭПман НЭПманку вядзе,***
***Пра гешэфты НЭПман шчыра,***
***Пра чырвонцы ёй гудзе.***

***…Вось дзяцей сабралась куча,***
***Крык паднялі, як гракі;***
***Вабяць хлопцаў вось, ідучы,***
***Ўжо «начныя матылькі».***

---

* Імя Залман Левін сустракаецца ў спісе супрацоўнікаў Джойнта ў чэрвені 1923, пасада — сакратар.

***Пасядзеў я з паўгадзіны,***
***Але болей-то не мог:***
***Грак нацэліўся з асіны***
***Мне на шапку, каб ён здох!***

***З той пары (кажу я верна,***
***Ты, чытач, хоць вер не вер),***
***Аж вантробы з мяне верне,***
***Як уздумаю пра «сквер».***

Калі верыць байкапісцу, ён вытрываў у скверы толькі паўгадзіны й больш да фантана не хадзіў. Відаць, толькі дзякуючы гэтаму на пяро сатырыка не патрапіў амерыканскі бейсбол.

Супрацоўнікі АРА мелі магчымасць замаўляць для сябе праз Маскоўскую штаб-кватэру рэчы й прадукты. У Мінску ўжо працаваў сакратар акругі Джордж Шрэмэл, на дапамогу Ралфу Герцу ў ліпені прыбыў яшчэ адзін лекар, Фрэнк Вілі. Кіраўнік акругі Доналд Гардзі выпісаў сабе спартовы рыштунак: бейсбольную біту, два мячы, тэнісную сетку й ракеткі, пару баксёрскіх пальчатак. Мінакі ў скверы маглі назіраць



за дзіўнымі амерыканцамі, якія спрабавалі пацэліць драўлянай дубінай па мячыку.

Гатэль «Парыж», дзе спыніліся амерыканцы, меў салідную рэпутацыю да вайны, але пасля некалькіх акупацыяў пазалота аблупілася.

Ад «Парыжа» да другога Дома саветаў, дзе на рагу Падгорнай і Губернатарскай* месцілася кантора АРА (Губернатарская, 23**), было пяць хвілін пешкі. Аднак амерыканцы былі незадаволеныя — рэч была не ў адлегласці.

У траўні 1922 у Мінск з Масквы ненадоўга прыехаў дырэктар АРА палкоўнік Уільям Гаскел. Ён агледзеў склады, офісы, пазнаёміўся з апарацыямі Мінскай акругі й сустрэўся з упаўнаважаным Мар'янам Стакоўскім. Перад гэтым Гаскел на свае вочы пабачыў умовы жыцця персанала, пра якія раней у Маскву пісаў Гардзі:

> **У нас пакоі ў гатэлі без ваннаў, без месца для харчавання, без адпаведных туалетаў. У мінскіх рэстаранах часта няма дроваў, і мы мусім самі гатаваць у гатэльных пакоях. Мы зрабілі заяўку на адзін будынак, які пустуе ўжо тры месяцы, але не маем адказу.**

Гардзі нават завёз Гаскела й паказаў яму будынак:

> **Гэта былы маленькі шпіталь, чысты, вольны, усяго адзін паверх. Чатыры з адзінаццаці пакояў замалыя нават для спальняў; плюс там бы месціўся кухар, прыбіральшчыца, камендант і склад.**

Мінскія ўлады быццам пагаджаліся на пераезд араўцаў у шпіталь, але давалі ім толькі частку памяшканняў: рэшта прызначалася для іншых жыхароў. Араўцам намякнулі, што пытанне можа вырашыць толькі ўсемагутны Фелікс Дзяржынскі.

Па вяртанні ў Маскву Гаскел накіраваў ліст прадстаўніку савецкага ўрада Эйдуку:

> **У Мінску ёсць дом, што стаіць вольны ўжо тры месяцы й быў абяцаны для АРА за выняткам аднае часткі, якую ўлады хочуць пакінуць для сябе. Вельмі нязручна мець дом, так падзелены, і, здаецца, няма сур'ёзных падставаў не перадаць нам памяшканне**

---

* Цяпер рог вул. К.Маркса й Леніна.

** З 1919 вуліца афіцыйна мела іншую назву — Карла Маркса, з 1922 — Ленінская. Але ў дакументах АРА яна праходзіць як Губернатарская.

**цалкам. Падставы для гэтага настолькі дзіўныя, што, я ўпэўнены, яны не атрымаюць вашай згоды. Мне сказалі, што, калі Масква дасць распараджэнне перадаць дом цалкам АРА, яно будзе выканане. Здаецца, мясцовыя паліцэйскія ўлады маюць пярэчанні супраць перадачы дома цалкам, і я звяртаюся да вас з просьбай папрасіць сп. Дзяржынскага ці іншую маскоўскую ўстанову даць мінскай міліцыі распараджэнне перадаць дом.**

«Дзіўныя падставы» й зварот да Дзяржынскага тлумачыліся адной архітэктурнай асаблівасцю ўпадабанага дома — агульнай сценкай з турмою мінскай ЧК.

Эйдук, аднак, звярнуўся з запытам не на Лубянку да Дзяржынскага, а ў Мінск да Стакоўскага. Адказ з Беларусі быў падрыхтаваны імгненна, перасланы ў Маскву Эйдуку, і той, у сваю чаргу, накіраваў яго кіраўніцтву АРА. Доналд Гардзі потым адзначаў:

**З майго досведу працы са славянамі, у іх належным чынам аформленая папера ці пратакол ёсць вырашэннем усіх праблемаў; пячатка, верагодна, важнейшая за праўду.**

У адказ на амерыканскія просьбы Стакоўскі прасіў Эйдука паінфармаваць АРА ў Маскве пра тое, што Мінск быў тройчы пад акупацыяй і амаль зруйнаваны. Паводле Стакоўскага, АРА ў Мінску мае дадатковыя офісныя памяшканні, а добрых канцылярскіх сталоў няма нават ва ўрадавых установах. Што да звычайных сталоў, дык Гардзі можа атрымаць колькі хоча. Дываны, дарожкі, габелены й мяккую мэблю Стакоўскі раіў набыць на рынку: ва ўрада нічога гэтага няма.

Гардзі, якому пераслалі адказ, не паверыў сваім вачам:

**Мы маем справу з фактамі, і гэта не тлумачэнне, гэта алібі.**

Мінская кантора не атрымала дадатковых памяшканняў, таму мусіла зачыніць адзін склад і аддаць плошчу пад канцылярыю. АРА ў Беларусі не прасіла ані дываноў, ані мяккай мэблі, але дамагалася ад мясцовага начальства ўсіх узроўняў, ад Чарвякова й ніжэй, сталоў і крэслаў. Гардзі падлічыў, што цягам чатырох месяцаў ён напісаў і адправіў 23 заяўкі на мэблю, — атрымана было тры сталы.

Кіраўнік Мінскай акругі даводзіў:

**Спадзяюся, я не згушчаю фарбы. Мы працуем не складаючы рук**

**і не зважаем на асабістыя нязручнасці дзеля таго, каб выканаць сваю працу. Маем выдатную дапамогу ад мясцовага персанала, які захоўвае выключную лаяльнасць. Аднак мы сапраўды лічым, што ўрад не выконвае сваёй часткі абавязкаў.**

У сваім адказе ў Маскву Стакоўскі таксама згадваў жытло для амерыканцаў:

**Патрабаванне перадаць тром супрацоўнікам АРА цэлы дом немагчыма выканаць з-за нястачы жыллёвых памяшканняў. Мы прапануем шэсць пакояў для трох прадстаўнікоў АРА.**

Гардзі недаацэньваў Стакоўскага, калі пісаў, быццам правільна афармлены пратакол і пячатка для славянаў замяняюць справу. Стакоўскі не абмежаваўся адказам на паперы. Цягам тыдня ў спрэчным доме з'явіліся новыя жыхары: камендант з жонкай і прыслуга, якія занялі два пакоі. З Масквы прыбыў новы супрацоўнік з прозвішчам Блехер, які заняў новаўведзеную пасаду памочніка ўпаўнаважанага ў сувязях з ЧК. Такім чынам, пяць найлепшых пакояў былі занятыя.

Амерыканцам была прапанаваная рэшта, якая не прымыкала да турмы. Збянтэжаны Гардзі пісаў у Маскву, што водаправодны кран, туалет і адзіная кухонная пліта месцяцца толькі ў адным канцы дома, і ўсе жыхары мусяць хадзіць праз агульныя пакоі.

Дырэктар АРА Гаскел ізноў пайшоў на сустрэчу з Аляксандрам Эйдукам:

**Я намаляваў яму план і патлумачыў усе дэталі, і ён сказаў, што неадкладна зоймецца гэтай справай. Вядома, гэта толькі абяцанне й я не чакаю вельмі хуткіх дзеянняў. Мы ўздымаем гэтае пытанне на кожнай сустрэчы, і ён паабяцаў абмеркаваць справу з ЧК і паглядзець, што можна зрабіць.**

Супрацоўнікі АРА хацелі жыць асобна, без суседзяў. Калі стала ясна, што ўлады не дазволяць, каб амерыканцы мелі агульную сценку з турмой, Гардзі прапанаваў пакінуць пустымі й апячатаць тры памяшканні, якія беспасярэдне прымыкалі да вязніцы. Адказу ад Стакоўскага не было.

Тымчасам у Маскве памянялася кіраўніцтва. 19 ліпеня 1922 з Масквы ў Мінск прыйшла тэлеграма за подпісам новага ўпаўнаважанага Карла Ландэра:




**Прадстаўнікі АРА ў Мінску просяць перадаць ім мясцовы дом зняволення, а зняволеных, якія чакаюць суда, перавесці ў іншае месца. Я лічу, што гэтую просьбу можна задаволіць. Аддайце неабходныя загады й паведаміце мне.**

Ландэр таксама тлумачыць, як кантраляваць размеркаванне медыкаментаў, не дапускаць самавольных паездак амерыканцаў па Беларусі. Чаму змянілася пазіцыя Масквы, можна здагадацца з другой часткі тэлеграмы, якая сканчаецца празрыстым указаннем:

**У будучыні вырашайце такія праблемы на месцы, не дапускаючы скаргаў у цэнтр, бо гэта ўскладняе справы.**

Начальства не хацела канфліктаў. Скаргі Гардзі, хадайніцтвы кіраўніка АРА Гаскела, намаганні дайсці да найвышэйшых чыноў быццам далі плён. Але ў Мінску добра ведалі, якія загады Масквы трэба выконваць без абмеркавання, а з якімі можна не спяшацца.

Жыццё маленькай амерыканскай калоніі ў Мінску працягвалася. У канцы чэрвеня доктар Герц на тыдзень выехаў у Варшаву й Прагу. Доктар Вілі, які прыбыў у акругу, пачаў уваходзіць у курс справаў. Усе медычныя даставы для Віцебска й Гомелю йшлі праз Мінск, і дапамога другога лекара-амерыканца была больш чым дарэчы. Штаб-кватэра тэлеграфам запатрабавала ацаніць аб'ём вакцынацыі. Без Герца Гардзі здолеў паслаць толькі прыблізны адказ: 130 тысяч вакцынаў ад халеры й 50 тысяч ад вятранкі.

У вольны час араўцы гулялі ў бейсбол, выязджалі за горад, хадзілі на барахолкі, дзе, нягледзячы на ўсе войны й рэвалюцыі, можна было знайсці цікавы антыкварыят і творы мастацтва. Амерыканцы давалі добрыя грошы й лічыліся зайздроснымі кліентамі. Аднак на мытні ў Негарэлым араўцаў таксама добра ведалі й абшуквалі старанна: здаецца, не засталося ніводнага чалавека з Мінскай акругі, у каго калі-небудзь не канфіскавалі б рэчы ці грошы. Сярод канфіскату — парцалянавыя вазы й срэбны каўказскі кубак, бінокль «Цэйс» і акварэлі, чарнільны набор. Забіралі даляры, калі яны не былі афармленыя, фотаапараты; рабілі асабісты вобшук. Пратэсты звычайна мала што давалі.

Працягвалася зацяжная вайна з памочнікам Стакоўскага Блехерам, які афіцыйна адказваў за сувязь з ЧК. Перайменаваная ў ГПУ, гэтая арганізацыя мела свой інтэрас да замежнай дапамогі.

У ліпені двое чальцоў кіраўніцтва АРА, Браўн і Рыкард, ехалі праз Мінск у Варшаву. Найхутчэйшы спосаб — дабрацца на аўтамабілі да Стоўбцаў на польскім баку мяжы й там сесці на варшаўскі цягнік. Кіраўнік акругі Гардзі й лекар Герц вырашылі скарыстаць нагоду для абмеркавання працы ў Беларусі й паехаць да Стоўбцаў разам. Ім паабяцалі бесперашкодны праезд праз мяжу — але супрацоўнік ЧК, адказны за дазвольную пячатку, нечакана знік. Гардзі запэўнілі, што неабходны дазвол будзе выдадзены на мяжы. Блехер, які таксама меўся ехаць, мусіў застацца: з-за багажу ў машыне не было месца.

У Негарэлым амерыканцаў чакала тэлеграма ГПУ: калі на мяжы з'явяцца містэры Гардзі й Герц без візаў, іх трэба арыштаваць і пад аховай вярнуць у Мінск. Тэлефанаванні ў сталіцу нічога не далі. Гардзі й Герц правялі ў Негарэлым шэсць гадзінаў у чаканні шафёра са Стоўбцаў. Калі амерыканцы вярнуліся ў Мінск, адзін з супрацоўнікаў пераказаў ім словы Блехера, сказаныя наўздагон падарожнікам:

**Я гарантую, што зраблю так, што Герца й Гардзі не прапусцяць праз мяжу.**

Гардзі пайшоў на сустрэчу са Стакоўскім, выклаў інцыдэнт і запатрабаваў звальнення Блехера. Той пагадзіўся, што выглядае ўся гісторыя нядобра, і паабяцаў разабрацца. Праз два тыдні Гардзі атрымаў афіцыйны адказ:

**Я правёў расследаванне выпадку ў Негарэлым і знайшоў, што Блехер не мае да гэтага ніякага дачынення. Забарона на перасячэнне мяжы была выдадзеная ГПУ, якое ахоўвае дзяржаўныя межы й не дазваляе перасякаць іх без спецыяльнага дазволу. Я ведаю, што ўсе ўрады маюць абавязковыя правілы выезду за мяжу, і я дзіўлюся, што вы не ведаеце, што ў Расеі такія правілы таксама існуюць.**

Якраз напярэдадні адбыўся яшчэ адзін інцыдэнт. У Ігумене* быў затрыманы Фрэнк Вілі. Прычынай арышту стала адсутнасць камандзіровачнага пасведчання ад упаўнаважанага. Улады не хацелі бескантрольных паездак амерыканцаў з інспекцыямі, і Стакоўскі настойваў, каб штораз супрацоўнікі АРА звярталіся па дазвол.

Не мінула й месяца пасля інцыдэнту ў Негарэлым, як усё амаль паўтарылася. Супрацоўнікі Маскоўскай штаб-кватэры Флэш і Морсэ спрабавалі дабрацца на мінскім аўтамабілі АРА з мясцовым шафёрам да Стоўбцаў, каб там сесці на варшаўскі цягнік. Была пятніца. На гэты раз, нягледзячы на папярэднія дамоўленасці, праз мяжу не пусцілі шафёра. Амерыканцы заселі ў Негарэлым на паўтара дня.

Гардзі спрабаваў атрымаць дапамогу ў Чарвякова, але таго не маглі знайсці. Тады кіраўнік Мінскай акругі звярнуўся да начальніка ГПУ Ольскага, які, аднак, не пажадаў мець справу беспасярэдне з амерыканцамі й даў адказ праз сакратара Стакоўскага. Гэта была трэцяя адмова цягам аднаго дня.

Доналд Гардзі паслаў у Негарэлае новага шафёра, якога абяцалі прапусціць. На мяжы яго абшукалі, і Блехер сканфіскаваў два лісты Гардзі: адзін Флэшу з прабачэннямі, другі — Морсэ з просьбай купіць у Варшаве фотапаперу. У канверт былі ўкладзеныя 5 даляраў. Гардзі паслаў скаргі ў Маскву й Стакоўскаму. Праз тыдзень упаўнаважаны пісьмова

---

* Пасля 18.9.1923 — Чэрвень.

паабяцаў, што Блехер больш не будзе працаваць з амерыканцамі беспасярэдне.

Блехер, аднак, захаваў пасаду памочніка Стакоўскага, адказнага за сувязі з ГПУ да заканчэння працы АРА ў Беларусі. ГПУ ўмела працаваць з амерыканцамі й не напрасткі*.

Гатэль «Парыж», у якім пасяліліся амерыканцы ўзімку адразу пасля прыезду, улетку перайменавалі ў «Савецкі», а яны ўсё яшчэ жылі на апошнім паверсе, без ліфта, у пакоях без туалетаў і рукамыйнікаў. Але на іх паверсе з'явіліся новыя твары. Сакратар акругі Джордж Шрэмэл стаў праводзіць усё больш часу з упадабанай дзеўчынай, якая таксама працавала ў канторы АРА, і ўрэшце прапанаваў ёй руку й сэрца. Шлюб зарэгістравалі ў мінскай канторы ЗАГСу. Шрэмэлы сталі жыць разам.

Напрыканцы жніўня Джордж Шрэмэл сур'ёзна захварэў і ў суправаджэнні лекара быў вымушаны выехаць на лячэнне ў Берлін. Жонка засталася жыць у гатэлі ў чаканні ягонага вяртання. У Мінск Шрэмэл не вярнуўся. У кастрычніку АРА дапамагла ягонай жонцы выехаць на новае месца працы мужа ў Парыж.

У гатэлі часам знікала вада, затое адміністрацыя гарантавала бяспеку: на ўваходзе пастаянна дзяжурылі чырвонаармейцы й на адным паверсе з замежнікамі пасяліўся агент ГПУ.

---

* 25 красавіка 1922 выйшаў загад ГПУ «Аб арганізацыі Бюро садзеяння органам ГПУ на месцах», які ўпершыню афіцыйна ўводзіў інстытут стукацтва. Тлумачылася, што ў час ВЧК патрэбы асведамляльніцтва замянялі аператыўныя мерапрыемствы, якія папярэджвалі намеры ворага й ліквідавалі іх на самым пачатку. Новая ж палітычная сітуацыя звузіла свабоду дзеяннаў ГПУ, адсюль узнікла неабходнасць «усямернага садзеяння органам ГПУ членамі нашай партыі, якія павінны дапамагчы нам у агентурна-асведамляльнай працы». Да загаду дадавалася падрабязная інструкцыя, якая рэгламентавала арганізацыю, склад, задачы й абавязкі членаў «БС».

Бюро стукачоў прадпісвалася ўтвараць «у кожнай дзяржаўнай, грамадскай, кааператыўнай і прыватнай установе ці прадпрыемстве, а таксама ВНУ», у складзе трох камуністаў. Калі камуністаў не было, ГПУ прызначала іншых давераных асобаў. Задачы членаў бюро: збор звестак пра антысавецкія з'явы, выяўленне і ўлік «контррэвалюцыйнага элементу як у дадзенай установе, гэтак і па-за яе межамі», спрыянне пры ўладкаванні на працу сакрэтных супрацоўнікаў ГПУ, сачэнне за кадравай палітыкай. Кожныя два тыдні асведамляльнікі мусілі падаваць у ГПУ агульную справаздачу пра палітычны настрой супрацоўнікаў, праводзіліся рэгулярныя сустрэчы; праца вялася ў рэжыме «надзвычайнай канспірацыі». Блехер мог і не мець непасрэднага кантакту з АРА — даносы былі пастаўлены на канвеер.

# Гардзі адʼязджае: развітанне пад музыку ГПУ

**Нарэшце новы дом. — Нечаканая адстаўка. — Прыезд Чарлза Уілабі. —Ператрус падчас банкету. — Дзіўныя рабаўнікі. — Прыбіральня пад наглядам. — Занадта хуткі арышт**

А 5-й вечара ў пятніцу 20 кастрычніка 1922 у памяшканні мінскай канторы АРА пачынаўся банкет. Былі запрошаныя наркам асветы Ігнатоўскі, наркам аховы здароўя Яфе, наркам сацзабеспячэння Марʼясін, старшыня гарвыканкама Гетнер, прадстаўнікі іншых установаў, якія атрымлівалі дапамогу. Для банкету было дзве нагоды. Першая святочная — улады нарэшце знайшлі новы будынак для амерыканскага персанала ў цэнтры, недалёка ад вакзала ў Захарʼеўскім завулку ў доме №3*. Праз дзевяць месяцаў пасля прыезду, калі тэрмін працы ў Беларусі пераваліў за палову, араўцы рыхтаваліся пакінуць гатэль.

Аднак Доналд Гардзі пераначаваў у доме, якога так настойліва дамагаўся, толькі адну ноч.

Напачатку кастрычніка кіраўнік акругі атрымаў вымову за нерэгулярную справаздачнасць і ігнараванне запытаў штаб-кватэры. Гардзі тлумачыў гэта цяжкасцямі апошніх двух месяцаў:

> **У мяне не было сакратара ад 15 жніўня, калі захварэў Джордж Шрэмэл, які ад 6 верасня шпіталізаваны ў Берліне. Назад ён не вернецца, замены нам не прыслалі, а знайсці добрую машыністку з ангельскай мовай пакуль не ўдалося. Я толькі падняўся з ложка пасля двух тыдняў хваробы й чакаю на адпачынак з нагоды здароўя**. Увесь гэты час я стараўся з дапамогай доктара Герца кіраваць аперацыямі, лежачы хворы ў ложку, без амерыканскага намесніка й амерыканскага сакратара. Доктар Герц вельмі заняты адно медычнай працай, а доктар Вілі часцей за ўсё ў дарозе альбо ў Гомель альбо ў Віцебск.**

---

* Цяпер гэта пешаходны пераход пад аркай каля кнігарні «Падпісныя выданні» ад пр. Ф. Скарыны да вул. К. Маркса.

** Кансультаваць Гардзі ў справе магчымай аперацыі быў запрошаны найлепшы мінскі хірург Яўген Клімаў, які правёў паспяховы курс лячэння. Хірургічнае ўмяшанне аказалася непатрэбным.

Да ліста Гардзі прыклаў нарэшце падрыхтаваныя патрэбныя дакументы — графік руху ўцекачоў, табліцу выдачы пасылак, структуру мінскай АРА, транспартны графік грузаў, табліцу размеркавання медычных матэрыялаў, карту аб’ектаў, якім аказваецца дапамога. Два дакументы не былі гатовыя — Стакоўскі ўжо тры месяцы цягнуў з эканамічнымі звесткамі, і Гардзі не меў часу напісаць агляд гісторыі АРА ў Мінску ад студзеня да восені. Аднак узамен ён прыклаў фотаальбом, дзе, як ён пісаў, на сорак адным здымку адлюстраваная ўся гісторыя аперацыяў у акрузе.

Асобна Гардзі адрасаваў ліст кіраўніку АРА палкоўніку Гаскелу з просьбай даць адпачынак на паўтара месяца для папраўкі здароўя.

Адказ Гардзі атрымаў якраз напярэдадні перасялення ў новы дом для амерыканскага персанала. З Масквы з лістом кіраўніцтва АРА прыбыў Чарлз Уілабі: Доналда Гардзі адклікалі з працы ў Мінску, ягоную пасаду займаў Уілабі.

У кастрычніку Мінская акруга з насельніцтвам менш за 2 мільёны выйшла на чацвёртае месца ў выдачы харчовых пасылак сярод усіх 17 акругаў АРА. Гэта сталася магчымым дзякуючы эфектыўнасці працы — ад збору паштовак да складавання й даставы пасылак адрасатам, якую



арганізаваў, нягледзячы на ўсе перашкоды, Гардзі. Ён звяртаўся толькі па дазвол выехаць у Берлін на адпачынак і лячэнне й прасіў часовае замены. Уілабі, аднак, прыбыў з паўнамоцтвамі пераймаць справы на стала.

Гардзі папрасіў дазволу прыехаць у Маскву па тлумачэнні. Яму адмовілі й загадалі вяртацца ў Лондан, у Еўрапейскую штаб-кватэру АРА.

Уваходзіны давялося сумяшчаць з праводзінамі.

...На развітальным банкеце на адрас першага кіраўніка акругі было выказана шмат добрых словаў. Пасля афіцыйнае часткі араўцы й некаторыя госці разам са Стакоўскім і ягонай жонкай пайшлі на Захар'еўскі завулак, у новы, яшчэ незаселены дом для амерыканскага персанала, дзе праводзіны працягваліся.

Тое, што адбывалася ў развітальны пятнічны вечар у былым «Парыжы», а тады гатэлі «Савецкі», новы кіраўнік Мінскай акругі Чарлз Уілабі падрабязна апісаў у панядзелак:

> **У пакоях сп. Гардзі й лекара Герца быў зроблены ператрус. Вісячы замок на дзвярах пакоя Гардзі быў сарваны, унутраны замок зламаны. Замок на дзвярах Герца таксама быў зламаны. Гэтыя два пакоі месцяцца па суседству. Гэтаксама суседзіць з імі пакой спадарыні Шрэмэл, расейскай жонкі амерыканца — былога сакратара гэтай акругі. Яна прысутнічала на прыёме, яе пакой не быў узламаны й ператрэсены.**

Гардзі спакаваў увесь багаж напярэдадні ад'езду. Багаж Герца быў падрыхтаваны для суботняга пераезду ў новы дом для персанала. Пакуль ішоў прыём у новым доме, усе валізкі заставаліся ў гатэлі без нагляду. Увогуле ўлады няблага ведалі маёмасць амерыканцаў і без ператрусу. Напачатку дзейнасці ў Расеі АРА атрымала наступную дырэктыву ад уладаў:

> **Паінфармуйце, калі ласка, усіх супрацоўнікаў АРА, хто мае фотакамеры, біноклі, друкавальныя машынкі й да т.п.: па прыездзе ў Расею яны павінны неадкладна паведаміць у наш адміністрацыйны аддзел пра вышэйзгаданыя рэчы, прывезеныя з-за мяжы. Заява на дазвол вывозіць гэтыя рэчы павінна падавацца не пазней чым за тры дні да ад'езду.**

Заможныя іншаземцы ў краіне, якая толькі перажыла некалькі гадоў вайны і ўзброеных забурэнняў, не маглі пачувацца цалкам бяспечна. Доналд Гардзі, некаторыя іншыя араўцы мелі сваю зброю, афіцыйна зарэгістраваную. Аднак у Мінску таямнічыя рабаўнікі паводзілі сябе дзіўнавата. Уілабі паведамляў:

**У пакоі Гардзі ўзломнікі абшукалі гарнітуры й выцягнулі запасныя ключы, але пакінулі ў кішэні 200 даляраў. Не хапіла ключа да аднаго чамадана; ён быў узламаны. Іншыя чамаданы й скрынкі былі адамкнёныя альбо адчыненыя з дапамогай ключоў. У адным з чамаданаў дыяменты на суму каля 500 даляраў былі адкінутыя ўбок, але ўзяты нататнік. З дзённіка Гардзі пра ягоную працу ў Мінску вырваная частка аркушаў, затым дзённік вернуты на месца. Зніклі: некалькі лістоў, камандзіровачныя пасведчанні, канверт з польскім адрасам, састарэлы польскі пашпарт, асабістая цыдулка ад спадара Квіна, ліст у справе ягонага ад’езду й г.д. Таксама прапалі пара запінак, заколак для кашуляў і рэвальвер.**

Уілабі адзначаў красамоўную дэталь: срэбны посуд, футра, сувеніры з Польшчы й Расеі ды іншая каштоўная біжутэрыя засталіся на месцы. Быў не толькі перАтрэсены ўвесь багаж, але й знятая насаўка з матраца:

**У пакоі доктара Герца ўзломнікі знайшлі ключ ад чамадана, адамкнулі й забралі ўсе яго працоўныя паперы за выняткам медычнай справаздачы. Зніклі: фотаапарат «Кодак» з праяўленымі й непраяўленымі стужкамі, 415 даляраў ды іншая замежная валюта.**

Гатэль «Савецкі», як вынікала з ягонае назвы, быў не прыватнай, а дзяржаўнай уласнасцю. Дырэктар і ўвесь персанал былі савецкімі службоўцамі й прызначаліся на працу ўладамі. Уілабі, які таксама спыніўся ў гэтым гатэлі ў чаканні пераезду ў новы дом, апісаў свае назіранні:

**Да прыбіральні ані ўдзень, ані ўначы не прайсці без таго, каб мяне нехта не бачыў. Чырвонаармейцы сустракаюцца на кожным паверсе ў любую пару дня й ночы. Увечары ў пятніцу ўзломнікі не толькі ўвайшлі ў гатэль, падняліся па лесвіцы на апошні паверх, але і ўзламалі дзверы, узламалі адзін чамадан, перавярнулі дагары нагамі два пакоі й выйшлі незаўважаныя.**

Пасля агледзінаў ператрэсеных пакояў і багажу Чарлз Уілабі накіраваўся ў дом, дзе жыў упаўнаважаны Стакоўскі:

**Я сказаў яму, што, па-мойму, гэтага не мог зрабіць ніхто, апроч агентаў урада; што супрацоўнік ГПУ жыве праз два пакоі ад Гардзі, і, калі Гардзі й Герц вярнуліся й пабачыліператрус, яны паклікалі яго. Ён адказаў, што не чуў ніякага незвычайнага шуму. Я сказаў, што амерыканскія грошы, амерыканскі пашпарт, дыяменты Гардзі былі адсунутыя ўбок, і зніклі толькі прыватныя запісы; што ахова гатэля ў любы час рэагуе на незвычайныя гукі, і, калі б кіраўніцтва гатэля не мела супрацьлеглых указанняў, ахоўнікі зрэагавалі б на шум пры ўзломе двух пакояў.**

Стакоўскі пагадзіўся неадкладна адправіць тэлеграму Ландэру з просьбай прысласць спецыяльную следчую камісію з Масквы. Але падзеі разгарнуліся хутчэй:

**А 3-й гадзіне раніцы агенты Беларускай Рэспублікі ўвайшлі ў пакой загадчыка медычных складаў, які быў нашым перакладчыкам падчас допыту ў гатэлі, арыштавалі яго й заявілі, што знайшлі ў пары ягоных штаноў ля ложка партманэ доктара Герца, у якім была 21 тэлефонная картка доктара Герца. Загадчык цяпер у турме ЧК.**

Амерыканцы не паверылі ў хуткі арышт сапраўднага злачынцы й настойвалі на камісіі з Масквы. Разлік быў на тое, што сталічнае начальства прымусіць мясцовае хаця б вярнуць скрадзеныя рэчы. Спадзевы аказаліся марныя.

Так развітаўся Мінск з першым кіраўніком акругі АРА ў Беларусі Доналдам Гардзі*.

---

* У 1962 Гардзі будзе ў турысцкай паездцы па СССР, наведае Ленінград, Маскву, Крым, Кіеў, але ў Мінск не заедзе.

# Страйк у АРА: памылка Седрыка Сміта

**Гонар жанчыны. — Пабілі шафёра. — Ультыматум прафсаюзаў. — Спяваюць «Інтэрнацыянал». — Штрэйкбрэхеры будуць галадаць. — Газетная кампанія. — Канфідэнцыйная прыпіска. — Сміт з'язджае**

Толькі-толькі скончыўся першы месяц працы ў Мінску новага кіраўніка акругі Чарлза Уілабі, калі выбухнуў скандал, у якім змяшаліся ў адно жанчыны, палітыка й класавая барацьба. З газетных старонак у Мінску скандал перакінуўся ў Маскву, і ягонае рэха дакацілася да амерыканскай прэсы. Загалоўкі паўсюль былі аднолькавыя: страйк у АРА.

25 лістапада 1922 газеты «Савецкая Беларусь» і «Звезда» надрукавалі карэспандэнцыю пра падзеі ў мінскай канторы АРА. Паведамленне ў «Звезде», падпісанае псеўданімам Праўдзін, заняло чвэрць газетнай паласы.

Страйкоўцы патрабуюць пакарання асобы, што дазволіла сабе ўжыць метады кулачнай расправы, якія дапушчальныя ў краінах, дзе ва ўладзе не знаходзяцца бальшавікі. Але даўно выйшлі з моды там, дзе ва ўладзе знаходзяцца бальшавікі, гэтак нелюбімыя панам Смітам.

Новы намеснік кіраўніка акругі Седрык Сміт, які за некалькі тыдняў перад тым прыбыў у Мінск з Самары, бальшавікоў не любіў. Ён таксама не выносіў, калі пры ім абражалі жанчын. Напярэдадні ў новым доме, куды з гатэля перасяліліся супрацоўнікі акругі, са згоды Чарлза Уілабі адна госця атрымала дазвол пераначаваць у вольным пакоі. Уілабі мусіў апраўдвацца перад начальствам у Маскве:

**Мінск — горад, дзе поўна чутак. У суседніх пакоях жыў абслуговы персанал, і я ведаў, што мясцовыя супрацоўнікі мусяць усё дакладваць каменданту. Але спадзяваўся, што поўная адкрытасць гасцявання сама сабою засцеражэ ад плётак.**

Наступнай раніцай шафёр Ігнат Падбярозка пачаў расказваць пра начную оргію з удзелам трох амерыканцаў. Уілабі запрасіў шафёра для тлумачэнняў; той спаслаўся на аповед прыбіральшчыцы. Падбярозка некалькі гадоў працаваў у Амерыцы, гаварыў па-ангельску, але не надта

добра. Уілабі папрасіў яго прыйсці з перакладчыкам, але, на няшчасце, па дарозе іх сустрэў Сміт.

Дачыненні між Падбярозкам і Смітам былі досыць напружаныя. Аднойчы Сміт перадаў шафёру заданне на выезд. Той толькі скончыў разгрузку свайго аўтамабіля й паслаў Сміта к чортавай матары, заявіўшы, што нікуды болей не паедзе. Сміт у адказ недыпламатычна паабяцаў набіць шафёру пысу, калі той яшчэ хоць раз так яму адкажа. Падбярозка напісаў пісьмовую скаргу, але справа далей за словы не пайшла. На рэзкае пытанне Сміта пра чуткі Падбярозка заявіў, што нічога нікому не казаў. Гутарка не зацягнулася. Раз'юшаны Сміт закаціў поўху, потым другую. Шафёр схаваўся пад стол. Калі Сміт паспрабаваў выцягнуць яго, той вырваўся й кінуўся да прафсаюзнага начальства.

У гэты ж дзень Уілабі атрымаў пратэст ад Саюза дзяржаўных і прыватных службоўцаў:

> **Саюз лічыць, што выпадкі збіцця гаспадаром свайго працаўніка нецярпімыя, асабліва на тэрыторыі РСФСР, і таму лічыць неабходным звярнуць вашую ўвагу на наступныя патрабаванні:**
> **1. Запатрабаваць ад сп. Сміта публічна папрасіць прабачэння ў Падбярозкі.**



**2. Звольніць сп. Сміта з працы ў АРА.**
**3. Пагадзіцца на перадачу справы ў суд.**
**4. Саюз таксама лічыць, што сп. Сміт не можа надалей знаходзіцца на тэрыторыі РСФСР.**
**Мы шлём вам нашыя мінімальныя патрабаванні ў сувязі з агідным інцыдэнтам, і з гэтай нагоды Саюз заяўляе катэгарычны пратэст супраць такіх некультурных паводзінаў афіцыйнай асобы АРА. Такія выпадкі могуць здарацца ў самых беззаконных і буржуазных краінах. Спадзяемся, што ў вашай асобе Саюз атрымае поўную падтрымку сваіх справядлівых і законных патрабаванняў. Таксама дазвольце паведаміць, што мы будзем настойваць на гэтых патрабаваннях усімі сродкамі, даступнымі Саюзу, у тым ліку абвяшчэннем страйку пратэсту, які будзе працягвацца аж да задавальнення нашых патрабаванняў.**

У той дзень у канторы АРА ўпершыню прагучалі пагрозлівыя радкі рэвалюцыйнага гімну: «Паўстань, пракляццем катаваны! Паўстань, хто з голаду век пух!» Удзельнікі сходу аднадушна прагаласавалі за спыненне выдачы харчу й лекаў апухлым з голаду й ад хваробаў і стоячы праспявалі «Інтэрнацыянал»*.

25 лістапада газета «Звезда» паведаміла:

**Страйк прызначаны на заўтра, на першую гадзіну дня. Раніца даецца адміністрацыі АРА на выкананне чатырох умоваў прафсаюза савецкіх працаўнікоў.**

Чарлз Уілабі прыняў дэлегацыю прафсаюза, але адмовіўся не толькі выканаць іх патрабаванні, але нават абмяркоўваць канфлікт. Было заяўлена, што ўсе праблемы АРА вырашае выключна з прадстаўніком

* АРА мела пэўны досвед дачыненняў са страйкоўцамі. Першы інцыдэнт адбыўся адразу пасля прыбыцця самай першай партыі дапамогі. Сухагруз «Фенікс» даставіў у петраградскі порт 700 тон харчу. Грузчыкі пачалі знарок ірваць мяхі й адсыпаць сабе муку, рыс і цукар. Спробы спыніць рабаўніцтва й затрымаць рабочых на выхадзе з порту прывялі да страйку. Прадстаўнік уладаў заявіў, што не можа паўплываць на пралетарыяў. Пазней ставілі асаблівыя ўмовы й прэтэндавалі на амерыканскі харч розныя групы — ад камуністычных прафсаюзаў да арганізаваных артэляў, чыгуначнікі не хацелі дастаўляць грузы, а персанал дзіцячых дамоў і шпіталяў патрабаваў сабе частку рацыёнаў і адзення. АРА ацэньвала такія заявы як шантаж і цвёрда стаяла на сваім праве ўсё размяркоўваць самастойна ў адпаведнасці са сваімі задачамі.

урада Мар’янам Стакоўскім. Да абеду ніводнае з патрабаванняў не было задаволена.

Уілабі пісаў у штаб-кватэру ў Маскву:

> **Сход быў тыпова савецкі. Больш за 60% супрацоўнікаў выступалі супраць страйку й лічылі, што справу павінен вырашыць Стакоўскі са мной разам. Прафсаюзныя функцыянеры знаходзіліся ва ўсіх кутках і дапільноўвалі, каб усе галасавалі. Старшыня сходу патлумачыў, што той, хто галасуе супраць страйку, ёсць ворагам працоўнага ўрада — штрэйкбрэхерам, і заслугоўвае страціць працу й галадаць. Бальшыня супрацоўнікаў — жанчыны. На іх было лёгка паўплываць, і яны прагаласавалі за страйк.**

А першай гадзіне дня ўсе амерыканскія склады й кантора ў Мінску былі зачыненыя. Людзям, якія прыйшлі па пасылкі й лекі, тлумачылі, што тут ідзе барацьба супраць эксплуататараў, і калі АРА адновіць працу — невядома. Многія прыязджалі па дапамогу здалёк і не маглі заставацца нанач, у шпіталях чакалі на лекі, многія дзіцячыя дамы існавалі выключна на араўскім рацыёне. Прафсаюзнае начальства адсылала самых нецярплівых да амерыканцаў — яны ва ўсім вінаватыя.

Чарлз Уілабі й Фрэнк Вілі неадкладна адправіліся на вуліцу Урыцкага, дзе ў доме №3 месцілася кантора ўпаўнаважанага Мар’яна Стакоўскага. Пачатак перамоваў атрымаўся не надта ўдалы. Не паспелі бакі прыступіць да справы, як у дзверы пастукалі: у АРА новы канфлікт, Сміт выставіў за дзверы аднаго з кіраўнікоў мясцовага прафсаюза. Той занёс у дом, дзе жылі амерыканцы, ключы й інструменты, пачаў спрачацца са Смітам, які раззлаваўся й выгнаў гаваркога актывіста.

Цягам пяці гадзінаў Уілабі й Вілі вялі перамовы са Стакоўскім. Упаўнаважаны заявіў, што не мае паўнамоцтваў спыніць страйк, але паспрабуе зрабіць што зможа. Для гэтага трэба прапанаваць прафсаюзу нейкія саступкі.

Упершыню прапанова заключыць дамову між беларускімі прафсаюзамі й АРА паступіла кіраўніку акругі яшчэ ў траўні. Дамова складалася з 34 пунктаў, якія рэгулявалі працу персанала ў савецкіх установах. Прафсаюзы заяўлялі, што мясцовы персанал галадае, і патрабавалі не міласціны, а сапраўднага заробку, аплаты хваробаў і дэкрэтных адпачынкаў, гарантаваных месячных адпачынкаў з поўнай аплатай і кампенсацыі за звышурочную працу.

Аўтары ліста таксама патрабавалі прызнання абавязковымі ўсіх інструкцыяў і пастановаў у галіне працы, якія выдае ўрад і прафсаюзы. Ліст заканчваўся папярэджаннем:

**Прафсаюз лічыць памылковым нежаданне АРА заключыць дамову й просіць цягам трох дзён даць станоўчы адказ на згаданыя пункты; у выпадку адмовы прафсаюз не зможа палагодзіць сітуацыю нармальным шляхам.**

Тады ж, у траўні, кіраўнік Мінскай акругі пераслаў ліст у Маскву з кароткім каментаром: заявы пра супрацоўнікаў, якія галадаюць, — яўнае перабольшанне*, заробкі персанала цалкам сувымерныя з мясцовымі даходамі. Дачыненні ўнутры АРА нармальныя, скаргаў на аплату не паступала, і ўсё пытанне інспіраванае прафсаюзам**.

Паводле пагаднення ў Рызе, АРА не мусіла заключаць пагадненні з савецкімі прафсаюзамі: усе канфлікты трэба было вырашаць з афіцыйнымі ўладамі. Афіцыйныя ўлады на месцах, аднак, добра памяталі ўнутрыпартыйную палітычную барацьбу з нагоды прафсаюзаў, якая цягнулася ўвесь папярэдні год і скончылася сакрушальнай паразай часткі найвышэйшага партыйнага кіраўніцтва. Трэба было быць асцярожным — амерыканцы з'едуць, а прафсаюзы застануцца.

Упаўнаважаны ўрада Мар'ян Стакоўскі прапанаваў Чарлзу Уілабі тое самае, што й прафсаюз: звольніць Сміта, забараніць яму прыходзіць у кантору, амерыканскаму боку напісаць ліст з афіцыйнымі прабачэннямі.

Уілабі паведамляў у Маскву:

**Я патлумачыў Стакоўскаму, што не маю паўнамоцтваў звальняць супрацоўнікаў, а забарона Сміту з'яўляцца ў офісе выглядала б ме-**

---

* Апроч заробку, мясцовыя супрацоўнікі АРА бясплатна атрымлівалі адну амерыканскую харчовую пасылку на месяц. У Мінскай акрузе ў 1922–1923 было выдадзена такім чынам больш за 58 тон харчоў на суму 5786 даляраў (78 тыс. дал. у цэнах 2013).

** Прафсаюзная актыўнасць была невыпадковая: пасля таго, як бальшавіцкі ўрад дзеля выжывання мусіў пайсці на саступкі й дазволіць крыху свабоды ў эканоміцы, прафсаюзы атрымалі новае заданне — абараняць класавыя інтарэсы пралетарыяту ад НЭПманскай буржуазіі. Пачалі, аднак, не з адстойвання інтарэсаў чальцоў саюза, а з уласнай чысткі. З чэрвеня па жнівень 1922 у Беларусі праходзіла кампанія «добраахвотнага ўступлення» ў прафсаюзы, у выніку чаго колькасць чальцоў зменшылася з 49 да 40 тысяч. Затое, як афіцыйна сцвярджалі, «умацавалася іх класавая аднастайнасць».

**навіта як звальненне. Што да прабачэння, дык каб Стакоўскі сам быў на месцы Сміта, пад гарачую руку ён зрабіў бы тое самае.**

Мінала гадзіна за гадзінай, а Уілабі й Вілі ўсё яшчэ не выходзілі з кабінета ўпаўнаважанага. Уілабі цвёрда трымаўся аднаго пункту: ніякіх перамоваў з прафсаюзамі, гутарка можа ісці толькі з прадстаўнікамі ўрада. Урэшце бакі пайшлі на кампраміс: Уілабі пагадзіўся зрабіць запыт наконт пераводу Сміта з Мінска, а Стакоўскі пагадзіўся прыняць ад Уілабі ўсе дакументы страйкоўцаў разам з пісьмовым тлумачэннем, што АРА не прызнае прафсаюзаў.

Уілабі выканаў абяцанне — паслаў запыт наконт пераводу Сміта й дадаў свой каментар:

**З асабістых і афіцыйных прычынаў я не хацеў бы, каб Сміта пераводзілі з Мінска. Я ўпэўнены, што яго не варта высылаць з Расеі. Ён набыў каштоўны досвед у складавай працы й арганізацыі харчавання дзяцей у Арэнбургу. Гэты досвед быў для мяне каштоўны. Я прызнаю, што ягонае далейшае знаходжанне тут можа прывесці да працягу рознагалоссяў паміж намі й прафсаюзам, паміж чальцамі прафсаюза й Смітам. Не зважаючы на гэта, я хачу паспрабаваць.**

Перад тым як адаслаць ліст, Уілабі паказаў яго Сміту. Допіс сканчаўся просьбай дазволіць Сміту самому прыехаць у Маскву для тлумачэнняў.

Аднак увечары таго ж дня кіраўнік акругі надрукаваў яшчэ адзін ліст у Маскву, які пазначыў «канфідэнцыйна». У ім Уілабі пісаў, што праблему можна было б палагодзіць на самым пачатку, калі б не адбыўся другі інцыдэнт са Смітам, пакуль ішлі перамовы са Стакоўскім. Гэта аслабіла пазіцыю АРА:

**Я спадзяюся, што вы як найхутчэй пераведзяце Сміта з Мінска. Гэтай рэкамендацыі няма ў маім афіцыйным паведамленні. Вы разумееце чаму. Ён нагэтулькі не давярае цяпер расейцам, што не можа ўстрымацца, каб увесь час не дэманстраваць гэтага. Я баюся, што гэта прывядзе да мноства такіх сутычак, як сённяшняя.**

Мінула ноч. Загадчыкі дзіцячых дамоў, сталовак для ўцекачоў, лекары й адрасаты амерыканскіх пасылак дарма прыйшлі наступнай раніцай — склады АРА былі замкнёныя. Супрацоўнікі з’явіліся на працу, але праф-

саюзныя кіраўнікі пільнавалі, каб ніхто не ўзяўся выдаваць прадукты. Страйк працягваўся.

Уілабі патэлефанаваў Стакоўскаму. Той хутка з'явіўся й папрасіў дазволу правесці сход супрацоўнікаў на тэрыторыі канторы. На гэты раз Стакоўскі сказаў тое, што марна спрабавалі давесці амерыканцы: паводле пагаднення з савецкім урадам АРА не прызнае прафсаюзаў і права на страйк. Усе канфлікты павінны вырашацца паміж ім як упаўнаважаным ураду і Уілабі. Стакоўскі звярнуўся да старшыні прафсаюза з прапановай накіраваць супрацоўнікаў на рабочыя месцы.

Газета «Савецкая Беларусь» 26 лістапада паведаміла:

**Упаўнаважаны Стакоўскі ў кароткай прамове абмаляваў свае перамовы з адміністрацыяй АРА. Упаўнаважаны канторы АРА па Беларусі сп. Уілабі пагадзіўся задаволіць усе нашы патрабаванні.**

Хаця ніводнае патрабаванне не было выканана, камуністычныя прафсаюзы, якія з класавай рашучасцю пастанавілі не выдаваць прадуктовыя амерыканскія пасылкі сіротам, шпіталям і прытулкам, з прадстаўніком улады спрачацца не сталі. Праз 24 гадзіны пасля пачатку страйк быў спынены.

Праз тры дні, 29 лістапада, Седрык Сміт выехаў з Мінска.

4 снежня ў Маскве савецкі ўпаўнаважаны Карл Ландэр выклікаў намесніка кіраўніка АРА Сірыла Квіна й запатрабаваў тлумачэнняў. Той выклаў пазіцыю амерыканцаў: Сміт ударыў шафёра ў выніку надзвычай правакацыйных паводзінаў апошняга. Адначасова Квін паслаў рэзкую вымову Уілабі за дазвол пабочнай асобе заначаваць у будынку для амерыканскага персанала. Уілабі прызнаў віну.

Ландэр не быў задаволены амерыканскім адказам і патрабаваў новых і новых тлумачэнняў. Перапіска, якая мусіла дэманстраваць адстойванне правоў савецкага чальца прафсаюза, цягнулася да канца 1922 года.

Седрык Сміт у Мінск больш не вярнуўся — яго паслалі на працу ў Арэнбургскую вобласць. Кіраўніцтва АРА да канца стаяла на баку Сміта. Ужо пасля завяршэння аперацыяў у Расеі дырэктар АРА Уільям Гаскел напісаў свайму былому супрацоўніку ліст, які выходзіў за рамкі звычайных падзяк і характарыстык: «Мой дарагі сп. Сміт: маю вялікае задавальненне выказаць вам сваю ўдзячную ацэнку вашай выдатнай працы ў АРА ў Арэнбургу й Мінску. Падчас усёй вашай працы я атрымліваў толькі самыя прыхільныя паведамленні аб вашай энергіі й здольнасцях. Толькі дзякуючы лаяльнай і адданай працы такіх амерыканцаў,

як вы, нам удалося выканаць нашыя задачы ў Расеі. Упэўнены, што набыты досвед будзе каштоўным для вас у будучыні. Спадзяюся, што вы без сумневу звернецеся да мяне ў любы час, калі я змагу быць карысным і даць вам рэкамендацыю што да вашага характару і здольнасцяў».

Імя Падбярозкі не раз сустракаецца ў дакументах АРА. Аднойчы ён забыўся паставіць свой аўтамабіль на ручны тормаз, той пакаціўся й пашкодзіў аўтамабіль Наркамасветы, і АРА мусіла плаціць за рамонт. Ігнат Падбярозка ад пачатку працы меў дазвол на выезд за мяжу ды польскую візу, і яго пасылалі перавозіць амерыканцаў праз беларускую мяжу на цягнік у Стоўбцы. 15 снежня 1922 Падбярозка звольніўся з мінскай канторы АРА.

Ці значыцца гэтае прозвішча таксама ў спісах супрацоўнікаў ГПУ — невядома*.

## Інспектарка Румянцава супраць наркама Мар'ясіна: часовая перамога

**Пагрозы ў друку. — Уілабі пратэстуе. — Нелегальныя інспекцыі. — Бруд, вошы й дзеці. — Сістэма ацэнак працуе. — Тры небяспечныя жанчыны. — Справа прынцыпу. — Сакрэтны цыркуляр**

1 снежня 1922 Мар'ян Стакоўскі надрукаваў у газетах афіцыйнае папярэджанне:

**Апошнім часам па розных дзяржаўных установах бадзяюцца нейкія індывідуумы, якія абвяшчаюць сябе кантралёрамі АРА. Папярэджваю, што права кантролю маюць толькі асобы з мандатам за маім подпісам. Тыя, хто не мае мандатаў, як шантажысты павінны неадкладна затрымлівацца й перадавацца міліцыі.**

---

* Загад ГПУ «Аб бягучым моманце й задачах органаў ГПУ па барацьбе з контррэвалюцыяй» ад 10 сакавіка 1922 ставіў наступныя задачы: «Органы ГПУ тых раёнаў, дзе працуе АРА, павінны асаблівую ўвагу звярнуць на яе дзейнасць, выяўляючы шпіянаж, сувязі з контррэвалюцыйнымі групоўкамі, гуртаванне белагвардзейскіх элементаў, высмоктванне золата й каштоўнасцяў, а таксама ўсе тыя факты, нават з прыватнага жыцця асобных дзеячоў АРА, якія маглі б у патрэбны момант служыць матэрыялам дыскрэдытацыі для адпаведных паліткампаніяў».

Толькі-толькі скончыўся канфлікт з камуністычным прафсаюзам, усё яшчэ цягнулася следства ў справе дзіўнага рабавання ў гатэлі «Савецкі», аб'ём аперацыяў АРА ад пачатку восені імкліва павялічваўся, і Уілабі, які працаваў усяго два месяцы, быў зусім не зацікаўлены ў канфрантацыі з упаўнаважаным. Без узаемадзеяння з уладай было немагчыма эфектыўна выканаць задачы АРА. Але таксама немагчыма было адступіцца ад цэнтральнага прынцыпу Гувера: АРА сама вызначае, як і хто атрымлівае амерыканскую дапамогу.

Абвестка ў ранішніх газетах, якую пераклалі кіраўніку акругі, патрабавала неадкладнага адказу. Чарлз Уілабі прадыктаваў ліст на імя Стакоўскага й кур'ерам адправіў у кантору ўпаўнаважанага на вуліцу Урыцкага:

Мы маем права кантраляваць выдаткаванне нашых прадуктаў без санкцыяў каго б там ні было. У будучыні прадукты не будуць выдавацца тым установам, якія не дазваляюць АРА праводзіць абследаванні. Неадкладна пасля адмовы якому-небудзь інспектару мы папросім вас запячатаць склад гэтай установы, дзе знаходзяцца нашыя прадукты, альбо вярнуць іх у наш склад.



Пачатак снежня абяцаў стаць гарачым. Атрымаўшы ліст, Стакоўскі неадкладна прадыктаваў адказ і таксама кур'ерам адправіў у кантору АРА на Губернатарскую:

**Пагаджаюся, што інспекцыі выдаткавання прадметаў харчавання й медабслугі ёсць неад'емным правам АРА, адначасова катэгарычна адмаўляюся прызнаць права рэвізіі дзяржаўных установаў расейскімі грамадзянамі, прызначанымі АРА без майго ведання. Толькі асобы, да якіх я як прадстаўнік урада пастаўлюся з даверам, могуць разлічваць на пацверджанне ад мяне мандату, выдадзенага вамі. Дагэтуль рэвізоры мінскай АРА мне невядомыя й лічацца мною нелегальнымі.**

«Нелегалы» з'явіліся ў Мінскай акрузе АРА 18 лістапада. Менавіта ў гэты дзень на працу ў якасці інспектараў былі прынятыя тры жанчыны — Кацярына Румянцава, Рэвека Лебах і Ганна Гольдзіна. Яны меліся наведваць дзіцячыя дамы, кухні грамадскага харчавання, дзіцячыя садкі, вывучаць выкарыстанне дапамогі, санітарны стан, умовы ўтрымання дзяцей.

Найбольш справаздачаў былі падпісаныя Румянцавай. Кацярына Румянцава з'явілася ў Мінску пасля пакутаў грамадзянскай вайны ў Расеі. Невядома, ці апынулася яна ў Сібіры разам з хваляй уцекачоў з Беларусі падчас Першай сусветнай вайны, вядома толькі, што паходзіла з двараная. У АРА ўладкавалася дзякуючы веданню ангельскай мовы й пачувалася цалкам незалежна ад мясцовых умоўнасцяў. І была назіральнай.

Дзён за дзесяць да папярэджання Стакоўскага Кацярына Румянцава ездзіла ў былы маёнтак Радзівілаў у Анопалі* пад Мінскам. Там у дзіцячай калоніі Наркамасветы было 84 дзіцяці ва ўзросце ад 7 да 16 гадоў. Румянцава наведала калонію разам з прадстаўніком гарана:

**Мы ўвайшлі ў сталоўку, якраз калі дзеці пачыналі есці. Каля 25 дзяцей былі зусім голыя, стары падраны пінжак замяняў усю вопратку. Рэшта ў брудных лахманах, якія кішэлі паразітамі, усе басанож. Медсястра, якая пачала працаваць тры тыдні перад тым, сказала, што дзеці не мылі рукі й твары ўжо два тыдні, бо няма ручнікоў. Ніхто не памятае, калі апошні раз мыўся ў лазні, а ўладальнікі кашуляў не мянялі іх ад чэрвеня.**

* Вёска ў Крупіцкім с/с Мінскага раёна.

На дварэ стаяў лістапад. Медсястра таксама патлумачыла, чаму дзеці голыя: занадта худыя, і бялізна не трымаецца. На абед у той дзень была капуста й паўфунта хлеба. Амерыканскія прадукты паступілі тыдзень перад тым, але былі замкнёныя ў складзе. Інспектарка прайшласа па будынку:

> **Дом даволі дыхтоўны, і яго можна зрабіць вельмі ўтульным, але паркетная падлога з інкрустацыяй мыецца раз на два месяцы, толькі тры ці чатыры пакоі ацяпляюцца, усе печы дымяць, лес даволі далёка, і паўапранутыя дзеці звычайна мусяць самі збіраць дровы. Убогі «пакой адпачынку» (былая студыя Радзівілаў) уяўляў жахлівую карціну, якую цяжка забыць. У мармуровым, але брудным каміне тлеў агонь, і трое ці чацвёра няшчасных дзяцей скупіліся вакол і спрабавалі спячы некалькі бульбінаў, выкапаных у гародзе. У доме чацвёра настаўнікаў, але ніхто не вучыць дзяцей, якія цэлы дзень аддадзеныя самі сабе. Многія паляць, усе лаюцца.**



У спальнях Румянцава не пабачыла ніводнай прасціны, толькі падраныя посцілкі, поўныя паразітаў. У адным з пакояў стаяў невыносны смурод — там клалі спаць усіх малых, хто мачыўся пад сябе. Высветлілася, што ложкаў на ўсіх не хапае, і каля дзясятка выхаванцаў спяць на падлозе — «як сабакі, нават без саломы». Медыкаментаў няма, на тварах болькі, многіх абсыпалі скулы. Апошні сказ справаздачы гучаў як прысуд:

**Калі пачнуцца маразы, палова гэтых дзяцей мусіць абавязкова загінуць.**

Шантаж — так ацэньваў падобныя высновы ўпаўнаважаны Стакоўскі, калі праз газету заклікаў затрымліваць такіх кантралёраў і перадаваць іх міліцыі. Права праверак належала выключна асобам з мандатам самога Стакоўскага. Абвестка з'явілася ў першы дзень снежня, і ён ужо скончаўся, калі Уілабі паставіў свой подпіс пад новым лістом упаўнаважанаму:

**Інспектары, якіх пасылае наш офіс, адказваюць толькі перад нашым офісам. Мы не можам дазволіць Ураду прызначаць інспектараў, чый абавязак рабіць справаздачы нашаму офісу пра тое, як выдаткоўваюцца нашыя прадукты.**

Два тыдні перад тым Уілабі атрымаў справаздачу Румянцавай аб праверцы дзіцячай кухні ў Архіерэйскім завулку* ў Мінску. На ўліку стаяла 275 дзяцей ад 6 да 16 гадоў, якія штодня палуднавалі ў сталоўцы ці забіралі ежу дахаты. У дзень праверкі на кухні быў запас прадуктаў АРА: 2 пуды какавы, 10 пудоў цукру, 59 — мукі, 12 — хлеба, 32 — рысу й 495 бляшанак малака. Улады меліся пастаўляць мяса, бульбу, гародніну, муку й масла. Інспектарка пісала:

**Насамрэч мяса звычайна няма, астатнія прадукты паступаюць у недастатковай колькасці. Масла замяняюць з'ялчэлым алеем.**

Румянцава пакаштавала абед: суп, рысавая каша, кавалачак селядца з хлебам. Назаўтра інспектарка нечакана зноў з'явілася ў Архіерэйскім завулку падчас абеду. Мяса зноў не было, дзецям давалі вадзяністы суп і тоўчаную бульбу. Разам з дзецьмі палуднаваў персанал — дзесяць ча-

* Цяпер не існуе. Раён Кастрычніцкай плошчы перад Палацам прафсаюзаў.

лавек. На кухні амерыканскія прадукты АРА захоўваліся разам з мясцовымі.

Гэта было адкрытым парушэннем амерыканскіх інструкцыяў:

> **Усе ўстановы павінны захоўваць прадукты АРА асобна й адрозна ад іншых прадуктаў. Рацыён АРА павінен ужывацца як асобны прыём ежы. Кожная ўстанова два разы на месяц мае рабіць справаздачы аб наяўнасці й спажыванні прадуктаў, у якіх павінна быць адзначана, колькі атрымана, колькі спажыта кожны дзень, колькасць дзяцей, накормленых штодня, і баланс на дзень справаздачы.**

АРА пастаянна нагадвала кіраўнікам акругаў, што харчовая праграма разлічаная выключна на дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў, катэгарычна патрабавала выдаваць толькі цалкам збалансаваны рацыён*.

Уілабі дазволіў парушыць інструкцыю для дзіцячага дома сляпых на Захар'еўскай, 13: Румянцава прынесла скаргу недаверлівых выхаванцаў, якія баяліся, што іх абкрадаюць, недадаюць амерыканскі цукар і малако, і прасілі, каб гэтыя харчы выдавалі кожнаму асабіста ў рукі. Са згоды дырэктаркі так сталі й рабіць.

Калі Румянцава запыталася, чаму разам з дзецьмі харчуецца персанал, загадчыца кухні патлумачыла, што многія дзеці штодня не з'яўляюцца на абед, бо хвараюць. Адсюль лішкі. Інспектарка, аднак, надалей задавала пытанні:

> **Прыватна мне назвалі іншую прычыну: каля траціны дзяцей не маюць патрэбы ў такой дапамозе, бо на ўлік бяруць толькі дзяцей з сем'яў чальцоў прафсаюза, чые бацькі звычайна добра ўладкаваныя. Адна з супрацоўніц паведаміла, што яны мусяць адмаўляць хворым і галодным, каб браць тых, чые бацькі маюць уплыў наверсе.**

Не паспеў Уілабі асэнсаваць паведамленне, як Румянцава прынесла яшчэ адно непрыемнае адкрыццё. Падчас праверкі дзённага дзіцячага

---

* Усё харчаванне дзяцей — ад фармавання адпаведнай часткі бюджэту АРА, заключэння кантрактаў у Амерыцы, закупу новых прадуктаў, фрахту параходаў, даставы грузаў праз акіян і затым на цягніках у склады ў акругах і потым перадачы ў дзіцячыя кухні — было пралічанае дзеля канчатковага выніку: збалансаванага абеду пэўнай каларыйнасці (ад 400 да 600 калорыяў залежна ад узросту, абставін). Адступленне ад складнікаў вяло да разбалансавання складавых запасаў і хаосу ў новых даставах.

дома на Захар'еўскай вуліцы ў Мінску, дзе сорак дзяцей два месяцы атрымлівалі араўскія рацыёны, інспектарка высветліла, што туды ўвогуле афіцыйна прымалі толькі дзяцей чальцоў прафсаюза й чырвонаармейцаў. Гэта было не звычайнае злоўжыванне ці дробны крадзеж. Амерыканская дапамога размяркоўвалася паводле класавага прынцыпу — насуперак усім дамоўленасцям і правілам.

Чарлз Уілабі абмеркаваў вынікі інспекцыяў з лекарамі Фрэнкам Вілі й Ралфам Герцам. Пасля перагляду розных магчымасцяў амерыканцы вынайшлі спосаб, які прымушаў саміх атрымальнікаў дапамогі клапаціцца пра паляпшэнне справаў. Была распрацаваная сістэма ацэнак шпіталяў, дзіцячых дамоў, кухняў. Уілабі вызначыў тры асноўныя крытэры:

1. **Магчымасць паляпшэння ўмоваў наяўнымі ў кіраўніцтва сродкамі.**
2. **Поспех кіраўніцтва ў атрыманні максімальных вынікаў ад дапамогі АРА і ўрада.**
3. **Супрацоўніцтва кіраўніцтва з АРА.**

Некаторыя ўстановы, дзе не шкадавалі сілаў дзеля падтрымання чысціні, санітарнага стану й дысцыпліны, атрымлівалі найвышэйшую адзнаку — пяць. Тым, хто атрымліваў адзнаку ніжэй за тройку, даваўся месяц на выпраўленне. Пасля гэтага, абвясціў Уілабі, новая дапамога пойдзе туды, дзе яе ўмеюць выкарыстоўваць эфектыўна.

У дзіцячым доме на вуліцы Падгорнай* жылі дзеці ўцекачоў, якія атрымлівалі пайкі АРА й прадукты ад гарадскога аддзела асветы. Румянцава адзначала адносную чысціню на кухні, але холад у доме й дрэнны стан дзіцячых спальняў:

**22 хлопчыкі спяць у адным пакоі, дзе няма абсалютна ніякай вентыляцыі. На 97 дзяцей 40 матрацаў, астатнія спяць па двое ў ложку. Падушак няма. Двойчы на месяц дзяцей водзяць у лазню, але, паколькі бялізны вельмі мала, кашулі й нагавіцы мяняюцца раз на месяц. Натуральна, інфекцыйныя хваробы буяюць. Цяпер 7 дзяцей у шпіталі, 22 пакутуюць на розныя скурныя хваробы.**

АРА пастаўляла на Падгорную 110 рацыёнаў цягам ужо двух месяцаў. Уілабі папярэдзіў гарана, што амерыканская дапамога можа быць пе-

* Цяпер вул. К. Маркса.

раадрасаваная ў іншае месца. Неўзабаве новая сістэма спарадзіла спаборніцтва паміж установамі, якія стараліся палепшыць стан справаў і атрымаць дадатковыя амерыканскія прадукты, медыкаменты, бялізну й адзенне.

Перад Калядамі інспектарка Кацярына Румянцава наведала яшчэ адзін дзіцячы дом-санаторый на вуліцы Падгорнай, які належаў гарадской управе аховы здароўя. Там стала жылі 45 хворых на сухоты дзяцей, яшчэ два дзясяткі дзяцей з навакольных вёсак штодня прыходзілі на лячэнне й харчаванне. На снежань са складоў АРА было дастаўлена 27 пудоў какавы, 14 пудоў мукі, 7 пудоў кукурузнай груцы, 2 пуды цукру, а таксама малако й тлушч. Хлеб, бульбу й мяса забяспечваў гараддзел аховы здароўя. Дзеці харчаваліся пяць разоў на дзень. 17 чалавек персанала да амерыканскіх прадуктаў не дакраналіся. Румянцава пісала:

**Дзіцячы дом месціца ў выдатным будынку. Пакоі вялікія, поўныя паветра, цёплыя, добра асветленыя, утульна абсталяваныя й захапляюць сваёй чысцінёй. Любоў і спачуванне да дзяцей і няспынная барацьба супраць сухотаў адчуваюцца ва ўсіх дэталях. Робіцца ўсё магчымае, каб зрабіць больш радасным жыццё малых пакутнікаў. Я была ўражаная, як добра дзеці вышываюць і працуюць. Амаль усе цацкі яны зрабілі самі. Вялікая й добрая справа робіцца ў гэтым доме, і шкада, што з-за недахопу сродкаў немагчыма зрабіць больш.**

Калі Румянцава пайшла развітвацца з дзецьмі, дык заўважыла, што яны нешта хочуць сказаць:

**— Што такое? — спытала я.**
**— А ці будзе што-небудзь на Каляды? — спытаўся хлопчык, і цэлы хор галасоў далучыўся: — Хаця б елачку!**
**Я паабяцала перадаць іхную просьбу й пайшла з прыемным адчуваннем удзячнасці дырэктару гэтага дома.**

Свой погляд на падобныя візіты ўпаўнаважаны Стакоўскі патлумачыў падчас сустрэчы. Уілабі перадаваў дыялог:

**Ён сказаў, што людзі, якія пад выглядам інспектараў наведваюць дзіцячыя дамы, падрываюць савецкую ўладу. Я сказаў яму, што не ведаю, на якім падмурку трымаецца савецкая ўлада, але малаверагодна, што тры жанчыны, якія заходзяць у дамы для немаў-**

**лятаў, могуць зрабіць шмат для яе падрыву. На кон пастаўлены прынцып, адказаў ён.**

У Маскоўскай штаб-кватэры не толькі падтрымалі Уілабі, але зацікавіліся мінскай сістэмай інспекцыяў і градацыі дзіцячых дамоў. Кіраўніцтва папрасіла прысылаць інспектарскія справаздачы, а таксама прыслаць падрабязнае апісанне сістэмы ацэнак. Праз паўгода, калі АРА будзе рыхтавацца да ад'езду, кіраўнік АРА Сірыл Квін пашле адпаведны цыркуляр ва ўсе акругі, у якім у якасці ўзору прывядзе Мінскую акругу. Апісанне беларускага досведу будзе разасланае ва ўсе акругі АРА*.

У Беларусі начальства так ніколі й не змірылася з амерыканскімі інспекцыямі. Калі на Каляды ў 1922 годзе Уілабі вырашыў наведаць некалькі дзіцячых дамоў, якім дапамагала АРА, яго чакаў сюрпрыз. Паўсюль атрымалі ліст наркама сацыяльнага забеспячэння Мар'ясіна. Пад грыфам «Сакрэтна» наркам тлумачыў:

**Інспектары АРА маюць права толькі праверыць размеркаванне харчу АРА, але ніякім чынам не могуць указваць, як яго выдаткоўваць ці гатаваць.**

На новую скаргу Уілабі ўпаўнаважаны Стакоўскі наклаў рэзалюцыю:

**Лічыць непаразуменнем тав. Мар'ясіна.**

Аднак народны камісар, адрозна ад інспектаркі Румянцавай, усё разумеў правільна.

---

* Ад кастрычніка 1922 па чэрвень 1923 мінская АРА карміла 5000 дзяцей у 113 дзіцячых установах, забяспечваючы 74% рацыёну. У архіўных дакументах прыводзіцца нацыянальны склад выхаванцаў у 79 дзіцячых дамах Беларусі: беларусаў — 1546, габрэяў — 1382, расейцаў — 192, палякаў — 525; у 34 садках: беларусаў — 579, габрэяў — 566, палякаў — 145, расейцаў — 22.

## Як прымусіць АРА: новая фаза старой гульні

**Стакоўскі скардзіцца. — Уілабі не пагаджаецца. — Мінск дае фору Маскве. — Пасылкі й антысемітызм. — Не шкадуйце ўказанняў. — Джойнт становіцца самастойным. — Квакеры як Санта Клаус. — Не пустыя пагрозы**

Амерыканскія пасылкі рабілі фурор. Скакаў угору сацыяльны статус шчаслівых атрымальнікаў, на базары за амерыканскія прадукты давалі добрыя грошы. Сваякі з-за мяжы істотна папраўлялі справы жыхароў Беларусі без усялякага ўмяшання ўладаў. 9 снежня Мар'ян Стакоўскі звярнуўся да свайго начальніка ў Маскве, упаўнаважанага савецкага ўрада Карла Ландэра, з лістом:

**Araўцы настойваюць, каб прынцып размеркавання адпавядаў жаданню ахвярадаўцаў. Мінскі рабін дайшоў да таго, што патрабуе размеркавання прысланых у яго распараджэнне пасылак групе «Талмуд-тора» й яшчэ нейкай, назву якой якраз забыўся. Ужо некалькі месяцаў даводзіцца гандлявацца з амерыканцамі наконт прынцыпаў размеркавання. Я настойваю, каб адзіным прынцыпам была патрэба, а яны вымагаюць спаўнення волі ахвярадаўцаў.**

Ліст быў адпраўлены не поштай, а кур'ерам: сакратар Стакоўскага таксама вёз спіс усіх мясцовых супрацоўнікаў АРА й прапановы рэформаў. У снежні ў мінскай АРА працавала 32 чалавекі — Стакоўскі прапаноўваў пакінуць 14. Такім чынам, на думку ўпаўнаважанага, развязвалася адразу некалькі балючых праблемаў: скарачаліся выдаткі на заробкі, палягчаўся нагляд і, галоўнае, АРА была б вымушаная скасаваць інспекцыі й перадаверыць размеркаванне дапамогі дзяржаўным органам.

Стакоўскі прапанаваў вырашыць праблему ў Маскве й прасіў Ландэра адстойваць сваю пазіцыю. Праз тыдзень, 16 снежня, з Мінска ў Маскву ідзе яшчэ адзін ліст — на гэты раз Уілабі піша свайму кіраўніцтву:

**Немагчыма ні для Стакоўскага, ні для мяне пагадзіцца наконт метадаў размеркавання гуртовых даставаў. Стакоўскі настойвае, што ўрад мае права не дазволіць размеркавання асобам пэўнай**

**нацыянальнасці ці веравызнання. Я мяркую, што, калі нью-ёркскі офіс атрымлівае грошы, каб пэўная колькасць пасылак была дастаўленая тым, хто мае патрэбу, у пэўнае месца, мы маем права пры выдачы абмежавацца людзьмі гэтай нацыянальнасці й мясцовасці.**
**Інакш кажучы, 100 пасылак для габрэяў Ігумена павінны быць размеркаваныя паміж габрэямі Ігумена. Стакоўскі лічыць, што гэта выкліча нацыянальную варажнечу, і ўрад Беларусі патрабуе, каб ён не дапускаў такога «класавага падзелу».**

У габрэйскіх арганізацыях Нью-Ёрка хіба вельмі здзівіліся б, каб пачулі, што, адмаўляючы ў перадачы пасылак габрэям, Стакоўскі змагаецца з антысемітызмам. Менавіта такі аргумент прыводзіў упаўнаважаны ў лісце ў Маскву:

**У Беларусі, дзе антысемітызм глыбока запусціў свае карані, нельга пагаджацца на паглыбленне гэтага настрою, ставячы габрэйства ў прывілеяванае становішча.**

Напачатку студзеня кіраўніцтва Маскоўскай штаб-кватэры АРА ў лісце да Уілабі так пракаментуе беларускую сітуацыю:



**Мы бачым спробы ўрада Беларусі дыктаваць, хто можа атрымліваць нашыя харчовыя пасылкі. Гэта цалкам новая фаза гульні ў перашкоды. Мы думалі, што ўсе віды перашкодаў ужо былі прыдуманыя цэнтральнымі савецкімі ўладамі. Цікава адзначыць, што вашыя мясцовыя ўлады далі тут фору цэнтральным.**

Уілабі настойваў на безумоўнай дастаўцы пасылак адрасатам. Адначасова яшчэ напрыканцы лістапада кіраўнік акругі звярнуўся ў Маскоўскую штаб-кватэру з просьбай:

**Пераважная бальшыня пасылак ідзе габрэям, якія маюць сваякоў у Штатах. Атрымальнікі, у выніку, знаходзяцца ў даволі добрых умовах. Але тысячы расейцаў і беларусаў не маюць сваякоў за мяжой. Ці не палічылі б вы магчымым пасласць нам неадкладна хаця б 500 пасылак агульнага прызначэння?**

У складах было крыху пасылак агульнага прызначэння, якія кіраўніцтва акругі мела права размяркоўваць самастойна. Яшчэ ў лістападзе галоўны лекар Мінскай акругі Ралф Герц прапанаваў выдаць усім чальцам медычнай камісіі АРА пасылкі як знак заахвочвання. На паседжанні прысутнічаў Стакоўскі. Чальцы камісіі выказалі ўдзячнасць, але палічылі немагчымым узяць пасылкі асабіста сабе. Тады Герц прапанаваў размеркаваць 50 пасылак сярод медычнага персанала, які меў найбольшую ў гэтым патрэбу, а таксама раздаць медыкам паўтысячы коўдраў. Дапамога была прынятая.

Але Стакоўскаму гэтага было мала. У лісце ў Маскву ён запэўнівае Ландэра, што нічога рэзка непрыемнага паміж ім і амерыканцамі няма, і ўдакладняе класавую прычыну свайго клопату:

**Калі ж нарэшце яны пачнуць «Дапамогу Расеі» праз дзяржорганы...**

Упаўнаважаны беларускага ўрада просіць свайго начальніка:

**Навучыце, калі вы маеце спосаб, як прымусіць іх размяркоўваць праз цэнтральныя органы. Бо мы тут вымушаныя атрымліваць беспасярэдне тымі ячэйкамі, дзе гэтая амерыканская дапамога выдаткоўваецца. Кожны дзіцячы дом, шпіталь, кожная амбулаторыя павінны з'яўляцца беспасярэдне па атрыманне. Гэта вельмі стамляе й адрывае шмат людзей ад штодзённай працы. Можа**

**быць, дзе-небудзь гэтага ўжо пазбавіліся, навучыце тады й астатніх.**

Хаця Стакоўскі й просіць навукі ў начальства, яго ўласная прапанова — скараціць штат АРА — магла сапраўды радыкальна змяніць сітуацыю.

Уілабі тлумачыў:

**У медычным аддзеле працуе 17 чалавек, якія атрымліваюць заробак ад уладаў. Доктар Вілі згадзіўся скараціць двух. Ні ён, ні я не верым, што можна эфектыўна працаваць нават з такім малым скарачэннем, але мы паспрабуем. Стакоўскі лічыць, што можна ўдвая скараціць штат у дзіцячым харчаванні. Гэта так, калі мы хочам, каб прадстаўнікі ўладаў самі забіралі й размяркоўвалі прадукты з нашых складоў. На гэта мы пайсці не можам.**

Стакоўскі й сам апынуўся ў складанай сітуацыі. Яшчэ ў кастрычніку ўпаўнаважаны цэнтральнага ўрада Карл Ландэр разаслаў цыркуляр са зменамі ў фінансаванні аперацыяў замежнай дапамогі, які пачынаўся словамі:

**У сувязі з вялікім недахопам сродкаў упаўнаважаныя ў рэгіёнах павінны зменшыць да мінімуму ўсе свае расходы.**

Паводле новага парадку, цяжар фінансавання цэнтр перадаваў на месцы. Уілабі прасіў сваё кіраўніцтва пакінуць стары парадак:

**Праца значна палегчыцца, калі можна было б і надалей атрымліваць нашыя ўрадавыя фонды з Масквы. Бо калі супрацоўнікі прыйдуць да высновы, што іхная праца, у тым ліку падвышкі заробку і г.д., залежыць ад Стакоўскага, большыня з іх імгненна пачне працаваць на Стакоўскага, а не на АРА.**

Але й Стакоўскі, нягледзячы на быццам спрыяльную змену, не быў задаволены. Бюджэт Беларусі быў мізэрны, і задача на месцы здабываць грошы для аперацыяў АРА ў Мінску была малаўдзячнай.

У стане паміж двух агнёў патрабавалася апаратная падстрахоўка — і ўпаўнаважаны звяртаецца да Ландэра «па навуку». Перад тым як паставіць напрыканцы ліста абавязковае «з камуністычным прывітаннем», Стакоўскі піша:

**Чакаю агульных гаспадарчых і палітычных кіроўных інструкцыяў. Не шкадуйце ўказанняў.**

Ландэр не шкадаваў. Цыркулярныя лісты рассылаліся па ўсіх адрасах:

**Мы не павінны даваць права ніводнай замежнай арганізацыі самастойна выбіраць раён працы, а таксама формы й метады. Усё павінна рабіцца пры нашым найбліжэйшым удзеле, з нашага фактычнага ўказання й кіраўніцтва, праз адпаведныя ведамствы і ўстановы.**

У снежні 1922 са склада АРА арганізацыйна выйшла габрэйская дабрачынная арганізацыя Джойнт. Дырэктарам Мінскага бюро быў прызначаны Эдвард Розэнблюм, які меў досвед працы ў Польшчы, Аўстрыі й Францыі. 19 лютага 1923 Розэнблюм накіраваў упаўнаважанаму Стакоўскаму ліст аб пачатку самастойнае працы. Джойнт у Беларусі, а таксама ў Віцебскай і Гомельскай губернях збіраўся аказваць вытворчую дапамогу, пастаўляць электратрактары для габрэйскіх сельгаскамунаў, а таксама заняцца размеркаваннем харчу й адзення.

Гэтая навіна прымусіла Уілабі неадкладна звярнуцца ў Маскву з настойлівай прапановай узгадніць правілы працы АРА й Джойнту й праводзіць аднолькавую лінію. Кіраўнік Мінскай акругі ўжо меў досвед аднячасовай працы з дабрачыннай арганізацыяй квакераў:

**Дзейнасць квакераў, як нішто іншае, ускладніла працу АРА ў Беларусі. Квакеры выступалі ў ролі сапраўднага Санта Клауса, бо не патрабавалі рэальнай справаздачы. Вялікая колькасць даставаў перадавалася дзяржаўным установам дзеля размеркавання на пазначаныя квакерамі адрасы. Ці была дапамога дастаўленая туды насамрэч, квакеры ніколі не ўведаюць. Калі мы пачыналі працу, урад і розныя ўстановы чакалі ад нас такіх самых паслугаў. Яны штодня расказваюць нам, як рабілі сваю працу квакеры, як яны ім давяралі. Калі Джойнт пачне праграму харчавання й будзе весці размеркаванне, як квакеры, нашую палітыку патрабаваць справаздачнасці за кожны грам прадуктаў, засведчваць справаздачы грамадскіх кухняў будуць крытыкаваць нашмат болей, пачасцяцца скаргі.**

Трывогі Уілабі былі небеспадстаўныя. Джойнт хутка пашыраў сваю дзейнасць і за няпоўныя тры месяцы размеркаваў дапамогі на суму




45 тысяч 235 даляраў. За правільнай выдачай пільна сачылі ў Габрэйскім бюро пры ЦК КП(б)Б* і ў афіцыйным «Евобщесткоме» — Габрэйскім грамадскім камітэце дапамогі ахвярам пагромаў. Ужо ў 1922 годзе ў справаздачах камуністычнай габрэйскай секцыі барацьба з антысавецкімі элементамі ў АРА й Джойнце ацэньвалася як паспяховая:

> **У павятовых гарадах і мястэчках органам «Евобщесткома» ўдалося запабегчы арганізацыі камітэтаў з клерыкальных і антысавецкіх элементаў і самім праводзіць працу размеркавання пасылак, атрыманых праз АРА з Амерыкі.**

Камуністы яўна перабольшвалі: АРА да канца так і не выпусціла кантролю за размеркаваннем са сваіх рук. Але калі Джойнт выйшаў са складу АРА, ягоная палітыка шчыльнае супрацы з мясцовымі ўладамі была ўжо па-за межамі ўплыву Чарлза Уілабі. Калі ўпаўнаважаны ўрада Стакоўскі будзе падводзіць вынікі працы іншаземцаў у Беларусі, ён напіша ў Маскву, што Джойнт у Беларусі спрабаваў напачатку працаваць самастойна, але:

---

* Габрэйскае бюро пры ЦК КП(б)Б дзейнічала з 1920 па 1930 (з 1924 — Галоўнае бюро габрэйскай секцыі пры ЦК КП(б)Б).

**Мне ўдалося канчаткова, здаецца, прымусіць яе (арганізацыю) адмовіцца ад бескантрольнага й бяспланавага размеркавання дапамогі, і цяпер праца праводзіцца цалкам узгоднена праз мяне з нашымі дзяржорганамі.**

Эдвард Розэнблюм, са свайго боку, наступным чынам ахарактарызуе супрацу з мінскімі ўладамі ў службовай справаздачы пры закрыцці Джойнту ў кастрычніку 1923:

**Нашыя ўзаемадачыненні з прадстаўнікамі ўлады, установамі й службовымі асобамі былі надзвычай цёплыя й добрыя. Праца выконвалася пры вельмі вялікай супрацы з боку ўрадавых органаў...***

АРА, аднак, да канца адстойвала свае прынцыпы размеркавання дапамогі. Канфлікт у размежаванні паўнамоцтваў і правоў так ніколі й не вырашыцца — аж да ад'езду амерыканцаў з Беларусі. Асобныя папярэджанні Стакоўскі будзе слаць начальніку тэлеграфа, дзе бралі тэлеграмы АРА без візы ўпаўнаважанага на арыгінале, іншым органам і ўстановам. Але цалкам забараніць такія кантакты не ўдавалася, і тады па-беларуску ў «Савецкай Беларусі», па-расейску ў «Звезде», на ідыш у габрэйскіх газетах «Der Wekker» («Будзільнік») і «Waker» («Рабочы») зноўку друкаваліся абвесткі за подпісам Стакоўскага:

**Папярэджваю, што ўсе зносіны з замежнымі арганізацыямі дапамогі павінны ажыццяўляцца выключна праз упаўнаважанага Урада. Тыя арганізацыі і ўстановы, якія самавольна ўступаюць у зносіны з замежнымі арганізацыямі, будуць прыцягвацца да адказнасці.**

Змаганне ішло не проста за бюракратычныя правы. Публікацыі маглі быць як спробай апраўдання для Стакоўскага за тое, што дапусціў свабоду амерыканскіх дзеянняў у Беларусі, гэтак і сігналам.

Калі для Уілабі й астатніх амерыканцаў ён азначаў толькі дадатковую бюракратычную калатнечу, дык для мясцовага персанала АРА гэта быў знак трывогі на будучыню.

---

* Э. Іофе й Б. Мельцэр у кнізе «Джойнт в Беларуси» пішуць: «Джойнт праяўляў максімальную гнуткасць і здольнасць ісці на кампрамісы. Кіраўніцтва Джойнту пагадзілася, каб у склад камісіяў для размеркавання калектыўных пасылак былі ўключаныя прадстаўнікі прафсаюзаў і мясцовых камісіяў дапамогі тым, хто галадае».

# Злодзеі супраць АРА: амерыканцы абараняюцца

**Барысаўская афера. — Арышты махляроў. — Агенты ГПУ пад судом. — Вярніце пасылку. — Фальшывая АРА. — Сувязь з сінагогай. — Скрадзенае малако. — Аблава на Камароўцы. — Вынаходства Уілабі**

Наведнік склада АРА ніяк не мог уцяміць, чаму на яго пазіраюць падазрона й зноў пераглядаюць дакументы: ён прыехаў з Барысава па харчовую пасылку, якую аплаціў сваяк у Амерыцы. Праўда, ён не меў паштоўкі-выкліку з мінскай канторы АРА, але трымаў ліст з Чыкага, у якім сваяк цікавіўся, чаму ніхто не падзякаваў за пасылку, аформленую два месяцы таму. Прозвішча ў спісе адрасатаў дапамогі супадала, імя таксама. Калі спыталі імя й амерыканскі адрас дабрадзея, ён назваў — таксама правільна. Тым не менш, пасылку яму выдаць адмовіліся.

Паводле правілаў АРА, калі на выклік па харчовую пасылку адрасат не з'яўляўся цягам 90 дзён, замова скасоўвалася й адпраўнік у ЗША мог атрымаць свае грошы назад. У Мінску, аднак, сутыкнуліся з адваротнай сітуацыяй: па адну пасылку з'яўляліся два чалавекі.

Вось і збянтэжанаму наведніку патлумачылі, што ён, згодна з паперамі, свае прадукты ўжо не толькі атрымаў месяц таму, але, верагодна, і з'еў.

Было крыўдна, вяртацца з пустымі рукамі ў Барысаў не хацелася, і наведнік запатрабаваў сустрэчы з амерыканскім начальствам. Яму паабяцалі разабрацца. Пачалося службовае даследаванне, якое хутка выйшла за межы АРА.

...На пошце Барысава й некаторых іншых гарадоў паведамленні пра амерыканскія пасылкі забіралі й перадавалі не адрасату, а пэўнай асобе. Асоба вярталася ў Мінск і паказвала карткі з выклікам аднаму са знаёмых супрацоўнікаў канторы АРА. Той разгортваў службовыя паперы й выпісваў з іх прозвішчы й адрасы донараў: гэтую інфармацыю праўджвалі пры выдачы пасылак.

Пэўная асоба затым вырабляла даверанасці на атрыманне пасылак, засведчвала іх пячаткай натарыуса й з'яўлялася ў склад па пасылку.




Двое супрацоўнікаў мінскай канторы паведамілі пра непрыемнае адкрыццё Чарлзу Уілабі. Самастойнае даследаванне выявіла з тузін падманутых адрасатаў. Уілабі выклікаў міліцыю.

У лістападзе 1922 было арыштавана чатыры чалавекі, у тым ліку супрацоўнік АРА. Як выявіла следства, крадзяжы пачаліся яшчэ ў ліпені. Разам паводле фальшывых ордэраў было выдадзена каля 300 пасылак.

У снежні было арыштавана яшчэ чатыры чалавекі. Рабочы АРА Майсей Турэцкі прызнаўся, што выдаў як мінімум 150 пасылак на падробленыя дакументы.

ГПУ, якое вяло следства, забараніла згадваць пра яго ў друку: на волі заставаўся галоўны аўтар схемы й арганізатар аперацыі.

Як неўзабаве высветлілася, аферыстам аказаўся агент ГПУ Іофе, які карыстаўся таксама пашпартам на імя Шпільдорф. Ён здабыў пячатку барысаўскага натарыуса Страгуцкага, якой засведчваліся паперы. У ліку арыштаваных былі нехта Шпількін (ягоны пашпарт крыху змяніў Іофе), Вількес і Уросгаль. Апошнія двое атрымалі ад Іофе 354 мільёны рублёў кожны, а Турэцкі — 900 мільёнаў.

Злодзеяў судзіў Рэвалюцыйны ваенны трыбунал Мінска. На судзе ўсплыло прозвішча яшчэ аднаго супрацоўніка ГПУ — Ліпскага, таксама

вядомага як Моня Гарадзецкі, які вымагаў грошы з Турэцкага. ГПУ заявіла, што такога чалавека ў спісах няма.

АРА дамагалася вяртання скрадзенага, але амаль нічога немагчыма было вярнуць, нават калі было вядома, што амерыканская пасылка памылкова патрапляла не на той адрас. Так здарылася з жыхаркай Мінска Ганнай Адамайт, якая напачатку атрымала дзве карткі-запросіны наведаць склад АРА. Адну пасылку аплацілі бацькі, якія жылі ў Латвіі. Другая картка была выпісаная памылкова. Калі інспектары ў Рызе знайшлі памылку, яны запатрабавалі ад бацькоў даплаты й пагражалі судом. Дачка пісала ў мінскую кантору АРА:

> **Няўжо вы не можаце зразумець, што мае бацькі не маюць магчымасці заплаціць такую суму, як 10 даляраў! Яны ўжо дапамаглі мне ўсім, чым маглі. Таму я прашу ў гэтай справе звяртацца да мяне як да адрасата другой пасылкі. Але адначасова мушу сказаць, што я таксама ў цяжкім стане й яшчэ бяднейшая, чым мае бацькі. Дзесяць даляраў для мяне вельмі вялікая сума. Я ледзь зарабляю на жыццё. Што рабіць? Мяркуйце самі!!! Ці мушу я прадаць апошнюю сукенку на рынку, каб заплаціць за прадукты, выдадзеныя мне з-за вашай памылкі й даўно спажытыя? У кожным разе, не турбуйце маю маці.**

Справа цягнулася некалькі месяцаў. За гэты час Ганна Адамайт пераехала з Мінска ў Пскоў, і тады кіраўнік Мінскай акругі змог пераадрасаваць справу ў Петраградскую акругу, да якой належаў Пскоў.

Тымчасам узнікла новая з’ява — фальшывая АРА. У канторы АРА ў Віцебску, Мінску, Гомелі сталі прыходзіць людзі па пасылкі з прадуктамі й адзеннем, якія іхныя сваякі аплацілі ў Амерыцы. У АРА пра іх нічога не ведалі. Квітанцыі на атрыманне, перасланыя поштаю, выдалі арганізацыі, якія лучыла тое, што іх назвы мелі падабенства да АРА*.

Усе гэтыя дакументы яднала безліч памылак у ангельскай мове.

АРА не прымала іх да разгляду, і гэта ў сваю чаргу вяло да спрэчак і канфліктаў. Некаторыя пасылкі прыходзілі поштаю, але, каб іх атрымаць,

---

* Амерыканскае бюро даставы расейскай дапамогі падавала на квітанцыі свой адрас: Брадвей, 487, Нью-Ёрк і пазначала аддзяленні ў Берліне, Гамбургу й Петраградзе, а таксама ажно 60 прадстаўніцтваў у ЗША й Канадзе. Расейска-амерыканская перасылачная кампанія дапамогі ніякага зваротнага адрасу не давала. Кампанія расейскай дапамогі, паводле дакументаў, месцілася ў Нью-Ёрку на вуліцы Пэзл, 59—61. Ліст на такім бланку з Кліўленда ўпаўнаважваў адрасата ў Віцебску атрымаць пасылку, аплачаную амаль годам раней.

трэба было заплаціць мыта, якое перавышала кошт дапамогі. Тымчасам у ЗША было заведзена некалькі крымінальных справаў — амерыканскія газеты пісалі пра злоўжыванні й папярэджвалі пра небяспеку.

У Беларусі пра злоўжыванні таксама пісалі — але абвінавачвалі ў іх амерыканцаў. Габрэйская газета «Der Wekker» выкрыла сувязь сінагогі й мінскай канторы АРА:

**Рабочы Рубін Шнэйдэр расказвае: рабочаму Ізраілю Сагаловічу прысланая пасылка. Некалькі месяцаў таму ён памёр, і жонка пайшла атрымаць пасылку. Яна не мела пашпарта, і ёй не хацелі яе выдаць. Тады яна пайшла ў саюз шчотачнікаў, дзе атрымала два пасведчанні, што яна й ёсць Сагаловіч. Калі яна прыйшла з паперамі, той, хто выдае пасылкі, кінуў іх назад і заявіў: «Мы не прызнаём такіх цыдулак, прынясіце нам пасведчанне ад рабіна Лейзара, тады выдадзім». Рабін Лейзар выдаў пасведчанне. Калі яна прыйшла ў АРА, гэты дакумент прызналі, выдалі пасылку й сказалі: такія дакументы добрыя, мы іх прызнаём. Службоўцы АРА, відаць, забыліся, дзе яны знаходзяцца, што ў нас і «Der Wekker» у руках рабочых і толькі подпіс рабочага — сапраўдны.**

Упаўнаважаны Стакоўскі тэрмінова загадаў зрабіць пераклад і накіраваў яго Чарлзу Уілабі з патрабаваннем:

**Просім Вас даць вычарпальнае тлумачэнне па гэтым пытанні.**

Уілабі распарадзіўся правесці даследаванне. На адрас нябожчыка, пазначаны ў кнізе выдачы пасылак, паехалі прадстаўнікі АРА. Буня Сагаловіч напісала тлумачэнне:

**Звесткі ў нататцы Шнэйдэра цалкам не адпавядаюць сапраўднасці. Наадварот, мяне вельмі карэктна й ветліва прынялі ў канторы АРА. Пасылку мне выдалі пры першым паказанні маіх дакументаў. Цыдулку ад рабіна Л. Рабіновіча я ўзяла пасля парады сваёй знаёмай, а не з патрабавання канторы АРА.**

Высветлілася таксама, што Буня Сагаловіч не атрымлівала ніякіх дакументаў ад прафсаюза кушняроў, куды ўваходзіў муж-нябожчык. Уілабі напісаў адказ Стакоўскаму, у якім, выклаўшы вынікі даследавання, таксама выказаў просьбу:

**Просім Вас распарадзіцца пра надрукаванне зняпраўджання.**

Прыкладна ў той самы час, калі выкрываліся аферы й зняпраўджваліся абвінавачанні, Уілабі назіраў за рэйдам міліцыі на Камароўцы. Шукалі кансерваванае амерыканскае малако.

Напярэдадні рабаўнікі прабраліся ў склад дзіцячага дома й вынеслі 200 бляшанак малака з этыкеткамі АРА. Раніцай па трывозе былі паднятыя чырвонаармейцы, якім сказалі пра спецзаданне. Рынак акружыла таксама конная міліцыя. Спачатку агенты ў цывільным прайшліся ля прылаўкаў, выглядаючы тавар. Затым пачаўся татальны перагрус. Вынікі, аднак, былі сціплыя: сканфіскавана пяць бляшанак малака, арыштаваныя два гандляры.

Набеглі цікаўныя — за якое менавіта малако арыштоўваюць. Назаўтра кошты малака на рынку падскочылі з 2 да 4 мільёнаў. Малако прадавалася ў бляшанках, але ўжо з абарванымі этыкеткамі.

Уілабі прыйшоў да высновы, што дапамога павінна быць лепш пазначаная. Ён паведамляў:

> **На маю замову выробленыя дзве пячаткі:**
> **«А.Р.А. Мінск. Дар амерыканскага народа»**
> **і «А.Р.А. Мінск. Дар амерыканскага народа (рэчы могуць быць выкарыстаныя толькі ў дадзенай установе)»,**
> **каб персанал у шпіталях не падмяняў новую амерыканскую бялізну падранай, прынесенай з дому.**

Часова на працу былі ўзятыя адзін рабочы й адзін хлопчык, якія ставілі пячаткі на бляшанкі з малаком. Аднолькавыя бляшанкі выдаваліся ў харчовых пасылках, перадаваліся дзіцячым дамам ды ішлі ў араўскія кухні ў розных установах. Красці не будуць, вырашылі амерыканцы, калі на кожную бляшанку паставіць нумар.

У красавіку ГПУ й міліцыя правялі масавую аблаву на трох найбуйнейшых мінскіх рынках. На Камароўцы затрымалі 5 тысяч чалавек, пакуль не былі правераныя ўсе прылаўкі. Не было знойдзена ніводнай бляшанкі амерыканскага малака, ніводнай пары амерыканскіх чаравікаў, ніводнай прасціны з пячаткай АРА.

Ці сапраўды вынаходства Уілабі аказалася нагэтулькі эфектыўнае, ці чарніла на штампе ўсё ж можна было змыць...

# Малітва раздзетых: дай адзенне надзённае й пазбаў ад дзіравага

**Панчохі ад суседкі. — Завязваем матузкі. — Газета замест бялізны. — 25 тысяч чаравікаў для босых. — Малюнак з шыбеніцай. — Рэклама па-араўску. — Камуністы апранаюцца. — Гарнітуры для прафесуры**

Наведніца, якая завітала ў мінскую кантору АРА, пакідала прыемнае ўражанне: інтэлігентная, добра апранутая. Інтэлігентных людзей у Мінску ў 1920-я гады можна было сустрэць даволі часта, але вось прыстойна апранутыя інтэлігенты былі рэдкасцю. Аднак калі Чарлз Уілабі зрабіў наведніцы камплімент, яна ледзь не расплакалася. Уілабі пісаў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**Я хачу пераказаць, што распавяла нам гэтая маладая лэдзі. Вось яе словы: гэты капялюш — адзінае, што належыць мне. Паліто належыць цётцы, спадніца ад маці, туфлі й панчохі дала суседка. Мы чацвёра склаліся, каб я змагла прыйсці даведацца наконт пасылак.**

Уілабі любіў меладраматычныя дэталі й адчуваў важнасць эмацыйнай аргументацыі на карысць дадатковай дапамогі Беларусі*:

**Нямецкія вытворцы папяровага адзення, верагодна, запазычылі ідэю з Беларусі, бо прынцып тэўтонскай мануфактуры быў знайдзены тут. Газеты, абгортачная й васковая папера, у якой АРА пастаўляе тлушч, выкарыстоўваюцца як ніжняя бялізна. Вельмі часта можна пабачыць пад расхінутым палітом парваныя штаны ці панчохі, і праз дзіркі можна прачытаць тэкст з учорашняй газеты.**

Напрыканцы 1922 года мінская кантора АРА атрымала 3 тысячы пар абутку для размеркавання. Неўзабаве ў Маскоўскай штаб-кватэры разглядалі фотаздымак: кіраўнік акругі Чарлз Уілабі схіліўся перад 10-га-

---

* Яшчэ да АРА Уілабі займаўся журналістыкай у Нью-Ёрку й Вашынгтоне й пасля вяртання ў Амерыку стаў заснавальнікам і выдаўцом некалькіх газет. Падчас працы ў Беларусі многія ягоныя справаздачы перасылаліся з Масквы ў прэс-службу АРА ў Нью-Ёрку й распаўсюджваліся як прэс-рэлізы, цытаваліся ў друку.

довым хлопчыкам і завязвае яму матузкі на новых чаравіках. Уілабі не стамляўся шукаць аргументы й працягваў бамбаваць сваё начальства просьбамі:

**Калі можна змяніць размеркаванне абутку й шкарпэтак на карысць Мінскага рэгіёна, дык гэта трэба зрабіць. Ад Мінска да Масквы толькі 21 гадзіна. Калі б спадар Болдуін мог прыехаць на адзін дзень, мы б за 15 хвілін паказалі яму, як будуць размеркаваныя 3000 выдзеленых нам пар абутку, а цягам наступнай гадзіны пераканалі б яго, што толькі для горада патрабуецца ўтрая больш.**

Уілабі зноў і зноў настойліва нагадвае:

**Сем гадоў праз Беларусь праходзілі войскі, чатыры акупацыйныя арміі, і насельніцтва дагэтуль не акрыяла. Нам трэба 25 000 пар абутку й панчохаў і гэтулькі сама гарнітураў і сукенак. Гэта мінімум.**

АРА не магла апрануць і абуць цэлы народ, дый не холад, а голад быў яе галоўным праціўнікам. Уілабі, аднак, не губляў надзеі «выбіць» дадатковыя фонды:

**Новая вопратка практычна невядомая. Калі бачыш паліто, якое выглядае як новае, можна быць упэўненым, што гэта пераніцаванае старое. Цяпер яны шукаюць трэці бок сваёй старой вопраткі.**



Мала хто мог дазволіць сабе купіць новае адзенне на рынку. Разам з паляпшэннем харчовай сітуацыі падалі цэны на прадукты, але адначасова раслі на мануфактуру. Калі ў студзені 1922 за пуд жыта давалі 14 аршынаў мусліну ці фланэлі, дык праз год абмен ішоў адзін да аднаго. Калі напачатку толькі грузчыкі АРА хадзілі ў штанах і куртках з амерыканскага радна, дык праз год такую ж вопратку пачалі насіць і прадстаўнікі інтэлігенцыі.

У ноч на новы 1923 год у мінскую кантору АРА прыйшоў наведнік. Нікога з амерыканцаў не было на месцы, і тады, папрасіўшы паперу й асадку, ён прысеў за пісьмовы стол. Ліст атрымаўся кароткі, але не зусім звычайны: пасярэдзіне аркуша намаляваная шыбеніца й чалавечая галава ў пятлі. Наведнік паставіў подпіс — Мануэль Смольскі — і пакінуў ліст для перадачы кіраўніку акругі. Кароткія фразы вымалёўвалі драматычную й досыць звычайную гісторыю.

**Я блукаю без мэты па вуліцах Мінска ў рыззі, абутку й адзенні не майго памеру. Мне няма чаго есці. Маё паліто дарэшты парванае. Мне пагражае смерць, бо няма хлеба. Я хачу скончыць жыццё, як паказана на малюнку. Я не хачу ўжываць звычайнае слова «павесіцца», і таму зрабіў малюнак.**

Мануэль Смольскі пісаў, што раней працаваў у гарадской управе, Наркамземе, але захварэў, застаўся без працы, без хлеба й вопраткі. Ліст з мінскім малюнкам з Масквы пераслалі ў офіс АРА ў Лондане, а пасля ў ЗША. Уілабі не стамляўся дадаваць новыя й новыя аргументы — пакуль яго не пачулі.

Мінакі ў цэнтры Мінска спыняліся, як зачараваныя: за шклом вітрынаў стаялі прыгожыя дзяўчаты, усміхаліся гледачам і паказвалі на раскладзеныя й развешаныя рэчы. Плякат з надпісам «АРА» тлумачыў амерыканскі стыль рэкламы:

**Ці ёсць у вас сябры або сваякі ў Амерыцы ці Еўропе? Калі так, прыходзьце ў кантору АРА ў Мінску, там вам растлумачаць, якім чынам атрымаць рэчавую пасылку за 90 рублёў.**

Дзяўчаты дэманстравалі багацце, якое лёгка ператварала абадранца ў саліднага чалавека. У пасылачны набор уваходзіў ваўняны матэрыял для аднаго гарнітура ці сукенкі з падшэўкай, гузікамі й іншымі прыладамі. Да гэтага дадавалася палатно для дзвюх пар ніжняй бялізны, фла-

нэль для дзвюх мужчынскіх кашуляў ці дзвюх жаночых блузак. Таксама прыкладаліся ніткі, іголкі, гузікі і ўвесь ніжні прыклад для шыцця бялізны*.

У вітрыне таксама былі раскладзеныя ўзоры паштовак на беларускай, габрэйскай, польскай і расейскай мовах. У канторы АРА можна было ўзяць бланкі, купіць маркі на 90 рублёў — менавіта гэтулькі каштавала перасылка паштоўкі ў Еўропу і ў Амерыку, і на месцы здаць для адпраўкі. Пошта да ЗША даходзіла за 17 дзён, і недзе праз месяц можна было атрымаць выклік: вам пакет.

Рэкламная кампанія працягвалася па ўсёй Беларусі. Дзяўчаты працавалі ў мінскіх вітрынах ад 9-й раніцы да 10-й вечара; плакаты-тлумачэнні былі развешаныя ва ўсіх памяшканнях АРА, абвесткі змешчаныя ў друку. Кіраўніцтва чыгункі паабяцала Уілабі развесіць плакаты на кожнай са сваіх 51 станцыяў; з дырэктарамі кінатэатраў удалося дамовіцца, каб перад пачаткам сеансаў паказвалі слайды з рэкламай АРА; такую ж дамову заключылі з мясцовай тэатральнай трупай.

Блакітныя,чырвоныя й белыя плакаты з тэкстам абвесткі былі зробленыя на тканіне й прымацаваныя на аўтамабілях АРА, якія двойчы на дзень па гадзіне раз’язджалі па мінскіх вуліцах. Нават Стакоўскі асабіста перадаў паўтары тысячы картак у некалькі прафсаюзных камітэтаў дзеля раздачы чальцам саюза. Уілабі адкрыў у канторы спецыяльны аддзел пад назвай «Зніклыя сваякі». Тыя, хто не ведаў поўнага адрасу сваіх родных ці знаёмых у Амерыцы, усё роўна мог запоўніць картку, а габрэйская газета «Forward» («Наперад») у Нью-Ёрку паабяцала друкаваць запыты на сваіх старонках.

Гуманітарная дапамога збівала цэны, і гэта не ўсім падабалася. Спрабавалі пратэставаць прадаўцы гатовага адзення. Аднак Уілабі знайшоў саюзнікаў сярод краўцоў. Амерыканцы патлумачылі, які бум будзе для іхнага бізнесу, калі ўдасца да Калядаў размеркаваць 25 тысяч пасылак.

Нават камуністы не маглі супрацьстаяць націску Уілабі. Бабруйская газета «Коммунист» пісала:

**У рэчавых пасылках, як і ў харчовых, — вылучна першакласны матэрыял найвышэйшай якасці. Матэрыял не скроены — з мэтаю,**

---

* Рэчавая пасылка разам з дастаўкай каштавала амерыканскім адпраўнікам 20 даляраў. На рынку ў Мінску пасылку перапрадавалі ўдвая даражэй.

**каб кожны мог пашыць з яго што трэба адпаведна з неабходнасцю й густам.**

Краўцы імгненна зразумелі сваю выгаду, і ў газетах сталі рэгулярна з'яўляцца прыватныя абвесткі пра пашыў адзення з матэрыялаў АРА. Як пісаў Уілабі:

**Нават калі краўцы не здолеюць дамовіцца між сабой пра цэны, іхная барацьба толькі дадасць нам папулярнасці.**

Намаганні Чарлза Уілабі апрануць жыхароў Беларусі й амерыканская рэкламная кампанія выклікалі бурную рэакцыю. Ужо ў першы дзень было запоўнена 300 паштовак, і неўзабаве Уілабі тэлеграфаваў у Маскву, каб прыслалі дадаткова 10 тысяч картак.

Энтузіязм Уілабі аказаўся заразлівы. Аднойчы ў студзені ў кантору АРА прыйшоў наведнік, які вылучаўся нават на стракатым фоне жыхароў паваеннага Мінска. Уражаны кіраўнік акругі паслаў у Маскоўскую штаб-кватэру падрабязнае апісанне візіту, у якім параўноўваў госця са знакамітымі амерыканскімі акцёрамі й персанажамі:

**Фрэд Стоўн выглядаў бы дробным скнарам, нябожчык Нэт Вілз звычайным аматарам, Пыльны Шлях і Стомлены Вілі з коміксаў беднымі імітатарамі побач з узорам чалавечай расы, які напярэдадні праслізнуў у офіс АРА, каб узяць картку на замову вопраткі. Ён быў у рыззі. Ніводная вар'яцкая падшываная коўдра з абрэзкаў нават блізка не можа мець столькі разнастайных латак усіх колераў, абрысаў і формаў, як вопратка, што прыкрывала цела наведніка. На маскарадзе ён атрымаў бы першы прыз, аднагалосна й бясспрэчна. Аднак ён насіў свае лахманы, як каралі носяць гарнастаевую мантыю.**

Але не толькі маляўнічы выгляд уразіў Уілабі. Наведнік загаварыў па-ангельску, ды так, што супрацоўніку АРА, які шэсць гадоў працаваў у Амерыцы, стала сорамна за сваю мову. Тады да наведніка звярнуўся мясцовы супрацоўнік-паляк, і той адказаў на выдатнай польскай. Тое самае, пісаў Уілабі, адбылося з мовай габрэяў, загадкавы наведнік адказваў па-нямецку, французску, латышску й чэшску:

**Нарэшце, каб канчаткова выпрабаваць яго, уключыўся супра-**

**цоўнік-беларус. У адказ імгненна прагучала знаёмая беларуская гаворка.**

Наведнік дастаў з-пад лахманоў шэсць картак з выклікам на атрыманне пасылак з вопраткай, якія ўразілі Уілабі яшчэ больш, чым усё папярэдняе:

**Калі гэты наведнік не атрымае шэсць пасылак з вопраткай ад вядомага брокера з Уол-Стрыт, ад знакамітага вашынгтонскага дыпламата, ад сталёвага магната з Пітсбурга, ад пэўнай папулярнай асобы найвышэйшага свету Нью-Ёрка, ад уплывовага выдаўца з Чыкага й ад папулярнага амерыканскага спартоўца, дык толькі таму, што гэты малады чалавек не належаў да арыстакратыі, ніколі не быў у Штатах, але мае свой уласны друкарскі станок, на якім і надрукаваў карткі.**

Сустрэча з паліглотам-круцялём не астудзіла энтузіязму Уілабі, які распачаў новую кампанію дапамогі вельмі важнай, на ягоную думку, катэгорыі насельніцтва. Ён пісаў свайму начальству ў Маскву:

**Так здарылася, што інтэлігенцыя дагэтуль была больш-менш забытая. Гэта не вылучная віна АРА. З прычыны вялікае нястачы нашая дапамога была размеркаваная яшчэ да таго, як мы змаглі разгледзець асабістыя звароты. Як вядома, прафесары, настаўнікі, музыканты, інжынеры, юрысты самыя апошнія выходзяць наперад, каб папрасіць нешта для сябе асабіста.**

Лекцыі не чытаюць у паліто, — так тлумачыў кіраўнік акругі сваё рашэнне перадаць першыя рэчавыя пасылкі ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт:

**Першыя 19 пасылак адзення былі перададзеныя 19 універсітэцкім прафесарам, якія былі апранутыя значна горш, чым прыдатна для іх працы. Яны мусілі не толькі пераносіць холад у рыззі, але, што горш, мусілі штодня прыходзіць так чытаць лекцыі ў вялікай аўдыторыі. Зняць паліто ў такой аўдыторыі, незалежна ад тэмпературы й працягласці лекцыі, было для іх немагчыма — з прычыны гонару.**

Харчовыя пасылкі дапамагалі перажыць дзень, рэчавыя дапамагалі выжыць.

Многія гады пасля адʼезду амерыканцаў у Беларусі будуць насіць спадніцы й гарнітуры, пашытыя з араўскай тканіны. Іх уладальнікі будуць пазнаваць адно аднаго — але будуць навучаныя, што хваліць амерыканскую якасць ужо не час.

## Дзеці, дзеці, дзеці: Мінск выходзіць наперад

**Згубіла дачку. — Аргументы для прэсы. — Брызент замест чаравікаў. — Рацыён павялічаны. — Немарксісцкія парады. — 1 тысяча пудоў мыла. — Амерыканскі аўкцыён без амерыканцаў. — Педыятры ад АРА**

**Ёй было тры гады,**
**Яна гаварыла толькі на цяжкай мове беларусаў,**
**Яна была напалоханая.**

Так пачыналася нататка для амерыканскае прэсы, якую напісаў Чарлз Уілабі. Такія публікацыі спрыялі збору ахвяраванняў у ЗША для дзяцей, якіх карміла, лячыла й апранала АРА ў Беларусі.

**Магчыма, яе звалі Таццяна. Напэўна сказаць цяжка, бо:**
**Ёй было тры гады,**
**Яна шапялявіла,**
**Яна гаварыла толькі на цяжкай мове беларусаў,**
**Яе пакінулі адну,**
**Яна была напалоханая.**
**Яна сядзела ў пакоі выдачы пасылак АРА ў Мінску й не ведала, што рабіць.**

Паўтузіна супрацоўнікаў спрабавалі высветліць, як дзяўчынка тут апынулася. Пару гадзінаў перад тым яна прыйшла разам з маці, якая чакала пасылку з пшанічнай мукой, цукрам і какавай. Ёй паведамілі, што пасылкі выдаюць у суседнім складзе. Маці патлумачылі, як яго знайсці, і яна пабегла, пакінуўшы дзіцё. Праз колькі гадзінаў напалоханая малая звярнула на сябе ўвагу.

Уілабі пісаў:

**Беларуская мова адрозніваецца ад расейскай. Малая была напалоханая, і цяжка было ўведаць яе адрас. Калі офіс зачыніўся, нехта ўзяў яе да сябе. Наступнай раніцай бяспамятная маці з'явілася ў доме, дзе жылі амерыканцы, і забрала дачку. Узрушаная пасылкаю з ежай, якая была большая, чым яна меркавала, — а ежы было на суму 10 даляраў, унесеных сваяком у Штатах, — маці забылася на дачку.**

Меладраматычны стыль, які Уілабі часам ужываў у сваіх паведамленнях, меў на мэце перш за ўсё прыцягнуць дадатковую дапамогу дзецям у Беларусі. Нягледзячы на канфлікты з уладамі, ГПУ, прафсаюзамі, Уілабі закідваў цэнтральны офіс просьбамі:

**Найвялікшая патрэба Беларусі сёння — абутак і вопратка для дзяцей. Зімой надта халодна, а дзеці практычна распранутыя, маюць толькі летняе адзенне. Мінскай акрузе тэрмінова трэба 25 тысяч пар абутку з панчохамі й сама меней 20 тысяч камплектаў адзення для хлопчыкаў і дзяўчатак.**

Паводле ацэнкі Уілабі, урад клапоціцца пра дабрабыт і адукацыю дзяцей Беларусі больш, чым дзе-кольвек. Аднак бракуе грошай, і вучыцца дзецям зусім не проста:



**Школы такія перапоўненыя, што даводзіцца займацца ў начную змену. На вуліцах Мінска можна назіраць даволі звычайную карціну, калі васьмі- ці дзесяцігадовыя дзеткі з падручнікамі пад пахай ці ў заплечніку а 10-й вечара вяртаюцца з заняткаў.**

Але гэтая акалічнасць для Уілабі — толькі нагода для наступнага назірання, якім ён спяшаецца падзяліцца:

**Гэтыя дзеці ходзяць ці басанож, ці ў абутку, які не надта беражэ ногі. Шмат у каго брызентавыя чаравікі. Бальшыня дзяцей у сіроцкіх дамах носіць абутак з тканіны, у якім не выйдзеш на двор.**

Калі на складах АРА няма патрэбнай вопраткі й абутку, няхай бы замовілі ў іншых гуманітарных арганізацыях, пераконвае Уілабі сваё начальства:

**У нашым рэгіёне ў пяці дзіцячых дамах 2500 дзяцей практычна распранутыя. Клімат тут халодны. Мы лічым, што нястача ў Беларусі вялікая, калі не найбольшая, чым ва ўсіх астатніх рэгіёнах, за выняткам Волгі. Просім выдзеліць нам як мінімум 15 тысяч пар абутку й панчохаў. Калі магчыма, могуць быць выкарыстаныя 25 тысяч, і кожная пара пойдзе дзіцяці, якое інакш застанецца басанож.**

Араўцы не забываліся й пра бацькоў. Калі ў Мінску абвясцілі Тыдзень ратавання маці й дзіцяці, на распараджэнне Уілабі амерыканскія аўтамабілі, якія раз’язджалі гарадскімі вуліцамі, былі абсталяваныя плакатамі з парадамі для маці й цяжарных.

Плакаты былі таксама развешаныя па горадзе, выстаўленыя ў вітрынах, газеты змяшчалі парады амерыканскіх лекараў. «Звезда» надрукавала антымарксісцкі артыкул Фрэнка Вілі. Публікацыя расказвала пра доктара Фрэнсіса Галтана й еўгеніку — навуку, паводле якой інтэлект і фізічныя здольнасці перадаюцца ў спадчыну. Клопат пра маці й догляд дзіцяці, даводзіў Вілі, вядзе да паляпшэння ці пагаршэння фізічнага й псіхічнага здароўя наступных пакаленняў*.

---

* У інтэрв’ю для амерыканскай прэсы ў траўні 1923 Вілі асабліва адзначаў мясцовых лекараў: «Нідзе ў Расеі не цанілі амерыканскую медычную дапамогу больш, чым у Мінску. Лекары заўсёды жвава цікавіліся амерыканскай грамадскай сістэмай аховы здароўя й гігіены. Я часта даваў ім нумары медычных часопісаў і літаратуру, якую дасылалі мне з дому, з чаго яны надта цешыліся».

Галоўным клопатам АРА заставалася пакаленне цяперашняе: увосень 1922 амерыканскае харчаванне атрымлівалі дзеці ў больш чым сотні прытулкаў. 21 лістапада «Звезда» пісала:

**Цягам апошніх 5-ці месяцаў мінскай канторай АРА размеркавана ў дзіцячых дамах і шпіталях 12 500 ваўняных коўдраў. Кошт кожнай — 12—16 залатых рублёў. Ад чэрвеня АРА было арганізавана ў дзіцячых дамах каля 2 мільёнаў памывак. Дзеля гэтага было выдаткавана 1000 пудоў звычайнага й 260 пудоў туалетнага мыла.**

Выдача рацыёнаў харчавання ўцекачам, дзіцячым дамам і шпіталям штодня дасягнула 20 тысяч. А ў лістападзе дзеці й хворыя атрымалі амаль мільён рацыёнаў. Лекар Фрэнк Вілі так апісваў адну асаблівасць медычнай дапамогі дзецям:

**Рыбін тлушч, які атрымлівала Мінская акруга з медычных складоў АРА, быў вельмі карысны, але спосаб ужывання выклікаў здзіўленне. Яны пілі яго, як ваду, макалі хлеб і нават аблізвалі з пальцаў.**

Патрабаваўся не толькі харч. Справаздачы з Мінска ў штаб-кватэру ў Маскве поўныя сабраных інспектарамі падрабязнасцяў пра ўмовы ў дзіцячых дамах Беларусі:

**...Дзіцячы дом на Захар'еўскай вуліцы, 98 дзяцей плюс 15 дзяцей — уцекачоў з Волгі. Спальні ў жахлівым стане. Ложкаў не хапае, і 3—4 дзяцей спяць у адным. Дзеці з Волгі спяць на голых дошках. Няма ніводнай прасціны й наўлечкі. Штотыдня дзяцей водзяць у лазню, але паколькі няма зменнай бялізны, вынік нулявы. Большыня не мае абутку, амаль ні ў кога няма цёплай вопраткі, таму яны не ходзяць у школу...**
**...Дзіцячы дом на Падгорным завулку*, 120 габрэйскіх дзяцей. На ложках толькі па адной прасціне, шмат дзяцей хворыя на заразную каросту; розныя медыкаменты, якія яны ўжываюць, канчаткова знішчылі бялізну. Яны ізаляваныя, не маюць панчохаў і абутку...**

У снежні ў Беларусі праходзіла кампанія дапамогі дзецям: збіраліся ахвяраванні, праводзіліся латарэі, дабрачынныя канцэрты. У оперным

---

* Пралягаў паміж сучаснымі вул. Кірава й Першамайскай ад вул. Я. Купалы да Чырвонаармейскай. Цяпер тут сквер.

тэатры меў прайсці «Амерыканскі аўкцыён» — амерыканцы да яго не мелі ніякага дачынення, такая назва захавалася здавён. Меркавалася сабраць 600 мільярдаў рублёў. Гэтых грошай мусіла хапіць на 2500 жалезных ложкаў і на 10 тысяч камплектаў ніжняй бялізны, адзення й паліто адпаведна. Таксама неабходна было купіць ваконнае шкло, фарбу, сантэхнічны й пячны рыштунак. Амерыканцы сумняваліся, ці ўдасца сабраць хоць палову велізарнай сумы, але пагаджаліся, што патрэбы ацэненыя правільна.

Уілабі пісаў у штаб-кватэру:

**Калі б АРА паставіла вопратку, абутак і панчохі, коўдры й пасцельную бялізну, тады сабраныя сродкі пайшлі б выключна на капітальны рамонт дзіцячых дамоў і на набыццё дроваў. Урад можа даць толькі 1/8 кубаметра дроваў на адну печку на месяц. У такім халодным клімаце абсалютна неабходна прынамсі 7/8 на печку. Зіма толькі пачалася, але ртутны слупок ужо дасягаў 15 градусаў марозу з паўтузіна разоў за апошнія тры тыдні. Дзеці не могуць выйсці на вуліцу з-за браку вопраткі. Праўда, яны маюць дастаткова фізічнай нагрузкі ў закрытых памяшканнях, бо мусяць цэлы дзень рухацца, каб не змерзнуць.**

Амерыканцы аддалі свае грузавікі дастаўляць дровы з чыгуначнай станцыі ў дзіцячыя дамы. Чарлз Уілабі не стамляўся шукаць аргументы, якія б дазволілі павялічыць дапамогу дзецям. У снежні ён звярнуўся да ўпаўнаважанага Стакоўскага:

**АРА штодня размяркоўвае 285 тысяч рацыёнаў ва Украіне й Беларусі. На Беларусь прыпадае 20 тысяч. Ці не маглі б вы як найхутчэй паведаміць мне пра эканамічныя ўмовы ва Украіне? Тады мы здолеем параўнаць іх з умовамі ў Беларусі й дазнацца, ці можна разлічваць на павелічэнне рацыёнаў для Беларусі. Мы іх атрымаем, калі гэта акажацца неабходным.**

Уілабі прасіў інфармацыю як найхутчэй, да размеркавання паставак на наступны месяц. Стандартны дзіцячы рацыён АРА складаўся з разліку 600 калорыяў на дзень. Ужо 6 студзеня 1923 Уілабі змог напісаць Стакоўскаму пра вынікі сваіх намаганняў:

**Мне вельмі прыемна паведаміць вам, што ад 1 лютага памер араўс-**

**кага рацыёну ў Беларусі будзе павялічаны прыкладна на 25%. Гэтага рацыёну будзе даволі для падтрымання дзіцяці да 14 гадоў.**

У студзені 1923, да гадавіны адкрыцця Мінскай акругі, некалькі амерыканскіх газет змясцілі прэс-рэліз АРА з лістом Уілабі:

**Кожны супрацоўнік, які хаця б тыдзень меў дачыненне да працы кухняў АРА, ведае больш розных спосабаў, як не даць дзіцяці-ўцекачу праглынуць кубак, з якога пілі какаву, чым расеец можа знайсці нагодаў для святаў. Праз месяц ці два ён становіцца педыятрам; ён таксама дасведчаны кухар і яшчэ лепшы шэф-кухар; ён можа так запаліць мокрыя дровы ў разбітай печцы, што пазайздросцяць індзейцы; ён агулам можа высветліць, што здарылася з аўтамабілем, і адрамантаваць яго хутчэй, чым растлумачыць гэта мясцоваму шафёру, які ўсё роўна нічога не разумее.**

Але найбольш Уілабі ганарыўся яшчэ адной кваліфікацыяй, якую набылі супрацоўнікі мінскага офіса:

**Цяпер, калі прыйшоў абутак для дзяцей, супрацоўнік АРА стаў сапраўдным абутковым спецыялістам. Аднаго позірку на пару ног, загорнутых у рыззё ці радно, дастаткова, каб у 9 з 10 выпадкаў вызначыць патрэбны памер. Мы, зразумела, усё роўна мераем іхныя ногі. Наш цясляр зрабіў некалькі мерак, і, на вялікае здзіўленне дзяцей, яны цяпер атрымліваюць чаравікі, якія не ціснуць і не такія вялікія, каб іхныя старэйшыя браты маглі забраць іх сабе.**

Калі ў Маскоўскай штаб-кватэры падводзілі вынікі года, усе акругі былі расстаўлены паводле эфектыўнасці харчавання дзяцей у разліку на аднаго супрацоўніка. Намеснік кіраўніка АРА Сірыл Квін рэкамендаваў тым акругам, дзе лічба была меншай за тысячу, падумаць над рэарганізацыяй працы.

З 17 акругаў гэтая парада не тычылася толькі адной: 1052 дзіцяці ў разліку на аднаго супрацоўніка ў снежні кармілі ў Мінску.

# Першая гадавіна АРА: віншуюць самі сябе

**Вечарына без гасцей. — Зноў мала грошай. — Рэкордныя даставы. — Чайная дыпламатыя. — Шчыраванні Стакоўскага. — Экспарт падчас голаду. — Бессардэчнасць як неабходнасць. — Пахвалы без пратаколу**

Тэлеграфіст набіраў адрас: АРА, 42 Брадвей, Нью-Ёрк, Герберту Гуверу, з Мінска:

**Шлём сардэчныя вітанні старшыню Герберту Гуверу ў першую гадавіну аперацыяў АРА ў Мінску. Няхай нашая супольная праца працягваецца на карысць гуманізму.**

Тэлеграма была падпісаная не кіраўніцтвам Беларусі, не галоўнымі лекарамі шпіталёў, якія атрымлівалі амерыканскія медыкаменты й абсталяванне, не дырэктарамі сіроцкіх дамоў, якія кармілі дзяцей араўскімі рацыёнамі. Гувера віталі самі мясцовыя супрацоўнікі мінскай канторы АРА.

Святкаванне гадавіны было прызначанае не на 8 студзеня — дзень, калі ў 1922 годзе першы цягнік з амерыканскімі грузамі прыбыў у Мінск, а тыднем пазней, калі была выдадзеная першая харчовая пасылка. Гасцей чакалі 15 студзеня ў доме амерыканскага персанала на Захар’еўскім завулку.

Спачатку ўпаўнаважаны ўрада Мар’ян Стакоўскі паабяцаў арганізаваць святкаванне ад імя ўладаў. Планаваліся выступы наркамаў, меркавалі запрасіць старшыню ўрада Аляксандра Чарвякова, іншых высокапастаўленых асобаў.

Аднак у апошні момант упаўнаважаны паведаміў, што ў дзяржавы скончыліся грошы (на вечарыну патрабавалася 25 мільярдаў рублёў) і ніхто з наркамаў не прыйдзе.

Тады мясцовыя супрацоўнікі АРА самі сабралі грошы й паслалі віншавальную тэлеграму Герберту Гуверу.

Аркестр суседняга 8-га пяхотнага палка быў запрошаны раней, запросінаў адмяняць не сталі. Усе сабраліся ў доме амерыканскага персанала, былі агучаныя віншавальныя тэлеграмы, а затым прачыталі ліст

падзякі амерыканцам, пад якім паставіў подпіс кожны мясцовы супрацоўнік.

Пад духавую музыку, з гарэлкай і прынесенаю з дому закускаю адсвяткавалі гадавіну ў сваім коле. З гасцей быў адзін Стакоўскі.

Падчас вечарыны гаварылі й пра справы. Напачатку студзеня амерыканцы не маглі забраць свае грузы з чыгункі: іх не падпускалі да вагонаў з прадуктамі без папярэдняй аплаты фрахту. Чыгунка не падпарадкоўвалася мясцовым уладам. Уілабі бамбаваў Маскву тэлеграмамі, прасіў умяшання Ландэра. Тэлеграмы Стакоўскага на імя Ландэра таксама заставаліся без адказу. Амаль тыдзень 16 вагонаў стаялі неразладаваныя.

Грошы сталі галоўным клопатам мінскай канторы напачатку года. У Беларусі не выконвалі новай дамовы, паводле якой мясцовыя ўлады меліся цалкам фінансаваць выдаткі АРА, улучна з заробкам неамерыканскага персанала, і пакрываць вытворчыя выдаткі.

Сума, якую акруга атрымлівала раз на месяц з Маскоўскай штаб-кватэры на пабежныя выдаткі, скончылася ў першыя дзесяць дзён. Уілабі тлумачыў у справаздачы:

**Ужо два месяцы з Масквы не было ніякіх даставаў бензіну. У выніку ўсе ўрадавыя грузавікі й аўтамабілі застаюцца ў гаражах. Ва ўрада няма грошай на бензін для нас. Мы мусілі купляць паліва на рынку за грошы, што атрымалі з Масквы. Цэны надзвычай высокія, бензін у асноўным перапрадаюць шафёры, механікі, рабочыя з дзяржаўных гаражоў. З 36 тысяч рублёў нашага бюджэту мы ўжо аддалі на бензін 5 тысяч*.**

Запчасткі, якія дастаўляліся кантрабандай з Польшчы, можна было набыць толькі на рынку й па надзвычайных коштах. Уілабі пісаў:

**Адзіны вулканізатар у горадзе цяпер у турме, і хаця нас не цікавяць прычыны ягонага арышту, мы паспрабавалі схіліць ГПУ выпускаць яго няхай бы раз на тыдзень, каб ён мог даглядаць нашыя шыны. Аднак наш уплыў пакуль не сягае гэтак высока.**

---

* У Мінскай акрузе было чатыры машыны: «Кадылак-турынг» магутнасцю 45 конскіх сілаў, «Додж-седан» — 24 конскія сілы, і два трохтонныя грузавікі — «Уайт» і «Пакард». Тэхніка з’ядала за месяц 130 пудоў бензіну, 5 пудоў машыннага алею, 4 пуды тавоту й 4 пуды газы.



Яшчэ 12 тысяч рублёў пайшлі на аплату рахункаў мінулага месяца, 4 тысячы — на выраб кантэйнераў для выдачы топленага сала. Грошы ішлі на рамонт складоў, аплату працы падрадчыкаў і перавозчыкаў. Хаця кошт рубля вагаўся нязначна, цэны надалей раслі. Уілабі прыводзіў афіцыйную статыстыку за снежань:

**Цана на чорны хлеб узрасла з 280 тысяч рублёў за фунт да 320 тысяч; на белы хлеб з 500 тысяч да 600 тысяч, бульба не падаражэла, капуста падскочыла ад 60 мільёнаў за пуд да 75 мільёнаў, а цана на яйкі вырасла з 483 тысяч да 650 тысяч за тузін.**

Пасля першай шасцідзённай затрымкі грузаў чыгункай у Мінску з трывогай чакалі, што адбудзецца з новымі даставамі — пасля Новага года на адрас АРА былі адпраўленыя 35 вагонаў. Але новую партыю ўдалося атрымаць без цяганіны: савецкія ведамствы часова паразумеліся.

У студзені АРА атрымала 59 вагонаў прадуктаў і два вагоны медычных матэрыялаў — найбольшы аб'ём даставаў за ўвесь час працы. У справаздачы Уілабі адзначыў яшчэ адну прыемную рэч:

**Газеты ў гэты перыяд былі выключна шчодрыя з месцам на паласе. Мы атрымалі 14 згадак у дзвюх вялікіх мінскіх штодзённых газетах на працягу 15 дзён (без уліку дзвюх аплачаных намі абвестак).**

Уілабі прыклаў да справаздачы газетныя нататкі, прысвечаныя АРА, а таксама рэцэнзію на кнігу амерыканскага сенатара Пэтыгру «Плутакратыя» й памфлет «аддзела прапаганды Беларусі» як узор агітацыі супраць елак і Дзеда Мароза, што лічылася буржуазным перажыткам.

Кіраўніцтва АРА цаніла й заахвочвала такія рэчы, якія давалі магчымасць адчуць мясцовае жыццё за калонкамі лічбаў. Тымчасам Маскоўская штаб-кватэра пачала ўдакладняць планы на 1923 год. У студзені Уілабі атрымаў просьбу ад свайго начальства: запрасіць савецкага ўпаўнаважанага на шклянку гарбаты, каб у нефармальнай атмасферы высветліць настроі й ацэнкі.

Самавара ў мінскай канторы АРА не было. Амерыканцы пілі каву, якую замаўлялі праз Маскоўскую штаб-кватэру й прывозілі з Польшчы, а таксама распушчальную гарбату. Наўрад ці буры парашок, які Уілабі паставіў на стол, быў найлепшым пачастункам для абмеркавання вострай тэмы — ці варта надалей даваць хлеб тым, хто сам яго прадае.

Нягледзячы на голад, з Беларусі вывозілі збожжа ў Расею: у Саратаўскую губерню й Чувашыю было адгружана 230 тысяч пудоў насеннага жыта. Але гэта лічылася ўнутранай справай. Міжнародны скандал выбухнуў пазней.

У лістападзе 1922-га, калі галадалі 36 мільёнаў чалавек і штодня ад недаядання заўчасна паміралі тысячы людзей, у Маскве Палітбюро пад старшынёўствам Леніна прыняло сакрэтную пастанову:

**Прызнаць дзяржаўна неабходным вываз збожжа ў памеры да 50 мільёнаў пудоў*.**

Гэты дакумент будзе схаваны ў архівах наступныя сем дзесяцігоддзяў. Але маштаб аперацыі быў такі, што не дапамаглі ніякія грыфы сакрэтнасці. Амерыканскі друк імгненна абляцела паведамленне пра бізнес па-бальшавіцку. У Наварасійскім порце грузілі збожжа й муку. З трумаў аднаго карабля грузчыкі выносілі мяхі з адзнакай «АРА» й пе-

---

* Гісторык Д. Валкагонаў, які прыводзіць гэтую цытату з архіваў Палітбюро ў кнізе «Ленін. Политический портрет», называе прынятую 7 лістапада 1922 пастанову «па-сапраўднаму злачыннай».

ракідвалі іх у вагоны, якія чакалі адпраўкі ў раёны голаду. Побач мяхі з мукой і збожжам рухаліся ў адваротным кірунку: загружаўся параход, які меў везці расейскія тавары на экспарт.

Расея вывозіла хлеб, адначасова атрымліваючы дапамогу ЗША. Амерыканская прэса, палітыкі й публіка задавалі пытанне: ці не прыйшоў час спыніць аперацыі АРА.

Гэтае пытанне першым і закрануў Мар'ян Стакоўскі, калі пакаштаваў амерыканскага распушчальнага напоя. Пазіцыя ўпаўнаважанага ў перказе Уілабі выглядала наступным чынам:

**АРА не павінна цяпер пакідаць Беларусь. Дзве траціны дзіцячых дамоў у Беларусі зачыняцца праз месяц пасля вашага ад'езду. Сёлетні ўраджай не дазволіць Беларусі самастойна стаць на ногі. Колькасць тых, каму трэба дапамога, занадта вялікая. Праз 15 месяцаў будзе іначай. Пасля лета 1924 года я асабіста не бачу, як Расея можа дазволіць любой замежнай арганізацыі дапамогі размяркоўваць харчаванне на сваёй тэрыторыі. Расея павінна ператварыцца з атрымальніка ў пастаўшчыка сваіх уласных прамысловых тавараў і сыравіны.**

Стакоўскі тлумачыў, што, пакуль краіна будзе атрымліваць харч з Амерыкі ці іншых месцаў, ейных фінансавых і гандлёвых прадстаўнікоў не будуць паважна прымаць за мяжой. Упаўнаважаны, аднак, прызнаваў, што пакуль колькасць тых, каму патрэбная дапамога, занадта вялікая і ўрад яшчэ не можа ахвяраваць іхнымі інтарэсамі дзеля вонкавага палітычнага й камерцыйнага прызнання.

Аднак на практыцы савецкі ўрад пастурпаў менавіта такім чынам. Чарлз Уілабі спытаўся пра гандаль хлебам, які Масква пачала, не зважаючы на голад у краіне. Як растлумачыць амерыканскай публіцы, чаму трэба пасылаць бясплатны харч у Расею, калі яна экспартуе хлеб?

Стакоўскі тлумачыў:

**Палітыка ёсць гульнёй у шахматы. Расея хоча павялічыць свой крэдыт. Дзеля гэтага яна павінна паказаць, што стала на шлях эканамічнага адраджэння. Ніхто лепш за амерыканцаў не ведае, што ў Расеі няма лішкаў харчавання. Аднак каб атрымаць прызнанне, атрымаць крэдыты, нават малыя, урад мусіць рабіць крокі, якіх асобныя людзі не могуць зрабіць.**

Гаспадары налілі яшчэ гарбаты й задалі наступнае пытанне — пра інцыдэнт у Наварасійску. Стакоўскі даводзіў:

> **Памылка, зробленая там, палягала ў тым, што начальнік порта ні ў якім разе не павінен быў даваць дазвол двум караблям адначасова швартавацца ў адным порце. Ён мусіў затрымаць адгрузку расейскага харчу, пакуль не разгрузіўся амерыканскі карабель.**

Даставы харчу, на думку Стакоўскага, умацавалі давер да Расеі ў свеце. На трывожны запыт амерыканцаў Масква заявіла, што спыніць экспарт, калі ЗША пазычаць грошы. Гувер катэгарычна адмовіўся дапамагаць бальшавіцкаму ўраду крэдытамі й выступіў з абвінавачаннем:

> **АРА пратэстуе супраць антыгуманнай палітыкі ўрада забіраць хлеб на экспарт ад людзей, якія галадаюць, каб набыць тэхніку для паляпшэння эканамічных умоваў тых, хто выжыве. Любое падобнае дзеянне ўскладае беспасярэднюю адказнасць за смерць дзясяткаў мільёнаў людзей на ўладу і ўрад.**

Глынуўшы гарбаты, Мар'ян Стакоўскі даверліва прапанаваў Чарлзу Уілабі сакрэтнае тлумачэнне, якое Масква даводзіла да партактыва:

> **Мне паведамілі, што Расея купляе хлеб для ўнутранага спажывання ў Еўропе. Тады, калі гэтыя пастаўкі перасякаюць савецкую мяжу, іншае расейскае збожжа вывозіцца за мяжу. Расея, верагодна, плаціць за імпарт больш, чым выручае ад экспарту. Але замежныя краіны гэтага не ведаюць. Расея зрабіла рэкламу свайму экспарту, а імпарт паступаў у краіну глыбокай ноччу, сакрэтна.**

Уілабі запісаў наступнае шчыраванне Стакоўскага:

> **Такія рэчы здаюцца жорсткімі й бессардэчнымі, але часта яны неабходныя. Краіна перажывае крытычны перыяд, але я не лічу, што мы робім нешта горшае за тое, што мусілі рабіць іншыя першакласныя дзяржавы, каб выжыць напачатку свайго існавання.**

Гутарка працягвалася ва ўсё цяплейшай атмасферы. Не зусім паслядоўна Стакоўскі заявіў, што АРА павінна пакінуць пасля сябе арганізацыю-пераемніцу, якая б захавала структуру й персанал АРА. Вызначыць характар будучай арганізацыі, на думку Стакоўскага, таксама мог бы Герберт Гувер:

**Ленін цяпер хварэе. Можа прайсці не менш за шэсць месяцаў, пакуль ён зноў вернецца да працы. Троцкі, верагодна, не зойме ягонага месца на гэты час. Хутчэй Каменеў стане наступнікам. Каменеў як ніхто іншы з савецкіх афіцыйных асобаў блізкі да АРА, ведае пра яе дасягненні, разумее праблемы й цэніць вынікі. Калі Каменеў стане на месца Леніна, у АРА будзе сябар, саюзнік і абаронца, найуплывовейшы ў Расеі. Каменеў, на маю думку, хоча, каб АРА заставалася ў Расеі яшчэ год. У такім разе АРА атрымае дапамогу й судзеянне ў любой частцы краіны, і ейнай працы не толькі нічога не будзе замінаць, але ёй будзе дапамагаць кожны савецкі службовец.**

Уілабі зноў напаўняў шклянкі, а Стакоўскі працягваў хваліць працу па-амерыканску. Кіраўнік акругі не паспяваў запамінаць кампліменты, каб пазней уключыць іх у справаздачу:

**Стакоўскі настойліва выказваўся за працяг амерыканскай дапамогі. Вось дакладны запіс ягоных словаў: АРА добра вядомая й не выклікае недаверу. АРА, на думку ўладаў і людзей, дэманструе тыпова амерыканскую дзелавітасць і карпатлівасць. У Беларусі працуюць розныя амерыканскія й іншыя замежныя арганізацыі. Некаторыя больш ліберальныя, чым АРА, і не патрабуюць справаздачнасці за маёмасць і харчаванне. Іншыя больш спадзяюцца на дзяржаўныя ўстановы ў справе размеркавання.**

Далей Уілабі прывёў агульную ацэнку Стакоўскага:

**Аднак, на маю думку, АРА прадэманстравала, што сапраўды спраўны спосаб кіравання дапамогай такога маштабу — гэта спосаб АРА.**

Калі ў Маскоўскай штаб-кватэры атрымалі ліст, дык мелі падставы засумнявацца, ці суразмоўцы абмежаваліся адно гарбатай.

# Чыстка АРА: дзе жыве Карл Маркс

**Кароткія падзякі. — Джэнтльмэны кажуць «Ага!» — Праверка на лаяльнасць. — Бландзінка Роза Люксембург. — Дробныя паскудствы. — Мыла для НКВД. — Чакаюць даносаў. — Ніхто не звольнены, але...**

Люты для АРА ў Мінску пачаўся з прыемнасцяў. Напачатку месяца Чарлз Уілабі й Ралф Герц атрымлівалі віншаванні. Беларускі Чырвоны Крыж наладзіў вечарыну з нагоды адкрыцця медычнай клінікі ўніверсітэта, і кіраўнік акругі й галоўны лекар былі ганаровымі гасцямі. Уілабі паведамляў у штаб-кватэру:

**Выступаў было шмат, але кароткіх, і насуперак агульнапрынятай у Беларусі звычцы кожны прамоўца заяўляў, што без дапамогі АРА бальшыня дзіцячых дамоў і шпіталяў у Беларусі была б змушаная пазбавіцца сваіх выхаванцаў і пацыентаў і зачыніць дзверы. Прысутныя камісары й высокапастаўленыя ўрадавыя чыноўнікі, а таксама выбітныя настаўнікі, лекары й навукоўцы выказвалі гэтыя пачуцці ў прамовах.**

У лютым мінская кантора скончыла прыём картак-заявак на вопратку, але працы не паменшала. Працягваліся паездкі ў дзіцячыя дамы й шпіталі, разгрузка вагонаў і выдача пасылак, кожныя два тыдні трэба было пісаць справаздачы ў штаб-кватэру. Пасля таго як Мінск пакінулі Джордж Шрэмэл і Седрык Сміт і замены ім не прыслалі, частку абавязкаў, якія звычайна выконвалі амерыканцы, давялося даручыць мясцовым супрацоўнікам. Уілабі наняў на працу машыністку, якая валодала ангельскай мовай. Лекары Герц і Вілі праводзілі час у паездках па велізарнай тэрыторыі медычнай акругі, рыхтуючы грузы для Магілёва, Смаленска, Віцебска й Гомеля. Інспектарская група на чале з Кацярынай Румянцавай у дадатак да дзіцячых дамоў і кухняў грамадскага харчавання ў Мінску стала правяраць выкарыстанне амерыканскай дапамогі ў Барысаве, Бабруйску, Слуцку, Ігумене, а таксама ў шпіталях і амбулаторыях.

Таксама напачатку лютага Уілабі атрымаў доўгі, на тры старонкі, ліст ад кіраўніка АРА Уільяма Гаскела й кіраўніка аддзела інспекцыяў Болдуіна, які пачынаўся не зусім афіцыйна:

> **Мы хацелі б з удзячнасцю пацвердзіць, што атрымалі вашу паўмесячную справаздачу. Гэтыя справаздачы мы вітаем задаволеным «Ага!», якое магло б зляцець з вуснаў джэнтльмэна, які нядзельнай раніцай уладкоўваецца ў камфартабельны фатэль у халаце й хатніх пантофлях і вітае сваю нядзельную газету. Мы чакаем, што будзе цікава й забаўна, і мы не расчараваныя. Вы напэўна заслугоўваеце прызнання за працу, якую ўкладаеце ў падрыхтоўку матэрыялу, і мы запэўніваем, што прызнанне будзе такім, як належыць. Выдатны матэрыял.**

Гаскел і Болдуін абяцалі дапамагчы з некаторымі заяўкамі, а таксама прасілі прысылаць у Маскоўскую штаб-кватэру справаздачы мясцовых інспектараў, якія, на іх думку, давалі вельмі добрую карціну мясцовых умоваў. У лісце ішла гаворка пра вопыт Самары, дзе АРА дапамагла аднавіць даўно зачыненую лазню — вялікая рэч для завашыўленага насельніцтва. Уілабі прасілі падумаць, што можна зрабіць дадаткова, каб пакінуць па сабе добрую памяць у акрузе:



**Сяброўскае абмеркаванне з мясцовым упаўнаважаным за шклянкай гарэлкі ў доме амерыканскага персанала можа адкрыць самыя розныя магчымасці дзеля гэтага.**

Ідэя чысціні была блізкая Стакоўскаму, але зусім не так, як маглі меркаваць амерыканцы. 21 лютага 1923 з Мінска ў Маскву на імя ўпаўнаважанага савецкага ўрада Ландэра была адпраўленая афіцыйная тэлеграма ўпаўнаважанага ўрада ССРБ:

**Паведаміце, ці можна настойваць на праверцы й чыстцы супрацоўнікаў АРА.**

Праверка на палітычную лаяльнасць і чыстка апарату савецкіх установаў праводзілася камуністычнымі ўладамі, якія вялі няспынную класавую барацьбу з рэштками эксплуататараў. Правяралася сацыяльнае паходжанне, род заняткаў, маёмасны стан, вывучалася біяграфія — што рабіў да 1917 года, пасля Лютаўскай рэвалюцыі, падчас і пасля Кастрычніцкага перавароту*, падчас грамадзянскай вайны. Апроч анкетаў, на спецыяльным іспыце правяраліся палітычныя веды супрацоўнікаў.

Праз тыдзень у Мінск прыйшоў адказ з Масквы ад савецкага ўпаўнаважанага Карла Ландэра:

**Не пярэчу. Старайцеся ўнікнуць інцыдэнтаў.**

У Мінскай акрузе АРА працавала блізу ста чалавек: рабочыя й грузчыкі ў складах, шафёры, бухгалтары, машыністкі, вартаўнікі, лекары, інспектары, адміністрацыйны персанал. Усе яны былі беспартыйныя. АРА не прызнавала савецкіх прафсаюзаў, і таму прафсаюзная праца ў калектыве таксама не вялася. Аднак калі амерыканцы спадзяваліся, што дыктатура пралетарыяту скančаецца за ўваходам на тэрыторыю АРА, дык спадзевы былі марныя.

На наступны дзень пасля тэлеграмы Ландэра, 28 лютага, Стакоўскі напісаў Уілабі:

**У сувязі з агульнымі правіламі, якія тычацца праверкі й чысткі супрацоўнікаў установаў — уключна з замежнымі арганізацыямі, — хачу вам паведаміць пра стварэнне камісіі пад маім кіраўніц-**

---

* Пераваротам, адрозна ад змены ўлады ў лютым 1917, у тагачасных афіцыйных дакументах называўся захоп улады бальшавікамі.

**твам для праверкі вашых супрацоўнікаў. Камісія пачне сваю працу ў найбліжэйшай будучыні.**

Чысткі праходзілі ва ўсіх установах і наркаматах. У Наркамаце фінансаў Беларусі 53 супрацоўнікі са 105 правалілі экзамен і былі звольненыя. Амерыканцам, якія спрабавалі ўцяміць, што такое чыстка, расказалі, як гучала першае пытанне. Уражаны Уілабі прывёў дыялог у сваім лісце ў Маскоўскую штаб-кватэру:

**— Дзе Карл Маркс?**
**— Ён памёр.**
**— Вы памыляецеся. Карл Маркс не памёр: ён жыве ў сэрцы кожнага сапраўднага камуніста.**

«Вычышчаным» супрацоўнікам было забаронена займаць адказныя пасады й працаваць у органах улады. Кіраўнік акругі мог ужо пераканацца, што ў пытанні ідэалогіі слова й справа ўлады не разыходзіліся. Яшчэ напачатку лютага Уілабі пісаў у Маскву пра антырэлігійную кампанію ў Мінску:

Захапіўшы Біскупскі дом пад музей, камсамольцы цяпер рыхтуюць захоп самай гістарычна значнай рэлігійнай установы Мінска — вялікай сінагогі, каб адкрыць там рабочы клуб*. Пасля гэтага яны пагражаюць захапіць усе сінагогі горада.

Праз месяц ён ужо паведамляў вынікі: у памяшканні сінагогі адкрыты клуб, пачынаецца новая кампанія супраць касцёлаў.

Кожны вечар пасля закрыцця канторы мінскія супрацоўнікі АРА сталі заставацца на заняткі палітграматы.

У гэты ж час у друку з'явіўся крытычны артыкул старшыні прафсаюза савецкіх служачых. Прафсаюз праводзіў дабрачынны кірмаш і звярнуўся да Уілабі з просьбай даць некалькі пасылак на аўкцыён. Кіраўнік акругі патлумачыў, што гэта немагчыма — кожная пасылка аплочаная ў Амерыцы й мае канкрэтнага адрасата. Адмова была расцэненая як помста за страйк, які адбыўся ў лістападзе.

Мясцовы персанал нерваваўся. Уілабі, аднак, яшчэ глядзеў на ўсю справу хутчэй як на недарэчнасць, чым на сапраўдную пагрозу. Ён пісаў у Маскву:

---

* Галоўная (харальная) сінагога пазней была аддадзена габрэйскай савецкай драматычнай групе. Цяпер — тэатр.

**Супрацоўнікі АРА, якія не здолеюць адразу згадаць імя Леніна, дзе жыве цяпер Карл Маркс, афіцыйную дэфініцыю камунізму, і тыя, хто не ў стане каротка пераказаць канстытуцыю, даволі моцна хвалююцца. Кажуць, што ўсе яны неўзабаве будуць адказваць камісіі экзаменатараў і сведчыць свае палітычныя перакананні й веданне камуністычных справаў.**

Кіраўнік акругі не хаваў сарказму:

Мы не лічым, што ўлады маюць права звольніць нашага супрацоўніка, калі ён не ведае, была Роза Люксембург натуральнай ці фарбаванай бландзінкай.

Уілабі пытаўся, ці правільная яго пазіцыя й прасіў парадаў.

Але падзеі пачалі разгортвацца хутчэй, чым ён атрымаў адказ. 7 сакавіка «Звезда» надрукавала абвестку:

**Камісія, арганізаваная для праверкі персанала замежных арганізацыяў дапамогі ў Расеі, просіць усіх грамадзянаў, якія штосьці ведаюць пра злоўжыванні персанала АРА, Джойнту й місіі Нансена падчас іхнае працы, рабаванне, хабар і нелаяльнасць да Савецкай улады, паведаміць пра гэта Камісіі.**
**Заявы ў пісьмовай форме ці вусна прымаюцца старшынём Камісіі т. Стакоўскім у канторы Наркамата аховы здароўя на пляцы Волі ад 12.00 да 15.00 і з 10.00 да 11.00 у Белэваку.**
**Камісія гарантуе поўную таемнасць асобам, якія прынясуць заяву. Ананімныя скаргі разглядацца не будуць.**

Абвестка была як гром з яснага неба. Напярэдадні Уілабі сустракаўся са Стакоўскім і прасіў паспрыяць у атрыманні візы для жонкі. Уілабі меўся сустрэць яе ў Варшаве й разам вярнуцца ў Мінск. Стакоўскі напісаў кароткае хадайніцтва савецкаму паўнамоцнаму прадстаўніку ў Польшчы і ўручыў паперу кіраўніку акругі. Пра абвестку ў заўтрашняй газеце не было гаворкі.

Сітуацыя пачынала выглядаць зусім не смешнай.

Уілабі тэрмінова папрасіў сустрэчы з упаўнаважаным і адправіўся на вуліцу Урыцкага. Новы ліст у Маскву быў пазбаўлены ўласцівых для стылю кіраўніка акругі жартаў:

**Тлумачэнне ўладаў што да публікацыі абвесткі не праліло дадатковага святла на справу. Супрацоўнікі АРА дужа заклапочаныя,**

**асабліва з нагоды фразы пра «нелаяльнасць да Савецкай улады». У мінулым, пры любой сутычцы паміж мясцовым супрацоўнікам і прадстаўніком уладаў, апошні заўсёды выстаўляў абвінавачанне ў нелаяльнасці да ўладаў проста з тае прычыны, што супрацоўнік выконваў нашыя інструкцыі, інструкцыі АРА з Масквы, і абараняў інтарэсы АРА.**

Падчас размовы Стакоўскі паабяцаў, што асабіста будзе праводзіць чыстку ў АРА. Уілабі паведамляў:

**Стакоўскі — камуніст, але адначасова разумны й дальнабачны чалавек, які не робіць дробных паскудстваў, як практыкуюць шматлікія Добрыя Таварышы.**

Добрыя таварышы, з якімі даводзілася мець справу АРА, сустракаліся паўсюль. Напачатку лютага ў «Звезде» з'явілася малая нататка за вялікім подпісам «Управа крымінальнага вышуку». Назва «За працу» была ў іранічным двукоссі:

**Управай крымінальнага вышуку быў камандзіраваны як паняты пры выгрузцы медыкаментаў і шпітальнага рыштунку для медаддзела АРА агент крымінальнага вышуку таварыш А. Пасля заканчэння працы загадчык склада даў невядомаму чыгуначніку, які прысутнічаў пры разгрузцы, кавалак мыла. Гэта не праслізнула міма ўвагі агента А. Такая назіральнасць прыйшлася недаспадобы загадчыку, які стаў шаптацца са сваім памочнікам на замежнай мове й працягваў адначасна скоса паглядаць на агента.**
**У выніку таварышу А. таксама быў уручаны кавалак мыла. Загадчык склада, пісала газета, не патлумачыў прычыны такой шчодрасці. Але агент А. застаўся нямытым. Мыла было прыкладзена да рапарту, управа крымінальнага вышуку паведамляла, што сродак гігіены перададзены ў аддзел сацыяльнага забеспячэння й папярэджвала, што надалей такія падарункі будуць лічыцца рэчавымі доказамі для суда. Чытачы газеты такім чынам былі паінфармаваны пра чыстыя рукі супрацоўнікаў НКВД* і не надта чыстыя справы супрацоўнікаў АРА, якія перашэптваюцца на замежных мовах.**

* Народны камісарыят унутраных справаў БССР (НКУС)

У АРА расказвалі гэтую гісторыю крыху іначай. Уілабі пісаў:

**Намеснік загадчыка склада падарыў прадстаўніку сакрэтнай службы кавалак мыла пасля таго, як апошні стаў прасіць наліць яму колькі «грамаў спірту, бо надта халодна тут стаяць». Супрацоўнік АРА параіў агенту «выкінуць гэтую дурную думку з галавы» й даў яму мыла, каб прамыць звіліны. Абураны адмовай і баючыся, што з АРА паведамяць начальству пра ягоныя захады, агент здаў мыла й склаў рапарт пра хабар. Аднак намеснік загадчыка склада паведаміў пра інцыдэнт лекару акругі. Праз тры тыдні ў «Звезде» з'явіўся артыкул.**

Нягледзячы на нязначнасць выпадку, публікацыя закранала істотную праблему. АРА настойвала на поўным кантролі сваёй дапамогі аж да талеркі на стале дзіцячага дома й пасылкі, уручанай непасрэдна адрасату — без пасярэдніцтва ўладаў. Улады глядзелі на гэта з падазрэннем, ацэньвалі практыку АРА як неэфектыўную й нават падрыўную. Кожны, нават дробны, укол на адрас амерыканцаў быў дарэчы.

Падыход АРА, у сваю чаргу, вымагаў адпаведнага штату — дзясяткаў людзей, якія забяспечвалі прыём, разгрузку, складаванне, фасоўку, выдачу й даставу грузаў, кантроль за выкарыстаннем, вядзенне ўліку й справаздачнасці, фінансавыя разлікі. Людзі на працу патраплялі розныя. І часам без дапамогі міліцыі было не абысціся. Кіраўнік акругі некалькі разоў звяртаўся да Стакоўскага з просьбамі праз губвышук абараніць маёмасць АРА:

**Кужалеў, шафёр АРА, забраў з нашага гаража адзін з араўскіх грузавікоў без дазволу з майго боку й з боку загадчыка гаража. Калі так, гэта сур'ёзнае злачынства. Я прашу вас звярнуцца да Губвышуку й папрасіць правесці належнае расследаванне... і, калі Кужалеў сапраўды ездзіў на грузавіку, арыштаваць яго й прыцягнуць да адказнасці.**
**Адначасна прашу распарадзіцца, каб Губвышук правёў расследаванне, хто засыпаў наждачны парашок у рухавік «Кадылака», што прывяло да сур'ёзнага пашкоджання аўтамабіля.**

Праз тыдзень Кужалеў быў звольнены.

Крымінальныя выпадкі, аднак, не мелі нічога агульнага з палітычнай чысткай. Кіраўніцтва АРА пастаянна падкрэслівала сваю бесстароннасць у падборы мясцовага персанала:

**Выбіраючы нашых супрацоўнікаў, як і харчуючы расейскіх дзяцей, мы не пытаемся ні пра нацыянальнасць, ні пра веравызнанне, ні пра палітычныя погляды й спадзяёмся, што савецкія ўлады будуць ставіцца да іх гэтак сама.**

Улады й прафсаюзы, аднак, мелі супрацьлеглую думку.

17 сакавіка Уілабі перадалі тэлефанаграму з апарату ўпаўнаважанага Стакоўскага:

**У панядзелак 19 сакавіка ў 11.30 раніцы прыступіць да сваёй працы Камісія па праверцы супрацоўнікаў у даверанай вам арганізацыі ў Мінску. Просьба падрыхтаваць да пазначанага часу для мяне пайменныя спісы вашых супрацоўнікаў, якія працуюць як у канторы й медаддзеле, гэтак і на складах і г.д.**

Апроч Стакоўскага, тэлефанаграму падпісаў упаўнаважаны Цэнтральнай камісіі па праверцы й чыстцы нехта Конбранд. Але больш цікавай была прыпіска на арыгінале, якой Уілабі не мог бачыць. Над тэкстам быў дадаткова выстаўлены грыф «Сакрэтна» й дададзены новы адрасат:

**Копія ў ГПУ тав. Карэйва.**

Копія важыла больш за арыгінал. Падчас кампаніі чысткі дэлегаты Усебеларускага з’езду Саветаў паслалі спецыяльнае прывітанне ГПУ, якое надрукавалі газеты:

**Няхай сусветная буржуазія, няхай сацыял-здраднікі ўсіх колераў і рангаў вас кляймяць званнем забойцаў і вылюдкаў — для нас, працаўнікоў Савецкай Беларусі, вы лепшыя нашыя сыны, самыя аддадзеныя справе рэвалюцыі працаўнікі.**

З гэтага часу кпіны й іронія ў лістах Уілабі знікаюць. Кіраўнік акругі прыняў рашэнне абараняць сваіх супрацоўнікаў і больш не звяртаўся ў Маскву па параду, а інфармаваў штаб-кватэру пра сваё рашэнне й патрабаваў адказу пра захады адміністрацыі АРА пры найгоршым развіцці падзеяў:

**Мы не збіраемся нікога звальняць толькі з тае прычыны, што супрацоўнік не здаў палітычнага экзамену, і мы хацелі б ведаць, што Масква будзе рабіць, калі нашага супрацоўніка выключаць з прафсаюза і ў гэты момант умяшаюцца ўлады й арыштуюць яго.**

Як насамрэч адказвалі мінскія супрацоўнікі АРА на пытанні, якога колеру валасы мела Роза Люксембург і пад якім адрасам жыве грамадзянін Карл Маркс, застаецца невядомым і сёння нават жыхарам мінскіх вуліцаў, якія дагэтуль носяць імёны вечна жывога Карла Маркса й брунеткі Розы Люксембург.

Але частка супрацоўнікаў была ўнесеная ў адмысловы спіс прафсаюза. Менавіта гэтаму спісу будзе прысвечаны ліст, які кіраўнік акругі Уілабі напіша ў свой апошні дзень у Мінску.

## Навучанне ангельскай метадам АРА: «milk» не толькі «малако»

**Няма тары. — Загадкавыя этыкеткі. — Экзатычная статыстыка. — Прага да ведаў. — Набор у класу АРА. — Засакрэчаная дапамога настаўнікам. — Што азначае «Беларусь»? — Машынка з дэфіцытным шрыфтам**

На плакаце была намаляваная міс Калумбія*, якая раздавала ежу дзецям. Зверху ішоў надпіс па-расейску: «Дар Американского народа», «АРА». І збоку подпіс па-ангельску: «Herbert Hoover, Chairman». Плакаты былі вывешаныя ў кожнай араўскай кухні й на кожным складзе — і бянтэжылі нават адукаваных наведнікаў. Прозвішча кіраўніка АРА ў мясцовым друку пісалі «Герберт Гувер», праз «г». У дадатак да выдачы пасылак, харчавання ўцекачоў, апранання дзяцей супрацоўнікам АРА даводзілася даваць лінгвістычныя даведкі.

Ангельская мова прысутнічала не толькі на плакатах. Нечаканы практычны эфект у Мінску зрабілі надпісы на бляшанках з амерыканскім малаком.

---

* Жаночы сімвал Злучаных Штатаў (мужчынскі — дзядзька Сэм), у гонар адкрывальніка Амерыкі Хрыстафора Калумба.

Кансерваванае малако ўвогуле было самай каштоўнай часткай дзіцячага харчавання. Уілабі пісаў у нататцы для амерыканскага друку:

**Малако адыграла найвялікшую ролю ва ўратаванні паўжывых дзяцей, якія паміралі з голаду, ад недаядання. Малако было іхнай ежай і напоем. Яны ніколі не бачылі такой колькасці малака, бо бальшыня гэтых дзяцей нарадзілася пасля пачатку сусветнай вайны... Маці й бацькі, сёстры й браты, старэйшыя за ўзроставы бар'ер дзіцячага харчавання АРА, галадалі, пакуль 14-гадовыя й маладзейшыя іхныя родзічы штодня атрымлівалі дастаткова амерыканскай ежы не толькі каб не памерці з голаду, але й нарасціць мяса на свае шкілетападобныя целы.**

Бляшанкі былі двух памераў: у большай было парашковае малако, у меншай згушчанае. Важылі прыкладна аднолькава, крыху меней за паўкіло, і пасля развядзення вадою з кожнае выходзіла больш за літр малака. Яго разлівалі пераважна адразу на амерыканскіх кухнях, у дзіцячых дамах, і дзеці выпівалі свае кубкі на месцы. Какава, белы хлеб, цукар, крупы рабілі сваю справу. Красамоўны Уілабі тлумачыў:

**Як чалавек, які паволі прачынаецца пасля доўгага забыцця й напачатку заўважае рэчы навокал як у тумане і, нарэшце, цалкам ачуняўшы, пазнае наваколле, гэтак і галодныя дзеці, калі яны сталі на шлях папраўкі, на якім праз кожныя пару метраў стаяць паказнікі, пачалі заўважаць сваё наваколле.**

Наваколле, пра якое ўзвышана пісаў кіраўнік Мінскай акругі АРА, складалі завалы пустых бляшанак з-пад малака, якія раслі з кожным днём.

Амерыканская тара прыцягвала не толькі дзіцячую ўвагу. Калі ўлада мяняецца кожныя пару месяцаў — ці то пасля чарговай рэвалюцыі, ці то пасля змены лініі фронту, — сціраецца не толькі розніца паміж акупацыяй і вызваленнем, але пачынаюць бясследна й надоўга знікаць самыя звычайныя рэчы. У тым ліку — шклянкі, кубкі, слоікі, найпрасцейшыя ёмістасці, без якіх у хатняй гаспадарцы не абысціся.

У снежні 1922 у мінскіх газетах з'явілася абвестка:

**Скрынкі й пустыя бляшанкі з-пад малака прадаюцца ў складах АРА. Інфармацыя ў канторы АРА, в. Губернатарская, 23.**

Паводле правілаў, АРА не магла проста раздаваць рэчы, якія афіцыйна не патраплялі пад вызначэнне гуманітарнай дапамогі. Меркавалася, што бляшанкі будуць купляць, а грошы пойдуць на рахунак АРА.

Але асаблівага прыбытку не было: часцей за ўсё тару проста не вярталі ў склад, яна назапашвалася на кухнях і ў шпіталях. Тады дзеці атрымалі дазвол браць пустыя бляшанкі дахаты — але пагуляць з новымі цацкамі не ўдавалася, бо іх адразу канфіскоўвалі дарослыя. Уілабі тлумачыў:

Пайшлі сотні просьбаў ад дзяцей і дарослых, каб атрымаць хаця б адну бляшанку на сямейніка. Пустая тара не мела ніякай каштоўнасці для АРА за выняткам бухгалтарскага ўліку. Для сярэдняй беларускай сям'і бляшанкі былі посудам, з якога можна піць гарбату — самы распаўсюджаны й абавязковы напой. Пяць акупацыйных арміяў за сем гадоў прывялі да нястачы, апроч іншага, кухоннага й сталовага посуду.

Амерыканская традыцыя ілюстраваць лічбы ўражальнымі вобразамі не абмінула й агульнай справаздачы АРА пра аперацыі ў Савецкай Расеі:

**Колькасць малочных бляшанак дасягнула 57 мільёнаў 256 тысяч 960. Калі пустыя бляшанкі пакласці адну за адной, яны працягнуцца ад Саваны, штат Джорджыя, да Сіэтла ў штаце Вашынгтон, і яшчэ застанецца досыць, каб зліталваць трубу ад самай вяршыні вежы будынка Уолварта да зямлі й зрабіць яшчэ дзве падобныя трубы даўжынёй 264 футы да вяршыні дваццаціпавярховага дома на Пятай авеню, нумар 212. І яшчэ застаюцца днішчы й накрыўкі. Калі іх акуратна выразаць, імі хопіць пакрыць вялікі бульвар шырынёй 100 футаў ад броўкі да броўкі й трынаццаць з паловай міляў даўжынёй...**

Бляшанкі перараблялі на кубкі, на вазоны, на газоўкі й алейныя лямпы, на цацкі. Але было й яшчэ адно незвычайнае выкарыстанне амерыканскай дапамогі, якое выйшла нават за межы пабудовы транскантынентальнага бляшанкаправоду.

У гімназіях ды інстытутах Мінска, Віцебска, Гомеля традыцыйна вывучалі класічныя мёртвыя мовы, а з жывых — французскую й нямецкую. Ангельскую амаль нідзе не выкладалі: не было слоўнікаў. Бляшанкі далі штуршок падзеям, якія ўвайшлі ў канчатковую справаздачу АРА ў Мінску:

**Малочныя бляшанкі хутка сталі важнаю часткаю кожнае хатняе**

**гаспадаркі ў Беларусі, спустошанай вайной і ўцекачамі. І на кожнай бляшанцы была налепка з інструкцыямі па-ангельску. Цікаўныя дзеці й дарослыя хутка захацелі ўведаць, што ж там напісана. І неўзабаве ў Мінску ўзнік попыт на ангельскія падручнікі й граматыкі. Прафесар Георгі Блок, кіраўнік факультэта ангельскай мовы ўнівэрсітэта, мусіў прасіць большыя памяшканні для заняткаў, каб змясціць усіх ахвочых. Пасля 12 месяцаў супрацы з АРА Блок адчыніў курс пад назовам «Класа ангельскай мовы АРА». Кожныя дзевяць месяцаў класа мае ад 50 да 75 выпускнікоў, якія могуць дастаткова добра разумець і гаварыць па-ангельску.**

Уілабі паведамляў, што ў Беларусі ўпадабалі менавіта амерыканскі варыянт ангельскае мовы. Настаўнікі цяпер могуць лёгка зарабляць дадатковыя грошы, даючы ўрокі мноству людзей, якія зацікавіліся непатрэбнаю раней моваю пасля з'яўлення ў Беларусі АРА.

Араўцы добра ведалі, што галадаюць не толькі дзеці. Уілабі даводзіў свайму начальству:

**Што да становішча настаўнікаў: у Беларусі 4000 настаўнікаў, з іх тры чвэрці ў вялікай нястачы. Яны атрымліваюць ад 8 ад 13 залатых рублёў штомесяц без пайкі, часта з затрымкай. Падчас вакацыяў заробку няма. Шмат дзе настаўнікі не атрымалі ні капейкі за кастрычнік і лістапад. Нам удалося зацікавіць праграмаю дапамогі Нодэля, рэдактара «Звезды», самай уплывовай газеты, які патлумачыў настаўнікам, што АРА зробіць усё магчымае, каб палепшыць іхнае становішча. Калі б дапамога была аказаная хаця б 3000 настаўнікаў у Беларусі да 1 чэрвеня, гэта не толькі дапамагло б усёй рэспубліцы, але й АРА атрымала б дадатковае прызнанне свае працы.**

Калі АРА пачала праграму дапамогі настаўнікам, улады зноў паспрабавалі ўзяць выдачу пасылак пад кантроль. Галоўны ўпаўнаважаны савецкага ўрада Карл Ландэр тлумачыў у цыркулярным лісце ўсім мясцовым упаўнаважаным:

**АРА пагадзілася дапамагаць перш за ўсё беспрацоўным настаўнікам, а пасля тым, хто церпіць нястачу, і ўключыць у праграму дапамогі тэхнічны персанал школаў, прычым абмежаваць колькасць першых 20%, а другіх — 2%. Сп. Гаскел раіць сваім упаўнаважа-**

**ным скараціць да мінімуму колькасць пасылак для пазначанай катэгорыі. Вашай задачай, аднак, павінна быць дасягненне цалкам пазначанага працэнту.**

У сярэдзіне сакавіка пачалася выдача пасылак настаўнікам Беларусі, але даведацца пра акцыю яны маглі толькі ад прадстаўніка прафсаюза ці ўлады. Ландэр не хацеў розгаласу. Цыркулярны ліст з Масквы так тлумачыў мясцовым упаўнаважаным правілы паводзінаў:

**Што да апублікавання гэтай галіны дзейнасці АРА ў друку, дык мясцовыя газеты могуць абмежавацца толькі перадрукам нататак з цэнтральных газет альбо нататкамі, якія даяце вы, прычым вам трэба даваць у друк толькі тыя нататкі, якія мы вам будзем пасылаць.**

У Віцебску ўлады паспрабавалі выканаць інструкцыю Ландэра звыклым спосабам: у кантору АРА быў перададзены спіс 196 настаўнікаў. Кіраўнік Віцебскай акругі, які шматразова вусна й пісьмова тлумачыў, як гэты спіс павінен быць аформлены, не паверыў вачам: не было ані хатніх адрасоў настаўнікаў, ані адрасоў школаў, аніякай іншай інфармацыі, якая б дазволіла араўцам самім, без пасярэднікаў, накіраваць дапамогу гэтым людзям.

У адказ на тэрміновы запыт улады паабяцалі назаўтра даць поўныя звесткі, каб не адкладаць дапамогу. Адрасы не паступілі ані праз дзень, ані праз два. Толькі на пяты дзень араўцы атрымалі неабходныя звесткі й адразу разаслалі запросіны на атрыманне дапамогі. Мінула тры дні, многія настаўнікі ўжо паспелі наведаць склады АРА, як улады ў пажарным парадку паспрабавалі спыніць амерыканцаў.

Кіраўнік акругі паведамляў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**Савецкі ўпаўнаважаны амаль не спаліў тэлефонны дрот, спрабуючы прымусіць нас спыніць раздаваць дапамогу. Ён заявіў, што з Масквы паступілі новыя распараджэнні. Мы не бачылі падставаў прыпыняць працу — спіс быў зацверджаны трыма подпісамі прадстаўнікоў прафсаюзаў, яшчэ адзін чыноўнік таксама запэўніў нас, што ў спісе настаўнікі, якім найбольш патрэбная дапамога. Пазней высветлілася, што прафсаюзы знайшлі новых асобаў, якія, на іхную думку, мелі яшчэ большую патрэбу.**

Тымчасам у пошуках аргументаў у перамовах з Маскоўскай штаб-кватэрай Уілабі паспрабаваў прадметна разабрацца з гісторыяй і назвай краіны, дзе ён працаваў. Ён пісьмова звярнуўся да Стакоўскага па тлумачэнні. Запыт перадалі ў Акадэмічны цэнтр прафесару Сцяпану Некрашэвічу. У афіцыйнай даведцы Некрашэвіч пісаў:

**У адказ на Ваш допіс ад 10 траўня паведамляю: Адносна слова «Беларусь» няма поўнага адзінства думкі навукоўцаў. Большасць з іх бачыць у слове «Беларусь» вольную, свабодную Русь (белы свет, белы цар, г.д.), бо Беларусь не была захопленая ў рабства татарамі. Упершыню слова «Беларусь» сустракаецца ў помніках у XIV стагоддзі. Да Люблінскай уніі 1569 года Беларусь разам з Літвой складала адну дзяржаву пад назовам «Літоўска-Рускага княства». Пад словам «рускага» трэба разумець «беларускага», бо тады цяперашняя Расея называлася «Масковіяй». Цэнтрам Літоўска-Рускага Княства была Вільня. Літоўска-Рускае (Беларускае) Княства яднала ўсю этнаграфічную тэрыторыю Беларусі: цяперашнія губерні Віленскую, Гарадзенскую, Віцебскую, Магілёўскую, Мінскую, Смаленскую, часткі Курляндскай, Ковенскай, Сувальскай, Чарнігаўскай губерняў.**

З ліста прафесара амерыканцы таксама даведаліся пра падзел Рэчы Паспалітае, калі ў канцы XVIII стагоддзя Беларусь адышла да Расеі й была перайменаваная ў Паўночна-Заходні край, пра аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага за Напалеонам, пра абвешчанне БССР у 1919 годзе. Беларуская Народная Рэспубліка не згадвалася. Даведка сканчалася геаграфічнаю заўвагаю палітычнага зместу:

**Сучасная Савецкая Беларусь зараз аб'ядноўвае нязначную частку этнаграфічнай Беларусі (частку былой Мінскай губерні).**

У траўні Мінская акруга атрымала 10 тысяч дадатковых паек для харчавання хворых у шпіталях. Агульная штодзённая лічба выдачы дасягнула найвышэйшага ўзроўню — 30 тысяч порцыяў. Але не толькі хлеб надзённы для Беларусі турбаваў амерыканцаў. 10 траўня, у той самы дзень, калі АРА атрымала тлумачэнне гісторыі краіны, Уілабі паслаў тэлеграму ў Маскву з клопатам пра будучыню:

**Просім дазволу перадаць друкавальную машынку з ангельскім шрыфтам Мінскаму ўніверсітэту для выкарыстання на занят-**

**ках ангельскай мовы. Ужо больш за 500 студэнтаў займаюцца ў класе «АРА». Калі немагчыма, дазвольце прадаць за намінальны кошт Уілабі, каб падарыць ад імя АРА. Удзячныя за станоўчы тэлеграфны адказ.**

Уілабі не давялося выкупляць машынку. На наступны дзень з Маскоўскай штаб-кватэры прыйшла тэлеграма:

**Перадача друкавальнай машынкі з ангельскім шрыфтам Мінскаму ўніверсітэту ўхваляецца.**

У чэрвені 1923 ангельскую мову паводле АРА ў Мінску вывучалі ўжо больш за дзве тысячы чалавек.

## Good bye па-тутэйшаму: АРА ўвесь час вырывалася з-пад нагляду

**Сакрэтны цыркуляр. — Падрыхтоўка да адʼезду. — Строгі ўлік тары. — Абмен кампліментамі. — Уілабі абяцае вярнуцца. — Карысныя й карыслівыя. — Апошнія дні. — Апошняе месца. — Апошні ліст**

А 8-й гадзіне вечара 15 чэрвеня 1923 у доме амерыканскага персанала пачыналася развітальная вечарына. Удзень былі падпісаныя акты перадачы складоў, канторы, маёмасці, якую АРА пакідала ў Беларусі. Вечарыну ладзіў не ўрад БССР, не атрымальнікі харчовай і медычнай дапамогі, а самі амерыканцы.

Адʼезд АРА не заспеў уладаў знянацку. Яшчэ ў красавіку беларускі ўрад атрымаў сакрэтны цыркуляр з Масквы. Ліст папярэджваў, што ў ліпені замежныя арганізацыі дапамогі пачынаюць згортваць працу. Паколькі шмат якія дзіцячыя дамы цалкам залежалі ад дабрачыннасці, рэкамендавалася тэрмінова шукаць новыя крыніцы забеспячэння, ствараць дзіцячыя фонды, а найперш правесці ўлік рэштак замежнай маёмасці й прадуктаў.

Чарлз Уілабі таксама рыхтаваўся да закрыцця канторы й планаваў паступовае скарачэнне персанала й аперацыяў. Але ў красавіку ў лісце ў Маскоўскую штаб-кватэру пісаў:




**Мы спадзяваліся пачаць скарачэнне персанала 15 красавіка. Аднак гэта аказалася немагчыма, бо аб'ём нашай працы цяпер толькі крыху меншы, чым быў у пік дзейнасці, хаця персанала маем менш.**

16 траўня ў Мінск прыйшоў яшчэ адзін цыркуляр з Масквы:

**Абсалютна сакрэтна. Цыркулярны ліст-інструкцыя.**
**Пытанне аб ліквідацыі дзейнасці АРА можна лічыць беспаваротна вырашаным. 15 чэрвеня спыняецца пасылачная праца, пачалася ліквідацыя медычнай, на чарзе астатняя. Афіцыйна АРА заявіла пра спыненне харчавання ў ліпені, але відавочна, што яна фарсіруе працэс ліквідацыі. Адусюль нам паведамляюць пра спробы прадаць маёмасць, у прыватнасці, аўтамабілі АРА. У сувязі з будучай ліквідацыяй вам трэба будзе выканаць надзвычай сур'ёзную й адказную працу.**

Апісанне адказнай працы заняло пяць старонак і складалася з 25 пунктаў. Найчасцейшыя словы ў інструкцыі ўпаўнаважанага савецкага ўрада Ландэра — неадкладна правесці дакладны, строгі й поўны ўлік, дамагацца, каб уся дапамога перадавалася савецкім органам, а не беспасярэдне шпіталям, сталоўкам, дзіцячым дамам. Падрабязна рэгламентавалася перадача аўтамабіляў і мэблі, канцылярскага рыштунку й коней.

У інструкцыі не было ані слова пра арганізацыю развітання, падзяку ад мясцовых органаў улады ці дзяржаўных установаў — атрымальнікаў дапамогі. Затое асобны раздзел быў прысьвечаны тары:

**Паколькі АРА афіцыйна перадала ўсю тару дзіцячым установам, трэба строга сачыць за тым, каб не было продажу тары. Прыспешвайце прыём тары, якая перадаецца нашым установам. На месцах правядзіце поўны ўлік тары. Справаздачныя ведамасці павінны быць пададзеныя ў цэнтр.**

Герберт Гувер яшчэ ў 1922 годзе меркаваў, што, калі наступны ўраджай будзе добры, дзейнасць АРА ў Расеі, Украіне, Беларусі й іншых рэгіёнах будзе спыненая*.

У красавіку абвясцілі пра адʼезд арганізацыі Чырвонага Крыжа Нямеччыны й Францыі, заявіла пра згортванне місія Нансена.

Амерыканцы паставіліся да адʼезду як да магчымасці працягнуць справу дапамогі. Кіраўнік АРА Сірыл Квін, які замяняў Уільяма Гаскела, адправіў усім кіраўнікам акругаў цыркулярны ліст:

**Калі прыйдзе час адʼезду, вельмі пажадана пакінуць які-небудь сталы адбітак аб працы АРА, і кожны кіраўнік акругі мусіць пільнаваць, каб не прапусціць адпаведнай нагоды. Канструктыўны эфект можа прынесці выкарыстанне нашых запасаў харчу як стымулу для паляпшэння санітарных умоваў закрытых установаў. Ёсць добрыя шанцы, што многія ўстановы, якія ўпарадкаваліся ў адказ на нашыя патрабаванні, будуць пільнавацца санітарных стандартаў і пасля нашага адʼезду.**

За ўзор пільнасці Сірыл Квін прыводзіў Мінск, дзе распрацавалі сістэму ацэнак шпіталяў, дзіцячых дамоў, кухняў, паводле якой вымяралася эфектыўнасць размеркавання дапамогі. Апісанне беларускага досведу было разасланае ва ўсе акругі.

Закрыццё акругаў і перадача маёмасці праходзіла без надзвычайных здарэнняў і перашкодаў. Масква яшчэ з інерцыі патрабавала праяўляць пільнасць, не дапускаць размантачвання й перадачы медычных грузаў прыватным лекарам, загадвала ўлічыць нявыкарыстаныя лекі й матэрыялы ў шпіталях. Але ў канцы доўгага сакрэтнага ліста ўпаўнаважаны Ландэр выказвае пажаданне правесці ліквідацыю «безбалесна»:

---

* На гэтае рашэнне таксама паўплываў продаж хлеба за мяжу, які бальшавіцкі ўрад пачаў у 1922. У траўні 1923 стала вядома, што ад пачатку года было прададзена за мяжу каля 400 000 тон, збожжа вывозілі з губерняў, суседніх з галоднымі рэгіёнамі. Вывозілі збожжа й з Беларусі ў той час, калі там працавала АРА.

**Прапаную ў ліквідацыйнай працы строга трымацца інструкцыяў, не ствараць дробных інцыдэнтаў і канфліктаў з прадстаўнікамі замежных арганізацыяў, а, строга праводзячы нашу лінію, вырашаць усе пытанні паводле магчымасці шляхам пагаднення на месцы.**

Удзень 15 чэрвеня Чарлз Уілабі разам з прадстаўнікамі ўладаў аформіў акт перадачы рэшты прадуктаў з амерыканскіх складоў у фонд камітэту ліквідацыі наступстваў голаду:

**Мука пшанічная — 348 мяхоў,**
**груца кукурузная — 75 мяхоў,**
**цукар — 107 мяхоў,**
**гарбата — 11 пудоў 35 фунтаў,**
**малако — 10 260 бляшанак,**
**какава — 176 пудоў,**
**мыла — дзве скрынкі, вагой 9 пудоў 31 фунт.**

Пра рэшткі тлушчу напісана наступным чынам:

**Тлушч у бляшанках, кожная вагой 10 амерыканскіх фунтаў, якія складаюць 11,076 расейскага фунта: 354 скрынкі па 6 бляшанак у кожнай і асобна 1 цэлая й палова адной бляшанкі, што складае 2125 з паловай бляшанак.**

На наступны, апошні дзень у «Звезде» з’явілася публікацыя пад загалоўкам «Ліквідацыя АРА ў Беларусі». Спачатку ішлі словы Мар’яна Стакоўскага:

**У сваёй працы АРА давала дапамогу тым, каму яна была патрэбная. Я павінен адзначыць найвялікшую заслугу кіраўніка акругі містэра Чарлза Уілабі, які заўсёды разглядаў пытанні й праблемы з практычнага боку, надаваў належную ўвагу ўказанням савецкага ўрада і ўзгадняў працу.**
**Дзякуючы ягоным намаганням харчовыя пайкі павялічыліся з 6 тысяч штомесяц да 20 тысяч, а цягам апошніх двух месяцаў да 30 тысяч. Гэта аказала вялікую падтрымку нашым дзіцячым дамам і шпіталям. Мы перакананыя, што містэр Уілабі, сапраўдны сябар Савецкай Расеі, працягне сваю працу шляхам дапамогі савецкай уладзе, пачатай тут, і там, у Амерыцы. Будзем спадзявацца,**

**што, калі містэр Уілабі прыедзе ў Амерыку, ён стане актыўным чальцом «Сяброў Савецкай Расеі». Я хацеў бы яшчэ раз выказаць удзячнасць ад імя ўрада містэру Уілабі перад ягоным ад'ездам у Амерыку.**

Побач было змешчана інтэрв'ю Чарлза Уілабі:

**Пасля 18 месяцаў працы ў Беларусі АРА ад'язджае 15 чэрвеня. Напачатку хачу прывесці некаторыя лічбы, якія ілюструюць працу нашай акругі.**
**Ад студзеня 1922 года мы атрымалі 490 вагонаў розных грузаў — прадукты, медыкаменты, абсталяванне. Да 15 чэрвеня насельніцтва атрымала больш за 75 тысяч харчовых пасылак. Розным катэгорыям насельніцтва Беларусі было выдадзена больш за 200 тысяч харчовых рацыёнаў. Больш за 2 тысячы атрымалі пасылкі з адзеннем з Амерыкі, з якіх больш за 700 былі бясплатна раздадзеныя тым, хто меў нястачу. Дзіцячыя дамы атрымалі наступную колькасць матэрыялаў для адзення да закрыцця акругі: ваўнянай тканіны 3 тысячы ярдаў, фланэлі 12 тысяч ярдаў, мусліну 24 тысячы ярдаў, нітак 5 тысяч шпуляў і шмат іншых рэчаў.***
**Хаця мне надзвычай шкада спыняць тут працу й ад'язджаць з Беларусі, аднак я рады, што гэтая вельмі важная рэспубліка зноў здольная сама парупіцца пра свае патрэбы, што больш няма неабходнасці атрымліваць дапамогу з іншых крыніцаў.**
**Я правёў у Расеі 18 месяцаў, бываў ці працаваў практычна ва ўсіх частках РСФСР. У Мінску мне спадабалася больш, чым у любым з іншых месцаў, куды мяне пасылалі. У нас была цудоўная супраца не толькі з урадавымі афіцыйнымі асобамі, але й са сваімі працаўнікамі, і з грамадствам у цэлым.**
**Праца ў Мінску выклікала поўнае задавальненне маскоўскага офіса. Гэта было б немагчыма без сардэчнай і пастаяннай супрацы з урадам і з паўнамоцным прадстаўніком таварышам Стакоўскім.**
**А 4-й гадзіне дня ў пятніцу нашыя офісы й склады будуць перададзеныя ўраду, і праца АРА ў Мінску скончыцца.**
**Я хацеў бы скарыстаць нагоду й падзякаваць урадавым афіцыйным асобам, з якімі я меў справы, а таксама кіраўнікам і службоўцам установаў, у якіх АРА размяркоўвала прадукты, за іхную**

---

* Гэтыя папярэднія лічбы пазней былі ўдакладненыя статыстыкамі АРА (гл. с. 461).

**шчырую й сумленную супрацу. Я спадзяюся вярнуцца ў Беларусь калі-небудзь у блізкай будучыні.**

Пасля развітальнага абмену кампліментамі ў друку й падзякамі на банкеце Мар’ян Стакоўскі сеў пісаць канчатковую справаздачу ў Маскву ўпаўнаважанаму Ландэру. Спаслаўшыся на папярэднія статыстычныя звесткі аб дзейнасці замежных арганізацыяў дапамогі, якія рэгулярна пасылаліся з Мінска, Гомеля й Віцебска, аўтар папярэдзіў:

**Гэтая нататка хутчэй белетрыстычнага характару й ахопіць той бок дзейнасці, які немагчыма выказаць лічбамі.**

І патлумачыў свой канчатковы погляд на замежныя арганізацыі дапамогі ў Беларусі:

**Трэба іх падзяліць на менш карыслівыя й тыя, што шукалі сабе карысці.**

Першае месца заняла місія Нансена, хаця й аказала найменшую дапамогу. Нансенаўцы размеркавалі сярод адрасатаў 4 тысячы 222 харчовыя пасылкі, кожная коштам 2,5 даляра. Дзіцячым установам было перададзена 63 пуды какавы. Ніякіх выдаткаў у сувязі з місіяй Нансена ўлады не неслі.

На другое месца Стакоўскі паставіў Таварыства сяброў — Квакеры, што, як і місія Нансена, ужо спыніла сваю дзейнасць. Усю дапамогу квакеры перадавалі ў дзяржаўныя органы, кармілі каля 13 тысяч дзяцей, а таксама перадавалі старую вопратку й бялізну. Як адзначаў упаўнаважаны:

**Грамадзянін Томас (Клівер), які працаваў ад іх у нас, наагул працу сваю праводзіў, вылучна кіруючыся атрыманымі ад мяне ўказаннямі.**

Трэцяе месца заняла габрэйская арганізацыя Джойнт, якая пакуль не ад’язджала. Стакоўскі пісаў:

**Толькі апошнім часам мне ўдалося канчаткова, здаецца, прымусіць яе адмовіцца ад бескантрольнага й бяспланавага размеркавання дапамогі, і цяпер яе праца праводзіцца цалкам узгоднена праз мяне з нашымі дзяржорганамі.**

АРА ў справаздачы Стакоўскага было адведзена больш за ўсё месца. І гэтае месца было ў канцы:

**Апошняе месца, паводле вызначанага мной парадку, займае АРА. Гэтая арганізацыя, якая аказала нам параўнальна вялікую матэрыяльную дапамогу, увесь час вырывалася з-пад нагляду Урадавых Органаў. Маючы пэўную мэту, не гэтулькі дапамагаць дзяржаве, колькі рэкламаваць амерыканскую дабрачыннасць, не гэтулькі дапамагаць дзяржаве, колькі падтрымліваць мяшчанскія пласты насельніцтва, яна патрабавала безупыннай пільнасці, а часам і пэўнай цвёрдасці й супраціву з боку тых, каму было даручана быць пры іх упаўнаважаным.**

На заканчэнне Стакоўскі лаканічна канстатаваў:

**Канечне, у Беларусі АРА аказала нам дапамогу выдачай значнае колькасці медыкаментаў, 195 500 месячных рацыёнаў, што складае 66 105 пудоў брута, і размеркаваннем пэўнай колькасці мануфактуры.**

Так была ацэненая найвялікшая ў XX стагоддзі замежная дапамога Беларусі.

Увечары 16 чэрвеня амерыканцы пакідалі Беларусь. 23 чэрвеня ў адміністрацыйным аддзеле АРА ў Маскве быў падпісаны «Агульны мемарандум №73»:

**Мінская акруга закрытая 17 чэрвеня 1923. Увесь персанал прыбыў у Маскву.**

Аднак справы Мінскай акругі закрыліся не для ўсіх. Напярэдадні канчатковага ад'езду з Беларусі Чарлз Уілабі напісаў асабісты ліст Мар'яну Стакоўскаму. Упаўнаважаны не згадвае гэтага допісу ў выніковай справаздачы. Але без увагі ён не застанецца.

Адказ на свой зварот Уілабі прачытае ўжо ў Амерыцы. Гэта будзе паведамленне ў газеце «New York Times». Але яно з'явіцца амаль праз год.

## Віцебск: кароткая адліга ў 30-градусны мароз

**Амерыканцаў чакалі. — Ні склада, ні жытла, ні офіса. — Начуюць у вагоне. — Першыя пасылкі. — Губвыканкам мяняе пазіцыю. — Вада з Дзвіны. — Крывадушны Канаплін. — Манія Айкера**

А палове пятай раніцы 7 студзеня 1922 на станцыю Віцебск прыбыў спецыяльны цягнік*. На станцыі адпраўлення, у Маскве, ён быў даўжэйшы на дванаццаць вагонаў, — але ў Воршы цягнік перафармавалі, і большая частка пайшла на Мінск. З адзінага салон-вагона на 30-градусны мароз выйшлі два амерыканцы — Джон Айкер, кіраўнік будучай акругі АРА, і сакратар Джон Макмілан. Калі іхны вагон адцягнулі на запасныя рэйкі, замежныя пасажыры пайшлі праверыць вагоны з харчам. Усе пломбы былі ў парадку, і а 10-й раніцы амерыканцы ўжо былі ў губвыканкаме.

Губвыканкам месціўся ў былым губернатарскім палацы на вуліцы, якая раней называлася Губернатарскай, але на час прыезду АРА была пераймянаваная ў Савецкую**. З'яўленне Джона Айкера для віцебскага начальства не было нечаканасцю. За тыдзень да прыезду групы АРА ў Віцебск з Масквы адправіўся перакладчык прозвішчам Якабс, які меў падрыхтаваць умовы для хуткага пачатку аперацыяў.

Улады падрыхтаваліся: на сустрэчы са старшынём губвыканкама Крыловым прысутнічаў рабочы, які быў на заробках у Амерыцы й крыху гаварыў па-ангельску. Ён і быў прызначаны прадстаўніком уладаў. Амерыканцам сказалі, што склад, памяшканне пад кантору й жытло для іх ужо падабралі. Быў выкліканы службовы аўтамабіль, і араўцы разам з прадстаўніком губвыканкама рушылі аглядаць памяшканні.

Склад аказаўся ў цэнтры горада, але ўяўляў сабой невялікі пакой у нежылым будынку. Ані памерам, ані размяшчэннем ён не пасаваў да аперацыйных патрэбаў. Збянтэжаны прадстаўнік губвыканкама параіў звярнуцца да чыгуначнікаў. Паехалі ў чыгуначную ўправу. Там гасцям

---

* Паводле ўспамінаў Джона Айкера, напісаных у кастрычніку 1922. У іншых справаздачах дата прыезду пазначаецца 13 студзеня.

** Вуліца захавала свой назоў да цяперашняга часу, захаваўся й губернатарскі палац, у якім у 1812 месцілася штаб-кватэра Напалеона. «Збор помнікаў архітэктуры» апісвае дом 18 на вул. Савецкай як «адміністрацыйны будынак» — там цяпер месціцца абласная ўправа КГБ.

здзівіліся, але выслухалі й прапанавалі стары ангар — пры ўмове, што новыя гаспадары самі вывезуць смецце й падрыхтуюць умовы для складавай працы. Айкер пагадзіўся.

У адным з вагонаў прыбыў аўтамабіль «Форд-Каміянет», але завесці машыну не ўдалося. Адсутнічалі часткі, якія запакавалі асобна. Паколькі пломбы на дзвярах былі на месцы, верагодна, іх забыліся пакласці ў Маскве. Амерыканцы распакавалі скрынку з друкавальнай машынкай, але з-за дрэннай упакоўкі яна амаль рассыпалася й вымагала сур'ёзнага рамонту. Першыя справаздачы з Віцебска давялося пісаць ад рукі.

Ужо прыцемкам араўцы прыбылі ў гатэль, дзе пасяліўся перакладчык і дзе былі зарэзерваваныя месцы. Аднаго погляду хапіла, каб амерыканцы заявілі, што, пакуль няма сталага жытла, лепш будуць начаваць у вагоне, не зважаючы на сапсаваную печку й люты мароз.

Перакладчык застаўся ў гатэлі, прадстаўнік губвыканкама падвёз амерыканцаў да станцыі й паабяцаў заехаць наступнай раніцай, каб далей шукаць жытло й памяшканне пад кантору. Спальны вагон амерыканцаў стаяў у тупіку побач з таварнымі вагонамі, пераабсталяванымі пад часовае жытло, калі меркаваць па комінах.

Наступнай раніцай, 8 студзеня, абяцаны губвыканкамам аўтамабіль спазніўся на дзве гадзіны. Прадстаўнік уладаў выбачаўся і ўсяляк



спрабаваў палепшыць першыя ўражанні. Амерыканцы занеслі ў газету абвестку пра набор на працу й пачалі знаёміцца з горадам. Якабс паказаў некалькі незанятых пабудоваў. Пусты школьны будынак пасаваў для канторы й выдачы пасылак. Амерыканцы накіраваліся на вуліцу Савецкую, у губвыканкам, але там спасляліся на «тэхнічныя прычыны». Аднак прапанавалі іншыя адрасы — выглядала, што ў Віцебску ўлады хочуць дапамагчы амерыканцам распачаць працу. Старшыня губвыканкама Крылоў паслаў тэлеграму ў Маскву ва ўрад:

> **Тыдзень таму ў Віцебск прыбыў прадстаўнік АРА Айкер для арганізацыі тут абласнога аддзялення дапамогі дзеля абслугоўвання Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў. У сілу пагаднення ўрада з АРА, падпісанага 20 жніўня летась у Рызе, губвыканкам бярэ на свой рахунак усе выдаткі, звязаныя з прадастаўленнем аддзяленню АРА памяшканняў, разгрузкай вагонаў, карыстаннем аўтамабільным транспартам і да т.п. Не маючы крыніцаў для пакрыцця ўсіх выдаткаў, прэзідыум губвыканкама просіць тэрмінова перавесці на вышэйзгаданыя мэты два мільярды рублёў, а таксама даць падрабязныя дырэктывы ў справе ўзаемадачыненняў губвыканкама й АРА.**

Віцебская акруга паводле тэрыторыі была адной з найбольшых. Межы акругі захоплівалі землі чатырох губерняў і праходзілі па лініі Холм—Асташкаў—Белы—Вязьма—Юхнаў—Чэрыкаў—Быхаў—Талачын—Лепель—Полацк—Дрыса—Апочка—Наваржэў—Холм.

Напачатку студзеня, калі Айкер і Макмілан ад'язджалі з Масквы, кіраўніцтва АРА паставіла задачу як найхутчэй пачаць дастаўу пасылак. Справаздачу пра выдачу першай дзясяткі патрабавалася адразу адправіць тэлеграфам. На трэці дзень па прыездзе, калі былі разладаваныя вагоны, амерыканцы адправіліся шукаць адрасатаў.

Сонца ўжо села, і машына з цяжкасцю прабівалася праз гурбы снегу на нячышчаных вуліцах. Пасажыры мусілі час ад часу выскокваць і штурхаць аўтамабіль праз сумёты. Удалося знайсці толькі трэці адрас. Джон Айкер пісаў:

> **Мы самі занеслі прадукты, і трэба было бачыць, як узрадавалася ўся сям'я, каб пераканацца, што нашыя намаганні не былі марныя. На гадзінніку быў пачатак 11-й ночы, 10 студзеня 1922, калі мы атрымалі распіску пра дастаўу першай віцебскай пасылкі. Я добра**

**памятаю тую ноч, бо мы думалі, што ніколі ўжо не адтаем, і леглі ў ложак у ледзь ацепленым вагоне ў вопратцы й без вячэры.**

Наступнымі днямі Айкер і Макмілан па чарзе дастаўлялі пасылкі й аглядалі памяшканні. Застрашаныя дрэннай ежай у рэстаране, амерыканцы дамовіліся харчавацца прыватным чынам у сям'і. Праз пару дзён захварэў перакладчык. Айкер паслаў у Маскоўскую штаб-кватэру тэлеграму:

**Лекары знайшлі ў Якабса сімптомы тыфусу. Перакладчыка паклалі на сані й адвезлі ў чыгуначны шпіталь. Гэта звычайны жылы дом, які да таго ж амаль не ацяпляецца. Хворыя атрымліваюць палову фунта хлеба на дзень, бракуе амаль усіх патрэбных лекаў. Прашу неадкладна пачаць даставу медыкаментаў і абсталявання ў Віцебскую акругу.**

Штовечар, пасля працы ў складзе й раздачы пасылак, Айкер і Макмілан вярталіся ў халодны вагон. Яны надалей жылі на рэйках, але ўжо было знойдзенае прыдатнае памяшканне пад жытло й кантору — будынак статыстычнай управы непадалёк ад моста праз Дзвіну. Аднак патрабаваўся рамонт і замена ацяплення: пакоі абаграваліся печкамі-буржуйкамі. Губвыканкам прыслаў арцель будаўнікоў, якія ўзяліся за працу.

Сітуацыя змянілася 26 студзеня. У гэты дзень з Масквы ў Віцебск прыйшла тэлеграма ў адказ на тэлеграфны запыт старшыні губвыканкама. Упаўнаважаны савецкага ўрада Аляксандр Эйдук пісаў:

**На ваш нумар 205 паведамляю: прадстаўнікі АРА прыехалі ў Віцебск не для аказання дапамогі тым, хто галадае, а вылучна для размеркавання харчовых пасылак асобным адрасатам, за якія заплачана ў Амерыцы дзесяць даляраў за кожную пасылку. Патрабаванне двух мільярдаў не можа быць задаволенае: за ўсе паслугі, якія вы робіце АРА, апошняя абавязаная разлічыцца на месцы за выняткам платы за наём кватэры й складавых памяшканняў.**

Нягледзячы на сцісласць тэлеграфнага адказу, віцебская просьба «даць падрабязныя ўказанні ў справе ўзаемадачыненняў губвыканкама з АРА» была цалкам задаволеная.

«Да ведама й выканання» — гэтая рэзалюцыя з’явілася на тэлеграме Эйдука на наступны дзень. Выконваць рэзалюцыю меў ужо новы ўпаўнаважаны.

Айкер пісаў пазней:

**Першы прадстаўнік губвыканкама, які гаварыў па-ангельску, неўзабаве сам папрасіўся на працу ў АРА. На ягонае месца быў прызначаны «найразумнейшы камуніст у горадзе» — ён жа пракурор, ён жа прафесар у мясцовай бальшавіцкай школе й сябра губвыканкама прозвішчам Канаплін. Як можна бачыць, яму лёгка было знайсці прычыну — недахоп часу, каб не займацца нашымі патрэбамі — і гэтая прычына заўсёды знаходзілася. Гэтая асоба навучыла мяне, якой крывадушнай можа быць чалавечая істота.**

Амерыканцы пазнаёміліся з тэлеграмай Эйдука толькі праз месяц, але яе дзеянне адчулі нашмат раней. Будаўнікі, якія рамантавалі памяшканне былой статыстычнай управы, запатрабавалі выплаты авансу. Айкер скіраваў іх у губвыканкам. Там адмовіліся плаціць і параілі будаўнікам патрабаваць грошы ад кіраўніка акругі альбо скардзіцца ў Маскву. Айкер паслаў будаўнікоў назад у губвыканкам. Упаўнаважаны зноў адаслаў іх да амерыканцаў. Жарсці хутка разгарэліся, і брыгадзір будаўнікоў нават пагражаў забіць кіраўніка акругі.

Жыць далей на рэйках не выпадала. Чыгуначнікі ўжо патрабавалі вызваліць вагон. Трэба было тэрмінова завяршаць рамонт, і Айкер выплаціў будаўнікам грошы з касы АРА. З халоднага вагона амерыканцы перабраліся ў два маленькія пакоі на верхнім паверсе статыстычнай управы. Айкер успамінаў:

**Каб быць чыстым, выбар быў — альбо снегавая ванна, альбо нічога. Часам ваду нам прыносілі з рэчкі, электрычнасці не было, не хапала дроваў, хаця горад акружаны лесам.**

Праз месяц, у канцы лютага, Айкер напісаў на імя старшыні губвыканкама афіцыйны ліст:

**Паведамляем вам, што мой сакратар і я спім на дошках, таму што нам не былі дадзеныя адпаведныя сеткі для ложкаў. Самі ложкі надзвычай нязручнай сістэмы. Апроч іх, кожны з нас мае толькі адзін стол, адно крэсла й адзін зламаны рукамыйнік. Калі б вы жадалі надаць замежным прадстаўнікам, якія знаходзяцца тут вы-**

**лучна для дапамогі вашаму народу, нейкую ўвагу, дык найменшае, што вы маглі б зрабіць — гэта даць мэблю для іхнае кватэры, каб яны маглі жыць хаця б з нейкім камфортам.**

Айкер нагадваў, што ранейшыя шматлікія просьбы пра мэблю для жытла, канторы й складоў застаюцца без адказу. Афіцыйную скаргу, як Айкер назваў свой ліст, завяршала прыпіска:

**Мы пасылаем вам гэты ліст, каб не было непаразумення, што вам невядома вышэйвыкладзенае.**

Падрыхтаваць тэкст адказу было даручана ўпаўнаважанаму Канапліну:

**Ваш ліст ад 27 лютага выклікаў у нас пэўную долю здзіўлення. Мы неаднаразова заяўлялі вам пра нашую гатовасць задаволіць усе вашыя патрабаванні, наколькі яны не пярэчаць інструкцыям з цэнтру. Але паколькі вашыя патрабаванні дагэтуль галоўным чынам засяроджаныя на мэблі й іншых дробных рэчах, пра якія ў нас няма ніякіх канкрэтных указанняў, дык губвыканкам мусіць абмежавацца толькі парадаю набыць пазначаныя рэчы за кошт АРА.**
**Мы абавязаныя ўзяць на сябе толькі рамонт складавага памяшкання, калі б ён патрабаваўся. Пра ўсё астатняе, як вы можаце пераканацца з далучанай тэлеграмы, ніякіх указанняў няма. Што да мэблі, абяцанай вам прадстаўніком, дык гэта ёсць вылучна ягонай ветлівасцю да вас, і, калі мэбля яшчэ не дастаўленая, маем гонар вас запэўніць, што тут былі адпаведныя тэхнічныя прычыны, якія паступова здымаюцца.**

У скарзе Айкер асобна пісаў пра Канапліна:

**Калі ваш цяперашні прадстаўнік не мае даволі часу, каб рупіцца пра нашыя просьбы, дык можна было прызначыць іншага, пра што мы вам ужо пісалі.**

У афіцыйным адказе старшыні губвыканкама гаварылася:

**Прызначаючы свайго прадстаўніка, губвыканкам ведаў, каго й для чаго ён прызначае. Карыстаемся гэтай нагодай, каб паведаміць, што наш прадстаўнік цалкам у курсе сваіх функцыяў.**

Канаплін, які сам рыхтаваў тэкст адказу, сам і перадаў яго разам з копіяй тэлеграмы Эйдука кіраўніку акругі. Ні гэты, ні наступныя адказы не спрыялі паляпшэнню дачыненняў. Пазней у справаздачы ўпаўнаважанага Віцебскага губвыканкама для Масквы дзейнасць АРА ў першыя месяцы будзе падсумаваная наступным чынам:

**Са студзеня па ліпень — перыяд няспынных спрэчак паміж губвыканкамам і Айкерам, якога пераследуе манія парушэння паўсюль і ўсімі Рыжскага пагаднення.**

Кожныя некалькі дзён па прыездзе ў Віцебск амерыканцы назіралі адну й тую ж карціну: з цягнікоў з Волгі здымалі па 10—15 целаў памерлых дзяцей. Яны заставаліся ў вагонах аж да канечнай станцыі, у Віцебску трупы згружалі на сані й везлі на могілкі голыя целы — распраналі памерлых адразу ў дарозе.

У выніковай справаздачы Айкер гэтак ацэніць першыя месяцы свае супрацы з мясцовымі ўладамі:

**Мы рабілі ўсё магчымае, каб давесці да іх, што мы хочам пачаць працу як найхутчэй, але з такім самым поспехам мы маглі кідаць словы на ўзвей ветру.**

## Віцебск: слёзы, а не дапамога

**Габрэйскі горад. — Загадчык склада з «Grand Opera». — Крадзе й не дзеліцца. — Няма шчасця. — Ура амерыканскім братам! — Начная змена. — Даў па пысе. — Вайна з Джойнтам. — Айкер ад'язджае**

Праз дзень пасля прыезду ў Віцебск, позна ўвечары 9 студзеня, калі амерыканцы вярталіся ў вагон, іх чакаў першы кандыдат уладкавацца на працу.

Абвестка ў мясцовым друку прыцягнула пільную ўвагу гараджанаў. Шмат хто з мясцовага насельніцтва быў на заробках у Амерыцы, меў там сваякоў, крыху ведаў ангельскую. АРА не была першай арганізацыяй, якая дастаўляла дапамогу ў гарады й мястэчкі над Дзвіной. Першы кандыдат распавёў, як усяго некалькі месяцаў таму, калі Віцебск быў акупаваны палякамі, у горадзе працавала польская дабрачынная

арганізацыя. Пасля вяртання бальшавікоў некалькі яе супрацоўнікаў з мясцовага насельніцтва былі расстраляныя. Сярод іх была й дзяўчына.

Але гэтая гісторыя не напужала шматлікіх ахвочых уладкавацца ў амерыканскую кантору. Насельніцтва бедавала, і праца ў АРА гарантавала больш чым дзе прыстойныя ўмовы*.

Айкер пісаў:

**Мы мусілі напачатку браць на працу пераважна габрэяў, большасць якіх былі ў Амерыцы, гаварылі па-ангельску і ў бальшыні сваёй з'яўляліся агентамі ўладаў. Віцебск на 90% ёсць габрэйскім горадам, але ў тыя дні здавалася, што блізка да 100%.**

У справаздачы Віцебскай акругі кароткая гісторыя рэгіёна тлумачылася наступным чынам:

**Перад 1793 годам большая частка акругі належала да Польшчы, і пасля другога падзелу шмат палякаў, асабліва шляхты, засталося тут. У гарадах можна сустрэць даволі шмат немцаў, а бальшыню сялянаў складаюць расейцы. Па ўсёй акрузе рассеяныя таксама літоўцы й латышы. Але найбольшую частку насельніцтва складаюць габрэі, бо гэта быў рэгіён, вызначаны для іх рассялення пры старым рэжыме. Расейская й габрэйская з'яўляюцца мовамі гандлю, старая шляхта карыстаецца польскаю.**

Віцебск у 1922 годзе ўваходзіў у склад РСФСР, у горадзе не выдавалася ніводнай беларускай газеты, адсутнічалі беларускія школы. Сялянства было беларускамоўным, але ў справаздачах цяжка адшукаць якія-небудзь згадкі пра гэта. Мясцовых моваў амерыканцы не ведалі й залежалі ад перакладчыкаў. Голад на вёсцы быў куды меншы, чым у гарадах, перапоўненых уцекачамі. Асноўныя аперацыі прызначаліся для гарадоў і мястэчак, дзе былі сканцэнтраваныя адрасаты пасылак, дзіцячыя дамы й медычныя ўстановы. Сярод гараджанаў АРА й набірала супрацоўнікаў. Айкер пісаў:

**У ліку першых, хто звярнуўся, аказаўся былы саліст амерыканскай «Grand Opera» Зімін, і я хачу выказаць на ягоны адрас камплі-**

---

* У дадатак да заробку мясцовыя супрацоўнікі АРА бясплатна атрымлівалі адну амерыканскую харчовую пасылку на месяц. У Віцебскай акрузе ў 1922—1923 было выдадзена такім чынам больш за 41 тону харчу на суму 4263 даляры.

**мент, які магу адрасаваць толькі некальким людзям, якіх я сустрэў у Расеі, — ён сумленны чалавек.**

Зімін быў прызначаны загадчыкам склада. Айкер хваліў яго за добрую працу, але думкі пра віцебскіх кандыдатаў на працу не змяніў:

**Гэты джэнтльмэн, Зімін, таксама выкладаў у кансерваторыі, дзе былі іншыя інтэлігентныя людзі, якія гаварылі па-ангельску й шукалі працу. Аднак прапанаваная аплата для іх была занізкая, і пазней я ўведаў, што яны спрабавалі не дапускаць іншых людзей да працы ў АРА ў спадзяванні, што я буду вымушаны падвысіць заробак. Чаго можна чакаць ад масаў, калі так паводзіць сябе старая інтэлігенцыя.**

Скептыцызм Айкера што да мясцовага персанала будуць змушаныя падзяліць і наступныя кіраўнікі акругі. Эдвард Рэмі паведамляў у сакавіку 1923:

**Камітэт складавых рабочых уручыў мне петыцыю з патрабаваннем звольніць загадчыка склада. Яго абвінавачваюць у крадзяжы й перапродажы харчу. Я сустрэўся з дзевяццю аўтарамі петыцыі,**



**пасля з загадчыкам склада й затым звёў іх разам. Такім чынам я ўведаў шмат чаго, што заставалася для нас невядомым. Я імгненна звольніў загадчыка й яшчэ пяць чалавек. Паколькі ўсе звольненыя належалі да розных груповак, я атрымаў дастаткова інфармацыі, каб паправіць справы. Зрэшты, страты не такія ўжо сур'ёзныя. Загадчыка абвінавачваюць у продажы рэшткаў, якія збіраліся цягам месяца, і выглядае, што аўтараў петыцыі больш за ўсё злавала тое, што яны не дзялілі прыбытак.**

Напачатку асноўным клопатам АРА ў Віцебску была адрасная выдача харчовых пасылак, аплачаных у ЗША. Першую партыю картак-замоваў Айкер прывёз з сабою з Масквы й адразу пачаў збор новых. У мясцовай прэсе друкаваліся абвесткі, у канторы АРА афармляліся паштоўкі-замовы й перапраўляліся ў Амерыку. У амерыканскіх газетах АРА таксама друкавала свае абвесткі, якія прыцягвалі ўвагу нацыянальных, рэлігійных і прафесійных суполак. Хутка віцебскі адрас АРА стаў адным з найпапулярнейшых сярод габрэйскіх арганізацыяў Амерыкі. У дакументах АРА гэта тлумачылася рысай аселасці й гістарычнымі акалічнасцямі:

**Ад часу пагрому 1881 года пачалася сталая плынь эмігрантаў з гэтай акругі ў Злучаныя Штаты, і кожны новы пагром стымуляваў яе. Менавіта з гэтае прычыны сума харчовых пасылак за сем месяцаў дасягнула амаль 200 тысяч даляраў.**

16 лютага ў газеце «Известия Витебского губисполкома» з'явілася нататка пад загалоўкам «1052 пуды прадуктаў для беднякоў Лепеля ад працоўных габрэяў, якія эміґравалі ў Амерыку». Паведамлялася, што эміґранты з Лепеля праз АРА адпраўляюць пасылкі сваім землякам. У нататцы было ўдакладненне, важнасць якога Айкер неўзабаве ацэніць на практыцы:

**Сакратар Нью-Ёркскага таварыства дапамогі Саламон Фрыдман паведамляе, што большая частка грошай сабраная з працоўных габрэяў. Багатыя габрэі не жадаюць дапамагаць у няшчасцях сваім супляменнікам, і таму нас просяць стварыць камітэт з прадстаўнікоў усіх класаў, але большую частку іх павінны складаць працоўныя. Ура нашым амерыканскім братам!**

У красавіку было выдадзена 918 пасылак, у траўні 3498, у чэрвені 4097. Айкер пісаў у справаздачы:

**Людзі прыязджалі па пасылкі здалёк, і часам не паспявалі атрымаць да закрыцця склада. Вяртацца з пустымі рукамі не хацелі, пераначаваць не было дзе, і тады кладаўшчыкі прапанавалі выйсце: яны будуць працаваць дапазна, пасля закрыцця канторы. Разлічвацца з кладаўшчыкамі мелі самі наведнікі, прыватным чынам.**

Праца закіпела, аднак вырасла не толькі выдача пасылак, але й колькасць скаргаў. Адрасат Канцапольскі са смаленскага Рослаўля пісаў у Маскву:

**Прыехаў у Віцебск у панядзелак, кантора замкнёная й напісана ў вакне, што з нагоды другога дня Тройцы. Адно зло цягне за сабой другое. Назаўтра быў вялікі натоўп народу, а праз вакно відаць, што нашыя паненкі на абцасіках паварочваюцца, а народ як быдла таўчэцца. Прапусцілі да абеду чалавек трыццаць, столькі ж пасля абеду. Народ хваляваўся. Адзін гуманны малады чалавек выйшаў і супакоіў, што будуць працаваць пазней. Сабралі па 500 000 рублёў, і за гадзіну пасля часу закрыцця было адпушчана нашмат болей, чым за ўвесь дзень. Назаўтра серада, тое ж самае, і пасля часу закрыцця папрасілі па 1 500 000 рублёў. Я пачуваўся пакрыўджаным і пайшоў, але што з таго, давялося з усходам валяцца ля плота, каб патрапіць з першымі ў чаргу. Мушу сказаць, што адмаўляюся надалей ад паслугаў АРА, гэта адныя слёзы, такое маё ўражанне.**

Айкеру даводзілася змагацца адразу на чатырох франтах: ішла вайна з мясцовымі ўладамі, трэба было пісаць тлумачэнні ў Маскву, даводзілася ваяваць са сваім персаналам і абараняцца ў прамым сэнсе слова ад агрэсіўных наведнікаў:

**Наш персанал быў з ліку жонак былых расейскіх консулаў ды іншых важных асобаў, і каб не іхная беднасць, іх бы звольнілі за дробны крадзеж. Аднойчы ўрадавы агент пагражаў правесці ў канторы рэйд ЧК, што напалохала супрацоўнікаў толькі часова. Яшчэ прыклад удзячнасці па-віцебску — чалавек, які не здолеў прабіцца ў офіс без чаргі, плюнуў у твар амерыканскаму прадстаўніку. Гэта, натуральна, вымагала адпору, які быў дадзены й зрабіў добрае ўражанне на натоўп.**

Наведнік, якога Айкер спусціў з прыступак, аказаўся ўплывовым камуністам. У мясцовай газеце з'явіўся востракрытычны матэрыял пад

загалоўкам «Да ведама АРА». Айкера абвінавачвалі ў антысемітызме й саркастычна каментавалі амерыканскі досвед у боксе. Габрэйскія актывісты-партыйцы паспрабавалі наняць найлепшага ў горадзе адваката й прыцягнуць Айкера да суда. Вывучыўшы абставіны інцыдэнту, адвакат адмовіўся ад справы.

Тымчасам Айкер правёў даследаванне выдачы пасылак і рэвізію, пасля чаго імгненна звольніў некалькі «гуманных» супрацоўнікаў і скасаваў начную змену. Аказалася, што амаль усіх наведнікаў можна абслужыць цягам звычайнага працоўнага дня.

Аднак задаволіць патрабавальную віцебскую публіку было цяжка: атрымальнікі пасылак распісваліся за прадукты й цяжка ўздыхалі: «Няма шчасця!» Збянтэжаныя амерыканцы доўга не маглі зразумець, у чым рэч. Высветлілася, што пакрыўджаныя інтарэсы ўплывовай групы гандляроў — амерыканскія прадукты прывялі да падзення коштаў на рынку. Гандляры й адрасаты дапамогі ў Віцебску нярэдка сумяшчаліся ў адной асобе. Айкер мусіў пакінуць усе спадзяванні на ўдзячнасць.

З лета пачаліся дастава медыкаментаў і іншай гуманітарнай дапамогі агульнага прызначэння. У Віцебскай акрузе налічвалася ўжо 22 штатныя супрацоўнікі — інспектары, шафёры, складавы персанал. Нягледзячы на перашкоды, амерыканцы пашыралі склады, рамантавалі офісы, вучылі супрацоўнікаў, узмацнялі ахову — былі паспяхова перапыненыя некалькі спробаў рабаўніцтва. У адной са справаздачаў мімаходзь згадваюцца ўмовы, у якіх дзейнічала АРА:

> **Летам па нашай машыне некалькі разоў стралялі салдаты, у большыні ад няведання, а аднойчы вар'яты.**

Айкер невыпадкова напіша пра здарэнне без ацэнак і каментароў, як пра звычайную рэч. Бандытызм і ўзброеныя напады не былі рэдкасцю на пасляваеннай Віцебшчыне. 27 студзеня 1923 быў забіты агент, які вёз 12 пасылак АРА ў Воршу, разам з ім загінулі два спадарожнікі. За дзесяць дзён вакол Віцебска было забіта 15 чалавек. Міліцыя арыштавала 12 чалавек, якія прызналіся ў злачынствах і былі расстраляныя. Матыў усіх нападаў — рабаўніцтва, прычына — галеча.

Неўзабаве дастава вырасла да 600—700 пасылак у дзень, а аднойчы дасягнула 1150, — але хутка пайшла ўніз. На ўстрывожаны запыт Маскоўскае штаб-кватэры Айкер мусіў паведаміць пра новую нечаканую перашкоду.

Гэтым разам працы заміналі не карыслівыя супрацоўнікі, не крывадушныя ўлады, не наравістыя адрасаты, а іншая амерыканская дабрачынная арганізацыя — Джойнт.

Пазіцыя АРА — дапамогу павінны размяркоўваць тыя, каму яна адрасаваная. Улады могуць толькі наглядаць, каб не было злоўжыванняў. Аднак прадстаўнікі ўлады ўвайшлі ў склад камісіяў Джойнту, і адрасаты АРА сталі атрымліваць пагрозы арышту, канфіскоўваліся спісы, рэквізаваліся нават паштовыя маркі.

28 чэрвеня Айкер скардзіцца: Джойнт зайшоў так далёка, што захапіў частку гуртовых пасылак АРА для свайго выкарыстання. Айкер прапанаваў нават спыніць даставу харчу для дзіцячага дома, якім апекаваўся Джойнт, пакуль гэтая арганізацыя не адмовіцца ад такіх метадаў і не палагодзіць канфлікту.

Праз тры дні Айкер зноў звяртаецца да дырэктара АРА Уільяма Гаскела:

> **Мы не бачылі ўпаўнаважанага ўладаў ужо тры месяцы, і губвыканкам ігнаруе ўсе нашыя лісты. З другога боку, улады не прамінаюць выпадку зрабіць нам непрыемнасць праз камітэт Джойнту.**

Ціск на Айкера нарастаў. Афіцыйны прадстаўнік губвыканкама адмаўляўся ўступаць у любыя кантакты й вырашаць праблемы. У Віцебск прыбыў доктар Ралф Герц, і ўсё было гатова для пачатку медычнае дапамогі, але перадаць лекі й абсталяванне ў шпіталі аказалася немагчыма: улады хацелі рабіць гэта самі, без АРА. Медычны камітэт з мясцовых лекараў, скліканы Айкерам, не быў прызнаны губаддзелам аховы здароўя. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося размеркаваць адзін вагон дапамогі.

Напярэдадні чарговай вялікай даставы медыкаментаў у Віцебск прыбыў лекар з Мінска Фрэнк Вілі — і адбыў назад ні з чым. Губвыканкам прызначыў свой камітэт з правераных камуністаў, якія, аднак, не былі лекарамі, і тады іх не прызнаў кіраўнік Віцебскай акругі.

Скаргі на Айкера, што меў даволі моцны характар, ішлі як ад уладаў, гэтак і ад актывістаў Джойнту, якія таксама рэпрэзентавалі ўлады. У Маскоўскай штаб-кватэры пачалі прыходзіць да высновы, што брак супрацоўніцтва з мясцовымі ўладамі становіцца галоўным тормазам працы.

Яшчэ ў чэрвені Айкер пачынаў сваю справаздачу ў Маскву аптымістычна:

**Усё, што тычыцца медычнай дапамогі ў Віцебскай акрузе, добра рухаецца наперад. Зразумела, губаддзел аховы здароўя стварае пэўны клопат, але мы спадзяёмся хутка палагодзіць справы. Чыгуначнікі не залежаць ад губаддзела, і з імі асабліва прыемна працаваць. Калі губаддзел захоча зноў блакаваць нашу працу, мы можам цалкам перанесці яе на чыгуначнікаў.**

Кіраўніцтва АРА не падзяліла ні аптымізму кіраўніка акругі, ні змены курсу на дапамогу прафесійнай групе чыгуначнікаў, якая й без таго пачувалася параўнальна няблага. Трывожылі абвінавачанні ў антысемітызме й поўны разрыў сувязяў з мясцовымі ўладамі. У адным з амерыканскіх дакументаў, напісаным амаль праз год пасля падзеяў, сітуацыя была падагульненая наступным чынам:

**Інтрыгі супраць містэра Айкера пачалі прыносіць плён.**

21 чэрвеня на месца сакратара акругі Макмілана, які вяртаўся ў Амерыку, з Петраграда прыбыў Доналд Ліндсэй. Напачатку ліпеня Айкер атрымаў новае прызначэнне — у Саратаў — і пачаў перадачу справаў новаму сакратару, які мусіў часова выконваць абавязкі кіраўніка акругі. Таксама напачатку ліпеня атрымаў віншаванні з поспехам і склаў абавязкі ўпаўнаважанага пры АРА віцебскі пракурор і прафесар камуністычных навук Канаплін.

11 ліпеня першы кіраўнік Віцебскай акругі АРА Джон Айкер развітаўся з калегамі й выехаў на працу ў эпіцэнтр голаду — на Волгу.

## Віцебск: няхай жыве й квітнее Амерыка!

**Кадравая карусель. — Сувязь з ГПУ. — Дзіўны арышт. — Упаўнаважаны хваліцца. — Краўцы без вопраткі, шаўцы без чобатаў. — Ліст у Каліфорнію. — Спадчына Айкера. — Ex Occidente lux — святло з Захаду**

У кабінет кіраўніка акругі АРА былі запрошаныя два чалавекі: жанчына, якая прыйшла па сваю пасылку, і мясцовы супрацоўнік. На пытанне, ці ведаюць яны адно аднаго, абодва адказалі адмоўна. Калі жанчына на просьбу ўпаўнаважанага напісала сваё прозвішча — Енкіна — і распісалася, подпіс параўналі з почыркам у даверанасці на атрыманне



трох пасылак, якую меў супрацоўнік АРА прозвішчам Канстанцінаў. Почыркі не супалі. Падробка была відавочная.

У кабінеце быў яшчэ адзін чалавек. Ён пазваніў начальніку губернскага крымінальнага вышуку й папрасіў прысляць канвой.

Так пачаўся дзень 1 жніўня для Доналда Ліндсэя, які выконваў абавязкі кіраўніка акругі пасля ад'езду Джона Айкера. Пры вочнай стаўцы прысутнічаў новы ўпаўнаважаны губвыканкама Шымялёвіч. Праз месяц у сваёй першай справаздачы ў Маскву ўпаўнаважаны паведаміць:

**Усталяваны шчыльны кантакт паміж мною й ГПУ.**

Пасля ад'езду Айкера й адстаўкі пракурора Канапліна на месца ўпаўнаважанага быў адразу прызначаны нехта Пайкін, але пратрымаўся на пасадзе толькі тыдзень. Выглядала, што ўлады ў Маскве таксама турбавалі канфлікты ў Віцебску, і з апарату Ландэра вырашылі прысляць свайго чалавека. Так 20 ліпеня ў Віцебску з'явіўся лекар Шымялёвіч.

Новы пачатак у дачыненнях АРА й віцебскіх уладаў быў шматабяцальны. Штодзень па дарозе на працу Ліндсэю прапанавалі купіць амерыканскія прадукты. Ля складоў АРА працаваў рынак, дзе змесціва пасылак прадавалі й абменьвалі на іншыя прадукты й рэчы. Не паспеў

Ліндсэй выказаць сваю занепакоенасць, як новы прадстаўнік імгненна выдаў пастанову зліквідаваць базар. Таксама развязаўся працяглы канфлікт з аўтабазаю губвыканкама. Айкер абвінавацію начальніка аўтабазы ў самавольным захопе аўтамабіля АРА, той апраўдваўся, што меў дазвол на паездку ў Смаленск, але амерыканец забыўся пра гэта. Ліндсэй і Шымялёвіч пагадзіліся лічыць інцыдэнт непаразуменнем.

Праз месяц у сваёй першай справаздачы ў Маскву Ландэру новы ўпаўнаважаны адзначыў, што ўвесь папярэдні перыяд амерыканцы ў Віцебску працавалі без нагляду ГПУ. З ягоным прыездам сітуацыя памянялася. Першая справаздача за перыяд 20 ліпеня — 1 верасня заняла 11 старонак і складалася з 14 раздзелаў, прысвечаных выдачы пасылак, медычнай дапамозе, дзіцячаму харчаванню, узаемадачыненням амерыканцаў з мясцовымі ўладамі. Найбольшы раздзел быў названы «Арышт супрацоўніка АРА гр. Канстанцінава». Шымялёвіч, які падпісваўся як «лекар», сведчыў пільнасць, уласцівую супрацоўнікам не толькі гэтае прафесіі:

**Ужо з першага дня мае працы ў АРА супрацоўнік Канстанцінаў прыцягнуў маю ўвагу як сваімі паводзінамі, гэтак і шырокім ладам жыцця.**

Канстанцінава дапытвалі, шукалі саўдзельнікаў, але той адпіраўся, сцвярджаў, што даверанасць купіў, а пячатку набыў у незнаёмага супрацоўніка губсаўнаргаса ў рэстаране. Нікога знайсці не ўдалося, і праз тры тыдні крымінальны вышук палічыў сваю працу завершанай. Але справу Канстанцінава не перадалі ў суд і самога яго не вызвалілі. Упаўнаважаны губвыканкама пераслаў справу ў ГПУ. У справаздачы ў Маскву Шымялёвіч дакладаў:

**Канстанцінаў, 1906 г.н., сын былога дырэктара дзяржбанка ў Віцебску, скончыў юнкерскую вучэльню, змагаўся на Урангельскім фронце супраць Савецкай Расеі, быў паранены, кантужаны, па адступленні патрапіў у Канстанцінопаль. Адтуль паехаў да бацькі ў Парыж, дзе бацька ёсць чальцом Расейскага ўрада ў Францыі. У Расею вярнуўся па амністыі, у АРА паступіў толькі таму, што АРА ведае ягонага бацьку (словы Канстанцінава). У АРА паступіў 7 лютага. Пры ім знойдзенае пасведчанне Чырвонага Крыжа ў Віцебску, што ў перыяд з 6 па 20 лютага знаходзіўся на лячэнні ў лазарэце з агняпальным раненнем у грудзі.**

Сукамернікам у турме Канстанцінаў расказваў, што ваяваў супраць Чырвонай арміі на паўднёвым фронце, быў засуджаны на расстрэл, але ўцёк. Аднак падчас допыту ён нечакана заявіў, што служыў у ЧК. Месцам службы назваў Кіеў. Далейшае следства было спыненае, матэрыялы ў суд не паступілі. Канстанцінаў быў перапраўлены з Віцебска ў распараджэнне асобага аддзела Кіеўскай ваеннай акругі.

У сваёй першай справаздачы ў Маскву новы ўпаўнаважаны Шымялёвіч так ацаніў працу АРА за час да свайго прыезду:

**Галоўнай мэтай АРА было толькі размеркаванне індывідуальных дзесяцідаляравых пасылак... Пастаянна напружаная атмасфера, разыходжанні, непаразуменні... Айкер усё ацэньваў з гледзішча парушэння Рыжскага пагаднення... Такі, у кароткіх рысах, агляд дзейнасці АРА са студзеня па ліпень — перыяд няспынных спрэчак паміж губвыканкамам і Айкерам, якога пераследуе манія парушэння паўсюль і ўсімі Рыжскага пагаднення.**

Далей Шымялёвіч паведамляе:

**20 ліпеня я ўступіў у выкананне абавязкаў паўнамоцнага прадстаўніка губвыканкама. Дачыненні губвыканкама й АРА з гэтага моманту набываюць цалкам нармальны характар.**

Дзеля падмацавання Шымялёвіч прыклаў да справаздачы нататку з газеты «Известия Витебского губисполкома» ад 31 жніўня пад назвай «Дзейнасць АРА ў Віцебску». Артыкул меў падзагаловак «З гутаркі з прадстаўніком віцебскага аддзялення АРА». Публікацыю пачынала набраная буйным шрыфтам на дзве калонкі ўрэзка:

**Ад пачатку сваёй дзейнасці да 1 верасня віцебская кантора АРА размеркавала да 60 000 пудоў харчавання на суму адзін трыльён рублёў. Размеркаваныя 4 вагоны з медыкаментамі, якімі забяспечаныя амбулаторыі, шпіталі й дзіцячыя дамы. Распачатае хадайніцтва перад Масквой аб харчаванні мясцовых студэнтаў.**

Хадайніцтва распачаў не хто іншы, як хворы на манію парушэння пагадненняў Джон Айкер. Нягледзячы на канфлікты, якімі былі пазначаныя паўгода працы ў Віцебску першага кіраўніка акругі, аказалася, што й зроблена нямала, і АРА займела высокую рэпутацыю па-за сценамі губвыканкама. Выглядала таксама, што калі пра гэта не гаварылі

адкрыта, дык прызнавалі і ў самім губвыканкаме. Менавіта з губвыканкама, які афіцыйна апошнія тры месяцы не кантактаваў з Айкерам, у кантору АРА перадалі засведчаную пячаткай просьбу дапамагчы вучням.

Ліст быў падпісаны будучымі шаўцамі, сталярамі й швачкамі, якія рэпрэзентавалі шэсць віцебскіх прафесійна-тэхнічных вучэльняў. Напачатку ліста амерыканцам даволі лірычна тлумачылі сэнс гэтых установаў:

**Раней гэтыя падлеткі мусілі б ісці вучыцца да саматужнікаў і праводзіць свае маладыя гады пад вечным біццём сярод пакутаў і адначасова не атрымліваць ніякай адукацыі, заставацца затурканымі, цёмнымі, неадукаванымі людзьмі.**

Так было. Стала:

**ПТВ рыхтуюць з падлеткаў майстроў, не прымушаюць іх цярпець знявагаў чалавечай годнасці і ўводзяць іх у галіну высокіх дасягненняў культуры й цывілізацыі.**

Каб амерыканцы лепш ацанілі перамены, прынесеныя рэвалюцыяй у Віцебск, аргументы паўтараліся яшчэ раз:

**Раней шэры затурканы падлетак мусіў нянчыць дзяцей у свайго майстра, даглядаць жывёлу, цярпець біццё й зрэдку з сумам марыць аб прывольным жыцці школьнікаў. Цяпер жа падлетак вучыцца працы з дзясяткамі сваіх адналеткаў у школьным памяшканні, мае ўтульны дах над галавой і працуе толькі тады, калі гэта не перашкаджае развіццю ягонага арганізма, і ў вольны час займаецца развіццём свайго інтэлекту.**

Аднак паколькі на мэце было атрыманне амерыканскай дапамогі, ідэальная частка на гэтым сканчалася й пачыналася больш рэалістычнае апісанне ПТВ швейнікаў:

**З 58 падлеткаў круглыя сіроты — 8%, без бацькі — 43%, без маці — 13%, усяго сіротаў 64%. Амаль усе мусяць харчавацца за свой мізэрны заробак (500 000 за месяц). Не варта думаць, быццам астатнія 36% добра харчуюцца, бо ў бальшыні ў сям'і 5—6 чалавек, з якіх працуюць сама больш два. Натуральна, што ў такіх умовах дзеці вымушаныя часткова недаядаць, а часткова літаральна галадаць.**

> **Іхны крохкі дзіцячы арганізм разбураецца й лёгка паддаецца хваробе. У згаданай школе нярэдкія выпадкі, калі падлетак самлее ля сваёй кравецкай машынкі.**

Аўтары ліста далей працягваюць апісанне новага быту: вучні жывуць у брудных падвалах, пазбаўленых святла, цяпла і ўтульнасці, бракуе вопраткі й абутку. Пасля пераходзяць да ўмоваў навучання «высокім дасягненням цывілізацыі»:

> **Не лепшыя справы з навучальнымі дапаможнікамі. Няма ані кніг, ані сшыткаў, ані прыстойных машынаў, ані варштатаў. Такая сітуацыя характэрная не толькі для згаданых школаў, а для ўсіх без вынятку ПТВ.**

Ліст сканчаўся просьбамі арганізаваць абеды для 430 чалавек, забяспечыць навучэнцаў цёплай вопраткай, падручнікамі й абсталяваннем. Подпісы былі засведчаныя круглаю губернскаю пячаткаю.

Айкер пераслаў зварот у Маскву й далучыў свае аргументы, але з Маскоўскай штаб-кватэры прыйшла адмова — пакуль усе дабрачынныя рэсурсы забірала Волга.

Публікацыя ў «Известиях Витебского губисполкома» ўвогуле ставіла пад сумнеў ранейшую тэлеграму Эйдука пра характар працы АРА ў Віцебску, быццам скіраванай вылучна на выданне адрасных пасылак прыватным асобам. Высветлілася, што ў дадатак да 18 343 адрасных пасылак было таксама размеркавана 1356 дабрачынных пасылак. Яшчэ ў траўні віцебская АРА атрымала груз дабрачыннай дапамогі з Чэхаславаччыны, ад фонду газеты «Prager Tagblatt». Айкер тады паведамляў у Маскву:

> **Адзін з атрымальнікаў нядаўна пацярпеў вялікія страты ад пажару й залежыць цяпер ад дабрачыннасці. Трое іншых падзялілі адну пасылку, яны належаць да класы інтэлігентных людзей, якія займаюць адказныя пасады на паўгалодным заробку. Дапамога таксама была выдадзеная мастаку, хвораму з-за нястачы ежы, мастацкія здольнасці якога высока цэняць ягоныя калегі.**

Лісты ўдзячнасці ад мастака й іншых былі таксама адпраўленыя ў Прагу.

Амерыканскія прадукты прывялі да значнага падзення коштаў на мясцовых рынках, і ад гэтага выйгралі ўсе пакупнікі, прызнавала газета. З артыкула таксама вынікала, што віцебскай АРА ўдалося перака-

наць сваё цэнтральнае кіраўніцтва ў неабходнасці пашырыць медычную дапамогу для акругі:

**За апошні тыдзень сярод дзіцячых дамоў і медустановаў размеркавана: 23 575 ярдаў простай і стэрылізаванай нітніцы, 5700 ярдаў паркалю, 900 ваўняных коўдраў, 5000 пакетаў першай дапамогі, 1234 прасціны, 2724 бахматыя ручнікі й вялікая колькасць іншага інвентару й медыкаментаў. Апроч таго, днямі атрыманая перасоўная дэзынфекцыйная камера.**

У чэрвені, за месяц да адʼезду, Айкер сустракаўся з прафесарамі віцебскіх інстытутаў, якія перадалі яму петыцыю аб дапамозе. Айкер вырашыў звярнуцца ў сваю альма-матэр — у Каліфарнійскі ўніверсітэт у Берклі. У суправаджальным лісце ён пісаў:

**Джэнтльмэны, чые подпісы стаяць пад гэтым дакументам, ёсць годнымі рэпрэзентантамі тае моцна панішчанае й амаль зніклае класы інтэлігентных людзей, якія некалькі гадоў таму вучылі моладзь Расеі ў добра абсталяваных інстытутах. Цяпер жа, апроч таго, што іх менш, ім недастаткова плацяць і яны недастаткова ядуць, іхныя класы й лабараторыі практычна без абсталявання. Прычына, дзеля якой іхная просьба перададзеная ў вашую ўстанову, — тая, што калі прафесары змогуць атрымаць патрэбныя рэчы й такім чынам здолеюць лепш вучыць сваіх студэнтаў, — тыя, у сваю чаргу, зробяць найлепшыя высілкі дзеля вызвалення Расеі са стану голаду.**

Айкер накіраваў такі самы ліст ва ўніверсітэт Джонса Хопкінса ў Балтымары.

Праз некалькі месяцаў у віцебскую кантору АРА прыйшоў ліст, які пачынала цытата з Евангелля:

**Я быў галодны, і вы накармілі мяне, я прагнуў, і вы далі мне напіцца.**

Да ліста была прыкладзеная кніга, якая расказвала пра заслугі аўтара, прафесара Аляксея Сапунова, у даследаванні гісторыі Віцебшчыны. Археограф, краязнавец, заснавальнік царкоўна-археалагічнага музея, былы дэпутат Дзяржаўнай думы й стацкі саветнік пісаў:

**Я прыношу сваю найглыбейшую падзяку вялікаму й шчодраму,**

**далёкаму, але цяпер блізкаму майму сэрцу амерыканскаму народу, які даў сілы мне, як і многім іншым працаўнікам навукі, перажыць гэтыя невыносна цяжкія часіны. Як быццам зыркі прамень святла, які раптоўна заззяў з далёкага Захаду, асвятліў глыбокую цемру вакол мяне*.**

У дакументах АРА ёсць тлумачэнне, што сямідзесяцігадовы прафесар перад гэтым аслепнуў, але паспяховая аперацыя вярнула яму зрок. Аднак былы выкладчык класічных моваў меў на ўвазе нешта іншае, калі скончыў ліст услаўленнем:

**І для мяне напраўду «ex Occidente, non ex Oriente, lux! Vivat, crescat, floreat America in saecula saeculorum!»**

Невядома, ці Джон Айкер разумеў лаціну, каб дакладна перакласці выраз «з Захаду, не з Усходу, святло! Няхай жыве, расце, квітнее Амерыка на вечныя вякі!», але напэўна зразумеў бы сэнс.

Айкер ніколі не пабачыў гэтае падзякі.

## Віцебск: зноў паўтарэнне пройдзенага

**Новы кіраўнік акругі. — Шымялёвічу цяжка. — Арышт і вызваленне рабіна. — Упаўнаважаны знік. — Дружба з губернатарам. — Зэліксон папярэджвае. — Абвінавачанні ў друку. — Блаславенне біскупа**

Напачатку жніўня ўпершыню за тры месяцы ў будынку губвыканкама на вуліцы Савецкай, 18 з'явіўся амерыканскі грамадзянін. У Віцебск з Вены прыбыў новы кіраўнік акругі — ветэран АРА Рэйманд Брэнд. Адбылася сустрэча з кіраўніцтвам губвыканкама, затым упаўнаважаны Шымялёвіч пазнаёміў Брэнда з кіраўнікамі аддзелаў асветы, аховы здароўя й сацыяльнага забеспячэння. Здавалася, Віцебск быў гатовы забыцца на старыя крыўды й павесці супрацу з АРА па-новаму.

---

* Пасля 1917 А. Сапуноў кіраваў аддзелам статыстыкі губвыканкама, 1 студзеня 1922 яго звольнілі — «перавялі на здзельную аплату працы». З тае пары ён практычна галадаў. Больш чым праз год пасля ад'езду АРА, 1 кастрычніка 1924, за навуковыя заслугі 73-гадоваму навукоўцу была прызначана пажыццёвая пенсія — 100 рублёў на месяц. Назаўтра, 2 кастрычніка, Сапуноў памёр.

Новы кіраўнік пачаў са знаёмства з аперацыямі ў губернскім цэнтры, наведаў шпіталі й дзіцячыя дамы. У Віцебск з Мінска прыязджаў Фрэнк Вілі, з якім абмяркоўвалі праблемы далейшых медычных паставак, затым Брэнд выправіўся ў падарожжа па акрузе.

Упаўнаважаны Шымялёвіч стараўся як мог, але й сам мусіў скардзіцца ў Маскву — няма асобнага штату, апарат губвыканкама перагружаны, цяжка атрымаць адказы на запыты:

**У выніку самому даводзіцца хадзіць з адной установы ў іншую, настойваць, патрабаваць, пагражаць прыцягненнем да адказнасці, без чаго, верагодна, увогуле нічога не даможашся. Досыць сказаць, што АРА ўвесь час не мела электрычнасці, пакуль, нарэшце, губкамунаддзелу не была дадзеная тэлефанаграма з прапановай прывесці электрычнасць у парадак за 48 гадзінаў з прыцягненнем да адказнасці за невыкананне. Гэта дало добры вынік, і святло хутка з'явілася.**

У тым самым дакуменце, толькі на дзевяць старонак раней, Шымялёвіч ускладаў віну за брак святла на былога кіраўніка акругі:

**Айкер на ўсё глядзеў пад вуглом парушэння Рыжскага пагаднення й пра ўсе дробязі паведамляў у Цэнтр, пра аплату за рамонт, пра**



**электрычнасць. Губвыканкам прапанаваў АРА несці ўсе выдаткі да высвятлення ў цэнтры, АРА адказвала тым самым, і ў выніку АРА сядзела без электрычнасці, была пазбаўленая й іншых зручнасцяў, што яшчэ болей раздражняла Айкера й давала яму магчымасць згушчаць атмасферу.**

Вельмі хутка згушчаць атмасферу пачаў сам Шымялёвіч:

**Даводзіцца выступаць не толькі ад імя губвыканкама, але й Цэнтра. Неабходнасць пашырэння складу АРА й далучэння суседняга пакгаўзу чыгункі выклікала з боку апошняй не толькі абыякавае стаўленне, але й злачыннае адцягванне адказу тыднямі, хаця чыгунцы склад быў не патрэбны. Затое склад адразу быў аддадзены, калі я заявіў, што дам тэлеграму Эйдуку й Дзяржынскаму.**

Непаслядоўнасць ці, магчыма, бюракратычная й палітычная спрактыкаванасць Шымялёвіча пачала прыносіць плён: упаўнаважаны не толькі дапамог з электрычнасцю й складамі, але паспрыяў вырашэнню канфлікту ў Вяліжы.

Амерыканскія габрэі, якія аплацілі 124 пасылкі, у якасці адрасата, адказнага за іх размеркаванне, прызначылі мясцовага рабіна. Аднак губвыканкам і габрэйскі камітэт Вяліжу, у склад якога ўваходзілі камуністы, настойвалі на сваім праве складаць спіс паводле класавага прынцыпу.

Рабін напісаў скаргу ў віцебскую кантору АРА, пасля чаго быў абвінавачаны ў здрадзе, арыштаваны й пасаджаны за краты. У адказ амерыканцы адмовіліся выдаваць вяліжскія пасылкі са склада. Падобныя канфлікты ўспыхнулі ў Лепелі й Дрысе. У выніку АРА пастанавіла прыпыніць выдачу групавых пасылак цалкам. Шымялёвічу ўдалося дапамагчы вызваліць рабіна й пагасіць канфлікт.

Нягледзячы на крытыку на адрас АРА, Шымялёвіч прызнаваў неабходнасць амерыканскай дапамогі. У самай першай справаздачы ў Маскву віцебскі ўпаўнаважаны выклаў адзінаццаць просьбаў — ад пашырэння паўнамоцтваў да вылучэння дадатковых грошай і штату, неабходных для паспяховай працы. Першым пунктам ішла агульная просьба да Ландэра:

**Спрыяць са свайго боку пашырэнню дзейнасці мясцовай канторы АРА ў галіне дзіцячай, медычнай, у адкрыцці сталовак і гэтак да-**

**лей з прычыны цяжкага становішча дзяцей Паволжа, а гэтаксама ўсяго насельніцтва, якое пацярпела ад стыхійнага бедства.**

Віцебскі губернскі камітэт партыі меў іншы погляд і звярнуўся ў ЦК РКП(б):

**Беручы пад увагу непатрэбнасць і нават шкоднасць знаходжання АРА на тэрыторыі Віцебскай губерні як прыфрантавой паласы, і з улікам таго, што АРА перш за ўсё арганізуе свае базы ў гэтак званых стратэгічных пунктах і што яна, як прыхаваная ваенная арганізацыя, ставіць варожыя РСФСР мэты, губкам хадайнічае перад ЦК аб недапушчэнні дзейнасці АРА ў Віцебскай губерні.**

У верасні ў Маскве адбылася агульная канферэнцыя ўпаўнаважаных пры замежных арганізацыях дапамогі. Калі Шымялёвіч вярнуўся з канферэнцыі, дык адразу прыпыніў выдачу медычных паставак. На сустрэчы з Брэндам ён стаў з падвоенай настойлівасцю зноў дамагацца беспасярэдняга ўдзелу ў размеркаванні дабрачыннай харчовай дапамогі. Уражаны новай непаслядоўнасцю, Брэнд паведамляў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**Я пераказваю ўсё гэта, каб толькі паказаць, з чым мы хутчэй за ўсё сутыкнемся ў будучыні. Гэта, безумоўна, вынік апошняе канферэнцыі, і ён не абяцае бесперашкоднай працы.**

Брэнд не памыляўся наконт будучыні й таму, мабыць, не надта шкадаваў, калі 5 кастрычніка Шымялёвіч раптоўна выехаў у Маскву дзеля прыватнай, як ён сказаў, справы — і не вярнуўся. Падсумоўваючы пазней узаемадачыненні з уладамі пасля ад'езду першага кіраўніка акругі Айкера й адстаўкі ўпаўнаважанага Канапліна, Брэнд пісаў:

**Быў прызначаны новы ўпаўнаважаны ў справах АРА прозвішчам Пайкін. Ён пратрымаўся на пасадзе тыдзень, і яго змяніў супрацоўнік з маскоўскага апарату ўпаўнаважаны Шымялёвіч. Новы ўпаўнаважаны паспрыяў вызваленню вяліжскага рабіна. Але ў Віцебску жыццё савецкага прадстаўніка нядоўгае, і пасля паездкі ў Маскву прадстаўнік апарату Ландэра паведаміў, што не вернецца.**

25 верасня з Маскоўскай штаб-кватэры ў Віцебск прыйшла тэлеграма: у акрузе пачынаецца праграма дзіцячага харчавання, якой дамагаўся яшчэ Джон Айкер. Патрабуецца новы склад, трэба наняць інспектараў

і арганізаваць іхную працу, вызначыць адрасатаў. Месца Шымялёвіча заставалася вакантным, і адзінай асобай, якая магла вырашаць пытанні АРА, нечакана стаў старшыня губвыканкама Крылоў. Брэнд пісаў:

**У гэты перыяд дачыненні ўладаў і АРА былі самымі сардэчнымі за ўвесь час — з дзвюх прычынаў: характар старшыні (малады чалавек раней служыў на флоце) і той факт, што Віцебская акруга атрымала 5000 рацыёнаў дзіцячага харчавання для закрытых установаў. Калі старшыня губвыканкама гаварыў, што нешта будзе зроблена, гэта рабілася. Калі яму сказалі, што патрабаванні перадаць пастаўкі ў аддзелы губвыканкама ці камітэта, які б стаяў над кіраўніком акругі, немагчымыя з прычыны палітыкі АРА, ён прыняў гэта як факт і не спрабаваў прымусіць кіраўніка акругі да кампрамісаў.**

Нягледзячы на спрыяльнае стаўленне, вырашаць штодзённыя справы кожны раз з кіраўніком губерні было нязручна. І калі новым упаўнаважаным пры АРА быў прызначаны старшыня губернскага аддзела аховы здароўя Елізары Зэліксон, Брэнд нават узрадаваўся:

**Новы прадстаўнік быў ворагам свайго папярэдніка, і будучыня выглядала ружовай, калі ён заявіў, што хоча супрацы, і даў зразумець, што ягоныя метады будуць супрацьлеглыя тым, якімі карыстаўся чалавек з ведамства Ландэра.**

Ці то Брэнд недаацэньваў папярэдняга ўпаўнаважанага Шымялёвіча, ці пераацэньваў новага, але неўзабаве яму давялося пераканацца, што віцебская рэчаіснасць больш складаная.

З Мінска зноў прыехаў лекар Фрэнк Вілі, і разам з Брэндам яны адправіліся ў Полацк, каб агледзець гарадскі шпіталь і дзіцячыя дамы. У шпіталі амаль не было медыкаментаў і абсталявання, але амерыканцы былі ўражаныя чысцінёй, парадкам і надзвычай добрай арганізацыяй працы. Вілі склаў спіс, і ў Віцебску падрыхтавалі ўсё для перадачы. Але калі лекар з Полацка прыбыў у губернскі цэнтр, яго сустрэў загад: дапамогі не браць. Яна не была папярэдне ўхваленая губаддзелам аховы здароўя.

Пачаліся спрэчкі: араўцы гаварылі пра сваё права беспасярэдне дапамагаць тым, каго яны вызначылі, Зэліксон настойваў на афіцыйным пасярэдніцтве. Афіцыйнага камітэта размеркавання дапамогі не прызна-

валі амерыканцы, другога камітэта не прызнавала віцебскае начальства. Неўзабаве Брэнд напісаў у Маскоўскую штаб-кватэру:

> **Мы патлумачылі ўпаўнаважанаму, што дзякуючы такой тактыцы Віцебск ужо страціў шмат вагонаў медыкаментаў, і ягоныя афіцыйныя пасланні пакінулі вельмі адмоўнае ўражанне. Ён адразу пачаў выбачацца й зрабіў заяву, якую мы заўсёды згадваем у падобных выпадках. «Што я магу зрабіць, калі з апарату таварыша Ландэра патрабуюць, каб я рабіў адно, з выканкаму — другое, з губаддзелу аховы здароўя — трэцяе, і ніводнае з гэтых патрабаванняў не задавальняе вас».**

Асаблівую насцярожанасць упаўнаважанага выклікала гуртовая дапамога, якую дабрадзеі з Амерыкі прызначалі канкрэтным групавым адрасатам (габрэям у мястэчку, лекарам ці навукоўцам). Спачатку Брэнд і Зэліксон дамовіліся, што пры раздачы будуць прысутнічаць прадстаўнікі мясцовых выканкамаў і, у разе праблемаў, яны змогуць прыпыніць выдачу. Усё ішло добра, пакуль упаўнаважаны не ўведаў, што гэтым роля выканкама й абмяжоўвалася. Выканкамы не дадавалі й не выкрэслівалі імёнаў атрымальнікаў. Зэліксон запатрабаваў, каб ніводны багацей не атрымліваў пасылак, назваў АРА буржуазнай арганізацыяй і папярэдзіў, што гуртовая дапамога стварае выдатную глебу для контррэвалюцыі.

Брэнд пісаў:

> **Калі яму сказалі, што пры самым нязначным сведчанні, быццам кіраўнік акругі ці любы супрацоўнік АРА займаецца такой дзейнасцю, усё, што ад яго патрабуецца, — напісаць у Маскву й дадаць доказы, ён адразу стаў шматслоўным і падрабязным наконт асабістай сумленнасці віцебскіх супрацоўнікаў, але вось жа няма такой упэўненасці пра АРА як арганізацыю.**

Справу пераслалі ў Маскву ў апарат Ландэра — адтуль у губвыканкам прыйшло ўказанне не перашкаджаць выдачы такой адраснай дапамогі. Сітуацыя зноў абвострылася, калі ў Віцебск стала паступаць гуртовая дапамога агульнага прызначэння, размяркоўваць якую меў права сам кіраўнік акругі. У кантору АРА, а не ў губвыканкам пайшлі просьбы з усёй губерні. Улады адчулі пагрозу свайму аўтарытэту. На хуткую да-

памогу з Масквы асабліва спадзявацца не выпадала, і было вырашана паўздзейнічаць на амерыканцаў іншым чынам.

Зэліксон меўся падрыхтаваць выступ у друку са спісам прэтэнзіяў да АРА, але перад публікацыяй папярэдзіць Брэнда й паспрабаваць дамагчыся саступак. Апроч галоўнай хібы — адхілення ўладаў ад размеркавання пасылак, АРА вінавацілі ў дрэннай арганізацыі медычнае дапамогі, няправільным падыходзе да сіротаў, якіх кармілі толькі ў дзіцячых дамах, дзе амерыканцы пабывалі з інспекцыямі. Як прыклад прыводзілася місія Нансена, якая перадавала ўсю дапамогу афіцыйным уладам.

Прафілактычная сустрэча прайшла досыць нервова. Брэнд паведамляў у Маскоўскую штаб-кватэру:

> **Упаўнаважаны запатрабаваў, каб усе звароты па дапамогу праходзілі праз ягоны офіс. Мы адказалі, што маем права на свабоду кантактаў. Ён запярэчыў, што, калі ўсё не будзе праходзіць праз ягоны офіс, ён не зможа кантраляваць дзейнасці АРА. Я палічыў да дзесяці й сказаў, што ў нашым разуменні ягоная задача не кантраляваць, а дапамагаць нам. Я думаў, ён перастане ўжываць слова «кантроль», але ён працягваў і заявіў, што менавіта гэтага чакае ад яго выканкам.**

Брэнд паказаў упаўнаважанаму тоўсты стос просьбаў аб дапамозе. Той заявіў, што палову іх ён сам бы лёгка выкрасліў са спісу, і амерыканцам не трэба было б увогуле сустракацца з гэтымі асобамі. Брэнд адказваў, што праверка просьбаў аб дапамозе ўваходзіць у ягоныя абавязкі й ён мусіць мець магчымасць свабодных сустрэчаў.

Неўзабаве выступ з крытыкай быў надрукаваны і ўтрымліваў усе ацэнкі й абвінавачанні, пра якія папярэджваў упаўнаважаны, — за выняткам аднаго патрабавання. Брэнд пісаў:

> **Упаўнаважаны сам сябе перамог, бо ў апошнім абзацы гаварылася, што ўсе звароты павінны адрасавацца беспасярэдне нам. Мы здзівіліся, калі пабачылі гэты абзац, бо якраз мелі працяглую гутарку пра наўпроставыя звароты й патрабавалі гэтага права.**

У газеце была памылка. Назаўтра з'явілася нататка пад загалоўкам «Сур'ёзная папраўка». Але Брэнд, які ад пачатку не спадзяваўся на палёгку, і не думаў саступаць:

**Мы будзем надалей выдаваць дабрачынныя харчовыя наборы паводле зваротаў, якія ўжо атрымалі, бо людзям патрэбны харч больш за ўсё астатняе. Калі будуць скаргі, мы гатовыя да наступстваў.**

У Віцебску ўмелі чытаць газеты — Брэнд штодня стаў атрымліваць дзясяткі просьбаў аб дапамозе. Кожная просьба разглядалася індывідуальна, з наведваннем адрасатаў:

**Усе дамы былі амаль аднолькавыя. Ложак ці два ў кутку, часам матрацы на падлозе, стол і пара зламаных крэслаў — вось і ўся мэбля. Брудныя малыя ціха сядзяць навокал. Месяцамі іхная ежа складалася з капусты, чорнага хлеба й гарбаты, і нам кажуць, што ім яшчэ пашанцавала. Яны дранцьвелі, калі атрымлівалі наш пакет з такой колькасцю прадуктаў адразу, усе акуратна запакаваныя й бясплатна.**

Амерыканцы не адмаўляліся разглядаць просьбы, якія зрэдку ішлі й на адрас упаўнаважанага, але правяралі іх гэтаксама, як усе астатнія. У сярэдзіне лістапада ў Віцебску, як і ўсюды ў зоне дзеяння АРА, пачалася кампанія замоваў цёплай вопраткі. Араўцы збіралі паштоўкі-замовы, сваякі ці знаёмыя з Амерыкі й Еўропы аплочвалі пасылкі з матэрыяламі для пашыву, якія выдаваліся са складоў АРА.

Аднойчы ў кантору ўвайшоў высокі, пад два мэтры, дзябёлы наведнік у чорнай сутане. Ён блаславіў персанал і групу віцяблянаў, якія чакалі выдачы пасылак. Тыя сталі ў чаргу да святара, каб пацалаваць руку. Незвычайны наведнік распісаўся за сваю пасылку й папрасіў сустрэчы з кім-небудзь з амерыканцаў. Яго правялі да новага сакратара акругі Эдварда Рэмі. Наведнік аказаўся праваслаўным біскупам.

Рэмі пісаў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**Святар папрасіў мяне перадаць амерыканцам, якія прыслалі дапамогу, словы ўдзячнасці за іхную дабрыню ад сябе й іншых святароў. Біскуп ужо быў у турме, і неўзабаве яго чакае суд у справе канфіскацыі царкоўных скарбаў. У яго ўжо адабралі царкву, на пасадзе яго змяніў «чырвоны біскуп»*.**

---

* Паводле даследнікаў («Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.)»), у 1922 у Беларусі быў расстраляны 201 прадстаўнік праваслаўнага духавенства.

Дапамога незалежна ад класавых, нацыянальных і рэлігійных прынцыпаў спрыяла аўтарытэту АРА ў Віцебску, нягледзячы на ўсе публікацыі ў камуністычным друку.

Гэтая акалічнасць хавала ў сабе новыя канфлікты.

## Віцебск: серп і молат на крыжы

**Калядная атака. — Інструкцыі з Масквы. — Вошы на транспарце. — Зіма ў зямлянках. — Тактоўнасць і цярплівасць. — Дзіцячыя дамы паляпшаюцца. — Загадкавы прагноз. — Брэнд просіцца ў адпачынак**

Каляды 1922 года ў Віцебску амерыканцам запомніліся зусім не святочнаю калатнечаю. У сярэдзіне снежня ўпаўнаважаны губвыканкама Зэліксон выправіўся на нараду ў Маскву. Адразу па адʼездзе ў мясцовай газеце зʼявілася нататка пра дапамогу дзецям. У артыкуле гаварылася пра 180 дзяцей, якімі апекаваўся Джойнт, і ні словам не згадвалася АРА, якая карміла больш за тысячу — нашмат болей, чым усе астатнія замежныя арганізацыі разам.

Кіраўнік акругі Рэйманд Брэнд мог здагадацца пра прычыну. Калі ў канцы кастрычніка АРА пачала праграму харчавання ў дзіцячых дамах, ён пісаў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**У шмат якіх дзіцячых дамах у Віцебску дзеці мусяць заставацца ў сценах усю зіму, бо іхная адзіная адзежа — нешта кшталту начной кашулі. Вельмі многія не маюць абутку й шкарпэтак. У Гарадку мы бачылі, як дзеці басанож хадзілі па снезе. Такі ж стан у Магілёве. Дзеці сядзяць вакол кафляных грубак, захутаныя ў араўскія коўдры. Памяшканні не праветрываюцца. Калі мы звярталі на гэта ўвагу мясцовых кіраўнікоў, яны казалі пра брак адзення. Усе дзіцячыя дамы маюць моцны пах.**

Калі Брэнд са сваімі супрацоўнікамі агледзеў шэраг дзіцячых дамоў, ён паставіў умову: амерыканская дапамога пойдзе толькі ў тыя ўстановы, дзе навядуць парадак.

Паводле статыстыкі губаддзела аховы здароўя, увосень 1922 у Віцебскай губерні дзейнічала 25 дзіцячых дамоў, ясляў і дыетычных кухняў

для 1700 дзяцей. Брэнд атрымаў гэтыя лічбы, але вырашыў спачатку паслаць інспектараў з праверкамі. У выніку агульная колькасць заявак скарацілася на траціну.



Гэта не дадало папулярнасці кіраўніку акругі ў кабінетах віцебскай улады. Калі Зэліксон вярнуўся з Масквы, дык патлумачыў Брэнду, што замоўчванне дапамогі АРА ў газеце было наўмысным, каб паўплываць на размеркаванне бюджэту. (У снежні АРА карміла ўжо 1751 дзіця: пасля пажару ў Бешанковічах без даху засталіся каля 500 дзяцей, і Брэнд накіраваў значныя рэсурсы ў мястэчка, якое было амаль дашчэнту вынішчанае).

Але публікацыя была толькі пачаткам каляднага наступу на АРА, які супаў з адсутнасцю ў Віцебску ўпаўнаважанага.

Прыходзіў з праверкай прадстаўнік губстраху й высвятляў, як тут апякуюцца здароўем супрацоўнікаў. Гэта быў ужо другі візіт. Яму зноў паказвалі пагадненне, паводле якога АРА не несла абавязкаў страхавання. Аднак неўзабаве Брэнд атрымаў чарговы ліст з патрабаваннем патлумачыць, чаму супрацоўнікі не застрахаваныя.

28 снежня віцебская пошта прыслала папярэджанне, што больш не будзе прымаць бясплатных тэлеграмаў ад АРА (падобныя выдаткі пакрываліся коштам мясцовых уладаў).

Раптоўна пагоршыліся дачыненні з Віцебскай чыгункай. Стаялі маразы, і склады на чыгунцы патрабавалі абагрэву. Зэліксон прапанаваў, каб АРА сама паставіла печкі, а аплату губвыканкам зробіць пазней. Брэнд ведаў, што атрымаць грошы ад губвыканкама хутчэй за ўсё не ўдасца. Але каб не перапыняць выдачы пасылак, араўцы ўсталявалі часовае ацяпленне.

Чыгунка запатрабавала зліквідаваць печкі й падаць дакументы, на падставе якіх амерыканцы займалі склады. Спасылка на губвыканкам не задаволіла чыгуначнікаў, і за дзень да Новага года ў АРА прыйшоў ліст з патрабаваннем прыбраць печкі й неадкладна вызваліць памяшканні — іначай гэта будзе зроблена з дапамогай ГПУ. Чыгунка таксама папярэдзіла, што будзе браць штраф за грузы, якія прастойваюць у вагонах.

Не паспеў Брэнд адбіцца ад чыгуначнікаў, як у той самы дзень, 30 снежня, атрымаў ліст з патрабаваннем даць памяшканне канторы для ўстаноўчага прафсаюзнага сходу й не перашкаджаць яго правядзенню. Брэнд спаслаўся на Рыжскае пагадненне й адмовіўся. У адказ прагучалі пагрозы.

На адрас упаўнаважанага Мар'яна Стакоўскага з Віцебскага губвыканкама пайшла скарга на бяздзейнасць Брэнда й Герца: дапамогі ад АРА амаль ніякай. Стакоўскі паказаў скаргу кіраўніку Мінскай акругі Чарлзу Уілабі й пераслаў скаргу ў Маскву.

З Масквы Брэнд атрымаў суцяшэнне ад кіраўніка АРА Сірыла Квіна:

> **Вашыя дачыненні з мясцовымі органамі ўлады характэрныя для ўсіх акругаў. Розныя арганізацыі спазматычна спрабуюць узяць пад свой кантроль нашых супрацоўнікаў. Нашая палітыка была й застаецца нязменнай: абсалютна не ўступаць ні ў якія дыскусіі й спрэчкі з імі й не рабіць розніцы пры прыёме на працу паміж чальцамі й не чальцамі саюзаў. Мы ўпэўненыя, што тактоўнасць і цярплівасць з вашага боку не дазволяць гэтым спазматычным спробам прынесці вам турботы.**

Цярплівасці Брэнду сапраўды патрабавалася шмат. Межы Віцебскай акругі АРА не супадалі з межамі губерні: амерыканцы апекаваліся дзіцячымі ўстановамі ў Неўлі, Смаленску, Вязьме, Рослаўлі, Магілёве, часткова на Гомельшчыне. Калі перад Новым годам Брэнд папрасіў дапамагчы здабыць праязныя дакументы на чыгунку, каб наведаць шэраг кухняў, упаўнаважаны Зэліксон спаслаўся на інструкцыю з апарату Ландэра, якая забараняла рабіць такія паслугі для амерыканцаў. Апроч таго, Зэліксон паведаміў, што яго не цікавяць патрэбы АРА па-за межамі Віцебскай губерні.

Брэнд у сваім паведамленні ў Маскоўскую штаб-кватэру пра віцебскую калядную калатнечу паразы не прызнаваў:

**Мы лічым непажаданым з прычыны транспарту прыпыняць харчовую дапамогу па-за межамі Віцебска, хаця пасля таго, як давялося збіраць вошы па ўсім целе пасля падарожжа на лодцы па Дзвіне, я маю такія-сякія падазрэнні й што да спальнага вагона.**

У ноч на Новы год Брэнд наведаў дзіцячы дом, дзе жылі дзеці ўцекачоў з Волгі. Установа атрымлівала амерыканскае харчаванне й медычную дапамогу й лічылася адной з лепшых у сістэме народнай асветы. З нарасветай Брэнд працаваў напрасткі, без пасярэдніцтва Зэліксона, і быў задаволены вынікамі. Кіраўнік акругі бачыў дзяцей пяць месяцаў перад тым і цяпер адзначаў іх значна лепшы выгляд. Прадстаўнік нарасветы выступіў з навагоднім віншаваннем, у якім расказваў пра дапамогу АРА ў Паволжы й на Віцебшчыне.

У тыя ж дні разам з новым сакратаром акругі Эдвардам Рэмі Брэнд наведаў яшчэ адзін спецыфічны адрас амерыканскай дапамогі — зямлянкі ля чыгункі на ўскрайку Віцебска, дзе туліліся 118 уцекачоў з галоднага Паволжа. Брэнд пісаў:

**Мы лічым, што ад смерці іх ўратавала толькі тая акалічнасць, што паблізу можна было здабыць дровы — нам не варта высвятляць занадта дакладна, якім чынам, — і яны маглі прыціскацца да печак, на хапок складзеных з цэглы. Вопраткі, каб выйсці на двор, хапае на дзесяць ці дванаццаць мужчынаў. Аднак гэтая вопратка не больш чым кавалкі рыззя. Мусяць штодня развязваць галаваломку, як апранацца.**

У студзені Віцебская акруга АРА адзначала гадавіну. Раней улады гаварылі пра намер урачыста ўганараваць гуманітарную працу, але ні афіцыйных прадстаўнікоў, ні віншаванняў, ні публікацыяў у мясцовым друку не было. Мясцовы персанал і амерыканцы вырашылі разам адсвяткаваць стары Новы год і гадавіну пачатку аперацыяў. На вечарыне зачыталі некалькі прыватных лістоў з падзякамі. Апошнімі тыднямі акруга атрымала гуманітарную дапамогу агульнага прызначэння, якую раздавалі тым, каму найбольш было трэба.

Дабрачынная акцыя спрыяла аўтарытэту АРА сярод насельніцтва і ўстрывожыла ўлады. Па вяртанні з Масквы Зэліксон няспынна заводзіў размовы пра палітычныя аспекты дапамогі, нават калі сам ухваляў перадачу медычнага абсталявання й лекаў у шпіталі губаддзела аховы здароўя. Брэнду не давалі поўнай інфармацыі пра стан шпіталяў, бо гэта, на

думку ўпаўнаважанага, магло пашкодзіць рэпутацыі губаддзела аховы здароўя. Амерыканцы меркавалі, што дапамога АРА складае каля 75% паставак у медычныя ўстановы губерні. Выручалі добрыя дачыненні з аддзелам народнай асветы, другім па значнасці партнёрам. Нарасвета забяспечвала транспартам і аплочвала вартаўнікоў на складах.

Моцныя снегапады крыху запаволілі жыццё. У сярэдзіне студзеня Брэнд вырашыў наведаць Бешанковічы, дзе АРА разам з Джойнтам карміла амаль паўтысячы дзяцей пагарэльцаў. Але аўтамабіль штохвіліны спыняўся перад гурбамі снегу; за дзве гадзіны здолелі ад'ехаць толькі на дзесяць кіламетраў і мусілі павярнуць назад.

Аднак бюракратычнае жыццё працягвалася амаль без зменаў, паведамляў Брэнд:

> **Савецкага ўпаўнаважанага няма ў горадзе, вернецца праз дзесяць дзён. Ён не прызначыў намесніка. У мінулым, калі яго не было ў Віцебску, розныя аддзелы мясцовай улады выстаўлялі нам свае скаргі. Калі гэта здарыцца зноў, дык навядзе на думку, што ягоная адсутнасць і скаргі не проста супадзенне.**

Брэнд як у ваду глядзеў — імгненна выставіла фінансавыя прэтэнзіі тэлефонная станцыя. Брэнд ізноў мусіў тлумачыцца. У канцы студзеня выканаўца абавязкаў кіраўніка АРА Сірыл Квін пісаў Брэнду:

> **Вашыя двухтыднёвыя справаздачы надзвычай здавальняючыя, і мы сардэчна дзякуем за іх. Не маглі б вы ў наступных допісах прысвячаць абзац ці каля таго агульным эканамічным умовам, улучна з цэнамі на хлеб, наяўнасцю іншай замежнай дапамогі акрузе й г.д., — для нас гэта было б вельмі каштоўна.**

Дакладную інфармацыю ў Віцебску здабыць было цяжка. Яшчэ перад Калядамі кіраўніцтва АРА пачало збіраць звесткі пра перспэктывы ўраджаю ў раёнах дапамогі. Трэба было высветліць, як і ў якіх памерах планаваць дапамогу на наступны год.

Віцебская вобласць не была аднесеная цэнтральным урадам да ліку галодных, і ўвесь 1922 год збожжа адсюль дастаўлялася ў Петраград і Маскву*. Заснежаныя палі давалі магчымасць сцвярджаць толькі, што,

---

* У 1922 на Віцебшчыне галадалі не толькі ўцекачы. Улады прызнавалі, што быў неўраджай. Тлумачылася, што пасля здачы харчпадатку ў сялянаў не засталося збожжа на продаж і таму ў кастрычніку пачаўся рэзкі рост цэнаў. На дзяржпрадпрыемствах выдавалі

нягледзячы на моцныя маразы, азімыя пасевы не загінуць пад тоўстай снежнай коўдрай і не будзе засухі. Брэнд звярнуўся да ўпаўнаважанага, але не атрымаў ніякіх звестак ні пра плошчы, ні пра запас насення, ні пра патрэбы. У справаздачы ў Маскву Брэнд скардзіўся, што не можа нічога паведаміць пра разлікі на ўраджай, апроч наступнага прадказання:

> **Уначы 27 студзеня былі грымоты й маланка, што, як кажуць сяляне, азначае голад налета. Нам здавалася, яны хутчэй скажуць, што напэўна будзе вайна. Адзін вясковец заявіў, што тае начы бачыў молат і серп на крыжы, і гэта ставіць яго на прыступку вышэй за Канстанціна* й значна наперадзе Апостала Паўла, але ў апошніх дастойнікаў не было святаў Вадохрышча** й 9 студзеня, каб накіроўваць іхныя фантазіі.**

У той самы дзень, 27 студзеня, быў забіты кур'ер АРА. Ён меўся даставіць дванаццаць харчовых пасылак у Воршу. Трупы пасыльнага й двух ягоных спадарожнікаў былі знойдзеныя непадалёк ад Віцебска.

Калега Брэнда Эдвард Рэмі тымчасам з'ехаў на месяц у адпачынак, і кіраўнік акругі застаўся ў адзіноце. Але сумаваць не было калі. Зэліксон ізноў умяшаўся ў выдаванне гуманітарнай дапамогі калектыўным адрасатам. Калі Брэнд не прызнаў права губвыканкама размяркоўваць пасылкі па «сацыяльных» прыкметах, упаўнаважаны загадаў прыпыніць выдаванне наагул. У лісце ў Маскву ў апарат упаўнаважанага Ландэра Зэліксон тлумачыў:

> **Я патрабую, каб прадстаўнік губвыканкама браў удзел у складанні спісаў на атрыманне калектыўных пасылак з правам адводу той ці іншай асобы, калі высветліцца, што ёй не трэба дапамога.**

Ішлі бясконцыя спрэчкі пра ўмовы дапамогі гандлёвай вучэльні: АРА карміла толькі дзяцей да 14 гадоў і настойвала на асобнай выдачы сваіх

---

заробак не грашыма, а прадукцыяй, якую не маглі прадаць; працягвалася сумятня з паралельнымі валютамі й тарыфамі. «Усё гэта ўзмацнялася страшэннай безгаспадарчасцю й некампетэнтнасцю новай улады й назначаных адміністратараў», — адзначаецца ў акадэмічных «Нарысах гісторыі Беларусі».

* Канстанцін Вялікі (Flavius Valerius Constantinus, к. 280—337) — рымскі імператар з 306. Абаронца хрысціянаў. На смяротным ложы прыняў хрост.

** 6 студзеня.

абедаў, а Зэліксон выстаўляў свае ўмовы. Трэба было шукаць транспарт для паездак у Магілёў і Смаленск. Зь Мінску меўся прыехаць лекар Вілі.

АРА надалей карміла дзяцей у сіроцкіх дамах у Віцебску, Полацку, Гарадку, Лёзне й Бешанковічах, дзе не было дзяржаўных харчовых паставак. На канец лютага ў віцебскіх складах было запасаў для дзіцячага харчавання на паўгода наперад і асобна — на камплектацыю пяці тысяч аплочаных з-за мяжы пасылак. Аднак безупыннае напружанне пачало давацца ў знакі. Напрыканцы лютага меў вярнуцца з вакацыяў Рэмі, і Брэнд пісаў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**Я зноў з усёй сур'ёзнасцю прашу дазволіць мне выехаць у Маскву. Мае вакацыі планаваліся на гэты час, і я нецярпліва іх чакаю. Я гатовы адмовіцца ад вакацыяў за мяжой, але дзеля свайго здароўя, нерваў і духу мне неабходна хоць на кароткі час выехаць з Віцебска. Я лёгка магу пісаць старонку за старонкай пра гэтае месца, але, спадзяюся, даволі таго, што я тут ужо сем месяцаў і апошнія пяць тыдняў быў адзін.**

Надалей дапамогу размяркоўваў Эдвард Рэмі.

Пасля адпачынку кіраўнік акругі паведамляў у Маскву:

**Нашыя інспектары сведчаць, і я пераканаўся ў гэтым падчас паездак, што ўстановы, якія атрымліваюць нашыя прадукты, навучыліся весці дакладны ўлік. Шмат дзе дзеці выглядаюць значна лепш.**

АРА працягвала карміць 23 сям'і ўцекачоў, якія жылі ў зямлянках на ўскрайку горада. У сярэдзіне траўня Рэмі пісаў:

**Узімку дзеці, якія, здавалася, ніколі не ўсміхаліся й не гулялі, туліліся ў сваіх лахманох да печак. АРА размеркавала некалькі пасылак з вопраткай, якую іхныя маці перарабілі для дзяцей. Падчас нядаўняга наведвання мы пабачылі чыстых і здаровых дзетак, якія гулялі на двары. Нягледзячы на жахлівыя ўмовы, у якіх жывуць гэтыя людзі, не было смяротных выпадкаў. Фактычна наадварот: нарадзілася некалькі дзяцей, у адной пары — блізняты, што прывяло да павелічэння колькасці выдадзеных рацыёнаў.**

Узаемадачыненні з уладамі не паляпшаліся: наспеў чарговы крызіс. У час, калі Рэмі пісаў пра блізнятаў у зямлянках, амерыканскія пасылкі не выдавалі ў Віцебску ўжо дзесяць дзён. Чыгунка запатрабавала аплаціць арэнду складоў і апячатала памяшканні. Губвыканкам марудзіў з аплатай, Зэліксон слаў паведамленні ў Маскву ў апарат Ландэра і ў Мінск упаўнаважанаму Стакоўскаму. Разлікаў дамагаліся не толькі чыгуначнікі. Без аплаты заставаліся рахункі за ваду, тэлефон, электрычнасць, дровы, прыбіранне. Спадзеючыся, што іх аплацяць улады губерняў, якія ўваходзілі ў Віцебскую акругу АРА, Зэліксон пераслаў гэтыя рахункі ў Смаленск і Пскоў. Адказу не было.

Кіраўнік акругі тымчасам пераконваў віцебскія ўлады неадкладна выканаць сваю частку абавязацельстваў паводле Рыжскага пагаднення й пісаў пра наступствы:

> **Гэта нанесла шкоду атрымальнікам пасылак і 85 дзіцячым дамам Віцебскай губерні, якія атрымліваюць ад нас харчаванне. Я маю распараджэнне з Масквы аб закрыцці складоў 15 чэрвеня, такім чынам, у нас няшмат часу для раздачы 6000 пасылак рэшты.**

У красавіку Рэйманд Брэнд развітаўся з Віцебскам — ён вяртаўся ў Амерыку, каб заняцца журналістыкай. Але першая публікацыя пра АРА ў Віцебску, якая з'явілася ў амерыканскім друку ў ліпені 1923, была звязаная з Эдвардам Рэмі, які стаў выконваць абавязкі кіраўніка акругі. Нягледзячы на лета, артыкул пачынаўся паведамленнем пра калядную вячэру, якую для віцебскіх сіротаў забяспечыў «Санта Клаус з Брукліна» Эдвард Рэмі:

> **У нас былі лішкі некаторых прыпасаў, — так тлумачыць сп. Рэмі шанцунак віцебскіх сіротаў, — і нам удалося выдаць іх непасрэдна дзіцячым дамам. Гэтага мусіць хапіць для дадатковага харчавання шасці тысяч чалавек аж да Раства. Сярод прыпасаў — какава й тлушч, такім чынам яны змогуць спячы на Каляды з мукі АРА пірог, абліты шакаладам — а гэта значная падзея ў жыцці бальшыні тутэйшых дзяцей.**

Публікацыя пра Санта Клаусаў у Віцебску з'явілася ў некалькіх выданнях, а яе героі тымчасам ужо вярталіся праз акіян на радзіму. Але перад гэтым была падрыхтаваная выніковая справаздача пра паўтара года АРА ў Віцебскай акрузе: дастаўлена й размеркавана 9 вагонаў меды-

каментаў і абсталявання, укамплектаваныя 32 шпіталі, медыкаменты, бялізну, мыла атрымлівалі 28 дзіцячых дамоў, дзецям перададзена 650 пар абутку й 650 пар шкарпэтак, 1147 бораў адзення раздадзена бясплатна, адрасатам уручана 58 269 харчовых пасылак...

Афіцыйнае падзякі ад віцебскіх уладаў АРА не атрымала.

У канцы чэрвеня ў штаб-кватэры АРА ў Маскве быў падпісаны «Агульны мемарандум №81»:

**Віцебская акруга закрываецца 25 чэрвеня. Персанал прыбудзе ў Маскву 28 чэрвеня.**

Амерыканцы ўжо ад'едуць з Віцебска, а Зэліксон усё яшчэ будзе слаць лісты ў Мінск, Смаленск і Пскоў з патрабаваннем аплаціць частку выдаткаў на дровы, ваду, ачыстку тэрыторыі, склады. На ўсіх архіўных дакументах аднолькавая нешматабяцальная рэзалюцыя:

**Да ведама.**

30 чэрвеня віцебскі ўпаўнаважаны напісаў яшчэ адну скаргу ў Маскву ўпаўнаважанаму Ландэру, якая пачыналася словамі «Выдаткі на камунальныя паслугі АРА паводле Рыжскага пагаднення...». Зэліксон падрыхтаваў тэкст за двума подпісамі — старшыні й сакратара губвыканкама. Сакратар падпісаў, але калі паперу паклалі на стол кіраўніку губерні Крылову, той наклаў лаканічную рэзалюцыю:

**Не трэба.**

## Гомель: драма ў чатырох актах. Акт 1

**Адзінокі Мэйтланд. — Жыццё на рэйках. — Начальніцкі калейдаскоп. — Прыезд Рамсэя. — Энтузіязм растае. — Аблога АРА. — Узялі банк. — Дзеці-шкілеты. — Дапамога з Луізіяны**

Раніцай у пятніцу 24 лютага 1922 на перон гомельскага вакзала выйшаў Джон Мэйтланд. Будучы кіраўнік акругі АРА выехаў з Масквы за тыдзень перад тым, але па дарозе спыніўся ў Мінску. Чатыры дні ён назіраў, як кіраўнік Мінскай акругі Доналд Гардзі арганізоўваў працу, вывучаў сістэму раздачы харчовых пасылак і асаблівасці стасункаў з мяс-

цовымі ўладамі. У беларускай сталіцы Мэйтланд таксама знайшоў сабе перакладчыка Абрама Левіна, які пагадзіўся ехаць у Гомель.

Адразу з вакзалу Левін накіраваўся ў губвыканкам і дамовіўся пра сустрэчу са старшынём. А 3-й гадзіне дня Мэйтланд ужо сядзеў насупраць кіраўніка губерні й тлумачыў праз перакладчыка параграфы Рыжскага пагаднення паміж савецкім урадам і АРА. У Гомельскай акрузе жыло каля двух з паловай мільёнаў чалавек, тэрыторыя цягнулася ад польскай мяжы амаль да Бранска на ўсходзе па чыгунцы Гомель—Масква, па чыгунцы Петраград—Кіеў ад Магілёва да Чарнігава на поўдні й ахоплівала частку земляў, якія адміністрацыйна падпарадкоўваліся ўраду Беларусі.

Старшыня губвыканкама паабяцаў безумоўную падтрымку й дапамогу ўсіх мясцовых чыноўнікаў і органаў улады. У прысутнасці гасцей старшыня даручыў чыноўнікам неадкладна знайсці зручныя памяшканні. Гэтая задача ніколі не была простай. Гомельшчына стала полем вайсковых бітваў, і кожнае войска не толькі экспрапрыявала хлеб і свойскую жывёлу, але пакідала па сабе разваленыя будынкі, разбураныя склады й фабрычныя памяшканні, спаленыя масты.

Але пасля года працы ў Гомелі ў адной са справаздачаў Мэйтланд наступным чынам удакладніць прычыны разрухі:

**Летась тут цярпелі ад нястачы ежы не з прычыны засухі альбо кліматычных умоваў, а з-за наступстваў вайсковых дзеянняў і дрэннага кіравання цяперашніх уладаў.**

Калі ў Мінску амерыканцы пасяліліся ў гатэлі ўжо ў дзень прыезду, а ў Віцебску араўцы жылі ў вагоне некалькі тыдняў, пакуль не было падрыхтаванае сталае жытло, дык у Гомелі жыццё на рэйках зацягнулася на месяцы. Мэйтланд меў не толькі асабістыя падставы прыраўняць разбуральныя наступствы савецкага кіравання да сямі гадоў войнаў:

**Калі мы прыехалі, кіраўніцтва Гомеля было вельмі дэзарганізаванае, цягам першых пяці тыдняў на чале губвыканкама змянілася пяць розных старшыняў. Дэмаралізацыя гарадскога кіраўніцтва адбілася амаль на кожнай галіне гарадскога жыцця. Улады нічога не рабілі, каб упарадкаваць разбураныя будынкі. Нічога не рабілася, каб трымаць у норме санітарны стан, і вуліцы былі пе-**

**рапоўненыя жахлівым брудам, чароды свіней рыліся, шукаючы ежы, у кучах смецця.**

Першы тыдзень Мэйтланд правёў у спробах атрымаць памяшканні пад кантору й склад. Выконваючы свежы загад, супрацоўнікі камунальнага аддзела паказвалі памяшканні, але ўсе яны альбо вымагалі рамонту й істотнай перабудовы, альбо былі замалыя, альбо месціліся далёка на ўскрайку.

Між тым у цэнтры горада, на галоўнай вуліцы, стаяў напаўпусты будынак банка. Імпазантная камяніца мела асобны ўваход з двара, і, пакуль не было склада, можна было паспрабаваць сумясціць кантору з фасаваннем і выдаваннем пасылак. У губвыканкаме не пярэчылі выбару Мэйтланда, але нехта паведаміў банкаўскім службоўцам пра намер АРА засяліцца ў памяшканне. Тыя імгненна заявілі, што даўно планавалі заняць пусты другі паверх пад кватэры. Пачалася барацьба за правы працоўных, але Мэйтланд меў падтрымку ў губвыканкаме, і памяшканне было замацаванае за АРА. Праўда, энтузіязм, з якім сустрэлі амерыканца ў калідорах мясцовай улады, раставаў з кожнай новай зменай кіраўніцтва. Каб знайсці сталы, крэслы й іншую ўжываную мэблю, спатрэбілася яшчэ тры тыдні.

Тымчасам Гомель жыў чуткамі пра АРА. Мэйтланд успамінаў:

Навіна пра наш прыезд у Гомель распаўсюдзілася як лясны пажар, і наш вагон на рэйках быў круглыя суткі ў аблозе людзей, якія хацелі ўладкавацца на працу ці атрымаць дапамогу*.

Першай мясцовай супрацоўніцай стала рэмінгтаністка, як называлі выпускніц курсаў стэнаграфіі й машынапісу. У Мінску кіраўнік акругі Доналд Гардзі перадаў Мэйтланду першыя 1700 ужо аплачаных у Амерыцы картак на атрыманне пасылак, якія адрасаваліся гомельцам. Мэйтланду ўдалося пазычыць друкавальную машынку, і неўзабаве пачалося стварэнне індэксу адрасоў.

1 сакавіка з Масквы адправіліся першыя таварныя вагоны з прадуктамі для Гомеля. 10 сакавіка кур’ер з Масквы прывёз яшчэ тысячу квіткоў на пасылкі. На наступны дзень у Гомель на дапамогу кіраўніку акругі прыбыў Г’ю Рамсэй. Мэйтланд пісаў:

---

* У Гомельскай акрузе, як і ў іншых, мясцовыя супрацоўнікі АРА ў дадатак да заробку бясплатна атрымлівалі адну амерыканскую харчовую пасылку на месяц. У 1922–1923 было выдадзена такім чынам больш за 23 тоны харчу на суму 2262 даляры.

**Пасля некалькіх тыдняў адзіноты ў самай забытай Богам дзіры на свеце было надзвычай прыемна зноў пабачыць амерыканца. Я тады яшчэ не паспеў прызвычаіцца да мёртвай цішыні й гарадскога бруду. Рамсэй прыехаў аб 11-й раніцы й апоўдні ўжо з галавой быў у працы, каб падрыхтавацца да першай даставы прадуктаў.**

Рамсэй пасяліўся ў тым самым салон-вагоне, у якім жыў Мэйтланд. Напрыканцы сакавіка з Масквы прыбылі араўскія вагоны, і са станцыі пачалі дастаўляць прадукты ў два пакойчыкі банкаўскага будынка, вызваленыя пад склад. Тут фасавалі прадукты й камплектавалі пасылкі. Памяшканні былі не надта зручныя, але ні ўлады, ні Мэйтланд не прадбачылі таго, што сталася праз чатыры дні, калі пачалася выдача пасылак:

**Колькі б міліцыянтаў мы ні выклікалі, каб прымусіць атрымальнікаў пасылак стаць у чаргу, яны не маглі гэтага дамагчыся, і дзверы склада былі штодня ў аблозе натоўпу, людзі штурхаліся, крычалі. Некаторыя не маглі два-тры дні прабіцца атрымаць свае пасылкі й прыходзілі скардзіцца ў офіс. Паколькі гэтыя складавыя памяшканні былі малыя, мы мусілі падвозіць прадукты на санях з большага склада, і тады двор ператвараўся ў адзін жахлівы непраходны затор.**

Калатнеча працягвалася тры месяцы. У горадзе мянялася кіраўніцтва, і новыя кадры не паспявалі пазнаёміцца са справамі, як ім на змену Масква прызначала іншых. Не палягчала справу й тое, што гарадская й губернская ўлады, а таксама незалежныя ад мясцовага кіраўніцтва чыгуначнікі вялі бюракратычную вайну паміж сабой за сферы ўплыву. Патрэбы АРА заставаліся без увагі — але за дзейнасцю канторы, як высветліцца пазней, пільна сачылі.

Прычыны напружанасці былі такія самыя, як і ўсюды, дзе дзейнасць АРА пачыналася пераважна выдачай пасылак. Як і ў іншых беларускіх рэгіёнах, бальшыня пасылак з Амерыкі ў Гомель ішла ад мясцовых эмігрантаў-габрэяў і адрасавалася іхным сваякам і аднаверцам. Гэта злавала камуністычныя ўлады, якія бачылі ў такой дапамозе парушэнне лозунгу роўнасці, адыход ад рэвалюцыйных прынцыпаў і падрыў свайго аўтарытэту.

Не палепшыла справу й тое, што эфект АРА ў Гомелі адчулі не толькі непасрэдныя адрасаты амерыканскай дапамогі: ужо на другі дзень

пасля выдачы пасылак гэтыя прадукты з'явіліся на мясцовым рынку. Адразу пасля прыезду Мэйтланд адзначаў, што амаль усе гомельцы былі апранутыя ў самаробную вопратку, скроеную з падручных матэрыялаў: збожжавых мяхоў, брызенту, накрывак для стагоў сена. Было немагчыма забараніць людзям прадаваць ці мяняць амерыканскія пасылкі на цёплую вопратку.

Праз два месяцы з Гомельскага губвыканкама пойдзе першая афіцыйная скарга ў Маскву:

**Асноўная частка прадуктаў з Амерыкі патрапляе больш заможнаму элементу Гомельскай губерні. Паколькі яны асабіста не маюць патрэбы ў гэтых прадуктах, натуральна, яны пераважна спускаюць іх на рынак. Спекуляцыя дасягнула вялікіх памераў, і найбяднейшая частка насельніцтва ад гэтага не выйграе, а наадварот. У сэнсе беспасярэдняй дапамогі тым, каму яна патрэбная, АРА нічога не зрабіла.**

Задоўга да гэтай скаргі Мэйтланд сам пачаў дамагацца пашырэння аперацыяў. Як толькі была выкананая першачарговая задача — запушчаны механізм выдачы пасылак, — Мэйтланд пачаў ездзіць па дзіцячых дамах Гомельшчыны. Шэсць з паловай тысяч сіротаў жылі ў такіх установах, яшчэ некалькі тысяч чакалі з Паволжа. У губернскім аддзеле сацзабеспячэння яму паказалі зацверджаны рацыён для выхаванцаў:

**1 фунт хлеба на дзень**
**3/4 фунта цукру на месяц**
**1,5 фунта тлушчу на месяц**
**6 фунтаў крупаў на месяц**
**8 фунтаў мяса на месяц**

Але такая пайка была толькі да сакавіка: у красавіку норму хлеба зменшылі на чвэрць, цукру на трацiну, а мяса знікла зусім. У дзіцячым доме №32, які Мэйтланд наведаў напачатку красавіка, усе 27 дзяцей ва ўзросце ад 5 да 14 гадоў былі хворыя. Ён пісаў у Маскоўскую штаб-кватэру:

**Галовы ўсіх дзяцей пакрытыя незагойнымі болькамі. Апарата ультрафіялетавага апраменьвання, якім лекуюць такія хваробы, няма. У маленькім сырым будынку няма не толькі ванны, а наагул вады. Дзеці не атрымлівалі харчу ад уладаў, іх кармілі вайскоўцы**

**суседняга кавалерыйскага палка, якія аддавалі частку свайго рацыёну. Паўсюдна бракуе коўдраў, бялізны, вопраткі, лекаў. Я б настойліва рэкамэндаваў аказаць гэтым установам дапамогу харчам і медыкаментамі. Інакш працэнт захворванняў і смяротнасць ад недаядання будуць расці.**




У сярэдзіне красавіка Мэйтланд агледзеў гарадскі дзіцячы шпіталь і зноў адправіў ліст да свайго начальства:

**У шпіталі 105 дзяцей і 23 штатныя супрацоўнікі. 10% дзяцей па-за межамі выздараўлення з-за нястачы ежы. З прычыны вайны паміж чыгункай і гарадскім саветам у шпіталі адключаная электрычнасць, не працуе ультрафіялетавы апарат, патрэбны для лекавання болек на галовах усіх дзяцей. Гарадскія ўлады вырашылі цалкам закрыць шпіталь — цяпер там атрымліваюць ежы ледзьве на палову дзяцей. Кожнае новае дзіця, якое паступае з дыягназам «недаяданне», можа разлічваць толькі на пагаршэнне свайго стану. Удзень, калі я наведаў шпіталь, дзеці нічога не елі наагул.**

Мэйтланд не шкадаваў падрабязнасцяў, якія маглі прыспешыць дапамогу:

**Многія дзеці былі да такой ступені апухлыя, што практычна страцілі апошняе падабенства да чалавечых істотаў. З другога боку былі чалавечыя шкілеты, у якіх з жахлівай выразнасцю выступала практычна кожная костка. З-за адсутнасці электрычнасці іхныя болькі на галовах не лекавалі.**

Нарэшце ў канцы красавіка ў Гомельскую акругу прыйшла першая картка-замова агульнага прызначэння — амерыканец Эліяс Рэнаў з гораду Шэўпорт, штат Луізіяна, паслаў 30 даляраў на карысць галодных дзяцей Гомеля.

Ахвяраванне прыйшло ў крытычны момант. Дзіцячы шпіталь звяртаўся па дапамогу й раней, але ўсе фонды былі разлічаныя толькі на аплочаныя з-за мяжы пасылкі й прызначаліся канкрэтным адрасатам. Невядома, сам Эліяс Рэнаў ці, магчыма, ягоная жонка паходзілі з Гомеля, ці чалавек проста адгукнуўся на публікацыю ў амерыканскім друку, але сума была немалая і, галоўнае, своечасовая. У гэты ж дзень у шпіталь былі дастаўленыя каля 200 кілаграмаў амерыканскіх прадуктаў — мука, тлушч, рыс, цукар, малако, гарбата.

Аднак паведамляючы пра першую даставу прадуктаў у шпіталь, Мэйтланд настойваў на адкрыцці поўнамаштабнай праграмы дзіцячага харчавання ў акрузе й папярэджваў:

> **Калі далейшая дапамога не паступіць хутка, бальшыня дзяцей памрэ.**

Погляд мясцовых уладаў на будучыню АРА ў Гомелі, як неўзабаве высветлілася, быў супрацьлеглы.

## Гомель, акт 2: мазгі ўпаўнаважанага

**Кадравая стабілізацыя. — Шкодныя пасылкі. — 8 тысяч галодных дзяцей. — Камсамольцы з апетытам. — Газетная атака. — Драгунскі адхілены. — Перамовы пад стэнаграму. — Немэтазгодныя й непажаданыя**

Напачатку вясны новым старшынём губвыканкама стаў уплывовы камуніст Ілля Нэйбах. Улада стабілізавалася, у горадзе пачалі адчувацца перамены да лепшага. Але на запыты Мэйтланда ў губвыканкаме па-ранейшаму ніхто не рэагаваў.

У Маскве кіраўнік АРА палкоўнік Гаскел сустрэўся з упаўнаважаным савецкага ўрада Аляксандрам Эйдукам і папрасіў умяшацца. Для вывучэння сітуацыі з Мінска ў Гомель быў выпраўлены памочнік упаўнаважанага беларускага ўрада Блехер. Блехер адказваў за сувязі з ЧК—ГПУ

й меў сваё бачанне, як трэба працаваць з амерыканцамі. Ён сустрэўся з мясцовым кіраўніцтвам, правёў перамовы з Мэйтландам і Рамсэем. У Гомелі была ўведзеная пасада ўпаўнаважанага губвыканкама для працы з АРА.

Прызначаны на пасаду мясцовага ўпаўнаважанага камуніст Драгунскі некалі працаваў у Амерыцы, гаварыў па-ангельску й заявіў, што гатовы цалкам паклапаціцца пра ўсе законныя патрэбы АРА.

Мэйтланд узрадаваўся: цяпер будзе як вырашаць шматлікія практычныя праблемы. Менш чым праз два месяцы ў лісце ў Маскву кіраўнік акругі так апіша супрацу:

> **На наш запыт наконт мэблі Драгунскі адказваў, што нам не трэба мэблі. У адказ на просьбу даць ахову для складоў мы чулі, што яшчэ нічога не было скрадзена і вартаўнікі не патрэбныя. Цалкам блакаваліся нашыя патрабаванні новых складоў для выдачы прадуктаў. Ягоныя мазгі надзвычай плённа выдумлялі прычыны й тлумачэнні, чаму нашыя просьбы не могуць быць задаволеныя, і на шляху нашай далейшай працы быў пастаўлены каменны мур.**

Мэйтланд пісаў, што Рамсэя й яго замучылі бясконцыя размовы Драгунскага пра гонар і годнасць афіцыйнага прадстаўніка ўлады й патра-



баванні паважаць ягоныя паўнамоцтвы. Але ўпаўнаважаны ігнараваў просьбы амерыканцаў не толькі з капрызлівага характару. У траўні да высновы, што АРА ў Гомелі непатрэбная й нават шкодная, канчаткова прыйшоў і новы кіраўнік губвыканкама Ілля Нэйбах. Ён заявіў, што ў даверанай яму губерні голаду няма й тутэйшая ўлада сама ў стане дапільнаваць і вырашыць свае праблемы. Нэйбах пісаў у Маскву:

> **У справе беспасярэдняй дапамогі тым, хто мае патрэбу, у Гомельскай губерні АРА дагэтуль нічога не зрабіла. Ёсць пэўнае імкненне з боку АРА прадаць як мага больш тавару за наяўны разлік. Пры такіх умовах у мясцовай улады няма й не можа быць ніякай зацікаўленасці несці велізарныя выдаткі дзеля ўтрымання мясцовага аддзялення АРА. Апроч усяго, мясцовая адміністрацыя АРА настойвае на ўтварэнні камісіяў дзеля размеркавання прадуктаў ад розных зямляцтваў у Амерыцы ў складзе прадстаўнікоў буржуазіі й святарства — тэндэнцыя яўна контррэвалюцыйная й таму недапушчальная.**

Упаўнаважаны савецкага ўрада Эйдук абмеркаваў ліст Нэйбаха з кіраўнікам АРА палкоўнікам Гаскелам. Той паабяцаў падрыхтаваць адказ і звярнуўся па аргументы да кіраўніка Гомельскай акругі. Мэйтланд хутка падрыхтаваў ліст:

> **Спыненне выдачы будзе сур’ёзнай памылкай, ніякі аргумент на карысць працягу не будзе залішні. Колькасць паштовак-замоваў да сваякоў за мяжой нават пасля сканчэння рэкламнай кампаніі сведчыць, што гэтая ідэя шырока ўмацавалася. Статыстыка сельскагаспадарчага аддзела аптымістычная што да ўзараных плошчаў, але не бярэ пад увагу нястачу насення. Я сумняюся, што ўраджай збяруць больш чым з паловы земляў. У наступную зіму й вясну будзе крытычная сітуацыя з харчаваннем. АРА й амерыканскі народ таксама маюць маральны абавязак паставіць прадукты, замоўленыя дзякуючы нашай рэкламнай кампаніі; рэзкае спыненне даставаў выкліча вельмі адмоўнае стаўленне да амерыканцаў.**

Гомельскія ўлады таксама хацелі выправіць памылку, якая дазволіла прыезд АРА. Афіцыйны ліст у Маскву за подпісамі старшыні губвыканкама Нэйбаха і ўпаўнаважанага Драгунскага канстатаваў:

**АРА ў Гомелі прыносіць болей шкоды, чым карысці, бюро губкама партыі ў поўнай згодзе з прэзідыумам губвыканкама лічаць далейшае знаходжанне місіі непажаданым і немэтазгодным.**

Аднак урад у Маскве не пагадзіўся з гомельскімі ўладамі. Аперацыі АРА было вырашана працягваць. Напрыканцы траўня ў Гомель прыбылі два вагоны лекаў, медычнага абсталявання й матэрыялаў. Напачатку чэрвеня з Мінска прыехаў Ралф Герц, які дапамагаў размяркоўваць медычныя грузы ў шпіталі. Асноўную частку справаздачы пра пабачанае Герц прысвяціў, аднак, не пагрозам эпідэміяў і хваробаў:

**Крайняя патрэба ў медычных пастаўках застаецца, аднак існуе вельмі вострая патрэба харчавання ў шпіталях. Пайка зрэзаная амаль да нуля. Гэта асабліва тычыцца дзіцячых шпіталяў і дамоў. Ад пяці да васьмі тысяч дзяцей з галоднага Паволжа зваліліся на губерню без папярэджання й без забеспячэння. У адным са шпіталяў, які я наведаў, знаходзіцца 130 дзяцей, з іх 95% пакутуюць ад недаядання, і цяпер яны ў горшым стане, чым калі толькі прыбылі. Магчыма, я выходжу за межы маёй справаздачы, але сп. Мэйтланд кажа, што ён паслаў на гэтую тэму ўжо некалькі паведамленняў, і я толькі хачу гэта падкрэсліць.**

Герц прасіў дазволу адкрыць у Гомелі медычны аддзел пад кіраўніцтвам Мэйтланда. Кіраўнік акругі звярнуўся ў губвыканкам з просьбай даць склады пад медычныя грузы — адказу не было.

Калі ў Гомель прыйшлі першыя вагоны з агульнай гуманітарнай дапамогай для бясплатнае раздачы тым, хто мае найбольшую патрэбу, Мэйтланд, здавалася, мог уздыхнуць з палёгкай. Можна было спадзявацца, што сціхнуць абвінавачанні, быццам АРА дапамагае толькі выбранай частцы насельніцтва, якая мае сваякоў за мяжой.

Але дачыненні з губвыканкамам нават пагоршыліся. Улады настойвалі на размеркаванні выключна праз свае камісіі, Мэйтланд не пагаджаўся. У выніку кампрамісу прадстаўнікі ўлады ўвайшлі ў мясцовыя камісіі, афіцыйна — з мэтай запабегчы спекуляцыі.

Аднак у ход пайшоў хабар, камісары самі сталі забіраць пасылкі сабе, прадаваць на рынку й прысабечваць выручку. У адным раёне мясцовы камітэт камсамолу захапіў склад з амерыканскімі прадуктамі, апячатаў і прыгразіў арыштаваць любога, хто сунецца. Мэйтланду нечакана

давялося не толькі прыкладаць намаганні, каб дапамога патрапіла на адрас, але й пільнаваць яе ад хцівых афіцыйных прадстаўнікоў.

У траўні ў кантору АРА прыйшла вестка пра загадкавую смерць амерыканскага грамадзяніна ў Мазыры. Мендэль Бягун займаўся размеркаваннем дапамогі Джойнту. Мэйтланд звярнуўся да Драгунскага з просьбай даведацца прычыну смерці й дзе знаходзіцца цела, але не атрымаў адказу.

Тымчасам у амерыканскую кантору ўсё больш людзей сталі звяртацца са скаргамі на дадатковыя паборы, якімі абкладалі пасылкі пошта, а таксама асобы, што выдавалі сябе за агентаў АРА. Мэйтланд перадаў Драгунскаму некалькі фальшывых распісак і картак з пазначанымі прозвішчамі й адрасамі самазваных прадстаўнікоў АРА. Рэакцыі не было.

4 чэрвеня ГПУ арыштавала гомельскага рабіна Барышанскага. 6 чэрвеня газета «Полесская правда» апублікавала артыкул «Ціханаўцы іудзейскага веравызнання», дзе тлумачыліся прычыны арышту й падрыўная роля АРА:

> **Габрэйскія буржуазна-клерыкальныя групы... распеl разаліся й адкрыта павялі шалёную працу дзеля арганізацыі ўсіх рэакцыйных і косных элементаў габрэйскай буржуазіі... Дзеля гэтага яны перадусім імкнуцца падвесці пад сябе матэрыяльна-філантрапічную базу шляхам сувязі з аддзяленнем АРА ў Гомельскай губерні, якая, атрымліваючы з Амерыкі сякія-такія прадукты для размеркавання сярод габрэйскага насельніцтва, што церпіць нястачу, стварала ва ўсіх гарадах і мястэчках камітэты з рабінаў і прадстаўнікоў габрэйскай буржуазіі, куды яны для праформы меліся ўводзіць аднаго прадстаўніка выканкама. Губвыканкам своечасова ўмяшаўся й распусціў усе гэтыя камітэты.**

З абвінавачаннямі выступаў ананімны аўтар М.Х. Мэйтланд звярнуўся ў рэдакцыю з патрабаваннем зняпраўдзіць апублікаваныя матэрыялы як «хлуслівыя й беспадстаўныя». Зварот застаўся без адказу.

Апошняй кропляй, якая перапоўніла цярплівасць Мэйтланда, стала абвестка ў друку за подпісам Драгунскага. Упаўнаважаны тлумачыў, што ўсе запыты наконт бясплатнай харчовай дапамогі трэба накіроўваць не АРА, а камітэту размеркавання прадуктаў, які ўзначальваў сам Драгунскі. 13 чэрвеня Мэйтланд напісаў ліст старшыню губвыканкама й адначасова разам з Рамсэем адправіў тэлеграму ў штаб-кватэру ў Маскву:

**Далей працаваць немагчыма, спыняем выдачу пасылак, рэкамендуем адклікаць місію з Гомеля.**

Наўздагон у гэты ж дзень Мэйтланд паслаў у Маскву ліст, дзе тлумачыў сваё абурэнне дзеяннямі ўпаўнаважанага:

**Драгунскі абсалютна нічога не варты, за месяц працы ён не зрабіў ніводнай рэчы, пра якую мы прасілі. Уся ягоная ўвага й дзейнасць скіраваныя супраць АРА. Ён нават свядома перакручваў пераклад маіх размоваў са старшынём губвыканкама, каб сапсаваць нашыя дачыненні. На любую нашую просьбу ён адказвае тлумачэннем, чаму нам непатрэбнае тое, чаго мы просім, альбо проста заяўляе, што гэта немагчыма.**

Пераход амерыканцаў ад абароны ў атаку заспеў афіцыйны Гомель знянацку. Наступнай раніцай, 14 чэрвеня, адбылася тэрміновая сустрэча кіраўніка акругі са старшынём губвыканкама. Мэйтланд запатрабаваў звольніць Драгунскага «за 24 гадзіны». Нэйбах заявіў, што нічога не ведае, і паабяцаў разабрацца. Драгунскі быў часова адхілены ад выканання сваіх абавязкаў да прыняцця канчатковага рашэння прэзідыумам губвыканкама. Усе справы было дамоўлена вырашаць беспасярэдне з самім старшынём.

Мэйтланд вырашыў замацаваць поспех: на наступны дзень ён прадыктаваў і накіраваў Нэйбаху яшчэ тры падрабязныя лісты са скаргамі на Драгунскага, дзе пералічыў усе свае просьбы, якія заставаліся без вырашэння й адказу.

У Маскве на канфлікт зрэагавалі як амерыканцы, гэтак і ўлады. Са штаб-кватэры АРА тэлеграфавалі не спыняць выдачы пасылак. У сваю чаргу ўпаўнаважаны Эйдук рэкамендаваў губвыканкаму быць пільнымі, але працягваць супрацу. Неўзабаве Мэйтланд паведамляў:

**19 чэрвеня. Паветра значна ачысцілася. Драгунскі часова адхілены, і, калі яго зусім прыбяруць, мы ўпэўненыя, праца пойдзе лепш. Аднак калі яго адхілілі толькі часова й ён вернецца на працу з АРА, мы гэтаксама ўпэўненыя, што ніякага паляпшэння не будзе.**

Праз дзесяць дзён, 28 чэрвеня, у кабінеце старшыні губвыканкама адбыліся першыя амерыканска-гомельскія перамовы пад стэнаграму:

**Тав. Нэйбах: Прэзідыум губвыканкама разабраў пытанне канфлікту паміж Вамі і ўпаўнаважаным пры АРА й знайшоў, што шэраг дробных рознагалоссяў быў выкліканы агульным станам справаў, і лічыць неабходнай далейшую працу тав. Драгунскага як прадстаўніка пры АРА.**
**М-р Мэйтланд: У такім выпадку хачу прасіць выправіць тав. Драгунскага ў Маскву ці Мінск па інструкцыі для далейшай працы, бо канфлікт адбыўся з прычыны не гэтулькі неактыўнасці тав. Драгунскага, колькі ягонага неразумення дзеянняў АРА.**
**Тав. Нэйбах: Супраць нічога не маю й лічу, што найбольш мэтазгоднае выпраўленне ў Маскву. Ці можна лічыць пытанне вычарпаным?**
**М-р Мэйтланд: Перад тым як перайсці да іншых пытанняў, мушу выказаць шкадаванне ў сувязі з такой пастановай прэзідыума губвыканкама. Ці застаецца тав. Драгунскі таксама старшынём камітэта размеркавання прадуктаў?**
**Тав. Нэйбах: Застаецца. Лічу, што дробныя непаразуменні з прычыны адсутнасці каардынацыі будуць зліквідаваныя й праца будзе праходзіць у кантакце, як і належыць быць паміж прадстаўнікамі РСФСР і АРА.**
**М-р Мэйтланд: Калі праца будзе каардынавацца, нічога супраць не маю.**
**Тав. Нэйбах: Абвестка ў газеце ў справе прыёму заяваў на размеркаванне прадуктаў, падпісаная тав. Драгунскім, была дадзеная згодна з пастановай камітэта, нават насуперак жаданню тав. Драгунскага.**
**М-р Мэйтланд: Адзначаю, што, калі камітэт так пастанавіў і надрукаваў абвестку ў газеце, ён перавысіў свае паўнамоцтвы й ягонае паседжанне трэба лічыць несапраўдным. Я на гэтым паседжанні не прысутнічаў, хаця я галоўны сябра камітэта як размеркавальнік прадуктаў.**
**Тав. Нэйбах: Я не ўхваляю пастановы камітэта, але не хацеў яе скасоўваць, бо лічыў, што м-р Мэйтланд як сябра камітэта сам паставіць пытанне аб яе перарашэнні.**
**М-р Мэйтланд: Лічу неабходным разгледзець усе заявы, пададзеныя як АРА, гэтак і сябрам камітэта.**
**Тав. Нэйбах: Я гэтага не аспрэчваю.**
**М-р Мэйтланд: Згодны на перарашэнне пытання ў камітэце.**

Мэйтланд загаварыў пра жыллё й склады, Нэйбах паабяцаў аддаць неабходнае распараджэнне. Старшыня таксама паведаміў, што ад'язджае ў службовую паездку па губерні й на чале губвыканкама застаецца яго намеснік Дубіна. Усе пытанні — да Дубіны.

Ледзьве паспела высахнуць чарніла стэнаграмы, як у губвыканкаме пачалі складаць новы ліст у Маскву:

**Прэзідыум Гомельскага губвыканкама мусіць паўторна ўзняць пытанне пра немэтазгоднасць і непажаданасць знаходжання АРА ў Гомелі. Губерня не ёсць галоднай губерняй, праца АРА накіраваная вылучна на размеркаванне пасылак з Амерыкі для дробнай буржуазіі. АРА выстаўляе рознага кшталту капрызлівыя патрабаванні да губвыканкама самым бесцырымонным чынам, напрыклад, патрабуючы за 24 гадзіны прыбраць прадстаўніка губвыканкама Драгунскага, што ёсць спробай скампраметаваць савецкую ўладу. АРА палітычна таксама непажаданая, асабліва ў Гомельскай губерні, якая мяжуе з Белай Польшчай.**

Гэты ліст праз дзень пасля візіту Мэйтланда ў губвыканкам падпісаў намеснік старшыні Дубіна і ўручыў упаўнаважанаму Драгунскаму, які накіроўваўся на сустрэчу з упаўнаважаным урада РСФСР Эйдукам. Дубіна прасіў перадаць адказ на зварот гомельскіх уладаў асабіста праз упаўнаважанага.

Напачатку ліпеня Драгунскі выехаў у Маскву.

## Гомель, акт 3: перамога ў рэйкавай вайне

**Перапіска без любові. — Грузавік аж затросся. — Нядоўгае замірэнне. — Зноў перамовы пад стэнаграму. — Харч для княгіні. — Надта абавязковая пастанова. — Непрыступная чыгунка**

Джон Мэйтланд адразу пазнаў штамп на канверце, які даставіў кур'ер: «Гомельскі Губернскі Палітычны Камітэт Савету Рабочых, Сялянскіх, Чырвонаармейскіх Дэпутатаў. Прэзідыум».

Хуткасць, з якой паступіў афіцыйны адказ на амерыканскі запыт, уражвала. 25 ліпеня ён папрасіў мясцовыя статыстычныя звесткі для Маскоўскае штаб-кватэры — і ўжо праз дзень атрымаў адказ Драгунс-

кага. Няўжо сапраўды паездка ў Маскву не прайшла дарэмна і ўпаўнаважанаму растлумачылі, як трэба супрацоўнічаць з амерыканцамі?

Мэйтланд папрасіў перакласці тэкст даслоўна:

**У адказ на ваш ліст аб статыстычных звестках для вашай справаздачы ў Маскву паведамляю:**
**У сувязі з тым, што Гомельская губерня не была галоднай ні ў 1920, ні ў 21 г. і не ёсць гэткай у сёлетнім 22 годзе, я лічу, што звесткі пра плошчу, насельніцтва, назвы гарадоў, адміністрацыйных участкаў і аддзелаў Гомельскай губерні ёсць лішнімі для справаздачы. Гэтаксама і ў пытаннях пра эканамічны стан губерні ў нармальны час і пра нястачу ўраджаю й прадуктаў у 20 годзе й засуху ў 1921 г. Звесткі пра гэта былі б патрэбныя толькі ў тым разе, калі б АРА ў Гомелі давялося як цяпер, гэтак і ў будучыні харчаваць галодных. Але паколькі гэта не мела месца цяпер і не будзе мець у будучыні, дык само сабою зразумела, што гэтыя пытанні адпадаюць.**

АРА таксама цікавілі агульныя звесткі пра Гомельскую губерню, якія дапамаглі б больш эфектыўна планаваць дапамогу. У лісце ў адказ Драгунскі пісаў:



**Звесткі пра грамадзянскія войны на тэрыторыі Гомельскай губерні будзьце ласкавыя атрымаць у Цэнтры, бо гэтае пытанне не мясцовае й мы не можам на яго адказаць. На пытанне пра стан транспарту немагчыма адказаць з тае прычыны, што чыгунка цэнтралізаваная, па-першае, і, па-другое, губерня не ёсць асобным замкнёным участкам, чыгунка, якая праходзіць праз Гомель, абслугоўвае цэлы шэраг іншых губерняў.**

Ліст скончаўся лаканічным адказам на пытанне пра наяўнасць у Гомельскай губерні арганізацыяў замежнай дапамогі:

**Апроч дзяржаўнай дапамогі, ніякіх іншых арганізацыяў няма.**

Подпіс — «Упаўстаршгубвыканкама пры АРА С.В. Драгунскі» — без умоўнасцяў кшталту «з павагай» ці «шчыра Ваш».

Паездка ўпаўнаважанага ў Маскву захавала статус-кво: цэнтральныя ўлады не задаволілі просьбы мясцовага кіраўніцтва закрыць акругу АРА, але амерыканцы адчулі змену тактыкі. Усе дачыненні з уладамі цяпер мелі форму афіцыйнае перапіскі. Мэйтланд скардзіўся ў штабкватэру:

**Трэба афіцыйна, на бланку АРА, слаць просьбы, каб прыбралі сметнік, ачысцілі памыйную яму ў двары офіса, адрамантавалі дзверы. Увесь час мушу пісаць Драгунскаму лісты наступнага кшталту: «Электратэхнік усталяваць электрычныя званкі для канторы й кватэры яшчэ не з’явіўся, просім зноў вашага распараджэння паскорыць усё гэта». Спатрэбілася замяніць машынны алей для грузавіка «Уайт» — з губернскага гаража выдалі такі, што рухавік затросся й распаліўся нават на халастой хадзе. Мае скаргі па чарзе праігнаравалі ўсе чыноўнікі, і я нарэшце мусіў напісаць ліст старшыню губвыканкама. У адказ Драгунскі патлумачыў, што трэба браць такія матэрыялы, якія ёсць і даюць. Урэшце, каб не спыняць выдачу прадуктаў, алей давялося купляць на рынку — у механікаў з губернскага гаража.**

Нават карту Гомеля амерыканцам давялося выпісваць з Масквы.

У канцы лета быццам намецілася замірэнне: араўцы даўно скардзіліся на ўмовы жыцця ў медычнай клініцы, якую яны дзялілі з яе сталымі пацыентамі. Першыя некалькі месяцаў Мэйтланд і Рамсэй жылі на рэйках у салон-вагоне, затым перабраліся ў клініку. Але там увесь час ішла

вайна за кухню, былі іншыя нязручнасці. У жніўні АРА была перададзеная палова добрага жылога будынка: восем пакояў і асобны ванны пакой. Таксама ў часовае карыстанне з губернскіх складоў прывезлі неабходны мінімум мэблі. (Калі пазней Мэйтланд і Рамсэй запросяць у госці княгіню Паскевіч, яна пазнае частку сканфіскаванага ў ейным родавым палацы мэблевага гарнітуру.)

Замірэнне на амерыканска-гомельскім фронце скончылася разам з летам. 5 верасня 1922 старшыня губвыканкама Нэйбах зноў запрасіў Мэйтланда ў свой кабінет. Прысутнічаў упаўнаважаны Драгунскі, які выконваў функцыі перакладчыка, сакратар вёў стэнаграфічны запіс, пад якім усе прысутныя пасля паставілі свае подпісы.

**Тав. Нэйбах: Я запрасіў Вас для гутаркі па трох пытаннях: першае — пра далейшую працу АРА ў Гомельскай губерні, другое — пра паведамленні аб стасунках з паветамі, і трэцяе — пра пасылкі. Прэзідыум губвыканкама даручыў мне перамовіцца з Вамі ў справе далейшай працы тут АРА. Гэтае пытанне ўсплывае з нагоды добрага ўраджаю й да т.п. На Волзе, верагодна, аддзелы АРА застануцца, але як вырашаецца гэтае пытанне тут? Вы былі ў Маскве, і я хацеў бы атрымаць некаторыя звесткі на гэты конт. Што да пасылак, я мушу адзначыць, што атрымальнікі не ёсць найбяднейшыя, а заможныя, і часта гандлююць гэтымі пасылкамі, што супярэчыць асноўным мэтам АРА — дапамозе насельніцтву, якое галадае.**
**М-р Мэйтланд: У Маскве афіцыйных звестак я не атрымаў. Беручы пад увагу адну з апошніх нарадаў у Нью-Ёрку, я думаю, што праца АРА будзе працягвацца да верасня наступнага года. У справе пасылак я падняў пытанне, і мне абяцалі падвысіць колькасць бясплатных пасылак, таксама й дзіцячага харчавання. З прычыны эпідэміі АРА будзе працягваць сваю працу да наступнага верасня, пакрысе змяншаючы яе. Пытанне пра дзіцячае харчаванне надзвычай складанае; што да атрымання пасылак заможным элементам, я таксама гэта назіраю.**
**Тав. Нэйбах: Я вельмі рады, што мы не разыходзімся з м-рам Мэйтландам у тым, што пасылкі не дасягаюць мэты — дапамогі тым, хто галадае. Паколькі гэта так, я думаю, мы разам даможамся, каб пасылкі не прадаваліся, бо адрасаты фактычна не маюць на гэта права. Што да дзіцячага харчавання, мы звярталіся ў Цэнтр, каб даць яго дзецям Паволжа, эвакуаваным у нашую губерню. Ця-**

**пер жа частка дзяцей адпраўленая назад у Паволжа, другая частка мае дастаткова прымальныя ўмовы, трэцяя ўзятая самім насельніцтвам, і пытання пра дзіцячае харчаванне мы не разумеем. Увогуле трэба сказаць, што голаду цяпер мы не назіраем. У справе дапамогі ў барацьбе з эпідэміяй мы ўдзячныя, але шырокай працы наперадзе тут няма. Што да павелічэння дабрачынных пасылак, я мушу вітаць м-ра Мэйтланда, але й тут трэба быць строга паслядоўным. У нас ёсць звесткі, што былая княгіня Паскевіч ды іншыя карыстаюцца гэтай дабрачыннасцю. Губвыканкам лічыць, што ім гэтай дабрачыннасцю карыстацца зусім не трэба, бо ў іх яшчэ засталося дастаткова ўсяго. Яны прымаюць гэта як падтрымку амерыканскай адміністрацыі. Таму мая настойлівая просьба, каб дабрачыннасцю карысталіся не былыя высокапастаўленыя асобы, а тыя, каму яна насамрэч неабходная.**
**М-р Мэйтланд: Я вельмі шкадую, што Вы атрымалі такія звесткі. Бясплатныя пасылкі размяркоўваюцца паміж тымі, хто сапраўды мае патрэбу. Што да княгіні Паскевіч, мушу сказаць, што дапамога ёй была аказаная асабіста мною й сакратаром Рамсэем за нашыя сродкі як знаёмай. Была адна выдача пасылак лекарам, бо гэта была адмысловая дапамога ад лекараў Нью-Ёрка.**
**Тав. Нэйбах: Я стаўлю пытанне прынцыпова. Адмысловыя пасылкі ад лекараў, я лічу, няправільныя. Дапамога павінна ісці тым, хто галадае, а не катэгорыям. Мы ведаем, што за мяжой ёсць шэраг грамадзянаў — нашых праціўнікаў, якія маюць тут сваіх аднадумцаў. Такім чынам можа аказвацца дапамога й гэтым катэгорыям. Пры аб’ездзе мною губерні ў некаторых гарадах мне паведамлялі аб атрыманні медыкаментаў беспасярэдне з Мінска й Кіева. Лічу гэтую з’яву безумоўна ненармальнай, бо магчымы падман. Таму мы лічым безумоўна неабходным атрыманне й размеркаванне медыкаментаў вылучна праз гомельскае аддзяленне АРА.**
**М-р Мэйтланд: Рэч у тым, што акругі мяжуюць. Лекар Герц аб’язджаў участкі для вызначэння межаў, але яго разам з іншым лекарам затрымалі органы ГПУ з прычыны нейкіх недакладнасцяў у дакументах. Я з’езджу ў Кіеў разам з лекарам Герцам для дакладнага вызначэння ўчастку.**
**Тав. Нэйбах: Прэзідыум ГВК* прыняў абавязковую пастанову пра**

* Губернскі выканаўчы камітэт.

**размеркаванне пасылак на суму да 50 даляраў з удзелам нашага прадстаўніка й забарону прадаваць і купляць з ужываннем мераў адміністрацыйнага спагнання — штрафы, зняволенне.**
**М-р Мэйтланд: Я хацеў бы мець дакладны пераклад пастановы перад апублікаваннем.**
**(Таварыш Драгунскі ўголас чытае ў перакладзе абавязковую пастанову.)**
**М-р Мэйтланд: Я мушу адзначыць толькі канфіскацыю пасылак цалкам за продаж, каб можна было вярнуць грошы ў Амерыку. Як быць са сканфіскаванаю часткаю, трэба мне падумаць.**
**Тав. Нэйбах: Мы не перашкаджаем атрыманню пасылак, але да іхных прадаўцоў будуць ужывацца меры адпаведна з гэтай абавязковай пастановай. Сканфіскаваныя прадукты будуць перадавацца дзіцячым дамам. Я прапаную дадаць у тэкст пастановы, што гэтая прапанова зыходзіць ад АРА.**
**М-р Мэйтланд: Раней згадваліся грамадзяне, якія ўцяклі з Расеі й падтрымліваюць сваіх аднадумцаў тут. Яны безумоўна супраць АРА, якая падтрымлівае працу Савецкай Расеі. З гэтае прычыны белыя групы ў Амерыцы могуць нарабіць шуму з-за сканфіскаваных прадуктаў. Таму прашу перадаваць мне адпаведныя дакументы.**
**Тав. Нэйбах: Калі будуць канфіскацыі (а можа й не, калі грамадзяне нас зразумеюць і будуць выконваць пастанову), дык усе дакументы будуць вам перададзеныя. Я думаю, м-р Мэйтланд згодны, што цяперашнюю спекуляцыю пасылкамі трэба спыніць.**
**М-р Мэйтланд: Згодны.**

Мэйтланд ніяк не адрэагаваў на спробу Нэйбаха ўключыць АРА ў пастанову, хаця б у частцы перадачы сканфіскаваных прадуктаў дзіцячым дамам. Аднак ягонае апошняе слова са стэнаграмы на наступны дзень з’явілася ў тэксце дакумента:

**На падставе пагаднення ўрада РСФСР з Амерыканскай адміністрацыяй дапамогі Расеі «АРА» й інструкцыі Упаўнаважанага Урада РСФСР пры «АРА», а таксама са згоды ўпаўнаважанага Гомельскім аддзяленнем Амерыканскай адміністрацыі дапамогі, Губвыканкам пастанаўляе...**

Пастанова, расклееная па горадзе й надрукаваная ў газетах, абмяжоўвала атрыманне, а таксама забараняла продаж, абмен і набыццё амерыканскіх пасылак. Пры парушэнні адміністрацыйна-карныя органы меліся канфіскоўваць прадукты й прыцягваць вінаватых да адказнасці.

Гомельскія грамадзяне, аднак, ніяк не маглі зразумець, чаму ўлады распараджаюцца пасылкамі, якія за свае працоўныя даляры купілі сваякі й адрасавалі персанальна ім. Пасля рэйдаў ГПУ й міліцыі па рынках гомельцы рушылі на чыгунку: там камерцыйная паштовая служба без праблемаў брала пасылкі й перапраўляла ў іншыя гарады. Ужо ў верасні гомельскія пасылкі з'явіліся на рынках Беларусі, Расеі і Украіны.

Старшыня губвыканкама выдаў загад не прымаць пасылак без подпісу ўпаўнаважанага Драгунскага — але адбылася асечка. Наркамат шляхоў зносінаў не падпарадкоўваўся мясцовым уладам, чыгуначнікі працавалі ў паўваенізаванай цэнтралізаванай сістэме й пільна бераглі сваю незалежнасць. Управа Заходняй чыгункі атрымала тэлеграфнае распараджэнне з наркамата ігнараваць загад губвыканкама.

Пачалася эпісталярная вайна супраць чыгункі. Драгунскі пісаў, а Нэйбах падпісваў скаргі ў наркамат, урадаваму ўпаўнаважанаму ў Маскву й беспасярэдне на адрас савецкага ўрада:

> **Спекуляцыя, зліквідаваная ў губернскім маштабе, знайшла сабе выйсце ў здачы для адпраўкі ў сталічныя гарады й іншыя мясцовасці цэлых транспартаў з амерыканскімі прадуктамі... Фармальна-бюракратычны падыход Наркамата шляхоў зносінаў пагражае ўзмацніць спекуляцыю... Губвыканкам просіць даць катэгарычнае прадпісанне Наркамшляху...**

Тымчасам атрымальнікі амерыканскіх пасылак надалей распараджаліся падарункамі як лічылі патрэбным. Рэйкавую вайну супраць АРА Нэйбах прайграў.

# Гомель, акт 4: дапамога, ды не там, не тым, не так

**Насадзілі гузакоў. — Абсалютны недавер да савецкай улады. — Крадуць усё. — Какава а пятай раніцы. — Калядныя радасці. — Дзе гуртуецца буржуазія. — Без суму будзе расставанне**

Амерыканскі «Форд» пачаў зніжаць хуткасць перад чыгуначным пераездам, калі вялікі сабака раптам скочыў з узбочыны пад пярэдняе кола. На календары быў канец лістапада. Снег, які падтаяў за дзень, пад вечар падмарозіла, і дарога была пакрытая нябачным тонкім шкельцам лёду. Аўтамабіль страціў кіраванне, машыну панесла ўбок, яна збіла жалезны слупок, уляцела ў прыдарожную канаву й перакулілася.

Джон Мэйтланд паведамляў у Маскву:

**У машыне, апроч мяне, быў шафёр Бабіляк, упаўнаважаны Драгунскі й інспектар дзіцячых дамоў Чарлябосаў. Усе ацалелі, хаця й насадзілі сабе добрых гузакоў. Мы вырашалі пакінуць шафёра вартаваць машыну, а самім дабірацца ў Гомель па дапамогу. З «Форда» знялі ўсе здымныя часткі й перанеслі ў суседнюю хату. Рэшту шляху да Гомеля, 17 вёрстаў, дабіраліся на сялянскім возе.**

Мэйтланд безупынна выязджаў у раёны, каб на свае вочы пераканацца ў патрэбах дзіцячых дамоў і паглядзець, як арганізаваная дапамога. Досвед навучыў кіраўніка акругі не давяраць ніякім абяцанням, справаздачам і тлумачэнням без праверкі. У скарзе ў Маскву старшыня губвыканкама ацаніў гэта як «абсалютны недавер АРА да прадстаўнікоў савецкай улады».

Яшчэ на вераснёўскай сустрэчы ў губвыканкаме Нэйбах катэгарычна запатрабаваў ездзіць толькі разам з упаўнаважаным:

**Тав. Нэйбах: Я выпадкова ўведаў, што м-р Мэйтланд ездзіў у Старадуб аўтамабілем. Я прасіў бы надалей рабіць паездкі па чыгунцы й разам з нашым прадстаўніком. У нашай губерні ёсць крымінальны бандытызм, і на м-ра Мэйтланда магчымы напад як на прадстаўніка арганізацыі, у якога могуць быць з сабою тыя ці іншыя сумы. Такі напад адбіўся б на ўзаемадачыненнях РСФСР і АРА. Другая частка просьбы — гэта паездка з нашым прадстаўні-**

**ком. Старшыні павятовых выканкамаў, як, напрыклад, у Старадубе, не маюць інструкцыі аб узаемадачыненнях з АРА, і могуць узнікнуць непаразуменні.**
**М-р Мэйтланд: Адзначае, што ведаў пра бандытызм і рызыку паездкі ўзяў на сябе.**
**Тав. Нэйбах: Паўторна падкрэслівае, што напад тым не менш прывёў бы да ўскладнення, і таму яшчэ раз прашу м-ра Мэйтланда ездзіць не аўтамабілем, а цягніком і з нашым прадстаўніком.**
**М-р Мэйтланд: Што да паездак на аўтамабілі, дык яны спыняюцца ўвогуле з прычыны надыходу зімы. Што да прадстаўніка ўладаў, надалей буду ездзіць з ім.**

Новы «Форд» Гомельская акруга атрымала яшчэ ў канцы лета. Аўтамабілем можна было даехаць туды, дзе не было чыгункі, за раз наведаць некалькі мястэчак. Пакуль дарогі не замяло, Мэйтланд не спяшаўся выконваць параду Нэйбаха й перасаджвацца на чыгунку, але на кампанію Драгунскага мусіў пагадзіцца.

У выніку ўпаўнаважаны ледзь не зламаў карак, набіў гузакоў, што ніяк не спрыяла цеплыні пачуццяў да няўрымслівых амерыканцаў. Не надта цёплыя пачуцці да савецкіх афіцыйных асобаў абуджалі паездкі і ў Мэйтланда:

**У Рагачове, у дзіцячым доме, я налічыў 13 ложкаў на 40 дзяцей, амаль без бялізны. На адным ляжала 9-гадовае дзіцё з вельмі цяжкаю формаю сіфілісу. Улады, якія дазвалялі трымаць хворага разам з іншымі дзецьмі, праяўляюць злачынную нядбайнасць. Яшчэ тры ўстановы з Рагачова прыслалі заяўкі на пяцьдзясят паек кожная. Калі я наведаў іх, дык налічыў толькі 46 чалавек ва ўсіх трох месцах агулам. У Жлобіне праверка засведчыла, што амаль усю пайку АРА з’ядалі двое сямнаццацігадовых сыноў загадчыцы дзіцячага дома.**

Пасля паездкі Мэйтланда ў Чэрыкаў улады мусілі звольніць загадчыка дзіцячага дома, які скраў усе амерыканскія пасылкі. Мэйтланд катэгарычна пярэчыў прапановам уладаў частку паек выдаваць персаналу, не дазваляў прадаваць прадукты дзеля аплаты выдаткаў, дзяліць на часткі альбо змешваць рацыёны. Як засведчыла новая працяглая інспекцыйная паездка напрыканцы лістапада, такая патрабавальнасць давала плён:




**Я вярнуўся з вельмі цікавага падарожжа па ўсходняй частцы акругі, дзе правяраў розныя ўстановы, якія атрымліваюць нашыя грузы. Амаль паўсюдна без вынятку я пабачыў, што размяркоўваюцца нашыя прадукты вельмі добра, фактычна нашмат лепей, чым я спадзяваўся.**

Яшчэ ў кастрычніку прыйшло паведамленне, што Гомельская акруга атрымае 4 тысячы бясплатных паек для дзяцей і хворых. Прадукты былі дастаўленыя ў дзіцячыя дамы. Мэйтланд пісаў:

**Дзеці асабліва цешыліся з какавы й белага хлеба. У адным доме дзеці займалі чаргу ў сталоўку а 5-й раніцы, хаця сняданак давалі а 9-й.**
**Адусюль прыходзяць падзякі за нашыя прадукты. Нашая квота цяпер павялічаная да 5 тысяч (паек), і мы імкнёмся размяркоўваць яе сярод дзяцей, аддаючы ім перавагу перад хворымі дарослымі.**

Кіраўнік акругі адзначаў яшчэ адзін аспект:

**Гэтая форма дапамогі за два месяцы зрабіла больш для прэстыжу**

**АРА й любові насельніцтва да арганізацыі, чым уся гадавая праца даставы пасылак.**

Перад Калядамі Гомельская акруга атрымала пяцьдзясят пасылак для дабрачыннага размеркавання. Іх уручылі самым гаротным сем'ям гомельцаў. На Каляды й Новы год кіраўнік акругі наведваў елкі й раздаваў падарункі ў дзіцячых дамах:

**Было надзвычай усцешна чуць падзякі ад нават самых малых дзетак, якія толькі навучыліся гаварыць, але разумеюць, што гэта амерыканскі народ праз АРА штодня корміць іх, і голад іх больш не грызе, як усё жыццё раней, і нават за такі кароткі тэрмін можа бачыць змены ў большай рухавасці й лепшым выглядзе дзяцей. Кіраўнікі ўстановаў не шкадуюць пахвалаў рацыёну АРА й з энтузіязмам гавораць пра яго ўплыў на дзяцей.**

Уплыў адчувала і ўлада. У лістах у Маскву Нэйбах дакладваў пра добры ўраджай, адсутнасць голаду і ўцекачоў, поўны парадак у даверанай яму губерні, якому, аднак, існавала пагроза:

**Неабходна спыніцца на палітычна шкодным моманце справы, які выяўляецца ў групаванні вакол АРА яўна варожых, буржуазных элементаў з магчымымі адсюль непажаданымі наступствамі. Прэзідыум Гомельскага губвыканкама настойліва ставіць пытанне аб ліквідацыі працы АРА ў Гомельскай губерні.**

Да ліста прыкладалася стэнаграма перамоваў з Мэйтландам, копія пастановы губвыканкама й пратакол медычнае камісіі. Дапамога дзіцячым дамам у лісце не згадваецца, але да аргументаў пра адсутнасць голаду і ўцекачоў дадаецца свежы: шкодная медычная дапамога.

Галоўны лекар Мінскай акругі Ралф Герц яшчэ ў чэрвені прапанаваў адчыніць у Гомелі аддзяленне медычнай акругі. Аднак ніякіх дадатковых складоў для лекаў ад мясцовых уладаў Мэйтланд не атрымаў. Дапамога прыйшла ад тых, хто не абавязаны быў яе даваць: чыгуначнікі прапанавалі свой склад на тэрыторыі дэпо. Новы склад аказаўся дастаткова вялікі й для прадуктаў, і для вопраткі, і для медыкаментаў. Да Новага года ў Гомель паступіла шэсць вагонаў шпітальнага рыштунку й лекаў.

Старшыня губвыканкама скардзіўся:

**Абсталяванне й лекі аднаасобна размяркоўваюцца лекарам Рал-**

**фам Герцам, а той асаблівую ўвагу надае чыгуначным шпіталям, хаця іх у 10 разоў менш, чым губернскіх. Адмаўляецца перадаваць адразу ўсе лекі губернскаму аддзелу аховы здароўя, а патрабуе, каб галоўныя лекары шпіталяў прыязджалі й асабіста атрымлівалі медыкаменты й абсталяванне. Лінія гэтая вядзе да дыскрэдытацыі ў вачох працаўнікоў установаў савецкай улады, асабліва калі прыняць пад увагу, што лекары — удзячны матэрыял для ўспрыняцця такой лініі.**

У Маскве гомельскіх просьбаў зноў не задаволілі. Ці то яшчэ быў не час сварыцца з кіраўніцтвам АРА, ці то раздражнялі порсткія правінцыялы, якія ставілі пад сумнеў рашэнні цэнтру, ці то ў кожным разе набліжаўся час закрыцця ўсіх аперацыяў...

Новая эканамічная палітыка між тым стала адчувацца й на Гомельшчыне. Напачатку 1923 года Мэйтланд пісаў:

**Умовы ў акрузе палепшыліся, і гэтае паляпшэнне працягваецца. Зразумела, яшчэ багата хто носіць вопратку з падручных матэрыялаў, але насельніцтва ў цэлым нашмат лепш апранутае, чым летась. Адрамантаваны шэраг будынкаў. Ёсць сведчанні, што мясцовыя ўлады намагаюцца захоўваць санітарныя ўмовы ў горадзе й акрузе. Мост праз рэчку, якому больш за трыста гадоў, рамантуецца, амаль скончаная новая электрастанцыя, якая зможа падаць энергію ў радыусе пяці вёрстаў ад Гомеля.**

Мэйтланд з захапленнем піша пра планы пабудаваць трамвайную лінію да Нававеліцы, паставіць вялікі палац, дзе месціліся б органы ўлады й праводзіліся губернскія сходы. Паводле ацэнкі амерыканца, дзелавая актыўнасць узрасла «цудоўным чынам»: запрацавалі тэкстыльная фабрыка ў Клінцах, запалкавая ў Нававеліцы, пачалася вытворчасць сельскагаспадарчых машынаў і прыладаў. Рынак і крамы, паведамляе ён, заваленыя фабрычнымі вырабамі.

Перамены да лепшага закранулі дзіцячыя дамы, асабліва ў Гомелі. Араўцы ўнеслі карэктывы ў свае праграмы: асноўная дапамога пайшла ў аддаленыя мястэчкі й гарады, дзе мала што змянілася. Праз адзін абзац пасля захаплення зменамі, якія прынёс НЭП, Мэйтланд піша:

**Умовы ў некаторых дзіцячых дамах жахлівыя. Дзеці не маюць дастаткова адзення проста каб цалкам апрануцца, не кажучы ўжо**

**пра тое, каб апрануцца цёпла. Аднойчы вельмі халодным ранкам я наведаў дом, дзе шмат вокнаў былі без шкла, дзеці abляпілі адзіную напаленую печку, і яна была ў такім стане, што з-за дыму няшмат чаго было відаць. Не хапала ложкаў, дзеці спалі па двое й нават па трое пад адной коўдрай. Прасцінаў не было, і было немагчыма падтрымліваць чысціню адзення альбо коўдраў, бо нельга было іх памыць.**

Канфлікты з губвыканкамам працягваліся, але чым далей ад Гомеля, тым прасцей было знайсці агульную мову мясцовым уладам і амерыканцам. Пасля падарожжа ў Рагачоў, якое ледзь не каштавала пасажырам «Форда» жыцця, павятовы выканкам прыслаў афіцыйную просьбу ў гомельскую кантору АРА:

**Дзіцячыя дамы Рагачова й павета патрапілі ў цяжкі стан: вострая нястача прадметаў першай неабходнасці. Няма сукенак для дзяўчатак, абутку, гарнітураў для хлопчыкаў. Дзеці не могуць наведваць школу. Расце колькасць захворванняў. Становішча робіцца безвыходным. Патрабуецца хуткая й істотная падтрымка.**

Да рагачоўскага ліста быў прыкладзены спіс патрэбных рэчаў: паліто, блузкі, штаны, панталоны, кальсоны, абутак, зімовыя шапкі, прасціны, ручнікі, наўлечкі, матрацы, коўдры, насыпкі...

Калі дапамога пачала паступаць (таксама праз АРА ў Гомелі з'явіліся й тэкстыльныя наборы для самастойнага шыцця адзення), у губвыканкама з'явіўся новы аргумент: амерыканская дапамога шкодная для тэкстыльнай прамысловасці, бо знізіцца попыт на яе прадукцыю.

Нягледзячы на перашкоды, амерыканцы працавалі ў Гомелі да самага заканчэння дзейнасці АРА. Мэйтланд пісаў у справаздачы:

**У якасці заключэння: праца АРА тут стварыла пачуццё павагі да амерыканскага народа й да метадаў працы амерыканцаў. Вялікая колькасць людзей эмігруе штогод адсюль у Амерыку, і яны возьмуць з сабой успамін пра тое, як Амерыка прыйшла на дапамогу ў час вялікае патрэбы.**

На ўспамін гомельскім уладам амерыканцы пакідалі свае аўтамабілі. У сярэдзіне чэрвеня ўпаўнаважаны Драгунскі падпісаў акт прыёму, ацэнкі й перадачы тэхнікі ў гараж губвыканкама:

**У наяўнасці маюцца наступныя аўтамабілі: адзін грузавік сістэмы «Уайт», машына на хадзе, мае 35% зношанасці, продажная цана 2500 рублёў золатам. Два легкавыя аўтамабілі сістэмы «Форд». Адна з машынаў на хадзе. Аўтамабілі маюць 65% зношанасці. Максімальна магчымая продажная цана 125 рублёў золатам кожная.**

Упаўнаважаны ацэньваў не проста дзве машыны з запасам асобных прыналежнасцяў у дваццаць разоў менш за грузавік — так ацэньваўся амерыканскі развітальны падарунак. У канцы чэрвеня ў штаб-кватэры ў Маскве быў падпісаны «Агульны мемарандум №80»:

**Гомельская акруга закрытая 21 чэрвеня. Персанал прыбудзе ў Маскву 24 чэрвеня.**

Апошні дакумент у архівах за подпісам Драгунскага — ягоная заява на звальненне з пасады ўпаўнаважанага пры АРА. Дата пад подпісам — 1 ліпеня 1923, нашмат пазней, чым хацеў ён сам і чым дамагаўся кіраўнік Гомельскай акругі Джон Мэйтланд.

Тут іхныя жаданні ўпершыню цалкам супалі, але гэта ўжо не мела значэння.

## Чорны спіс: шпіёны АРА ў ролі філантропаў

**Эканамічны шпіянаж. — Румянцава й Кацавураў на лаве падсудных. — Агранамічныя таямніцы Беларусі. — Пракурор просіць расстрэлу. — Пратэст Гувера. — Змаганне за святло**

14 траўня 1924 у газеце «Звезда» з'явілася публікацыя пад загалоўкам «Суд. Эканамічны шпіянаж». Праз увесь тэкст стракацела назва АРА. У шпіянажы абвінавачваліся былая супрацоўніца Мінскай акругі, інспектарка дзіцячых дамоў Кацярына Румянцава й прафесар заалогіі, вучоны-аграном Мікалай Кацавураў.*

Публікацыю можна лічыць адказам на ліст кіраўніка Мінскай акругі Чарлза Уілабі, які ў чэрвені 1923 напісаў упаўнаважанаму ўрада.

---

* Яшчэ раней, у сакавіку 1924, за «сувязь з амерыканцамі» пастановай НКВД і пракуратуры СССР на тры гады высылкі ў Сібір была асуджаная машыністка АРА ў Мінску Лізавета Крылова.

**Мой дарагі спадар Стакоўскі:**
**Перад канчатковым ад'ездам з Беларусі не магу не звярнуцца да вас з адной апошняй просьбай не толькі як кіраўнік акругі, але як чалавек, які ўвесь час стараўся паспяхова праводзіць тут сваю працу.**
**Гэта ў сувязі з так званым «чорным спісам», у які занесеныя імёны дзевяцёх маіх былых супрацоўнікаў. Старшыня прафсаюза савецкіх работнікаў Лявонаў адкрыта прызнае, што бальшыня з іх патрапіла ў чорны спіс з прычыны быццам сяброўства са мной ды іншымі амерыканцамі. Ён лічыць, што такое сяброўства супярэчыць прынцыпам прафсаюзаў і супрацоўнікі павінны панесці адказнасць.**
**Гэта вельмі несправядліва, і я не веру, каб чалавек, які прымае прафсаюзныя прынцыпы блізка да сэрца, мог заняць такую пазіцыю. Супрацоўнікі, якія добра да мяне ставіліся, добра ставіліся да АРА й да ўладаў. АРА дапамагала ўладам, іначай яе тут не было б. Таму высновы сп. Лявонава памылковыя.**
**Я прашу вас абараніць дзевяцёх гэтых супрацоўнікаў у іх барацьбе й зрабіць усё магчымае, каб аднавіць іхныя правы.**

Уілабі, магчыма, меў рацыю, але ўсё ж памыляўся*.

Справу эканамічнага шпіянажу ў Мінску разглядаў Вышэйшы суд БССР, абвінаваўцам выступаў пракурор рэспублікі Васіль Шаранговіч. Газета пісала:

---

* Месяцам раней, у красавіку 1924, «Известия» паведамілі пра арышт былых супрацоўнікаў АРА ў Кіеве. Іх абвінавачвалі ў шпіянажы ў абмен на ежу. Вядомы прасавецкімі сімпатыямі карэспандэнт газеты «New York Times» Уолтэр Дуранты, які працаваў у Маскве ў 1920—1930, пісаў пра гэты перыяд: «Пасля ад'езду АРА летам 1923 значная колькасць мужчын і жанчын, якія з'яўляліся чальцамі камітэтаў АРА або працавалі ў іншай якасці, былі арыштаваныя ГПУ. Наркамат замежных спраў у Маскве даў крыху наіўнае тлумачэнне. Там сцвярджалі, што ГПУ сачыла за арыштаванымі ўжо пэўны час з той ці іншай прычыны, але ўстрымлівалася ад арышту, каб не ствараць напружання з амерыканцамі і выконваць (Рыжскае) пагадненне. Аднак калі АРА скончыла працу і пакінула Расею, не было больш падставаў, чаму гэтыя «нягоднікі» і «контррэвалюцыйныя элементы» павінны мець ранейшы імунітэт». Больш за 100 000 чалавек працавалі для АРА, і Дуранты далей піша, што сярод гэтых людзей, «верагодна, была значная колькасць такіх, якія злоўжывалі сваім становішчам у той ці іншы спосаб і наагул зрабілі дастаткова, каб апраўдаць дзеянні ГПУ». У 2004 у ЗША была зроблена спроба пасмяротна пазбавіць Дуранты прэстыжнай Пулітцэраўскай прэміі, якую ён атрымаў за рэпартажы з Савецкага Саюза. Камісія прызнала, што матэрыялы не адпавядаюць стандарту дакладнасці (Дуранты «не заўважыў» галадамору ва Украіне).

**На лаве падсудных былая памешчыца й дваранка Румянцава й вучоны-аграном Кацавураў. Пасля Кастрычніцкага перавароту, страціўшы ўсе свае маёнткі, Румянцава ўладкоўваецца кіраваць сваім былым конным заводам, але гэтая праца ёй не даспадобы. Яе шырокая, існінна руская натура, якая прызвычаілася жыць па замежжах, не магла знайсці сабе справы ў глушы. Ведаючы дасканала ангельскую мову, яна вельмі лёгка ўладкоўваецца ў беларускую кантору АРА. Румянцава пачынае займацца «рэальнай» амерыканскай дабрачыннасцю. Выдае й адмаўляе ў атрыманні «чароўных» араўскіх пасылачак.**

Румянцава працавала інспектаркай, і ў яе абавязкі ўваходзілі праверкі дзіцячых дамоў, садкоў, кухняў. АРА адмаўлялася выдаваць пасылкі й медыкаменты ўстановам, дзе не было парадку. Незалежныя інспекцыі моцна раздражнялі ўлады, але ключы ад складоў былі ў амерыканцаў.

У віну інспектарцы ставіліся не проста прыдзірлівыя паводзіны. «Звезда» пісала пра Румянцаву:

**Маючы ад АРА інструкцыю дапамагаць галоўным чынам прадстаўнікам вучонага свету, прафесуры, лекарам ды іншай інтэлі-**



**генцыі, яна, аднак, вучонаму-аграному Кацавураву адмаўляецца выдаць пасылку й прапануе раней напісаць справаздачу аб эканамічным стане Беларусі.**

Яшчэ напрыканцы 1922 года АРА пачала збіраць папярэднія звесткі пра перспектывы ўраджаю ў раёнах дапамогі. Трэба было высветліць, як і ў якіх памерах планаваць дапамогу на наступны год. У рэгіянальныя канторы была разасланая анкета: ураджайнасць, пасяўныя плошчы, прыродныя ўмовы. Кіраўнікі акругаў звярнуліся да ўладаў — і не атрымалі ніякіх адказаў. Уілабі тройчы спрабаваў атрымаць афіцыйны адказ на пытанні анкеты, але прызнаваў у лісце ў Маскоўскую штаб-кватэру, што нічога не ўдалося здабыць.

Напачатку сакавіка кіраўнік АРА Уільям Гаскел ізноў накіраваў цыркулярны ліст ва ўсе акругі з просьбай тэрмінова сабраць звесткі пра разлікі на ўраджай 1923 года. Гаскел прасіў абавязкова пазначаць крыніцы інфармацыі. Калі крыніцаў некалькі, трэба было падаць розныя ацэнкі. Нью-ёркскі офіс патрабаваў адказу да 20 сакавіка.

Уілабі зноў звярнуўся да Стакоўскага, той пераслаў запыт у Цэнтральнае статыстычнае бюро й Наркамат земляробства. Ішлі тыдні, адказу не было. Тады Уілабі падказалі імя эксперта, вучонага-агранома Кацавурава. Прафесар меў выбітны аўтарытэт сярод спецыялістаў, выкладаў ва ўніверсітэце, а таксама працаваў у Наркамземе. Кацавураў пагадзіўся напісаць агульную даведку.

У рэпартажы з суда аўтара агляду апісвалі наступным чынам:

**Аграном Кацавураў... Сівы, зусім лядашчы старэнькі. Паводле ягоных словаў, ён напісаў справаздачу несвядома. Ён зусім не думаў, якую ролю гэтая справаздача можа адыграць у замежнай дзяржаве.**

Агляд Кацавурава называўся «Стан сельскай гаспадаркі ў Беларусі перад вайной, падчас вайны й рэвалюцыі й да цяперашняга моманту». Гэта было красамоўнае, угрунтаванае на лічбах і поўнае дасціпных назіранняў і ацэнак апісанне разбурэння гаспадаркі Беларусі. Ацэнкі прафесара відавочна не супадалі з афіцыйнымі поглядамі на найноўшую гісторыю:

**...Прыйшла рэвалюцыя з яе бессэнсоўным абсалютным разбурэннем усёй прыватнай уласнасці. Паркі й цудоўныя сады высякаліся**

**на паліва, і гэта ў Беларусі, дзе лясы займаюць 51% плошчы. Дамы былі разрабаваныя альбо цалкам разбураныя й да сёння ляжаць у руінах. Бясцэнныя старыя бібліятэкі былі спаленыя, карціны парэзаныя на кавалкі, усё, што культура назапашвала вякамі, было зруйнавана за некалькі месяцаў. Гэта ў галіне мастацтва. У галіне сельскай гаспадаркі разбурэнне было яшчэ горшым. Вельмі хутка Беларусь апынулася на мяжы поўнае галечы.**

Нямецкая акупацыя, пісаў Кацавураў, спыніла жахлівую анархію й вярнула спакой і парадак. Маёмасць вярталі гаспадарам, адбудоўвалі разбураныя дамы, на рынку з'явілася мноства недарагіх сельскагаспадарчых машынаў, пачала аднаўляцца ўрадлівасць глебы:

**У цэлым, калі казаць поўную праўду, нямецкая акупацыя зрабіла выразна спрыяльны ўплыў на Беларусь.**

Вяртанне Саветаў да ўлады пачалося з перапісу й пераразмеркавання зямлі сярод сялянаў адпаведна правілам «справядлівасці й здаровага сэнсу». Прафесар далей тлумачыў, чаму правілы былі ўзятыя ў двукоссе:

**На жаль, людзі, якім даверылі гэта зрабіць, былі абсалютна непрыдатныя да гэтых пасадаў і зямлю размеркавалі цалкам бяздумна.**

Польская акупацыя выклікала новы перадзел зямлі, затым зноў вярнуліся Саветы, і ўсё пачалося спачатку. Даведка Кацавурава заняла дзевяць старонак машынапісу. Агляд эканамічнага жыцця Беларусі завяршаўся высновай:

**Я паспрабаваў выказаць праз сухія лічбы, як абсалютна ўсё жыццё было спыненае ў гэтай краіне й як марудна й пакутліва яно пачынае зноў уваскрасаць.**

У мінскай канторы АРА пераклалі тэкст на ангельскую, адправілі ў Маскоўскую штаб-кватэру й забыліся. Аднак у даведкі знайшліся зацікаўленыя чытачы без агранамічнай адукацыі — у ГПУ. Вынікі вывучэння гаспадарчай гісторыі Беларусі чэкістамі сталі вядомыя праз год, на судовым працэсе.

Кацярына Румянцава пацвердзіла, што сапраўды прасіла прафесара Кацавурава напісаць даведку, і патлумачыла, што старалася здабыць звесткі вылучна ў інтарэсах Беларусі, якой прызначалася дапамога. Аднак суд нядоўга займалі агранамічныя таямніцы.

«Звезда» пісала:

**На судзе адразу высвятляецца ўвесь цынізм «дабрачыннай дзейнасці» АРА, якая патрабавала ад атрымальніка бясплатнае пасылкі ўдзячны ліст. І вось гэтыя змушаныя лісты з «сардэчнаю падзякаю» пасля друкаваліся ў амерыканскай прэсе й стваралі рэкламу АРА. Вось які амерыканскі спосаб афішавання.**

Менш чым за год да выкрыцця амерыканскага цынізму ў Мінску Савет народных камісараў у Маскве замовіў мастаку Томскаму мастацкі твор — пастанову СНК з нагоды адʼезду АРА належала аформіць у колеры й арнаменце як падзячны ліст. Пастанова пачыналася ўрачыста:

**У часы велізарнага стыхійнага бедства амерыканскі народ у асобе АРА адгукнуўся на патрэбы змучанага інтэрвенцыяй і блакадай насельніцтва абласцей Расеі й саюзных рэспублік і прыйшоў самаахвярна яму на дапамогу, арганізаваўшы ў шырокім маштабе падвоз і размеркаванне харчу й іншых рэчаў першай неабходнасці. Дзякуючы велізарным, цалкам бескарыслівым намаганням АРА, мільёны людзей усіх узростаў былі ўратаваныя ад смерці й цэлыя паселішчы й нават гарады ацалелі ад страшнай катастрофы, што ім пагражала.**

10 ліпеня 1923 подпісы пад падзякай паставілі кіраўнікі савецкага ўрада — намеснік старшыні СНК Каменеў, кіраўнік справаў Гарбуноў і сакратар Фоціева. Праз дзесяць месяцаў у Мінску мясцовыя ўлады вялі сваю размову з былой супрацоўніцай АРА. «Звезда» пісала:

**На пытанне старшыні да Румянцавай, як цяпер яна глядзіць на Савецкую ўладу, Румянцава з гонарам адказвае:**
**— Хоць я належу да класы, варожай пралетарыяту, цяпер я «спачуваю» Савецкай уладзе. Пералом у мяне адбыўся, калі я была ў палоне ў Дзянікіна. Я там бачыла столькі беззаконня да сябе й іншых, што, сапраўды, адзіная рэальная ўлада — гэта Савецкая ўлада.**

Пракурор рэагуе:

**Прадстаўнік абвінавачання т. Шаранговіч, прааналізаваўшы жыццё й «дзейнасць» Румянцавай, прыходзіць да высновы, што**

**яна — вораг Савецкай улады, заўсёды з ёй будзе змагацца, і таму патрабуе для яе найвышэйшую меру пакарання — расстрэл.**

Невядома, якія аргументы прывялі адвакаты ў абарону былой інспектаркі, — у газетнай справаздачы пра гэта ані слова. Пра аўтара агранамічнага агляду «Звезда» пісала:

**Абарона ў асобах Ліцвіна й Жылінскага падкрэслівала, што справаздача Кацавурава ніякае шкоды Савецкай уладзе не прынесла, што яна была напісаная несвядома й бескарысліва, і патрабавала для сваіх падабаронных аслабкі. Кацавураў у 1906 годзе сядзеў год у турме за ўдзел у сялянскім паўстанні й таму заслугоўвае палёгкі.**

Вышэйшы Суд засудзіў Румянцаву да дзесяці гадоў ДОПРу* са строгай ізаляцыяй і Кацавурава да пяці гадоў ДОПРу са строгай ізаляцыяй, а таксама пазбавіў правоў Румянцаву на пяць гадоў, а Кацавурава на тры гады. Пасля адбыцця пакарання абодва падлягалі высяленню з прыфрантавой паласы на тры гады.

18 траўня справаздачу пра Мінскі суд змясцілі маскоўскія «Известия». Дабрачынная дапамога ад капіталістаў супярэчыла тэорыі непрымірымай класавай барацьбы. Падзяка амерыканцам, падпісаная Каменевым, падлягала дэзавуацыі. Беларуская справа давала выдатную нагоду. Загаловак у цэнтральнай газеце быў палітычна й класава на парадак вышэйшы за мінскі:

**Шпіёны АРА ў ролі філантропаў.**

Паведамленне пра мінскі суд перадалі амерыканскія агенцтвы, і яго надрукавала газэта «New York Times». Кіраўнік АРА Герберт Гувер быў моцна абураны арыштамі. У інтэрв’ю ён заявіў:

**Пакуль нашыя памочнікі знаходзяцца ў няволі, гэта будзе ствараць непераадольны бар’ер для любых размоваў пра аднаўленне афіцыйных сувязяў.**

…У снежні 1922 Кацярына Румянцава наведала незвычайны дзіцячы дом на вуліцы Падгорнай, 35 у Мінску. Там пад апекай гараддзела аховы здароўя знаходзіліся паўсотні хворых на сухоты дзяцей, якія атрымлівалі амерыканскія рацыёны. Інспектарку ўзрадавалі светлыя й чыстыя

* ДОПР — Дом прымусовых работ.

пакоі, зручная мэбля й надзвычайная чысціня, яна ў захапленні пісала пра любоў і клопат, якімі былі атуленыя дзеці. У канцы Румянцава прызнавалася:

> **Я была асабліва ўражаная карцінаю, якую намалявала 10-гадовая дзяўчынка. На карціне селянін, які заблукаў у завірусе, далёка на гарызонце ён бачыць слабое святло й ідзе на яго, снег слепіць яму вочы, ён падае, зноў падымаецца й ідзе.**
> **— Што ты хацела сказаць сваёй карцінай? — спытала я дзяўчо.**
> **— Святло — гэта здароўе, і за яго мы з дапамогай лекараў і настаўнікаў вядзём змаганне.**

Злучаныя Штаты не прызнавалі Савецкага Саюза ні за прэзідэнтам Гардзінгам, ні за ягоным наступнікам Куліджам і ні тады, калі Гувер сам заняў Белы дом — аж да 1933 года.

Якраз тады меў скончыцца дзесяцігадовы тэрмін зняволення інспектаркі Мінскай акругі АРА Кацярыны Румянцавай.

## Пасля Беларусі: адрасы й лёсы

> **Джон Айкер. — Рэйманд Брэнд. — Фрэнк Вілі. — Чарлз Уілабі. — Доналд Гардзі. — Ралф Герц. — Доналд Ліндсэй. — Джон Мэйтланд. — Г'ю Рамсэй. — Седрык Сміт. — Джордж Шрэмэл**

Перад Калядамі 1923 года ў Нью-Ёрку выйшла новае выданне — бюлетэнь «Хто дзе ў АРА». Публікацыю адкрывала папярэджанне:

> **Гэтае даследаванне мінулага, сучаснасці й будучыні ветэранаў АРА поўнае памылак. Шмат імёнаў, якія трэба было б уключыць, адсутныя, а тыя, што ёсць, напісаныя з памылкамі. Адрасы, верагодна, ужо несапраўдныя. Навіны недакладныя й аднабаковыя. Нягледзячы на ўсе гэтыя недахопы, мэта публікацыі вышэйшая за ўсе папрокі.**

Нягледзячы на папярэджанне аб недакладнасці звестак, я вырашыў паспытаць шчасця й на падставе апублікаваных звестак напісаць лісты

нашчадкам арамітаў, якія працавалі ў Беларусі*. Пасля жорсткага адбору ў розныя куткі ЗША я адправіў каля дзвюх сотняў лістоў:

**Шаноўны спадар:**
**як даследнік Гувераўскага інстытута, што ў Стэнфардскім універсітэце, я займаюся вывучэннем дзейнасці АРА. Вашае прозвішча супадае з імем супрацоўніка АРА, які працаваў у Беларусі ў 1922—1923 гадах. У архівах Гувераўскага інстытута мною знойдзеныя звесткі пра гэтую асобу. Калі вы альбо нехта з вашай сям'і нешта ведаеце пра гэта, пільна прашу паведаміць. Калі не, прабачце за клопат.**

Пакуль пошта развозіла мае пасланні й незнаёмыя адрасаты ў розных штатах са здзіўленнем разгортвалі лісты з Каліфорніі, я нумар за нумарам гартаў бюлетэнь АРА й чытаў вясёлыя рэдакцыйныя каментары, допісы і ўспаміны.

Ужо з архіўных дакументаў 1922—1923 гадоў пра дзейнасць АРА ў Беларусі вынікала, што трое амерыканцаў — Фрэнк Вілі, Г'ю Рамсэй і Джордж Шрэмэл — вярталіся дадому разам з жонкамі, якіх знайшлі ў Мінску й Гомелі. Была няпэўная інфармацыя, быццам кіраўнік Мінскай акругі Чарлз Уілабі ўсынавіў дваіх дзетак з сіроцкага дома. Сустракаліся сведчанні, што кіраўнік Гомельскай акругі Джон Мэйтланд пазней наведваў Беларусь. Аднак гэтыя звесткі былі няпоўныя і ўскосныя.

Бюлетэнь АРА друкаваўся больш за чатыры дзесяцігоддзі, апошні нумар выйшаў у 1965 годзе, калі памёр Герберт Гувер. Бюлетэнь даваў магчымасць зазірнуць наперад — у мінулае.

Кожны нумар меў раздзел пад назовам «Хто дзе й чаму». Рэдакцыя заклікала арамітаў пісаць лісты, паведамляць звесткі пра калегаў і змяшчала фрагменты допісаў паводле алфавіту:

**Бюлетэнь выпушчаны з верай у тое, што ўдзел у працы АРА для нас азначаў болей, чым простае сяброўства ў вясковым аркестры**

---

* Некалькі дзён запар у бібліятэцы Стэнфардскага ўніверсітэта я запускаў адмысловую пошукавую сістэму камп'ютарнай сеткі, пераглядаў тэлефонна-адрасныя кнігі гарадоў, дзе маглі жыць нашчадкі беларускае каманды АРА, і выдрукоўваў адрасы. Складанасць палягала ў тым, што на прозвішча Сміт, напрыклад, камп'ютар выдаў 27 тысяч іменаў — нават з улікам геаграфічных абмежаванняў. Пазней, у Бібліятэцы Кангрэсу ЗША, я працягваў пошукі ў розных базах звестак, пераглядаў газетныя некралогі, спісы пахаваных на могілках. Тое-сёе ўдалося ўдакладніць, але галоўныя знаходкі магчымыя, калі будуць выстаўленыя ў інтэрнэт звесткі ўсіх агульнанацыянальных перапісаў насельніцтва ЗША.

**з дудкамі й барабанам. Сяброўствы й знаёмствы, якія завязаліся падчас гэтай працы, — больш чым звычайныя сустрэчы.**

Самы першы нумар пачынаўся прозвішчам чалавека, які працаваў у Беларусі:

## Джон Айкер, кіраўнік Віцебскай акругі, студзень — ліпень 1922

**1923, снежань.** Пасля Віцебска Айкер ніколі ўжо не быў такім, як раней*. Мы гэта разумеем. Ён правёў лета, спрабуючы вылечыцца ад «беларускай хваробы» на моўных курсах у Біярыцы, а цяпер знаходзіцца ў Оксфардзе. Спадзяёмся, з прычыны свайго акцэнту. Ён дазволіў сабе вучобу там не дзякуючы заробкам у АРА, а на свае ранейшыя капіталы.

**1926, снежань.** Джон займае пасаду сакратара партовай кампаніі ў Лос-Анджэлесе, займаецца афармленнем даставаў жывёлы. Ён піша: «Калі б я мог рэкламаваць сябе, як некаторыя, што ўвесь час на радыё, дык не мусіў бы слаць паштоўкі, каб паведаміць, што я ў парадку й не жанаты, дзякаваць Богу».

**1928, ліпень.** Джон піша з Лос-Анджэлеса: «Клуб АРА ў гэтым горадзе, выглядае, сканаў, але, спадзяюся, нехта з сяброў, хто мае час, збярэ нас калі-небудзь разам. Пару гадоў таму ў горадзе налічвалася каля 15 чалавек, якія працавалі ў розных арганізацыях Гувера. Няма чаго й казаць, мы вельмі шчаслівыя, што Шэф стаў кандыдатам у прэзідэнты ЗША...»

**1929, люты.** Джон — віцэ-прэзідэнт Ціхаакіянскай фінансавай карпарацыі ў Лос-Анджэлесе. Ён піша: «Хацеў бы быць у Вашынгтоне на інаўгурацыі прэзідэнта. Але калі пачынаеш новы бізнес, мусіш быць увесь час у офісе. Рады паведаміць, што вынікі прымальныя...»

**1932, кастрычнік.** Бюлетэнь не надрукаваў аднаго з допісаў Айкера. Джон піша: «Атрымаў ваш апошні адказ за жнівень 1932-га, падпісаны «рэдактар». А хто такі рэдактар? Вы ж не можаце спадзявацца, што нехта напіша аб'ёмісты кавалак ангельскай літаратуры, а потым атры-

---

* Летам 1922 Айкер быў пераведзены на працу на Волгу, а ў лютым 1923 узначаліў Харкаўскую акругу АРА. Ад'езд Айкера ў траўні з Харкава, які быў сталіцай Украіны, стаў супрацьлегласцю ягонага развітання з Віцебскам: «Сп. Ракоўскі, прэзідэнт Украіны, сказаў Айкеру, што праца АРА была вельмі значнай дапамогай Харкаву й папрасіў яго перадаць падзяку ўкраінскага ўрада амерыканскаму народу».

мае адмову ад якога-небудзь будучага рэдактара, які вучыўся некалі ў Гарвардзе ці Ельскім універсітэце й думае, што ведае ангельскую мову. Рабіце як Гандзі — пераначуйце перад адказам, — калі будзеце адказваць увогуле». Наш найлепшы адказ — зробім як Гандзі й захаваем поўнае маўчанне.

**1933, снежань.** Прэзідэнт карпарацыі «Prudential Acceptance» піша, што не мае навінаў і прыедзе ў Нью-Ёрк толькі калі будзе мець магчымасць сустрэцца з рэдактарам. Калі ў вас зброя, якой на бойнях прыстрэльваюць коней, сп. Айкер, не марнуйце часу на прыезд. А інакш — будзьце ласкавыя. Вам трэба было б быць больш памяркоўным, бо, калі б мы хацелі сканцэнтраваць агонь на вас, мы б выкінулі й вашыя першыя два допісы.

**1937, снежань.** Джон піша з Лос-Анджэлеса: «Дагэтуль я лавіў рыбу ў горных рэках Сіера-Невады, аднак летась з сябрамі паехалі на вусце ракі Керн. Я падумаў, што сёлета добра было б паехаць да вытокаў Керн, напісаў запыт і атрымаў брашуру з тае мясціны. Некалькі знаных чальцоў асацыяцыі АРА былі сярод сяброў — удзельнікаў паездкі...»

**1945, кастрычнік.** Джон піша: «Толькі што вярнуўся з заходняй часткі Ціхага акіяну. Апошняя мая база была ва Улітгі, выспы Заходнія Караліны. Тры з паловай дні ляцеў у Сан-Францыска, 6700 міляў, бо захварэла маці, і быў з ёю тыдзень, да самага канца. Паколькі ў мяне было дастаткова балаў, штаб у Гуаме адпусціў мяне, і цяпер я звольнены ў запас і жыву ў сваім доме ў Пасадэне. Перад службаю за мяжой служыў у Арызоне, Нью-Ёрку й Каліфорніі. Спадзяюся вярнуцца да мірнага жыцця...»

**1946, снежань.** Піша з Лос-Анджэлеса: «Са мной можна звязацца праз універсітэцкі клуб. Я планую сабраць старую гвардыю АРА на абед ці вячэру».

**1950, красавік.** З Лос-Анджэлеса: «Ужо год як пакінуў заняткі бізнесам. Аднак яшчэ даю сабе рады й, раптам нехта са старых сяброў будзе тут узімку, усцешуся, калі яны мяне адведаюць».

**1952, кастрычнік.** «Меў магчымасць гэтым летам тры месяцы падарожнічаць па Еўропе з сям'ёй. Я ўпершыню ў Еўропе пасля 1920-х гадоў. Мы наведалі Англію, Шатландыю й Валію, затым Нарвегію, Швецыю, Данію й вярнуліся ў Галандыю, потым была Бельгія, затым у Нямеччыне плылі па Рэйне, пасля адправіліся ў Інсбрук і праз горы ў Італію, дзе правялі некалькі тыдняў. Затым падарожнічалі па поўдні Францыі ды ў Швейцарыі й перад вяртаннем дадому наведалі Парыж. Па-за вя-

лікімі гарадамі ўсюды, дзе мы былі, усё выглядала ў парадку. Пара англьскіх, нямецкіх і італьянскіх гарадоў, зразумела, у дрэнным стане. Я моцна сумняюся, ці насамрэч Еўропе патрэбная нашая дапамога, апроч як адбудаваць разбураныя гарады. Нашыя палітыкі, ясна, іначай глядзяць на гэтую справу».

**1953, кастрычнік.** «Ужо пару гадоў як я пайшоў на пенсію, але патроху займаюся рознымі справамі. Думаю правесці лета ў гарах паблізу ад Лос-Анджэлеса, а за мяжу не ехаць».

**1956, красавік.** 2 красавіка 1956 ва ўзросце 57 гадоў у Каліфорніі памёр Джон Айкер.

### Рэйманд Брэнд, кіраўнік Віцебскай акругі, жнівень 1922 — чэрвень 1923

**1924, красавік.** Піша ў газету «Washington Herald» пад рубрыкай «Людзі, якія думаюць»: «На жаль, спадар Гувер прадаў сваю долю ў выданні, і таму здаю сваю душу сп. Герсту датуль, пакуль бюро АРА не пачне наймаць новых людзей на працу». Брэнд піша пра Віцебск амаль непрыязна. Гэтаксама й пра мястэчка Седалія ў штаце Місуры. Бедная Седалія! Брэнд гаворыць, што мае кантракт з газетай «Christian Science Monitor» на серыю нарысаў, але гатовы ўсё кінуць, каб далучыцца да каманды АРА, што корміць галодных у Нямеччыне.

**1925, кастрычнік.** Пасля двух гадоў працы ў Вашынгтоне ў якасці карэспандэнта газеты «Saint Louis Post-Dispatch» выправіўся на павольным караблі наведаць знаёмыя мясціны ў Оксфардзе й Парыжы, з якімі ён мае інтымныя стасункі. Калі падарожжа мае на мэце нешта апроч адпачынку, дык мы падазраём, што гэта папаўненне калекцыі французскай літаратуры й гравюраў.

**1926, снежань.** 11 верасня ў Балтымары Рэйманд ажаніўся з Адэляй Гарысан.

**1931, люты.** Як карэспандэнт газеты Сэнт-Луісу, сп. Брэнд, натуральна, больш цікавіцца рэвалюцыямі ў нас, чым у Паўднёвай Амерыцы.

**1934, ліпень.** Анкета бюлетэня АРА: Калі б вы мелі выбар, памятаючы досвед АРА, што б вы выбралі — вайну, голад, забарону алкаголю, дэпрэсію ці проста рэвалюцыю? — Проста рэвалюцыю.

**1935, сакавік.** Адзін з нашых найшчырэйшых карэспандэнтаў, якога ў рэдакцыйным артыкуле «Saint Louis Post-Dispatch» называюць «Ча-

лавек навінаў нумар адзін», абраны прэзідэнтам Нацыянальнага прэсклуба ў Вашынгтоне; загадвае там карпунктам «SLPD», ён піша: «Гаворачы праўду, мушу прызнаць, што больш сімпатызую цяперашняй адміністрацыі Рузвельта, чым ураду Шэфа».

**1936, лістапад.** Хаця ўладальнік «SLPD» раней належаў да дэмакратычнай партыі, а цяпер газета памяняла ўласніка, Брэнд не мяняе арыентацыю як сланечнік.

**1946, студзень.** Брэнд мінулае вясны атрымаў першую памятную ўзнагароду імя Рэйманда Клэпера: «У год, калі было шмат перашкодаў для свабоднага руху навінаў, ён безупынна, свядома й з зайздросным майстэрствам намагаўся даваць праўдзівую й глыбокую справаздачу пра грамадскія й палітычныя кірункі ў сталіцы». Прэзентацыя адбылася на штогадовай вячэры асацыяцыі карэспандэнтаў Белага дома, на якой прысутнічалі прэзідэнт Рузвельт і іншыя ўрадавыя й вайсковыя кіраўнікі.

**1965, травень.** Супрацоўнік «Saint Louis Post-Dispatch».

### Фрэнк Вілі, лекар Мінскай акругі

**1923, снежань.** Ажаніўся з маладой лэдзі з Мінска й інтэнсіўна вывучаў трахому. Гэта адзіныя дзве падказкі, якія мы маем для пошукавай каманды.

**1926, снежань.** У адным з выпускаў Вілі быў пазначаны як зніклы без вестак. Ягоныя сябры па Мінску здолелі прасачыць сляды да горада Медыны, штат Нью-Ёрк, дзе ён мае медычную практыку як оталарынголаг. Ягонай жонцы з Беларусі ЗША падабаюцца, і яны нарадзілі двух сыноў, каб разам радавацца жыццю. Мы афіцыйна адклікаем сігнал SOS.

### Доналд Гардзі, кіраўнік Мінскай акругі, студзень — кастрычнік 1922

**1923, снежань.** Мы ведаем, чым Доналд Гардзі займаецца, але не можам сказаць, бо прысягнулі трымаць у сакрэце. Аднак гэта ў межах закону й па-свойму сумленны занятак. Што сапраўды важна — прыбытковы.

**1925, кастрычнік.** Наколькі мы разумеем, ён займаецца нечым, звязаным з рэкламай у фарбавай прамысловасці. Сёлета быў заўважаны за

гульнёй у гольф і плаваннем. Наведнікі ў ягоным доме заўсёды жаданыя госці незалежна ад таго, гуляюць яны ў брыдж ці не.

**1926, люты.** Доналд піша з Гамбурга, з прадстаўніцтва кампаніі «General Motors»: «У мяне сапраўдная праца й таксама сапраўдныя перашкоды, якія трэба пераадолець. У офісе працуе сорак чалавек і сем у рэгіёнах. Паводле праграмы мы павінны прадаць ад 6 да 8 тысяч аўтамабіляў у 1926 годзе. Кошт жыцця ў Гамбургу вышэйшы за амерыканскі, асабліва дарагія ежа й жыллё. Марка выглядае як і раней, але каштуе толькі чвэрць даляра. Гэта няправільна!»

**1928, ліпень.** Доналд піша, што патрабаванні працы ў прадстаўніцтве прывязваюць яго да аднаго месца, але дадае неяк непаслядоўна, што абавязкі клічуць яго ў падарожжа ў Расею.

**1929, люты.** Вярнуўся з Еўропы й паведамляе больш дэталяў пра свайго сябра з Мінскай акругі АРА Ралфа Герца, чым мы маглі вычытаць з лістоў самога лекара Герца цягам месяца, быццам бы ён складаўся з адных нядзеляў.

У 1930-я гады Доналд Гардзі працуе ў «General Motors» і шмат падарожнічае па Цэнтральнай Еўропе й Афрыцы. У 1941 ён вяртаецца ў ЗША.

**1941, красавік.** «Вельмі добра быць дома. Першае ўражанне — як шмат усяго: розная ежы, аўтамабіляў, бензіну, дамы з ацяпленнем і іншыя выгоды жыцця. Наступнае ўражанне — мы мала цэнім, разумеем і цікавімся тым, што адбываецца ў Еўропе й свеце. Мы няблага інфармаваныя, але маем тэндэнцыю паглыбляцца ў свае мясцовыя інтарэсы й асабістыя справы. На маю думку, трэба было даўно заняць цвёрдую пазіцыю ў міжнародных справах і вытрымліваць яе да канца. Усё павар'яцку пераплялося, і перад тым як стане лепш, будзе горш. Мы ў Штатах атрымаем сваю долю бяды — ці гэта будзе ў выглядзе вайсковай акцыі, ці эканамічнага ціску. Ніхто не заплаціць па нашым рахунку за нас»*.

**1960, красавік:** «Я пайшоў на пенсію 1 студзеня 1959, пасля трыццаці гадоў працы, фактычна ўвесь час за мяжой. Баюся, прапушчу гэтую сустрэчу АРА, апошняя мне вельмі спадабалася. Дарэчы, я цяпер у Лондане

---

* Звесткі пра першага кіраўніка Мінскай акругі рэгулярна, не менш разу на год, з'яўляюцца ў бюлетэні АРА й пасля вайны — ён надалей працуе ў Лондане прадстаўніком «General Motors», шмат падарожнічае, сустракаецца з арамітамі.

з нашымі калегамі з АРА Вольгай і Джорджам Гарынгтанамі, так што ўсё зусім гэтаксама, як у старыя часы».

**1962, травень.** Гарынгтан піша: «У траўні мы з жонкай захапілі Дона Гардзі й праз Стакгольм і Хельсінкі выправіліся ў Ленінград, затым у Маскву, на Каўказ, у Крым, Кіеў і адтуль у Вену». У Мінск Гардзі не заязджаў.

## Ралф Герц, лекар Мінскай акругі

**1923, снежань.** Доктар Герц абвяшчае пра адкрыццё сваёй практыкі ў Рочэстэры, штат Мінесота. Ралф выступіў перад лекарамі ў Рочэстэры з лекцыяй на тэму «Гуверызацыя Расеі». Мы заўсёды думалі, што «Гуверызацыя» азначае менш есці, але мы ўпэўненыя, што нашая мэта ў Расеі была, каб людзі елі больш. Што ж тады азначае «Гуверызацыя Расеі»?

**1925, ліпень.** Ралф мае прыватную практыку ў Кліўлендзе, штат Агаё.

**1926, снежань.** Ралф піша: «Жанімства як паветраны балон: можна прызямліцца на вострую агароджу альбо ў бруд. Але напэўна некуды прызямлішся. Мараль: усё яшчэ халасцяк».

**1928, ліпень.** Па-ранейшаму практыкуе хірургію ў Кліўлендзе. Аўтар перліны ў пазамінулым нумары: «Жанімства як паветраны балон: можна прызямліцца на вострую агароджу альбо ў бруд». Апошняя навіна: «Спадарства Бокра абвяшчаюць пра шлюб сваёй дачкі Гізэлы й доктара Ралфа Герца ў нядзелю 25 снежня 1927».

**1929, люты.** Прырода бярэ сваё, і ўслед за нашым папярэднім паведамленнем мы атрымалі наступную навіну ад Ралфа Герца: «Ралф-малодшы нарадзіўся шаснаццатага! Што за хлопец! Вось яно як! Гэта пэўна вялікае й слаўнае пачуццё! Што да мяне, я стараюся разбудаваць практыку, гэта доўгі й сумны занятак, увесь час угору, але даю рады».

**1937, снежань.** «1. Практыкую хірургію ў Кліўлендзе, а таксама працую над нехірургічным лячэннем язвы. 2. Летась быў абраны прэзідэнтам Паўночна-Цэнтральнага клінічнага таварыства. 3. Шчасліва жанаты — адзначаю дзясятую гадавіну шлюбу. 4. У якасці доказу магу выставіць хлопчыка васьмі гадоў і дзяўчынку шасці гадоў».

**1941, студзень.** «Займаюся хірургіяй у Кліўлендзе. Таксама працую над даследаваннем бактэрыцыднага ўздзеяння халодных ультрафіялетавых промняў».

**1942, снежань.** «Мая заява на вайсковую службу ў якасці лекара адхіленая, і я пераажываю. Але я далучыўся да Кліўленд Грэйз, найстарэйшай вайсковай арганізацыі ў Агаё. Я таксама лекар акруговай прызыўной камісіі й такім чынам раблю свой унёсак у нашыя вайсковыя высілкі».

**1944, студзень.** «Хірург на абарончым заводзе, а таксама лекар у прызыўной камісіі, плюс прыватная практыка. Па-ранейшаму жанаты, хаджу ў Першую евангелісцкую царкву й палюю на качак у вольны час, якога няма».

**1945, студзень.** «Практыкую хірургію. Таксама працую хірургам на двух абарончых заводах. Выкладаю ў нядзельнай царкоўнай школе. Кліўлендскія ветэраны-медыкі ўключаныя ў склад міліцыі. Для адпачынку перарабіў човен у схованку для палявання на качак і спадзяюся на добрае паляванне, калі надвор'е стане такім самым суворым, як у Расеі».

**1946, снежань.** «Шкада, што не змагу прыехаць на сустрэчу АРА. Учора Ралф-малодшы пайшоў на заняткі ва ўніверсітэт. Што да мяне: выступаў на хірургічнай секцыі Амерыканскай медычнай асацыяцыі ў Сан-Францыска, маю запросіны выступіць у Вашынгтоне перад таварыствам рэўматолагаў і на сустрэчы Міжнароднага каледжа хірургаў у Дэтройце. Я буду паказваць свой фільм «Запаленне падскурнага тлушчу як прычына (Ад рэдакцыі: Ралф, пішы друкаванымі літарамі гэтыя чортавы медычныя тэрміны!) болю ў крыжы». Надалей выкладаю ў нядзельнай царкоўнай школе».

**1949, студзень.** «Ці я пісаў, што мяне абралі старшынём царкоўнае рады? Так, я быў старшынём тры гады. А ў студзені мяне абралі прэзідэнтам клінічнага штату шпіталю Гленвіл. Нядаўна напісаў артыкул пра ішыяс (неўралгія сядальнай нервы), які прыняў часопіс «Хірургія».

**1952, красавік.** Наш вядучы кліўлендскі хірург і настаўнік царкоўнай школы пераехаў у Флорыду: «Перабраўся ў краіну сонца каля году таму з прычыны здароўя. На апошняй сустрэчы Каледжа хірургаў быў ўганараваны званнем сертыфікаванага «Сябра хірургіі».

**1952, красавік.** Піша з Флорыды: «Жонка й я цешыліся з 360 сонечных дзён летась. Практыка хірургіі не надта цяжкая, і маю час на сур'ёзную рыбалку. Летась аднойчы я амаль перавысіў рэкорд Шэфа ў касцяной рыбе. Так, яна сарвалася. Тая, што я злавіў, важыла толькі 7 фунтаў 6 унцыяў, так што прыязджайце ў Флорыду, атрымаеце задавальненне ад выдатнай рыбалкі й пагрэеце старыя суставы».

**1953, кастрычнік.** «Я ў парадку, дачка сканчае ўніверсітэт у Флорыдзе. Сын абароніць дысертацыю ў наступным месяцы ва ўніверсітэце — маёй альма-матэр. Ці можа ён наведаць сустрэчу АРА як мая замена (Ад рэдакцыі: Чаму не?)? Я ўзяў на сябе абавязкі кансультанта грамадскае службы здароўя ў мястэчку Кі-Уэст».

**1957, красавік.** «Па-ранейшаму аперую, працую ў грамадскай службе здароўя й з'яўляюся кансультантам нацыянальнай службы каранціну. Апроч таго, я хірург у футбольнай камандзе школы Кі-Уэст — і праца з моладдзю робіць мяне маладым. Футбол тут сапраўды сур'ёзнае пакліканне для моладзі, і яны гуляюць да канца. Мая сям'я вырасла: сын дэмабілізаваўся з ваенна-паветраных сілаў у чыне капітана, дачка выйшла замуж і жыве ў Нью-Ёрку. Яе муж працуе на тэлебачанні. Рыбалка ў Кі-Уэст па-ранейшаму выдатная, а клімат проста падарунак нябёсаў».

**1959, чэрвень.** «Папраўляюся пасля аперацыі. Вярнуўся на працу як у грамадскую службу здароўя, гэтак і ў прыватную практыку. Планую браць удзел у з'ездзе Міжнароднага каледжа хірургаў, дзе я паўнапраўны сябра. Мой сын Ралф-малодшы ўжо тры гады працуе лекарам у Нью-Ёрку, на год ад'язджае вывучаць эндакрыналогію ў Калумбійскі ўніверсітэт. Дачка Сюзі, цяпер спадарыня Голанд, атрымала стыпендыю саюза каапературараў, мой пляменнік удзельнічае ў мыльнай оперы «Як свет круціцца». І пакуль свет круціцца, «комі»* робяць усё, што могуць, каб нас паступова знішчыць. Спадзяюся, яны звернуць увагу на пасланне прэзідэнта Эйзенгаўэра праз спадарожнік: «Мір на зямлі, добрая воля паўсюдна».

**1965, травень.** «Мой найпрыемнейшы ўспамін пра Шэфа падчас цырымоніі інаўгурацыі. Калі мая жонка й я былі рэкамендаваныя як араміты, ён усміхнуўся, і мы адчулі сябе як дома! Я па-ранейшаму працую ў гарадской службе здароўя Кі-Уэсту. Жонка памерла ў 1955, і я больш не жаніўся. Мой сын Ралф працуе ў Французскім шпіталі Нью-Ёрка й выкладае медыцыну ў Калумбійскім універсітэце».

### Доналд Ліндсэй, Віцебская акруга

**1923, снежань.** Быў у Буфала, апошні раз бачылі яго сярод вялікага войска паляўнічых. З ім справа сур'ёзная, бо ўжо ёсць спадарыня Ліндсэй — з Парыжа.

---

* Скарот ад «камуністы».

**1925, ліпень.** Інспектар збожжа й перавозак кампаніі «Fidelity», Буфала, Нью-Ёрк.

**1930, люты.** Танаванда, штат Нью-Ёрк. «Як сябру амерыканскай мытнай памежнай службы, мне прыемна зноў працаваць пад кіраўніцтвам нашага Шэфа, асабліва ў важнай і цяжкай справе забароны алкаголю, якая перад ім стаіць. Як мытны службовец, не магу падтрымаць ідэю праводзіць наступную сустрэчу АРА на Ніягарскім вадаспадзе. Бо тады нам давялося б сканцэнтраваць усіх мытнікаў там, каб ахоўваць мяжу».

## Джон Мэйтланд, кіраўнік Гомельскай акругі, люты 1922 — чэрвень 1923

**1923 год, снежань.** Адрас: Кручэўская, 11, Гомель. Яшчэ адзін аптыміст, хаця ён уклаў не грошы, а толькі самога сябе. Калі АРА была зліквідаваная, Губсаюз ухапіўся за Мэйтланда, і цяпер ён дапамагае адбудоўваць Гомель. У Мэйтланда павінна быць флегматычная ўчэпістасць кокні*, якога не выкурыць з акопа, альбо ён церпіць ад нейкага суму, і толькі пакутніцтва можа яго аблегчыць.

(Пазней: ён выехаў — за мінусам таго, што ён прывёз.)

## Г’ю Рамсэй, Гомельская акруга

**1923, снежань.** Г’ю Рамсэй прывёз дахаты спадарыню Рамсэй з Гомеля. Ён не выходзіў на сувязь — верагодна, мае працу.

**1925, кастрычнік.** Ягоны паштовы адрас — Амерыканскі легіён, Парыж. Рамсэй адзін з нямногіх, хто вяртаўся ў Расею й наведаў Маскву, Гомель і іншыя месцы. Але гэта было летась.

**1926, люты.** Рамсэй піша: «Я атрымаў бюлетэнь АРА й прачытаў ад дошкі да дошкі». Мы любім атрымліваць такія лісты. Рамсэй займаецца рэкламай у Вашынгтоне.

**1926, снежань.** «1 кастрычніка я меў надзвычайнае задавальненне — прынёс прысягу як прафесійны віцэ-консул Злучаных Штатаў. Сустрэўся з дзяржаўным сакратаром ЗША, абедаў разам з сябрамі Асацыяцыі міністэрства замежных справаў і пачаў падрыхтоўчы курс у Дзярждэпартаменце».

---

* Мянушка прадстаўніка лонданскіх сярэдніх і ніжэйшых слаёў насельніцтва.

**1929, люты.** Працуе ў амерыканскім кансулаце ў Штутгарце, Нямеччына.

**1932, кастрычнік.** Пасля амаль трох гадоў у Цюрыху атрымаў прызначэнне на пасаду віцэ-консула ў Мюнхене.

**1965, травень.** Працуе амерыканскім консулам на Бермудах.

### Седрык Сміт, Мінская акруга

**1923, снежань.** Вось чалавек, які можа зарабіць на жыццё дзякуючы сваёй універсітэцкай адукацыі. Ён гуляе ў прафесійнай футбольнай камандзе й вельмі добра зарабляе. Цяпер пакутуе на пералом лучка*.

**1929, люты.** Піша, што жыве ў Пітсбургу, штат Пенсільванія.

### Чарлз Уілабі, кіраўнік Мінскай акругі, кастрычнік 1922 — чэрвень 1923

**1923, лістапад.** Уілабі цяпер выдавец, раней спецыялізаваўся ў газетнай рэкламе. Уілабі кажа, што не хоча працаваць. Цяпер ён купіў газету ў Луізіяне ці Місісіпі, ці ў нейкім іншым штаце, дзе не надта ўлягаюць і пераймаюцца. Мяркуючы паводле велічыні места, працы будзе няшмат.

**1925, кастрычнік.** Выканаўчы рэдактар сеткі газет у паўднёвым Місісіпі. Ад лістапада 1923 Уілабі ў Гетысборгу й будзе заставацца там, «бо Місісіпі апярэдзіць эканамічна Флорыду да канца наступнага года».

**1926, снежань.** Прысвячае вольны час выхаванню расейскіх ваўкарэзаў, адзін з якіх заваяваў тры прызы на выставе сабак у Новым Арлеане й на кірмашы ў Тэнэсі**.

---

* Пасля страйку ў АРА й вымушанага ад'езду з Мінска Сміт быў накіраваны на працу ў Арэнбург. Падчас кароткага знаходжання ў Маскве ён пазнаёміўся з мясцовай сакратаркай-перакладчыцай штаб-кватэры АРА Маргарытай Аранэт, якая неўзабаве папоўніла доўгі спіс «расейскіх жонак АРА». Вяселле згулялі ў кастрычніку 1923 у Амерыцы.

** Некалькі амерыканскіх газет надрукавалі аповед Уілабі аб прыгодах вяртання ў Амерыку з двума ваўчанятамі, якіх ён вёз як трафеі: з Масквы ён даехаў да Мінска й паспрабаваў выехаць у Рыгу, але латышскія памежнікі не прапусцілі. Давялося накіравацца ў Літву, адтуль у Галандыю. Ваўчаняты вылі, Уілабі высялялі з гатэляў, ён мусіў начаваць на вакзалах; пасля звяры прагрызлі скураныя чамаданы, але ўрэшце ўся кампанія дабралася да Нью-Ёрка. Гісторыя з ваўчанятамі заняла дзве траціны артыкула, апошняя частка апавядала пра дзейнасць АРА ў Мінску.

**1927, кастрычнік.** Чарлз Уілабі, былы кіраўнік Мінскай акругі АРА, памёр 20 чэрвеня ў шпіталі ў Новым Арлеане пасля кароткай хваробы. Сп. Уілабі працаваў 18 месяцаў у Маскве, Адэсе й Самары перад тым, як узначаліць працу ў Мінску. Яму было 43 гады. У сп. Уілабі было шырокае кола знаёмых сярод персанала АРА, і яны глыбока засмучаныя вестай пра ягоную смерць. Пахаванне праходзіла ў родным месце Уілабі Джоўзвілі.

### Джордж Шрэмэл, Мінская акруга

...Ліст прыйшоў электроннай поштай на маё імя ў Гувераўскім інстытуце — і прозвішча ў зваротным адрасе належала супрацоўніку Мінскай акругі АРА: Шрэмэл. Толькі ініцыялы розніліся: таго Шрэмэла, які працаваў у Беларусі, звалі Джордж. У электронным адрасе першая літара была R:

> **Шаноўны сэр:**
> **Мяне завуць Роберт Шрэмэл, я першы сын Гордана Шрэмэла. Ён папрасіў напісаць вам у справе вашага ліста, дзе вы цікавіліся гісторыяй маіх дзеда й бабулі. Мой бацька прасіў перадаць, што ён і ягоны брат Доналд гатовыя дапамагчы вам чым толькі можна. Яны вельмі цікавяцца, якую інфармацыю вы маеце пра час, калі іхныя бацькі працавалі ў Мінску.**

…Джордж Шрэмэл працаваў у Мінску ад студзеня да жніўня 1922. З архіўных дакументаў я ведаў, што ўвосень ён захварэў і выехаў лекавацца ў Берлін. У Беларусі засталася спадарыня Шрэмэл — мінская дзяўчына, з якой сакратар акругі зарэгістраваў шлюб. Бюлетэнь АРА змяшчаў даволі шмат звестак пра Джорджа Шрэмэла.

**1923, снежань.** Амерыканская амбасада ў Парыжы паслала Шрэмэла ў якасці аташэ пры спецыяльнай місіі Злучаных Штатаў у Лазане на мірнай канферэнцыі па Блізкім Усходзе. Ён працаваў з місіяй тры месяцы, яшчэ тры месяцы ездзіў па Нямеччыне й вярнуўся дахаты.

**1925, ліпень.** Шчаслівa жыве ў Мілуокі як галіновы аўдытар вытворчасці, якая робіць Мілуокі знакамітым (бровары). Спадарыня Шрэмэл, якую многія памятаюць з працы АРА ў Мінску, таксама шчаслівa жыве ў Мілуокі.

**1929, люты.** «Я па-ранейшаму бухгалтар у кампаніі напояў, як і пяць папярэдніх гадоў. У мяне яшчэ адзін сын, Гордан, і многія ведалі ягоную маці, якая паходзіць з Мінска. Я й сям'я ў найлепшым здароўі».

**1930, ліпень.** Шрэмэл хоча звязацца з доктарам Вілі з Мінска, з Мэйтландам з Гомеля й ягоным сакратаром Рамсэем.

...Унук Джорджа Шрэмэла Роберт прыслаў мне тэлефонны нумар свайго бацькі. Я пазваніў у мястэчка Уэст-Алес у штат Вісконсін Гордану Шрэмэлу:

**Мой бацька пазнаёміўся з маёй маці ў Мінску, калі працаваў там у АРА. Яе дзявочае імя — Ганна Пылкоўская. Яна нарадзілася ў 1900 годзе, бацька быў на пяць гадоў старэйшы. Я нарадзіўся ў Амерыцы, у 1926 годзе, мой брат Доналд — у 1928. Маці гаварыла па-польску, па-расейску й яшчэ на нейкай мове. Што яшчэ — яна была праваслаўная, бацька — каталік. У Амерыцы яны пайшлі да царквы, каб яшчэ раз узяць шлюб. Бацьку падабаліся прыгожыя жанчыны. У маці былі глыбокія чорныя вочы, яна вельмі любіла музыку, любіла, каб навокал было весела.**

...У сямейным архіве захоўваецца пашпарт АРА, які меў Джордж Шрэмэл, перапіска, фотаздымкі. Гордан Шрэмэл паабяцаў зрабіць копіі й прыслаць мне, а я паслаў яму звесткі пра ягонага бацьку, якія адшукаліся ў архіве.

**1932, кастрычнік.** «Файна выплываю ў гэтыя часы, што завуцца дэпрэсіяй. Насамрэч я больш заняты й працаваў летась як ніколі раней. Інакш кажучы, мой прыемны 8-гадзінны працоўны дзень ператварыўся ў 12 гадзінаў напружанай працы. Удалося падвоіць леташні гадавы даход і ўтрымацца ад небяспекі патрапіць у чырвоную зону. Мая цудоўная кватэра-бунгала з мноствам розных ультрамадэрных выгодаў дабудаваная, і мы ўехалі туды разам з хлопцамі. Во! — як нам падабаецца! Адчуваю сябе падцягнутым як скрыпка й свежым як рамонак — і гэтаксама мая сям'я. Цяпер, як я ўладкаваўся, здзімаю пену з халоднага куфля цудоўнага піва «шліц» — на здароўе!»

**1944, студзень.** Ліст на бланку з выявай канарэйкі й тытулам «Зарэгістраваны настаўнік спеваў» і пячаткай. «Пайшоў мой дваццаты год бухгалтара ў бровары, і кожны раз у дзень заробку я падзяляю яго на дзве часткі — на ваенны заём і на падаткі, але заўсёды неяк даю рады.

Чыстапародныя спеўныя канарэйкі — маё хобі. Найлепшыя пажаданні ўсім арамітам Мінскага рэгіёна — д'ябальскае месца быць там цяпер»*.

**1949, студзень.** «Адна з найвялікшых падзеяў майго жыцця — набліжэнне 25-й гадавіны шлюбу з маленькай дзяўчынай, якую я сустрэў у Мінску. Мы плануем адправіцца ў працяглае падарожжа па ціхаакіянскім узбярэжжы наступнай восенню. Таксама ў жніўні будзе 25 гадоў маёй працы бухгалтара ў бровары. У мяне двое дарослых сыноў, абодва высокія й прыгожыя, старэйшы вучыцца ў каледжы. Маё хобі — сіваграки. За апошнія 25 гадоў я таксама ўведаў больш чым звычайна пра спевы сівагракаў, і цяпер я сертыфікаваны суддзя Асацыяцыі канарэйкавых суддзяў і лічуся адным з найлепшых міжнародных суддзяў сівагракаў. Хобі несапраўднае, калі вы не ёсць ягоным нявольнікам, — ці не так?»

…Тэлефонная размова з сынам Джорджа Шрэмэла Горданам нагадала, што свет не такі ўжо вялікі й падзеі аднаго лёсу часам рэхам гучаць у іншым:

> **У нашай сям'і з Беларуссю звязана яшчэ адна гісторыя. Мой брат Доналд таксама ажаніўся з дзяўчынай з Мінска — ужо пасля вайны. Гэта быў трагічны шлюб — яна была ў канцлагеры, і гэта яе прыгнятала. Яна скончыла самагубствам.**

…Нягледзячы на ўдары лёсу, супрацоўнік беларускай акругі АРА Джордж Шрэмэл і ягоная мінская жонка не гублялі аптымізму. Ён пісаў у бюлетэнь АРА:

**1959, красавік.** «Усё ў парадку, здароўе добрае — мне падабаецца цяжкая праца. Мінулым летам правялі адзін месяц на ціхаакіянскім узбярэжжы, у Сан-Францыска й Оклендзе, і падарожнічалі па ваколіцах. Найлепшыя пажаданні ўсім з Мінскага штабу АРА».

**1965, травень.** Вось чалавек, які не пойдзе на пенсію зусім, калі зможа: «Ва ўзросце 65 гадоў пайшоў на пенсію з бровара, здаў экзамэн і апошнія пяць гадоў працую ў фінансавым аддзеле муніцыпалітэту Мілу-

---

* Джордж Шрэмэл меў вайсковы досвед — быў старэйшым сяржантам у часе Першай сусветнай вайны, ваяваў у Францыі. «Д'ябальскае месца» — даволі блізкая да рэальнасці ацэнка Мінска ў 1944. Праз год старэйшы сын араміта Шрэмэла, Гордан, сам апынецца ў д'ябальскім месцы: у складзе амерыканскага войска ён будзе ў Хірасіме. Малодшы сын, Доналд, будзе ваяваць у Карэі. Абодва сыны мінчанкі Ганны Пылкоўскай і супрацоўніка АРА Джорджа Шрэмэла вернуцца са сваіх войнаў дахаты.

окі. Цяпер я набліжаюся да 70, і зноў перада мной абавязковая пенсія. Шкада, бо я надзвычай актыўны й фізічна ў добрай форме. Маю энергіі й амбіцыяў гэтулькі, што будзе цяжка запаволіцца пасля сапраўднага выхаду на пенсію. Некалькі гадоў займаюся фатаграфіяй, на апаратуры вялікага фармату, і стаў сябрам фатаграфічнага таварыства Амерыкі. Я ўпэўнены, што іншыя сябры АРА шкадуюць разам са мной з нагоды спынення выхаду бюлетэня АРА».

…Ганна Пылкоўская, мінская жонка Джорджа Шрэмэла, памерла ў 1974 годзе. Сам араміт Джордж Шрэмэл перажыў яе амаль на пятнаццаць гадоў — ён памёр у 1988 годзе ва ўзросце 93 гадоў.

Звесткі, зафіксаваныя ў бюлетэні АРА, розняцца й аб'ёмам, і частатой з'яўлення, і ахопам часу. Прозвішчы двух супрацоўнікаў Віцебскай акругі, Эдварда Рэмі й Джона Макмілана, увогуле не згадваюцца. Загадкай застаецца праца Джона Мэйтланда ў Гомелі. Чаму? Хацеў дапамагчы новаму будаўніцтву, не хацеў адразу вяртацца ў Амерыку, ці была там якая-небудзь рамантычная гісторыя?.. Якіх дзяцей усынавіла ў Мінску спадарства Уілабі?.. Дзе цяпер нашчадкі мінскай дзяўчыны, якая выйшла замуж за лекара Вілі?.. Як склаўся лёс гомельскай жонкі дыпламата Рамсэя?..

Многія падрабязнасці беларускага перыяду АРА схаваныя ў мясцовых архівах, дагэтуль зачыненых для даследнікаў. Не адшукаліся пакуль усе нашчадкі беларуска-амерыканскіх сем'яў.

Хто ведае, калі-небудзь і яны змогуць наведаць Беларусь, дзе пачыналася гісторыя іхных сем'яў — і ім будзе чым ганарыцца.

## Забыты подзвіг: будзе праспект АРА й пляц Гувера

**Абдымкі па-беларуску. — Кароткая ўдзячнасць. — Дыверсія пад сцягам АРА. — Чэкісцкая творчасць. — Аняменне акадэмікаў. — Тоны, даляры, працэнты. — Недапісаная энцыклапедыя**

Бабулька з палескай вёскі, якая прыйшла ў склад АРА па харчовую пасылку, не магла паверыць, што нічога не трэба плаціць. Недаверліва выслухаўшы тлумачэнні амерыканцаў, яна пакорпалася ў сваёй вопратцы, асцярожна выцягнула адно за адным тры курыныя яйкі й пакаціла іх па

стале. Гаралд Фішэр, афіцыйны гісторык АРА, прыводзіць гэты эпізод у сваёй кнізе «Голад у Савецкай Расеі». Ён зазначае, што ўдзячнасць, якую беларускія атрымальнікі дапамогі ўзносілі Богу й АРА, нават замінала:

> **Вялікая група асобаў, якія, укленчыўшы, узносяць малітву ўдзячнасці ў памяшканні, перапоўненым наведнікамі, звычайна ўскладняла справы, а спробы ўдзячных людзей абдымаць супрацоўнікаў і кладаўшчыкоў перашкаджалі працы, нават калі ўлічыць, што ў гэтай краіне абдымаюцца значна часцей, чым у Амерыцы.**

Афіцыйныя абдымкі з амерыканцамі, аднак, не заахвочваліся. Звесткі пра АРА ў савецкіх энцыклапедыях з'явіліся ў 1926 годзе. Першая савецкая энцыклапедыя пад рэдакцыяй яшчэ не расстраляных камуністычных правадыроў Бухарына, Ларына, Радэка змясціла вялікі, на ўсю старонку інфармацыйны артыкул пра дзейнасць АРА — з падрабязнай статыстыкай, коштамі, відамі дапамогі, каларыйнасцю рацыёнаў. 10 мільёнаў чалавек адначасова харчавалі амерыканцы ў пік аперацыяў.

Гэта была першая й апошняя ў ХХ стагоддзі энцыклапедычная публікацыя пра АРА, дзе прыводзіліся факты. Праз два гады выйшла Малая савецкая энцыклапедыя. Артыкул «АРА» пачынаўся кароткай канстатацыяй:

У Савецкай Расеі АРА працавала падчас голаду 1921. Дапамога, якую аказвала АРА, складалася з забеспячэння харчам, медыкаментамі й прадметамі першай неабходнасці (гл. Голад)*.

Затым ішло тлумачэнне:

> **Пад выглядам дабрачыннасці АРА мела магчымасць, разам з тым, садзейнічаць аслабленню ў Амерыцы крызісу збыту тавараў, якія былі нарыхтаваныя ў велізарных памерах для патрэбаў імпэрыялістычнай вайны.**

---

* У другім томе гэтага выдання (1929) у артыкуле «Голад» АРА яшчэ згадваецца: «Была аказаная дапамога й замежнымі арганізацыямі (гл. АРА)». Але ў 1936 (3 т., 2 выд.) АРА ўжо наагул не знайшлося месца: «Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі савецкай уладзе з першых жа дзён давялося весці барацьбу з голадам, які быў вынікам контррэвалюцыйнага супраціву буржуазіі й памешчыкаў. Найбольш цяжкім быў голад 1921—1922, што ахапіў 35 губерняў, дзе галадала каля 40 мільёнаў чалавек. Гэты голад быў вынікам сусветнай і грамадзянскай войнаў. Савецкая ўлада, мабілізаваўшы ўсю пралетарскую грамадскасць як у краіне, гэтаксама й за мяжой, канфіскаваўшы царкоўныя каштоўнасці, здолела аказаць дапамогу й ліквідаваць наступствы голаду».

Арыгінальная тэза пра дапамогу амерыканцаў самім сабе будзе паўтарацца ва ўсіх наступных энцыклвпедыях і кнігах да канца XX ст.

Другое выданне Вялікай савецкай энцыклапедыі выйшла ў 1950 годзе — у ім АРА ператварылася ў палітычную арганізацыю для барацьбы з рэвалюцыйным рухам, вядзення выведкі, дапамогі белагвардзейцам. У энцыклапедычным артыкуле няма ані слова пра дапамогу галодным, затое шмат словаў пра шпіёнска-падрыўныя контррэвалюцыйныя дзеянні АРА й пра рашучы пратэст шырокіх масаў працоўных.

Энцыклапедыі, якія выходзілі ў СССР у 1960—1970 гады, за часам Хрушчова й Брэжнева, паўтаралі высновы пра варожую дзейнасць АРА. Пры Андропаве ратаванне галодных было канчаткова перакваліфікаванае ў шпіёнска-дыверсійную акцыю. У 1985 годзе выдавецтва «Политиздат» выпусціла кнігу Аляксандра Палякова «Диверсия под флагом помощи». У анатацыі гаворыцца:

**Аўтар гэтай мастацка-дакументальнай кнігі — былы чэкіст. Ён расказвае пра тое, як пад кіраўніцтвам ленінскай партыі органы ВЧК—ГПУ змагаліся са спробамі выкарыстаць у 20-я гады Амерыканскую адміністрацыю дапамогі Расеі, якая галадала, для падрыўной дзейнасці супраць маладой Рэспублікі Саветаў. Кніга заснаваная на малавядомых архіўных матэрыялах і на асабістых уражаннях аўтара — удзельніка многіх падзеяў, апісаных у аповесці.**

Раздзел «Заходні бар’ер» мае падзагаловак «Санітарны кардон» і прысвечаны Беларусі. «Заходняя мяжа Расеі павінна быць у агні!» — такую задачу кіраўнік АРА палкоўнік Гаскел ставіць перад новым рэзідэнтам Барысавым, якога пасылае ў Мінск:

**Мэта АРА — распаўсюдзіць свой уплыў на памежную зону. Мы павінны, першае — забяспечыць харчаваннем і медыкаментамі паўстанцкія атрады, якія там дзейнічаюць, другое — знаходзіць і забяспечваць харчаваннем усе нацыянальныя мясцовыя групы: беларусаў, палякаў, габрэяў, якія актыўна дзейнічаюць супраць бальшавізму; і трэцяе — што асабліва важна — стымуляваць мясцовых рамеснікаў, гандляроў і сялянаў на выступы супраць Савецкай улады з тым, каб яны перараслі ў шырокае паўстанне, якое ахопіць усю памежную зону.**

Рэзідэнт, які насамрэч з'яўляецца гераічным супрацоўнікам ЧК—ГПУ, нагадвае, што ў Беларусі ўжо ёсць дасведчанае амерыканскае кіраўніцтва. Гаскел тлумачыць:

**Скажу вам шчыра, пане Барысаў, у акруговай управе АРА ў Мінску склалася нездаровая абстаноўка. Капітан Уілабі — гультай і п'яніца, аднак замяніць яго пакуль няма кім. Я сам збіраўся выехаць туды й навесці парадак. Але ўчора мяне выклікалі ў Наркамат замежных справаў і папярэдзілі, што, паводле іхных звестак, АРА займаецца варожай дзейнасцю, і калі я, дырэктар, гэтага не спыню, дык буду абвешчаны персонай нон грата... Я пасылаю вас сваёй даверанай асобай, будзеце звязвацца са мной шыфрам па тэлеграфе.**

Тэлеграфная лінія паміж Мінскам і Масквой у аповесці былога чэкіста запрацавала з павялічанай нагрузкай:

**Шыфратэлеграма №1: Гары Доналд сапраўды быў каштоўным кіраўніком, за кароткі час стварыў шмат пунктаў харчавання ў зоне дзеяння паўстанцкіх атрадаў. Звязаўся з камандзірамі атрадаў, скардзяцца на Уілабі, зменшыў дастаўы харчавання. Праверыў — высветлілася, што пасылкі спецпрызначэння збываюцца набок у абмен на каштоўнасці.**
**Шыфратэлеграма №4: Доктар Герц звязаў мяне ў Мінску з падпольнай меншавіцкай арганізацыяй. Аказалася, гэта група гультаёў і дэмагогаў. Грызуцца з-за паек АРА. Ухіляюся ад далейшых сустрэчаў з імі. Непазбежна праваляць сябе й нас.**
**Шыфратэлеграма №7: Уілабі набыў у мінскіх сіяністаў унікальнае кальe, засыпанае дыяментамі. Мае гістарычную каштоўнасць. Захоплена пры адступленні Напалеона. Мною прапанавана Уілабі кальe адправіць вам. Сцеражыцеся падробкі.**
**Шыфратэлеграма №8: Вельмі важна. Доктар Герц атрымаў звесткі пра планаванае закрыццё пунктаў АРА ў Беларусі. У сувязі з гэтым ён запатрабаваў ад капітана Штольца прысылкі яму дзесяці ампулаў халерных вібрыёнаў, маючы на мэце ўжыць іх пры закрыцці АРА. Я катэгарычна забараніў, халера можа перакінуцца ў Польшчу й далей углыб Еўропы. Прыбярыце Герца, ён у п'яным чадзе пойдзе на прамы правал.**

Завяршае «беларускі» раздзел шыфратэлеграма Уілабі Гаскелу:

**Упаўнаважаны АРА Барысаў бясследна знік, верагодна, загінуў пры сутычцы паўстанцкага атраду з савецкімі вайсковымі часткамі. Атрад разгромлены. Мясцовая адміністрацыя выставіла ўльтыматум: зліквідаваць акруговую ўправу АРА.**

Наклад мастацка-дакументальнага твора — 300 тысяч асобнікаў.

У 1920-я гады ў Амерыцы Герберт Гувер чуў крытыку з другога боку — быццам амерыканская падтрымка галодных праз АРА дапамагла бальшавікам выжыць і ўтрымаць уладу. АРА абвінавачвалі ў празмернай спагадзе да Саветаў, радыкальныя палітычныя й эміграцкія арганізацыі ў друку спрабавалі скампраметаваць былых супрацоўнікаў, якія быццам мелі пракамуністычныя настроі. Аднак такі погляд не пашырыўся. Пераважылі маральны, агульначалавечы аспект ратавання людзей ад голаду й рэпутацыя Гувера як самага цвёрдага антыкамуніста ў амерыканскім урадзе.

У Беларусі пра АРА не згадвалі. 12-тамовая Беларуская савецкая энцыклапедыя 1969 года й 4-тамовая Кароткая энцыклапедыя 1978 года АРА ігнаруюць. Праз тры чвэрці стагоддзя пасля адʼезду амерыканцаў з Мінска, Віцебска й Гомеля, у 1996 годзе ў незалежнай Беларусі выйдзе новая энцыклапедыя з артыкулам «АРА». У ім будзе згадвацца дзейнасць амерыканскай адміністрацыі дапамогі ў Вугоршчыне, Румыніі й Баўгарыі, Паволжы і Украіне.

Беларусі ў артыкуле не будзе. XX стагоддзе для АРА ў Беларусі завершыцца знямелым маўчаннем акадэмічнай нацыянальнай гістарыяграфіі.

Праца над гэтай кнігай пачалася восенню 2000 года, калі я выпадкова пабачыў свае прозвішча ў лістах з Беларусі Герберту Гуверу. Тады ж, у серыі перадачаў «Лісты з Каліфорніі», якую я вёў з Гувераўскага інстытута, на Радыё Свабода ўпершыню прагучалі згадкі пра дзейнасць АРА ў Мінску, Віцебску, Гомелі. Але грунтоўнае даследаванне патрабавала нашмат больш часу. Гэтак званы «расейскі» архіў АРА ў Каліфорніі складаецца з 555 скрынак, у кожнай некалькі сотняў старонак машынапіснага тэксту — службовая перапіска, загады, справаздачы, тэлеграмы, фінансавыя дакументы, пераклады мясцовага друку... Асобна захоўваюцца нефарматныя матэрыялы й ілюстрацыі.

Апроч таго, у калекцыі Гувераўскага інстытута адсутнічала адна надзвычай важная рэч — дакументы другога боку: савецкія архіўныя

матэрыялы, публікацыі мясцовага перыядычнага друку. Іх трэба было шукаць у Беларусі.

Два гады пасля вяртання з Каліфорніі пайшлі на гэтую працу. У сакавіку 2003 у эфір выйшла першая перадача цыклу «АРА ў Беларусі. 1922—1923. Невядомыя старонкі амерыканскай дапамогі». На працягу чатырох месяцаў слухачы маглі пазнаёміцца з гісторыяй амерыканскай дапамогі, якая ратавала жыцці й здароўе сотняў тысяч жыхароў краіны. Апошняя, трыццатая перадача прагучала ў чэрвені й прыпала на 85-я ўгодкі завяршэння аперацыяў АРА ў Беларусі. У апошнім выпуску ўзяў удзел унук Герберта Гувера.

Напачатку 2004 года ў Мінску выйшаў з друку 6 том (кніга ІІ) Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (ЭГБ). Там упершыню з'явіўся артыкул, прысвечаны ААД — так у выданні скарочана называецца Амерыканская адміністрацыя дапамогі. Падрабязны, пабудаваны на фактах нарыс аднаўляе гістарычную справядлівасць і ўпершыню аддае належнае ролі АРА ў Беларусі.

Удакладнення патрабуюць хіба лічбы дапамогі. Аўтар энцыклапедычнага артыкула Уладзімір Снапкоўскі, даючы агулам карэктную панараму дзейнасці АРА, грунтуе яе на працы Алесі Кіпель «Амерыканская адміністрацыя дапамогі (АРА) у Беларусі», апублікаванай у ЗША ў 1978 годзе. Аўтар двойчы піша, што сума дапамогі савецкім рэспублікам ў 1919—1924 гадах склала 63 мільёны даляраў і Беларусь атрымала 4,5% гэтай дапамогі. (Так у А. Кіпель, на якую спасылаецца ЭГБ.)

Алеся Кіпель, у сваю чаргу, бярэ гэтыя лічбы з кнігі амерыканскіх статыстыкаў Фрэнка Сэрфейса й Рэйманда Блэнда «Амерыканскі харч у сусветнай вайне і ў перыяд рэканструкцыі». Гэтая праца прысвечаная ўсёй дапамозе, ажыццёўленай пад кіраўніцтвам Гувера ў 1914—1924. Гэтае дзесяцігоддзе падзеленае ў кнізе на чатыры перыяды, у рамках якіх і размеркаваныя падрабязныя статыстычныя звесткі. Апошні раздзел «Перыяд рэканструкцыі» ахоплівае 1919—1924. Сюды, апроч іншага, уключана й дапамога Расеі — савецкім рэспублікам.

Задачы даследавання дзейнасці АРА ў Беларусі патрабуюць вылучэння двух асобных статыстычных масіваў. Першы — дапамога насельніцтву Беларусі, якое знаходзілася ў складзе Польшчы ў 1919—1922 гадах, і другі — дапамога насельніцтву Беларусі на падсавецкіх тэрыторыях ў 1922—1923 гадах.

Паводле падлікаў аўтара гэтых радкоў, на падставе аналізу зводных дакументаў складавых аперацыяў, ад траўня 1920 па красавік 1922 поль-

ская АРА размеркавала на тэрыторыі сучаснай Беларусі каля 15 тысяч 300 тон харчовай дапамогі на суму каля 3 мільёнаў 670 тысяч даляраў, а таксама вопратку: 150 тысяч 318 паліто, 133 тысячы 759 пар чаравікаў і 137 тысяч 522 пары панчохаў на суму каля 900 тысяч даляраў.

Што тычыцца другога перыяду, варта адзначыць, што праца АРА з савецкім урадам з нагоды голаду ў Паволжы пачалася не ў 1919 годзе, а ў верасні 1921, пасля падпісання пагаднення ў Рызе, і завершылася ў чэрвені 1923. За гэты час на савецкія тэрыторыі было дастаўлена 741 тысяча 572 тоны 669 кілаграмаў дапамогі на суму 63 мільёны 174 тысячы 848 даляраў*.

Тры беларускія акругі дзейнічалі ад студзеня 1922 да чэрвеня 1923 і, паводле Серфейса й Блэнда, атрымалі 14 тысяч 440 тон 283 кілаграмаў дапамогі на суму 2 мільёны 732 тысячы 77 даляраў, альбо 4,3%. Але для падліку беларускай долі патрабуецца мецьна ўвазе істотныя аб'ёмы дапамогі, якіх амерыканскія статыстыкі не здолелі разнесці па акругах і падаюць асобнымі радкамі. Калі іх вынесці за дужкі ці зыходзіць з раўнамернага размеркавання ва ўсіх акругах, беларуская частка складзе 5%.

Вядома, лічбамі цяжка вымерыць нават тое, што лічбамі вымяраецца. Яшчэ да выхаду ЭГБ я зрабіў свой накід тэксту для энцыклапедыі свабоднай Беларусі:

> **Амерыканская адміністрацыя дапамогі (АРА) — гуманітарная арганізацыя ЗША, створаная 24 лютага 1919 пастановай прэзідэнта Вудра Уілсана, ад 1 жніўня заснаваная наноў як прыватная дабрачынная арганізацыя, ініцыятар і кіраўнік Герберт Гувер; дзейнічала да 1923 у еўрапейскіх краінах, што пацярпелі ў Першую сусветную вайну й ад камуністычнага перавароту. Аказала найбольшую ў XX стагоддзі харчовую, медычную й інш. дапамогу насельніцтву Беларусі.**
> **У 1919—1922 на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь (пад польскім кіраваннем) працавала бюро дзіцячай дапамогі ў Мін-**

* Гэтую суму складаюць не толькі грошы з Амерыкі: 11 357 325 даляраў 13 цэнтаў каштаваў залаты фонд, унесены пад ціскам Г. Гувера савецкім бокам, які быў выкарыстаны АРА ў мэтах дапамогі. Але гэтую суму цалкам правамерна залічыць на рахунак АРА: без патрабавання Гувера галодныя не атрымалі б гэтых сродкаў — для параўнання, у 1922 савецкае кіраўніцтва перадало амаль удвая большую суму замежным кампартыям на патрэбы сусветнай рэвалюцыі.



**ску, рэгіянальны офіс АРА ў Берасці, акруговыя камітэты ў Ашмянах, Багданаве, Баранавічах, Бераставіцы, Ваўкавыску, Вілейцы, Горадні, Кобрыне, Лідзе, Наваградку, Нясвіжы, Пінску, Пружанах, Слоніме, Стоўбцах і іх ваколіцах. (Напр., у Наваградскім павеце дзейнічала 86 пунктаў харчавання АРА.) З 7560 пунктаў АРА больш за 1000 працавала на тэрыторыі этнічнай Беларусі. Насельніцтва Беларусі атрымала каля 15 тысяч 300 тон харчовай дапамогі на суму каля 3 мільёнаў 700 тысяч даляраў, а таксама адзення на суму каля 900 тысяч даляраў.**

**У 1922—1923 у Беларусі (на адміністрацыйнай тэрыторыі БССР і РСФСР) працавалі тры акругі АРА. Усяго паступіла звыш 14 тысяч 440 тон амерыканскай дапамогі (у т.л. Мінская акруга размеркавала 6 тысяч 825, Віцебская — 4 тысячы 441, Гомельская — 3 тысячы 175 тон) на суму больш за 2 мільёны 730 тысяч даляраў.**

**Дастаўлена больш за 10 тысяч 110 тон харчовых пасылак коштам 10 даляраў кожная на агульную суму 1 мільён 732 тысячы даляраў (18,5% усіх пасылак АРА). Бясплатна выдадзена 988 тон харчовых рацыёнаў дзецям, хворым у шпіталях і ўцекачам. АРА апекавалася больш чым 300 дзіцячымі дамамі, апроч харчавання пастаўляла адзенне, абутак, медычныя матэрыялы.**

**Спрыяла рэпатрыяцыі ўцекачоў, якія пакінулі Беларусь падчас**

**Першай сусветнай вайны. Пастаўлена санітарнае абсталяванне, арганізавана харчаванне й медычная дапамога ў канцлагеры ўцекачоў Козырава (найбуйнейшы на той час у свеце). Праведзена вакцынацыя больш за 1 мільён чалавек. Медыкаменты, матэрыялы санітарыі й абсталяванне агульнай вагой 484 тоны, кошт якіх перавысіў 470 тысяч даляраў, атрымалі больш за 300 медычных установаў. Медычная праца АРА засцерагла ад эпідэміі тыфусу Беларусь і Польшчу.**

**Надавала мэтавую дапамогу творчай і навуковай інтэлігенцыі (у т.л. Я. Купалу, Я. Коласу, У. Ігнатоўскаму, Л. Ржэцкай і інш.), настаўнікам, лекарам, святарству. Праводзіла асветніцкую працу, паставіла інструменты й прыборы для медычнай клінікі й прыродазнаўчых факультэтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, навучальных установаў Віцебска; былі арганізаваныя курсы ангельскай мовы.**

**Агулам у 1920—1923 дастаўлена дапамогі насельніцтву Беларусі (у**



**сучасных межах) вагой больш за 30 тысяч тон на суму каля 7 мільёнаў 200 тысяч далятраў*.**
**Жыхары Беларусі выказвалі АРА шматлікія падзякі. Камуністычныя ўлады чынілі перашкоды, замоўчвалі й хлусілі. Некаторыя мясцовыя супрацоўнікі АРА былі ўнесеныя ў чорныя сьпісы, абвінавачаныя ў шпіянажы й рэпрэсаваныя.**
**Дзейнасці АРА ў Беларусі прысвечана сталая экспазіцыя Нацыянальнага гістарычнага музея, імя Г. Гувера носяць пляцы й вуліцы ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Горадні, Берасці ды ў іншых гарадах і мястэчках.**

Так будзе.

## Герберт Гувер-другі: «Мой дзед уратаваў больш людзей, чым хто калі за ўсю гісторыю свету»

Свабоды не бывае без памяці.

Напярэдадні Калядаў 1953 года Герберт Гувер выступаў на Радыё Свабода:

**Гісторыя ўвесь час сведчыць, што жыццялюбныя нацыі нядоўга могуць утрымліваецца пад прыгнётам іншых народаў. Спроба ўтрымаць жыццялюбныя народы Чэхаславаччыны, Польшчы, Румыніі, Вугоршчыны й Балгарыі пад расейскім панаваннем напэўна скончыцца правалам, як скончыўся правалам каланіялізм у іншых частках свету. У вялікіх народаў ніколі не памірае надзея й вера ў свабоду.**

Без памяці не бывае свабоды.

Прэзідэнт Гувер сабраў найбольшую ў свеце калекцыю дакументаў пачатку савецкай эпохі. Гувераўскі інстытут у Каліфорніі не толькі за-

---

* Каля 100 мільёнаў даляраў у цэнах 2013.

хоўвае ўвесь архіў АРА, ён стаў унікальным навуковым цэнтрам вывучэння гісторыі XX стагоддзя*.

Шмат гадоў старшынём рады інстытута быў Герберт Гувер, першы ўнук заснавальніка й кіраўніка АРА. Герберт Гувер-другі нарадзіўся ў 1926 годзе. Дзед, 31-ы прэзідэнт ЗША, памёр, калі ўнуку было 37 гадоў. Пасля ўніверсітэта ўнук займаўся прыватным бізнесам, надалей удзельнічае ў працы Гувераўскага інстытута.

Герберт Гувер-другі ўсцешыўся, калі ўведаў пра даследаванне дзейнасці АРА ў Беларусі, і ахвотна пагадзіўся на інтэрв'ю.

Першае пытанне, на якое я папрасіў адказаць, — што, на ягоную думку, галоўнае ў спадчыне Герберта Гувера сёння, напачатку XXI стагоддзя?

**— Перш за ўсё трэба вызначыць, што ёсць спадчынай. Нават да сёння АРА не надта вядомая. Толькі за апошнія два-тры гады стаў вядомы памер дзейнасці АРА й колькасць людзей, уратаваных ад голаду. Я думаю, галоўным у спадчыне Герберта Гувера будзе заставацца — і нават узрастаць — тое, што ён чалавек, які, верагодна, уратаваў больш людзей у гісторыі свету, чым хто іншы. Калі падсумаваць колькасць людзей, уратаваных ад голаду ў Еўропе, — агулам гэта будзе больш за 20 мільёнаў. Наколькі больш, я не ведаю. Думаю, гэтая частка спадчыны робіцца ўсё больш вядомай, і людзі разумеюць, што Герберт Гувер уяўляў сабою нашмат больш, чым толькі прэзідэнт Злучаных Штатаў цягам чатырох гадоў.**

— У драме Шэкспіра «Юлі Цэзар» ёсць такія радкі: «Няўдзячнасць раніць мацней за нож забойцы». Як ваш дзед успрымаў савецкія ацэнкі АРА, пераход ад удзячнасці да абвінавачанняў у шпіянажы й падрыўной дзейнасці?

**— Я пэўны, што хаця ён не паказваў гэтага публічна, але ён асабіста быў паранены. Ён ведаў дакладна, што ён рабіў, што было**

---

* Тут разбіраў архіўныя матэрыялы Аляксандр Салжаніцын, тут працуе выдатны даследнік таталітарызму Роберт Конквэст, які ў сваім кабінеце мае кнігі Алеся Адамовіча, тут я меў магчымасць распытаць фізіка Эдварда Тэлера пра стварэнне вадароднай бомбы, а з нобелеўскім лаўрэатам Мілтанам Фрыдмэнам, які быў у БССР у 1960-я гады, абмеркаваць эканамічную мадэль сучаснай Беларусі. На паліцах сховішчаў — выданні першых беларускіх кніжак пачатку XX стагоддзя, дакументы Другой сусветнай вайны, звязаныя з Беларуссю, першыя ўлёткі й газеты дэмакратычнага руху Беларусі 1980–1990-х гадоў.

**дасягнута. Думаю, на той час ён ужо меў досыць досведу працы з савецкімі ўладамі, каб зразумець, якія яны двудушныя. Яны дзейнічалі ў сваіх інтарэсах, калі спрабавалі прыменшыць значэнне працы АРА. Я не ведаю, магу толькі здагадвацца, часткова — магчыма, таму, што адчувалі сваю віну за тое, што голад здарыўся. Але наколькі я ведаю, многія праблемы былі штучна створаныя. І недахоп харчу выкарыстоўваўся як палітычная зброя. Мой дзед напэўна ведаў гэта. І савецкія ўлады напэўна ведалі. Калі вы хочаце дапамагчы насельніцтву падчас голаду, як мой дзед у Савецкім Саюзе, няшмат чым можна запярэчыць намаганням урада, які спрабуе прыменшыць значэнне гэтай працы. Трэба зрабіць выгляд, быццам не чуеш гэтага, і надалей рабіць сваю справу найлепш магчымым чынам. Але я ўпэўнены, што яму не падабалася выслухоўваць абвінавачанні.**

— Як вы думаеце, ці займаўся б Герберт Гувер дапамогай, каб ведаў пра такую «ўдзячнасць» наперад?

**— Я думаю — абсалютна так. Ён рабіў бы тое самае. Не думаю, што сярод матываў, якія рухалі ім, была самадавольнасць ці жаданне давесці, што Саветы не маюць рацыі. І ў сваёй папярэдняй, і ў наступнай дзейнасці матывам Гувера было дапамагчы людзям, якія не ў стане дапамагчы сабе самі й якім не дапамагалі ўрады, што не выконвалі сваіх абавязкаў. Адказ на вашае пытанне — абсалютна так, ён бы гэта зрабіў зноўку.**

— Паводле адукацыі Герберт Гувер быў горным інжынерам. Ён ператварыў дабрачынную акцыю ў арганізацыю, якая ва ўмовах разрухі, палітычнага хаосу, безуладдзя, транспартных цяжкасцяў і памежных бар'ераў пасляваеннай Еўропы працавала нават не як гадзіннік ці адладжаны механізм, а як жывы арганізм, які эфектыўна дзейнічаў у разнастайных зменлівых умовах. Чым патлумачыць гэты вынік?

**— Мой дзед шмат падарожнічаў. Нехта сказаў: калі свет — гэта кніга, не падарожнічаць азначае прачытаць толькі адну старонку. Мой дзед прачытаў шмат старонак свету. Ён і ягоная жонка, мая бабуля, і мой бацька, і дзядзька жылі шмат дзе ў свеце. Ён вельмі выразна ўсведамляў розніцу паміж сістэмай свабоднага прадпрымальніцтва й дэмакратычнага падыходу да праблемаў, як гэта ра-**

**білася ў Злучаных Штатах, і тым, што тады адбывалася шмат дзе ў свеце, у тым ліку ў Расеі. Ён шмат падарожнічаў па Расеі, калі яна яшчэ не была Савецкім Саюзам. Ён ведаў пра патрыятызм расейцаў, і гэта ўлічвалася ў арганізацыі працы. Часам людзі спрабуюць накінуць сваю структуру на іншую культуру. Я думаю, ён спачувальна ставіўся й вельмі добра адчуваў асаблівасці месцаў, дзе працаваў.**

— Скажыце, хто яшчэ з сям'і Герберта Гувера ўдзельнічае ў працы Гувераўскага інстытута?

**— Мой стрыечны брат Эндру, дзядзькаў сын, таксама сябра рады наглядальнікаў. Але ён жыве ў Дэнверы й нячаста прыязджае на сходы. Я бяру ўдзел ва ўсіх паседжаннях, калі я не за мяжой, і звычайна гэта чатыры сходы штогод. Я сябра выканкама рады, сябра самой рады, і я таксама быў старшынём рады цягам шасці гадоў. Я ўдзельнічаю ў справах Гувераўскага інстытута гэтулькі, наколькі гэта магчыма. Раз на тыдзень гавару з дырэктарам інстытута. Так, я актыўна ўдзельнічаю ў працы інстытута.**

Калі я расшукваў беларускія сляды АРА, мой кабінет знаходзіўся ў Гувераўскай вежы. Вежа была спраектаваная й пастаўленая ў сейсманебяспечнай Каліфорніі ў канцы 1930-х — дзякуючы інжынернаму таленту Гувера яна перажыла шматлікія землятрусы. На першым паверсе вежы — невялікая музейная экспазіцыя, фотаздымкі, падарункі, удзячныя лісты ад еўрапейскіх урадаў, а таксама асабістыя рэчы Герберта Гувера, і сярод іх — вуда.

Я спытаўся ўнука прэзідэнта, ці браў дзед калі яго з сабой на рыбу.

**— Так, сапраўды. Насамрэч, у мяне ёсць некалькі ягоных вудаў і рыбацкі рыштунак. Калі мне было сем гадоў, дзед узяў мяне з сабой на рыбу ў Орэган. Мы лавілі стронгу. І ён вельмі выразна растлумачыў мне, што ёсць адзіны спосаб лоўлі стронгі — на штучную муху. І паколькі мне было толькі сем гадоў, мне дазвалялася карыстацца штучнай мухай на гачку з зазубенем, які не дае рыбе сарвацца. Але калі мне споўнілася восем, гачок быў без зазубеня — гэта азначала, што мне ўжо трэба падвысіць майстэрства, каб злавіць рыбу. І яшчэ адно патрабаванне дзеда — я мусіў з'есці ўсё, што злавіў і прынёс дахаты. Ліміт быў дванаццаць рыбаў. Дзевяці-**

**ці дзесяцігадоваму хлопчыку даволі цяжка з'есці дванаццаць рыбінаў за дзень. Так што назаўтра я ўжо практыкаваў рыбалку «злавіць — выпусціць» — задоўга да таго, як гэты спосаб набыў папулярнасць. Я прыносіў толькі адну ці дзве рыбіны — і ўсё. Думаю, мой дзед зразумеў неабходнасць аховы наваколля й экалогіі вельмі-вельмі даўно. І ён быў выдатным рыбаком. Ён мог злавіць рыбу, калі ніхто больш не мог. Нават прэзідэнцкія ахоўнікі губляліся ў здагадках, як яму гэта ўдавалася. А ён мог.**

Герберт Гувер змог тое, што не ўдавалася да яго й пасля яго нікому. Ён дапамог мільёнам людзей пераҗыць голад і эпідэміі Першай сусветнай вайны й бальшавіцкага перавароту. Цяпер, у гэты момант, сярод тых, хто чытае гэтыя радкі ў Беларусі, напэўна ёсць людзі, чые сем'і выжылі дзякуючы амерыканскай дапамозе.

Нікало Макіявелі, чыё імя ў палітычнай гісторыі звычайна асацыюецца зусім не з сентыментальнасцю, а з жорсткім прагматызмам, пісаў у XVI стагоддзі: «Акт гуманізму ва ўсе часы будзе мець большы ўплыў на людскую свядомасць, чым гвалт і лютасць». XX стагоддзе засведчыла, аднак, што таталітарны рэжым здольны пазбавіць грамадства памяці.

Апошняе пытанне, на якое я папрасіў адказаць унука Герберта Гувера, як і першае, тычылася XXI стагоддзя.

— Што дзеці і ўнукі людзей, якіх уратавала АРА, маглі б зрабіць сёння, каб гэта зрабіла ягонага дзеда шчаслівым?

**— Добрае пытанне... Магчыма — рабіце, што можаце, каб людзі ўведалі — што зрабіў Герберт Гувер.**

# Склады гісторыі

## Замест пасляслоўя

У кніжным выпуску «Прыгодаў» некалькі старонак занялі падзякі — тым, хто паслаў мяне ў Каліфорнію, тым, хто прыняў і падтрымліваў у працы там, тым, хто спрыяў пошукам у Беларусі, дапамагаў у стварэнні кнігі.

На прэзентацыі ў Мінску, як гэта прынята, адзін заслужаны акадэмік назваў кнігу гатовай дысертацыяй, адзін аўтарытэтны гісторык удакладніў — доктарскай, а адзін знакаміты паэт пераўзышоў усіх і аддаў ёй сваю нобелеўскую прэмію, на якую яго шмат разоў вылучалі, але пакуль не далі.

У гэтым выданні я хацеў бы вярнуць усе падзякі і ацэнкі туды, куды належыць — архівам. І — архівістам.

Гувераўскі архіў захаваў дакументы АРА, складзеныя амерыканцамі ў Беларусі. У Беларускім нацыянальным архіве захоўваецца савецкая дакументацыя.

Два полюсы спараджаюць напружанне і даюць завершанасць цэлага: б'е ток, успыхваюць лямпы і на сцэне асветленага з розных бакоў мінулага знікаюць цені.

Яшчэ да паездкі ў Гувераўскі інстытут, калі мы ў рэдакцыі ў Празе складалі «Слоўнік Свабоды» — эсэ пра найважнейшыя словы мінулага стагоддзя, я выбраў «архіў», гэты склад гісторыі, шамбалу на суседняй вуліцы, нірвану на замову, адзіную машыну часу, якая працуе на вечным рухавіку.

### Архіў

Які юнак ці чалавек сталы, што любіць жыццё, змагаецца з сённяшнімі праблемамі ці марыць пра будучыню, не папярхнецца ад быццам неядомага, сухога, шурпата-мярцвячага слова — архіў?

Сэрца якога чалавека, што цікавіцца загадкамі быцця, думае пра будучыню, не адгукнецца ўсхваляваным бурным стукам, чые вочы не загарацца, у чыіх жылах не ўскіпіць кроў продка-паляўнічага пры ўрачыста-ганаровым, падобным да храма слове — архіў!

Салодка-салёны арахісавы смак, пах закансэрваванага часу, даўгія паліцы,

поўныя тайнаў, сховішча спрасаваных гадоў, дзе спіць, як зачараваная царэўна, наша мінуўшчына.

Архівы БНР сталіся першай ахвярай бальшавіцкай палітыкі ў Беларусі: засакрэчаная дзяржава, скрадзеная памяць, замкнёнае ў вязніцы спецсховішчаў мінулае, якое не стала будучыняй — пакуль не стала.

У архівах захаваная не толькі мінуўшчына, але і прышласць.

Напісанае застаецца.

Архівы бессмяротныя.

Вечная памяць.

Памяць — вечная.

*— Не, быць не можа. Не з-за*
*такой малой рэчы. Не!*
*З камяку бруду выбліскваў зеленню,*
*золатам і чэрню матылёк,*
*вельмі прыгожы і вельмі мёртвы.*
*— Не з-за такой драбніцы!*
*Не з-за матылька!*

Рэй Брэдберы. І грымнуў гром

# Палёт матылька

## Замест прадмовы

У 1952 годзе, калі герою гэтай кнігі Лі Освальду было 13 гадоў і падлеткі зачытваліся фантастыкай, амерыканскі пісьменнік Рэй Брэдберы апублікаваў самае вядомае сваё апавяданне «І грымнуў гром» (па колькасці перавыданняў у сваім жанры яно займае першае месца ў свеце).

... На раніцу пасля прэзідэнцкіх выбараў герой Брэдберы ідзе ў кантору, якая арганізуе падарожжы ў часе, бо лепш адправіцца ў мінулае, чым жыць пры новым прэзідэнце-дыктатары. Аднак высвятляецца, што выбары ўсё ж выйграў яго супернік, і герой з лёгкім сэрцам адпраўляецца ў мінулае на паляванне. Там ён выпадкова расціснуў матылька, і калі вярнуўся, аказалася, што ў выніку ланцужка падзеяў рэчаіснасць змянілася, і прэзідэнтам стаў дыктатар. Апошняе, што чуе герой — гром стрэлу, якім абрываюць яго жыццё і ягоную ролю ў гісторыі...

Забойства амерыканскага прэзідэнта Джона Фіцджэральда Кенэдзі Лі Харві Освальдам — самая вялікая ў гісторыі чалавецтва следчая справа, якая налічвае больш за чатыры мільёны аркушаў арыгінальных дакументаў, не кажучы пра кнігі, фільмы, тэлесерыялы — у тым ліку пра падарожжа ў часе ў 1963-ці, каб спыніць забойцу. Быў нават м'юзікл.

Свае пяць капеек у гэтую гісторыю я ўставіў яшчэ калі хадзілі пятакі з дзяржаўным гербам СССР: пераклаў і апублікаваў яго «Гістарычны дзённік», пазней быў кансультантам амерыканскай здымачнай групы тэлекампаніі Frontline, якая на пачатку 1990-х здымала ў Мінску фільм «Хто быў Лі Харві Освальд?», даваў інтэрв'ю і выступаў з аповедамі пра мінскі перыяд героя падчас паездак на яго радзіму.

У СССР 1960-х амерыканец, які па сваёй волі прыехаў сюды жыць і працаваць, успрымаўся як матылёк з іншай планеты. Мінск часоў Освальда цяпер — таксама ўжо іншая планета, дзе лётае загадкавая чужародная істота.

І ўвесь час за ёй паварочваецца пільнае вока і вуха.

За Освальдам у Мінску назіралі, як энтамолаг назірае за членістаногай казуркай атраду лускакрылых. Вывучаюцца стадыі жыццёвага цыкла — яйка, вопрадзень, вусень, імага, фіксуюцца звычкі, рухі, маршруты, харчаванне,

сэксуальныя функцыі, здольнасць да мімікрыі, узаемадзеянне з асяроддзем, спецыфічныя навыкі, рэакцыя на раздражняльнікі, экалогія...

Раздзел энтамалогіі, які вывучае матылькоў, называецца лепідаптэралогія. Раздзел дзяржавы, які вывучаў людзей, называецца — кадэбэ.

Амерыканскі пісьменнік Норман Мэйлер стаў першым і адзіным даследнікам, які атрымаў доступ да «калекцыі» КДБ у Мінску, абмежаваны і фрагментарны, але ў спалучэнні з успамінамі сваякоў, сяброў, знаёмых героя дастатковы, каб яго кніга «Гісторыя Освальда» ўзляцела ў спіс бэстселераў.

Мінулай вясной я панёс кветкі на магілу аднаго свайго даўняга амерыканскага знаёмага-ветэрана, якога пахавалі на Арлінгтанскіх могілках у Вашынгтоне, і потым падняўся на ўзгорак, дзе спачывае 35-ты прэзідэнт ЗША.

Падыходзілі сем'і, турыстычныя групы, студэнты — нацыянальная памяць дагэтуль не можа змірыцца з раптоўнай брутальнай і бессэнсоўнай стратай.

Гэтая кніга не пра тое, хто і як забіў Кенэдзі.

Хутчэй — спроба аднавіць сляды, якія пакінуў у мінскім паветры паўстагоддзя таму адзін матылёк.

Літаратурны ландшафт пасля Освальда выглядае як пасля рэйду цяжкога бамбавіка, а яго біяграфія — як гісторыя сусветных войнаў.

Хоць насамрэч — матылёк праляцеў.

# У ГУМ заднім ходам

7 студзеня 1960 года ў 8 гадзін 23 хвіліны раніцы з купэйнага вагона маскоўскага цягніка № 9 на перон Мінскага вакзала ступіў 20-гадовы амерыканскі грамадзянін у салдацкай шапцы-вушанцы й без пашпарта — ён здаў яго ў амбасаду ў Маскве, заявіўшы пра жаданне застацца ў СССР, пасля чаго праз два з паловай месяцы чакання і спробы самагубства атрымаў 5000 рублёў ад Чырвонага Крыжа, накіраванне на працу і жытло ў сталіцы Беларусі, дзе праз год ажаніўся, а калі нарадзілася дзіця, разам з сям'ёю вярнуўся ў ЗША, каб а 12:30 у суботу 22 лістапада 1963 года з вакна шостага паверха даласкага кніжнага складу з адлегласці 50 метраў з італьянскага карабіна Манліхер-Каркана калібру 6,5 мм першым стрэлам параніць 35-га прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі, другім — губернатара Тэхаса Джона Конალі, трэцім — дабіць прэзідэнта, затым на вуліцы рэвальверным стрэлам у галаву забіць афіцэра паліцыі Джэй Ды Тыпіта, і праз 46 гадзінаў 51 хвіліну, падчас пераводу з пастарунка ў турму, пры ўключаных камерах у простым эфіры амерыканскага тэлебачання атрымаць ва ўпор кулю з Кольта-Кобры 38 ад мясцовага жыхара Джэка Рубі, і пасля ўскрыцця трупа ў моргу ды іншых фармальнасцяў быць закапаным на могілках гораду Форт Ворт у яме, побач з якой дзесяцігоддзямі не будуць хаваць нікога.

Так скончылася адно жыццё Лі Харві Освальда і пачалося другое.

У новым жыцці нешта, вядомае як «Лі Харві Освальд» ці «ЛХО», стала аб'ектам гістэрычнай увагі палітыкаў, журналістаў, пісьменнікаў, героем шматлікіх расследаванняў, публікацыяў, кніг, фільмаў, прадметам абмеркавання Кангрэсу ЗША і Палітбюро ЦК КПСС, галаўным болем для ФБР, ЦРУ і КДБ. Яго выкопвалі з магілы, называлі забойцам-псіхапатам, кубінскім агентам, засланым двайніком КДБ, а таксама нявіннай ахвярай мафіі, амерыканскіх спецслужбаў, правых і левых радыкалаў, сакрэтных біялагічных эксперыментаў, праваднікам акультнай усясветнай змовы.

Дата, калі ён націснуў на спускавы гачок, стала сакральнай у амерыканскім жыцці на паўстагоддзя: а дзе ты быў, калі забілі Кенэдзі, а што ты рабіла ў той дзень?..

У Савецкім Саюзе яшчэ доўга пра яго амаль ніхто не будзе ведаць, хоць амаль кожны яго мінскі дзень ад 7 студзеня 1960 года да 22 траўня 1962-га, кожны ліст і размова таксама былі прадметам пільнай увагі.



**Рапарт вонкавага назірання КДБ**
**10.01.60**
**08:00-24:00**

**У 11:00 Лі Харві выйшаў з гатэля «Мінск» і пайшоў у ГУМ. Там зайшоў у аддзел электратавараў, нешта спытаўся ў прадаўца, дастаў з кішэні грошы і пайшоў да касы. Ні за што не заплаціў, паклаў грошы назад у кішэню і пачаў хадзіць па першым паверсе ўнівермага туды і назад і разглядаць розныя тавары. Затым вярнуўся ў аддзел электратавараў, заплаціў 2 рублі 25 капеек за электравілку, паклаў яе ў кішэню і падняўся на другі паверх. Там правёў некаторы час у аддзеле гатовага адзення, пераглядзеў наяўныя касцюмы, затым хутка пакінуў ГУМ. Вярнуўся ў гатэль у 11:25.**
**У 12:45 выйшаў са свайго пакоя і пайшоў у рэстаран. Сеў за вольны столік і пачаў есці.** *(Назіранне падчас яды не вялося, бо больш людзей там не было.)*
**У 13:35 Лі Харві выйшаў з рэстарана і вярнуўся ў свой пакой.**
**У 18:10 выйшаў з пакоя і пайшоў у рэстаран. Сеў за вольны столік, пад'еў, выйшаў з рэстарана ў 18:45, на ліфце падняўся на чацвёрты паверх і пайшоў у свой пакой.**

**Не выходзіў з пакоя да 24:00, пасля чаго назіранне не вялося да раніцы.**

Назіральнік як бясстрасная камера фіксуе нават, як аб’ект засоўвае рукі ў кішэні, і прыводзіць такія пераканаўчыя дэталі, як кошт электравілкі.

Але навошта яна амерыканцу ў гатэлі? Каб сабраць дэтэктарны перадатчык і паслаць паведамленне ў ЦРУ, бо амерыканская пляскатая вілка не падыходзіць да беларускай разеткі з круглымі дзірачкамі?

Ад гатэля да ГУМа — каля кіламетра, туды і назад, плюс разлік на касе, абыход першага паверха, потым другога — і на ўсё 25 хвілін, калі верыць КДБ?

І як гэта суадносіцца з запісам пра 10 студзеня ў дзённіку самога Освальда:

**Цэлы дзень мой. Гуляю па горадзе. Вельмі прыгожа.**

Дзе тут праўда? Дзе насамрэч быў Освальд?

Архіўныя дакументы маюць уласныя стасункі з часам — як камяні ў рацэ, яны могуць паказваць то адзін бок, то другі, могуць знікаць без слядоў і выходзіць на паверхню ў іншым кантэксце, з новымі сэнсамі і акцэнтамі. Спрабаваць скарыстаць іх для храналагічнага аднаўлення падзеяў — усё адно як пасля цэлага дня паездак па горадзе назаўтра захацець аднавіць учарашні дзень і паспрабаваць праехаць заднім ходам па ўсім маршруце, гледзячы толькі ў люстэрка задняга віду. Напор новага трафіку, рамонты дарог і здарэнні робяць спробу безнадзейнай. Можна толькі зноў выехаць з зыходнага пункту і паўтарыць маршрут, каб заўважыць ці высветліць сёе-тое, што засталося па-за кадрам.

А яшчэ лепш пайсці пешкі. Прагуляцца.

Гадзіннікавыя стрэлкі паказалі 11:00, швейцар адчыніў рэстаўраваныя дзверы абноўленага гатэля «Мінск», я выйшаў на праспект Незалежнасці, які ў час прыезду Освальда насіў імя Сталіна, а падчас яго ад’езду — ужо Леніна, паглядзеў на калоны самага прыгожага будынка ў горадзе — Мінскага паштамта, павярнуў налева і пайшоў у ГУМ купляць электравілку.

## Першы смех

Нічога не пачынаецца тады, калі пачынаецца, і пакуль аўтар ідзе ў ГУМ, адгорнем старонкі ненапісанай першай часткі гэтай кнігі, без якой яна была б немагчымая, як матылёк без кукалкі, вопрадзень без вусеня, вусень без яйка.

Освальд нарадзіўся 18 кастрычніка 1939 года ў Новым Арлеане (бацька памёр за два месяцы да яго нараджэння) і меў двух старэйшых братоў. У 1955-м пасля канфліктаў у школе кідае вучобу, далучаецца да сацыялістычнай лігі. Штуршком стала брашура пра амерыканскіх камуністаў Юліюса і Этэль Разэнбергаў, расстраляных у 1953-м за выдачу ядзерных сакрэтаў СССР. У бібліятэцы бярэ марксісцкую літаратуру і пачынае называць сябе «марксістам». У кастрычніку 1956-га паступае на вайсковую службу ў марскую пяхоту, як і ягоны брат Роберт, атрымлівае спецыяльнасць аператара авіяцыйнай электронікі (радары) і званне «шэраговец 1-га класа». Допуск сакрэтнасці — найніжэйшы. Служыць у Японіі, на Тайване і Філіпінах, затым на базе ў Каліфорніі. Служыць абы як: двойчы за невялікія правіны (бавіўся з пісталетам і параніўся, спрабаваў усчаць бойку з сяржантам у бары) яго судзіць трыбунал, яго пазбаўляюць звання і пераводзяць у шэрагоўцы. Працягвае цікавіцца камуністычнай літаратурай, савецкімі прапагандысцкімі часопісамі. У казарме слухае кружэлкі з рускімі песнямі, гаворыць «так» і «не» па-руску, просіць, каб яго называлі «Освальдсковіч», да салдат звяртаецца «таварыш» і цешыцца, калі так звяртаюцца да яго. Любіць спрачацца з афіцэрамі пра замежныя справы, бравіруе тым, што чытаў кнігі, якіх ня ведаюць іншыя, у тым ліку «Ферма» і «1984» Джорджа Орвэла, салдаты лічаць яго выскачкам. Здае тэсты за сярэднюю школу (у тым ліку, на сваю просьбу, па рускай мове — але няўдала), другі раз атрымлівае званне шэрагоўца 1-га класа. Улетку 1959-га, не даслужыўшы чатыры месяцы, скарыстаўшы ўяўную інваліднасць маці як прычыну, дэмабілізуецца з базы ў Каліфорніі.

Замаўляе пашпарт для замежных падарожжаў, афіцыйны матыў — вучоба ў Швэйцарыі, дзе прынялі яго дакумэнты ў каледж Альбэрта Швэйцэра. Хлусіць матцы, што наймаецца на заробкі на грузавы карабель, але перад адплыццём піша ліст: «мае каштоўнасьці моцна адрозніваюцца ад тваіх з Робертам. Я нічога не казаў пра свае планы, бо наўрад ці можна чакаць, што вы зразумееце».



8 кастрычніка 1959-га Освальд ступіў на зямлю ў Гаўры, Францыя і адразу адправіўся ў Лондан. На наступны дзень вылятае ў Хельсінкі, дзе атрымлівае пяцідзённую турысцкую візу ў савецкім пасольстве. 15 кастрычніка выязджае з Фінляндыі і 16-га прыбывае ў Маскву. Пасяляецца ў гатэлі «Берлін» і заяўляе перакладчыцы Інтурыста, што ён — камуніст і хоча атрымаць савецкае грамадзянства.

Праз два дні ён бавіць свой дзень нараджэння з перакладчыцай і робіць запіс у дзённіку:

**Мой 20-ты дзень народзінаў, ідзём на выставу раніцай, а пасля абеду — у маўзалей Леніна-Сталіна. Яна ўручае мне падарунак — кнігу «Ідыёт» Дастаеўскага.**

21 кастрычніка Освальд атрымлівае паведамленне, што ў грамадзянстве адмоўлена, віза сканчаецца, і ён мусіць пакінуць краіну да 20:00. За гадзіну да сканчэння тэрміну ў ванне рэжа вены на левай руцэ. «Хуткая» адвозіць у шпіталь. На наступны дзень ён робіць дзённікавы запіс:

**Я ў маленькай палаце. Са мной 12 хворых. Палата цёмная, сняданак дрэнны. Пасля працяглага двухгадзіннага назірання за іншымі**

**хворымі я прыходжу да высновы, што я ў палаце для вар'ятаў, і гэта мяне вельмі бянтэжыць.**

Пасля выпіскі праз тыдзень яго перавозяць у гатэль «Метраполь», у больш сціплы нумар, пачынаюцца сустрэчы з прадстаўнікамі Інтурыста і АВІРа. У лісце старэйшаму брату ён патлумачыць, чаму вырашыў застацца ў Савецкім Саюзе.

**ЛХО — Роберту Освальду**
**26.11.59**

**Дарагі Роберт,**
**Я задам табе пытанне, Роберт: дзеля чаго ты падтрымліваеш амерыканскі ўрад? Які ідэал на першым плане? Не кажы «свабода», бо свабода гэта слова, якое ўсе народы выкарыстоўвалі ўвесь час.**
**Спытай у мяне, і я адкажу, што змагаюся за камунізм. Гэтыя словы наводзяць цябе на думку пра рабоў ці несправядлівасць — гэта з-за амерыканскай прапаганды. Ты кажаш пра выгаду і перавагі. Ты думаеш, я тут дзеля гэтага? Дзеля асабістых, матэрыяльных выгадаў? Шчасце — не асабістая рэч, яго не складаюць маленькі дом, магчымасць усё браць і атрымліваць...**
**Тут добрыя, цёплыя, жывыя людзі. Яны хочуць, каб усе народы жылі ў міры, але адначасна яны б хацелі бачыць свабоднымі эканамічна заняволеных людзей Захаду. Яны вераць у свае ідэалы і стаяць за свой урад і краіну да канца.**
**Ты кажаш, што не выракаўся мяне, добра, я рады, але я скажу табе пра мае ўмовы. Я хачу, каб ты зразумеў, што я зараз скажу, і я не кажу гэта лёгка ці не падумаўшы, бо я, як ты ведаеш, служыў у войску і ведаю, што такое вайна.**
**1. Калі будзе вайна, я заб'ю кожнага амерыканца, які надзене вайсковую форму дзеля абароны амерыканскага ўраду — любога амерыканца.**
**2. Унутрана я не маю ніякага дачынення да ЗША.**
**3. Я хачу і буду мець нармальнае, шчаслівае і мірнае жыццё тут, у Савецкім Саюзе, да канца свайго жыцця.**
**4. Мая маці й ты не з'яўляецеся аб'ектамі маёй любові, а толькі прыкладамі рабочых у ЗША.**
**Не спрабуй узгадаць, якім я быў, бо толькі цяпер я паказваю табе, які я. Я не маю горычы ці нянавісці, я прыехаў сюды, толькі каб**

**знайсці свабоду. Кажу праўду, я адчуваю, што нарэшце я са сваім народам.**
**У Маскве цяпер ідзе снег і ўсё выглядае вельмі прыгожа. Я магу бачыць Крэмль і Красную плошчу, і я толькі што павячэраў mjaso i kartofel, мясам і бульбай. Бачыш, расейцы не так ужо й адрозніваюцца ад цябе і мяне.**

**Лі.**

У лісце Освальд вылучае некалькі словаў, адно з іх — заб'ю ***кожнага*** амерыканца. Кожны — гэта й брат. І не толькі.

У апошні дзень года Освальд бярэ таксі, едзе ў амерыканскую амбасаду, заяўляе пра адмову ад грамадзянства і здае пашпарт консулу Рычарду Снайдэру.*

У наступныя дні Освальд дае некалькі інтэрв'ю амерыканскім журналістам, але потым адмаўляецца ад кантактаў, сядзіць адзін у нумары, вучыць расейскую мову і чакае рашэння.

4 студзеня 1960 года яго выклікаюць у АВІР, выдаюць дакумент для асобаў без грамадзянства. Супрацоўнік паведамляе, што месцам жыхарства вызначаны Мінск.

Освальд запісвае ў дзённіку:

**Я пытаюся: гэта ў Сібіры? Ён смяецца.**

Гэты першы смех у гісторыі Освальда можна лічыць пачаткам гэтай гісторыі.**

---

* Незадоўга перад тым Снайдэру давялося мець справу з падобным выпадкам: адразу пасля службы ў войску амерыканец Пэтрулі прыехаў у Маскву як турыст, з'явіўся ў амбасадзе, каб здаць пашпарт, і заявіў, што адмаўляецца ад грамадзянства і застаецца ў СССР. Праз некалькі тыдняў назіранняў савецкія ўлады запатрабавалі, каб амбасада вярнула яго ў ЗША: Пэтрулі быў псіхічна хворы.

** Амерыканцы жылі і працавалі ў Мінску і да Освальда. У 1922-23 гадах тут дзейнічаў офіс Амерыканскай адміністрацыі дапамогі (АРА), дзе шэсць амерыканцаў займаліся аказаннем гуманітарнай дапамогі (гл. кнігу «Прыгоды АРА ў Беларусі», 2005). У 1946-47 гадах пятнаццаць амерыканцаў працавалі ў місіі ЮНРРА, якая таксама займалася дапамогай. Амерыканцы жылі ў сядзібе ў мінскім прадмесці Лошыца, Освальд мог бачыць помнік на Вайсковых могілках, дзе пахаваная адна супрацоўніца ЮНРРА Рут Уолер. (Гл. фільм «Забытая місія» на сайце Амбасады ЗША ў Мінску).

## Пакаранне Мінскам

Сталіца савецкай Беларусі не ўваходзіла ў спіс гарадоў, якія трымаў у памяці звычайны амерыканец. Апроч Масквы і Ленінграда, ён ведаў Кіеў, Сталінград, магчыма, адрасы лэнд-лізу — вайсковыя парты Мурманск і Уладзівасток.

Праз чатыры гады пытанне пра Мінск прагучала ў Вашынгтоне на пасяджэнні Прэзідэнцкай Камісіі, якая расследавала забойства Кенэдзі («Камісія Уорэна»).*

Пытанне было адрасаванае дыпламату амерыканскай амбасады ў Маскве Рычарду Снайдэру, які займаўся дакументамі Освальда:

> **Кангрэсмэн Форд: Калі б вы тады ведалі, што Освальд будзе ў Мінску, што б вы сказалі?**
> **Снайдэр: Так яму і трэба.**
> **Кангрэсмэн Форд: Чаму вы так кажаце?**
> **Снайдэр: Вы ніколі не былі ў Мінску. Гарады ў правінцыі ў Савецкім Саюзе знаходзяцца на вялікую прыступку ніжэй за сталіцу, а сталіца, паверце мне, на даволі вялікую прыступку ніжэй за любы амерыканскі населены пункт. Адрозненне паміж буйнымі гарадамі і малымі і паміж малымі і вёскамі — гэта велізарны крок назад у часе. Жыць у Мінску ці любым іншым правінцыйным горадзе ў Савецкім Саюзе — даволі змрочны досвед для любога, хто жыў у нашым грамадстве.**
> **Кангрэсмэн Форд: Вы калі-небудзь былі ў Мінску?**
> **Снайдэр: Я правёў каля гадзіны ў Мінску, гуляў паміж цягнікамі, аднойчы.**

Кангрэсмэна, які пытаўся пра Мінск, звалі Джэральд — праз дзесяць гадоў ён стане 38-м прэзідэнтам ЗША, у гэтай якасці паставіць свой подпіс пад Хельсінскімі пагадненнямі, якія дадуць юрыдычны аргу-

* Камісія ў справе забойства Кенэдзі была створаная распараджэннем прэзідэнта ЗША Ліндана Джонсана 29 лістапада 1963 года. Яе складалі 34 чалавекі, а ўзначальваў старшыня Вярхоўнага суда ЗША Эрл Уорэн. Пасля года расследавання Камісія выпусціла справаздачу, у якой зрабіла выснову, што Лі Харві Освальд забіў прэзідэнта адзін і без пабочнай дапамогі. Тэкст справаздачы склаў 888 старонак, апублікаваныя матэрыялы склалі 26 тамоў, а дадатковыя дакументы, мемарандумы і стэнаграмы пасяджэнняў налічваюць больш за 50 тысяч старонак. Усе дакументы (за выняткам мінімальнай інфармацыі пра падаткі прыватных асобаў) цяпер адкрытыя для даследнікаў і ў большасці даступныя ў інтэрнэце.



мент («выконвайце сваю Канстытуцыю і законы!») савецкаму і постсавецкаму дысідэнцкаму руху (у Мінску таксама з'явіцца свой «Хельсінскі камітэт»).

Форд у Мінску ніколі не быў. А вось яго папярэднік у Белым доме сталіцу Беларусі адведаў. Рычард Ніксан з жонкай былі ў Мінску на пачатку ліпеня 1974-га, калі тут адзначалі 30-я ўгодкі вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі.

Яны прыляцелі з Крыма, дзе сустракаліся з генеральным сакратаром ЦК КПСС Брэжневым, на два дні. Прысутнічалі на парадзе, усклалі кветкі да помнікаў, іх завезлі ў мемарыяльны комплекс Хатынь. Заходні друк пісаў тады пра Хатынь як свядомую падмену Катыні, дзе НКВД расстраляла тысячы польскіх афіцэраў.

Ніксан заўважна кульгаў — у яго абвастрыўся тромбафлебіт на левай назе, у Вашынгтоне даходзіў да кульмінацыі Уотэргейцкі скандал, да ганебнай адстаўкі заставалася шэсць тыдняў...

Ніксан быў на плошчы Перамогі, куды штодня хадзіў Освальд, але наўрад ці яму паказвалі будынак па суседстве, дзе жыў забойца яго колішняга суперніка на выбарах.

У 1960-м, калі выбаршчык Освальд жыў у Мінску і не галасаваў, Ніксан прайграў прэзідэнцкія выбары Джону Кенэдзі — усяго 0,1% галасоў. Калі б выйграў — у Освальда магла б быць іншая мішэнь.

Марына Освальд пазней раскажа следчым, што муж сапраўды збіраўся пры выпадку забіць Ніксана. Такі выпадак надарыўся ў 1963-м, калі Ніксан меўся прыехаць у Далас. Освальд падрыхтаваў зброю і на пытанне ўстрывожанай Марыны адказаў, што будзе дзейнічаць па абставінах. Яна ведала, што ён не жартуе, бо раней ужо спрабаваў забіць генерала Уолкера, аднаго з лідараў амерыканскіх правых, абстраляў яго дом. Паліцыя вяла следства, але нікога не знайшла. У дзень прыезду Ніксана Марыне ўдалося са скандалам адгаварыць Освальда.

Мінск стаў апошнім горадам за мяжой, які наведаў Ніксан-прэзідэнт. На ўрачыстым абедзе падчас абмену тостамі Ніксан пажартаваў, што Брэжнеў паслаў яго ў Мінск з-за таго, што там жыве гімнастка Вольга Корбут, алімпійская чэмпіёнка.

А мог і пра Освальда пажартаваць.

Скандал быў бы — не меншы за Уотэргейт.*

## Дзённік гістарычнага чалавека

Існуе мноства прычынаў і мэтаў, чаму людзі запісваюць падзеі жыцця і свае ўражанні ў дзённіку, але найбольш дакладны адказ дае часцей за ўсё сам тэкст.

Пасля арышту Освальда паліцыя правяла ператрус яго рэчаў і знайшла запісы пад загалоўкам «Гістарычны дзённік».**

---

* Астролагі, канечне, заўважаць, што апошнія паўстагоддзя Мінск спецыфічна звязаны з Белым домам: спачатку забойства Кенэдзі, потым Джонсан, які, дзякуючы гэтаму, стаў прэзідэнтам, адмаўляецца ісці на другі тэрмін, затым Ніксан пасля візіту ў Мінск ідзе ў адстаўку, Клінтан адведвае Мінск і атрымлівае імпічмент. У мінскай паездцы Ніксана суправаджаў памочнік Пэт Бюкенан, які потым сам тройчы спрабаваў стаць прэзідэнтам ЗША — і ўвесь час марна. Страшнае слова просіцца з камп'ютара на старонку — карма.

** Арыгінал далучаны да матэрыялаў Камісіі Уорэна. Першая публікацыя ў СССР адбылася ў 1990-м у часопісе «Крыніца/Родник» накладам 400 тысяч асобнікаў — я рыхтаваў яе паводле публікацыі «Поўны расейскі дзённік Освальда» ў часопісе «Life» за 1964 год. У той амерыканскай публікацыі і, адпаведна, у маім перакладзе з меркаванняў бяспекі былі зменены імёны людзей, з якімі Освальд сустракаўся ў СССР. У гэтым беларускім тэксце — новы поўны пераклад з арыгіналу. Памылкі правапісу не перадаваліся.

Уся гістарычная гісторыя змясцілася на дванаццаці старонках, якія ахопліваюць падзеі ад прыезду ў Маскву ў кастрычніку 1959-га і да сакавіка 1962-га. Апошнія тры месяцы перад ад'ездам у Амерыку запісы не рабіліся — але большасць старонак запоўненая і прысвечаная падзеям, якія адбываюцца ў Мінску.

**Дзённік ЛХО**
**7 студзеня 1960**

**Выязджаю цягніком з Масквы ў Мінск, Беларусь.**

Але потым ізноў:

**7 студзеня 1960**

**Прыязджаю ў Мінск.**

За адзін дзень? Цягніком?..
Дзённік выклікае масу падобных пытанняў — ён стракаціць граматычнымі памылкамі, непаслядоўны, з вялікімі прабеламі, пазнейшымі дадаткамі, часам выглядае, быццам напісаны задняй датай, за адзін прысест. Ці сапраўды гэта дзённік?
Адказ дае сам тэкст — гэта такі дзённік. Запісы арганізаваныя храналагічна, але рабіліся нерытмічна, часам запознена, з вялікімі пропускамі. Не класіка жанру. І правапіс мадэрнісцкі — перастаўленыя літары, пропускі, перайначаныя імёны.
У Освальда была дыслексія — ён не мог граматычна правільна пісаць. Але на праўдзівасць напісанага дыслексія не ўплывае. Як і час, калі запісы робяцца.
І памылкі, калі яны сустракаюцца — усяго толькі памылкі, а не падробка ці фальшаванне.
4 студзеня Освальда выклікалі ў Маскоўскі АВІР і выдалі гадавы дазвол на жыхарства, назаўтра ён атрымаў грошы ад Чырвонага Крыжа і праз дзень увечары з рэчамі выправіўся на Беларускі вакзал.

**Дзённік ЛХО**
**7 студзеня 1960**

**Выязджаю цягніком з Масквы ў Мінск, Беларусь. Рахунак за гатэль быў на 2200 рублёў, квіток да Мінска — 150 рублёў, такім чы-**

**нам, у мяне шмат грошай і надзеі. Я напісаў брату і маці лісты, дзе сказаў, што ніколі больш з вамі не жадаю кантактаваць. Я пачынаю новае жыццё і не хачу нічога са старога.**

Насамрэч ён выехаў на дзень раней, 6 студзеня. Дата ў дзённіку пазначаная памылкова.

Маці і брат заставаліся ў мінулым, з сабой меліся грошы і надзея, наперадзе быў Мінск.

Пад стук колаў на паліцы ў начным цягніку спіць пасажыр, тым часам спраўджваецца ягоная мара: з замежнага турыста і асобы без пашпарта ён ператвараецца ў новага чалавека — жыхара сталіцы адной з правінцыяў камуністычнай імперыі і члена савецкае рабочае класы, самае перадавое, як пісалі тады газеты, класы сучаснасці, якой належыць будучыня.

Ён пачынае новае жыццё і нічога не хоча са старога.

Так, забыўшыся пра сваё існаванне ў якасці яйка, вусеня і вопрадня, калі б думаў, мог лічыць матылёк.

## Шоў-шоў і прыйшоў

Освальда чакалі.

**Дзённік ЛХО**
**7 студзеня 1960**

**Прыязджаю ў Мінск, сустракаюць дзве жанчыны з Чырвонага Крыжа, ідзем у гатэль «Мінск», бяру нумар, знаёмлюся з Розай і Стэлінай, супрацоўніцамі Інтурыста ў гатэлі, якія гавораць па-ангельску. Стэліне за 40, прыгожая, замужам, мае малое дзіця, Розе каля 23, бландзінка, сімпатычная, не замужам, выдатная ангельская, мы адразу ўпадабалі адно аднаго.**

**8 студзеня 1960**

**Сустракаюся з мэрам горада таварышам Шарапавым, які вітае мяне і абяцае «неўзабаве» знайсці для мяне бясплатную кватэру, папярэджвае пра «некультурных людзей», якія часам абражаюць замежнікаў.**



Паход у гарсавет і сустрэча са старшынём былі арганізаваныя яшчэ ў Маскве, і падрыхтаваны там сцэнар для Освальда ў Мінску ўвасабляўся без адхіленняў.

**Рапарт вонкавага назірання КДБ**
**09.01.60**
**08:00-23:00**

**У 10 гадзін Лі Харві ўвайшоў у фае гатэля «Мінск», падышоў да адміністратара і пачаў размаўляць з ім пра нешта. Пасля падняўся ў фае 4-га паверха, сеў і ўступіў у размову з перакладчыцай Таняй, да якой далучылася яшчэ адна работніца гатэля.**
**Пасля размовы, якая доўжылася каля 40 хвілін, Лі Харві вярнуўся ў свой пакой 453.**
**У 11:40 Лі Харві выйшаў з гатэля і хутка пайшоў уніз па вуліцы Свярдлова да мясной крамы. Усярэдзіне ён абышоў прылаўкі, ко-**

**ратка агледзеў выстаўленыя прадукты, пасля чаго выйшаў і накіраваўся па вуліцы Кірава на скрыжаванне да вакзала, спыніўся, агледзеў вітрыну тэхнічнага аддзелу Беларускай чыгункі, затым падышоў да рэстарана «Радуга», пастаяў там, пасля пайшоў у гастраном на вуліцы Кірава. На ўваходзе ён разглядаў людзей, якія ўваходзілі за ім. Прайшоў па краме, выйшаў, нічога не купіўшы, і напрасткі пайшоў у кнігарню, дзе прайшоў праз усе секцыі не спыняючыся, затым выйшаў і хутка пайшоў. Вярнуўся ў гатэль у 12:25.**
**16:40 Лі Харві выйшаў з пакоя і спусціўся ў рэстаран «Мінск». Сеў за вольны столік і стаў чакаць афіцыянтку.** *(Назіранне ў рэстаране не вялося, бо было замала людзей.)*
**Выйшаў з рэстарана праз 45 хвілін і падняўся ў свой пакой. Не выходзіў з пакоя да 11:00 вечара, і назіранне прыпынена да наступнай раніцы.**

Пайшоў, увайшоў, абышоў, прайшоў, выйшаў, пайшоў — гэты прымітыўны, як апісанне рухаў казуркі, тэкст цытуецца тут не з першакрыніцы.

## Дэпутат ідзе ў КДБ

Першакрыніцамі за савецкім часам называлі працы класікаў марксізму-ленінізму (фактычна замест дуэту было трыа ці нават квартэт, але Энгельс на свой «ізм» не дацягнуў, а Сталін на пачатку 60-х з канцэртнай брыгады ўжо выпаў). Першакрыніцай мінскага перыяду Освальда з'яўляецца, канечне, справа агентурнай распрацоўкі КДБ — гэты орган дыктатуры вёў свой летапіс жыцця, часам кастраваны, нярэдка ў стылі фэнтэзі, але па-канцылярску падрабязны.

Освальдам у Мінску я пачаў цікавіцца яшчэ за часамі СССР, але ніколі, нягледзячы на статус сябра камісіі Вярхоўнага Савета па правах ахвяраў палітрэпрэсіяў, нават не бачыў яго архіўную справу, і калі б асабіста не ведаў аднаго чалавека, які трымаў яе ў руках, мог бы падумаць — а ці ёсць яна ўвогуле?

Чалавек, які не толькі бачыў, але гартаў справу Освальда — дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Сяргей Навумчык.

Неяк у 1992-м да мяне ў Мінск пазванілі амерыканскія тэлежурналісты, якія збіраліся здымаць дакументальны фільм пра Освальда — набліжалася 30-я гадавіна забойства Кенэдзі, ім трэба была дапамога са здымкамі на заводзе, з архіўнай справай КДБ. Я пераадрасаваў просьбу Сяргею Навумчыку — ён быў не толькі ўплывовым каардынатарам парламенцкай апазіцыі, але і сакратаром камісіі па справах сродкаў масавай інфармацыі, галоснасці і правоў чалавека.

І яшчэ ён быў журналістам — таму ахвотна ўзяўся дапамагчы і зацікавіўся справай сам. Ён успамінае:*

**У 1992 годзе я атрымаў просьбу амерыканскіх журналістаў пасрыяць доступу да справы Освальда ў беларускім КДБ. Я напісаў ліст старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу з просьбай даць доступ да «справы Освальда» і мне. Я разумеў, што калі Шушкевіч дасць прамое ўказанне кіраўніцтву КДБ, у мяне будуць рэальныя шанцы атрымаць доступ. Праз некалькі дзён памочнік старшыні ВС паказаў мне рэзалюцыю на маім звароце: «Э. Шыркоўскаму — С. Шушкевіч». І — усё. Маўляў, хай старшыня КДБ вырашае.**

У той час КДБ напрасткі падпарадкоўваўся Вярхоўнаму Савету і яго старшыні — іншага начальства над камітэтам у незалежнай Беларусі не было. Апроч таго, паводле заканадаўства, дэпутаты мелі доступ ва ўсе дзяржаўныя органы і да ўсіх дакументаў. Ведамасныя інструкцыі КДБ абмяжоўвалі кола асобаў, дапушчаных да сакрэтаў. Але закон мусіў быць вышэйшы.

Не ўсё было так проста, канечне. У перапынку сесіі Вярхоўнага Савета да Навумчыка падышоў таксама дэпутат, намеснік старшыні КДБ генерал Генадзь Лавіцкі і агарошыў навіной: вось ты, Сяргей, пішаш просьбы да Шушкевіча, а ў Мінску поўным ходам працуе амерыканскі пісьменнік Мэйлер, прыходзіць у клуб Дзяржынскага і яму даюць дакументы са справы Освальда, водзяць да яго мінскіх знаёмцаў Освальда.

Дэпутат навіну ўспрыняў спакойна, бо лічыў, што хто-хто, а амерыканцы маюць маральнае права атрымаць інфармацыю пра таго, хто прызнаны забойцам іх прэзідэнта. Але ён таксама лічыў, што і беларускія даследнікі мелі права атрымаць такую інфармацыю:

---

* Спецыяльна для гэтай кнігі Сяргей Навумчык аднавіў ходу падзеяў — у яго захавалася шмат сваіх нататак таго часу, дакументаў, аўдыёзапісаў.

**Пасля «ніякай» рэзалюцыі Шушкевіча заставалася чакаць рашэння генерал-палкоўніка Шыркоўскага, апошняга кіраўніка КДБ у БССР і першага старшыні гэтай установы ў незалежнай Беларусі.**
**Даць пэўную (зразумела, не ўсю) інфармацыю са справы Освальда беларускаму даследніку, ды яшчэ з дэмакратычным іміджам, ды яшчэ таму, хто, як бы там ні было, паводле заканадаўства мае на гэта права, — значыла зняць магчымыя папрокі ў бок КДБ за гісторыю з Мэйлерам. Ну і, магчыма, не апошнюю ролю адыгрываў мой статус каардынатара парламенцкай апазіцыі БНФ — праца такога дэпутата ў архіве КДБ найлепшым чынам сведчыла пра ступень дэмакратызацыі «органаў» (і рабіла праблематычнай крытыку дэпутата ў бок КДБ хаця б на час гэтай працы).**
**У выніку Шыркоўскі станоўча паставіўся да маёй просьбы, і недзе ўвесну 1993-га ў кабінеце начальніка архіўнага ўпраўлення Аляксандра Вераса мне паказалі тое, што называецца «Справай Освальда».**

Тут важна адзначыць — да Сяргея Навумчыка ніхто з цывільных даследнікаў, айчынных ці замежных, ніколі не трымаў у руках і не гартаў «Справу агентурнай распрацоўкі № 34451».

Гэта — першае поўнае яе апісанне:

**На калясцы (падобнай да тых, што выкарыстоўваюць у аэрапортах ці супермаркетах), прывезлі пульхныя тамы і паклалі іх на стол.**
**Тамоў было сем. Апошні, сёмы, цалкам складаўся з ліставання наконт выдачы матэрыялаў справы даследнікам, а самым апошнім падшытым дакументам быў мой ліст да Шушкевіча на дэпутацкім бланку з ягонай рэзалюцыяй. Быў том, які пачынаўся выцінкай з газеты (здаецца, «Известия») з партрэтам Кенэдзі ў жалобнай рамцы; былі й выцінкі з іншых газет. Мне паказалі запыт па ўрадавай сувязі (ВЧ) у КДБ БССР пра Освальда, зроблены адразу пасля забойства Кенэдзі і адказ-даведку, ізноў жа па ВЧ, старшыні КДБ Пятрова. І там жа — машынапіс артыкула за подпісам АПН («Дык што ж рабіў Освальд у Савецкім Саюзе?») з праўкамі ад рукі.**
**Асобны том складалі матэрыялы, звязаныя з выездам Освальда і Марыны Прусаковай з СССР — ліставанне з АВІРам, нейкія даведкі.**
**Яшчэ адзін том утрымліваў матэрыялы, вынятыя з розных савец-**

**кіх (пераважна, мінскіх) установаў, якія мелі дачыненне да Освальда — так, я заўважыў ягоную медычную картку.**
**Але, канечне, найбольш цікавымі былі тамы «аператыўнай распрацоўкі» Освальда — данясенні прыстаўленых да яго агентаў (памятаю фразу «и быстрым шагом пошёл»), стэнаграмы размоваў — і не толькі тэлефонных (імгненнага позірку на нейкі тэкст хапіла, каб зразумець, што кватэра Освальда ў Мінску праслухоўвалася. Я заўважыў расшыфраваную ў форме дыялогу «Ён-Яна-Ён-Яна» размову).**
**На некаторых аркушах у машынапісным тэксце былі прочыркі, у якія былі ўпісаныя словы чарнільнай ручкай.**
**Былі нават тэксты нататак, вынятых са сметніцы.**
**Асобны том складаўся з канвертаў, у якіх былі магнітафонныя стужкі і фотанегатывы (35-міліметроўкі, нарэзаныя па 4-5 кадраў). Так, у адным канверце ляжалі негатывы з вяселля Освальда — як мне патлумачылі, зробленыя схаванай камерай. Магнітафонныя стужкі былі пераважна без бабінаў.**
**Былі і лісты — Освальду і ад Освальда, з Мінска і з Амерыкі. Я заўважыў канверт, з якога была адарваная «з мясам» паштовая марка — трэба думаць, нехта з тагачасных супрацоўнікаў КДБ захапляўся філатэліяй, адарваў амерыканскую марачку ў калекцыю.**

Філатэлістычныя жарсці аказаліся больш моцнымі за дзяржаўную бяспеку. Ну, а калі б там былі мікракропкі ці які спецыяльны код, як часам паказваюць у кіно? Куды толькі ўся хвалёная пільнасць падзелася.

Аказалася — нікуды не падзелася.

## Дэпутат ідзе з КДБ

Далей усё выглядала як у казцы пра сароку, якая кашку варыла, на прыпечку студзіла, чарпаком мяшала, дзеткам давала:

Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
А гэтаму не дала.

Сяргей Навумчык заўважыў, што некаторыя прозвішчы ў рапартах былі заклееныя палоскамі паперы.

**— Гэта так рыхтавалі дакументы для Мэйлера? — запытаўся я ў Вераса.**
**— Што Вы, Мэйлеру ніводнага дакумента адсюль не патрапіла — адказаў палкоўнік. — Сяргей Іосіфавіч, увогуле вы першы, хто трымае ў руках гэтыя папкі. Калі не лічыць нашых супрацоўнікаў, зразумела.**

Дэпутату патлумачылі, што дзве акалічнасці перашкаджаюць даць гэтыя тамы ў поўнае распараджэнне: прозвішчы тайных агентаў і метады аператыўнай працы.

**— Я табе скажу па-простаму, — тлумачыў мне Лавіцкі ў сваім кабінеце пад партрэтам Дзяржынскага. — Пачынаючы з утварэння «органаў», з 1917-га, мы ніколі не раскрылі ніводнага імя ніводнага агента. Гэта гарантыя нашай працы. Бо калі б раскрылі — як бы мы сёння прыцягвалі новых агентаў?**

Яшчэ адна прычына — матэрыялы пра амерыканскую амбасаду ў Маскве, дзе, са словаў супрацоўнікаў КДБ, у іх былі інфарматары. Сяргей Навумчык ізноў пайшоў да Шыркоўскага. Гутарка адбылася на пачатку траўня 1993 года ў кабінеце старшыні на трэцім паверсе будынку КДБ:

**Шыркоўскі пазваніў Верасу: «Тут у мяне дэпутат Навумчык. Дык Вы яму ўсё паказалі? Так, ён мне сказаў, што ты паказаў, і падзякаваў. Але разумееш, там вялікая праца. Давай-ка ты вось што. Трэба ўключацца ў справы. Ну што гэта, амерыканцы там прыязджаюць, пішуць. Што, у нас няма нармальных журналістаў наогул? Ёсць пытанні, давай паглядзім і будзем шукаць. Па Касцюкову. Што ты яго знайсці не можаш? Шукай. Ты прабачэнне перадай, што я тады іх усіх шугануў, калі амерыканец прыязджаў. А то, ведаеш, прыехаў амерыканец, пасадзілі яго ў гэтым клубе Дзяржынскага, вадзілі ўсіх туды».**

З апошніх словаў Сяргей Навумчык зрабіў выснову, што Норману Мэйлеру спрыялі (прынамсі, да пэўнага часу) без згоды старшыні КДБ і што старшыня гэтую дапамогу не вітаў. Ці магчыма такое ў ваенізава-

най арганізацыі, ці генерал «ваньку валял», ці былі сапраўды супярэчнасці паміж начальнікамі — не так істотна.*

Істотна, што Шыркоўскі паабяцаў спрыяць, назваў прозвішча аператыўніка, які займаўся Освальдам — Касцюкоў, загадаў прыцягнуць яго на дапамогу дэпутату.

**— У нас яшчэ шмат недалёкіх людзей у апараце, — сказаў Шыркоўскі на развітанне. — Табе яшчэ давядзецца звярнуцца да мяне ў гэтай справе. І, павер мне, не адзін раз.**

Як у ваду глядзеў. Ці ў люстэрка.**

Наступныя некалькі месяцаў былі падобныя да перамоваў па ядзерным раззбраенні, якія вядуцца з Паўночнай Карэяй.

**Спачатку мне сказалі, што дадуць усё — за выняткам гэтых самых прозвішчаў. «Гэтаму Мэйлеру нагаварылі 40 працэнтаў хлусні, а ў Вас будуць праўдзівыя факты», — паабяцаў мне Верас. Потым — што патрэбна прапусціць кожны дакумент праз адмысловую ведамасную камісію па рассакрэчванні, у якой, сярод іншых, былі і ветэраны КДБ. Потым сказалі, што, паколькі там ветэраны, дык цяжка аператыўна ўсіх сабраць.**

Дэпутата, як і абяцалі, аднойчы звялі з палкоўнікам у адстаўцы Касцюковым, які сказаў, што ў яго было дзве мэты: высветліць, ці не з'яўляецца Освальд агентам ЦРУ і ці нельга яго завербаваць у інтарэсах КДБ. На абодва пытанні атрымалі адмоўныя адказы — Освальд, паводле свайго характару, не ўяўляў цікавасці для спецслужбаў.

Потым паўза працягвалася, бо адказны супрацоўнік КДБ трапіў у шпіталь.

**— Трагічная гісторыя, — патлумачыў мне Лавіцкі. — У палкоўніка быў летнік, ён туды не ездзіў — няма часу, гарыць чалавек на**

---

* Пазіцыя генерала мянялася — і набыла сваё завяршэнне ў раздражнёным афарызме на старонках друку ўлетку таго самага года: «КДБ — не хата-чытальня».

** У 1992 годзе Э. Шыркоўскі заявіў, што яму прапаноўвалі 50 мільёнаў даляраў за «справу Освальда»(«Известия», 6 жніўня 1992). Для параўнання — нататнік Джона Кенэдзі 1960 года з накідамі прамоваў прадаецца за 20 000 даляраў. У снежні 2010-га на аўкцыён была выстаўленая сасновая труна Освальда (пасля эксгумацыі парэшткі перапахавалі ў іншай труне), якую купілі за 87 469 даляраў. На думку амерыканскіх дыпламатаў і выдаўцоў, лічба Шыркоўскага — галюцынацыя ці дэзынфармацыя.

**працы. Адказны афіцэр, прафесійны чэкіст. А жонка пілуе й пілуе яго, што суседзі памідоры-гуркі садзяць, а ў нас адно пустазелле. Ну, адпрасіўся ён у мяне, узяў тры дні адпачынку за свой кошт. Паехаў на дачу. Тры дні капаў-араў, усё ўзараў, пасадзіў. Аказалася — не свой участак узараў, а суседаў. Ён да суседа (таксама чэкіст), узары, кажа, цяпер ты мой участак, а сусед — «А я што, цябе прасіў мой араць?» Расхваляваўся, ціск падняўся, цяпер вось у шпіталі...**

Дачная драма настолькі прыгожая, што, не выключана, нават сапраўдная.

Аднойчы ўзнікла новая перашкода. Кіраўніцтва КДБ раптоўна занепакоілі юрыдычныя інтарэсы дэпутата — а ці не засудзіць беларускага грамадзяніна Марына Прусакова-Освальд-Портэр, калі ён абнародуе пэўныя эпізоды яе прыватнага жыцця, падслуханыя і падгледжаныя органамі?

У нейкі момант Сяргею Навумчыку прапанавалі («каб не закапацца ў матэрыялах, бо адно капіяванне на ксераксе зойме некалькі тыдняў»), засяродзіцца на некалькіх тэматычных блоках — напрыклад, ці быў Освальд агентам КДБ? Магчыма, небеспадстаўна лічылі, што калі дэмакратычны даследнік заявіць, што не, не быў — гэта будзе гучаць больш пераканаўча, чым іх уласныя заявы.

**— Але ж Вы разумееце, што, каб пісаць, што Освальд не быў агентам, я павінен мець доказы. А доказы — гэта матэрыялы справы, — адказаў я.**
**— Ды паверце, што не быў!**
**— Магу паверыць. Але чаму Вы думаеце, што іншыя мне павераць? Давайце матэрыялы!**

Далей ізноў — абяцанні, часовыя праблемы, паважныя прычыны.

**Аднойчы я сказаў: «Паслухайце, ваша мэта — як мага больш схаваць, мая мэта — як мага больш у вас узяць. Як бачу, нічога ў нас не атрымаецца». — «Вы што, — запэўнівалі мяне, — мы ж разумеем, што рана ці позна трэба будзе рассакрэчваць, проста гэта трэба рабіць акуратна...»**

Дні складаліся ў тыдні, тыдні ў месяцы, і да сярэдзіны 1993-га ў Беларусі на вачах памянялася палітычная тэмпература. Пасля разгрому рэферэндума аб датэрміновых выбарах камуністычная наменклатура

абʼядналася вакол прэмʼера Вячаслава Кебіча, які пакаяўся за подпіс у Віскулях і ўзяў курс на інтэграцыю Беларусі і Расеі. КДБ ужо не бачыў патрэбы гуляць у галоснасць нават акуратна.

Паходы дэпутата скончыліся тым, што яму далі ксеракопіі (не на вынас, а перапісаць) некалькіх дакументаў пра адʼезд Освальдаў у ЗША, у тым ліку заяву ў АВІР з візай міністра ўнутраных спраў Аляксандра Аксёнава.

І гэта, як ён успамінае, — усё:

**Напэўна, я ўжо ніколі не даведаюся, на што разлічвалі кіраўнікі КДБ, калі абяцалі даць мне матэрыялы справы Освальда. Што дакладна — некалькі месяцаў майго часу было страчана на безвыніковыя размовы з чэкістамі.**

Сяргей Навумчык лічыць галоўнай прычынай адступлення КДБ ад свайго першапачатковага абяцання змену агульнай палітычнай сітуацыі. Галоўнай — але не адзінай.

**Канечне, калі б у 1992-м Шушкевіч наклаў недвухсэнсоўную рэзалюцыю адкрыць справу Освальда, была вялікая верагоднасьць, што кіраўніцтвам КДБ яна была б выкананая.**

Сяргей Навумчык гаворыць усё ж хоць і пра вялікую, але — верагоднасць.

Дала-не дала-дала...

## Сарокі над КДБ

Увесну 1992-га падчас сустрэчы з першым амерыканскім амбасадарам у Мінску Дэйвідам Суорцам кіраўнік Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч здзівіў дыпламата аповедам пра сваё асабістае знаёмства з амерыканцам, які жыў тут за трыццаць гадоў да беларускай незалежнасці.

... Калі ў 1960-м нядаўняга аспіранта Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР Станіслава Шушкевіча, які займаўся даследчай працай на Мінскім радыёзаводзе, выклікалі ў заводскі парткам, ён менш за ўсё гатовы быў да размовы пра граматыку расейскай мовы.

У парткаме маладому інжынеру паведамілі пра аказаны давер —

вучыць скланенням і спражэнням новага рабочага-амерыканца. Шушкевіч вывучаў ангельскую ва ўніверсітэце, але яго адразу папярэдзілі — ніякіх размоваў пра мінулае жыццё з Освальдам не весці.

Освальд запісаў у нататнік імя настаўніка: Станіслаў Шушкевіч. Заняткі адбываліся ў корпусе, дзе працаваў інжынер, пасля змены Освальд прыходзіў туды, падымаўся на другі паверх, і яны прыступалі да граматыкі.

Мова давалася цяжка. Освальд быў не надта старанны вучань, не праяўляў вялікага зацікаўлення, эмоцыяў, не ўсміхаўся і не дзякаваў пасля заняткаў. Але праз пэўны час ён пачаў тое-сёе разумець, калі Шушкевіч гаварыў павольна, дапамагаў жэстамі, пісаў асобныя словы на паперцы і разгортваў слоўнік.*

Амбасадар Суорц неадкладна ўключыў аповед Шушкевіча ў тэлеграму ў Дзяржпэпартамент. З адміністрацыі прэзідэнта Джорджа Буша-старэйшага адразу пайшлі запыты пра архіўную справу. Суорц папрасіў кіраўніцтва КДБ аб сустрэчы — яго прыязна прынялі, выслухалі і паабяцалі спрыяць.

Больш амбасадар да гэтай тэмы не вяртаўся — на парадку дня быў вывад ядзернай зброі з Беларусі, пабудова ўсяго комплексу паўнавартасных дзяржаўных стасункаў з новай дзяржавай, падрыхтоўка першага візіту кіраўніка Беларусі ў Вашынгтон.

Праз трыццаць гадоў пасля забойства Кенэдзі, летам 1993-га Шушкевіч сустракаўся з прэзідэнтам Клінтанам у Белым доме.

Кенэдзі быў асабістым героем Клінтана, існуе фільм, дзе Кенэдзі цісне яму руку. Пра сваё знаёмства з Освальдам падчас гутаркі ў Белым доме Шушкевіч не згадаў ні тады, ні падчас прыезду Клінтана ў Беларусь.**

Чалавечы кантакт часам нечакана ўплывае на гісторыю — як, верагодна, і яго адсутнасць. Але рэч была не толькі ў асабістай гістарычнай настальгіі двух удзельнікаў сустрэчы ў Авальным кабінеце, дзе лунаў

* У матэрыялах Камісіі Уорэна можна пабачыць шэраг лістоў і запісаў у нататніку Освальда, зробленых па-расейску — на цалкам прымальным узроўні для штодзённых камунікацыйных патрэбаў. Па вяртанні ў Амерыку ён нават атрымаў прафесійную рэкамендацыю, што можа быць вусным і пісьмовым перакладчыкам з расейскай.

** У Беларусі Клінтан сустракаўся з яшчэ адным чалавекам, які асабіста ведаў Освальда. Гэта перакладчыца амбасады ЗША Іна Маркава, якая пазнаёмілася з Освальдам, калі вучылася ў ін'язе. Яна перакладала размову лідара парламенцкай апазіцыі Зянона Пазняка і амерыканскага прэзідэнта ў Курапатах.



цень яго былога гаспадара. Якраз тады адміністрацыя Клінтана напрасткі займалася справай забойства Кенэдзі.

У 1992-м Кангрэс ЗША ўтварыў незалежную «Раду ў справе перагляду дакументаў забойства», і адміністрацыя Клінтана, якая пераняла ўладу ад Джорджа Буша ў студзені 1993-га, мусіла арганізоўваць працу Рады.*

* Хаця забойства Кенэдзі даследавала прэзідэнцкая Камісія Уорэна ў 1963-64 гадах, затым адбываліся дадатковыя слуханні ў Кангрэсе ў 1970-х, амерыканская публіка працягвала задаваць пытанні, што і чаму здарылася ў Даласе. Сакрэтнасць, якая была неад'емнай рысай працы дзяржаўных інстытутаў падчас халоднай вайны, не спрыяла адкрыццю ўсіх архіваў, асабліва дакументаў разведкі і службаў бяспекі. Таксама не ўсе дакументы, створаныя камісіямі і камітэтамі расследавання, былі даступныя для публічнага азнаямлення.

Падазрэнні, выкліканыя сакрэтнасцю, размывалі ўпэўненасць у праўдзівасці федэральных органаў улады і шкодзілі даверу да іх. Буялі канспіралагічныя тэорыі, розгалас атрымаў фільм Олівера Стоўна «Джэй Эф Кей» (прыняты ў Амерыцы скарот ініцыялаў 35-га прэзідэнта) з высновамі пра змову і ўдзел у ёй дзяржаўных структураў. У адказ на

У верасні 1998-га Біл Клінтан атрымаў справаздачу. Рада прымусіла рассакрэціць і апублікавала больш за дваццаць тысяч дакументаў ФБР, больш за тры тысячы — ЦРУ, таксама больш за тры тысячы — Пентагона, тысячы справаздачаў, архіўных матэрыялаў іншых ведамстваў і папераў прыватных грамадзян — цалкам 33 176 дакументаў. Агульны аб'ём «Калекцыі Кенэдзі», адкрытай для грамадскасці, перавысіў чатыры мільёны старонак.

У справаздачы быў раздзел пад загалоўкам **«Беларусь»:**

> **З дапамогай амбасады ЗША ў Мінску старшыня Рады Тангайм, сябра Рады Гол і выканаўчы дырэктар Марвэл у лістападзе 1996 года перагледзелі абшырныя матэрыялы справы сачэння за Освальдам беларускага КДБ. Справа апісвае больш за два гады абшырнага сачэння і аналізу КДБ за Лі Харві Освальдам падчас яго жыцця ў беларускай сталіцы. Некаторыя з дакументаў былі ўжытыя Норманам Мэйлерам у яго кнізе «Гісторыя Освальда».**
> **Радзе не ўдалося атрымаць копію справы, часткова з прычыны пагаршэння адносінаў паміж ЗША і Беларуссю ў 1997-98 гады.**
> **Ізноў, Рада настойліва рэкамендуе прыкласці ўсе магчымыя намаганні, каб атрымаць для амерыканскага народа гэтыя важныя дакументы пра дзейнасць абвінавачанага забойцы Лі Харві Освальда ў гады перад забойствам.**

Рада таксама наракала на слабое супрацоўніцтва з Масквой.

Аднак менш чым праз год, у чэрвені 1999-га, падчас сустрэчы «вялікай васьмёркі» ў Кёльне прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын зрабіў жэст, які міжнародныя эксперты тады назвалі «дыпламатыяй дакументаў» — перадаў Білу Клінтану 39 тэчак «справы Освальда». Гэта былі дакументы не КДБ, а ЦК КПСС, МЗС і МУС СССР, якія з'явіліся на свет адразу пасля забойства. У Маскве тады, пасля Карыбскага крызісу, вельмі баяліся абвінавачання ў падрыхтоўцы замаху, і гэтаму было прысвечанае

---

фільм выйшла кніга Дэйвіда Райцэза з красамоўнай назвай «100 памылак у фактах і высновах фільма «Джэй Эф Кей».

З увагі на грамадскую занепакоенасць у 1992-м Кангрэс прыняў «Акт аб зборы дакументаў, датычных забойства прэзідэнта Джона Ф. Кенэдзі», стварыў Раду і надзяліў яе адмысловымі паўнамоцтвамі.

Акт упаўнаважваў Раду працаваць з Дзяржэпартаментам, каб уключыць дакументы замежных урадаў, у першую чаргу з Расеі і Беларусі. Мінская тэлеграма Суорца і яго перамовы з кіраўніцтвам КДБ патрапілі ў поле новага расследавання.

ліхаманкавае ліставанне з савецкай амбасадай у Вашынгтоне, даведкі і тлумачэнні.

Мінскі перыяд Освальда там толькі згадваецца, але не раскрываецца — матэрыялы мінскага КДБ ніяк не фігуруюць.

Тады ж, улетку 1999-га, ельцынскую перадачу дакументаў пракаментаваў яшчэ адзін прэзідэнт — Аляксандр Лукашэнка. На полі ў Берасцейскай вобласці ён заявіў журналістам:

**— Паглядзеў я гэтыя справы — няма там нічога такога, каб ірваць на галаве апошнія валасы і плакацца.**

І патлумачыў:

**— Мы не збіраемся пляваць на сваю гісторыю.**

Мінскія сарокі-вароны, якія лётаюць над КДБ, спяваюць па-свойму:
Гэтаму не дала,
Гэтаму не дала,
Гэтаму не дала,
Гэтаму не дала,
А гэтаму дала.

У такой прыкладна прапорцыі. Тым больш цікава — каму і як давала.

## Удар па амбіцыях

У 1995-м, калі Станіслаў Шушкевіч ужо не быў старшынём Вярхоўнага Савета, а Эдуард Шыркоўскі — старшынём КДБ, калі ўведзенае ў парламент войска збіла дэпутатаў апазіцыі, якія абаранялі нацыянальны сцяг і герб, калі першы прэзідэнт заявіў, што ўсім лепшым у сваім жыцці ён абавязаны КДБ, у Амерыцы выйшла кніга Нормана Мэйлера «Гісторыя Освальда».

На супервокладцы выдавецтва Random House пісала:

**У 1993-м Норман Мэйлер правёў шэсць месяцаў у Расеі, дзе ён браў інтэрв’ю ў былых сяброў і каханак Освальда, атрымаў эксклюзіўныя інтэрв’ю з афіцэрамі КДБ, прыстаўленымі адсочваць кожны рух Освальда. Яму таксама далі эксклюзіўны доступ да матэры-**

**ялаў справы Освальда ў КДБ, у тым ліку да транскрыптаў падслуханых размоваў у кватэры, дзе Лі жыў са сваёй расейскай жонкай Марынай.**

На гэты ўдар абухом па амбіцыях і інтарэсах усіх айчынных даследнікаў было нават няясна як рэагаваць, на каго крыўдзіцца. На непрадказальнага экс-спікера былога Вярхоўнага Савета? На адсутнасць патрыятызму ў КДБ? На яго падступнасць? Прадажнасць?

Заставалася толькі парадавацца — за амерыканскага калегу і яго чытачоў, якія нарэшце змаглі пазнаёміцца з невядомымі дагэтуль мінскімі старонкамі сваёй нацыянальнай трагедыі.*

Ну, і сёе-тое ўдакладніць.

І я пазваніў у Нью-Ёрк першаму (і дагэтуль адзінаму) аўтару на свеце, які атрымаў доступ да матэрыялаў КДБ пра Освальда.

Атрымаць доступ да Нормана Мэйлера было таксама няпроста, але рэч была не ў адсутнасці спрыяльнай рэзалюцыі ЦРУ, асабістай згодзе ці пярэчаннях, нейкіх умовах — цяжка было скантактавацца. Ягоны адрас і тэлефон не значыліся ў даведніках; у інтэрнэце была старонка Мэйлера, але яе аўтарам і дапісчыкам быў не сам пісьменнік, а ягоныя чытачы.

Пакуль аўтар гэтай кнігі лістуецца з выдавецтвам Random House і шле факсы літаратурнаму агенту Мэйлера, можна адкрыць энцыклапедыю ці набраць імя амерыканскага пісьменніка ў інтэрнэце і ўведаць гады жыцця (1923–2007), адукацыю (Гарвардскі ўніверсітэт), удзел у Другой сусветнай вайне (служыў на Ціхім акіяне), род заняткаў (празаік, журналіст, драматург, паэт, кінасцэнарыст), публікацыі (больш за 30 кніг, першы раман «Голыя і мёртвыя» выйшаў у 1948-м), узнагароды (двойчы лаўрэат Пуліцэраўскай прэміі, Нобелеўскі намінант, крытыка называе яго «амерыканскім Талстым»).

Калі нарэшце дазваніўся, я ўжо ведаў, што перад прыездам у Мінск Мэйлер скончыў самую даўгую кнігу ў сваім жыцці, дакументальна-мастацкі твор «Прывід прасталыткі»: 1300 старонак, прысвечаных гіс-

---

* У лістападзе 1991 года некаторыя старонкі справы Освальда паказалі журналістам амерыканскай тэлекампаніі ABC-News. Летам 1991-га і вясной 1992-га з дапамогай маскоўскай тэлепраграмы «Взгляд» у Мінск прыязджаў канадскі журналіст Пітэр Уронскі — ён сустракаўся са знаёмымі Освальда, запісваў відэаінтэрв'ю з імі. Матэрыялы КДБ яму не паказалі. Улетку 1992-га карэспандэнту «Известий» Сяргею Мастаўшчыкову дазволілі сфатаграфаваць сейф, дзе захоўвалася справа і зрабіць здалёк здымак шасці тамоў, раскладзеных на крэслах. Ён таксама сустрэўся з некаторымі знаёмымі Освальда.

торыі ЦРУ (кажуць, кніга ўваходзіць у рэкамендаваны курс чытання для супрацоўнікаў ЦРУ). «Прывід» мусіў мець працяг — другі том, але наступнай стала кніга пра Освальда.

На маё пытанне наўпрост:

**— Ці ўзяліся б Вы за гэтую кнігу, калі б не мелі доступу да архіву КДБ?**

Мэйлер даў наўпроставы адказ:

**— Не. Не, я ніколі б нават не пачынаў кнігу без гэтага.**

Усё ж некаторыя рэчы пачынаюцца тады, калі пачынаюцца.*

## Удар, але па мячыку

«Гісторыя Освальда» стала 28-й кнігаю Мэйлера, а яго гутарка са мной у лістападзе 1995-га — першым інтэрв'ю з беларускім журналістам.

**— Пра забойства Кенэдзі напісаныя сотні кніг — чаму вы вырашылі далучыцца да гэтага клубу?**
**— Я належу да гэтага клубу — неафіцыйна, бо раней не пісаў на гэтую тэму — больш за 30 гадоў. Хаця я пачаў збіраць матэрыял для кнігі пра Освальда толькі праз 29 гадоў пасля забойства. Я быў уражаны гэтым забойствам. Я пачынаў пісаць, зыходзячы з меркавання, што Освальд быў удзельнікам змовы, што была змова, каб забіць Кенэдзі. На працягу 6 месяцаў пошукаў у Беларусі, потым пасля вяртання ў Амерыку, правёўшы блізу двух гадоў над гэтай кнігай, я прыйшоў да змрочнай высновы, што Освальд цалкам мог зрабіць гэта сам. Я скончыў тым, што сказаў, што 75% верагоднасці, што гэта справа Освальда. Ведаеце, у бізнесе і ў разведцы верагоднасць любяць вымяраць у адсотках.**

* Першай грунтоўнай публікацыяй пра мінскі пэрыяд Освальда стала праца амэрыканскай журналісткі Прысцылы МакМілан «Марына і Лі», апублікаваная ў ЗША ў 1977 годзе. МакМілан працавала ў Маскве і жыла ў адным гатэлі з Освальдам, калі той адмаўляўся ад амэрыканскага грамадзянства. Ён пагадзіўся даць ёй інтэрвію, першая гутарка цягнулася ад 9 вечара да другой раніцы. Па вяртанні ў ЗША, ужо пасля забойства Кенэдзі, яна пазнаёмілася і пасябравала з Марынай Освальд, і правяла сотні гадзінаў у размовах пра яе жыццё. Мінскаму пэрыяду прысьвечана чвэрць кнігі, каля ста старонак.

Аўтарскія правы на кнігу «Гісторыя Освальда», апроч Мэйлера, належаць кінарэжысёру і журналісту Лорэнсу Шылеру. Мэйлер працаваў разам з ім над сваімі папярэднімі бэстселерамі, у тым ліку над біяграфіяй Мэрылін Манро. Менавіта Шылер, як патлумачыў мне Мэйлер, здабыў матэрыялы архіву КДБ.



**— Адбылося наступнае: Шылер звярнуўся да мяне яшчэ ў 1991 годзе і сказаў — выглядае, ён зможа дабрацца да матэрыялаў КДБ. Ці не зацікавіла б мяне праца над кнігай пра Освальда? Я сказаў — так. Ён кажа: магчыма, давядзецца паехаць у Мінск на шэсць месяцаў. Я сказаў: олрайт, я еду! Мяне ўсхвалявала магчымасць дабрацца да гэтых тэчак.**
**Здаецца, у 1991 годзе (калі гэта абаранялі Белы дом у Маскве?) усё было адкрыта недзе цягам года. Толькі КДБ не ведаў, дзе гэтыя матэрыялы знаходзяцца. Шылер — надзвычайны гандляр, і ён пачаў размаўляць з КДБ.**
**— Давайце вернемся да матэрыялаў, якія вы атрымалі.**
**— Здарылася наступнае: спачатку КДБ пагадзіўся. Але ў той час у Нямеччыне пачалі адкрываць імёны агентаў Штазі. І гэта стварыла сапраўднае пекла ва Усходняй Нямеччыне. Шмат людзей былі інфарматарамі Штазі, яны патрапілі ў вельмі непрыемнае становішча і горка наракалі. І ў беларускага КДБ тады ўзніклі іншыя думкі наконт абяцання, якое яны нам далі.**
**— З кім вы скантакталіся першым у справе дакументаў?**
**— У верасні 1992 года мы прыехалі ў Мінск. У нас быў кантакт, супрацоўнік КДБ, з якім мы рэгулярна сустракаліся. Мы пыталіся,**

**калі зможам атрымаць той ці іншы дакумент, і ён адказваў: гэта зараз абмяркоўваецца ў камітэце.**
**— Якога кшталту матэрыялы Вы прасілі?**
**— Ну, мы хацелі б мець усё, што было ў іх у справе. Так гучала іх першапачатковае абяцанне — мы атрымаем поўную справу Освальда.**
**— Як яны рэагавалі на Вашыя просьбы?**
**— Рэакцыя была такой: у нас праблемы. Вельмі шмат людзей пацярпела б, калі б гэтыя дакументы адкрылі. Гэта доўгая гісторыя, якая цягнулася шэсць месяцаў. Сёе-тое яны нам далі, сёе-тое мы здабылі з чорнага ходу. Мы здабывалі матэрыялы рознымі спосабамі, і атрымалі даволі шмат матэрыялу. Але ўсё гэта было вельмі й вельмі цяжка.**
**— Дзе было лягчэй кантактаваць з афіцэрамі КДБ, у Мінску ці Маскве?**
**— У Маскве. Перш за ўсё, мы гутарылі з вельмі высокапастаўленымі супрацоўнікамі КДБ. У Маскве людзі былі вельмі зацікаўленыя, дапамагалі нам — да пэўнай ступені. Мы сустракаліся з высокімі чынамі КДБ, пераважна ў адстаўцы — бо ім было менш чаго губляць у адстаўцы. І яны былі з намі шчырыя.**
**— Як вы іх знаходзілі?**
**— Вы мусіце разумець, што маскоўскі КДБ нам дапамагаў. У іх добрая служба сувязяў з грамадскасцю. Гэта ўжо больш не Савецкі Саюз. Гэта цалкам новая расейская рэспубліка. На чале КДБ сталі новыя людзі. І іхны падыход быў: мы хочам мець добрыя адносіны з Амерыкай, гэта шырока вядомы амерыканскі пісьменнік, і давайце яму дапаможам. І яны дапамаглі нам з кантактамі. Мы правялі інтэрв'ю з 17 супрацоўнікамі КДБ.**
**— Дзе Вы з імі сустракаліся — у іх кабінетах, у гатэлі?..**
**— Мы пайшлі на Лубянку — там у нас быў цэлы шэраг гутарак. У Мінску ў асноўным мы праводзілі інтэрв'ю ў нашым офісе. У нас быў невялікі офіс у Мінску.**
**— Вы запісвалі Вашыя гутаркі на магнітафон альбо вялі нататкі?**
**— Мы запісвалі на магнітафон.**
**— Што наконт фотаздымкаў — у вас быў фотаапарат?**
**— Не, мы вырашылі не фатаграфаваць, яны не любяць, калі іх здымаюць. Ніхто з іх не пагадзіўся, каб у кніжцы прыводзіліся сапраўдныя прозвішчы.**

**— Вы працавалі з дакументамі ў офісе?**
**— Не. Гэта было ў цэнтры горада.**
**— Вы былі адзін, калі працавалі з дакументамі?**
**— Са мной былі перакладчыкі. Гэта была цэлая каманда — на нас працавалі чатыры чалавекі. Людміла Перасветава была нашым галоўным перакладчыкам.**
**— Вам дазвалялі выносіць дакументы?**
**— Не-не-не. Яны давалі нам дакументы час ад часу. Дакладней, копіі дакументаў. Затым мы іх перакладалі і вывучалі.**
**— Гэта былі тэчкі ў поўным аб'ёме альбо выбраныя старонкі?**
**— Тэчкі былі толькі невялікай часткай таго, з чым мы працавалі ў Мінску. Галоўным сталіся інтэрв'ю людзей, якія ведалі Освальда. Мы пачыналі з думкай зрабіць тое, што хочам, на аснове матэрыялаў КДБ, але скончылі серыяй сапраўды кранальных інтэрв'ю з людзьмі, якія ведалі Освальда. Мы атрымалі нашмат лепшую карціну Мінска і Освальда ў Мінску на пачатку 1960-х.**

Кніга Мэйлера стала правадніком па мінскім жыцці героя. Мэйлер адкрыў шмат якія дзверы і зазірнуў у куткі, дзе дзесяцігоддзямі не ступала нага даследніка, і не толькі даследніка ў цывільным (у тым цывільным, якое звычайна бяруць у двукоссе).

Амерыканец зрабіў тое, што мусіў бы зрабіць мясцовы аўтар.

На такі ўдар па амбіцыях крыўдаваць не выпадала.

Гэта быў удар не па амбіцыях, а па мячыку — і ён цяпер быў на беларускім баку поля.

## Дзве памяці, плюс-мінус

Гістарычны час у Мінску цёк інакш, чым у Амерыцы — тут, на думку Мэйлера, можна было сапраўды зрабіць падарожжа на дзесяцігоддзі назад.

**Галоўнае, што дазволіла зрабіць кнігу, надзвычай станоўчы момант — у адрозненне ад цяжкасцяў з КДБ — было тое, што мы распытвалі людзей, якія ведалі Освальда падчас яго жыцця ў Мінску на працягу двух гадоў і чатырох з паловай месяцаў. У яго і жонкі**

**Марыны было шмат сяброў. Да іх пасля забойства прэзідэнта Кеннэдзі падыходзілі людзі з КДБ і казалі: ні слова пра Освальда.**
**Калі паглядзець з вышыні гадоў, дык трэба зразумець, што з пункту гледжання КДБ, які вельмі шчыльна сачыў за Освальдам, ён быў абсалютна бяскрыўдны. І яны былі ў моцным шоку пасля забойства. Яны лічылі, што ён невінаваты. Што гэта правакацыя ЗША. Некаторыя людзі ў КДБ думалі — што, калі ЗША спрабуюць распачаць Трэцюю сусветную вайну? Была атмасфера сапраўднага ціхага жаху. Бо яны не маглі гэта зразумець.**
**Освальд не займаўся ніякімі значнымі справамі ў Беларусі. Ён не зрабіў на КДБ ніякага ўражання — яго не ўспрымалі як нейкага сур'ёзнага чалавека. Ён зусім не ўразіў КДБ. Ім было вельмі цяжка паверыць, што ён мог такое зрабіць. Яны меркавалі, што цяпер ЗША выкарыстоўваюць яго, бо ён быў у Расеі.**
**Яны думалі, што яго выкарыстоўваюць — без ягонага ведама. Яны верылі ў гэтую версію. Яны хутка сустрэліся з усімі, хто ведаў Освальда, і ўсіх папярэдзілі: заткніцеся, не гаварыце пра гэта. І людзі гэта хавалі ў сабе ўсе гэтыя гады.**
**Мы з'явіліся праз 30 гадоў. Савецкая сістэма сканала. Сталінізм у далёкім мінулым. І людзі цяпер гатовыя гаварыць. І вялікай перавагай, з нашага пункту гледжання, сталася тое, што іх памяць была абсалютна чыстая, яны ніколі не гаварылі пра гэта. Яны маўчалі, бо баяліся КДБ, і з пачуцця самааховы не гаварылі амаль 30 гадаў.**
**І мы атрымалі цудоўны матэрыял. Свежы, надзвычай свежы матэрыял. Вось маленькі прыклад таго, які матэрыял мы здабылі: адна жанчына сказала, што ёй падабаўся Освальд, ён быў разумны, але ў яго былі два недахопы. Ён любіў чытаць амерыканскія коміксы, якія яму прысылала маці, і пры гэтым рагатаў як ашалелы, што выклікала раздражненне Марыны і яе самой — ён быў «некультурны». А другое — ён псаваў паветра, як яна выказалася.**
**І наадварот, калі мы вярнуліся ў Амерыку — нічыім успамінам пра гэты перыяд нельга было давяраць. Гэта ўжо было поле бітвы, па якім пракацілася туды й назад армада танкаў. Гэта было балота. Хочаш атрымаць сапраўдныя ўспаміны — і маеш справу з багнай. Кожны даваў інтэрв'ю шмат разоў, кожнага распытвалі. Усе ўжо ведалі пра справаздачу Камісіі Уорэна і ведалі, што там лічылася праўдзівымі звесткамі, што не, і яны забыліся, што было наса-**

**мрэч. Безнадзейная справа. Урэшце я прыйшоў да таго, што сам мусіў узяць справаздачу Камісіі за аснову як найлепшы матэрыял, які магла даць людская памяць. Але нават гэта было ненадзейна. У нас быў кантраст: цудоўныя, дакладныя, падрабязныя інтэрв'ю ў Мінску і ніводнага сапраўднага інтэрв'ю ў Амерыцы. Патрабавалася складаць шмат кавалачкаў, каб атрымаць сэнс.**

Вось якая якасная ў Беларусі памяць.

І яшчэ неблагая ў Беларусі даведачная служба тэлефонаў. Там, напрыклад, адразу далі нумар абанента, чыё прозвішча Освальд згадвае ў сваіх самых першых запісах у Мінску напачатку 1960 года.

**Дзённік ЛХО**
**8 студзеня 1960**

**Сустракаюся з мэрам горада таварышам Шарапавым, які вітае мяне і абяцае «неўзабаве» знайсці для мяне бясплатную кватэру, папярэджвае пра «некультурных людзей», якія часам абражаюць замежнікаў.**

Праз пяцьдзясят гадоў пасля гэтага запісу Васіль Іванавіч Шарапаў, які сапраўды ўзначальваў Мінскі гарвыканкам з 1954-га па 1967-мы, гледзячы мне ў вочы, ціхім упэўненым голасам скажа:

**— Я з Освальдам не сустракаўся.**

У Шарапава зайздросная памяць: у 1945-м ён прыехаў у Мінск пасля дэмабілізацыі па раненні, называе прозвішчы, імёны і пасады людзей, з якімі працаваў паўстагоддзя таму, памятае назвы вуліц, якіх няма на мапе, тлумачыць, чаму і як тыя, што ёсць, былі перайменаваныя, адзінае чаго не помніць — сустрэчы з Освальдам.

Пра Освальда ўсё ж нешта чуў — быццам быў такі амерыканец, прыехаў у Мінск з жонкай, потым з'ехаў. Нават працаваў тут, здаецца. Пра жонку казалі, быццам лёгкіх паводзінаў. Гуляла, казалі. Ён піша, што сустракаўся са мной? І я казаў пра некультурных людзей? Не памятаю такога. Ці размаўлялі са мной з КДБ пра яго? Не думаю. Пра кватэры са мной шмат хто гаварыў. Кожную пятніцу вёў прыём па кватэрным пытанні, бясконцы паток людзей, у кожнага свая гісторыя, свае праблемы, не хапала жылля ўсім. Ці былі на прыёме замежнікі — так, бывалі, напрыклад, разы з чатыры сустракаўся з адным рэпатрыянтам з Ар-




генціны, Зігер прозвішча, Аляксандр Раманавіч, у яго яшчэ дзве дачкі было, адна вельмі прыгожая спявачка, Элеанора, а другая — здаецца, Аніта, далі яму кватэру. А Освальд? Не памятаю. Здаецца, званілі аднойчы, з сакратарыяту Хрушчова, здаецца, але кватэру яму даваў завод, можа, мы далі заводу, такое магло быць...

Цёплым вераснёўскім днём 2010-га на дачы, праз тры гадзіны гутаркі, падчас якой гаворка таксама ішла пра гістарычны прыпынак у Мінску цягніка Сталіна на Усходнім вакзале, адкуль адкрываўся від на руіны, і пасажыр нумар адзін быццам сказаў тагачаснаму першаму сакратару Панамарэнку, што Мінск можна адбудаваць, толькі пасадзіўшы тут два заводы саюзнага значэння, і яны выцягнуць, і так з'явіліся аўтамабільны і трактарны, пра знакаміты «нацыянальны» пленум ЦК КПБ 1953 года, калі спрабавалі памяняць першага сакратара расейца Патолічава на кандыдата Берыі беларуса Зімяніна, пра помнік Сталіну, як ставілі і як зносілі, і дзе захоўвалі 9-метровы бронзавы статуй пасля дэмантажу, пра першага сакратара ЦК КПБ і патрыёта Беларусі Кірылу Мазурава, пра прыезды ў Беларусь валюнтарыста Хрушчова, пра мінскае падполле, якое Шарапаў дапамагаў рэабілітаваць насуперак партызанскай мафіі, пра ссылку з пасады першага сакратара гаркама ў мініс-

тры, бо новаму першаму сакратару ЦК Машэраву не падабалася, што ён не раздаваў вымовы налева-направа, пра пабудову «дарогі нумар 1» да Маскоўскай алімпіяды і закладку новай транспартнай інфраструктуры, закупы імпартнай тэхнікі і выхаванне кадраў дарожнікаў, якія дагэтуль штогод прыязджаюць на дзень народзінаў свайго любімага міністра, ужо на развітанне былы чыгуначнік, салдат Другой сусветнай вайны, самы доўгатрывалы мэр у гісторыі беларускай сталіцы, член ЦК КПБ і ўдзельнік паўтузіна з'ездаў КПСС, чалавек, чыё прозвішча пасля публікацыі часопіса «Life» ў 1964-м стала ўсясветна вядомым, дзякуючы не таму, чаго ён дасягнуў у сваім жыцці, а таму, што яго згадаў у сваім непісьменным дзённіку 20-гадовы амерыканскі наведнік, Васіль Іванавіч Шарапаў, 94-гадовы беларус з-пад Барысава, у добрым здароўі і жывым розуме ўсміхнуўся і сказаў:

**— Ну, трэба Вам напісаць, што я сустракаўся з Освальдам — ну, напішыце.**

А Мэйлер наракае на амерыканскую памяць.*

## «Russia» ці «Belorussia»?

Першы амбасадар ЗША ў незалежнай Беларусі Дэйвід Суорц любіў паказваць дом Освальда гасцям з Вашынгтона — яны слупянелі ад

---

* Гэта трапная заўвага — так у 70-80-я гады мяне бянтэжылі два тыпы ўспамінаў пра мінулае. Ветэраны вайны, якія выступалі ў школе, інстытуце, па тэлебачанні, гаварылі не толькі адно і тое ж, але і аднолькава. Мемуары розніліся толькі геаграфічнымі назвамі і прозвішчамі. Тэма была так зафармалізаваная, забоўтаная, што ператварылася ў закасцянелы біблейскі тэкст, дзе ўсё было як ва ўсіх. І хаця пасля вайны мінула толькі некалькі дзесяцігоддзяў, і час ад часу адкопвалі неразарваныя бомбы, знаёмым пацанам адрывала пальцы знойдзенай гранатай, яшчэ не выйшлі на пенсію і працавалі салдаты вайны, здавалася, яна адбылася ў іншую эпоху і, магчыма, на нейкай іншай планеце. Патрабаваўся маштаб і талент Васіля Быкава, каб узламаць панцыр афіцыёзу і дабрацца да праўды.

Ветэраны ГУЛАГу, наадварот, калі пасля дзесяцігоддзяў маўчання пераадольвалі страх і пачыналі гаварыць, гэта былі настолькі свежыя, непасрэдныя ўспаміны, непадробленыя эмоцыі й жывыя дэталі, што міжволі нараджалася адчуванне, што ўсё гэта было толькі што, учора, і можа паўтарыцца заўтра. Менавіта на такой якасці асабістых успамінаў, дасланых Аляксандру Салжаніцыну, пабудаваная гіганцкая жывая канструкцыя «Архіпелагу ГУЛАГу». Магчыма таму для новых пакаленняў небяспека сталінізму адчувалася куды больш моцна і пагрозліва, чым небяспека новай вайны.

здзіўлення, якое выклікае раптоўная сустрэча з гісторыяй. Усе думалі, што Освальд жыў у Маскве.

Калі Суорц ляцеў у Мінск у 1992-м, ён таксама нічога не ведаў пра жыццё там амерыканскага грамадзяніна Освальда — ведаў толькі, што той жыў у Савецкім Саюзе.

Суорц быў прафесійным дыпламатам, які ў 1972 годзе ўжо працаваў у амбасадзе ў Маскве, што ж казаць пра іншых, менш дасведчаных амерыканцаў. СССР быў адна вялікая Russia, ніхто не расшыфроўваў чатыры зычныя, якія ўтваралі самую даўгую свісцячую абрэвіятуру для назвы краіны ў гісторыі чалавецтва. (І самую хлуслівую: не саюз, а імперыя, не рэспублік, а аўтакратыяў, не савецкіх, а партыйных, не сацыялістычных, а фэадальных — ІПФА.*)

Самае цікавае ў пытанні «Ці быў Освальд у Беларусі?» — гэта тое, як бы ён адказаў на яго сам.

**Дзённік ЛХО**
**11 студзеня 1960**

**Наведваю мінскі радыёзавод, дзе буду працаваць. Там сустракаюся з аргенцінскім эмігрантам Аляксандрам Зігерам, польскім габрэем паводле нараджэння. Ён іміграваў у Аргенціну ў 1938-м і назад на польскую радзіму (цяпер частку Беларусі) у 1955-м. Гаворыць па-ангельску з амерыканскім акцэнтам. Працаваў на амерыканскую кампанію ў Аргенціне. Ён загадчык аддзела, ужо далёка за 40 гадоў, мяккія манеры, прыемны. Здаецца, хоча мне нешта сказаць. Я паказваю яму мой часовы дакумент і кажу, што хутка буду мець расейскае грамадзянства.**

Можна прачытаць сотні старонак кнігі Мэйлера, так ці іначай прысвечаных людзям і падзеям у Беларусі, і не зразумець, што гэта не Расея. Усіх знаёмых Освальд лічыць расейцамі (выключэнне — габрэі, якія, аднак, таксама расейцы), навокал размаўляюць па-расейску, кіно, опера, канцэрты, назвы вуліц, рапарты КДБ — усё па-расейску.

Рабочыя на заводзе, бальшыня якіх прыехала ў Мінск з вёскі, дзе на-

---

* Напісаў і сам зацікавіўся, што б гэта ІПФА значыла. Google, як заўсёды, выдаў першы тузін адказаў пад рубрыкай «анамальныя сэксуальныя паводзіны», з якіх самым прыстойным быў «індывідуальны профіль функцыянальнай асіметрыі». Нешта ў гэтым ёсць.

вучанне было па-беларуску, маглі гаварыць на роднай мове. Але на перадавой вытворчасці і ў сталіцы трэба было гаварыць «па-гарадскому» — тым больш з амерыканцам.

У сваім дзённіку Освальд згадвае назву Беларусі тры разы: першы, калі атрымлівае навіну пра сваё размеркаванне ў Мінск (аказваецца, гэта не ў Сібіры), другі — калі піша пра рэпатрыяцыю Зігера, і трэці — восенню 1960-га, у лірычнай (і камічнай) сумесі надвор'я і геаграфіі:

> **Мой жах перад новай расейскай зімой растае ў цудоўным золаце і чырвані восені ў Беларусі.**

Якраз тады, калі Освальд напіша гэтыя радкі, пытанне беларускай мовы будзе абмяркоўвацца на яго радзіме, у Амерыцы, людзьмі, з адным з якіх ён неўзабаве пазнаёміцца і нават будзе госцем у доме.

Тут патрэбнае адступленне: у Беларусі даўно ходзіць показка пра тое, як кіраўнік партыі і ўрада Мікіта Хрушчоў падчас прыезду ў Мінск сказаў, што беларусы першыя прыйдуць да камунізму, бо ўжо адмовіліся ад роднай мовы і перайшлі на расейскую, якая будзе мовай камуністычнага грамадства. Існуюць розныя версіі, дзе і калі гэта было сказана — якія, аднак, не пацвярджаюцца ні стэнаграмамі, ні пісьмовымі сведчаннямі сучаснікаў па гарачых слядах.*

Дакладна ж вядомае якраз супрацьлеглае.

Увосень 1960-га адбывалася сесія ААН, на якой БССР і Украіна, як звычайна, былі прадстаўленыя асобнымі дэлегацыямі. Мікіта Хрушчоў, удзел якога ў гэтай сесіі звычайна ўзгадваюць у сувязі са стуканнем чаравікам па стале, піша ва ўспамінах, як папрасіў кіраўнікоў дэлегацыяў выступіць на родных мовах. Хрушчоў разлічваў на ўвагу ўкраінскай і беларускай дыяспары ў ЗША і Канадзе.

> **Прыйшоў дзень іх выступаў. Украінцы зрабілі, як я ім параіў, а з Беларуссю не выйшла. Я быў вельмі засмучаны. «Мы не можам падрыхтаваць тэкст на беларускай мове, — апраўдваліся прадстаўнікі БССР, — нават друкарскай машынкі няма з беларускім шрыфтам».**
> **«Калі не можаце, дык іншага выйсця, вядома, няма, але гэта наносіць шкоду нацыянальнай палітыцы. Ворагі савецкай сістэмы**

* Хоць мог і сказаць — і не такое нёс. А маглі і мясцовыя таварышы ад стараннасці дадумаць, тыя яшчэ кадры былі.

**скарыстаюць гэты факт у прапагандзе: няма ў саюзных рэспублік ніякіх правоў, усё там робіцца напаказ замежжу, суцэльная фікцыя. Расейцы душаць усіх, і нават на такім міжнародным форуме, як сесія ААН, яе член выступае не на сваёй роднай мове, а па-расейску».**

**Думаю, гэта разумеў і прадстаўнік Беларусі. Але ён асабіста не быў падрыхтаваны, не ведаў сваёй роднай мовы.**

Прадстаўніцтва БССР было ўтворанае ў 1958 годзе, і яго кіраўніком, насуперак прапановам Мінска, быў прызначаны член КПСС з 1927 года супрацоўнік МЗС СССР Феадосій Гразноў. У пашпарце ён пісаўся беларусам, але мовай не валодаў. У 1961-м яго замяніў кандыдат Мінска П. Астапенка — але беларускай мовы ў ААН не пабольшала.

Кіраўніком дэлегацыі ў 1960-м быў першы сакратар ЦК КПБ Кірыл Мазураў — ён не толькі ведаў мову, але й лісты пісаў па-беларуску, і нават вершы. І ў 1959 годзе выступіў па-беларуску на ўрачыстасцях да 40-х угодкаў утварэння БССР, за што нават атрымаў прачуханку ад пераменлівага Хрушчова. У складзе дэлегацыі быў і вядомы паэт Максім Танк.

Афіцыйную прамову трэба было чытаць з паперкі — не было як надрукаваць.*

І тут ужо нават чалавек, які пагражаў закапаць капіталізм і размахваў вадароднай бомбай, быў бяссільны.

У, бадай, самы важны дзень свайго жыцця ў Мінску, калі ён сустрэў будучую жонку, Освальд пазнаёміцца таксама з членам той беларускай дэлегацыі ў ААН, Лідзіяй Чаркасавай, і нават будзе разглядаць яе здымак разам з Хрушчовым. Чаркасава выступала з публічнай лекцыяй пра сваю паездку на сесію ААН. Але нават калі пасля афіцыйнай часткі Освальд апынецца ў Чаркасавай дома, драму з беларускай мовай ніхто не згадае (можа, таму, што драмы не заўважаць — Чаркасава была біэла-

* Друкарскай машынкі з беларускім шрыфтам у місіі ААН не было яшчэ і ў першы год незалежнасці. Больш за тое, тагачасны прадстаўнік Беларусі ў ААН Генадзь Бураўкін узгадваў, што дакументы з МЗС па-беларуску з Мінска прыходзілі без «ў», а замест «і» ставілі клічнік. А сябра дэлегацыі 1960 года Максім Танк у дзённіку скандал з беларускай мовай зашыфраваў так, што і не зразумееш, што да чаго: напісаў, што кіраўнік украінскай дэлегацыі М. Падгорны гаварыў на ўкраінскай мове, а пра Мазурава — што той выступаў двойчы. А потым патлумачыў: «Як вядома, толькі главы ўрадаў маюць права выступаць на сваёй мове, а ўсе іншыя дэлегаты павінны выступаць на любой з рабочых моваў: англійскай, іспанскай, рускай, французскай ці кітайскай». Падгорны, як і Мазураў, быў першым сакратаром ЦК кампартыі, а не кіраўніком урада.

гам, прафесарам мединстытута, родам з Украіны, у Мінск прыехала ў 1950-м).

У дзённіку Освальда тагачасная назва Беларусі па-ангельску («Byelorussia») ніводнага разу не напісаная правільна.

І справа не толькі ў дыслексіі.

Адказ на пытанне, ці быў Освальд у Беларусі, Мэйлер даў у кнізе: Освальд быў у СССР.

Нават БССР ледзь праступае праз расейскую мову, расейскія назвы, агульную савецкую рэчаіснасць і будучыню, якая як снегам пакрывае ўвесь ландшафт.

Цікава, што гэтае самае пытанне можна адрасаваць і Мэйлеру — ці быў ён у Беларусі?

Адказ Мэйлера — ён быў у Мінску.

## Самагонка для Мэйлера

Любы горад адзін для яго жыхароў і іншы для наведнікаў. Калі Мэйлер упершыню прыехаў у беларускую сталіцу, з усіх магчымых вызначэнняў Мінска яго, верагодна, больш за ўсё здзівіла б «горад сонца».

**— Калі я быў у Мінску, гэта быў вельмі цяжкі час для людзей. Інфляцыя — за тыя паўгода, што мы там былі, курс упаў ад дзвюх з паловай да сямі з паловай тысяч рублёў за даляр. І гэта было яшчэ значна менш у параўнанні з інфляцыяй, якая наступіла пазней. Людзі прадавалі сваю маёмасць. У нейкай ступені падобна да таго, што было ў Нямеччыне, у Веймарскай рэспубліцы. Людзі ў Мінску пераважна стаялі на кансерватыўных пазіцыях і былі не надта радыя гэтым вялізным нечаканым пераменам. Яны прывыклі да савецкай сістэмы. Гэта было адно з некалькіх месцаў, дзе старая сістэма працавала. Напалову працавала. І раптам — новая сітуацыя, якую яны не разумелі. Гэта быў час дрэннага настрою, неразбярыхі. Многія з тых, з кім мы сустракаліся, былі вельмі прывабныя. Вельмі годныя людзі, большасць з тых, каго мы сустракалі ў Мінску.**

Мэйлер прыехаў у Мінск у верасні 1992-га. Спачатку ён пасяліўся ў гатэлі, затым яму знялі кватэру, дзе ён жыў да лютага 1993 года.

**— Я жыў кіламетры за тры ад цэнтру, у рабочым раёне, у доме, дзе жылі рабочыя, у маленькай цёмнай кватэры. Паводле мінскіх стандартаў гэта была шыкоўная кватэра. Невялікая кухня, дзве маленькія спальні, сярэдняга памеру гасцёўня. Я плаціў каля 200 даляраў за месяц, што ў 20 разоў перавышала кошт кватэры для ўласніка.**

Гэта быў нялёгкі перыяд і для 70-гадовага пісьменніка: раз на тры-чатыры тыдні ён вяртаўся ў Амерыку, потым прыязджаў зноў. Давалася ў знакі розніца ў часе, штодня адбываліся сустрэчы і вяліся гутаркі пад запіс. У Мінску не было чаго рабіць вечарамі, апроч як «пайсці на абы-якую ежу ў сумным рэстаране, бо Мінск ніколі не будзе вядомы сваёй кухняй, прынамсі, цягам наступнага дзесяцігоддзя ці двух».

**— Змрочнае месца з выглядам у двор. Адзіную рэч, якую я памятаю — сонца ніколі не было ў Мінску ад кастрычніка да лютага. Як толькі сонца выглядала на 10 хвілінаў, маці высыпалі на двор разам з дзецьмі й вазочкамі і трымалі сваіх дзяцей на сонцы. А калі сонца хавалася, яны беглі назад дадому, каб дзеці не прастылі.**

Мэйлер і яго калегі нанеслі візіт у амерыканскую амбасаду, дыпламаты ім ахвотна дапамагалі, яны разам адзначалі Дзень удзячнасці, які амерыканцы святкуюць у апошні чацвер лістапада. Рэзідэнцыя амбасадара месцілася ў Драздах, у велізарнай дачы, дзе раней жыў сакратар ЦК, з холам для прыёмаў і сваёй кіназаляй. Лэры Шылер, які шмат і паспяхова працаваў у Галівудзе, быў у захапленні ад праекцыйнай апаратуры — антыкварыят! Шылеру ўдалося зняць кватэру ў тым самым комплексе будынкаў, дзе некалі жыў Освальд, і туды на вечарынкі яны запрашалі амбасадара і яго супрацоўнікаў.

Але Мэйлер жыў асобна.

**— Гэта быў рабочы раён. Падлеткі, 18-19 гадоў, напіваліся ўвечары ў пятніцу і суботу. Але гэта былі неблагія дзеці. Мне нават падабалася там.**

Часам, калі Мэйлер ішоў дадому, падлеткі віталіся з ім і прапаноўвалі самагонку.

Мэйлер дзякаваў і адказваў адной з некалькіх фразаў, якія вывучыў, кожны раз аднолькава:

**— Я — амерыканскі!**

Гэта заўсёды выклікала выбух смеху.
Мінск быў усё ж не змрочны горад.*
Не беларускі толькі.

## Acherontia atropos, сямейства чэкістых

Мэйлер сустракаўся з сямнаццацю афіцэрамі КДБ у Маскве і Мінску.

Гэтая лічба ў кнізе падобная да шчыгрынавай скуры: толькі пяць з тых, хто займаўся Освальдам, пагадзіліся на інтэрв'ю па тэме, у кнізе фігуруюць толькі тры, бо трох з пяцёркі давялося аб'яднаць пад адным імем, ніводзін з іх не пагадзіўся даць сваё сапраўднае імя.

Адзін з тых, чыё сапраўднае імя згадваецца ў кнізе — першы кіраўнік КДБ незалежнай Беларусі Эдуард Ширкоўскі. Мэйлер так сфармуляваў сваё ўражанне падчас інтэрв'ю:

**— Я думаю, гэта тыповы чалавек КДБ. Моцны, крыху брутальны, з добрымі манерамі — для брутальнага тыпу. Цынічны. Глыбока цынічны.**

«Генерал Мараў» — зборнае імя для трох высокапастаўленых чыноў КДБ у Маскве.

«Ігар Іванавіч Гузьмін», ён жа «Ігар» — начальнік управы КДБ у Мінску, якая займалася Освальдам.

«Сцяпан Васілевіч Грыгор'еў», ці проста «Сцяпан» — яго падначалены, афіцэр КДБ, які непасрэдна, з дня ў дзень, на працягу двух з палова́й гадоў займаўся Освальдам.

Адзін з ветэранаў шчыта і мяча сціпла патлумачыў сваю нелюбоў

* Гарадское самагонаварэнне існавала заўсёды, і са знікненнем прыватнага сектару яно перакачавала ў шматпавярховыя панэльныя дамы. Практыкаваўся як традыцыйны гарачы метад, калі брагу грэлі на газавай пліце, а змеявік ахалоджвалі водаправоднай вадой, так і больш просты халодны спосаб — брагу залівалі ў пластыкавыя пакеты ад малака, клалі ў маразільнік, сусла замярзала, алкаголь заставаўся зверху і разліваўся ў бутэлькі. У першым выпадку самагонка была больш чыстая, у другім — адразу халодная.

да галоснасці зразумелымі і святымі для амерыканцаў каштоўнасцямі прыватнага жыцця:

> **Каб на пенсіі журналісты не дакучалі пытаннямі.**

Амерыканцы, трэба спадзявацца, зразумелі правільна.

Яшчэ да выхаду кнігі Мэйлера чэкістаў расшыфравалі. У інтэрнэце, газетах можна ўведаць, што генерал «Ігар Гузьмін» быў Галубцовым, яго прыслалі ў Мінск з Масквы «на ўмацаванне кадраў» у 1946-м, да Освальда ён займаўся пошукам калабарантаў, напачатку 1950-х лавіў парашутыстаў (чацьвёрка Вострыкава), і выйшаў у адстаўку з пасады начальніка ўправы контрразведкі ў 1977-м.

Мэйлер дае такі партрэт 70-гадовага генерала КДБ у адстаўцы:

> **Вялікі чалавек, стары, з чырвоным вялікім тварам, які мог належаць ірландскаму паліцыянту ў Нью-Ёрку, твар уражвае: ад вострага носа і ўверх — выцвілыя блакітныя вочы, гатовыя загарэцца праведным маральным агнём; але ад вуснаў і ўніз ён выглядаў карумпаваным — двайное падбароддзе, раздзьмутая шыя паліцэйскага шэфа.**

А непасрэдны куратар Освальда «Сцяпан» ідэнтыфікаваны як капітан Аляксандр Фёдаравіч Касцюкоў, ураджэнец Гомельскай вобласці — у 1992-м яго імя надрукавалі «Известия», менавіта так ён быў прадстаўлены і дэпутату Сяргею Навумчыку.

«Сцяпану», як і «Ігару», прысвечаны асобны раздзел у кнізе. Мэйлер цытуе «Гузьміна» пра Касцюкова: інтэлігентны, прафесійны, сур'ёзны, з халоднай галавой, характар устойлівы, цярплівы, чысты беларус, добра ведаў мясцовую спецыфіку, лавіў і дапытваў нямецкіх і брытанскіх шпіёнаў — тутэйшых жыхароў, якіх падчас вайны занесла на Захад, а потым дадому.

Касцюкоў нарадзіўся ў вёсцы на Сожы, ваяваў, быў паранены, прыйшоў у органы яшчэ за часам Цанавы і Берыі, а перад тым быў супрацоўнікам раённага аддзела статыстыкі. Мэйлеру ён расказваў, што не піў, не паліў, не гуляў у даміно, быў маральна ўстойлівы, толькі працаваў. Кватэра была за тры кіламетры ад працы, выходзіў з дому рана, ішоў пешкі ціхай вуліцай да парку Горкага, праходзіў каля парку Купалы, далей па праспекце, да дома з калонамі, падымаўся на свой трэці паверх і быў за сталом а палове дзявятай. Яму падабалася, што вокны выходзілі

ў двор — ціха, нічога не перашкаджае. Пачынаў дзень з працы над дакументамі, якія заўсёды замыкаў у сейфе, нават калі выходзіў на хвіліну. І не таму, што у кабінеце быў яшчэ адзін супрацоўнік, а таму што такі парадак. Потым сядзеў на нарадах, сходах, абедаў у службовай сталоўцы, вельмі добрай (біфштэкс ці катлеты, салаты, чай з 20% вяршкамі), у абед выходзіў ва ўнутраны дворык, пасядзець на сонцы, часам згуляць у валейбол, ён быў хоць і невысокі, але нягблага біў крукам.

Праца была творчая, тлумачыў ён Мэйлеру, нешта можна было вырашыць за месяц, а нешта за год. Нельга было абмяжоўвацца часавымі рамкамі — заўсёды ўзнікала нешта нечаканае. Хто, напрыклад, мог прадбачыць, што Освальд ажэніцца з Марынай? Былі заданні, якія немагчыма было выканаць, як ні старайся. Часам сыходзіў уначы, жонка ставілася з разуменнем, сама працавала на вызваленай камсамольскай пасадзе, дзеці былі ў кругласутачных яслях, кожны панядзелак службовы аўтобус адвозіў іх ад будынка КДБ на былую дачу Цанавы пад Мінскам і там яны заставаліся да пятніцы.

Калі справа Освальда падыходзіла да завяршэння, Касцюкова пакрыўдзілі: прызначылі намеснікам начальніка аддзела, далі асобны кабінет, але званне засталося ранейшае — капітан. Паўгода ён маўчаў, але потым усё ж пайшоў у аддзел кадраў, аказалася, проста забыліся — хадзілі ж у цывільным.

Калі Мэйлер папрасіў яго пакрытыкаваць самога сябе, Касцюкоў сказаў, што быў занадта патрабавальны да дзяцей, занадта дамагаўся дысцыпліны. І часам быў нецярплівы, калі суразмоўцы гаварылі не па дзелу, тады ён перапыняў і накіроўваў гаворку да сутнасці справы.

У дзяцінстве ён хацеў стаць настаўнікам.

Калі шукаць аналогіі ў межах лепідэптаралогіі, дык чэкісты, канечне, належаць да Acherontia atropos, сямейства сфінксаў ці бражнікаў. Як пішуць у папулярнай энтамалагічнай літаратуры:

> **Матылёк «Сфінкс Мёртвая Галава» з'яўляецца прадметам прымхаў і жаху сярод простых людзей з-за яго тужлівага гукання і выявы чэрапа на грудзях.**

Тужлівае гуканне на пачатку 1960-х чуваць было нашмат радзей, чымся ў папярэднія дзесяцігоддзі, калі газеты не паспявалі друкаваць паведамленні пра выкрыццё варожых змоваў і вокамгненныя прысуды. Цяпер гукалі звычайна раз на год, у снежні, на дзень народзінаў органаў. Напрыклад, калега «Ігара» і «Сцяпана» Міхаіл Аценкаў, расеец, з

мяшчан, член КПСС з 1916-га, чэкіст з 1920-га, зэк з 1938-га (патрапіў пад хвалю чыстак НКВД ад «яжоўшчыны»), пасля адседкі на Поўначы — жыхар Мінска і заслужаны ветэран, пісаў у «Звяздзе» на 45-я ўгодкі ўтварэння ЧК:

> **Дарэмна цёмныя сілы міжнароднай рэакцыі высоўваюць сваё ядавітае джала. Яго адсячэ цвёрдая рука нашых слаўных чэкістаў! Адшчапенцам і наймітам, людзям з чорнымі душамі не звіць сваіх гнёздаў на нашай зямлі.**

У 1926-м Аценкаў атрымаў вымову «за п'янства ў прытонах», якая падарожнічала за ім у асабістай справе праз усё жыццё — можа гэтым і выкліканая была некаторая туга, уласцівая «бражнікам».

Аматары мастацкай літаратуры могуць разгарнуць апавяданне Эдгара По «Сфінкс»: герой сустракае страхавітага монстра, у якога з касматай масы шчаціністых валасоў вытыркаецца дваццаціметровы хобат з пашчай на канцы, з поўсці тырчаць таксама два бліскучыя іклы як у дзіка, хобат з бакоў прыкрываюць два крыштальныя прызматычныя рагі, дзве пары пакрытых металічнай луской крылаў, якія раскінуліся на дзвесце метраў у шырыню. На грудзях ярка бялела выява чэрапа. Монстр зароў, і герой самлеў.

Аказалася — звычайны матылёк.

Толькі вырас бескантрольна.

## Палёты «Справы № 34451»

У 1990-м, калі ў часопісе «Крыніца/Родник» рыхтавалася да друку маё першае даследаванне Освальда і пераклад «Гістарычнага дзённіка», рэдакцыя звярнулася ў КДБ БССР з запытам пра архіўныя матэрыялы. У адказ было паведамлена, што ніякіх матэрыялаў у іх няма. Ніхто тады ў гэта не паверыў і, як высветлілася, дарма.

Усе сакрэтныя тамы мінскай «Агентурнай справы № 34451» былі ў Маскве ўжо на наступны дзень пасля забойства Кенэдзі.

Як расказваў Мэйлеру «Сцяпан», увечары 22 лістапада 1963 года Мінск атрымаў загад з Масквы — тэрмінова даставіць дакументы. На наступны дзень «Сцяпан» склаў тэчкі — усё змясцілася ў адну шэрую

паштовую сумку — і адправіўся на аэрадром. Яго суправаджаў узброены ахоўнік. На вайсковым аэрадроме ў Люберцах іх чакалі. Праз гадзіну яны ўваходзілі ў будынак КДБ на плошчы Дзяржынскага — на Лубянку. Пасля доўгага блукання па калідорах яго завялі ў пакой, дзе за сталом сядзелі некалькі чалавек. «Сцяпан» далажыў — згодна з вашымі ўказаннямі матэрыялы дастаўленыя. Ён запомніў першае пытанне і свой адказ, быццам гэта было ўчора:

**— Ці рабілі вы спробы правесці вербоўку Освальда?**
**— Даю галаву на адсячэнне, мы не толькі не спрабавалі, нават гэтая думка нам у галаву не прыходзіла. Азнаёмцеся з гэтымі дакументамі. Там вельмі ясна бачна, у якім накірунку мы працавалі. Выконвалі вашы інструкцыі.**

Усе за сталом літаральна выдыхнулі з палёгкай.

Мэйлеру патлумачылі, што КДБ распрацоўваў некалькі версіяў. Першая — Освальд агент ЦРУ, бо служыў у марской пяхоце, адкуль нярэдка набіраюць агентаў у разведку. Падазрэнне выклікала заява Освальда пра тое, што ён марксіст — КДБ прыйшоў да высновы, што ён слаба ведаў марксісцка-ленінскую тэорыю. Была небяспека, што Освальд гаварыў па-расейску лепш, чым паказваў. Магчыма, разведзаданне палягала ў тым, каб высветліць, як савецкія ўлады працуюць з перабежчыкамі з ЗША. Яшчэ адна версія — Освальд сапраўды быў шчырым імігрантам, і апошняя — ён быў псіхічна няўстойлівым.

«Сцяпан» потым сказаў Мэйлеру, што калі пасля забойства Кенэдзі пачалася кампанія паклёпу на Савецкі Саюз, ён думаў, што, магчыма, Хрушчоў перадасць гэтыя тэчкі амерыканскаму ўраду:

**— І ўсе амерыканскія чуткі лопнуць, як мыльная бурбалка.**

Тэчкі, у якіх даследаваліся гэтыя версіі, не былі перададзеныя амерыканскаму ўраду. Яны ляжалі ў Маскве наступныя 27 гадоў — і іх дасталі са сховішча толькі пасля правалу камуністычнага путчу ў жніўні 1991-га. Старшыня КДБ Кручкоў пайшоў на турэмныя нары, а новы старшыня Вадзім Бакацін на пачатку восені ў адказ на пытанні амерыканскіх і сваіх журналістаў паабяцаў, што справу Освальда рассакрэцяць.

Гэта амаль адбылося ў лістападзе 1991-га: памочнік Бакаціна прачытаў справу за тры вечары і перадаў яе для адпаведнага афармлення ведамаснай камісіі.

Газета «Известия» на першай паласе надрукавала партрэт Освальда і паведамленне пад загалоўкам:

**КДБ мае намер рассакрэціць дасье на забойцу Джона Кенэдзі**

**Камісія экспертаў КДБ у пятніцу, 22 лістапада, скончыла вывучэнне сабранага савецкай контрразведкай дасье, якое захоўваецца ў архівах камітэта, на амерыканскага грамадзяніна Лі Харві Освальда, які падазраецца ў забойстве прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі, учыненым роўна 28 гадоў таму, 22 лістапада 1963 года. Як чакаецца, на пачатку наступнага тыдня вынікі працы будуць дакладзеныя Вадзіму Бакаціну, які прыме рашэнне, якія матэрыялы будуць апублікаваныя.**

Ці то «Известия» ўважліва чыталі ў Мінску, ці нехта з маскоўскага апарату пазваніў, але на наступным тыдні Бакаціну патэлефанаваў старшыня беларускага КДБ Шыркоўскі, які папрасіў перад рассакрэчваннем улічыць меркаванне беларускага боку — большую частку агентурнай справы складаюць мінскія матэрыялы. Бакацін выслухаў — просьба выглядала лагічнай — і пагадзіўся.

У канцы лістапада «Агентурная справа № 34451» вярнулася ў Мінск.

У снежні сканаў Савецкі Саюз і Бакацін застаўся без працы і зваротнага адрасу.

Пасылку распакавалі, перайменавалі ў «Архіўную справу № 266», зрабілі надпіс «Без дазволу начальніка аддзела не выдаваць» і замкнулі ў асобным сейфе.

Палятала і хопіць.

## Station Шушкевіч і шапка з вушамі

Гісторыя і час зусім не лінейныя рэчы і нават не рэчы зусім, таму тое, што выглядае, як забяганне наперад, насамрэч не забяганне (бо й пераду асаблівага няма), а найкарацейшы шлях у выгнутай прасторы, мост ці падземны пераход, прахадны двор, якія адразу выводзяць у іншае месца маршруту.

У інтэрв'ю Мэйлер так узгадваў перамену адрасу «справы Освальда»:

**— Затым Беларусь аддзялілася ад Расеі, і Шылеру давялося ехаць у Мінск і пачынаць усё спачатку. Ён звязаўся з КДБ, ціснуў на прэзідэнта — як было яго імя, Шушкевіч?**
**— Шушкевіч.**
**— І яму ўдалося пераканаць Шушкевіча і яго людзей, што гэта добрая ідэя, што добра, калі вядомы амерыканскі пісьменнік зробіць кнігу, якая прыцягне ўвагу да Беларусі. Усе перамовы вёў Шылер, ён прадаваў ідэю, і ён цудоўны гандляр. І ён пераканаў іх, што гэта добрая ідэя. І КДБ у гэты момант пагадзіўся.**
**— Якое Ваша ўражанне ад Станіслава Шушкевіча?**
**— Мне падалося, што гэта добры чалавек. Мне падалося, што крыху запозна прыйшоў у палітыку. Я не ведаю, што адбылося пасля нашага ад'езду, але тады ў мяне было вельмі добрае ўражанне.**

У сваю чаргу, Станіслаў Шушкевіч так успамінаў пра сустрэчу:

**— Калі да мяне звярнуўся чалавек і калі я даведаўся, што ён аўтар рамана «Голыя і мёртвыя», што гэта вядомы Мэйлер, я сказаў, што з задавальненнем з ім сустрэнуся. Калі ён сказаў, што хоча пазнаёміцца са справай Лі Харві Освальда ў беларускім КДБ, я затэлефанаваў старшыні КДБ, ён сказаў, што вывучыць гэтае пытанне і дасць адказ, і пасля таго ён сказаў — калі ласка, калі хоча азнаёміцца — няхай знаёміцца.**

Шушкевіч агаломшыў суразмоўцу расказам пра шапку Освальда — аказалася, ён асабіста ведаў амерыканца, і такая дэталь!

Шапку Освальд купіў яшчэ ў Маскве, дзе ў снежні тэмпература апускалася ніжэй за —20°С. Адзіны галаўны ўбор, што тады ляжаў на прылаўках, які можна было набыць без чаргі і знаёмстваў, была вушанка. І не проста вушанка, а самая простая з іх — салдацкая, з шэрага сукна і шэрай штучнай футры, з матузкамі. Гэта статусны галаўны ўбор, які, хто б яго ні надзеў, адразу ператварае генерала ў радавога, абаронцу айчыны ў салдата Чонкіна, замежніка ў асобу без грамадзянства.

Першае, што Шушкевіч успамінаў пра Освальда ў размовах з Мэйлерам і з іншымі, заўсёды была гэтая салдацкая шапка.

— Ён пачуваўся ў ёй вельмі камфортна, як джэнтэльмэн!

У выніку Шушкевіч патрапіў у кнігу Мэйлера і стаў вядомы многім амерыканцам — але не ў якасці дзеяча, датычнага да ўнікальнай у гісторыі чалавецтва падзеі — мірнага распаду імперыі, а ў ролі настаўніка ра-

сейскай мовы. Мэйлер нічога не напісаў пра асабістую гісторыю «члена сям'і здрадніка радзімы» Станіслава Шушкевіча, як рабіў гэта з іншымі сваімі суразмоўцамі.*

Няма нічога горшага за здраду радзіме — так праз тры дзесяцігоддзі пасля ўрокаў расейскай мовы Шушкевіч патлумачыў амерыканскаму пісьменніку, чаму ён не ўпадабаў Освальда.

Шушкевіч быў выхаваны ў старых традыцыях — так патлумачыў Мэйлер сваім чытачам словы Шушкевіча.

Шапка як на джэнтэльмэне — крыху дзіўны камплімент, звычайна так кажуць пра капялюш, але гэта быў самы пазітыўны водгук, які Шушкевіч даў пра вучня пры сустрэчы з Мэйлерам.

Освальд Шушкевіча ў сваім дзённіку не згадвае.

Але ў нататніку яго імя ёсць.

## Першыя дні «расейскага рабочага»

Загадам № 6 ад 12 студзеня 1960 года Лі Харві Освальд быў прыняты на працу рэгуліроўшчыкам 1-га разраду ў эксперыментальны цэх Мінскага радыёзавода.

Генерал «Ігар» патлумачыў Мэйлеру, што:

а) КДБ не займаўся працаўладкаваннем Освальда,

б) не падбіраў яму кватэру,

в) гэта была прэрагатыва Савета міністраў,

г) з органамі нават не кансультаваліся.

Мэйлер паўтарае гэтыя словы без каментароў.**

Падрабязнасці першага працоўнага дня зафіксаваныя КДБ.

**Рапарт вонкавага назірання КДБ**
**13.01.60**
**Ад 08:00 да 24:00**

---

* Бацька Шушкевіча, беларускі паэт, правёў 14 гадоў у ГУЛАГу за «прыналежнасць да контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі».

** Тлумачэнню «Ігара», верагодна, можна даць веры. Калі б з КДБ у Мінску кансультаваліся, ніхто б не пасяліў амерыканца, якога падазраюць у сувязях з ЦРУ, побач з трыма рэжымнымі аб'ектамі з кругласутачнай аховай: у двары тэлецэнтру, побач з радыёкамітэтам і з відам на штаб вайсковай акругі.



**У 8:00 было ўсталяванае назіранне за прахадной на радыёзаводзе, дзе цяпер працуе Лі Харві.**
**У 16:25 Лі Харві выйшаў з радыёзавода і пайшоў уніз па Чырвонай і вуліцы Захарава да тралейбуснага прыпынку, там сеў на тралейбус № 2 і, не ўступаючы ні з кім у размовы, даехаў да прыпынку «Вуліца Валадарскага», выйшаў з тралейбуса і пайшоў у гатэль. Было 17:00, калі ён увайшоў у гатэль. Пайшоў адразу ў свой пакой.**
**У 21:55 Лі Харві пакінуў свой пакой у гатэлі і спусціўся ў рэстаран, дзе сеў за вольны столік, замовіў у афіцыянткі ежу, павячэраў, затым расплаціўся і вярнуўся ў пакой у 22:25.**
**З пакоя не выходзіў. У 24:00 назіранне было спыненае да наступнай раніцы.**

За Освальдам пільнавала некалькі груп супрацоўнікаў КДБ, якія, як выглядае, не павінны былі ведаць адна пра адну. Усе рапарты траплялі да «Сцяпана», які рабіў рэгулярныя справаздачы «Ігару», а той інфармаваў напрасткі Маскву. Старшыня КДБ генерал Васіль Пятроў таксама ведаў пра аперацыю. Ад Лубянкі Освальда аддзялялі толькі тры іерархічныя прыступкі.

**Дзённік ЛХО**
**13-16 студзеня 1960**

**Працую «кантралёрам», слесарам, зарплата: 700 рублёў у месяц. Праца вельмі лёгкая. Хутка вучу расейскую мову. Усе вельмі прыязныя і добрыя. Сустракаю шмат маладых расейскіх рабочых майго ўзросту, у кожнага свой характар, усе хочуць пра мяне ведаць, нават прапануюць правесці сход, каб я пра сябе расказаў. Ветліва адмаўляюся.**
**Вечарамі з Розай хаджу ў тэатр, кіно ці оперу амаль штодня. Жыву на шырокую нагу і вельмі задаволены. Атрымліваю «дапамогу» ад Чырвонага Крыжа, 5 дня кожнага месяца. Гэта 700 рублёў. Цалкам у месяц у мяне выходзіць 1400. Амаль як у дырэктара завода!**

1400 рублёў — гэта «старымі», да рэформы 1961 года, якая адняла адзін нуль. Афіцыйна сярэдняя зарплата ў СССР складала 783 рублі.*

Што можна было купіць за гэтыя грошы? Свой досвед жыцця і працы ў СССР Освальд выкладзе ў рукапісе, які назаве «Калектыў — жыцьцё расейскага рабочага». Аўтар не абмяжуецца назіраннямі за заводскай прахадной. Падчас шпацыраў па Мінску Освальд не толькі заходзіў у ГУМ, каб купіць электравілку, але і для вывучэння прапановы, попыту і коштаў (у новых рублях), якія акуратна запісваў.

Кавалак пра ГУМ атрымаўся насычаны:

**Тут можна купіць усё, што прадаецца ў малых спецыялізаваных крамах, запісацца на халадзільнік, пыласос, нават машыну (нічога з гэтага нельга купіць адразу). Чарга на халадзільнікі (112 мільёнаў прададзена з 1952 па 1958 год) — тры месяцы, столькі ж на пыласосы. На аўтамашыны чарга ад шасці месяцаў да года, у залежнасці ад таго, на якую з трох мадэляў унесены задатак. «Масквіч» каштуе 2 500 рублёў, лічыцца найлепшым, і таму яго чакаць трэба амаль год; аднак «Пабеда» і «Волга» крыху таннейшыя, і іх можна дачакацца праз шэсць-сем месяцаў.**

Тут Освальд наблытаў: «Масквіч» каштаваў 2500 рублёў, «Волга» —

* Мэйлеру ў КДБ паведамілі, што месячная зарплата куратара Освальда «Сцяпана» складала тады 80 рублёў (новымі). Падманулі. Касцюкоў меў званне капітана, займаў пасаду старэйшага оперработніка, атрымліваў надбаўку за выслугу гадоў. Выходзіла ўдвая больш.

4000. (Абедзве антыкварныя маркі 1960 года выпуску можна купіць і праз паўстагоддзя, але розніца ў кошце ўжо трыццаціразовая — на карысць «Волгі».)

**Машыны тут купляюць збольшага пад замову. Мадэлі не надта ўражваюць. «Масквіч» выглядае як скрынка на колах, а «Волга» — як «Студэбекер» 1938 года, паводле якога, дарэчы, яна і зробленая, «даваенная дапамога Амерыкі».**
**Матацыклы і тэлевізары, аднак, можна набыць адразу за гатоўку. Добры, з магутным рухавіком матацыкл каштуе 350 рублёў, і іх якасць лепшая, чым у больш складаных аўтамабіляў. Тэлевізар каштуе ад 80 рублёў за экран памерам 6 на 6 цаляў, да 350 рублёў за добра зроблены апарат з экранам 22 цалі. Іншыя мадэлі, лёгкія настольныя, каштуюць 190 і 145 рублёў.**

Ні матацыкла, ні тэлевізара Освальд не купіў. Купляў кашулі, гальштукі, касцюм.

**Тут можна купіць гатовыя касцюмы, пашытыя з грубай тканіны. Больш танныя, двубортавыя блакітныя за 110 рублёў, альбо лепш пашытыя на трох гузіках за 250 рублёў. Пінжак каштуе 40 рублёў, і пара штаноў не менш за 15 рублёў. Таксама звычайна прадаюцца і танныя пінжакі, па 30 рублёў.**

Освальд не згадвае ў гэтых запісах самую важную і самую даўгую чаргу па тое, што выдавалася бясплатна — жыллё.

## Кватэра для кавалера

Праз два тыдні пасля з'яўлення амерыканца на радыёзаводзе газета «Звязда» апублікавала дзіўны ліст рабочага гэтага самага завода.

Пад крыху гуллівым загалоўкам «А як жа халасцяку?» нехта М. Дзмітрыенка скардзіцца на дыскрымінацыю па сямейнай прыкмеце — ён жыве ў інтэрнаце, не жанаты, а такіх не ставяць на чаргу на атрыманне кватэры. Ён называе прозвішчы розных заводскіх і прафсаюзных начальнікаў, якія са смехам раяць яму знайсці дзяўчыну з кватэрай, ці спачатку пабрацца шлюбам і нарадзіць дзіцё, а потым запісвацца ў чаргу,




і паведамляе — яму не да жартаў, бо да стварэння сям'і трэба ставіцца ўдумліва.

Дзіўным гэты ліст быў толькі з адной прычыны — што яго апублікавалі, бо такіх, як Дзмітрыенка, былі дзясяткі тысячаў. Газета нават атрымае тлумачэнні дырэктара завода «тав. Юдзялевіча» (у адрозненне ад аўтара ліста — рабочага, ініцыялы дырэктара не называюцца) — але не надрукуе цалкам, а толькі пакпіць і назаве іх незразумелымі.

Ніводзін з трох удзельнікаў гэтай міні-эпісталярнай бойкі на газетных старонках не шчыры: кавалер ведае, што па кутах туляцца нават інваліды вайны, шматдзетныя сем'і, і робіць акцэнт на разважнае, сур'ёзнае стаўленне да сям'і.

Дырэктар ведае, што інструкцыя нічога не забараняе, але лічыць патрабаванні рабочага «незразумелымі», бо той забяспечаны інтэрнатам.

А газета дэманструе прынцыповасць, ні словам не згадаўшы саму

праблему — развіццё цяжкай індустрыі і вайскова-касмічнага комплексу за кошт сацыяльных капіталаўкладанняў.

Усё адбываецца як у анекдоце Мэйлера пра садыста і мазахіста, толькі ніхто не задаволены.*

**Дзённік ЛХО**
**16 сакавіка 1960**

**Атрымліваю невялікую кватэру. Адзін пакой, кухня, ванны пакой, недалёка ад завода (8 хвілін пешкі) з цудоўным выглядам з 2-х балконаў, амаль бясплатна (60 рублёў за месяц). Гэта мара расейцаў.**

Пра кватэру на беразе рэчкі ў цэнтры горада на аднаго за менш чым 5% месячнага заробку 20-гадовыя рабочыя маглі з аднолькавым поспехам марыць і ў Нью Арлеане, і ў Маскве.

Больш рэалістычным не толькі для Амерыкі, але і для СССР выглядаў свой аўтамабіль. Для Освальда — «Запарожац», які пачалі выпускаць у 1960-м, і каштаваў ён 16 000 рублёў. Да свайго ад'езду з Мінска ў чэрвені 1962-га Освальд рэальна мог бы сабраць на машыну і стаць першым амерыканцам — уладальнікам гарбатага «Запарожца».

І потым перавезці яго ў Амерыку, і ездзіць на працу, і ў адзін лістападаўскі дзень ён заглух бы па дарозе, і замест складу падручнікаў кіроўца мусіў бы патрапіць у аўтамайстэрню і там доўга расказваць шакаваным механікам, адкуль такі цуд узяўся, чаму замест матора наперадзе багажнік, і навошта там карабін і пачак патронаў.

Освальд у Мінску машыну не купіў.

Ён увогуле не меў правоў і не ўмеў вадзіць.

Але стрэльбу — купіў.

## 76 прыступак уверх і ўніз

Дом на вуліцы Калініна, 4** будавалі яшчэ палонныя немцы. Капітальныя сцены клалі з цэглы, а перагародкі ў кватэрах рабілі з дрэва, запаўнялі скрыжаваныя дранкі азбестам, тынкавалі і клеілі шпалеры. Ліфта няма, да пляцоўкі чацвёртага паверха трэба адолець 76 прыступак.

---

* Анекдот будзе расказаны на ст. 582.

** Цяпер Камуністычная, 4

Падлога паркетная, з невялікай вітальні адны дзверы вялі ў кладоўку, другія на кухню, справа дзверы ў ванны пакой, дзе разам з велізарнай чыгуннай эмаляванай ваннай (давялося дадаткова рабіць прарэз у вушаку, каб яна стала) быў туалет — белы стульчак, ад якога адыходзіла чыгунная труба да зліўнога, таксама чыгуннага бачка на вышыні двух метраў. Пацягнеш за ланцужок — і рынецца ўніз вада, змываючы парваныя на дробныя кавалкі шыфроўкі, сакрэтныя дакументы, схемы аэрадромаў...

Нічога такога Освальд не змываў, бо не меў. Але чыгунныя трубы і прылады засталіся без зменаў і працягваюць служыць новаму гаспадару кватэры, які ходзіць па тым самым паркеце, глядзіць у тыя самыя вокны і ахвотна фатаграфуецца з журналістамі на балконе ў той самай позе, як некалі Марына і Освальд: спінай да сценкі, крыху заціснутыя,муж глядзіць на рэчку, жонка ў аб'ектыў.

Калі Эдуард Кадыравіч Сагындыкаў купляў кватэру ў 1990-х, ён нічога не ведаў пра знакамітага жыхара. Папярэдняя гаспадыня сказала, толькі калі былі аформленыя і падпісаныя ўсе паперы. Цяпер у сп. Эдуарда ў камп'ютары маса інфармацыі пра Освальда, інтэрв'ю, гістарычныя фотаздымкі, газетныя публікацыі.

Сагындыкаў сёе-тое перарабіў у кватэры — паставіў новыя вокны, змяніў груваcткую чыгунную батарэю на эфектыўную сучасную і прарэзаў сценку з пакоя ў кухню, каб кожнага разу не хадзіць кругам праз калідор. Шырыня ўнутранай сценкі — 12 сантыметраў, дранка, дрэва, пустоты — менавіта праз такую сценку вялі назіранне супрацоўнікі КДБ. Рэч у тым, што першапачаткова кватэра планавалася як большая, але потым з яе зрабілі дзве — і іх раздзяляе якраз такая несур'ёзная перагародка. Калі Сагындыкаў засынае і забывае выключыць тэлевізар, суседзі скардзяцца — усё чуваць.

Дом на беразе рэчкі быў адным з самых зайздросных у Мінску: у самым цэнтры, да плошчы Перамогі адна хвіліна праз двор, восем хвілін да заводскай прахадной, вокны на парк і на Свіслач, чыё вадзяное люстэрка выглядала тут як возера, з падвойнага балкона, больш падобнага да тэрасы, відаць было парк Горкага, Дом афіцэраў, будынак ЦК партыі злева, далей дзве вежы праваслаўнага сабора, тэатр оперы і балета і класічны франтон штаба Беларускай вайсковай акругі.

Проста пад вокнамі, крыху лявей, драўляны дом-музей 1-га з'езду РСДРП. Освальд не пакінуў сведчанняў, ці быў у музэі. Было б дзіўна, калі б не адведаў — малады марксіст мусіў прычасціцца такой гістарыч-



най святыні, з якой усё пачалося. І не мог не падумаць пра сымбалічнае значэнне месца — можа, і яму наканавана пакінуць свой след у гісторыі. Калі пазней вуліцу Калініна перайменавалі ў Камуністычную, гэта магло стаць яшчэ адным знакам.

Сагандыкаў у музеі бываў, тым больш што да пераезду жыў побач, насупраць праз праспект, з боку парку Горкага. Жонка памерла, дзеці выраслі і раз'ехаліся, і ён перабраўся ў меншую кватэру. Калі некаму заманецца напісаць для сцэны гісторыю жыхароў кватэры, напрыклад, зрабіць м'юзікл, праблемы з выкананнем ролі цяперашняга гаспадара будуць большыя, чым з роляй Освальда.

Спачатку пытанне мовы — казах паводле пашпарта, Сагындыкаў разумее ідыш, на якім гаварылі ў Мінску да вайны, працаваў на беларускім тэлебачанні і можа гаварыць па-беларуску, але па-казахску не ведае ані слова.

Яго дзед, заможны мінскі габрэй-гандляр Онэфатэр, паглядзеў на паслярэвалюцыйны вэрхал і прыняў адзіна правільнае рашэнне —

з'ехаць у Амерыку. Але чатыры дочкі-марксісткі цвёрда верылі ў ідэалы новага свету і засталіся яго будаваць. Адна з іх паехала на вучобу ў Маскву ў камуністычны ўніверсітэт імя Свярдлова, пазнаёмілася там з нацыянальным кадрам з Казахстана, як называлі прадстаўнікоў савецкіх рэспублік, і паехала з ім у Петрапаўлаўск, куды яго прызначылі сакратаром абкама партыі. Пасля нараджэння сына бацьку неўзабаве арыштавалі і расстралялі, маці як жонку ворага народа саслалі ў ГУЛАГ, а малога аддалі ў дзіцячы дом. Там яго пазней знайшла цётка, забрала і выхоўвала як сына — да 10 гадоў ён нічога не ведаў пра сваю гісторыю. Праз пару гадоў пасля вайны аднойчы ён вярнуўся са школы дадому і пабачыў дзвюх маці — сёстры былі блізнятамі. Ну і гэтак далей.

Мэйлер аж трэсся ад такіх гісторыяў і ўключаў у кнігу ўсё, што патрапляла пад руку, якое б далёкае дачыненне ні мелі жыццёвыя перыпетыі яго суразмоўцаў да цэнтральнай тэмы кнігі. Гэтай гісторыі ў кнізе няма не толькі таму, што інтэрнацыянальны гаспадар засяліўся ў дом на Камуністычнай ужо пасля выхаду кнігі.

За паўгода ў Мінску Мэйлер ні разу не быў у кватэры Освальда.

## Освальд і яго імёны

Самае першае імя Освальда ў Мінску — «Алёша». Менавіта так пачынаюць называць яго дзяўчаты-перакладчыцы Інтурыста ў гатэлі «Мінск». Першая рэакцыя Мэйлера на гэта — канечне, паводле Дастаеўскага, як аднаго з братоў Карамазавых?..

У адказ перакладчыца расказвае пісьменніку гісторыю пра песню і балгарскі помнік савецкім воінам-вызваліцелям у Плоўдзіве, названы так пяшчотна ў гонар салдата-сувязіста.*

На мінскім радыёзаводзе Освальда называюць «Алік» — ён адгукаецца на гэтае імя, і так яго большасць знаёмых і запомніла на многія дзесяцігоддзі.

Жонка называе яго яшчэ й «Алька».

Сам Освальд па-расейску часцей за ўсё падпісваецца «Алек».

---

* Гэтае тлумачэнне — тыповая кантамінацыя, накладанне пазнейшых падзеяў на папярэднія, як нярэдка здараецца пры гістарычных рэканструкцыях. Папулярная песня, якая звязала помнік і імя, была напісаная толькі ў 1968 годзе.

Адзін выпускнік політэхнічнага інстытуту, куды Освальд заходзіў са сваім заводскім сябрам, таксама студэнтам-завочнікам Паўлам Галавачовым, згадвае ў сваіх успамінах, што студэнты паміж сабой называлі яго па-расейску «Лихарь», «Лихаря» і нават «Харя».

У рапартах КДБ Освальда называюць «Лі Харві». Можа і пачціва, але малапісьменна, бо гэта толькі імя і другое імя, нават не імя па бацьку. Неўзабаве яму прысвойваецца мянушка «Ліхі» — тут ужо адчуваецца фанетычны густ.

Затым яна мяняецца на «Налім». Чаму — можна толькі здагадвацца. Магчыма, звычайнае бюракратычнае суперніцтва розных управаў і аддзелаў, адсутнасць каардынацыі, можа, вынік рэжыму сакрэтнасці, калі кожны супрацоўнік ці група працуюць аўтаномна і не ведаюць, што робяць калегі. Дзве мянушкі некаторы час ужываюцца адначасна.

Таксама ўжываюцца абрэвіятуры: «ОЛХ» — да ліпеня 1961-га, пасля — «ЛХО», і зрэдку — «Л».

У канцы 1961 году амерыканца ў рапартах КДБ прадстаўляюць як савецкага грамадзяніна — «Освальд Л.Х.», у заводскай характарыстыцы — «Л.Х. Освальд».

Пасведчанне таварыства паляўнічых і рыбаловаў выпісана на імя «Аляксей Харвей Освальд». Поўны варыянт «Освальд Лі Харвеевіч» не сустракаецца.

У адным заводскім дакуменце напісана «Прозвішча — Освальд, Імя — Лі Харвей». Гэта — найбольш карэктны варыянт, ён ужываецца ў матэрыялах Чырвонага крыжа БССР, дзе Освальд стаяў на ўліку як “палітэмігрант”. *

Этымалагічныя слоўнікі тлумачаць значэнне прозвішча як «боскую сілу, кіраванне Бога» — таму ў адной з амерыканскіх канспіралагічных тэорый Освальда звязваюць з імем чараўніка з Озу, які кіруе Смарагдавым горадам і знаходзіцца ў акультнай сувязі з ідэяй спынення жыцця. А прозвішча Рубі, забойцы Освальда — з рубінавымі чаравічкамі гераіні казкі Элі.

Страшна ўявіць, што будзе, калі аматары анамастыкі ўведаюць імя першай мінскай перакладчыцы Освальда — яе звалі Сталінай (пасля смерці «бацькі народаў» яна ператварылася ў Стэліну).

Яшчэ страшней уявіць, што было б, калі б Освальд застаўся ў Бела-

* У 1960 годзе ў Беларусі мелі статус палітэмігранта, апроч Освальда, яшчэ 22 чалавекі — усе гішпанцы.

русі і прыйшоў атрымліваць мясцовы пашпарт: Леў Георгіевіч Асвальдковіч.*

Дарэчы, прозвішча аўтара класічнага «Этымалагічнага слоўніка ангельскай мовы» — таксама Освальд, толькі Джон.

## Першая памылка КДБ

Бацька Паўла Галавачова быў лётчыкам і двойчы Героем Савецкага Саюза, маці — хатняй гаспадыняй, якая суправаджала мужа па шматлікіх месцах службы, а сын — выключаным з камсамолу разгільдзяем, якога бацькі паслалі ў Мінск, дзе ў іх была кватэра, зарабляць вытворчую характарыстыку для вучобы ў інстытуце.

**Дзённік ЛХО**
**17 сакавіка — 31 красавіка 1960**

**Працую. Страціў сувязь з Розай пасля пераезду ў кватэру. Я знаёмлюся з Паўлам Галавачовым. Малады чалавек майго ўзросту, прыязны, вельмі разумны, выдатны радыётэхнік. Яго бацька генерал Галавачоў двойчы герой, камандуючы ў Паўночна-Заходняй Сібіры.**

Працоўнае месца Галавачова было за пяць метраў ад амерыканца. Калі сакратар парткама Лібезін спытаўся, хто на ўчастку ведае ангельскую, аказалася, што ўсе навокал вучылі нямецкую, адзін Павел крыху ведаў ангельскую.

— Будзеш дапамагаць, — сказаў партсакратар.

Рэч была ў тым, што ўжо ў першы дзень на заводзе Освальд ледзь не

* Апошні тэлефонны званок у сваім жыцці прэзідэнт Кенэдзі зрабіў з гатэля ў тэхаскім гарадку Форт Ворт, дзе яны з жонкаю правялі ноч перад Даласам (і дзе пахаваюць Освальда). Кенэдзі захацеў падзякаваць людзям, якія спецыяльна ўпрыгожвалі іх нумар кветкамі, вазамі, карцінамі з мясцовага музея. На століку ляжаў буклет, і Кенэдзі папрасіў злучыць яго з дамай, чыё прозвішча значылася першым, пазваніў, падзякаваў ашаломленай прэзідэнцкім званком актывістцы. Яе прозвішча было Джэй Лі Джонсан — свята анамастыкі. Джэй — так пачынаецца імя дырэктара ФБР Гувера, адказнага за агульную бяспеку (ФБР шчыльна цікавілася Освальдам, але ў лістападзе 1963 ніякіх дадатковых заходаў да яго не ўжывалі). Лі — імя Освальда, а Джонсан — прозвішча віцэ-прэзідэнта, які стаў прэзідэнтам пасля забойства. І гэта не ўсё — дзявочае прозвішча дамы было Картэр — так будуць зваць наступнага пасля Джонсана прэзідэнта ад Дэмакратычнай партыі.

пабіўся з рабочым: той абурыўся, калі нехта, пакуль ён выйшаў з цыгарэтай, разабраў падрыхтаваны ім прэс. Той рабочы таксама толькі пачаў працу на заводзе і не ведаў, каго ўзяў за грудкі. Сакратар парткама потым прымусіў яго прасіць прабачэння. Освальд не мог патлумачыцца, патрабавалася штодзённая дапамога на месцы, тут пад руку падвярнуўся малады хлопец з ангельскай. Назаўтра са слоўнікам у кішэні ён пачаў знаёміцца з амерыканцам.

Галавачоў узяў пачак запалак і выпусціў з рукі: так Освальд навучыўся першаму слову — упаў, падаць.

Аднойчы падчас доўгага інтэрв'ю з Мэйлерам начальнік управы КДБ «Ігар» прызнаўся, што і яны рабілі памылкі — ніхто не дасканалы. І адна з іх — дапусцілі знаёмства і сяброўства 18-гадовага юнака — генеральскага сына з амерыканцам.

А памылкі трэба выпраўляць. Ужо праз два тыдні пасля першай сустрэчы з Освальдам па дарозе дадому Паўла спыніў незнаёмы чалавек, паказаў пасведчанне КДБ і прапанаваў пагаварыць. Стаяў мароз, Павел мёрз і запрасіў «Сцяпана» зайсці ў кватэру (паблізу плошчы Перамогі). Оперработнік паказваў адзін за адным пяць фотаздымкаў і пытаўся — ведаеш? Павел нікога не пазнаў і спытаўся сам, хто гэтыя людзі. У адказ прагучала — дзяржаўныя злачынцы. Затым «Сцяпан» дастаў фота Освальда і патлумачыў Галавачову, што цяпер яго патрыятычны доўг дапамагчы радзіме.

Ніякага асаблівага доўгу перад радзімай Галавачоў не адчуваў, але, як ён патлумачыў Мэйлеру праз тры дзесяцігоддзі, існаваў вельмі моцны заменнік гэтага пачуцця.

Страх.

**Рапарт КДБ**
**18.02.60**

**Шляхам асабістага назірання і ў размовах «Л» не заўважыў падазроных праяваў у паводзінах Освальда. Ён не надта цікавіўся працай і нярэдка рабіў заўвагі кшталту: «Чаму я мушу пілаваць гэты метал гэтай пілкай, я ж не збіраюся ў інжынеры. Мая сапраўдная мара — вывучыць замежныя мовы, і вывучыць добра». (Ён не ўдакладніў, якія менавіта.) У размовах стрыманы, адказвае на пытанні коратка, упэўнена.**

**Аднойчы, паводле «Л», яны чыталі прамову прэзідэнта Эйзен-**

**гаўэра ў «Правде». У гэтай прамове Эйзенгаўэр спрабаваў паказаць тэхнічную адсталасць Савецкага Саюза ў параўнанні са Злучанымі Штатамі. Освальд адказаў, што Эйзенгаўэр хлусіць, СССР не менш тэхнічна развітая краіна, чым ЗША.**
**Освальд амаль ніколі не расказвае пра жыццё ў сваёй краіне, альбо як ён патрапіў сюды. Часам, у абед, ён абмяняецца двума-трыма словамі з маладымі людзьмі, дзяўчатамі і хлопцамі, і параўнае жыццё ў СССР і ЗША. Але ў такіх выпадках ён таксама выказваецца станоўча пра стан рабочых у СССР.**

Насамрэч пасьля тыдня працы на заводзе Освальд заўважыў і адчуў нешта зусім іншае.

**Дзённік ЛХО**
**16 студзеня 1960**

**Мне не падабаецца: партрэт Леніна, які глядзіць са свайго ганаровага месца, і фіззарадка з 11:00 да 11:10 штораніцы (абавязкова). Для ўсіх. (Цені Г. Уэлса!!!).**

Мэйлер не піша, хто такі «Л» — бо не ведае. Хто заўгодна мог быць.

Пасля званка Шушкевіча ў КДБ Мэйлеру пачалі дапамагаць, але адразу папярэдзілі пра абмежаванні:

**Старшыня КДБ Шыркоўскі сказаў аднойчы, і ён ухмыляўся, калі гаварыў гэта: зразумела, мы не можам даць вам імёны нашых крыніц.**

Мэйлер патлумачыў ухмылку — Шыркоўскі таксама сказаў яму:

**Але калі крыху папрацуеце, паходзіце вакол, вы зразумееце, хто яны. І мы сапраўды ўведалі.**

— Калі вам давалі дакументы — гэта былі поўныя тэксты ці некаторыя часткі былі закрытыя?

**— Яны былі вельмі асцярожныя. Яны не хацелі ніякім чынам пашкодзіць сабе тым, што нам давалі. Як я сказаў, частку больш цікавых матэрыялаў мы атрымалі з задняга ходу, але я сапраўды не магу пра гэта расказваць.**

— Яны заўсёды дапамагалі вам матэрыяламі?

**— У прынцыпе, так. Праз месяц ці два сутнасць пазіцыі КДБ была — так, мы далі абяцанне. Гэта было дурацкае абяцанне. І цяпер, калі даводзіцца яго выконваць, гэта сапраўды галаўны боль. І як, каб на іх халера, выканаць гэтае абяцанне? Давайце дамо ім мінімум таго, што можна даць.**

— Ці быў нейкі важны матэрыял, які вы прасілі, але не атрымалі?

**— Галоўнае, чаго мы не атрымалі — імёны крыніцаў.**

Іх магло быць колькі заўгодна — просьба органаў сачыць за амерыканцам не выглядала незаконнай ці маральна сумнеўнай. Наадварот — патрыятычнай. Ні сваяк, ні зямляк, ні сябар, як з неба зваліўся — чужы, з варожай імперыі. І нават пасведчанне не трэба было паказваць — самі прыйдуць і раскажуць. Аднак каштоўнасць інфарматара ўзрастала па меры яго набліжанасці да аб'екта, таму менавіта блізкае кола мусіла цікавіць ў першую чаргу.

Як пісаў у газеце «Звязда» ў год прыезду Освальда ў Мінск старшыня КДБ генерал Пятроў:

**Цесная сувязь органаў бяспекі з народам — непарушная традыцыя савецкага грамадства, якая няспынна ўзбагачаецца і развіваецца.**

Хаця што там ужо было ўзбагачаць і развіваць у гэтай традыцыі пасля папярэдніх дзесяцігоддзяў?..

Перабольшваў генерал. Але не пераменшваў.*

---

* Газета «Известия» ў 1992-м ацэньвала колькасць людзей КДБ вакол Освальда ў Мінску на два дзясяткі чалавек. «Сцяпан» казаў Мэйлеру, што сачэнне не каштавала зашмат — кола сяброў Освальда было невялікім, не мянялася рэзка, не ўяўляла асаблівых складанасцяў.

## Карацейшы ў 38,6 раза

Гэты кароткі раздзел можна прапусціць і не чытаць, настолькі ён неабавязковы, неістотны, бескарысны для тых, каго цікавіць гісторыя амерыканскага перабежчыка.

Але калі ў папярэднім сказе паставіць кропку на два словы раней, дык чаму й не прабегчы вокам?

У студзені 1960-га, калі Освальд адчуў сябе ніякавата пад прыжмураным позіркам партрэта на сцяне, яму магло здацца, што нябожчык уваскрэс — калі б амерыканец чытаў мясцовы друк.

За першы месяц года ў рэспубліканскіх часопісах і газетах было апублікавана 733 артыкулы, якія кніжная палата БССР палічыла вартымі згадкі ў «Летапісе друку».

«Топ-20» студзеня 1960-га — толькі загалоўкі (на мове арыгіналу) — выглядаў так:

**1. В.И. Ленин о двух концепциях развития**
**2. Каштоўны ўклад у марксісцкую літаратуру**
**3. У.І Ленін аб перамозе камуністычнай працы**
**4. Ленинская идея соревнования — источник трудовых побед**
**5. Ленінскае адзінства партыі і сучасны рэвізіянізм**
**6. Як працаваў Уладзімір Ільіч**
**7. Встреча**
**8. У гуртку, якім кіраваў Ільіч**
**9. Бесконечно дорогое имя**
**10. Як Уладзімір Ільіч пісаў Дэкрэт аб зямлі**
**11. Вечна жывы**
**12. Ленін на трыбуне**
**13. Вялікі друг працоўнага сялянства**
**14. Любімы Ільіч**
**15. Как работал Владимир Ильич**
**16. Рысы генія**
**17. З глыбінь сэрцаў народных**
**18. «Вось гэта чалавек!»**
**19. Ленин и теперь живее всех живых, наше знанье, сила и оружие**
**20. Мои последние встречи с Ильичем**

Гэты кароткі раздзел мог бы быць у 38,6 раза даўжэйшым, калі б рэдактар дазволіў надрукаваць увесь спіс за студзень. А Освальд наракае на партрэт...*

## Аргенцінскае танга на Чырвонай

Чым, апроч працы і вучобы, займаўся Освальд на заводзе першыя сто дзён, з кім яшчэ пасябраваў, як праводзіў вольны час, Мэйлер не піша — у кнізе няма цытатаў з матэрыялаў КДБ за гэты перыяд (нецікавыя? не далі?..), у «Гістарычным дзённіку» таксама ніводнага запісу.

Матылёк не пакінуў слядоў.

Гістарычнае святло ўключаецца 1 траўня 1960-га: хаця свята рабочай салідарнасці прыпала на нядзелю, адзначалі яго два дні — у панядзелак на працу было не трэба.

**Дзённік ЛХО**
**1 траўня 1960**

**Першага траўня стала маім першым святам, усе заводы і г.д. закрытыя. Пасля відовішчнага вайсковага параду дэманстрацыя рабочых перад трыбунай, са сцягамі і партрэтамі містэра Х. Паводле амерыканскай традыцыі адзначаю свята тым, што ўсю раніцу сплю.****

Змена на «Гарызонце» пачыналася рана, і жаданне 20-гадовага Освальда выспацца цалкам натуральнае.

**Рапарт назірання КДБ**
**01-02.05.60**
**ад 07:00 да 01:50**

**У 10:00 Лі Харві выйшаў з дома № 4 на вуліцы Калініна і пайшоў на**

---

* Дзеля справядлівасці — далей у спісе не толькі пра самага чалавечнага з усіх чалавекаў. Але і ў годзе не толькі адзін месяц...

** Пасля таго, як адзін амерыканскі чытач выказаў захапленне тым, як у 1960-я ў Мінску любілі аперэту, што аж насілі партрэты персанажаў «Прынцэсы цырка» на дэманстрацыі, я мушу пазначыць, што «Містэр Х.» Освальда — гэта не Містэр Ікс Імрэ Кальмана. Гэта «Першы сакратар ЦК КПСС, старшыня Савета Міністраў СССР Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў».



**плошчу Перамогі, дзе 25 хвілін назіраў за парадам. Затым пайшоў на вуліцу Калініна і гуляў уверх-уніз па ўзбярэжнай Свіслачы. Вярнуўся дадому ў 11:00.**
**Ад 11:00 да 12:00 некалькі разоў выходзіў на балкон свайго дома.**
**У 13:35 выйшаў з дома, сеў на тралейбус № 2 на плошчы Перамогі, даехаў да Цэнтральнай плошчы, выйшаў апошнім, пайшоў уніз па вуліцы Энгельса, Маркса, Леніна ў булачную на праспекце Сталіна.**
**Там купіў 200 грам ванільнага печыва, пайшоў у кафэ «Вясна», выпіў кубак кавы з печывам і пасняшаў у бок кінатэатра «Цэнтральны». ПерагляНУў афішу і купіў газету («Знамя юности»), яшчэ раз зайшоў у булачную, адразу выйшаў, сеў на тралейбус № 1, і даехаў да плошчы Перамогі, і быў дома ў 14:20.**
**У 16:50 выйшаў з дома і пайшоў на адрас Чырвоная, дом 14.**

У доме 14 жыла сям’я інжынера Аляксандра Зігера. Освальд пазнаёміўся з ім у свой першы дзень на заводзе і стаў частым госцем у доме.

Гэта быў незвычайны асяродак — у 1950-я хваля рэпатрыяцыі прынесла на радзіму многія тысячы сем'яў, якія пасля Другой сусветнай былі раскіданыя па свеце. Вырашыла вярнуцца і габрэйская сям'я Зігераў — «Дон Аляксандра», як звалі яго знаёмыя — з жонкай і дзвюма дочкамі. Зігеры прыехалі з Буэнас-Айрэса і прывезлі не толькі поўныя валізы рэчаў, але яшчэ й вялікі ложак і матрац, бо ведалі, што ў СССР ложкі маленькія. Іх дочкі шакавалі суседзяў, калі выйшлі на балкон загараць у бікіні. На вечарынах у Зігераў гучала музыка, была моладзь.

І там гаварылі адкрыта.

**Дзённік ЛХО. Працяг**

**Увечары іду на вечарынку з дочкамі Зігера, каля 40 чалавек, многія з Аргенціны. Мы танцуем, і забаўляемся, і п'ем да другой раніцы, пакуль вечарына не сканчаецца. Леанора Зігер, старэйшая дачка, 26 гадоў, афіцыйна разведзеная, таленавітая спявачка. Аніта Зігер, 20 гадоў, вельмі вясёлая, не такая прывабная, але мы ўпадабалі адно аднаго. Яе кавалер Альфрэд — вугорац, маўклівы і задуменны, непадобны да Аніты. Зігер раіць мне вяртацца ў ЗША. Гэта першая апазіцыйная думка, якую я пачуў. Я паважаю Зігера, ён бачыў свет. Ён гаворыць пра многія рэчы, пра якія ў СССР я не ведаю. Я пачынаю адчуваць сябе не надта, сапраўды!**

Кватэру Зігераў не падслухоўвалі.* Але тое, пра што там гаварылася, можна было ўведаць і іншым спосабам.

**Рапарт вонкавага назірання КДБ. Працяг**

**У 01:40 Лі Харві з іншымі мужчынамі і жанчынамі, сярод якіх былі дочкі Зігера, прыйшоў дадому. У гэты час назіранне было спыненае да раніцы.**

У доме аргенцінца ў Освальда пачаўся лёгкі раман з адной з сябровак Аніты, паштаркай Альбінай, як адзначыць Мэйлер — бландзінкай. Раман вялікага развіцця не атрымае, але менавіта яна ўвосені 1960-га пазнаёміць Освальда з адным з самых значных яго знаёмых у Мінску, сваім аднакласнікам Эрыкам Цітаўцом.

---

* «Цяжка паверыць!» — напісаў на палях рукапісу адзін скептычны чытач. Праверым, калі перад тым, як адкрыць, ня спаляць архівы КДБ...

Цітавец таксама будзе атрымліваць запросіны на вечарынкі да Зігераў. Але, як напіша Мэйлер, нядоўга. Пасля загадкавага выпадку — нехта паведаміў уладам пра не зусім легальнае падарожжа сваяка Зігера з Вільні, і потым былі непрыемнасці з міліцыяй — Аляксандр Зігер рэзка абмяжуе колькасць гасцей.

Забарона, натуральна, не будзе тычыцца Освальда.

Пачутую параду — вяртацца ў ЗША — Освальд ні з кім не абмяркоўваў.

Але запомніў.

## «Ідэот», не ідыёт

За Освальдам сачылі не толькі штатныя лепідаптэролагі з КДБ — яго знаёмыя таксама папаўнялі аператыўную справу, давалі справаздачы пра свае ўражанні ад амерыканца. Сустрэчы праводзіў «Сцяпан», які затым запісваў змест гутарак і акуратна падшываў.

Мэйлеру паказалі адзін такі дакумент, дзе ў якасці крыніцы выступала перакладчыца «Таня» з мінскага Інтурыста.

**Рапарт КДБ**
**08.07.1960**

**У выніку сустрэчаў крыніца ўсталявала добрыя адносіны з Лі Харві. Ён разглядае крыніцу як чалавека, з якім можна добра правесці час. Не праяўляў цікавасці да дэталяў біяграфіі, за выняткам узросту. Лі Харві цалкам задаволены сваёй кватэрай і наяўнымі зручнасцямі. Яна яшчэ не абстаўленая, але цалкам прыдатная для кавалера.**
**Калі крыніца была ў кватэры, Лі Харві задаў ёй пытанне: «Чаму ты не пытаешся пра мае ўражанні ад Савецкага Саюза?»**
**Крыніца адказала: «Я думаю, ты сам падзелішся са мной сваімі ўражаннямі». І затым быў адказ Лі Харві. Ён пачаў дзяліцца ўражаннямі. Яго расказ быў поўны энтузіязму да савецкай рэчаіснасці.**
**Заўважыўшы дзве пары чобатаў, якія ён набыў, крыніца спыталася са здзіўленнем: «Навошта табе чобаты?»**

**Ён адказаў: «Я люблю ўсё расейскае. Я хачу выглядаць як расеец». Гаворачы пра сваіх знаёмых, ён паказаў крыніцы некалькі фатаграфіяў, на якіх ён зняты ў кампаніі сяброў, аргенцінца і яго жонкі. Адначасна ён паінфармаваў крыніцу, што мае яшчэ аднаго сябра, расейца, які працуе на радыёзаводзе.**
**Агульнае развіццё Лі Харві, кола яго інтарэсаў падаюцца нашай крыніцы абмежаванымі. Ён дрэнна разбіраецца ў мастацтве, музыцы, жывапісе, нічога ўжо не кажучы пра марксісцка-ленінскую тэорыю. Ён імкнецца паступіць у Інстытут замежных моваў і збіраецца, у дадатак да ангельскай, самастойна вывучаць нямецкую.**

Што да чобатаў, крыніцы можна было даваць веры, а вось дыслексія Освальда збіла з тропу і крыніцу і, самае галоўнае, — КДБ. І на шмат гадоў наперад.

Освальд любіў класічную музыку і выдатна ў ёй разбіраўся — дома была вялікая калекцыя кружэлак, якія ён мог слухаць гадзінамі, а калі канцэрт перадавалі па радыё, ён лёгка ўгадваў кампазітара і твор.

Яго дзённік сапраўды поўны граматычных памылак.

Першая кніга па-расейску, якую ён атрымаў у падарунак пасля прыезду ад сваёй перакладчыцы з маскоўскага Інтурыста — раман Дастаеўскага «Ідыёт». У дзённіку ён напіша — «Ідэот». Але на чытанні дыслексія не адбіваецца.

Герберт Уэлс — гэты пісьменнік прыходзіць яму на памяць, калі ён піша ў дзённіку пра парадкі на заводзе (абавязковая фіззарадка, сходы) — рабочыя як здані з раманаў Герберта Уэлса. Верагодна, асацыяцыя са сцэнаў будучыні ў раманах «Машына часу» ці «Першыя людзі на Месяцы». Эрнэст Хэмінгуэй — урыўкі яго апавяданняў ён начытвае ў Мінску на магнітафон.

Калі двух папярэдніх пісьменнікаў «крыніца Таня» магла чытаць, дык наўрад ці яна і «Сцяпан» разгортвалі антыўтопію Джорджа Оруэла «1984». Гэты раман Освальд прачытаў яшчэ да паездкі ў СССР.

У сваіх нататках «Калектыў — жыццё расейскага рабочага» ён саркастычны ў апісанні савецкай літаратуры:

**Гісторыі пра любоў вельмі рэдкія і звычайна складаюцца з эпізодаў кшталту «хлопец любіць — трактар — дзяўчыну», альбо як Іван павялічыў прадукцыйнасць працы, каб спадабацца Наташы, брыгадзіру.**



Няблага зразумеў Освальд і савецкую выдавецкую палітыку што да замежных аўтараў:

**Некаторыя з гэтых аўтараў вельмі папулярныя і ў ЗША, але не з тых самых прычынаў. Джэк Лондан пісаў, як мы лічым, прыгодніцкія гісторыі, а расейцы думаюць, што гэта адлюстроўвае сёняшняе жыццё.**
**Эрнэст Хэмінгуэй напісаў «Стары і мора», глыбока кранальную гісторыю барацьбы чалавека з прыродай і морам, якую тут лічаць абвінавачаннем капіталістычнага грамадства, хаця Хэмінгуэй, у адрозненне ад Джэка Лондана, ніколі не быў сацыялістам.**
**У чалавека, які чытае дэтэктыўныя гісторыі замежных аўтараў, узнікаюць вельмі дэпрэсіўныя адчуванні, яго прыдушвае шэрасць і сум жыцця, якое там апісана.**

Освальд згадвае раманы нямецкага празаіка Леанарда Франка, ангельскага Уільяма Голдынга, класікаў амерыканскай і ангельскай літаратур. Хаця кола яго чытання ў Мінску зусім іншае.

Калі дзве студэнткі ін’яза, з якімі Освальд пазнаёміўся на канцэрце ў

філармоніі, упершыню прыйшлі ў яго кватэру, каб паглядзець ангельскія кнігі, яны хваляваліся — вось зараз пабачаць кнігі Хэмінгуэя, Фолкнера, магчыма, нешта забароненае, рэдкае.

На паліцы стаялі творы Маркса і Леніна па-ангельску.

**— І ты гэта чытаеш?!.**
**— Вельмі цікава, праўда?**
**— Мы ўсё гэта вывучалі па-расейску, навошта нам чытаць тое самае па-ангельску?**
**— Ну, я не чытаў, і мне вельмі цікава.**

«Ідэот», магчыма, так і застаўся неадоленым — але тэарэтыкаў камунізму ён чытаў.*

У сваім дзённіку Освальд не згадвае перакладчыцу «Таню», але піша пра перакладчыцу Розу Кузняцову, бландзінку, не замужам, працавала ў мінскім Інтурысце і не раз бывала ў гасцях у амерыканца дома.

Яе імя ён піша без двукосся. Можа, не здагадваецца, што некаторыя асобы з ліку яго знаёмых маюць больш за адно імя. Ці проста не ведае граматыкі і таму з усіх знакаў прыпынку карыстаецца толькі кропкай.

Але пакуль яе ставіць было рана.

## Чый Освальд?

Нікому не рана, і ніколі не позна, як папулярна тлумачыў шлюб адзін персанаж савецкага кіно, і як усе мудрыя думкі, гэтую можна прыкласці шмат да чаго. Напрыклад, забегчы наперад дэтэктыўнага сюжэту і адразу задаць пытанне, вынесенае ў загаловак.

---

* І не толькі іх. У 1963-м ён складзе сваю ўласную тэорыю таго, што павінна прыйсці на змену адначасна капіталізму, сацыялізму і камунізму, і назаве гэта «Афінская сістэма». У ёй гарантуецца прыватная маёмасць (як пры капіталізме), уводзіцца бясплатная абавязковая адукацыя (як пры сацыялізме), касуюцца падаткі (як абяцала КПСС), адмяняецца расавая сегрэгацыя (як абяцала Дэмакратычная партыя ЗША), не дапускалася нацыяналізацыя і манапалізацыя (як пры камунізме і капіталізме), забараняўся фашызм, нацыянігілізм і выраб зброі масавага знішчэння, а прэсе гарантавалася свабода (як прапаноўваў акадэмік Сахараў), уся дэмакратыя мелася ажыццяўляцца на мясцовым узроўні без цэнтралізаванай дзяржавы (як вучыў Аляксандр Салжаніцын). Як для самавука, дык выйшла моцна — калі б гэтыя ідэі авалодалі масамі, дык грамадзянскай вайны не пазбегнуць было б ні ў ЗША, ні ў СССР.

Сачэнне за Освальдам у Савецкім Саюзе мела на мэце высветліць, ці працаваў ён на ЦРУ, а ў ЗША спрабавалі разабрацца, ці не з'яўляўся ён крэатурай КДБ.

Гэтае самае пытанне задавала і маці Освальда Маргарыта. Пасля ліста ад сына, дзе ён парываў усякія сувязі з сям'ёй, яна звярнулася да свайго кангрэсмэна, затым у Дзярждэпартамент — чаму сын у СССР? Як імігрант ці выконвае нейкае заданне амерыканскага ўрада? Іншымі словамі — ці не агент ЦРУ?

Мэйлер уключыў у кнігу эпізод, які сведчыць не толькі пра настойлівасць Маргарыты Освальд, але і пра амерыканскую дэмакратыю.

21 студзеня 1961 года маці Освальда вырашыла паехаць у Вашынгтон. Дарога заняла тры дні і дзве ночы, і адразу з тэлефона на вакзале яна набрала нумар Белага дома і сказала, што хоча гаварыць з прэзідэнтам Кенэдзі. Было толькі 8 раніцы, аператар адказаў, што праца пачынаецца а 9-й. Яна паразваніла а 9-й, ёй паведамілі, што Кенэдзі на нарадзе і прапанавалі запісаць паведамленне для яго. Яна адмовілася і папрасіла сустрэчы з дзяржсакратаром Раскам. Узамен ёй прапанавалі сустрэчу з Дэвісам Бостэрам, высокапастаўленым дыпламатам, які займаўся справамі СССР. У той самы дзень а 2-й гадзіне яе прынялі ў Белым доме.

Яна задала галоўнае пытанне — ці з'яўляецца яе сын амерыканскім агентам? Калі так, яна хоча, каб яго вярнулі, бо сама хворая і патрабуе дагляду. Калі ён перабежчык, што ж — ён мае на гэта права як асоба.

Сына, які не быў дзяржаўным агентам, ёй вярнуць не змаглі, але выслухалі і нават не абвінавацілі яго ў здрадзе:

> **Місіс Освальд, мы хочам, каб вы ведалі, што мы таксама так лічым.**

І гэта — пра перабежчыка ў разгар халоднай вайны.

ФБР Освальдам таксама зацікавілася. Але не тады, калі ён паехаў у Маскву і адмовіўся ад амерыканскага пашпарта, а калі ён вырашыў вярнуцца.

**Камісія Уорэна. Матэрыялы**

**Следчая справа на Освальда была заведзеная ФБР 31 траўня 1962 года. Іміграцыйная служба была абавязаная паведаміць ФБР пра яго ўезд у краіну. Следства павінна было высветліць, ці Освальд быў завербаваны савецкай разведслужбай.**

Падчас нашай тэлефоннай гутаркі Мэйлер скажа:

**Яны мяне ў прынцыпе пераканалі, што КДБ не спрабаваў скарыстаць Освальда ў якасці агента. Яны сапраўды былі вельмі разумныя, а іхныя аргументы доказныя. Яны казалі: паслухай, Освальд мог працаваць на нас у Японіі — ён мог супрацоўнічаць кароткі час у Японіі з камуністамі. Аднак ён траціць сваю каштоўнасць, калі прыязджае да нас у Маскву і заяўляе, што ён пакідае Амерыку. Цяпер гэта не каштоўны агент, а дадатковая адказнасць.**

**Чаго вартае тое, што ён спрабуе адмовіцца ад амерыканскага грамадзянства ў амбасадзе і там паводзіць сябе вельмі-вельмі гучна. Яны згадалі той факт, што ў іх былі жучкі для падслухоўвання ў сценах у амбасадзе. Гэта смеху варта. Ён гаворыць вельмі гучна, бо, верагодна, хоча, каб жучкі гэта запісалі. Калі б ён і меў нейкую карысць для іх, усё было разбурана ягоным прыездам у Расею.**

Праз год пасля звароту Освальда па савецкае грамадзянства з такой самай заявай публічна выступілі яшчэ два амерыканцы. У верасні 1960-га шыфравальшчыкі Нацыянальнага агенцтва бяспекі ЗША Уільям Марцін і Бернан Мітчэл на прэсавай канферэнцыі ў Маскве папрасілі палітычнага прытулку і савецкага грамадзянства. У якасці прычыны яны назвалі абурэнне метадамі амерыканскай разведкі — сакрэтнымі палётамі над тэрыторыяй СССР, перахопам інфармацыі.

Яны таксама крытыкавалі ўнутраную і знешнюю палітыку ЗША, захапляліся Савецкім Саюзам і асабліва правамі жанчын (адзін з іх ажаніўся ўжо праз чатыры месяцы пасля прыезду). У амерыканскіх газетах пра іх пісалі пераважна як пра асобаў з сэксуальнымі адхіленнямі.

Шкода амерыканскай бяспецы ад гэтых перабежчыкаў была ацэненая як вельмі вялікая.*

Мэйлер паспрабаваў спрачацца са сваімі суразмоўцамі з КДБ: маўляў, Освальд шмат што ведаў пра вайсковыя справы.

**Яны рассмяяліся і сказалі, што ў іх была вельмі добрая разведвальная служба ў Японіі ў той час, у 1958-59, 1960-61 гадах. Нам не патрэбная была яго інфармацыя, якая да таго ж састарэла. Мы маглі распытаць яго ўскосна, праз пасярэднікаў. Але мы ніколі не рас-**

---

* Абодва потым расчараваліся і спрабавалі вярнуцца ў ЗША, але былі пазбаўленыя грамадзянства. Першы памёр у Мэксіцы ў 1987-м, другі ў Расеі ў 2001-м.

**пытвалі яго напрасткі, не выклікалі ў КДБ. Мы лічылі, што не мае сэнсу яго распытваць.**

Мэйлер прывёў яшчэ адзін аргумент КДБ, які падаўся яму вартым даверу:

**Яны казалі: а што, калі ён шчыры? Мы тады хацелі верыць, што нашая сістэма лепшая за амерыканскую, і было б трагедыяй, калі б мы адаслалі гэтага хлопца назад. І ён сапраўды быў шчырым.**

Такім чынам, пазіцыя КДБ будавалася на трох кітах: першы — яны ведаюць, што ён не іх агент, другі — магчыма, ён сапраўды той, за каго сябе выдае, і трэці — не выключана, што ён з ЦРУ.

**Яны насамрэч думалі, што гэта нейкая дурацкая правакацыя ЦРУ, што ЦРУ пасылала пробны шар, каб паглядзець, як КДБ будзе рэагаваць на гэты нечаканы раздражняльнік. Яны вырашылі нічога адкрыта з ім не рабіць, не праводзіць допыту.**

З гэтага, сказаў Мэйлер, вынікала толькі адно — за Освальдам трэба было сачыць.

**Яны сказалі, што хацелі трымаць яго пад наглядам, каб сачыць, што ён збіраецца рабіць. Але яны выключылі магчымасць прамога кантакту з Освальдам, бо ЦРУ стала б гэта вядома, калі б, як меркавалася, Освальд інфармаваў ЦРУ пра метады дзейнасці КДБ.**
**І яны хацелі захаваць свае метады ў тайне. Гэта мела сэнс, калі яны адстойвалі свой пункт гледжання. І сапраўды, калі паглядзець у матэрыялы справы, дык мы пабачылі, што там у асноўным спробы высветліць, ці ён сапраўды быў тым, за каго сябе падаваў.**

Калі кніга выйшла, Мэйлер патлумачыў логіку спецслужбаў дзвюх краінаў старым анекдотам:

**— Стукні мяне, — сказаў мазахіст.**
**— Не буду, — сказаў садыст.**

І абодва задаволеныя.

## Песня для Хрушчова

На халоднай вайне перабягалі нашмат часцей з савецкага боку.

Невядома, ці пра перабежчыка Освальда дакладалі прэзідэнту ЗША, а вось пра люстраны выпадак, які адбыўся на некалькі месяцаў раней за сустрэчу Маргарыты Освальд у Белым Доме, кіраўніку СССР дакладалі.

Увосень 1960-га савецкая дэлегацыя прыплыла ў Амерыку на сесію ААН. Мікіта Хрушчоў так узгадваў пра тое, што здарылася, калі цеплаход «Балтыка» прышвартаваўся да пірсу на ўскрайку порта (выбіралі які дзешавейшы):

> **Калі мы прыбылі ў Нью-Ёрк, мне даклалі аб надзвычайным здарэнні. Адзін матрос пакінуў карабель і папрасіў палітычнага прытулку. Людзі, якія паведамілі мне навіну, страшэнна хваляваліся. Я іх супакоіў і папрасіў не надаваць справе вялікага значэння: «Ну й што ж? Сышоў і сышоў. Няхай паспрабуе капіталістычных хлябоў, пачым яны ў Нью-Ёрку і як на смак». Я, зразумела, ведаў, што мяне неўзабаве сустрэнуць журналісты. І сапраўды, пры першай жа сустрэчы мне задалі пытанне. Адказваю: «Мне дакладалі пра гэта. Шкадую аб тым, што адбылося. Ён чалавек недасведчаны, не мае асаблівай працоўнай кваліфікацыі, і я яму спачуваю. Вельмі цяжка будзе яму прыстасоўвацца да амерыканскіх умоваў жыцця, бо ён нічога за душой не мае. Глупства зрабіў, не падумаўшы. Калі б ён мне сказаў, што хоча застацца, я б аказаў яму якую-небудзь дапамогу на першы час». Увесь накал, які быў у журналістаў, адразу знік. Так праваліласяя сенсацыя, і журналісты не змаглі зарабіць на гэтай справе.**

Лішне казаць, што зрабілі б з матросам, калі б ён заікнуўся каму-небудзь на караблі пра жаданне застацца ў ЗША. Праўда, калі б ён сказаў пра гэта самому Хрушчову, дык патрапіў бы не ў лагер, а, хутчэй, у псіхіятрычную бальніцу. А вось людзям, якія страшэнна хваляваліся, калі дакладалі Хрушчову пра надзвычайнае здарэнне, баяцца было чаго — іх кар’еры разам з пагонамі і выслугай гадоў маглі пайсці кату пад хвост. Анкеты і характарыстыкі ў каманды ўрадавага рэйсу правяралі і зацвярджалі дзясяткі пільных вачэй, а вось жа прагледзелі.

Віктару Яанімэтсу было 9 гадоў, калі яго краіну ў 1940-м акупавалі

савецкія войскі. Ён даўно хацеў збегчы з СССР, але, у адрозненне ад Освальда, чакаў тры гады, пакуль яго карабель не прышвартаваўся да амерыканскага прычалу. Выхад у горад дазвалялі толькі групамі, прызначаўся старэйшы, і свой шанец Яанімэтс злавіў у перапоўненым танным універмагу на Манхэтане. Калі група накіравалася ўжо да выхаду, ён крыкнуў, што яшчэ купіць брыльянціну, праштурхаўся праз натоўп, кінуўся да другога выхаду, выскачыў на вуліцу і пабег што было сіл.

Выпадковы суразмоўца ў бары дапамог знайсці эстонскі клуб, і ўвечары таго самага дня служба іміграцыі ўзяла яго пад сваю апеку.

Калі савецкія дыпламаты паспрабавалі выратаваць небараку, які не ведаў, што нарабіў, яны хутка пераканаліся, што Яанімэтс дакладна ведаў і што, і чаму:

**На маёй Радзіме Хрушчова ненавідзяць. Мы ўсе пад яго жалезным кулаком. Нідзе няма свабоды. Мы яго рабы. Гэта другі Гітлер.**

Яанімэтс таксама заявіў, што калі б магла, дык уцякла б палова каманды. Ньюёркскія газеты напісалі, што з гэтай высновай уцекача відавочна пагадзіліся на «Балтыцы»: усе звальненні на бераг былі адмененыя, на палубах стаў дзяжурыць узброены патруль.

Увосень 1960-га па радыё ўпершыню прагучаў незвычайны твор — музычнае пасланне кіраўніку СССР ад перабежчыка. Запіс адкрываў Яанімэтс, а затым працягваў вядомы амерыканскі спявак і прадусар Дон Міган:

**Адкрыты ліст Хрушчову**

**Мяне завуць Віктар Яанімэтс, і я ўцёк з расейскага карабля. У маім новым свеце я знайшоў спакой і надзею. Я маю ліст для Мікіты Хрушчова, які прачытае мой амерыканскі сябар.**

Далей на тле музыкі пачынаўся рэчытатыў Дона Мігана:

**Дарагі містэр Хрушчоў, я цяпер жыву ў згодзе, у згодзе з сабой, у згодзе са светам, у згодзе з маім Стваральнікам. Вы калі-небудзь на хвіліну задумваліся, што азначае слова «згода» ці «мір», містэр Хрушчоў? Гэта цудоўнае слова з цудоўным сэнсам, але яго можна напісаць двума рознымі спосабамі.**
**Адзін — той, якім прымушалі шмат гадоў пісаць мяне.**

Яанімэтс ужывае ангельскае слова «PEACE», якое таксама азначае «мір», і ў песні расшыфроўваецца кожная літара. «P» азначае «persecution» — пераслед, «E» — «evil» — зло, «A» — «atheism» — атэізм, «C» — «confusion», «conflict» — канфлікт, непаразуменне, «E» — «earth» — Зямля.

Першая частка песні гучыць так:

**«P» — пераследаваць, знішчыць любога, любую рэч ці народ, якія стаяць на шляху камунізму. «E» — зло, якое прынёс камунізм, і нянавісць ёсць яго рухавіком. «A» — атэізм, там, дзе камунізм, няма Бога, няма законаў маралі, няма надзеі. «C» — канфлікт і непаразуменне паміж людзьмі, «E» — Зямля, якую камунізм мяркуе заваяваць і ўсталяваць паўсюль свой пераслед, зло, атэізм і канфлікты.**

Затым Віктар Яанімэтс і Дон Міган прапануюць іншую трактоўку.

**Але гэта не сапраўдны сэнс згоды, містэр Хрушчоў. Я знайшоў новы цудоўны сэнс. Мільёны і мільёны людзей ва ўсім свеце чытаюць яго менавіта так.**
**«P» — «Prayer» — малітва. Я магу ўкленчыць і маліцца Стваральніку ў любым месцы і ў любы час, калі пажадаю, гэтаксама як іншыя мільёны людзей. «E» — Equality — Раўнапраўе. Усе людзі створаныя роўнымі. Яны атрымалі ад Стваральніка пэўныя неад’емныя правы. «A» — «Ashes to Ashes» — попел у попел, пыл у пыл. З пылу чалавек быў створаны, і ў пыл ператворыцца, і ён можа зрабіць шмат добрага за гэты час. «C» — «Christmas» — Раство. Урок Раства найвялікшы і самы просты з усіх: мір на Зямлі для ўсіх людзей добрай волі. «E» — «Eternity» — Вечнасць, дзе душа чалавека будзе заўсёды і назаўсёды. Зямля як пясчынка на марскім беразе. Вечнасць доўжыцца, і доўжыцца, і доўжыцца, як цудоўны Сусвет вялікага Стваральніка.**

Песня сканчаецца зваротам:

**Падумайце аб гэтым, містэр Хрушчоў, аб сапраўдным сэнсе згоды і міру. Падумайце аб гэтым.**

Хрушчоў падумаў — і гэта заўважна ў яго мемуарах, якія ён мусіў

пісаць пад хатнім арыштам і потым тайна перапраўляць на Захад, абы толькі яны не патрапілі ў рукі яго таварышаў па партыі.

Па слядах Яанімэтса пайшлі і члены сям'і Хрушчова: сын і ўнучка перабраліся ў Амерыку, там жывуць праўнукі. Яшчэ раней туды ж уцякла і дачка Сталіна.

Яанімэтс перажыў Освальда на чвэрць стагоддзя. Ён атрымаў мноства прапановаў працы (кваліфікаваны матарыст), але спачатку аб'ездзіў Амерыку, выступаючы з аповедам пра жыццё ў акупаванай Эстоніі і савецкія парадкі.

У снежні 1960-га часопіс «Тайм» апублікаваў нататку пад загалоўкам: «Мікіта не змог, а перабежчык наведвае Дыснэйлэнд». Яанімэтс пасля канферэнцыі ў Каліфорніі паехаў фатаграфавацца з героямі легендарнага мультфільма. У 1959-м Хрушчоў быў у Сан-Францыска і адразу пасля ад'езду заявіў, што яму не далі магчымасці бліжэй пазнаёміцца з амерыканскім народам і адведаць папулярны забаўляльны парк. Насамрэч парк са спісу выключыла савецкая служба аховы яшчэ за месяц да візіту.

Нават на волі кіраўнік краіны, куды перабег Освальд, не быў вольны.

І няма фатаграфіі «Хрушчоў і Мікі Маўс», пад якой, напэўна, журналісты не ўстрымаліся б і зрабілі прыпіску: «Хрушчоў справа». Ці злева.

Свабода...

## Хэлоу, карова са штата Аёва

Калі Освальд прыехаў у Мінск, у Беларусі было чатыры мільёны кароў.

Так сцвярджае тагачасны энцыклапедычны слоўнік — на двух жыхароў была адна карова. Слоўнік яшчэ шмат што сцвярджаў: цягам дзесяцігоддзя СССР мусіў перагнаць Амерыку ў вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва, якое, у сваю чаргу, мусіла спалучаць духоўнае багацце, маральную чысціню і фізічную дасканаласць. На старонках газет з'явіліся загалоўкі:

**«Трымайся, карова са штата Аёва!»**




Так выглядала гістарычная заканамернасць паводле савецкай энцыклапедыі.

Магчыма, з пункту гледжання марксіста, якім лічыў сябе Освальд, і яго першае лета ў Мінску было проста гістарычнай заканамернасцю. З рэалістычнага пункту гледжання, верагодна, больш падыходзіць жанр, у якім быў напісаны энцыклапедычны слоўнік — казкі.

Наступныя падзеі настолькі зменяць оптыку, што ўжо мала хто будзе ў стане ацаніць неверагоднасць таго, што адбылося ўвосень 1959-га.

19-гадовы дэмабілізаваны салдат з амерыканскай правінцыі, з простай сям'і, без грошай, адукацыі і прафесіі, таемна ад усіх блізкіх раптам прыязджае ў Маскву, робіць зварот па грамадзянства, здае свой пашпарт у амбасаду, спрабуе скончыць самагубствам, у няпэўным чаканні бавіць халодныя зімовыя дні і ночы ў самоце гатэльнага нумара і, нарэшце, атрымлівае падарунак ад улады рабочых і сялян: накіраванне ў Мінск, працу, асобную кватэру ў цэнтры і падвойную зарплату.

Да лета 1960-га, здаецца, асноўная драматычная падзея жыцця засталася ззаду і забылася, усё ўсталявалася, вызначылася, уляглося.

Рапарты КДБ становяцца нуднымі, як кіламетры відэастужкі з камеры тэхнічнага назірання: выйшаў з дома, пайшоў на прыпынак, сеў у тралейбус, выйшаў, купіў газету, зайшоў у краму, нічога не купіў, выйшаў, сеў у тралейбус...

Спыняецца нават прыватны дзённік.

Потым, быццам спахапіўшыся, каб запоўніць каляндар, Освальд усё ж робіць некалькі кароткіх запісаў.

**Дзённік ЛХО**
**Чэрвень — ліпень 1960**

**Летнія месяцы зялёнага хараства, вельмі глыбокага сасновага лесу. Я баўлю выходныя ў ваколіцах Мінска з Зігерамі, у якіх ёсць «Масквіч». Альфрэд заўсёды ходзіць з Анітай, у Леаноры, здаецца, няма сталага кавалера, але шмат хто ёю захапляецца. У яе цудоўная гішпанская постаць, даўгія чорныя валасы, як у Аніты. Я не звяртаю на яе шмат увагі, яна для мяне застарая. Здаецца, ёй не падабаецца адсутнасць увагі з майго боку. Яна вельмі заведзеная.**

Улетку Освальд уступае на тэрыторыю, на якую раней не зважаў і нават дэклараваў сваё да яе абыякавае стаўленне: якасць жыцця. Асобная кватэра, грошы толькі за тое, што ён амерыканец — гэтага аказваецца недастаткова.

І Освальд піша ўжо не проста пра садавіну — а пра яе адсутнасць большую частку года.

Нават пасля армейскай кухні ежа ў сталічным кафэ самаабслугоўвання на плошчы Перамогі выклікае нараканні.

**Дзённік ЛХО. Працяг**

**Я прызвычаіўся да маленькага кафэ, куды хаджу вячэраць. Ежа звычайна нясмачная, і ў любым кафэ ў горадзе аднолькавае меню. Ежа танная, і мне насамрэч усё роўна пасля трох гадоў службы ў амерыканскай марской пяхоце.**

Освальд быццам спрабуе пераканаць сам сябе, што яму ўсё роўна, і нават знайсці плюсы — танна. Але адначасна робіць яшчэ больш важную заўвагу — такая самая ежа, аднолькавы набор паўсюль.

Трэба сапраўды быць марксістам, каб толькі праз год пасля прыезду ў краіну сваёй мары заўважыць яе самую адметную рысу.

Няма выбару.

Нават горш — шчасця няма.

Адразу пасля прыезду ў Маскву ўвосень 1959-га Освальд пісаў ужо брату, што не разлічвае на нейкія выгоды ў СССР, бо «шчасце не асабістая рэч, яго не складаюць маленькі дом, браць і атрымліваць.» І ўдакладняў:

**Шчасце ў тым, каб браць удзел у барацьбе, дзе няма мяжы паміж асабістым светам і светам увогуле. Я ніколі не лічыў, што я атрымаю больш матэрыяльных перавагаў на гэтым этапе развіцця Савецкага Саюза, чым я мог бы мець у ЗША.**

За дзевяць месяцаў у Мінску Освальд істотна пераглядае свае погляды на шчасце.

**Дзённік ЛХО**
**Жнівень — верасень 1960**

**Па меры таго, як паляпшаецца мая расейская мова, я ўсё больш усведамляю, у якім грамадстве я жыву. Агульная фіззарадка, абавязковыя сходы пасля працы, звычайна палітінфармацыі. Абавязковае наведванне лекцыяў і адпраўка цэлага цэху (апроч мяне) у калгас на бульбу ў нядзелю. «Патрыятычны доўг» збору ўраджаю. Гэта вялікі галаўны боль, на думку рабочых (не ўголас). Яны таксама не маюць вялікага энтузіязму і да іншых «калектыўных» абавязкаў, натуральнае пачуццё.**

А цікава было б прачытаць запіс Освальда пра ўражанні ад паездкі на бульбу.

А потым рапарт КДБ.

І потым тлумачэнне Мэйлера амерыканскім чытачам, што гэта такое — прымусовае выпраўленне інжынераў і рабочых аднаго з флагманаў савецкага навукова-тэхнічнага прагрэсу на калгасныя палеткі, дзе ўзровень механізацыі вымяраецца вёдрамі і мяхамі, і як гэта стасуецца са спадарожнікам і вадароднай бомбай.

І, напэўна, нехта ўсклікнуў бы — і мы падчас халоднай вайны патрацілі мільярды супраць такога праціўніка?..

І адказ — так. Бо іначай самі б ездзілі рваць кукурузу, і за надоі змагаліся б, і пасылалі б працоўныя рапарты ў Белы дом.*

Шкада ўсё ж, што не паслалі амерыканца на бульбу.

* Штатаўская карова спалохалася, што можа патрапіць на калгасную ферму, і за наступныя пяцьдзясят гадоў павялічыла надоі з шасці з лішкам да дзевяці з лішкам тысяч кіло, а невыязная савецкая — з амаль трох да чатырох. 30.12.2006 БелТА разаслала сваім падпісчыкам навіну: «Упершыню ў гісторыі Беларусі сярэдні надой малака ад каровы ў сельгасарганізацыях перавысіў 4 тыс. кг. Аб гэтым гаворыцца ў тэлеграме, накіраванай прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку Мінсельгасхарчам».

## Найважнейшае з мастацтваў

У дакументах КДБ зафіксаваныя фільмы, якія Освальд глядзеў у верасні 1960-га:

4 верасня: «Вецер» у кінатэатры «Летні»

6 верасня: «Бабета ідзе на вайну» ў кінатэатры «Мір»

7 верасня: «Партызанская іскра» ў кінатэатры «Перамога»

8 верасня: «Бабета ідзе на вайну» ў кінатэатры «Мір»

9 верасня: «Камандзір атраду» ў кінатэатры «Летні»

Освальд хадзіў на познія сеансы — усе пачыналіся пасля 8-й вечара, а французская «Бабета» ўвогуле а 10-й.

4 верасня — нядзеля (пасля кіно Освальд яшчэ схадзіў на танцы ў Дом афіцэраў). Затым — аўторак, серада, чацвер, пятніца. На працягу тыдня французскую стужку Освальд глядзіць двойчы. Галоўную ролю ў камедыі грала 25-гадовая Брыджыт Бардо, якая адразу завалодала сэрцамі не толькі мужчынскай часткі заляў, але й жаночай. Не толькі фрызура «бабета» імгненна стала моднай, усё а-ля Брыджыт Бардо — лёгкасць, манеры, усмешка і смех сталі ўзорам для дзяўчат. Мінск, як Освальд хутка пераканаецца, не быў выключэннем.

У кожным кінатэатры наведнікаў сустракала цытата Леніна: «З усіх мастацтваў для нас найважнейшым з'яўляецца кіно!».*

У кіно Освальд пачаў хадзіць адразу пасля прыезду ў Мінск — і адзін, і з дзяўчатамі, і час бавіць, і мову вучыць. Перад сеансам круцілі чорна-белыя выпускі кіначасопіса «Савецкая Беларусь».

Там паказвалі перадавікоў сямігодкі, якую тыя абяцалі выканаць за пяць гадоў, кадры з перадавога саўгаса, асобны сюжэт быў прысвечаны мінскаму фестывалю кінамастацтва (але давалі не ўрыўкі з фільмаў, а прэзідыум, які аператары маглі здымаць з заплюшчанымі вачыма), расказвалі пра модны капрон, на экране бегалі футбалісты (мінская «Беларусь» выйграла ў кіеўскага «Дынама»). Освальд мог пабачыць Кандрата Крапіву, які разразаў стужку на адкрыцці музея Янкі Купалы на беразе Свіслачы, новы помнік партызанам...

Адзін з выпускаў адкрываўся сюжэтам пра юбілей, як бы сёння ска-

* У гэтым сказе галоўнае не дзейнік «кіно», не выказнік «з'яўляецца найважнейшым», нават не прадказанне палітычнай сілы ўздзеяння кіно і тэлебачання на масавую свядомасць, а брутальнае, як удар чобатам паміж ног, дапаўненне «для нас», якое азначала акалічнасць — дзяржаўную манаполію.

залі, гендарнага свята. Раз на год дзяржава лічыла патрэбным афіцыйна заявіць, што жанчыны таксама людзі. На фоне бравурнай музыкі закадравы голас абвяшчаў:

**У Мінску адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 50-годдзю міжнароднага жаночага дня.**
**Сход адкрыла дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Мацюшка. Са слаўнай гадавінай беларускіх працаўніц цёпла віталі сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі Шавура, вядомы сталявар аўтазавода Барашкін, доктар біялагічных навук Чаркасава і другія таварышы.**

Камера дае панараму прэзідыума, у якім пераважаюць мужчыны, і залі, дзе жанчын больш, але на першым плане зусім не яны. Буйны план на залю даецца двойчы, і абодва разы з адной кропкі, таму ў кадры заўсёды цалкам відаць толькі адну жанчыну гадоў трыццаці, з зачасанымі назад хвалістымі валасамі і бліскучымі завушніцамі, у чорнай сукенцы з кароткім рукавом, з неглыбокім дэкальтэ, якое завяршае вялікая круглая брошка. Вакол яе старэйшыя таварышы — у больш строгіх сукенках з адкладнымі белымі каўнярамі і шалямі.

Жанчына з завушніцамі ведае, што яе здымаюць, і з нечалавечай засяроджанасцю ні разу не міргае, напружана гледзячы на сцэну.

Кадр, па ўсіх законах мантажнага кіно, перабівае цягнік. Ну, не зусім цягнік — пад бой барабанаў, са сцягамі над галавой у праход паміж крэсламі імкліва ўрываецца і перараазае экран атрад дзяцей.

**Павіншаваць жанчын прыйшлі піянеры. Яны горача віталі слаўных працаўніц, барацьбітоў за мір і шчасце, —** кажа дыктар.

Канец сюжэту — на ўсё пра ўсё 40 секунд.

Аўтары класічна выканалі задачу: тут і жанчына-дэпутат, і сакратар кампартыі, перадавік цяжкай індустрыі і жанчына-прафесар, і, канечне, дзеці — наша будучыня.

З піянерамі ўсё ясна — закінулі букеты на стол прэзідыума, памахалі ў паветры сцяжкамі і пайшлі, як і прысягалі, далей «горача любіць сваю Радзіму, жыць, вучыцца і бароцца, як завяшчаў вялікі Ленін, як вучыць Камуністычная партыя».

І з кіношнікамі таксама ясна — пайшлі надалей ствараць летапіс.

І з Освальдам ясна, але не ўсё — у дзённіку пра кіначасопіс няма ніводнага слова.

Можа, не зразумеў — дыктарскі тэкст быў беларускі.

Ці недаацаніў, прыняўшы класіку жанру за халтуру.

А можа проста таму, што не кіно было для Освальда найважнейшым з мастацтваў.

Ён любіў класічную музыку, і пасля адкрыцця сезону ў кастрычніку стаў заўзятым наведнікам оперы і філармоніі.

Да асабістай сустрэчы з членам прэзідыума жаночага сходу доктарам біялагічных навук Чаркасавай, якая верасень 1960-га праводзіла ў Нью-Ёрку, заставалася паўгода.

Дзень той сустрэчы зменіць яго жыццё, як палёт матылька мяняецца моцным парывам ветру.

## «Аооаох!» — і міма

Сваю самую вядомую зброю, карабін Манліхер-Каркан Освальд набыў увосень 1962-га ў Тэхасе на замову праз пошту. Такія ліберальныя законы аб зброі, сцвярджаў шмат хто, і прывялі да амерыканскай трагедыі.

Насамрэч гэтаксама можна было купіць зброю і ў Мінску.

Ва ўсіх газетах друкавалася рэклама тульскай крамы «Тавары Поштай» — правобразу пазнейшых інтэрнэт-крамаў — якая на выбар прапаноўвала «дробавыя, двухствольныя, курковыя паляўнічыя стрэльбы з ад'ёмнымі ствaламі 16-га калібру для стральбы чорным і бяздымным порахам, папяровымі і металічнымі гільзамі» па 456 рублёў за звычайную стрэльбу, 624 — за арнаментна-чаканную, а за 848 рублёў можна было замовіць адмысловую, ручной працы, зброю.

Але Освальд на пошту не пайшоў — у жніўні 1960-га ён купіў тульскую аднаствольную стрэльбу ў мінскай краме «Рыбалоў-паляўнічы», далучыўся да заводскага паляўнічага клуба і з новымі калегамі выправіўся на зайца.

**Рапарт вонкавага назірання КДБ**
**10.09.60**
**Ад 13:00 да 15:20**

**У 14:30 Ліхі выйшаў з працы і хутка пайшоў дадому.**
**У 14:55 выйшаў з дому з паляўнічай стрэльбай у чахле і сумкай з прадуктамі і прыйшоў да прахадной радыёзавода. Там Ліхі падышоў да групы з 7 мужчын, таксама са стрэльбамі, і ўступіў у размову. Праз хвілін 13 Ліхі й іншыя селі ў машыну БО 18-89 і ў 15:20 выехалі з горада па Старажоўскай вуліцы на Даўгінаўскі тракт.**
**Паводле дамоўленасці з начальнікам аддзела, назіранне за Ліхім у гэты момант спынена да 17 верасня 1960 года.**

КДБ ведаў, што Освальд набыў стрэльбу і збіраўся на паляванне. Хто з паляўнічых сачыў за ім, невядома — рапарту Мэйлеру не далі. Затое ён запісаў успамін Леаніда Цагойкі, арганізатара і ўдзельніка гэтага палявання. Яны ішлі адзін за адным, Освальд са стрэльбай наперавес — перадапошні, за ім Цагойка, калі заяц выскачыў літаральна з-пад ног.

Мэйлер піша, што Освальд крыкнуў: «Аооаох!» і пальнуў у паветра.

— Божа, Освальд, ты мяне застрэліш з гэтага ружжа! — ахнуў Цагойка.

— Заяц напалохаў мяне, — патлумачыў сваю рэакцыю амерыканец.

Пазней ён страляў яшчэ раз і зноў прамазаў.*

Справаздача з палявання збянтэжыла КДБ: няўжо былы марскі пехацінец не ўмее абыходзіцца са зброяй, мажа па мішэні? Маскіроўка агента, які хавае свой досвед?.. Проста не пашанцавала ў той дзень?..

Мяркуючы са стылю рапартаў КДБ, там наўрад ці адлюстраванае рэха спалоханага выкрыку няўдалага паляўнічага пасярод беларускага поля ўвосень 1960-га.

— Аооаох!..

Зусім няблага, хаця, канечне, увесь набор эмацыйных выразаў, якія ўжываюць паляўнічыя ў падобных выпадках, больш багаты і разнастайны.

Станіслаў Шушкевіч вучыў Освальда размоўным выразам — невядома, праўда, да якой ступені. Але на заводзе любы рабочы мог навучыць амерыканца асновам прафесійнай лексікі.

---

* Ранняй вясной 1993 года гэтае паляванне было паўторана: разам з Цагойкам і некаторымі іншымі яго ўдзельнікамі мы са здымачнай групай амерыканскага грамадскага тэлебачання выехалі ў паляўнічы домік у Мінскі раён, каб адтуль выйсці ў поле і прайсці маршрутам 33-гадовай даўніны. (Домік уяўляў сабой трохпавярховую даміну з більярднай, саўнай, пакоямі для гасцей). Зіма была снежная, і ў фільме паляўнічыя брыдуць па калена ў сумётах, чорным ланцужком на белым тле. Цагойка паказваў, як Освальд нёс стрэльбу і як з пярэпалаху пальнуў у паветра. Агульны тон успамінаў быў крыху зняважлівы.

Былы мінчук Валеры Лебедзеў, які працаваў у політэхнічным інстытуце і ведаў Паўла Галавачова, узгадваў, як той прыводзіў Освальда на рэпетыцыі інстытуцкага джаз-аркестра. Галавачоў загадваў радыёвузлом і, калі ламаліся мікрафоны ці ўзмацняльнікі, што здаралася часта, Освальд каментаваў.

Гучала, як піша Лебедзеў — «не перадаць», але ўсё ж перадаў:

**Плохо советска рэйдио. Х... техник. П... твой юсилител ор дивайсдайнемикс. Ё... твоя мат ваша лайф!**

Освальд хадзіў на паляванне яшчэ раз, нічога не ўпаляваў. Апроч трапнасці стральбы, КДБ цікавілі яшчэ два пытанні — ці браў ён з сабой фотаапарат і ці адставаў ад групы.

Усе тры адказы аказаліся адмоўнымі.

Матылёк не выклікаў падазрэння, і гэта выклікала падазрэнне.

Сачэнне працягвалася.

## Мэйлер і падзякі

Найлепшыя амерыканскія дакументальныя даследаванні — біяграфіі, мемуары, сацыяльныя нарысы, гістарычныя эсэ 2-й паловы XX стагоддзя, напісаныя літаратарамі, уражваюць аб'ёмам карпатлівай і добрасумленнай чарнавой працы і акадэмічным стандартам дакладнасці.

У «Гісторыі Освальда» на 800 старонак тэксту прыпадае 695 спасылак на дакументальныя крыніцы — публікацыі, кнігі і матэрыялы Камісіі Уорэна з указаннем больш чым тысячы старонак — крыніц цытатаў, фактаў, меркаванняў. Гэта — без уліку копіяў дакументаў КДБ з мінскай справы Освальда.

У раздзеле «Падзякі» напрыканцы кнігі Мэйлер згадвае больш за сто прозвішчаў людзей, якія так ці іначай дапамаглі ў стварэнні кнігі — ад жонкі Освальда Марыны, мінскіх перакладчыкаў да амерыканскіх даследнікаў і пісьменнікаў.

У асобную групу аб'яднаныя людзі, якія ведалі Освальда ў яго «савецкі перыяд» і пагадзіліся даць інтэрв'ю для кнігі — 44 прозвішчы асобаў, бальшыня з якіх жыла ў Мінску падчас прыезду Мэйлера. Вось як яны пададзеныя ў кнізе:

Роза Агафонава, Люба Аксёнава, Галіна і Юры Бялянкіны, Муся Берлава, Канстанцін Бандарын, Валянцін Бараўцоў, Вольга Дмоўская, Ле-

анід Гельфант, Эла Герман, Аляксандра Раманава, Павел Галавачоў, Людміла і Міхаіл Кузьмічы, Надзея і Дзяменці Макнавец, Галіна Макоўская, Юры і Лідзія Меражынскія, Валянцін Міхайлаў, Алег Нічыпарэнка, Стэліна Пажалуістэ, Аляксандар Піскалёў, Іна Пісенка, Галіна Пракапчук, Макс Прахорчык, Паліна і Валянціна Прусаковы, Яніна Сабела, Тамара Санкоўская, Ларыса Севасцянава, Альбіна Шалякіна, Рыма Шыракова, Анатоль Шпанко, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Сімчэнка, Соня Скопа, Міхаіл Смольскі, Наталля Цітавец, Леанід Цагойка, Раіса Ведзянеева, Інэса Яхліель, Раіса Жынкевіч, Аляксандра Зігер.

У гэтым спісе няма двух чалавек, якія блізка ведалі Освальда. Адзін — інжынер радыёзавода Аляксандр Зігер, рэпатрыянт з Аргенціны, які гасцінна прыняў Освальда ў сваю сям'ю і стаў першым, хто параіў яму вярнуцца ў ЗША. На пачатку 90-х Зігер з'ехаў з Мінска назад у Аргенціну і памёр там у 1992 годзе.

Другі — чалавек, якога даследнікі і журналісты часам называюць «самым раннім і блізкім сябрам» Освальда, Эрнст Цітавец застаўся ў Мінску і нават сустракаўся з Мэйлерам і яго памочнікамі.

Сем разоў.

Але падзякі ў кнізе яму няма.

## Мэйлер і Цітавец

Студэнт медычнага інстытута Эрнст Цітавец, ці Эрык, як яго ўсе звалі, пазнаёміўся з Освальдам праз сям'ю Зігераў. Яго школьная знаёмая працавала на пошце і дапамагала Зігерам у атрыманні пасылак з Буэнас-Айрэсу.

У інтэрв'ю праз паўстагоддзя Цітавец так узгадвае знаёмства:

> **Неяк мне знаёмыя сказалі, што ў нашым тады яшчэ маленькім горадзе Мінску, дзе не было з кім пагаварыць па-ангельску, з'явіўся амерыканец. Я ўгаварыў пазнаёміць мяне з такім дэфіцытам. Увосені 1960-га мяне запрасілі ў госці, дзе быў і Освальд. Ён аказаўся вельмі цікавым чалавекам, у нас з'явілася нават псіхалагічная сумяшчальнасць, апрача таго мы былі аднагодкамі — таму пачалі мець цесныя зносіны.***

* Інтэрв'ю Э. Цітаўца сайту «Белорусские новости» (www.naviny.by) 11 чэрвеня 2010 года.

Цітавец быў апантаны ангельскай мовай, часам нават выдаваў сябе за замежніка. Ён слухаў БіБіСі, займаўся самастойна і нават здаў экзамен па мове ў медінстытуце за ўвесь курс наперад, каб не хадзіць на занадта прымітыўныя для яго заняткі. Освальд для яго быў каштоўнай лінгвістычнай знаходкай — як і ён для Освальда.

**Дзённік ЛХО**
**Лістапад 1960**

**Эрык Цітавец на чацвёртым курсе медычнага інстытута. Вельмі разумны хлопец.**

Мэйлер выдатна разумеў каштоўнасць успамінаў Цітаўца для свайго даследавання — хоць праца з архіўнымі дакументамі КДБ працягвалася, але іх выбарачны характар і фрагментарнасць адсунулі задакументаваную гісторыю на другі план у параўнанні з аповедамі сучаснікаў.

Мэйлер і яго памочнікі сустракаліся з Цітаўцом, цяпер доктарам біялагічных навук, прафесарам, сем разоў — але, як высветлілася, сваю каштоўнасць былы прыяцель Освальда ацаніў яшчэ вышэй, чым амерыканскія госці. Мэйлер піша, што аніводнага разу яму не ўдалося ўзяць сапраўднае інтэрв'ю. Цітавец уразіў яго тым, што мог гаварыць гадзінамі, але не сказаць нічога.

Былая жонка Цітаўца, якую Мэйлер таксама распытваў, апісвае мужа як чалавека «надзвычай скрытнага, халоднага, які ўсё пралічвае». Мэйлер піша:

**Хаця мала хто з мужчынаў хацеў бы, каб яго ацэньвалі меркамі былой жонкі, пасля сустрэчаў з Цітаўцом, ладна скроеным і добра збітым чалавекам, з супярэчлівай аўрай, жаноцкай і мача адначасна, стала відавочна, што ён жыў гэтаксама пранырліва і сам па сабе, як разбэшчаны гепард.***

Аднойчы Цітавец ужо пагадзіўся на інтэрв'ю, але на самым пачатку зазваніў тэлефон і яго выклікалі па нейкай неадкладнай справе. Мэйлер

---

* Пачатак фразы цяжка ацаніць, калі не ведаць, што Мэйлер сам быў жанаты шэсць разоў і стаўся героем выкрывальніцкай біяграфічнай кнігі адной са сваіх жонак. Жонка нумар два прысвяціла кнігу ўспамінам, як пад час п'янай сваркі Мэйлер двойчы пырнуў яе сцізорыкам, яе даставілі ў шпіталь, але паколькі яна адмовілася пісаць заяву на бацьку сваіх двух дзяцей, справа скончылася ўмоўным прысудам.

быў упэўнены, што званок падстроіў сам Цітавец — выслізнуў, як кот (гепард належыць да сямейства кацiных).*

Мэйлер быў абражаны і раззлаваны такімі паводзінамі няўлоўнага мінскага доктара і адпомсціў па-літаратурнаму.

Не атрымаўшы ніякай змястоўнай інфармацыі, ён вырашыў са сведкі ператварыць Цітаўца ў персанажа і паказаць яго ў дачыненні да іншых герояў і падзеяў.

Насадзіць на вастрыё пяра і навесці павелічальнае шкло.

## Мэйлер і «Цітавец»

Персанаж «Цітавец» паўстае як эгаістычная, пыхлівая, самаўпэўненая і падступная асоба.

Дзеянні «Цітаўца» знаходзяцца на аж занадта блізкай адлегласці ад інтарэсаў КДБ, ён выглядае выканаўцам некаторых даручэнняў, знаёмыя здзіўляюцца, як ён адзін здолеў захаваць свой архіў, звязаны з Освальдам, і зрабіў кар'еру.**

Вядомасць у амерыканскім свеце «освальдазнаўства» Цітаўцу прынеслі перш за ўсё магнітафонныя запісы голасу Освальда. Цітавец прасіў Освальда начытаць перад мікрафонам некалькі кавалкаў прозы, каб, як ён патлумачыў, лепш адчуць амерыканскі акцэнт. Першыя запісы рабіліся ў лінгафонным кабінеце медінстытута, дзе Цітаўца добра ведалі і не пярэчылі, калі ён прывёў незнаёмага чалавека для запісу. Паводле ўспамінаў Цітаўца, ён не казаў, што госць — амерыканец.

Для чытання былі выбраныя «Пігмаліён» Бернарда Шоу, даведнік Оксфардскага ўніверсітэта, падручнік з тэкстам Шэкспіра (Освальд чытаў маналог Атэла з 3-й сцэны 1-га акту). Затым Освальд яшчэ начытваў асобныя гукі і словы.

Значна большую вядомасць атрымаў другі запіс, зроблены Цітаўцом у

* У тэлефоннай гутарцы са мной Цітавец, наадварот, скардзіўся на Мэйлера: аднойчы яму прызначылі сустрэчу, ён прыйшоў і мусіў чакаць пятнаццаць хвілін. Так справы не робяцца, гэта непавага да запрошанага, і ён паведаміў амерыканцам усё, што думае з гэтай нагоды.

** Мэйлер, аднак, нідзе наўпрост не піша, што Цітавец быў агентам КДБ. Цікава, што ў дакументах падслухоўвання і вонкавага назірання КДБ, якія далі Мэйлеру, можна пабачыць і Зігераў, і Галавачова, і іншых знаёмых Освальда — але прозвішча «Цітавец» не трапляецца ні разу.

сябе дома ў снежні 1961-га. Яны выбіраюць Хэмінгуэя — Освальд чытае пачатак апавядання «Лагер індзейцаў», затым пераключаецца на «Забойцаў». Тэксты не падабаюцца яму, і, не мяняючы інтанацыі, Освальд лаецца, абзывае Цітаўца «ё... ідыётам», усё гэта застаецца на стужцы. Цітавец не крыўдуе, бо, як потым патлумачыць, «канцэнтруецца на мове».

Генерал КДБ «Гузьмін» казаў Мэйлеру, што, нягледзячы на хуткі прагрэс Освальда ў расейскай мове, ім трэба было мець некага побач з ім, хто добра гаварыў па-ангельску. Але не толькі гаварыў — хто таксама мог бавіць з ім вольны час, сябраваць і нават разумець яго думкі.

У інтэрв'ю Мэйлер патлумачыў мне сітуацыю больш дэталёва:

**— У КДБ быў чалавек, які доўга гутарыў з ім па-ангельску ў Мінску. Прычына — высветліць, ці яго акцэнт быў чысты ці не? У іх быў лінгвістычны аналітык, які мусіў высветліць, ці гэта сапраўды амерыканскі акцэнт, ці сапраўды ён з Поўдня, і яны вывучалі яго акцэнт. І вырашылі — так, у яго паўднёвы акцэнт, ён паходзіць адтуль, адкуль ён кажа. Іхняя задача была пабудаваць сістэму спраўджвання, і яны гэта зрабілі.**

Мэйлер цытуе фрагмент запісу, зробленага дома ў Цітаўца — але не літаратурны, а іншы.

Адклаўшы кнігі ў бок, Цітавец і Освальд пачынаюць імправізаваць — гуляць у інтэрв'ю, дзе Освальду выпадаюць ролі прафесара, забойцы, спартовага каментатара, журналіста.

Эрык пытаецца, Лі адказвае:

**— Раскажыце нам пра ваша апошняе забойства?**
**— Гэта была маладая дзяўчына пад мостам. Яна ішла і несла бохан хлеба. Я перарэзаў ёй глотку ад вуха да вуха.**
**— Навошта?**
**— Ну, зразумела, я хацеў хлеба!**
**— О'кэй.** *(Паўза)* **А якое, на вашу думку, ваша самае знакамітае забойства ў вашым жыцці?**
**— Ну, гэта калі я забіў восем чалавек у Баўэры, на ходніку.* Яны стаялі там, бавілі час, і мне не спадабаліся іх твары, і я ўзяў і рас-**

---

* Ньюёркская вуліца на Манхэтане, вядомая тэатрамі і танцавальнымі залямі, у 1950-я гады месца збору бяздомных і алкаголікаў.

**страляў іх з кулямёта. Гэта было знакаміта, усе газеты напісалі (*смех*).**

Гэты смех мільёны амерыканцаў упершыню пачулі ў лістападзе 1993-га.

Цітавец прадаў гэты запіс амерыканскай тэлекампаніі PBS, якая здымала ў Мінску дакументальнае кіно «Хто быў Лі Харві Освальд». Мэйлер узяў тэкст з фільма. Адразу пасля дыялогу з архіўным смехам Освальда ў амерыканскім тэлеэфіры прагучала тлумачэнне прафесара Цітаўца:

**— Мы проста добра бавілі час і насамрэч мы паміралі са смеху.**

Калі паспрабаваць перадаць ньюарлеанскі акцэнт у перакладзе на беларускую мову, дык можна, напрыклад, напісаць па-палеску:

**«Ну, то было колы я забыв восім чоловік в Бавэры на ходныку. Воны там стоялы, бавылыся, мні іх твары ну нэ сподобалыся, я взяв і пострыляв іх з кулімёту. Аж всі газэты напысалы».**

Цікава, ці ФБР і ЦРУ таксама б вызначылі, з якога рэгіёна Беларусі гаворка?*

## Гепард з хуткасцю чарапахі

Сваё нежаданне адкрыць карты Эрнст Цітавец тлумачыў Мэйлеру цалкам рацыянальна — ён сам збіраецца напісаць кнігу пра Освальда.**

І ён сапраўды выдаў сваю кнігу — праз 17 гадоў пасля сустрэчы з Мэйлерам.

Прычым адразу па-ангельску: «Oswald. Russian Episode» — «Освальд. Расейскі эпізод». Кніга была надрукаваная ў Беларусі, аўтар пачаў рас-

---

* Не скажу пра ФБР, а беларускі КДБ тады дык пэўна не расшыфраваў бы. У 1950-я гады, пасля арышту амерыканскага парашутыста Янкі Філістовіча, там доўга і беспаспяхова ламалі галаву над расшыфроўкай яго запісу «у горадзе в.ш. войска». Што за загадкавы горад схаваны за скаротамі? Філістовіч гаварыць адмаўляўся, з Масквы ціснулі, начальства нервавалася, пакуль арыштаваны не пашкадаваў следчага, які быў родам з Асетыі: «Вам скажу, бо вы каўказец — в.ш. — вельмі шмат» — так на пачатку 1990-х, падчас працы над кнігай «Філістовіч. Вяртанне нацыяналіста» расказваў мне палкоўнік у адстаўцы Рыгор Трапш, каўказец, які вёў справу Я.Ф.

** У сваёй кнізе Цітавец публікуе іншую версію: ён не захацеў нічога расказваць, бо калега Мэйлера Лорэнс Шылер перадузята ставіўся да Освальда.

сылку, спрабуючы зацікавіць буйныя выдавецтвы, якія б дадрукавалі наклад і арганізавалі продаж.

На заднюю вокладку вынесеныя тры цытаты, якія маюць на мэце сцвердзіць паўнамоцтвы аўтара:

**«Эрык... мой найстарэйшы існуючы знаёмы... мой сябар, які вельмі добра гаворыць па-ангельску». Лі Харві Освальд, «Гістарычны дзённік»**
**«Эрык Цітавец, як выглядае, быў самым раннім і, магчыма, самым блізкім сябрам Освальда ў СССР». Эдвард Эпстайн, «Хронікі забойства»**
**«[Эрнст Цітавец] найбліжэйшы сябра Освальда ў Мінску». Норман Мэйлер, «Гісторыя Освальда»**

Гэтыя цытаты патрабуюць удакладнення.

Цітавец пазнаёміўся з Освальдам толькі ўвосень 1960-га. Але яшчэ ў студзені ў Освальда з'явіліся два знаёмыя, з якімі ён будзе сябраваць, сустракацца, бавіць час да самага ад'езду з Мінска — гэта Павел Галавачоў і Аляксандр Зігер.

Трэцяя цытата цікавая тым, што ўзятая з таго самага абзаца ў дадатку да кнігі Мэйлера, дзе ён параўноўвае Цітаўца з разбэшчаным катом.

Гепард, праўда, лічыцца самай хуткай наземнай жывёлай на свеце — хуткасць Цітаўца-мемуарыста хутчэй чарапахавая.

Ён скардзіўся, што скончыў кнігу ў 1999-м, але ніяк не мог знайсці выдаўца і тлумачыў гэта зместам кнігі — маўляў, яго версія падзеяў не супадае з афіцыйнай:

**— Адразу пасля напісання кнігі я, на параду сяброў, звяртаўся да ангельскіх літаратурных агентаў, якія напачатку зацікавіліся кнігай, а потым пачыналі нешта муціць і цягнуць. Вось тады я і зразумеў, што на Захадзе гэтая кніга ніколі не выйдзе менавіта з-за тых высноваў, якія там зробленыя.***

Публікацыяў, дзе даводзіцца, што Освальд не мог быць і не быў забойцам — тысячы, і ўсе яны на Захадзе. Фактычна, усю апублікаваную на Захадзе літаратуру можна падзяліць на дзве часткі: адна

---

* Інтэрв'ю Э. Цітаўца сайту «Белорусские новости» (www.naviny.by) 11 чэрвеня 2010 года.

адказвае «так», другая «не» на тое самае цэнтральнае пытанне і ніяк не абмінае яго.

Аднак доктар біялагічных навук Цітавец запэўнівае:

**— Гэта не параноя, а рэальныя факты, што складваюцца ў вельмі цікавую гісторыю вакол гэтага выдання, якая яшчэ не скончылася. Мяне адсочвалі, з майго камп'ютара праз інтэрнэт былі сцёртыя ўсе файлы, якія мелі дачыненне да Освальда, а затым была адхіленая мая прапанова прыехаць з дакладам на канферэнцыю ў Даласе, прысвечаную забойству Кенэдзі, мяне прасілі прадаць мае магнітафонныя запісы дыялогаў з Освальдам.***

Але кніга ўсё ж выйшла — і на амаль пяцістах старонках аўтар дае сваю версію і ацэнкі часу і падзеяў.

Цітавец выступіў адразу ў дзвюх ролях. Адна — традыцыйнага даследніка, які, як Мэйлер, вывучае і аналізуе ўсю гісторыю Освальда на падставе дакументаў Камісіі Уорэна, публікацыяў, размоваў са сведкамі, і другая — мемуарыста, непасрэднага ўдзельніка падзеяў, які ўспамінае, як што было.

Гэта спалучальныя, але розныя задачы. Цяжка знайсці нешта сваё на пратаптаных сотнямі даследнікаў палетках, яшчэ цяжэй дамагчыся, каб гэта заўважылі. Нюансы інтэрпрэтацыяў цікавяць толькі зацятых заўзятараў.**

Асабістыя ўспаміны, з другога боку, могуць быць унікальнымі — але могуць і не быць. Аўтар не адзіны, хто ведаў героя, і нават не найбліжэйшы да яго чалавек — аповеды жонкі ці запісы КДБ даюць зусім іншую ступень набліжанасці і нават інтымнасці.

---

* Тут што ні сцверджанне, то пытанне: што значыць адхіленая «прапанова» прыехаць у Далас — аўтар прапанаваў арганізатарам запрасіць сябе? На якіх умовах — аўтар хацеў, каб яму аплацілі падарожжа і далі ганарар за выступ? Гарантавалі выданне кнігі? Ці арганізатары папрасілі прыслаць тэкст выступу? Хто яны — школьны гістарычны клуб, аматарскі гурток пры бібліятэцы, універсітэт, мясцовае аддзяленне Ротары?.. І, прынамсі, частку магнітафонных запісаў Цітавец прадаў амерыканскаму тэлебачанню, і яны даўно даступныя ў інтэрнэце...

** Значную частку кнігі займае апісанне палітычнай сітуацыі, халодная вайна, марксізм і сацыялізм, цытаты з тагачаснага англамоўнага савецкага тыднёвіка «Moscow Times», разважанні пра тое, чаму Освальд не мог быць забойцам і па вяртанні ў Амерыку не стаў ім, аналіз яго амерыканскіх рукапісаў. На ангельскай мове падобнага напісана і апублікавана столькі, ад студэнцкіх рэфератаў да паліталагічных кніг, што сам зварот да такога матэрыялу пакідае ўражанне другаснасці, маргінальнай аматарскай спробы.

Цітавец прызнаецца, што з некаторымі знаёмымі Освальда ўпершыню сустрэўся толькі ў 1990-я. І толькі тады пачаў высвятляць некаторыя сюжэты, цэнтральныя для сваёй кнігі. Сваіх галоўных канкурэнтаў на блізкае сяброўства з амерыканцам Цітавец згадвае мінімальна: Зігера нейтральна, Галавачова звысоку і непаважліва.

Што ж, кожны піша сваю кнігу і піша, як можа і як памятае. Цітавец памятае свой час з Освальдам выразна і падрабязна, не толькі падзеі, але й пачуцці, не толькі дыялогі, але й думкі.

Вось яны ўпершыню ідуць у Оперны тэатр, і Освальд кідае смецце пад крэслы і тлумачыць — каб была праца для прыбіральшчыц. Вось дурэюць у яго кватэры, гуляючы ў амерыканскіх салдат, і Эрык старанна выконвае каманды Лі: «Направа! Кругом! Налева! Зважай! Вольна!»

Вось ладзяць эратычную вечарынку з дзвюма студэнткамі (Лі з адной дзеўчынай зачыняецца на кухні, Эрык нясмела гладзіць сваю дзяўчыну ў пакоі, усё сканчаецца сканфужаным смехам).

Вось едуць у Ждановічы на рыбалку, вось робяць знакамітыя магнітафонныя запісы, вось спрабуюць сканструяваць гранату з украдзеных на заводзе двух металічных цыліндраў, вось прарываюцца ў інтэрнат ін'яза...

Абодва персанажы выглядаюць сімпатычнымі прыяцелямі, якія маюць крыху больш за 40 гадоў на дваіх, яны жывуць там, напачатку 1960-х, яшчэ ўсё ў іх наперадзе... Гэтыя сцэны дапаўняюць партрэт Освальда, створаны за апошнія паўстагоддзя, — але не мяняюць яго.

Цітавец паведамляе, што першае ангельскае выдавецтва, якое патрымала і не надрукавала кнігу, патлумачыла, што рынак перанасычаны. Другое пасля вывучэння тэксту таксама адмовілася выдаваць і параіла аўтару перадаць рукапіс у Бібліятэку Кангрэсу ЗША.

Іншымі словамі, рэдактары далі зразумець аўтару, што знаёмства са знакамітасцю не азначае аўтаматычнай вартасці ўспамінаў.

Мемуарыст выбраў не тую мову, не тых чытачоў, не той фокус, не той час.

Спазніўся.

## Ці ведаў Освальд Цітаўца?

Логіка датаў і паслядоўнасці ў любым аповедзе мае сэнс, толькі калі яна парушаецца: у гістарычным люстэрку задняга бачання некаторыя

адказы стаяць побач з пытаннямі, а часам нават перад імі.



Прафесар Цітавец сапраўды мае падставы сцвярджаць, што ён ведаў Освальда, яго мінскі побыт, браў удзел у важных падзеях яго жыцця.

Ці ведаў Освальд Цітаўца?

Увесну 1962-га завяршаецца больш чым гадавая барацьба Освальда за вяртанне ў Амерыку — першы ліст у амбасаду з просьбай вярнуць пашпарт на пачатку лютага 1961-га, сакрэтны палёт на тыдзень у Маскву ў амбасаду, ліставанне, высвятленне, ці не арыштуюць яго за здраду, спробы атрымаць гарантыі ад Дзярждэпартамента, хадайніцтвы маці, зарука будучага працадаўцы, паездка ў Маскву жонкі і выключэнне яе з камсамолу ў Мінску, зноў перапіска з амбасадай ЗША, напружанае чаканне адказаў, бясконцыя абмеркаванні і спрэчкі з жонкай, размовы на гэтую тэму з Зігерамі і Паўлам Галавачовым, а таксама з дзядзькам і цёткай Марыны.

У адным з самых апошніх запісаў у «Гістарычным дзённіку» Освальд згадвае Цітаўца.

**Дзённік ЛХО**
**Сакавік 1962**

**Апошнія абмены камунікацыямі паміж мной і амбасадай. Прыходзяць лісты ад маці і брата ў ЗША. Я яшчэ не сказаў Эрыку, які з’яўляецца маім самым старым існуючым знаёмым, што мы збіраемся ў Штаты. Ён — ОК, але я баюся, што ён занадта добры член камуністычнага саюза моладзі, таму я пачакаю да апошняй хвіліны.**

Чаго ці каго баяўся Освальд?

Цітаўца, які як лаяльны грамадзянін паведаміць уладам пра намер перабежчыка вярнуцца ў ЗША?

Ці Цітаўца, які праз свае ідэалагічныя перакананні асабіста абурыцца і пакрыўдзіцца на рашэнне амерыканца з'ехаць з СССР, пачне адгаворваць?

Ці Цітаўца, які ўяўляе нейкую іншую небяспеку, і яму нельга давяраць?

Цітавец у сваіх успамінах намалюе сцэну, дзе ён так горача даводзіць Освальду перавагі сацыялізму, што той выбухае і кажа свайму суразмоўцу — вы жывяце як рабы!

Освальд напісаў тое, што напісаў.

Эрык — ОК, а ўсё астатняе — як той казаў, кантэкст.

Сам Цітавец потым у газетных інтэрв'ю і кнізе патлумачыў гэты запіс жаданнем Освальда выгарадзіць яго такім чынам перад савецкімі ўладамі.

Дзеля чаго трэба зрабіць адно дапушчэнне і пагадзіцца з высновай, якая з яго вынікае.

Трэба дапусціць, што Освальд чамусьці ведаў, што яго дзённік патрапіць у рукі савецкіх спецслужбаў і гэтак хацеў абараніць Цітаўца. І непазбежная выснова — што тады такім чынам ён свядома «здае» спецслужбам іншых сваіх знаёмых, пра якіх піша ў дзённіку прыхільна — Аляксандра Зігера, які раіў яму з'язджаць, Паўла Галавачова, які пастаянна вядзе антысавецкія размовы, дзяўчат, якія занадта блізка сыходзяцца з амерыканцам.

Падставаў для такіх высноваў і такога дапушчэння Освальд нідзе ніколі не даваў.

Калі праз два месяцы амерыканец з сям'ёй назаўсёды будзе ад'язджаць з Мінска, сябры прыйдуць на вакзал.

Цітаўца сярод іх не будзе.

Як ён тады патлумачыць Паўлу Галавачову — не ведаў.*

---

* Пра гэтую версію Цітаўца тады ж, у 1962-м, Галавачоў напісаў Освальдам у Амерыку, яго ліст захоўваецца ў матэрыялах Камісіі Уорэна. Тое самае — што Освальд збіраўся сказаць Цітаўцу пра ад'езд толькі напярэдадні і нават пайшоў да яго дадому, але не заспеў, і Цітаўца не было на вакзале, Марына ў 1964-м расказала Прысцыле МакМілан, і так гэта прадстаўлена ў яе кнізе, выдадзенай у 1977-м. Сам Цітавец цяпер у кнізе, надрукаванай у 2010-м, сцвярджае, што развітаўся з Освальдам за дзень да ад'езду таго з Мінска, а на вакзал не прыйшоў, бо не любіў доўгія развітанні.

## «Здрастуй!» І бывай...

У раздзеле «Падзякі» Мэйлер згадвае Іну Андрэеўну Пісенка — і ў дужках пазначае, што ёй належыць асаблівая ўдзячнасць за дапамогу з перакладамі спецыяльных праектаў.

Некалькі пакаленняў студэнтаў інʼяза былі таемна закаханыя ў бліскучую і элегантную Іну, двайную чэмпіёнку Беларусі ў плаванні (фрыстайл і батэрфляй), выкладчыцу з абсалютным фанетычным слыхам і выдатную сінхраністку.

Яна адказвала на мае пытанні пра сустрэчы з Мэйлерам, а потым спыталася — а пра Освальда нецікава?

— А Вы што, яго ведалі?! —

— Вельмі добра. Нават дадому прыводзіла.

Маёй суразмовіцы сапраўды быў прысвечаны раздзел у кнізе Мэйлера, але там яна фігуравала пад дзявочым прозвішчам, і яе знаёмства з Освальдам было для мяне нечаканасцю.

— Мы пазнаёміліся ў філармоніі, у мяне быў гадавы абанемент, і я хадзіла на ўсе канцэрты. У перапынку я пачула ангельскую мову — а гэта была такая рэдкасць у Мінску, і мы з сяброўкай падышлі пазнаёміцца.

— А што гралі ў той дзень?

— Першы канцэрт Мендэльсона з аркестрам.

Мэйлеру пашанцавала — чалавек, які памятае рэпертуар філармоніі праз паўсотні гадоў, памятае і шмат чаго іншага. Памяць, канечне, патрабуе падказак — Іна Маркава расказвала, як уніклівыя пытанні Мэйлера і яго памочнікаў, па-майстэрску сфармуляваныя і падабраныя, дапамагалі ўспомніць даўно, здавалася, забытыя рэчы, акалічнасці, дэталі.

Эрык Цітавец, які быў з Освальдам на канцэрце, таксама паспрабаваў выдаць сябе за замежніка, але дзяўчаты не далі веры. І Освальд не падтрымаў гульні — сказаў, што толькі ён амерыканец.

Пасля канцэрту новыя знаёмыя прагуляліся да плошчы Перамогі, Іна дала свой тэлефон, і ўжо назаўтра, у нядзелю, пазваніў Цітавец і спытаўся, ці можна ім прыйсці ў госці.

Мэйлер піша:

> **Бацька Іны займаў высокую партыйную пасаду і быў палкоўнікам. Вельмі патрыятычны чалавек. Ён не пацярпеў бы, каб у яго доме быў хто-небудзь з-за мяжы.**



У перакладзе гэта можа значыць, што палкоўнік быў нармальным савецкім чалавекам, які баяўся, вядома, не замежнікаў, а суседзяў, якія маглі данесці, і начальства, якое магло сапсаваць кар’еру. Помнік Сталіну па-ранейшаму ўзвышаўся ў цэнтры Мінска, вуліцы, заводы і калгасы па-ранейшаму насілі імя генералісімуса.

Але дома была толькі маці, і Іна запрасіла на сустрэчу таксама сяброўку, з якой была ў філармоніі.

Візіт быў нядоўгім — з-за граматыкі.

Освальд сказаў маці Іны «здрастуй» замест «здравствуйте», тая выклікала дачку на кухню і пачала ўшчуваць, што гэта за нявыхаваных грубіянаў, якія не ведаюць як звяртацца да старэйшых, прыводзіць тая дадому.

— Мама, ён не рускі. Ён амерыканец.

Маці збялела і сказала — забяры яго, хутка вернецца бацька.

Але дачка ўгаварыла ўстрывожаную жанчыну, і госці засталіся, пілі чай і слухалі музыку.

— О, сапраўдная «бухара»! — не схаваў здзіўлення амерыканец, калі пабачыў на сцяне персідскі дыван. Іна не стала расказваць, што бацька некалі служыў у Тэгеране.

Больш сюды Освальд не прыходзіў.

Наступны раз дзяўчаты сустрэліся ў Освальда дома — яны прыйшлі

паглядзець яго бібліятэку, якую, на іх здзіўленне, складалі не амерыканскія аўтары, а Маркс і Энгельс.

Пасля гэтага сустрэчы адбываліся на новым месцы, на нейтральнай тэрыторыі — калі так можна назваць пакоі з кратамі на вокнах, куды ўваход дазваляўся па прапусках і ахоўваўся кругласутачнай вахтай.

У студэнцкім інтэрнаце.

## Паходы ў манастыр

Новае месца было зусім блізка ад плошчы Перамогі. Адрас — Омскі завулак, 13, на шыльдзе было пазначана — інтэрнат.

**Дзённік ЛХО**
**15 лістапада 1960**

**У лістападзе я пазнаёміўся з чатырма дзяўчатамі, якія жывуць у інтэрнаце Інстытута замежных моваў. Нэлі вельмі цікавая, таксама як і Томка, Томіс і Ала. Я звычайна хаджу ў інстытуцкі інтэрнат з сябрам, які вельмі добра гаворыць па-ангельску. Эрнст Цітавец на чацвёртым курсе медінстытута. Вельмі здольны хлопец. У інтэрнаце мы шасцёра сядзім і гаворым гадзінамі па-расейску і па-ангельску.***

Каб прайсьці ў інтэрнат, пропуск патрабаваўся нават насельнікам, гасцей запісвалі ў адмысловую кнігу, патрабавалі дакументы ў заклад, па пакоях хадзілі праверкі, не дазвалялі заставацца позна.

Калі пра гэтую працэдуру расказалі Мэйлеру, ён быў так уражаны, што напісаў наступную фразу:

**Да дзяўчат, якія вучыліся ў інʼязе, ставіліся як да юных лэдзі ў манастыры.**

---

* Не ведаю, наколькі зразумелае гэтае жаданне сёння, але за савецкім часам студэнты інʼяза аж млелі ад магчымасці пагаварыць з «носьбітам мовы», як называлі замежнікаў. Інʼязаўцаў цікавілі не біяграфія, не прафесія, не сам чалавек і нават не тое, што ён кажа — а як гаворыць, яго вымаўленне, ідыёмы, слэнг. Студэнтаў вучылі выдатныя выкладчыкі, але свае, замежнікі былі вялікай рэдкасцю нават у 1970-80-я гады, а што казаць пра ранейшыя дзесяцігоддзі. Цэлыя выпускі потым вучылі дзяцей замежным мовам, так ніколі ў жыцці й не паразмаўляўшы з жывым «носьбітам».



Юныя лэдзі, аднак, манашкамі зусім не былі, а іх кавалераў не спынялі жалезныя краты на вокнах першага паверха: пруткі можна было разагнуць, мацаванні расхістаць, былі пажарныя лесвіцы, вадасцёкавыя трубы, па якіх можна было залезці адразу на другі паверх.

Освальд зайшоў у інтэрнат праз уваход.

Адна дзяўчына сказала, што на вахце працуе яе сваячка і прапусціць, у пакоі замкнулі дзверы — сапраўдны амерыканец, як цікава. За першым візітам пайшлі новыя.

Генерал КДБ «Ігар Гузьмін» так тлумачыў Мэйлеру бесперашкодныя паходы Освальда ў інтэрнат:

**Мы былі таксама гатовыя шукаць людзей у нашым Інстытуце замежных моваў. Як Вы можаце здагадацца, дзяўчаты з інстытута былі ў стане інфармаваць нас пра паводзіны Освальда. Контрразведка манітаравала ўвесь гэты працэс і была пра ўсё паінфармаваная.**

Размаўлялі, распытвалі, жартавалі, часам збіралася па шэсць дзяўчат, стараліся гучна не смяяцца. Адкрывалі тлумачальны слоўнік ан-

гельскай мовы, выбіралі любое слова — і калі дзяўчаты не маглі здагадацца пра яго значэнне, Освальд заўсёды смяяўся — ён ведаў!

Сустрэчы працягваліся пару месяцаў, часам з удзелам Цітаўца, часам без. Аднойчы Освальд патрапіў у сітуацыю, пра якую потым напіша ў рукапісе «Калектыў»:

> **У 1961 годзе кітайская дэлегацыя прыехала ў Мінск, і яе павезлі з вакзала ў гатэль. Хаця было ўжо 10:30 ночы, па ўсім шляху супрацоўнікі МУС (бяспекі) забягалі ў дамы й інтэрнаты і загадвалі людзям выходзіць на вуліцу вітаць гасцей. Хаця загадзя не было ніякага паведамлення пра дэлегацыю, яшчэ адзін спантанны прывітальны камітэт сустрэў кавалькаду чорных лімузінаў і паслухмяна памахаў рукамі зацямнёным машынам, з якіх крыху высоўваліся жаўтаватыя далоні. Я сам быў у гасцях у сяброў у інтэрнаце, калі супрацоўнік бяспекі выклікаў нас дзеля гэтага. Я адразу пайшоў разам з усімі ў натоўп, і ведаю, што гэта не проста праўда, а стандартная працэдура.**

Дзяўчаты да Освальда прывыклі і нават пачыналі нудзіцца — яго гісторыі паўтараліся, жарты былі ўжо не смешныя, сам ён нягеглы, нехта нават сказаў, што ён ходзіць сюды, бо дзяўчаты больш нідзе з ім не захочуць сустракацца.

Мэйлер, аднак, прыйшоў да высновы, што менавіта ў інʼязаўскім манастыры Освальд знайшоў сабе каханку.

Як бы гэта далікатней удакладніць: не першую.

## «Заўважана імкненне знаёміцца з бландзінкамі»

Інтымнае жыццё Освальда да шлюбу вывучана двума даследнікамі, КДБ і Мэйлерам. Ад Мэйлера можна даведацца, што першай жанчынай Освальда была японка (амерыканскія салдаты на базе Акінава свабодна наведвалі бардэлі), ні разу не было амерыканкі.

Ад КДБ — што яму падабаліся бландзінкі. Так, прынамсі, сцвярджала ў справаздачы «Сцяпану» крыніца «Таня», перакладчыца мінскага Інтурыста.

**Рапарт КДБ**
**08.07.60**

**У паводзінах Лі Харві было заўважана імкненне знаёміцца з дзяўчатамі, перш за ўсё з бландзінкамі, якія гавораць па-ангельску, адначасна з разлікам, які мяжуе са сквапнасцю. Напрыклад, ён можа пайсці на спатканне з дзяўчынай, а потым пайсці ў рэстаран адзін, бо лічыць, што аднаму танней. Ён шмат разоў арганізоўваў сустрэчы з крыніцай, бо можа прыйсці ці пазваніць ёй на працу. Крыніца схільная думаць, што Лі Харві апошнім часам астыў у сваіх заляцаннях, бо яго патрабаванне, што ён заслужыў пацалунак пасля шасьці месяцаў сустрэч, не было задаволенае. Ён прыкінуўся, што расчараваны ці пакрыўджаны і пасля гэтага стаў сустракацца з крыніцай не так часта.**

Трэцяй крыніцай інтымнай інфармацыі стаў сам Освальд.

**Дзённік ЛХО**
**Дадатковая старонка. Без даты.**

**Іна Т.***
**Я сустрэўся з ёй у 1960-м у Зігераў, яе сям'я, якая паслала яе ў Мінск, відавочна, заможная. Іна любіць моднае адзенне, добры абутак і бялізну. У кастрычніку 1960 года мы становімся вельмі блізкія, кульмінацыяй стаў палавы акт 21 кастрычніка. Яна была цнатлівая і вельмі цікавая. Мы сустракаліся такім чынам 4 ці 5 разоў, апошні — 4 лістапада 1960-га. Па заканчэнні апошняга курсу Мінскай кансерваторыі яна з'ехала з Мінска ў Рыгу.**

Што менавіта запісана ў матэрыялах праслухоўвання КДБ 21 кастрычніка 1960 году, Мэйлеру не паказалі.

**Дзённік ЛХО**
**Снежань 1960**

**У мяне лёгкі раман з Нэляй К.**
**Нэля К. Высокая, 5 футаў 11 цаляў, 150 фунтаў, добрыя прапорцыі,**

* У «Дзённіку» імёны дзяўчат Освальд піша цалкам і так, поўнасцю, падае іх Мэйлер у сваёй кнізе. Калі каму моцна карціць, могуць самі пайсці ў бібліятэку і замовіць «Oswald's Tale».



**вялікія высокія грудзі, шырокія і прыгожыя сцёгны, прапарцыйныя, сама з вёскі непадалёку ад польскай мяжы, чыста расейскага вясковага паходжання. Далікатная, добрая, жаноцкая і ўсё разумее, з гарачым і строгім сэрцам. Яна спалучала ўсе найлепшыя жаночыя рысы з добрым, вялікім расейскім сэрцам. Я пазнаёміўся з ёй праз суседку ў пакоі Томку. Нэлі і Томка і яшчэ тры дзяўчыны жылі разам у пакоі інтэрната Інстытута замежных моваў каля плошчы Перамогі. Я пачаў сур'ёзна звяртаць увагу на Нэлю, калі разышоўся з Інай Т.**

Пазней на асобным аркушы Освальд дапісвае:

**Нэля напачатку не звяртае на сябе вялікай увагі, яна проста выглядае і надта вялікая, але я адразу адчуў, што яна добрая і яе жарсці адпавядаюць яе памерам, што ўдалося высветліць толькі пасля доўгага вывучэння прадмету. Пасля лёгкага раману, які цягнуўся да студзеня і нават лютага, мы падтрымлівалі сяброўства, але нічога больш аж да траўня 1961-га, і пасля жаніцьбы больш не сустракаліся.**

Гэты запіс, зроблены, верагодна, ужо пасля вяртання ў Амерыку, Мэйлер называе адзіным, апроч радкоў пра студэнтку кансерваторыі, канкрэтным сведчаннем сэксуальнага жыцця Освальда ў Мінску да жаніцьбы.

Канкрэтыкі ў гэтым выпадку якраз і няма. Ёсць крыху нацяжная спроба гумару.

Восенню 1960-га ў Освальда развіваецца нашмат больш сур'ёзны трэці раман, які завершыцца прапановай рукі і сэрца.

Дарэчы — брунетцы.

## КДБ і «мужчыны з вялікай задніцай»

Сэксуальнае жыццё Освальда цікавіла шмат каго.

Будучы прэзідэнт ЗША Форд, сябра Камісіі Уорэна, таксама зрабіў унёсак у гэтую тэму, спытаўшы, ці не быў Освальд «імпатэнтам». Жонка Освальда ў адказ заявіла, што не разумее, як такі чалавек мог стаць прэзідэнтам.

Аднак чытаючы Мэйлера, можна ўявіць, што пытанні, якія ён высвятляе, сфармуляваныя ў аддзеле маркетынгу выдавецтва. Напрыклад — ці быў Освальд гомасэксуалістам?

Генерал «Гузьмін» цьмяна заявіў, што Освальд быў «нячысты і карыстаўся сітуацыяй, калі яна з'ўлялася».

Але непасрэдны куратар «Сцяпан» катэгарычна абвергнуў гэта. Освальд часам прыводзіў дзяўчат дадому, і «Бог ведае што яны там рабілі». Верагодна, гэта было да ўсталявання прамога назірання ў кватэры, бо потым КДБ ведаў шмат чаго даволі дакладна.

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**26 ліпеня 1961**

**21:50 ЛХО ідзе на кухню, вяртаецца.**
**22:10 Яны кладуцца ў ложак.**
**22:15 Інтымная гутарка.**
**22:30 Ціха, яны спяць.**
**23:00 Назіранне завершана.**

Як тлумачыў «Сцяпан», у КДБ не было правілаў, як запісваць інтым-

ныя моманты. Звычайна чалавек, які расшыфроўваў запіс, пазначаў, што акт адбыўся, але не даваў дэталяў.

Але на практыцы гэта залежала ад задачы:

**— Уявіце, што я працую ў ФБР ці ЦРУ і хачу завербаваць савецкага інжынера. Мне давялося шукаць на яго кампрамат, перш і важней за ўсё — сэксуальныя рэчы. Як аналітык я б загадаў: запісвайце ўсё як найпадрабязней. Усе сэксуальныя працэсы. Рабіце фота. Усё залежыць ад мэты.**

«Сцяпану» даводзілася весці справу, па якой праходзілі гомасэксуалісты — за крымінальнае злачынства «мужаложства» прадугледжвалася пакаранне да пяці гадоў турмы. Ён патлумачыў Мэйлеру, як гэта выглядала вачыма КДБ 60-х гадоў:

**— Звычайна ў гомасэксуаліста тонкі голас, нешта жаноцкае, ён цікавіцца жанчынамі толькі фармальна, але яго вочы загараюцца, калі ён бачыць мужчыну, асабліва — прабачце — з вялікім задам. Яго пастаянна можна бачыць у грамадскіх прыбіральнях, і часта там яны і здзяйсняюць акты. Такім чынам, у гомасэксуаліста ёсць пэўныя выразныя рысы, паводле якіх яго можна выявіць, і такіх рысаў мы за Освальдам не назіралі.**

Дзяржаўную бяспеку аднаполае каханне падрывала да 1993-га, калі яно фармальна і афіцыйна перастала быць злачынствам.

## Мэйлер і гіганты сэксу

У 2007 годзе апошні раман Мэйлера «Замак у лесе» пра дзяцінства Гітлера атрымаў шырока вядомы ў амерыканскім прыгожым пісьменстве прыз часопіса Literary Review «За дрэнны сэкс у мастацкай літаратуры».

Назвы ранейшых твораў гавораць самі за сябе: «У палоне сэксу», «Геній і жарсць», «Прывід прасталыткі», крыху менш кідаюцца ў вочы «Пра жанчын і элегантнасць» і «Мэрылін», але дзеля справядлівасці трэба сказаць, што самы першы раман «Голыя і мёртвыя» не пра тое, што можна падумаць, калі прачытаць усе загалоўкі разам.

Мэйлер лёгка пераплюнуў КДБ у асвятленні мінскага сэксуальнага жыцця (без уліку таго, што там яшчэ схавана ў архівах, вядома).

Так, у кнізе знаёмы Освальда Юры Меражынскі, сын доктара біялогіі Чаркасавай (якая час ад часу выскоквае паміж літараў у самых нечаканых месцах), прадстаўнік «залатой моладзі» 1960-х, а на пачатку 1990-х, паводле апісання Мэйлера, заслужаны алкаголік, тлумачыць амерыканскаму чытачу мінскія норавы і тыпы на прыкладзе свайго знаёмага:

**Ён быў вышэйшы і большы за мяне. Яго мянушка была «Ган-дон-чык», ад слова гандон, шырокі гандон. Ён скупляў гандоны па 4 капейкі за штуку, і купляў адзежныя шчоткі. Прабіваў чатыры дзірачкі ў гандоне, даставаў шчаціну са шчоткі і ўстаўляў у дзірачкі, а зверху нацягваў яшчэ адзін гандон. І прадаваў прастытуткам, і шмат народу купляла. За вялікія грошы. Таму яго празвалі «Ган-дон-чык», таму што ён рабіў жанчын шчаслівымі, так. У той час можна было мець нават гандон з вусамі. Ну, і такая мянушка. Ган-дон-чык, Ган-дон-чык. Вялікі даход, канечне. Яго вельмі любілі жанчыны.**

Раздзел кнігі «Закаханы ў Элу» Мэйлер пачынае з аповеду Паўла Галавачова, які працаваў на заводзе разам з Освальдам і Элай Герман і бачыў пачатак іх раману.

**Лі не надта паказваў свае пачуцці. Фактычна, ён ніколі не казаў, што ён з некім пераспаў. Напрыклад, была Магда, вялікая, як кабыла. Яна лёгка давала. Людзі казалі, што гэта муж зрабіў яе такой. На начной змене мужыкі нават спрачаліся, чыя чарга кінуць палку. Яна важыла 120 кілаграмаў. Яе звалі «Наша кабыла», «Наш халадзільнік».**

Наконт халадзільніка: у 1950-я Мэйлер, як і шмат хто, захапляўся вучнем Зігмунда Фрэйда Вільгельмам Райхам, якога называюць бацькам сэксуальнай рэвалюцыі. Яшчэ на пачатку 1930-х ён злучыў вучэнне Маркса і Фрэйда і заснаваў «Сэкспол» — Нямецкую асацыяцыю Пралетарскай Сэксуальнай Палітыкі, якая неўзабаве налічвала 40 000 членаў. Райх лічыў аргазм панацэяй, і праз яго вынайшаў першасную касмічную сілу — «энергію аргону». Пасля эміграцыі ў Амерыку ён пабудаваў акумулятар аргону, які стаў вядомы як «аргазматрон». «Аргазматрон» уяўляў сабой драўляную скрыню з ферамагнітнымі ўстаўкамі

і збіраў «аргон» з атмасферы. «Аргон», са словаў Райха, дапамагаў не толькі ад імпатэнцыі і фрыгіднасці, але лячыў ад раку і радыяцыі. У патэнце Райху адмовілі, але сярод тых, хто паспрабаваў на сабе дзеянне «аргазматрона», апроч Мэйлера, былі Джэром Сэлінджэр, Сол Бэлоў, Ален Гінзбург і першы Джэймс Бонд — Шон Конэры. Прэса пісала пра некантраляваныя эрэкцыі ў сэкс-скрынях, папулярнасць набылі ручныя пераносныя акумулятары таямнічай энергіі, Райх нават пабудаваў аргонную ўстаноўку для выклікання дажджу, і, калі верыць публікацыі ў мясцовай газеце штата Мэйн, атрымаў за гэта грошы ад шчаслівых фермераў.

З Райхам звязваюць знакаміты пастулат з рамана «1984» Джорджа Оруэла: «Мы скасуем аргазм». Мэйлер, здаецца, гатовы быў шукаць аргазм нават у халадзільніку. У пасляслоўі ён бярэ імя «Магда» ў двукоссе, што азначае — псеўданім. Увесь анекдот спатрэбіўся амерыканскаму аўтару, каб напісаць:

**Павел не думае, што Лі што-небудзь рабіў з Магдай.**

Больш гіганты мінскага сэксу 1960-х «Гандончык» і «Магда» нідзе ў кнізе не ўсплываюць.

Але тэма сэксу на гэтым не сканчаецца.

## Цнота

Былі, былі ў 1960-м у Мінску і цнатлівыя людзі.

**Дзённік ЛХО**
**Дадатковая старонка. Чэрвень 1960**

**Эла Герман — прыгажуня-габрэйка з чорнымі ядвабнымі валасамі, з прыгожымі цёмнымі вачыма і скурай белай, як снег; цудоўная ўсмешка і добры, але непрадказальны характар. Яе адзіны недахоп — у сваe 24 гады яна захавала цноту, бо так сама пажадала. Я сустрэў яе, калі яна пачала працаваць на заводзе. Я яе пабачыў і, магчыма, закахаўся з першага погляду.**

На заводзе ў Освальда былі тры канфліктныя сітуацыі: калі ён разабраў падрыхтаваны да працы чужы прэс, калі аднойчы задзёр ногі на



стол і абвясціў, што гэта сядзячая забастоўка, і трэцяя — з-за Элы. Ён дапамагаў ёй з ангельскай у пакоі адпачынку і выключыў радыё. Іншы рабочы ўстаў і зноў уключыў. Освальд ізноў выключыў і сказаў: «Расейская свіння!»

І не атрымаў у адказ па пысе. Хутчэй за ўсё, не таму, што Макс Прахорчык, як звалі рабочага, не быў расейцам, а таму што аднойчы ён ужо сутыкнуўся з Освальдам і потым быў вымушаны выбачацца — гэта ён некалі ўзяў Освальда за грудкі ў спрэчцы за прэс. Рабочы пакінуў пакой.

Апроч недарэчнай абразы па нацыянальнай прыкмеце свайго будучага мужа (Прахорчык ажаніўся з Элай Герман ужо пасля ад'езду Освальда), Эла ўзгадала, а Мэйлер цытуе яшчэ некалькі выказванняў Освальда:

**Я багаты жаніх — у мяне кватэра!**
**Калі ў будучыні нам што-небудзь спатрэбіцца, я магу пайсці да мэра. Мы атрымаем, што трэба.**

У траўні 1960 года над Уралам быў збіты амерыканскі самалёт-разведчык У-2, і жывым захоплены пілот Фрэнсіс Геры Паўэрс:

**Эла, думаеш, мне гэта пашкодзіць, бо я амерыканец?**
**Тут, у Мінску, мяне не відаць. Але калі я прыехаў у Маскву, я сапраўды вылучаўся.**

І апошняе:

**Калі я вярнуся ў Амерыку, мяне заб'юць.**

Не самы спакойны душэўны стан.

Але наўрад ці прароцтва. Усё ж гэта ўспаміны Элы пасля таго, як усё адбылося, і нагаворана і напісана было шмат усяго і ўсялякага.

І ўсё ж...

## Халтуршчыкі з КДБ

Аднойчы, калі Освальд праводзіў Элу дадому, да іх падбегла дзяўчына, у якой вырвалі сумачку. Освальд не пабег за злодзеем, а спытаў у Элы, ці нельга прайсці іншай вуліцай. І яны пайшлі іншай дарогай. Ахоўнікі законнасці з КДБ у такія сітуацыі не ўмешваліся.

**Рапарт вонкавага назірання КДБ**
**02.07.60**
**Ад 12:00 да 24:00**

**У 14:30 Лі Харві выйшаў з працы і пайшоў на абед у кафэ самаабслугоўвання на плошчы Перамогі. Пад'еў, быў дома ў 15:00.**
**У 16:00 выйшаў з дома, сеў на тралейбус № 1 на плошчы Перамогі і паехаў да Цэнтральнай плошчы без аплаты праезду. Выйшаў праз заднія дзверы і пайшоў у краму саюздруку № 1 на вуліцы Маркса. Там купіў некалькі газет і пайшоў у гастраном № 13 на праспекце Сталіна. Нічога не купіў, выйшаў, пайшоў у ГУМ. Паглядзеў тавары ў аддзеле пластмасы, нічога не набыў і пайшоў у кветкавую краму, затым у булачную, потым у кафэ «Вясна». Выйшаў з кафэ праз 5 хвілін, на прыпынку «Камсамольская» сеў на тралейбус № 1, выйшаў на плошчы Перамогі і быў дома ў 16:50.**
**У 20:20 Лі Харві выйшаў з дома і хутка пайшоў да Опернага тэатра. Там пачаў хадзіць туды-сюды каля цэнтральнага ўваходу. Праз 10 хвілін пайшоў у бок скверу і на галоўнай алеі сустрэўся з незнаёмай жанчынай, мянушка «Дора». Яны павіталіся поціскам рук і пачалі гаварыць. Пагаварыўшы хвіліны тры, яны разышліся не развітаўшыся. «Дора» пайшла ў жылы дом на Лаўска-Набярэжнай**



**вуліцы, а Лі Харві застаўся на плошчы. Праз 20 хвілін «Дора» вярнулася, нешта сказала, і яны, узяўшыся за рукі, пайшлі да цырка. Паглядзелі на рэкламу ў вітрынах, пасля гулялі па праспекце Сталіна каля 35 хвілін і гаварылі пра нешта.**
**У 21:45 Лі Харві і «Дора» пайшлі ў цырк. Лі Харві прад'явіў квіткі, і яны занялі свае месцы ў 10-м радзе і пачалі глядзець амерыканскі фільм «Лілі». У 23:45, пасля заканчэння фільма, яны павольна пайшлі да дому № 22 на Лаўска-Набярэжнай, там спыніліся, пагаварылі хвілін 15, пасля развіталіся. «Дора» ўвайшла ў свой дом (асоба высвятляецца), а Лі Харві пайшоў дадому і быў там у 24:00. Назіранне ў гэты момант было спыненае да наступнай раніцы.**

Самае цікавае ў гэтым рапарце — дата.
Освальд пазнаёміўся з Герман яшчэ зімой, у першыя дні на заводзе.
І гэтае знаёмства заставалася невядомым для КДБ паўгода! Прынамсі, для групы вонкавага назірання.
Во засакрэцілі.

## Разбітае сэрца Освальда

Увосень 1960-га Освальд круціць раманы адразу з чатырма дзяўчатамі: Інай з кансерваторыі, Нэляй з ін'яза, Розай з Інтурыста і Элай з завода. Але Мінск горад маленькі, і здараецца непазбежнае — яны сустракаюцца.

**Дзённік ЛХО**
**18 кастрычніка 1960**

**Мой 21-ы дзень нараджэння сустракаю з Розай, Паўлам, Элай маленькім сяткаваннем у мяне ў кватэры.**
**Эла вельмі прыгожая расейская габрэйка, з якой я апошнім часам гуляю, працуе таксама на радыёзаводзе. Роза і Эла раўнуюць адна адну, і гэта абуджае ў мяне цёплыя пачуцці. Абедзве ўпершыню ў мяне. Эла і Павел дораць мне папяльніцы (я не палю), смяемся.**

Освальд не піша, што потым на вечарынцы з'яўляецца трэцяя госця — Іна, што пасля выклікае бурную размову з Элай. У выніку Освальд развітваецца з музыканткай, спыняе паходы ў інтэрнат да студэнткі, не звоніць перакладчыцы і выбірае Элу.

Толькі, магчыма, не так хутка і не ў такой паслядоўнасці — вернемся на пару дзённікавых старонак назад.

**У кастрычніку 1960 года мы становімся вельмі блізкія, кульмінацыяй стаў палавы акт 21 кастрычніка. Яна была цнатлівая і вельмі цікавая. Мы сустракаліся такім чынам 4 ці 5 разоў, апошні — 4 лістапада 1960-га.**

Гэтак Освальд піша пра Іну.

Але далей з Элай усё адбываецца хутка. Нават вельмі хутка.

**Дзённік ЛХО**
**1 студзеня 1961**

**Новы год сустракаю ў доме Элы Герман. Думаю, я закахаўся. Яна адхіліла мае менш высакародныя заляцанні, мы п'ем і закусваем у прысутнасці яе сям'і ў вельмі гасціннай атмасферы. Потым я іду дадому п'яны і шчаслівы. Ідучы ўздоўж рэчкі дадому, я вырашаю зрабіць Эле прапанову выйсці замуж.**



Праз тры дзесяцігоддзі Эла Герман пераказала Мэйлеру словы, якія пачула ад сваёй маці раніцай 1 студзеня 1961 года:

**— Эла, гэта твая справа — ты сама выбірай. Але я нешта хачу табе сказаць: у 1939-м цябе маглі арыштаваць толькі за тое, што ты нарадзілася ў Польшчы.**

У сталінскім СССР арыштоўвалі не толькі за тое, што нарадзіўся ў няправільнай краіне, але й за тое, што ў няправільнай сям'і ад няправільных бацькоў. Але Эла разумела, што маці казала не пра мінулае, а пра будучыню.

**Дзённік ЛХО**
**2 студзеня 1961**

**Пасля прыемнай прагулкі пад ручку ў мясцовы кінатэатр мы вяртаемся дадому, і на прыступках я раблю прапанову выйсці замуж. Яна вагаецца, потым адмаўляе. Маё каханне сапраўднае, а ў яе яго няма. У яе іншыя прычыны, апроч адсутнасці кахання: я амерыканец, і аднойчы мяне могуць арыштаваць, проста таму, як, на-**

**прыклад, польская інтэрвенцыя ў 1920-я прывяла да арышту ўсіх грамадзянаў Савецкага Саюза польскага паходжання. «Ты разумееш, якое міжнароднае становішча, зашмат усяго супраць цябе, і ты нават пра гэта не ведаеш».**
**Я ў шоку. Яна фыркае з маёй някемлівасці і паварочваецца, каб ісці. (Я занадта ўражаны, каб думаць!) Я разумею, што яна ніколі не ўспрымала мяне сур'ёзна, а толькі карысталася з таго, што я амерыканец, каб іншыя дзяўчаты, якія лічылі мяне не такім, як астатнія расейскія хлопцы, зайздросцілі. Я ў адчаі.**

Мэйлеру расказвалі, што калі Освальд ішоў па цэху на сваё працоўнае месца, дзяўчаты-зборшчыцы сапраўды наперабой віталі яго «Алік, Алік!» І будучы муж Элы сапраўды звярнуў увагу на яе пасля канфлікту з Освальдам з-за ўключанага радыё.

Аднойчы на беразе Свіслачы Освальд і «Дора» паспрачаліся, як правільна пяюць жабы. Эла казала — «ква», Освальд — «фрок».

Не паразумеліся.

У Беларусі жабы крэкчуць.

## «Я — амерыканскі грамадзянін»

Галоўную падзею пачатку 1961-га — грашовую рэформу, якая скасавала адзін нуль на грошах, заробках і цэнах, Освальд не заўважыў ці не палічыў дастаткова істотнай, каб занесці ў дзённік.

У газетах друкавалі байку Эдуарда Валасевіча з вечна жывой назвай «Долар і Рубель»:

***На міжнародным рынку ці на кірмашы***
***Сустрэўся Долар з новенькім Рублём.***
***— А, канкурэнт стары! Ну як жывём?***
***Якія маем барышы?***
***Гавораць, што ты ў сілішчу вялікую ўвабраўся?... —***
***Ён прад Рублём нахабна выскаляўся. —***
***Давай падужаемся на руку!***
***Хто з нас мацней, хто з нас трывалей,***
***І перамога будзе на чыім баку...***
***Не гэткіх малайцоў мы на лапаткі клалі!***

Далей адбываецца, тое, што з таго часу не надта змянілася ў беларускіх газетах: «Рубель» перамагае:

**Вось так Васпан, каб больш не зазнаваўся!**
**Твой курс упаў, а моц мая ўзрасла!**
**Нясеш народам ты і рабства і галечу,**
**А я — свабоду і жаданы мір!**
**На мне Серп, Молат — сімвал чалавечы,**
**А твой кумір —**
**Рабункі, беспрацоўе, войны...**
**А ну з дарогі прэч! Пастараніся, сэр!**
**Ідзе Рубель працоўны,**
**Рубель СССР!**

Але думкі Освальда былі заняты не грашыма, а зусім іншым.

**Дзённік ЛХО**
**3 студзеня 1961**

**Я ў адчаі ад Элы. Я кахаю яе, але што зробіш? Гэты стан страху заўсёды быў у Савецкім Саюзе.**

КДБ насцярожыўся, але потым расслабіўся: як генерал «Гузьмін» патлумачыў Мэйлеру, Освальд засмуціўся, але не парэзаў ізноў вены, не кінуў працу, не захварэў, не стаў піць, не рабіў нічога рызыкоўнага. Не было ніякіх падставаў для дадатковых захадаў.

КДБ не памыліўся ў ацэнцы псіхалагічнага стану Освальда. Ён думаў зусім пра іншае.

**Дзённік ЛХО**
**4 студзеня 1961**

**Праз год пасля таго, як я атрымаў дазвол на жыхарства, мяне выклікалі ў пашпартны стол і спыталі, ці хачу я атрымаць грамадзянства. Я сказаў — не, проста працягніце мой часовы пашпарт. Пагадзіліся, і мае дакументы працягнутыя да 4 студзеня 1962.**

**31 студзеня 1961**

**4-31 студзеня я пачынаю пераглядаць сваё жаданне застацца. Праца нудная, грошы, якія я атрымліваю, няма на што патраціць.**



**Ні начных клубаў, ні боўлінгу. Ні месцаў адпачынку, апроч танцаў у клубе прафсаюзаў, якіх мне ўжо было досыць.***

Жаданне Освальда прысвяціць жыццё такому гераізму даўно выпарылася. Ды й які з яго даяр быў бы. Можа, гной вывозіць і даверылі б.

**1 лютага 1961**

**Раблю першы запыт у амерыканскую амбасаду ў Маскве для перагляду сваёй пазіцыі: я заявіў, што «хацеў бы вярнуцца ў ЗША».**

**28 лютага 1961**

**Атрымаў ліст з амбасады. Рычард Снайдэр піша, што «я магу прыйсці на інтэрв'ю ў любы час, калі захачу».**

---

* У першыя дні года газеты публікавалі рапарт берасцейскай даяркі Лідзіі Асіюк партыі і ўраду: «Я брала абавязацельства надаіць па 5.700 кілаграмаў малака ад каровы, а калі ўведала пра скліканне чарговага Пленума ЦК КПСС, я перагледзела свае раней узятае абавязацельства і вырашыла атрымаць ад каровы па 6.000 кілаграмаў малака». Каровы, калі меркаваць з рапарту, натхніліся пленумам яшчэ больш і далі аж па 6.130 кг. У тэлеграме ў адказ мінскія кіраўнікі жадалі даярцы новых поспехаў, здароўя і шчасця ў асабістым жыцці. Кароваў, нягледзячы на іх парыў, не павіншавалі зусім.

**16 сакавіка 1961**

**1-16 сакавіка жыву ў чаканні вяртання ў ЗША. Я расказаў Зігеру, ён падтрымаў маю ацэнку, але параіў нікому з расейцаў не казаць пра маё жаданне вярнуцца. Я разумею, чаму.**

Освальд пачаў абмяркоўваць жаданне з'ехаць з Мінска яшчэ ў мінулым годзе — з Элай Герман. Але напачатку гаворка ішла не пра Амерыку, а пра іншую сацыялістычную краіну — Чэхаславакію. Ці не пагадзілася б яна жыць у Празе?..

Але гэтыя гутаркі вяліся на вуліцы і заставаліся ў сакрэце ад КДБ.

**Рапарт вонкавага назірання КДБ**
**23.12.60**
**08:00-24:00**

**У 20:45 аб'ект выйшаў з дома і пайшоў на ўсход да дома № 22, кв. 2 на Лаўска-Набярэжнай вуліцы. Праз 10 хвілін ён выйшаў з кантактам «Дора», і яны разам, пра нешта размаўляючы, пайшлі ўздоўж набярэжнай Свіслачы і ў 21:15 прыйшлі да кватэры аб'екта.**

Уведаць пра намеры Освальда КДБ мог альбо ад свайго чалавека, якому той давяраў, альбо шляхам праслухоўвання яго размоваў.

Але Освальд жыў адзін, тэлефона не было, а праслухоўванне мае сэнс толькі калі ў кватэры ёсць нехта яшчэ.

Заставаліся лісты. СССР падпісаў Жэнеўскую канвенцыю, якая не дазваляла перлюстрацыю пошты, але гэта нікога не ўводзіла ў зман.

Першы ліст Освальда ў амбасаду ЗША быў адпраўлены з Мінска 5 лютага — у Маскве яго атрымалі толькі праз восем дзён.

Тыя, хто яго раскрыў у Мінску, пабачылі недвухсэнсоўны тэкст:

**Прашу разгледзець маю просьбу пра вяртанне майго амерыканскага пашпарта. Я жадаю вярнуцца ў Злучаныя Штаты пры ўмове, што мы дасягнем пэўнага пагаднення адносна спынення любога юрыдычнага пераследу супраць мяне. Калі так, тады я змагу звярнуцца да расейскіх уладаў, каб яны дазволілі мне з'ехаць. Калі я змагу прад'явіць ім мой амерыканскі пашпарт, я лічу, што мне дадуць выязную візу. Яны ніколі не настойвалі, каб я прыняў расейскае грамадзянства. Я жыву тут з часовымі паперамі для замежніка. Я не магу пакінуць Мінск без дазволу, і таму пішу, а не**

**з'явіўся асабіста. Спадзяюся, што, аднаўляючы маю адказнасць перад Амерыкай, вы будзеце памятаць пра сваю, каб зрабіць усё магчымае і дапамагчы мне, бо я амерыканскі грамадзянін.**

Гэта пачатак вялікай перапіскі пра вяртанне, у якой будуць удзельнічаць амерыканская амбасада ў Маскве, Дзяржднэпартамент у Вашынгтоне і Освальд у Мінску.

Мэйлер адзначае агрэсіўную настойлівасць Освальда — ён умела выкарыстоўвае дэмагогію, ціснe на свае правы амерыканскага грамадзяніна і патрабуе, вымагае, дамагаецца пашпарта, гарантыяў, грошай — аж пакуль не атрымае. Але на гэта спатрэбіцца больш за год.

Освальд будзе рабіць выгляд, што яму ўсё падабаецца, і ні з кім больш не загаворыць пра прынятае рашэнне аж да канца чэрвеня.

Гэтае маўчанне стане глебай для наступных падзеяў, якія хутка ўцягнуць у свой вір зусім новыя персанажы і непазнавальна і назаўсёды зменяць іх жыццё.

## На танцы

Тэлевізара ў Освальда не было, ён пераслухаў увесь оперны рэпертуар, спыніў візіты ў інтэрнат да студэнтак ін'яза, перастаў вітацца з Элай і нават на танцы хадзіў без ахвоты — больш проста не было куды.

**Дзённік ЛХО**
**17 сакавіка 1961**

**Я і Эрык пайшлі ў прафсаюзы на танцы. Нудна, але ў апошнюю гадзіну мяне пазнаёмілі з дзяўчынай з французскай стрыжкай, у чырвонай сукенцы і белых туфлях. Мы танцуем, і я прашу дазволу правесці яе. Праводжу разам з яшчэ пяццю кавалерамі. Яе завуць Марына. Мы адразу адно аднаму спадабаліся. Яна дае мне нумар тэлефона і ад'язджае ў таксі з не такім новым, як я, сябрам. Я іду дамоў пешкі.**

У пісьмовым пераказе свайго мінскага жыцця для ФБР Марына Прусакова падрабязна апісвае вечар знаёмства на танцах у Палацы прафсаюзаў.



Спачатку планавалася лекцыя пра Амерыку — выступала прафесар Лідзія Чаркасава, тая самая, якую Освальд мог бачыць у кіначасопісе пра жаночы дзень. Паводле таго самага прынцыпу, з-за якога яе саджалі ў прэзідыум юбілейных сходаў, яна была ўключаная ў склад дэлегацыі БССР на 15-ю сесію ААН, плыла разам з Хрушчовым на цеплаходзе «Балтыка» праз Атлантыку ў Нью-Ёрк, прывезла фота — на палубе яна сядзіць леваруч ад кіраўніка партыі, разам з іншымі сябрамі дэлегацыі.

Марыну танцы заўсёды цікавілі больш за міжнароднае становішча. Яна скончыла фармацэўтычную вучэльню і пачала працаваць у Ленінградзе, дзе жыла з айчымам, але жыццё там не ладзілася, і яна пераехала да дзядзькі ў Мінск. У падпалкоўніка міліцыі Іллі Прусакова і яго жонкі Валі сваіх дзяцей не было, кватэра была вялікая, і пляменніца пачувалася як дома.

На вечарыну яе запрасіў закаханы ў яе студэнт медінстытута Аляксандр Піскалёў. У той сакавіцкі дзень яна затрымалася на працы ў аптэцы 3-й клінічнай бальніцы, потым дзве гадзіны пераадзявалася і сядзела перад люстэркам, зрабіла прычоску а-ля Брыджыт Бардо, затым страціла жаданне і пераадзелася ў хатнюю сукенку. І тут яе дзядзька пачаў кпіць, маўляў, ці варта дзеля гэтага было дзве гадзіны тырчэць перад люстэркам. Яна потым скажа:

**І нарэшце, нешта проста пацягнула мяне на тую вечарыну, нават супраць маёй волі. Я магу шчыра сказаць — я адчувала нешта незвычайнае ў той вечар, але не надала гэтаму ўвагі.**

**З холаду, свежая, эфектная, яна ўваходзіць у залю напрыканцы вечарыны ў суправаджэнні Піскалёва, які выбягаў сустракаць яе кожныя дзесяць хвілін. Адразу даведваецца, што іншы хлопец, які ёй падабаўся, сышоў, як толькі пабачыў яе з Піскалёвым. Яшчэ**

**адзін студэнт-медык, душа кампаніі Юры Меражынскі, сын прамоўцы — прафесара Чаркасавай, знаёміць яе з Алікам, якога яна прыняла за жыхара Прыбалтыкі. У танцы яны застаюцца сам-насам.**
**Але далей яе ўспаміны пра тое, як скончыўся вечар, адрозніваюцца ад запісу ў дзённіку Освальда.**

**З пісьмовага сведчання Марыны Освальд для ФБР:**

**Пасля танцаў мы ўсе групай пайшлі дадому да Юрыя, чыя маці была ў ЗША. Я памятаю, што яны паспрачаліся крыху з Алікам, бо Алік гаварыў вельмі станоўча пра сваю краіну і вельмі цікава. Мне было вельмі прыемна, што ён стараўся прадставіць сваю краіну з лепшага боку.**

Запісаў амерыканскай лекцыі прафесара Чаркасавай і яе спрэчак з Освальдам няма. Освальд яшчэ некалькі разоў адведваў яе дома, глядзеў фатаграфіі, размаўлялі — пакуль муж, таксама прафесар медінстытута Меражынскі, напалоханы візітамі амерыканца, не запатрабаваў іх спыніць.

Мэйлер сустракаўся з Чаркасавай і яе сынам Юрыем і ў яе прысутнасці спрабаваў высветліць, наколькі праўдзівы аповед яе сына. Юры хваліўся, што спаў з Марынай перад шлюбам і пасля, расказваў, як гадзінамі потым яго цягалі на допыты, як хаваўся ў Маскве ад мінскага КДБ. Маці спрабавала пярэчыць, расказвала Мэйлеру пра іншую прычыну ад'езду з Мінска — лячыць сухоты, сын абзываў яе сталіністкай, і ўвесь скандал, падрабязнае апісанне якога займае старонкі кнігі Мэйлера, нагадвае вартае жалю трызненне дэградаванага алкаголіка, ніводнаму слову якога нельга даваць веры.

**Са сведчання Марыны Освальд для ФБР:**
**У той вечар Саша і Алік правялі мяне дадому. Мы засталіся адны на вуліцы на нейкі момант, і Лі спытаўся, калі яшчэ можа сустрэцца. Я сказала, што, магчыма, зноў прыйду на танцы туды, дзе мы сустрэліся, але дакладна не абяцала. Але калі потым праз тыдзень я пайшла з сябрам на танцы — Лі быў там. У той вечар ён прыйшоў са мной дадому, і я прадставіла яго сваёй цётцы. Цётцы спадабаліся яго сціпласць і ветлівасць, а таксама тое, што ён быў**

**вельмі акуратны. Яна сказала мне са смехам, што ў маёй калекцыі не было толькі амерыканца.**

Хто больш дакладна запомніў пачатак знаёмства — Освальд, які датаваў свае запісы досыць вольна і часам сумяшчаў падзеі, ці Марына, якая пісала сваё сведчанне амаль праз тры гады пасля сустрэчы, не так і важна.

Сустрэліся.

## Дэман амнезіі

Праз чатыры дзесяцігоддзі пасля таго, як музыканты склалі свае трубы і кантрабасы, як апошні наведнік пакінуў Палац прафсаюзаў, як пагасла святло і адзіны, хто заставаўся на пляцы перад палацам, быў помнік Сталіну, у залю вярнуўся адзін з танцораў.

Раздзел кнігі Эрнста Цітаўца, прысвечаны танцам, называецца «Лі сустракае сваю будучую жонку». У эпіграф вынесеныя словы Льва Талстога:

**Дзіўная рэч, якая поўная бывае ілюзія таго, што прыгажосць ёсць дабром.**

Цітавец піша:

**Вечар 17 сакавіка 1961 года стаў гістарычным момантам жыцця Лі. У той вечар ён сустрэне прыгожую расейскую дзяўчыну, якую звалі Марына Прусакова, якая неўзабаве стане яго жонкай. Гэта здарылася падчас танцавальнай вечарынкі і, пры блізкім разглядзе, адкрыла шэраг цікавых супадзенняў. Супадзенняў, якія даюць падставу думаць, што ў рух былі прыведзеныя большыя сілы, чым выпадковая рамантычная сустрэча маладога чалавека і дзяўчыны.**

Далей на 41-й старонцы (гэта другі па памеры раздзел кнігі, большая толькі заключная частка) аўтар даследуе гэтыя сілы.

Дакладней — даследуе, здаецца, усё, апроч гэтых сілаў. Спачатку гаворка ідзе пра прафесара Чаркасаву і яе вывучэнне гіпаглікемічнага ін-



сулінавага шоку ў псіхіятрычных пацыентаў, пра яе мужа прафесара Меражынскага, пра іх дачу ў Ждановічах, пра паездку Чаркасавай у ААН, пра яе грошы, пра яе сына Юрыя, пра яго хваробу, пра яго дзяўчат, пра яго сяброў, пра сваякоў яго сяброў...

Далей ідзе блізкі, праз сорак гадоў, разгляд атмасферы — выкладчыкі без белых халатаў, студэнты без гальштукаў, дзяўчаты, якія танчаць адна з адной — не лесбіянкі, а наступствы вайны, праход з Освальдам па калідорах і лесвіцах, разглядванне дзявочых твараў, зазіранне ў пыльныя каморкі за сцэнай, і расставанне — амерыканец ідзе слухаць лекцыю, а Цітавец, як тады казалі, сачкуе.

Пасля лекцыі пачынаюцца танцы, падчас якіх Освальд зноў знаходзіць Цітаўца і просіць дапамагчы паразумецца з дзяўчынай, з якой толькі што пазнаёміўся. На дзвюх старонках аўтар апісвае, як яны ідуць праз залю і што ён пры гэтым думае, а на трэцяй старонцы паведамляе, што менавіта перакладаў: нумар тэлефона і адрас.

Гэта ўсё.

Так, прынамсі, піша сам Цітавец:

> **Лі ўважліва ўслухоўваўся праз танцавальны пандэмоніум у залі, што я яму перакладаў. Аказалася няшмат. Марына дала свой хатні нумар тэлефона і сказала яму, дзе жыве. Ён папрасіў мяне паўтарыць, я паўтарыў. Аказалася, што гэта ўся інфармацыя, якую Лі хацеў ведаць дакладна.**

Больш Цітавец у гэты вечар з Освальдам і Марынай не бачыцца.

Пандэмоніумам называецца месца ў пекле, дзе жывуць дэманы. На наступных трох дзясятках старонак аўтар выпускае сваіх дэманаў на волю: дэман рэўнасці, дэман падазронасці, дэман канспіралогіі, дэман недаверу, дэман двухсэнсоўнасці, дэман здрады, — як гіганцкія матылькі, яны запаўняюць танцавальную залю і гістарычную прастору вакол яе ў Мінску і Амерыцы.

Гаворка, канечне, пра дэманічны КДБ — пра тое, як загадзя былі распісаныя ролі ўсіх, хто быў на танцах, як арганізаваная харэаграфія

знаёмства, як марыянеткі танчылі пад чужую дыктоўку. І выснова — з сэнсам, няўлоўным, як матылёк:

**Хоць амаль кожны вакол Освальда, здавалася, працаваў узгодненым чынам, каб звесці амерыканца і Марыну разам, малаверагодна, што хто-небудзь ведаў, каго яшчэ кантралюе КДБ, а хто проста на падхваце.**

Іншымі словамі, мала таго, што ўся кампанія дружна займалася зводніцтвам, але яшчэ й не ведала, што рабіла. А Цітавец ведаў:

**Такім чынам прафесіяналы КДБ дамагаліся сваіх мэтаў.**

Для гэтага дэтэктыўнага раздзелу больш пасаваў бы эпіграф з трагедыі «Атэла» Шэкспіра, чым з «Крэйцаравай санаты» (менавіта там Цітавец знайшоў эпіграф пра падступную небяспеку прыгажосці). Хоць зварот да самага жанчынаненавісніцкага твора Талстога з яго лютым антысэксуалізмам таксама небеспадстаўны. Цітавец піша, што падчас знаёмства чары Марыны яго не ўразілі, яна гэта заўважыла і потым казала, што ён ёй напачатку не спадабаўся.

Але прызнае:

**Ад гэтай дзяўчыны зыходзіла жывёльная сэксуальнасць, якая адштурхоўвала мяне, але, магчыма, менавіта гэтая рыса прыцягнула Лі.**

Літаратуразнаўцы лічаць, што «Крэйцарава саната» была вельмі асабістай выявай драмы, якую перажываў аўтар.

Свой аповед Талсты адкрывае эпіграфам з Евангелля паводле Мацвея:

**Я ж кажу вам: кожны, хто з пажадлівасцю глядзіць на жанчыну, ужо ўчыніў з ёю распусту ў сэрцы сваім.**

Цітавец памятае, што ў сакавіку 1961-га ад Марыны крыху пахла вінам і цыгарэтамі, памятае фрызуру а-ля Брыджыт Бардо, памятае яе вялікія шэрыя вочы, памятае яе вусны і асаблівасці ўсмешкі, памятае нізкі выраз сукенкі, які падкрэсліваў грудзі, памятае яе белыя басаножкі на высокіх абцасах, памятае яе крыху сутулую фігуру, памятае, як яна глядзела на яго, як глядзелі на яе.

Што адбывалася ў сэрцы яго ў тым сакавіку, Цітавец не піша. Можа таму, што не памятае.

Забыўся даследнік дэманаў з КДБ, што гэта ён сам здабыў у інстытуцкім камітэце камсамолу запрашальныя білеты на дваіх і прывёў Освальда на танцы.

Дэман амнезіі праляцеў.

## З танцаў

Першы раз у кнізе Мэйлера імя Освальда згадваецца на 25 старонцы і зноў знікае, каб з'явіцца ўжо толькі праз паўтара дзясятка старонак у другой частцы, якая пачынаецца яго прыездам у Маскву з Фінляндыі.

Першая частка называецца «Прыгоды Валі» і цалкам прысвечаная мінскай цётцы будучай жонкі Освальда Валянціне Прусаковай. Цёткі не роднай — Марына была пляменніцай яе мужа, падпалкоўніка МУС Іллі Прусакова.

Так пачынаюцца многія раманы XVIII—XIX стагоддзяў, з доўгай экспазіцыі, гістарычнага фону, філасофскіх адступленняў, ландшафтных дэталяў, батанічных звестак, метэаралагічных зводак і падрабязнай, не раўнуючы як у Кнізе Быцця, радаслоўнай героя: прапрадзед Томас Гепварт Освальд нарадзіў Уільяма Освальда, які нарадзіў Роберта Эдварда Лі Освальда, які нарадзіў Лі Харві...

Але героем кнігі была зусім іншая асоба. «Валя» — пабочны персанаж, сустракаецца з Освальдам, калі тэрмін яго знаходжання ў Савецкім Саюзе пераваліў за палову, у ніякіх драматычных падзеях у гэты час яна не ўдзельнічае.

Гэта таксама не прыём мадэрнізму — стыль напачатку нагадвае расцягнутае дакументальнае журналісцкае расследаванне ўперамешку з эсэістычнымі адступленнямі і жаданнем упіхнуць усё, што ўдалося ўведаць. Але хоць класічныя жанры не скончыліся разам з эпохай класіцызму, пытанне, што ёсць класікай, даўно ўжо саступіла месца новаму, больш важнаму пытанню — што працуе, што не.

Як, напрыклад, працуе аповед знаёмай Освальда супрацоўніцы Інтурыста Стэліны пра гатэль «Мінск».

**Прыехала пара, канадыец з сяброўкай, якая была мадэлькай і мела вугорскі пашпарт, але адміністратар адмовілася пасяліць іх у адным пакоі без штампу ў пашпарце. Канадыец не хацеў скандалу, але вугорская дзяўчына надта разззлавалася.**



**Калі ён пайшоў у свой нумар, гэтая мадэлька выцягнула са свайго нумара ложак на калідор, раздзелася, легла голая на пакрывала, запаліла цыгарэту і пачала вішчаць на ўвесь голас.**
**У гатэлі было поўна фінаў, якія пілі так шмат, што не мелі ніякіх комплексаў. Тэрмінова выклікалі Стэліну, на калідоры вакол голай мадэлькі ўжо сталі збірацца фіны.**
**Калі перакладчыца папрасіла яе адзецца, у адказ пачула:**
**«Б...ь! Калі мой сябар не возьме мяне ў свой нумар, няхай тады гэтыя фіны трахнуць мяне, усе разам!».**
**Грахоўных падарожнікаў выселілі з гатэля.***

У інтэрв'ю пасля публікацыі Мэйлер адказваў на пытанне — чаму ён так пачаў кнігу?

**— Я пачаў кнігу з цёткі, якая мела надзвычайны досвед падчас вайны, і я адчуваў, што гэта задасць рамкі. Яе (Марыны) цётка — цудоўная жанчына, соль зямлі, якая пераказвала неверагодныя падзеі з дзіўным, прыемным пазітыўным стаўленнем. Марына была больш складаная, чым цётка, я не скажу — хваравітая, гэта будзе няслушна, зняважліва, але жыццё яе больш перакруціла.**

* Чаму Мэйлер уключыў гэтую гісторыю ў кнігу? Першапачатковае адчуванне, што проста бракуе рэдактуры — і не толькі ў гэтым месцы. Але потым у Вікіпедыі я пабачыў, што ўсё гэта мае прыстойную назву «New Journalism» — новая журналістыка, і што менавіта Мэйлер разам з Томам Вулфам, Трумэнам Капотэ, Гунтарам Томпсанам быў яе заснавальнікам. Гэтыя аўтары выкарыстоўвалі журналісцкую тэхніку і бачанне для вырашэння літаратурных задачаў. Расплывістая тэрміналогія такога тыпу (як тут не згадаць «звышлітаратуру» Алеся Адамовіча) звычайна сведчыць пра дзве рэчы. Першая — аўтар на парозе нечага невядомага, якое яшчэ толькі мае быць знойдзеным, і таму з літаратуры залез па тлумачэнні ў філасофію. Другая — новы тэрмін апраўдвае хістанні стылю і хаос, з якога нараджаецца нешта новае.

**Яна была больш злая, больш ускладнёная, яе турбавала нашмат больш рэчаў. Кніга пачынаецца з цёткі Валі, яе дзяцінства, вайны, прымусовай працы ў Нямеччыне, сустрэчы з будучым мужам, а потым прыязджае пляменніца з Ленінграда, у якой праблемы. Так пачынаецца кніга, і ў канцы доўгай першай часткі Марына аднойчы ўвечары вяртаецца дадому і кажа цётцы: «Валя, уставай. Адзявайся. Я прывяла амерыканца. Звары кавы. Культурна прымі яго».**

Фактычна дзеля апошняй фразы Мэйлер піша папярэднія 25 старонак.

Дарма, выходзіць, мэр Шарапаў папярэджваў амерыканца пра некультурных людзей у Мінску. Ну, можа прыезджыя. А свае — з ложка ўстануць, каб госцю кавы зрабіць.

І нават адзенуцца.

## Allegretto, allegro, allegrissimo

Освальд зробіць прапанову, а Марына прыме яе менш чым праз месяц пасля першай сустрэчы.

**Дзённік ЛХО**
**18 сакавіка 1961**

**Мы гуляем, я крыху расказваю пра сябе, яна шмат гаворыць пра сябе. Яе завуць Марына М. Прусакова.**

**30 красавіка 1961**

**1-30 красавіка стасункі развіваюцца роўна, і я вырашаю, што мне трэба яе мець, яна** *(нечытэльна)* **адсылае мяне прэч, тады 15 красавіка я** *(нечытэльна)*, **яна пагаджаецца.**

Освальд крыху блытае даты.

З 29 сакавіка да 11 красавіка амерыканец ляжаў у 4-й клінічнай бальніцы з запаленнем вуха (у выніку яму выдалілі адэноіды). Адтуль ён пазваніў па тэлефоне, які дала яму Марына. Адказала цётка. Набліжаўся Вялікдзень, і цётка настаяла, каб пляменніца схадзіла ў адведкі — усё ж свята. Марына прынесла слоік з абрыкосамі, якія вельмі ўзрадавалі

хворага. Пасля першага візіту пайшлі новыя — яна апранала белы халат фармацэўта і магла бесперашкодна адведваць Освальда; персанал ставіўся да замежнага пацыента з выключнай увагай.

Менавіта ў бальніцы Освальд упершыню зрабіў Марыне прапанову. Яна не адмовіла, хоць і не ўспрыняла сур'ёзна.

У Марыны быў на прыкмеце іншы кавалер, які ёй вельмі падабаўся. Менавіта каб насаліць яму, яна танцавала тады ўвесь вечар з амерыканцам. Блізкая сяброўка Марыны, Ляля Петрусевіч, калі ўведала пра прапанову Лі, прыйшла ў захапленне і заявіла, што Марына занадта пераборлівая, а сама яна адразу б выйшла за такога, як Освальд — выхаванага, акуратнага, прыгожага, да таго ж са сваёй кватэрай. Адзіны амерыканец у Мінску — хіба можа нешта быць лепш! Марына яшчэ сумнявалася, але пасля выпіскі Освальд зноў быў госцем у яе і спадабаўся не толькі цётцы, але й дзядзьку, якога яна пабойвалася. Палкоўнік МУС Ілля Прусакоў нават папрасіў амерыканца прыглядаць за пляменніцай, бо ў яе вецер у галаве. Праз пару гадоў палкоўнік меўся выходзіць на пенсію, і ў яго планы таксама не ўваходзіла дзяліць кватэру з пляменніцай. І калі Освальд афіцыйна папрасіў у яго рукі Марыны — ён даў згоду.

**Дзённік ЛХО**

**30 красавіка, пасля 7 дзён адтэрміноўкі шлюбу ў загсе з-за майго незвычайнага пашпарта, нам дазваляюць зарэгістравацца як мужу і жонцы. Дзве сяброўкі Марыны выступаюць у ролі сведак нявесты.***

Толькі пасля ЗАГСу Марына пабачыла, што Освальд з 1939 году — ён казаў, што яму 24 гады, а насамрэч быў толькі 21. Ён тлумачыў падман тым, што баяўся, што яна не захоча выходзіць за амаль аднагодка — Марыне было 19.

---

* Прысцыла МакМілан, аўтар першай кнігі пра Освальдаў «Марына і Лі», тлумачыць лёгкасць, з якой быў зарэгістраваны шлюб з замежнікам бюракратычнай неэфектыўнасцю: што ведалі ў Маскве, не ведалі ў Мінску. У ЗАГСе лічылі, што Освальд — ужо амаль савецкі грамадзянін, з працай і прапіскай, а АВІР не камунікаваў з ЗАГСам. Сістэма катролю ў СССР была жорсткай, але не была дасканалай — МакМілан дадае да гэтай высновы яшчэ й удакладненне «як і ўсюды», якое напэўна выклікае гістэрыку ў вернікаў ва ўсяіснасць і ўсемагутнасць сакрэтных службаў.

**Дзённік ЛХО**

**Мы ўзялі шлюб. У хаце яе цёткі спраўляем вяселле, на якім прысутнічаюць каля 20 сяброў і суседзяў. Яны жадаюць нам шчасця, нягледзячы на маё паходжанне і акцэнт, якія агулам бянтэжаць расейцаў. Бо замежнікі вельмі рэдкія ў Савецкім Саюзе, нават турысты. Пасля вечара выпіўкі і закускі дзядзька Вася распачаў бойку, потым перагарэў засцерагальнік і адключылася святло, мы выйшлі і за 15 хвілін дайшлі дадому. Мы жылі побач, і апоўначы былі дома.**

Вяселле было цалкам традыцыйнае — крычалі «Горка!», танчылі, спявалі. Освальд здзівіў гасцей «Падмаскоўнымі вечарамі» — ведаў усе словы, а потым праспяваў разам з сябрамі «Чатанута-чу-чу». Крэмавы торт з надпісам «Аліку і Марыне — шчасця ў жыцці» спяклі на замову у сталоўцы Дому ўраду, дзе працавала адна з цётак нявесты.

Перад развітаннем цётка Валя паклікала Марыну на кухню і наліла ёй гарэлкі — «для смеласці».

Калі маладыя дайшлі да свайго пад'езду, Освальд раптоўна ўзняў Марыну на рукі, загадаў трымацца і панёс на чацвёрты паверх.

Данёс.

## У ложку з Освальдам

Бібліяй сямейнага жыцця ў БССР пачатку 1960-х была «Кніга карысных парадаў», якая пісала:

«Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі палавое жыццё людзей ушчыльную наблізілася да тых ідэалаў, пра якія даўно марыла чалавецтва. Як і ва ўсім сваім жыцці, гэтак і ў палавым жыцці чалавек не можа забыцца аб тым, што ён удзельнік нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Вырашальнымі заўсёды будуць агульныя здольнасці чалавека, яго палітычнае і маральнае аблічча, яго развіццё, яго працаздольнасць, яго сумленнасць, адданасць сваёй радзіме, яго любоў да грамадства. Любое ўхіленне чалавека ад правільных грамадскіх паводзінаў абавязкова прыводзіць да бязладных паводзінаў у грамадстве, у т. л. прыводзіць да распуснага палавога жыцця».

Шлюбная ноч маладой пары стала прадметам даследавання двух аўтараў — Прысцылы МакМілан і Мэйлера. МакМілан, якая распытвала

Марыну ў сярэдзіне 1960-х, у выніку абмежавалася некалькімі радкамі: Марына сказала ёй, што нічога тады не разумела пра секс, доўга не атрымлівалася, Лі быў асцярожны, але нарэшце ўсё адбылося, і яны заснулі.

Мэйлер праз тры дзесяцігоддзі быў лепш падрыхтаваны да размовы.

Цэлы раздзел яго кнігі, «Шлюбная ноч», прысвечаны высвятленню пытання, ці была нявеста цнатліўкай.

Мэйлер пералічвае чуткі пра яе бурную маладосць у Ленінградзе. Пакаёўка ў гатэлі «Мінск» называе яе «папсаванае дабро», «ленінградская вулічная прастытутка», перакладчыца Інтурыста згадвае шок, калі Освальд на яе пытанне, як яны разумеюцца з жонкай без перакладчыка, прывёў словы Марыны «Выключы святло» і «Пацалуй мяне, калі ласка».

Прыстойныя маладыя дзяўчаты так не гавораць, патлумачыла яна Мэйлеру. Выхаванне не дазваляе праяўляць ініцыятыву з мужчынамі. Сэкс — гэта сяброўства, клопат, частка вялікага пачуцця. Многія жанчыны ніколі не чулі пра жаночы аргазм — навошта?

Пасля апытвання мноства знаёмых і напаўзнаёмых Мэйлер нарэшце дае слова самой Марыне. Дае — гэта фігуральна, больш дакладна — выцягвае, выкручвае, выціскае словы з Марыны падчас пяцідзённага інтэрв'ю ў яе амерыканскім доме ў Тэхасе.

**Інтэрв'юер: Адзін чалавек сказаў: яна не была цнатліўкай у вясельную ноч. Яна хвалявалася, што Лі ўведае, пайшла ў аптэку і нешта купіла, каб абараніць шлюб.**
**Марына: ОК.**
**Інт.: Дакладна так было сказана.**
**М.: ОК. Гэта праўда. І што? Трэба быць сэксуальным вычварэнцам, каб пяць дзён распытваць пра гэтую тэму. Хіба не досыць?**
**Інт.: Павел казаў пра выпадак на заводзе, калі хлопцы падышлі да Лі і пачалі падколваць: ну што, была твая жонка цэлка ці не? Колькі крыві было на прасціне? Але мы не ведаем, што Лі адказаў.**
**М.: Я не ведаю.**
**Інт.: Ніхто не памятае адказу. Мы не ведаем, можа, яго нешта турбавала. Важна ведаць. Калі ён не пагаджаўся з Вамі ці калі вы сварыліся.**
**М.: Ваша здагадка не горшая за маю.**
**Інт.: Мы не цікавімся сэксам самім па сабе, а тым, што Лі ведаў пра Ваша мінулае. Як гэта на яго ўплывала?**

**М.: Я сур'ёзна ставілася да шлюбу. Я хацела мець сям'ю.**
**Інт.: Давайце я скажу як ёсць, каб не было адчування, што нехта нешта хавае. Інэса сказала, з любоўю і пяшчотай да Вас, што ў Вас быў цяжкі багаж з Ленінграда. Пра тое, як цяжка Вам жылося ў Ленінградзе з айчымам, і што Вам не выпадала ганарыцца сваім жыццём там.**
**М.: Гэты быў не мой выбар.**
**Інт.: Інэса патлумачыла, што Вы пачуваліся вельмі дрэнна і моцна перажывалі з-за такога жыцця ў Ленінградзе, што Вам прыходзілася шукаць розныя спосабы, каб выжыць, есці, знайсці дзе пераначаваць.**
**М.: Ні разу ў жыцці мне не плацілі грошы.**
**Інт.: Канечне.**
**М.: Я шукала кахання не там, дзе варта, і часам мусіла за гэта заплаціць. Мяне нават аднойчы згвалціў замежнік.**
**Інт.: Што?**
**М.: Я затрымалася ў пакоі. Ён замкнуў дзверы. Ведаеце, як на кожным паверсе сядзіць дзяжурная з ключамі для насельнікаў? Я не магла крычаць. Я думала, што яна пра мяне падумае? Тады я змагалася з тым мужчынам. Але ўрэшце ён кінуў мяне пад сябе. Ён сказаў: калі б я ведаў, што ты цэлка, я б да цябе не дакрануўся.**

Ужо пасля выхаду кнігі ў тэлевізійным інтэрв'ю Мэйлер скажа, што ён быў вельмі здзіўлены тым значэннем, якое Марына надала згвалтаванню ў 17 гадоў — ён чакаў нейкага выкрыцця, неверагодна ганебнага аповеду, а ўсё аказалася нашмат прасцей. Такую гісторыю, на яго думку, маглі б расказаць сто тысяч амерыканскіх дзяўчат.

**М.: Лі не пытаўся, але ў шлюбную ноч я прыкінулася. Мне было страшна, я пытала ў сябе: калі ноч прыйдзе, што рабіць? Што? Ад гэтага моманту — чыстае жыццё, я хачу быць сур'ёзнай, і я была ў жаху. Але Лі не спытаўся.**
**Інт.: Ён ніколі не пытаўся, ці Вы дзяўчына?**
**М.: Ён падзякаваў мне за гэта. І я падумала: «Божа. Пранесла, я зноў святая».**

Распуснае палавое жыццё, ад якога засцерагала «Кніга карысных парадаў», у большай ступені тычылася Освальда: Марына не ведала, што Лі ў войску двойчы лячыўся ад ганарэі. Парадаў, як зрабіць інтымнае

жыццё паўнавартасным, кніга не давала — і веды здабывалі хто дзе мог. У Освальда пыталіся рабочыя, як яму падабаецца руская жанчына, і Марына пераймалася, каб ня дай Бог ён нікому нічога не казаў. Сам ён прыносіў дадому гісторыі, якія чуў ад іншых рабочых, хто з кім і як, і прапаноўваў паспрабаваць новыя тэхнікі.

Марына расказвала потым Прысцыле МакМілан пра праблемы ў ложку: Лі не трываў звычайна больш за тры-чатыры хвіліны, і яна ніколі не дасягала аргазму. Яны сварыліся, часам яна ўвогуле адмаўляла яму, каб не раздражняцца. Трэба пяць мужчын, каб задаволіць цябе, казаў Освальд, і Марына пачала пагаджацца, што вінавата сама. Аднойчы ён пераказаў пачуты на заводзе спосаб кахання «па-французску» — яны сталі практыкаваць аральны секс, хоць яна ніколі да канца не змагла прывыкнуць. З цягам часу, аднак, нягледзячы на няпоўную задаволенасць, яны сталі пачувацца лепш. Кахаліся пад час месячных, паведамляецца ў кнізе МакМілан, і не толькі на тахце ў кватэры, але і на прыродзе, пад час паездак за горад.

Освальд быў надзвычай раўнівы — ніхто з былых сяброў Марыны не мог прыйсці ў госці, калі яшчэ не ажаніўся, ніхто не мог танцаваць з ёй. Яна прызналася МакМілан, што аднойчы, у свой трэці месяц замужам, калі Освальд паехаў у Маскву, пайшла ў госці да былога кавалера і пагадзілася застацца на ноч. Яны выпілі, ляглі ў ложак — і тут высветлілася, што для хлопца гэта быў першы раз. Для яго ўсё скончылася, перш чым нешта пачалося. Раззлаваная, а другой гадзіне начы яна вярнулася дадому.

Больш такіх эксперыментаў яна сабе не дазваляла. Секс з мужам, хоць не задавольваў цалкам, але зблізіў.

## Тайна мядовага месяца

Першай госцяй наступнай пасьля вяселля раніцы была цётка Валя. Калі Освальд адчыніў дзверы, яна трымала ў руках талерку і з размаху бразнула яе аб падлогу — на шчасце.

Снедалі ў Прусаковых, потым гулялі па горадзе, глядзелі дэманстрацыю. Дзядзька Марыны дзяжурыў у ачапленні і адмовіўся прапусціць маладых на плошчу. Марына расстроілася, Освальд абазваў новага сваяка бюракратам, але гэта была дробная непрыемнасць.

**Дзённік Освальда**
**1 траўня 1961**

**Думаем пра сваю будучыню. Нягледзячы на тое, што я ажаніўся з Марынай, каб насаліць Эле, я закахаўся ў Марыну.**

Марына раўнавала Освальда — але не да Элы.

**З успамінаў Марыны Освальд**

**Травень быў мядовым месяцам. Вядома, мы абое працавалі, але былі вольныя пасля 5 вечара і ў нядзелі. Хадзілі ў рэстараны, папершае, таму, што я не мела часу гатаваць і, па-другое, не ўмела. Ён і я любілі класічную музыку. У нас было шмат кружэлак Чайкоўскага, ён быў улюбёным кампазітарам Лі, а таксама Грыга, Ліста, Рымскага-Корсакава, Шумана. Улюбёная опера Лі была «Пікавая дама»... я нават раўнавала яго да гэтай оперы.**
**Пасля працы ён адразу ставіў кружэлку не раз, а некалькі разоў.**

Освальд таксама запісаў свае травеньскія перажыванні — але музыку не згадваў.

**Дзённік ЛХО**
**Канец траўня 1961**

**Пераход ад стану поўнай закаханасці ад Элы да Марыны быў вельмі балючы, асабліва таму, што я штодня бачыўся з Элай на заводзе. Але міналі дні і тыдні, і я ўсё больш псіхалагічна прызвычайваўся да сваёй жонкі. Я яшчэ не сказаў жонцы пра жаданне вярнуцца ў ЗША. Яна страшэнна ў мяне закаханая з першага позірку. Катанні на лодцы па Мінскім возеры, прагулкі па парках, вечары дома ў цёткі Валі вызначаюць травень.**

У траўні прыйшла адмова з Універсітэта дружбы народаў, куды Освальд спрабаваў паступіць — універсітэт браў студэнтаў з краінаў трэцяга свету, Освальду рэкамендавалі звяртацца ў любую іншую ВНУ. Але навучанне яго ўжо не цікавіла. Ён зрабіў іншы выбар і трымаў яго ў таямніцы.

Освальд маўчаў пра намер як мага хутчэй з’ехаць у ЗША і перад вяселлем, і два месяцы пасля.

Мэйлер назаве рашэнне нічога не сказаць пра гэта Марыне і яе сваякам самым вялікім падманам Освальда.

На гэта сумнеўнае першынство з не меншым правам прэтэндуе і маўчанне пра маці і брата — Освальд казаў Марыне, што не мае сваякоў.

**Дзённік ЛХО**
**Чэрвень 1961**

**Працяг траўня, з той розніцай, што мы становімся бліжэйшымі і бліжэйшымі, і я вельмі мала думаю цяпер пра Элу. Напрыканцы месяца я адкрываю сваё жаданне вярнуцца ў Амерыку. Мая жонка трохі здзіўленая. Але затым падтрымлівае мяне, каб я рабіў, што хачу. У ліпені я вырашыў узяць два тыдні адпачынку і паехаць у Маскву (без дазволу міліцыі) у амерыканскую амбасаду. Каб уведаць наконт атрымання майго амерыканскага пашпарта і зрабіць захады, каб мая жонка магла з'ехаць у Злучаныя Штаты са мной.**

КДБ не перашкаджаў Освальду. Усё роўна той не хацеў браць савецкага грамадзянства — так генерал «Гузьмін» патлумачыў Мэйлеру.

**Дзённік ЛХО**
**8 ліпеня 1961**

**Я лячу самалётам ІЛ-20 з Мінска, праз 2 гадзіны 20 хвілін пасля слёзнага і нервовага развітання з жонкай я прылятаю ў Маскву, аўтобусам ад аэрадрома дабіраюся да цэнтру. З цяжкасцю рухаючыся праз затораныя вуліцы, дабіраюся да амбасады толькі а 3:00.**
**Сёння субота, што, калі закрыта? Офісы пустыя, але мне ўдаецца звязацца са Снайдэрам па тэлефоне (усе супрацоўнікі жывуць у тым самым будынку). Ён спускаецца павітацца, цісне руку, пасля гутаркі кажа прыйсці адразу з раніцы ў панядзелак.**
**Інтэрв'ю. 9 ліпеня атрымліваю пашпарт. Выклікаю Марыну таксама ў Маскву.***

* Освальд не прасіў афіцыйнага дазволу на паездку — шмат якія рэчы ў сваім жыцці ён рабіў без дазволу. Яго размоўная руская мова, звычайная вопратка не выклікалі падазрэння ў касіра Аэрафлоту, а ў Маскве ён пайшоў у гатэль «Берлін», дзе адміністратарка пазнала яго і пасяліла без праблем, палічыўшы, верагодна, што так і трэба. Біблейскае «прасіце і дасца вам» мае і другі бок: не прасіце — і не адмовяць.




Марына вылецела ў Маскву 10 ліпеня — гэта быў яе першы ў жыцці палёт, ужо цяжарная, яна двойчы ванітавала. Освальд не паехаў сустракаць яе ў аэрапорт, а чакаў на плошчы Свярдлова, недалёка ад гатэля. У нумары яны адразу пакахаліся — каля ложка, як старанна занатавала МакМілан, было вялікае люстэрка і Освальду гэта вельмі спадабалася. Па абедзе іх чакалі ў амбасадзе.

Яны нерваваліся, калі ехалі ў таксі, але міліцыянер на ўваходзе не толькі не спыніў іх, а нават узяў пад казырок. Марына была ўпэўненая, што гэта з-за яе англійскіх туфляў — нішто так не выдавала савецкую жанчыну, як абутак. У амбасадзе яе ўразіла прыбіральня — там была сапраўдная туалетная папера, а не абрыўкі газеты, вадкае мыла, папяровыя ручнікі. Рускі персанал быў ветлівы, ніхто яе ні ў чым не папракаў — і яна стала пачувацца ўпэўнена.

Освальд, які спачатку баяўся, што яго тут могуць арыштаваць, таксама супакоіўся — Рычард Снайдэр, які праводзіў інтэрв'ю, патлумачыў, што Лі не зрабіў нічога крымінальнага. Нягледзячы на агрэсіўныя заявы пад час першага візіту, ён не атрымаў савецкае грамадзянства, яго

інтэрв'ю не былі злачынствам, яго лісты даходзілі да амбасады — калі б ён стаў савецкім грамадзянінам, гэтага б не дазволілі. Яны запоўнілі анкеты, Освальд таксама напісаў паперы на працяг пашпарту, бо ягоны скончаўся 10 верасня.

Уважліва ўсё праглядзеўшы, Снайдэр вярнуў Освальду тое, што той пакінуў паўтара года назад — яго амерыканскі пашпарт.

**Амерыканская амбасада ў Маскве —**
**Дзяржапартамент, Вашынгтон**
**11.07.61**

**Тэма: Грамадзянства і пашпарт Лі Харві Освальда**
**Дваццаць месяцаў рэаліяў савецкага жыцця яўна дапамаглі Освальду пасталець. Ён адкрыта сказаў, што гэта для яго быў цяжкі ўрок, атрыманы цяжкім спосабам, і што ён цалкам пазбавіўся ілюзіяў адносна Савецкага Саюза і адначасна набыў новае разуменне і ацэнку Злучаных Штатаў і сэнсу свабоды. Задзірыстасць і бравада, якія характарызавалі яго падчас першага візіту ў амбасаду, здаецца, пакінулі яго.**

Пасля паспяховага інтэрв'ю ў амбасадзе Освальды вярнуліся ў Мінск.

**Дзённік ЛХО**
**15 ліпеня 1961**

**Марына на працы ў шоку — аказваецца, на працы ўсе ведаюць, што яна была ў амбасадзе ЗША. Ім пазванілі з Масквы, нейкае начальства. Кіраўніцтва правяло сход, на якім ёй моцна перапала. Першая з мноства «прапрацовак».**

У аптэцы калегі Марыны былі перапалоханыя яе паездкай у амерыканскую амбасаду і варожа маўчалі. Яе выклікалі на гутарку да галоўнага лекара, які разам з сакратаром партарганізацыі спрабаваў пераканаць яе памяняць рашэнне аб выездзе. Калі Марына адмовілася, быў прызначаны сход камітэта камсамолу клінікі, які праводзіў прадстаўнік гаркама. А што, калі твой муж — шпіён? Прадстаўнік гаркама камсамолу заявіў, што яны ведалі пра ўсе яе сустрэчы з Освальдам, пра заяву ў ЗАГС, пра вяселле. Ізноў гутарка вярнулася да шпіёнаў і нарэшце прагучала найвялікшая пагроза — яе выключаць з камсамолу.

Марына заявіла, што больш на такі сход не прыдзе.

Наперадзе была яшчэ цяжкая размова з дзядзькам і цёткай. Прусаковы былі ў шоку, палкоўнік міліцыі заявіў, што калі даваў згоду на шлюб, быў упэўнены, што Освальд адмовіўся ад амерыканскага грамадзянства і атрымаў савецкае, іначай ніколі б не пагадзіўся.

Праз тыдзень Марыну выключылі з камсамолу. Яна трымалася: добра, будзе больш грошай на кіно. Освальд быў усцешаны — цяпер жонка не будзе казаць, што ходзіць на сходы, а сама, магчыма, сустракаецца з былымі кавалерамі.

**Ліст ЛХО ў амбасаду ЗША ў Маскве**
**15.07.61**

**Як мне было сказана, я пішу, каб паведаміць аб тым, як ідзе атрыманне візы. Мы наведалі мясцовы АВІР, і вынікі небезнадзейныя. Аднак на месцы працы маёй жонкі адбылося некалькі незвычайных і жорсткіх падзеяў. Пакуль мы былі ў Маскве, начальству паведамілі, што мы хадзілі ў амерыканскую амбасаду па візы. Затым адбыўся сход паводле звычайнага ўзору «вораг народа», на якім яна адсутнічала, але была асуджаная, а яе сяброўкам на працы папярэдзілі, каб не размаўлялі з ёй. Аднак гэтая тактыка не дала выніку, і мая жонка добра трымалася, не лезучы на ражон.**

Марыну не звольнілі. Яна працягвала хадзіць на працу ў 3-ю клініку — яна была членам калектыву, членам прафсаюза, членам савецкага грамадзтва.

З ёй трэба было «працаваць». Але метамарфозу, якая пачалася, ужо нельга было спыніць. На мове энтамалогіі гэта называецца «імага» — дарослая, дэфінітыўная стадыя развіцця, калі крылы матылька распраўляюцца, цвярдзеюць і набываюць канчатковую афарбоўку.

Замест нерухомай, уражлівай, лёгкай для здабычы кукалкі — палёт.

## Роля дзірачак у гісторыі

Марына выключыла ўсюды святло. Освальд узяў ліхтарык. Яны падышлі да электралічыльніка. Колца круцілася.

**— Нашу кватэру праслухоўваюць!**

Падазрэнне выклікала таксама шчыліна над лямпай у столі, але яна была так высока, што ніхто туды не зазірнуў.*

Калі дакладна пачалося падслухоўванне кватэры Освальда, Мэйлеру не сказалі. Першыя расшыфроўкі падслуханых КДБ размоваў, якія атрымаў Мэйлер, датуюцца сярэдзінай ліпеня 1961-га.

У гэтых архіўных дакументах, афармленых паводле стандарту, Освальд менаваўся «Аб'ект: ОЛХ-2658», пазначалася дата і час назірання, напрыклад «Дата: 24 ліпеня 1961» і «Час: 21:20».

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**24.07.61**
**21:20**

**Жонка: Алік! Паслухай, я забылася адпрасаваць прасціны. Алік! Паглядзі, як гарачь мае вушы!**
*(жартуюць і смяюцца)*
**ЛХО: Неблагія песні спяваюць.**
**Жонка: Праходзіць нейкі фестываль. Усе едуць у Маскву, і людзі могуць гаварыць, што хочуць. Раней нічога нельга было казаць: ні на вуліцы, ні ў трамваі, ні ў тралейбусе. Калі Сталін быў жывы, у кожным доме быў мікрафон і нічога нельга было казаць. Цяпер іншая рэч.**
**ЛХО: Так, так, сястра мая.**

Наўрад ці магнітафон КДБ быў падключаны да электраправодкі ў кватэры Освальтёнда. Маглі застацца ўключанымі іншыя электрапрылады. Але выснова была слушная.

Абмяркоўваць ад'езд у Амерыку і справы сваякоў жыхары кватэры пачалі на балконе; туды ж з цыгарэтай пагаварыць выходзілі асцярожныя госці.

Праз трыццаць гадоў сябар Марыны Аляксандр Піскалёў узгадваў, як аднойчы пасля вечара ў кватэры Освальдаў ён вярнуўся дадому, а там чакала машына каля пад'езду. Прывезлі ў жоўты дом з калонамі, адвялі ў сутарэнне. Яму пракруцілі магнітафонны запіс гутаркі, якая толькі што адбылася, і сказалі быць гатовым падрабязна інфармаваць КДБ. Дахаты ён вяртаўся пешкі. Мэйлер піша, што Піскалёў і яго сябры

* Суседзі зверху, Мая і Сямён Гярцовічы, расказвалі на пачатку 1990-х журналістам, што на некалькі дзён вызвалілі сваю кватэру для КДБ. Мяркуецца, што тады і была ўсталяваная апаратура.

амаль перасталі сустракацца — бо ўсе патрапілі ў такую сітуацыю і не хацелі даносіць адзін на аднаго.

Мэйлер скардзіцца, што ў расшыфроўках праслухоўвання, якія яму выбарачна давалі, усё часцей пачала сустракацца пазнака «неразборліва», «гучнае радыё», «не чуваць». На кухні мікрафоны запісвалі водаправод. Часам Марына сама не чула Освальда, і тады ён мусіў крычаць, каб перакрыць радыё, уключанае на поўны гук, ці ваду, якая пад напорам біла ў чыгунную кухонную чарупіну.

Мэйлеру патлумачылі, што спачатку праслухоўванне вялося з кватэры зверху. Затым з суседняй кватэры была прабітая дзірачка для візуальнага назірання.

Невядома, ці мікрафоны КДБ падхапілі фразу Освальда, калі той у цемры, асветленай толькі ліхтарыкам, драматычна ўсклікнуў — нас праслухоўваюць!

Калі так, невядома, ці расшыфроўшчык пачуў яе на стужцы.

Калі так, невядома, ці запісаў.

І невядома, што больш пацешыла КДБ — гэтая фраза ці меркаванне, што пасля Сталіна падслухоўваць перасталі.

У сярэдзіне 60-х Марына апісвала сітуацыю Прысцыле МакМілан. Яны з Освальдам былі ўпэўненыя, што кватэру слухаюць менавіта праз электралічыльнік, і пастанавілі некалі сказаць «яму» ўсё, што думаюць — і, паводле Марыны, сказалі ў свой апошні дзень перад ад'ездам. Мэйлер нічога не піша пра гэты развітальны маналог — не паказалі яго расшыфроўку са справы КДБ, бо гэта было б ужо занадта, ці, таксама магчыма, ніякага маналогу запісана не было.

Освальдаў не толькі падслухоўвалі, за імі не толькі сачылі на вуліцы, не толькі іх знаёмых прымушалі інфармаваць пра пачутае, не толькі іх пошту чыталі — за імі падглядалі.

У дзірачку.

Як з гонарам патлумачыў Мэйлеру генерал «Ігар», з выкарыстаннем найноўшай тэхналогіі — аптычнага валакна дыяметрам 1/100 міліметра.*

---

* Савецкі перабежчык палкоўнік КДБ Алег Гардзіеўскі апісвае падобную аперацыю сачэння ў Маскве за палкоўнікам ГРУ Алегам Пяньkoўскім, што працаваў на брытанцаў і амерыканцаў, якраз у той самы час, што і за Освальдам у Мінску. Жыхароў зверху выправілі ў адпачынак на мора, прасвідравалі дзірку ў столі і паставілі камеру памерам з галоўку шпількі, з дапамогай якой пабачылі працу Пяньkoўскага з фотаапаратам і шыфрамі. Тут істотна, што запісваць відэа тады яшчэ не маглі, таму назіранне вялося ў рэжыме

Аптычнае валакно тады толькі з'явілася і не фігуравала нават у фільмах пра Джэймса Бонда. У 1963-м у фільме «З Расеі з любоўю» герой назірае за падзеямі ў офісе савецкага рэзідэнта з дапамогай перыскопа, знятага з падлодкі.

У дзірачку глядзелі, як піянеры ў грамадскай прыбіральні. Нават калі і праз шкло якое.

Свайго ж падводнага флоту ў БССР не было.

## Рэцэпт драмы

Усё змяшалася ў доме Освальдаў ужо праз два з паловай месяцы пасля вяселля.

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**17.07.61**

**ЛХО: Я не магу казаць табе, што рабіць. Рабі, што хочаш. Калі хочаш, можаш ехаць са мной.**
**Жонка: Не хачу.**
**ЛХО: Чаму?**
**Жонка: Я проста баюся.**
**ЛХО: Канечне, ты баішся.**
**Жонка: Я не ведаю Амерыкі, я ведаю толькі Расею. Ты можаш вярнуцца да свайго народа. Я не ведаю, як там будзе. Дзе ты знойдзеш працу?**
**ЛХО: Я ўсё знайду, усё. Я ўсё зраблю. Гэта мая справа.**
**Жонка: Як там да мяне будуць ставіцца?**
*(радыё заглушае размову; зусім немагчыма зразумець)*

Выдадзеная ў Мінску напачатку 1960-х «Кніга карысных парадаў» атрымала велізарную папулярнасць і шмат разоў перавыдавалася.

У ліпені Освальд падарыў Марыне тоўсты фаліянт, пад тысячу старонак, якія тлумачылі, як накрываць на стол, шыць, чысціць, рамантаваць,

---

рэальнага часу, дзеля чаго сям'ю зверху і адправілі аж на Чорнае мора. Суседзяў Освальда выселілі толькі на пару дзён.

Чарговы гістарычны абертон: беларускую вайсковую акругу, від на штаб якой адкрываўся з кватэры Освальда, на пачатку 1960-х узначаліў генерал Валянцін Пянькоўскі, які, як сцвярджаў Алег Пянькоўскі, быў ягоным дзядзькам.

апранацца, рыхтаваць кансервы на зіму, выводзіць барадаўкі і шмат чаго яшчэ. Першая чвэрць «Кнігі карысных парадаў» была прысвечаная гатаванню сняданка, абеда і вячэры.

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**19.07.61**

**Жонка: Адзінае, што ты ўмееш — гэта катаваць.**
*(ЛХО выходзіць з пакоя, нешта крычыць з кухні)*
**Жонка: Ідзі знайдзі сабе дзеўку, якая ўмее гатаваць. Я працую, у мяне няма часу гатаваць табе катлеты. Ты не хочаш супу, не хочаш кашы, толькі смачныя кавалачкі, калі ласка!**
**ЛХО: Я магу хадзіць есці ў рэстаран.**
**Жонка: Ідзі да д’ябла! Калі ты ўжо пакінеш мяне ў спакоі! Я, відаць, не дажыву да таго дня, калі ты пакінеш мяне ў спакоі!**
**ЛХО: Але ж ты не ўмееш нічога рабіць.**
**Жонка: Пакінь мяне ў спакоі!**

Жонка, верагодна, проста не дачытала яшчэ падарунак Освальда да 40-й старонкі, дзе быў рэцэпт закускі, здольнай улагодзіць любога, самага патрабавальнага мужа. Перад тым, як падаць першую, другую і трэцюю страву, як раіла кніга, жонка перад ім паставіла б страву, прыгатаваную паводле самага першага рэцэпту раздзелу «Закускі з мяса»:

**Парася заліўное**

**Парася нацерці мукой і апаліць, выдаліць вантробы, надсекчы хрыбетнік, прамыць халоднай вадой і, загарнуўшы ў сурвэтку, паставіць варыць у закрытай кастрылі, наліўшы ў яе халоднай вады.**

Зробім кароткую паўзу і, наліўшы вады, працягнем чытанне:

**У працэсе кіпячэння здымаць пену, трымаць каструлю на слабым агні каля 1 гадзіны. Затым зняць з пліты, булён пасаліць, крыху ахаладзіць. Парася пакласці на раздзелачную дошку, а булён зноў паставіць на гарачую пліту, дадаць у яго нарэзанае карэнне, цыбулю і прыправы. Прыгатаваць жэле.**

Ва ўсім павінна быць мяжа і мера, таму рэцэпт, як гатаваць жэле, не быў уключаны непасрэдна ў тэкст. А замест гэтага зроблена спасылка

на старонку, дзе яго можна было вывучыць асобна — таму і Марына, верагодна, адразу яго чытаць не стала б.*

**Зваранае і ахалоджанае парася насекчы невялікімі кавалкамі, раскласці на талерку, упрыгожыць кружкамі вараных яек, лустачкамі цытрыны, зелянінай пятрушкі, асцярожна заліць жэле і падаць на стол у застылым выглядзе.**

Нават такі гурман, як Освальд, ужо, напэўна, задаволіўся б, але карысныя парады на гэтым не спыніліся:

**Да заліўнога парасяці падаюць зялёную салату, салату з чырвонакачаннай альбо белакачаннай капусты, карнішоны, пікулі. Асобна падаецца смятанны соус з цёртым хрэнам альбо цёрты хрэн з воцатам.**

Любы, нават не псіхолаг, скажа, што пасля прыгатавання такой закускі сямейныя сваркі і скандалы немагчымыя ў прынцыпе: у мужа на тое не будзе жадання, у жонкі сіл.

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**21.07.61**

**ЛХО: Ну, што ты плачаш? Я казаў, слёзы ні да чаго добрага не прывядуць.**
*(жонка плача)*
**Ты ж ведаеш, я ніколі не сцвярджаў, што я вельмі добры чалавек.**
*(жонка зноў плача, ЛХО суцяшае)*
**Жонка** *(скрозь слёзы)***: Чаму я выйшла замуж? Ты мяне падмануў.**

Усе шчаслівыя сем'і падобныя адна да адной.
І нешчаслівыя таксама.

---

* Каб не адсылаць у бібліятэкі адчайных гаспадыняў, якія вырашаць прыгатаваць гэтую закуску, вось класічны рэцэпт жэле з легендарнай кнігі: «Каб булён добра застыў, на кожную шклянку яго трэба дадаць ад 1 да 3 лісткоў жэлаціну. Жэлацін папярэдне трэба замачыць у халоднай вадзе, адціснуць і толькі пасля гэтага пакласці ў гарачы булён і даць яму закіпець. Жэле з такога булёну атрымаецца смачнае, але не зусім празрыстае». У кнізе прыводзіцца і поўны, як збор твораў класікаў марксізму-ленінізму, рэцэпт, як зрабіць жэле празрыстым, але тут абмяжуемся проста смачным.

## Камсамольская любоў

Шчаслівыя сем’і ўсё ж шчаслівыя часам па-align рознаму — прынамсі, з розных прычынаў.

Жыць і ніколі не сказаць лішняга слова, бо яно можа быць падслуханым і запісаным — для гэтага трэба быць альбо прафесіяналам, альбо моцна запалоханым чалавекам. Освальды не былі ні першымі, ні другімі і, нягледзячы на падазрэнні, паводзілі сябе, як маладыя жонка і муж паводзяць сябе ў стрэсавай сітуацыі — сварыліся і мірыліся.

**Дзённік ЛХО**
**15 ліпеня — 20 жніўня 1961**

**Мы высветлілі, якія фармуляры і дакументы патрабуюцца для візы — каля дваццаці папераў: пасведчанні аб нараджэнні, афідэйвіты, фатаграфіі, даведкі, іншае. 20 жніўня мы здаем усе паперы. Нам кажуць, што адказ — ці выпусцяць нас, будзе праз тры з паловай месяцы. Тым часам Марыне давялося прайсці праз чатыры розныя сходы на працы, якія праводзіла начальства пасля ўказання ад «некага» па тэлефоне. Яе таксама выклікалі ў райкам камсамолу, і яна мусіла ісці на гутарку да іх на паўтары гадзіны. Мэта (абвешчаная) — пераканаць яе не ехаць у ЗША. Вынік: яна становіцца толькі больш упартай у сваім жаданні ехаць. Марына цяжарная; мы спадзяемся толькі, што візы хутка прыйдуць.**

Камсамол і начальства на працы зрабілі тое, што заўсёды робіць вонкавая пагроза: Освальды атрымалі агульнага праціўніка, які паспрыяў іхнаму паразуменню паміж сабой.

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**26.07.1961**

**ЛХО: Ну дык што, быў сход?**
**Жонка: Так, сход быў.**
**ЛХО: Дзе?**
**Жонка: У нашай паліклініцы. Ведаеш, іх бы задаволіла, калі б я сказала — не, я не еду, я не пакіну Радзіму. Ніколі не гавары ім праўду. Папраўдзе, мне не трэба было нічога ім казаць увогуле. Трэба было сказаць, што мая сітуацыя такая, што я не ведаю, што рабіць.**

**ЛХО: А што яны сказалі?**
**Жонка: Яны сказалі, што я грублю. Ну, я сказала, што мне не патрэбная добрая характарыстыка, мне ўсё роўна. Я паеду і з дрэннай характарыстыкай, калі трэба. Я сказала ім, што я не такі ўжо злосны злачынец. Я сказала, што я люблю дзяўчат з аптэкі як сваіх сябровак, і што я неблагі сябар, і я ўсё гатовая аддаць дзяўчатам, бо яны простыя, добрыя дзяўчаты.**
**(***Паўза.)*
**Я адразу гэта сказала. Калі я вам не падабаюся — мне пляваць.**
**ЛХО: І ты... (***не канчае сказу***)**
**Жонка: Яны мяне выкінуць. Яны сказалі, што такія, як ты, не належаць да камсамолу, што мяне трэба выключыць. Я сказала — добра, вельмі цешуся. Чаму ты не хочаш быць членам, — яны мільён разоў у мяне гэта пыталі. Ну, таму што мне не падабаецца, таму што сумна. А чаму ты раней не гаварыла? Бо я не хацела, каб людзі думалі, што я не такая, як усе. Я сказала шмат рэчаў, якія, верагодна, не трэба было, але не магла стрымацца. Што ты думаеш пра камсамол? Я адказала: камсамол ёсць камсамол.**
**(***Паўза.)*
**Насамрэч, я — антысавецкі элемент. Трэба ім аблегчыць зрабіць выснову.**
**А потым, ведаеш, ён у мяне пытаецца — якія ў вас адносіны з тым чалавекам, з якім вы ездзілі ў Маскву. А нехта кажа — гэта яе муж.**
**ЛХО:** *(смяецца)*
**Жонка: І хто ваш муж, што за чалавек? Я кажу, вам лепш запытацца ў МУС. Чаму МУС, калі можам запытацца ў цябе? І я кажу, бо я магу вам і не адказаць.**
**ЛХО: Яны ведаюць самае галоўнае, што я хачу з'ехаць.**
**Жонка: Ён хоча на сваю радзіму, я сказала ім, усе хочуць на сваю радзіму. А ты не спрабавала пераканаць яго застацца тут? Не, я сказала. Потым. Я кажу, я не думаю, што там будзе лепш, не таму, што я шукаю што-небудзь лепшае. Я проста еду са сваім мужам. Магчыма, там будзе горш. Я кажу, ведаеце, я там не была і вы там не былі, дык як мы можам даваць ацэнкі?**
**(***Паўза.)*
**Я сказала, што не пакіну мужа. Ён добры чалавек, і я ім задаволеная. Ён больш дарагі для мяне, чым іхныя ацэнкі. Я паводзіла сябе**




**груба, вельмі груба. Я сказала, што вы збіраецеся рабіць, пакараць людзей, якія давалі мне добрыя характарыстыкі, накрычаць на іх? Прашу не пераследаваць іх, лепш зрабіце вымову мне. Мы цябе паважаем, мы цябе любім, яны казалі. У цябе не будзе такіх сяброў, як мы, гаварылі яны. Я не хачу мець такіх сяброў, як вы. Я бачу, як вы мяне любіце.**
**ЛХО: Не хвалюйся, усё будзе файна.**
(*Паўза.*)
**Жонка: Самае галоўнае цяпер — з'ехаць.**
**ЛХО: Я ведаю. Мы ад'язджаем, не трэба скандалаў.**
(*Паўза.*)
**Жонка: Не шукай праўды, усё роўна не знойдзеш. Так маці казала мне.**
**ЛХО: Усё будзе файна.**
**Жонка: Ты думаеш?**
(*Паўза.*)

**Чаму мне сумна? Мой муж не выгнаў мяне з дому.**
**ЛХО: Я цябе кахаю.**
**Жонка: Гэта цяпер ты так кажаш, а потым скажаш, што не кахаеш.**
**ЛХО: Твой муж цябе кахае.**

Праз чатыры дні пасля камсамольскага сходу ў СССР абвясцілі эру камунізму. Дакладней, 30 ліпеня была надрукаваная праграма КПСС, якая вызначыла дату — праз 20 гадоў цяперашняе пакаленне будзе жыць пры камунізме.

Абвестка ніяк не паўплывала на рашэнне маладой сям'і жыць пры капіталізме.

## П'еса «Маладыя». Акт 1

Калі Марына Освальд пагадзілася на інтэрв'ю для кнігі Мэйлера, яна ведала, што пытанні будуць пра мужа, пра Мінск, пра сям'ю — зрэшты, менавіта гэтаму была прысвечаная цэлая кніга Прысцылы МакМілан «Марына і Лі».

Але, напэўна, яна не магла прадбачыць пытання, якое пачуе падчас новай сустрэчы.

**Інтэрв'юер: Ці вы калі сварыліся з-за мыцця падлогі?**
**Марына: Не.**
**Інт.: А ён калі-небудзь скардзіўся пра падлогу?**
**М.: Не памятаю. Але не думаю.**
**Інт.: Вы калі-небудзь спрачаліся пра ўборку дому?**
**М.: Мы, верагодна, спрачаліся нават пра катоў на даху.**

Пытанне было падказанае архіўнымі дакументамі КДБ.

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**03.08.61**

**18:24** *(уваходзяць у пакой)*
**Жонка** *(крычыць)***: Я стамілася ад усяго гэтага! А што ты? Ты не можаш сам памыць? Ты, відаць, хочаш, каб я мыла падлогу кожны дзень?**

**ЛХО: Так, мый падлогу штодня!**
**Жонка: Ты нічога не робіш, а я мушу прыбіраць цэлы дзень. Прыстойны чалавек дапамог бы. Памятаю, як ты казаў: я буду дапамагаць! Аднойчы ты сапраўды памыў, і цяпер бясконца пра гэта гаворыш, а я мыю наша адзенне кожны раз і гэта зусім не лічыцца.**
**ЛХО: Ты мусіш прыгатаваць нешта з'есці!**
**Жонка** *(крычыць)***: Я не магу. Я не збіраюся гатаваць.**
**ЛХО: Ты можаш зрабіць катлеты, паставіць ваду на чай. Я кажу, я ж купіў усё, усё.**
**Жонка: Я не буду.**
**ЛХО: Ты нічога не зрабіла.**
**Жонка: Ну, а што ты для мяне зрабіў?**
**ЛХО: Ціха!**
**Жонка: Я не буду жыць з табой.**
**ЛХО: Дзякуй Богу!**
**Жонка: Паглядзі на сябе! Акуратны! Ды ты ў дваццаць разоў бруднейшы за мяне. Паглядзі на сваю падушку; ты толькі раз на ёй спаў, а яна ўжо брудная.**
**ЛХО: Ты ніколі нічога не робіш!**
**Жонка: Правільна, я толькі хаджу на гулянкі, прапіваю сваё здароўе.**
**ЛХО: Ты нічога не робіш.**
**Жонка: Ты хоць раз прыбраў гэтую кватэру? Я гэта рабіла дваццаць адзін раз. Ты сам зрабі, а потым гавары пра гэта цэлы дзень.**
**ЛХО: Гэты дом трэба прыбіраць кожны дзень. На кухні бруд, брудна ўсюды. Што тут добрага? Ты спіш да 10-й раніцы і нічога не робіш. Магла б у гэты час прыбіраць.**
**Жонка: Мне трэба спаць. Калі табе не падабаецца, можаш ехаць у сваю Амерыку.**
**ЛХО** *(спакойна)***: Калі ласка, дзякуй.**
**Жонка: Ты заўсёды знаходзіш хібы; цябе нічога не задавальняе, усё дрэнна.**
**ЛХО: Ты дурная. Лянівая і грубая.**
**Жонка: Я хачу, каб ты адчуў, што такое быць адзін дзень на маім месцы.**
*(пасля паўзы яна пачынае плакаць)*
**ЛХО: Ну, што здарылася?**

**Жонка: Ідзі прэч! Я табе не прыслуга. Дай мне нармальныя ўмовы.**
**ЛХО: Не плач. Я толькі кажу, што ты нічога не хочаш рабіць.**
**Жонка: Так? Я ніколі не мыла падлогу?**
**ЛХО: Ты — нядобрая хатняя гаспадыня, не, нядобрая хатняя гаспадыня.**
**Жонка: Трэба было ажаніцца з добрай.**
*(яны маўчаць)*
**Жонка: Калі табе не падабаецца, можаш каціцца ў сваю Амерыку.**
**ЛХО: Я даўно табе казаў, што ты нічога не робіш.**
**Жонка: Я мыю падлогу кожны дзень.**
**ЛХО: Яна брудная.**
**Жонка: Табе брудная, а мне чыстая. Я ўчора памыла падлогу, а ты ўсюды топчашся ў чаравіках.**
**ЛХО: Там бруд і пыл, бо ты адчыняеш дзверы на балкон.**
**Жонка** *(крычыць)***: Ён быў зачынены ўвесь дзень. Ты нічога не разумееш.**
**ЛХО: Не плач.**
**Жонка: Няўжо ты не бачыш, што я выціраю пыл штодня?**
**ЛХО: Ты не выціраеш там, на стале.**
**Жонка: Ага, ага, я там пэцкаю. Я двойчы яго мыла, а ты нават аднаго разу не памыў.**
**ЛХО: Супакой свае нервы.**
**Жонка: Скажы проста: «Марына, гэта трэба зрабіць». Не крычы; гэта крыўдна. Алька, ты мяне ненавідзіш, калі крычыш на мяне?**
**ЛХО: Так.**
**Жонка: Так?**
**ЛХО: Так.**
**Жонка: Чаму ты баішся людзей? Што цябе напалохала?**
**ЛХО** *(крычыць злосна)***: Заткніся, заткніся. Ты толькі й ведаеш, што балбатаць.**
**Жонка: Ты ўсіх баішся!**
**ЛХО: Заткніся!**
**Жонка: Ты баішся, што ў цябе ўсё скрадуць, твой гаршчок золата?** *(смяецца)* **У такія моманты ты мяне можаш забіць. Табе трэба мець моцную сілу волі.**
**ЛХО: Як наконт трохі бульбы?**
**Жонка: Яна яшчэ не гатовая, што я зраблю?**

**22:37** *(яны ідуць на кухню)*
**22:40** *(жонка прымушае ЛХО вымыць ногі)*
**23:00** *(у пакоі ціха; размовы няма)*

У КДБ, калі чыталі свежы запіс п’есы «Маладыя», як называе гэтую расшыфроўку Мэйлер, звярнулі ўвагу і падкрэслілі тры фразы Марыны:

**— Я не буду жыць з табой.**
**— Калі табе не падабаецца, можаш ехаць у сваю Амерыку.**
**— Ты ўсіх баішся!..**

У Освальда — толькі адну фразу:

**— Не плач.***

Словы Марыны «**ў такія моманты ты мяне можаш забіць**» нічыёй увагі не прыцягнулі.

## П’еса «Маладыя». Акт 2

Другі акт адбыўся праз тыдзень, і хаця героі тыя самыя, спрэчка ідзе пра рэчы нашмат больш сур’ёзныя за падлогу.

**З расшыфроўкі падслухоўвання КДБ**
**Дата: 11.08.61**

**ЛХО: Калі ты мяне не кахаеш, як ты можаш жыць са мной? Я даю і буду даваць табе ўсё, што толькі магчыма. Чаго ты хочаш? То ты кажаш, што хочаш ехаць са мной, праз хвіліну, што не хочаш.**
**Жонка: Часам я баюся ехаць з табой. Я не хачу спрабаваць давесці табе, што тут усё выдатна, а там усё дрэнна. Але нават калі тут я нічога не маю і не буду мець, тут дом.**
**ЛХО: Ты тут нічога ніколі не будзеш мець, але там у цябе будзе муж і ўсё.**

* Падкрэсліванні КДБ у далейшых тэкстах расшыфровак пазначаныя ў тэксце.

**Жонка: Што я там буду рабіць? Я буду ўвесь час сядзець дома, і на гэтым усё.**
**ЛХО: Але ты будзеш са мной. У цябе будзе ўсё.**
**Жонка: Я не шукаю ніякіх матэрыяльных выгадаў. Грошы мяне зусім не цікавяць. Гэта не важна. Самае важнае для мяне, як ты да мяне ставішся.**
**ЛХО: Ну, тады ўсё ў парадку.**
**Жонка: У мяне няма гарантыі, што ты мяне там не пакінеш. Што тады я буду рабіць?**
**ЛХО: Калі ты мяне не кахаеш — не едзь.**
**Жонка: Не, я баюся, што ты мяне кінеш. Ты ж тут усё пакідаеш, урэшце.**
**ЛХО: Я пакідаю?!**
**Жонка: Бачыш, ты ўжо крычыш, а як там будзе?**
**ЛХО:. Што ў цябе тут ёсць? Нічога. Адзін пакой. Гэта шмат? Адзін пакой, які табе нават не належыць.**
**Жонка: Мы тут жывем, гэта наша.**
**ЛХО: Ты лічыш, гэта маё? А я зусім не адчуваю, што гэта мая маёмасць. Я не адчуваю, што гэта маё.**
**(***Паўза.)*
**Жонка: Ты мяне мучыш.**
**ЛХО: Не магу цярпець, калі ты такая, як цяпер. Я кажу адно, ты другое.**
**(***Паўза.)*
**Жонка: Спі ціха.**
**ЛХО: Як я магу спаць ціха, каля я не ведаю, што ты пра мяне думаеш? У цябе ўсё заўсёды залежыць ад настрою. Трэба раз і назаўсёды вырашыць.**
**Жонка: Ідыёт, ты нічога не разумееш.** *(Дражніць яго.)* **Маёмасць, маёмасць.**
**ЛХО: Ты не разумееш канцэпцыі маёмасці. Ты сама не ведаеш, чаго хочаш. Я хачу там жыць, бо там высокі ўзровень жыцця.**
**Жонка: А ты думаў, ты сюды прыедзеш і зусім не трэба будзе працаваць, жыві толькі? Чаму ты не вучыўся? Ты мог вучыцца, ты проста гультай.**
**ЛХО: Ты нічога не разумееш. Мільёны людзей увесь час пакідаюць гэтую краіну. Тут грубыя людзі.**
**Жонка: Ты на нас глядзіш праз чорныя акуляры.**

**ЛХО: Якія чорныя акуляры? Гэта няпраўда.**
**Жонка: Я, напрыклад, не кажу дрэнна пра Амерыку. Гэта непрыстойна.Трэба быць сапраўднай свіннёй, каб дрэнна казаць пра краіну, якую не ведаеш. І я так не раблю.**
**ЛХО: Можа быць, але ты будзеш там жыць. <u>Там высокі ўзровень жыцця</u>.**
**Жонка: Ты не разумееш. Гэта не мой дом. Я там не пачую расейскай мовы.**
**ЛХО: Калі ты хочаш ехаць — едзь. Калі не, тады не.**
**Жонка: Я не паеду. Я баюся. Нават цяпер, калі прыходзіць Эрык і вы гаворыце па-ангельску, я не магу гэта пераносіць.**
**ЛХО: Ты гаворыш, як нейкая старая вясковая цётка.**
**Жонка: Мы ніколі не зможам зразумець адно аднаго.**
**ЛХО: Калі ты хочаш ехаць, ты паедзеш!**
**Жонка: Не крычы.**
**ЛХО: Ты мяне прымушаеш крычаць. Я не грублю. Ты стала непрыстойная і дрэнная.**
**Жонка: Ты.**
**ЛХО: Не, я быў прыстойны і добры, калі мы сустрэліся. Але ў цябе было шмат непрыстойнасці.**
**Жонка: Я так не лічу. Я нават ні разу не пацалавала Сашу. Ніхто не называў мяне непрыстойнай. Я не паводзіла сябе як іншыя дзяўчаты. У мяне не было маці, якая б накіравала мяне на правільны шлях. Раз на тыдзень я паводзіла сябе па-дурному.**
**ЛХО: Я разумею.**
**Жонка: Табе трэба, каб усё было памяркоўна. Калі б я толькі ведала!**
**ЛХО: За апошні месяц ты зусім змянілася. Ні пяшчоты, нічога. Калі б ты не была цяжарнай. Я не магу крычаць на цябе ў прысутнасці іншых людзей, але ты заўсёды пра мяне рознае гаворыш, калі вакол людзі. А потым ты кажаш казкі пра тое, што я ад'язджаю, пакідаю цябе і ва ўсім вінаваты. <u>Але нават калі так, я хачу, каб ты была са мной</u>. Я разумею, што ты такая, якая ёсць і не можаш быць іншай. (*паўза*) Чаму ты прыкідваешся, што цябе так пакрыўдзілі? Самая няшчасная дзяўчына на свеце. Ты нясеш лухту.**
**Жонка: Ідзі да д'ябла!**
**ЛХО: Ты мяне не паважаеш.**
**Жонка: Алік, мы ўжо дастаткова сварыліся. І цяпер зноў.**

**ЛХО: Раней ты не была такой.**
**Жонка: Ты таксама.**
**23:35** (*ціха; яны спяць)*

Марына цяжка пераносіла першыя месяцы цяжарнасці — яе раздражнялі пахі на вуліцы, у кватэры, нават на балконе, пах мужа, пах ежы.

Плюс стрэс і страх — намер паехаць у Амерыку ўспрымаўся як здрада радзіме.

Тут заплачаш.*

## Талстаеўскі

Мэйлер паталагічна скрупулёзна вывучаў мінскае жыццё Освальда. Ён праглядаў шматлікія здымкі і дакументы, сабраныя Камісіяй Уорэна, з рапартаў КДБ мог намаляваць падрабязныя маршруты яго перамяшчэнняў па горадзе, з расказаў знаёмых і Марыны дакладна ведаць, дзе ў кватэры стаялі чобаты, вісела паляўнічая стрэльба, якія кнігі былі на паліцах — але ўсярэдзіне не быў.

Чаму — магчыма, таму, чаму мне самому не прыйшло ў галаву задаць яму гэтае пытанне. Таму што не хацеў, бо якое гэта мае значэнне. Таму што хацеў, але не паспеў ці не змог. Таму што той, хто там жыў, не пусціў. Таму што Мэйлера называлі амерыканскім Талстым.

Апошняя, літаратурная версія вымагае тлумачэння.

---

* П'еса аказалася трох- ці нават чатырохактавай. Трэці акт — жыццё з Освальдам у Амерыцы. Пасля серыі скандалаў з гвалтам (Освальд яе збіваў) у лютым 1963-га Марына напісала ў савецкую амбасаду першы ліст пра вяртанне, у сакавіку — другі. Яна зноў была цяжарная і спадзявалася з'ехаць да нараджэння дзіцяці, і прасіла вярнуцца не ў Мінск, а ў Ленінград. Аднак з савецкай амбасады паведамілі, што афармленне папераў можа заняць 5-6 месяцаў. Освальд чакаў сына і нават выбраў яму імя Фідэль, у гонар Кастра. У кастрычніку нарадзілася дачка, якую назвалі Рэйчал. Освальд, які таксама напісаў запыт на савецкую візу, мяняў месцы працы і, нарэшце, у лістападзе з'ехаў з тэхаскага горада Форт Ворт у Далас, пакінуўшы замест адрасу нумар паштовай скрынкі. Чацверты акт — пасля забойства Кенэдзі. Расследаванне зрабіла Марыну вядомай на ўсю Амерыку — яна давала інтэрв'ю, пра яе пісалі кнігу, з'явіліся грошы, і яна «загуляла» — стала праводзіць дні ў боўлінгу, начных клубах, на вечарынках, атрымала мноства прапановаў выйсці замуж — паўтарыла, як сама казала, свой «ленінградскі перыяд». У 1965 годзе яна выйшла замуж за мясцовага ўладальніка ранча Кенэта Портэра, нарадзіла сына Марка, развялася з Портэрам праз дзесяць гадоў, але засталася жыць разам з ім.

Нагадаем сюжэт: малады чалавек шукае сэнс жыцця, прагне справядлівасці, бачыць вакол шмат зла, лічыць сябе адрозным ад іншых і ні з кім блізка не сыходзіцца, гатовы разарваць сувязі з сям'ёй і забіць нават брата, калі той стане на яго шляху, нават ад блізкіх знаёмых хавае свае планы і намеры, расчароўваецца ў ідэале, перакананы, што ён не такі, як усе, і дзеля вышэйшай мэты мае права і можа забіць.

Гэта апісанне не Освальда, а Раскольнікава, а таксама тэорыяў і матывацыяў герояў Дастаеўскага з раманаў «Бесы», «Браты Карамазавы». «Бесы», дарэчы, у ангельскім перакладзе называюцца «Posessed» — «Апантаныя».

Дастаеўскі сапраўды некалькі разоў з'яўляецца ў «Гісторыі Освальда»: на сваё 20-годдзе герой атрымлівае ў падарунак раман «Ідыёт», уведаўшы, што Освальда ў Мінску пачынаюць зваць «Алёша», Мэйлер адразу ўдакладняе — таму што так звалі аднаго з братоў Карамазавых? Але, магчыма, прычына яшчэ больш простая: Мэйлер мог адчуваць, што яго герой насамрэч герой не Талстога, а Дастаеўскага. Дэтэктыўны сюжэт з забойствам, якое здзяйсняе «малы» чалавек, які адчувае сваё пакліканне — класіка расейскай літаратуры.

Пайсці ў мінскую кватэру Освальда было б тым самым, што пайсці на месца забойства ў Даласе, цытатай са «Злачынства і пакарання» — і рэч не ў тым, што цытата, а ў тым, што занадта блізкая, і таму не мастацкая, а Мэйлер усё ж пісьменнік.

«Гісторыя Освальда» Мэйлера сапраўды выглядае як раманы Дастаеўскага: гісторыя, на якую хапіла б і двухсот старонак, займае ўчацвёра болей, структурныя часткі непрапарцыйныя, не звязаныя, унутраную логіку замяняе ідэя мазаічнай стракатасці персанажаў, колькасць якіх сягае за тысячу, большасць з іх не патрабуюцца для сюжэту, але маюць цікавую ўласную біяграфію і перажыванні, ролю ўнутраных маналогаў і бясконцых дыялогаў выконваюць расшыфроўкі падслухоўвання КДБ, а 17 афіцэраў і генералаў, якіх распытваў аўтар, увасабляюць калектыўнага следчага Парфірыя Парфір'евіча.

Адна з адметнасцяў Мэйлера — яго бязлітасная фіксацыя на сэксуальным жыцці герояў. Характэрны прыклад — кніга пачынаецца з гісторыі Валянціны Прусаковай, жонкі Марынінага дзядзькі палкоўніка МУС Іллі Прусакова. Мэйлер запісвае яе даўгі аповед пра страшнае савецкае жыццё, ГУЛАГ і вайну, прымусовую працу ў Нямеччыне, знаёмства з лейтэнантам — будучым мужам, які быў на 15 гадоў старэйшы, яго сухасць і стрыманасьць, дысцыпліну, такт, элегантнасць, павагу да яе

і іншых (дастаеўская дэталь: перад смерцю ён хварэў, і калі «хуткая» прыехала, ён спытаўся — думаеш, трэба гальштук надзець?), і потым згадвае, як пасля яго смерці яна разбірае рэчы і знаходзіць — яшчэ больш дастаеўская дэталь — пачак фатаздымкаў з голымі жанчынамі. І ўздыхае — мужчыны ёсць мужчыны.

Гэтая пасмяротная маленькая прыватная таямніца пабочнага персанажа, з якім аўтар нават не сустракаўся, не патрэбная ні для развіцця сюжэту, ні для тлумачэння характару галоўных герояў, ні для кантэксту — але як любы схаваны грэх, яна арганічная для паэтыкі Дастаеўскага (напрыклад, раздзел «У Ціхана» ў «Бесах»).

Больш за ўсіх ад гэтай паэтыкі пацярпела Марына. Усіх, каго можна, Мэйлер распытваў пра яе бурную маладосць у Ленінградзе, запісваў падрабязную пахвальбу мінскага знаёмага, які хваліўся, што меў сэкс з Марынай перад вяселлем, пасля вяселля, увесь час. Мэйлер распытваў сяброўак з аптэкі — што яны ведалі пра мінулае Марыны. Ён цытуе перакладчыцу Інтурыста, якая, пачуўшы навіну пра шлюб Освальда, называе яго жонку вулічнай прастытуткай. І апафеоз — пяцідзённае інтэрв'ю з самой Марынай у Тэхасе, дзе яна прызнаецца, што яе згвалціў багаты замежнік, у гатэлі, яна не магла крычаць, бо баялася дзяжурную на калідоры.

Ёй было 17 гадоў, жыла без маці, з айчымам, які яе ледзьве цярпеў. І ўсё гэта адбывалася ў горадзе Дастаеўскага, з белымі начамі, беднымі людзьмі, разбітымі лёсамі.

Сонечка Мармеладава са «Злачынства і пакарання». Марушка з «Бесаў», Наташа з «Прыніжаных і зняважаных».

Падчас гутаркі я спытаўся ў Мэйлера, як Марына рэагавала на публікацыю падрабязнасцяў яе прыватнага жыцця ў інтэрпрэтацыі КДБ і з дэталямі, якія здабыў сам аўтар?

**— Адбылося наступнае. Шылер, як я казаў, вялікі гандляр. Калі ён пераконваў Марыну даць мне інтэрв'ю, ён сказаў у якасці аргумента: вы мусіце гэта зрабіць. Гэта гісторыя. Норман Мэйлер ёсць нашым амерыканскім Талстым! Ужо пасля таго, як кніга выйшла, ён пазваніў ёй і спытаўся пра ўражанні, і яна сказала:**
**— Ніякі ён не Талсты!**

У амерыканскіх універсітэтах кажуць — «Tolstojevsky».

## Освальд і Пушкін

Апошняя восень у Беларусі для Освальда пачалася з таемнага візіту ў Маскву. Таемнага, бо пра яго нідзе няма звестак — ні ў матэрыялах КДБ, якія атрымаў Мэйлер, ні ў дакументах амерыканскай амбасады, ні ў ліставанні Освальда з сям’ёй, ні ў яго «Гістарычным дзённіку».

**Дзённік ЛХО**
**21 жніўня — 21 верасня, 1961**

**Хаджу ў пашпартны стол у аддзел візаў, таксама ў міністэрства замежных справаў у Мінску, таксама ў міністэрства ўнутраных справаў, ад якіх залежыць рашэнне аб візе.**

Адзіным сведчаннем паездкі ці палёту ў Маскву стаў рэчавы доказ 374 Камісіі Уорэна: падчас ператрусу пасля забойства сярод асабістых рэчаў Освальда паліцыя канфіскавала яго «Білет чытача № 3095/к» Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У.І. Леніна. Білет на імя «Освальда Лі Харві» ў навуковую чытальную залю № 1 быў выпісаны ў чацвер, 7 верасня 1961 года, тэрмінам на адзін месяц.

Што рабіў, дзе быў, дзе спыняўся, колькі дзён правёў Освальд у Маскве падчас той паездкі — не вядома нічога, апроч візіту ў бібліятэку. Картатэка заказаў чытачоў даўно знішчаная, і што ён чытаў у навуковай залі — амерыканскую прэсу, зборнік законаў ці творы Леніна, невядома.*

Але гэта не адзіная загадка апошняй восені.

**Дзённік ЛХО**
**Верасень — 19 кастрычніка 1961**

**Нічога не чуваць з міністэрстваў («Яны нам самі пазвоняць»). Марына цягніком едзе з Мінска да цёткі ў горад Харкаў на Урал на 4 тыдні. У гэты час я адзін, але разам з Эрыкам хаджу на танцы і ў іншыя грамадскія месцы на забавы. Ужо некалькі месяцаў не рабіў гэтага. Дзень нараджэння праводжу адзін у оперы, гляджу маю любімую «Пікавую даму». Мне споўнілася 22 гады.**

---

* Освальд таксама быў чытачом галоўнай бібліятэкі Беларусі, «Ленінкі» — але картатэка таксама не захавалася.

Мэйлер пакідае геаграфічную памылку без агаворкі, магчыма, сам не заўважыўшы яе ці палічыўшы, што ўкраінцы не пакрыўдзяцца. Ён робіць важнае назіранне — восенню, пасля ўсіх спрэчак і сварак, у Освальдаў настаў час пэўнага ахаладжэння. Лісты з Мінска ў Харкаў сухія, кароткія, і раптам нешта мяняецца, мяняюцца лісты — іх піша быццам іншы чалавек.

**18 кастрычніка:**

**Ну, хутка ты вяртаешся назад. Я буду вельмі рады цябе зноў бачыць — як я буду цябе любіць!..**

**22 кастрычніка:**

**Мая мілая дзяўчынка! Сёння я атрымаў тваю паштоўку; дзякуй, мілая, толькі мне не падабаецца, што ты балбочаш, што ты прадчуваеш, што згубіш мяне. Ты ніколі не згубіш мяне, і ўсё! Ты не кажаш, калі вяртаешся. Скажы як найраней. Ты хутка будзеш дома. Будзе так добра зноў быць з табой.**

У матэрыялах Камісіі Уорэна захоўваецца аркуш, знойдзены падчасператрусу дома ў Освальда. На ім рукой Освальда па-расейску даволі дакладна і падрабязна запісаны словы любоўнай арыі з другога акту «Пікавай дамы».

***Я вас кахаю так адчайна,***
***Без вас мне не пражыць і дня.***
***І подзвіг сілы надзвычайнай***
***Для вас гатовы здзейсніць я.****

Мэйлер цытуе 24 радкі арыі і робіць выснову:

**Пушкіну і Чайкоўскаму ўдалося вярнуць яго да кахання.**

Выключна дзеля педантычнасці — аповесць Пушкіна, але словы лібрэта належаць не паэту, а брату кампазітара Мадэсту.

І дзеля дакладнасці: паводле архіваў Вялікага тэатра оперы і балета БССР (званне «акадэмічнага» было нададзена пазней), 18 кастрычніка, у дзень народзінаў Освальда, «Пікавую даму» на яго сцэне не гралі. У

* Тэкст для Камісіі Уорэна быў перакладзены на ангельскую і так даецца ў кнізе Мэйлера. Пераклад на беларускую з расейскага арыгіналу.

тэатральным архіве ў журналах рэгістрацыі пазначана, што 7 кастрычніка на сцэне адбылася прэм'ера оперы Яўгена Глебава «Мара», і больш нічога. Як патлумачылі супрацоўніцы архіву, далей тэатр быў на гастролях.

Застаюцца тры магчымасці. Першая — Освальд несвядома памыляецца, бо піша ці перапісвае дзённік нашмат пазней і блытае год («Пікавую даму» гралі ў кастрычніку 1960-га, праўда не 18-га, а 15-га); другая — Освальд свядома робіць непраўдзівы запіс, матывацыя незразумелая; трэцяя — тэатральныя архівы памыляюцца.

Была яшчэ чацвёртая магчымасць — Освальд сапраўды слухаў Чайкоўскага, але не ў оперным тэатры, а ў кінатэатры. У 1960-м на экраны выйшаў фільм-опера «Пікавая дама». Марына ўжо ў Амерыцы пісала ў сваіх паказаннях для ФБР:

> **Улюбёная опера Лі была «Пікавая дама». У Расеі зрабілі фільм па гэтай оперы, цудоўны фільм. Лі хадзеў глядзець яго чатыры ці пяць разоў...**

Высветліць, куды мог пайсці адзінокі малады чалавек у Мінску ў 1961 годзе, каб задаволіць свае культурныя патрэбы, не лягчэй, чым аднаму літаратурнаму герою было знайсці дванаццатае крэсла — горад яшчэ не меў сваёй газеты, а афішы з тумбаў і рэкламных шчытоў даўно абарваў вецер гісторыі.

Але паспрабаваць можна. Галоўная рэспубліканская газета «Звязда» друкавала не толькі абавязковыя пастановы партыі і ўрада, але і рэпертуарную афішу сталіцы.

З тэатрам оперы і балета ўсё проста — там неахайна ці, прынамсі, вельмі спецыфічна вялі архівы. Насамрэч да ад'езду на гастролі ў канцы месяца трупа была ў Мінску да 25 кастрычніка і сыграла паўтара дзясятка спектакляў — усе абвесткі спраўна друкавала «Звязда». Але «Пікавай дамы» сярод іх не было.

У 1961-м у Мінску было 17 кінатэатраў, іх рэпертуар таксама друкавала газета — але цягам кастрычніка нідзе ні разу не круцілі фільм-оперу.

Ні разу, ні ў тэатры, ні ў кіно ў тым кастрычніку ў Мінску не гучала знакамітая арыя пра ўдачу і няўдачніка, доля якога, як вядома, плакаць. За адным магчымым выняткам.

Напярэдадні дня народзінаў Освальда, 17 кастрычніка, у Маскве адкрыўся 22-гі партз'езд, і ў наступны дзень газеты мусілі друкаваць гі-

ганцкую прамову Мікіты Хрушчова, якая заняла ўвесь здвоены нумар і не пакінула месца ні для радка пра надвор'е, ні для шахматнага эцюду, ні для кіна-канцэртнага і тэатральнага рэпертуару дня.

Рэпертуарная дата 18 кастрычніка не выплыла з пажоўклых старонак фрагментарнага тэатральнага архіву, а ў газетах была пахаваная пад татальным шматслоўем партыйнага правадыра.

У той дзень можна было ўведаць, што Сталін яшчэ большы злачынца, чым сказалі пра гэта пяць гадоў таму на такім самым з'ездзе, што да антыпартыйнай групы Малянкова далучыўся рэдактар «Правды» Шапілаў і на ўсё жыццё атрымаў тытул «и примкнувший к ним», так, відаць, і на помніку на могілках напісалі, а маршал Варашылаў проста збіўся з тропу, і што камунізм пабудуецца праз дваццаць гадоў, і шмат яшчэ чаго.

Але пра «Пікавую даму» нічога ў той дзень не ўведаеш, апроч як з запісу Освальда.

І толькі на шпацыры па гарадскіх вуліцах патрапіць раптам на вочы старая шыльда «Дом культуры», і прыйдзе ў тлумную галаву неабавязковая думка — фільмы ж яшчэ круцілі ў заводскіх клубах і прафсаюзных палацах культуры, а іх рэпертуар газеты не друкавалі.

Мог, мог Освальд злавіць «міг удачы» ў свой апошні дзень нараджэння ў Мінску.

## Дагнаць Амерыку

У канцы 1961-га на заводзе мянялі наглядную агітацыю — на стэндах вывесілі «Маральны кодэкс будаўніка камунізму»* і свежыя цытаты з выступу на партыйным з'ездзе Хрушчова:

* Тэкст па рэалістычнасці нагадваў «Афінскую сістэму» Освальда, але ўпор рабіўся на градацыю пачуццяў: любіць патрабавалася сацыялістычную радзіму і краіны сацыялізму, да працоўных усіх краінаў рэкамендавалася праяўляць салідарнасць, да справы камунізму — адданасць, да агульнай маёмасці — клопат, да грамадскага абавязку — свядомасць, да членаў сям'і — павагу, да дармаедства — непрымірымасць, да ворагаў міру — нецярпімасць, да асабістага жыцця — прастату. Кодэкс, як успамінаў адзін з аўтараў, быў напісаны за паўтары гадзіны групай спічрайтараў ЦК, якія адыходзілі пасля цяжкай п'янкі напярэдадні (часопіс «Российский адвокат», http://gra.litsa.ru/magazine.php?m=60&a=3).

**Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!**
**Дагонім і перагонім Амерыку!**
**Нашы мэты ясныя, задачы вызначаныя, за працу, таварышы!**

У адзіны лістападаўскі запіс Освальда ў дзённіку, аднак, гэтыя слоганы не патрапілі.

**Дзённік ЛХО**
**2 лістапада 1961**

**Вяртаецца Марына, вясёлая, прывезла некалькі слоікаў закансерваванай гародніны для мяне ад сваёй цёткі з Харкава.**

Даганяць Амерыку Освальды вырашылі самі. Аднак спробы перакананць іх дачакацца камунізму працягваліся.

**Рапарт КДБ**
**20.11.61**

**Падчас сустрэчы 20 лістапада 1961 года Прусакоў І.В. патлумачыў, што цягам апошняга часу двойчы гаварыў са сваёй пляменніцай Марынай і яе мужам Освальдам Л.Х. Як сваяк жонкі Освальда, Прусакоў выказаў меркаванне, што рашэнне Освальда вярнуцца ў Амерыку можа быць памылковым. Прусакоў гаварыў з ім пра складанае міжнароднае становішча, а таксама пра магчымасць яго прызыву ў амерыканскае войска, праблемы з працай у Амерыцы, а таксама пра пэўную магчымасць яго арышту там.**
**Освальд патлумачыў Прусакову, што наўрад ці яго прызавуць на вайсковую службу, бо ён ужо адслужыў свой тэрмін. Што датычыцца магчымага арышту — ён не думае, што супрацоўнікі амбасады сталі б яму хлусіць. Тым не менш, Освальд паабяцаў яшчэ раз узважыць усе гэтыя акалічнасці, датычныя яго вяртання ў Амерыку.**
**Далей Прусакоў патлумачыў, што ён таксама спрабаваў перакананць сваю пляменніцу Марыну, што ехаць у ЗША немэтазгодна. Такі самы ўплыў на яе рабіла яе цётка Паліна, якая жыве ў Харкаве. У выніку гэтых гутарак Прусакоў вырашыў, што Марына не надта хоча ехаць. Аднак яна была вельмі заклапочаная тым, як жыць далей, калі ў яе будзе дзіця ад Освальда.**

**Прусакоў даў абяцанне працягваць працу па перакананні Освальда і яго жонкі, каб тыя змянілі сваю думку наконт паездкі ў Амерыку. Прусакоў не згадаў якіх-небудзь падазроных момантаў у паводзінах Освальда.**

Мэйлеру Марына прыгадала, што харкаўская цётка сапраўды адгаворвала яе ад Амерыкі. Але цётчын сын сказаў — слухай сваё сэрца і рабі, як трэба табе.

**Дзённік ЛХО**
**Снежань 1961**

**Затрымка пачынае раздражняць. Марына пачынае сумнявацца, ці варта ехаць у ЗША. Верагодна, з-за напружання і ад цяжарнасці, мы сварымся і ўсё не так ужо і добра, асабліва з надыходам суровай расейскай зімы.**

У снежні Марыне пазванілі на працу і сказалі прыйсці ў МУС-КДБ — абедзве ўстановы месціліся ў адным будынку, і яна не была ўпэўненая, калі расказвала Мэйлеру пра сустрэчу сам-насам з сівым чалавекам у форме, ці быў ён з АВІРу ці з КДБ. Гаворка ішла пра ад’езд — матывы, намеры, ці добра падумала, ці не нашкодзіць сваякам, ці ўпэўненая ў сваім жаданні, затым суразмоўца пераключыўся на нефармальны тон і пачаў гаварыць як чалавек, які па ўзросце даводзіцца ёй дзедам, бо хто яго ведае, як там складзецца шлюб і жыццё. Яна запомніла, што пагрозаў не было.

Гэта была апошняя спроба паўплываць на рашэнне Марыны.

У храналогіі КДБ 6 снежня 1961 года Освальд звярнуўся да амерыканскага сенатара Джона Таўэра па дапамогу ў вяртанні ў ЗША. Мэйлеру далі копію перакладу гэтага ліста на расейскую.

**Дарагі сенатар Таўэр!**
**Мяне завуць Освальд. Калі я прыехаў у Савецкі Саюз, я прад’явіў дакументы, што я — амерыканскі грамадзянін і прыехаў у Савецкі Саюз часова. Амерыканская амбасада ў Маскве знаёмая з маёй справай.**
**Пачынаючы з ліпеня я спрабаваў беспаспяхова атрымаць выязную візу, каб паехаць у ЗША, але савецкія ўлады адмаўляюць у дазволе мне і маёй жонцы выехаць.**
**Я грамадзянін Злучаных Штатаў (пашпарт № 1733242, 1959) і я**

**прашу Вас дапамагчы мне, таму што савецкія ўлады трымаюць мяне супраць маёй волі.**

Освальд, вядома, не мог не памятаць, што адбылося падчас яго першага паходу ў амерыканскую амбасаду ў Маскве — а калі б і забыўся, пад рукой быў «Гістарычны дзённік».

**Дзённік ЛХО**
**31 снежня 1959**

**У 12:30 я прыязджаю ў амерыканскую амбасаду, заходжу і кажу дзяжурнай «я хацеў бы бачыць консула», яна паказвае на вялікі журнал і кажа, «калі вы турыст, калі ласка, зарэгіструйцеся». Я дастаю мой амерыканскі пашпарт і кладу яго на стол, я прыйшоў скасаваць сваё амерыканскае грамадзянства, кажу я звычайным тонам.**
**Яна ўстае й ідзе ў кабінет Рычарда Снайдэра, генеральнага консула ў той час. Ён запрашае сесці. Сканчае ліст, які друкаваў, і пытаецца, чым можа дапамагчы. Я кажу, што хацеў бы ўзяць савецкае грамадзянства і хацеў бы скасаваць амерыканскае. Яго памочнік (цяпер генеральны консул) МакВікерс падымае галаву ад папераў. Снайдэр кажа — запісвае асабістую інфармацыю, папярэджвае, каб я не рабіў ніякіх крокаў перад тым, як саветы мяне возьмуць, кажа, што я «дурань», і кажа, што паперы на выхад з грамадзянства патрабуюць шмат часу на падрыхтоўку (іншымі словамі, адмаўляе мне ў скасаванні грамадзянства ЗША).**
**Я заяўляю, што прыняў рашэнне. З гэтага дня і ў будучыні я не лічу сябе грамадзянінам ЗША. Я праводжу ў амбасадзе 40 хвілін, пакуль Снайдэр не кажа: «Калі вы не хочаце больш падрабязна расказаць пра свае марксісцкія перакананні, дык можаце ісці». Я хачу пазбавіцца ад амерыканскага грамадзянства, а ён фактычна кажа — не сёння. Я іду з амбасады, прыўзняты ад гэтага супрацьстаяння, і калі вяртаюся ў гатэль, адчуваю, што патраціў свае сілы недарэмна. Я ўпэўнены, што расейцы мяне прымуць пасля такой дэманстрацыі маёй веры ў іх.**

Даволі дакладна вядома, што падумалі ў КДБ як пасля дэманстрацыі ў амбасадзе ў снежні 1959-га, гэтак і пасля дэманстратыўнага абвінавачання савецкіх уладаў у гвалтоўным трыманні амерыканскага грама-

дзяніна ў снежні 1961-га — і ў першым і ў другім выпадках пахла міжнародным скандалам.

Як патлумачылі Мэйлеру, першы скандал, падслуханы і запісаны КДБ у амбасадзе, быў настолькі гучны — Освальд павышаў голас, крычаў, што раскажа ўсе вайсковыя сакрэты — што адначасна разглядалі версіі, што гэта «легенда» ЦРУ, нават двайнога характару (спецыяльна ўсё так аперэтачна-непраўдападобна, каб падмануць КДБ і пераканаць, што ЦРУ так тапорна не зрабіла б — нешта такое).

Пасля сачэння за жыццём Освальда ў Мінску і зняцця копіі з ліста да сенатара Таўэра ў КДБ пабачылі, што скандал можа быць, але з іншай прычыны. Канчатковая справа вырашалася ў Маскве, і туды былі пасланыя заключэнні мінскага КДБ і іншыя паперы, у тым ліку — характарыстыка Освальда для гараддзела міліцыі, падпісаная дырэктарам завода і начальнікам аддзела кадраў.

**Мінскі радыёзавод**
**11.12.61**

**Характарыстыка**

**Лі Харві Освальд быў прыняты на працу ў якасці рэгуліроўшчыка эксперымэнтальнага цэху гэтага завода 13 студзеня 1960 года. Падчас працы рэгуліроўшчыкам яго праца была нездавальняючай. Не праяўляе ініцыятывы дзеля падвышэння майстэрства рэгуліроўшчыка.**
**Грамадзянін Лі Харві Освальд балюча рэагуе на заўвагі майстра і неахайны ў працы. Грамадзянін Л.Х. Освальд не бярэ ўдзелу ў грамадскім жыцці нашага завода і пераважна паводзіць сябе няшчыра.**

Аднойчы а 7-й раніцы ў нядзелю 18 снежня 1961 года Освальдам у дзверы пазванілі — усе на выбары! У гэты дзень выбіралі суддзяў. Освальд не адчыніў. Потым прыйшлі зноў. І Освальд пачаў крычаць праз зачыненыя дзверы — гэта свабодная краіна! Так напісана ў Канстытуцыі. Ён прачытаў напалоханай Марыне цэлую лекцыю на гэтую тэму — у свабоднай краіне не прымушаюць людзей хадзіць на выбары.

Невядома, крычаў Освальд і спасылаўся на сталінскую канстытуцыю як марксіст, які яе вывучаў, ці пратэставаў як чытач Оруэла, знаёмы з феномэнам «двудумнасці». У любым выпадку, агітатараў ён напалохаў, больш не прыходзілі.

Сваю канчатковую выснову зрабіў і КДБ. Освальд найхутчэй не агент ЦРУ, але зарэкамендаваў сябе як чалавек без камуністычных прынцыпаў, які не надта хацеў працаваць і вучыцца. Толькі галаўны боль.

КДБ даў заключэнне: пярэчанняў для выдачы выязной візы Освальду няма.

На адзін галаўны боль меней.

Як той казаў — ну-ну.

## Навагодні смех

Свой першы Новы год у Савецкім Саюзе Освальд сустракаў у Маскве адзін, у нумары гатэля «Метраполь» — быў у ложку а 10-й вечара, пасля паходу ў амбасаду, дзе ён заявіў пра адмову ад амерыканскага грамадзянства.

Другі Новы год Освальд правёў у Менску ў сям’і Элы Герман, у якую быў закаханы — і калі яна не прыняла прапановы, ажаніўся з Марынай Прусаковай, «каб насаліць Эле».

Напярэдадні трэцяга і апошняга Новага года ў СССР у Освальда змяніўся паштовы адрас — у снежні вуліца Калініна была перайменаваная ў Камуністычную.

Разам з жонкай яны былі запрошаныя на суседнюю вуліцу Чырвоную, 14 да Зігераў. Менавіта Аляксандр Зігер быў першым, хто параіў Освальду вяртацца ў Амерыку — і Новы год Освальды сустракалі з важнай навіной.

**Дзённік ЛХО**
**25 снежня 1961**

**Раство, аўторак. Марыну выклікаюць у пашпартны стол і аддзел візаў. Ёй кажуць, што нам далі савецкія выязныя візы. Яна запаўняе анкеты і вяртаецца дадому з гэтай навіной. Выдатна (я лічу)! Новы год сустракаем апоўначы за сталом у Зігераў, яшчэ шэсць гасцей.**

Як вынікае з тэксту, запіс зроблены не 25 снежня, а найраней у студзені, пасля святкавання — але галоўная навіна пра візы прыйшла менавіта перад Новым годам, і ўпершыню за шмат часу ў Освальдаў добры настрой.

**Расшыфроўка падслухоўвання КДБ**
**31.12.61**

**ЛХО: У гэтай сукенцы ты не будзеш добра выглядаць.**
**Жонка: Чаму?**
**ЛХО: Занадта адкрытая.**
**Жонка: Дзе яна адкрытая? Прыгожа.**
**ЛХО: Не пасуе.**
**Жонка: А вось мае туфлі — іншая справа! Яны зусім не пасуюць.**
**ЛХО: Ты сапраўды не ўмееш апранацца, далібог!**
**Жонка: Купі мне іншыя туфлі.**
**ЛХО: Гэта прыгожыя туфлі.**
**Жонка: Гэта так. Але яны не пасуюць на зіму. Яны белыя. Ёсць зімовыя туфлі і летнія туфлі.**
*(ЛХО ідзе на кухню і адразу вяртаецца.)*
**ЛХО: Ты збіраешся надзець пінжак?**
**Жонка: Які пінжак? У мяне няма ніякіх пінжакоў. Ты думаеш, што ім якая-небудзь розніца, калі яны пабачаць, што гэта дрэнна выглядае?**
**ЛХО: Так!**
**Жонка: Гэта проста сукенка.**
**ЛХО: Не, яна непрыгожая!**
**Жонка: Ну, гэту я не магу надзець. Яна ўся ў дзірках. Не ведаю, што надзець.**
**ЛХО: Усё будзе добра. Усё будзе цудоўна.**
**Жонка: Ты ведаеш, што я нікому не патрэбная.**
**ЛХО: Езус, а што наконт Освальда?** *(Цалуе яе.)* **Людзі будуць на нас глядзець і казаць, вось прыгожая пара!**
**Жонка: Прыгожая!** *(Смяецца.)* **Тады я пайду ў спадніцы і світры. Табе проста стане сорамна.**
*(Паўза.)*
**Калі б было што насіць, я апранулася б лепш за цябе, лепш за тваіх амерыканцаў!** *(Яны смяюцца.)*
**Жонка: Калі б на мне былі гэтыя туфлі, калі мы ўпершыню сустрэліся, ты са мной нават не стаў бы танцаваць.** *(Яны смяюцца.)*

Пасля доўгага перапынку ў расшыфроўках КДБ замест сварак і слёз з'яўляюцца смех і пацалункі.

Можа, гэтак бывала і раней, а Мэйлеру проста не паказалі, можа, назіранне праз дзірачку ў сцяне ў навагодні вечар вёў іншы чалавек — напрыклад, жанчына. Так ці іначай, але святочны настрой на той Новы год быў і нават патрапіў у архіў КДБ.

Стужку расшыфроўвалі, пэўна, ужо пасля Новага года, хаця ў КДБ у навагоднюю ноч, напэўна, працаваў аператыўны дзяжурны. І не толькі ў КДБ і ракетных войсках. Паводле практыкі, якая засталася ад сталінскіх часоў, ва ўсіх органах улады, ад ЦК партыі і Савета Міністраў да райкамаў і райвыканкамаў, ад заводаў да калгасаў на святочную ноч падвышалі пільнасць — на казённых скураных канапах і драўляных лаўках варочаліся да раніцы адказныя дзяжурныя, а раптам дзе што здарыцца ці хто пазвоніць?

Так было і з Освальдам — хаця аператыўнікі не працавалі з ім 24 гадзіны запар, пільнасць ніхто не адмяняў — да самага ад'езду.

І нават пасля.

## Бомба для Хрушчова

2 студзеня Освальд напалохаў каманду вонкавага назірання КДБ — ён выйшаў з хаты са стрэльбай у руках і пайшоў на прыпынак тралейбуса (як высветлілася, здаваць зброю ў паляўнічую краму, яму нават выплацілі 18 рублёў).

Гэта быў другі пярэпалах — першы здарыўся, калі супрацоўнік, які вёў назіранне праз дзірачку ў сцяне, заўважыў падазроныя дзеянні. Освальд важдаўся з кавалкамі металу, нечым, падобным да пораху — так робяць выбуховыя прыстасаванні. Так, прынамсі, расказалі Мэйлеру.

У КДБ падняўся вэрхал: у студзені Мінск меўся адведаць Мікіта Хрушчоў, кіраўнік партыі і ўрада.*

Тэма замаху на Хрушчова ў літаратуры пра Освальда ўзнікае, як індуктыўны ток: вось ён чуў пра выстрал у аднаго кіраўніка дзяржавы, а потым выстраліў у другога. Гаворка ідзе пра нібыта замах у Белавескай

---

* Газета The New York Times (06.02.1962) надрукавала паведамленне агенцтва UPI з Рыма пра карэспандэнцыю з блізкай да Масквы камуністычнай газеты L'Unita: «"Уніта" паведамляе пра непацверджаныя чуткі сярод заходніх карэспандэнтаў пра замах на жыццё Мікіты Хрушчова... Замах, як стала вядома, адбыўся ў Мінску, на савецка-польскай мяжы, два тыдні таму.»

пушчы. Прысцыла МакМілан прыводзіць тры версіі, якія мог чуць Освальд ад Марыны і рабочых на заводзе: ці то ўся ахова павярнула зброю, ці то справа была ў адным ахоўніку, ці то група маладзёнаў перакрыла дарогу і стрэліла ў паветра, калі Хрушчоў наблізіўся. У якасці доказу, што так было, МакМілан спасылаецца на тое, што з Мінску Хрушчоў паехаў у Сочы і не паказваўся на публіцы тры тыдні (з чаго вынікае, што ён нават быў паранены). У наступным годзе МакМілан сама будзе ў СССР і пачуе новыя аповяды пра замахі на Хрушчова ў Маскве, Сталінградзе, Сочы і Кіславодску. Ніводная з іх не пацвярджаецца — ні ва ўспамінах самога Хрушчова, ягонага сына, ні ў працах гісторыкаў.

А ў пушчы сапраўды стралялі — на паляванні.

Супрацоўнікі КДБ не адказалі на пытанне Мэйлера, ці яны заходзілі ў кватэру Освальдаў у адсутнасць гаспадароў, каб праверыць падазрэнне. «Сцяпан» сказаў, што пазней яны здолелі дастаць усё са сметніцы і правесці інспекцыю. Трывога была падманнай, скрынка аказалася лухтой, нічым. Нават не самаробным феерверкам.

**Дзённік ЛХО**
**4 студзеня 1962**

**Мяне выклікалі ў пашпартны стол, бо мой дазвол на жыхарства сёння сканчаецца. Я маю цяпер амерыканскі пашпарт, таму мне выдалі зусім новы дакумент, які называецца «Пашпарт для замежнікаў». Паколькі нам далі дазвол на выезд і ведаюць, што мы паедзем, тэрмін дзеяння да 5 ліпеня 1962 года.**

Прыезду Хрушчова, калі меркаваць з «Дзённіка», Освальд не заўважыў.

А без дзённіка мог звярнуць увагу, што ў суседні, добра бачны з балкона тэатр оперы і балета на аўтобусах масава прывозілі не зусім тэатральную публіку — там адбывалася сельскагаспадарчая нарада, на якой выступаў Хрушчоў. За бяспеку кіраўніка партыі і ўрада адказваў КДБ, які, як і міліцыя, працаваў у рэжыме асаблівай пільнасці. Назіранне за Освальдам у той дзень, верагодна, узмацнілі.

Калі б Освальд нейкім чынам патрапіў у залю, ён бы мог на свае вушы пачуць, як партыя кіруе, напрыклад, навукай — рэферэнты назбіралі Хрушчову прыкладаў з працы беларускіх біёлагаў. Хрушчоў смяшыў удзельнікаў нарады прыкладамі пра акадэмічнае развядзенне ў Беларусі далёкаўсходняга коркавага дрэва «аксаміту» — яго любілі зайцы, а



даследнікі засыналі ад салодкага паху, вось, маўляў, і ўся навука. А хто будзе разводзіць кукурузу квадратна-гнездавым метадам?

Але ўсесаюзную вядомасць мясцовым біёлагам прынёс іншы даследнік з Акадэміі навук — ён патрапіў аж у выступ Хрушчова на Пленуме ЦК КПСС:

> **У Інстытуце біялогіі Акадэміі навук Беларускай ССР тав. Крапіўны А.П. абараніў вучоную ступень кандыдата біялагічных навук на тэму: «Экалогія і гаспадарчае значэнне эўрапейскага белага бусла, чорнага бусла і звычайнай шэрай чаплі ў Беларусі».** *(Ажыўленне ў залі, смех.)* **Я прызнаюся ў сваім невуцтве — чорнага бусла не бачыў, не ведаю, ці водзіцца ён у Беларусі. Веру гэтаму вучонаму: калі ён піша, відаць, чорны бусел ёсць. Не ведаю, магчыма, гэта дысертацыя прынясе карысць нашым праўнукам, але не веру і ў гэта. Ва ўсялякім разе савецкія грошы не трэба траціць на даследаванні белага, чорнага буслоў і шэрай чаплі Беларусі.** *(Воплескі.)*

Пасля выступаў была мастацкая частка — але калі б Освальд і патрапіў на канцэрт у тэатры, дык усё роўна не пачуў бы дыялогу ва ўрада-

вай ложы. Паводле наменклатурнага фальклору, у перапынку канцэрту Хрушчову чытаў вершы другі сакратар ЦК Машэраў. Першы сакратар Мазураў, якому толькі што моцна перапала за правал рэспубліканскіх паставак мяса ў саюзны фонд, сядзеў моўчкі. Хрушчоў павярнуўся да яго — а ты што надзьмуўся, заспявай нам што-небудзь. Прыпеўкі ведаеш? Ведаю, Мікіта Сяргеевіч, але толькі пра кукурузу.

Амерыканскі злак пасля паездкі Хрушчова ў ЗША ахрысцілі каралевай палёў, і новую манархію насаджалі ў СССР, як некалі скідалі старую. Народная творчасць зрэагавала на працэс па-свойму:

***Выйшла б замуж за Хрушчова,***
***Ды баялась аднаго:***
***Кажуць, быццам замест ...***
***Кукуруза ў яго!***

У такую байку з амерыканскім злакам нумар адзін аформіўся той вечар у любімым мінскім тэатры Освальда.

Не «Пікавая дама», канечне.

Рыфмы не тыя.

## Пад бела-чорнымі крыламі

Да сярэдзіны лютага Освальд зробіць толькі адзін запіс у дзённіку, пра халодную зіму. Пакінем яго ў шапцы-вушанцы грэцца каля чыгуннай батарэі цэнтральнага ацяплення і збочым ненадоўга, каб пагледзець, куды завяла сцежка выпадковага мінака-біёлага, які патрапіў у выступ Хрушчова.

Аляксандр Крапіўны скончыў Харкаўскі ўніверсітэт і быў размеркаваны на працу ў Белавежскую пушчу. Там ён і заняўся вывучэннем колькасці і харчавання галянастых птушак, як называюць буслоў і чапляў. Гадзінамі і днямі дзяжурыў ля гнёздаў, адбіраў і класіфікаваў істотаў, якіх буслы прыносілі, потым скармліваў іх птушанятам. У дысертацыі пазначана, што 28-гадовы аўтар даследаваў 30785 экзэмпляраў жывёлаў — харчовых аб’ектаў белага бусла, і 4248 — чорнага.

Ciconia ciconia, як звяртаюцца да буслоў на лаціне, птушка, мякка кажучы, не вегетарыянская і мае адпаведнае меню: жабкі, рыба, яшчаркі, змеі, слімакі, мышы, суслікі, птушаняты, у тым ліку кураняты і качаняты — больш за паўсотні розных істотаў. Крапіўны перабраў рукамі не

адзін цэнтнер здабычы і, верагодна, часам пачуваўся як на мясабойні ці рыбакамбінаце. Такая была цана двух сказаў у дысертацыі:

> **... белы бусел эўрыфаг з ухілам да герпетафагіі, энтамомафагіі і міяфагіі. Чорны бусел эўрыфаг з ухілам да герпетафагіі і іхтыяфагіі.***

Праз дзесяцігоддзі спецыялісты напішуць, што гэта была першая дысертацыя па экалогіі буслоў не толькі ў савецкай навуцы — нічога падобнага не было і ў замежнай літаратуры.

Што Хрушчоў не разбіраўся ў арніталогіі, дзіўнага мала, а вось яго памочнікі былі халтуршчыкі — уставілі ў выступ факт чатырохгадовай даўніны. Дысертацыю Крапіўны абараніў у лютым 1958-га, але адмовіўся ад прапановы застацца працаваць у Акадэміі навук у Мінску і паехаў у педінстытут у Віцебск, дзе давалі кватэру.

Там і прачытаў у газетах, што першы сакратар ЦК верыць яму, што чорны бусел сапраўды існуе, але савецкія грошы на яго траціць не варта. З камсамольскага ўзросту Крапіўны выйшаў, у партыю яшчэ не ўступіў, так што на палітычных сходах яго асабіста моцна не разбіралі, тым больш, што дысертацыю ён абараняў у акадэмічным інстытуце біялогіі, і Хрушчоў згадваў прозвішча мінскага, а не віцебскага дырэктара.

Калі, здавалася, горш ужо не будзе, 22 сакавіка ў «Правде» з'яўляецца фельетон «З пункту гледжання Бусла», дзе ўжо сціралася розніца паміж заалогіяй і заафіліяй.

Белы Бусел піша Шэрай Чаплі:

> **І чаго ён прычапіўся да галянастых дзікіх птушак?! Жывем мы мірна, плодзімся мала, людзям жыць не перашкаджаем. Прывыклі абыходзіцца без чалавека. Ужо калі палюбіў птушку, любі свойскую. Пад нашым дубам — птушатнік. Там і куры, і гусі, і качкі. Ім трэба дагляд. Але Крапіўны на свойскую птушку — нуль увагі. Усё да нас, дзікіх, чэпіцца.**

Праз паўтара месяца, 10 траўня 1962 года, у рубрыцы «Па матэрыялах «Правды» чытачы пабачылі ў лісце з Акадэміі навук Беларусі знаёмыя словы — крытыка прызнаная правільнай.

---

* У перакладзе гэта азначае, што белы бусел харчуецца ўсім, што знойдзе, але больш любіць змеек-яшчарак, павукоў-жужалёў і ўвогуле ўсё мясное. А яго чорны сваяк, хаця таксама непераборлівы, аддае перавагу французскай кухні (жабкі, яшчаркі) і японскай (сырая рыба).

**Дырэкцыя і партыйная арганізацыя інстытута прынялі меры для паляпшэння дзейнасці інстытута і яго навуковай рады ў справе абароны дысертацыяў. Перагледжаная тэматыка навукова-даследнай працы і аспіранцкіх тэмаў з мэтай набліжэння іх да патрабаванняў і запытаў народнай гаспадаркі. Прынятая пастанова аб рэарганізацыі навуковай рады і абнаўленні яе складу.**

Крапіўнага выклікалі ў вышэйшую атэстацыйную камісію, якая прысуджала навуковыя званні — але годнасці кандыдата навук не пазбавілі. Часы ўсё ж былі не сталінскія. Дый не арніталогія раздражніла партыйнае начальства, абурыла, хутчэй за ўсё, фармулёўка тэмы пра гаспадарчае значэнне бусloў і чапляў. Справа была не проста ў кан'юнктурнай назве.*

Кан'юнктура была нормай, але назва працы Крапіўнага выглядала горш за прыстасаванства — яна гучала як пародыя, прычым пародыя на палітыку партыі і ўрада ў сельскай гаспадарцы. Не дапамагло і тое, што заалогія сапраўды ведала пра гаспадарчае значэнне бусла — пры нашэсці саранчы буслы вылятаюць на палі і трушчаць шкоднікаў ураджаю, як пішуць у навуковых тэкстах, «у велізарнай колькасці». Крапіўны прыйшоў да высновы, што ва ўмовах Беларусі гаспадарчае значэнне птушкі хутчэй адмоўнае — яны знішчаюць такую колькасць земнаводных, што разбураюць экалогію вадаёмаў.

У наступным годзе Крапіўны з'ехаў з Беларусі ў Харкаў, дзе не толькі друкаваў манаграфіі, падручнікі пра заапсіхалогію і біяэкалогію, але й вывучаў паводзіны івалгі, спевы валасянак і пеначак, стаў доктарам навук, прафесарам, прыязджаў на навуковую канферэнцыю ў Мінск, усё жыццё называў сябе на беларускі лад Алесем, аж пакуль не выкінуўся з вакна ў 1990-м, не перанёсшы гібелі двух сваіх студэнтаў падчас палявой практыкі.

Пры жыцці пабачыла свет толькі адна яго ненавуковая кніга, якая называлася «Калі няма страху».

Кніга была не пра людзей.

---

* Праз месяц пасля прыезду Освальда ў Мінск у газетах друкавалася абвестка пра публічную абарону дысертацыі на атрыманне вучонай ступені доктара гістарычных навук Г.М. Ліўшыцам на тэму, не даследаваную ні Флавіем, ні Тамашом Аквінскім, ні айцамі царквы: «Класавая барацьба ў Іудэі і паўстанне супраць Рыма».

## Каго бусел прынёс

У беларускай традыцыі дзяцей прыносіць бусел. У амерыканскай — таксама бусел. Хаця, напэўна, не ўзімку.

**Дзённік ЛХО**
**15 лютага 1962**

**Марына збіраецца нарадзіць 1 сакавіка.**
**Світанак. Марына будзіць. Прыйшоў час. У 9:00 прыязджаем у шпіталь, пакідаю яе ў руках санітарак, іду на працу. У 10:00 Марына нараджае дзяўчынку. Мне паведамляюць навіну а 5-й вечара, калі я прыходжу ў шпіталь пасля працы. Мы хацелі хлопчыка. Марына адчувае сябе добра, дзяўчынка таксама.**

Рэканструкцыя Мэйлера падае падзеі крыху іначай і з большай рэзкасцю. Пасля мітусні і збораў з дома выйшлі каля 09:00, доўга не маглі злавіць таксі і ў выніку паехалі ў 3-ю клінічную бальніцу на аўтобусе. Освальд яшчэ не даехаў да працы, як сяброўкі Марыны ўжо пазванілі на завод і на працоўным месцы ён ужо атрымліваў віншаванні.

Марына ляжала тыдзень — і нататкі, якімі абменьваліся муж з жонкай, урэшце патрапілі ў Камісію Уорэна і сталі афіцыйным матэрыялам следства. Цяпер гэты прыватны фрагмент мінскага жыцця выстаўлены на агульны агляд.

**15 лютага 1962**

**Дарагая Марына,**
**Мы з табой зусім не чакалі дачкі, але я вельмі рады ўсё роўна. Малайчына! Як ты здолела так хутка нарадзіць? Малайчына! Ізноў малайчына! Калі табе што трэба, кажы любое жаданне, мы з табой цалкам гатовыя да Джун Марыны Освальд.**
**Алек ***

**Дарагі Алік!**
**Вось ты й бацька. Нават добра, што ў нас дзяўчынка.**
**Роды прайшлі вельмі добра і хутка. А 10-й гадзіне нарадзілася**

* Освальд чакаў хлопчыка і выбраў яму імя Давід, а для дзяўчынкі Марына прапанавала імя «Джуна» са свайго любімага англійскага рамана «Сага пра Фарсайтаў».

**Джун. Зашылі толькі чатыры трэшчынкі звонку. Я і сама не чакала, што ўсё будзе так хутка. Увечары, верагодна, да цябе прыйдзе цётка Валя. Яна ўжо была ў мяне сёння. Сёння нічога не прынось. Заўтра прынясі толькі кефір і салодкае. Шакалад мне ўжо нельга. Астатняе ты ведаеш.**
**Цалую, Марына**

**Дарагая!**
**Як ты жывеш? Кефіру няма. Што табе трэба? Ты ўжо карміла дзіця? Гэтыя фотакарткі аддай цётцы Валі, у нас яшчэ ёсць дома. Хто табе званіў сёння?**
**Кахаю цябе.**
**Алек**

**18 лютага 1962**

**Дарагая Марына,**
**Цётка Валя і дзядзька Ілля былі сёння ў мяне раніцай. Яна адведае цябе заўтра а 2-й гадзіне. Я сказаў, што трэба купіць. Я і Эрык учора былі ў Зігераў да 24-х гадзінаў. Як там яна, яна есць, так? Што табе трэба? Ты можаш хадзіць? Інеса была ў цябе? Джун яшчэ чырвоная? Ты ведаеш, калі цётка Валя прыйдзе заўтра, перадай фатаграфіі ёй. Сёння цётка Люба да цябе ідзе.**
**Ну, пакуль.**
**Твой муж Алек**
**P.S. Я заўтра не прыйду, добра?**

**20 лютага 1962**

**Хэлоу, тата!**
**Алек, я не думала, што будзе так цяжка даглядаць дзіцё. Джун з’ядае ўсё чыста. Але малако прыбывае перад кожным кармленнем, і яго трэба адсмоктваць. Гэта так балюча, што лепш бы я нарадзіла яшчэ адно дзіцё. Дарагі Алек, неадкладна, адразу сёння купі і перадай мне грудны адсос, і каб гумовая груша была цвёрдая, не мяккая.**
**Алек, я стала так дрэнна выглядаць, што ты мяне не пазнаеш. Гэта таму, што я баюся, што Джун не бярэ грудзі. Таксама, тут не даюць паспаць колькі трэба — толькі з 2 да 5 раніцы. Не магу ўявіць, што буду рабіць дома. Алек, мне таксама пільна трэба 1 руб. 20 капеек. Урэшце, я не магу хадзіць без ліфчыка. Тут адной жанчыне купілі**

**два, і яна прадала адзін мне. Мне трэба ёй заплаціць. Гэта не дзеля прыгажосці, а каб не застойвалася малако. Ніхто з вас нават не думае прыносіць мне тое, што мне трэба. Усе толькі і робяць, што пытаюцца, што мне трэба. Ну, хопіць пра гэта, скангчаю.**
**Марына**

**21 лютага 1962**

**Дарагая Марына,**
**Сёння мы атрымалі ад завода вельмі прыгожыя падарункі для Джун; я ведаю, табе спадабаецца. Яны купілі 1 летнюю коўдру, 6 халодных пялюшак, 4 цёплыя пялюшкі, 2 кашулі, 3 вельмі добрыя цёплыя кашулі, 4 вельмі прыгожыя касцюмчыкі і дзве цацкі (цалкам 27 рублёў). Я ведаю, што Эрык і Аніта былі ў цябе ўчора, як табе Аніта?**
**Як Джун есць?**
**Заўтра, напэўна, я не прыйду, добра?**
**Кахаю цябе.**
**Алек**

**Дзённік ЛХО**
**23 лютага 1962**

**Марына выпісваецца са шпіталю, я ўпершыню бачу Джун.**

У архівах Мінскага ЗАГСу дагэтуль захоўваецца запіс рэгістрацыі грамадзянкі БССР з незвычайным імем Джун.

**Дзённік ЛХО**
**28 лютага 1962**

**Як патрабуе закон, іду рэгістраваць немаўля. Хачу яе назваць Джун Марына Освальд. Але гэтыя бюракраты кажуць, што яе другое імя павінна быць такім, як маё першае. Расейская традыцыя, падмацаваная законам. Я адмаўляюся, каб запісалі імя «Джун Лі». Абяцаюць пазваніць у гарвыканкам і ўведаць, бо ў мяне сапраўды амерыканскі пашпарт.**

**29 лютага 1962**

**Мне сказалі, што ніхто дакладна не ведае, што рабіць, але ўсе пагаджаюцца «давай, рабі па-расейску». Імя: Джун Лі.**

Ізноў Освальд блытае даты — у лютым 1962-га было 28 дзён. Высакосным быў папярэдні год.

Джун — Юна, Юнона, таксама азначае назву месяца — чэрвень.

Чэрвеня ў Беларусі Джун не дачакаецца — не хопіць аднаго дня. 1 чэрвеня Освальды будуць ужо ў Маскве.

## Антысавецкая фармацэўтыка

23 лютага, калі Освальд упершыню пабачыў дачку, быў мужчынскі дзень — Дзень Савецкай Арміі адзначалі ўсе, хто насіў пагоны, ваяваў, служыў. Прафесійным святам у доме дзядзькі Марыны цяпер лічыўся і Дзень міліцыі, але ён не мог параўнацца з размахам святкавання мужчынскага свята. Тым больш, што яно супадала з днём народзінаў цёткі Валі.

У гэты свой першы дзень дома Марына засталася адна і толькі з дапамогай суседкі здолела даць рады дзіцяці — Освальда яна паслала віншаваць цётку. Ён абяцаў хутка вярнуцца, але прыйшоў вельмі позна і на добрым падпітку — Марына ніколі не бачыла яго ў такім стане. Пілі за цётку, за дачку, за бацьку, за маці, сказаў ён жонцы і зваліўся ў ложак. Як патлумачыць Марына Мэйлеру — не прывык да гарэлкі.

Дзядзьку Марыны, баявому афіцэру падчас вайны, Іллю Прусакову гэты дзень, напэўна, запомніўся з іншай прычыны.

**Рапарт КДБ**
**23.02.62.**

**Сустракаўся з агентам МУС «П» 23.02.62. Сказаў, што ён нядаўна двойчы размаўляў з пляменніцай Марынай у сувязі з маючым адбыцца ад'ездам з Савецкага Саюза ў ЗША. «П» растлумачыў Марыне неабходнасць паводзіцца годна і не браць удзелу ў антысавецкай прапагандзе ці іншых варожых акцыях, скіраваных супраць Савецкага Саюза, каб не ствараць праблемы для «П» і іншых сваякоў, якія жывуць у СССР. Марына паабяцала «П», што не будзе рабіць ніякіх дзеянняў у ЗША, якія скампраметавалі б «П» ці іншых сваякоў.**
**«П» працягне выхаваўчыя гутаркі і таксама пагаворыць з «Налімам», каб пасля прыезду ў ЗША ён устрымаўся ад паклёпніцкіх выказванняў пра СССР.**

**«П» патлумачыў, што падчас гутаркі з Марынай, выказваючы клопат пра яе, ён пацікавіўся, ці яна заўважала нешта падазронае ў паводзінах Л.Х. Освальда ці ўчынках, што магло б сведчыць пра яго падвойную асобу. Марына заявіла «П», што нічога падобнага ў паводзінах Освальда яна не заўважала.**
**Падчас сустрэчаў «П» спытаў у Марыны, ці яна не баіцца, што Освальд будзе пакараны амерыканскімі ўладамі за тое, што ўцёк з ЗША. Марына ведае са словаў Освальда, што ў ЗША гэта не лічыцца злачынствам, якое пагражала б арыштам, і, быццам, паводле амерыканскіх законаў, няма падставаў, каб прыцягнуць Освальда да адказнасці за гэта, калі ён вернецца ў ЗША.**

Марына ў Штатах не займалася антысавецкай дзейнасцю, але яе адказы на пытанні Камісіі Уорэна можна было ўключаць у любы падручнік пра савецкае жыццё.

**— Колькі вы зараблялі ў Мінску?**
**— Сорак пяць, як усюды.**
**— За тыдзень?**
**— Не, за месяц. Гэта не Амерыка.**
**— 45 рублёў?**
**— Так.**
**— За месяц?**
**— Так.**
**— Старымі ці новымі?**
**— Новымі.**
**— І колькі гадзін вы працавалі?**
**— Ад 10:00 да 16:30.**
**— Калі вы сказалі «як усюды», вы мелі на ўвазе, што аднолькава плацілі і ў вялікіх і ў малых гарадах?**
**— Так фармацэўтам плацяць усюды.**
**— Вы ашчаджалі грошы?**
**— Не. Я атрымаю палучку і патрачу за адзін дзень. Максімум за тры.**

Марына жыла ў дзядзькі і не плаціла за кватэру, за бялізну, за ежу. Як у Мінску жылі астатнія 27 дзён у месяцы, ні сябры Камісіі, ні пазней Мэйлер не ўдакладнялі. Дый што там удакладняць.

Да камунізму заставалася толькі дваццаць гадоў.

І толькі раз на чатыры гады надараўся высакосны год з лішнім днём.

## Нахабства без межаў

Калі меркаваць з дзённіка, сакавік 1962-га — даволі спакойны месяц, справы з ад'ездам рухаюцца, Освальд робіць тры апошнія кароткія запісы.

**Дзённік ЛХО**
**24 сакавіка 1962**

**Марына афіцыйна звальняецца з працы.**

**26 сакавіка**

**Атрымліваю ліст ад Службы іміграцыі і натуралізацыі з Сан-Антоніа, Тэхас, што заява Марыны на атрыманне візы ЗША ўхваленая!! Апошні дакумент. Цяпер трэба толькі дачакацца, пакуль амбасада ЗША атрымае копію паведамлення, каб афіцыйна даць дазвол.**

**27 сакавіка**

**Атрымліваю ліст ад сп. Філіпса (у яго працуе мая маці), з гарантыяй падтрымкі маёй жонцы, калі трэба.**
**У гэты самы дзень пішацца ліст да маці ў Тэхас.**

**ЛХО — ліст да Маргарыты Освальд**
**27.03.62**

**Дарагая маці,**
**Мы маем быць у Штатах найпазней у траўні. Амбасада пагадзілася пазычыць мне 500 даляраў на падарожжа, а таксама яны прынялі маё сведчанне падтрымкі, так што тваё не спатрэбіцца. Аднак не спрабуй, каб твой сябра-бізнесмен скасаваў сваё сведчанне аб падтрымцы для мяне, яно калі-небудзь можа прыдацца.**
**Як ты кажаш, маё падарожжа сюды магло б стаць падставай для добрай гісторыі пра мяне. Фактычна, я ўжо напісаў 50 старонак нататак на гэтую тэму.**
**З любоўю,**
**Лі**

Усю вясну Освальд удзельнічае ў эпісталярнай вайне, у якой бяруць удзел амбасада ЗША ў Маскве, аддзел Савецкага Саюза і аддзел бяспекі



і консульскіх справаў Дзярждэпартамента, служба іміграцыі і натуралізацыі Міністэрства юстыцыі ЗША, і нават камандаванне корпусу марской пяхоты ЗША.*

**Консул ЗША ў Маскве Джозэф Норберы — Освальду**
**09.03.62**

**Зразумела, чакаецца, што Вы абярэце самы танны від транспарту і напішаце распіску за вылучаныя сродкі.**
**Мы яшчэ не атрымалі дазволу на візу для вашай жонкі, але як толькі яна будзе ўхваленая, вы можаце падаць пашпарт на выязную візу ў АВІР.**

---

* Пасля таго, як сталі вядомыя гучныя заявы Освальда ў амбасадзе падчас спробы адмовіцца ад амерыканскага грамадзянства пра гатовасць расказаць савецкаму боку ўсё, што ён ведае пра радары ды іншыя вайсковыя сакрэты, у яго дакументах быў зменены запіс аб звальненні з марской пяхоты — цяпер ён праходзіў па артыкуле «звольнены як непажаданы». Освальд напорыста патрабаваў вярнуць «ганаровае звальненне».

**Консул ЗША ў Маскве Джозэф Норберы — Роберту Оўэну, аддзел Савецкага Саюза Дзярждэпартамента ЗША**
**15.03.62**

**Патрабуецца як найхутчэй рашэнне наконт «выключэння 243 (г)» з правілаў для Марыны Освальд. Муж часта тэлефануе і піша ў амбасаду, каб уведаць прычыну затрымкі. Нам падаецца неразумным абмяркоўваць праблему з 243 (г), паколькі можна яшчэ атрымаць выключэнне, але ўсё больш няёмка адмаўляць Освальду.**

**Аддзел Савецкага Саюза — аддзелу візаў Дзярждэпартамента ЗША**
**16.03.62**

**Аддзел лічыць, што ў інтарэсах ЗША дапамагчы Лі Харві Освальду і яго сям'і выбрацца з Савецкага Саюза і адправіць іх у ЗША як найхутчэй. Як няўстойлівая асоба з цалкам непрадказальнымі паводзінамі, Освальд можа адмовіцца выехаць з СССР ці пазней паспрабаваць вярнуцца туды, калі мы зробім немагчымым, каб яго жонка і дзіця ехалі разам з ім з Масквы.**
**Такія дзеянні з нашага боку таксама дазволяць савецкаму ўраду заявіць, што хаця яны выдалі выязныя візы спн. Освальд, каб пазбегнуць раздзялення сям'і, урад ЗША зрабіў гэта гвалтоўна шляхам нявыдачы ёй візы. Заезд у трэцюю краіну запатрабаваў бы дадатковых расходаў ад ЗША.**

Тым не менш, Вашынгтон настойвае на правіле «243 (г)», якое патрабавала, каб жонка спачатку выехала ў трэцюю краіну і адтуль пачынала візавы працэс (што стварала новыя праблемы — віза ў трэцюю краіну, пражыванне там і г.д.). І тады да справы падключаецца амбасадар ЗША ў Маскве Левэлін Томпсан, які адрасуе тэлеграму ў справе Освальда напрасткі дзяржсакратару ЗША Дыну Раску.

**Амбасада ЗША ў Маскве — дзяржаўнаму сакратару ЗША, Вашынгтон**
**04.05.62**

**Патрабуецца рашэнне як найхутчэй пра перагляд 243 (г) для Освальд. Мы лічым неразумным абмяркоўваць праблему 243 (г),**

**пакуль яшчэ магчымае выключэнне, але становіцца ўсё больш няёмка адмаўляць Освальду.**
**Томпсан**

**Тэкст тэлеграмы напісаў консул Норберы, ён даслоўна супадае з радкамі яго сакавіцкага ліста ў ДзяржДэпартамент. Освальд сур'ёзна даўся дыпламатам у знакі.**
**Консул ЗША ў Маскве Джозэф Норберы — Роберту Оўэну, аддзел Савецкага Саюза ДзяржДэпартамента ЗША**
**08.05.62**

**Дарагі Боб,**
**Ты таксама пабачыш нашу тэлеграму ад 4 траўня ў справе Освальда. Калі выключэнне 243 (г) не будзе хутка дазволена, я думаю, нам трэба выклікаць Освальдаў і паслаць іх у Бельгію. Справа не ў тым, што нашыя сэрцы разрываюцца ад шкадавання да Освальда. Яго нахабства не мае межаў. Яго апошні ліст утрымлівае высакамернае патрабаванне, каб Дзярждэпартамент спыніў спробы атрымаць грошы на яго падарожжа ад сваякоў у ЗША. Двойчы ці тройчы апошнім часам, калі ён званіў з Мінска, я мусіў з няёмкасцю спасылацца на «праблему», якая затрымлівае вырашэнне справы яго жонкі.**

Невядома, што мела большае значэнне — тэлеграма амбасадара дзяржсакратару, аргументы контрпрапаганды, міжнародная абстаноўка, але Освальду заставалася чакаць нядоўга.

**Консул ЗША ў Маскве Джозэф Норберы — Освальду**
**10.05.62**

**Дарагі сп. Освальд!**
**З прыемнасцю паведамляю, што амбасада ў стане зрабіць апошнія дзеянні ў справе звароту па візу вашай жонкі. Дзеля гэтага вы і ваша жонка запрашаецеся прыбыць у амбасаду, калі вам будзе зручна.**
**Амбасада мае дзве копіі пасведчання аб нараджэнні вашай жонкі і копію пасведчання аб шлюбе. Такім чынам, ёй трэба прадставіць толькі яшчэ адну копію пасведчання аб шлюбе, тры фатаздымкі, рэнтгенаўскі здымак, аналіз крыві і даведку аб прышчэпцы воспы.**

**Як вам паведамлялася раней, тры фатаздымкі вашай дачкі і копія яе пасведчання аб нараджэнні таксама неабходныя для консульскага пасведчання аб нараджэнні і запісу ў ваш пашпарт.**
**Калі ласка, паінфармуйце амбасаду, калі вас можна чакаць.**

Пасля ўсіх перашкод і затрымак дзяржаўная машына ЗША зрабіла тое, што назаўсёды ўвойдзе ў гісторыю Амерыкі — дала доўгачаканы дазвол на ўезд Освальдаў.

Хаця ў доме нумар 4 па вуліцы Камуністычнай у Мінску сітуацыя з адʼездам выглядала хутчэй люстрана адваротнай.

## Ідыёт, сабака, мярзотнік, падонак

18 траўня 1962 года ў працоўнай кніжцы Освальда робіцца другі і апошні запіс:

**Звольнены з завода па ўласным жаданні згодна з пададзенай заявай.**

Начальнік аддзела кадраў мог уздыхнуць спакойна.

КДБ ж перадышкі не меў. Апошнія тыдні Освальда ў Мінску былі, як заўсёды, пад пільным наглядам — але субота 19 траўня хіба найбольш падрабязна прадстаўленая ў архіўнай справе.

**Расшыфроўка падслухоўвання КДБ**
**19.05.62**

**ЛХО: Як ты магла! Цябе не было з працы недзе тры гадзіны.**
**Жонка: <u>Ты ідыёт! Я нікуды з табой не еду</u>. Можаш узяць дзіцё і ехаць. Бяры яе і едзь.**
**ЛХО: Заткніся. Вазьмі сваё дзіцё.**
*(Дзіцё плача.)*
**Жонка: Адчапіся. Рабі што хочаш, я з табой не паеду. Ты ніколі нічога не робіш, каб мне дапамагчы. Ідзі, кармі дзіцё. Можаш мяне забіць, але ў мяне зʼявіцца малако. <u>Ты будзеш рабіць скандалы да другой гадзіны раніцы</u>. Я не проста пайшла з працы невядома куды — я мусіла заснуць у той паліклініцы. Гэтыя дактары як спецыяльна не чакаюць мяне.**

*(Плача.)*
**Мне што, бегчы дадому трэба было?**
**ЛХО: Менавіта.**
*(Яны ідуць на кухню.)*
**12:50** *(Яны вяртаюцца.)*
**Жонка** *(румзае)***: Прэч з маіх вачэй, сабака! Мярзотнік! Не глядзі так на мяне — ніхто цябе не баіцца. Ідзі да д'ябла, падонак!**
**ЛХО: Вельмі добра.**
**Жонка: Можаш ехаць у сваю Амерыку без мяне і, спадзяюся, ты здохнеш па дарозе.**
*(ЛХО выходзіць. У кватэры ціха.)*

Магнітафон КДБ працаваў, падслухоўванне працягвалася — але да вечара нічога новага не запісалі. Жонка з мужам калі і працягвалі размову, дык на балконе, і нават познім гасцям давялося доўга званіць у дзверы.

У расшыфроўцы КДБ яны пазначаныя як «Невядомы мужчына 1», «Невядомы мужчына 2» і «Невядомая жанчына 3». Мэйлер ужо дастаткова ведаў кола знаёмых Освальда, каб падставіць у тэкст імёны: Павел Галавачоў, муж і жонка Зігеры.

**21:30**

**Сп-ня Зігер: Мы грукалі й грукалі!**
**Марына: Мы былі на балконе, нічога не чулі.**
**Сп-ня Зігер: Дзе ваша дачка? Будзем спадзявацца, што яна здаровая. У яе вочы яе маці — вельмі вялікія.**
**Лі: У яе маміны вочы, вусны, нос. Яна ўсё атрымала ад сваёй маці, і нічога ад мяне.**
**Сп-ня Зігер: Наступны ў вас будзе сын.**
**Лі: Мы ўжо атрымалі дакументы. Верагодна, ад'язджаем у аўторак.**
**Сп-ня Зігер: Як вы едзеце? Параходам ці самалётам?**
**Лі: З Масквы альбо цягніком, альбо самалётам. Залежыць ад таго, якую візу нам даюць.**
*(Усе гавораць адначасна, немагчыма разабраць.)*
**Сп-ня Зігер: Калі яна вырасце, яна нават не будзе ведаць, дзе нарадзілася. Можа, Джун калі-небудзь прыедзе.**

**Сп. Зігер: Адведаць адна рэч. Ёй толькі не трэба прыязджаць сюды жыць.**
**Лі: Ты паставіла чай?**
**Сп-ня Зігер: Не турбуйцеся за нас, усё ў парадку.**
**Лі: У нас ёсць шклянкі?**
**Марына: У нас дзве шклянкі. Таксама ёсць мой малы кубак. Ён ужо ўсё запакаваў.**
**Лі: Усё наша багацце. Пусты пакой.**
**Сп-ня Зігер: Вы шчаслівыя, канечне?**
**Лі: Мы шчаслівыя.**
**Сп-ня Зігер: Марыначка, а ты?**
**Марына: Я зусім не такая ўжо шчаслівая, зразумела.**
**Сп-ня Зігер: Дзіцё будзе бландзінкай, яна будзе прыгожая.**
**Лі: У яе будзе добрае жыццё, у яе ўсё будзе.**
*(Усе гавораць разам, складана разабраць. Прыходзіць Павел, усе трое мужчынаў ідуць на кухню.)*

Кожны ў стане прачытаць гэты развітальны дыялог па-свойму. Ён аднолькава бянтэжыць, калі ўявіць яго перад невядомай будучыняй, што чакае герояў наперадзе, і калі прачытаць яго з сённяшняга дня.

Зрэшты, і для тых, хто гаворыць, і для тых, хто чытае, існуе толькі сёння. Амаль як для матылькоў.

## Грошы, свабода, каханне, душа

Запіс падслухоўвання 19 траўня, у перадапошні дзень Освальда ў Мінску, быў самы доўгі за ўсю гісторыю назірання. Упершыню гучаць галасы людзей, з якімі ён сябраваў, бавіў час, якіх адведваў дома.

**Расшыфроўка падслухоўвання КДБ.**
**Працяг.**
**19.05.62**

**Сп-ня Зігер: Марыначка, <u>ты нават не ведаеш, як я табе зайздрошчу</u>, ты такая здаровая.**
**Марына: Я прыеду з дачкой, і не ведаю, можа, будзе цяжка, можа, ён не знойдзе працу.**



**Сп-ня Зігер: Чаму ён не знойдзе працу? Уладкуецеся, усё будзе добра, у вас будзе ўсё, у вас будзе свабода.**
**Марына: Будуць грошы, будзе свабода.**
**Сп-ня Зігер: Божа, як я ненавіджу жыццё ў гэтым горадзе. У цябе няшмат бялізны. Ці маеш камод? Божа, а ў нас столькі барахла! Колькі ўсяго мы прывезлі! І колькі раздалі! Была шафа, ложак, люстэрка ў дубовай аправе, вялізнае. І посуд! Прадалі ўсё.**
**Марына: Напачатку вы, напэўна, нічога гэтага не мелі?**
**Сп-ня Зігер: Так, я памятаю як учора. Яму быў дваццаць адзін. Мне дваццаць чатыры, я была старэйшая за яго.**
**Марына: Вы выглядаеце, быццам вы маладзейшая.**
**Сп-ня Зігер: Як у вас з грашыма?**
**Марына: Мы ашчаджалі. Мы абое такія.**
**Сп-ня Зігер: Колькі гэта каштуе?**
**Марына: Адзін квіток 440 рублёў. На дваіх.**
**Сп-ня Зігер: А цётка крыху не дапамагла?**
**Марына: Не.**

**Сп-ня Зігер: Дзякаваць Богу, вы едзеце. Гэта лёс, ты сустрэла свайго каханага амерыканца.**
**Марына: Адно скажу, ён мне дапамагае.**
**Сп-ня Зігер: Самае галоўнае, каб у яго не было іншай жанчыны.**
**Марына: Хто ведае, можа і я не заўсёды буду добрая для яго. Я не скажу, што сапраўды добрая.**
**Сп-ня Зігер: У цябе добрая душа.**
**Марына: Напачатку ён быў засмучаны, што ў нас дзяўчынка, а не хлопчык, але цяпер ён не супраць.**
**Сп-ня Зігер: Зусім не, ён яе палюбіць.**
**Марына: Ён яе любіць і цяпер.**

Марына, натуральна, не хоча выносіць смецця з хаты — муж ужо і дапамагае, і кахае, а жонка ўжо крытычна глядзіць на сябе. Але падслухач КДБ робіць выснову, што такая гутарка не ўяўляе цікавасці для дзяржбяспекі, і замест поўнага дыялогу абмяжоўваецца кароткім пераказам у дужках:

**Яны гавораць пра дзіцё, пра той факт, што некаторыя мужы дрэнныя, п'юць ці дрэнна абыходзяцца з жонкамі.**

Як матылькі, мільгаюць, каб знікнуць на дзесяцігоддзі ў архівах КДБ, жыццёвыя гісторыі, разважанні, страхі і спадзяванні.

**Сп-ня Зігер: Можа, калі-небудзь ты прыедзеш нас адведаць.***
**Марына: Там лягчэй жыць. Ён будзе больш зарабляць, чым тут. Што ён тут можа рабіць? Працуеш, працуеш і зарабляеш капейкі.**
**Сп-ня Зігер: Дзіўна, што твая цётка табе не дапамагла — яна магла хаця б купіць табе падарунак.**
**Марына: Пра што вы кажаце! Яна нават пялюшкі для Джун не купіла. Ён і яна зарабляюць тысячы. Яны маглі хаця б нешта купіць. Я не прашу дарагія падарункі, можа быць, маленькую шапачку за 40 капеек. Вось дзяўчаты з аптэкі дапамаглі — адна прыносіла пялюшкі, другая яшчэ нешта. Кожная дробязь дапамагае.**
**Сп-ня Зігер: Ты ўжо развіталася з цёткай?**
**Марына: Яшчэ не.**
**Сп-ня Зігер: Калі ты ёй сказала?**

---

* Марына Освальд упершыню пасля ад'езду гаварыла з цёткай па тэлефоне ў 1992-м і прыязджала ў Мінск у 2003 годзе.

**Марына: Я думаю, яны атрымалі мой ліст пазаўчора. Я сказала ёй, што мы адʼязджаем. «Ты звар'яцела! Ты ўсё ж адʼязджаеш!»**
**Сп-ня Зігер: Едзеш за мужам. Куды голка, туды нітка.**
*(Яны гавораць, як Марына апранецца на дарогу; гавораць пра мэблю: колькі, больш-менш, за яе дадуць; гавораць пра дзіця.)*

Здаўся нават перапісчык КДБ — калі раней усе рэплікі старанна пераносіліся ў друкаваны тэкст, апошняя стужка аказалася занадта доўгай. Замучыўся аператыўны работнік ці работніца, а можа, начальства падганяла — цікавілі апошнія гадзіны перад адʼездам, трэба абавязкова прачытаць, што там у апошні вечар адбылося, пра што дамаўляліся, каб прыняць, калі трэба, аператыўна-следчыя захады.
Нагода для такой хады думак сапраўды ўзнікла.

## Спецтэхніка падвяла

На апошнія паўгадзіны падслухоўвання ў расшыфроўцы спатрэбілася крыху менш за дзве з паловай сотні словаў. Але не таму, што суразмоўцы раптам змоўклі ці сталі тлумачыцца знакамі — спецтэхніка падвяла.

**Расшыфроўка падслухоўвання КДБ. Працяг.**
**19.05.62**

**Марына: Алік, хадзі сюды, яна спіць.**
**22:40** *(Лі, Павел і сп. Зігер вяртаюцца з кухні.)*
**Сп-ня Зігер: Ну што, Алік, будзеш па нас сумаваць?**
**Лі: Канечне, будзем сумаваць.**
*(Усе крычаць, немагчыма расчуць, што; Павел робіць фатаздымкі. Усе гавораць адначасна, немагчыма расчуць.)*
**Сп-ня Зігер: Мусіш паабяцаць навучыць дзіцё расейскай мове.**
**Лі: Абяцаю.**
**Сп-ня Зігер: Расейскую добра ведаць. Ніколі не зашкодзіць. Хіба дрэнна, што ты разумееш?**
*(Мужчыны гавораць пра радыё; жанчыны пра свае праблемы; немагчыма нічога зразумець.)*
**Павел: Мытня не будзе глядзець.**



**Марына: У любым выпадку, яны не глядзяць усё, яны робяць гэта выбарачна.**
**Сп-ня Зігер: Калі мы прыбылі ў Адэсу, там быў велізарны склад; кожны прывёз 7 ці 8 скрыняў. Мы прывезлі піяніна, каляску, чатыры вялізныя камоды, поўныя ўсякай усячыны — кожны прывёз палову вагона рэчаў. А ўкраінкі казалі: «Паглядзіце на іхняе дабро, а нам кажуць, што там людзі паміраюць з голаду». А мае дзяўчаты, калі прыехалі, былі на высокіх абцасах: «Паглядзіце на абцасы!» Мы былі як прыбітыя, можаце ўявіць. Рэчы так змяніліся за апошнія пяць гадоў!**
**Павел: Да горшага?**
**Сп-ня Зігер: Да лепшага. Будзем спадзявацца. Мне надакучыла жыць і пакутаваць у такой краіне, як Расея, самай вялікай і самай багатай.**
**Павел: Урэшце, колькасць бомбаў у кожнай краіне не такая й жахлівая. Калі бомбаў досыць, ніхто не пачне вайну.**
**Сп-ня Зігер: Трэба быць вар'ятам.**
**Павел: Кажуць, мы ўзбройваемся, бо амерыканцы хочуць вайны. У амерыканцаў была бомба раней, чым у нас; чаму яны не напалі тады? Яны не хочуць вайны. Ніхто не хоча вайны.**

**Сп. Зігер: Невядома, ці будзе вайна ці не.**
**Павел: Дзве сістэмы могуць існаваць вельмі доўга.**
**Сп. Зігер: Калі марксізм сапраўды слушны, тады капіталізм памірае, сканчаецца, і будзе толькі адна сістэма. Калі ён не слушны, тады камунізм доўга не пратрывае. Камунізм змяніўся, калі параўнаць яго з камунізмам, апісаным Энгельсам і Марксам.**
*(Трэск; нічога не чуваць.)*
**Сп-ня Зігер: Да пабачэння.**
**Сп. Зігер: Пабачымся перад ад'ездам.**
**23:10** *(Сп. і сп-ня Зігеры сыходзяць.)*

У гэтай трэцяй частцы дыялогу Освальд гучыць толькі двойчы — калі кажа, што будзе сумаваць і абяцае вучыць дачку расейскай мове. Ягоныя меркаванні пра марксізм-камунізм пасля двух з паловай гадоў у СССР, пра ядзерны арсенал і магчымасць вайны засталіся схаваныя за мікрафонным трэскам і align="left"рознагалосай гамонкай усёй грамады.

У расшыфроўцы КДБ асобна падкрэсленыя толькі словы Паўла Галавачова пра мытню. Невядома, ці была падслуханая і запісаная размова, дзе Освальд казаў жонцы перад ад'ездам, каб тая здабыла з аптэкі якія-небудзь наркотыкі — Марына сама расказала гэта Мэйлеру (ніякіх наркотыкаў яна не здабывала).

Але КДБ мог ведаць пра яшчэ адну рэч, якую той хацеў бы вывезці — рукапіс.

## Нататкі антысаветчыка

У канцы лета 1961-га Освальд пачаў рыхтавацца да сваёй будучай ролі ў Амерыцы — чалавека, які бачыў два светы, і які за міфамі халоднай вайны здолеў разгледзець сапраўдную карціну.

Ён пачаў пісаць па начах так зацята, што Марына нават спыталася, ці ён часам не шпіён.

**— І што, калі так? Што б ты зрабіла, калі так?**

І толькі пабачыўшы, як яна разгубілася, сказаў, што жартуе, піша ўспаміны пра новае жыццё. Да ад'езду паспеў напісаць паўсотні старонак.

Ці ведалі назіральнікі КДБ пра рукапіс, з матэрыялаў, якія далі Мэйлеру, не вынікае. Але ён пісаў маці пра гэтую сваю працу, лісты чыталі, размовы падслухоўвалі, так што сакрэтам гэта наўрад ці было. Тым не менш, ён паспяхова перавёз напісанае праз мяжу.

Освальд азагаловіў рукапіс «Калектыў — жыццё расейскага рабочага». Больш пасавала б назва «Нататкі антысаветчыка».

**Аднаўленне Мінска — цікавая гісторыя мужнасці яго будаўнікоў. У таталітарнай сістэме вялікія сілы могуць быць прыведзеныя ў дзеянне пад жорсткім кантролем. Архітэктурнае планаванне можна назваць якім заўгодна, апроч як сучасным, але так пабудаваныя амаль усе расейскія гарады.**

Калі першы сказ быццам спісаны з брашуры Інтурыста, дык таталітарны прыметнік падпадаў пад артыкул 57 Крымінальнага кодэксу БССР 1960 года, бо знеслаўоляў савецкі дзяржаўны і грамадскі лад і караўся зняволеннем да сямі гадоў з высылкай ад двух да пяці гадоў ці без яе. Жонку можна было пасадзіць альбо за захаванне рукапісу (той самы артыкул), ці даць ёй ад аднаго да пяці (артыкул 86.1. Укрывальніцтва дзяржаўных злачынстваў).

Але далей антысаветчыка змяняе назіральнік — трохі больш уважлівы і дасведчаны, чым звычайны турыст, хаця і не нашмат.

**За аэрапортам, які служыць усходняй мяжой, перад намі вялікая раскінутая гарадская забудова, якая толькі выглядае як горад. На даляглядзе заводскія карпусы і коміны сведчаць пра яго індустрыяльны характар; я кажу «выглядае», бо самы высокі будынак — дзевяціпавярховы Дом урада на адным канцы галоўнай вуліцы, праспекта Сталіна, які даўжэйшы за дзве мілі, адзіны такі бульвар у рэспубліцы. Усе астатнія вуліцы — вузкія брукаванкі, якія ўюцца праз горад, як каменныя рэчкі, ад галоўнай вуліцы, і выходзяць на абшырныя паркі.**

**Дызайн і змест гэтых вуліц вельмі паказальны. З поўначы на поўдзень гэтая прамая, як страла, гарадская артэрыя змяшчае на працягу першых дзвюх міляў цэнтральнага раёна гатэль «Мінск» і Галоўпаштамт.**

**Гатэль быў пабудаваны ў 1957 годзе на загад Хрушчова, якога засмуціў той факт, што падчас яго афіцыйнага прыезду ў Мінск у сталіцы Беларусі існаваў толькі адзін стары, занядбаны гатэль. Га-**

**тэль пабудаваны за тры месяцы, рэкорд для ўсяго Савецкага Саюза, мае больш за 500 пакояў. Сучасны, добра пабудаваны, з добрым абслугоўваннем гатэль прымае мноства турыстаў, якія едуць з Нямеччыны і Польшчы праз Мінск у Маскву.**

Тут Освальд паўтарае байку, якую мог пачуць ад сваіх перакладчыц. Гатэль пачалі будаваць у 1957-м і скончылі ў 1959-м. З усіх будынкаў цэнтральнай часткі праспекта гэты, бадай, самы непрыгожы і яўна выпадае з усёй архітэктурнай стылістыкі. Мікіта Хрушчоў падчас прыездаў у Мінск спыняўся ва ўрадавай рэзідэнцыі на Бранявым завулку, але да выгляду гатэля мае наўпраставае дачыненне. Падпісаная ім у лістападзе 1954 года пастанова «Аб ліквідацыі лішкаў у праектаванні і будаўніцтве» нанесла смяротны ўдар сталінскаму класіцызму: упрыгожанні фасадаў, бельведэры, эркеры, дэкаратыўныя каланады і порцікі перасталі адпавядаць лініі партыі.

У пастанове згадваўся Мінск. Гарадское начальства спешна пасылала рабочых збіваць калоны і порцікі, замуроўваць аркі, зносіць балюстрады з будынкаў, якія яшчэ не былі здадзеныя дзяржаўным прыёмачным камісіям.

А самы, бадай, прыгожы будынак на праспекце паспелі завяршыць да хрушчоўскай пастановы — ён знаходзіўся насупраць гатэля:

**Паштамт перапрацоўвае ўсю пошту, якая прыходзіць і выходзіць з горада. Пабудаваны ў 1955 годзе, на ўваходзе чатыры калоны ў грэцкім стылі.**

Освальд памыляецца — паштамт пачалі будаваць у 1949-м і скончылі ў 1953-м. Варта дадаць, што менавіта тут прадавалі авіяканверты для замежжа, сюды ў спецыяльную шчыліну можна было кінуць паштоўку за мяжу, і тут, у круглай залі пад шкляным купалам з 18 калонамі і 15 эркернымі вокнамі, калі стаць каля чацвёртай калоны злева і сказаць нешта шэптам, чалавек, які сядзіць за столікам метраў за дзесяць, здзіўлена азірнецца — хто гэта шэпча ў вуха, такое там дакладнае і акуратнае рэха. Як рукі перлюстратараў, якія вывуджвалі з агульнай купы лісты Освальда ў Амерыку, расклейвалі, капіявалі і заклейвалі зноў.

**Далей па праспекце крама адзення і дзіцячая крама. Цэнтральны кінатэатр, найлепшы ў Мінску, змяшчае 400 чалавек у маленькай залі без вентыляцыі. За ім абутковая крама, насупраць праз вуліцу**



**цэнтральны салон прыгажосці, цэнтральная аптэка, гастраном і мэблевая крама.**

Зігзагам ababегшы адразу восем адрасоў у трох сказах, Освальд крыху зніжае тэмп каля наступнага будынка:

**Далей ідзе Міністэрства ўнутраных справаў на чале з жорсткім армейскім палкоўнікам Мікалаем Аксёнавым з «народнай міліцыі». Ён мае пасаду міністра ўнутраных справаў. На рагу знаходзіцца яго падраздзяленне, КДБ, Камітэт унутранай бяспекі (разведка і тайная паліцыя).**

Ці пакрыўдзіліся куратары Освальда, што ён так і не здолеў разабрацца ва ўзаемаадносінах МУС і КДБ ці, наадварот, усцешыліся, што так добра працавалі з амерыканцам, што той нават грозную абрэвіятуру не здолеў граматна расшыфраваць — невядома. Імя міністра МУС перабблытана — ён Аляксандр, але прозвішча згаданае дарэчы: менавіта да яго ў адчаі звярталася Марына па выязную візу, і хоць ён яе не прыняў, візу ўрэшце далі. Рашэнне, зразумела, прымаў не беларускі міністр.

**Праз дарогу заўсёды шматлюдная кніжная крама на праспекце, а насупраць яшчэ больш шматлюдны рэстаран, адзін з пяці ў горадзе, дзе за два рублі наведнік можа набыць смажаны язык ці курыцу з бульбай і тушанай капустай, а не проста «катлеты» (хлеб і мясны фарш) ці шніцэль (дзе крыху болей мяса і менш хлеба) і біфштэкс (адна перамолатая ялавічына), якія падаюцца з бульбай, капустай і часам з макаронамі. Іх заўсёды падаюць у рабочых сталоўках і стаячых кафэ, адкрытых уначы. Часам можна купіць салодкія булачкі, каву, восеньскую садавіну, таксама можна ўзяць салаты і памідоры. Побач з кафэ, якое называецца «Вясна», — булачная. Тут за 13 капеек можна купіць белы батон (без упакоўкі), за 7 капеек — розную салодкую выпечку і за 20 капеек бохан чорнага хлеба. (Бохан чорнага ўдвая большы за белы і такім чынам больш танны ў пераліку за кілаграм і карыстаецца большым попытам. І яшчэ, чорны хлеб з-за цвёрдай скарынкі выключна доўга застаецца свежым.)**

Тут Освальд ізноў пераходзіць праспект — вяртаецца да кніжнай крамы, ідзе далей уніз да «Ласунка».

**Насупраць гэтай булачнай — крама цукерак. Гэта дзіцячая краіна мараў з цукерак і шакаладу, хаця з-за клімату шакалад каштуе ў чатыры разы болей, чым у ЗША. За чатыры унцыі трэба заплаціць 60 капеек. Шакалад карыстаецца вялікім попытам, бо расейцы — ласуны. Тут заўсёды натоўп. Яшчэ далей мы падыходзім да адзінага ўнівермага ў Мінску, ГУМа, што азначае «дзяржаўная ўніверсальная крама».**

Падрабязны пералік тавараў і цэнаў з падарожжа па ўнівермагу ўжо прыводзіўся, адзначым толькі дакладную гэтым разам расшыфроўку назвы крамы — не галоўная, як шмат хто лічыць, а дзяржаўная. Дзяржаўная не таму, што іншыя вакол былі прыватныя, а — важная, як узнагарода ці таямніца. Ці як бяспека.

**Перад тым, як выйсці на плошчу Сталіна, на канцы цэнтральнага раёна праспекта знаходзім два стаячыя кафэ самаабслугоўвання. Гэтыя кафэ месцяцца адно насупраць аднаго праз праспект. Звонку і ўсярэдзіне яны абсалютна аднолькавыя, у абодвух падаюць аднолькавыя стравы за аднолькавы кошт. Чаму іх не па-**

**будавалі на розных канцах праспекта ці нават на розных канцах плошчы — невядома. Хаця гэта было б больш зручна. Прычына, магчыма, палягае ў тым, што архітэктурныя планы для ўсіх гарадоў Савецкага Саюза прысылаюць напрасткі з Масквы, што, як можна ўявіць, з'яўляецца вялікай адказнасцю для архітэктара. Паколькі ў СССР за памылкі расплачваюцца галавой, лагічнай прычынай стандартнай архітэктуры з'яўляецца тое, што найпрасцейшы спосаб пабудовы вуліцы — самы бяспечны.**

Лагічна было б у рэчышчы гэтых архітэктурных назіранняў згадаць якраз такое вырашэнне з помнікамі правадыроў: на адным канцы праспекта бронзавы Ленін, на другім — бронзавы «Ленін сёння». Але ў мінскіх нататках 9-метровая бронзавая статуя Сталіна на 9-метровым гранітным пастаменце не згадваецца.

У фотаархіве Камісіі Уорэна няма ніводнага здымка, які звычайна робяць людзі ў чужым горадзе — на фоне адметнага помніка, «Сталін і Освальд». Ці «Ленін і Освальд».

Ну, а з Дзяржынскім увогуле быў бы класічны здымак.

Але адсутнасць здымкаў азначае толькі адсутнасць здымкаў, не больш.

## Освальд і Сталін

Першы раз Освальд пабачыў Сталіна на дзень свайго 20-га нараджэння, калі адведаў маўзалей з дзвюма муміямі ў Маскве. Апошні — у лістападзе 1961-га ў Мінску.

17 кастрычніка ў Маскве пачаўся самы доўгі пасляваенны з'езд КПСС, 22-гі, які цягнуўся паўмесяца і завяршыўся вынасам сталінскай муміі з маўзалея.

**ЛХО — Роберту Освальду**
**01.11.61**

**Дарагі Роберт,**
**мы чулі па радыё, што расейскія ўлады вырашылі прыбраць цела Сталіна з Краснай плошчы. Гэта тут вялікая навіна, для мяне вельмі смешная. Калі я слухаю радыё альбо якога-небудзь паліт-**



**камісара, я заўсёды думаю пра кнігу Джорджа Оруэла «1984», дзе «двудумства» з'яўляецца ладам жыцця таксама. У кожным разе, тут усё вельмі цікава, і людзі ў цэлым простыя і добрыя.**
**Ну, гэта амаль усе навіны з Мінска. Твой брат Лі.**

Ні ў «Гістарычным дзённіку», ні ў «Калектыве» Освальд пра Сталіна адмыслова нічога не піша. Але нягледзячы на іронію ў лісце да брата, хрушчоўскія змены яго ўразілі. Па вяртанні ў Амерыку ён дапоўніў мінскія нататкі падзеямі лістапада 1961 года:

**Новая эра**

**У Мінску быў манумент Сталіну, 35 футаў вышынёй, які стаяў нават пасля выкрыцця Сталіна Хрушчовым, у той час як помнік Сталіну ў Ленінградзе быў адразу знесены. Гэтая вялізная канструкцыя з бронзы і мармуру стаяла так доўга, як гэта было магчыма, дзякуючы намаганням цвёрдакаменнага сталінца, такога, як палкоўнік Пятроў, начальнік АВІРу ў Мінску, і іншых. Аднак пасля 22-га з'езду, калі Хрушчоў ізноў развянчаў Сталіна, 5 лістапада, за два дні да рэвалюцыйных святаў, атрад у 100 чалавек**

**з'явіўся на плошчы Сталіна (новая плошча Леніна), і з бульдозерамі і палезабойнымі машынамі пачаў зносіць (не здымаць) помнік. Яны рабілі гэта з вялікім энтузіязмам, бо ўжо на другі дзень пасля таго, як яны прыбралі 10 тон бронзы, пяць чалавек старэйшага пакалення прыйшлі на плошчу і былі абсмяяныя саркастычным маладзейшым пакаленнем.**
**Самым знакамітым у разбурэнні гэтага гіганцкага манумента было тое, што праца спынілася 6 лістапада, але распачалася ізноў 7-га, у той самы дзень, калі побач праходзіў вялікі парад рабочых. Помнік быў якраз насупраць трыбунаў.**
**На вачах усіх людзей і рабочых разбурэнне Сталіна і сімвалічнае заканчэнне сталінізму (надзея Хрушчова) было завершанае.**
**Але Беларусь разам з радзімай Сталіна Грузіяй — усё яшчэ апірышча сталінізму. І адраджэнне сталінізму вельмі, вельмі магчымае ў гэтых дзвюх рэспубліках.**

У гэтым тэксце Освальд зрабіў паўтузіна памылак і адно прадказанне. У Ленінградзе сталінскія помнікі (іх было пяць) дэмантавалі не раней, а адначасна з Мінскам; хоць палкоўнік Пятроў быў насамрэч генералам і старшынём КДБ, ён не мог ні захаваць, ні разбурыць помнік без каманды з Масквы; у Мінску манумент знеслі за адну ноч — плошчу ачапілі войскам, сторгнулі статуй, але потым доўга і цяжка дзяўблі пастамент, які трымаўся на вялізным бетонным фундаменце. Бронзавую фігуру транспартавалі на склады гарадскіх камунальных службаў, а кавалкі пастамента адвозілі на суседняе будаўніцтва музычнай школы пры кансерваторыі, дзе яны былі закапаныя ў фундамент. Плошчу Сталіна тады перайменавалі не ў «Леніна», а ў «Цэнтральную», і гэты назоў яна захоўвала аж да 1984-га.

У архівах камісіі Уорэна наступнымі за эсэ «Новая эра» ідуць нататкі Освальда пра камуністычную партыю Амерыкі. Спачатку ён прапанаваў мясцовай філіі свае паслугі, энтузіязму прапанова не выклікала, і тады Освальд абвінавачвае партыю ў здрадзе. Маўляў, яна ператварылася ў рычаг замежнай сілы для скідання ўрада ЗША — і не дзеля свабоды ці высокіх ідэалаў, а дзеля сервільнага згодніцтва з жаданнямі Савецкага Саюза, не самай, як высветлілася, узорнай сістэмы.

**Саветы здзейснілі злачынствы, непараўнальныя нават з тым, што рабілі на пачатку капіталістычныя краіны — зняволенне сваіх людзей, масавыя знішчэнні, тыповыя для Сталіна.**

**Прыгнёт індывідуальнасці, строгая рэгламентацыя пры Хрушчове.**
**Дэпартацыі, мэтанакіраванае абмежаванне харчавання насельніцтва Расеі. Забойства гісторыі, прастытуцыя мастацтва і культуры.**

Так чытач Оруэла падкарэктаваў сваё захапленне Савецкім Саюзам пасля вяртання ў Амерыку.

А ў «Новай эры» патрабуе папраўкі яшчэ адна недакладнасць — прадказанне, што адраджэнне сталінізму «вельмі, вельмі магчымае» ў Грузіі і Беларусі.

Памыліўся, як стала відаць праз паўстагоддзя. Можа таму, што ў Грузіі ніколі не быў.

## Нататкі антысаветчыка. Працяг

Кніга, якую Освальд пачаў пісаць у Мінску, чытаецца цяжкавата.

Магчыма, таму, што аўтар нічога не піша пра сябе, а наіўна спрабуе вырашыць навукападобную задачу — ахапіць увесь спектр савецкага жыцця.

Ён падае перапісаныя аднекуль статыстычныя звесткі пра колькасць студэнтаў, наклады газет і часопісаў, санаторнае абслугоўванне, піянерскую арганізацыю і камсамольскіх актывістаў, тлумачыць інстытут прапіскі і прыводзіць лічбы хабару за пячатку (60-100 руб.), закранае карупцыю ў гандлі, дзе замест ялавічыны могуць падсунуць каніну, параўноўвае, што на 12 кінатэатраў у Мінску прыпадае 58 агітпунктаў, дзе не толькі раздаюць камуністычныя брашуры, але там ёсць тэлефон і кожны можа зайсці і зрабіць данос на іншага члена партыі ці любога грамадзяніна.

Хто яму расказваў гэтыя гісторыі, крыху падагнаныя пад оруэлаўскі «1984», невядома, але ў лічбах недакладнасці: у Мінску было 17 кінатэатраў, а агітпункты былі ў кожнай школе, цэху, установе і налічвалі многія сотні.

І, канечне, даносчыкі давалі рады і без тэлефоннай дапамогі агітпунктаў.

Хаця, магчыма, задача рукапісу «Калектыў» не такая і наіўная — яго пры жаданні можна разглядаць і як пераадоленне сваіх ілюзіяў, і як падрыхтоўку да трыумфальнага вяртання ў Амерыку з гатовай кнігай.*

Калі паспрабаваць расставіць паводле значнасці будынкі, якія прэтэндуюць на ролю галоўных у мінскім жыцці Освальда, дык на трэцяе месца пасля КДБ і дома, дзе ён меў кватэру, прэтэндуе Палац прафсаюзаў. І Освальд не абмінае месца, дзе ён сустрэў будучую жонку.

**Яшчэ адна характэрная і цікавая пабудова ў Мінску — будынак Прафсаюзаў. Там ёсць канцэртная заля, памяшканні для заняткаў і пераапранання аматарскіх калектываў, якія там час ад часу выступаюць, і невялікая танцавальная заля. Там няма, як можна было б падумаць, прафсаюзнага офіса... Унушальная будыніна выглядае як грэцкі храм з фігурамі наверсе пад трохкутным дахам, які абапіраецца на вялікія белыя мармуровыя калоны. Аднак, калі прыгледзецца, дык пабачыш не аголеных грэцкіх багоў, а — злева направа — даследніка з мікраскопам, муляра з вядром, спартсмэна ў трэніровачным касцюме і больш сімвалічную скульптуру мужчыны ў двухбортным касцюме з партфелем — відавочна, бюракрат альбо інтэлігент.**

Са свайго балкона Освальд добра бачыў будынак на вуліцы Карла Маркса, 38 — тады ЦК кампартыі. І ў сваёй прагулцы па Мінску ён перасякае сквер каля тэатра Янкі Купалы:

**Васьміпавярховы жоўты будынак з металу і цэглы, прастакутнік, амаль без аляпаватых упрыгожанняў, якія можна бачыць амаль на ўсіх гарадскіх будынках. «Першы сакратар ЦК КП Беларусі» — такі важны тытул мае невысокі поўны мужчына, якому пад шэсцьдзясят, К.Т. Мазураў. Яго рэдка можна пабачыць на вуліцы, разам з сям'ёй ён займае вялікую васьміпакаёвую кватэру на апошнім паверсе дому на праспекце Сталіна. Уваход у будынак ахоўвае днём і ноччу міліцыянер у форме, які правярае пропускі і не пускае асобаў без дазволу. Мазураў кіруе і кантралюе ўсю дзейнасць**

* Кніга ніколі не была выдадзеная. Пасля прыезду Освальд замовіў перадрук машыністцы, але пасля паўсотні старонак кінуў працу з ёй. Машыністка хацела працягу, яе зацікавіла незвычайная гісторыя — але ў Освальда не было грошай. У такім выглядзе рукапіс і далучаны да матэрыялаў Камісіі Уорэна.



**у рэспубліцы з паўнамоцтвамі, якіх не мае ніводзін губернатар у ЗША, бо яго ўладу нельга абмежаваць судовымі пастановамі ці заборонамі, як гэта часта здараецца ў ЗША. Мазураў падначалены наўпрост Маскве і прэзідыума партыі на чале з Хрушчовым.**

Не згадаўшы Дома афіцэраў і штаба паветранай арміі, які чамусьці месціўся на праспекце ў шэрым будынку без шыльды, не звярнуўшы ўвагі на цырк, перайшоўшы мост праз Свіслач, прапусціўшы дом-музей 1 з’езду РСДРП, Освальд адразу падыходзіць да суседняга са сваім дома:

**Радыётэлестанцыя ў Мінску ўяўляе сабой чатырохпавярховы бетонны будынак па адрасе вуліца Калініна, 6 каля невялікай рэчкі Свіслачы. За ім стаіць унушальная стальная радыёвежа вышынёй 500 футаў, самая высокая пабудова ў Беларусі. Радыёвежа і будынак абнесены высокай агароджай, якую патрулююць узброеныя ахоўнікі з сабакамі. Уваход у двор магчымы толькі праз будынак, і без прад’яўлення ўзброенаму ахоўніку спецыяльнага пропуску нельга ўвайсці.**

> **Выканаўцаў здымаюць у іншай студыі каля цэнтру, адкуль канцэрты і пастаноўкі перадаюцца на станцыю і на вяшчальныя вежы. Такім спосабам надзвычай важная сістэма камунікацыі застрахаваная ад сабатажу ці захопаў, падобных да такіх, якія часта здзяйсняюць лацінаамерыканскія контррэвалюцыянеры альбо незадаволеныя элементы.**

Разабрацца, хто тады чым быў незадаволены ў дыктатурах Лацінскай Амерыкі даволі цяжка, але, паводле тону, Освальд ухваляе захады супраць такіх элементаў. Аднак тое, што ён піша далей, магло расцэньвацца як збор сакрэтных і «іншых» звестак, як элегантна было сфармулявана ў савецкім крымінальным кодэксе, для выкарыстання на шкоду інтарэсам СССР:

> **Непадалёку ад тэлевежы, за 4 кварталы на ўсход на вуліцы Даўгабродскай стаяць яшчэ дзве вежы, кожная прыблізна па 200 футаў. Яны не займаюцца вяшчаннем. Фактычна, зусім наадварот. Гэтыя вельмі заўважныя канструкцыі з высакавольтнымі кабелямі паміж сабой з'яўляюцца вежамі глушэння перадачаў на кароткіх хвалях з-за мяжы.**
> **Галоўнай мішэнню для гэтых вежаў-глушылак з'яўляюцца мюнхенскія і вашынгтонскія перадатчыкі праграмаў Голасу Амерыкі. Часам іх выкарыстоўваюць для глушэння расейскамоўных перадачаў Бі-Бі-Сі і з Францыі.**

Дома ў Освальда быў прымач з кароткімі хвалямі, і ён нярэдка слухаў навіны. Марына ўспаміналa, як у верасні 1961-га ён праслухаў гадзінную прамову Джона Кенэдзі ў ААН, прысвечаную Берлінскаму крызісу. Голас Кенэдзі быў скажоны, гук плаваў, часам нельга было расчуць асобныя словы, і Освальд чартыхаўся кожны раз, калі хваля знікала.

> **Гэтыя вежы таксама ахоўваюць узброеныя вартаўнікі, і ўваход на абнесены дротам участак і да вежаў забаронены без пропуску. Вядома, што колькасць электраэнергіі, якую спажываюць гэтыя вежы, велізарная, асабліва калі ўлічыць, што неабходнае святло на працоўных месцах з неахвотай уключаюць нават у цёмныя дні.**
> **З іроніяй і сумам думаеш пра велізарнае марнатраўства і высілкі савецкага ўрада дзеля таго, каб не дапусціць ідэі іншых народаў. Але частоты глушэння складаюць толькі палову прапагандысцкіх**

**праграмаў Радыё Масквы, якія можна пачуць на любым кароткахвалёвым радыё ў Злучаных Штатах — і без глушэння. Праграмы Радыё Масквы запэўніваюць людзей, што жалезнай заслоны больш няма, ніколі не было, і яна з'яўляецца паклёпам на Савецкі Саюз, прыдуманым рэакцыянерамі, sic!!.**

Як кажуць — дагуляўся, падышоў ушчыльную да «Артыкулу 62. Шпіянаж» крымінальнага кодэксу БССР, які ў 1962 годзе за збор і перадачу такіх звестак даваў ад сямі да пятнаццаці гадоў ці расстрэл.

Адначасна з Освальдам да той самай агароджы і тых самых артыкулаў крымінальнага кодэксу падышоў яшчэ адзін жыхар Мінска.

І грымнуў гром — з ляскатам апусцілася жалезная заслона.

## Нашы на Месяцы

Канваір спыніўся каля кратаў, якія аддзялялі купэ сталыпінскага вагона з шасцю арыштантамі ад праходу і сказаў: Кенэдзі забілі.

Цягнік ішоў наперад, стукалі колы, ужо месяц палітычнага дыверсанта Сяргея Ханжанкова (артыкулы 65, 67, 69 КК БССР) везлі ў месца адбывання пакарання — Мардовія, Дубраўлаг. Маршрут пачаўся ў Мінску і праходзіў праз перасыльныя турмы Смаленск-Вязьма-Ражск-Пенза-Рузаўка-Поцьма, звычайнаму цягніку на такі маршрут хапіла б двух дзён, але ў турэмнай сістэмы свае хуткасці.

Навінаў з волі пасля месяцаў у турме і на перасылках страшэнна бракавала — і ў лагеры новы зэк адразу накіраваўся ў бібліятэку. Газеты друкавалі спачуванне ад савецкага ўрада, асаблівых дэталяў не было, чуткі версіі ўспыхвалі, як салома на ветры — хто забіў, што будзе, як гэта адаб'ецца на лагерным рэжыме? Неўзабаве ў лагеры стала вядомае імя забойцы — Лі Харві Освальд.

**— А ведаеце, як яго звалі ў Мінску? «Лихаря»!**

Ханжанкоў гаворыць дакладна, па дзелу, выразна памятае ўсе дэталі падзеяў, якія адбываліся паўстагоддзя таму. Мы сядзім у яго пакоі ў тым самым доме, дзе ён тады, да арышту, жыў з бацькамі. Калі правесці простую лінію ад дома Освальда праз цэнтр парку Горкага, яна выведзе якраз да Ханжанкова, на рог вуліц Першамайскай і Пуліхава. Штодня пешкі ён выпраўляўся ў політэхнічны інстытут, ішоў часам праз парк,

мінаў планетарый або праходзіў каля кінатэатра «Летні», выходзіў на плошчу Перамогі і шпацыраваў далей.

**— З Освальдам не сустракаўся, але, канечне, ведаў пра дзікі выпадак, што нейкі амерыканец прыехаў жыць у Мінск, ходзіць на танцы ў Дом афіцэраў, клуб Дзяржынскага. Гэта было незвычайна, пра гэта гаварылі, і была такая агульная думка, што амерыканец, як бы гэта сказаць, ну, дзівак.**

Ён хадзіў тымі самымі вуліцамі і бачыў тое самае, што й Освальд, толькі не так, як амерыканец.

Ханжанкоў нарадзіўся на Калыме ў 1942-м, дзе пасля адбыцця пяцігадовага тэрміну працаваў бацька; яго дзед, матчын бацька, быў сасланы на Салаўкі, потым расстраляны — і ў 1955-м, калі сям'я пераехала ў Мінск, пра савецкую ўладу ён разумеў ужо нашмат болей за Освальда.

Досвед савецкага жыцця хутка адукаваў амерыканца і амаль выраўняў светапоглядную розніцу, прынамсі, у дачыненні да дзвюх вежаў станцыі глушэння погляды двух маладых людзей супалі дакладна. Толькі Освальд абмежаваўся запісамі, а Ханжанкоў вырашыў іх узарваць.

Калі бацькі Ханжанкова пераехалі ў Мінск, яны знялі пакой у доме на рагу праспекта і вуліцы Казлова. Акно выходзіла ў двор.

— А гэта глушылкі, — адразу патлумачыла гаспадыня заваконны пэйзаж.

Ханжанковы купілі лямпавы прымач «Мінск-55», які выраблялі на мясцовым радыёзаводзе — і Сяргей уключыў кароткія хвалі.

**— Усё было цікава. Асабліва «Радыё Свабода», якое тады называлася «Вызваленне». Самыя цікавыя перадачы былі, канечне, па «Свабодзе». «Голас Амерыкі» — больш амерыканскія справы, Бі-Бі-Сі, «Нямецкая хваля» таксама... А «Свабода» была самая актуальная. Кожныя паўгадзіны — навіны, а потым культура, белыя плямы гісторыі, цікава было ўсё.**

Такім чынам Ханжанкоў пазнаёміўся з глушылкамі другі раз — «Свабоду» глушылі мацней за ўсіх. І студэнт аўтадарожнага факультэта, вайсковая спецыяльнасць — сапёр, вырашыў глушылкі ўзарваць. Разам з двума сябрамі (адзін — студэнт, другі — былы зэк) пачаў рыхтавацца — здабываць тол, шукаць дэтанатар, вывучыў мясцовасць, вызначыў месца закладкі зараду, як вучылі на вайсковай кафедры, каб сталёвая



канструкцыя павалілася і нічога не разбурыла. Час павінен быў быць позні, надвор'е пажадана дрэннае, каб не было мінакоў. Пасля — уцёкі за мяжу.

Яго арыштавалі ў аўтобусе, у руках была валізка з толам — бо быў яшчэ адзін сябар, школьны, які хутка данёс у КДБ. Там адразу пабачылі перспектыву для ордэнаў і медалёў — і замест прафілактычнай гутаркі праз сябра пачалі распрацоўку. Прапаноўвалі здабыць зброю, змяніць аб'ект — узарваць які-небудзь завод, звязацца з замежнікамі. Ханжанкова, аднак, цікавіла толькі «Радыёстанцыя № 3», як афіцыйна называлася глушылка — ён хацеў узарваць менавіта сімвал савецкай улады і яшчэ раскідаць улёткі.

Суд вызначыў максімальны тэрмін — 10 гадоў зняволення, які ён адседзіць ад званка да званка. (Два сябры напішуць просьбы аб памілаванні і выйдуць на волю праз пяць гадоў, даносчык на судзе праходзіў сведкам.) На ўсе звароты бацькоў у судовыя інстанцыі, пракуратуры, прэзідыумы вярхоўных саветаў, з'ездаў і сходаў прыходзіў адказ — злачынства цяжкае, віна даказаная, падставаў для перагляду няма, для амністыі таксама.*

Ханжанкоў сеў раней за герояў забароненага эфіру — Сіняўскі, Даніэль, Галанскоў, Кузняцоў, Гінзбург...

Ролю Освальда, дакладней, ролю КДБ у забойстве Кенэдзі ў лагеры абмяркоўвалі. Пераважала думка, што наўрад ці забойства арганізаванае савецкім бокам. Хрушчоў быў не Сталін, мог дамаўляцца з Кенэдзі, навошта было прыбіраць знаёмага ліберальнага партнёра, якога мог змяніць куды больш жорсткі лідар — такі быў палітычны аналіз за ка-

---

* Аляксандр Салжаніцын так ахарактарызуе яго: «Узгадваецца лёс Сяргея Ханжанкова, які адседзеў за спробу — ці нават намер — узарваць глушыцель у Мінску... Хоць, зыходзячы з агульначалавечых каштоўнасцяў, нельга зразумець гэтага злачынцу іначай як барацьбіта за ўсеагульны мір».

лючым дротам, трэба прызнаць, значна больш слушны, чым многія тэорыі, злепленыя на свабодзе.

У мардоўскіх лагерах увогуле сядзелі разумныя людзі — і працягвалі там адукацыю. Выпісвалі газеты, часопісы, спецыялізаваліся на нейкай тэме і потым чыталі лекцыі. Ханжанкоў атрымліваў «Известия», «Новый мир», дзе ўпершыню прачытаў аповесці Быкава, і часопіс «Авиация и космонавтика».

Ён стаў аўтарытэтам у касмічных справах і даволі хутка прыйшоў да высновы, што гонку ў космасе Савецкі Саюз прайграе — часопіс быў рэфератыўны, і можна было зразумець, што і чаму робяць амерыканцы.

Калі мара і задача, якую паставіў Кенэдзі — палёт на Месяц — стала рэальнасцю, Ханжанкоў зрабіў і павесіў на сценку барака схему палёту і тлумачыў іншым, што і як адбываецца, перасоўваючы значку ракеты па траекторыі палёту.

Цемнаваты пакой на нізкім першым паверсе, у якім жыве Ханжанкоў, прыкладна такіх самых памераў, як быў у Освальда. Пейзаж за вакном толькі іншы — мінскі двор, забудаваны рознымі будкамі, перагароджаны, застаўлены аўто. Пад столлю на шафе стаіць карычневая скрыня лямпавага прымача «Мінск-55» з аблупленым лакам, замест верхняга святла гаспадар уключае жалезную лямпу на шнуры, на кніжнай паліцы некалькі дзясяткаў кніг.

У пластыкавых пакетах захоўваюцца складзеныя ў акуратныя стосы некалькі тысячаў паштовак і лістоў — лагерная перапіска. Яе памер у разы пераўзыходзіць перапіску Освальда, далучаную да матэрыялаў Камісіі Уорэна. Зэк Ханжанкоў сам меў права на адзін ліст у месяц, але атрымліваць пошту дазвалялі. Увесь лагерны тэрмін ён захоўваў лісты ад маці, ад малодшага брата, паштоўкі ад сваякоў, а дома захоўвалі яго допісы. Цэнзура не дазваляла пісаць пра лагер, палітыку, іншых зэкаў — але кожны радок сведчыць пра насычанае інтэлектуальнае жыццё аўтара: ён абмяркоўвае дасягненні навукі, творы навамірскіх аўтараў, дае парады.

Пасля распаду СССР пра яго пісалі газеты, бралі інтэрв'ю, ён ездзіў на з'езды палітзэкаў. Але хваля цікавасці хутка спала, у Мінску дэмакратычная апазіцыя ім не зацікавілася, з беларускімі вязнямі сталінскага ГУЛАГу ў яго было няшмат агульнага, у лагеры было некалькі зэкаў з Беларусі, але з крымінальным ухілам, і Ханжанкоў застаўся сам.

Падчас гутаркі я думаў — вось бы Мэйлеру ў Мінску не гістарычнай лепідаптэралогіяй ЗША займацца, а напісаць пра раўналетка Освальда

— слухача амерыканскіх радыёстанцыяў, які дагэтуль ні аб чым не шкадуе і ўпэўнены ў сваім выбары.

Але Бог з Мэйлерам, яму якая была б прычына пісаць кнігу пра Ханжанкова — герой не яго радзімы.

Хаця...

На зоне была кравецкая майстэрня, і зэкі пад кіраўніцтвам Ханжанкова пашылі мадэль карабля, у якім амерыканцы садзіліся на Месяц — у натуральную велічыню. Мадэль расклалі перад баракам, сабраліся зэкі, і Ханжанкоў з вышыні другога паверха чытаў лекцыю.

Прыбегла ахова — і таксама засталася слухаць.

— Нашы — на Месяцы! — так ён скончыў.

І, пабачыўшы мой запытальны погляд, патлумачыў:

— Нашымі ў лагеры мы называлі амерыканцаў.

## «Калектыў» пра калектыў

Освальд сур’ёзна паставіўся да сваёй ролі чалавека, які атрымаў унікальны досвед працы на савецкім заводзе — і выступіў у ролі Дантэ, які апавядае пра сваё падарожжа ў замагільны свет.

Невядома, хто выступаў у ролі Вергілія — ім мог быць і Аляксандр Зігер, і Павел Галавачоў.*

Дантэ з Освальда атрымаўся таксама даволі нудны. Нататкі пра калектыў і працу на радыёзаводзе ўражваюць сваёй нецікавасцю. Освальд завальвае чытача бессэнсоўнай статыстыкай — 87 000 вялікіх і моцных радыёпрымачоў, 60 000 тэлевізараў вырабляецца за год на заводзе, дзе працуюць 5000 рабочых, з іх 58% жанчыны і дзяўчаты. Далей ён дае раскладку па цэхах і ўчастках, называе плошчу завода і яго каардынаты, распісвае арганізацыю працы, ролю майстроў, сумна тлумачыць, хто такія ўдарнікі, і ўзнікае ўражанне, што ўсё гэта добрасумленна перапісанае са стэнда нагляднай агітацыі ці заводскай брашуры.

* Галавачоў хоць быў і маладым хлопцам і сынам генерала, але савецкую ўладу не любіў даўно: падлеткам яго моцна ўразіў аповед бацькавага знаёмага пра крывавае здушэнне паўстання ў Вугоршчыне, у кватэры ў Освальда ён казаў усё, што думае пра савецкую сістэму, палохаючы асцярожных гасцей кшталту Цітаўца, які потым прызнаецца, што «віншаваў сам сябе з тым, што не рэагаваў на разглагольстваванні Паўла Галавачова пра хібы сістэмы».

Жыццё вяртаецца ў тэкст, калі ён спыняецца на хвіліну ў цэху, дзе працуюць прэсы:

> **Грукат у цэху амаль аглушае, метал трэцца аб метал, стальныя пілы ўгрызаюцца ў жалезныя балванкі з хуткасцю два сантыметры за хвіліну, падлога пакрытая алеем для ахалоджвання металу, і трэба глядзець пад ногі; рукі рабочых чорныя, як падлога, і, здаецца, былі такімі заўсёды...**
> **Наступны цэх пластмасаў. Тут 47 жанчын і трое інвалідаў заліваюць чырвоны расплаўлены пластык у рознай формы прэсы, вырабляюць ручкі, кнопкі, трубкі і да т.п. У гэтых рабочых найгоршыя ўмовы на заводзе з-за гарачыні матэрыялаў і шкоднага полымя. Ім даюць 30 дзён адпачынку, максімум для рабочых.**

За што пакараныя гэтыя грэшнікі, Освальд не паведамляе — але тэмпературныя ўмовы больш-менш адпавядаюць пакутам, зарэзерваваным Дантэ для ерэтыкоў і блюзнераў. Трэба прызнаць, што наступны від пакутаў, падрабязна апісаны Освальдам, не мае аналагаў у Дантэ — гэта пакаранне сходамі.

> **Калектыўныя сходы на заводзе настолькі шматлікія, што галава круціцца.**
> **Напрыклад, цягам аднаго месяца ў плане наступныя сходы і лекцыі: адзін прафсаюзны сход, на якім абмяркоўваецца праца прафсаюза па збору ўнёскаў, аплаце пуцёвак і г.д.; чатыры палітінфармацыі, кожны аўторак падчас абеду; два камсамольскія сходы, 6 і 21 кожнага месяца, адна вытворчая нарада, на якой рабочыя абмяркоўваюць, як палепшыць працу; два партыйныя сходы, якія склікае сакратар цэхавай партарганізацыі; чатыры пасяджэнні школы камуністычнай працы, абавязковыя, кожную сераду, адзін спартовы сход, неабавязковы — разам 15 сходаў штомесяц, 14 з якіх абавязковыя для членаў кампартыі і 12 абавязковыя для ўсіх. Гэтыя сходы адбываюцца пасля працы альбо ў абед, ніколі не ў працоўны час. Адсутнічаць ніяк не дазваляецца.**

У сярэднім кальцы сёмага кола дантаўскага пекла расце калючае сучкаватае кустоўе — гэта самагубцы, людзі, якія гвалтам пазбавілі сябе жыцця, ім ужо не дадзена будзе ўваскрэснуць. На заводскіх сходах, па-

водле Освальда, пайшлі на крок далей за Дантэ — людзей ператваралі ў камяні.

**Пасля многіх гадоў жорсткай дысцыпліны, асабліва за сталінскім рэжымам, ніводзін рабочы не будзе наклікаць на сваю галаву абавязковыя дысцыплінарныя захады з боку членаў партыі і парткама з-за таго, што паспрабуе вышмыгнуць ці не звяртаць увагі на тое, што гаворыцца. Сапраўды, дзіўнае відовішча — сцэна, як мясцовыя члены партыі звяртаюцца з палітычным казаннем да групы звычайна жывых, простых рабочых, якія нейкім дзіўным чынам ператварыліся ў камень. Ператварыліся ў камень — усе, за выключэннем цвёрдых камуністаў з вачыма, якія так і шныраць у пошуках няўвагі з боку любога рабочага, каб славіць і атрымаць за гэта пахвалу.**

А вось пра гэта ў Дантэ ёсць: у тым самым сёмым коле, якраз на калючым кустоўі звілі гнёзды гарпіі — надта брыдкія істоты з чалавечым тварам, шырокімі крыламі і ўчэпістымі кіпцюрамі.

**Дзіўная рэч пры назіранні за палітычнымі лекцыямі — гэта тое, як слухачы ўпадаюць у надзвычай фенаменальны стан, яны адключаюцца ад знешняга ўмяшання ці гукаў. У гэтыя часы найлепш забыцца на свой звычайны шумлівы і жывы характар.**
**Пад партрэтам Леніна два на два метры стаіць сакратар партыйнай пярвічнай арганізацыі, у нашым аддзеле — рабаваты мужчына сярэдняга ўзросту з прозвішчам Сабакін, звычайнага выгляду ў акулярах. Яго твар у зморшчынах і іскаркі ў вачох ствараюць уражанне, што зараз ён раскажа салёную гісторыю ці смешны жарт, але не. За ім 25 гадоў стажу ў партыі. Яго адносна высокая пасада сведчыць пра яго эфектыўнасць.**
**Ён стаіць і выкладае з нататак тыднёвую палітінфармацыю з поўнай адсутнасцю энтузіязму і інтарэсу, як чалавек, якому не трэба хваляваца за сваю аўдыторыю ці пра тое, што нехта падымецца і пойдзе прэч.**

Освальд мог вывучаць Дантэ ў школе (ён быў уключаны ў праграму), а вось пра Оруэла вядома дакладна — ён чытаў «1984», і гэта можна адчуць у яго карцінках заводскага жыцця. Падрабязна апісаўшы, як зага-

няюць рабочых на дэманстрацыі двойчы на год, Освальд піша пра тых, хто любіць паспаць і потым выйсці на вуліцу прагуляцца:

> **Іх могуць заштурхнуць у калону міліцыя ці добраахвотныя «народныя дружыннікі» ў чырвоных павязках. Любы, хто будзе спрачацца, можа стаць аб'ектам шчыльнага расследавання пазней — а гэтага трэба пазбягаць у любой паліцэйскай дзяржаве...**

Дантэ назваў сваё падарожжа ў пекла камедыяй, бо пачыналася яно жахліва, а скончылася шчасліва.

Тое, што пачынаецца добра і сканчаецца так, як у Освальда, называецца інакш. Не бывае антыўтопіяў з happy end, асабліва ў жыцці.

Лёс рукапісу аказаўся больш шчаслівы — ён выпырхнуў праз жалезную заслону, на караблі пераплыў Атлантыку, не згубіўся пры пераездах, быў знойдзены паліцыяй пры ператрусе кватэры Освальда і далучаны да матэрыялаў камісіі Уорэна. Да яго бесперашкодна звяртаюцца даследнікі, а Мэйлер апублікаваў большую частку ў сваёй кнізе.

Заслона, як гэта звычайна бывае пры сутыкненні метафары з рэальнасцю, аказалася не жалезная.

## Злавіць матылька

Некаторыя словы як матылькі — пакрасаваліся, патанчылі, пакінулі пыльцу на старонках газет і зніклі, быццам іх ніколі й не было.

На пачатку 1960-х гарачую дзясятку ў СССР складалі:

1. Культ асобы (так тлумачылася найбольшае ў гісторыі чалавецтва знішчэнне сваёй уладай сваіх людзей),

2. Каралева палёў (кукуруза, якую ўкаранялі квадратна-гнездавым метадам ад Крыма да Карэліі),

3. Космас (белазубая ўсмешка першага чалавека на арбіце Юрыя Гагарына, чый палёт быў аплачаны рабскай працай мільёнаў),

4. Вадародная бомба (гл. тлумачэнне да Космасу),

5. Куба (гл. тлумачэнне да Космасу),

6. Цаліна (гл. тлумачэнне да Космасу),

7. НТР (нешта накшталт інтэрнэту, але праз мадэм),

8. Хімія (кашулі, у якіх абліваешся потам, і смярдзючыя камбінаты, якія будавалі зэкі),



9. «Наш дарагі Мікіта Сяргеевіч» (гл. Культ асобы, але пры Хрушчове лагерных недабіткаў выпусцілі на волю і надрукавалі Салжаніцына),

10. Амерыка (дагонім і перагонім, пераможам у барацьбе за мір і пахаваем).

У гэтым спісе лексічнай лепідаптэралогіі няма слова, якое было ключавым у СССР папярэднія тры дзесяцігоддзі: пільнасць.

Што з ёй толькі не рабілі — праяўлялі, гублялі, падвышалі, усыплялі, заклікалі, а таксама нагадвалі, вучылі, патрабавалі, дамагаліся, і нават часам забываліся.

Але не ў БССР.

Падыходзіў да канца першы год Освальда ў Мінску, калі ў галоўнай газеце Беларусі з'явіўся артыкул пад загалоўкам «Пільнасць — наша магутная зброя».

Публікацыя была прысвечаная 43-й гадавіне заснавання ЧК і яе метастазаў — ГПУ-НКУС-МДБ-КДБ.

Аўтар — старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў БССР Васіль Пятроў пісаў пра страшныя рэчы, якія адбываліся на чыгунцы:

**Групай жыхароў горада Мінска былі затрыманыя на перакідным мосце ля чыгуначнага вакзала два чужаземцы, якія фатаграфавалі пад'язныя пуці, вакзал і праходзіўшыя саставы. Затрыманымі аказаліся амерыканскія турысты муж і жонка Марлах, якія апрача фатаграфавання, як пазней высветлілася, узводзілі паклёп на нашу рэчаіснасць, выхвалялі так званы амерыканскі лад жыцця.**

Што гэта была за група, у якую аб'ядналіся жыхары горада на перакідным мосце, перакрылі выхады і захапілі двух фатографаў, колькі іх было — не выдаў генерал. Групу напаткаў сюрпрыз, калі меркаваць па выразе «затрыманымі аказаліся амерыканскія турысты»: вось жа здзівіліся, мабыць, жыхары Мінска — думалі, фатографы свае, а аказалася — узводзяць паклёп.

Яшчэ адну пільную групу грамадзянаў аб'ядноўвала тое, што яны не жадалі глядзець вузкастужкавыя кінафільмы:

**Амерыканскія турысты, прапаведнікі секты пяцідзясятнікаў Матысюк і Дурасаў, якія знаходзіліся ў Мінску, прывезлі з сабой вузкаплёначны кінафільм з пропаведдзю кіраўніка амерыканскіх сектантаў-евангелістаў Робертса, дубляваны на расейскую мову, а таксама рэлігійныя лістоўкі. Аднак яны не знайшлі жадаючых глядзець іх фільм і чытаць лістоўкі. Варожым лазутчыкам савецкія людзі далі дастойны адпор.**

Чаму хрысціянскія місіянеры былі прыраўнаныя да разведчыкаў у тыле ці ў размяшчэнні праціўніка (так тлумачыць слоўнік «лазутчыкаў»), пытанняў не выклікае — Бога ў СССР не было. Дакладней, іх Бога не было, сваіх хапала, і перад прыездам у Мінск Освальд нават паспеў адведаць нятленныя мошчы ў Маскве. Але хто былі гэтыя савецкія людзі, якія давалі адпор у Мінску? Які адпор лічыцца дастойным, а які не? А калі б фільм быў шырокафарматны? Генерал пакінуў гэтыя пытанні без тлумачэння і перайшоў да яшчэ больш драматычнага выпадку.

**Едучы па тэрыторыі Беларусі цягніком, група чужаземцаў капіталістычнай дзяржавы спрабавала фатаграфаваць з купэ вагона**

**чыгуначныя збудаванні і іншыя аб'екты. Правадніца вагона звярнула ўвагу на гэтыя падазроныя паводзіны і на наступнай станцыі запрасіла ў вагон супрацоўніка чыгуначнай міліцыі, які запатрабаваў дакументы ў названых пасажыраў. На пытанне супрацоўніка міліцыі, чаму яны займаюцца непрыстойнай дзейнасцю, адзін з іх не змог адказаць што-небудзь пэўнае, другі папрасіў прабачэння, а трэці настолькі напалохаўся, што наогул не мог нічога сказаць.***

Мову адняло. І, магчыма, таксама — фотакамеры і адзнятыя стужкі з непрыстойнымі кадрамі.

Рукапіс Освальда «Калектыў», аднак, перахоплены не быў. Марына потым расказвала, як Освальд вывез свае запісы: калі цягнік наблізіўся да Брэста, ён засунуў старонкі за пояс, у штаны пад кашулю.

Спосаб досыць надзейны, але не гарантаваны. Невядома, чаму ідэалагічна шкодны тэкст дазволілі вывезці. Ці то «Сцяпан» не заўважыў звестак пра рукапіс у лістах і запісах падслухоўвання, ці то «Ігар» не надаў увагі, ці то сам старшыня КДБ праігнараваў, ці то перадалі па інстанцыі ў Маскву, а там махнулі рукой, ці то правадніца патрапілася няпільная...

Як са скрухай напіша Васіль Пятроў:

**Ёсць яшчэ ў нас асобныя разявакі, бестурботныя людзі, якія, забываючы аб сваёй высокай адказнасці, гатовыя балбатаць аб даверанах ім сакрэтах або праходзіць міма фактаў страты палітычнай пільнасці.**

Гэтыя генеральскія словы маглі быць адрасаваныя і высокаадказным работнікам уласнага ведамства.

Хаця іх віна мінімальная. Рукапісы — як матылькі, што не ведаюць мытняў і межаў.

Прырода іх такая, няпільная.

---

* Што тут ад Гогаля, Чэхава, Кафкі — пытанне да літаратуразнаўцаў. Вядомы, прынамсі, адзін кніжны герой, які аднолькава здатна мог быць і генералам-аўтарам артыкула, і пільнай правадніцай, і міліцыянтам-барацьбітом з непрыстойнасцю, і капіталістычнымі турыстамі (на якой мове яны тлумачыліся?..) — бравы салдат Швейк.

## Апошнія клопаты

Нядзеля 20 траўня стане апошнім днём у кватэры з выглядам на Свіслач. Як і папярэднія, ён пачаўся са скандалу — Освальд спрабаваў праінструктаваць жонку, што можна, а чаго нельга казаць у амбасадзе консулу пры атрыманні візы. Тэмпература гутаркі хутка падскочыла да кіпення, і Освальд бразнуў дзвярыма. У гэты самы дзень Марыну наведала сяброўка з аптэкі.

**Расшыфроўка падслухоўвання КДБ**
**20.05.62**

**10:05** *(ЛХО сыходзіць)*
**13:20** *(Прыходзіць Соня; гавораць пра Марыніна дзіцё.)*
**Соня: У вас няшмат рэчаў, толькі чамаданы, так?**
**Марына: Толькі чамаданы.**
**Соня: І ўсё?**
**Марына: Трэба памыць падлогу перад тым, як паедзем.**
**Соня: Нашто табе? Няхай самі.**
**Марына: Трэба нацерці.**
**Соня: Гэта неістотна. Можна проста памыць.**

Пасля прыборкі кватэры Освальды наведалі дзядзьку і цётку, а пасля праз двор перацягвалі рэчы на суседнюю вуліцу Захарава, 11 — апошнюю ноч і апошні дзень у Мінску яны правядуць у чатырохпакаёвай кватэры Паўла Галавачова, каб адтуль выправіцца на вакзал.*

Але не адразу.

**Рапарт КДБ**
**21.05.62**

**21 траўня 1962 года я правёў гутарку з дзядзькам «Наліма», Прусаковым І.В., які паведаміў мне, што 20 траўня яго кватэру наведалі пляменніца Марына і «Налім». У гутарцы «Налім» сказаў Прусакову аб намеры выехаць у Маскву 22 траўня, каб запоўніць усе належныя дакументы і затым выехаць у Амерыку.**

---

* У дом праз дарогу ад гэтага ў 1990 годзе я прынёс свой пераклад «Гістарычнага дзённіка» Освальда — там на першым паверсе месцілася рэдакцыя часопіса «Крыніца/Родник».



**У выніку гэтага Прусакоў і ягоная жонка далі Марыне некалькі парадаў. У прыватнасці, Прусакоў, выказваючы трывогу за свой дабрабыт, прасіў Марыну і «Наліма» не ўдзельнічаць пасля прыезду ў ЗША у ніякіх акцыях, варожых Савецкаму Саюзу. Прусакоў нагадаў «Наліму», што яго забяспечылі і вельмі добра ставіліся да яго савецкія людзі. «Налім» запэўніў Прусакова, што яны не будуць удзельнічаць у ніякіх шкодных для Савецкага Саюза акцыях. «Налім» патлумачыў, што дзеля таго, каб пазбегнуць магчымых сустрэчаў і інтэрв'ю з карэспандэнтамі, ён вырашыў адразу накіравацца да свайго брата, не спыняючыся ў Нью-Ёрку. Перад ад'ездам у Маскву чакаецца, што Марына зноў наведае кватэру Прусаковых. Улічваючы гэты факт, было рэкамендавана Прусакову правесці з ёй гутарку, якая б дапамагла папярэдзіць Марыну і «Наліма» ад удзелу ў антысавецкай прапагадзе за мяжой. Увага Прусакова была звернутая на ўсведамленне таго, што гэтая гутарка не павінна выклікаць падазрэнне з боку Марыны і «Наліма».**

Не выклікала.

Тое, што сваякі застаюцца закладнікамі, для чалавека, які вырас у Савецкім Саюзе, было зразумела само сабой. Дый перажывалі людзі, выпраўляючы дзяўчыну ў далёкі свет.

22 траўня ўвечары на вакзале Освальдаў праводзілі Павел Галавачоў, сям'я Зігераў і дзве сяброўкі Марыны.У ценю будынка за ўсім назіраў невядомы мужчына — сёстры Элеанора і Аніта Зігер крыкнулі яму, што можа падслухоўваць колькі хоча, сакрэтаў няма. Дзядзька і цётка Прусаковы стаялі ўбаку, быццам хаваліся ад вачэй КДБ, і Освальды не адразу іх заўважылі.

Пасля пацалунаў, апошніх словаў і абяцанняў пісаць, пасля слёз і абдымкаў цягнік зрушыўся. Павел і дзяўчаты яшчэ доўга беглі па платформе яму ўслед.

Эрык Цітавец на вакзал не з'явіўся.

Апошні мінскі рапарт вонкавага назірання КДБ Мэйлеру не паказалі.

## Віза для Марыны

У Маскве Освальды правялі крыху больш за тыдзень. Яны спыніліся спачатку ў гатэлі, адведвалі сяброўку Марыны. І хаця там іх не падслухоўвалі, КДБ дакладна ведаў пра іх апошні галоўны клопат і прычыну частых сварак — візу, якую мусіла атрымаць Марына ў амерыканскай амбасадзе.

**Расшыфроўка падслухоўвання КДБ**
**20.05.62**

**ЛХО: ...Ты нічога не кажы. Ты адкажаш на іх пытанні і не будзеш гаварыць. Будзеш там сядзець і маўчаць, зразумела?**
**Жонка: Калі будуць праблемы, ты з імі разбірайся.**
**ЛХО: Гэта ўсё, што будзе. Гэта мая адказнасць. Ты проста ціха сядзі. Ты павінна сказаць: не, я не член прафсаюза. Я ніколі не была ні ў якай савецкай арганізацыі.**
**Жонка: Дык за гэта ў Амерыцы пераследуюць? <u>Навошта мне ехаць у такую краіну?</u>**
**ЛХО: Проста скажы.**
**Жонка: Я яшчэ не ад'ехала. А праблемы ўжо пачынаюцца, і як толькі я даеду да Амерыкі — ага, ты расейка! Ты член прафсаюза!**
**ЛХО: Заткніся, у цябе брыдкія мазгі.**
**Жонка: Я савецкая дзяўчына, і я нічога не збіраюся баяцца. Калі я член прафсаюза, я член і я не збіраюся хавацца!**
**ЛХО: Ідыётка!**
**Жонка: Мне няма чаго баяцца.**
**ЛХО: Дурніца! Скажы проста, што ты фармацэўт.**
**Жонка: Ну, я не паеду ў краіну, дзе пераследуюць за кожнае слова.**
**ЛХО:** *(ідыёцкі смех)*

**Жонка: Ну ты засранец! Лопнеш як мыльная бурбалка!**
**ЛХО: Ты ўжо даўно лопнула сама.**
**Жонка: ... Сумленныя людзі нічога не хаваюць, але ты падманшчык. Ты заўсёды падманваеш, ты ўсіх падманваеш.**

Освальду не дазволяць прысутнічаць на візавым інтэрв'ю ў амбасадзе ў Маскве— віцэ-консул Джэк Мэтлак патлумачыў, што гаворыць па-расейску і інтэрв'ю павінна праходзіць сам-насам.*

Освальд упарта не сыходзіў, тады Мэтлак проста заняўся іншымі справамі — і раззлаваны муж мусіў выйсці. Марына адмаўляла сяброўства ў камсамоле, як і вучыў Освальд — але консул ведаў савецкія парадкі і не паверыў, пазначыўшы, што суразмовіца не кажа праўду. Але паколькі факт сяброўства ў камсамоле, як і ў прафсаюзе, не ўплываў на выдачу візы, Марына яе атрымала.

Як па-філасофску заўважае Мэйлер, іронія аказалася двухбаковай: Освальд меў рацыю і Марына мела рацыю. І той і той метад спрацоўвае. Сваркі былі пра рэчы, якія не мелі значэння.

Іронія тут, як мінімум, трохбаковая. Мэйлер не звярнуў увагі на істотную дэталь — Марына ўсё ж захапіла з сабой у Амерыку свой прафсаюзны білет, які быў канфіскаваны падчасператрусу ФБР і далучаны да рэчавых доказаў Камісіі Уорэна.

Але насамрэч прафсаюзная іронія мела яшчэ адно сапраўды ўражвальнае вымярэнне. Калі членскі білет Марыны мог і не зацікавіць Мэйлера, дык іншы проста мусіў: Освальд таксама быў членам савецкага прафсаюза і таксама захапіў свой прафсаюзны білет у Амерыку.

12 жніўня 1960 года ён паставіў свой подпіс ва ўліковай картцы, і апошнія ўнёскі з яго апошняга заробку былі адлічаныя ў траўні 1962-га, калі ён вучыў жонку не прызнавацца, што яна знаходзілася ў такой крамольнай арганізацыі. Якой, дарэчы, як ён сам ацэніць у нататках пра жыццё ў СССР, насамрэч не існавала:

**Прафсаюзаў як такіх няма (паколькі страйкі альбо перамовы наконт падвышкі зарплаты не дазволеныя; вядома, кожны рабочы можа рабіць прапановы, але ўсё гэта робіцца праз мясцовы ка-**

---

* Джэк Мэтлак будзе амбасадарам ЗША ў Маскве ў 1987-91 гадах і аднойчы, калі я быў на прыёме ў яго рэзідэнцыі Спаса-Гаўз, здзівіць мяне не тым, што гаворыць па-расейску без акцэнту, а тым, што павітаецца па-беларуску і пахваліцца, што перакладаў Янку Купалу, і працытуе верш «А хто там ідзе».

**муністычны заводскі камітэт, і яны праходзяць ці кладуцца на паліцу, як пажадае камітэт).**

Але ні сяброўства ў прафсаюзе, ні ў камсамоле не перашкодзілі пераадоленню апошняй перашкоды на шляху ў Амерыку.

Увечары 31 траўня на Беларускім вакзале Освальды селі ў цягнік, які ішоў праз Польшчу, Нямеччыну ў Нідэрланды, дзе іх чакаў акіянскі лайнер «Маасдам».

Раніцай наступнага дня цягнік спыніўся ў Мінску. Марына напярэдадні паслала тэлеграму Прусаковым, каб апошні раз пабачыцца са сваякамі. Але на платформе нікога не было.

— Мы апошні раз дыхаем мінскім паветрам, — сказала Марына мужу і заплакала ўжо ў купэ.

## Лекі ад «Доктара Жывага»

Справа Освальда была спыненая ўлетку 1962-га. Так Мэйлеру сказаў «Сцяпан».

Справу, канечне ж, не закрылі — яна працягвала папаўняцца.*

*Яна папаўняецца нават цяпер — у асобную тэчку падшываюцца запыты журналістаў, гісторыкаў, усіх, хто хацеў бы пазнаёміцца са справай.

У Мінску заставаліся сябры і знаёмыя Марыны і Освальда, якія перад ад'ездам абяцалі не забываць і пісаць.

У дакументах Камісіі Уорэна захоўваюцца лісты з Мінска, адрасаваныя Освальдам, у тым ліку і лісты Паўла Галавачова і фота: Павел сядзіць на тахце з дэталлю тэлевізара.

**15 верасня 1962**

**Прывітанне, Лі і Марына!**
**Сёння, калі прыйшоў з працы, атрымаў ваш ліст. Адразу ж адказваю, бо перапоўнены радасцю. Я ўжо хаджу на заняткі. Займаюся на другім курсе. Заўтра апошні дзень пайду на працу — я звольніўся, таму што займаюся па дзённай сістэме з адрывам ад вытворчасці. Марына, ты не пашкадуеш, калі выпішаш замест «Советс-**

**кой Белоруссии» «Известия» з нядзельным дадаткам «Неделя». У гэтым дадатку вельмі шмат цікавага. Так, часопісы вы, відаць, атрымаеце бліжэйшым часам. Рэч у тым, што я паслаў іх не авіяпоштай (яны даволі цяжкія для самалёта), а параходам. Так што хутка атрымаеце. Я падрыхтаваў яшчэ кучу часопісаў. Заўтра вышлю. Кніг у двух пакетах, якія Лі паслаў мне, я яшчэ не атрымаў, але, відаць, ён іх нядаўна толькі паслаў, таму яны не паспелі яшчэ даехаць, але думаю, што хутка даедуць.**

**Дарэчы, Марына, прышлі мне, калі ласка, у лісце які-небудзь падрабязны тэхнічны артыкул з прэсы пра касмічны карабель «Mariner-2». Мне хацелася б ведаць пра яго больш падрабязна.**

**Дарэчы, Марына, пастарайся патлумачыць Полу, што асноўная думка п'есы Пагодзіна «Чалавек з ружжом» у словах: «Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом». Гэта, як кажуць медыкі, квінтэсенцыя.***

**Дзякуй, што вы выслалі мне некалькі нумароў «Америки» — яны хутка прыйдуць. Але часопіс «Америка», калі захацець, можна пабачыць і ў нас. Але «Америка», як і «Советский Союз» — гэта не звычайныя штотыднёвыя часопісы. Яны з самага пачатку рыхтуюцца за мяжу (на экспарт). Мне больш хацелася б атрымліваць ад вас тэхнічныя (накшталт нашых часопісаў «Знание-Сила», «Техника-молодежи», радыётэхнічныя і звычайныя штотыднёвыя часопісы тыпу «Life», г.зн. як у нас «Огонёк».**

**Да пабачэння.**

**Чакаю вашых лістоў.**

**Павел.**

У кастрычніку 1962 года Павел Галавачоў ужо сядзеў у кабінеце ў будынку КДБ і паказваў два лісты, якія ён атрымаў з Амерыкі.

**— Навошта ты прынёс лісты? Нам яны не трэба. Мы падпісалі Жэнеўскую канвенцыю пра свабоду ліставання, і нам нічога гэтага не трэба.**

---

* Падчас паказанняў, якія Марына давала Камісіі Уорэна, ёй прад'явілі гэты ліст і папрасілі патлумачыць фразу «Цяпер не трэба баяцца чалавека з ружжом». Яна расказала, што яе знаёмы, Пол Грэгары, вывучае расейскую мову і пісаў рэферат пра п'есу Пагодзіна, яна дапамагала. Член камісіі спытаў: Вы ўпэўнены, што гэта не мае нічога супольнага з забойствам? Марына адказала, што ўпэўненая; больш да ліста не вярталіся.

«Сцяпан» вярнуў лісты. Так Галавачоў запомніў пачатак гутаркі ў КДБ і пераказаў Мэйлеру.

Калі паспрабаваць знайсці аналогію гэтаму эпізоду, дык, напэўна, трэба шукаць яе пасля Дастаеўскага, у XX стагоддзі. Не толькі з савецкай гісторыі вядомыя выпадкі, калі сваякі пісалі даносы адзін на аднаго. Але менавіта савецкі лад зрабіў данос на сваякоў, нават на бацькоў справай абавязку і гонару. Выпадак Галавачовых паталагічны, бо сына ў будынак КДБ на рагу Камсамольскай і Ленінскага праспекта прывяла маці.

Прыехала з-пад Урала, дзе служыў муж, і пайшла ў КДБ, бо сын мог пашкодзіць бацькавай кар'еры.

Маці так і сказала Паўлу, што сваім сяброўствам з амерыканцам ён нашкодзіць усёй сям'і. Бацьку пры жыцці Сталіна называлі сталінскім сокалам, але жыццёвы досвед падказваў, што дзве зоркі Героя Савецкага Саюза, якія Галавачоў-старэйшы атрымаў за паветраныя перамогі, былі меншыя за дзве зоркі на пагонах супрацоўніка асобага аддзела.

**Рапарт КДБ**
**13.10.62**

**Маці Галавачова сказала, што яны з мужам абураныя паводзінамі сына і занепакоеныя яго ўчынкамі, і яна нават спецыяльна прыехала ў Мінск, каб лепш разабрацца ў яго паводзінах і зрабіць адпаведныя высновы.**
**З увагі на тое, што ў адным з прынесеных Галавачовым лістоў да Освальда згадваўся «Доктар Жывага», я спытаўся, ці ён атрымаў гэтую кнігу ад Освальда. Галавачоў адказаў адмоўна.**
**У адказ на пытанне, як «Доктар Жывага» прыцягнуў яго ўвагу, Галавачоў патлумачыў, што хацеў пазнаёміцца з раманам чыста з цікавасці, каб скласці нейкае ўяўленне пра кнігу.**
**Галавачову было патлумачана, што паводле заключэння вядомых савецкіх крытыкаў, пісьменнікаў і іншых асобаў, якія азнаёміліся з «Доктарам Жывага» Пастарнака, ён утрымлівае паклёп на савецкую рэчаіснасць і не ўяўляе сабой мастацкай каштоўнасці. Такім чынам, азнаямленне Галавачова з кнігай «Доктар Жывага» не ўзбагаціла б яго веды, а наадварот, прывяло б яго да скажонага разумення пэўных праблемаў.**
**Таварыш Галавачова востра крытыкавала жаданне Галавачова пра-**

**чытаць «Доктар Жывага», заўважыўшы, што ніводзін прыстойны чалавек не стаў бы марнаваць свой час на такую кнігу.**
**Падчас далейшай размовы з Галавачовым я нагадаў яму пра нашы ранейшыя сустрэчы, яму былі зробленыя прапановы наконт яго паводзінаў у дачыненні да Освальда, і ўказаў на недахоп дысцыплінаванасці Галавачова, які праявіўся ў тым, што ён не з'явіўся на размову з оперработнікам. Гэтыя дзеянні былі ўспрынятыя як непавага Галавачова да інтарэсаў дзяржбяспекі. Разам з тым я даў Галавачову зразумець, што мы не былі цалкам упэўненыя, што ён не расказаў Освальду пра свае гутаркі з оперработнікам. Галавачоў настойліва прасіў паверыць, што ён не абмяркоўваў гутаркі альбо прапановы, якія ён атрымаў у дачыненні да Освальда.**

Галавачоў сам расказаў Мэйлеру пра адну такую прапанову «Сцяпана» — загаварыць з Освальдам пра свайго бацьку — камандуючага авіяцыяй вайсковай акругі — і паглядзець, як ён на гэта зрэагуе. Галавачоў загаварыў, але Освальд не праявіў ніякай цікавасці — затое зрэагавала Марына, якая спытала вельмі недвухсэнсоўна: «Павел, а навошта ты пра гэта гаворыш?»

Аднойчы, калі Марына і Освальд абмяркоўвалі, хто мог на іх даносіць, яна спыталася пра Паўла. Освальд вытрымаў паўзу і, гледзячы ёй у вочы, сказаў: яму я давяраў бы нашмат хутчэй, чым табе. Марына потым казала, што пагадзілася з мужам.

**Рапарт КДБ**
**Працяг**

**Абураная абыякавым стаўленнем Галавачова П.П. да просьбаў оперупаўнаважанага аб сустрэчы, маці Галавачова звярнулася да яго з наступнымі словамі: «Хіба так паводзяць сябе савецкія патрыёты? Ты мусіў сам пайсці і расказаць ім пра знаёмства з амерыканцам». Пагадзіўшыся з гэтымі довадамі сваёй маці, Галавачоў папрасіў прабачэння за свае безадказныя ўчынкі.**
**У канцы гутаркі я папрасіў Галавачова неадкладна інфармаваць нас пра любыя факты, якія могуць быць цікавыя органам КДБ, у тым ліку пра асобаў, якія могуць спрабаваць уступіць з ім у кантакт у выніку яго знаёмства з Освальдам. Галавачоў заявіў, што ў будучыні ён будзе дзейнічаць адпаведна.**
**Пасля сыходу Галавачова яго маці, якая падзялілася са мной стра-**

**хамі за лёс свайго сына, выказала шкадаванне, што за чатыры гады ён аддаліўся ад бацькоў і трапіў пад уплыў непажаданых асобаў. Таварыш Галавачова абяцала ўдзяляць больш увагі палітычнаму выхаванню сына.**
**Яна збіраецца часцей прыязджаць у Мінск, каб праверыць, як паводзіцца сын. Больш за тое, у будучыні яна абмяжуе яго фінансава і будзе даваць грошы толькі на абсалютна неабходныя выдаткі. Паводле яе словаў, бацька Галавачова П.П. прымусіў яго падпісацца і рэгулярна чытаць маладзёвыя газеты і часопісы. Яны будуць старацца сачыць за тым, наколькі сумленна Галавачоў П.П. будзе выконваць гэтыя ўказанні.**
**Маці Галавачова П.П. таксама выказала пажаданне, каб органы перыядычна сустракаліся з яе сынам, што, на яе думку, мела б станоўчы выхаваўчы ўплыў. Я патлумачыў маці Галавачова, што ў гэтым няма патрэбы, і выказаў упэўненасць, што яны самі здольныя паўплываць на сына ў правільным накірунку, каб ён быў дастойным сваіх бацькоў і ўзяў актыўны ўдзел у будаўніцтве камунізму ў нашай краіне.**
**Сцяпан Васілевіч Грыгор'еў».***

Але не гэтая размова пра раман Пастарнака запомнілася Галавачову найбольш.

## «Лі Освальд» — 35 разоў па-беларуску

Упершыню шырокае кола людзей у Беларусі прачытала і пачула імя Лі Харві Освальда ў аўторак, 26 лістапада 1963 года. Мясцовыя газеты друкавалі паведамленне ТАСС пад загалоўкам:

---

* Генералам Павал не стаў, камунізм не пабудавалі, бацька памёр у 1972 годзе, і яго імем назвалі вуліцу і яшчэ нешта ў Буда-Кашалёўскім раёне, а маці праз трыццаць гадоў пасля яго смерці апублікавала свае ўспаміны. Інтэрнэтная шукалка паведамляе: «У артыкуле «Я зноў пішу пра яго», апублікаваным у газеце «Рэспубліка» 14 лістапада 2003 года, жонка героя ўспамінае пра сумеснае жыццё, расказвае малавядомыя факты біяграфіі П.Я. Галавачова». Пра паход з сынам у КДБ там не згадваецца. А «Доктар Жывага» сын, напэўна, прачытаў — але распытаць пра яго ўражанне не ўдалося, у 2003 годзе П. Галавачоў быў выпісаны з Мінска, як падае Мінгардаведка, «у сувязі са смерцю».

**Паліцыя абвінавачвае ў забойстве прэзідэнта Кенэдзі Лі Освальда.**

Гэтае самае першае паведамленне было самым інфарматыўным:

**Па абвінавачанні ў забойстве прэзідэнта ЗША Дж. Кенэдзі паліцыя горада Даласа арыштавала жыхара горада нейкага Лі Харві Освальда. Гэты 24-гадовы чалавек быў затрыманы, нягледзячы на яго адчайнае супраціўленне, у памяшканні кінатэатра «Тэхас», якое знаходзіцца на адлегласці каля шасці кіламетраў ад месца пагібелі прэзідэнта ЗША.**
**Лі Освальда абвінавачваюць таксама ў забойстве паліцэйскага.**
**Пасля амаль дзесяцігадзіннага няспыннага допыту, якому падверглі Освальда ў паліцэйскім участку паліцэйскія і агенты ФБР, яму было прад'яўлена афіцыйнае абвінавачанне ў забойстве прэзідэнта. Затым Освальда прадставілі карэспандэнтам. Паводле паведамлення карэспандэнтаў агенцтва АП, Освальд упарта адмаўляў сваё дачыненне да забойства.**
**Акруговы пракурор Даласа Генры Уэйд адмовіўся адказаць на пытанне карэспандэнтаў, ці былі на вінтоўцы, з якой, як мяркуюць, быў забіты прэзідэнт ЗША, чые-небудзь адбіткі пальцаў.**

У гэтым кароткім тэксце імя Освальда згадваецца шэсць разоў.

На наступны дзень яго імя будзе згадана ўжо адзінаццаць разоў: пад загалоўкам «Замятаюць сляды» газеты друкавалі паведамленне ТАСС пра забойства Освальда Джэкам Рубі (яго імя тады пісалі «Рабі») і пра загад новага прэзідэнта Джонсана даследаваць гэтае забойства.

Мінскія чытачы ўсесаюзнай газеты «Известия» 27 лістапада маглі пабачыць яго фота ў апошнія хвіліны жыцця — знакаміты кадр, калі ён здзіўлена выгінаецца ад нечакана балючай кулі ва ўпор. «Звязда» і «Советская Белоруссия» друкавалі паведамленне без ілюстрацыі.

Усе публікацыі ў Беларусі адбываліся паводле падвойнага календара: ужо на момант самай першай, аўторкавай, 26 лістапада, не толькі Кенэдзі, але і Освальд быў два дні як мёртвы, а Рубі арыштаваны.

Імя Освальда можна сустрэць на старонках беларускага друку яшчэ 16 разоў да канца лістапада, потым два разы ў снежні.

Ніводнага разу нідзе не згадваецца яго прыезд у СССР, жыццё ў Мінску, праца на радыёзаводзе, жонка і дзіця, вяртанне ў Амерыку.

У Мінску, дзе імя Освальда ведалі сотні чалавек, гэта азначала толькі адно: трэба маўчаць.

У доме перакладчыцы Інтурыста Стэліны Пажалуістэ рвалі на шматкі фатаздымкі з Освальдам. Яна плакала, а муж папярэджваў, што зараз давядзецца расплочвацца ўсёй сям'і.

Яна ўспамінала для Мэйлера:

**Калі маці і я пачулі, што Кенэдзі забіты і Освальд меў да гэтага дачыненне, мы так і селі. І сядзелі без руху. Я памятаю той вялікі страх. Ён апанаваў мяне і сям'ю.**

Стэліна з сям'ёй вырашыла з'ехаць з Мінска — і да 1977 года жыла і працавала настаўніцай у Віцебску.

Студэнта медінстытута Канстанціна Бандарына выклікалі ў КДБ, спыталі пра фатаздымкі — ён усе спаліў — і адпусцілі, не запрасіўшы нават сесці.

Але Стэліну ў КДБ не выклікалі. Эла Герман чакала, што яе выклічуць. Не выклікалі. Не выклікалі Аніту Зігер, яе сястру Элеанору, бацькоў.

Мэйлеру было невядома, ці выклікалі Эрыка Цітаўца.

Ён падае сведчанне аднаго з кампаніі студэнтаў-медыкаў, Канстанціна Бандарына, які кажа, што, у адрозненне ад іншых знаёмых, якія перасталі сустракацца з Освальдам перад ад'ездам, бо былі ўпэўненыя ў сачэнні КДБ, Эрык працягваў кантактаваць — і нават, адрозна ад усіх іх, захаваў усе матэрыялы таго часу. Усе знішчалі фота і паперы, а Эрык сказаў: вы ўцякаеце, як купка баязліўцаў, і ўсё выкідаеце за борт. Эрык мусіў бы трэсціся ад страху, як асіна, але выйшаў сухім з вады, яму нічога не было, хаця ён меў самыя блізкія стасункі з Алікам.

Бандарын кажа Мэйлеру:

**Чаму гэта Эрык быў такі смелы?**

І Мэйлер спыняецца, сканчае абзац, пакідае пытанне ў паветры і без адказу.

Кропка як апошні штрых у партрэт персанажа «Цітавец».*

* У сваёй кнізе праз паўтара дзясятка гадоў пасля публікацыі Мэйлера Цітавец напіша, што ў яго таксама забралі ўсе лісты Освальда. Спачатку яго выклікалі на размову з КДБ у кабінеце рэктара, а назаўтра папрасілі прынесці з дому лісты — ён прынёс і аддаў. Пра магнітафонныя стужкі ніхто не ведаў, таму яны засталіся.

Чэкісты таксама плачуць — прынамсі, Мэйлер менавіта так, з камяком у горле, падае словы былога начальніка контрразведкі.

> **Я адчуў сябе не дрэнна — а жахліва! Гэта быў найгоршы момант майго жыцця!**

Так адказаў генерал «Гузьмін» пра рэакцыю на навіну з Даласа. І затым, піша Мэйлер, ён ледзь не заплакаў.

> **Усе вінавацяць мяне! Быццам я ведаў, што ён будзе страляць. Мы не мелі паняцця. Нельга ў Мінску знайсці ніводнага чалавека, хто сказаў бы — так, Освальд меў намер вярнуцца ў Амерыку і заварыць гэтую кашу.**

«Гузьмін» і «Сцяпан» больш за ўсё баяліся: а раптам Освальд рыхтаваўся да забойства ў Мінску, і яны не заўважылі. Але самым важным прызнаннем, якое запісаў Мэйлер ад чэкістаў, ён палічыў апошняе:

> **Калі шчыра, нас не хвалявала грамадская думка ў Амерыцы. Нас хвалявала, што скажа Масква.**

Хто б сумняваўся.

## Памылка Мэйлера

У лістападзе 1963-га адзін жыхар Мінска зрабіў учынак, які звычайна лічыцца сведчаннем добрага выхавання і ветлівасці, але які без перабольшання можна было назваць геройскім — і можна было кваліфікаваць як здраду.

Адзіны з усіх знаёмых Марыны і Освальда ў Савецкім Саюзе адразу пасля забойства самога Освальда Джэкам Рубі — Павел Галавачоў — напісаў і занёс на Мінскі паштамт ліст да Марыны Освальд са спачуваннем.*

Наступнай раніцай па яго прыйшлі.

---

* У студзені наступнага году Іна Яхліель з сябрамі паслала спачувальную тэлеграму Марыне. І атрымала адказ: «Не памінайце Альку ліхам». Наступстваў ад КДБ не было.

Два супрацоўнікі КДБ, якія пастукалі ў кватэру Паўла Галавачова, павялі яго на тралейбусны прыпынак, і праз дзесяць хвілін яны ўваходзілі ў будынак КДБ. Паўла завялі на другі паверх, з вакна была відаць кнігарня, у пакоі было чалавек сем.

Як Галавачоў пазней скажа Мэйлеру — яны былі ветлівыя і яго не білі.

Гаворка ішла пра ліст Марыне са спачуваннем.

Мэйлер піша:

> **Яны пачалі з таго, што сказалі яму: «У нашай краіне толькі прадстаўнікі народа могуць пасылаць спачуванні. Ты не прадстаўнік нашага народа. Ты не маеш права выказваць спачуванні. Гэта адно. Ты страціў палітычную пільнасць. Ты стаў палітычна блізарукім. Калі ты не хочаш, каб законы нашай краіны напісалі табе на шкуры, калі ты хочаш зноў пабачыць неба, перастань рабіць глупствы. Дарэчы, якія твае адносіны з Марынай Освальд? Ты з ёй спаў?» Яны задавалі іншыя пытанні і затым вярталіся да гэтага: «Спаў з Марынай калі-небудзь? Чаму ты напісаў такі ліст, калі ты з ёй не спаў?»**

Логіка КДБ зразумелая — калі б Павел адказаў, што так, спаў з Марынай, адразу з'явіўся б ясны і бяспечны матыў, чаму ён спачуваў. Усё іншае было палітычна небяспечным, магчыма, у міжнародным маштабе.

Чалавечыя паводзіны былі небяспечныя.

Пасля гутаркі яго завялі на паштамт і прымусілі напісаць заяву пра адкліканне ліста. Такое захаванне законнасці не надта ўразіла Галавачова — адкуль жа КДБ ведае змест, калі яны яшчэ не перахапілі ліст?

Марына ніколі не атрымала спачування ад Паўла.

У размове з Мэйлерам праз трыццаць гадоў ён назаве гэтую размову з кадэбістамі найгоршым момантам свайго жыцця.

Дэпутат Сяргей Навумчык сустракаўся са «Сцяпанам» — былым куратарам Освальда палкоўнікам у адстаўцы Аляксандрам Касцюковым. Сцэна — як з-пад пяра Дастаеўскага:

> **Ён наракаў на мінскіх сяброў Освальда, якія давалі заходнім журналістам недакладную інфармацыю, дзе сумнеўна паказвалі яго, Касцюкова, ролю. Асабліва скардзіўся на Паўла Галавачова: «Паўлік кажа, што я яго выклікаў, сурова з ім размаўляў... Ды калі яго маці паскардзілася ў КДБ і мне прыйшлося з ім сустракацца, я**

**дрыжэў, як той восеньскі ліст: я — малодшы афіцэр, ніхто, а ён — сын Героя Савецкага Саюза, сябра Хрушчова...»***

У самым канцы кнігі Мэйлера, у імянным паказніку, Павел Галавачоў будзе прадстаўлены як «сябар Освальда і інфарматар КДБ». З мноства людзей, з якімі Освальд сустракаўся ў СССР і з якімі потым працаваў Мэйлер, гэтак будзе напісана толькі пра аднаго Галавачова.**

Кніга Мэйлера амаль бездакорна дакладная: памылкі ў ёй — не памылкі, а, хутчэй, абдрукоўкі (не тая літара ў прозвішчы консула, які выдасць Марыне візу для вяртання ў Амерыку, лішняя галосная ў прозвішчы старшыні КДБ («Шыракоўскі»), смешнае тлумачэнне, што калі імя аднаго з суразмоўцаў — Саша, а яго бацькі — Мікалай, дык яго завуць «Саша Мікалаевіч»).

Але словы ў паказніку імёнаў пра Паўла Галавачова, хаця фармальна і не няправільныя, акажуцца самымі несправядлівымі.

Сімпатычны хлопец быў. Не засранец.

## Кніга без ілюстрацыяў

У архівах Камісіі Уорэна сабраныя тысячы рэчавых доказаў — фатаздымкаў з Мінска і Тэхаса, лістоў, рукапісаў, нататнікаў, канвертаў, арыгіналаў дакументаў. Экспертамі намаляваныя маршруты праезду, траекторыя стрэлаў. Існуе самая дарагая ў свеце аматарская дакументальныя стужка, знятая жыхаром Даласа Абрамам Запрудэрам падчас забойства (26,6 секунды былі ацэненыя ў 16 мільёнаў даляраў).

Выбіраць было з чаго — але ў «Гісторыі Освальда» не змешчана ніводнай ілюстрацыі. Няма нават партрэта героя.

Чаму Мэйлер не захацеў уключаць ілюстратыўны матэрыял у кнігу? Чаму няма нават Освальда з Марынай?

---

* Тут важны час і кантэкст: оперупаўнаважаны гаворыць так увесну 1993-га, у час росквіту беларускай дэмакратыі, калі гаворкі пра люстрацыю вядуцца не на кухнях, а ў парламенце, і гаворыць гэта дэпутату апазіцыі, перад якім тады расчынялі дзверы старшыня КДБ і міністры. А журналісты, на якіх спасылаецца Касцюкоў, насамрэч былі ўсходнія — Галавачоў расказаў пра запалохванні КДБ карэспандэнту газэты «Известия», якая друкавала серыю матэрыялаў пра Освальда ў жніўні 1992-га.

** Эрнст Цітавец у сваёй кнізе, якая выйшла праз сем гадоў пасля смерці Галавачова,назаве яго агентам КДБ чатыры разы.



Магчыма, таму, чаму няма фатаграфіяў у раманах Талстога ці Дастаеўскага. Освальд, зразумела, рэальны чалавек, а не літаратурны персанаж. Але Мэйлер не столькі хоча расказаць пра героя, колькі знайсці адказ на пытанне — ці існуе ўвогуле таямніца, альбо мы маем справу з праявай абсурду, постмадэрнісцкай рэальнасцю, дзе ўсё можа быць без дай прычыны. Іншымі словамі — калі прэзідэнта забіла нікчэмная жамяра, дык мы жывем у свеце дэградаванага хаосу, і ўсё безнадзейна, калі асоба з ідэямі застрэліла бацьку трох дзяцей і забіла паліцэйскага, дык такое зло можна зразумець і, значыць, з ім змагацца.

Калі б выбіраць толькі адзін здымак — варта было б надрукаваць зусім не драматычны, а даволі банальны здымак Освальда і Марыны ў сонечны дзень на набярэжнай Свіслачы, непадалёку ад іх дома. Галоўная яго адметнасць — гэта адзіны здымак, на якім абое дадзеныя на поўны рост.

Вось яны сталі каля парапета, Освальд усміхнуўся ў камеру, палова твару жонкі захінутая ценем, фотаапарат пстрыкнуў — і гатова. Не адразу, вядома, а пасля таго, як стужка пабывала ў бачках з праяўляльнікам, фіксатарам, была прамытая, высушаная ў цёмным пакоі з чырво-

най лямпай, а потым друкаваліся картачкі, і гэта таксама працэс, які пачні апісваць — не спынішся.

Я паслаў гэты здымак на каментар аднаму знаўцу фотамастацтва, не кажучы, хто выяўлены на фота. Вось што ён мне адпісаў, з агаворкай пра малы фармат і нізкую якасць выявы:

> **З таго, што відаць, агулам можна сказаць, што гэта неблагая фатаграфія «на памяць», знятая даволі пісьменна без грубых тэхнічных памылак. Камера, хутчэй за ўсё, кінаплёначная (24x36), якасць файла не дае сказаць упэўнена. Знята, відаць, аматарам падчас шпацыру, без прадуманай пастаноўкі. Прафесіянал пры спецыяльнай здымцы не дапусціў бы, каб жанчына стаяла неэстэтычна, з расстаўленымі нагамі. Дрэнная якасць файла ўсё ж дае магчымасць разглядзець крыху псіхалогію пары, але толькі ў самых агульных рысах. Так выглядае жанатая пара, калі сумеснае жыццё ўжо ўвайшло ў пэўную прывычку. Хаця заўважаецца пэўная адчужанасць паміж гэтымі людзьмі, нейкая нестабільнасць, недаказанасць. Не ўсё ў іх добра.***

---

* Здымак каментаваў Зянон Пазняк, вядомы не толькі як палітык, але і як мастацтвазнаўца, фатограф, аўтар фотаальбомаў. Пазней ён палепшыў здымак і даслаў дадатковы каментар:

«Гэтыя людзі розныя па культуры фатаграфавання. Жанчына фатаграфуецца непасрэдна, такой, якой ёсць, не думаючы, якой выйдзе і не прыхарошваючыся, не прымаючы «паляпшальных» паставаў. Тым часам мужчына прыняў, відаць, знаёмую яму позу і завучаную ўсмешку, але ўсё гэта выглядае непасрэдна і элегантна. І трымаецца ён больш раскавана і таксама элегантна. Паліто на ім даволі дарагое, добра на ім сядзіць і дакладна пашыта па ім; штаны па тагачаснай модзе і дакладныя па даўжыні, адпрасаваныя, туфлі начышчаныя да бляску; шалік акуратна падабраны і ўкладзены; тып прычоскі характэрны для інтэлігентнага чалавека. Мужчына, што на фота, прывык нязмушана сачыць за сабой (за сваім выглядам). Гэта мог бы быць чалавек з тагачаснай інжынерна-тэхнічнай інтэлігенцыі, з выкладчыкаў сярэдняй ці вышэйшай школы, альбо з дробных дзяржаўных служачых.

Па знешнім выглядзе жанчына элегантнасцю не вылучаецца. Знешні выгляд яе праставаты, адзежа не дапасаваная (магчыма, купленая ў «шырспажыве» — што было), але трымаецца яна ўпэўнена, спакойна і самадастаткова. Па ўнутраным напаўненні яна выглядае больш дарослай за мужчыну і мацнейшай па характары. Мужчына ў параўнанні з ёй выглядае крыху інфантыльным. Не зразумела, чаму жанчына без шаліка, у паліто і з адкрытай голай шыяй і грудзінай. Па выгляду гэта тыповая мінчанка таго часу, працаўніца сталовай, бухгалтэрыі, палікцінікі, цырульні, швачнай фабрыкі, гадзіннікавага завода, прадавачка ў гастраноме і г. д. — сярэдні ўзровень жыхара Мінска. Тым часам мужчына больш тыповы для Заходняй Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы. Гэта больш заходні тып чалавека».

У гэтым аналізе ўражвае ўсё, але адна рэч, пра якую зараз пойдзе гаворка, не проста ўражвае — шакуе сваёй дакладнасцю.

Рэч у тым, што з усіх мінскіх здымкаў менавіта гэты быў адным з галоўных доказаў тэорыі, што Освальда тут падмянілі і ў Амерыку вярнуўся чалавек КДБ.

Знаўцы адразу заўважылі, што на здымку Освальд і Марына амаль аднолькавага росту. Насамрэч яна мела каля 160 см, а Освальд — каля 180 см (па іншых звестках — 175) . На здымку Марына ў басаножках без платформы і абцасаў. Хто тады побач з ёй?

Першы неканспіралагічны адказ на гэтае пытанне здолеў даць на пачатку 90-х канадыйскі журналіст Пітэр Уронскі, які перавярнуў яго дагары нагамі: не хто побач з Марынай, а — хто побач з Освальдам?

Падчас прыезду ў Мінск ён сустракаўся з сяброўкай Марыны Людмілай Петрусевіч, якая сказала: гэта яна на здымку з Освальдам. Людміла ўзгадала, як яны гулялі, рабілі здымкі разам і паасобку, і вось гэты здымак зрабіла Марына. А чаму гэтае паліто на Марыне на іншых здымках? А таму што Людміла гуляла без паліто, замерзла і пазычыла пагрэцца.

Публікацыя Уронскага выклікала сенсацыю ў колах освальдолагаў і загадка лічылася вырашанай, аж пакуль ён ізноў не прыехаў у Мінск і не паспрабаваў зняць усю сцэну на відэакамеру.

Знайшлі тое самае месца, усталявалі камеру, каб выбраць правільны ракурс, паставілі каля балюстрады разам з сяброўкай Марыны памочніцу Уронскага — і раптам у кадры Люся Петрусевіч аказалася аднаго росту з істотна вышэйшай за яе памочніцай.

Асфальтавае пакрыццё каля балюстрады ўзгорбілася, побач з ямамі былі ўзвышшы. На гістарычным фота сапраўды была Марына — яна стаіць на ўзвышэнні, крыху расставіўшы ногі (што і адзначыў пры аналізе ўважлівы позірк фотазнаўцы) — мысок яе левай туфлі на адным узроўні з правым чаравікам Освальда, але абцас вышэй.

Вось як праца гарадскіх камунальных службаў некалькі дзесяцігоддзяў псавала ці ўзмацняла — каму як — рэпутацыю савецкага КДБ, давала занятак цэламу накірунку освальдазнаўства, прывяла да эксгумацыі цела Освальда ў 1981 годзе, не кажучы пра прачуханыя да пярэдніх зубоў патыліцы збянтэжаных журналістаў.

Ой, Мінск — горад, не просты для прагулянак.

Трэба пад ногі глядзець.

Нават калі стаіш.

## Далсты

Гісторыі Освальда пасля вяртання з СССР Мэйлер прысвяціў другую, большую палову кнігі, і па тых сцежках мы не хадзілі.

Мякка кажучы, жыццё ў Амерыцы для Освальда не было прагулянкай. Прэса ім не цікавіцца, але цікавіцца ФБР, мяняюцца працы, гарады, грошай не хапае, пачынаюцца скандалы з Марынай, якая ў выніку з'язджае з дачкой жыць да новай знаёмай у гарадку Ірвінг, няўдалая спроба прапанаваць свае паслугі савецкай амбасадзе ў Мексіцы, не надта плённая дзейнасць у камітэце ў падтрымку Кубы, спроба ўгаварыць зноў цяжарную жонку разам угнаць самалёт і паляцець у Гавану, няўдалы абстрэл дому правага палітыка генерала Уолкера, нязздзейснены намер забіць Рычарда Ніксана, няўцямнае кантактаванне з мясцовай філіяй кампартыі, зварот па візу на вяртанне ў СССР — усё гэта не мінскія маршруты, хаця ў Амерыцы Освальд і аформіў падпіску на газету з Мінска — «Советскую Белоруссию».

У матэрыялах Камісіі Уорэна захоўваецца заключэнне доктара Гаварда Роўма, які аналізаваў мінскі дзённік і рукапісы Освальда з пункту гледжання дыслексіі:

**Я лічу, што гэты дэфект і яго наступствы... маюць значэнне, бо ўзмацняюць ураджанні многіх іншых крыніцаў пра прыроду адчужанасці Освальда ад людзей, яго няўпэўненасць і агрэсіўнасць, прычыны яго праблемаў у школе, неабгрунтаваную ацэнку сваіх літаратурных магчымасцяў. Такія рысы — зусім не рэдкае наступства жыццёвага досведу, які пазначаны рэгулярнымі няўдачамі амаль у любой сферы прадпрынятай дзейнасці. Для здольнага чалавека мець фізічнае абмежаванне ў карыстанні мовай з'яўляецца асабліва прыніжальным. Мне падаецца, што ў выпадку з Освальдам гэтая фрустрацыя дала дадатковы штуршок яго патрэбе давесці ўсяму свету, што ён з'яўляецца непрызнаным «вялікім чалавекам».**

Толькі пасля паўтысячы старонак, прысвечаных паўтара гадам Освальда ў Амерыцы, Мэйлер прапануе адказ на пытанне — чаму Освальд выбраў за мішэнь Кенэдзі?

**Адказ сведчыць пра наша разуменне Освальда: гэта быў найбольшы шанец, які ён калі-небудзь меў. Забойства прэзідэнта было**

**б землятрусам. Для амерыканцаў яго рэха будзе гучаць да канца стагоддзя і нават больш. Гэта таксама будзе карай для расейцаў і кубінцаў. Але ён, ён быў вышэйшы за капіталізм і вышэйшы за камунізм. Вышэйшы за абодва! У яго было, як ён лічыў, вышэйшае пакліканне і патэнцыял, як у Леніна. Освальд падзяляў яго веру ў тое, што выдатная мэта апраўдвае любыя сродкі.**
**Пасля прыніжэння ў Мехіка і адсутнасці сацыяльнага статусу ў мястэчку Ірвінг, куды пераехала Марына, выглядае, што палітычная ідэалогія Освальда нарэшце спынілася на цэнтральным нерве нігілізму — справы павінны значна пагоршыцца перад тым, як выправяцца. Можна працытаваць яго запіс, зроблены на цеплаходзе падчас вяртання ў Амерыку:**
**Цікава, што было б, каб нехта ўстаў і сказаў, што ён супраць не толькі ўладаў, але супраць народа, усёй краіны і ўсяго падмурку грамадства.**
**У гэтым сказе — уся матывацыя стрэлу ў Кенэдзі.**

Гэтая рэканструкцыя настолькі нагадвае герояў «Бесаў» Фёдара Дастаеўскага і іх галоўнага пратаганіста Сяргея Нячаева з яго людажэрным катэхізісам рэвалюцыянера, што ўслед за Марынай хочацца ўсклікнуць: не Талсты!

Dalsty.

Мэйлер піша, што Кенэдзі меў здольнасць усяляць аптымізм і даваць надзею, і ў гэтым сэнсе ён быў добрым прэзідэнтам, і Освальд ніколі нічога дрэннага пра яго не казаў — але, з пункту гледжання Освальда, ён быў занадта добрым прэзідэнтам і мог затармазіць развіццё сацыяльнага крызісу і радыкальныя перамены і таму аб'ектыўна перашкаджаў стварэнню лепшага свету. Лепш, як звычайна, чым горш.

Маршрут Кенэдзі быў надрукаваны ў тэхаскіх газетах, і рабочыя ў кніжным складзе тыдзень абмяркоўвалі навіну, што прэзідэнт будзе праязджаць пад іх вокнамі. Як Освальд пісаў брату Роберту:

**Заўсёды лепш скарыстаць магчымасць, калі яна табе надарылася.**

Надарылася 22.11.1963.

У 12:30 скарыстаў.

Магчымасці, як матылькі, могуць з'явіцца не толькі нечакана, але й з нечаканага боку: праз два дні, 24.11.1963, калі Освальда пераводзілі з паліцэйскага ўчастка ў турму, у натоўпе рэпарцёраў з кольтам у руках

чакаў мясцовы жыхар Джэк Рубі, які вырашыў забіць Освальда, бо надарыўся такі момант.

У 11:21 магчымасць была скарыстаная.

Мэйлер хацеў назваць кнігу «Амерыканская трагедыя» — калі б не Драйзер, які зрабіў гэта на 70 гадоў раней. Загаловак «Амерыканская мара» Мэйлер скарыстаў для свайго чацвёртага рамана.

Дастаеўскі вучыў, што «чалавек ёсць таямніца». Чым было шматстаронкавае даследаванне Мэйлера, як не разгадваннем, пошукам адказу, спробай вытлумачыць абсурднасць, якая раптам так дыспрапарцыйна перакуліла час? І «Гісторыя Освальда» атрымала падзагаловак: «Амерыканская таямніца».

Прыметнікі «савецкая», «расейская», «беларуская» ці «мінская» сапраўды не пасавалі.

Амаль не пасавалі.

## Освальд — чытач «Гісторыі Освальда»*

Освальд мог ведаць імя Мэйлера. Яго першая кніга «Голыя і мёртвыя» выйшла ў 1948-м і карысталася велізарнай папулярнасцю. Падзеі, якія там апісаныя, адбываюцца на Ціхім акіяне — там, дзе служыў марскі пехацінец Освальд.

Як бы Освальд, калі б яго не забілі, успрыняў кнігу Мэйлера пра сябе, пра падслухоўванне КДБ, пра сяброў, сябровак і жонку, пра сваё жыццё, вывернутае навонкі?.. І што бы ўдакладніў, што аспрэчыў? Ці адразу зарадзіў бы свой карабін Манліхер-Каркан і першым рэйсам вылецеў з Даласа ў Нью-Ёрк — хаця не, са зброяй у самалёт не пусцяць, значыць, хутчэй, завёў бы свой аўтамабіль і паехаў, але не ў Нью-Ёрк, і не таму, што задалёка, бо што такое паўтары тысячы міляў для 55-гадовага мужчыны на добрым аўто па добрай дарозе, а ў адвакацкую кантору — судзіцца з аўтарам, выдавецтвам і КДБ. Нават прасцей — нікуды б не паехаў, а адвакаты самі прыйшлі б. Бо калі б яго не забілі і справа дайшла да суда і нават да смяротнага выраку, амерыканскія юрысты адцягваюць выкананне на гады.

Таксама верагодна, што за гэты час ён сам напісаў і апублікаваў бы свае мемуары, і, можа, нават прадаў правы на экранізацыю ў Галівуд.

* Слова «гісторыя» ў назве ўжываецца ў значэнні «аповед», «жыццяпіс», па-ангельску — не «history», а «tale».

І Мэйлер не паехаў бы ў Мінск, і не дамовіўся б з КДБ, і не раскрыліся б такім чынам дагэтуль страшна сакрэтныя таямніцы метадаў аператыўнай працы органаў у Мінску, і не было б — ды мала чаго не было б.

Адзін з вядомых заходніх гістарыёграфаў* сто гадоў таму так апісаў праблему прычыннасці гісторыі: чалавек выпіў лішні кілішак, сеў за руль аўтамабіля са слабымі тармазамі і, калі паварочваў на неасветленым скрыжаванні, збіў чалавека, які выскачыў па цыгарэты.

Хто вінаваты ў смерці?

Кіроўца, які выпіў лішку?

Механік, які не адрэгуляваў тармазы?

Мясцовыя ўлады, якія не адрамантавалі ліхтар?

Курэц, які перабягаў вуліцу, каб задаволіць шкодную звычку? Яго сяброўка, якая забрала сабе апошнюю цыгарэту?

Калі ведаеш фінал гісторыі Освальда, падобныя пытанні можна задаваць яшчэ сто гадоў.

Але адно пытанне ўсё ж нельга не задаць: які уплыў меў мінскі перыяд жыцця Освальда на ягоны ўчынак у Даласе?

Мінскія знаёмыя Освальда, уключна з яго пастухамі з КДБ, адзінадушна лічылі, што Освальд не мог быць забойцам Кенэдзі. Так знаёмыя кажуць пра амаль усіх забойцаў: быў ціхі хлопчык у школе, прыстойныя бацькі, дапамагаў суседзям, меў добрыя характарыстыкі, мы разам гулялі ў парку...

Гэта псіхалагічна просты і пашыраны феномен — абарончая рэакцыя ад нечаканага выкіду абсурду.

У мінскім асяродку разыходзяцца хіба толькі ў прычынах, чаму не мог: частка, уключна з КДБ, лічыла яго прымітыўным, неразвітым, лянівым няздарам, іншыя — інтэлігентным, адукаваным, неардынарным маладым чалавекам.

У 1963-64 гадах Камісія Уорэна карпатліва сабрала неверагодную колькасць інфармацыі пра жыццё Освальда, ад здымкаў немаўляці ў сямейным альбоме да здымку трупа на стале паталагаанатама, ад ацэнак у трапнасці стральбы ад яго сяржанта да апошняй старонкі нататніка, ад сведчанняў маці, брата і жонкі да паказанняў асобаў, якія сустракаліся з ім толькі аднойчы.

Яшчэ праз трыццаць гадоў, паводле пастановы Кангрэсу ЗША, Рада ў справе вывучэння дакументаў забойства рассакрэціла дадатковыя дзя-

---

* Юджын Кар. «Што такое гісторыя?»

сяткі тысячаў папераў і ў 1998 годзе зрабіла ўсе чатыры мільёны дакументаў даступнымі любому даследніку.

Расследаванне забойства Кенэдзі — самая падрабязная і самая вялікая ў гісторыі чалавецтва следчая справа.

Яе высновы вядомыя — прэзідэнта забіў Освальд, і ён дзейнічаў адзін.

Літаратурнае следства, якое правёў Мэйлер, мела справу з даследаваннем асобы Освальда і пошукам адказу на пытанні, не хто і як забіў прэзідэнта, а — чаму.

Але першае даследаванне ўнутранага свету Освальда з'явілася задоўга да Мэйлера, і задоўга да «Справы № 34451», заведзенай КДБ: «Справа № 26996» пабачыла свет у траўні 1953-га, і яе аўтарам быў псіхіятр.

Першы канфлікт з правапарадкам Освальд меў у Нью-Ёрку ва ўзросце 13-ці гадоў: маці была няздольная справіцца з сынам, які прагульваў школу, і 16 красавіка яго змясцілі ў «Юнацкі дом», дзе з цяжкімі падлеткамі працавалі лекары. 1 траўня Освальда аглядаў галоўны псіхіятр Рэнатус Гартагс, які пазней прысвяціў яму семінарскія заняткі, дзе медыкі абмяркоўвалі незвычайных пацыентаў.

Гартагс пісаў:

**Гэта напружаны, адчужаны і ўхілісты хлопчык, які надзвычай не любіць гаварыць пра сябе і свае пачуцці. Яму падабаецца ствараць уражанне, што яго не кранае меркаванне іншых людзей, каб ад яго адчапіліся і не трэба было прыкладаць намаганні да гутаркі. Пераадолець эмацыйную сцяну, за якой хаваецца гэты хлопчык, было цяжка, але ён даў дастаткова ключоў, якія дазволілі разгледзець напружаны неспакой, сарамлівасць, пачуццё няўклюднасці і неўладкаванасці як галоўныя прычыны адчужанасці і звычак самотніка. Лі сказаў: «Я не хачу мець сябра і не хачу гаварыць з людзьмі». Ён сам называе сябе ўпартым і прызнае, што любіць казаць «не».**

Гартагс выводзіць прычыну такога стану з сямейнай сітуацыі: бацькі няма, маці занятая сама сабой, браты яго ігнаруюць, у школе ў Нью-Ёрку да падлетка з паўднёвым акцэнтам ставяцца як да правінцыяла.

**Лі жыве яркімі фантазіямі, якія круцяцца вакол тэмаў усемагутнасці і ўлады, якімі ён спрабуе кампенсаваць свае недахопы і фрустрацыі. Яму не падабаецца ні з кім быць разам, і на пытанне, якой**

**кампаніі — дзяўчат ці хлопцаў — ён аддаў бы перавагу, ён адказаў: «Мне не падабаюцца ўсе».**

Гартагс адзначае «моцныя негатывісцкія рысы», але як клінічны псіхапатолаг не лічыць іх хваробай: «ментальны псіхозны змест» і «псіхічныя ментальныя змены» ім адмаўляюцца. Тым не менш, ён ставіць дыягназ «асоба характэрнага тыпу ўзрушэнняў з шызоіднымі рысамі і пасіўна-агрэсіўнымі тэндэнцыямі» і рэкамендуе выпрабавальны перыяд пад наглядам дзіцячага псіхіятра.

У дзень забойства Кенэдзі да Гартагса звярнулася тэлебачанне па каментар, хто, з пункту гледжання псіхіятрыі, мог забіць прэзідэнта.

Гартагс сказаў:

**Вельмі верагодна, гэта ментальна няўстойлівая асоба, якая мае асабістую непрыязь да людзей ва ўладзе, і, вельмі верагодна, гэта чалавек, які ў спробе пераадолець сваю нязначнасць і бездапаможнасць паспрабуе здзейсніць учынак, які напалохае іншых, які страсяне свет, які прымусіць іншых людзей адчуць сябе неабароненымі, каб такім чынам пазбавіцца ад уласнага пачуцця неабароненасці.***

Падлеткаў (дый дарослых), якіх можна апісаць падобнымі фармулёўкамі — процьма. Рэч не ў тым, што не ўсе потым робяцца злачынцамі — а хутчэй у тым, як складваюцца іх абставіны і магчымасці, што змякчае, а што ўзмацняе і памнажае «негатывісцкія» рысы аж да прабаднога хаосу.

---

* Гартагс нярэдка выступаў у ролі эксперта на тэлебачанні, і ў той дзень ні журналісты не ведалі, ні ён сам не памятаў, што Освальд быў яго пацыентам. Цікава, як ацаніў бы амерыканскі доктар высновы мінскага прафесара медыцыны Эрнста Цітаўца, якімі той завяршае праз паўстагоддзя сваю кнігу ўспамінаў:

«Ці быў Освальд шчаслівым чалавекам? Калі шчасце азначае здольнасць свабодна выбраць жыццёвую місію і працаваць дзеля яе ажыццяўлення, ён быў шчаслівы. Яго місія была ідэалістычнай — паспрабаваць зрабіць сваю краіну лепшай. Надзіва адважна і мэтанакіравана вёў яго гэты ідэал. Ён лічыў, што ў Афінскай сістэме ён знайшоў трэці шлях па-за пасткамі камунізму і капіталізму. Гэта быў адказ, да якога ён прыйшоў як праз наўпроставы досвед, гэтак і праз старанныя тэарэтычныя пошукі. Жыццё яго было поўнае прыгодаў і намаганняў, якія ўсе былі скіраваныя да гэтай ідэалістычнай мэты. Ён бачыў свет, сустракаўся з цікавымі людзьмі і зрабіў свае бясстрашныя высновы пра магчымасць уяўлення свету па-за фізічнымі, інтэлектуальнымі, палітычнымі і нават асабістымі рамкамі халоднай вайны. Ён быў шчаслівы чалавек».

Вось што Мэйлер адказаў на маё пытанне пра сувязь паміж Мінскам пачатку 1960-х і Даласам 22 лістапада 1963 года:

**— Я думаю, што трэба пайсці значна глыбей. Освальд выехаў з Мінска і вярнуўся ў Амерыку. І аднойчы ён сказаў сабе: я адзіны чалавек, які жыў параўнаўча каля самага дна, у сацыяльных нізах у абедзвюх краінах. Я быў рабочым нізкага ўзроўню ў Савецкім Саюзе і я рабочы нізкага ўзроўню тут, у Амерыцы. І я ведаю абедзве краіны ад нізу да верху так, як ніхто болей не ведае. Ніхто ў свеце не ведае таго, што ведаю я. І гэта было сапраўды так. Адсюль прыйшло пачуццё сваёй велізарнай значнасці.**

Такі ўплыў меў на яго Мінск.

Першапачаткова Мэйлер хацеў назваць сваю кнігу «Освальд у Мінску».

## Цягнік, які не спазніўся

Я пайшоў у першы клас праз пару месяцаў пасля таго, як цягнік з Освальдам, які вяртаўся ў Амерыку пасля двух з паловай гадоў жыцця ў Мінску, пастаяў некалькі гадзінаў недалёка ад нашага дома ў Берасці, пакуль мянялі колы, свіснуў на развітанне і пагрукатаў праз мяжу.

Мы з сябрамі падкладалі на рэйкі манеты — для цягніка пяць капеек былі не больш адчувальныя, чым матылёк, які сеў на бліскучую адпаліраваную сталь, атрымлівалася тонкая авальная бляха, залацістажоўтая, з крылападобнымі вострымі краямі, за якую ўжо нічога нельга было купіць і, праўду кажучы, якой асабліва нічога нельга было й зрабіць. Пятак аніяк не ўплываў і на чыгуначны рух.*

* Прыхільнікі «эфекту матылька» могуць запярэчыць, напрыклад, што з таго расціснутага пятака пачалася інфляцыя ці дэфляцыя, якая вядома чым скончылася ў 1991-м. Тэрмін «эфект матылька» зрабіў папулярным даследнік тэорыі хаосу Эдвард Лорэнц. У 1961 годзе ён рабіў матэматычныя разлікі мадэлі надвор'я і нязначна, на адну дзесяцітысячную долю, змяніў адзін складнік у формуле — і раптам атрымаў радыкальна іншы прагноз. На гэтым назіранні было пабудаванае паведамленне на адной амерыканскай метэаралагічнай канферэнцыі: «Ці выклікае ўзмах крылцаў матылька ў Бразіліі тарнада ў Тэхасе?»

Памяняць дзве літары ў назве паўднёваамерыканскай краіны — і будзе Беларусь. А Тэхас у справе Освальда і так ёсць.

Пасля 12:30 у суботу 22 лістапада 1963 года ў свеце стала менш смеху, больш слёз. Але ўплыў стрэлаў у Даласе на палітычную гісторыю быў неістотны.

Ва ўнутранай палітыцы Ліндан Джонсан працягваў рэформы, якія Дэмакратычная партыя ЗША пачала рэалізоўваць пры Кенэдзі: пашырэнне грамадзянскіх правоў, канец расавай сегрэгацыі, падтрымка корпусу міру, які даў магчымасць ідэалістычнай моладзі паспрабаваць змяніць да лепшага жыццё ў краінах трэцяга свету і больш уведаць пра свет самім.

Удзел амерыканцаў у в'етнамскім канфлікце пачаў драматычна нарастаць яшчэ пры Кенэдзі і перарос у поўнамаштабную вайну пасля яго, дагэтуль дзейнічае падпісаная ім дамова аб забароне ядзерных выпрабаванняў у атмасферы, космасе і пад вадой (многія лічаць гэта найважнейшым дасягненнем яго тысячы дзён у Белым доме), словы Кенэдзі ў Берліне пасля ўзвядзення сцяны («Ich bin ein Berliner! — Я — берлінец!»*) паўтаралі наступныя прэзідэнты, пакуль сцяна не разваліласся ўшчэнт.

Палітыка ў адносінах да Кубы засталася нязменнай цягам наступнага паўстагоддзя, урокі Карыбскага крызісу засвоілі абодва бакі.

Праз пяць з паловай гадоў пасля забойства прэзідэнта Амерыка выканала задачу палёту на Месяц, якую паставіў Кенэдзі.

Самыя моцныя рэжымы персанальнай улады рассыпаюцца пасля смерці дыктатараў, іх помнікі трушчаць, а імёны ганяць. Дэмакратыі па сваёй прыродзе гістарычна сейсмастойкія. Невядома, канечне, што б яшчэ зрабіў Кенэдзі для Амерыкі і свету, але гэта так і застанецца невядомым.

Заўважныя змены адбыліся ў працы прэзідэнцкай службы аховы: перасталі загадзя друкаваць маршруты паездак і агучваць іх даты, адкрытыя кабрыялеты былі выведзеныя з парку прэзідэнцкіх машын.

Наступныя паўстагоддзя лаўры Освальда не давалі спакою яшчэ тузіну асобаў, а скончалася ўсё, як для матылькоў на рэйках: іх альбо лавілі і саджалі за краты, альбо яны гінулі самі. Больш амерыканскіх прэзідэнтаў не забівалі, толькі псіхічна хворы нападнік здолеў параніць прэзідэнта Рэйгана ў 1981 годзе.

---

* Цалкам гэтыя словы салідарнасці, з якімі Кенэдзі звярнуўся да жыхароў Берліна за чатыры месяцы да забойства, гучаць так: «Дзве тысячы гадоў таму найвышэйшым гонарам былі словы civis Romanus sum (я — рымскі грамадзянін). У свабодным свеце сёння словамі найвышэйшага гонару з'яўляюцца «Я — берлінец!»

Чалавечая трагедыя, якая разыгралася 22 лістапада 1963 года ў Даласе, абарвала жыцці адных людзей, непазнавальна змяніла лёсы іншых, але не мела гістарычнага вымярэння.

Освальд зрабіў не большы ўплыў на ходу падзеяў XX стагоддзя, чым матылёк пад коламі цягніка на яго прыбыццё на станцыю паводле раскладу.

Рэй Брэдберы, хоць і прычыніўся да нараджэння матылькова тэорыі хаосу, усё ж пісаў фантастыку.

А лепідаптэралогія — навука.

## Хоць на Месяц узвый

У менскую вандроўку па слядах Освальда варта было б узяць кнігу журналісткі Прысцылы МакМілан «Марына і Лі» — 527-старонкавы том у цвёрдай вокладцы, які выйшаў у 1977 годзе.

У 1959-м МакМілан працавала ў Маскве як няштатны рэпарцёр на амерыканскі газетны сіндыкат, жыла, як і Освальд, у гатэлі «Метраполь» і па падказцы знаёмага з амбасады пайшла браць інтэрв'ю ў перабежчыка. Освальд пагадзіўся, надзеў касцюм з гальштукам, прыйшоў да яе ў нумар і адказваў на ўсе пытанні. Ён уразіў яе тым, што хваліўся першым самастойным дзеяннем у Маскве — адзін прайшоў да ўнівермага «Дзіцячы свет», купіў марозіва і вярнуўся.

Яна адзначыла дзіўнае спалучэнне інфантыльнасці і рашучасці — усё ж далёка не кожны быў здольны на такі крок, як адмова ад грамадзянства і пераезд у чужую невядомую краіну.

Потым яна напіша:

> **Калі наша гутарка падыходзіла да канца, у мяне ўзнікла жахлівае адчуванне марнасці. Яго чакала, я была ўпэўненая, расчараванне. Калі ён сыходзіў, я запрасіла заходзіць. Расейцы мяне папярэдзілі, сказаў Освальд, каб я не размаўляў з амерыканцамі. Але перад тым, як зачыніць дзверы, ён паабяцаў не рабіць рашучых крокаў, не паведаміўшы мне.**
> **Праз два дні я пайшла на другі паверх і спытала ў дзяжурнай, дзе Освальд. Ён з'ехаў, адказала яна.**

Пасля забойства МакМілан здолела пабудаваць даверлівыя адносіны з удавой Освальда і ў 1964-65 гадах запісала больш за 700 старонак

інтэрв'ю з ёй. Яна называла Марыну «вельмі сумленным чалавекам», які гаворыць праўду.

«Марына і Лі» стала класікай, яе высока ацаніў Мэйлер, які, аднак, адразу заявіў, што не з усім пагаджаецца, і патлумачыў — іначай навошта яму было б пісаць сваю кнігу.

Сапраўды.

Увогуле, калі паставіць за мэту захапіць з сабой усе дакументы, прысвечаныя Освальду і забойству Кенэдзі, дык каб цягнуць 18 тон паперы, запатрабуецца воз і пара добрых коней, напрыклад, выведзенай у 1950-я пароды «савецкі цяжкавоз».

Аднак кнігі, прысвечаныя мінскаму перыяду, можна і ў руках панесці, што зразумела: МакМілан па свежых слядах распытала Марыну, апроч Мэйлера ніхто не меў доступу да дакументаў КДБ і большасці мінскіх знаёмых Освальда, а з іх толькі адзін Эрнст Цітавец напісаў свае ўспаміны.

Але адна амерыканская кніга пра Освальда вылучаецца — па-першае, таму што была напісаная яшчэ да таго, як Освальд стаў пасмяротна ўсясветна знакамітым, а па-другое, таму, што ўгадала будучыню освальдазнаўства.

Кніга, дзе прататыпам быў Освальд, называлася «Ідэальны ваяр». Яе напісаў сябра Освальда па службе ў марской пяхоце нехта Керы Торнлі.

Торнлі вонкава быў падобны да Освальда і потым шмат гадоў у шматлікіх інтэрв'ю ён заяўляў, што яны з Освальдам былі «прадуктамі генетычных выпрабаванняў, якія рабіла секта еўгенікаў, нацысцкіх прыхільнікаў з таварыства «Вірыл», што ў яго і Освальда пры нараджэнні ўжывілі прыстасаванні для падслухоўвання, за імі сачылі і маніпулявалі з дзяцінства ўсемагутныя кіраўнікі «Вірылу».

Торнлі быў ахвярай неўміручай традыцыі, якая пачалася, верагодна, неўзабаве пасля першай размовы Евы са Зміем, і не спыніцца, пакуль будзе існаваць чалавецтва. Гэта — пошук тайных спружынаў там, дзе іх няма, сакрэтных змоваў там, дзе іх не існавала, пабудова пірамідаў аргументацыі, якія ні на што не абапіраюцца, непрыняцце фактаў пасля таго, як яны былі спраўджаныя належным чынам.

Мяжа, дзе здаровы скепсіс ператвараецца ў псіхічную хваробу, даволі шырокая. Часам вельмі. І, як у выпадку з гісторыяй Освальда, можа доўжыцца дзесяцігоддзямі.

У Беларусі, напрыклад, пасля выхаду кнігі Мэйлера крытыкі як з лагеру дэмакратычнай апазіцыі, гэтак і з афіцыёзу будуць абвінавачваць Станіслава Шушкевіча ў супрацоўніцтве з КДБ.

Так, галоўны рэдактар газеты адміністрацыі прэзідэнта заявіць:

> **Ёсць яшчэ адна цікавая рэч: у Мінск з ЗША прыехаў Лі Харві Освальд. Не ведаю, навошта яго сюды прыслалі, але ўвесь час яго вучылі страляць. І настаўнікам расейскай мовы ў яго быў Шушкевіч, паверце мне, КДБ нічога не рабіла без сэнсу. Пра тое, каб яго вучыў Шушкевіч, было вырашана ў Маскве, на Лубянцы, Станіслаў Станіслававіч многа ведае, але не скажа.***

Наконт таго, што КДБ нічога не рабіў «без сэнсу», спрачацца сэнсу не мае, кожнаму сваё.

Мае сэнс нагадаць, што ў 1960-м, пасля хрушчоўскага выкрыцця сталінскіх злачынстваў, усю ўладу забрала партыйная наменклатура, якая ў мэтах сваёй бяспекі і пад лозунгам аднаўлення «ленінскіх прынцыпаў сацыялістычнай законнасці» значна абмежавала ўсемагутныя органы. І сакратар парткама, які на буйным заводзе быў фігурай не менш важнай за дырэктара, мог арганізаваць урокі расейскай мовы без персанальных падказак з Лубянкі.

Прэзідэнцкі рэдактар таксама закідае Станіславу Шушкевічу рэпрэсаванага бацьку — як так, чаму сына ворага народа падпусцілі да сакрэтнай працы.

Таксама варта нагадаць — афіцыйнае стаўленне да ахвяраў рэпрэсіяў і іх сваякоў было ў тыя некалькі гадоў антысталініcцкай адлігі хутчэй спрыяльным — іх аднаўлялі ў партыі, а заслужаных чэкістаў-ардэнаносцаў, наадварот, выключалі. Ішла выбарачная люстрацыя.**

Недарэчнае таксама сцверджанне, быццам Освальда «ўвесь час вучылі страляць» — насамрэч вядома толькі пра два стрэлы, якія зрабіў

---

* Зрабаваны народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі. Гутарка з П. Якубовічам. Гарадзенская бібліятэка, 2009.

** У 1958-м быў звольнены з пасады чэкіст прызыву 1931 года, намеснік старшыні КДБ Міхаіл Дзечка — «паводле фактаў, якія дыскрэдытуюць высокае званне афіцэра» за тое, як сказана ў пастанове бюро ЦК КПБ, што «браў удзел у неабгрунтаваных арыштах савецкіх грамадзянаў і дапускаў грубыя парушэнні сацзаконнасці пры даследаванні крымінальных справаў». З 19 гадоў ён быў катам Мазыршчыны, пасля вайны даслужыўся да міністра. Адну такую гісторыю пра ката Міншчыны Гарбанеўскага я падрабязна апісаў у кнізе «За кіпучай чэкісцкай работай». Пакаранні былі смешныя — адбіралі партбілет, але нікога не судзілі і не пасадзілі.

Освальд на паляванні ў Беларусі — і абодва міма, і аднойчы паўдзельнічаў у стральбе з пісталета ў заводскім клубе ДТСААФ — «на троечку», як ацаніў інструктар (што ні пра што не сведчыць — вядомая гісторыя аднаго шматразовага чэмпіёна свету па стральбе з пісталета, якога абрабавалі дома. Ён страляў у рабаўнікоў некалькі разоў з блізкай дыстанцыі і ні разу не патрапіў).

Увогуле, колькасць журналісцкіх публікацыяў і ўспамінаў пра Освальда ў беларускім і расейскім друку (пра ананімных віртуалаў у інтэрнэце лепш памаўчаць) вядзецца на сотні. І цяжка знайсці хоць адну, дзе б не было фактычных памылак, не кажучы ўжо пра дзікія дапушчэнні і фантастычныя высновы.

Не ўсё яшчэ вычарпана, канечне. У Мінску Освальд мог сустракацца і, зусім магчыма, бачыўся на вуліцах з людзьмі, дасведчанымі ў тэрактах. Напрыклад, з суседкай па двары партызанкай Марыяй Осіпавай, арганізатаркай знішчэння цывільнага кіраўніка нямецкай улады ў акупаванай Беларусі Вільгельма Кубэ, што спраўакавала масавыя расстрэлы мірнага насельніцтва. Ці са старшынём прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Сяргеем Прытыцкім, што, як герой «Бесаў», па заданні сваёй арганізацыі спрабаваў забіць сведку на судзе.

Але найбольш блізкі Освальду ўзростам, поглядамі і маштабам здзейсненага злачынства быў мясцовы сучаснік Дастаеўскага Ігнат Грынявіцкі, які забіў Аляксандра Другога, самага ліберальнага расейскага цара, які вызваліў рабоў у Расеі, што амаль у той самы час зрабіў амерыканскі прэзідэнт Эйб Лінкальн.

І як тут абмінуць паралелі забойства Лінкальна і Кенэдзі. Першы быў абраны ў Кангрэс у 1846-м, другі — у 1946-м. Першы стаў прэзідэнтам у 1860-м, другі — у 1960-м, імёны абодвух па-ангельску налічваюць па сем літараў, абодвух забілі ў пятніцу, абодвух стрэлам у галаву, абодвух ззаду, побач з абодвума былі іх жонкі, Лінкальн быў забіты ў «Тэатры Форда», Кенэдзі ў аўтамабілі «Форд» мадэлі «Лінкальн», абодва наступныя прэзідэнты мелі прозвішча Джонсан і абодва былі з поўдня, першы Джонсан нарадзіўся ў 1808-м, другі ў 1908-м — але гэта толькі кветачкі.

Забойца Лінкальна Джон Вілкес Бут нарадзіўся ў 1839-м, Лі Харві Освальд — у 1939-м, абодва былі з поўдня, у абодвух трохслоўнае імя, у абодвух імёны па-ангельску налічваюць 15 літараў, абодва былі забітыя перад судом...

Гэты спіс падабенстваў з'явіўся неўзабаве пасля забойства Кенэдзі і паўстагоддзя зачароўваў амерыканскую публіку, якая не давала веры

скептыкам, якія сцвярджалі, што нічога неверагоднага з пункту гледжання статыстыкі тут няма, што адрозненняў нашмат больш, чым супадзенняў, што некаторыя звесткі недакладныя (Бут нарадзіўся на год раней), паралелі нацягнутыя...*

Неяк, адразу пасля выхаду кнігі Мэйлера, я спытаўся ў аднаго мінскага літаратара, чаму ён казаў знаёмым, быццам я агент КДБ. Крыху сумеўшыся, той патлумачыў — ты ж пісаў пра Освальда. Паводле гэтай логікі ён сам з'яўляўся сэксуальным маньякам, заафілам, некрафілам, серыйным забойцам і зрэдку іншапланетнікам.

Як казаў у падобных выпадках беларускі класік Уладзімір Караткевіч:

«Хоць ты ўзвый на Месяц, стаўшы ракам!»

## Пераклады перакладаў перакладаў

Маршрут гэтага падарожжа пралягае праз дакументы КДБ, якія атрымаў і апублікаваў Мэйлер. Цымус у тым, што атрымаў ён іх па-расейску, а апублікаваў па-ангельску, а я з ангельскай перакладаў на беларускую. Але гэта не ўсё. Некаторыя дакументы, якія атрымаў Мэйлер ад КДБ, былі перакладамі з ангельскай на расейскую, з якой потым ён перакладаў на ангельскую, а затым я на беларускую.

І гэта не ўсё — каб палагодзіць пытанні з аўтарскімі правамі Мэйлера, быў адпраўлены ліст у амерыканскае выдавецтва і праваўладальнікам, дзе апісвалася структура майго даследавання і ішла гаворка пра аўтарскае права на пераклады і пераклады з перакладаў — натуральна, усё гэта зноў у перакладзе.

Вось як пішчом чытачу трэба лезці ў тыя архівы КДБ.

А вось што атрымаецца, калі запусціць выраз «пішчом лезці» праз аўтаматычны перакладчык Google па ланцужку «беларуская — расейская — ангельская — беларуская»:

---

* Адзін з самых цытаваных аўтараў у свеце, радыкальны крытык амерыканскай палітыкі злева, прафесар Масачусэцкага тэхналагічнага інстытута Ноам Чомскі, які нічога ніколі не браў на веру, так выказаўся з нагоды тэорыяў змовы: «Ёсць шмат супадзенняў, нявытлумачаных з'яваў, чаму нешта здарылася, а нешта не... Велізарная энергія кідаецца на пошукі, хто забіў Кенэдзі... Калі б была падстава меркаваць, што існавала якая-небудзь змова ў вярхах, было б цікава, але доказы пра аднаго забойцу аглушальна пераканаўчыя». http://www.youtube.com/watch?NR=1&v=LoDqDvbgeXM

«Пішчом лезці — пищат лезет — squeak climbs — складана падымаецца».

І сапраўды складана. Але падымаецца! Як падымаецца з кожным трапятаннем бязважкі матылёк, ад крылцаў якога, як сцвярджаюць прыхільнікі тэорыі хаосу, можа нарадзіцца нават бура.

І некалі ж можна будзе зазірнуць і ў калекцыі КДБ, каб удакладніць пераклады, дый не толькі іх.

Але гэта адбудзецца ўжо пасля перайменавання другога паводле вядомасці ў свеце расейскага слова з трох літараў.

Калі не спаляць, як некалі ў апошнія гадзіны ГДР палілі архівы Штазі.

Хоць як спаліш сляды матылькоў, што адляцелі?

## Хто смяецца апошнім

Гэтая лепідаптэралагічная экспедыцыя па слядох Освальда была і даследаваннем мінскіх падарожжаў Нормана Мэйлера, які лавіў тут сваіх матылькоў.

Мэйлер упадабаў Мінск:

**— Гэтая кніга пісалася лягчэй, чым іншыя мае кнігі. Я таксама атрымаў больш ад гэтай кнігі. Я люблю гэтую кнігу, таму што ў мяне быў надзвычайны досвед жыцця ў Мінску. Я адчуў, а, чорт, мне ўжо даўно сёмы дзясятак, і я адчуў — я яшчэ не памёр. Зусім няблага. Я магу жыць у дзіўным месцы і шмат ад гэтага атрымліваць, і я плённа працую. Было весела.**

На заканчэнне нашай доўгай гутаркі я папрасіў аўтара ўявіць сюжэт: амерыканскі пісьменнік прыязджае ў Мінск, дзе атрымлівае матэрыялы сачэння спецслужбаў за амерыканскім грамадзянінам, які жыў тут на пару дзесяцігоддзяў раней. Пісьменнік наймае кватэру, сустракаецца з мноствам людзей, заводзіць знаёмствы — і ўвесь час за ім вядуць назіранне спецслужбы, падслухоўваюць размовы, здымаюць гасцей на відэа, прымушаюць знаёмых пісаць справаздачы. А потым, праз пару дзесяцігоддзяў, у Мінск прыязджае даследнік творчасці гэтага амерыканскага пісьменніка і атрымлівае доступ да архіву спецслужбаў...

Мэйлер засмяяўся.

## Пайсці. І вярнуцца

Першай пакупкай Освальда ў Мінску стала электравілка, сімвал яго лёсу, што як матылёк біўся паміж плюсам і мінусам, пакуль не замкнуў напружанне на сабе і не згарэў, пакінуўшы ўспамін, крохкі, як вугальныя лускачкі, і эфемерны, як дым.

Хоць можна сказаць і наадварот — чатыры мільёны аркушаў дакументаў, што з'явіліся на свет з нагоды Освальда, рэч зусім не эфемерная. А рапарты вонкавага назірання КДБ апярэдзілі відэакамеры на дзесяцігоддзі і, дзякуючы ім, можна, як падарожніку ў часе — герою Брэдберы, патрапіць у дзень Освальда ў Мінску:

> **У 11:00 Лі Харві выйшаў з гатэля «Мінск» і пайшоў у ГУМ. Там зайшоў у аддзел электратавараў, нешта спытаўся ў прадаўца, дастаў з кішэні грошы і пайшоў да касы. Ні за што не заплаціў, паклаў грошы назад у кішэню і пачаў хадзіць па першым паверсе ўнівермага туды і назад і разглядаць розныя тавары. Затым вярнуўся ў аддзел электратавараў, заплаціў 2 рублі 25 капеек за электравілку, паклаў яе ў кішэню і падняўся на другі паверх. Там правёў некаторы час у аддзеле гатовага адзення, пераглядзеў наяўныя касцюмы, затым выйшаў і хутка пайшоў...**

... я таксама выйшаў з гатэля «Мінск» і павярнуў налева, прайшоў паўз кінатэатр «Цэнтральны», абутковую і ювелірную крамы, затым бясконцы жоўты дом з калонамі, ззаду засталася заўсёды шматлюдная кнігарня, шакалядны аазіс, крамы кветак і сувеніраў, і праз 5 хвілін я ўваходзіў у ГУМ, падышоў да аддзела электратавараў, павітаўся з прадавачкай, дастаў з кішэні грошы, падышоў да касы, не заплаціў, а вырашыў прагуляцца па першым паверсе ўнівермага туды і назад і паглядзець розныя тавары, падняўся на другі паверх у аддзел мужчынскага адзення, пераглядзеў наяўныя касцюмы, вярнуўся ў аддзел электратавараў, заплаціў 1160 рублёў за электравілку, паклаў яе ў кішэню і хутка пайшоў на выхад.

Не з пустымі ж рукамі вяртацца.

# П'яны пяхотны капітан

Замест пасляслоўя

— І апошняе пытанне: што было самым складаным у працы над гэтай кнігай?*

— Самым складаным было напісаць самы першы радок самага першага сказа:

**7 студзеня 1960 года ў 8 гадзін 23 хвіліны раніцы з купэйнага вагона маскоўскага цягніка...**

У дзённіку Освальда блытаніна: «Выехаў з Масквы 7 студзеня» і «прыехаў у Мінск 7 студзеня». Зрэшты, гэта было лёгка высветліць з іншых акалічнасцяў — выехаў ён 6-га.

Але вось калі прыбыў?

Як любы лянівы даследнік, я адкрыў Інтэрнэт — інфармацыі няма. Пайшоў у Нацыянальную бібліятэку Беларусі — чыгуначных даведнікаў там няма. Пазваніў на вакзал. Яны кажуць: «Вы што! Ваш цягнік даўно прыбыў!» Злучылі мяне з міністэрствам чыгункі, там камутатар. Пачалі пераключаць з аднаго аддзела на другі, і працягвалася гэта столькі, колькі цягнік ідзе ад Масквы да Оршы. Нарэшце, кажуць: «Ведаеце што, у нас ёсць музей чыгункі, звaніце туды». Там, зразумела, супрацоўнікі не могуць гаварыць без дазволу дырэктара, якога няма. Нарэшце, дазваніўся да дырэктара — той абяцаў дапамагчы. Не змог. Але потым кажа: у Мінску ёсць адзін інжынер, які калекцыянуе расклады руху. Знайшоў інжынера, ён — «Так, маю калекцыю, але толькі ад 1970 года». Я пытаюся — што рабіць? «Спытайце ў чыгуначнай бібліятэцы». Аказваецца, ёсць і такая. І, натуральна, яна якраз пераязджае. І колькі будзе пераязджаць — невядома. Як я шукаў там хады, хто адкрываў пакгаўзы, развязваў пачкі, даставаў расклад — асобная кніга, лепш перачытаць «Дванаццаць крэслаў». Прыкладна праз год пошукаў мне пазванілі і сказалі: «А 8 гадзіне 23 хвіліне». Я змог дапісаць гэты радок і супакоіцца.

Амаль супакоіцца. Амаль, бо вы зараз засмеяцеся і скажаце: а скуль я ведаю, што цягнік у той дзень не спазніўся на 7 хвілін? І тут пачнецца самае цікавае. Я вам адкажу — бо ёсць прэзумпцыя невінаватасці. І гэта вы мусіце

* Інтэрв'ю Радио Свобода. http://www.svoboda.org/content/transcript/24393141.html

даказваць, што цягнік спазніўся, а не я, што прыбыў паводле раскладу. А вы скажаце — а п’яны пяхотны капітан? Капітан выйшаў з вагона-рэстарана, цягнік страсянула на стыку, ён пабачыў стоп-кран — і хіба мог п’яны пяхотны капітан не рвануць стоп-кран?!.

І акажацца, што насамрэч мы гаворым пра дакументальную прозу, якая мае справу з пустатой як матэрыялам і лініяй гарызонта як задачай, і ўсё, што там можна знайсці — толькі сляды матылька.

## Невыпадковыя спадарожнікі

Найвялікшая асалода, якую мае аўтар — не ўхвальныя водгукі чытачоў, не літаратурныя прэміі, не камерцыйны поспех, бо нават калі ўсё гэта цалкам заслужана, гэта адбываецца ўжо пасля тэкста — а сам тэкст. Скарыстаюся магчымасцю і працягну, дапішу яшчэ некалькі радкоў — проста імёны тых, хто ў розныя часы ў розных краінах спрыяў падарожжам аўтара ў часе:

Уладзімір Арлоў, Васіль Быкаў, Анатоль Вярцінскі, Аляўціна Вячорка, Алесь Гаўрон, Сяргей Грахоўскі, Том Дайн, Элена Даніэлсан, Джозэф Дуаер, Сяргей Дубавец, Эмі Дэсаі, Валянцін Жданко, Ян Запруднік, Аляксей Кароль, Мішэль Картэр, Вітаўт Кіпель, Уладзімір Конан, Аляксандр Лашук, Кэрал Лідэнгам, Аляксандра Макавік, Адам Мальдзіс, Інэса Маркава, Генадзь Мацур, Норман Мэйлер, Сяргей Навумчык, Міхась Наўмовіч, Бернард Ошэр, Зянон Пазняк, Стыў Петрэн, Вячаслаў Ракіцкі, Алена Сівакова, Віталь Скалабан, Вячка Станкевіч, Дэйвід Суорц, Алена Сцяпанава, Джэф Трымбл, Аляксандр Уліцёнак, Сяргей Ханжанкоў, Марыя Шыманоўская, Станіслаў Шушкевіч.

Гэты спіс няпоўны без маіх калег і сяброў з Радыё Свабода, сюды трэба дадаць блізкіх і родных, якія адпускалі ў такія падарожжы і чакалі назад. І, канечне, у ім — сціплыя машыністы часу, жрэцы інфармацыі даінтэрнэтнай цывілізацыі — супрацоўнікі архіваў і бібліятэк у Беларусі і за межамі, без працы якіх не было б не толькі гэтай і іншых кніг, але немагчымым быў бы сам пошук праўды, справядлівасці і свабоды, і, значыць, і сэнсу жыцьця.

# Паказнік асобаў

### В

**Г**

### Д



### Е



### Ж



### З

**І**



**К**

### Л

**М**

### Н



### О



### П

## Р



## С

## Т

## Э



## Ю



## Я

# Змест

## Здзек



## За кіпучай чэкісцкай работай

## Вяртанне нацыяналіста



## Прыгоды АРА ў Беларусі

## След матылька. Освальд у Мінску

Літаратурна-мастацкае выданне

**Лукашук Аляксандар**

**Вяртанне нацыяналіста**
*Дакументальная проза*

Адказны за выпуск
Рэдактар
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Віка Трэнас*

Падпісана да друку 11.01.2014.
Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Minion Pro. Ум. друк. арк. 61,92. Ул.-выд. арк. 42,2.
Наклад 500 ас. Заказ № .